**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

**Хойніцкі раённы выканаўчы камітэт**

**Установа адукацыі**
**“Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны”**

**Дзяржаўная навуковая ўстанова**
**“Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору**
**імя Кандрата Крапівы”**
**Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі**

# *Хойнікшчыны спеўная душа*
# *(народная духоўная культура Хойніцкага краю)*

**ББК**
**УДК**
**С**

**Аўтарскі калектыў:**

*Дземідзенка Алег Міхайлавіч* – доктар тэхнічных навук, прафесар, прарэктар па навуковай рабоце УА “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны”; *Новак Валянціна Станіславаўна* – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі; *Станкевіч Аляксандра Аляксандраўна* – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускай мовы; *Коваль Уладзімір Іванавіч* – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства*; Рогалеў Аляксандр Фёдаравіч* – доктар філалагічных навук, прафесар; *Шынкарэнка Вольга Карпаўна* – доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры; *Ненадавец Аляксей Міхайлавіч* – доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры грамадскіх дысцыплін Бабруйскага філіяла УА “Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт”; *Бобрык Уладзімір Андрэевіч* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дэкан філалагічнага факультэта; *Палуян Алена Мікалаеўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт, намеснік дэкана філалагічнага факультэта; *Воінава Алена Мікалаеўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт; *Кавалёва Рыма Мадэстаўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры тэорыі літаратуры УА “Беларускі дзяржаўны універсітэт”; *Багамольнікава Наталля Аляксееўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт; *Кастрыца Алена Аляксандраўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі; *Вяргеенка Святлана Анатольеўна* – кандыдат філалагічных навук, асістэнт кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі; *Партнова Ала Уладзіміраўна* – кандыдат філалагічных навук; *Алфёрава Алена Генадзьеўна* – кандыдат філалгічных навук, загадчык сектара “Духоўныя традыцыі”ў народнай архітэктуры аддзела архітэктуры ДНУ “ІМЭФ імя К. Крапівы НАНБ”*; Марозава Таццяна Анатольеўна* – кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ; *Дайнека Мікалай Міхайлавіч* – кандыдат біялагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры батанікі і фізіялогіі раслін; *Панкова Наталля Міхайлаўна* – асістэнт кафедры; *Кручэнка Тамара Віктараўна* – аглядальнік газеты “Гомельская праўда”, член грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі”; *Генаш Вера Савельеўна, Кучарава Алеся. Бяспалы Сяргей Канопліч Наталля Міхайлец Міхаіл Мятліцкі Мікола.*

Пад агульнай рэдакцыяй Новак В.С.

Кніга рэкамендавана да выдання навукова-тэхнічным саветам УА “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны”.

**Навуковыя рэцэнзенты:**

**А.С. Ліс**
доктар філалагічных навук

**А.У. Марозаў**
загадчык аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ДНУ “Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі”, доктар філалагічных навук, прафесар

**Г.І. Каспяровіч**
вядучы навуковы супрацоўнік аддзела народазнаўства ДНУ “ІМЭФ імя К. Крапівы” НАНБ, доктар гістарычных навук

Творчы калектыў выкладчыкаў УА “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны” выказвае словы шчырай удзячнасці Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь, старшыні Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта *Бічану Аляксандру ВАСІЛЬЕВІЧУ*, намесніку старшыні Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта *Віталю Мікалаевічу ШАЎЧЭНКУ*, *Баранаву Валянціну ІГНАЦЬЕВІЧУ* – намесніку старшыні Хойніцкага райвыканкама; супрацоўнікам аддзела культуры і аддзела ідэалагічнай работы Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта.

*Выказваем шчырую падзяку жонцы Барыса Сачанкі, Тамары Андрэеўны Сачанка, якая дала згоду на перадрук аўтарскага матэрыялу, што значна ўзбагаціў змест кнігі і стаў яе арганічнай часткай.*

**Выданне надрукавана пры фінансавай падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Гомельтранснафта “Дружба”,**

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі *Міколы БЯЛЬКОВІЧА*, *Алега БЕЛАВУСАВА,* архіва навукова-вучэбнай фальклорнай лабараторыі ГДУ імя Ф. Скарыны, аддзела культуры Хойніцкага райвыканакама

**С259** "Палесся спеўная душа" (народная духоўная культура Хойніцкага краю): фальклорна-этнаграфічны зборнік / пад агульнай рэдакцыяй В.С. Новак. – Мінск: , 2010. **– ???? с.**

**ISBN**

У кнізе прадстаўлены экспедыцыйныя запісы фальклорна-этнваграфічных і міфалагічных матэрыялаў Хойнікшчыны. Выданне адрасуецца работнікам устаноў культуры і адукацыі, фальклярыстам, этнографам, краязнаўцам, гісторыкам, студэнтам, вучням, а таксама ўсім тым, хто цікавіцца абрадамі, звычаямі, песнямі, духоўнай культурай роднага краю.

**ББК**
**УДК**

**ISBN**

## ЗМЕСТ

## *Паважаныя сябры!*

Утульны, добры, светлы, ветлівы… Такія словы хочацца адрасаваць Хойніцкаму раёну. Сам я родам з Петрыкаўшчыны, але за той час, што працую на пасадзе старшыні райвыканкама, для мяне тут усё стала блізкім, родным, дарагім. Гэтых некалькі гадоў было дастаткова, каб пранікнуцца вялікай любоўю да традыцый і звычаяў хайнічан, зачаравацца прыгажосцю і харавством хойніцкай зямлі, непаўторнымі лясамі і лугамі, сцежкамі і дарогамі... Гэта край паэтаў і ваяроў, рамантыкаў і шчырых духам людзей. Край, у якім, як у чароўным куфэрку, назапашаны легенды і паданні, прыказкі і прымаўкі, цікавыя назвы і мясцовыя здарэнні, ёсць свае асаблівасці, свая гісторыя, культура, традыцыі. На гэтай непаўторнай зямлі адвеку жылі і жывуць такія ж прыгожыя душой і справамі людзі: шчодрыя і сціплыя, працавітыя і добрыя, таленавітыя і мужныя, людзі, якія ганарацца духоўнай спадчынай сваіх продкаў, якія шануюць, паважаюць і падтрымліваюць народныя традыцыі.

Кожны раён мае сваё аблічча, сваё мінулае, сваю спадчыну. Хойнікшчына не выключэнне. Прыгадваючы старонкі гісторыі, можна заўважыць, што кожная эпоха пакінула свой след у жыцці горада і раёна. Навукоўцы мяркуюць, што першыя жыхары з’явіліся на гэтай зямлі каля 26 тысяч гадоў таму. Падставы так меркаваць даюць раскопкі, праведзеныя каля вёсак Барысаўшчына, Краснаселле, Масаны, Ламачы, Тульгавічы. Самі ж Хойнікі ў параўнанні са шмат якімі іншымі раённымі цэнтрамі куды маладзейшыя, але тым не менш маюць таксама салідны ўзрост. Упершыню яны ўпамінаюцца як вёска Брагінскага графства Вялікага княства Літоўскага ў апісанні межаў гэтай тэрытарыяльнай адзінкі 1512 года. У 2012 годзе мы будзем адзначаць іх 500-годдзе.

Гісторыя Хойнікшчыны – гэта багатыя культурныя традыцыі, пачатак якім быў пакладзены вуснапаэтычнай творчасцю – глыбокай, духоўна напоўненай, адметнай, непаўторнай. Гэта той неабсяжны свет, да якога можна далучацца бясконца, кожны раз адкрываючы для сябе штосьці новае, раней не заўважанае. Ля вытокаў багацця жанравых форм мясцовай вуснапаэтычнай творчасці і яе адметных рысаў – спаконвечная мудрасць, талент, творчая фантазія хойніцкага народа. Які жанр ні возьмеш – усё дыхае самабытнасцю, за якой багатая творчая фантазія народа, яго мудрасць і талент. Нягледзечы на супадзенні па многіх параметрах з творчасцю іншых рэгіёнаў рэспублікі, фальклорныя традыцыі Хойнікшчыны вылучаюцца спецыфічнымі рысамі, якія можна заўважыць у каляндарна- і сямейна-абрадавай паэзіі, пазаабрадавай лірыцы, народнай драматычнай творчасці. Таму невыпадкова, што побыт, традыцыі палешукоў заўсёды прыцягвалі і прыцягваюць увагу даследчыкаў.

Першым, хто звярнуўся да вывучэння вуснапаэтычнай творчасці Хойніцкай зямлі, стаў ураджэнец вёскі Бабчын Часлаў Пяткевіч, чыя навуковая спадчына і па сённяшні дзень добра запатрабавана. Асаблівую цікавасць выклікае ягоная галоўная праца “Рэчыцкае Палессе”, у якой шмат

старонак прысвечана Хойнікшчыне. Ч. Пяткевічам прыводзіцца 1933 пазіцыі фальклорных твораў малых жанраў. Асноўную частку з іх (1250 назваў) займаюць прыказкі, дасціпныя выразы, прыкметы: “Купіў бы сяло, ды грошай гало”, “Хто, увязваючы воза з высілку, аж плача, той, едучы, весела скача”, “Працуй, нябожа, то і Бог паможа”, “Сколькі на асенняга Юр’я снегу, столькі на вясенняга – травы”, “Юрай мосціць, Варвара разварвае, а Мікола гвоздзіць”.

Шмат артыкулаў было апублікавана пра народныя ўяўленні, характар правядзення некаторых святаў на Палессі, пра асаблівасці сялянскага побыту і шматлікія абрады, народныя павер’і, персанажы міфалогіі.

Калі рыхтаваўся гэты ўступ да кнігі, нечакана з’явіліся наступныя паэтычныя радкі:

Мы ганарымся Хойніцкай зямлёй!
Нам засталася спадчыны скарбонка –
Мінулае, гісторыя, фальклор
Любімай сэрцу роднае старонкі.
Паданні, казкі, прымаўкі, загадкі –
Усе дыяменты мудрасці бацькоў
І таямніцы памяці мінулых дзён,
Мы зберажом усё гэта для нашчадкаў,
Бо продкі гэта берaглі для нас спакон вякоў!

Сапраўды, нам засталася каштоўная скарбніца – наша спадчына. З вялікім задавальненнем прапаную вам, чытачы, гэту кнігу, прысвечаную Хойнікшчыне. Безумоўна, пачуццё гонару абудзіць яна ў жыхароў раёна. Для іх Хойнікшчына – малая радзіма, якую любіш як матчыну зямлю. Упэўнены, што кніга зацікавіць і тых, хто прагне спасцігнуць сівую мудрасць вякоў праз далучэнне да свету вуснапаэтычнай творчасці і гісторыі нашага краю. Падаецца, у кожнага, хто пазнаёміцца з гэтым выданнем, узнікне жаданне пабываць тут, пранікнуцца разам з намі светлай любоўю да маляўнічых краявідаў хойніцкай зямлі, адчуць павагу да таленавітых, працавітых, гасцінных, сціплых людзей нашага краю.

***Аляксандр БІЧАН,***
***старшыня Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта.***

*Валянцін БАРЫСЕНКА,*
*намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама*

**Жыватворныя крыніцы роднага краю**

Калі ўслухацца ў гучанне назвы горада “Хойнікі”, то нібы ва ўнісон наваколле адкажа: “Хвойнікі…” Так яно і ёсць. Згодна з гісторыяй, Хвайнічок (такую назву мела вёска ў 1512 годзе) з трох бакоў акружалі балоты, а далей працягваліся вялізныя масівы хвойных лясоў. З сярэдзіны XVI стагоддзя горад Хойнікі ўваходзіў у склад Брагінскай воласці Рэчыцкага павета, а з канца XVII – стаў цэнтрам воласці ў гэтым жа павеце. Як структурная адзінка Хойніцкі раён пачаў сваё існаванне ў 1926 годзе з райцэнтрам у Хойніках, і ў яго склад увайшлі 76 сельскіх населеных пунктаў.

Хойнікшчына…

Згадваючы дарагое сэрцу найменне, пераношуся ў тыя, на жаль, ужо не вельмі блізкія, але самыя шчаслівыя часы дзяцінства і юнацтва, калі ўвесь сусвет абмяжоўваўся бацькоўскім домам на цэнтральнай вуліцы невялікай палескай вёсачкі Мокіш, якую з усіх бакоў, нібы старэйшы брат, абараняў лес. Але ж для мяне яна была суразмерна цэлай Галактыцы, бо тады тут жылі мае бабулі, бацька і іншыя дарагія людзі – светлая ім памяць. І ні ў якім сне не магло прысніцца, што хутка ў роднай старонцы будуць гора і слёзы, а я буду прыязджаць туды толькі на магілы сваіх родных і блізкіх. Не будзе радасці ад сустрэчы з бацькоўскай зямлёй, не нап’ешся, як калісьці, вады з калодзежаў і крыніц, не пройдзеш басаном па сцежках дзяцінства, не збярэш у лесе грыбоў і ягад. Хоць і горка іншы раз ад гэтых успамінаў, але ж менавіта тут прайшло юнацтва, тут сустрэў я і сваё першае каханне, тут прайшлі мае лепшыя гады…

Мой родны край быў заўсёды багаты не толькі на карысныя выкапні (торф, гліну, балотную жалезную руду, пясок), але і шчодры на творчыя здабыткі, на шчырых, разумных, добрых і таленавітых людзей. Кожны з іх як самародак, як яркая зорка ў небе, як доказ таго, што паляшуцкі народ жыў і працягвае жыць творчым і натхнёным жыццём. А разам з гэтым пішуцца мастацкая гісторыя і летапіс гэтага слаўнага краю. Ва ўсе часы, ва ўсе эпохі знаходзіліся людзі, шчодра адораныя, якія, захапляючыся ягонай прыгажосцю і незвычайнасцю, услаўлялі родную старонку ў паданнях, легендах, казках, вершах, паэмах і песнях. Менавіта тут адбывалася станаўленне таленту драматурга Вячаслава Палескага-Станкевіча, спявачкі Галіны Аўдзеенка, празаіка Івана Мележа, графіка Уладзіміра Васюка, мастака Уладзіміра Гардзеенкі, кінарэжысёра Віктара Дашука, настаўніка Уладзіміра Піляка, актрысы Раісы Кашэльнікавай, пісьменніка Зміцера Бяспалага, паэта Міколы Мятліцкага, празаіка Барыса Сачанкі і іншых. Дзякуючы Міколу Мятліцкаму, пра палескую вёску Бабчын ведаюць ва ўсім свеце, як і пра тую бяду, якую прынесла ў гэты цудоўны край чарнобыльская трагедыя. Мая родная вёска Мокіш трапіла ў дваццатку адселеных у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Але ж у сэрцы жывуць і будуць жыць успаміны аб лепшых днях. Здаўна

на Хойнікшчыне, як і ў маёй роднай вёсцы, былі шырока развіты мастацкія рамёствы – ткацтва, вышыўка, пляценне з лазы, карэнняў лыка, бяросты. Добра вядомы быў не толькі ў сваім рэгіёне, але і ў рэспубліцы народны тэатр, створаны ў 1958 годзе пры раённым Доме культуры. Да аварыі на ЧАЭС у 1984 годзе калектыў атрымаў званне народнага за пастаноўку спектакля “Верачка” па п’есе Андрэя Макаёнка. Сапраўдным жа духоўным скарбам Хойнікшчыны з’яўляецца вуснапаэтычная народная творчасць, якая непасрэдна ўваходзіла ў штодзённы побыт людзей. Абрады, звычаі і святы канцэнтравалі ў сабе шматвяковы працоўны і сацыяльны вопыт, маральныя нормы і эстэтычныя погляды працоўных. Вуснапаэтычная творчасць Хойніцкага раёна вылучаецца багаццем мясцовых жанравых форм, мае адметны мелас. Хоць і давялося Хойнікшчыне на сваім вяку перажыць шмат нялёгкіх выпрабаванняў, але тут заўсёды любілі і любяць народную песню. Без яе не абыходзяцца ні на адным свяце. Дарэчы, пры сельскім Доме культуры ў в. Глінішча, на радзіме пісьменніка Івана Мележа, больш за 40 год існуе хор. Ініцыятарам яго стварэння была родная сястра празаіка Юлія. Відавочна, што матчына песня тут перадаецца з пакалення ў пакаленне. Такія ж калектывы існуюць і пры іншых установах культуры раёна. Дзякуючы працы навукоўцаў і студэнтаў, якія запісваюць успаміны ад старажылаў, народна-паэтычныя скарбы краю не толькі захоўваюцца, але папаўняюцца і ўзбагачаюцца. Калі ж народ спявае песні, значыць, ён жыве. Няхай бруіцца песні крыніца…

Мінула больш за дваццаць гадоў з таго дня, калі аварыя на атамнай станцыі вымусіла маіх землякоў пакінуць родныя мясціны. Па-рознаму склаўся іх лёс на новых месцах адсялення. Але ж у сваім сэрцы яны зберагаюць гісторыю і традыцыі хойніцкай зямлі і не забываюць сваіх родных мясцін. І кожны, каму наканавана лёсам тут нарадзіцца, ганарыцца сваёй малой радзімай. Ганаруся ёю і я, таму што радзіма, як і маці, у кожнага чалавека адна, адзіная!

***Олег ДЕМИДЕНКО,***
***проректор по учебной работе***
***Гомельского государственного университета***
***имени Франциска Скорины,***
***доктор технических наук, профессор.***

**В Великом Бору мое сердце**

***Где бы ни находился человек, своим сердцем и душой он всегда там, где родился, где прошли его детство и юность. И воспоминания о тех беззаботных и счастливых годах, пожалуй, самые яркие. Многое осталось и в моей памяти о той затерянной среди полесских болот и лесов деревеньке в Хойникском районе, название которой такое красивое и звучное – Великий Бор, и где мне было суждено появиться на свет. Волей судеб мои родители, ее уроженцы, оказались в годы своей молодости за тысячи километров от родной Гомельщины, на Чукотском полуострове. Отец, геолог по специальности, который искал в этом суровом северном краю полезные ископаемые, увез туда и свою молодую жену, где родилась моя старшая сестра. А когда подходило время и мне заявить своим криком о приходе в этот мир, мама засобиралась в дальний путь, в родные места. Причиной ее столь решительного и отчаянного шага было отсутствие в условиях тундры нормальной медицинской помощи. Сани, самолет, поезд – всеми этими видами транспорта добиралась она до Великого Бора. Когда я родился, немного подрос и окреп, мама отправилась со мной в обратную дорогу. Но потом регулярно меня привозили в Беларусь, в Хойникский район, к родственникам, где и проходили мои детские и юношеские годы. Все увиденное здесь, прочувствованное мной самим, услышанное из рассказов, воспоминаний близких, местных старожилов составило яркий калейдоскоп впечатлений. Они и остались в моей душе навсегда.***

История деревни Великий Бор уходит своими корнями в далекое прошлое. Во всяком случае, когда в одном из дворов, где-то на ее окраине, копали под постройки яму, был найден гроб. В нем стоял берестяной туесочек с медом, и, когда открыли этот туесок, по рассказам очевидцев, мед пахнул так, как будто его только вчера собрали пчелы. И поскольку гроб был вырублен из цельного ствола дуба, можно с уверенностью утверждать, что это было очень-очень давно.

Само название деревни Великий Бор, очевидно, происходит от того, что на ее краю, чуть за лесом (место это называется Баратин), находились два очень красивых бора. Первый – сосновый, с очень высокими, красивыми деревьями (такие теперь трудно встретить в Беларуси). Это были сосны с красивой золотистой корой, стволы которых могли обхватить несколько человек. Бор был очень чистый, с почвой, покрытой мхом, его можно было просматривать очень далеко. А за ним начинался очень красивый дубовый лес, с деревьями, имевшими возраст не одну сотню лет.

Раньше коров пасли в лесу, а не на полях. Это было удобно: животных не так пекло солнце, окраины продувались ветром, им не докучали мухи, здесь была сочная трава, которую буренки с удовольствием поедали. Благодаря тому, что коровы паслись здесь, лес был очень чистым, «прозрачным».

В старые времена, как только начиналось теплое время, мальчишки пасли скот за деревней – коров, коз. Пригоняли их в обеденное время хозяйкам, чтобы они могли их подоить, а свиней, как это не удивительно, пасли в лесу. Особенно хорошо они набирали вес осенью, когда на дубах поспевали желуди – их любимое лакомство.

В бору весной, как правило, проводились так называемые «маёвки» – праздники, в которых участвовали жители и близлежащих деревень: Аврамовской, Осова и других.

Великий Бор не так богат природными ресурсами, но на поле, за лесом, наблюдались выходы на поверхность каменной соли. И не случайно жители соседней деревни дразнили великоборцев: они, мол, такие глупые, «что соль на поле на Баратине сеяли».

На окраине деревни, за бывшим колхозным садом, – очень древнее кладбище. Раньше рядом с ним были две горы, с составом почвы, где преобладают смесь гравия с глинистыми отложениями. Одна называлась Светильная, а вторая – Климова гора. К сожалению, последнюю, когда прокладывали дороги к деревне, практически снесли, и теперь на ее месте расположен большой котлован. А Светильная как бы «стерлась» из-за природных атмосферных явлений – осадков, выветривания и т.д. Осталась небольшая пологая возвышенность. И кладбище раньше представляло собой гору, но за последние десятилетия она тоже заметно просела. О том, что кладбище на самом деле очень древнее, свидетельствуют кресты, которые здесь встречаются. Когда хоронят покойников и копают новые могилы, постоянно находят различные старинные вещи, которые клали усопшему в гроб: нательные крестики, украшения. По традиции всё это назад кладется в яму, чтобы «не обижать» ушедших в мир иной.

Деревня, к сожалению, не стоит на реке. Несмотря на обилие лесов, Хойникский район расположен в достаточно болотистой местности. Для того чтобы эти болота осушить, в 60-е годы на Полесье проводилась мелиорация, появилось множество мелиоративных канав. В них водилось огромное количество рыбы, в основном, карасей, щук, пескарей. Ее с удовольствием ловили местные мальчишки, молодежь. Самой распространенной и вкусной рыбой считались вьюны, которых ловили специальными приспособлениями из прутьев, какой-либо сетки, старого тюля. Они имели форму открытого конуса, куда рыба и попадала. Было много способов летней и зимней рыбалки. А ещё местные жители ухитрялись ловить рыбу просто руками: когда канавы в летнюю жару пересыхали и в них оставалась жидкая грязь, то в ней можно было заметить дырочки, как будто кто-то проткнул их пальцем. Это были ходы, сделанные вьюнами, чтобы им можно было дышать.

Отвернув пригоршнями грязь, надо было ловко схватить вьюна, зажав его между пальцами руки. Ведь просто так в руке его не удержишь – на то он и вьюн.

Вьюн – рыба длинная, чем-то похожая на небольшую змею, достигала размеров порядка 20-30 см, толщиной с большой палец руки, полосатая по спинке, как бурундук, и очень вкусная. В деревне ее употребляли как в жареном, так и в сушеном виде, зимой с удовольствием клали в борщ. Интересно ловили рыбу и на болотах. Если из болота вытекала какая-либо вода, либо, наоборот, какой-то ручей впадал в болото, заходили в воду, пробирали руками траву и ставили так называемые «жаки» – специальные устройства и сетки. Это был цилиндр с конусом, который ставили на течение, и в него попадала рыба.

Зимой рыбу ловили коробочками, представляющими собой небольшое сито по высоте сантиметров 20, в диаметре – до метра. Низ (дно) было из лыка, а сверху ничем не заплеталось, и в дне, по центру, делалось отверстие около 8 см. Зимой вырубался лед, эта коробочка вставлялась в воду таким образом, чтобы днище оказалось под водой. Когда рыбе в морозы не хватало кислорода, она подплывала к проруби, к этой коробочке, выбиралась наверх глотнуть воздуха, дальше осуществляла движение по кругу, а в центр, как правило, не попадала. В результате к утру, во время придухи в этом коше можно было найти очень много и карасей, и щук, и вьюнов.

На краю деревни находился кирпичный завод. Он был построен в советские времена и, благодаря наличию в здешних местах красной глины, местные жители не испытывали “голода” на строительный кирпич. Подзаработать на заводе могли и местные мальчишки: подносили кирпичи для обжига к печи или выгружали их оттуда. За свой труд они получали деньги, на которые в магазине покупали себе какие-то сладости. А в ямах, карьерах, оставшихся после кирпичного завода, тоже водились караси, которые местная детвора с удовольствием ловила на удочку и здесь же, в летнюю жару, купалась.

Недалеко от деревни до революции располагалась помещичья усадьба. К сожалению, в советские времена она была разрушена, и сегодня точно указать, где находился панский двор, практически невозможно.

Деревня была большая, более 500 дворов, растянутая на несколько километров в длину, имела множественные ответвления, а в центре ее стояла школа. До Великой Отечественной войны здесь учились дети, молодежи, в школе было много наглядных пособий, экспонатов. Мама рассказывала, что как-то летом к школе прибился журавль, которому где-то повредили крыло, и он осенью не смог улететь со своей стаей на юг. Его назвали Журка. Каждое утро он выходил из сарая, где жил, радостно встречал детей, которые приносили ему из дома всякие лакомства, жалели его. А вечером Журка провожал ребят со школьного двора. Когда он окреп, улетел вместе со своими сородичами.

Недалеко от школы находилась церковь. В ней была серебряная и золотая утварь, множество богатых икон. Жители, прихожане не жалели своих денег, чтобы Божий храм выглядел как тому подобает. Однако после революции 1917 года, по команде районных властей, церковь была разрушена. До сегодняшнего дня в этом маленьком переулочке, где она

стояла, почва глинистая, поскольку там были разбитые кирпичи. Говорят, что возле церкви раньше было очень много старинных захоронений. На этом святом месте на протяжении многих десятилетий ничего не строится. А тем временем местные верующие ездят для выполнения каких-либо религиозных обрядов, либо в престольные праздники в церковь г. Василевичи.

Интересные воспоминания детства у меня остались о так называемых «каравашниках». Эти люди ездили на телегах от одной деревни к другой, предлагали деревенским жителям недоступные для них по тем временам всевозможные диковинки – какие-то детские свистульки, интересные глиняные сувениры, воздушные шарики, иголки, натки взамен на сданные на вес «караўкі» (старье, которое уже вышло из житейского обихода из-за его изношенности: матрацы, одежду и т.д.). Детвора с удовольствием относила этим сборщикам старье и куриные яйца, получала леденцы, всякую прочую мелочевку, которая представлялась мальчишкам очень интересной и ценной.

По рассказам старожилов, зимы в этих местах были очень снежные, и метель так заметала деревенские хаты, что дети могли даже кататься не со снежной горы, а с крыши собственного дома. Поэтому во многих полесских деревнях двери до сих пор открываются внутрь дома, чтобы во время очень снежных зим можно было без проблем выйти наружу.

Долгими зимними вечерами люди собирались вместе в каком-нибудь из домов. Как правило, это были близкие родственники или соседи. При свете керосиновой лампы (электричество появилось в 60-е годы) играли в игры, женщины вязали, шили, вышивали, ткали, мужчины вырезали из дерева разнообразную кухонную утварь, готовили к весне инструмент, чтобы встретить посевную во всеоружии, словом, готовили «сани летом, а телегу зимой».

Деревня Великий Бор была как одна большая семья. Ее жители обязательно собирались вместе на такие радостные события, как свадьба, крестины. Родственные отношения были близкими, прочными. Как правило, деревня состояла из нескольких фамилий. В Великом Бору самыми распространенными из них были Саченко, Демиденко, Маленок, Борисенко, и др. Их можно было перечислить практически на пальцах двух рук. И браки заключались, как правило, между жителями деревни либо с жителями соседних, близлежащих.

Во время Великой Отечественной войны Великий Бор сильно пострадал. В немецких войсках было правило: если кто-либо из солдат вермахта погибал на территории деревни, либо кто-то из ее жителей был замечен в связи с партизанами, деревню сжигали. Так произошло и с Великим Бором. Но, можно сказать, ее жителям в какой-то степени повезло. В соседней деревне была расквартирована военная часть, в составе которой были словаки. Один из них предупредил через местного мальчишку: «Завтра Великий Бор сожгут». Чтобы спастись, часть жителей ушла в болота. Моя мама и ее сестры тоже были среди них, прятались в болоте, в кустах, находясь по шею в воде, чтобы их не могли найти немецкие овчарки. Просидели там, голодные, несколько дней и только потом, когда немцы ушли, возвратились на пепелище, чтобы вырыть землянку и каким-то образом жить

дальше. Тех людей, которые остались в деревне, фашисты согнали вместе. Полицаи сортировали их: кого повезут на машине, а кто пойдет пешком, объявив им, что они будут отправлены в Германию. Это не было правдой. Я слышал историю о том, как маленькая девочка стояла в очереди на сортировку стариков и детей (их садили на машину, объясняя это тем, что они не смогут идти своими ногами). Всех остальных – взрослых, работоспособных – формировали в колонну, которую должны были гнать в соседнюю деревню, где была железная дорога, чтобы отправить товарными вагонами в Германию. Девчушка стала плакать, стала проситься к своим братьям и сестрам, которые уже были на машине. Полицай оттолкнул ее и сказал: «Пойдешь пешком, ты уже взрослая!» Как выяснилось потом, колонну повели на станцию, а всех остальных согнали в амбар, подперли бревнами и подожгли. Большая часть работоспособного населения, в том числе и дети, оказалась на принудительных работах в Германии. Угнали туда и тетю Соню, и ее родную сестру, тетю Василину. Их родной брат, который пытался на одной из немецких станций через проломленное дно вагона выбраться сбежать, попал под колеса вагона и погиб. На той же станции его и похоронили. А муж моей тети, Долголаптев Адоль, мальчиком тоже попал в Германию. Ему было приказано караулить ночью отел коровы, но он уснул и был так жестоко избит хозяевами, что это впоследствии отрицательно сказалось на его здоровье.

Мой отец, Демиденко Михаил Тихонович, родился в 1921 году. Все родственники, по крайней мере три поколения, тоже выходцы из деревни Великий Бор. В начале войны отец находился в рядах действующей Красной Армии недалеко от Бреста. Он рассказывал, как произошло первое столкновение с немцами наших солдат. Они находились на опушке леса, когда увидели колонну, двигавшуюся на автомобилях и мотоциклах в их сторону. Были видны красные знамена, которые везли мотоциклисты, и бойцы подумали, что это солдаты Красной Армии. Когда колонна приблизилась, оказалось, что на флагах в центре на белом фоне – черная свастика. Завязался жестокий рукопашный бой. Когда он закончился, у отца в руках оказался немецкий автомат. Это было его первым боевым «крещением».

Немецкие войска стремительно двигались в глубь Беларуси, и вскоре отец вместе с другими однополчанами оказался в окружении. От стал пробираться в сторону родной деревни. Поскольку перейти фронт не было возможности, пришел в Великий Бор, смог наладить связь с партизанами и ушел непосредственно в отряд, в лес. А когда проходил знаменитый рейд Сабурова и Ковпака по тылам немецких войск, чтобы оказавшиеся в окружении люди смогли влиться в ряды Красной Армии. Партизанский отряд, действовавший в Хойникском районе, также стал частью соединения Сабурова и Ковпака, участвовал в военных операциях. За подрыв нескольких эшелонов с немецкой техникой отец был награжден орденом Красной Звезды, медалью партизана Великой Отечественной войны II степени и до последнего дня очень гордился своими боевыми наградами.

В нескольких километрах от деревни, на болоте, раньше не проходимом, потом осушенном, был так называемый городок диаметром метров 200. Это кольцо – вал, насыпанный из земли (Я знаю, что такие городки существуют еще в Беларуси. Этим городкам несколько сотен лет. ) Были попытки раскопок, здесь находили обломки старинной гончарной посуды, предметы быта. Как рассказывают старожилы, на болоте был насыпан вал нескольких метров высотой. На лодках привозили грунт и высыпали его в болото. В центре этого вала образовывалась площадка. Это была своеобразная крепость на болоте, и в случае, когда был какой-то неприятель (а через Беларусь не одна война прокатилась), люди на лодках добирались до этого островка и там жили.

Сейчас это место поросло старыми дубами и орешником. Все жители деревни очень любили ходить туда и собирать осенью поспевшие орехи.

Не так давно я снова съездил в свою деревню и посетил памятные для меня места. К сожалению, при плановой заготовке леса полностью срезаны и уничтожены сосновый и дубовый боры. Лишь на самом краю Баратина одиноко в окружении кустов молодого орешника стоял чудом уцелевший от всего бора дуб. Он сторожил мое детство.

*Вольга ШЫНКАРЭНКА*

## З ЛЮБОЎЮ ДА РОДНАЙ ЗЯМЛІ

Штодзённа быццё ўсяго чалавецтва нястомна папаўняецца тым значным і драбніцамі, што перажываюцца кожным з людзей. Найбольш жа істотна яго ўзбагачаюць і тым самым шмат у чым абумоўліваюць далейшы кірунак развіцця лёсы выключна яркіх асоб, іх мастацкія наробкі, у якіх арганічна пераўвасабляецца біяграфічнае, звязанае з уражаннямі маленства і юнацтва, рэгіянальным каларытам найдаражэйшых за іншыя і самыя прыгожыя куткі зямлі родных мясцін, а таксама ўласцівае ўсёй нацыі і наогул чалавецтву. Не выклікае сумнення той факт, што ў адзін з вызначальных момантаў свайго станаўлення таленавітая асоба вырастае ў сапраўднага пісьменніка дзякуючы пранізлівай паэтызацыі хаты, прыроды, зямлі, людзей, гісторыі і традыцый, побыту, мовы і дыялекту таго краю, дзе ён нарадзіўся, здольнасці ўбачыць у мностве іх праяў адзінкавае і характэрнае, звычайнае і выключнае. Зразумела, гэта адбываецца толькі ў тым выпадку, “калі ён, – кажучы словамі Дзм. Бугаёва, – творца, адкрывальнік новых шляхоў” [1, с. 3]. І пазней адданасць жыццёвым вытокам, родным мясцінам, незабыўныя ўспаміны пра іх і багатых душой насельнікаў, бездакорнае веданне і ўвага да даўніны, абрадаў і рэалій побыту народа, арганічная повязь са сваімі каранямі працягваюць забяспечваць самабытнасць аўтарскага “Я”, адметнасць зместу, вобразнай сістэмы і стылю напісанага ім, выступаюць тым вечным агнём, “з якога нараджаецца творчасць” [2, с. 504].

Як глыбока адчутае і вынашанае праз наканаванае лёсам успрымаецца наступнае перакананне палешука Івана Паўлавіча Мележа (1921 – 1976): “Зямля гэтая дарагая майму сэрцу, як ніякая іншая. …Я хачу, каб чытачы маіх кніг таксама палюбілі гэтую зямлю і яе людзей або па крайняй меры – хаця б ведалі пра іх” [3, с. 309]. Пісьменнік – увесь ад гэтай зямлі, ад свайго народа. Нават назвы паселішчаў у родных мясцінах для яго нібы “жывыя істоты, таварышы маладосці…” [4, с. 177]. Якраз па гэтай прычыне лепш за І. Мележа пра Палессе і палешукоў ніхто не здолеў сказаць. “Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшы, даражэйшы. Багата можа быць у чалавека за жыццё іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных. Але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым, не забываецца, не адступае ўдалеч; сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў – ён самы дарагі, самы шчымлівы! Куток гэты – тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства” [4, с. 177].

Глыбока нацыянальны, знакавы творца ў абсягах асабістага жыцця і мастацкага таленту з дапамогай багатых і перададзеных з непадробнай цеплынёй і замілаванасцю сродкаў рэдкай па чысціні і гаючасці мовы засведчыў пераканаўчае веданне душы, характару беларуса, здолеў змясціць і дасканала ўвасобіць шматгалосы і шматлюдны акаляючы свет з яго сацыяльнымі катаклізмамі ў пераломныя перыяды XX стагоддзя, сямейна-бытавымі драмамі і духоўна-маральнымі праблемамі, у выніку чаго нават

аддзеленыя ад вялікага свету і дэталёва апісаныя ім Курані прадстаюць цэлай дзяржавай. Вядомаму эпіку ўдалося скласці непаўторную сагу пра Палессе, апаэтызаваць раней вялікі балотны край з непраходнымі зараснікамі, векавымі лясамі, апець хараство прыроднага свету, дзе пануе "радасць вясновай травы і дрэў" [2, с. 504 – 505], незвычайная музыка жаўранкаў: "быццам неба спявае…" [2, с. 505], напісаць найлепшыя творы пра родную зямлю і землякоў, увесь беларускі народ. Праўдзівасць прамоўленага І. Мележам, які ніколькі не сумняваўся ў тым, што "…у літаратуры ўсё робіцца любоўю" [5, с. 228], узмацняюць выключнасць таленту, захапленне і боль-клопат за чалавека, Айчыну, зайздросна тонкія густ, зрок, слых, шырокая – ад спеўна-светлага да скрушліва-пакутнага – палітра настрою. Менавіта ўсё гэта разам і стала фактарам магутнага ўздзеяння І. Мележа, прычынай свядомай ці прыхаванай арыентацыі на яго творчасць як мастацкага узору для тых яго літаратурных равеснікаў і паслядоўнікаў, што звярталіся і звяртаюцца да асэнсавання праблем зямлі і волі, кахання, да тэмы Палесся наогул.

А пачыналася ўсё з невялікай палескай вёскі Глінішчы, што, – як пісаў Іван Паўлавіч у аўтабіяграфічным артыкуле "Калі гартаеш старонкі…", – "прыляпілася двума радамі хат на самым беразе нешырокай, але доўгай паласы трывалай зямлі, што цягнецца між бяскрайніх балот ад Хойнік да Юравіч, вялікага сяла каля Прыпяці. Глінішчы — цераз кіламетр ад шляху. Я помню за вёскай цудоўныя гаі і дубровы, бор удалечыні" [6, с. 157].

Барыс Іванавіч Сачанка (1936 – 1996), яшчэ адзін ураджэнец Хойніцкага раёна, вуснамі свайго героя Івана Гарапашкі пра асабліва дарагія сэрцу мясціны гаворыць з не меншай любоўю і захапленнем. "На Палессі, на самым поўдні Беларусі, ёсць куточак зямлі, асабліва мілы, дарагі майму сэрцу. Дзе б ні быў я, куды б ні закінула мяне доля, не-не дый згадаю яго. У радасці і ў журбе, з блізкіх і далёкіх дарог я вяртаюся зноў і зноў туды, дзе сярод старых, пракаветных лясоў і вялізных, неабсяжных балот на пясчанай выспе раскінулася вёска, у якой я нарадзіўся…" [7, с. 5]. Шмат давялося пабачыць за свой век вёсцы пісьменніка, неаднаразова яе знішчалі пажары, але дзякуючы клопатам і намаганням адданых жыхароў яна заўжды вярталася да жыцця. Здольнасць вёскі да аднаўлення падкрэсліваецца Б. Сачанкам праз персаніфікацыю гэтага вобраза, надзеленасць родных мясцін не толькі даўняй гісторыяй, але і ўніклівай памяццю. "У вёскі добрая, жывая памяць! Вёска заўсёды ўсё ведае, усё помніць. Ад яе нічога нідзе не схаваеш, бо яна мае ўсюды свае вочы, вушы. Вёска помніць, хто калі нарадзіўся, хто калі хрысціўся, хто куды ездзіў, хто з чым і адкуль вярнуўся" [7, с. 9].

Празаік згадвае звесткі, звязаныя з заснаваннем вёскі беглымі запарожцамі на неабжытым тады Палессі, дзе раскінуліся на сотні кіламетраў "няходжаны лес, непралазныя балоты" [7, с. 12], з якімі ў месцічаў было звязана шмат страхаў і прымхаў. Растлумачваючы смеласць землякоў наяўнасцю ў іх жылах вольнай казацкай крыві, творца не абмінае ўвагай канкрэтныя гістарычныя падзеі, перажытыя вёскай у мінулым, часы

паншчыны, апошнюю вайну, калі няскораны Вялікі Бор (у рамане “Чужое неба” – Бароўка) быў спалены да апошняй хаты, а сям’я Сачанкаў разам з іншымі аднавяскоўцамі напоўніцу зведала нягоды вайны, горкі палон Нямеччыны. Такія экскурсы ў мінулае носяць не толькі азнаямляльна-пазнаваўчы характар, але і істотна паглыбляюць вызначальны для ўсёй творчасці пісьменніка матыў памяці. Б. Сачанка ніколі не сумняваўся: “У кожнага пакалення сваё жыццё, свая памяць. І менш за ўсё трэба каго б там ні было папракаць, наракаць то на тое, то на гэтае, трэба кожнаму помніць сваё. Калі кожны будзе помніць сваё, усе разам будуць помніць усё…” [7, с. 21].

Яшчэ ў напісаных на пачатку творчай дарогі “Барвах ранняй восені” малады Б. Сачанка з упэўненасцю заяўляў, “што чалавек – не той грыб узбоч дарогі: яго не так лёгка выбіць з роднага гнязда і растаптаць…” [8, с. 22]. Калі мець на ўвазе самога пісьменніка, то ён ніколі не забываўся пра сваё – вёску, землякоў, балоты, лес з яго соснамі і хвойнікам, грыбнымі мясцінамі і ягаднікам, неба. Сіла эмацыянальнай узрушанасці, замілаванасць роднымі краявідамі іншы раз да такой ступені перапаўняла празаіка, рабілася нястрымнай, што неўпрыкмет для яго самога пераўтварала ў паэта. У адным з “Вершаў з самаробнага сшытачка”, што разам з іншымі рэтраспекцыямі, шматлікімі адступленнямі ўзбагачае структуру рамана ў навелах “Чужое неба”, асаблівую ўвагу выклікаюць наступныя радкі:

*Ні аб чым не прашу. Мне*
*Нічога,*
*нічога не трэба.*
*Борам палескім толькі б прайсці,*
*Толькі б пабачыць роднае неба* [7, с. 169].

Відавочна, што гэтыя радкі не толькі перадаюць непазбыўную тугу, вострую настальгічную гаму перажыванняў вязня Адася, але і арганічна тоесныя адчуванням самога пісьменніка, гатовага аднолькава бясконца любавацца бязмежным нябесным блакітам, асобнай расінкай, “што звісае з лістка і ў якой / пераліваецца сонца” [7, с. 166], спяваць оду лужку з яго разнатраўем, буянню квецені агарода. Як і яго славуты зямляк, што здолеў у “Палескай хроніцы” звязаць у адно “фарбы, гукі, лёс людзей” і па чыім перакананні “чалавек, вакол якога не жыве прырода, … бачыцца нейкім жабраком, непрыкаяным” [9, с. 330], Б. Сачанка надзвычай уважліва ставіцца да ўсіх без выключэння праяў і насельнікаў расліннага, птушынага і жывёльнага царстваў. Алегарычныя творы з цыкла “Апавяданні жывое прыроды”, псіхалагічныя “Сад”, “Дзік-бадзяга”, “Ваўчыца з Чортавай Ямы” – адны з самых лепшых твораў празаіка на гэтую тэму.

Сярод таго бясконцага мноства з’яў свету, што нязменна цікавілі пісьменніка з часоў дзяцінства, сам ён асабліва вылучаў зерне і вочы (апавяданні “Вочы”, “Зерне і млын”, навелістычны “Вечны кругазварот”). Першае здзіўляла далучэннем да вечнасці, здольнасцю гінуць і праз смерць нараджаць новыя зярняты, а таксама відавочнай аналогіяй з чалавечым лёсам

і часам цяжка вытлумачальнай прысутнасцю ў ім заканамернага і выпадковага. “А мы, людзі, хіба ж не тыя самыя зярняты, хіба мы вольныя, выбіраем, куды каму ўпасці – у цёплую пульхную раллю, каб набрацца сіл, прарасці, узгадаваць жменю, прыгаршчы новых зярнят, ці ўпасці на цвёрдыя, бязлітасныя камяні млына і быць расцёртымі, змолатымі на муку?..” [10, с. 470]. Вочы ж прыцягвалі асобу творцы здольнасцю гаварыць без слоў, выразна перадаваць як шквал нястрымных пачуццяў, так і таемныя сховы, імгненныя і часам няўлоўныя зрухі душ родных людзей і незнаёмцаў, усіх жывых істот.

Увогуле, у кожным з атрыбутаў акаляючага свету Б. Сачанка бачыць вышэйшую мэтазгоднасць, нябесны промысел. Яго гераіня Адарка з апавядання “Навальніца” не без асуджэння ў бок асабліва “гаспадарлівых” кідае: “Бог падумаў, добранька падумаў пра ўсё. І каб рэчачка была, і каб поле было, і каб лясок быў… І пра балота таксама падумаў… Трэба яно – няхай будзе… Дык бачыш – поля захацелася, усю б зямлю жытам засеяць, бульбаю засадзіць. А жабе той, буслу, кнігаўцы дзе падзецца?” [11, с. 15].

Па сутнасці, прама ці ўскосна да ідэі першапачатковага разумнага светаўпарадкавання пісьменнік звяртаецца амаль ва ўсіх сваіх творах, хоць яны і адрозныя па жанравай спецыфіцы, часта маюць выразна аўтарскае вызначэнне іх зместава-фармальных асаблівасцей. Варта ўзгадаць празаічны рэквіем “Апошнія і першыя”, раманныя навелістычныя вузлы памяці “Чужое неба”, эпічна разгорнуты “Вялікі лес”, лірычную “Мальвіну”, аповесць-быль “Загадка аднаго падполля”, быль з часоў апошняй вайны “Ехала – упала”, палескую быль “Ваўчыца з Чортавай Ямы”, драматычную “Ноч няволі”, гістарычную “Англіцкую сталь”, “Дыярыуш Мацея Белановіча”, творы вострай экалагічнай скіраванасці “Родны кут” і “Еўка”, фантастычныя “Тыя”, сціслыя “Мурашкі”, зварот да элементаў апавядальных споведзі, эпізодаў, аўтабіяграфіі, запісаў, сноў, нарысаў і іншых сінтэтычных форм.

У празаічнай спадчыне Б. Сачанкі адметнае месца займае “Твор, які не магу скончыць”, дзе не толькі адкрываюцца пакуты выспявання аўтарскай задумы, магчымасць рэалізацыі тых ці іншых версій сюжэтабудовы мастацкага тэксту, але і ўзнаўляецца поўнае прарастанне творцы ў характар, светаадчуванне свайго героя, перадаецца такая моцная зродненасць, знітаванасць з ім, калі ўсе магчымыя і падрыхтаваныя для выдуманага персанажа выпрабаванні робяцца максімальна набліжанымі і цалкам верагоднымі для шляху самога пісьменніка, яго складаных варункаў са светам і іншымі людзьмі, калі абодвума адначасова пражываецца адзін лёс. Народжаны аўтарскай фантазіяй абагульнены вобраз шляхетнага каліноўца і фалькларыста Гаўрылы Несмяловіча павінен быў стаць своеасаблівым увасабленнем павагі палешукоў да такіх даследчыкаў краю і збіральнікаў вуснай народнай творчасці, як Пяткевіч, Сербаў, Сержпутоўскі, Раманаў, Федароўскі, Шэйн і іншыя. Апавядальніку здаецца, што той духоўны агонь, які вылучае яго героя, “тое святло, што струменіць з яго”, падае і на яго, “асвятляе, саграває, цешыць” [12, с. 232]. І забіць, ніколі больш не размаўляць, назаўжды развітацца з такім чалавекам уяўляецца пісьменніку

сапраўдным рабаўніцтвам. Менавіта па гэтай прычыне застаўся незавершаным яго твор.

І ўсё ж ёсць у Б. Сачанкі сапраўдны слоўны помнік сваёй Радзіме. Даўняя мара пісьменніка –“паглядзець на ўсё Палессе адразу”, “з самай сярэдзіны” [13, с. 142] – увасобілася ў старонках з яго дарожнага дзённіка “Зямля маіх продкаў”, што распачалі з’яўленне такіх наступных вядомых кніг-візітовак пра Беларусь, як “Зямля пад белымі крыламі” У. Караткевіча, “Зялёны лісток на планеце Зямля” Я. Сіпакова і іншых аналагічных выданняў публіцыстычнага характару. Зразумела, што ажыўлены ў тэксце культурна-гістарычны локус утрымлівае адпаведныя савецкай рэчаіснасці характарыстыкі. Маюцца на ўвазе, да прыкладу, асуджэнне пісьменнікам рэлігійнага дурману, шчырая перакананасць у праўдзівасці прыгладжаных сацыялістычных ідэалаў і да т. п. Але адзначаныя моманты істотна не псуюць прыемнае ўражанне ад твора і ўспрымаюцца толькі ўстойлівымі атрыбутамі той эпохі і літаратуры. Тым больш, што мэта, якую ставіў перад сабой Б. Сачанка перад пачаткам рачнога падарожжа па Палессі, у чым ён з самага пачатку і спяшаецца пераканаць чытача, не абмяжоўвалася механічнай фіксацыяй убачанага і пачутага. “Было і яшчэ адно жаданне, таемнае, вельмі асабістае: мне чамусьці здавалася, што ўсё тое, што я ўбачу, пачую, паможа мне глыбей зразумець самога сябе, зразумець тыя змены, што за апошнія гады адбыліся ў жыцці маёй роднай вёскі Вялікі Бор, у жыцці кожнага калгаса, горада, чалавека і ўсёй краіны наогул” [13, с. 143].

Паездка дазволіла пісьменніку нанова адкрыць і яшчэ больш палюбіць свой край, яго рэкі, узнавіць лёсы славутых людзей, перажыць гісторыю кожнага наведанага горада і мястэчка на ўкраінскім і беларускім Палессі, узгадаць уражанні пра іх ранейшых вядомых далёкіх і нядаўніх наведвальнікаў. Часта інфармацыйная насычанасць матэрыялу суседнічае з адкрытым і публіцыстычна пададзеным выяўленнем пазіцыі грунтоўна абазнанага ў пытаннях экалогіі аўтара. У гэтым пераконвае яго горкае прадчуванне той непапраўнай бяды, да якой прывядзе бяздумнае асушэнне балот і такое ж бясклапотнае знішчэнне векавых дуброў, гаёў, пушчаў. У асобных месцах апавядальная плынь твора годна аздабляецца ўсхваляванымі лірычнымі інтанацыямі. Асабліва пры ўслаўленні падарожжаў, ваенных і працоўных подзвігаў землякоў, дасканаласці ліній помнікаў архітэктуры, перадачы хараства пейзажных малюнкаў, многія з якіх для сучаснікаў ужо недасяжныя, незваротна страчаныя, ці асобных з’яў не заўжды ласкавай для тутэйшых людзей прыроды. Сузіраючы яе, пісьменнік задумваецца: “Ці не таму так часта і звяртаўся паляшук у сваіх песнях-жальбах да прыроды, прасіў быць літасцівым да яго, прасіў “не замачыць, не высушыць” поля, не спаліць хаты… Ці не таму ў казках яго, у загадках, у прымаўках – усё жывое, усё думае, гаворыць, спрыяе чалавеку ці замінае яму – луг, поле, дрэвы, кусты, кожная былінка, кожная травінка” [13, с. 221].

Больш за ўсё пісьменніка непакоіць, каб зямля яго продкаў не ведала войнаў, бо толькі так яна здолее заставацца прыгожаю і маладою, жыць у згодзе з тым спрадвечна зададзеным рытмам і маральна-духоўнымі ідэаламі,

на якіх заўжды грунтавалася традыцыйная народная культура, прыродны і працоўны каляндар беларуса. У адметным па будове апавядальным цыкле “Вечны кругазварот” Б. Сачанка зноў уздымае пытанні сэнсу жыцця, прызначэння зярняці, важнасці каранёў як для дрэва, так і чалавека, чалавецтва наогул.

Філасофія быцця беларуса, упэўнены пісьменнік, нічым асабліва не адрозніваецца ад анталагічных і аксіялагічных арыенціраў прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей. Мудрасць, і народ даўно занатаваў яе ў прыказках і прымаўках, шматлікіх павер’ях, у тым, каб быць, дбаць пра надзённае і памятаць пра вечнае, нараджаць і паміраць. Па перакананні аўтара, для сцвярджэння гэтых спрадвечных ісцін не абавязкова звяртацца да падзей планетарнага маштабу. Дастаткова назіранняў, у тым ліку і гумарыстычных, над паводзінамі і лёсам землякоў, гісторыяй родных Вялікага Бора, Палесся, дзе “кожная вёска – гэта своеасаблівая дзяржава, з усім сваім – мовою, звычаямі, норавамі і побытам” [14, с. 283]. Слушнасць такога сцверджання Б. Сачанка даводзіць праз зварот да радзінна-хрэсьбіннай паэзіі і абраднасці, падкрэслівае лёсавызначальную ролю, выключную важнасць абрання імя для дзіцяці, а таксама яго абавязковага выхавання з улікам полавай прыналежнасці з першых крокаў жыцця, далейшых вучобы і пазнання свету. Дакладна перадае пісьменнік адметнасці працоўнага календара, будні і святы, асаблівасці матэрыяльнай культуры беларусаў. Ён ніколькі не сумняваецца ў наступным: “Фантазія і душа народа – у песнях, казках, іншых відах творчасці, у рамёствах, ядзе, выхаванні дзяцей, святах… Яна і ў адзенні” [14, с. 324]. І, зразумела ж, у святах, сродках і спосабах лекавання, чарах, народных песнях і творах, народжаных фантазіяй продкаў.

Усё пералічанае ўлюбёным у сваю зямлю аўтарам – крупінкі вечнага кругазвароту, зярняты, што рыхтуюць сабой новыя ўсходы і тым самым сцвярджаюць, што “жыццё не спыняецца, прадаўжаецца” [14, с. 351]. Несумненна, што і ўсё лепшае з напісанага самім Б. Сачанкам, як і яго непасрэдных творчых і таленавітых прадаўжальнікаў у асобах дачок Галіны Багданавай і Святланы Явар, пляменніка Барыса Пятровіча, праз загадкавую магію слова шмат у чым дадало моцы, істотна ўзбагаціла і яшчэ будзе ўзбагачаць, усяляк спрыяць бясконцаму, нястомна стваральнаму руху колу быцця.

**Літаратура:**

1 Бугаёў, Дз. Вернасць прызванню [Тэкст] / Дз. Бугаёў. – Мн.: Маст. літ., 1977. – 240 с.

2 Мележ, Іван. Жыццё, якое я зведаў [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў: У 10-ці т. / Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв’ю. – Мн.: Маст. літ., 1983. – 686 с. – С. 503 – 506

3 Мележ, Іван. Да чытачоў рамана [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў: У 10-ці т. / Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв’ю. – С. 308 – 310

4 Мележ, Іван. Трохі згадак і думак [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў: У 10-ці т. / Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю. – С. 177 – 188

5 Мележ, Іван. В. Жыдліцкаму [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў у 10-ці т. / Т. 10. Эпісталярная спадчына (1945 – 1976); Летапіс жыцця і творчасці. – Мн.: Маст. літ., 1985. – 496 с. – С. 227 – 228

6 Мележ, Іван. Калі гартаеш старонкі… [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў: У 10-ці т. / Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю. – С. 155 – 158

7 Сачанка, Б. Чужое неба [Тэкст] / Б. Сачанка / Памяць: Аповесці, апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1973. – 304 с. – С. 5 – 194

8 Сачанка, Б. Барвы ранняй восені [Тэкст] / Б. Сачанка / Барвы ранняй восені: Апавяданні, аповесці. – Мн.: Дзярж. выд-ва БССР; Рэдакцыя маст. літ., 1962. – 326 с. – С. 18 – 22

9 Мележ, Іван. Майстэрства – гэта імкненне. *Некалькі заўваг аб простых ісцінах* [Тэкст] / Іван Мележ / Збор твораў: У 10-ці т. / Т. 8. Жыццёвыя клопаты: Артыкулы, эсэ, інтэрв'ю. – С. 324 – 333

10 Сачанка, Б. Зерне і млын [Тэкст] / Б. Сачанка / Выбраныя творы: У 3 т. Т. 2. Вялікі лес: Раман у 3 кн. Кн. 3. Апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1994. – 542 с. – С. 451 – 470

11 Сачанка, Б. Навальніца [Тэкст] / Б. Сачанка / Ваўчыца з Чортавай Ямы: Аповесці, апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1978. – 240 с. – С.

12 Сачанка, Б. Твор, які не магу скончыць [Тэкст] / Б. Сачанка / Горкая радасць вяртання: Аповесці, апавяданні. – Мн.: Маст. літ., 1987. – 352 с. – С. 221 – 232

13 Сачанка, Б. Зямля маіх продкаў (Старонкі з дарожнага дзённіка) [Тэкст] / Б. Сачанка / Зямля маіх продкаў: Апавяданні, нарыс. – Мн.: Выд-ва "Беларусь", 1964. – 255 с. – С. 142 – 255

14 Сачанка, Б. Вечны кругазварот [Тэкст] / Б. Сачанка / Горкая радасць вяртання: Аповесці, апавяданні. – С. 273 – 351

*Барыс САЧАНКА*

# ВЕЧНЫ КРУГАЗВАРОТ

*Прысвячаю ўсім, без чыёй дапамогі гэты твор наўрад ці напісаўся б.*
*Аўтар*

*Збіраць пачнем зярно к зярняці, Былое ў думках ускрашаць...*
*Янка Купала*

*О, край родны, край прыгожы! Мілы кут маіх дзядоў!*
*Якуб Колас*

## Ты і я

Што такое жыццё? Дзеля чаго даецца яно чалавеку, дадзена табе, мне, яму, ёй – наогул усім нам, людзям?

Узыходзіць сонца і заходзіць... Святло – цемра, дзень – ноч... І зноў: святло – цемра, дзень – ноч... Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай... Зеланеюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце, астаюцца быццам голыя... Падае ў зямлю зерне, прарастае, дае ўсходы і новае зерне – новае насенне... Вясна, лета, восень, зіма... І зноў: вясна, лета, восень, зіма... За адным пакаленнем людзей ідзе яшчэ і яшчэ пакаленне... Што значым ты, я, ён, яна, усе мы ў гэтым няспынным і вечным кругазвароце?.. Нараджаемся, жывём, паміраем... Як нараджаліся, жылі і памёрлі многія-многія мільёны, мільярды ўжо да нас. У чым сэнс чалавечага існавання, жыцця, з’яўлення на свет? Дзеля чаго нараджаліся і нараджаемся, што павінны зрабіць, пакінуць нашчадкам, тым, хто прыйдзе на змену, будзе жыць пасля нас? У каго спытаць, хто, хто скажа, навучыць?.. А можа... І не спрабаваць шукаць адказу, не думаць пра тое, чаго пры ўсім сваім жаданні ўсё адно не ўведаеш, не пытаць ні ў кога ні пра што, а жыць, як набяжыць... Жыць, як жылі бацькі, дзяды, прадзеды нашы... А яны... Што ведаем мы пра іх, нашых бацькоў, дзядоў, прадзедаў, пра іхняе жыццё-быццё, іхнія думкі і мары, клопат і дбанне? Ну не пра ўсіх, хто жыў даўным-даўно, дык хоць бы пра свой род, сваіх продкаў?..

## Продкі

Дрэва без каранёў не бывае. Ёсць свае карані і ў кожнага з нас. І ўваходзяць яны ў глыбіню стагоддзяў. Праўда, не заўсёды лёгка іх адшукаць, дакапацца да іх. Не ва ўсіх, далёка не ва ўсіх продкі чым-небудзь вызначыліся, праславіліся. Ды і хто яны такія, каб трапляць на старонкі летапісаў ці ў аналы гісторыі? У большасці гэта былі звычайныя, простыя людзі – асочвалі звяроў, лавілі рыбу, засявалі поле, даглядалі худобу, гадавалі дзяцей, словам, жылі. Жылі ціха, малапрыкметна. Так і паміралі. Тады ж, у

даўнія часы, заўважаліся і апісваліся куды больш важныя асобы і падзеі – князі, цары, іх паходы і бітвы, тое, што адбывалася ў палацах і замках. Калі ж прозвішча якога-небудзь дваровага служкі ці мужыка і трапляла ў летапісы ці ў аналы гісторыі, дык выпадкова, рэдка. Таму пра сваіх продкаў – хто яны, як жылі – мы можам меркаваць хіба па ўспамінах, апавяданнях бацькоў, дзядоў ды тых паданнях, былях, што дайшлі з сівой мінуўшчыны. Нямала пра гэта могуць расказаць і помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры, звычаі і абрады, апісанні мясцін, дзе наканавана было нарадзіцца і жыць і нам і нашым продкам. Сёе-тое можна і дамаляваць, уявіць, а то і ўзнавіць, па абарваных нітачках, кавалачках звязаць у адно цэлае. Напрыклад, па рэштках лясоў і балот, што дзе-нідзе яшчэ захаваліся, можна сказаць, якія лясы і балоты былі ў нас калісьці, колькі рознай дзічыны – мядзведзяў, ласёў, зуброў, аленяў, коз, барсукоў, дзікоў, зайцоў, баброў; птушак – гусей, качак, цецерукоў, рабчыкаў, курапатак, бакасаў, чапляў, галубоў, дзятлаў, ды і ўсяго іншага, чаго і не назавеш, не пералічыш, там вадзілася, пладзілася. А колькі ў рэках, рэчках, азёрах, старыцах, выгарах было – аж кішэла – рыбы, колькі ў барах, дубняках, беразняках, на палянах, прагалах, ды і ў нетрах – зарасніках, гушчарах, імхах, – расло ягад, грыбоў! З гэтага можна заключыць, што продкам нашым – вядома, калі яны не былі лежні, гультаі, абібокі, – галадаць не даводзілася. Ды і зямля падкармлівала, радзіла. Асабліва як лес спаліш, пасееш што-небудзь на пажарышчы. Проса, ячмень, ярыцу, жыта, пшаніцу, грэчку, авёс, гарох... Выпасаў, травы таксама хапала. А ўвосень зямля аж жаўцела пад дубамі, якіх і цяпер месцамі – аж люба-дорага глядзець! – на некалькі кіламетраў адны, як веяныя, – ад жалудоў, пад арэшнікам – ад арэхаў... Так што было і самім што есці, і чым карміць кароў, коней, свіней, авечак... Нашы продкі, мяркуючы па ўсім, што захавалася, дайшло да нас з мінулага, былі нядрэнныя паляўнічыя, рыбакі, паляводы, жывёлаводы, садаводы. І пчаляры. Мёд збіралі цэлымі бочкамі. І які мёд! Не той, што цяпер іншы раз у магазінах ці на рынку прадаюць і які пахне, аж патыхае, буракамі і цукрам, а сапраўдны, сабраны з усяго разнатраўя багатых на меданосныя кветкі лясоў, балот, лугоў, палёў. Прычым частка мёду збіралася ад прыручаных пчол з борцяў – вуллёў-калод, частка ад зусім дзікіх – слепету. Дзікія пчолы, як правіла, раіліся ў дуплах старых дубоў і ліп. І наношвалі па столькі мёду, што забраць і панесці яго за адзін раз аднаму чалавеку было немагчыма. Ды і перагнаць жа рой трэба было ў калодны вулей – прыручыць. А не кожны ж дуб і паваліш – такія таўсценныя яны вымахвалі. Даводзілася па кары, ствале да дупла лезці, высякаць, выпальваць. І не ўдзень гэта рабілася, а ўвечары, уночы, калі ўсе пчолы ў дупле, калі крылы ў іх цяжэюць, далека ляцець нікуды не могуць. Ды і джаляць, кусаюцца менш...

Што хвалявала нашых продкаў, пра што яны думалі, блукаючы, ходзячы па лесе, працуючы на пажарышчах, палянах, у балоце? Ці калі дома, у куранях і хатах, сядзелі ў доўгія цёмныя асеннія вечары і ночы, у зімовыя халады і сцюжы, у асеннюю бездараж і вясновае разводдзе? Мабыць жа, не толькі каб паесці, сям’ю, худобу накарміць, выжыць, не загінуць, не стаць лёгкай здабычай багны ці звера. Ва ўсякім выпадку, калі я бываю дома, там,

дзе нарадзіўся, я падоўгу стаю на могілках – яны ў нас трохі ўбаку ад вёскі, на пагорку, парослым старым і маладым хвойнікам, – і, гледзячы на крыжы, – чорныя, падгнілыя, а некаторыя і паваленыя, амшэлыя, – думаю пра гэта. І разгадку спрабую шукаць у тых песнях, казках, легендах, прыказках і прымаўках, што пакінулі продкі і якія чуў я ў маленстве, на якіх выхоўваўся, рос, як кажуць у нас, на лес гледзячы...

Цяпер модна шукаць свае карані ў сівой мінуўшчыне. Спрабаваў і я гэта рабіць. Аднак, прызнаюся, хутка адмовіўся, дайшоўшы да трэцяга, чацвёртага калена. Во там... абрываецца ўсё, быццам нічога і не было. Нават імя прадзеда, прабабы і то ніхто ўжо не помніць, не можа дакладна назваць. І ў тым таксама свая мудрасць – нарадзіліся, пражылі, што наканавана было ім пражыць, і памёрлі. Гэтак жа, як і ўсё жывое і памірае – трава, дрэвы, птушкі, звяры... Навошта абцяжарваць памяць, усё помніць, перадаваць нашчадкам. Няхай сабе жывуць, не вельмі думаючы пра тое, пра што не варта думаць. А тыя, што памёрлі, у зямлі... Яны пражылі сваё. Зноў жа, не заўсёды так, як хацелася, а як выпадала. Ды і хто мы такія, каб пра нас помнілі, не забывалі?Аралі, сеялі, жалі... Елі, спалі... Шукалі сабе пару, жаніліся... Нарадзілі дзяцей, выгадавалі, паставілі на ногі... Пастарэлі, памёрлі. Як усе, так і мы. Тое, што трэба было перадаць дзецям, чаму навучыць, здаецца, перадалі, навучылі... А яны... Няхай перададуць, што палічаць патрэбным, сваім дзецям, навучаць, каб тыя таксама перадалі тое, навучалі іншых... Дзеля чаго гэта, навошта? Хто ведае. Адно пакаленне людзей прыходзіць, пражывае свае гады, пратупвае адмераныя невядома кім кіламетры і дарогі і адыходзіць. На змену яму нараджаецца новае пакаленне. І так бясконца, вечна... Адны прыходзяць, другія адыходзяць. Пажыў, зрабіў сваё – саступі, дай пажыць іншым... І не маракуй, не сушы галавы, не думай над тым, чаму гэта так, а не інакш... Так на раду напісана... Жывеш – усё табе трэба: зямля і лес, балота і неба, людзі і худоба... Ох, як багата ўсяго трэба чалавеку, пакуль ён жыве! Памрэ ж – нішто не трэба. На той свет з сабою, як бы ні хацеў, нічога не забярэш, не панясеш. Голы прыходзіш на зямлю – голы ў яе і пойдзеш. І не трэба баяцца смерці. Ты ж не адзін такі, што памрэш. Усе, хто нарадзіўся, жыве, не вечныя – прыйдзе час, яны таксама памруць. Як памёрлі ўжо ўсе твае – бацька, маці, дзед, баба. Ды і іншыя, каго ты ведаў і каго не ведаў. А тыя, хто астанецца, будзе жыць, – блізкія, дарагія – таксама ж... Пажывуць, зробяць тое, што ім належыць, наканавана зрабіць, і таксама прыйдуць туды, куды і ты пойдзеш і дзе ўсе тыя, хто жыў да цябе... Мудрасць жыцця якраз не ў тым, каб думаць пра тое, пра што не варта думаць, а дбаць пра надзённае, пра тое, без чаго жыць нельга, што зрабіць трэба сёння, заўтра, і не толькі дзеля сябе аднаго, а дзеля сям'і, дзяцей. Каб не галодныя былі, не голыя – не мёрзлі. Не пасееш – не пажнеш. Рана не ўстанеш – многа не зробіш. Кінеш спераду – знойдзеш ззаду... Глыбей узарэш – болей збярэш... Дома – і салома ядома... Свая хатка – як родная матка... Куды людзі, туды і ты... Улез у дугу – не кажы не магу... Рад не рад, ды мусіш... Гнуткае дрэва вецер не ломіць... Дзе быць, там трэба і рабіць... Хто дбае, той і мае... Свет не без добрых людзей...

Словам, і жыць будзем, і гуляць будзем, а прыйдзе смерць – паміраць будзем...

Філасофія, вядома, няхітрая, але жыццёвая. Яна не дала прапасці роду чалавечаму. Ды і майму роду.

### Вёска

*Дарагая тая хатка, дзе радзіла мяне матка.*

Кажуць, кожны кулік сваё балота хваліць. Хвалю, слаўлю, у меру сіл і здольнасцей, і я тыя мясціны, дзе нарадзіўся і рос, бо ведаю, добра ведаю – няма лепшага раю ад роднага краю. «Калыска мар і сноў маіх дзяціных» – вёска, дзе нараджаліся, жылі і паміралі ўсе мае продкі – дзяды, прадзеды, прашчуры. Называецца яна Вялікі Бор. Ці не праўда – прыгожая назва! І сама вёска таксама прыгожая, асабліва цяпер, калі стала цэнтрам саўгаса, калі побач з драўлянымі пабудовамі забялелі камяніцы, калі навокал на многія гоні асушаны балоты і пралеглі роўныя, як струна, пакрытыя асфальтам дарогі, па якіх можна ехаць, куды каму хочацца, куды заманецца. Я помню Вялікі Бор пасляваенны, даваенны... Хоць і вялікая была наша вёска – каля трохсот двароў і хат, – але даволі глухая. Да раённага цэнтра – Хойнікаў (у нас завуць Хвойнікі) – васемнаццаць кіламетраў, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі – крыху менш. Але справа не ў аддаленасці вёскі ад іншых большых і меншых людскіх паселішчаў. Усе цяжкасці жыцця былі звязаны з тым, што не было трывалай і надзейнай сувязі – добрых дарог, гнілыя, гіблыя балоты адразалі вёску ад свету. Летам і зімою яшчэ нічога, можна было сяк-так хадзіць і ездзіць. А выбрацца з вёскі ці прыехаць у вёску вясною або ўвосень было амаль немагчыма. Як ні шчыравалі велікаборцы, як ні масцілі грэблі, чым бы іх ні засыпалі, ні ўтрамбоўвалі, ні апляталі – усё адно яны распаўзаліся, расплываліся. Менавіта гэта – аддаленасць ад вялікіх людскіх паселішчаў і дрэнныя дарогі – і было галоўнай прычынай, чаму жыццё ў вёсцы як бы тлела, даўняе, спрадвечнае брала верх над новым, панавала. І таму няма ў тым нічога дзіўнага, што з велікаборцаў і цяпер у наваколлі смяюцца, пацяшаюцца, чаго толькі пра іх не расказваюць. Ходзіць пагалоска, быццам недарэкі-велікаборцы... сеялі соль. Надта ж дорага яна каштавала. Ды і прывезці яе ў вёску не заўсёды ўдавалася. І трэба зразумець таго чалавека, якому прыйшло ў галаву: навошта ж мучыцца без солі, калі яе можна пасеяць, каб вырасла, як сеецца, расце і ўсё іншае – жыта, пшаніца, ячмень, проса, каноплі... Ці вось яшчэ адна быль-байка пра недарэкаў-велікаборцаў. Аднаму з іх спатрэбілася ярмо. І велікаборац надумаў вала на дуба цягнуць. Навошта? Ды каб лішняй работы не рабіць, прымераць ярмо.. Вяроўка, на якой цягнулі на дуба вала, не вытрымала цяжару – лопнула, парвалася. Вол упаў і... забіўся. Як жыць без вала? Думаў-думаў велікаборац і надумаў – пасек вала на дробныя кавалачкі ды на полі сваім пасеяў. Усё ж, любое зерне, калі ўкінуць у зямлю, прарастае і ўраджай дае. Чаму ж, калі пасеяць, і з вала не могуць таксама вырасці валяняткі? Тыдзень чакаў, два чакаў – няма ўсходаў. Пайшоў ён на поле, адкапаў адзін з ка-валкаў мяса. А ў ім поўна завязі, аж не злічыць «валянятак». Усе варушацца – жвавыя,

жывыя... «Вось калі вырастуць! Як разбагацею!» А тут, бы на тое, навальніцу нагнала, нанесла на вёску. Перуны білі-малацілі, маланкі кроілі-крамсалі неба, дождж, як з вядра, дзень-ноч ліў. Вада паднялася ў балотах, затапіла поле, змыла разам з зямлёю і «валянятак». Заплакаў у роспачы бядак-велікаборац – такі мог быць «ураджай» і... нічога ніякага. Суседзі сабраліся, пачалі супакойваць, суцяшаць, раіць: «А ты пайдзі па слядах вады, паглядзі, куды «валянятак» змыла. І збяры іх, зноў на полі пасей». Паслухаўся велікаборац, пайшоў па слядах вады і натрапіў на яму. Глыбокую, ажно дна не відаць. Папрасіў ён, каб абкруцілі яго вяроўкаю і апусцілі ў яму. Суседзі рады старацца – памаглі чалавеку. Ды толькі што гэта?.. Ледзь апусцілі, схаваўся чалавек у яе, роў адтуль пачуўся. Ды такі!.. У яме, аказваецца, мядзведзь спаў. Выцягнулі чалавека з ямы, а ў яго галавы няма – адарваў мядзведзь з перапуду. Іншыя людзі адразу б пра ўсё здагадаліся. Іншыя, але не велікаборцы. Велікаборцы ж, сабраўшыся ля чалавека, пачалі пытаць адзін у аднаго, ці была ў таго галава, ці яе ў яго не было... «Дык бачылі ж, была», – казалі адны. «Каб была ў яго галава, то хіба б вала на дуба цягнуў, валянятак сеяў, да мядзведзя ў берлаг лез?» – не згаджаліся другія. Спрачаліся, спрачаліся, але да згоды так і не дайшлі. Жонку паклікалі, пачалі пытаць, была ў яе мужа галава ці не было. Але і яна нічога пэўнага не магла сказаць, бо не ведала – быццам і была ў яе мужа галава, і не было...

Сама веска Вялікі Бор, як і многія іншыя вёскі цяперашняга Хойніцкага раёна, разам з жыхарамі, палямі, лясамі і балотамі некалі належала князям Вішнявецкім, Шуйскім, а потым ужо, праз шлюб па жаночай лініі, трапіла да Прозараў. Хто такія Прозары? У Вялікае княства Літоўскае, куды ўваходзіў у складзе Брагінскай воласці і Вялікі Бор, як расказваюць летапісы, Прозары прыехалі ў шаснаццатым стагоддзі з Масквы. Дык вось – княжна Шуйская, якая пасля смерці брата свайго Ігната завалодала ўсімі землямі, што належалі іхняму роду, выйшла замуж за Язэпа Прозара, тады віцебскага ваяводу (ён меў маёнтак непадалёку ад Дзясны пад назвай Празарокі). У Язэпа Прозара быў сын Караль, а ў княгіні Шуйскай дачка Людвіка. Яны пабраліся, і ў пасаг ім дасталіся хойніцкія землі (тады Хойнікі называліся Хвойнічак), у тым ліку і Вялікі Бор.

Караль Прозар быў чалавек няўрымслівы, дзейны. Атрымаўшы па тым часе нядрэнную адукацыю, ён прымаў актыўны ўдзел у палітычным жыцці дзяржавы – займаў пасаду маршалка трыбунала літоўскага, быў абозным. Як і многія людзі яго асяроддзя, Караль Прозар хваравіта перажыў далучэнне земляў былога Вялікага княства Літоўскага да Расіі і ў 1792 годзе падняў паўстанне сялян супраць царызму. У 1793 ён са сваім сялянскім атрадам прымкнуў да паўстанцаў Тадэвуша Касцюшкі. Па тым часе немалую суму – каля мільёна злотых – ахвяраваў Караль Прозар на мэты паўстання. Тадэвуш Касцюшка ацаніў патрыятызм Караля Прозара – прызначыў яго давераным асобай пры ўсіх сваіх войсках у Вялікім княстве Літоўскім. Як вядома, паўстанне Тадэвуша Касцюшкі было падаўлена. Караль Прозар эміграваў у Вену, потым перабраўся ў Венецыю.

У 1797 годзе многія сябры і аднадумцы Караля Прозара, асуджаныя і высланыя ў свой час за ўдзел у паўстанні ў Сібір, вярнуліся на радзіму. Атрымаў амністыю і ён. Аднак вяртацца ў свой маёнтак Хвойнічак (Хойнікі), дзе гаспадарыла яго жонка Людвіка, Караль не спяшаўся. Завітаў сюды ён толькі ў 1802 годзе.

Мяцежны дух Караля Прозара прагнуў дзейнасці. Астаючыся адным з кіраўнікоў польскіх тайных таварыстваў, што былі раскіданы па ўсіх краінах Еўропы, ён праз члена Паўднёвага таварыства дзекабрыстаў Бястужава-Руміна пачаў весці перамовы аб заключэнні пагаднення пра сумесную барацьбу рускіх і польскіх рэвалюцыянераў супраць царскага самаўладдзя. Як вядома, выступленне дзекабрыстаў на Сенацкай плошчы ў Санкт-Пецярбургу закончылася паражэннем і арыштамі. У сваіх паказаннях дзекабрысты называлі Караля Прозара адным з галоўных дзеячаў польскіх тайных таварыстваў. Мікалай Першы аддаў загад арыштаваць Караля Прозара...

У ліпені 1826 года Караля Прозара пад вартай прывезлі ў Мінск. Потым, патрымаўшы некаторы час у астрогу, накіравалі ў Варшаву, дзе таксама запраторылі за турэмныя краты. Следства і суд над Каралем Прозарам цягнуліся доўга. Караль прызнаваў свой удзел у тайных таварыствах масонаў, але сваю сувязь з дзекабрыстамі адмаўляў. Тым не менш яго перавезлі ў Пецярбург і кінулі ў Петрапаўлаўскую крэпасць.

Жонка Караля Прозара Людвіка рабіла ўсё, што было ў яе сілах, каб выратаваць мужа. Думаючы, што ён у Варшаве, яна, сабраўшы грошай, наважылася паехаць туды. Але ў Брэсце Людвіку затрымалі і ехаць далей не пусцілі. Дарэмна яна пасылала з Брэста адно за адным слёзныя прашэнні памілаваць мужа намесніку цара ў Польшчы вялікаму князю Канстанціну Паўлавічу. Ні на адзін ліст няшчаснай жанчыне князь нават не адказаў. Там, у Брэсце, у лютым 1826 года, Людвіка і памёрла. Нябожчыцу перавезлі ў яе родны маёнтак і пахавалі ва уніяцкім кляштары ў Вялікім Боры.

Караль Прозар у гэты самы час адбываў пакаранне ў адным з казематаў Петрапаўлаўскай крэпасці. У маі 1829 года яго нарэшце памілавалі, дазволілі вярнуцца ў прыдбаны ў якасці пасагу маёнтак. Даведаўшыся пра смерць жонкі, ён справіў жалобу і труну з целам Людвікі перавёз у Хвойнічак (Хойнікі) і там пахаваў у сямейным склепе на могілках. Тады ж была складзена і эпітафія ў гонар нябожчыцы, у якой Караль з глыбокім смуткам апісваў сваю цяжкую страту: «Турэмны і тыранскі лёс, які ўтрымліваў мяне ў жорсткай няволі за інтарэсы радзімы, не дазволіў мне раней аддаць табе апошнюю пашану...» Пергамент з эпітафіяй, падпісаны Каралем Прозарам, яго сынамі і ўнукамі, разам з іншымі каштоўнасцямі быў знойдзены зусім нядаўна, калі пашыраліся гарадскія могілкі ў Хойніках, і перададзены Дзяржаўнаму музею БССР...

Караль Прозар памёр у 1841 годзе, калі яму споўнілася восемдзесят два гады. Хойніцкія землі, у іх ліку Вялікі Бор, перайшлі ва ўладанне яго сына Уладзіслава, потым да Мечыслава, а ў 1882 годзе сын Мечыслава Канстанцін

прадаў іх арлоўскім гандлярам Міхаілу Аўрамаву і Гаўрылу Курындзіну. У Міхаіла Аўрамава было чатыры сыны – Мітрафан, Васіль, Сямён і Андрэй. Яны неўзабаве і завалодалі ўсім маёнткам, што належаў некалі Прозарам...

Аўрамавы былі людзьмі, што выраслі ў новых, ужо капіталістычных, умовах Расіі. Энергічныя, дзелавыя, яны хутка аценілі багацце сваіх толькі што набытых уладанняў. А багаццем гэтым быў, вядома, перш за ўсё лес, попыт на які ў Расіі, ды і ва ўсёй Еўропе, у сувязі з будаўніцтвам чыгунак, заводаў і фабрык, імкліва рос. Лесапілкі і заводы па вытворчасці шпал, дошак, абадоў, а потым, з пачаткам першай сусветнай вайны, і фур, перадкоў для гармат узнікалі тут і там на ўсіх абсягах Еўропы. Адзін такі завод узнік і непадалёку ад Вялікага Бора. Да яго, таго завода, неўзабаве праклалі чыгуначную каляю...

І Вялікі Бор як бы прачнуўся ад векавога сну. Новыя, свежыя людзі прынеслі сюды і новыя погляды на жыццё. Асабліва «сіцылісты», якіх высылалі сюды з Пецярбурга, Масквы і іншых прамысловых цэнтраў, каб працавалі на будаўніцтве чыгункі і на заводзе Аўрамава. Бунты, што ўзнікалі ў заводскім пасёлку – яго звалі адны Гудоў, другія – Аўрамаўка, – перакідваліся і ў Вялікі Бор, які таксама рос, расшыраўся за кошт дзялянак ад вынішчэння лесу і асушэння балот. Напярэдадні Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Вялікім Боры налічвалася ўжо каля сотні двароў.

Вёска даволі імкліва расла і потым, асабліва пасля таго, як адбылася рэвалюцыя, прагналі крывасмокаў-паноў, у тым ліку і Аўрамавых. Рост гэты не спыніла грамадзянская вайна, нямецкая і польская акупацыі, булак-балахоўскія і іншыя банды, якія не міналі Вялікага Бору, вяршылі крывавы суд над яго жыхарамі. Людзі нібы выпрасталіся, распрамілі плечы – будавалі новыя хаты і хлявы, церабілі маладняк, выдзіралі пні на дзялянках, асушалі балоты, капалі канавы, аплятаці іх, каб не заплывалі, лазою... Калі пачалася калектывізацыя, у вёсцы арганізаваўся калгас «Чырвоны Бор»...

Аднак пажыць так, як хацелася, велікаборцам не далі. Пачалася Вялікая Айчынная вайна, і ўсе мужчыны, хто мог насіць зброю, мог ваяваць, пайшлі на фронт. Затрымаць ворага не ўдалося. Ён імкліва наступаў і неўзабаве заняў разам з іншымі гарадамі і вёскамі і Вялікі Бор. З першых дзён акупацыі ў навакольных лясах узнік партызанскі атрад. Велікаборцы памагалі партызанам усім, чым толькі можна было, – хавалі, карміл і, лячылі. Некалькі разоў акупанты спрабавалі пералавіць партызан – знішчыць атрад. Аднак гэта не ўдалося. І тады яны надумалі спапяліць Вялікі Бор... Я добра помню той чэрвеньскі дзень. Прыехалі карнікі ў вёску на досвітку, калі ўсе яшчэ спалі. Акружылі яе з усіх бакоў і пачалі выганяць людзей з хат. Старым, нямоглым і хворым загадалі сабрацца да калгаснай стайні, маўляў, іх забяруць на машыны... (Потым усіх іх – 265 чалавек – спалілі жывых.) Астатнім далі гадзіну на зборы. На пытанне, куды і чаго збірацца, сказалі: тут неўзабаве пачнуцца ваенныя дзеянні і нямецкае камандаванне не хоча, каб былі ахвяры сярод цывільнага насельніцтва. Калі праз гадзіну людзі сабраліся да сельсавета, у іх пазабіралі кароў, коней, свіней, авечак, ды і ўсю астатнюю

жыўнасць, і, акружыўшы шчыльнай сцяною, карнікі – з аўтаматамі, сабакамі-ваўкадавамі – пагналі людзей. Куды – ніхто не ведаў...

Я, тады сямігадовы хлапчук, таксама ішоў разам з усімі ў тым нявольным, панурым натоўпе. Помню, як на грэблі па дарозе ў Гудоў (на станцыю Аўрамаўскую) раптам нехта ўскрыкнуў: «Сяло наша гарыць!..» І натоўп раптоўна спыніўся, бы ў зямлю ўрос, усе пачалі азірацца, галасіць... Карнікі спрабавалі зрушыць з месца людзей, пагражалі, таўхалі, білі аўтаматамі, стралялі паўзверх галоў. Але гэта не памагло. І тады карнікі спусцілі са шворак ваўкадаваў-сабак...

Шмат бяды і гора давялося перажыць велікаборцам. І тым, хто ўцёк, астаўся з партызанамі ў лесе, і тым, каго пагналі з роднага дому, як потым стала вядома, на чужыну, на катаргу ў Нямеччыну. Многія-многія не дачакаліся вызвалення, канца вайны – загінулі. Тыя ж, хто ацалеў, выжыў у ліхалецце, – павярталіся назад, у сваю вёску. І я не ведаю, не чуў, каб хто-небудзь пашкадаваў. Бо новая веска, што вырасла, паўстала на папялішчах, ані не горшая за старую. Цяпер гэта цэнтр аднаго з буйных саўгасаў, які будуецца на асушаных, меліяраваных землях. Новае жыццё прыйшло на колішнія гіблыя балоты і ў непралазныя лясы. І тым, хто жыве цяпер у Вялікім Боры, можна пажадаць толькі хіба шчасця. Шчасця і ўдач, якіх так не хапала тым жыхарам вёскі, што жылі тут некалі, раней, даўней.

## Край

*Што ні край – то і свой абычай.*

Гаворачы пра сябе, усіх нас, людзей, пра продкаў і сваю вёску, я не сказаў, дзе мае родныя мясціны. А яны, ды некаторыя, пэўна, гэта і так ведаюць, ужо здагадваюцца, на Палессі, ва ўсходняй яго частцы, у міжрэччы Прыпяці і Дняпра. Што гэта за край – цяпер кожны можа ўбачыць, абы, як кажуць, ахвота, жаданне. Аўтобусы, цягнікі туды ходзяць, нават самалёты лятаюць. Так што ўзяў білет, сеў – хочаш на цягнік, хочаш на аўтобус, хочаш на самалёт – і праз некалькі гадзін язды ці лёту там. Гэта не ранейшыя часы, калі дабрацца на Палессе можна было хіба толькі на конях, на валах. Ды і то не ўсюды і не заўсёды. Месцамі трэба было перасаджвацца ў лодку, у човен, а найчасцей і зусім прабірацца пеша – «на сваіх дваіх» – па грэблях, кладках, ледзь прыкметных, у заглушах і непралазях, сцежках. Гэта – у лепшую пару: улетку, зімою. Вясною ж, у разводдзе, ці ў асеннюю бездараж, калі па тыдні, а то і па два лілі дажджы і балоты, рэкі, якіх тут лічы не лічы – не злічыш, – выходзілі з берагоў і затаплялі навокал усё, нават, здаралася, вёскі, на Палессе ніхто і не думаў патыкацца. Самі жыхары гэтага краю – палешукі – і тыя сядзелі дома, у сваіх хатах і вёсках, – нікуды не хадзілі, не ездзілі. Адарванасць ад знешняга свету надта ж адбілася на жыцці краю. Кожная вёска – гэта своеасаблівая дзяржава, з усім сваім – моваю, звычаямі, норавамі і побытам. Ды дзе вёска – кожны гаспадар, кожная гаспадыня імкнуліся быць

ва ўсім незалежнымі, самастойнымі, абыходзіцца без чыёй бы і якой бы там ні было дапамогі. Трэба былі саха, барана, плуг, серп, калёсы, сані, сякера, граблі, піла, каса, лыжка, міска, гаршчок, вядро, дзежка, бочка – рабілі, трэба былі хамут, церассядзёлак, боты, світка, кажух, шапка, сарочка, штаны, рукавіцы – шылі, трэба былі вяроўка, атосы, лейцы, аборы – вілі, палатно, абрус, ручнік, коўдра, посцілка – ткалі... Самі, кожны сабе будавалі хаты, хлявы, гумны, ёўні, лазні, самі і лячыліся, калі каму-небудзь нядобрылася, нядужылася, навальвалася напасць – хвароба. На Палессі надта ж развіты былі рознага роду саматужніцтва, промыслы, рамёствы – цяслярства, ганчарства, бандарства, кавальства, ткацтва, рымарства... Арыгінальна, па-свойму пракладваліся дарогі, грэблі, масты, кладкі. Па-свойму, залежна ад умоў, развівалася і паляводства, жывёлагадоўля, агародніцтва, садаводства... Лясы і балоты, што акружалі палешука з усіх бакоў з маленства да старасці, пакідалі свой адбітак на ўсім. Тут больш, чым дзе, немалое месца ў жыцці чалавека займалі рыбалоўства, паляванне, бортніцтва. Не магло, вядома, гэта не адбіцца і на характары людзей, што насялялі і насяляюць гэты край. Свае сляды ўсё гэта пакінула на ўсім, але асабліва на звычаях – нікім не пісаным *законе*, вуснай народнай творчасці. Менавіта на гэта – на асаблівасць, адметнасць, непаўторнасць літаральна ўсяго ўказвалі і ўказваюць тыя, хто займаўся вывучэннем Палесся, – А. Кіркор, П. Шпілеўскі, М. Доўнар-Запольскі, А. Сержпутоўскі, А. Сербаў, Ч. Пяткевіч, К. Машынскі... Ды і ў наш, савецкі час пра Палессе выдадзены многія грунтоўныя працы, у якіх даволі падрабязна апісана мінулае і сённяшняе краю, яго прырода, рэкі, гарады, вёскі, духоўная і матэрыяльная культура жыхароў. І ўсё ж апісана і вывучана далёка не ўсё. І не так, як хацелася б, як таго яно заслугоўвае. Ды і само ж Палессе – неаднароднае. Тое, што характэрна для адной яго часткі, зусім неабавязковае для другой. Тут, як кажуць, што ні край – то і свой абыча; ´й. Вось чаму цікавасць да Палесся не падае, а расце. Гэта і не дзіўна: новае жыццё, што прыйшло сюды, асабліва з асушэннем і меліярацыяй вялізных, проста бяскрайніх прастораў балот і лясоў, будаўніцтвам саўгасаў, дарог, заводаў і фабрык, з імклівым ростам гарадоў, прывяло не толькі да небывалых эканамічных, сацыяльных, але і да значных дэмаграфічных, экалагічных змен, знікнення многага, што вызначала ў мінулым самабытнасць, своеасаблівасць, адметнасць краю і тых, хто яго насяляў ды і насяляе. У «Чырвоную кнігу» заносяцца ўсё новыя і новыя віды звяроў, птушак, траў... А знікаюць жа проста на нашых вачах не толькі звяры, птушкі, травы, а і многія абрады, звычаі, прафесіі, прылады працы, святы, песні, прымаўкі, танцы, казкі... Палессе перастае быць тым Палессем, якім яно было некалі, вякамі. І таму, каб сёе-тое нагадаць, узнавіць, як і чым жылі продкі, пакінуць у памяці людзей, я і ўзяўся пісаць гэты твор. І пачаць яго мне хочацца з таго, з чаго і пачынаецца жыццё кажнага, хто прыходзіў і прыходзіць на гэты свет, – з нараджэння.

## Нараджэнне

*– Дай бог вам і налета ета!*
*З пажаданняў-зычэнняў*

Усяму, перш чым быць, жыць, трэба нарадзіцца. І чалавеку таксама. Нашы продкі не спалі вельмі ў шапку, нараджалі дзяцей – «што гадок, то і ядок». І было іх, гэтых едакоў, у кожнай хаце па дзесяць-пятнаццаць, а то і больш. «Адно дзіця – не дзіця, двое дзяцей – лічы, без дзяцей; дзіця – калі дзяцей трое, чацвёра». А колькі іх, бедных, не выжывала, памірала, ледзь пабачыўшы свет! Здаралася, адна якая-небудзь хвароба ўсю сям'ю, а то і некалькі, за які тыдзень выкотвала, у магілу клала. Тым не менш прыбаўлення ў сям'і – кожнага новага дзіцяці – чакалі. Звычайна імкнуліся падгадаць, каб дзіця нарадзілася не ўлетку ці вясною, калі работы як ні рабі – не пераробіш, тым больш не ў жніво, калі без жанчыны проста не абысціся. Найлепшая пара для родаў – гэта глыбокая восень ці пачатак зімы. Тады, да вясны, лета, да таго, як сеяць і садзіць, грады і лён палоць, сена грэбці, жыта, ячмень жаць, глядзіш, дзіця і падрасце, можна на бабу ці дзяцей большанькіх яго дома пакідаць. Але ўсяго ніколі не разлічыш, не прадбачыш. Бывала, і даволі часта, што дзеці нараджаліся і вясною, і ўлетку, і не дома, у пасцелі, а ў полі ці на лузе, а то і на падводзе, калі тая ехала з вёскі ці ў вёску. Яшчэ да таго, як нарадзіць дзіця, цяжарная жанчына – у нашай вёсцы казалі «грубая» – акружалася ўвагай, клопатам. Адмовіць у чым-небудзь цяжарнай жанчыне – гэта ўзяць на душу грэх. Ёй не дазвалялася лазіць на гарышча і вышкі, не дазвалялася бяліць печ і хату, падымаць поўныя чыгуны і вёдры. Аберагалася яна і ад лішніх хваляванняў – няможна было глядзець на пажар, бачыць нябожчыка, калеку, п'янага, з кім бы там ні было сварыцца. Не дазвалялася і шыць – «зашыеш дзіцяці вочы», вязаць – «роды завяжаш, цяжкія будуць». Не дазвалялася і рыхтаваць дзіцяці, не нарадзіўшы яго, загадзя пялёнак, сарочак. Само набліжэнне родаў таксама ўтойвалася – «каб не сурочыць». Усе, хто быў дома, пад час родаў выганяліся з хаты, асабліва мужчыны. Роды прымала, як правіла, бабка-павітуха. Яна і абмывала, купала, спавівала дзіця. І парадзіху даглядала, пакуль тая сама не ўставала з пасцелі. Варыла ёй яду, мяла хату, прыбірала. У кожнай сям'і, калі быў ужо хлопчык – работнік, чакалі дзяўчынку – ёсць памочнік бацьку, трэба памочніца і маці. Калі была дзяўчынка, чакалі, вядома, хлопчыка. Першынцу калыску ні ў кога не бралі, не прыстасоўвалі старой, яна павінна была быць новая, і зрабіць яе павінен быў сам бацька, бо бытавала павер'е, што калі калыску зробіць другі чалавек, то дзіця не будзе шанаваць бацькі. Астатнія ўсе дзеці павінны былі гадавацца, расці ў адной і той жа калысцы, тады яны, лічылася, будуць любіць, шанаваць адно аднаго, жыць у поўнай згодзе. Праз дзень-два пасля родаў парадзіху хадзілі праведваць – сваякі, суседкі. Як правіла, напачатку адны жанчыны. Кожная жанчына ішла ў адведкі не з голымі рукамі, а нешта з сабою брала, нясла. То глячык мёду (у парадзіхі яго магло не быць, а мёд быў найпершымі лекамі пры прастудзе, ды і іншых хваробах), то яшчэ што-небудзь, чаго магло

не быць у той хаце, дзе з’явілася на свет малое. У адведкі хадзілі жанчыны па адной ці, змовіўшыся, удзвюх-трох. Каб і з парадзіхай па душах пагаварыць, даведацца, як прайшлі роды, і на дзіця паглядзець, ці дужанькае, здаровенькае яно. Ды і наконт радзін умовіцца, калі яны мяркуюцца быць і хто на іх будзе запрошаны. О, вы не ведаеце, што такое радзіны? Гэта цэлы абрад. Чаго толькі не было на радзінах, калі збіраліся мужчыны і жанчыны ў хату, дзе, нарадзілася дзіця. Была там і шкварка і чарка. І, вядома ж, жарты, песні – у іх славіліся і маці, якая, хоць і ў пакутах, а нарадзіла чалавека – сабе памочніцу, ці памочніка бацьку, і сам бацька:

Дзякуй таму кавалю,
Што йздзелаў нам гульню!
Ён і малаточкам не стукаў,
Ён і ў ручачкі не хукаў, –
Без молата, без кавадла –
І дзіцятка вельмі ладна.

На радзінах дамаўляліся і наконт хрысцін – калі яны будуць, выбіралі, хто будзе кумам і кумой – хросным бацькам і хроснай маці. Бо на хрысціны ж так, з голымі рукамі, таксама не пойдзеш. Бабе-павітусе трэба зварыць боршч, узвар з сушаных груш і яблык і кашу, а ўсім гасцям трэба нешта даць, палажыць «на бабіну кашу» – выкупіць. Ды і гаспадару, гаспадыні трэба аддзячыць бабу-павітуху, што пабабіла дзіця, – прыгатаваць, а то і купіць падарункі... Хрысціны, як правіла, ператвараліся ў вялікую сямейную ўрачыстасць, свята, на якое запрашаліся не толькі сваякі, а і суседзі, суседкі. І свята гэтае было адно з самых вясёлых. Асабліва даймалі сваімі жартамі і досціпамі куму і кума. Бо і маладыя ж яны былі, сядзелі побач, і дазвалялася ім шаптацца, абдымацца, цалавацца. Лічылася, што калі кум з кумою за сталом паводзяць сябе непрымушана, весела, то і ў дзіцяці будзе такое ж вясёлае, непрымушанае жыццё. І кум з кумою, вядома, стараліся, шчыравалі. «Кума звяла кума з вума», «Хто кумы не цалаваў, той і радасці не знаў», «То не кума, што з кумам не піла».

Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
– Шчыпі, кума, ягадкі,
Каторыя салодкі,
Каторыя салодкі –
То для кумы-малодкі,
А каторыя горкі –
То для маёй жонкі.

Праўда, на тым, на словах, «вольнасці» кумы з кумам і канчаліся бо ўсё астатняе, што магло ўзнікнуць, быць далей, лічылася вялікім рэхам, і яго рэдка хто асмельваўся пераступаць.

Баба-павітуха таксама была ў цэнтры ўвагі. Яе хвалілі, усяляк задобрывалі, – спатрэбіцца ж магла яна ў любы час кожнаму, хто быў за сталом.

Сядзіць баба на куце,
Як галубка на градзе...

Кульмінацыяй хрысцін была купля-продаж «бабінай кашы». За права завалодаць «бабінай кашай» ішло доўгае і надта ж вясёлае змаганне-гандаль – своеасаблівы аўкцыён – хто больш дасць, заплаціць. З песнямі, жартамі, прыпеўкамі, прыгаворкамі. Перамагаў той, хто больш даваў дзіцяці «на зуб» – плаціў. Ён і браў у свае рукі гліняны гаршчок з кашай, разбіваў яго і частаваў гасцей.

Вядома, увесь час не забываліся, усяляк падхвальваліся і гаспадары, тыя, хто і дзіця нарадзіў, і поўную хату гасцей сабраў, і частаваў усім, чым мог.

– Дай бог вам і налета ета!.. – зычылі ў сваіх пажаданнях-тостах госці. – Гаспадыні – заўсёды поўную талерачку, гаспадару – добрую гарэлачку, доні – долю шчасную, жытку красную...

Канчаліся хрысціны яшчэ больш весела – на добрым падпітку мужчыны ў знак удзячнасці садзілі бабку-павітуху на барану і, упрогшыся, вазілі з песнямі, гікам-крыкам, смехам-рогатам па вёсцы...

## Імя

*Кожнаму сваё дзіця міла*

Лёгка нарадзіць, ды нялёгка ўскарміць. І нашы продкі ведалі гэта не горш за нас. Таму і шукалі розныя спосабы, каб памагчы самім сабе. Так, напрыклад, першую кашульку свайму дзіцяці маці імкнулася шыць не з новага палатна, а са старызны і так, каб у ёй не было ні каўнерыка, ні рубца з наваротам – тады, лічылася, што дзіця будзе расці слухмянае і ласкавае. Немалаважнае значэнне мела выбраць і належнае імя. Не дзень і не два, а, здаралася, і тыдзень, месяц думалі, абмяркоўвалі бацькі, а то і ўся сям’я, сваякі, як назваць сына ці дачку, будучага гаспадара ці гаспадыню. Бралася пад увагу многае. І каб імя запаміналася, гучала, і каб не чужое яно было, а ўжо асвоенае родам – па бацькавай ці па матчынай лініі. Успаміналіся тыя, хто меў ужо такое імя са сваякоў і наогул у вёсцы. Калі чалавек быў нядобры ці жыў не так, як трэба было жыць, імя бракавалася, не называлі больш такім імем чалавека. Наадварот, калі чалавек быў паважаны, ішла пра яго хвала – яго імем называлі многія сваіх дзяцей. Часта імя давалася па дзеду, бабе. Самымі папулярнымі імёнамі ў нашых продкаў былі Іван, Мікалай, Піліп, Васіль, Раман, Кузьма, Андрэй, Рыгор, Алесь, Пятро, Павел... Насця, Вера,

Надзя, Дуня, Ганна, Хадора, Клаўдзя... Імя аб’яўлялася перад хрысцінамі, запісвалася ў царкве...

І дзіця, займеўшы імя, паступова прывыкала да яго. Ва ўсякім выпадку, усе імкнуліся, каб яно ведала сваё імя, не забывала, помніла. Кожнае імя маці і бацька вымаўлялі па-асабліваму, на свой лад, рабілі яго памяншальным, больш ласкавым: Іванка, Іванька, Ванюша... Мікалайка, Міколка, Коля... Піліпка, Піліпок... Насцечка, Верачка, Надзечка... Малых дзяцей у сям’і любілі. Лепшая яда, цяплейшая адзежа, самыя добрыя, ласкавыя словы – ім. Не дазвалялася да году дзяцей стрыгчы, абразаць ім пазногці (трэба было адкусваць), паказваць люстэрка, фатаграфаваць. Спала дзіця ў лёгкай лубяной калысцы, якая, прыкрытая палатняным параванам (каб ветрам не задзімала і нішто не ўпала на дзіця, не спалохала, калі яно спіць), падвешвалася на крук, паблізу ложка, – уночы, калі дзіця прачнецца, каб можна было, не ўстаючы з пасцелі, пакалыхаць яго нагою ці рукою. Дзіця яшчэ не разумела амаль нічога, а з ім размаўлялі так, быццам яно разумела ўсё, – ласкавенька, як ні з кім, усміхаючыся, вымаўляючы на свой лад кожнае слова. І песні спявалі. Ды як, як – саму душу ўкладвалі. І што цікава – дзеці любілі песні, змаўкалі. Ці, наадварот, плакалі, калі тыя, хто спяваў, раптам сціхалі, пераставалі спяваць. У песнях-калыханках чаго толькі не гаварылася! І доля, будучае маляваліся і прарочыліся, выказваліся самыя запаветныя мары, надзеі, жаданні. І кожная песня-калыханка надта лёгка запаміналася:

Не хадзі, каток, па хаце,
Не будзі майго дзіцяці.
Мая дзетка будзе спаць,
А я буду калыхаць.
А-а, а-а...

Падрастала дзіця, яго адымалі ад грудзей. Быў пры гэтым момант, калі можна даведацца, кім дзіця стане. Перад ім клалі грошы, пугу і кніжку. Калі дзіця брала грошы – лічылася, будзе багата жыць; калі брала пугу – будзе слухмянае, гаспадарлівае; калі брала кніжку – будзе разумнае, з навукі хлеб есці... Дзіця, вядома, вучылі хадзіць, гаварыць. Зноў жа – чаго ні прыдумвалі, на якія хітрыкі і заахвочванні ні ішлі, каб натхніць, падтрымаць, каб хутчэй стала на свае ногі, загаварыла! І вадзілі за ручкі, і рабілі розныя хадункі, і паказвалі тое, што дзіця хацела, – прасілі да сябе, маўляў, не бойся, ідзі. Пацешкі, скорагаворкі сыпаліся як з мяшка – дзіця ж павінна было і кемлівым быць, і правільна слова вымаўляць, і не картавіць, не шапялявіць... І, вядома ж, расказвалі казкі, легенды, спявалі песні. І так прывучалі дзіця да жывога слова, што яно, не ўмеючы яшчэ размаўляць, не заўсёды ўлоўліваючы сэнс, ляжала ў калысцы і перад сном «гуло» – спявала на свой лад чутыя ад маці і бацькі песні.

Станавілася дзіця на ногі, пачынала хадзіць – і адразу ж імкнуліся, рабілі ўсё магчымае, каб не дармаедам, гультаём яно расло, а карысным,

патрэбным чалавекам, такім жа сем'янінам, як і ўсе. «Падай дзеду лыжку», «Выгань з хаты курэй». «Ката накармі». «Лучыну з печы скінь». А то і абавязкі пэўныя ўскладалі, асабліва на дзяўчынак. «Міскі, лыжкі памый». «Бульбы налупі». «Хату падмяці». «Дзіця закалышы».

І дзеці змалку прывыкалі да работы, да ўмення, спрыту яе рабіць, адчуваць у ёй толк і смак, а то і патрэбу.

## Пазнанне свету

*Авохці мне, чаго там толькі не было!*
*З казкі*

Пазнанне свету ў кожнага чалавека пачынаецца з пазнавання маці, бацькі, бабы, дзеда, хаты, тых рэчаў, што яго акружаюць. І ў дзяцей нашых продкаў пазнанне свету пачыналася, вядома ж, з таго самага. З усведамлення, хто такія маці, бацька, баба, дзед, пазнанне ішло далей – да яды, якою кармілі: малака, кашкі, сусла (яго жавалі з мёду і хлеба), смятаны, сала, мяса... Потым, поўзаючы па падлозе і стаўшы на свае ногі, дзіця вывучала, абследавала куточак за куточкам хату. Найперш, вядома, печ. Печ у паляшуцкай хаце была заўсёды вялікая – з чараном, на ім добра было ляжаць, грэцца; шыйкаю – там стаялі начоўкі, розныя рэшаты, сіты, і адтуль заўсёды можна было, не злазячы, схапіць які-небудзь прысмак проста з рук у маці, што завіхалася ля агню, варыла есці, – шкварку, блінец ці дранік; прыпечкам, стаўшы на які лёгка можна залезці на чарано ці з яго злезці; пячуркамі – у іх «млелі» ў цяпле анучы і рукавіцы; комінкам – на ім палілі, калі было цёмна, лучыну; самой печчу, у якой гарэлі дровы і варылася яда і куды на под, каб пёкся, садзілі на драўлянай, пасыпанай белай мукою, лапаце, хлеб, або, вымеўшы под памялом і заслаўшы саломаю, ставілі толькі што прынесеныя з лесу такія прыгожыя, ядраныя, свежыя грыбы; загнеткай – туды выграбалі жар; падпеччам – у яго ў лютыя маразы заганялі, каб не памёрзлі, курэй... На самой печы, на чаране, таксама заўсёды нешта стаяла, ляжала – узімку падыходзіла ў дзяжы цеста ці кулага; прасыхалі лучыны на падпал, солад – яго малолі на жорнах і ўчынялі самагонку; проса, жыта, ячмень – перад тым, як засыпаць іх у сусек, бочкі ці шчані, зерне датрымлівалі да пэўнай кандыцыі, каб не сапрэла; ягады, грушы, яблыкі – на ўзвар зімою; грыбы – гэта ўжо не на чаране, а нанізаныя на суравыя ніткі на шастку; на шастку з восені да самай вясны віселі, сплеценыя ў пляцёнкі ці звязаныя ў пучкі, галоўкі цыбулі, часнаку і маку; там жа, у мяшэчках, начэпленых на крукі, шамацелі, ледзь дакранiся рукою, у торбах і торбачках арэхі, гарбузікі, сланечнікавыя семкі... На печы, амаль не злазячы, у цяпле драмалі, спалі дзед і кот... Там жа сушылася і адзенне, калі яно намакала ў дождж альбо калі, паехаўшы па дровы ці сена, хто-небудзь правальваўся ў балота, у багну... О, печ ніколі не пуставала! Седзячы ці лежачы на чаране, бывала, чаго там толькі не пачуеш ад дзеда! І пра чарцей, што распладзіліся ўсюды, проста праходу ад іх нідзе нікому няма, і пра розных злодзеяў, разбойнікаў, што

нападаюць на людзей сумленных і рабуюць, абіраюць да ніткі, а то і калечаць, забіваюць, і пра звяроў, птушак, што, здараецца, размаўляюць чалавечай мовай, і пра розныя страхі. Іншы раз як наслухаешся – з печы баішся злезці. Так і здаецца – адусюль, з кожнага кута, глядзяць на цябе рагатыя, ашчэраныя морды...

З печы, асабліва ўдзень, калі відно, добра аглядаецца і ўся хата; шырокія лавы паўз сцены – на іх сядзяць ці спяць чужыя, незнаёмыя людзі, што, здараецца, заходзяць у хату; стол, засланы белым ільняным абрусам, – на ім заўсёды ляжыць бохан хлеба і каля яго нож – захочаш есці, падбяжы да стала, адрэж скібку ці папрасі, каб табе адрэзалі; светлы кут, дзе, занавешаныя ручнікамі, вісяць, намаляваныя рознымі фарбамі, абразы з богам – бацькам, богам – сынам, богам – духам святым і маці прачыстай; ложкі, засланыя клятчастымі посцілкамі і коўдрамі, з гарамі падушак у вышываных навалачках; куфар-скрыня – у ім ляжаць матчыны ўборы і наогул уся святочная, чыстая адзежа; палок – там, калі цяплее на дварэ, іншы раз начуе, спіць дзед; услоны – на іх сядзяць усе сямейнікі, ды і чужыя, калі снедаюць, абедаюць, вячэраюць; добра відаць і падвешаная на крук да бэлькі абцягнутая палосамі палатна лубяная калыска, у якой калыхалі цябе, а цяпер вось калышуць ужо новае дзіця, твайго меншага брацікa, сястрычку... З печы, але гэта ўжо з шыйкі, можна ўбачыць і яшчэ адзін кут. Там, каб было бліжэй да печы, на падхваце ў маці, паліца – на ёй купленыя ў ганчароў вылепленыя з гліны міскі, гладышкі, макотры, збаны, выразаныя з сухой грушы талеркі і лыжкі; там жа, толькі ніжэй, берасцяная сальніца, чорныя ад сажы чыгуны; варэйкі; на ўслоне – заўсёды мокрыя драўляныя вёдры, карэц, якім ачэрпваюць ваду – і мыюцца, п’юць. Яшчэ ніжэй, пад услонам, – розныя дзежачкі, бочачкі, цэбар, у які ходзяць, каб не прастужвацца зімою, уночы па пільнай патрэбе і які шторанак выносіцца на дзень з хаты; ражка – у ёй таўкуць свінням бульбу; начоўкі – у іх сячэцца тым жа свінням секачом зелле, найчасцей бабоўнік; запарнік – у ім за парваецца карове парэзаная салома; чарапкі – бітыя варэйкі, чыгуны, гаршкі, гладышы – там на корм курам, качкам, гусям featured рознае зерне – проса, ячмень, жыта... Ёсць у кожнай хаце і чорны кут – там вілы, ёмка (чапяла), кавеня (качарга), венік, дзяркач і... заткала... Але ён, гэты кут, ля самай печы, таму з шыйкі не відаць. Хіба галаву звесіш, то толькі тады яго ўбачыш...

Ёсць у хаце і падполле – яно пад падлогай. Але там цёмна, да таго ж плодзяцца мышы. Туды лазіць маці ці бацька, каб набраць бульбы, морквы, буракоў, зрэдку туды запускаюць і ката, каб палавіў ці хоць бы паганяў – напалохаў мышэй... А то як разгуляюцца – спаць не даюць...

Асвоіўшы хату, дзіця пачынала паступова асвойваць і тое, што прымыкала да хаты, – *сенцы*, у якіх на сценах віселі і надта ж пахлі потам і дзёгцем хамуты, церассядзёлкі, дугі, аброці, сырамцовыя гужы, набердзнікі, пугі, ёрмы, налыгачы; стаялі жорны, ступа з таўкачом, плеценыя з дранкі і лазы кашалі, кашы; розныя бочачкі, скрынкі, дзежачкі, кадаўбцы – з соллю, газаю, дзёгцем; там жа, у сенцах, віселі на круках і косы, мянташкі, сярпы, а на знарок прыбітых паліцах і лавах ляжалі малаткі, бабкі для кляпання кос,

цуркі для вязання снапоў, абцужкі, стругі, склобкі, гэблі, цёслы, свёрдлы, свярдзёлкі, разцы, даўбешкі, нацегачы, клінні, чакухі, уторычы; *клець* – у ёй, аж не зайсці, – кадаўбцы, дзежкі, шчані з розным збожжам – і з тым, што трэба малоць, драць, таўчы на яду, і з тым, што вясною сеяць; *камору*, дзе, пасоленае, у кубельцах надта ж смачна пахла сала і мяса і дзе масла, малако ў гладышах і смятана ў макатрах; *гарышча* – на ім віселі, сохлі вяслы лыка і сплеценыя на запас лапці, ляжалі грушы-дзічкі – гнілкі, а пазней – журавіны, каліна, арабіна, лескавыя яблыкі... У сенцах, у каморы, у клеці і на гарышчы звычайна перахоўваўся і ткацкі стан-кросны, правільней, валялася да часу дзе што. І калі маці надумвала што-небудзь ткаць – палатно, посцілкі, коўдры, абрусы, ручнікі, – то уносіла ў хату ставы, навойкі, панажы, сукала, набілкі. Потым ужо ў хаце шукаліся ніты, бёрды, чоўнік, матавіла, цэўкі... Перад тым жа, як унесці і паставіць кросны, рабілі аснову – устаўляліся ў высвердленыя ў кутах дзіркі колікі-стрыжні, наматвалі сноўніцай ніткі, потым іх здымалі, лажылі ў жлукта, варылі з мукі шчолак і залівалі; дарэчы, у жлукта складвалі і брудную апратку, засыпалі яе попелам, залівалі кіпнем – *залілі*. Наогул, хата – гэта не толькі жыллё, але і майстэрня. Асабліва ў асенні і зімовы час. Маці дзярэ аб грэбень лён, аддзяляе кужаль ад патрэпак: робіць калі траплом, калі верацяном кудзелю; уносіць прасніцу, самапрадку і прадзе, матае на матавіла пражу ў маткі, з маткоў – у клубкі... Шые, латае адзенне, прышывае гузікі і цурубалкі, каб можна было зашпіліць і сарочку і світку; калі заб’юць кабана, начыняе каўбасы – крывянку, вантрабянку, бульбянку, калбушок... Наогул, маці ўсё ўмее рабіць – і варыць, і пячы, і мыць, і праць, і ткаць, і шыць...

Але і бацька ў буднія дні ніколі таксама не сядзіць без работы. Сукае, вошчыць ніткі, падшывае хамут ці валёнак, што падраўся і просіць лямцу, то выдзёўбвае новыя начоўкі, выпальвае, папраўляе нутро кадаўбца, то бандарыць – стругае клёпку, гне абручы, робіць то бойку, то барыла, то дзяжу, то кубелец, то даёнку, то ражку, то ўе аборы, вяроўкі, то парыць палазы, вязы, вычэсвае капылы ў сані... Памагае бацька і тым мужчынам, што іншы раз прыходзяць у хату і жывуць па некалькі дзён – уносяць вялізную і цяжкую алейню і б’юць з семя канапель, лёну, маку алей; крояць і шыюць з вымачаных, высушаных аўчын кажухі, шапкі, рукавіцы; катаюць з воўны валёнкі, світкі...

Але ёсць, ёсць работа і дзецям – трэба збіць са смятаны масла, стаўчы ў ступе крупы з проса ці гушчу з ячменю, садраць на жорнах мукі свінням (сабе муку мелюць у млыне-ветраку, мякенькую, беленькую – пытляванку), падмесці ў хаце, вынесці на двор стружкі ці кастрыцу... Словам, кожнаму работа паводле яго ўзросту. І сілы, умення, здольнасці. Ды і бацьку, маці ўвесь час трэба падсабляць – то патрымаць нешта, то падаць, то кудысьці збегаць і штосьці прынесці...

У хаце жывуць, калі ўзыраць, аж вуглы трэскаюцца, маразы, і маленькія цяляткі, лашаткі, ягняткі. Паводзяць сябе яны неспакойна – то ўстаюць на свае яшчэ не зусім цвёрдыя ногі і тупацяць, то пырхаюць, мычаць, іржуць, бэкаюць, мэкаюць... Зусім спаць усю ноч не даюць. Ведама, сумна адным, без маці. Затое ўдзень, як развіднее, з імі весела – можна і за шыю абняць,

палашчыцца, пагладзіць, і за хвосцік, вушка патузаць, ды і місачку з малаком пад пыскай патрымаць, паглядзець, як п'е, вылізвае язычком, згаладаўшыся, малачко і цяля, і лаша, і ягня...

Не, зусім не здоўжацца гнілая, дажджлівая восень і халодная, мецялюжная зіма, нават калі нікуды і не выходзіш, сядзіш у хаце. А колькі чаго наслухаешся, пачуеш! І ад дзеда, і ад бабы, і ад маці, і ад бацькі ды і ад тых чужых людзей, што заходзяць у хату, жывуць у ёй па некалькі дзён – алейнікаў, кушняроў, шаўцоў і проста жабракоў. Асабліва жабракоў – сляпых, з палатнянымі торбамі крыж-накрыж, бывае, зусім хілых, з павадырамі! Як умеюць некаторыя з іх спяваць, іграць на леры ці дудзе, а то і расказваць розныя здарэнні, гісторыі, былі. Вядома ж, яны не сядзяць на адным месцы, ходзяць ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі. І ўсё чысценька, дзе што робіцца, ведаюць, чуюць. І паслухаць іх – гэта розуму набрацца, навучыцца, як трэба ці не трэба жыць. Дзед, баба, маці, бацька, на што ўжо бывалыя і многа чаго ведаюць, а то іншы раз заслухаюцца, забываюць, што і ў печы пара паліць, і коней, кароў, авечак, свіней пара карміць і паіць! Ды і суседзі, суседкі не мінаюць хаты. То на попрадкі збяруцца – кожная са сваёй прасніцай, дзеляй і самапрадкай, і ўжо таксама чаго толькі не расказваюць, яны жартуюць! А то песню заспяваюць – усе разам, на розныя галасы, як суладна, хораша! За поўнач, бывае, сядзяць, і ты не спіш – слухае слухаеш. І каб можна было, не разыходзіліся з хаты жанчыны – слухаў бы і ноч усю. А то мужчыны збяруцца – мядзведзя, дзіка змаўляюцца аблажыць. Набоі порахам набіваюць, стрэльбы шомпаламі чысцяць, трубы, рогі, ражкі, што на розныя галасы трубяць, правяраюць... А ўжо калі з палявання прыйдуць ды ўпалююць што-небудзь – свята... І шкуру здымаюць, і дзеляць, каму што, і смажаць, пражаць у печы, гарэлку п'юць, закусваюць. І весяляцца, рагочуць. І на дзяцей, што ў хаце, вядома ж, таксама ніхто не забывае, асабліва маці. То праз шыйку што-небудзь смачнае падасць, то патэльню са шкваркамі проста на печ паставіць, каб елі, не глядзелі галоднымі вачыма на стол, дзе весяляцца, рагочуць мужчыны. Наогул, кожная ўдача ніколі не адзначалася толькі сям'ёй, звычайна клікаліся і суседзі, сваякі: сам жа, адзін, з'еш і вала – адна хвала. Гэтак было і калі свежавалі кабана, смалілі яго, мылі, скраблі нажамі да жаўцізны, а потым уносілі на руках на дошках у хату; і калі склікалі талаку – паправіць калодзеж ці перакідаць, перасыпаць хату, хлеў; і калі свята было...

Шмат чаго цікавага, таго, што вабіла, цягнула да сябе, як магнітам, было і на дварэ. Зімою – белым бела навокал, усюды ляжыць роўным чыстым пухам снег. Трымціць не зусім добра закітаваная шыбіна, ад акна нясе холадам. А ты сядзіш на лаве і глядзіш, глядзіш, не могучы адвесці вачэй, як лятаюць, скачуць, шукаюць, што б схапіць, з'есці, спажыць, нахохленыя і ад таго надта ж тоўстыя вераб'і. А то чародку чырванагрудых снегіроў аднекуль быццам ветрам занясе – заціўкаюць, рассыплюцца па двары. Каркне варона, затрашчыць сарока. Ці міма хаты нехта – у кажуху, у валёнках, шапцы-зімоўцы, у рукавіцах, ушушканы нос толькі відаць, – на санях праедзе – дровы ці бухматы воз сена вязе. Рыпіць пад палазамі снег, б'юць па мёрзлай грудзе капытамі коні ці валы, пырхаюць, аж пара з ноздраў струменьчыкамі

вылятае... А то – калі ў піліпаўку заладзяць халады, вокны мароз замуруе, размалюе – бясконца можна сядзець, разглядваць, якіх толькі дзівосаў там няма. І нейкія незвычайныя дрэвы, і кусты, і лісце, і звяры, і людзі... Маці і бацька, каб не холадна было ў хаце, абкладваюць дзверы і вокны *матамі* – пляцёнкамі з сена, саломы, патрэпак... І так будзе ўжо да цяпла, калі сонца зноў пакажацца, прыгрэе, размуруе замураваныя марозам вокны. Тады на падворак глядзіш зноў, як на новы – са стрэх капаюць капяжы, зіхатлівыя, празрыстыя, вастрадзюбыя сусолкі ўсюды звісаюць, нават з галін дрэў, ручаі бягуць. А потым снег зусім растане, зазелянее ўсё і ўсюды раптам... І тады... Ніхто ўжо не ўтрымае цябе ў хаце. Двор – вось тое месца, дзе дзеці бавяць час.

А двор – гэта не цяперашні. Па-першае, ён абнесены, быццам сцяною, з усіх бакоў высокім шчыльным парканам. Дзеля чаго? А каб нішто з двара не вылезла, не сышло. Ды каб нішто і не ўплішчылася, не улезла – ні тхор, ні ліса, ні воўк. Не, паркан – гэта своеасаблівая ахова. Ды і не відаць праз паркан, што ў каго ў двары робіцца. Можаш хадзіць па двары, як заманецца, усё адно бы па хаце. І непаголены, і непрычасаны, у портках споднiх ці сподняй кашулі... Па-другое, двор – гэта цэлы гуж пабудоў, прычым самых розных. *Дрывотня* – дзе сякуць, рэжуць і хаваюць, каб не моклі, былі заўсёды сухія, дровы. За дрывотняю, пад паветкаю – *абозня*: там калёсы, сані, сохі, бароны, плугі, жалезнякі, вілы, капаніцы... Далей – *гумно* – у ім складваюць снапы, малоцяць, там, на сценах, вісяць і цапы, граблі, вейніцы, лапаты, шуфлі, паўміскі, ночвы... Вядома ж, былі і *стайня* для коней, *хлеў* для валоў, *кароўнік* для кароў, *свінушнік* для свіней, *аўчарня* для авечак, *куратнік* для курэй. Жылі асобна, у цёмнай прыбудоўцы, і качкі, гусі. Трохі ўбаку стаяла і *сцёбка* – у ёй хавалі на зіму ў бочках і шчанях квашаную капусту, агуркі, салёныя грыбы, вараныя брусніцы. Блізка ля сцёбкі стаяў і *імшанік* – у яго звозілі на зіму калоды-вуллі з пчоламі. Асобная хованка была і на розны рыбацкі інвентар – венцяры, кашы, бучы, каробачкі, комлі, сеткі, трыгубцы, восці, вуды... Быў і *азярод* – на ім дасушвалі сена, снапы. Ужо за дваром, дзесьці здаля, у полі, стаяла і *ёўня* – у ёй сушылі лён, цёрлі церніцамі. У ёўні была печ, яе час ад часу палілі, бо ёўня і за лазню была, у ёй мыліся, і, здаралася, яна гарэла. Каб ад яе не загарэўся і ўвесь двор, ёўню будавалі не ў самім двары, а зводдалеку ад яго, ля копані, вады... У двары была і будка, дзе дняваў і начаваў сабака... Усё будавалася з моцнага, смалістага дрэва, накрывалася пад шчотку саломай ці чаротам. І ўлетку ў стрэхах ці застрэшках якія толькі не гняздзіліся птушкі! У вільчыку хаты ляпілі гнёзды з гразі і шумавіння ластаўкі, на хляве – з ламачча і галінак буслы, у астатніх будынках – з сена і пер'я – шпакі, вераб'і, сыткі... На двор, асабліва як выводзіліся кураняты, залятвалі шэрыя, лупавокія каршуны. А ўжо вароны, сарокі, гракі, ды і іншыя птушкі, дык, здаецца, і не выляталі ніколі – увесь час нешта шукалі, каркалі, трашчалі, пішчалі, спявалі... Запаўзалі ў двор і вужы, гадзюкі, яшчаркі... Скакалі лягушкі і жабы, лятаді плоймаю авадні, сляпні і мухі. А што ўжо да машкары, камарэчы рознай – хмарамі віселі, не дыхнуць...

Дзеці любілі свой двор, заўсёды знаходзілі там сабе занятак...

## Вучоба

*Людзі і мядзведзя вучаць.*

Вучоба, па добрым даўнім звычаі, пачыналася, можна сказаць, з калыскі, як толькі з'яўлялася дзіця на свет. І вучылі яго ўсе – маці, бацька, баба, дзед, сёстры, браты. І ўсяму – есці, гаварыць, хадзіць, рабіць тое, што належыць рабіць у яго ўзросце. Як, дарэчы, і цяпер у многіх сем'ях. Дзіця падрастала –раслі і патрабаванні. І яго і да яго. Адразу ж ішло размежаванне – што можна, а чаго нельга. І даволі рэзкае. Калі дзіця парушала гэта, яго каралі – "гні галінку, пакуль маладзенькая".

Меры пакарання ў кожнай сям'і былі розныя, свае – папярэджвалі, сварыліся, крычалі, а то і білі – «маці дзіцятка хоць б'е, але не заб'е». Усё залежала, як правінілася дзіця ды, зрэшты, і ў якім настроі быў той, хто караў. Не забывалася адно – каб дзіця было слухмянае, слухалася старэйшых, рабіла тое, што яму загадваюць рабіць. І не толькі рабіла, а ўмела рабіць. Дзяўчынак змалку прывучалі да хатняй работы мыць лыжкі і міскі, лупіць бульбу, засцілаць пасцелі, бяліць печ, сцены, варыць, шыць; учыняць дзяжу, мясіць цеста, пячы аладкі, хлеб; апрацоўваць лён, прасці, ткаць: даіць карову, карміць свіней, курэй, гусеі, качак; рабіць грады, палоць, жаць, капаць бульбу, саліць гуркі і грыбы, шаткаваць капусту, наогул, нарыхтоўваць на зіму і захоўваць розныя запасы. І, вядома ж, – і гэта найперш – умець даглядаць і выхоўваць дзяцей – спавіваць, карміць, наогул важдацца з імі. Нялёгкія абавязкі ўскладваліся і на мужчыну. І хлопчык змалку павінен быў быць прывучаны да ўсяго, што напаткае яго ў будучым. Ён павінен быў умець трымаць у руках пілу і сякеру, склобку і пешню; умець стальмашыць і бандарыць, цяслярыць і чабатарыць, сагнуць вобад і ўставіць у кола спіцы, зрабіць воз і сані, падшыць валёнак і хамут. Ён павінен быў умець запрэгчы каня і вала, упаляваць звера і лавіць рыбу; араць, баранаваць, сеяць, скародзіць, касіць, жаць, вазіць снапы, малаціць, капіць сена і вяршыць стог. Многа-многа чаго павінен быў умець у той час мужчына! Ды і жанчына таксама! І гэтаму вучылі. Што ахвотаю, а што і прынукаю. У пяць-шэсць год дзеці – хлопчыкі, ды і дзяўчынкі, – пасвілі свіней, гусей, качак; трохі пазней – кароў, коней; палолі грады і граблі сена, капанічылі бульбу і хадзілі ў лес па ягады і грыбы, лавілі рыбу і збіралі шчаўе. Увосень жа, калі паспяваў ураджай, працавалі не разгінаючыся, разам з дарослымі. Ад ранку да вечара, ад цямна да цямна. Капалі і перабіралі бульбу, засыпалі ў капцы; зносілі з гародаў гарбузы, лушчылі фасолю і гарох, вырывалі буракі і моркву; зразалі, шаткавалі капусту. Збіралі ў лесе жалуды, арэхі. Ды і грыбы – баравікі, падасінавікі, ababкі, рыжыкі, сыраежкі, масленікі, апенькі, зялёнкі, падзялёнкі... Зіма вялікая, усё падбярэцца, згодзіцца. Гэта кожны ведаў і таму запасаўся, шчыраваў.

А колькі важданіны было з лёнам! Яго і выпалаць жа чысценька, да травінкі, трэба, і выбраць, абабіць. Потым паслаць на лузе на росы, сабраць,

высушыць, пацерці, аддзяліць кужаль, спрасці, саткаць, пабяліць, пашыць! Ды і з той жа збажыной, пакуль яе абмалоціш, правееш, памелеш, хлеб з яе спячэш! І амаль з усім так. Не дарэмна ж кажуць: «Гаспадарка – клапатарка», «Гаспадарка маўчыць, але шыю танчыць. Дый, вядома ж кожнаму, «без клопату і без поту не робяць работу», «дзе няма ахвоты, там няма і работы...» І «калі не хочаш на старасці з торбачкай танцаваць, то прывучыся змалку працаваць...»

Былі і іншыя *законы*, якія кожны, хто ішоў у жыццё, збіраўся жыць, павінен быў засвоіць, ведаць. Вось некаторыя з іх.

Перш, чым самому есці, паклапаціся, каб не галодныя былі карова, конь, сабака і кот.

Ясі што-небудзь – нічога не гавары, не думай, інакш яда не пойдзе на карысць, можа нават зашкодзіць.

Калі ў хату зойдзе чужы чалавек, а там якраз сядзяць за сталом і сілкуюцца, то і чалавека трэба запрасіць, каб і ён падсілкаваўся.

Не бяры з місы апошняга кавалка, бо будуць кусаць сабакі.

Шукаючы пірага, можаш згубіць і хлеб.

Ты не сонца, усіх не абагрэеш.

Перад пярэбарамі ў новую хату занясі туды ката і пеўня, каб там пераначавалі. Нячыстая сіла не любіць іх і пакіне хату.

Хто пытае дарогу, той не блудзіць.

Лес чуе, а поле бачыць.

Як гукнеш, так і адгукнецца.

Даюць – бяры, б'юць – уцякай.

Шчасце за гарамі, а бяда за плячамі.

Хто зачэпіць ці разбурыць ластаўчына гняздо, таго абсыпле рабацінне.

Калі людзі робяць труну, не гавары: «Памагай бог!», бо хутка будзе новы нябожчык.

Хлопчыку нельга надзяваць на галаву жаночае шапкі ці завязваць хустку, бо будзе ўсяго баяцца і палохацца, як баба.

Перад сном трэба зняць падпяразку і расшпіліць у кашулі каўнерык, інакш чэрці ўсю ноч будуць душыць.

Хто не любіць чужых дзяцей, той не будзе мець сваіх.

Памажы старому і малому. І табе бог паможа.

Не біты – не чалавек, не кручаны – не рэмень.

Брахнёю свет пройдзеш, а назад не вернешся.

На голага і галоднага і сабакі брэшуць.

Дзе двох – там рада, дзе трох – там здрада.

Жонкі, каня і стрэльбы не пазычай нікому.

Школ тады ў вёсках было мала. І ўся навука дзецям была ад маці, бацькі, бабы, дзеда, астатніх сямейнікаў, суседзяў. Ды тых людзей, што зрэдку патраплялі ў хату. Тым не менш, ва ўсім беручы прыклад са старэйшых, дзеці рана сталелі. Ведалі работу па гаспадарцы і многае маглі самі рабіць. Падтрымліваліся, падхвальваліся працавітасць, кемлівасць і ўсяляк высмейваліся гультайства, неахвота, няўменне. «Гулі не аднаго ў лапці абулі». «Дзе гультай ходзіць, там зямля не родзіць». «Хто не дбае, той трасцу

мае». «Хто не ўмее, той заўсёды памыляецца». Да слова, злосна, кпліва высмейваліся і іншыя заганы ці, як цяпер кажуць, розныя адмоўныя якасці – нядбальства, абыякавасць, безгаспадарчасць, зазнайства, валацужніцтва, няздатнасць, неахайнасць, бестурботнасць, нікчэмнасць, сварлівасць, зайздрослівасць, прагнасць, скупасць, несправядлівасць, нерашучасць, баязлівасць, самахвальства, пляткарства, капрызы, фанабэрыя, крывадушша, хлусня, самалюбства, няўдзячнасць, махлярства, нахабства, п’янства... Прыказкі, прымаўкі, казкі, пацешкі, анекдоты і іншыя творы вуснай народнай творчасці гавораць пра гэта, даюць багаты прыклад таго, што ўхвалялася, падтрымлівалася, а што асуджалася, высмейвалася.

Праўда, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што не ўсе, далека не ўсе дзеці выраслі такія, якімі хацелі бачыць іх бацькі. Былі і, мабыць, заўсёды будуць і злодзеі, і п’яніцы, і гультаі, і няздаты, і нахабнікі, і плеткары, і зайздроснікі... Але што характэрна – у добрых, працавітых сем’ях найчасцей выраслі і добрыя, працавітыя дзеці; наадварот, у гультаёў – гультаі, у злодзеяў – злодзеі, у няздат – няздаты... Зноў жа, вядома, былі і выключэнні. Здаралася, у самай працавітай сям'і вырастаў абібок і, наадварот, у кепскай сям’і – добры гаспадар і чалавек. Што ж, нічога не зробіш, людзі гэта даўно заўважылі і сказалі: «у аднаго бацькі і адной маткі няроўныя бываюць дзіцяткі». «Яблык ад яблыні недалёка падае». І гэта таксама праўда. Але ж... Памылкі пры выхаванні дзяцей, відаць, дапускаліся бацькамі і тады. Ды і прычын на тое было шмат – бацьку ці маці не да выхавання дзяцей было, трэба было думаць, як пракарміць сям’ю, каб не памерці з голаду. Не ўсе ж былі багатыя, былі і такія, што ледзь зводзілі канцы з канцамі, хлеб і то не заўсёды бачылі. Здараліся і галодныя, халодныя гады, калі ўлетку ўсё вымакала, выгарала, а то і не радзіла. Ды і ў тых, хто жыў у дастатку, не заўсёды ўсё гладка было – паміралі ці гінулі бацька ці маці, а то і абое, і дзеці аставаліся сіротамі, даглядалі іх сваякі, уся вёска. Сярод дзяцей таксама траляліся неслухі, «што ўбіў, то і ўехаў», падпадалі пад уплыў людзей не лепшых у вёсцы. «Розум жа не сякера – не пазычыш». Ды і схільнасці не ў кожнага былі да таго, да чаго яго прывучалі. Ён іграць на дудзе ці на скрыпцы хацеў, песні спяваць, а яго прымушалі гной у хляве драць ды на воз накідаць. Яму з дрэва розных чарцей выразаць хацелася, а трэба было араць, сеяць ці іншае што-небудзь рабіць, да чаго душа не гарнулася, не ляжала. Сярод такіх людзей шмат таленавітых – мастакоў, скульптараў, музыкаў, спевакоў, паэтаў. Але яны гінулі, так і не выявіўшы сябе. Даводзіцца толькі пашкадаваць разам з Якубам Коласам:

Колькі талентаў звялося,
Колькі іх і дзе ляжыць,
Невядомых, непрызнаных,
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адспяваных
Ветру посвістам пустым!

Думаць і дбаць трэба было не пра што-небудзь іншае, а пра самае неабходнае – хлеб, пра тое, як яго вырасціць, сабраць, захаваць, наогул як жыццё пражыць. А ўсё астатняе... Калі ёсць хлеб ды вада – не бяда.

Нямала часу ішло і на вывучэнне ўсяго таго, што людзей акружала, бо трэба ж было ведаць, як што называецца, дзе што расце і жыве, што можна есці, а што не, калі што і дзе сеяць, калі што збіраць, у якім выглядзе – сырым, вараным, печаным – ужываць, як што хаваць, каб не сапсавалася... Паляшук, да прыкладу, павінен быў ведаць, што такое бор і чарналессе, мох і бель, алёс і выжарына, заглуш і прагала. І як, як ведаць! Возьмем бор, дзе гамоняць з небам меднаствольныя сосны пляцецца вечназялёная дзераза, якая надта ж своеасаблівая і хораша пахне, сцелецца бруснічнік, а дзе-нідзе і верас. Паляшук вылучае *шчыры* (гэта значыцца чысты) бор і няшчыры, змешаны з бярозамі, асінамі, іншымі дрэвамі. У няшчырым бары пракідаюцца і рабінкі, арэшнік, чарнічнік, сунічнік... Трапляюцца і махавіны, дзе сівее купамі буячнік, зелянее багуннік, журавіннік. У бары заўсёды крычаць, пералятаюць з галіны на галіну дразды, сойкі, пырхаюць курапаткі, цецерукі, бегаюць лісы, зайцы, вавёркі, вожыкі... Хапае тут і мурашак – цэлыя кучы, горы вунь, куды ні паглядзі. У бары растуць надта ж прыгожыя чорнагаловыя выя баравікі, можна знайсці тут і масленіка, рыжыка, махавіка, лісічку, сыраежку, а ўвосень аж зямлю рвуць, падымаюць усюды чародамі, не рушамі гліцу зялёнкі і падзялёнкі... Зусім іншае – чарналессе. Яно заўсёды ў лагчыне, бліжэй да балота, да вады. І растуць, раскашуюцца там граб, дуб, ясень, клён, ліпа, вяз, свізіна, рабіна, каліна, хмель, маліна, ажына... Што ж да грыбоў... Іх таксама поўна на чарналессі. Толькі іншыя, не такія, як на бары. Тыя ж баравікі тут не чорнагаловыя, а белаватыя і вялізныя: два-тры – і поўны кашэль. Растуць тут і лісічкі, сыраежкі, а найлепей – абабкі, падасінавікі, грузды, апенькі... Са звяроў можна сустрэць казу, аленя, дзіка, лася, куніцу, гарнастая і, вядома ж, ваўка. Гэты ўсюды блукае, усюды паспявае пабываць. З птушак – саву, зязюлю, голуба, кляста, жаўну, крутагаловіка, таго ж дзятла... Наогул, увесь палескі лес надта ж багаты на птушак, звяроў, грыбы, ягады… Яшчэ да нядаўняга часу тут блукаў, не знаходзячы сабе нідзе прыстанку, быццам прадчуваў хуткую пагібель, мядзведзь. Мой прадзед хадзіў паляваць на мядзведзя і неяк, калі ружжо дало асечку, ледзь не загінуў. Выратавала, як і многіх, хто палюе на мядзведзя, тое, што мядзведзь мёртвага чалавека не чапае. А прадзед мой, бачачы, што іншага паратунку няма, упаў на зямлю і прытварыўся мёртвым... Мядзведзь панюхаў, панюхаў яго і, засыпаўшы лісцем і зямлёю, пайшоў. На маёй памяці ў наваколлі яшчэ былі дрэвы, абтыканыя з усіх бакоў вастраным коллем. На гэтых дрэвах стаялі вуллі – борці. І вось дрэва абтыкалі завостраным коллем і падвешвалі на сук бервяно, каб, калі ўздумае паласавацца мёдам мядзведзь, яно, гэтае бервяно, не давала лезці, не пускала да вулля. Мядзведзь адкідваў бервяно, а яно, падвязанае за сук на вяроўцы, вярталася і балюча яго біла. Мядзведзь злаваўся яшчэ больш, яшчэ далей адкідваў бервяно. І яно, вяртаючыся, яшчэ мацней біла яго. Канчалася ўсё тым, што чатырохлапы ахвотнік да салодкага пчалінага мёду звальваўся з дрэва і падаў на колле. Тут яму, як кажуць, і канец быў. Вадзіліся

на Палессі да зусім нядаўняга часу і рысі, барсукі, расамахі... Водзяцца і цяпер ваўкі, лісы, гарнастаі, куніцы, бабры, ласі, алені, козы, зайцы, дзікі, выдры... Найцікавейшы і птушыны свет, ён захаваўся больш, чым жывёльны. Гэта і бусел, і журавель, і коршак, і сава, і пугач, і лежань, і курапатка, і цецярук, і вадзяны бугай, і дрозд, і сарока, і варона, і жаўна, і дзяцел, і клёст, і зязюля, і кнігаўка, і перапёлка, і ластаўка, і сіваграк, і дрозд, і пустальга, і бакас, і... Ды хіба пералічыш! Нідзе, відаць, столькі не расло, ды і цяпер не расце ягад, грыбоў. Вось толькі назвы некаторых з іх... Суніцы, чарніцы, маліны, буякі, брусніцы, ажыны, касцяніцы, журавіны... Баравікі, падасінавікі, абабкі, махавікі, масленікі, рашотнікі, рыжкі, грузды, лісічкі, сыраежкі... А колькі рознай рыбы было ў рэках, рэчках, старыцах, азёрах, выжарах, канавах! Уюны, шчупакі, самы, ліні, карпы, карасі, краснапёркі, плоткі, ляшчы, галаўні, акуні, язі... Пра кустарнікі і травы – зелле – і казаць няма чаго, бо іх столькі, што проста ратунку няма – лезуць, наступаюць адусюль на поле, паспявай толькі ад іх ратавацца, то сякерай, то жалезняком, то капаніцай, то проста рукамі рві, выкідай...

А ў полі, балоце, лузе колькі ўсяго! І ўсё ж трэба ведаць. Ды як, як ведаць! Жыцця іншы раз не хапала, каб усё на свае вочы ўбачыць, вывучыць, спазнаць...

## Гулі, гульні, пагулянкі…

*Гуляй, ды работу знай*

Ні радыё, ні кіно, ні тым больш тэлебачання ў тыя даўнія часы, вядома, не было. Тэатр калі дзе і быў, дык далёка. Кніг таксама ў вёсках не чыталі, бо і непісьменныя ў большасці нашы продкі былі. Вольнага ж, нічым не занятага часу, здаралася, было і нямала. Асабліва ў святы. Ды і ў доўгія асеннія і зімовыя вечары, калі цямнее рана і рабіць работу ў полі, у лесе, на балоце, ды і ў хляве, гумне, на дрывотні, нельга. Дзяцей таксама забавіць чымсьці трэба было, каб раслі яны здаровыя, дужыя, дружныя, спрытныя, кемлівыя. І таму былі прыдуманы розныя гулі, гульні, пагулянкі. І многа. Самых розных. На кожны сезон і ўзрост. Хатнія, дваровыя, вулічныя. Палявыя, лясныя, лугавыя... На вадзе і на лёдзе. Для дзяўчынак, дзяўчат асобна. Для хлопчыкаў і хлопцаў – асобна. Былі і такія, дзе маглі прымаць удзел як хлопчыкі, так і дзяўчынкі, як хлопцы, так і дзяўчаты. А то і ўсе разам – хлопчыкі і дзяўчынкі, хлопцы і дзяўчаты, а часам нават і дарослыя. У гулях, гульнях, ды і пагулянках, выяўляліся, развіваліся, удасканальваліся здольнасці кожнага, а то і цэлага гурту – калектыву. Прычым самыя розныя – знаходлівасць, кемлівасць, дасціпнасць, вёрткасць, меткасць, узаемавыручка, далікатнасць, уменне бегаць і хавацца, спяваць, танцаваць. І наогул сябраваць. У гульнях, гулях і пагулянках кожны мог праверыць, на што ён здатны, што ў яго атрымліваецца лепш, чым у астатніх, а што горш. У дзяўчынак найбольш папулярнымі былі тыя гульні, якія прывучалі іх змалку да будучага мацярынства, клопату пра маленькіх – гульня ў лялькі, у гаспадыні. Тут было

амаль поўнае перайманне маці – лялькі і спавіваліся, і карміліся, і спаць укладваліся, іх і каралі, і абаранялі, ім даравалі, і песні-калыханкі спявалі. Лялькі, вядома, тады былі не такія, як цяпер, іх рабілі з розных лахманоў – шылі, майстравалі самі дзеці, памагалі ім бацькі... У хлопчыкаў, наадварот, развівалася фізічная сіла, вынослівасць, знаходлівасць, уменне выйсці са скрутнай сітуацыі – хлопчыкі бегалі навыперадкі, бораліся, мераліся, хто спрытнейшы, дужэйшы, правяралі, хто колькі можа падняць і пранесці. Папулярнымі былі калектыўныя гульні, дзе можна было адзін перад адным паказаць свой спрыт і на што хто здатны, а то і выручыць, пастаяць за ўвесь гурт – калектыў. Гулялі ў клёца, пікара, караглі, лапту... Гэта – улетку. Зімою былі свае гульні, дзе трэба было паказаць, як ты ўмееш катацца на санках, хадзіць на лыжах. Былі і проста забавы, забаўлянкі. І не толькі для самых маленькіх, тых, хто найбольш і найчасцей і сядзеў у хаце, дома, але і для старэйшых, моладзі. Што цікава – нават у забаўлянках заўсёды быў сэнс. І не проста смяяліся, жартавалі з таго, хто быў нездагадлівы, а вучылі кемлівасці, быць уважлівым, не лезці ў кішэню па слова, ведаць, адчуваць яго. Шмат цікавага, непрымушанага было і калі пасвілі свіней, кароў, гусей і качак, ганялі на начлег коней... Не сядзець жа ўвесь час прыкутым да аднаго месца. Маладое цела, энергія патрабавалі дзеяння. Ды і пагрэцца трэба было, заняцца чым-небудзь, пазнаёміцца з тым, каго дасюль не ведаў, асабліва з навічкамі, што прыганялі качак, гусей, свіней, кароў, коней на пашу ўпершыню. Вось забавы, гульні і выручалі, знаёмілі, збліжалі, паказвалі, хто на што здатны, на каго і ў якой сітуацыі можна абаперціся, разлічваць, хто цябе не падмане. Забавы, гульні часам пераходзілі ў бойкі – асуджалася, каралася несправядлівасць, махлярства, ды і правяралася, хто можа пастаяць за сябе, а хто не можа, каго можна і пакрыўдзіць на выпадак чаго, за каго заступіцца, абараніць. Наперадзе ж было жыццё, і адзін аднаго, з кім трэба было жыць, павінен быў кожны, хай пакуль і неўсвядомлена, ведаць, як кажуць, з усіх бакоў... Давядзецца ж і на паляванне разам хадзіць, і на талаку, ды і так у розных сітуацыях бываць, часам зусім непрадбачаных...

Трохі на іншае былі разлічаны пагулянкі. Тут не толькі бавілі час, але і знаёміліся хлопцы з дзяўчатамі, а дзяўчаты – з хлопцамі, ацэньвалі, зноў жа, хто на што здатны. Вячоркі, попрадкі, пасядзёлкі, скокі, спеўкі, ігрышчы ды і ўсе зборышчы выяўлялі, хто як выхаваны, яго далікатнасць, дасціпнасць, уменне і паспяваць, і пажартаваць, і паскакаць, наогул павесяліцца. Ды і прыхільнасць адно да аднаго. З попрадак, вячорак, пасядзёлак, скокаў, спеваў можна было правесці дзяўчыну дадому, пастаяць з ёю, пагаварыць, прызнацца ў каханні. Ды і абняць, пацалаваць. Цёмна ж, ніхто не бачыць – ні аднагодкі, ні бацькі, ні суседзі! На попрадках дзяўчаты маглі паказаць, як хто ўмее прасці, тонка ці тоўста, хутка ці марудна; на пасядзёлках – як хто ўмее вышываць, вязаць альбо плясці з нітак, бяросты, саломкі карункі, капелюшы, розныя іншыя рэчы. Можна было пахваліцца, пафарсіць і сваімі ўборамі, хто на што здатны ў спевах, скоках, жартах... Хлопцы на вячорках, попрадках і пасядзёлках, як правіла, нічым не займаліся, яны назіралі за дзяўчатамі, ацэньвалі, якая чаго варта, выбіралі здальнейшую, тую, якая яму найбольш

падабалася, чым-небудзь западала ў душу. І дурэлі, жартавалі. Не ведаю, як дзе, а ў нашай вёсцы было шмат гуляў, гульняў і пагулянак, на якіх палохалі адзін аднаго – увосень, калі рана змяркалася, выразалі ў гарбузе дзіркі, запальвалі свечку і пакідалі дзе-небудзь у полі ці каля дарогі. І хто міма ні ішоў – палохаўся – што там?.. Ці апраналі вывернуты кажух, на галаву прырабблялі рогі і ўскоквалі ў хату, дзе сабралася моладзь, былі попрадкі, імітуючы чорта ці яшчэ каго...

Вельмі своеасаблiва, непаўторна праходзілі і гуканне вясны, провады русалкі, закоскі, зажынкі, дажынкі, розныя пятроўскія ды і ўсе астатнія святы... Асабліва ў добрыя, ураджайныя гады, калі ніхто асабліва не трывожыўся за зіму, не думаў пра хлеб надзённы. А колькі весялосці, іскрыстых жартаў было ў калядных святах! Ледзь не ўсёю вёскаю збіралася моладзь, хадзіла з «казою», «звяздою», паказваючы розныя відовішчы, ад хаты да хаты, чаго толькі не вытваралі, не зычылі гаспадарам і гаспадыням! Абдорвалі добра – хвалілі, не абдорвалі – ганілі. Ды як, як! Дасціпна, умела, а часам і злосна-злосна. І нічога не зробіш – вуснамі моладзі гаварыла вёска, яна ацэньвала чалавека, як ён жыў і жыве. Да таго ж і крыўдаваць быццам не было на каго, бо часта гаспадар ці гаспадыня і не ведалі, хто такі прысуд яму выносіць, – у масках жа былі тыя, хто сыпаў розныя прымаўкі, прыгаворкі, спяваў жартоўныя песні, кплівыя прыпеўкі...

### Жаніцьба

*– Жыў-жыў да ўзяў ажаніўся.*
*З размовы*

Жаніцьба – адзін з самых сур’ёзных крокаў у жыцці чалавека. Асабліва ў ранейшыя часы, калі разводаў не было – «жаніцьба ёсць, а разжаніцьбы няма». Таму, як і ва ўсякай сур’ёзнай справе, тут амаль выключалася рызыка. І ў выбары нявесты, і ў тым, за каго ісці замуж. Маладым звычайна тут памагалі, каб яны не памыліліся, бацькі, сваякі. А іншы раз і ўся вёска. І на першым месцы было не каханне, а тое, якая нявеста і які жаніх, з якой яны сям’і, багатыя ці бедныя, пра каго якая ідзе слава ці пагалоска. Меў, вядома, сваё значэнне і пасаг. Што ж да кахання, то яго не заўсёды бралі ў разлік. Асабліва з боку нявесты. «А дзяга нашто?» – крычыць у «Паўлінцы» бацька, калі Паўлінка кажа, што за абы-каго, «за ламаку», замуж не пойдзе. Таму ў вуснай народнай творчасці пра жаночую долю столькі сумных песень. Яна, гэтая доля, і праўда была незайздросная. Пры выбары жаніха, таго, з кім давядзецца ўсё жыццё жыць разам, быць і ў полі, і за сталом, і ў пасцелі, яе волю амаль не ўлічвалі. «За пераборы дастаюцца пасталы і аборы. Вато бяруць, дык ідзі». Ды і потым таксама жанчыны былі ва ўсім нявольныя, у поўным падпарадкаванні тых, у чыю сям'ю яны траплялі. Адзінае, што ім дазвалялася, – гэта слухацца ўсіх: мужа, мужавага бацькі – свёкра, мужавай маці – свякрухі, усёй радні. І рабіць, рабіць усё, што хто ні загадае.

Звычайна актыўнай сілай у выбары нявесты выступаў сын. Ён і аб’яўляў аднойчы, што хоча жаніцца. «З кім?» – пытаў бацька. Сын, памяў-

шыся, называў. Але яго волю таксама не заўсёды ўлічвалі, не заўсёды з ім згаджаліся – бацькі былі старэйшыя, яны больш усяго бачылі, ведалі. Да таго ж былі быццам і аб'ектыўныя, бо галавы не чмурыў хмель кахання. Яны і не ўхвалялі сынаў выбар нявесты, прапаноўвалі іншых дзяўчат. А то, калі сын марудзіў, і падганялі яго, каб не байбусаваў, жаніўся, асабліва калі патрабавалася ў хату ці ў гаспадарку работніца. «З кім гэта вы мяне жаніць сабраліся?» – цікавіўся ў такіх выпадках сын. Яму называлі. Рэдка здаралася, каб жаданні бацькоў і сына супадалі. Маці далучалася да бацькі, брала яго бок. Але, здаралася, і сына. Узнікалі спрэчкі, сваркі, якія іншы раз пераходзілі нават у бойкі. Урэшце ўсё канчалася тым, што хтосьці здаваўся, браў верх той ці іншы бок. Дамаўляліся наконт сватоў – каго прасіць. Звычайна ў ролі сватоў выступалі сваякі маладога ці суседзі, тыя, хто яго добра ведаў. Але, як правіла, жанатыя, не халасцякі. Свату ж першая чарка і першая палка!.. Сваты і вялі жаніха да нявесты. Разам з жаніхом ішлі і яго бацька, маці. Ішлі не з голымі рукамі, а бралі хлеб, гарэлку. Сваты – іх было, як правіла, два, сам жаніх і яго бацька – па-святочнаму апранутыя, паднядзеленыя. У сваты выпраўляліся найчасцей увечары, калі і нявеста і яе бацькі былі дома. Зайшоўшы ў хату, дзе жыла тая асоба, якая цікавіла, бралі рэй у свае рукі сваты. Яны кланяліся, казалі: «Добры вечар у хату, каб былі вы багаты, вяліся ў вас грошы і дзеці раслі харошы!»

Нявеста, здагадаўшыся, чаго завіталі ў хату чужыя людзі, чырванела, кідалася куды-небудзь хавацца – ды і пераапрануцца ж у што-небудзь лепшае – не быць жа ў такі ўрачысты і важны момант у тым, у чым ля печы завіхалася ці ля кудзелі сядзела. Бацькі нявесты таксама не папярэджваліся наконт сватоў, часцей за ўсё ані нічога не ведалі. Таму, хто раней браў сябе ў рукі, той і запрашаў сватоў, бацькоў жаніха, ды і яго самога, сядаць. Маці нявесты хапала трапкач, змахвала пыл з лавы, лезла ў куфар, брала чысты, свежы абрус, засцілала стол. Сват жа тым часам гаварыў, сыпаў тыя словы, што звычайна сыплюць, не вельмі лезучы ў кішэню, усе сваты. «У вас вырасла добрая цялічка, а ў нас ёсць бычок-мацачок, – паказваў ён на жаніха. – І добра было б, каб бычок і цялічка не сумавалі, разам пра сваё жыццё-быццё дбалі...». Тым часам, пакуль ішла размова між сватамі і бацькамі нявесты, выходзіла, пераапрануўшыся ва ўсё лепшае, святочнае, сама нявеста, кланялася сватам, жаніху, яго бацькам. Сваты смялелі, гаварылі больш адкрыта, ужо без намёкаў, чаму яны прыйшлі. Бацька і маці нявесты, ды і сама нявеста, не адразу давалі згоду. Даць адразу згоду – гэта не цаніць сябе, быць радым выпадку. Але, паступова, асабліва калі жаніх падабаўся, даходзілі да згоды – нявеста выносіла загадзя нарыхтаваныя ручнікі, дары ла сватам, жаніху, яго бацьку. Абдорвала – палатном, кофтай ці яшчэ чым маці жаніха. І сватанне пераходзіла ў *змовіны*, *запоіны* – ставілася на стол гарэлка, закуска, клікалася радня і з боку нявесты, і з боку жаніха. Тут жа за сталом дамаўляліся і пра дзень вяселля, вялася размова і пра тое, што бацькі думаюць даць у пасаг маладой. Тым часам збіраліся дружкі і дружкі;´, спявалі песні. Але не вясельныя, а так, розныя. З гэтага вечара дзяўчына лічылася засватанай. Яна мела права сустракацца з жаніхом па вечарах, жаніх

праводзіў і дахаты. Але, здаралася, сватам давалі і ад варот паварот-ці то дзяўчына ўпарцілася, не хацела выходзіць замуж за таго, хто да яе сватаўся, ці то бацькі нявесты адмаўлялі сватам. У такіх выпадках змовін ці запоін не было. Сваты бралі гарэлку і хлеб і вярталіся назад дадому ні з чым. Бывалі – хоць рэдка – выпадкі, калі і пасля змовін, запоін усё разладжвалася. Падумаўшы, параіўшыся, памеркаваўшы так і гэтак, бацькі нявесты бачылі, што паспяшаліся, пагарачыліся, згадзіўшыся аддаць замуж сваю дачку не за таго, за каго варта. І тады яны вярталі бацькам жаніха гарэлку і хлеб, выпітыя і з’едзеныя ў час запоін. Сватанне парушалася, між бацькамі жаніха і бацькамі нявесты ўзнікала халоднасць, а то і варожасць… Жаніх лічыў сябе ў такіх выпадках хоць і абражаным, але вольным і меў права сватацца да іншай дзяўчыны. Вольнай, «незасватанай» лічыла сябе і дзяўчына, да яе маглі сватацца іншыя, яна магла выходзіць замуж за таго, хто зноў пасватаецца і будзе падабацца ёй і яе бацькам. Праўда, для нявесты і яе бацькоў таксама бясследна іхняя адмова не праходзіла – людзі, асабліва нядобразычліўцы (а такія заўсёды былі і ёсць!), асуджалі іх: падумаеш, якая пані, каго яна хоча, калі ад такога жаніха адмовілася! У сваю чаргу асуджалі, але ўжо іншыя, найчасцей прыхільнікі і сваякі нявесты, і жаніха і яго бацькоў: «А чаго ж яны хацелі? Хіба вочы не бачылі, куды ішлі? Думаць жа трэба! Каб такая дзеўка ды за такога (дурня, абэлтуха, вісуса, галадранца) пайшла?»

Тыя ж, хто не вяртаў і каму не вярталі гарэлкі і хлеба («гарбуза», як яшчэ называлі, смяяліся) пасля сватання, рыхтаваліся да вяселля, якое звычайна надоўга не адкладвалася (адклад жа не ідзе на лад) – на тыдзень-два. Нявеста – цяпер, пасля засватання, яна называлася маладой – абыходзіла сваіх сябровак, аб’яўляла, што яна выходзіць замуж і запрашала ўсіх на вянкі. «Вянкі» – гэта своеасаблівае развітанне нявесты са сваімі сяброўкамі, дзявоцтвам, наогул усім тым, што было дагэтуль, – пасля замуства яна не мела права хадзіць на вячоркі, спеўкі, скокі, наогул паяўляцца адна ў дзявочым ці мужчынскім гурце. На «вянках» рыхтаваліся ўпрыгожанні маладой і маладому, дружкам і дружка;´м. Спяваліся пры гэтым і песні. Песні, як правіла, сумныя, невясёлыя:

Ой, аддае маці дачку
Ды ў чужыя людзі.
А хто ж цябе, мае дзіця,
Шкадаваць там будзе?

Маці маладой таксама тым часам не сядзела дома – абыходзіла радню, запрашала сваячаніц на *каравай*. Як правіла, на «каравай» запрашаліся не ўсе сваячаніцы, а толькі тыя, хто жыў у згодзе з мужам, багата і шчасліва. Кіравала каравайнікамі хросная маці маладой. Яны прасейвалі на сіта муку, учынялі і замешвалі цеста, пяклі каравай. Звычайна кожны крок каравая ад мукі да яго выпечкі суправаджаўся пэўным рытуалам і песнямі. Калі каравай удаваўся – лічылася, што ў новай пары будзе шчаслівае жыццё.

Вялікае значэнне меў і *пасад*. Маладой і маладому трэба было сесці на дзяжу, якая акрывалася вывернутым кажухом. На дзяжу маладая і малады мелі права сесці толькі тады, калі яны захавалі цнатлівасць. Не сесці маладой ці маладому на дзяжу – лічылася ганьбай, з-за гэтага, здаралася, бурыліся вяселлі. Прычым калі маладая ці малады маглі дараваць адно аднаму грэх, то часта ўмешваліся бацькі. «Не трэба мне сучка ў хату!» – бурчаў бацька маладога: «Няхай сабе такую ж, як сам, пашукае, а я сваю дачку замуж за сабаку не аддам!» – гэта казаў ужо бацька маладой. Жанчыны пры гэтым плакалі, а то і смяяліся...

Пасля «пасаду» пачыналася *вяселле* – сапраўды надта ж вясёлае свята. Маладыя павінны былі запомніць яго на ўсё жыццё, а старыя ўволю павесяліцца. Сам абрад гэты вельмі ж распрацаваны, адшліфаваны да дробязей стагоддзямі. І сцэнарый свята помніў кожны, бо вяселле часта паўтаралася. Праўда, тут шмат месца заўсёды было для імправізацыі, кожны сваю ролю іграў па-асабліваму, уносіў шмат ад сябе. І ад таго кожнае вяселле было непаўторнае і надта ж багатае на выдумкі. Яно ўключала і *прыезд дружыны жаніха па нявесту*, своеасаблівае выкраданне нявесты, і *дзяльбу каравая*, калі кожны, хто ўдзельнічаў у свяце, павінен быў нешта падарыць маладым – «выкупіць» каравай, і ад'езд *маладой з бацькоўскай хаты* ў хату да маладога, і *выкуп маладой* проста на вуліцы, калі перагароджвалі ці не пускалі ехаць у бацькоўскі двор («рвалі зайца»), і само *вяселле*, ужо ў доме маладога, дзе былі *пакладзіны* (маладых клалі ўпершыню разам спаць у клець, накрывалі посцілкай і замыкалі на ўсю ноч, не даючы ім заснуць – білі ў сцены бярвеннем, крычалі, весела і салена жартавалі), дзяльба каравая ў *доме маладога, дзед* (у будняе адзенне маладога набівалі салому, падвязвалі між ног кукурузны пачатак і дзве цыбуліны, ды так, быццам гэта яго мужчынскія доблесці, і садзілі на варотах), *прыезд сваякоў маладых з пасагам, уборы наважэнцаў, абед і танцы...* І ўсё гэта праходзіла весела, з песнямі, жартамі, прыгаворкамі, прыпеўкамі, прымаўкамі...

За вяселлем пачыналіся *перазовы*. Іх таксама было некалькі. Тут і *частаванне салодкай кашай* (каша з мёдам), і *маскарад*, калі пераапраналіся хто ў што госці, *жабраванне і спажыванне крадзенага пеўня...* Звычайна кожны, хто быў на вяселлі, павінен быў паклікаць да сябе дадому ў госці маладых, аддаць тое, што абяцаў на каравай...

У некаторых мясцовасцях пасля першай шлюбнай ночы вывешвалі на варотах посцілку. Але ў нашай вёсцы такога не было – давяралі маладым: калі ён і яна селі на «пасад», значыцца, так яно і ёсць, цнатлівасць, чысціня захаваны...

## Жанчына

*У бабы адна дарога – ад печы да парога*

Месца і роля жанчыны ў паляшуцкай сям'і, ды і наогул у жыцці, былі строга акрэслены. І хоць не было нейкіх пісаных дзе б там ні было правіл, але

іх, гэтыя правілы, кожны ведаў і так. Тым больш ведала жанчына. Яна – маці, галоўная ахоўніца сям'і, на яе плячах – хатняя гаспадарка, дзеці, дом. Клопат пра іх, каб усё было накормлена, дагледжана – гэта галоўнае. На плячах у жанчыны быў і гарод, які яна садзіла, палола, лён, каноплі, якія яна апрацоўвала, аж пакуль не ткала і не шыла з іх адзення. Курэй, гусей, качак, свіней таксама даглядаў не муж, а жонка. Значная частка клопату лажылася на жанчыну і ў важданіне і каровай – жанчыне трэба было яе і даіць і паіць, гатаваць і даваць пойла. Што ўжо казаць пра звычайную хатнюю таўкоту – наварыць і накарміць, памыць посуд і бялізну, прыбраць, пабяліць сцены і печ. Ды і прыпасы на зіму зрабіць – насаліць агуркоў і грыбоў, наварыць і насушыць ягад, нашаткаваць капусты і нарыхтаваць удосталь буракоў і морквы... І ўсё гэта трэба было ўмець рабіць...

А дзеці? Колькі клопату давалі жанчыне дзеці! Іх жа трэба і накарміць, і адзець, і навучыць гаварыць, хадзіць, рабіць усякую работу. Ды і ў полі, у лузе без жанчыны ніяк не абысціся – трэба памагаць ва ўсім мужу: і палоць, і акопваць, і сена грэбці, і копы цягаць, і жаць, снапы зносіць, звозіць. Таму не дзіўна, што жанчыны хутка старэлі. То і жыццця было, што ў дзеўках, у бацькі, маці жыла. А выйшаўшы замуж – завязвала сабе свет. Ні пайсці куды, ні адпачыць. Работа, работа і работа. Ды яшчэ і пакрыквае муж, які і няласкавы і грубы, бо і браў яе часта не кахаючы, а як работніцу, бурчаць і свёкар, свякруха. Не заўсёды ж і патрапіш ім угадзіць хоць бы ўжо таму, што дома, у бацькі і маці, тую работу рабілі не так, як робяць тут. І трэба, калі не хочаш трапіць у няміласць, перавучвацца... А перавучвацца куды цяжэй, чым вучыцца. Паспець жа ўсюды зрабіць усё, што ад цябе патрабуюць, што трэба зрабіць, пры ўсім тваім жаданні, як ні высільвайся, як ні рвіся, як ні шчыруй– не паспееш. Бо і карову трэба падаіць, і ў печы выпаліць, і снеданне, абед зварыць, і свіней, курэй, качак, гусей накарміць. Ды і дзеці прачынаюцца, з пасцелі ўстаюць, есці хочуць, увагі, догляду просяць. А тут яшчэ муж спяшаецца, нервуецца, што яды няма, падганяе, каб хутчэй на стол што-небудзь падавала ды ў поле, у лес, на луг яго збірала.

– Не трэба так позна спаць, – папракае жонку. – Каб рана устала, усё паспела б зрабіць...

А яна ж, жонка, і не спала зусім, кудзелю скубла, прала. Здаецца, і сну таго толькі і было, што галаву на падушку палажыла. А расплюшчыла вочы – світае, днее...

І апраўдвацца перад мужам не спрабуй – нічога не дакажаш, усё адно вінавата будзеш. Дык гэта ж калі муж адзін над душой тваёй стаіць. А калі ў хаце жывуць і свёкар, свякруха, што часцей за ўсё здаралася, было. Тады з усіх бакоў бурчаць, пакрыкваюць, кідаюць кплівыя недавольныя позіркі. І нікому не паскардзішся на долю сваю – няма тых, хто цябе зразумеў бы. Бацька родны і той не зразумее. «А як жа ты, донька, хацела? Жыць і нічога не рабіць? Ды каб на цябе ніхто і слова яшчэ не сказаў?» Маці, вядома, разумее, але чым яна паможа – толькі плача, бедная....

А тут яшчэ дзеці адно за адным як з мяшка незавязанага сыплюцца. Не паспееш адно на ногі паставіць – новае ўжо ў калысцы крычыць, кугакае.

Ані лыжкі, ані міскі,
Ой, божа ж мой...
Павесіла тры калыскі,
Ой, божа ж мой...

Ды і хваробы ж. Адкуль яны толькі і бяруцца! Усю ноч дзіця не спіць – плача. Калышы яго, на руках насі. І ўсё адно папрокі. «Ты б яму цыцку дала!» – крычыць свякруха. «Во набылі сабе падмогу!» – бурчыць свёкар. Ды і муж недавольны – спаць дзіця і яму і нікому не дае. А што яна, бедная, зрабіць можа, не ведае ж, чаго дзіця не спіць, ноч усю-ўсенькую крычма-крычыць. Цыцкі ў рот і то не бярэ... Каб хіба знахара ці знахарку паклікаць?.. Але ж ноч на дварэ, а да знахара ці знахаркі той... Ого, колькі трэба ісці, бегчы ці ехаць. Ды і не ёй жа гэта рабіць. Такое рашэнне, як паклікаць знахара ці знахарку, маюць права прыняць муж, свёкар і свякруха. Знахар ці знахарка проста ж так нічога не робяць, плаціць ім трэба. А ўсім дабром распараджаецца не яна, новы чалавек у сям'і, а яны, тыя, хто ўзяў яе ў сваю хату, свой дом...

Таму не дзіўна, што многія жанчыны не вытрымлівалі жаночай катаргі, рана адыходзілі на той свет. Ды і дактароў жа не было, каб памагчы жанчыне, аблегчыць яе пакуты – і пры родах, і пры хваробе дзіцяці, ды і так, наогул, калі сэрца і душа былі не на месцы, сохлі, пакутавалі, былі ўвесь час у напружанні. І тады муж браў сабе новую жонку, дзецям – мачаху... Мачаха, як правіла, дзяцей сваёй папярэдніцы не любіла, ды і дзеці не любілі новую маці. І кожны за ліха плаціў ліхам. Нараджаліся ў хаце новыя дзеці, і маці-мачаха глядзела іх, а не тых, што пакінула ёй папярэдніца... Колькі ў вуснай народнай творчасці казак, ды і песень пра злых мачах і гаротнікаў – дзяцей-сірот! Ды і пра жаночую долю, якая інакш і не называецца, як горкай. І туга, якая туга ў гэтых песнях!

Дуе вецер ды дуе-павявае,
А маці ў доні ды пра жыццё пытае.

Ды пытай, маці, ты шэрыя вуці,
Бо шэрыя вуці па моры качуюць.

Шэрыя вуці па моры качуюць,
Ой, ды яны маё ўсё горушка чуюць.

Перша гора, што дзяціна малая,
А другое гора, што свякруха ліхая.

А трэцяе гора, што мой мілы гняўлівы,
Да каго захоча, то мяне прыраўнуе.

Сам ён едзе ў поле араці,

А мяне бярэ ён ды валы паганяці...

Калі была ўведзена воінская павіннасць, у некаторых паляшуцкіх сем'ях імкнуліся ажаніць сына, прывесці ў хату нявестку да таго, як сыну ісці служыць у войска. І маладая, адразу ж пасля вянца, рабілася звычайнай рабыняй у доме свёкра і свякрухі. Здаралася, свёкар нават змушаў яе спаць з ім... І ўцячы, пайсці ўпрочкі жанчына не мела права, бо гэта асуджалася. Не толькі роднымі – бацькам, маці, братамі і сёстрамі, – але і суседзямі, усімі вяскоўцамі. І жанчына мучылася, цягнула сваю лямку. Праўда, не ўсе вытрымлівалі такое жыццё – некаторыя, нягледзячы на ўсеагульнае асуджэнне, парывалі путы, уцякалі ці да бацькі і маці, ці да сваякоў. Некаторыя ж канчалі жыццё самагубствам – тапіліся, вешаліся...

Вядома, былі і шчаслівыя выключэнні. І жаніліся па каханні, і жылі душа ў душу з мужам у дастатку. Але такіх было няшмат. Сямейнае жыццё, як правіла, ва ўсіх было нялёгкім. Сыходзіліся ж жыць два зусім непадобныя характары, дзве натуры, дзве зусім розныя школы выхавання, дзве стыхіі... І трэба было прывыкнуць адно да аднаго, сцярпецца, даравацъ адно аднаму недахопы і хібы... Ды яшчэ пад наглядам мужавых бацькоў, якія ўмешваліся і заўсёды ўмешваюцца не ў сваё, хочуць навучыць маладога і маладую, як жыць. І бок заўсёды ж бяруць не яе, чужой ім, а яго, сынаў...

Словам, жаночая доля – нялёгкая доля. Даводзіцца толькі здзіўляцца цярплівасці жанчын, іх уменню пераносіць усе нягоды і складанасці жыцця і быць іншы раз яшчэ вясёлымі, радаснымі, забываць на многае, што імі пражыта...

Няхай жа яны, нашы дочкі, сёстры, маці, бабкі і прабабкі, будуць вечна блаславёны! Нізкі, зямны паклон ім усім і шчырая падзяка за ўсё, што зрабілі і робяць яны дзеля ўсіх нас, мужчын!

## Мужчына

*– Ці дома, дома сам гаспадар?*
*– Ой, хоць і дома, ды не гуляе*
*З песні*

Мужчын цяпер называюць самай дужай паловай чалавечага роду. У нашых продкаў гэта была яшчэ і самая разумная, мудрая і ўладная сіла. Што сказаў муж жонцы і нават дарослы сын маці – закон, аспрэчыць гэта не меў права ніхто. Парушыць таксама. Ішло гэта, мабыць, з сівой мінуўшчыны, з тых часоў, калі мужчына быў паляўнічы, рыбак, калі галоўным яго клопатам было карміць і абараняць, ахоўваць сям'ю ад розных нягод. Жанчына нараджала дзяцей, важдалася з імі, а мужчына рабіў усё астатняе. У паляшуцкіх сем'ях мужчына лічыўся гаспадаром, на яго запісвалася зямля і маёмасць, ён вёў розныя перамовы з суседзямі ці іншымі, прыезджымі, людзьмі наконт таго, што, за якую цану прадаць і што, за якую цану купіць,

ён меў права прымаць любыя рашэнні, часта не раячыся нават з жонкай; ён, калі ўзнікала непаразуменне ці яшчэ што-небудзь, меў адносіны з панам і ўладай. Да мужчыны-гаспадара выхоўвалася павага ў сям'і, у дзяцей. Яму належала першаму браць у руку лыжку, выбіраць лепшы кавалак за сталом, бо ён – карміцель, благадзецель. Нават грошы і то належалі яму, распараджацца імі меў права толькі ён.

Але не трэба думаць, што становішча мужчыны ў сям’і, ды і наогул у грамадстве, было намнога лепшае, чым жанчыны. Мужчына быў таксама рабом. Толькі не сям’і, як жанчына, а рабом зямлі, гаспадаркі, тых абставін, у якіх ён жыў. Усё ж – і дабрабыт, і дагледжанасць жывёлы, усёй гаспадаркі – залежала ад яго, ад таго, як умеў ён упраўляцца, ад яго вопытнасці і ведаў, дзе калі ўзараць, калі што пасеяць, калі што зжаць, змалаціць. Ды і за хатай жа, дваром догляд павінен быць належны – страху паправіць, што адрамантаваць, уцяпліць, а то і новае збуда ваць. Цалкам на гаспадару быў і догляд за коньмі, валамі. Без іх жа як гаспадарку весці? І пааraць жа поле трэба, і засеяць яго, і прывезці з поля снапы, і з балота сена, і з лесу дровы. Ды і ў млын збожжа змалоць з’ездзіць трэба, і гной з хлявоў вывезці... Не, без коней, валоў які ж ты гаспадар. А калёсы, сані, плуг, саха, барана, каса, граблі, цэп ды і іншы інвентар? Ён жа таксама, яго спраўнасць – гэта клопат гаспадара. Ды і ўсё астатняе, без чаго жыць немагчыма – ложак і стол, бочка і жлукта, цэбар і вядро, начоўкі і сіта... А той жа паркан, тыя ж камора, клець, сцёбка, ёўня, гумно?.. Гэта ж таксама не на чыіх плячах, а на плячах гаспадара. А сена накасіць, у стагі скідаць? Ды і дадому яго даставіць? А збожжа змалаціць, павеяць?.. Словам, чаго-чаго, а работы хоць адбаўляй ці наймай каго-небудзь, каб памог рабіць. Зранку да позняга вечара яе робіш, а яе не меншае, а, наадварот, робіцца яшчэ больш і больш. Ды няхай бы, як-небудзь спраўляўся б з ёю, ліха яе бяры, каб толькі напасці якой не было, бяды. А то ж... Вясною, ды часта і ўлетку, затопіць поле, дзе пасеяны жыта, ячмень, проса ці пасаджана бульба. Стой па калені ў вадзе, а то, здараецца, і па пояс, канавы капай, каб вада спала, аплятай лазою. Перад самым жнівом вецер навальніцу нагоніць, пакруціць, пакладзе збажыну. Ды яшчэ і дажджом у самую зямлю ўваб’е, уплешча, градам вымалаціць... Сена накосіш, а яно вадою падплыве, згніе ў пракосах... Карову на пашу выпусціш, а яна з’есць нешта, і бакі яе раздуе, здохне карова. Ці той жа конь, вол... Здаецца, выпражаш яго з аглобляў, напоіш, накорміш, у стайню, хлеў загоніш. А ураннi прыйдзеш, дзверы адчыніш – не ўстае, захварэў. А то і здох... Ці пажар укінецца, усё чыста выкаціць – хату, камору, хлеў, стайню, гумно... Запрагай каня, ездзі з вёскі ў вёску, прасі, хто што дасць... А вайна ці яшчэ ліха якое ўсчнецца? Усё кідай – жонку, дзяцей, поле, гаспадарку – і ідзі ў свет, як у капейку. А ці вернется зноў у сваю вёску, да сям'і?

Дый калі вернешся, ці такім, як быў? Могуць жа і скалечыць – руку, нагу адарве ці шабляю адсякуць. Пагаспадар тады, упраўся з тым, з чым дужы, здаровы ледзь упраўляўся. І вось жа, скажы ты, як на свеце ўсё. Ты на гару, чорт за нагу. Здаецца, вось-вось выб’ешся з нястачы, сонца ўдачы бліснe, засвеціць і ў твае вокны. Э-э, не-е! Умяшаецца нехта, улезе – і ўсё

закруцілася, завярцелася і зусім у іншы, адваротны, бок пайшло... Ды так, што і прасветліны нідзе наперадзе не відаць. Асабліва як жонка занядужае, хварэць пачне. А то і памрэ, небарака. Ды яшчэ такая, з якой жыў душа ў душу, якая і ласкавая, і гаспадарлівая, і ашчадная была, і дзяцей, гарод, гаспадарку ўмела дагледзець... Іншую гаспадыню сабе шукай. А тая, новая, не такая ўжо – і не ласкавая, і не ашчадная, і гаспадаркі не глядзіць так, як тая, ранейшая, глядзела. Ды і характарам няўжыўчывая, сварлівая... І рабіць тады нічога не хочацца, усё з рук валіцца. Ды і дзяцей жа ад той, ранейшай, шкада – не глядзіць яна іх, ненавідзіць. І ненакормленыя, і недагледжаныя. Вернешся з поля, з лугу ці з лесу дадому – сэрца крывёю абліваецца, чарнее... І рабіць, што рабіць – не ведаеш...

Ды і так, калі быццам добра ўсё, ідзе на лад, клопатаў хоць адбаўляй. Не бывае ж, каб усё аднолькава ўрадзіла. То жыта, проса, ячменю не намалоціш, то бульбы ледзь на насенне збярэш. Трава не ўродзіць, сена ані не накосіш... І думаць, думаць трэба, як бы канцы з канцамі звесці, каб зубы на паліцу не пакласці, каб было што і самому і сям’і есці. Ды і чым каня, вала, карову, свіней, авечак карміць. Зноў жа... Калі ты малады – як з бацькам раздзяліцца, каб па-добраму, без сваркі, узяць, што трэба? Калі стары, сына жэніш – і яго не пакрыўдзіць і сябе? Жанчыне што – рабі, што загадваюць, што трэба рабіць. А мужчыне... Думаць, ой як думаць пра ўсё трэба! Іншы раз як задумаешся – ноч доўгая асенняя ці зімовая праляціць – не заўважыш, ні на хвіліну вачэй не звядзеш, не замкнеш, не заснеш нават. Галава кругам ідзе, а выйсця... Выйсця не бачыш, не знаходзіш. Дык гэта ж калі ты дужы, здаровы. А як захварэеш? Ды яшчэ вясною, калі сама араць, сеяць трэба? Ці ў час касавіцы, жніва? Вясновы, ды і летні, дзень, кажуць, год корміць. А тут не дзень, не два ляжыш, устаць на ногі не можаш, а і тыдзень, а то і месяц, вясну, лета... І ніхто ж цябе ў тваёй рабоце не падменіць, ніхто не паможа – у кожнага ж свае работы па горла, хоць адбаўляй... А не пасееш – і не пажнеш. Не пажнеш – і не змалоціш. Не змалоціш – і не змелеш. Не змелеш – і хлеба не спячэш. Хлеба не спячэш – і не з'ясі. Галадай... І не адзін – сям’я ўся... Жонка, дзеці...

А хочацца ж кожнаму не толькі жыць, але і багацець. Каб і поля, і кароў, валоў, коней, авечак, свіней было болей, і каб хата была не горшая, як у людзей, і двор, ды і ўсё астатняе. Вока ж у чалавека завідушчае, і сілы свае ён ніколі не ведае. Здаецца, заўсёды будзе такі ж дужы, увесь свой век будзе ўсё рабіць, зносу не будзе ніколі. І ён робіць, шчыруе, б’ецца, як рыба аб лёд, сюды-туды кідаецца, каб паспець усюды, зрабіць усё, пакуль аднойчы не адчуе, не ўбачыць, што не работнік ён больш, сілы няма, дзе і падзелася яна. Была – і няма. Бо і не адпачываў жа ніколі, мяняў толькі адну работу на другую. Араць, сеяць, баранаваць пакідаў – касіць трэба было. Сена накошваў, стагі ставіў – жніво пачыналася. За жнівом – бульбу трэба было капаць, з поля вазіць, у капцы засыпаць. Потым малацьба, сена з балота вазіць. Ды і калі ж гаспадарку агледзець, нешта ці выдзеўбці, ці вобад, полаз сагнуць, хамут падшыць, вупраж паправіць, пабандарыць, пастальмашыць, як

не зімою ці ў дождж, калі рабіць іншага нічога нельга. Не, у сапраўднага гаспадара работы заўсёды хапае. Ні дня без яе не сядзіць...

Не, бабская доля нялёгкая, але і мужчынская не лепшая, мала, ой як мала ў ёй радасці... І таму не ўсе мулкую мужчынскую лямку да канца цягнулі, многія надрываліся, раней часу на той свет ішлі ці співаліся, гаспадарку з рук збывалі, а сям'ю, дзяцей пускалі з торбамі па свеце...

## Работа

*Работа і турбота раней часу кладзе ў магілу.*

Работа ў жыцці продкаў займала галоўнае месца. Проста нельга ўявіць, каб яны хоць калі чаго-небудзь не рабілі, сядзелі склаўшы рукі. Бо такога і не было, нават у святы. Трэба ж – хочаш не хочаш – а ў печы выпаліць, хату абагрэць, яду згатаваць, накарміць дзяцей і ўсё жывое, што ў хаце, двары жыло, есці, піць прасіла. Агонь запаліць і то вунь колькі і часу і сіл трэба патраціць! Па-першае, у лес схадзіць, губака знайсці. Потым губака таго зварыць, высушыць, пабіць добра абушком – змякчыць, зрабіць з яго губку. Па-другое, выкаваць красала, падшукаць адпаведны крэмень. А колькі памахаць тым самым красалам, каб выкрасаць іскры, запаліць ад іх губку, а ўжо ад яе бяросту, лучыну! Увішнасці, кемлівасці і ўпартасці патрабавалася і каб, скажам, з рога ці з капыта выпіліць гузік ці грабянец, апрацаваць скуру, выкраіць з яе раменьчык, сплясці абору ці вяроўку, пашыць шапку і боты...

Звычайна вясковае жыццё ішло цыкламі ці, як некаторыя кажуць, кругамі. І кожны цыкл ці круг пачынаўся з вясны. Вясны ўсе – і дарослыя і дзеці – чакалі, яе радасна сустракалі, нават гукалі. Як жа – пасля халоднай, злоснай зімы-мачахі вясна несла цяпло, святло. Прыляталі з выраю птушкі, зелянелі травы і дрэвы, ажывала прырода. Вясна несла абнаўленне, надзею на лепшы год, прыплод, ураджай.

Вясной пачыналіся і работы – у двары, гародзе, садзе, полі. Трэба было выкідаць і вывезці з хлявоў гной – зімою яго на Палессі вывозілі рэдка; бо ў разводдзе ён набракаў і сплываў з вадою ў балоты, раўчукі, – што ўскапаць, што ўзараць, што ўспароць сахою, потым пасеяць, засадзіць, забаранаваць. Ды і худобу выгнаць на пашу. Завезці пад кляновік і бярозавік бочкі... І рабіць усё трэба не абы-як, а з толкам, ведаць *час*, *пару.* О, вы не чулі, што гэта такое? Шчаслівыя людзі. Нашы продкі такімі не былі. Гной на поле яны вывозілі толькі пад поўню – каб усякага дабра поўная клець была. Пад поўню і сеялі. Бо калі пасееш, скажам, збажыну пад маладзік, то яна будзе *маладзіцца*, а зерне ані не ўродзіць. Лепшы час для сяўбы – калі няма на небе сонца, а плывуць хмаркі. Прывезенае на поле насенне нельга ставіць проста на зямлю, а трэба пад яго абавязкова падаслаць саломкі. Ячмень, проса і пшаніца не сеюцца, калі паляць у печы, – нападзе на колас сажа. У сейбіта за поясам павінна быць сякера – тады вырасце збажына такая, што яе трэба будзе сякераю сячы. Сеючы, нельга нічога есці, жаваць, бо чэрві і жучкі

будуць есці зерне. Найлепшая ж пара для сяўбы – гэта поўнач, калі няма на небе месяца і ты ходзіш па полі з сявенькаю зусім голы, як маці нарадзіла... Было шмат і іншых самых розных прымхаў і забабонаў. Так, каб добра на полі радзіла, саху трэба рабіць з некалькіх парод дрэў: рагач – з яліны, плаху– з бярозы, паліцы – дубовыя, ярмо – асінавае. Едучы першы раз у поле, трэба самому чыста памыцца, надзець чыстую бялізну – тады не будзе на полі расці пустазелле, зерне будзе чысценькае, хоць лічы. Каб валы былі здаровыя і спакойныя, іх, запрэжаных у саху, трэба абнесці тры разы з поўным вядром вады і тою вадою акрапіць. Сустрэўшы на вуліцы жанчыну, кінь у яе штонебудзь, інакш у полі здарыцца з табою прыгода. Аручы ля будынкаў, асцерагайся, каб не зачапіць сахою хлява. Бо, калі зачэпіш, – худоба будзе калоцца, коні брыкацца, а свінні грызці адна адну. Араць лепш босаму, тады поле ўродзіць. Вельмі дрэнна, калі, кіруючыся ў поле, убачыш, што хтонебудзь узяўся гарадзіць плот, – лепш тады "нікуды не ехаць, усё адно не пашанцуе... І так ва ўсім, што б ні браўся рабіць. На што ўжо бесталковыя жанчыны, а і тыя ведалі *час і пару*, пільнаваліся іх, нават калі выносілі па вясне бяліць, выбіваць пранікамі і валькамі палотны, што наткалі за зіму, рабілі грады, сеялі моркву, мак, укроп, гуркі, гарбузы, садзілі цыбулю і часнок, ды і на яйкі гусей, качак, курэй садзілі... О, калі хто не пільнаваўся часу, пары, то нічога і не меў – ні ўраджаю, ні прыплоду... Нават з мужам, сваякамі і то не ў згодзе, ласцы жыў...

Вясна – і дзецям радасць: цёпла ж. Можна ў любы час выбегчы і на двор, і на вуліцу, нічога не апранаўшы, не абуваўшы. Ды і па шчаўе, па лотаць, што жаўцее ўсюды на балотах, па кураслеп збегаць, хрэну на полі накапаць, гнёзды птушыныя папароць, яек назбіраць. Ды і спеваў самых розных паслухаць – гэта ж так залiваецца, ледзь прачнешся, на страсе хаты ластаўка, клякоча на вільчыку хлява бусел, гугае голуб, стракочуць сарокі, ціўкаюць вераб’і... І качак жа, гусей свойскіх на ваду можна пускаць, свіней пад дубамі, дзе яшчэ астаўся з зімы жолуд і трава з зямлі паказваецца, шылам лезе, папасвіць, вогнішча распаліць... І ў гульні ж разам з іншымі дзецьмі, многіх з каго з восені не бачыў, – пагуляць...

За вясною, вясновымі работамі вельмі незаўважна і лета прыходзіць, а з ім – і летнія работы. Не паспееш бульбы па другім, трэцім разе абагнаць ці акапаць, лён, жыта, ячмень, проса, ды і грады, прапалоць, а ўжо глядзіш – касу кляпаць трэба, сена касіць. О, якая ўвішная гэта работа! З самага ранку звон аж у вушах стаіць – клеплюць, мянташаць косы. Потым сем’ямі, пагрузіўшы на воз граблі, вілы, торбы з ядою, барылы з вадою, едуць хто на луг, хто на балота. Некаторыя і дадому ўвечары не вяртаюцца, начуюць там, у знарок збудаваных з зялёнага галля куранях, каб як мага раней прачнуцца, пакасіць з расою – «касі каса, пакуль раса, раса далоў – касец дамоў...» А скасіўшы, і высушыць, зграбці сена трэба, скапіць, копы знесці да адзёнка, скідаць у стог. І трэба ж падгадаць, каб на пагодзе стаяла, інакш счарнее сена, пагніе ў пракосах. А калі і зграбеш яго – есці ніштo не будзе, хіба на подсціл пойдзе каровам, коням і валам. Таму і спяшаліся, гуртам, сем’ямі шчыравалі на лузе і ў балоце, нават старых, дзяцей і то з сабою бралі. З сенам управіцца

не паспееш – лён пажаўцеў, браць пара, ды і збажыну жаць трэба. Не сажнеш у час – птушкі выцерабяць, асабліва ячмень і проса, асыплецца зерне на зямлю. І таму, зноў жа, хто толькі хадзіць мог, быў у полі. Хто жаў, хто перавяслы круціў, хто снапы вязаў і зносіў, у бабкі ставіў, хто на воз падаваў, з поля звозіў, на таку ў сцірту складваў. А то і малаціў, пакуль не змалацілі, не перацёрлі яго мышы, веяў зерне, сушыў, рыхтаваў на зіму, ссыпаў у сусекі, бочкі, шчані...

А ў лесе між тым спелі ягады. Спярша суніцы, потым чарніцы, маліна, парэчкі, смуродзіна. Ды і грыбы першыя выраcталі – лісічкі, сыраежкі, абабкі, баравікі-каласавікі... Зноў жа спаць у шапку не варта. Не прынясеш з лесу, не ссушыш, не зварыш – што ты зімою есці будзеш? І таму ўся сям'я ўсё лета была ў клопаце, на нагах, у рабоце. Нават самыя малыя, старыя, хто ледзь па хаце, па двары хадзіў – вартавалі гусянят, качанят, куранят, што вывеліся, каб коршак не пахапаў, ліса не пацягала, не пажэрла...

У рабоце, клопаце ніхто і не заўважаў, як лета мінала, пераходзіла ў восень. Жаўцела лісце, а потым і ападаць пачынала. І работы не меншала, а прыбаўлялася. Трэба было і гуркі на зіму саліць, і гарбузы з гарода зносіць, на страху класці, каб даспявалі, і атаву касіць, і авёс, грэчку. Ды і лён слаць на росы... А потым падабраць яго, пасушыць, пацерці на церніцы, аддзяліць кужаль ад патрэпак... І бульбу капаць, дадому ў двор звозіць, у капцы ссыпаць. І хату ўцяпліць – кастрыцы на прызбу падкінуць, і страху, калі яе ветрам знесла, падладзіць. І малаціць тое, што летам не паспеў змалаціць. Ды і брусніцы, ажыны, каліна, рабіна, журавіны спеюць. І грушы-дзічкі, лескавыя яблыкі... І арэхі, жалуды... А трэба ж не забыць і моркву, буракі з град выбраць, ды і капусту ж ссячы. Хоць і сядзіць яна, набіраецца сокаў і моцы, круглее да марозаў, але ж да самай зімы датрымліваць яе, не ссечаную, таксама не варта. Круглыя, тугія качаны капусты звальваюць куды-небудзь на дзень-два і адразу ж бяруцца класці яе ў бочкі і шчані, што шаткаваць, а што і «палойкамі». Прычым шаткуюць жанчыны звычайна не па адной, а гуртам, талакой – адной сшаткуюць да абеду, другой пасля абеду. Так ахвотней і спарней – адна адно робіць, другая другое, адна шаткуе, другая перацірае, моркву крышыць, укроп, соль сыпле, у бочку топча, трамбуе...

Позняя восень і яшчэ на адно багата – у гэты час па ўсёй вёсцы ідзе свежаванне – то пеўня, то качара, то гусі, то барана, авечкі. А там, неўзабаве, і кабанчыка, падсвінка... Падлічвае ж кожны, колькі і чаго можна пракарміць. І многае залежыць ад ураджаю, колькі чаго намалаціў, сабраў бульбы і буракоў, колькі нарыхтаваў сена... Навошта ж пакідаць, трымаць тое, што ўсё адно не выкарміш да вясны. Ды і аслаб жа чалавек за лета, за работай свету не бачачы. Трэба і самому падкарміцца, і жонку, дзяцей падмацаваць... Тым больш, што і пахаладала, мяса не будзе псавацца ў каморы. О, камора ў вёсцы ў той час была не толькі схованкай, кладоўкай, але ў нейкім сэнсе і халадзільнікам!

А тым часам непрыкметна і зіма на белых конях пад’язджае. Ударыць спярша мароз – галашчокам, потым вецер халодны, сцюдзёны – сіберны – падзьме, сыпане снег, замяце сцежкі-дарожкі. Работы быццам паменшае ў

подi. Але дома, у хаце i ў двары яе рабiць – не перарабiць. Трэба дамалацiць тое, што не паспеў змалацiць летам i ўвосень. Трэба i кудзелю рабiць, працi, ткаць. Трэба i санi рыхтаваць, ехаць у лес па дровы i ў балота па сена... Ды i калi ж i пабандарыць, пастальмашыць, у вупражы парадак навесцi, калi ж i боты, валёнкi падладзiць цi пашыць, скатаць новыя, як не зiмою. Дый алей трэба збiць з канапель, лёну i маку. А тут сусед вунь ужо ў лес збегаў па першапутку, зайца ўпаляваў, а другi рыбы вунь налавiў – цэлую торбу ўюноў прынёс! Як жа тут уседзець дома! Хоць i смяюцца з паляўнiчых–у стральца дым густы, але абед пусты, – а ўсё ж...

Стрэльбу цi рыбацкае прынаддзе за плячо – кашы, каробачкi, а то, калi лёд не тоўсты, i комлю – i з хаты, з двара. I дзе-небудзь у полi цi на балоце, у лесе не вытрымаеш, спынiшся, залюбуешся, замрэш: божа, якая прыгажосць навокал! Белае поле, белае балота, i лес белы – як заварожанае ўсё, быццам чагосьцi незвычайнага, добрага, чыстага, светлага чакаюць! I пад нагамi ж рыпiць, скрыпiць, бы на жывое ступаеш, i твар, усё цела свежасцю абдае, бадзёрыць кроў – не iсцi, а бегчы, iмчаць, ляцець хочацца!

Не, гэта потым зiма збрыдзее, надакучыць, здоўжыцца. А напачатку–гэта надта ж прыгожая i светлая пара. Анi не горшая за ўсе астатнiя поры года.

## Яда

*Не пад’ясi – то i работы не зробiш.*
*Чалавек галодны–нi на што не годны.*

«Хто не любiць павесялiцца, асаблiва – смачна паесцi?» – жартуюць цяпер некаторыя. I продкi нашы што-што, а паесцi любiлi, хоць часам i казалi: «Абед не заяц – не ўцячэ»; «Госць, не дзьмiся – еш, што ў мiсе». Таму палеская кухня не такая i бедная, як некаторым здаецца. На жаль, яна мала вывучана, ды амаль не вывучаецца i цяпер. А шкада. Тымi стравамi, што елi нашы продкi, можна было б вельмi разнастаiць любое меню, нават самых шыкоўных сучасных рэстаранаў. Асаблiва гэта датычыць страў, што гатавалiся з грыбоў. Адзiн раз я налiчыў iх нешта цi не з сотню. Прычым грыбы выступаюць у гэтых стравах i як самастойныя, i як кампаненты да мяса, смятаны, бульбы. Вельмi шмат страў гатавалася i з бульбы – варанай, печанай, паранай, смажанай; дзёртай, тоўчанай, крышанай... Мучныя, крупяныя стравы таксама займалi немалое месца. Багата чаго рабiлася i робiцца цяпер з мяса, рыбы, малака, гароднiны, садавiны. Ды i з свежых i сушаных, вараных ягад...

Вядома, яда ў кожнай сям'i залежыць перш за ўсё ад самой гаспадынi, умее яна гатаваць цi не ўмее. Залежыць гэта, вядома, i ад самiх прадуктаў, ёсць яны цi няма, умеюць iх захоўваць цi не ўмеюць. Ды многае залежыць i ад таго, калi што згатаваць i калi што на стол падаць. Не дарма ж кажуць: умела гатаваць, ды не умела падаваць...

У час, калі не было халадзільнікаў і многія прадукты доўга не захоўваліся ў свежым выглядзе, шмат што ў ядзе залежала ад сезона, пары года. А можа, неяк падсвядома чалавек адчуваў, разумеў, што нельга ўвесь час перагружаць страўнік, ды і арганізм, living розная роду цяжкай ежай – а да такой, як вядома, адносіцца перш за ўсё мяса, ды і дзе было яго, таго мяса, узяць на кожны дзень. Таму, мусіць, і прыдумалі людзі пасты, калі гатавалі і елі толькі посныя, дыетычныя стравы – з тоўчаным льняным і канапляным семем, макам, алеем, рыбай, а таксама сыроваткі, квасоўкі, талакно, жур, кулагу, кісялі, узвары... Затое на вялікдзень, каляды, ды і ў іншыя святы, асабліва на радзінах, хрысцінах, вяселлях, выстаўлялася на стол усё, хто на што здатны быў, што ў каго было, – па сотні, а то і пабольш закусак і страў – словам, было дзе разгуляцца, павесяліцца, было што паесці тым, хто гэта любіў. Акрамя розных вінегрэтаў, салатаў з рэдзькі, бручкі, капусты, цыбулі, часнаку, морквы, агуркоў, буракоў, тут абавязкова былі грыбы – смажаныя, салёныя, гатаваныя; каўбасы – крывянка, вантрабянка, бульбянка, калбушок; мяса, сала, рыба – вараныя, смажаныя, вэнджаныя, вяленыя. Былі тут і верашчака, мачанне, сыры, яечня, яйкі вараныя, фаршыраваныя і проста свежыя, сырыя; наліснікі – з мёдам, смятанай, тварагом, маслам, шкваркамі; дранікі, грачанікі, млінцы, аладкі, бабка; кручэнікі, варэнікі з самай разнастайнай начынкай; катлеты; бульба вараная, смажаная, тушаная – крышані, камы; засмажаныя цалком у печы, жоўценькія, гладзенькія – сапраўды святочныя! – парасяты, качкі, гусі, куры; кашы, поліўкі, пірагі, караваі, коржыкі; ягады, настойкі, варэнні; кісялі, квасы, узвары, мядухі, кампоты... І, вядома ж, жур, талакно, кулага...

Вельмі залежала яда ў кожнай сям'і і ад дастатку, ад году – ураджайны ці не ўраджайны ён быў. Магазінаў жа тады не было. Прыкупіць ці абмяняць што-кольвек з яды можна было хіба ў суседніх вёснах. А гэта і далека, ды і не ў кожнага было «купіла» ці «мяняла». Вялікі Бор, напрыклад, спрадвеку выручалі грыбы, дзічына, ягады. Грыбы звычайна сушылі, салілі, а потым, як толькі наладжваліся дарогі, вазілі ў тыя вёскі, дзе грыбоў альбо не было, альбо было мала, і мянялі на жыта, ячмень, бульбу. Гэтак і з дзічынай, калі ўдавалася ўпаляваць, рабілі. Але гэта ўжо зімою, калі яна замярзала і не псавалася. Вельмі выручалі велікаборцаў і ягады, асабліва чарніцы. Іх насушвалі па некалькі мяшкоў і таксама вазілі мяняць у нелясныя, палявыя вёскі. З узнікненнем базараў абмен і продаж стала рабіць і лягчэй і прасцей. Нагрузіў на воз усяго, чаго ў цябе многа, павёз на базар. Што прадаў, што абмяняў на тое, чаго ў цябе не хапае. Але зноў жа, не ў кожнага было што і прадаць і абмяняць. Былі беднякі, у якіх мала што, а то і зусім нічога не было. Гэта былі альбо гультаі, п'яніцы, абібокі, ці пакрыўджаныя богам людзі – калекі, старыя, нядошлыя, хворыя. Іх яда – гэта кавалак выпрашанага ў людзей хлеба ды конаўка малака, а то і квасу, вады...

Многае ў ядзе залежала і дзе чалавек есць. Калі «прыхваткам» – на сенажаці, у полі ці ў лесе – яда адна была, і зусім іншая дома, у хаце. На сенажаці, у полі ці ў лесе мала было варанага, найчасцей было печанае на агні ці наогул сухамятка. Дома ж, дзе была печ, ды і гаспадыня, можна было

яду прыгатаваць як належыць. Але зноў жа, калі ў гаспадыні быў час. А калі яго не хапала – вясною, як сеялі, садзілі, ці летам, як касілі, жалі, – не да розных выдумак было: паспець бы ў полі, у агародзе, на лузе ўсё зрабіць. Зусім іншая справа, калі восень, зіма, работа трохі спадала. Тады можна і павыдумляць, згатаваць нешта небудзённае. А ўжо ў святы, асабліва калі збіраліся святкаваць іх разам, усе сваякі і нават вёска, то жанчыны, дамовіўшыся, кожная паасобку гатавалі тое, хто што ўмеў лепш згатаваць. Тут ужо фантазія была незвычайная, кожная жанчына паказвала, на што яна здатная, усю сваю душу, увесь свой спрыт у тую ці іншую справу ўкладвала. І вышэйшай пахвалой было, што згатаваную ёю страву ўсе елі і з’ядалі ўсю, да кропелькі, да крошачкі. Тады гаспадыня аж цвіла, расказвала жанчынам, як яна тое ці іншае рабіла, гатавала. І наадварот, калі яда была нясмачная, недасоленая ці перасоленая, падгарэлая ці недавараная, пераваранaя, ад сораму жанчына не ведала, дзе падзець вочы, бо гэта закранала яе гонар. Асабліва шчыравалі, імкнуліся спадабацца сваёю ядою тыя жанчыны, у каго былі дочкі. Бо лічылася – калі маці добрая гаспадыня, умее гатаваць, то і дочкі ў яе такія ж здатныя. Іх і замуж хутчэй бралі, ды і не горшыя, а лепшыя хлопцы. Бо яда для мужчыны – гэта і яго настрой, і яго здароўе, і працавітасць. Так што быццам і стымул для кожнай гаспадыні быў, каб гатаваць лепш. А для таго, каб лепш гатаваць, папрактыкавацца трэба. Таму, перш чым гатаваць для іншых, гатавалі для сябе. І на людзі выносілі толькі тое, што дамашнія ахвотна елі, хвалілі, прасілі яшчэ згатаваць. Наогул жанчынам, у каго былі дочкі, даводзілася ва ўсім трымацца і сціплей, і акуратней, і паводзіць сябе як найлепей, бо гэта кідала цень на дачок, магло адбіцца на іх лёсе.

Нельга не сказаць і яшчэ пра адно: галоўным – «галавой», «гаспадаром» – ва ўсякай ядзе ў продкаў-палешукоў быў хлеб. Без хлеба не елі ні адной стравы: без хлеба яда – да парога хада. Перш чым падаць што-небудзь на стол, ставілі ці лажылі хлеб. Пяклі яго самі, на подзе печы, падсцілаючы дубовае ці кляновае лісце. Самі і ўчынялі рошчыну, мясілі. Самі і ў печ на лёгкай і вельмі чыстай, пасыпанай мукой, драўлянай лапаце садзілі. Калі пёкся хлеб – гэта было свята. Не дазвалялася нічога вастрыць – ні сякеры, ні нажа, ні шыла, не дазвалялася і бегаць, скакаць, грукаць – хлеб мог спалохацца і не ўдацца. Цёплы, толькі што спечаны хлеб абмывалі вадой, клалі на стол, акрывалі чыстым ручніком. Перш чым браць у рукі бохан, яго перахрышчвалі. Без хлеба не выходзілі з хаты («Калі хлеб у возе, то няма бяды ў дарозе»), хлебам-соллю сустракалі самых дарагіх і шаноўных гасцей. Калі ў час яды хлеб падаў з рук, яго падымалі, цалавалі, прасілі даравацць. Папракнуць кавалкам хлеба – самая жорсткая кара; адмовіць, не даць таму, хто прасіў, нават калі сабе не хапала, – грэх. Сапраўдную цану хлебу тыя, хто жыў у вёсцы, працаваў на зямлі, расціў яго, ведалі. Быў хлеб – было і да хлеба, усё астатняе, без чаго не ўяўлялася чалавеку шчасце, радасць, жыццё. Хлеб іншы раз палешуку замянялі праснакі (пяклі з прэснага, няўчыненага цеста), а таксама скавароднікі, драчонікі... Другім хлебам называлі і бульбу, якая з сярэдзіны васемнаццатага стагоддзя прыжылася на Палессі...

Немалое значэнне ў ядзе мае і тое, у чым, у якой місцы ці талерцы падаць яду, на што яе паставіць, якім абрусам засланы стол. Ды і як есці. Эстэтыка і культура яды ў нашых продкаў была высокая. Перад тым, як сесці за стол, самыя неахайныя і то ўмываліся, галіліся, а то і пераапраналіся ў лепшае, чысцейшае. І ў часе яды слова ніхто не вымаўляў – «калі ем – глух і нем», толькі ціхенька, кожны сабе, цмокалі губамі ды варушылі сківіцамі, жавалі, глыталі...

## Адзенне

*Па адзежцы сустрэнуць, а па розуму правядуць.*

Фантазія і душа народа – у песнях, казках, іншых відах творчасці, у рамёствах, ядзе, выхаванні дзяцей, святах... Яна і ў адзенні. Таму адзенне – таксама частка культуры. У ім, як, можа, нідзе, відаць і эстэтыка і схільнасці людзей, характар іх заняткаў, побыт, эканамічныя, гістарычныя і геаграфічныя ўмовы жыцця.

Трэба сказаць, што адзенне ў нашых продкаў-палешукоў не вызначалася асаблівай арыгінальнасцю, яно было ў асноўным падобна на тое адзенне, якое насіла большасць жыхароў Беларусі, асабліва мужчынскае – на нагах лапці ці боты, на галаве – саламяны капялюш ці шапка – зімою аўчынная, летам палатняная, – штаны, кашуля, камізэлька, світка, кажух, рукавіцы. Былі і падпяразкі – вязаныя, вітыя, скураныя. Матэрыял, з якога шылася адзенне, як правіла, быў свой, самаробны – з лёну, канапель, воўны, скуры. Лапці-пасталы плялі з лазы, ліпы. Палатняныя кашулі, асабліва святочныя, аздабляліся – вышываліся.

Жаночае адзенне было больш разнастайнае. І шылася яно з палатна самых тонкіх гатункаў. Ды і ўпрыгожвалася рознага роду вышыўкамі, зборкамі, складкамі, карункамі. Калі мужчынскае адзенне было найбольш аднаго тону ці колеру, то жаночае вызначалася стракатасцю. Кожная жанчына імкнулася апрануцца так, каб быць не падобнай на іншую, каб хоць нечым вылучацца, адрозніцца. Ды і крой у кожнай быў свой, паводле росту і фігуры. Асаблівай разнастайнасцю вызначаліся гарсэты, кофтачкі, спадніцы, хусткі, фартушкі, андаракі. Кожная жанчына па-свойму, захоўваючы індывідуальнасць, і насіла адзенне, завязвала хустку, зачэсвала валасы. Вядома, вылучалася, паказвалася, падкрэслівалася лепшае, што было ў жанчыны ці ў дзяўчыны, горшае ж хавалася. З узнікненнем фабрычных вырабаў – мануфактуры – жаночае адзенне стала яшчэ больш разнастайным і стракатым – пайшлі ў моду рознага роду ўпрыгожанні і стужкі, якія прышываліся і да спадніц, і да фартушкоў, упляталіся яны і ў валасы, косы. Ды і мужчыны – бацькі дочкам, мужы жонкам – усё часцей куплялі крамнае: і хусткі, і матэрыял, з якога жанчыны шылі сабе тое, што ім хацелася, што падабалася. Кожны ж хацеў напомніць жанчыне ці дзяўчыне, што ён любіць яе, кахае, заслужыць ласку і павагу. А чым гэта лепш зрабіць, як не падарункам? Усё часцей на ногі абуваліся не лапці, а чаравічкі, панчошкі...

Маці, ды і бацькі, звычайна дзяўчатам на выданні збіралі пасаг – розныя ўборы, якія складваліся ў куфры, скрыні.

Адзенне, і мужчынскае і жаночае, дзялілася на рабочае і святочнае. Рабочае – паношанае і больш грубае, святочнае – далікатнае, навейшае. Жанчыны ў асноўным самі сабе шылі, самі і вышывалі, вязалі. Але з узнікненнем падзелу працы з’явіліся і швачкі. У адзенні, як і ва ўсім, цаніліся сціпласць, практычнасць, уменне насіць якраз тое, што і да твару, і да фігуры, і да сезону, і да той падзеі, з выпадку якой адзенне апраналася. Усё ж астатняе асуджалася, высмейвалася. «Не адзенне чалавека харошыць, а чалавек адзенне». «Апранулася, як пава, але брыдкая слава». «Нашу дачку пазнаюць і ў андарачку», «Боты новыя, а пяты голыя», «Глядзець – прыгожа, ды не гожа». «Іншы жупан не варты світкі», «Відаць пана па халявах».

У маёй вёсцы, ды і наогул на Палессі, асабліва развіта было ткацтва, вязанне, вышыванне. Ткалі ў некалькі нітоў, з самымі хітрымі і складанымі ўзорамі, абрусы, ручнікі, коўдры, посцілкі. А ўжо што да вязання, вышывання... І цяпер многія здзіўляюцца, да чаго ж яно было тонкае і дасканалае. Прыгожа вышытымі ручнікамі абвешваліся сцены ў хаце, куты. І чаго толькі не было на гэтых ручніках! І кветачкі, лісцікі, птушкі, жывёла, людзі! А арнамент – якія ўзоры! Сабраныя разам, такія ручнікі, абрусы, ды і посцілкі, коўдры, андаракі, фартушкі, кофтачкі, кашулі цешаць вока, выклікаюць гонар за тых, хто іх ткаў, вышываў.

Папулярным было і пляценне карункаў. Карункамі ўпрыгожваліся ручнікі, абрусы, фартушкі, спадніцы, кофтачкі, жаночыя кашулі, хусцінкі... Не цураліся палешукі і пярсцёнкаў, бусаў, завушніц – іх рабілі самі. Багатыя – з золата, срэбра, бурштыну. Бедныя – з дрэва, камення, гліны... Аздабляліся па-свойму гожа і жаночыя світкі, кажушкі. Ды і кроіліся яны па-асабліваму, падганялі пад талію, прышываліся плечыкі, каўнерыкі, звужаліся ці расшыраліся рукавы. Словам, рабілася ўсё магчымае, каб адрозніваца, не быць падобнай на нікога.

Адзенне трымалася ў чысціні, ахайнасці. З'явіцца ў свята ў брудным на вуліцы лічылася абразай. Ды і ў падраным, незашытым, без гузікаў ці цурубалак імкнуліся таксама не выходзіць з хаты. Іншая справа – ісці ў лес ці на рыбу. Тут апраналіся як найгорш. Таго ж, хто апранаўся ў лес ці на рыбу як на свята, – асуджалі. «Чучала гарохавае». Палатнянае адзенне залілася ў жлуктах, мылася, выбівалася на сажалках пранікам, сушылася, качалася на качолках; сёе-тое фарбавалася – карою дуба, альхі, крушынаю. Са з’яўленнем фабрычнага – крамнага – з’явіліся прасы, грэліся яны вуголлем, і прасаваць імі было нялёгка: высыпаўся попел і брудзіў адзенне, а то выпадалі і маленькія вугалькі, прапальвалі дзіркі...

У палешукоў надта ж цанілася акуратнасць, чысціня. І не толькі ў адзенні, а ва ўсім. Таму ў хаце часта падмяталі, мылі падлогу, лавы, паліцы, бялілі сцены і печ. Ложкі засціляліся прыгожымі посцілкамі, на падушкі шыліся навалачкі і паўзверх акрываліся карункавымі ці вышыванымі накрыўкамі. Па-свойму прыгожа аздабляліся і сталы, куфры, сцены. Чысціня і парадак у адзенні і ў хаце падтрымліваліся ў самыя розныя часы, нават калі

здаралася і няшчасце. Асабліва асцерагаліся новага, свежага чалавека, які мог зайсці ў любы час у хату, убачыць непарадак і абняславіць: «Што ён падумае пра нас? Ды і скажа?» «Госць мала гасцюе, ды багата бачыць». Зноў жа, пільнаваліся, сачылі за чысцінёй і парадкам асабліва тыя гаспадыні, у каго раслі дочкі. Бо зняслаўленую, неахайную дзяўчыну, нават калі яна і багатая, ніхто не рупіўся, не спяшаўся браць замуж. А якая ж маці ці бацька вораг свайму дзіцяці?

## Святы

*Святочнаму дню–святочная работа.*

Сёння цяжка, амаль немагчыма сказаць, хто першы прыдумаў святы. Але што яны неабходны ў жыцці чалавеку, гэта кожны ведае. І справа не ў тым, што чалавек – не машына, яму трэба не толькі працаваць, але і адпачываць. Справа ў іншым – у чалавечай натуры, чалавечай душы ёсць патрэба ў абнаўленні, прыўзнятасці, урачыстасці, пасля якіх і працуецца і жывецца быццам лепш. І гэта адчувалі ўсе людзі. Ды і падзеі ў жыцці бываюць такія, якія хочацца адзначыць, запомніць. І таму кожны народ мае свае святы, па-свойму іх аздабляе, святкуе. Акрамя чыста сямейных – радзін, хрысцін, вяселля, імянін – нашы продкі мелі і іншыя святы, звязаныя непасрэдна з работай, яе пачаткам і канцом. Закладваўся, снаваўся новы дом, новая хата – свята. Было і свята першай падваліны, першага вянца, акна, ашлапа, зруба, кроквaў, печы... І апошняе, якое як бы закругляла ўсе ранейшыя, – улазіны, наваселле. І так ва ўсім, што б ні браліся рабіць. Прычым не абавязкова пры гэтым была гарэлка, хоць і яе не цураліся. Абавязковым было застолле – з песнямі, жартамі, прыгаворкамі, а іншы раз з танцамі (скокамі), карагодамі...

Мела сваё свята – і не адно! – і кожная *перамена* – пара года. Сама больш іх прыпадала на восень, зіму, калі і работы было менш і свята можна было справіць па-належнаму, бо было з чаго (увосень жа і верабей багаты). Былі сярод гэтых свят царкоўныя, прыўнесеныя царквой, але некаторыя царкоўнымі не назавеш, хутчэй царква іх прыстасавала да сваіх патрэб. Скажам, якое ж царкоўнае свята каляды, калі ходзяць па вёсцы калядніκі з «казою», «звяздою», «баранам», «панам», калядуюць пад вокнамі, спяваюць самыя вясёлыя, забаўныя песні. Ці ўзяць той жа вялікдзень, калі фарбуюць яйкі, пякуць пірагі, смажаць і вараць мяса, сала, гатуюць іншыя прысмакі? Каляды–гэта провады старога і сустрэча новага года. Вялікдзень – свята вясны. Яны, гэтыя святы, як сцвярджаюць вучоныя, бытавалі сярод славян яшчэ да прыняцця хрысціянства. Асталіся тымі ж самымі святамі, што былі і раней, да прыняцця хрысціянства, толькі мадэрнізаванымі царквой, і святы памінання продкаў – дзяды і радаўніца...

Наогул царква мала паўплывала на жыццё і побыт маіх продкаў. Можа, таму, што рэлігія мянялася. З каталіцкай стала уніяцкай, з уніяцкай –

праваслаўнай. Таму не ведаю, як чые, а мае продкі прытрымліваліся і свят, і ўсяго астатняга даўняга, дзедаўскага, што ішло яшчэ ад паганства. Пра бога ж, папа, ды і самую царкву, калі і гаварылі, дык часта з насмешкаю, кпінамі. «У бога ўсяго многа, а ў таго, хто гаруе, нічога». «Казаў бог, каб ты сам сабе памог». «Бог не кідае пірагамі, а дагары нагамі». «Кожны святы сабе горне». Асабліва жорстка смяяліся, кпілі з папоў, ксяндзоў, іншых боскіх служак. Сустрэць папа – гэта на няшчасце. Каб яно не здарылася, не напаткала, трэба тройчы плюнуць цераз левае плячо, сказаць самому сабе: «Соль табе ў вочы, дзяркач у зубы, а таўкач пад бокі», «З законам божым, а з норавам свінскім». «У папа не так валасы доўгія, як рукі». Шмат розных кпінаў з папоў, ксяндзоў і іншых боскіх служак і ў палескіх казках, жартах, песнях, загадках...

А што царкоўнага было ў самім святкаванні свят? Людзі пілі, елі, жартавалі, смяяліся, спявалі песні – словам, весяліліся. А якія скокі наладжвалі, карагоды! Ды не дзе-небудзь, а на вуліцы ці на паляне, у лесе, пад дрэвамі. І сходзіліся, збіраліся там не толькі моладзь, але і старыя, дзеці. Не ведаю, як дзе, а ў нас у вёсцы вельмі любілі на святы раскладваць вогнішча, скакаць цераз агонь, які, паводле народных павер'яў, ачышчаў людзей ад розных напасцяў, суроцаў, хвароб...

Святы канчаліся, як правіла, позна ўвечары, а то і ўночы. Нагуляўшыся, насвяткаваўшыся, людзі вярталіся дадому, каб легчы адпачыць, спаць. Заўтра ж чакала кожнага работа. Бывай, свята! Будзем чакаць новага!

На свята запрашалі звычайна гасцей. Але не заўсёды, не абавязкова, бо былі святы і чыста сямейныя. І разам з тым былі святы, якія без гасцей не ўяўляліся. Скажам, той жа фэст, на які прыязджалі нават з суседніх вёсак. Былі і ў кожнай сям'і, кожнай хаце свае сямейныя святы, на якія запрашаліся госці і з іншых сем'яў, іншых хат, іншых вёсак... Наймаліся музыкі. Даставаліся з куфраў, шыліся абновы. Ды і гаспадыні завіхаліся, гатавалі і пабольш усяго і найсмачней. На дзяды, напрыклад, павінна было быць дванаццаць самых розных страў – каб, калі ў поўнач прыйдуць дзяды, бачылі, як багата жывуць іх нашчадкі, каб адведалі ўсяго, не палічылі, што нашчадкі скупыя... Святочнай ядой – куццёй – частавалі і курэй, і качак, і гусей, і свіней, і авечак, і кароў, і коней, і валоў, не гаворачы ўжо пра сабак, катоў. А то і яблынькам, грушам, слівам, вішням насілі. На радаўніцу ж частавалі і продкаў – лілі на магілу сыту (настой на мёдзе), клалі пад крыж фарбаваныя яйкі, хлеб, каўбасу, мяса, ды і ўсё астатняе, што самі елі, чым частаваліся. Усё павінна было ведаць – сёння свята – і святкаваць разам з усімі. Нават мёртвыя...

Ага, дык якія ж былі на Палессі ў нашых продкаў святы?

Дзяды. Іх было некалькі. Асеннія – міхайлаўскія, дзяды на мас-ленай– перад вялікім постам, дзяды вясеннія – радаўніцкія і дзяды летнія – траечныя – перад тройцай. Памінанню дзядоў аддавалася звычайна два дні – пятніца і субота. На дзяды гатавалі багата яды – усё, чым хата багата, але абавязкова – капусту, поліўку, патраўку, кашу (куццю), бульбу з тоўчаным канапляным ці льняным семем, з макам, пяклі аладкі, варылі кісялі... Калі ў часе яды ў каго-небудзь падала пад стол лыжка, гэта значыла – дзяды прыйшлі, прычым

галодныя... На дзяды звычайна добра наядаліся, адкуль і выраз пайшоў: наеўся, як на дзяды... Праўда, не ўсе дзяды былі багатыя, былі і посныя – «галодныя»...

Радаўніца. На радаўніцу, як у нас казалі, да абеду аруць-пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары пяюць і скачуць. Свята гэтае прыпадае на дзевяты дзень пасля вялікадня – на аўторак – і звязана з адведкамі продкаў – дзядоў – на могілках. Яго святкуюць і цяпер. На могілкі ідуць сем’ямі – дарослыя і дзеці. Усе паднядзеленыя, прыбраныя. З сабою бяруць фарбаваныя яйкі, гарэлку, сыту, хлеб, аладкі, кашу і іншую яду. Бяруць з сабою і чыстыя ручнікі, якія завязваюць на крыжы родзічам. Успамінаюць, як правіла, уголас, што значыў той ці іншы чалавек у сям’і, гаспадарцы, шкадуюць, што яго няма жывога, плачуць, галосяць. Потым рассцілаюць абрусы, ставяць на іх яду. Частуюць нябожчыкаў, частуюцца і самі.

Стрэчанне. Гэта першае вясновае свята, калі зіма сустракаецца з вясною. У гэты дзень вельмі чыста мылі, прыбіралі ў хаце, пераапраналіся ў святочнае і самі людзі. І выходзілі раз-пораз з хаты глядзець на неба, на сонца, якое ўжо даволі добра прыгравае, з’ядае на пагорках, стрэхах, прызбе снег...

Гуканне вясны. Гэтае свята бывае перад вялікім постам на заговіны. Дзяўчаты з усёй вёскі збіраліся ў хату, дзе зусім не было дзяцей, а калі і былі, дык небагата. Неслі з сабою муку, яйкі і там пяклі каравай, усяляк аздабляючы яго рознымі абручамі, шышкамі. Дзесьці ў ранні абед, упрыгожыўшы каравай каляровымі стужкамі, ды і галінкамі вярбы, паклаўшы на яго два ці чатыры вараныя яйкі, дзяўчаты ішлі на самую высокую горку, што была ў вёсцы ці каля вёскі, ці ўзлазілі на стог, качалі яйкі, пакуль тыя не біліся, і гукалі вясну:

– Вясна красна,
Што ж ты нам прынясла?..

Пагукаўшы вясну, дзяўчаты вярталіся ў тую самую хату, дзе пяклі каравай. Туды збіраліся к гэтаму часу хлопцы, з гарэлкаю, закускамі, разламвалі каравай, дзялілі між сабою бітыя яйкі долькамі, частаваліся. Спявалі песні, танцавалі...

Першая пасьба. Дзень, калі першы раз выганяюць з двара на пашу худобу, – таксама свята. У гэты дзень прыносілі з лесу галінкі багуну, хвоі і позняга дуба – неленя і затыкалі ў вароты. Гаспадыні і гаспадары, ды і ўсе ў хаце, ведалі, што ў гэты дзень нікому нічога нельга пазычаць. Той жа, хто ўсё ж прыходзіў прасіць чаго, лічыўся дрэнным чалавекам, і не прыяў сям'і, яго ў далейшым асцерагаліся.

Проведы. Першы выезд у поле. Гаспадар запрагаў валоў ці коней у саху, браў хлеб і соль і ішоў у поле. Там ён вітаўся з полем, кланяўся яму, абыходзячы палеткі, клаў хлеб і соль, засыпаў іх зямлёю і вяртаўся дадому. Кожны паляшук ведаў: проведы лепш за ўсё рабіць пад поўню – тады клець будзе поўная ўсякага дабра і валы, коні таксама будуць спраўныя...

Вялікдзень. Гэта таксама адно з вясновых свят, звязанае з прыходам высокага яркага сонца, з радасцю, што чалавек перажыў доўгую халодную, лютую зіму і дачакаўся цяпла, зеляніны – «сырога караня». Царква гэтае свята прыстасавала да сваіх рэлігійных патрэб. Святкавалі яго на Палессі па тры дні, пяклі пірагі, фарбавалі яйкі, гулялі ў біткі. На другі дзень хадзілі дзеці да сваіх хросных бацькоў і матак валачобнічаць...

Юрай. На Юрай выганялі авечак і кароў на расу. Самі гаспадары і гаспадыні таксама да ўсходу сонца хадзілі па расе. Потым, спёкшы каравай, абыходзілі палеткі, спяваючы:

Дзе каравай ходзіць,
Там жыта родзіць...

Мікола. Жанчыны збіралі лекавыя травы, парылі і купаліся ў іх, каб быць цэлы год прыгожымі, здаровымі, не хварэць.

Русалчын тыдзень. У некаторых вёснах гэтае свята называлі яшчэ і тройцай. Святкавалі русалчын тыдзень тры дні – нядзелю, панядзелак і аўторак. Двор, хату ўпрыгожвалі зялёнымі бярозкамі, галінкамі клёну, ліпы. Дзяўчаты, па-святочнаму апрануўшыся, збіраліся ў купкі і спявалі песні. У гэтыя дні нельга было купацца, бо маглі злавіць русалкі і зашлакатаць да смерці.

Купалле. Перад купаллем не дазвалялася купацца, асабліва дзецям. Лічылася: той, хто палезе ў ваду, абавязкова ўтопіцца. Дзяўчаты ішлі ў лугі збіраць кветкі, плялі вянкі. Дзеці з самага ранку зносілі куды-небудзь на высокае месца непадалёку ад вёскі і вады ламачча, розную непатрэбшчыну. Увечары прыходзілі на гэтае месца і дзяўчаты з вяночкамі, хлопцы. Хлопцы – з коламі, карытамі, начоўкамі, бочкамі. Хто з чым, хто што схапіў у чужым двары. Кідалі ўсё ў кучу і запальвалі. Узяўшыся за рукі, хлопцы і дзяўчаты карагодзілі вакол агню, спявалі:

Сягоння Купала, цёмная ночка,
Павыколваем ведзьме вочка,
Штоб яна ночы не хадзіла,
Ночы не хадзіла – людзей не будзіла,
Людзей не будзіла – хлявоў не адчыняла,
Хлявоў не адчыняла – кароў не даіла...

Потым гушкаліся на арэлях, скакалі цераз агонь, крычучы: «Ведзьму спаліў!», «Ведзьму спаліла!» У гэтым свяце быў адзін момант, якога ўсе нецярпліва чакалі. Гэта калі нехта з хлопцаў – завадатар – крыкне: «Хапай дзевак!» Дзяўчаты кідаліся з крыкам, піскам хто куды ўцякаць, а хлопцы – даганяць. У цемры, калі ніхто нікога не бачыць, можна было дзяўчыну і абняць, прытуліць да сябе, прыгалубіць, а то і пацалаваць...

Свята канчалася тым, што дзяўчаты падбягалі да загонаў жыта і кідалі ў яго вянкі – «праганялі ведзьму». Потым, вярнуўшыся да агню, кожны браў

вугалёк і нёс яго дадому. Чырвоныя вугалькі-агеньчыкі разбягаліся па ўсёй вёсцы, і гэта было надзвычай прыгожа.

Па народным павер'і, у гэтую ноч ведзьмы бегалі па расе, рабілі заломы ў жыце, адбіралі ў кароў малако...

Зажынкі. Зажынкі – вельмі радаснае свята. Дачакаліся ж ураджаю! Ды яшчэ калі ён добры! Лічылася: зажынаць лепей у аўторак або ў чацвер. Калі ж, скажам, гэта зрабіць у суботу, то ў жанцоў надта ж будзе балець спіна; у пятніцу – жніво зацягнецца, будзе непагадзь ці хтосьці з жанцоў захварэе. Зажынала сама гаспадыня. Перад тым, як ісці ў поле, яна прыбірала ў хаце, мыла падлогу, лавы, засцілала чыстым абрусам стол. Мылася, пераапраналася ў святочнае і сама. Узяўшы з сабою яды – хлеба, солі, сыру, а таксама галінку вярбы і серп, ішла ў поле. Пры гэтым яна надта ж сцераглася, каб хто-небудзь не перайшоў ёй дарогі з парожнім вядром – колас будзе пусты, жыта неўмалотнае. Не павінна была гаспадыня і спыняцца, з кім-небудзь гаварыць, інакш у часе жніва будуць затрымкі. Прыйшоўшы ў поле, дзе расло жыта, гаспадыня віталася з ім: «Добры дзень, ніўка, ядранае жыта! Я к табе прыйшла!» Потым залазіла на два-тры крокі ад дарогі ў збажыну і нажынала некалькі жмень. Паклаўшы іх накрыж, садзілася сама, ела хлеб з соллю, сыр. Потым зноў жала. Нажаўшы сноп, нясла яго дадому, ставіла на покуць, прымаўляючы: «Стаўлю сноп, на сто коп, на тысячу мерак!» Уся сям’я сядала за стол, елі святочны абед, што знарок дзеля такога выпадку гатавала гаспадыня. І, вядома ж, усе радаваліся – канчаўся голад, нішчымніца...

Жніво не мела ніякай святочнай аздобы, але гэта было таксама свята – свята душы, свята надзеі, ураджаю, пра што гавораць шматлікія песні. Жніва чакалі, на яго спадзяваліся, яму верылі. Ды і як жа – вырасла, паспела тое, што сеялі!

Жніво – хоць і радасная, але цяжкая пара, асабліва для жанчыны. Трэба ж было ўсё зжаць, звязаць у снапы. А жалі ж тады сярпамі, згінаючыся, кланяючыся ледзь не кожнаму каласку. Пара гэтая, як, бадай, ні адна, нарадзіла шмат песень. Ды якіх, якіх песень! Жанчынам жа воля вольная ў полі была – было на каго і на што і паскардзіцца, выказаць сваё гора і сваю радасць. Асабліва радасныя матывы гучаць, калі блізка дажынкі і работы ў жанчыны ў полі быццам меншае.

Вельмі шмат песняў-жальбаў пра тое, што найбольш і хвалявала, турбавала, не давала спакою – «дома ў калысачцы дзіця ляжыць», а ў жняі «беднай галованька баліць», ды і сярэдзіна. А ніва не свая, а чужая, панская...

Дажынкі. Апошнія тры каласкі абвязвалі чырвонаю стужкай – жычкай, – нахілялі да зямлі, клалі на іх кавалак хлеба і так, не зжаўшы, пакідалі. Там жа, на полі, рабілі святочны абед – усёю сям’ёю. Да гэтага часу падрасталі маладыя пеўні, і аднаго з іх, самага рослага, звычайна свежавалі, варылі і з’ядалі там, у полі, гуртам, сям’ёю.

Каляды! Каляды – зімовае свята. Яго і цяпер святкуюць. Цягнулася даўней яно два тыдні. І было звязана з провадамі старога і сустрэчай новага года. Царква прыстасавала гэтае свята да нараджэння Ісуса Хрыста і яго хрышчэння. На каляды варылі абавязкова кашу з тоўчанага ячменю – куццю

– першую (вялікую), другую (багатую) і трэцюю (посную). Кожны раз, перад тым, як сесці за стол есці куццю, глядзелі на зоры: калі зоры ярка гараць на першую куццю – налета ўродзіць ячмень; калі на другую куццю – уродзіць проса; калі на трэцюю куццю зорнае неба – уродзіць грэчка. Куццю звычайна ставілі на кут, папярэдне ўпрыгожыўшы яго сасновымі ці яловымі галінкамі, сенам, неабмалочанымі каласкамі. Тры куцці варыліся ў адным і тым жа гаршку. Звараная куцця стаяла на покуці, пакуль не збіралася ўся сям'я. Ёю канчалі вячэру. Есці куццю клікалі ўсіх – мароз (каб не марозіў гародніны і садавіны), вецер (каб не зрываў стрэх, не круціў, не слаў упокат на зямлю жыта, ячменю, проса), дзядоў (каб не злавалі, прыялі гаспадарцы, гаспадыні і гаспадару) і г. д. Куццю не елі ўсю – пакідалі курам, качкам, гусям, свінням... Нават вішанькам, яблынькам насілі...

Самае вясёлае ў калядах – калядаванне. Калядаванне прыпадае на шчадрэц, калі надта ж многа чаго гатавалі, пяклі, варылі і смажылі – аладкі, дранікі, грачанікі, бабку, каўбасу, сала, хлеб, словам, хто што ўмеў і што ў каго было. Завадатарамі розных кампаній, вядома, выступала моладзь. Рабілі «казу», «звязду», «барана», дзялілі ролі – хто будзе «дзедам» (павадыром), хто «маладзіцай» (запявалай), хто «механошай» (браць і насіць дарункі) і хадзілі, шнуравалі з двара ў двор па ўсёй вёсцы. Стаўшы пад вокнамі, калянднікі звычайна пачыналі з песні, у якой зычылася гаспадару і гаспадыні многа ўсякага дабра, расхвальвалася, якія яны – гаспадар і гаспадыня – паважаныя, багатыя, хлебасольныя. Не забываліся і дзеці, старыя бацькі, калі яны яшчэ былі, жылі разам. На словы не скупіліся – кожнаму жадалася здароўя, шчасця, удачы. Не забывалася пры гэтым і «каза». Да яе звярталіся:

– Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе рогі дзела?

«Каза» адказвала:

– На соль праела.
Соль дарагая,
А мера скупая...

«Казу» тармасілі, падымалі ёй вышэй галаву:

Наша каза дарагая,
О-го-го-го, каза!
Каза, не ляніся
Ды расхадзіся!
Дый пану-гаспадару
Пакланіся!

«Каза» кланялася. Хадзіла, тупацела нагамі. Калянднікі ж спявалі:

– Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць.
Дзе ж каза пахадзіла,
Там жыта ўрадзіла.
Дзе каза нагою –
Там жыта капою.
Дзе каза рогам –
Там жыта стогам.
Дзе каза хвастом –
Там жыта кустом.
Ты ж, хадзяечка.
Не будзь такавая,
А будзь ласкавая...
Зазірні ў печ,
Там сем перапеч...
Зазірні ў куток,
Там поўна дзяток,
Там паўбочкі грэчкі
На варэнічкі;
Там паўбочкі пшаніцы
На паляніцы.
Там зноў бочка аўса
І вялізная каўбаса...

Канчалі ж песню звычайна так:

Дай тры кускі сала,
Штоб каза ўстала,
І рэшата аўса,
А наверх–каўбаса.
Калядую, калядую,
Каўбасу чую...
Дайце каўбасу,
Я дамоў занясу...

Каляднікаў кожная хата чакала і звычайна добра абдорвала. Калі ж такога не здаралася – не спадабалася гаспадыні ці гаспадару, як іх каляднікі расхвальвалі, ці яшчэ па нейкай прычыне гаспадар ці гаспадыня скупіліся, не давалі таго, чаго каляднікі прасілі, хацелі, на што разлічвалі, тады... Ну і даставалася ім!

Не дала сала,
Штоб свіння не ўстала!
Не дала млінца,
Штоб здохла аўца!

Не дала шкуркі,
Штоб падохлі куркі!

Было і зласней:

Не дала сала,
Штоб ты кроўую с..а... і г. д.

Абышоўшы вёску, каляднікі збіраліся ў чыю-небудзь хату, дзялілі накалядаванае, частаваліся. Жартавалі, успамінаючы, як хто іх абдорваў і як каму яны за гэта адпомсцілі. Смяяліся, спявалі песні...

Былі ў нашых продкаў, вядома, і іншыя святы, на якіх спыняцца не варта. Ды і ці святы гэта ў нашым сённяшнім разуменні? Іншы раз гэта быў хутчэй абрад, рытуал, а то і звычайная работа, узаемавыручка, як, скажам, тая ж талака, якая звычайна канчалася таксама пачосткай – абедам ці вячэрай, – з чаркаю, песнямі, жартамі. А талакой жа і хаты, хлявы перасыпалі, талакой і касілі сена, кідалі стагі, жалі, малацілі, цёрлі лён і шаткавалі капусту! Як толькі ў каго нявыкрутка, няўпраўка ці яшчэ нешта, што не давала зрабіць у час работы, – збіралі талаку! Былі і чыста царкоўныя святы, ды і ў даўнейшыя, што ішлі з глыбін стагоддзяў, царква ўносіла свае папраўкі. Кожная веска мела і стольныя святы – фэсты, на святкаванне якіх прыязджалі з іншых вёсак. Багатыя вёскі, якой лічыўся і Вялікі Бор, такіх стольных свят мелі па два і нават тры...

Так што, як бачыце, не толькі працаваць умелі нашы продкі, але і адпачываць, весяліцца, частаваць іншых і частавацца самі...

## Лячэнне. Каляндар. Прыкметы. Прымхі і забабоны

Адарванасць ад навакольнага свету ды амаль і пагалоўная непісьменнасць прывучалі маіх продкаў-палешукоў шукаць розныя арыгінальныя спосабы выйсця з любых скрутных і непрадбачаных акалічнасцей і сітуацый, ствараць самім, без чыёй бы там ні было падказкі і дапамогі ўмовы для нармальнага жыцця. Выручалі шматвяковы вопыт, прыродная кемлівасць, памяць, што перадавалася з пакалення ў пакаленне, назіральнасць. На жаль, усё гэта пакуль што мала даследавана, хоць яно магло б даць навуцы шмат цікавага і карыснага.

Звычайна ў кожнай вёсцы быў свой аўтарытэт. Часта гэта знахар ці знахарка. А то і проста мудры чалавек. Ён, як правіла, шмат ведаў розных прыкмет, мог беспамылкова сказаць, калі якое будзе свята, умеў лячыць і замаўляць хваробы, немачы. Акрамя замоў, у большасці такія людзі яшчэ выкарыстоўвалі і зёлкі. Гэта былі лекары-самавучкі, пра іх гаварылі, што яны знаюцца з нячыстай сілай.

Сёння навука даказала, што ў народнай медыцыне, якой карысталіся, ды некаторыя і цяпер карыстаюцца, шмат слушнага, асабліва калі прымяняліся і прымяняюцца пры лячэнні травы, карэнне, узвары, мазі і на-

цiраннi. Так, напрыклад, не толькi на Палессi, але i ў iншых мясцовасцях да гнойных ран i нарываў прыкладваецца лiсце падарожнiку, пры апёках – драная бульба, пры парэзах – жывiца, пры захворваннi скуры – чыстацел... Узвар з вярбы, лазы, крушыны п'юць пры малярыi (хiндзi); пры астме (задышцы) – кураць крапiву, пры стаматыце – рот палошчуць гурковым сокам... Прымараз нацiралi заечым, мядзведжым цi барсуковым тлушчам. Арыгiнальна лячыўся вывiх скiвiцы – бiлi «па мордзе» так моцна i датуль, пакуль «усё не вярталася на сваё месца»... Але не ўсе, далека не ўсе, хто браўся лячыць хваробы i немачы, умелi гэта рабiць. Былi сярод знахараў сумленныя людзi, якiя калi чаго i не ўмелi, то прызнавалiся, што не ўмеюць, раiлi, куды, да каго варта таму цi iншаму хвораму звярнуцца: «Я шлунак лячыць не ўмею, едзь да Захара...» Цi: «Ета Еўцы паказаць трэба, яна ў етым разбiраецца...» Былi сярод знахароў i знахарак i звычайныя шарлатаны. I тады лячэнне часта канчалася смерцю цi пажыццёвым калецтвам.

Трэба сказаць, што вера ў магiчную сiлу замоў i зёлак асталася на Палессi i сёння. Некаторыя хворыя, пабываўшы ў доктара, iдуць яшчэ i да знахара цi знахаркi, лiчаць сваiм абавязкам параiцца з iм, як лячыцца. Асаблiва пры ўкусах змяi, захворваннях скуры, парэзах...

Па-рознаму i разлiчвалiся са знахарамi i знахаркамi, плацiлi iм. Большасць з iх лячылi затак, бо iначай, казалi яны, не паможа; некаторыя бралi за лячэнне пэўную плату: «Як хадзiць пачнеш, пеўня мне зловiш i прынясеш». Цi: «Колькi з'ясi сам мёду, пакуль паправiшся, столькi i мне дасi».

Арыгiнальна, па-свойму вялi продкi-палешукi i падлiк часу. Не кожны з iх ведаў назвы ўсiх дванаццацi месяцаў, мог назваць днi тыдня. Тым не менш падлiк часу вёўся даволi дакладны. Калi хто ў нечым памыляўся, то памылку тут жа выпраўлялi дзед, баба, бацька цi мама. А яны лiчылi хоць i па пальцах, але не верыць iм было нельга. У кожнага з iх быў свой каляндар. «Пачакай, дай успомнiць… Ета ж наша Насця параджалася за два тыднi да каляд... Каляды, пост, потым мясаед...» Пад увагу бралiся i гадавыя святы, якiя прыпадалi заўсёды на адзiн i той жа дзень, бралiся пад увагу i святы рухомыя, якiя залежалi ад таго, колькi тыдняў было посту i мясаеду... Па спрадвечным народным календары год дзялiўся на чатыры перамены – вясну, лета, восень, зiму. Вясна наступала, калi салавейка заспявае, пойдзе дожджык цёплы з громам, ды нелень зазелянее... Лета – калi горача, заедзь сляпiцаю ў вочы лезе, але пакуль жытнi колас не налiваецца, то яшчэ не лета... Восень – калi лiсце жоўкне i ночы халодныя, з прымаразкамi... Зiма – калi снег ляжа... Кожная пара года (перамена) мела свае вялiкiя святы. Вясна – вялiкдзень, лета – спасаўку, восень – пакровы, зiма – каляды. У кожнай перамене па тры месяцы, а ўсiх месяцаў дванаццаць, i ў кожным таксама сваё свята: каляды (студзень) – провады старога i сустрэча новага года; стрэчанне (люты) – зiма з вясною сустракаецца; вялiкi пост (сакавiк) – самая галодная пара; Юрай (красавiк) – «ёсць два Юр'i i абодва дурнi – адзiн халодны, другi галодны»: красавiцкi Юрай – халодны; май – (на май часта прыпадаў вялiкдзень) – усiм дай – маецца на ўвазе i каню, i карове, i авечкам, i iншай жыўнасцi – не

заўсёды цёпла яшчэ, паводка на Палессі ўсюды; пятроўка (чэрвень) – галодная пара, насенне пасеяна, а нічога яшчэ не вырасла; Ілля (ліпень) – «прыйшоў Ілля, нарабіў гнілля» – звычайна ў ліпені ішлі зацяжныя – па тыдні, а то і па два – дажджы; спасаўка (жнівень) – усё спее, усё, нават яблыкі, можна есці; другая прачыстая (верасень) – поле трэба да зімы рыхтаваць, ачышчаць; пакровы (кастрычнік) – лісце зямлю ўкрывае; пиліпаўка (лістапад і снежань) – снег падае, ваўкі галодныя выюць, яды сабе шукаюць...

У кожным месяцы – па чатыры тыдні: першы – маладзік, другі – падпоўня, трэці – поўня, чацвёрты – схадок ці сходнія дні...

Дзень дзяліўся на снеданне, абед, полудзень. Ноч – на вечар, поўнач, першыя, другія і трэція пеўні... У ранку выдзялялі досвітак, зару, святло; у вечары – сонца высакавата, вечарэе, сонца заходзіць, сонца зайшло, шарэе, змяркаецца. Пастухі, ды і паляўнічыя, у сонечныя дні вызначалі час па ценю, мералі, колькі ён мае ступянёў... Былі і меншыя адрэзкі часу: «як кус хлеба з'есці», «як волас перапаліць», «як вады з калодзежа прынесці», «як у ёўню схадзіць і назад вярнуцца...».

Даволі строга прытрымліваліся продкі і яшчэ аднаго – калі што можна і калі што нельга рабіць. Напрыклад, на маладзіку нельга карчаваць зараслі, бо яны хутка адрастуць, пусцяць парасткі; шаткаваць і ставіць на зіму капусту, саліць гуркі – усё будзе нясмачнае, перакіслае; сеяць лён і каноплі і г. д. Затое на маладзіку добра касіць, бо хутка адрасце атава, стрыгчыся... Пад час поўні – калі месяц свеціць – не варта сеяць гуркі, кавуны, гарбузы, гарох, боб, мак, бо яны будуць цвісці пустацветам, але затое ж вельмі добра купляць і выменьваць каровы, сеяць збожжа – будзе поўна ўсюды ўсякага дабра... На астатніх квадрах лепш не пачынаць нічога новага, што хацелася б, каб вялося, пладзілася, – купляць, выменьваць, садзіць курыцу на яйкі, але добра карчаваць зараслі, лячыць раны, словам, рабіць усё, што хочаш, каб зажыло, звялося, згінула. Без таго, каб не паглядзець на месяц, не рабілася ніякая работа. Па месяцы першы раз выходзілі ў поле, пракладвалі першую баразну, першы пракос, жалі першы сноп...

Немалую ролю мелі ў жыцці і розныя прыкметы. Па тым, колькі зімою падала снегу, меркавалі, якое – мокрае ці сухое – будзе лета і што ўродзіць, што трэба сеяць, а што не сеяць. Па ясных марозных зімовых днях – калі будуць летам сонечныя дні, каб касіць, сушыць сена. А вось яшчэ некаторыя з прыкмет.

Калі ўвосень хутка спадае з дрэў лісце – будзе суровая зіма. Суровай зімы чакай і калі ўродзіць рабіна.

Многа соку – бярозавіку – цячэ з бярозы – будзе мокрае лета. Мокрую восень прадвяшчаюць высокія мышыныя гнёзды ў траве.

На дождж – сабакі капаюць зямлю, купаюцца ў пяску вераб'і, качак не выгнаць з вады, яны ўвесь час ныраюць; мошкі сляпіцаю лезуць у вочы... Да непагадзі – коні трасуць галовамі, куры ўвесь час абшчыпваюцца, ракі выпаўзаюць са сваіх нор, вароны лятаюць чародамі і каркаюць.

Да добрага надвор’я камары і мошкі таўкуць мак, птушкі кружаць у небе ўсё вышэй і вышэй, сонца заходзіць ясна, не ў хмару.

Калі кот ляжыць пасярод хаты на падлозе – пацяплее.

На холад крычаць зяблік, удод. Гусь хавае галаву пад крыло, кошка лезе на печ – таксама на холад.

Вецер усхадзіўся – на перамену надвор’я. («Вецер рве, то чагось ды нарве»).

Прыкмет было шмат. І самых розных. На розныя выпадкі жыцця. Скажам, калі едзе па вёсцы вяселле і распрагуцца коні – не будзе шчасця, распадзецца сям'я; выйшаў з хаты, то не вяртайся ўжо назад, нават калі штонебудзь важнае і забыў, – не пашанцуе ў дарозе; кот мыецца – госці будуць; нос, пуп свярбіць – чакай выпіўкі, пачосткі... Сярод прыкмет, асабліва ў дачыненні да з’яў прыроды, было нямала праўдзівых. Шматгадовыя назіранні прывялі да адкрыцця некаторых заканамернасцей. І цяпер, у наш час, многія з іх пацверджаны навукай, даказана іх аснова, на падставе чаго яны былі і адкрыты. Дарэчы, многімі з іх карыстаюцца ў сваей штодзённай практыцы і цяпер усе тыя, хто жыве ў вёсках. Народны каляндар і прыкметы нічога агульнага не маюць з прымхамі і забабонамі, якія на Палессі бытавалі і бытуюць спрадвеку. Яны звязаны хутчэй з недахопам ведаў, з тым, што некаторыя лічылі, ды лічаць і цяпер, што ўсё, што нас акружае – трава, дрэвы, жывёла, – гэтакія ж жывыя істоты, як і сам чалавек, і маюць вушы, каб чуць, вочы, каб бачыць, голас, каб гаварыць. І мы іх не разумеем толькі таму, што нам не дадзена гэта. Лічылася: душа чалавека пасля яго смерці перасяляецца ў карову, сабаку, каня, ката і г. д. Да таго ж свет населены і такімі істотамі, якіх мы не бачым, а калі і бачым, дык не заўсёды, – чарцямі, нячысцікамі, рознай злой, ліхой сілай. І таму ва ўсім трэба быць асцярожным, не гнявіць тых, хто дзесьці хаваецца, лепш задобрыць іх. І рабіць так, каб яны менш ведалі, што хочаш ці думаеш зрабіць. Таму, скажам, не варта ўвечары гаварыць пра тое, што ты намеркаваў ці хочаш зрабіць заўтра, – пакуль ты будзеш спаць, нядобрыя сілы могуць усё разладзіць. Перад выхадам з хаты трэба засланіць печ – тыя сілы, што цябе маглі чуць і праведаць пра твае планы, астануцца дома і не будуць ведаць, куды ты пайшоў, тым самым ты іх падманеш...

У прымхах і забабонах шмат непраўдападобнага, абсурднага і нават смешнага.

Прыклады? Вось яны: «Хочаш не напіцца, не ап’янець у гасцях – закасай у ботах халявы і пі, як у бочку, колькі ўлезе». Ці яшчэ: «Калі ад вячэры астанецца страва – не чакай заўтра добрага надвор’я». Логікі, вядома, як у адным прыкладзе, так і ў другім, няма ніякай. Аднак некаторыя прымхі і забабоны надта жывучыя. Нават у наш час, час навукі, усеагульнай адукаванасці і ведаў.

## Страхі. Чары. Варажба. Сны. Праклёны

Не апошняе месца ў жыцці маіх продкаў-палешукоў займалі і сілы прыроды. Гэтыя сілы выступалі ў самых розных абліччах. Былі тыя, што памагалі жыць, былі і тыя, што вельмі ж заміналі, шкодзілі, імкнуліся заўсёды падставіць ножку, усунуць палку ў колы. Змагацца з гэтымі сіламі сэнсу не мела, яны заўсёды перамагалі чалавека. Таму большасць палешукоў з імі і не змагаліся – задобрывалі ці спрабавалі абхітрыць. Ды і як з імі змагацца, калі іх поўна ўсюды, дзе б ты ні быў, куды б ні пайшоў. Ты адзін, а іх... Не злічыць. Адных чарцей і то вунь колькі... Проста чорт, чорт рагаты, чорт лазаты, чорт кашлаты, чорт з балота, чорт лесавы, чорт палявы, чорт смаляны, чорт кульгавы, чорт лупаты, чорт пузаты, чорт пархаты, чорт губаты, чорт зубаты, чорт рукаты, чорт дымавы, чорт дамавы, чарцяня, чарцяка, чартыха... А ёсць жа яшчэ і нячысцік, кадук, бес, сатана, нячыстая і нялёгкая сіла, ліха, чорт ведае што; нешта, штось, яно... Хоць усе чэрці і адной шэрсці, але бараніцца ад іх трэба па-рознаму. Скажам, самы добры чорт дамавы ці дамавік. Гэта нешта накшталт ката. Яго можна і качаргою агрэць, і, адчыніўшы дзверы ў хаце, выгнаць на холад, на мароз, калі ён дакучаць пачне. Цяжэй з чортам лазатым і лесавым – той галаву можа замарочыць і будзеш блудзіць цэлы дзень, а то і ноч, дарогу дадому не знаходзячы. Нядобры чорт і балотны – завабіць, завядзе ў багну, а то і ўтапіць паспрабуе. Дакучаюць часам і чарцяняты – робіш нешта, спяшаешся, а яны, шэльмы, з-пад рук у цябе і выхапяць ці то шыла, ці то склобку, ці то пешню... Шукай не шукай – не знойдзеш, пакуль не нагуляюцца ўволю і самі не аддадуць... Але чэрці што? Хоць і жывуць яны ўсюды – і ў лесе, і ў балоце, і ў полі, і ў хаце, і ў каморы, і ў хляве – і пераўвасабляюцца, перакідваюцца ў што заўгодна, мяняюць проста на вачах сваё аблічча, а то і зусім робяцца такімі, якіх не бачыш, але ратавацца ад іх, змагацца з імі асаблівай цяжкасці няма – перахрысціўся, ахінуў сябе святым крыжам, і ўсё, чэрці згінуць, уцякуць, бо ўсе яны надта ж баяцца крыжа. Ды і бог чарцей не любіць. Б’е – стрэлы-маланкі ў іх пускае. Вось чаму ў час навальніцы і нельга стаяць пад дубам, сядзець на камені (пад імі ад навальніцы могуць хавацца чэрці), нельга разяўляць рот (туды чорт можа ўскочыць, а ў яго якраз бог стралу-маланку пашле, то і ў цябе пацэліць, пекане). Чорта можна і ашукаць, можна з ім змірыцца, зжыцца, чорт можа, урэшце, і памагаць чалавеку, калі прадасі душу. І нават калі не стрымаеш дадзенага слова, чорт не заўсёды адпомсціць, бывае, што і даруе. Куды горш змагацца з іншымі нядобрымі сіламі. Скажам, з тым жа самым мерцвяком, калі панадзіцца па начах дадому да цябе хадзіць. Святога крыжа ён не баіцца, наадварот, крыж яго натхняе. І рэдка калі мярцвяк прыходзіць з добрымі намерамі, часцей за ўсё з прэтэнзіямі, чагосьці патрабуе. То каб ты аддаў тое, што ў яго, калі яшчэ жывы – чалавекам быў, браў, ды не паспеў ці забыўся аддаць, то каб ты зрабіў, што абяцаў, ды не зрабіў, то яшчэ штосьці выдумае. І калі не выканаеш яго волю, жыцця не дасць – будзе хадзіць па начах, спаць не даваць, а то і душыць. Ад мерцвяка ратуюць толькі пеўні – ён іх баіцца, як заспяваюць, знікае, стрымгалоў уцякае: тут быў, тут няма. Ад мерцвяка не адхрысцішся, не адмолішся. Застаецца адно – у месячную ноч на яго магіле асінавым калом перацяць цень

сваёй левай нагі і тым самым калом абкружыць магілу і загнаць яго ў магілу. Калі ж і пасля гэтага цябе мярцвяк будзе наведваць па начах, то ёсць яшчэ адзін сродак: трэба ўзяць зламаную ў дарозе вось ад воза і стукнуць ёю мерцвяка тры разы па лбе, калі ён зноў наведаецца ў хату. Пасля гэтага мярцвяк больш не з’явіцца, вядома, калі ён пры жыцці не знаўся з нячыстай сілай. Калі ж знаўся, карыстаўся яе паслугамі ці душу ёй сваю прадаў – эге, тады ўсё адно будзе хадзіць. І не толькі да цябе, а і да іншых – людзей палохаць і ў лесе, і на балоце, і асабліва на дарогах. Прычым і пазнаць, хто гэта, нельга – не аблічча ж у яго, а косці, кастамахі адны... Мерцвяка паляшук не блытае з марой. Што такое мара? Гэта таксама мярцвяк, але ён добры, не робіць шкоды ніколі і нікому. Ты ідзеш, і ён ідзе. Ты спынішся, і ён спыніцца. Мара любіць падражніцца, можа перакінуцца ў смаловы пень, у калоду ці яшчэ ў што-небудзь...

Баяўся паляшук усё жыццё і русалак. Па народным павер’і, русалкамі становяцца дзяўчаты, што памёрлі цнатлівымі на русалчыным тыдні. Русалкі звычайна жывуць у вадзе – у вірах, твані; але, калі зацвітае жыта, яны па расе перабягаюць туды. І там робяць заломы, весяляцца. Яны зусім голыя, як маці нарадзіла, з вяночкамі кветак на галовах. Не дай бог трапіць ім у рукі – заласкаюць, зашлакочуць. Даўшы русалкам пажыць пэўны час у жыце, іх потым, калі жыта спела, праганялі, кідаючы ў жыта сплеценыя з кветак вянкі. Самі дзяўчаты, кінуўшы вянкі, уцякалі без аглядкі. Несучы ж вянкі і ідучы да жыта, спявалі:

Правяду русалку, правяду
Дай асінкаю заламлю,
Каб тая русалка
Па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Мае жыцейка дробнае,
Да ў каласках буйнае.
Правяду русалку, правяду
Дай асінкаю заламлю...

Вельмі небяспечны і ваўкалак. Хоць ён і не зусім нячыстая сіла, але ўсё ж... Нібыта і воўк і чалавек, правільней, чалавек, які перакінуўся ў ваўка. Ад яго нішто не ратуе, бо ён мае воўчыя характар і навыкі, а розум чалавечы. Такога хіба толькі віламі праткнуць. Але, зноў жа, як гэта рабіць, калі ён не воўк, а чалавек? Трэба нешта іншае шукаць. Тут могуць памагчы знахары, а найбольш чараўнікі, тыя, хто сілу незвычайную мае, прадаўшы чорту душу ці заклаўшы яе яму на час. Чараўнік – гэта вялікі грэшнік, ён не будзе мець спакою на тым свеце, будзе і мёртвы хадзіць па дарогах і без дарог. Пакуль жа ён на гэтым свеце, то ён можа што заўгодна рабіць. Правільней, не ён робіць, а робіць тая нячыстая сіла, якой ён прадаў душу. І ад чараўніка ці чараўніцы няма збавення іншага, як знайсці другога чараўніка, які табе паможа. Што чараўнік можа зрабіць? Усё. Раскідаць сям'ю, забраць у каровы малако,

наклікаць хваробу, акульгавіць каня ці вала, нават... увагнаць у магілу... Як ён гэта робіць? Па-рознаму. Галоўнае, каб сказана было пры зламанай свечцы ўголас тое, што ён хоча зрабіць, як пакараць таго ці іншага чалавека. І потым падкінуць ці падліць у яду ці пітво зачараванага зелля. Спосабаў, як каго зачараваць, дзесяткі, сотні. Гэта і залом у жыце ці іншай збажыне... Гэта і розныя накрэсленыя знакі на тых сцежках, па якіх ты ходзіш... Гэта і сляды, якія ты пакідаеш усюды на полі і ў лесе і якія можна «ўзяць»... І калі хто табе чаго наробіць, мучыцца будзеш да самага скону ці пакуль іншага чараўніка не знойдзеш і той не выратуе, не адчаруе ад тых чараў, якімі цябе зачаравалі. Чараўнікі маглі не толькі пакараць, але і памагчы. Скажам, у кагосьці добра вядуцца авечкі, свінні ці яшчэ што. Чараўнік можа зрабіць так, каб усё гэта вялося гэтак жа добра і ў цябе. А то і... Каб у цябе вялося, а ў таго, твайго непрыяцеля, не. Ці, скажам, дзяўчына пакахала хлопца, а ён на яе нават не глядзіць. Ідзі да чараўніка ці чараўніцы – і яны памогуць. Ды так, што хлопец вачэй зводзіць не будзе з дзяўчыны, след у след хадзіць будзе, пакуль не жэніцца, замуж дзяўчыну не забярэ...

Чараўнікоў у вёсках не так паважалі, як баяліся. Ды і самі чараўнікі не прызнаваліся нікому вельмі, што яны ўмеюць чараваць. Лепш, калі пра гэта мала хто ведае. Тым больш, што чараўніку наканавана не лепшая будучыня. Калі памрэ, спакою мець не будзе, па начах будзе выходзіць з магілы і валачыцца па дарогах і без дарог. Ды і смерць у чараўніка пакутлівая, доўгая, іншы па некалькі тыдняў памірае і ніяк памерці не можа.

Чараўніцтва на Палессі не блытаюць з прыстрэкам – хваробай, што здараецца з вачэй. Вось паглядзіць чалавек на цябе, нешта сабе падумае – і ты захварэў: галава баліць, у суставах ломіць, гне, месца сабе нідзе не знаходзіш. Дзеці ж з прыстрэку не спяць, плачуць, крычаць. Прыстрэк лёгка лечыцца – пакліч знахарку, пашэпча яна над табою ці дзіцем тваім, і ўсё, ты ці дзіця здаровыя...

Бытавала, была папулярнай на Палессі, асабліва сярод дзяўчат, жанчын, і варажба. Як толькі цяжка на сэрцы – так і ішлі, каб паваражыць, выведаць прычыну кепскага настрою, неспакою. І варажылі на Палессі не толькі цыганкі, але і самі палешукі, паляшучкі. Прычым варажба вялася самымі рознымі спосабамі, нават па зорах, па месяцы... Многія маглі адгадваць і сны. Так, напрыклад, калі ўбачыш у сне ярмо – чакай няволі, а дзяўчыне – замужжа; галубы прыляцяць – сваты прыедуць; завітаюць госці – быць сварцы... Убачыць у сне голую жанчыну – убытак, непрыемнасць; бараду доўгую – будзе пашана; ваду – не мінуць плачу, слёз...

Добры ці дрэнны сон надта ж адбіваўся на настроі чалавека, на тым, што ён думаў, меркаваў зрабіць. Іншы раз сон рассейваў сумненні чалавека, на падставе сну прымалася тое ці іншае нялёгкае, але канчатковае рашэнне.

Верылі палешукі, ды і цяпер некаторыя вераць, і ў праклёны. Таму кожны імкнуўся так жыць і ўсё рабіць, каб ніхто яго не кляў. Але жыццё ёсць жыццё, ды і людзі ж не ўсе аднолькавыя. Яму рабі дабро, а ён бачыць у тваім дабры ліха. І таму праклёны былі частыя на Палессі. Клялі ў асноўным

жанчыны, але, здаралася, і мужчыны ўстравалі ў сварку. Ды і цяпер яшчэ ў вёсках, выйшаўшы з хаты, якіх праклёнаў не пачуеш!

Штоб табе дабра не было!

Штоб ты ні туды не дайшоў, ні назад не вярнуўся!

Штоб твая душа месца і на тым свеце не знайшла!

От круцель, от круцель, каб табе галаву скруціла!

Штоб ты, ходзячы па вадзе, піць прасіў!

Былі і больш страшныя, а то і жартаўлівыя:

Штоб табе язык колам стаў, ды каб табе яго выперла за такую праўду!

Каб цябе чэрці ў смале варылі!

Штоб ты ў гасцях, седзячы за сталом, з радасці або смеху поўныя штаны налажыў!

**Творчасць**

Кожны чалавек па сваей натуры творца. І праяўляецца гэта ўсюды і ва ўсім, дзе б ён ні жыў, што б ні рабіў. Прычым з самага ранняга ўзросту, з калыскі. Яшчэ гаварыць дзіця не ўмее, слоў не ведае, а ўжо «гудзе» – спявае, творыць. Потым з пальчыкаў ручак нешта складвае, само сябе весяліць, смяецца... А там, глядзіш, і выразаць ножыкам навучыцца – то дудачку, то кіёчак; і ўпрыгожвае іх па-свойму, робіць насечкі, дзірачкі... Ды і з гліны, пяску чаго толькі не набудуюць дзеці – і пячурак, і мастоў, і дарог, дамоў, печаў – цэлая вёска, паселішча. Падросшы ж, дзяўчынкі пачынаюць вышываць ручнікі, ды і кофтачкі, фартушкі, вязаць карункі, хусткі, плясці рэчы з саломкі і бяросты, а хлапчукі – з лазы кошыкі, выпільваць, выразаць узоры і на прасніцы, і на лапаце, і на налічніках, і на варотах. Ды і танцаваць вучацца, песні спяваць, іграць на дудзе, скрыпцы, гармоніку... А ў тых жа пабудовах, у аздабленні двара колькі выдумкі, душы ўкладваецца! І не толькі дарослымі, але і дзецьмі. Дзіву іншы раз даешся – нідзе ж чалавек не вучыўся, адкуль у яго гэтае жаданне, уменне – і апрануцца, і двор, хату аздобіць, ды і ў самім памяшканні, жыллі і сцены ўпрыгожыць, ложкі заслаць як найпрыгажэй, усё зрабіць так, як ні ў кога няма. І, галоўнае, з густам, з самым тонкім разуменнем эстэтыкі, прыгожага ў жыцці!

Талент, вядома, праяўляецца не адразу. Мінае час, і пра таго ці іншага чалавека пачынае ісці погалас, што ён вельмі ж незвычайнае нешта зрабіў – выразаў налічнікі, ручнікі выткаў, звязаў хустку ці капялюш; у таго надта ж прыемны голас, і ён спявае, як ніхто; той іграе на дудзе, што аж сэрца млее; той хвацка скача; а яшчэ хтосьці байкі бае, расказвае розныя былі і небыліцы, ды так, што заслухаешся... І людзі з усёй вёскі, а то і з суседніх, ідуць, каб паглядзець, паслухаць, самому пераканацца ў тым, што пачуў ад іншых. Цяга ж да ўсяго незвычайнага, а тым больш прыгожага, у людзей вялікая. «Ай-я-яй, скажы ты, не ўяўляў, што так можна!» – захапляюцца адны. «Не, не тое... Я думаў, і праўда. Ажно...» – круцяць галовамі, не згаджаюцца другія. А трэція і зусім нічога не прызнаюць, павернуцца ды пойдуць... А то яшчэ і

ўхмыльнуцца, аблаюць тое, што бачаць, чуюць... Што ж, усё правільна! Што ні чалавек, то і свае адносіны. Адзін цэніць, што зрабіў іншы, другі бачыць, што можна гэта зрабіць інакш, лепш, чым зроблена, трэці глухі да прыгажосці ці проста нядобры чалавек, зайздроснік...

Майстры сваёй справы здаўна нараджаліся і жылі на Палессі. І не толькі выдатныя паляўнічыя, рыбакі, паляводы, агароднікі, садаводы, пчаляры, цесляры, стэльмахі, печнікі, кавалі, шаўцы, бондары, ганчары, млынары, але і разьбяры па дрэве, музыкі, ткачы, вышывальшчыцы, танцоры, спевакі, мастакі, дойліды... І пра гэта сведчыць тая вялікая духоўная спадчына, што пакінулі яны, нашы продкі, нам, сваім наступнікам. І яна, гэтая духоўная спадчына, ва ўсім і ўсюды – у пабудове і аздабленні жылля, у абсадах дарог, у парках і царквах, у адзенні і абутку. А колькі сапраўдных дыяментаў, шэдэўраў самай высокай пробы, у танцах і песнях, у казках і легендах, у прымаўках і загадках! Дый у самім афармленні свят, ва ўменні правесці кожнае з іх па-свойму, па-асабліваму! Колькі пошукаў, які тонкі, дасканалы густ!

Больш-менш запісана і вывучана вусная народная творчасць – фальклор: песні, казкі, легенды, прыказкі і прымаўкі, загадкі і г. д. Але душа народа не толькі ў іх. Душа народа і ў музыцы, у тых збудаваннях, якія, паколькі былі драўляныя, мала захаваліся – пагарэлі і пабурыліся, загінулі, яна і ў адзенні, у аздабленні жылля, поля і дарог... Ды і калі размова зайшла пра вусную народную творчасць, дык варта сказаць, што народныя крыніцы бруяцца, б'юць з глыбінь і сёння, нараджаючы і новыя песні, і новыя казкі, і новыя легенды, а тым больш прыказкі, прымаўкі, загадкі і жарты... А колькі чаго яшчэ не запісана, не вывучана! І яно, на жаль, адыходзіць, беззваротна гіне. Яшчэ на маёй памяці людзі збіраліся і на вячоркі, і на попрадкі, і на спеўкі, збіраліся і проста так на лавачцы ці на прызбе, пасядзець, пагаманіць. І вясну гукалі, і русалку праводзілі, і на арэлях гушкаліся на ўзлессі, скакалі цераз агонь, і калядавалі з «казою», «звяздою»... Цяпер многага з таго ўжо няма. Сядзяць сабе ціхенька па вечарах дома кожны ля свайго тэлевізара, хто дрэмле, хто глядзіць, слухае, што паказваюць, перадаюць з Масквы, Мінска ці з Гомеля...

А бывала ж, калі пойдзеш на вячоркі ці попрадкі альбо на іншую якую-небудзь «зборку», чаго толькі не ўбачыш, не пачуеш! Адна імправізацыя змяняецца другою, песні танцамі, танцы гульнямі, гульні жартамі, жарты казкамі, легендамі! І які прастор кожнаму быў праявіць сябе! Аднаму ў танцах, другому ў песнях, трэцяму ў жартах, чацвёртаму ў казках і легендах! Мастацкая самадзейнасць, што прыйшла на змену імправізацыі, на жаль, не можа замяніць той непасрэднасці і шчырасці, што былі раней, калі збіраліся людзі на пагулянкі. Тая арганізаванасць і нават зададзенасць, якую ўносяць рознага роду мастацкія кіраўнікі, часам зусім забівае ініцыятыву, выключае ўсякую імправізацыю, без якой не бывае творчасці... Дый чамусьці дзіўная практыка бытуе сярод некаторых кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці – не тутэйшыя танцаваць танцы і спяваць песні, тыя, што вякамі танцавалі і спявалі ў гэтай мясцовасці, а браць для выканання тыя, якіх зроду тут не

было. Вядома, і гэта трэба, цікава, але ж... Аснова павінна быць усё ж свая, мясцовая. І тады кожны калектыў будзе мець свой твар, сваё непаўторнае аблічча, ён будзе цікавы не толькі самім удзельнікам, але і ўсім, хто будзе яго бачыць і слухаць. Тое ж і ў афармленні калектываў, у касцюмах... Нівеліроўка ж, жаданне і рэпертуар, і касцюмы падагнаць пад нешта адно, псеўданароднае, забівае творчасць, а значыцца, і мастацтва, нават жаданне ўдзельнічаць у такой самадзейнасці...

Палессе – гэта своеасаблівы край. І своеасаблівасць гэтая не толькі ў самой прыродзе, ландшафце, у мове, побыце і характары людзей, але і ў творчасці. Палескія казкі і легенды часта нагадваюць звычайныя бытавыя апавяданні, а то і скандынаўскія сагі, дзе праглядваецца не толькі жыццё людзей, але і асобныя чалавечыя лёсы. У прыказках, прымаўках – правераная вякамі мудрасць. Ды і сказана яна так, што, аднойчы пачуўшы, ужо ніколі не забудзеш. Вось некаторыя з іх.

Сядзіць на кані і каня шукае.
Не ўвесь той свет, што ў акне.
Скачы, ды ні разу не топні!
Сёння тут, а заўтра ў сабачы кут.
Ціхая вада берагі рве.
З аднаго вала дзвюх шкур не здзярэш.
Бабы не перагаворыш, сабакі не перабрэшаш.
Пакуль з багатага пух, дык з беднага дух.
Ад бога грэх, ад людзей смех.
Бывае, што і дзед бабу абувае.

Прыйшоў хтось, узяў штось дый пайшоў кудысь; пайшоў бы і я за ім, ды не знаю, за кім.
Праўда – горкая страва.
Скажы праўду–нажывеш ворага.
Прышый кабыле хвост, у яе свой ёсць.
Гаварыў бы і каток, ды язык караток.
Сабаку можна і на бога брахаць.
З пяску ні пугі, ні вяроўкі не саўеш.
Высокія парогі не на нашы ногі.
Прыйдзе коза да воза.
З чужых калёс і ў гразі трэба злезці.

Многа добрых слоў можна сказаць і пра палескія песні – надта ж яны душэўныя, чароўныя. Як хораша, суладна спявалі жанчыны, калі збіраліся, бывала, на попрадкі ці на вячоркі, бралі лён ці жалі! А на тых жа вяселлях, радзінах, хрысцінах! У маіх вушах і сёння гучаць песні, што спяваліся ў лесе, у ягадах. Своеасаблівасць гэтых песень была ў своеасаблівасці ўмоў, у якіх яны спяваліся, бо надта ж выкарыстоўвалася і перагукванне – рэха, і спевы

птушак, і пошум дрэў. Ягадніцы слухалі і саміх сябе, і падхоплівалі тое, што прыносіла рэха, і пасылалі свой голас некуды ўдаль, увысь:

Пайду я гукаючы,
Сваю долю шукаючы.

– Ой ты, доля, мая доля,
Дзе ты падзелась?

Ці ў лесе заблудзілась,
Ці ў моры ўтанула?

– Каб я ў лесе заблудзілась.
Увесь бы лес засмуціла.

Каб я ў моры ўтанула,
Усё бы мора ўскалыхнулась...

З дзяцінства запомнілася мне і ўменне некаторых з карэння, галля, вывернутых старадрэвін, пнёў, моху ды розных карчаг рабіць «дзівосы-страхі». Ідзеш па лесе – і станеш раптам, як укопаны, сэрца ёкне: мядзведзь! Толькі прыгледзеўшыся пільней, здагадаешся – гэта хтосьці знарок да пня ці да вываратня прыставіў кульбаку, каб зрабіць «страх» – людзей напалохаць. Умелі, ды і цяпер умеюць, на Палессі пераймаць птушыныя галасы, звярыныя рыкі. Самі птушкі, звяры іншы раз не адрозніваюць, што гэта не птушка, не звер так спявае ці раве, а чалавек.

Даводзіцца пашкадаваць, што многае з таго, былога, знікае, а сёе-тое і знікла, ніколі ўжо не вернецца. Цывілізацыя, урбанізацыя, ды і асваенне Палесся, меліярацыя, зрабілі сваю справу. Зніклі не толькі асобныя прафесіі, якія патрабавалі таленту, творчасці, але знікла і многае са створанага, без чаго раней ніхто не ўяўляў нават свайго жыцця. На змену ідзе новае. Якое яно, які дасць плён у будучым – меркаваць не нам.

## Старасць і смерць

*Ад старасці ды ад смерці няма лекаў на свеце.*

Уолт Уітмен неяк пісаў, што «старасць – нялёгкае адзенне». Народ таксама пра старасць быў не лепшае думкі. «Старасць – не радасць». «Для старой бабы і на печы ўхабы». «Старым такая рэч: пад'еў ды на печ».

Жыццё, асабліва ў ранейшыя, даўнейшыя часы, у палешукоў было цяжкае, гаротнае. І таму мала хто дажываў да старасці. Таго мядзведзь задзіраў у лесе, таго дрэва, калі яго валілі, прыдушвала, той трапляў зімою ў люты холад у палонку ў балоце і прастуджваўся, той падрываўся на непасільнай рабоце. Жанчыны ж найчасцей паміралі ад родаў, хвароб.

Бальніц, дактароў Палессе ў тыя часы не ведала. Знахары ж, як пісаў паэт, «выймуць душу без пары...»

І ўсё ж сёй-той з палешукоў дажываў да старасці. Звычайна ніхто з нашых продкаў не ведаў, калі ён нарадзіўся – ні дня, ні году. Яшчэ і цяпер, бывае, пачуеш, што той ці іншы нарадзіўся «за два тыдні да каляд» ці «на пятроўку»... А каб ведаць дзень і год – такога не было. І пакуль у чалавека была сіла, пакуль насілі яго ногі – датуль ён і хадзіў, тупаў, рабіў усё тое, што і маладыя, – араў, сеяў, баранаваў, касіў, вазіў з поля снапы, малаціў. Ды і цяслярыў, бандарыў, стальмашыў. Жанчыны корпаліся ў гародзе, завіхаліся ля печы, пралі, ткалі, хадзілі ў лес па ягады і грыбы, глядзелі дзяцей, калі не сваіх, дык доччыных, сынавых... Дый худобу, курэй, свіней, гусей, качак даглядалі. Са старымі, як правіла, раіліся, лічыліся. У некаторых сем'ях стары бацька і старая маці кіравалі ўсім – і гаспадаркай, і куды хто павінен ісці, што рабіць. Асабліва ў тых сем’ях, дзе не дзяліліся, дзе былі старэйшыя і малодшыя сыны і нявесткі. Ды і ў астатніх сем'ях старасць акружалася пашанай, павагай. Старыя ведалі, маглі сказаць, калі і дзе што лепш пасеяць, калі якое будзе свята, надвор'е – і не на дзень заглядвалі наперад, а і на тыдзень, месяц, а то і на цэлы год. Словам, старыя – мудрыя людзі, яны пражылі жыццё і багата чаго ведалі, помнілі. Цяпер назапашанае яны раздавалі, раздарвалі. «Стары кажа на глум, а малады бяры на вум». Любілі старых і дзеці. Па-першае, усю зіму разам з дзедам, бабай яны сядзелі на печы, па-другое, ніхто не ведаў гэтулькі казак, песень, легенд, ды і ўсяго іншага, як дзяды, бабы. Да таго ж дзяды, бабы нікуды не спяшаліся, мелі час і баяць і спяваць...

Але прыходзіў час, і старасць рабілася не толькі нямоглай, але і «бязмозглай». Стары ці старая забываліся на ўсё, што ні рабілі, яны не толькі не маглі перайсці хату, але ў іх адбірала і розум, яны слеплі, глухлі. Ды, як тады казалі, жывы ў зямлю не ляжаш... Многія старыя казалі, што яны зажыліся на гэтым свеце, пара ісці на спачын: круці не круці, а трэба памярці. І рыхтаваліся да смерці. Шылі самі, ці прасілі сына, дачку пашыць ім «на смерць» адзенне, плялі лапці, а сёй-той нават дамавіну сам сабе майстраваў. Звычайна перад смерцю людзі рабіліся дабрэйшымі, даравалі правіннасці, прасілі дараваць і ім, калі яны крыўдзілі каго. Некаторыя нават дзень смерці сваёй прадчувалі, прадугадвалі. «Вось пераначую етую ночку, а заўтра, як сонейка ўзыдзе, апошні разок на яго пагляджу і памру...» – казалі яны. І праўда, збывалася ўсё так, як яны прадказвалі: узыходзіла сонца, і дзядок ці бабка паміралі, адыходзілі на той свет... Іншыя перад смерцю мучыліся, паміралі цяжка. Пра такіх казалі: награшыў. А пакуль жа з чалавека ўсе грахі не выйдуць, датуль ён і не памрэ... Большасць жа памірала ціха, непрыкметна, як і жылі, на хаду. Хто за сахою, аручы, хто, выйшаўшы з касою на луг касіць, падаў і ўжо не ўставаў, не падымаўся, хто, лёгшы пад дрэва адпачыць, хто не прачынаўся пасля ночы...

Смерць у старасці не была чымсьці таямнічым, незвычайным. Наадварот, ёй радаваліся, што прыйшла, асабліва калі чалавек доўга хварэў, мучыўся, пакутаваў. Смерць тады была як збавенне. Старэйшы сын ці дачка

бралі адразу ўладу ў свае рукі, пачыналі распараджацца. Клікалі сваякоў, суседзяў, абмывалі, адзявалі нябожчыка, рабілі труну, ішлі выбіраць месца для магілы, ды і капаць яе. Звычайна для вечнага сну выбіралі на могілках месца ля сваёй радні, каб і на тым свеце разам з усімі сваімі быць. Труну з целам вязлі на падводзе ці няслі на ручніках праз усю вёску, і ўсе, хто б што ні рабіў, кідалі работу, выходзілі са сваіх двароў, развітваліся, праводзілі чалавека. Пры гэтым кожны хрысціўся, прасіў у нябожчыка дараваць, калі зрабіў яму нейкую прыкрасць. Жанчыны галасілі. У галашэннях выказвалася і павага да чалавека, падзяка, што ён, гэты чалавек, зрабіў добрага, і шкадоба, жаль, і як не хочацца з ім расставацца, як яго не будзе ўсім хапаць... І, вядома ж, боль. «Ах, не ў час, не ў час ты нас пакінуў», – паўтараў, круціў галавою кожны.

Пахаваўшы нябожчыка, паставіўшы на яго магіле крыж – дубовы, каб доўга стаяў! – родзічы, суседзі, ды і ўсе тыя, хто быў на могілках, памагаў хаваць, збіраліся за жалобны стол, памiналі чалавека, гаварылі пра яго самыя добрыя, прачулыя словы… Пра нябожчыкаў жа, лічылася, можна гаварыць ці добра, ці зусім нічога не гаварыць...

Памінаць нябожчыка хадзілі на могілкі, збіраліся за сталом і праз тры дні – на траціны, і праз дзевяць дзён – на дзевяціны, і праз сорак дзён – на саракавіны, і праз год – на гадавіны... Хадзілі на могілкі памінаць, але ўжо не аднаго, а ўсіх родзічаў-нябожчыкаў і на радаўніцу. Памiналі і на дзяды... На Палессі – і гэта адзначаюць усе, хто б там ні бываў, – дзядоў (продкаў) любяць і ніколі не забываюць – памінаюць...

## Жыццё прадаўжаецца...

Круг жыцця са смерцю аднаго чалавека не замыкаецца. Астаюцца ж на зямлі жыць дзеці, унукі, праўнукі. Яны вырастаюць, жэняцца, нараджаюць сваіх дзяцей. Жыццё не спыняецца – ідзе, імкне наперад. Куды? Ніхто, ніхто не ведае, сказаць не можа. За адным пакаленнем людзей прыходзіць яшчэ і яшчэ пакаленне... Вясна, лета, восень, зіма... За імі – зноў: вясна, лета, восень, зіма... Падае ў зямлю зерне, прарастае, дае ўсходы і новае зерне – новае насенне... Зелянеюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце, астаюцца быццам голыя... Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай... Святло – цемра, дзень – ноч... І зноў: святло – цемра, дзень – ноч... Узыходзіць сонца і заходзіць... І ўсё гэта, увесь гэты кругазварот, дзеля чаго? Навошта было нараджацца і жыць майму бацьку, дзеду, прадзеду, прашчуру? Няўжо толькі дзеля таго, каб жыў я? А я... Дзеля чаго жыву я?.. Каб расказаць, што да мяне жылі ўжо людзі? А можа... Зусім дзеля іншага? Чаго? Каб гэтак жа, як пакінулі пасля сябе жыць мяне, я таксама пакінуў на зямлі жыць сваіх дзяцей? Зноў жа – дзеля чаго я павінен пакінуць жыць на гэтым свеце, на гэтай зямлі сваіх дзяцей? Няўжо толькі дзеля таго, каб і яны ў сваю чаргу пакінулі пасля сябе жыць сваіх дзяцей, каб зямля не абязлюдзела, каб на ёй вечна, заўсёды жылі людзі? Зноў жа – дзеля чаго яны павінны жыць, аставацца на зямлі? Узыходзіць сонца і заходзіць... Святло – цемра, дзень –

ноч... І зноў: святло – цемра, дзень – ноч... Прылятаюць з выраю птушкі і адлятаюць у вырай... Зелянеюць дрэвы, кусты і жаўцеюць, скідваюць з сябе лісце, астаюцца быццам голыя... Падае ў зямлю зерне, прарастае, дае ўсходы І новае зерне – новае насенне... Вясна, лета, восень, зіма... І зноў: вясна, лета, восень, зіма... За адным пакаленнем людзей ідзе новае пакаленне, за ім – яшчэ і яшчэ пакаленні... Жыццё не спыняецца, прадаўжаецца. І мы – ты, я, ён, яна – у гэтым кругазвароце – адна маленечкая пылінка, хвілінка... Што ж, калі нельга інакш, будзем жыць так. Будзем жыць, як наканавана нам, як да нас жылі ўжо нашы бацькі, дзяды, прадзеды, прашчуры, як завяшчалі жыць і ўсім нам, тым, хто прыйшоў і прыйдзе на змену. Дзень добры, жыццё! Як хораша, слаўна, што ты ёсць. І менавіта такое, якім мы цябе бачым, ведаем, адчуваем, жывём. Хвала і слава табе, жыццё! Хвала і слава на векі вечныя!

*Выказваем шчырую падзяку жонцы Барыса Сачанкі, Тамары Андрэеўны Сачанка, якая дала згоду на перадрук аўтарскага матэрыялу, што значна ўзбагаціў змест кнігі і стаў яе арганічнай часткай.*

*Валянціна НОВАК*

# МЯСЦОВЫЯ АСАБЛІВАСЦІ КАЛЯНДАРНА-АБРАДАВАГА ФАЛЬКЛОРУ ХОЙНІКШЧЫНЫ

Ступень якасці тэарэтычнага асэнсавання такіх праблем сучаснай фальклdésрыстыкі, як лакальнасць / рэгіянальнасць, традыцыйнасць/ навацыйнасць, залежыць ад сур'ёзнага вырашэння задач дэталёвага абследавання і вывучэння асобных рэгіёнаў, у прыватнасці фальклору Хойнікшчыны.

Звернемся непасрэдна да агульнай характарыстыкі традыцый каляндарна-абрадавага фальклору Хойніцкага раёна. Засяродзім увагу на аналізе мясцовага калядна-навагодняга комплексу. Абрад ваджэння каня займаў важнае месца ў калядным святкаванні ў в. Глінішча Хойніцкага раёна. Удзельнічалі ў абрадзе і дзяўчаты, і хлопцы; сярод персанажаў калядных прадстаўленняў вылучаліся такія, як "княгіня", "жыд", "цыган", "воін Бурмаіл": "У ваджэнні ўдзельнічалі княгіня, і быў ужо каторы жыд, што мераў: а во такой вышыны, а во такой шырыны, адзежу ўжэ шыў. А то цыган, а то воін Бурмаіл, каторы па ўсём свеце хадзіў, любезну сястрыцу згубіў, на Марсава поле ўзышоў – любезну сястрыцу найшоў: "Скажы, сястра, манерам, // Перад кім сташ на каленам? // – Перад воінам Бурмаілам…" (запісана ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.).

Аналізуючы народную творчасць Хойніцкага раёна, К.П. Кабашнікаў падкрэсліў, што "ладзілі таксама "каня" – корпус, галаву, гуньку, і касцюмы для ўсіх удзельнікаў спектакля, якія хадзілі разам з "канём": цара, воіна, цыгана, яўрэя, княгіні, доктара і іншых" [1, с. 359]. На пытанне: "Як ладзілі каня?" – інфарматар з в. Глінішча адказала: "Саб'юць з рамак такіх, да насу, ніза абаб'юць белаю матэрыяй, дзірку прарэжуць. Надзене да плеч, дак галава водзя, а нагамі ідзе. Дак тады ўжо як раскажуць, да пойдуць скакаць, дак ужо і конь той скача і ўсе гопаюць. З хаты ў хату іх нападаруюць, каню ўжо даруюць аўса" (запісана ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.). Абрад ваджэння каня быў вядомы і ў іншых рэгіёнах Беларусі. Напрыклад, на Магілёўшчыне падрыхтоўка гэтай каляднай маскі мела своеасаблівы мясцовы характар: "Здзелаюць, як быццам конь: бяруць калыску, дно вымуць, у калыску пралазіць чалавек, і яна ў яго на поясі дзержыцца. Ззаду другі хлопец становіцца, сагнуўшыся, яму хвост з кудзелі прычэпяць. І ўперадзі хлопец: яму галаву зробяць, як у каня, грыву... Абапнуць ета ўсё посцілкаю ці яшчэ чым – настаяшчая кабылка" [2, с. 5].

Абрад ваджэння каня вядомы быў і на Брэстчыне, напрыклад, у каляднай традыцыі в. Велута Лунінецкага раёна ў абрадзе калядавання мелі месца маскі і казы, і каня, пераапраналіся і ў "цыганоў", і ў "салдата": "Коня робілі гетак: два хлопцы накідвалі на сябэ посцілку, да якое прышывалі зроблену з пэркалю голову, набіту соломою, прышывалі сено ззаду – гето быў хвост" (запісана ад Гардзюк Вольгі Апанасаўны, 1935 г.н.). Прысутнасць маскі каня пад час калядавання патлумачылі вяскоўцы: "Коня водзілі для

того, штоб пожэлаць хозяінам прыбутку ў хозяйстве” (запісана ад Гардзюк Вольгі Апанасаўны, 1935 г.н.).

Трывалай была на Хойнікшчыне і традыцыя калядавання са звяздой, якую ў в. Слабажанка ладзілі ў Піліпаўку. “Куплялі каляровую паперу, свечкі, рабілі корпус. Звязда “была на 8 і больш рагоў, у сярэдзіне змяшчалася выява Боскай Маці, вакол яе свечкі. “Звязда” круціцца, а прысвечнік і абраз застаюцца нерухомыя. Гэту “звязду” на Каляды насілі ад хаты да хаты, спяваючы адпаведныя песні рэлігійнага зместу: “Раждзяство тваё, Хрысце Божа” [1, с. 359]. У в. Глінішча “звязду” насілі меншыя дзеці, гадоў дванаццаці. Паводле ўспамінаў Еўдакіі Яўхімаўны Кудрыцкай, “звязда” была круглая, як рэшата, а ў сярэдзіне ікону паставяць, а за іконаю свечку запаляць, дак яна гарыць, свечка, дак гэта ікона зіяе ўжэ, відно ж вельмі. Пойдуць пад вакно, дак стаяць і круцяць гэтую звязду да спяваюць песні: “Ражджаство Хрыстовае! // Хрыстос нарадзіўся – // Богам апладзіўся, // Ангелы ігралі – людзям вазвешчалі: // “Спяшайцеся, устрачайце // Хрыстова Ражджаство…” (запісана ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.).

Абрад калядавання ў вёсках Вялікі Бор і Рудыя адбываўся на шчадрэц, а персанажамі калядных абыходаў выступалі “дзед-павадыр”, “маладзіца”, механоша, а таксама “каза”, “баран”, рабілі і “звязду”. Рытуал заклікання марозу меў у в. Вялікі Бор свае мясцовыя адметнасці. Напрыклад, “есці куццю клікалі ўсіх – мароз (каб не марозіў гародніны і садавіны), вецер (каб не зрываў стрэх, не круціў, не слаў упокат на зямлю жыта, ячменю, проса), дзядоў (каб не злавалі, спрыялі гаспадарцы, гаспадыні і гаспадару)” [3, с. 40]. Паводле ўспамінаў Праскоўі Данілаўны Харошка, 1915 г.н., не толькі гаспадар заклікаў мароз есці куццю, “каб не марозіў ячменю, пшаніцы, про са, грэчкі і ўсяго таго, што Бог дасць пасеяць”, але і гаспадыня “тожа звала мароза і прасіла, каб не марозіў буракі, гуркі, гарбузы, моркву” (запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.).

Устойлівай традыцыяй на тэрыторыі Хойнікшчыны, як і ў іншых раёнах Гомельшчыны, з’яўлялася калядаванне са “звяздой”. Адметнымі былі звычай хаджэння з канём (в. Глінішча), рытуал заклікання марозу, ветру і дзядоў (в. Вялікі Бор), выкананне рытуалу заклікання марозу не толькі гаспадаром, але і гаспадыняй.

Пра абрад гукання вясны ў в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна змешчаны цікавыя звесткі ва ўспамінах Барыса Сачанкі: “Гэтае свята бывае перад вялікім постам на заговіны. Дзяўчаты з усёй вёскі збіраліся ў хату, дзе зусім не было дзяцей, а калі і былі, дык небагата. Неслі з сабой муку, яйкі і там пяклі каравай, усяляк аздабляючы яго markнымі абручамі, шышкамі. Дзесьці ў ранні абед, упрыгожыўшы каравай каляровымі стужкамі ды і галінкамі вярбы, паклаўшы на яго два ці чатыры вараныя яйкі, дзяўчаты ішлі на самую высокую горку, што была ў вёсцы ці каля вёскі, ці ўзлазілі на стог, качалі яйкі, пакуль тыя не біліся і гукалі вясну: “– Вясна красна, // Што ж ты нам прынясла?”

Пагукаўшы вясну, дзяўчаты вярталіся ў тую самую хату, дзе пяклі каравай. Туды збіраліся к гэтаму часу хлопцы з гарэлкаю, закускамі,

разламвалі каравай, дзялілі між сабою бітыя яйкі долькамі, частаваліся. Спявалі песні, танцавалі” [3, с. 38].

Як бачым, мясцовую спецыфіку традыцыі гукання вясны складаюць такія кампаненты, як падрыхтоўка каравая, яго аздабленне і ўпрыгожванне, качанне яек, агульнае частаванне моладзі ў той хаце, дзе пяклі каравай, ужыванне ў ежу кавалкаў каравая і яек (в. Вялікі Бор). Паводле меркавання К.П. Кабашнікава, на Хойнікшчыне ёсць мясцовая традыцыя адносіць тыповыя вяснянкі да юраўскіх песень:

– Ой, вясна, вясна, вясняначка,
Дзе твая дачка Мар’яначка?
– Мая дачка Мар’яначка
Сядзіць у садочку, шые сарочку,
Шые сарочку ільняную
Свайму міламу каханаму
[1, с. 361].

На гэту акалічнасць указвае і даследчыца В.К. Сакалова, падкрэсліваючы, што “сустрэча вясны і спяванне вяснянак у Беларусі, як і на Украіне, пераўтваралася ў звычайнае маладзёжнае гулянне, якое страціла абрадавае значэнне. Спяванне вяснянак стала звязвацца і з юр’евым днём” [4, с. 77].

Паводле ўспамінаў перасяленкі з в. Масаны Кацярыны Маркаўны Брыль, 1925 г.н., гукалі вясну тут 1 сакавіка і дзяўчаты, і жанчыны, і дзеці, за выключэннем мужчын. “Стараліся, каб мужчыны не чулі, як яны гукаюць”.

З абрадавым печывам у выглядзе “жаваронкаў, вераб’еў, качак хадзілі па вуліцы, угоры ўздымалі”. Выконвалі традыцыйную песню-вяснянку з матывамі замыкання зімы і адмыкання вясны і ярка выражаным закліканнем добрага будучага ўраджаю:

Благаславі, Божа, зіму замкнуці,
Благаславі, Божа, вясну клікнуці,
На лета новае,
На жыта тоўстае,
На лета цёплае,
На поле ўродлае

(запісана ад Брыль Кацярыны Маркаўны, 1925 г.н., в. Масаны Хойніцкага раёна).

Асаблівасцю мясцовай традыцыі загукання вясны была гульня “ў пераклічку з прыродай”, калі “гукалі “гу-гу-гу” і слухалі: ці то вецер зашуміць, ці то сабака адзавецца, ці то певень, варона – тады вясна хутка прыйдзе”:

Вясна, прыйдзі!

Красна, прыйдзі!
Усё ездзіш, ездзіш ты
На залатым кані,
Вязеш, вязеш, вясна,
Вязеш, вязеш, красна,
Доўгія дзянькі,
Цёплыя дажджы
Ды яшчэ зялёнай травы!
Хутчэй прыйдзі,
Вясна, прыйдзі
(запісана ад Брыль Кацярыны Маркаўны, 1925 г.н., в. Масаны Хойніцкага раёна).

У гэтай мясцовасці вадзілі дзяўчыну вакол вогнішча, а таксама карагоды. Як адзначыла інфарматар, “карагод часам бег: за рукі браліся і беглі вакол вогнішча”. На арэлях калыхаліся і выконвалі песню-вяснянку на сюжэт “Ой, вясна, ой, красна, што ты нам прынясла?”

Ой, вясна, ой, красна!
Што ты нам прынясла?
Ці, можа, сала,
Ці, можа, яйка,
Ці, можа, масла брусочак,
Ці пірага кусок?
……………………………………
(запісана ад Брыль Кацярыны Маркаўны, 1925 г.н., в. Масаны Хойніцкага раёна).

У цэнтры прыведзенай вяснянкі – “паэтычна-вобразны эквівалент даброт, дараваных вясною” [5, с. 45]. Адзначым, што ў кожнай мясцовай традыцыі матыў дароў вар’іруе і мае свае адметныя элементы.

У в. Стралічава дзеці гукалі вясну ў пачатку сакавіка. Вядома была ў гэтай мясцовасці і традыцыя выпечкі “птушачак з цеста, пышных, румяных, красівых”. Цікавымі ўяўляюцца вузкалакальныя гульнёвыя дзеянні з абрадавым печывам: “Патом усе дзеці сабіраліся дзе-небудзь на полі, на халму і елі свае птушачкі. Елі іх толькі да галавы. А галаву прыносілі сваім маткам дадому. І пелі яны так: “Блаславі, маці,// Вясну звaці // На цёплае лета, // На добрае жыта” (запісана ад Сацуры Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н., в. Стралічава Хойніцкага раёна).

Даследчыца Т.А. Агапкіна звязвае рытуал раздачы выпечаных жаўранкаў дзецям з памінальнымі матывамі: “Матывы кармлення душ выяўляліся не толькі ў рытуальным выкарыстанні “жаўранкаў”. Магчыма, яны былі ўласцівы ўсяму комплексу вераванняў, звязаных з днём Сарака (пакутнікаў) і з гэтым абрадавым пячэннем” [6, с. 251].

У прыведзеным намі прыкладзе знайшоў адлюстраванне матыў кармлення душ продкаў. У якасці доказу можна выкарыстаць факты, прыведзеныя Т.А. Агапкінай: “Іншы раз “жаўранкі” прызначаліся непасрэдна для продкаў. У Бярдзічаўскай акр. яшчэ ў пачатку XX ст. “жаўранкаў” раздавалі дзецям, мяркуючы, “быццам бы будзе есці іх той, хто памёр. На тым свеце ён іх з’есць” [6, с. 251]. “Частка рэлігійна-магічных звычаяў, звязаных з ежай, адлюстроўвае водгаласы дэманалагічных вераванняў. Як шлях да кантакту са звышнатуральнымі істотамі разглядвалася само з’яданне ежы, розныя дзеянні з ёю” [7, с. 165].

Е. Раманаў у “Беларускім зборніку”, змяшчаючы этнаграфічныя звесткі аб абраднасці гукання вясны, заўважае, што аднаго з выпечаных жаўранкаў кідалі ў печ, а астатніх раздавалі дзецям і жабракам [8, с. 142].

Прысвятак “Саракі”, які адзначалі ў гонар памяці аб сарака пакутніках за веру, на Хойнікшчыне быў звязаны з разнастайнымі сімвалічнымі дзеяннямі. Як заўважыла Т. Валодзіна, “абрадавыя паводзіны гэтага дня змадэляваныя ў рэчышчы пераасэнсавання лічбы сорак сродкамі народнай этымалогіі – пяклі 40 булачак, ламалі 40 дашчэчак, чакалі 40 выраяў” [9, с. 451]. У шматлікіх традыцыях Хойнікшчыны з лічбай 40 былі звязаны такія магічныя дзеянні, як з’яданне 40 аладак, збіванне “40 круглякоў”, выпіванне 40 чарак гарэлкі, з’яданне 40 бліноў, пераломванне дзяўчатамі 40 дошчачак, каб хутчэй выйсці замуж (в. Стралічава). Гульня ў скокалкі на Саракі і перакідванне цераз страху “40 палачак” або “камушкаў” – адметныя абрадавыя элементы свята ў в. Судкова Хойніцкага раёна.

Калі характарызаваць велікодную абраднасць і паэзію Хойнікшчыны, то найперш варта адзначыць факт актыўнага бытавання такіх структурных элементаў, як наведванне могілак з мэтай памінання памёрлых родзічаў, фарбаванне і асвячэнне яек, гульня ў біткі, хаджэнне валачобнікаў (гэта былі дзеці, якія на Пасху па дамах хадзілі, спявалі – в. Навасёлкі, а таксама “ў склад валачобнікаў уваходзілі хросны бацька і хросная маці” – в. Веляцін), абменьванне “паскамі”. У в. Вялікі Бор “з пасхай хадзілі па суседзях, абменьваліся кускамі хлеба, каб у дзярэўні была ўсё добра”. Пры гэтым гучалі наступныя славесныя прыгаворы:

– Хрыстос васкрэс!
– Ва ісціну васкрэс.
Валачобныя – людзі добрыя,
Валачыліся, памачыліся.
Хрыстос васкрэс, сам Гасподзь!
Пачынальніку – чырвон залаты,
Механошу – хоць тры грошы,
А пяўцам – канец пірага.

(запісана ад Смірнова Барыса Іванавіча, 1930 г.н.,
Смірновай Марыі Сцяпанаўны, 1933 г.н.).

Велікоднаму яйку надавалі магічнае значэнне, і фарбавалі яйкі, як падкрэслілі жыхары в. Слабажанка, “таму што Хрыстос уваскрэс”. Калі хто-небудзь у сям’і памёр, то не фарбавалі яек, а проста так варылі” (в. Навасёлкі). З чырвоным колерам велікоднага яйка звязвалі жыхары Хойнікшчыны, як і іншых райнаў Гомельшчыны, пакуты Ісуса Хрыста: “Краснае яйка лічыцца сімвалам пралітай крові Іісуса Хрыста, і пагэтаму ў красны цвет красілі яйкі” (в. Стралічава). Заслугоўваюць увагі мясцовыя тлумачэнні прысутнасці на велікодным стале такіх відаў рытуальнай стравы, як булак (гэта – “сімвал сонца і цяпла, а мяска, як гаворaць, свініна на стале – гэта каб зарадзіла ніўка, ураджай быў харошы” – в. Стралічава). Сустракаюцца сведчанні аб тым, што яйкі маглі фарбаваць у іншы колер: “Можна красіць у зялёны колер” (в. Веляцін), “а хто красіў краскаю разнаю… галубенькаю” (в. Навасёлкі).

У в. Веляцін шкарлупінне ад яек кідалі на агарод, каб паспрыяць добраму ўраджаю, у в. Судкова пасвечанае велікоднае яйка захоўвалі да ворыва і клалі ў першую баразну (“на ўраджай ілі ад чаго”). У в. Стралічава шкарлупінне ад яйка закопвалі “ў землю ў градах, штоб харошы быў ураджай і не пабіла яго градам”. У в. Слабажанка верылі, што здароўе і прыгажосць кожнага члена сям’і залежаць ад рытуала ўмывання вадой, у якую клалі велікоднае яйка.

У в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна здзяйснялі рытуалы і першага выгану жывёлы на пашу, і абходу поля. Падчас апошняга правяралі, ці “ёсць завіткі на худобу” (запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н., в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна). Даследчыца А.А. Плотнікава, даючы агульную арэальную характарыстыку абраднасці першага выгану жывёлы на Палессі, засяроджвае ўвагу на магічным выкарыстанні сродкаў ткацкай вытворчасці, на шматлікіх канкрэтных прыкладах дэманструе іх семіётыку ў залежнасці ад кантэксту іх рытуальнага выкарыстання. Напрыклад, у в. Вялікі Бор “пад парог хлява клалі яйкі і ніты, каб карова была здаровай і прыходзіла дадому”; у в. Дубровіца “ніты замукалі на вароцях – эта ад звера. Звероў і гадоўе позамукалі” [10, с. 116-117]. У некаторых мясцовасцях Гомельшчыны, калі выкарыстоўвалі ў якасці абярэгу жывёлы ад воўка ніты, іх не замыкалі замком: “Пад парог четыре ниты кладуть, штоб карова параскочила, штоб не пагибла ад воўка” (в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага раёна); “Нит клали, каб ваўки не папали” (в. Галоўкі Рэчыцкага раёна) [10, с. 116-117]. На думку А.А. Плотнікавай, “шматстайнасць матывіровак, якія тлумачылі абавязковы пераход скаціны праз ніты, раскрывае самыя розныя бакі магічнага дзеяння гэтага прадмета” [10, с. 116-117].

Сярод юраўскіх песень, запісаных на Хойнікшчыне, ёсць цікавы тэкст жартоўнага характару:

Юр’я паша ў полі,
Ой, на гарэ карыта
Поўна вады наліта.
Ой, там голуб воду піў,

А барын з дзеўкай гаварыў:
“Не ідзі, дзеўка, за ўдаўца,
Бо ты ўдаўцу не ўгодзіш”.
– А я ўдаўцу ўгаджу,
Пасцель белу пасцялю
Ды і мякенька пасцялю:
А шупшынку пуд спінку,
Каменьчыкаў у галоўку,
А крапіўку пуд ножку.
А каменьчык муліцца,
А шупшынка колецца,
А крапіўка жарыцца,
А ўдавец дзеўцы жаліцца

(запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н., в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна)

Сярод адметных лакальных варыянтаў юраўскіх абрадаў на Хойнікшчыне вылучаецца юраўскі абрадавы комплекс, звесткі пра які запісаны ад Веры Максімаўны Мароз, 1921 г.н. з в. Малішаў. Асноўныя структурныя элементы мясцовай традыцыі наступныя: калектыўнае шэсце дзяўчат з ручнікамі праз вёску да поля, раскладванне ручнікоў на зямлі, таптанне па іх босымі нагамі, каб “раса ўвайшла ў рушнікі”, збор кветак, галінак, уторкванне іх “у кворткі і вароты двароў”, частаванне ўсіх удзельнікаў абрадавым печывам (“хрэсцамі”) найбольш паважанай жанчынай у вёсцы, утварэнне двума радамі дзяўчат своеасаблівага калідору, “па правую старану якога стаяць дзеўкі з рушнікамі, па левую – дзеўкі з гаршкамі”, выган жанчынамі кароў на пашу праз утвораны калідор, суправаджэнне кожнага з абрадавых дзеянняў замоўнымі формуламі.

У прыведзеных рытуалах важнае магічнае значэнне маюць не толькі вербальны, але і прадметны, і акцыянальны аспекты. Даследаванне лакальных варыянтаў юраўскай абраднасці дае магчымасць скласці цэласную карціну яе бытавання, хаця, напэўна, мае рацыю С.М. Талстая, калі сцвярджае, што іншы раз выклікаюць сумненні спробы прадставіць асобныя элементы складанага абрадавага комплексу як “рэлікты адзінага абраду або адзінай сістэмы ўяўленняў і лічыць іх аднолькава паказальнымі пры рэканструкцыі старажытнейшага віду і сэнсу гэтага абраду, г.зн. прыпісваць ім усім роўную ступень архаічнасці, усеагульнасці і нязменную для ўсіх абласцей сімвалічную функцыю…” [11, с. 131].

Напэўна, можна пагадзіцца з выказваннем Т.А. Агапкінай, якая, аналізуючы калужскі абрад “грэць вясну” у яго славянскіх сувязях, адзначае, што “…асобныя элементы, матывы і атрыбуты гэтага абраду, дзякуючы сваёй полісемантычнасці, а таксама дзякуючы фактару рытуальнай сінаніміі, “працуючай” у маштабах народнай культуры ў цэлым, ствараюць даволі мазаічную карціну, за якой угадваецца бясконцы рад трансфармацый і спантанна ўзнікаючых камбінацый; у іх, хутчэй за ўсё, і схаваны няўлоўны і

вечна знікаючы ад нас сэнс” [12, с. 16]. Дадзенае выказванне хоць і датычыць іншага абрадавага комплексу, але надзвычай актуальнае і ў кантэксце нашага даследавання лакальных варыянтаў юраўскай абраднасці і паэзіі. Вышэйпрыведзеныя звесткі пра Юр’еў дзень у в. Малішаў дазваляюць разглядаць яго як цэласны комплекс народных рытуалаў і вераванняў, якія дэманструюць яскравы характар мясцовай спецыфікі, раскрываюць вялікія магчымасці носьбітаў, іх светапогляд, іх разуменне важнасці магічных дзеянняў, каб забяспечыць свой дабрабыт, засцерагчы статак, павялічыць урадлівасць нівы. Як слушна адзначыў І.А. Марозаў, “…чыста метадалагічна ўяўляецца больш карэктным прад ставіць традыцыйны народны светапогляд не толькі з пункту гледжання знешняга назіральніка – даследчыка, складальніка слоўніка, але і знутры – так, як яго разумее і бачыць сам носьбіт культуры” [13, с. 5].

Адметнасцю мясцовай юраўскай абраднасці ў в. Малішаў з’яўляецца суправаджэнне рытуалаў замоўнымі формуламі, выкананне пры гэтым пэўных магічных дзеянняў: напрыклад, “гаспадыня вынімае із страхі пук саломы, адкрывае дзверы, вядзе кароўку ў двор, абводзіць яе тры разы па сонцу, пагладжвае пуком саломы і кажа: “Ідзі, мая каровачка, на Юр’еву расу, на Міколаву траву з велікімі малакамі, з тоўстымі сырамі, з глыбокімі сметанкамі” (запісана ад Мароз Веры Максімаўны, 1921 г.н., в. Малішаў Хойніцкага раёна). Перад тым як выгнаць карову ў поле, гаспадыня каля іконы прамаўляе наступныя магічныя словы: “Святы Юрый-Ягорый, спасі маю худобінку ад гада палзучага, воўка бягучага, змея лятучага, злога чалавека, накрый яе, Госпадзі Божачка, святы спасіцель, прыступі і памажы, сахрані і памілуй. Чераз поле чыстае, чераз мора быстрае ішла Маці Прачыстая, там яна траву рвала і вадзіцу брала, рабай кароўцы вымя падмывала, каб маей кароўцы малако прыбывала. Святы Юрый-Ягорый, спасі маю кароўку ад гада палзучага, ад ваўка бягучага, ад змея лятучага, ад злога чалавека. Накрой яе, Госпадзі, сваей рызай. Госпадзі, Божачка, святы спасіцель, прыступі і памажы, сахрані і памілуй. Благаславі, Божа, скацінку ў поле гнаці, пасвіць, запасаць, ад ліхадзеяў замаўляць” (запісана ад Мароз Веры Максімаўны, 1921 г.н., в. Малішаў Хойніцкага раёна).

Сярод магічных абрадавых дзеянняў, звязаных з першым выганам каровы на Хойнікшчыне, можна назваць такія мясцовыя асаблівасці, як абыход вакол каровы з вядром вады, выліванне яе услед карове, падразанне хваста і ўторкванне адрэзанага кавалка пад страху, абсыпанне макам (“як гэтага мака не злічыць, хай малака будзе не злічыць”), качанне яек па спінах кароў. Выпраўляючы карову з падвор’я, гаспадыня яе замаўляла: “Ідзі, мая кароўка, на Юр’еву расу, на зялёную траву, ножанькамі патапчы, ворагам цябе не ўрочыць” (запісана ад Мароз Веры Максімаўны, 1921 г.н., в. Малішаў Хойніцкага раёна). На думку А.С. Ліса, “шырока разгалінаваная сістэма магічных абрадавых практык, скіраваных на апатрапію гаспадарчай жывёлы падчас першага выгану яе на пашу, на Юр’еву расу, а таксама багатае песеннае суправаджэнне здзяйсняных пры гэтым рытуалаў прадвызначылі семантыка-вобразную спецыфіку беларускай юраўскай

традыцыі, яе адметнасць у маштабе народнага календара, традыцыйнай культуры ў цэлым” [14, с. 211].

Русалчын тыдзень у в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна святкавалі на працягу трох дзён – нядзелі, панядзелка, аўторка і называлі, па сведчанні Барыса Сачанкі, тройцай: “двор, хату ўпрыгожвалі зялёнымі бярозкамі, галінкамі клёну, ліпы. Дзяўчаты, па-святочнаму апрануўшыся, збіраліся ў купкі і спявалі песні. У гэтыя дні нельга было купацца, бо маглі злавіць русалкі і зашлакатаць да смерці” [3, с. 39].

Як паведаміла Праскоўя Данілаўна Харошка, 1915 г.н., жыхарка гэтай жа вёскі, “выбіралі на русалку самую красівую дзеўку з сяла, вілі вянок з асіны, рагожы ці бярозы ды й надзявалі ёй на галаву, а замест плацця віселі веткі. Вялі да жыта, там скакалі цераз агонь, пелі песні, тады разрывалі на ёй тое ўсё ды і ў жыта яе штурхалі” (запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н., в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна). Спецыфічна мясцовай песеннай з’явай русальнай традыцыі ўспрымаецца тэкст “Па ўсіх старонках даждзі ідуць”:

Па ўсіх старонках даждзі ідуць,
У вялікім Бору не бываюць.
Толькі хмарачкі не ганяюць.
Найдзіце, хмаркі цямненькія,
Пайдзіце, даждзі драбненькія,
На маю руту зялёную,
На маю ружу чырвоную,
Штоб мая ружа была прыгожа,
Чырвоным цветам зацвітала,
Шырокім лісцем ападала

(запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,
в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна).

Выконвалі ў в. Вялікі Бор на Хойнікшчыне і традыцыйную рытуальную песню як ілюстрацыю абраду праводзін русалкі, з якой у дадзеным выпадку былі звязаны ўяўленні аб ёй як шкоднай істоце:

Правяду русалку, правяду
Ды й асінкаю заламаю,
Каб тая русалка па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё ж жыцейка дробнае
Ды й у каласку буйнае.
Правяду русалку, правяду
Ды й асінкаю заламлю

(запісана ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,
в. Вялікі Бор Хойніцкага раёна)

Даследчыкі неаднаразова падкрэслівалі аграрна-магічную скіраванасць абраду праводзін русалкі. Напрыклад, К.П. Кабашнікаў, характарызуючы народную творчасць Хойніцкага раёна, адзначыў, што "пасля таго, як правялі русалку ў жыта, гэтыя вянкі клалі на капусту, каб яна лепш расла, каб качаны былі тугія і вялікія" [1, с. 361]. Г.А. Барташэвіч, гаворачы пра пладаносную магічную ролю русальных вянкоў, спасылаецца на сведчанні жыхаркі в. Рашаў Хойніцкага раёна С.Т. Якіменка, 1916 г.н.: "Правядуць русалку, а самі ідуць дадому, кідаюць вянкі на грады, на гуркі. Гэта, кажуць, на ўраджай. Эта па-калішняму, такая прымха была" [15, с. 156]. Паводле ўспамінаў перасяленкі з в. Кажушкі Хойніцкага раёна Марыі Дзмітрыеўны Драка, 1915 г.н., абрад праводзін русалкі здзяйснялі з мэтай задобрыць яе: "На другую нядзелю пасля Троіцы святочна апранутыя жанчыны збіраліся на краю сяла і палілі касцёр, вадзілі карагод і спявалі песню:

Благаславі, Божа, благаславі, Божа,
Песенку запеці на новае лета.
Па гары хаджу ды ў сяло гляджу.
А на гары – сасна,
Усяму міру ясна.
А на гары той жа мой нелюбы творац,
Мой нелюбы творац ды з Богам гаворыць.
"І скінь яго, Божа, із сасны да долу,
Із сасны да долу ды аб пень галавою"

(запісана ад Драка Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.,
в. Кажушкі Хойніцкага раёна).

Прыведзены тэкст – адметнасць мясцовай русальнай традыцыі. Цікава, што ў гэтай в. Кажушкі, не існуючай ужо сёння на геаграфічнай карце Беларусі ў сувязі з чарнобыльскай бядой, "русалку праводзілі к дрэўцу, знімалі з галавы вянок і закідалі яго на дрэва". Л.М. Вінаградава, аналізуючы рытуальныя дзеянні з вянкамі, прыводзіць звесткі з вёсак Барбароў Мазырскага і Кірава Нараўлянскага раёнаў, у якіх таксама адлюстроўваецца фрагмент закідвання вянкоў на дрэвы: "Через деревню ў поле ведуть (русалку), там груша стаить… Дзеўки ўсе ў венках идуть, да тэи венки на грушу покидываём, а сами да дому" [16, с. 180], "…ведуць и спеваюць, потым венка зьнимаюць, вешаюць на бярозу (вар.: вешали венки на дуб)" [16, с. 180]. У в. Кажушкі скокі цераз вогнішча ў русальным абрадзе мясцовыя жыхары звязвалі са здароўем: "пераскаквалі праз касцёр, і хто лепей і далей скокне, той будзе больш здаровы".

Русальны абрад у в. Дворышча Хойніцкага раёна праводзіўся на свята Івана Купалы, таму ў ім арганічна аб'яднаны і купальскія рытуальныя дзеянні, і русальныя. Спачатку гэта быў збор кветак і траў, падрыхтоўка старызны для вогнішча і яго распальванне вечарам каля рэчкі або лесу, скокі цераз агонь і варожбы аб шлюбе, пошукі кветкі-папараці, розныя бясчынствы ("адзін раз мужык баню строіў, ну, зруб паставіў ужо. Так хлопцы якія-та

зруб разабралі і ў другі канец дзярэўні пас тавілі” (запісана ад Андрэйчык Любові Захараўны, 1953 г.н., г. Гомель, перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага раёна). Для абраду праводзін русалкі выбіралі прыгожую дзяўчыну, надзявалі на галаву вянок з васількоў, чаплялі да сарочкі галінкі, вадзілі вакол яе карагоды. Затым вялі яе ў жыта, заклінаючы не рабіць людзям шкоды: “Русалка, русалка, мы цябе вядзем, // Песні паем, // В дзярэўню не хадзі, // Шкоды не рабі, // Нашых дзетак у рэчкі не тапі” (запісана ад Андрэйчык Любові Захараўны, 1953 г.н., г. Гомель, перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага раёна).

У структуры абраду пахавання стралы ў в. Мархлеўск Хойніцкага раёна можна вылучыць такія кампаненты: ваджэнне карагодаў упоперак вуліцы, распальванне вогнішча на полі, кругавыя карагоды вакол агню, падзел карагодаў на мужчынскі і жаночы “ланцужкі”, выбар пана і паненкі і шэсце з імі да жыта з выкананнем песні “Пахаваем стралу ў густым жыцейку”, імітацыя галашэння па “страле-лялькі”, яе гушканне і закапванне ў ямцы, ваджэнне развітальнага карагода вакол “етаі магілкі”, качанне і кулянне ўсіх удзельнікаў у жыце. Адметнасць мясцовай традыцыі пахавання стралы заключалася ў форме першапачатковых карагодаў, для ваджэння якіх утваралі тры шарэнгі: “сначала ўсе маладзічкі станавіліся шчыльненька адна да аднае так, каб перап’яць вуліцу. За імі ззаду так жа сама станавіліся ўсе мужчыны. А ў самым канцы браліся за рукі ўсе дзеткі так жа шчыльненька. І вот так з песняю ішлі яны ўдоль усяе вёсачкі, як бы перакрыўшы вуліцу” (запісана ад Півавар Праскоўі Іванаўны, 1933 г.н., в. Мархлеўск Хойніцкага раёна). Семантыка такіх карагодаў мела апатрапеічны характар. Як патлумачыла інфарматар, “етым самым яны вуганялі разных злых духаў з вёскі”. Вогнішча, як лічылі вяскоўцы, дапамагала, каб “злыя духі пакідалі вельмі буйстра вёсачку”. Сутнасць самой назвы пахавання стралы выразна адлюстроўваецца ў тых сімвалічных абрадавых дзеяннях, якія выконваюцца галоўнымі ўдзельнікамі свята – “панам” (“ім була дзяўчына”) і “паненкаю” (“гэта буў хлопец”) і сведчаць аб цеснай узаемасувязі каляндарна-абрадавай і сямейна-абрадавай паэзіі, у прыватнасці, пахавальнай. “Калі прыходзілі на поле і ўжэ сабіраліся хаваць стралу, пан з паненкаю етыя бралі стралу-ляльку, гушкалі яе і галасілі па ёй, як бы то буў чалавек. Патом выкопвалі ямку і на ні з яе клалі каласкі жыта, звязаныя ў адзіны пучок. А ўжэ на еты пучок каласочкаў клалі так очань бережно стралу-ляльку, скручаную з розных сухіх лячэбных траў разам з засушанымі каласкамі і абгортувалі палатном. І вот клалі етую стралу і закопвалі” (запісана ад Півавар Праскоўі Іванаўны, 1933 г.н., в. Мархлеўск Хойніцкага раёна).

Каласкі жыта, пакладзеныя на дно ямкі, качанне і кулянне малых і старых у жыце мелі на мэце спрыяць яго лепшай ураджайнасці. Светапоглядную аснову гэтых дзеянняў абумоўліваюць фетышысцкія вераванні нашых продкаў у магічныя здольнасці зямлі-маці. “Але ўсё ж найбольш шанавалі арыйцы ўласна Зямлю-Маці. Нашы продкі-сяляне, ідучы ў чужую старонку, бралі з сабою ў ладанку родную зямельку: жменьку з-пад печкі (каб не забыцца пра цяпло і дабро свайго роднага кута), жменьку з-пад

брамы (каб памятаць пра свой двор), жменьку з-пад ростані дарог (каб не зблудзіць на жыццёвых шляхах, каб не забыцца пра радзіму)” [17, с. 237].

Да ліку мясцовых асаблівасцей ваджэння стралы варта аднесці выкананне песень-вяснянак (“Вясна-красна на калочку”, “Жаваронaчкі, прыляціце”, “Зарадзі, Божа, жыта”). Вяртаючыся ў вёску, удзельнікі абраду выконвалі сумныя песні, каб “паказаць свой смутак па пахаванай страле”. Зыходзячы з прыведзеных лакальных апісанняў абраду пахавання стралы, можна канстатаваць, што гэтая з’ява ў дадзенай мясцовасці мела полісемантычны характар. Вышэй мы адзначылі такія функцыі пахавання стралы, як выгнанне злых духаў з вёскі і спрыянне ўраджайнасці злакавых культур. Доказам яшчэ аднаго функцыянальнага прызначэння – засцярогі ад маланкі, з’яўляюцца ўспаміны-тлумачэнні вяскоўцаў, на думку якіх, “і вот еты абрад дапамагаў засцерагчы ад маланкі і агню вёску і ўсіх людзей, што прымалі ўдзел у пахаванні стралы” (запісана ад Півавар Праскоўі Іванаўны, 1933 г.н., в. Мархлеўск Хойніцкага раёна). Як бачым, здзяйснялі абрад ваджэння стралы з роз нымі мэтамі, сімвалічныя дзеянні і песні мелі адначасова характар апатрапеічнай і карпаганічнай магіі. Адметным было і тое, што вярталіся ў вёску жыхары не “ланцужком, а па два чалавека ішлі назад у вёску, каб не зацікнуць, не загнаць назад злых духаў” (запісана ад Півавар Праскоўі Іванаўны, 1933 г.н., в. Мархлеўск Хойніцкага раёна).

Паводле ўспамінаў Вольгі Мікалаеўны Кардаш з в. Паселічы, “калі неслі да жыта стралу-ляльку, тагды з меднай провалакі рабілі стралу, якая була падобная на такі вот зігзаг маланкі. І вот калі ўжо стралу закапалі, тагды зверху, вот як на могілках красты ставяць, утыкалі ў зямлю етую маланку з провалакі. Ета рабілася для таго, каб адагнаць ад вёскі маланку і ўвогуле ўсялякі агонь альбо пажар, а ў етае ўрэм’я дзеткі скакалі па полю, а патом качалі адзін аднаго па жыту і навет ўшчыкалі і так весела шчабяталі і смяяліся, набіраліся тым самым сілачкі і здароўя” (запісана ад Кардаш Вольгі Мікалаеўны, в. Паселічы Хойніцкага раёна). Відавочна, што мясцовыя адметнасці закранаюць не толькі структуру абраду і яго вербальнае суправаджэнне, але і прадметную атрыбутыку: у в. Мархлеўск сімвалам стралы з’яўлялася лялька, зробленая з сухіх траў і засушаных каласкоў, у в. Паселічы гэта ўжо быў сапраўдны зігзаг маланкі з меднага дроту.

## Спіс выкарыстаных крыніц

1 Кабашнікаў, К.П. З глыбінь народнай творчасці / К.П. Кабашнікаў // Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Хойніцкага раёна / БелЭН; рэдкал.: М.А. Ткачоў (гал. рэд.) і інш. – Мінск : БелЭН, 1993. – С. 358-365.

2 Традыцыйны фальклор Магілёўскага Падняпроўя / уклад. Т.Б. Варфаламеевай / Бел. ін-т праблем культуры – Мінск, 1996. – 126 с.

3 Сачанка, Б. Вечны кругазварот / Б. Сачанка // Полымя. – 1986. – № 6. – С. 3-52.

4 Соколова, В.К. Весенне-летние календарные обряды русских, украицев, белорусов / В.К. Соколова. – М. : Наука, 1979.

5 Ліс, А.С. Каляндарна-абрадавая творчасць беларусаў: Сістэма жанраў. Эстэтычны аспект / А.С. Ліс // Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы. – Мінск : Беларуская навука, 1998. – 188 с.

6 Агапкина, Т.А. Этнографические связи календарных песен. Встреча весны в обрядах и фольклоре восточных славян / Т.А. Агапкина. – М. : Индрик, 2000. – 336 с.

7 Листова, Н.М. Пища в обрядах и обычаях / Н.М. Листова // Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Исторические корни и развитие обычаев. – М. : Наука, 1983. – С. 161–173.

8 Романов, Е.Г. Белорускій сборник / Е.Г. Романов. – Вильна: Типография “Русский почин”, 1912. – Вып. 8. – 600 с. – Вып. 9. – 124 с.

9 Беларуская міфалогія: Энцыклапед. слоўн. / С. Санько, Т. Валодзіна, У. Васілевіч і інш. – Мн. : Беларусь, 2004. – 592 с.

10 Плотникова, А.А. Первый выгон скота в Полесье / А.А. Плотникова // Славянский и балканский фольклор. – М. : Индрик, 1995. – С. 108-141.

11 Славянский и балканский фольклор. – М. : Наука., 1985. – 278 с.

12 Агапкина, Т.А. Очерки весенней обрядности Полесья / Т.А. Агапкина // Славянский и балканский фольклор. – М. : Индрик, 1995. – С. 21-107.

13 Духовная культура северного Белозерья: Этнодиалектный словарь / И.А.Морозов, И.С.Слепцова, Е.Б.Островский, С.Н.Смольников, Е.А.Минюхина. – М. : Ин-т этнологии и антропологии РАН, 1997. – 432 с.

14 Каляндарна-абрадавая паэзія / А.С. Ліс, А.І. Гурскі, В.М. Шарая, У.М. Сівіцкі; навук. рэд. А.С. Фядосік. – Мн. : Бел. навука, 2001. – 515 с.

15 Барташэвіч, Г.А. Беларуская народная паэзія веснавога цыкла і славянская фальклорная традыцыя / Г.А. Барташэвіч. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985. – 184 с.

16 Виноградова, Л.Н. Народная демонология и мифо-ритуальная традиция / Л.Н. Виноградова. – М. : Индрик, 2000. – 432 с.

17 Шамякіна, Т.І. Міфалогія Беларусі (нарысы) / Т.І. Шамякіна. – Мінск : Маст. літ., 2000. – 400 с.

# ЗІМОВЫЯ АБРАДЫ, ЗВЫЧАІ І ПЕСНІ

## Піліпаўка

На Піліпаўку рабіліся попрадкі. Сабіраліся ўмесце, бралі кудзелю, лён. І ўжэ тады пачыналі прасці еты лён. Песні пелі розныя. Попрадкі ў нас рабіліся і не толькі на Піліпаўку, а дайжа і на ўвесь Мясаед. Там ужэ пралі, песні пелі, нашывалі ўсяго, у карты гулялі. Песні пелі як каму загаманецца.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

На Піліпаў дзень сабіраліся ў гурт, дзе-нібудзь у суседа. Маладзейшыя дзяўчата сабіраліся ўдзень, яны бралі самапрадку, пралі кудзелю. Спявалі песні:

Ой, у полі крынічанька,
Брала воду дзяўчынанька.
Яна брала, набірала,
З казачэнькам размаўляла.
– Ты, казача, казачэньку,
Вазьмі мяне, маладзеньку!
– Як жа цябе браці,
Калі ў цябе брат багаты.
Чаруй, дзева, брата свайго –
Будзеш меці міленькага!
– А як жа мне чараваці,
Не ведаю, скуль што браці.
– Вазьмі, дзева, новы горшчык,
Пастаў пад яловы корчык.
Будзя сонца прыграваці,
Будуць чары прыбываці.
Яшчэ братка ў дарозе.
Сястра з півам на парозе.
– Выпі, братка, гэта піва,
Будзе ўсім людзям на дзіва!
Яшчэ братка не напіўся,
Як з коніка паваліўся:
– Прадай каня і сядзельца,
Ратуй мяне і маё сэрца!
– Не на тое чаравала,
Каб цябе я ратавала!

А ўвечары расходзіліся. А на іхняе месца сабіраліся ў гурт больш дарослыя дзеўкі і хлопцы. Яны рабілі вячоркі. Дзеўкі на вячорках таксама, як і малодшыя, пралі кудзелю, спявалі, а некаторыя і танцавалі. А хлопцы між тым выбіралі сабе дзевак. А калі сцямнелася, трэба было ісці дадому, хлопцы праводзілі дзевак дадому. Спявалі песню:

Ой, там на гарэ казак каня сядлае,
Ой, там дзеванька песню спявае,
Ой, ты казачэ, а я дзеванька красна,
Ты ў полі араў, а я табе абед нясла.
Як ты абедаў, я тваі валы пасла.
– Ой, дзеванька, ты пахучае зелле,
Не ўзяў цябе, прашу на вяселле.
– Ой, ты, дзеванька, пахучая мятка,
Не ўзяў цябе, не пазваляе матка.
– Што ты жаніўся ды не развесяліўся?
У нядзелю рана з жонкай пасварыўся?

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецку),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Попрадкі – ета ўвечары збіраліся ў каго-небудзь у хаце і пралі. Каб було весялей, дак спявалі песні. Сягоння – загавіны, на Піліпаўку – запускі. Пасля Міхаліны будуць загавіны, штоб не елі сала. У Піліпаўку падходзяць Каляды. Хадзілі на вячоркі. У Піліпаўку нельзя жаніцца, бо ў ету пору толькі ваўкі жэняцца. Также боязна ў лес хадзіць, бо ваўка можаш сустрэць, да і не аднаго.

Ой, чыя то кветачка ў бярэзнічку?
То не кветачка – Сашкава дзевачка.
Я яе шукаў і ў дудачку іграў,
Я яе найшоў, танцаваць пайшоў.
За етыя словы, танцоўкі – кварта гарэлкі,
Стала мала, кусочак сала.
За варацьмі – крутая гара,
А на той гарэ – шаўковая трава,
А на той траве стада коней хадзіла,
А між тых коней адзін вараны
Ды не спутаны.
Хлопцы лавалі, ды не злавалі.
Малады Сашачка к коніку прыпаў
І каня ўзяў
Ды й сам і паехаў к новаму двару,
К новаму двару, к цесцейку свайму.

Цесцейка наш – то не ясны сокал, а Сашачка мой.
Дайце коніку сена ў аброку,
А маладому Сашачку – мёду і віна.
А за етым словам жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.
Святое Ражаство радасць прынясло.
Іван Красціцель воду асвяціў,
Воду асвяціў, на ўвесь свет пусціў
Ды й благаславіў.

* * *

Маладая Манечка шыла сарочку,
Шыла-ўшывала, зору ўкладала,
Што красным шолкам, то для мамачкі.
Святы вечар!
А сінім шоўкам, то для татачкі
Зялёным шоўкам, то для браціка
Святы вечар!
А за етым словам
Жывіця з Богам
З Ісусам Хрыстом
Святым Ражаством.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М.А., Харошка Н.В.***

На Піліпаўку, перад пастом, спраўлялі загавены (запускі). Не елі сала. У Піліпаўку ўсе збіраліся ў адной з хат на вячоркі (попрадкі). Тады і пралі, і гулялі, і спявалі песні.

За варацьмі – крутая гара,
А на той гарэ – шаўкова трава.
А на той траве стада коней хадзіла,
А між тых каней адзін вараны,
Ды не спужаны.
Хлопцы лавалі, ды не злавалі,
Малады Сашачка к коніку прыпаў
І каня ўзяў.
Ды й сеў і паехаў к новаму двару,
К цесцейку свайму.
Цесцейка кажа, што ясны сокал,
А дзевачка кажа:
"То не ясны сокал, а Сашачка мой.
Дайце коніку сена ў аборку,

А маладому Сашачку мёда.
А за тым словам,
Жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.
Святое Ражство радасць прынясло,
Іван Красціцель воду асвяціў.
Воду асвяціў – на ўвесь свет пусціў,
Ды й благаславіў”.

* * *

Маладая Манечка шыла сарочку,
Шыла, ушывала, зору ўкладала,
Што красным шоўкам, то ля мамачкі,
А сінім шоўкам, то ля татачкі.
Зялёным шоўкам, то ля брацейкі.
Святы вечар!
А за тым словам
Жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.
Святое Ражаство радасць прынясло,
Іван Красціцель воду асвяціў.
Воду асвяціў, на бел свет пусціў
Ды й благаславіў.

* * *

Ой, чыя то кветачка ў бярэзнічку?
То не кветачка – Сашкава вестачка.
А я яе шукаў і ў дудачку іграў.
Я яе знайшоў, танцаваць пайшоў.
А за тыя танцы – кварта гарэлкі.
Етага мала – кусочак сала.
А за тым словам
Жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.
Святое Ражаство радасць прынясло,
Іван Красціцель воду асвяціў.
Воду асвяціў, на бел свет пусціў
Ды й благаславіў.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

Загавіны – на Піліпаўку, запускі пасля Міхайлы будуць. Трэба штоб не елі сала. У Піліпаўку падходзяць Каляды. Хадзілі на вячоркі.

На попрадках спявалі піліпаўскія песні.

За варацьмі – крутая гара,
А па той гарэ – шаўковая трава.
А па той траве стада коней хадзіла,
А між тых коней адзін вараны,
Ды не спутаны.
Хлопцы лавалі, ды не злавалі.
Малады Сашачка к коніку прыпаў
І каня ўзяў.
Ды й сеў і паехаў к новаму двару,
К новаму двару, к цесцейку свайму.
Цесцейка кажа: "То ясны сокал",
А дзеванька кажа: "То не ясны сокал,
А Сашачка мой".
Дайце коніку сена ў аброку,
А маладому Сашачку – мёду і віна
А за етым словам жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.
Святое Ражаство радасць прынясло,
Іван Красціцель воду асвяціў,
Воду асвяціў, на ўвесь свет пусціў
Ды й благаславіў.

* * *

Маладая Манечка шыла сарочку,
Шыла-ўшывала, зору ўкладала.
Што красным шолкам, то для мамачкі.
Святы вечар!
А за етым словам жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством.

За етыя словы вельмі добра плацілі, баба мая яшчэ казала.

Ой, чыя то кветачка ў бярэзнічку?
То не кветачка – Сашкава дзевачка.
Я яе шукаў і ў дудачку іграў.
Я яе найшоў, танцаваць пайшоў.
За етыя танцоўкі – кварта гарэлкі,
Стала мала – кусочак сала.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***

*ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Харошка В.*

Калядам папярэднічаў Піліпаўскі пост, у час якога моладзь збіралася на супрадкі, дзе спявалі паставыя песні, пралі, рыхтавалі касцюмы і рэквізіт да калядных абходаў.

У Піліпаўку рыхтаваліся да Каляд, ладзілі звязду: куплялі каляровую паперу, свечкі, рабілі корпус. Звязда была на 8 і больш рагоў, у сярэдзіне змяшчалася выява Божай маці, вакол яе свечкі. Звязда круцілася, а прысвечнік і абраз застаюцца нерухомыя. Гэту звязду на Каляды насілі ад хаты да хаты, спяваючы адпаведныя песні рэлігійнага зместу: "Ражство твае, Хрысту Божа" і іншыя.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., Касцюковай М.***

На Піліпаўку так у нас асобых абрадаў не было. Ужо на Вялікі пост на Піліпаўку, Божа ўпасі, мы не танцавалі, не займаліся нічым, у цэркву толькі хадзілі.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

На попрадках кудзелі не пралі, а толькі пер'е дралі, кружыва вязалі, на кроснах ткалі.

Піліпаўка – строгі пост, не жаніліся.

Сала не елі, песень мала спявалі. Песні спявалі любыя. У пятніцу і срэду нічога нельга рабіць, скаромнага не есць.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)***

На Піліпаўскі пост (6 нядзель – з 28 наября і да Каляд) скаромнага не елі. Елі ўсё поснае. У Піліпаўку не гулялі свадзьбу. Дзетак храсцілі, як хто хацеў. Збіраліся па хатах дзеўкі з жанчынамі, пралі, вышывалі, вязалі.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

**Каляды**

Увечары 13 января атмячалі Каляды. Еты празнік ў даўнія часы супадаў з сустрэчай Новага года, таму ў кожнай хаце да яго старанна рыхтаваліс. У народзе так казалі: "З чым застануць людзі Новы год – з тым яны застануцца да канца". Хазяйкі гатовілі вельмі многа розных блюд. На стол падавалі

каўбасу, коўбіка, масла, грыбны суп, мочаныя яблыкі, квашаную капусту, ягадны кісель.

Не абыходзіліcь на Каляды без кабанчыка. Нашы прэдкі абавязкова на Каляды білі адкормленага подсвінка, каб Каляды не гневаліся да далі на ўсё добры ўраджай, а яшчэ казалі: “Хто не напячэ бліноў перад Новым годам, у таго ў хазяйстві не будзе “гладкай”дамашняя скаціна, асабліва цялята. У гэты вечар пачыналася шчадраванне. Калядоўшчыкі перадзяваліся ў розныя касцюмы, заходзілі ў кожную хату, спявалі песні, паздраўлялі хазяеў з Новым годам, жалалі здароўя, харошага ўраджаю, за гэта ім давалі хто сала, хто аладкі, хто спечаную булку, хто дамашнюю каўбасу, гарэлку або ў каго што было. Пасля шчадравання збіраліся ўсе ў адной хаце: гулялі, елі, спявалі аж да самага ранку.

У гэты вечар дзяўчаты гадалі. Ішлі да паляніцы, бралі наўгад дровы: калі палучалася чотнае калічэства, то дзеўчына цэлы год будзе ў пары, а калі нячотнае, то застанецца адна. Перакідалі чэраз хату сапага, у які бок павернуты яго нос, у той бок дзеўчына пойдзе замуж.

***Запісана ў в.Вялікі Бор***
***ад Жаўняк Веры Васільеўны 1935 г.н.,***
***Даніленка Н.М.***

Ладзілі на Каляды таксама каня (корпус, галаву, гуньку) і рабілі касцюмы для ўсіх удзельнікаў спектакля, якія хадзілі разам з канём. У гурце былі цар, пан, цыган, яўрэй, княгіня, доктар і іншыя. Гурты калядоўшчыкаў шлі ў свае абходы: адні неслі звязду, другія хадзілі з канём, разыгрывалі сапраўдны спектакль, дзе былі і сур’ёзная частка, і камічныя сцэны; трэція вадзілі казу, якая таксама забаўляла гледачоў – скакала, памірала, уваскрасала.

У кожным гурце былі спевакі, нярэдка і музыка. Яны выконвалі калядныя песні, сярод якіх найбольш характэрныя велічальныя песні гаспадару, гаспадыні, іх дзецям, а таксама песню “Го-го-го, каза”, якая выконвалася ў час скокаў казы.. Яе ролю звычайна выконваў хлопец, апрануты ў доўгі вывернуты кажух з высокім каўняром. Перад тварам ці крыху вышэй ён трымаў на палцы драўляную “ляпу” казы, ніжняя сківіца якой рабілася рухомай і магла ляпаць.

Падышоўшы да хаты, хто-та з калядоўшчыкаў пытаў:

– Хазяін, ці можна пусціць козачку паскакаць?

– Калі ласка, заходзьце.

– Козачка, любая, давай паскачам, папяем.

Прысутныя пачыналі песню, а каза скакала.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., Касцюковай М.***

Цяпер я ўжо не ведаю, а раней праводзілі Каляды. Вось, напрымер, я нагатовіла, пазвала да сябе. Была і куцця. Первая куцця – посная. А 13-га там

ужо і каўбасы, і ўсё. Паследняя (трэцяя) – посная. У дзень Калядаў разгаўляліся лёгкім чым-небудзь.

Гушчу таўклі з ячменя. Еты ячмень клалі ў ступу. Яго білі, а потым вадой палівалі, каб ета скарлупка аблазіла. Тожа на две нядзелі назапасвалі дроў. Луччай нарубаць на две нядзелі, штоб потым не рубаць.

А як праводзяць Каляды, так ета ўжо шчытаецца Крашчэнне. Пасля Крашчэння ідуць у цэркву. Пасля прыходзяць з цэркви і крэсцікі мелам на кажных дзвярах і ў сараі ставяць.

**Першая куцця**

Варыць гаспадыня куццю: ячмень вот еты самы, гушчу ету. Крупу яна густа варыць. Заўтра ўжэ ў нас Каляды. Сягоння ўвечары яна ўжэ становіць ету гушчу. Тады што? Я пайшоў, узяў сена жмачок. Гушчу ету паставім, хлеб пакладом, ужэ ў нас куцця.

Мароза запрашалі на шчадруху: "Мароз, Мароз! Хадзі куццю есці!" Так рабілі, каб ужэ мароз сышоў. Хлеб ляжыць поўнасцю да шчадрухі. У шчадруху яна апяць варыць куццю. Я бяру сена (салому). А сена я ўжэ ўзяў (у мяне сад), і я ўжо пайду абвяжу дрэвы, штоб багата радзілі.

А яшчэ сена бралі патаму, што ў етую ноч радзіўся Ісус Хрыстос. Ён радзіўся ў ясліках, дзе стаялі каровы. Яго палажылі ў яслікі,у тыя яслікі палажылі сена. Затым і кладуць сена на покуць: у етую ноч Ісус Хрыстос ражджаецца. Хлеб кладуць туды, гушчу етую ставяць.

Када-та к Шчадрусі матка мая ўчыняла бальшую дзяжу цеста, замешвала яго і пячэ такія маленькія піражкі, дзесяць-двянаццаць етых піражкоў. Ужо ўвечары, на Шчадруху, каўбасы нажараць, сала нажараць, аладак напякуць. Як прыдзе Шчадруха, ужо добра есці дадуць. Тады ўжэ бягуць дзеці, бягуць хлопцы і дзеўкі, шчадруюць.

Адзяваліся па-рознаму: хто ў якую лахмотку, хто накрасіцца, хто намажыцца сажай. Прыходзяць, просяць дазволу песню спяваць. Тады ўжо пяюць етыя песні – ета значыць, шчадруюць. Ім даюць піражкі, сала.

Вадзілі казу, дзелалі яе такую, яго нападобіі казы, уродзі яна ўжо ротам ляпала, і ўжэ ўкрасяць там яе бумагай красіваю ці так чым-небудзь.

Пасля Каляд хадзілі "засявальнікі", яны засявалі. Ну, ужэ калі прыдуць к табе засяваць, дык ета ўжэ будзе багаты ўраджай.

Калі прыходзілі калядаваць (шчадраваць), то спявалі песні дачцэ, сыну, гаспадару і яго жонцы:

Ой, ясна красна каліна ў лузі.
Сяты вечар!
Ой, ясней-красней Манечка ў мамкі.
Сяты вечар!
Па двару хадзіла весь двор красіла.
Сяты вечар!
А ў сені прыйшла – сені заззяліся.
Сяты вечар!

У хату прыйшла – паны стаялі.
Святы вечар!
Паны стаялі, шапкі здымалі.
Святы вечар!
Чыя ж ты дачка, якая ж дачка?
Святы вечар!
Ці ты каралёва, ці ты папова?
Святы вечар!
Я – Іванава дачка, якая я дачка.
Святы вечар!
Добры вечар, паздраўляем!!!

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Тацяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Перад Калядамі ўбіралі ў хаце, бо патрэбна, каб было чыста. У гэты час была куцця. Перад першай куццёй на дзвярах малявалі крыжы. Малявалі іх мелам. У гэты час мы павінны былі ісці ў царкву, але ў той вёсцы, дзе жыла я, царквы не было.

7 студзеня ў нашай вёсцы варылі куццю. Вось гэтая куцця называлася першай. Куццю варылі з ячнай крупы. Варылі яе на вадзе, дабаўлялі сахар і алей.

Першую куццю ў нас у вёсцы называлі поснай, таму што яна была без жывёльнага тлусту. Затым гэтую кашу ставілі на кут стала, мабыць пагэтаму яна і называецца куццёй, клалі трохі сена, засцілалі зверху чысты ручнік і ставілі кашу, побач клалі хлеб.

На Каляды таксама варылі яшчэ адну куццю. Яе называлі другая куцця. Другую куццю варылі з ячнай крупы. Варылі на малаке, дабаўлялі сахар і масла.

Увечары, як толькі змяркалася, хлопцы і дзяўчаты пераапраналіся ў касцюмы казы, мядзведзя, цыганкі і з песнямі ішлі калядаваць. Заходзілі ў хату к людзям і спявалі калядныя песні. Ім за гэта давалі грошы, цукеркі, каўбасу, пячэнне. У каго што было, тое і давалі. Калі калядавалі дарослыя, іх угашчалі гарэлкай. Затым хлопцы і дзяўчаты збіраліся ў каго-небудзь з калядоўшчыкаў. Разам спявалі песні і глядзелі тое, што накалядавалі.

У калядную ноч дзяўчаты гадалі пасля 12 гадзін ночы: скідалі з адной нагі башмачок і кідалі цераз дзверы на вуліцу. Лічылася, калі гэты башмачок хто-небудзь з хлопцаў падніме, той і будзе жаніхом.

Дзяўчаты збіраліся ў каго-небудзь у хаце. У розных месцах хаты насыпалі зярно ў кучкі. Затым пускалі ў хату пеўня: чыё зярно першае пачынаў кляваць певень, тая першая выйдзе замуж.

Клалі пад падушку запіскі з імёнамі хлопцаў. З чыім іменем выцягнеш запіску, той і будзе жаніхом.

Назаўтра хадзілі і паздраўлялі адзін аднаго з Новым годам. Заходзілі ў хату, сыпалі жыта і казалі: "Сею, сею, засяваю, з Новым годам паздраўляю". Вось гэта сімвалізавала багаты ўраджай. Спявалі:

У лузе каліна красна стаяла,
Маладая дзевачка пшанічку жала,
А яна жала ды і не вязала,
Прыйшло да яе тры казачанькі
Сватаць яе.
Не сватайце мяне ў чыстым полі,
А сватайце мяне ў таткавым доме,
У таткавым доме, у таткі за сталом,
Добры вечар!

***

Ішоў Колечка з беразінкаю,
Найшоў кветачку з ружынкай.
То не кветачка-вінаградачка,
А яго дзевачка – ненаглядачка.
Ён яе шукаў, у дудачку іграў,
Ён яе найшоў, танцаваць пайшоў,
Добры вечар!

***

Мы цябе воляю не зневажаем,
З Новым годам паздраўляем,
З Новым годам, Ісусам Хрыстом,
Святым Раждзяством,
Святое Раждзяство радасць прынясло,
Іван Красціцель воду пакрасціў,
Воду пакрасціў, на ўвесь свет пусціў,
Добры вечар!

***Запісана ў в. Азарычы Калінкавіцкага р-на***
***ад Лазарэнка Веры Канстанцінаўны, 1935 г.н.***
***(перасяленка з в. Буда Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Лагвіненка В. (2005 г.)***

На Куццю ўжо вараць кашу пярловую. Пад яе ложаць сена. Яно ляжыць усе тры Куцці, ляжыць тры Куцці і хлебушак, які аддаю карове ў пойла. Куццю зверху здымалі і аддавалі курам. Возьмуць абруч з бочкі якой і кажуць, што калі накорміш іх гэтай кашай у абручы, то яны будуць дружненька хадзіць, не будуць блудзіць, раскідаць яечкі. А сена ляжыць тры Куцці, а на ім нада садзіць кур ці гусей, якія нясуцца. На первую куццю

прыглашалі дзядоў, накрывалі стол і звалі іх вячэраць. А на багатую Куццю ўжо хадзілі шчадраваць. Перадзеваліс, рабілі маскі з дзерава, казу вадзілі, яна на чатырох нагах хадзіла. Вываpaчывалі кажухі, розныя трапкі адзявалі. А наўтра хадзілі засяваць. Казалі:

– Сею, сею, пасяваю, з Новым годам паздравляю,
Дзе каза нагою, там жыта капою,
А дзе каза рогам, там жыта стогам.
Будзьце здаровы, каб добра у вас усё было...

Сеялі і жытам, і грэчкаю, і пшаніцаю. На трэцюю Куццю ідуць у цэркву, бяруць што-небудзь з сцякла ці пластмасавае і ставяць свечку. Гэту свечку запаленай трэба прынесці да хаты. І тады ўжо гэтай свечачкай адразу на дзвярах і далей на сценах у комнатах не рысуеш крэст, а падкурваеш яго. Таксама брызгалі ўсе куты свяцонай вадой у хаце і ў хляве.

***Запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Краўчанка Ксені Паўлаўны, 1936 г.н.***
***(нарадзілася на Украіне),***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

У нашай меснасці Каляды пачынаюцца 6 студзеня.

Гаспадыня чыста ўбірала ў хаце, уся сям'я хадзіла мыцца ў баню. Вечарам 6 студзеня гаспадыня варыць посную куццю. У яе нельга дабаўляць масла, патаму што пачаўся пост. Таксама гаспадыня варыла посны боршч і іншыя посныя стравы. Яшчэ варылі кампот і ставілі на стол куццю (гушчу). Гаспадар зваў на вячэру Мароз, каб той не марозіў збожжа. Абавязкова ўсе члены сям'і павінны былі з'есці па лыжцы гушчы. Астальную гушчу гаспадыня на другі дзень (7 студзеня) выносіла на вуліцу і аддавала свінням, каб свінні раслі вялікія, курам, каб добра неслі яйкі, і іншай дамашняй жывёле.

Другая куцця называецца багатая. У яе ўжэ дабаўлялі жыр ці масла. Пад ікону Божай Маці ставілі стол, на яго клалі сена і на сена ставілі гушчу. Етая гушча варыцца 13 студзеня, калі стары Новы год. 14 студзеня гаспадыня выносіла гушчу са словамі: "Квох-квох-квох; ко-ко-ко". Так гаварыла ўсё ўрэмя, пакуль несла гушчу. Етую гушчу яна аддавала курам. Клала гушчу ў абруч з бочкі. Была такая прымета: калі дамашнія куры, качкі, гусі, з'ядзяць гушчу з етага абруча, то будуць яйкі несці добра і толькі ў сваім дварэ.

Трэйцяя Куцця варыцца 19 студзеня на Крашчэнне. Патом 21 студзеня етую гушчу аддавалі курам, а хлеб аддавалі карове, свінням. А сена, на якім стаяла куцця, ложаць пад куру, калі кура садзіцца на яйкі. Дзень 21 студзеня называецца "развадным". Ета пaследні дзень Каляд.

Вечарам 13 студзеня ходзяць калядоўшчыкі. Шчас ета проста дзеці, а раней хадзілі цэлыя гурты калядоўшчыкаў. Абавязацельна ў гурт уваходзіла каза. Казу надзявалі ў вывернуты кажух, размалёўвалі ёй ліцо. Калі

калядоўшчыкі ўваходзілі ў хату, то прасілі разрашэння зайсці і пашчадраваць. Спявалі такія песні:

Калядзін-калядзін,
Я ў бацькі адзін.
Мяне бацька паслаў,
Каб я грошай дастаў.
Адкрывайце сундучкі,
Даставайце пятачкі,
Аддавайце каўбасу,
Не то хату разнясу.

Вельмі добра было, калі ў хату прыходзілі з казой. Каза шчыталася сімвалам добрага ўраджаю, сямейнага дабрабыту. І каб у хаце ўсё было добра, стараліся казу чым-небудзь угасціць. А калі каза падала на пол са словамі: “Каза памерла, ратуйце”, гаспадары павінны ўгасціць казу, каб яна ажыла.

14 студзеня ходзяць засяваць, але ў етым годзе нельзя, бо еты год высакосны.

А ваабшчэ спявалі такія песні:

Сею-сею, пасяваю,
З Новым годам паздраўляю!
Каб здаровенькі былі,
Каб шмат гадкоў жылі!

* * *

Сею-сею, пасяваю!
З Новым годам паздраўляю!
Са скатом, з жыватом,
З малымі дзеткамі, з малалеткамі,
Колькі на кусточку галіначак,
Каб столькі ў вас было дзяціначак!

**Гаспадарчыя варожбы**

Калі хацелі даведацца, ці будзе год ураджайным, то селянін ідзе на скрыжаванне дарог, чэрціць палкай ці пальцамі на зямлі крыж, прыкладваў да гэтага места вуха і слухаў. Калі чуваў, што едуць санкі з грузам, то год будзе ўраджайным, калі пустыя, то год будзе неўраджайным.

Гаспадары выцягвалі зубамі са стога саломінкі: калі выцягвалі саломінку з каласком і калі ён быў поўны, то год будзе ўраджайны, а калі з пустым каласком, то год будзе неўраджайны.

**Навагоднія варожбы**

Я тожэ сама на суджанага гадала і вам раскажу. Гадала са сваімі падружкамі, у Новы год і з 13 на 14 студзеня.

Ішлі дзяўчыны да забора і стараліся як можна больш абхапіць рукамі забор. Патом шчыталі доскі. Калі іх чысло чотнае, то дзяўчына выйдзе ў новым годзе замуж, калі – не, то застанецца адна.

У ноч пад Новы год дзяўчыны ішлі да кладавой (каморы), па парадку глядзелі ў скважыну замка і казалі: “Чэрці, чэрці, не ўтаіце, мне мілага, пакажыце!”

Яшчэ можна так: “Узяць з веніка пруцік, зеркала і грабешок і ў ноч пад Новы год пад падушку класці і казаць: “Сужаны-ражаны, прыходзь да мяне парыцца!”

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцэвіч В.***

На Каляды рыхтаваліся зараней. Прыбіралі хаты, гатовілі сабе нарады на Каляды. А ўжо 6 января варылася першая куцця, і называлі яе галоднай куццёй.

Другая Куцця – 13 января – багатая Куцця.

Куццю варылі з круп. А потым на стол, на кут, лажылі сена, хлеб, куццю. Хлеб быў прызначаны для жывёл. Калі прыходзілі святкі, то хлеб давалі скаціне, каб яна ні хварэла, а кашу – курам, каб неслі яйкі. Нікаторыя сена давалі скаціне, а нікаторыя лажылі курам, каб неслі яйкі.

Першая Куцця была посная, нічога скаромнага не елі, варылі куццю. На заходзе сонца выймалі гаршок з куццёй і немножко бралі сена, і засцілалі стол, туды лажылі куццю, пад абразы. А потым садзіліся вячэраць. Еслі ў сям’і была дзеўка або хлопец, то яны маглі ў гэты вечар паваражыцца. Яны даўжны першыя трохі ўкрасці вячэрнюю куццю і з’есці, а потым ішлі спаць і ні з кім не гаварылі. Маці, якая аб гэтым знала, гаварыла, каб іх ніхто не трогаў. І яны садзіліся вячэраць. За вячэрай хазяін з хазяйкаю гукалі “марозаў” вячэраць. Гэта абазначала тое, што зараз яны яго (мароза) угосцяць, а ён ні будзя нічога марозіць потым у полі. І будзя ні так сільна іх караць сваім холадам.

На другую куццю – багатую – пяклі піражкі, хлеб, кашу; каша была ўжо сытная, яе запраўлялі ўжо маслам.

Трэцяя куцця считалася беднай. Запісывалі Каляды, г.зн. ставілі крэсцікі на пячы, на дзверах, на дварэ, на варотах і г.д. І гэтыя крэсцікі, шчыталі людзі, маглі ўдзяржаць злых людзей, ворагаў, злых духаў. На пастах прымячалі празднічныя дні. Яны (людзі) шчыталі, калі была багатая куцця, то ў гэты дзень добра было сеяць уражай. У бедную Куццю (дзень) нічога ні сеялі, бо гэта значыла, што ўражай не вырасце, будзе бедны ўражай.

Калі наступаў дзень Калядак, то дзеўкі, хлопцы перадзяваліся ў казу, а некаторыя бралі звязду і ішлі калядаваць. Казу рабілі так: бралі кажух, выварачывалі на другую сторану, на галаву надзявалі шапку і прыраблівалі

рогі, рабілі ззаду хвост – каза гатова. Казу прывязывалі на вяровачку і паганялі. Ішлі шчадраваць, заходзілі ў хату, каза топала, а астатнія спявалі:

Дзе каза ступою,
Там жыта капою,
Дзе каза рагамі,
Там жыта стагамі,
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць.

Пасля песні каза раптам падае. Тыя, хто спяваў, пачынаюць плакаць, просяць, каб гаспадары хаты паднялі казу. І гаспадары даюць пачастункі шчадравальнікам. Каза ўстае, і гаспадар б'е яе дубчыкам. Каза ўцякае, а за ёй – і шчадравальнікі. Калі казу праганялі, то гэта значыла, што гаспадар выганяе хваробу, каб яго худоба была заўжды здаровая і не хварэла.

На Калядкі маладыя дзеўкі і хлопцы варажыліся. Яны бралі свой абутак і кідалі чэраз вароты: куды нос абутка павернуты, туды і пойдзе замуж дзеўка. Або яшчэ бралі і абдымалі забор. Еслі чотнае чысло забора, будзеш у пары, еслі нечотнае – адна. Песня гучала:

Каляда, Каляда, дай, баба, пірага!
А калі не дасі, вазьму вала за рагі.
Выведу за парог, выкручу правы рог.
Буду ў рог трубіці, каб скупых расшчодрыці.
Дай, баба, пірага!

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

**Каляды**

У нас ето очень бальшы празнік. Прыязжалі госці, радня. Тады ж гатовілісь катлеты, м'яса, пяклі ў чыгунках коржыкі, булкі із прастамола і мукі, бліны, хлеб пяклі самі.

Такога не було, як сейчас. Була багата і бедна куцця. Багатая була на Новы год: рабілі каўбасы, м'яса і ўсё-ўсё. Було ж тады, што пелі песні. Госці піць так не пілі. Адзявацца так не адзявалісь. Самі ткалі, пралі, вышывалі.

Казу рабілі. Як адзенеш, так і пазнаеш, і рогі паставяць. Самі хадзілі, і іграла гармошка. Як пойдуць танцаваць, то хороша-хараша!

Прасілі:

– Разрашыце пакалядаваць!

– Пажалуста! З Богам!

Спявалі песню:

Ой, рэкі, рэкі, да перавозы,

Малада Юлька перавоз дзяржала, перавозіла,
Прыйшло жа к ней 700 малайцоў,
Хлопцаў да дзевак.
Кажуць – перавязі!
А яна – не перавязу,
Таму што татка ў войску,
Прывязе трох радасцей і ўсе з карысці:
Першая радасць – павін вяночак,
Другая радасць – залаты пярсцёнак,
Трэцяя радасць – зялёна шуба след замятае,
Добры вечар!
У нашым дварэ стаіць явар высокі,
Явар высокі, ліст там шырокі,
Пад тым яварам Дунай разліўся,
Дунай разліўся, Гасподзь купаўся,
Гаспадар хадзіў і Бога прасіў:
Божа, Божа, прыедзь на абед.
– А я на абед сам прыйду,
Да прышлю Іллю сталоў рассцілаць,
Да й прышлю Пятра кубка наліваць,
Ой, сеў жа Ілля ў канец стала,
Галоўку схіліў, слёзаньку ўраніў,
Дзе слёзка ўпала, там цэркаўка стала,
А ў той цэркаўкі званы званілі,
Званы званілі, службу служылі.
За тым словам жывіце з Богам.

І гаспадар прыносіць, што ё.

Варажылі: дровы прыносілі, не лічылі, а бралі ў ахапку. Еслі чотнае – пойдзе замуж у гэтым годзе, а еслі не – то не. Яшчэ была варожба: завяжым хустку на глаза, еслі ў хлеве спаймаеш авечку – не пойдзеш замуж у гэтым годзе, а барана – пойдзеш.

Спячэ матка бліны. Кладзеш адзін за пазуху і бяжыш на дарогу. Еслі сустрэнецца жанчына, то не пойдзеш замуж, а еслі мужчына – пойдзеш.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,***
***Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

Каляды адзначаліся ў нас заўсёды. Усе імкнуліся паўдзельнічаць ў гэтым свяце. Ведаю калядныя песні:

Дарагая (імя),
Уставай, не ляжы,

Святы вечар!
Накрывайце сталы,
Святы вечар!
Бо прыйдуць к табе трое гасцей,
Трое гасцей,
Святы вечар!
Першы госць – святое Раждзяство,
Другі госць – святое Васілле,
Святы вечар!
Трэці госць –
Іван Красціцель,
Святы вечар!
Святое Раждзяство
Радасць прынясло.
Святы вечар!
Святое Васілле
Усіх развесяліла,
Святы вечар!
Іван Красціцель воду акрасціў,
На ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
А з гэтым словам жывіце з Богам,
Жывіце з Богам, этых устрачайце,
Другіх праважайце.

Калі былі Каляды, то рабілі "звязду". Бралі каляровую паперу і свечкі. З іх рабілі корпус. У гэтай звязды было восем рагоў. А калі і больш. Усярэдзіне змяшчалі Боскую Мацер, а вакол яе былі свечкі. Калі звязда круцілася, Боская Мацер заставалася на месцы. Гэтую звязду насілі ад адной хаты да другой і спявалі песні.

Еле-еле свечы гарэлі,
Святы вечар добрым людзям!
Іскра свячы ўпала –
Возера растала,
Святы вечар добрым людзям!
У тым возеры сам Бог купаўся,
Сам Бог купаўся з трыма свячамі.
Першая свечка – святое Ражаство.
Другая свечка – святое Васілле.
Трэцяя свечка – святое Хрышчэнне.
Еле-еле свечы гарэлі,
Святы вечар добрым людзям.

* * *

А ў лузе, у лузе красная каліна,
А красней за яе дзяўчына ў таты.
Маладая (імя) па двары гуляла,
Па двары гуляла, двор украшала.
Як у сенцы зайшла – сенцы заззялі,
Як у хатачку ўвайшла – хлопцы стаялі.
Хлопцы стаялі – шапачкі здымалі.
Шапачкі здымалі, яе пыталі:
Ці ты царэўна, ці ты каралеўна?
Я (імя) дзяўчына.

На Каляды варажылі. Дзяўчаты бралі тры тарэлкі, лажылі на ніх хлеб, зямлю, персцень. Хлеб – гэта сваты, зямля – смерць, а персцень – замужжа. Трэба, каб дзяўчына не ведала, што пад якой тарэлкай ляжыць. Яна выбірала тарэлку, а потым глядзела, што пад ёй ляжала. Што ляжыць пад тарэлкай – гэта і будзе.

Таксама дзяўчаты з першым блінам ішлі на вуліцу. Калі дзяўчына сустракала на вуліцы мужчыну і пытала яго імя, значыць, і ў яе мужа будзе такое імя, як у гэтага чалавека.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Лук'яненка Серафімы Адамаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан Т. (1996 г.)***

Пра варажбу асобенна нічога не помню. Ой хіба мы варажылі на тых хлопцаў, яны самі прыходзілі. А вот случай адзін помню. Была ў нас Маша Атаманава, ты далжна помніць, жыла за Мішам. Дак вот яна ўсім расказвала што варажыла на Коляды, глядзелася як та там у зеркала і ўбачыла свайго Грышу. Ну й праўда пражылі яны доўга разам.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Тамары Іванаўны 1936 г.н.,***
***студэнткай Сачанка Я. (2010 г.)***

Да Калядаў рыхтаваліся з Піліпаўкі. Прыбіралі ў хаце, мыліся, апраналіся ў красівую адзёжу. Яшчэ перад гэтым білі кабаноў, рэзалі авечак (у каго што было). Гатавалі вячэру – рыбу жараную, бліны, кісель – што ў каго.

Спачатку была галодная куцця. Варылі з ячменю, а яшчэ, калі было, мяшалі з посным маслам. Верх куцці здымалі ды ўранні аддавалі курам, каб былі гуртам, нікуды не разыходзіліся і добра неслі яйкі. Калі яшчэ на ёй была раса, то, значыцца, будзе багаты год.

Калі ўсе расселіся, тады гаспадар браў ложку куцці, стукаў ёю ў вакно і зваў мароза: “Мароз, ідзі куццю есці!” Каб ты не марозіў ячменю, пшаніцы, проса, грэчкі і ўсяго таго, што мне Бог дасць пасеяць. Маці таксама звала мароза і прасіла, каб не марозіў буракі, гуркі, гарбузы, моркву, капусту, бульбу і гэтак далей.

Да захаду сонца ставілі куццю. Пад яе клалі сена, якое вясной лажылі пад куру, каб выводзіліся кураняты.

Хадзілі шчадраваць. Выварочвалі кажух і адзявалі яго, рабілі маскі і пайдуць у хаты, быццам каза была. Паскача, папрыгае ды песні спявае. Моладзь хадзіла.

На Новы год дзеці збяруцца ды бягуць з мяшкамі засяваць. Заходзяць у хату, паздраўляюць і пасыпаюць усё зернем.

Гаспадыні і гаспадару пелі калядныя песні:

Ой, не гневайся, пан, бо не гаспадар.
Мы твайго двара не мінаем.
Бо ў тваім двары сталы стаялі засціланыя,
Кружкі стаялі наліваныя.
А за тымі сталамі Госпад з слугамі.
Первая слуга – Прасвятой Ілля
Другі слуга – Прасвятой Пятра.
Пятро на каня – аж едзе Ілля,
Ой, Ілля, Ілля, дзе ж ты прабываў?
На поле хадзіў, жыцейка радзіў.
Жыта, пшаніца, уся капаніца.
За етым словам жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом, Святым Ражаством.

* * *

Го-го-го, каза!
Го-го-го, шэра!
Дзе ты рогі дзела?
На соль праела,
Рэшата бобу,
Казе хваробу.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

На Каляды каза была, каза пела. Насілі палкі, а на палках звёзды. У касцюмах былі. Патом заходзілі ў дверы і песні пелі. На стале лежалі снапы з настаяшчымі каласамі. Засцілалі сурвэтку. Стукалі па сурвэтке. Сколька зярнят засталося пад сурвэткай, столькі будзе снапоў у будучым годзе. Былі пажаданні. Усім, хто быў у хаце, пелі песні. Частавалі, што было. Семак многа астаўлялі на Каляды.

У хаце пярэдняй быў вугал. Многа ікон. Кашу закутвалі ў сена, ставілі пад іконы, макалі лыжкай, але ніхто не еў. Тым сенам, што было на стале, перавязвалі яблыні, асобенна маладзенькія. Перавязвалі абрыкосы. Бальшушчы быў сад. Першая куцця была бедная, нішчымная, маслам не

запраўленая. Варылі на куццю грібной суп такой, талчоную картошку, зразы з грыбамі былі, капуста, гуркі. Мароз клікалі. В акно стучалі.

Выйдзеш на багатую куццю і калі встреціш хлопца, то будзеш з нім.

В Астраглядах цэрква была бальшая. Брат хадзіў на Крашчэнне за вадой. Воду ету давалі піць. Патом у хлев, сарай неслі, штоб жывёла вялася.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

**Прыкметы і павер'і на Каляды**

Калі на Каляды прападзе снег, пойдзе дождж ці будзе мокры снег, то будзе сенакос даждлівы.

Калі студзень будзе халодным, то будзе багаты ўраджай.

Калі ў Таццянін дзень сонца сільна зіхаціць, то птушкі рана прыляцяць, а калі снег, то будзе лета даждлівае.

Калі на Каляды з крышы капае, то будзе мокрая восень і картошка вымакне.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

**Наваготнія варожбы і варожбы на ўраджай**

Было такое, о, дажа спраўджывалася. Косы не расчэсвала і лажылася так спаць, а пад падушку клала грэбянец, кажучы: "Суджаны-ражаны, прычашы мяне. Дзе мой, то прыйдзе і мяне пачэша.

Уранні ўставала і бегла на двор па дровы, а ў хаце ўжэ лічыла, колькі іх схваціла. Было да пары, таму ў дзеўках не засталася.

Яшчэ збіраліся і выходзілі на вуліцу. Тады пыталіся ў першага сустрэтага мужчыны яго імя. Так і майго звалі, як і яго.

Вось і так рабілі: падпярэзаліся паясамі і замыкалі ключамі замок. Тады спаць лажыліся і мяняліся ключамі, каб хлопцы прыйшлі ды адамкнулі. Так і палучылась: ка мне прыйшоў падрузін хлопец, а к падругі – мой.

Самае што страшнае было, калі гадалі на зеркале. Ставілі зеркала вялікае на стол і свечкі па краях зеркала. Тады паглядалі, моўчкі седзячы. І адна з нашых дзевак убачыла тры грабы, і гэта спраўдзілася. Скора памерлі адразу яна, брат і бацька.

Мы бегалі яшчэ і штакетніцы абхватвалі. Калі было да пары, то і ў нас быў хлопец, а не, то яго не было і ў дзеўках заставаліся.

Яшчэ абвязвалі яблыні, грушы саломай і сыпалі вакол дрэў попел. Так салома спасала дрэвы ад зайцаў, а попел быў добрым угнаеннем, ды і снег скора таяў вакруг дрэў.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

Каляды празнуюць шостага чысла ў январы. Гатаваліся, прыбіраліся, вымываліся, адзяваліся ў красівыя плацці. Гатавалі к сталу, толькі каб было нячотнае чысло блюд. Гэта було: бліны, кісель, рыба і заўсёды куцця. Яда была посная.

Перад вобразам клалі трохі сена пад талерку, на якой была куцця для дзядоў. Побач ставілі свечку. Гукалі Мароза: “Мароз, Мароз, ідзі куццю есці”. Клалі сена на кут. Тады тое сена ў хлеў неслі, каб куры нясліся. Калядоўшчыкі хадзілі на другую куццю, спявалі песні:

Каляду, каляду,
Бегла свіння па ляду,
Ды згубіла салца,
Дай, бабка, салца.

Шчэ казу вадзілі. Прыдзелывалі ёй рогі, а каза кашлатая была. А назаўтра вадзілі сабачку. Калядоўшчыкі дзякавалі гаспадароў за падарункі і пачастункі, пелі песні:

Хадзіў-блудзіў месяц па небу,
Рай – мора – рай, радуйся зямля.
Зорачак шукаў.
Зорачкі мае, хадзіце са мной
Бога шукаці.
Рай – мора – рай, радуйся зямля.
Знайшлі Бога ў пана Івана на куце.
Сядзіць, тры кубкі дзержыць,
Рай – мора – рай.
У першым кубачку горка гарэлачка,
Рай – мора – рай.
У другім кубачку мядок саладок,
Рай – мора – рай.
Гарэлка горка – то пану Івану,
Рай – мора – рай.
Віно зеляно – то жане яго.
Рай – мора – рай.

Ва ўрэмя Каляд ўсе хлопцы і дзеўкі бегалі варажыць. Мы хадзілі ў хлеў да авечак. Хто зловіць барана, той і выйдзе замуж.

Бралі салому і выцягвалі па адной. У каго была даўжэйшая, то і ўраджай доўжан быў быць лепшым.

Адна сцежачка
Пайшла ў горад,
А другая –
У чыста поле,

А трэцяя –
К быстрай рэчцы,
Што ў горад пайшла.
То ў чыста поле –
Нагуляціся,
К быстрай рэчцы –
То напіціся.

Калі калядоўшчыкі заходзілі ў хату, то спявалі песні гаспадару і гаспадыні:

Ці дома, дома сам пан-гаспадар,
Добры вечар, сам пан-гаспадар.
Ой, калі дома,
Выйдзі, паслухай.
Добры вечар!
Выйдзі, паслухай.
Выйдзі, паслухай,
Што ў бары гудзе.
Добры вечар!
Што ў бары гудзе.
Што ў бары гудзе,
Пчолка матка йдзе,
Добры вечар!
Пчолка матка йдзе.
Пчолка матка йдзе
І райкі вядзе,
Добры вечар!
І райкі вядзе,семяністыя,
І мядзістыя,
Добры вечар!
І мядзістыя.

Дзеці спявалі так:

Шчодрык, Петрык,
Дай варэнік,
Грудку кашкі.
Кальцо каўбаскі,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса,
Добры вечар.
Баба Хадосся!
Калядзін, калядзін!
Я ў бацькі адзін.

Мяне бацька паслаў,
Каб я грошай дастаў.
Развязайце вузялкі,
Даставайце пятакі.

Аднаго хлопца апраналі ў вывернуты кажух, надзявалі маску. Па загаду дзеда, які вадзіў казу, хлопец падтанцоўваў, пры гэтым калядоўшчыкі спявалі так:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, каза!
Го-го-го, шэра!
Дзе рогі дзела?
На соль праела.
Соль дарагая,
Мука скупая.
Не дыбай, каза,
Крывыя ногі.
Не станавіся
Папярок дарогі:
Будзе ехаць пан –
Казу разаб'е.
На табе ляску,
У залёты йсці –
Папірацiся.
Чорт цябе бяры
Із залётамі:
Ёсць у мяне конь
За варотамі.
У даліне – каза
З казлянятамі,
За гарою – воўк
З ваўчанятамі.
Як прыбег ваўчок –
За казу ды ўцёк.
А ваўчаняты
За казлянятамі.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе не бывае,
Там вылягае.
Дзе каза ступіць,
Там жыта кусціць.

І вось так. Кожную хату імкнуліся абыйсці, каб нікому не было крыўдна, бо ўсе гаспадары і гаспадыні заўсёды вельмі старанна рыхтаваліся да гэтага свята.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Новікавай І., Навуменка Н., Смірновай А. (2003 г.)***

Цяжка працавалася, але і святаў было шмат. Увечар з 24 на 25 снежня, напярэдадні Каляд, спраўлялася куцця. Смачная каша. Напярэдадні Новага года хадзілі калядаваць, дзяўчаты займаліся варажбой, вадзілі казу:

А Калядачкі,
Бліны–ладачкі!
А Калядачкі,
Нашы ножачкі
Паўбівалі вы
Чорны сцежачкі.
Адна сцежачка
Пайшла ў горад,
А другая –
У чыста поле,
А трэцяя –
К быстрай рэчцы.
Што ў горад пайшла,
То томячыся,
Ў чыста поле – нагуляціся,
К быстрай рэчцы, то напіціся.

Калі заходзілі ў хату, спявалі гаспадару песні:

Ці дома-дома сам пан гаспадар?
Добры вечар, сам пан гаспадар!
Ой, калі дома,
Выйдзі паслухай,
Добры вечар!
Выйдзі паслухай,

Выйдзі паслухай,
Што ў бары гудзе,
Добры вечар,
Што ў бары гудзе?

Што ў бары гудзе?
Пчолка-матка ідзе,
Добры вечар,

Пчолка-матка ідзе.
Пчолка матка ідзе
І райкі вядзе,
Добры вечар!
І райкі вядзе семяністыя,
І мядзістыя,
Добры вечар!
І мядзісятыя.

Дзеці спявалі так:

Шчодрык, Петрык!
Дай варэнік,
Грудку кашкі,
Кальцо каўбаскі,
Рэшата аўса,
Наверх каўбаса.
Добры вечар,
Баба Хадося.

Калядзін, Калядзін, я ў бацькі адзін.
Мяне бацька паслаў, каб я грошай дастаў.
Развязвайце вузялкі, даставайце пятакі.

Аднаго хлопца апраналі ў вывернуты кажух, надзявалі маску. Па загаду дзеда, які вадзіў казу, хлопец падтанцоўваў, пры гэтым спявалі:

Го-го-го, каза
Го-го-го, каза!
Го-го, шэрая!
Дзе рогі дзела?
– На соль праела,
Соль дарагая,
Мука скупая.
– Не дыбай, каза,
Крывыя ногі.

Не станавіся
Цераз дарогі:
Будзе ехаць пан –
Казу разаб’е!
На табе ляску
У залёты йсці –
Папіраціся.
Чорт цябе бяры

І з залётамі:
Ёсць у мяне конь
За варотамі.
У даліне – каза
З казлянятамі,
За гарою – воўк
З ваўчанятамі.
Як прыбег ваўчок,
За козку – ды ўцёк,
А ваўчанята за казляняты:
– Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Дзе не бывае,
Там вылягае,
Дзе каза ступіць,
Там яно кусціць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Каляды шчытаюцца вялікім празнікам. Да іх адносіліся вельмі сур’ёзна. Перад Калядамі білі кабана, рэзалі авечак, у каго што было. У час Каляд на стол ставілі ўсё самае смачнае.

Куццю варылі з ячменю, сначала яго таўклі, патом варылі гушчу, зварыўшы, на сена ставілі, елі яе з алеям, каб була смашнейшая. Калі елі куццю, мароз звалі такжа есці: “Мароз, Мароз, хадзема куццю есці?”

Паеўшы куцці, астачу ўранні аддавалі курам. Калі куры ўсю з’елі, то азначала, што яны будуць год умесце і нікуды не паўходзяць. Яшчэ калі адкрывалі куццю, то глядзелі, ці іе раса, калі іе, то будзе багаты год.

Сена, на якое ставілі куццю, звязвалі і хавалі да вясны. Вясной, як пачыналі куры квахтаць, дык іх садзілі на етае сена, каб буў добры вывадак, каб вадзіліся кураняты.

У нашам сяле вадзілі і казу, і каня, але большасць казу. У казу перадзявалі чалавека, надзявалі на яго кажух навыварат, рабілі рогі, і каза са ўсёй етай світай ішла калядаваць. У світу ўваходзілі мужчыны і жанчыны, казалі такія словы:

Дзе каза рогам, там жыта стогам,
Дзе каза хвастом, там жыта кустом
Разрашыце, дазвольце песню спець.

– Го-го-го, каза, го-го-го, шэра,
Дзе рогі дзела, на соль праела,
Рэшата бобу, наце хваробу.
Каб ты, козачка, не ляніва,

Пайшла б ты ў сцябок,
Найшла цапок,
Сваіх дзетачак пагадавала
Дый і патанцавала.

Пасля песні каза танцавала, а хазяева рыхтавалі пачастункі. Пасля таго як палучаць гасцінцы, уся світа жадала іхняму дому ўсяго добрага і напраўлялася ў другую хату.

Са звяздой у нас хадзілі на Новы год. Маладыя хлопцы і дзеўкі не пераадзяваліся, а надзяваліся прыгожа.

Засявальнікі – ета тыя, якія ходзяць на другі дзень пасля Каляд. Засявальнікі прыходзілі ў хату і пасыпалі якім-небудзь зярном.

**Варожбы**

Було такоя, што варажылі. Ставілі зеркала вялікае на стол і свечкі па краям за зеркалам. Тады паглядалі моўчкі. Што ўбачаць – тоя і будзе.

Косы не рашчэсвалі, лажыліся спаць. Пад падушку клалі грэбень і казалі: “Дзе мой сужаны? Прыдзі, мяне пачашы”. Тады сасніцца кавалер.

Уранні ўставалі, беглі па дровы, тады шчыталі: ці ў пары год будуць, ці адной хадзіць. Так рабілі і са шчакецінамі, абхватвалі рукамі і шчыталі.

Замыкалі замкамі паясы і лажыліся спаць. Падпярэзваліся і ключамі памяняліся. Казалі: “Дзе мой – прыдзе к табе. А твой – ка мне. Як мой – дык прыходзіць, а не мой – дык не ідзі”.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1923 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

Перад Калядамі білі кабана, рэзалі авечак, у каго што было, вячэру гатовілі, рыбу жарылі.

Куццю варылі – гушчу з ячменю, тады на салому ставілі, еслі і мяшалі, то з посным маслам. Што астанецца з куцці, дык яе ўранні акружаць аборай і пасыплюць, каб куры з’елі, каб былі гуртам і нікуды не разыходзіліся. Калі адкрываюць куццю, глядзяць, ці іе раса. Калі іе, то будзе багаты год – так прыкмечалі людзі. Запрашалі Мароз: “Мароз, Мароз, хадзі куццю есці”.

Сена бралі са стала для таго, штоб вяліся куры. Сена звязвалі і вясной садзілі куру, каб выводзіліся кураняты.

Да рэвалюцыі з казой хадзілі, адзявалі кажуха навыварат і паўзе ў хату будто каза была. Паскоча, потым пад прыпечак ды ляжа. У склад гурту ўваходзілі мужчыны і жанчыны, бабы казалі такія словы:

– Дзе каза рогам, там жыта стогам.
Дзе каза хвастом, там жыта кустом.
Разрашыце, пазвольце песню спець.
Го-го-го, каза, го-го-го, шэрая,

Дзе рогі дзела?
На соль праела
Рэшата бобу, казе хваробу
Каб ты, козачка, не лянілася,
Пайшла б ты ў сцябок,
Нажала цапок,
Сваіх дзетачак пагадавала
Дый і патанцавала.

Потым сталі хадзіць з канём, калі калхозы паявіліся. Зробяць з палена, і два хлопцы нясуць, паадзяюцца у крашаную бумагу (рабілі капюшоны; перавязваліся якім-небудзь акрайкам). За гэта давалі хлеб, сала, так і дзякавалі.

Хадзілі яшчэ і са звяздой на Новы год, хадзілі засявальнікі. Хлопцы сабяруцца з дзеўкамі і паздраўлялі, пелі песні:

Ой, не гневайся пан, бо не гаспадар
Мы твайго двара не мінаем,
Мы твой, двор павелічаем,
Бо ў тваім двары сталы стаялі
Засціланыя.
Кружкі стаялі наліваныя.
А за тымі сталамі
Госпад са слугамі:
Первая слуга – прасвятой Ілля,
Другі слуга – Прасвятой Пятро.
Пятро на каня, ах, едзе Ілля.
Ой, Ілля, Ілля, дзе ты прабываў?
На полі хадзіў, жыцейка радзіў.
Жыта, пшаніца – усё каласіцца.
За тымі словамі, жывіце з Богам,
З Ісусам Хрыстом,
З святым Ражаством.

**Варожбы**

Было такое, і праўда, спраўджваліся варожбы.

Ставілі зеркала вялікае на стол, свечкі па краям за зеркалам, і тады паглядалі моўчкі. Убачылі сябе, бацьку і брата, тры грабы паказалася. Косы не расчэсвалі, лажыліся спаць, клалі пад падушку грэбень і казалі: “Дзе мой сужаны, прыдзі мяне пачашы”.

Замыкалі замкамі паясы і лажыліся спаць. Падперэзваліся і ключамі памяняліся. Казалі: “Дзе мой прыдзе к табе, а твой ка мне. Як мой, дык прыходзь, а не мой, дык не ідзі”.

Уранні ўставалі, беглі па дровы, потым лічылі ці ў пары год будзе, ці адной хадзіць. Так рабілі са шчакецінай, абхватвалі рукамі, і лічылі.

*Запісана ў в. Вялікі Бор*
*ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Харошка В.*

На Коляды спявалі ўсякія калядныя песні. Вадзілі каня, хлопцы вадзілі, такая каманда сабіралася, дванаццаць чалавек.

Уборку дзелалі, такія харошыя шапкі адзявалі, лентамі длінnымі ўбіралі. Сярод гэтых хлопцаў адна была жэншчына – княгіня Кацярына, дай жэ каманду яна гаварыла, калі па хаце з шашкай хадзіла:

Я – княгіня Кацярына,
Усе вайска пакарыла,
Толькі не пакарыла сіняе мора
І Марсава поле.
Буду біць і рубаць,
На Марса таску наганяць.

* * *

Памерла наша надзежда,
Закончылася любоў,
Склала я белы рукі на
Караваці ці стол.
Сабіраліся ўсе падружкі,
Усе заплакалі, паюць,
Заплакалі, зарыдалі,
На кладбішча паняслі.
Як прынеслі да кладбішча,
Растварыліcь варата.
Як узнеслі на кладбішча,
Зашаталася трава.
Усім падружкам гаварыла:
“Не ўлюбляйцесь так, як я,
Бо з вялікае любові
Прыключаецца балезнь,
А з вялікае балезні
Лазарэты не мінеш.
Ох, і той жа лазарэты не мінеш.
Ох, у той жа лазарэці
Маладые дахтара лечаць
Дзевачку маладую,
Штоб здаровая была!

Калядоўшчыкі прыходзілі і кожнаму гаспадару, пелі:

Добры вечар таму,

Хто ў етом даму.
Святы вечар!
Ці ты спіш, ці ляжыш,
Ці на Бога глядзіш.
Святы вечар!
А калі ня спіш,
Гавары са мною.
Святы вечар!
Уставай з пасцелі,
Адкрывай дзверы.
Святы вечар!
Адкрывай дзверы,
Замятай двары,
Святы вечар!
Замятай двары,
Станаві сталы.
Святы вечар!
Станаві сталы,
Усе цясовые.
Святы вечар!
Сцялі скацяркі,
Усе шаўковыя.
Святы вечар!
Стаўляй кубачкі,
Усе румчастыя.
Святы вечар!
Налівай кубачкі...
Святы вечар!
Дай трое гасцей,
Трое радасцей.
Святы вечар!
Первы госцічак – яснэ сонейка.
Святы вечар!
Другі госцічак – яснэ месяцок.
Святы вечар!
Трэйці госцічак – дробен дожджычак.
Святы вечар!
Ухваляецца яснэ сонейка.
Святы вечар!
Калі я ўзайду ў нядзельку рано,
Святы вечар!
То ўзрадуецца ўвесь мір раджоны.
Святы вечар!
Весь мір раджоны,
Да й пахрышчоны.

Святы вечар!
Ухваляецца ясен месяцок:
Святы вечар!
Калі я ўзыйду, позна звечара.
Святы вечар!
То ўзрадуецца ўвесь звер у полі.
Святы вечар!
Увесь звер у полі
Шчэ й шчука ў моры,
Святы вечар!
Ухваляецца дробен дожджычак:
Святы вечар!
Калі я прайду,
Трэйці на маю.
Святы вечар!
То ўзрадуецца жыта, пшаніца.
Святы вечар!
Жыта, пшаніца,
Усяка пашніца.
Святы вечар!
Добры вечар.

Яны сільно адзяваліся красіво, касцюмы красівыя ў іх булі, нагруднікі ўкрашваліся разнымі цвятамі, а шапкі з чубамі і длінными лентамі ўверху. Шашкі ў руках былі у іх. Спявалі:

Ходзіць-паходзіць месяц па небу.
Святы вечар.
Кліча, пакліча зоры з сабою.
Святы вечар.
Зоры-зарніцы, родныя сястрыцы.
Святы вечар.
Едзьце са мною Бога шукаці.
Святы вечар.
Найшлі Бога, пана за сталом.
Святы вечар.
На куцці сядзіць, тры кубкі дзяржыць.
Святы вечар.
У первам кубачку – зеляно віно.
Святы вечар.
У другом кубачку – кудраво піво.
Святы вечар.
У трэцім кубачку – мядок-саладок.
Святы вечар.
Зеляно віно –

Для самаго яго.
Святы вечар.
Кудраво піво –
Для жаны яго.
Святы вечар.
Мядок-саладок – для дзетак яго.
Святы вечар.
Сыр-то, сыр церці – сына жаніці.
Святы вечар.
Свечы сукаці – дачок аддаваці.
Святы вечар.

Ето ў хату хадзілі, такіе песні спявалі.
Мальчыкі падросткі хадзілі і гаварылі:

Звязда ясна вассіяла,
Пятра сына пасылала.

З казою старыкі, мужыкі хадзілі, казалі:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Лезь, каза, у хату,
Хазяін у хаці на куцці сядзіць,
На казу глядзіць.
Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе ты, козанька, рожкі падзела?
– Я ў Стралічаві на соль праела,
– Соль дарагая, мера скупая,
А козанька наша дарагая.

Куццю варылі, хадзілі з ёю кругом хаты і заступалі на куцці, а ў хаце спрашваюць: "А хто ступае?" А ім з двара гавораць: "Сам Бог ходзіць, куцціцу носіць".

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Бяндзега Марыі Макараўны, 1916 г.н.***
***(перасяленка з в. Буда Хойніцкага р-на),***
***Пятроўскай Марыі Мікалаеўны, 1923 г.н.***
***(перасяленка з в. Тунеўшчына),***
***Новак В.С.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А.,Пруднікавай І.***

Ну, дзеўкі, хлопцы разам сабіраліс на Каляды. Разам сядзім, а яны ўжо вучацца, хлопцы, як катораму ўступаць, па аднаму, штук дзесяць хлопцаў, таварыства такое. Мы ўжэ слухаем, сядзім спакойно, а яны па аднаму

выступаюць, той ужо пойдзе раскажа свой расказ, а другі ўжэ затым, а далей трэці, у парадак.

А потым было ваджэнне каня. Удзельнічалі такія героі: княгіня, Княгіня: быў ужо каторы жыд, што мераў, а во такой вышыны (а во такой шырыны), адзежу ўжэ шыў, а то быў і цыган, а то быў і воін Бурмол, каторы на ўсём свеце хадзіў, любезну сястрыцу згубіў, на Марсава поле ўзышоў, любезну сястрыцу найшоў.

Скажы, сястра, манерам
Перад кім стаіш на каленях?
Перад воінам Бурмойлам...

Ну, а патом жа пагуляюць, навучацца пака ўсе, кожан, сваё раскажа. Ну, а як ужэ вечар прыйдзе, так паадзенуцца. Такія шапкі былі высокія, да бумага была разна, так пааблепляюць, як макерты такія, паробяць этыя хлопцы. А тады ўжо ходзяць па сялу, ходзяць па хатах. Па хатах ходзяць, пытаюцца, ці можна зайці, так, без разрашэнія не заходзяць.

Зайдуць у хату, хазяін кажа: “Пажалуста, заходзьце”. Зайдуць у хату ўжэ ўсе. Пабудуць у адной хаце хазяін падарыць іх ці прыглося за стол, так пасядуць гэтыя хлопцы ўжэ. Пераходзяць у другую хату, усе етыя расказы расказваюць.

Саб’юць каня з рамак такіх, да тканью абаб’юць белаю, дзірку прарэжуць. Надзенуць каня да плеч, дак галава водзя, а нагамі ідзе. Дак тады ўжо як раскажуць да пойдуць скакаць, дак ужо і конь той скача, усе гопаюць. З хаты ў хату іх панадаруюць, каню ўжэ даруюць, аўса да панасыпаюць. Да на правод Калядаў усе гулялі, музыку наймалі, да гулялі.

А назаўтра ўжэ, па Нову году, ідуць у другую дзярэўню да ходзяць па хатах. Тожа, хто прыглося, дак зайдуць, а без прыглашэння ж – не. Да паходзяць, да назбіраюць, да после каляд гуляюць нядзелю, выпіваюць да музыку наймаюць за ета, што назбіраюць.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткай Мажэйнікавай В.***

Коляды ў Глінішчах пачыналіся з 7 студзеня. У абавязковым парадку да гэтага дня забіваўся парсюк, хоць ён буў і адзін. Гэта буў галоўны атрыбут да Коляд. Першы дзень называўся “галодная куцця”. Абявязкова варылі гушчу (кашу з пярловай крупы), увечары вырылі посны боршч без мяса, буў кісель із яблук і груш. Вечарам садзіліся за стол, запальвалі свечку, маліліся і ўся сям’я вячэрала. На другі дзень назаўтра пяклі бліны, смажылі каўбасы, жарылі рыбу, була і гарэлка. З гэтага дня пачыналіся святыя дні, нічога не патрэбна було рабіць па гаспадарцы і па хаце ажно да 13 студзеня. А 13 студзеня з самага ранку пяклі свой хлеб і маленькія ржаныя кулечыкі, ўвечары наладжвалі “багатую куццю”: пяклі бліны, булі мясныя блюды.

Як толькі сцямнялася, па ўсх вуліцах гуртам хадзілі шчадраваць дзеці, за імі моладзь, а потым хадзілі дарослыя, насілі "звязду", пераапраноўвалі ў кажух кого-небудзь і вадзілі "казу", пры гэтум спявалі песні. Калі ў хаце була дзяўчына, то спявалі:

Ой, ясні-красні Танечка ў мамкі,
Па двару хадзіла, увесь двор красіла.
Як зайшла ў хату, паны ўставалі,
Паны ўставалі, шапкі здымалі,
Шапкі здымалі ў яе пыталі,
У яе пыталі, чыя яна дачка,
Каралеўна ці царэўна.
Я не каралеўна і не царэўна,
Я ў папкі дачка , як маліначка.
Я ў мамкі дачка, як ягадачка.
Святы вечар, добры вечар!

А калі ў хаце буў сын, то спявалі:

Па-за лугамі ўсе дымы дымяць,
Ой, то не дым, з коней пара ідзе.
З коней пара ідзе, то не пара ідзе,
А малады Колька па жоначку ідзе,
Жоначку вядзе, стада коней вядзе.
На табе, татко, стадо коней на дом,
А табе, мамка, нявестку за стол.
Навучай яе, як сама знаеш,
Штоб шоўкам шыла, да й не пашыла.
Штоб золатам ткала, да й не ўварвала.
Святы вечар, добры вечар!

На другі дзень 14 студзеня атмечалі стары Новы год. У гэты дзень з Глінішч ішлі ў госці ў Агароднікі, бо блізка було, і там буў прэстольны празнік. 19 студзеня на Хрышчэнне ішлі ў Бярозаўку на іхні прэстольны празнік. 21 студзеня, па народных вераваннях, лічыцца раздвоены дзень: заканчываліся Каляды, пры гэтым наймалі музыку і праводзілі святы.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Касцючэнка Ганны Яўхімаўны, 1936 г.н.***

У адрозненне ад "ваджэння каня", дзе ўдзельнічалі хлопцы, а часам і дзяўчаты, ва ўзросце васемнаццаці гадоў, звязду насілі значна меншыя дзеці, гадоў дванаццаці. Звязда рабілася шматкутовой, для яе загадзя куплялі фарбы, якімі красілі бумагу, а затым гэтай бумагай абгортвалі кожны кут.

Звязда круглая, як рэшата, а ў сярэдзіне ікону паставяць, а за іконаю свечку запаляць, дак яна гарыць, свечка, дак эта ж ікона зіяе ўжэ, відно ж

вельмі. Пойдуць пад вакно, дак стаяць, круцяць гэтую звязду да спяваюць песні.

Ражджаство Хрыстовае:
Хрыстос нарадзіўся –
Богам апладзіўся,
Ангелы ігралі –
Людзям вазвяшчалі:
“Спяшайцеся, устрачайце
Хрыстова Ражджаство”.

Во такія песні спявалі.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткай Мажэйнікавай В.***

І каня на Каляды вадзілі, і каза была. Сабіраліся кучамі хлопцы і з канём хадзілі, а такія ўжо мужыкі так і з казою хадзілі. Зрабілі каня самі, і хлопец насіў яго да і спявалі. Потым дарылі каню авёс. А потым пойдуць ужо ў карчму. Карчма была ў канцы сяла. Там жылі еўрэі, заходзілі к ім, па чарачцы выпівалі.

Звязду насілі. Там, у сярэдзіне, і ікона была, свечку запальвалі. Са звяздою хадзілі, толькі дзеўкі, а хлопцы – з канём, а мужыкі – з казою. Звязда на п’яць рагоў была падзелена. Ну вось, хадзілі разам, падайдуць пад акно, спросяць разрашэння. Так, у хату прыходзілі, хазяіну паспяваюць, а ён іх угашчаў, за стол садзіў. Святыя песні спявалі:

Шчадрую, шчадрую,
Каўбасу чую.
Святы вечар!
Дайце каўбасу,
Дамоў занясу
Святы вечар!
Дайце крыв’янку,
Кіну пад лаўку.
Святы вечар!
За етым словам
Жывіце з Богам.

Куццю варылі абязацельна. Было тры куцці. Як стануць вячэраць, накладаюць яе ў тарэлкі ды і ядзяць яе. Так, выйдуць на парог і кажуць: “Мароз, хадзі куццю есць!” Першая куцця – дык гэта была посна, згусткі варылі з круп, тожа посна была куцця на Крышчэнне.

Каня вадзілі на першую і на багатую куццю.

На трэцюю Куццю, на Крышчэнне, у цэркаў хадзілі. Прыходзілі і за стол садзіліся, а на дзвярах запісвалі, што ўжо паехалі Каляды.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўфімаўны, 1903 г.н.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

Каляды лічыліся заўсёды вельмі набожным святам. І да яго адносіліся вельмі сур'ёзна. Святкавалі яго ў сваёй сям'і. Нельга было ў гэты вечар хадзіць у госці.

Пад вечар гатавалі куццю. Куццю заўсёды варылі з пярлоўкі. Таксама варылі кампот з сушаных ігруш і яблыкаў. На кут стала пад вакном клалі сена. Але сена трэба было лажыць пад скацерку. А скацерка павінна быць саматканай. Калі падыходзіў час садзіцца вячэраць, хазяйка даставала куццю з печы, брала яе ручніком і калі несла да стала, то квактала (ко-ко-ко), каб куры нясліся. Потым куццю ставілі на стол і ўсе сядалі. А бацька ў еты час даўжон быў зваць мароза: “Мароз, мароз, хадзі кашу есці!” І так тры разы. Етым самым людзі задобрывалі Мароза, каб зіма была слабейшая.

Потым здымалі з гаршка з куццёй крышку і глядзелі: калі расы на ёй было шмат, значыт, будзе багаты ўраджай, калі ж расы мала – засуха з'есць увесь ураджай.

Пасля гэтага вяршок з куцці адразалі і клалі на сена, каб гаспадарка і ўраджай былі багатымі. А раніцай гэты вяршок аддавалі курам пакляваць, каб нясліся.

Пасля ўсяго гэтага пачыналі есці. І першым пачынаў есці ўсягда гаспадар. Сена са стала на наступную раніцу раскладвалі патрошку ў кубло курам, у кароўнік і да свіней. Лічылася, што тады хатняя жывёла не будзе хварэць.

Дзень Калядаў называўся шчадроўскім, бо ўсе хадзілі шчадраваць. А шчадраваць у нас хадзілі вельмі цікава. Было цэлае прадстаўленне.

Самым галоўным лічылася наладзіць “звязду”. Яе рабілі з паперы якой-небудзь блішчустай, з васьмі рагоў, у кожны рог устаўлялі свечку, каб яна свяцілася, калі неслі. А ў сярэдзіну звязды прыкраплялі маленькую віконку. Прычым рабілі так, каб звязда круцілася, а свечкі і віконка заставаліся на месцы.

Яшчэ наражалі “казу”, “каня” і “цыганку”, ды і ўвогуле для ўсіх шчадроўшчыкаў рабілі касцюмы. І вос гэтым саставам хадзілі ад хаты да хаты. Спявалі песні калядныя: “Святы вечар, шчодры вечар”. У гэтых песнях звычайна славілі гаспадароў хаты, іх гаспадарку, жадалі шчасця хазяіну, хазяйцы, іх дзецям, здароўя добрага, багатага ўраджаю. Каза ў етым была галоўнаю. Спачатку яна скакала і спявала разам з усімі:

Го-го-го каза,
Го-го-го шэра,
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць.

Дзе каза нагою,
Там жыта капою.
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.

Перад захадам жа ў хату пыталіся, чы можна козачку пусціць паскакаці. І захадзілі толькі потым, тады, калі запросіць у хату хазяін. І вось козачка скакала, усе разам спявалі песні, якія малявалі вялікае багацце ў хаце хазяіна, прыгажосць яго дачкі, смеласць і сілу сына, умельствы жонкі. Потым каза звычайна падала, нібы памірала, і тады пачыналі казаць словы, якія тычыліся яе стану:

Ой, каза ўпала,
Дайце казе сала,
Каб яна ўстала.
Дайце ёй нажывы,
Каб каза ажыла.

Пасля гэтага хазяева частавалі шчадроўшчыкаў і тыя са словамі падзякі, пажаданнямі, песнямі і скокамі ішлі далей, да іншых хат, да іншых гаспадароў з добрымі пажаданнямі.

***Запісана ў в. Мархлеўск***
***ад Ігнаценка Праскоўі Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Півавар Л. (2001 г.)***

Сабіраліся ўсе ў тыя калядныя дні. Гулялі ўсе па дамам. Встрачалі Новы год, хадзілі, спявалі дзяўчаты, хлопцы, калядавалі. Сабіралі вячоркі, гулялі вячоркі. Маладыя сабіраліся. Музыка была харошая. Куццю, канешне, варылі на Каляды. Было тры куцці, не адна. Первая куцця была посная. На куццю запрашалі дзядоў: “Дзяды, прыходзьце вячэраць”.

Хадзілі калядаваць. Падчас калядавання пераапраналіся ў рознае адзенне. Надзявалі маскі і хадзілі па хатах. Прыходзілі ў якую-небудзь хату і прасілі дазволу пакалядаваць. Гаспадар запрашаў у хату, і калядоўшчыкі спявалі калядныя песні.

Ой, раным-рана Ванечка ўстаў,
Святы вечар!
Ванечка ўстаў, тры свечкі сукаў,
Святы вечар!
Першу запаліў, як адзяваўся,
Святы вечар!
Другу запаліў, як абуваўся,
Святы вечар!
Трэцю запаліў, як братоў будзіў,
Святы вечар!

Уставайце, браткі, коней сядлайце.
Святы вечар!
Коней сядлайце...

На другі дзень хадзілі засяваць. Бралі хто пшано, хто жыта. Заходзілі ў хату, сыпалі пшано па ўсёй хаце.

Сею, сею, пасяваю,
З Новым годам паздраўляю.

Жадалі гаспадару з гаспадарыняй, іх дзецям здароўя, дабрабыту, шчасця ў Новым годзе. Гаспадары запрашалі гасцей за стол, частавалі іх гарэлкай, капустай, мясам. Таксама варажылі на Каляды. Напрыклад, маці пякла бліны і лажыла на стол. Хто ўперад бліна першага схваціць, той першы замуж пойдзе. А яшчэ выходзілі на вуліцу, кідалі што-небудзь сабакам. Калі ўперад схваціць сучка, то першай дзеўка выйдзе замуж, а калі кабель, то хлопец першы ажэніцца.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

На Каляды варылася куцця. Варылася каша з ячменных круп. Раней крупу рабілі самі. Было тры куцці. Першая куцця – посная, другая і трэцяя куцці – багатыя. Першую куццю варылі без тлушчу, елі яе з салодкай вадою. Калі зварылася куцця, хазяйка абгортвала чыгунок палаценцам і нясла яго на кут, дзе стаяць іконы. Яна ставіць чыгунок на сена, а потым гэтае сена бяруць і ложаць у кубло к гусям, курам, каб добра выводзіліся цыпляняты. Ставяць чыгун на сена, пакрытае палаценцам, а наверх ложаць піражок. Потым гэты піражок аддаюць скату.

Калі маці нясе к сталу куццю, дзеці залазяць пад стол і запрашаюць дзеда Мароза есці куццю. Запрашаючы, крычаць: “Мароз, Мароз, ідзі куццю есці”. Хто-небудзь з дарослых адказвае: “Іду, іду”. Потым яшчэ дзеці прыгаворваюць, каб добра куры нясліся:

Няхай нашы куры добра нясуцца,
А ў суседзяў вароты трасуцца.
Штоб было яечак многа.

Першую куццю яшчэ называлі піскухаю. Пад Новы год была другая куцця – багатая. Гатавалі куццю жырную, скаромную. Яе, як і першую, ставілі на кут.

У гэты час хадзілі калядаваць. Гаварылі пажаданні хазяевам. Хазяева давалі калядоўшчыкам падарункі. Людзі ходзяць са звяздой, танцуюць. У хату прыходзяць з пажаданнямі, каб усё вялося, каб скаціны было многа. Засяваюць па хаце зерне. Прыгаворваюць:

З Новым годам паздраўляем,
Шчасця, радасці жадаем.
Каб у вашай хаце і ў селішчы
Ўсё вялося і добра жылося,
І пілося, і елася, і яшчэ хацелася.

Калядоўшчыкі абходзяць усе хаты ў вёсцы.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Гусак Вольгі Мікалаеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шамятковай Л. (1993 г.)***

**Варажба**

На Каляды дзеўкі варажылі. Каб дазнацца, у які бок пойдуць замуж, то яны кідалі за вароты скручаны ў вяроўку пояс. Затым яны выбягалі на вуліцу, каб пацікавіцца, у які бок ён раскруціцца.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***ад Асадчай Соф'і Пятроўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Барыш Н.***

**Прыкметы**

У ноч перад Ражаством чыстае неба азначала вялікі ўраджай грыбоў, збожжа, прыплод скаціны. Калі завіруха – будуць вадзіцца пчолы.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***ад Асадчай Соф'і Пятроўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Барыш Н.***

На Каляды ў нас заўсёды хадзілі шчадроўшчыкі, яны рыхтаваліся шчыльна да гэтага свята. Спявалі:

Шчадровачка шчадравала,
Пад ваконца падбягала,
Што ты, цётка, напякла,
Прынясі нам да вакна.
Ёсць у нас дзяўчынка маленька,
У яе спаднічка красненька.
Чабоцці храмовы.
Будзьце з празнічкам здаровы!

* * *

Колед, колед, коледын,
Я ў бацькі адзін, караценькі кажушок,
Дайце, цётка, піражок.
Не дасьце піражок –
Вазьму вала за ражок.
Адвяду ў Крывы Рог,

Адкручу правы рог.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***ад Асадчай Соф'і Пятроўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Барыш Н.***

Калядныя вечары называліся "святы вечар". Эта Хрістос радзіўся ў Каляды. На дварэ са звяздою хадзілі. Як сільна багата на Каляды звёзд – эта будзе грыбоў сільна багата, а як будзе хмурна – эта будзе такое даждлівае лета. На Каляды, ета перад Новым годам, дзевачкі такія, як вы, хадзілі калядаваць. Цяпер ідуць, у хату заходзяць, а тады пад вакном пелі калядныя песні.

Тры куцці было. На первую куццю клалі жменьку сена на кут; кладуць палаценца, рассцелюць сена, піражок паложаць – ета ужэ называлася Куцця Ісуса Хрыста. На первую куццю варылі з грыбкамі боршчык, кашу з алейчыкам, з макам – эта называлась Куцця бедная, но ніскаромна, ні сала не елі, ні мяса не елі. А ўжэ другая Куцця – эта ўжэ называўся Новы год, 14 – другая ўжэ куцця. Ужэ зноў жменьку сена падкладалі і варылі ужэ багату куццю. Ужэ скаромну варылі, з мясам, з малаком. Самае асноўнае блюда – боршчык варылі, а другое – кашу там, налістнікі пяклі, і ета ужэ на эту Куццю, на другую куццю хадзілі дзевачкі калядаваць, пелі святыя песні. Казу вадзілі, у самы еты вечар – на другую Куццю, ета ўжэ называецца багата Куцця. Хлопцы такія вот, маладыя, насілі яе, яшчэ не жанатыя. Такую казу рабілі да пелі такія песні:

– Ого-го каза, ого-го, серая,
Дзе рогі дзела?
– На соль праела.
Соль дарагая, соль залатая
Як ты, козанька, ай, да не леніся,
Да й не леніся, да й не леніся,
Да й затварыся.

Дак козанька та ўжэ танцуе, і з козанькай заходзілі ў хату. Ей ужо так запеюць песеньку, дак яна танцуе, па хаце танцуе. У казу хлопцы прыбіраліся, Казу вадзілі і каня. Адна куча хадзіла з канём, а другая і з казой. Адзін заходзіць хлопец у хату і кажа: "Добры вечар, хазяін! Паздраўляем з Новым годам. Можа б нас пусцілі з канём патанцаваць?" Дак ужэ хто разрышыць, а хто не разрышыць. У каго ў еты год самы хто умер, той ужэ не пускае, і казу не пускае, і калядавальнікаў не пускае. А ў каго ужэ ніхто не умер, дак ужэ разрашаюць, дык яны ўжэ заходзяць у хату, і конь ужэ той танцуе, у ленты такія із бумагі, да каня таго прыбяруць, дак конь ужэ той танцуе, ну не сапраўдны ж конь, а такі здзеланы, дак бумагі тыя падлятаюць, да так красіва, а калядавальнікі пад вакном пелі, тожа пыталіся ці можна паспяваць, калядныя песні. Дак ужо разрашаў хазяін. Дак яны ўжэ пелі песні.

Як дзевачка, дак дзевачцы песні пелі, як хлопчык, дак хлопчыку. Як дзевачка, дак пелі:

Маладая Валечка, устала раненька.
Святы вечар!
Уставай раненька, умывайсь белянька.
Святы вечар!
Прыедуць к табе каранівычы.
Святы вечар!
Каранёвічы ўсе, паповічы.
Святы вечар!
Прывязуць сукно немеранае.
Святы вечар!
Прывязуць грошы нелічоныя.
Святы вечар!
Хоць маленькая, разумненькая.
Святы вечар!
Узяла сукно, перамерала.
Святы вечар!
Узяла грошы, пералічыла.
Святы вечар!
Узяла злота, пераважыла.
Святы вечар!
Каранёвіча не зняважыла.
Святы вечар!
Паздраўляем з Новым годам,
Ісусам Хрыстом, святым Ражаством.

Вот ужэ хазяйка ўносіць ім цяпер грошы, а раней калісь грошай не давалі, колісь аладкі пяклі, калбасу, кусок сала давалі.

А як сын, дак пелі:

Ішоў Колечка з беразенькаю,
Святы вечар!
Сарваў ветачку і з ружынкаю,
Святы вечар!
То лі кветачка яго дзевачка.
Святы вечар!
Ён яе найшоў, у дудачку граў.
Святы вечар!
Як патанцаваў, дак пацалаваў.
Святы вечар!
Мы цябе, Колечка, не зневажаем.
Святы вечар!
Да з Новым годам паздраўляем,

Святы вечар!
Да з Новым годам, Ісусам Хрыстом,
Святы вечар!
Святое Ражаство радасць прынясло.
Святы вечар!
Святое Васіля развеселіла.
Святы вечар!
А Іван Красціцель воду акрасціў.
Святы вечар!
Воду акрасціў, на ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
Паздраўляем с Новым годам, Ісусам Хрыстом.

Тады ужо зноў хазяйка другая што-небудзь уносіць ім.

А трэцяя – ета тая ўжэ бедная куцця, ета сама паследняя, трэцяя. Варылі гушчу. Цяпер была крупа пярлова, а колісь самі таўклі яе ў ступе. Сушаць ячмень у печы, і сыплюць у ступу тую, і таўклі. Натаўкуць той гушчы, дак яна смачнейшая, як цяпер, наварáць чыгунчык, і ужэ ўвечары нясуць тую гушчу на куць. Ужэ боршч вараць з грыбкамі, посны. Увечары, часоў у 9, запальваюць свечачку, моляцца Богу, тады ужо садзяцца вячэраць, сям'я свая ўся. Паядзяць боршч дак шчэ не гукаюць мароза, а ужэ як паставіць хазяйка гушчу тую, дак ужэ, мой колісь бацька так ужэ ложкай крэсціка на гушчы зробіць тры раза, дак ужэ ложкаю мароз у раму стукае:

Мароз, Мароз, хадзі гушчу есці.
Летам не бывай ды ячмень не марозь,
Бо мы табе жалезнаю пугаю вушы паабсякаем

Так, тры разы ў шыбачку пастукаем, ну і тады ўжэ пачынаем. Прыгарачку зверху знімем і паложым на стол – эта, кажуць, дзядам куцця, а тады ўжэ ядзяць тую гушчу. Ну, во ета так пра Каляды.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т. Вайтовіч К.***

Запускі на пост піліпаўскі былі 28 наября. Пачынаўся пост 7 января. Перед постам былі Дзяды, варылі вячэру, пасля якога ён і пачынаўся. Пост быў не вельмі строгі: у среду і пятніцу. У хаце да Каляд прыбіралі, мылі, варылі посную куццю. На Раждзяство можна ўжо есць мясное. На першую куццю звалі вячэраць мароза:

– Мароз, мароз, хадзі куццю есці...

На багатую Куццю абвязвалі дзярэўя кулём саломы, які стаяў за кутом (першы зжаты сноп на зажынках), каб багаты быў ураджай. Пад куццю лажылі сена, і яно ляжала да трох куццяў, потым яго лажылі пад курэй, якія выводзяць цыплят, каб добра несліся. Калядавалі на багатую куццю:

– Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэрая,
Дзе рогі дзела?
– На соль праела.
Святы вечар...

А утрам засяваюць: бяруць пшаніцу, ячмень, што ў каго было, сыплюць у хаце і спяваюць:

Сею-сею, пасяваю,
З Новым годам паздраўляю...

Заканчваюцца Каляды святым Крышчэннем. Вада свеціцца, акрашчаецца. На Крышчэнне ўвечары хазяін станавіў на варотах, у хаце, на дзвярах, перад печчу крэст. Кагда пасвецяць ваду, ёй асвячаюць хату, сарай, п'юць яе самі. Гэту ваду п'юць круглы год для ачышчэння, стаіць яна пад іконамі. З банкі самой піць нельзя, бо яна зарасцець мохам.

***Запісана ў в. Забалацце (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Першая куцця перад Калядамі – бедная, посную варылі куццю, ставілі, паміналі сваіх продкаў. Раждзяство гулялі, патом каледавалі. У той жа вечар была багатая, трэцяя куцця.

Сабіраліся жэншчыны маладыя і дзеўкі, калядавалі. Мы калісь пашлі, да мароз буў. Калісь жа хлопцы булі дураватыя. Нападалі, адбіралі тую муку (муку давалі людзі, за яе тады музыку наймалі). Дак дзеўкі з снегам муку грабуць. На тую муку трэба наняць музыку. Прынеслі, дак та мука мокра. Музыку наймалі, гулялі.

Засцілалі на трэцюю куццю стол саматканай скацерцю, лажылі на яе куль жыта, білі па ім і счыталі: колькі выпадзе зярнятак, столькі коп жыта будзе.

На стале было, што прыгатовілі: каржы, кампот (мачанне) і другія блюды.

На Стары Новы год насілі палена. Бралі ахапак: калі пара найдзе, то выйдзеш замуж у гэтым годзе. Глядзелі ў зеркала на свечку, паказваўся нарачоны. Плот абдымалі: калі парныя дошкі, то таксама будзеш пры пары.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драка Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.)***

Прыбіралі казу, вадзілі яе, і калянднікі прыбіраліся. Быў там і доктар, і цар. Казалі: "Ідзі к Цару, я кашу вару". Рабілі звязду шасці граней. Было тры куцці: перад Калядамі, на Новы год, а трэцяя – на Крашчэнне. Была яна з ячменю, так і варылі куццю. Багатая куцця – гэта на Новы год, а галодная – гэта ўжо на Крашчэнне. Казалі: "Прыходзь, Мароз, куццю есці".

Пелі:

Ой, мароз, мароз,
Не марозь меня,
Маего каня белагрівага,
А ў мяне жэна
Да і раўнівая,
А ў мяне жэна
Да і красавіца.
Ждзе мяне дамой,
Ждзе, пячаліцца.
На закаце дня
Я вярнусь дамой,
Напаю каня,
Абдыму жану.

Прыходзілі і казалі: "Разрашыце калядаваць". Ім адказвалі: "Можна". Тады ўжо і давай калядаваць, тады ўжо і спявалі: "Давай, баба, руб, а то ўжо хату развярну". Выносілі ўжо сала, муку. Гэта прыносіла нам радасць.

Былі гульні. Ездзілі па музыку. Неслі гарманісту мукі ды ўжо наймалі каго-небудзь граць, каб скакаць. Ды казалі: "Танцавала баба з дзедам, ды ўбіла торбай з хлебам".

Варажылі на Каляды. Бралі дроў бярэмак, так ахапкам. Да тады ўжо шчытаюць. Калі пападзе пара дроў, тады ўжо замуж пойдзеш, а як не, дак не.

***Запісана ў в. Загалле***
***ад Бараш Алены Наўмаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі),***
***студэнткімі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.***

На Каляды людзі адзін да аднаго ў госці хадзілі. Гатовіліся да Каляд загадзя. Кабана білі, рабілі каўбасы да падвешувалі іх. Куццю варылі з крупы ячнай. Тры куцці было.

На первую, кажуць, галодная. Яе на вадзе варылі, масла не кідалі. Другая куцця багатая була, жырная. Ужэ, як і первая була. Во то зварац тую куццю дай нясуць яе на кут ставіць на сена. Ужэ ўвечары садзяцца есці. Хазяін мароза заве. Падойдзя во то да акна да ложкай па раміне стукае і кажа: "Мароз, мароз, хадзі куццю есці!" Дай вячэраюць тады. Боршч яшчэ варылі, кісель, кампот. А тады ўжэ тое сена, на яком куцця стаяла, пад куру кладуць, шоб кураняты добра выводзіліся.

На трэцюю куццю гадалі дзеўкі, калі яны замуж выйдуць. Свечку тапілі да воск лілі. Тады ўжэ па той фігуры, што палучалася, пра сваё будушчае гаварылі.

А то яшчэ ў хлеў хадзілі цёмначы да вубіралі палена. Як голае палена возьмя, дак бедны мужык будзя, а як з карой тоўстай – так багаты.

Шчадравацъ хадзілі па хатах на Каляды. Перадзявалі казой каго-ліба, цыганямі адзяваліся дай хадзілі, паздраўлялі хазяевоў. А тыя ім ужэ давалі што-ліба.

**Ражаство Хрыстова**

Ражаство Хрыстова – анёл прыляцеў.
Ён лецел па небу,
Людзям песні пеў.
Пастухі ў пешчэру раньшэ ўсех прыйшлі,
У яслях на саломцы Госпада найшлі.
Стаялі, рыдалі, Хрыста праслаўлялі,
Шчэ й мацер яго.
А Ірад мяцежны аб Хрысце ўзнаў,
Он убіць воінаў паслаў.
Дзецей усех убілі, мечы прытупілі.
А Хрыстос у Егіпце быў.
Все мы саграшылі, спасіцель, перад табой.
Все мы людзі грэшны, ты святой.
Прасці саграшэнія, дай нам абнаўленія
Ва мне, Хрыстова Ражство.

**Калядная**

Шапяту-пяту, кашэлік пляту,
Святы вечар!
А ў той кашэлік – кладу варэнік,
Святы вечар!
Лыжку кашкі – наверх каўбаскі,
Святы вечар!
Паздраўляем хазяеў з празднікам,
Жалаем дабра й багатага хазяйства,
Здароўя!

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

У нас казу вадзілі. Адзяваліся ўжо ў гэта длІннае адзенне такое, кажух вывернуты быў у абратную сторану. Хлопцы збяруцца там ужо ўсе і ідуць ужо ў дзярэўню, назаўтра Каляды. Ходзяць ужо там і прыгаваруюць:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
Дзе рогі дзела?
На соль праела.
Авцу прадала.
Соль дарагая.
А каза, гавораць, скупая.

Вукупалі казу, як памірае. Ужо тады яна ўстае. С пала паднялася, патанцавала. І ўжо ў другу пойдуць хату.

***Запісана ў в. Карчовае***
***ад Шпарун Евы Васільеўны, 1933 г.н.,***
***Камеш Алены Іосіфаўны, 1970 г.н.,***
***Арловай Алены Іванаўны, 1942 г.н.***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Каляды адзначаліся з трынаццатага на чатырнаццатае число. Мы ўсягда бліны пяклі, сала жарылі, абязацельна куццю варылі. Бралі ў чыгунку кашу і неслі на кут, на стул ставілі. Пад кашу сена лажылі. Мароз звалі абязацельна, зваў усягда хазяін. Сена ляжала да наступнай куцці: ад первага дня Каляд і пака не канчаецца дзевятнаццатага чысла – Крашчэнне, а дваццатага – развадны дзень. Сена ў хаце кідалі, каб хазяйства добра вялося. На Каляды ў нас казу вадзілі. Спявалі такія песні: “Го-го-го, каза, дзе рогі дзела, на соль праела?” Таксама зорку насілі. Зорка была вельмі красівая, бліскучая, з розных лентачак зроблена. Хазяева ўгашчалі казу, давалі ёй бліны, каўбасы, мёд, ну, і другое, што було на сталах.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Жыгера Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.)***

На Каляды хадзілі з казой, зоркай ці канём. З канем прыязджалі калядаваць з в. Хвойнае. Адзяваліся красіва, хараша і ў ваеннае, такія шапкі былі розныя, прыдзеланыя ,высокія, так хараша адзяваліся. А каня прыбіралі з розных лентаў, з бумагі. Зорку рабілі з бумагі, з розных цвятоў, прама блішчыць, прыгожая была. Спявалі:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, шэра,
Дзе рожкі дзела?
На соль праела.
Мера тая,
А соль дарагая.

З канём калі хадзілі, дзеўкі, не помню, якія песні спявалі.

*Запісана ў в. Клівы*
*ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,*
*студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.)*

Када куццю елі, казалі: “Мароз, мароз, заходзь у хату”. Патом мароз заходзіў у хату, і звалі этых – пакойнікаў, штоб аны ўжо прыходзілі, елі куццю, а патом ужо гаварылі на пакойнікаў: “Ужо пара ўходзіць. Выходзьця”. Ну, выходзілі пакойнікі, ужо ішлі на сваі места.

Курэй кармілі ў этым, во ў абручэ, штоб нікуда не адходзілі, не хадзілі па суседзях.

А тады, як варажым, дык хапалі дровы, вот маладыя булі. Забор хапалі, лічылі, сколькі: ці да пары ўхвацім дошчак. Шчэ варажылі як: бліны первага пеклі, і первую бліна хватаеш ад маткі і пайшоў. І сабакам кідаеш. Мы пазначаем, чые бліны. Якога бліна чый сабака ўхопіць первага, то і замуж пойдзе.

*Запісана ў в. Малішаў (цяпер г. Хойнікі)*
*ад Тагай Марыі Аляксандраўны, 1932 г.н.,*
*ад Літвінка Алы Уладзіміраўны, 1942 г.н.,*
*Літвінка Марыі Міхайлаўны, 1942 г.н.,*
*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

Сабіраліся ўсе ў гэтыя дні, гулялі ўсе па дамам. Встрачалі Новы год, хадзілі, спявалі дзяўчата, хлопцы калядавалі. Сабіралі вячоркі і гулялі на вячорках. Маладыя сабіраліся. Музыка была харошая. Ну, і гулялі Каляды. Куццю, канешне, варылі на Каляды. Було тры куцці, не адна. Первая куцця была посная, посную куццю варылі. Варылі кампот, яблыкі, грушы. А вось калі сустракалі Новы год, то там ужо было ўсё: калбаса, усё было такое харошае, жырнае. Ну, і паследняя куцця, яна таксама была посная. На Храшчэнне тожа гулялі свадзьбы, тожа гулялі вячоркі. От вам і Каляды. Калядаваць хадзілі. Песні былі разныя, але іх ужо забула. Спявалі, я дапусцім цябе, Васіліна не зневажаю да з Новым годам паздраўляю, да з Ісусам Хрыстом, Святым Ражаством. І за каждым разам гаварылі “Святы вечар!”

Хлопцы маладыя і з казою хадзілі, і з канём хадзілі. Можа іх дваццаць чалавек сабіраецца да як удараць песню: бранчаць сцёклы. Спачатку калядуюць, а потым арганізуюць вечарынку, да як пайдуць плясаць.

Звалі Мароза куццю есці: “Мароз, мароз, хадзі куццю есці”. Разніцы не было, мог і гаспадар, і гаспадыня зваць, і малады хлопец. Адныя хадзілі з канём, спявалі прыгожыя песні, а тыя, што хадзілі з казой, тожа паздраўлялі.

Гадалі ў Каляды: кідалі бліны сабаку: чый блін сабака схопіць хутчэй, тая дзеўка і пойдзе першая замуж.

*Запісана ў в. Навасёлкі*
*ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.*
*(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),*
*студэнткамі Клочка А., Рyковіч В.*

Калядаваць хадзілі хлопцы. У хату не хадзілі, а толькі пад вакно. Стануць, прапяюць песеньку, а ім ужо выносяць пачастункі: сала, мяса, хто што. А дзяўчыны ўжо гатовяць усё да вечарынкі.

Дайце калбасу, дык да Бога панясу,
Дайце крупняку, дык яго пад лаўку.

А той, хто не пусціць калядаваць, так кажуць, што нічога не мае: салому сячэ ды пірагі пячэ.

Дзядзька скруціўся, у яму ўваліўся,
Цётка прыпала ды за ім упала.

На трэцюю куццю, галодную, казалі:

Мароз, мароз, хадзі куццю есці,
А ўлетку не ідзі, бо сахой падзяру,
Ды бараной прывалачу,
Ды ярміннай пугай пасячу.

На багатую Куццю сядуць моўчкі, паядуць. Паклічуць мароза, ды і ўсё. Калбасы ужо тут ставілі, сала, яешню. А куццю варылі з ячневых круп. Ставілі ў кут на салому ды наверх клалі хлеб, ды і ўсё.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Аляксандры Яўхімаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Да Каляд рыхтаваліся зараней: прыбіраліся ў хаце, вымывалі ўсё, вычышчалі, пасціліся доўга. Тады ўжо на Каляды варылі куццю. Першая куцця была посная, но ўрачыстая. Сначала варылі куццю, а потым ужо астатню вячэру. Нясом жа куццю на кут, сена накладзём, тады нясом ужо куццю, спечану ў печы. На першу Куццю звалі Мароза: “Мароз, Мароз, хадзі куццю есці”. Я сама звала, бацька мой зваў. Ноччу на першую Куццю глядзелі на неба: калі зорак багата – будзе шмат грыбоў летам. Пасля першай Куцці былі яшчэ другая – скаромна – на Новы год і трэцяя – посна.

На Каляды хадзілі калядаваць. Хадзілі мужчыны – чалавек дваццаць. Хадзілі яны калядаваць і ў суседнія дзярэўні аж да самай паследняй Куцці – да Хрышчэння. Калі хадзілі, дык спявалі, весяліліся, з музыкаю хадзілі. Усе яны былі красіва адзетыя, за сабою вадзілі казу ці каня, звязду насілі. А адзін мужчына перадзяваўся ў жэншчыну і называўся княгіняй. А ў княгіні – вянок з касніком на галаве. Другія ў цара пераадзяваліся. Калі ўжо шлі, то гаварылі:

Дзед, дзед, куды ідзеш?
– К цару.

– А што цар?
– Пан адарыў мяне салам
І каню даў аўса..

Дзеўкі на Каляды гадалі. Бярэ дзеўка аладку шчэ гарачу і выбягае на двор. Як устрэне сабаку ці чалавека, то, значыць, пойдзе замуж у гэтым гаду.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Нашага Мішачкі двор паабівалі,
Святы вечар!
Паабівалі чырвоным сукном,
Святы вечар!
Па тым сукенцу Мішачка ходзіць,
Святы вечар!
Мішачка ходзіць, коніка водзіць,
Святы вечар!
О, коню, коню, я цябе прадам,
Святы вечар!
Я цябе прадам за сто чырвонцаў,
Святы вечар!
Малады Мішачка, не прадай мяне,
Святы вечар!
Ой, як будзеш ты ды жаніціся,
Святы вечар!
Да й жаніціся, весяліціся,
Святы вечар!
Памашчу масты з тонкае трасты,
Святы вечар!
Паўстаўлю слупы муляваныя,
Святы вечар!
Павешу коўдры ўсе шоўкавыя,
Святы вечар!
Ой, як будзеш ты да вянца ехаць,
Святы вечар!
Затрашчаць масты з тонкае трасты,
Святы вечар!
Замокнуць коўдры ўсе шоўкавыя,
Святы вечар!
Заіскраць свечы ўсе васковыя,
Святы вечар!
Мы цябе, Мішачка, ні зневажаем,
Святы вечар!
Да з Новым годам паздраўляем,

Святы вечар!
Да з Новым годам, да з Ісусам Хрыстом,
Святы вечар!
Да з Ісусам Хрыстом, святым Ражаствoм,
Святы вечар!
Святое Ражаство радасць прынясло,
Святы вечар!
А Іван крысціцель, воду як красціў,
Святы вечар!
Воду як красціў, на ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
За етым словам ідзіце з Богам,
Святы вечар!

* * *

Шыла Леначка тры шэры ночкі,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Першага шыла чырвоным шоўкам,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Другога шыла срэбназлотым,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Трэцяга шыла зялёным шоўкам,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Першага шыла, то для свякрухі,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Тругога шыла, то для свекаркі,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Трэцяга шыла, то для мілага,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Мы цябе, Леначка, ні зневажаем,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.
Да з Новым годам паздраўляем,
Леначка, Леначка, пані, гавары з намі ціхенька.

* * *

Ходзіць-паходзіць місяц па небу.
Святы вечар!
Кліча-пакліча зоры з сабою.
Святы вечар!
“Хадзіце, зоры, Бога шукаці!”
Святы вечар!
Не знайшлі Бога, знайшлі хазяіна.
Святы вечар!
А той хазяін за сталом сядзіць.
Святы вечар!

За сталом сядзіць, тры кубкі дзяржыць.
Святы вечар!
У первым кубачкі віно зеляно.
Святы вечар!
У другом кубачкі кудрава піва.
Святы вечар!
У трэцім кубачкі мядок-саладок.
Святы вечар!
Мядок-саладок для яго дзяток.
Святы вечар!
Кудрава піва для жаны яго.
Святы вечар!
Зяляно віно для самаго яго.
Святы вечар!
Мы цябе, хазяін, ні зневажаем.
Святы вечар!
З Новым годам паздраўляем!
Святы вечар!

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Марыі Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

У гонар Каляд у кожнай хаце рабілі святую вячэру, на якой абавязковымі стравамі былі куцця і бліны. На стол ставілі як мага больш страў, за што гэты вечар называюць "Вялікай куццёю". Уся ежа на першую Куццю павінна была быць поснай, а калі і запраўлялі што, дык толькі алеем. Вячэраць пачыналі з усходам на небе першай вячэрняй зоркі.

7 студзеня святкуюць Каляды. З гэтага ж дня, вечарам, пачыналі хадзіць калядоўшчыкі.

Другая Куцця адзначалася на Шчодры вечар, якраз пад Новы год. Гэтая вячэра вызначалася не толькі багаццем страў, але і вялікай колькасцю мяса, каўбас і іншых мясных прысмакаў, за што і называюць другую куццю шчодрай, мясной і багатай. Сама ж куцця таксама падавалася на стол з маслам або мясам.

Ва ўсе калядныя вечары пяклі бліны. Першы смачны блін з кожнай вячэры адкладваўся і захоўваўся да канца Каляд. У апошні дзень Каляд гаспадыня зранку скармлівала гэтыя бліны жывёле і птушцы.

На куццю звычайна звалі "дзязоў". Гаспадары, калі ішлі спаць, звалі "дзядоў" на вячэру, пакідаючы ежу на ўсю ноч на стале.

У апошні дзень Каляд па хатах хадзілі "засявальнікі". Яны "пасявалі" ў хаце зернем, кажучы: "Сеем, сеем, пасяваем. З Новым годам паздраўляем!"

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
А дзе рогі дзела?

На соль праела,
Соль дарагая,
Шэрсць залатая.
На пячы авёс,
Вялікі парос.
На палу жыта
Нагамі збіта.
Не йдзі, козачка,
У тое сяльцо.
У тым сяльцы
Усе людзі стральцы.
Намяраюцца
Козачку ўбіці,
Козачку ўбіці,
Славу зажыці.
Выбяжэ той воўк,
За казу – і ўцёк.
Выбяглі ваўчанята –
За казянята.
Выбяжаў заяц,
Стаў казу лаяць.
Ой, козка, козка,
Нелянівая.
Пастаў казу на ляду,
Прап’ем казу на мяду.
Пастаў казу на тарэлцы,
Прап’ем казу на гарэлцы.
Ой, так, пане мой.
Табе – сала, а мне – лой.
У нашае козкі
Залатыя рожкі,
Залатая грыўка,
Сама чарнабрыўка.

Гаспадару жадалі поспехаў і ў землябробстве, і ў жывёлагадоўлі, і ў бортніцтве.

Шуміць-гудзе, па дубраве ідзе,
Святы вечар.
Пчаляная матка дзетачак вядзе,
Да й навучае, да й рассылае:
– Ляціце, дзеткі, у Іванаў востраў.
Насіце, дзеткі, мяды крутыя,
Мяды крутыя, воскі жаўтыя.
З меду будзем сыту сыціці,

А з воску будзем свечкі сукаці,
Свечкі сукаці, у цэркаўку стаўляці.

* * *

Перад варацьмі шырокае поле.
Святы вечар!
А на том полі сівы конь ходзіць.
Святы вечар!
Сівы, увабраны, хараша сядланы.
Святы вечар!
А ніхто яго не спаймае.
Святы вечар!
Адкуль узяўся малады Петрычка?
Святы вечар!
Ён яго спаймаў, хараша сядлаў.
Святы вечар!
Сеў да й паехаў к цесцячку на двор.
Святы вечар!
Цесцейка кажа: “Вунь сокал ляціць”.
Святы вечар!
Дзевачка кажа: “Ой, то не сокал,
Ой, то не сокал, то Петрычак мой!”
Святы вечар!

* * *

Святы вечар!
Ой, ясна, красна каліна ў лузе,
А ясней, красней Галіна ў матулі.
Па двару хадзіла – увесь двор красіла,
А ў сені ўвайшла – сені засіялі,
А ў хату ўвайшла – паны стаялі.
Паны стаялі, шапкі снімалі.
Шапкі снімалі, яе пыталі:
– Чыя, ты, Галя, чыя ты дачка,
Ці ты папова, ці ты каралёва?
– Я не папова, не каралёва,
Матуліна дачка, як ягадка,
Бацькіна, як вішанька.

Шапяту-пяту, кашэлік пляту.
Святы вечар!
А ў той кашэлік кладу варэнік.
Святы вечар!
Лыжку кашкі, наверх каўбаскі.
Святы вечар!

Віншуем гаспадароў са святам,
Жадаем дабра і багатай гаспадаркі,
Здароўя!

* * *

Раждзяство Хрыстова!
Раждзяство Хрыстова! Анёл прыляцеў.
Ён ляцеў па небу, людзям песні пеў.
Пастухі ў пячоры раней ўсіх
У яслях на саломцы Госпада знайшлі,
Стаялі, рыдалі, Хрыста праслаўлялі,
Яшчэ мацер яго.
А Ірад мяцежны аб Хрысце даведаўся,
Ён забіць дзяцей воінаў паслаў.
Дзяцей усіх забіў, мяча прытупіў,
А Хрыстос у Егіпце быў.
Усе мы саграшылі, Збавіцель, прад табой.
Усе мы, людзі, грэшныя, ты святы.
Даруй грахі, дай нам абнаўленне
Ва Хрыстова Раждзяство.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., Касцюковай М.***

На Каляды дзеўкі ўсе збіраліся ды гадалі. Асобенна на тое, калі замуж павыходзяць. Чобат кідалі цераз галаву, дак калі сабака схваціць, значыцца, выйдзе замуж у гэтым годзе.

Яшчэ рабілі масткі на блюдцы з вадою, патом ужэ не разгаварывалі ні з кім і лажыліся спаць, тады даўжон быў прысніцца жаніх.

Было такое, што бралі ў ахопку дровы, і калі чотнае калічаства дроў узяла – тагды выйдзеш замуж, калі нячотнае – будзеш у дзеўках яшчэ год хадзіць.

А так, хадзілі ў госці, пераапраналіся, спявалі песні калядныя. Ой, весела было і не боязка, а цяпер жа пазачыняюцца, не можна на вуліцу выйсці. Раней не так усё было…

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

Калядныя вечары называліся “Святы вечар.” Эта Хрістос радзіўся ў Коляды. На дварэ ета хадзілі са звяздою. Як сільна багата на Коляды звёзд – эта будзе грыбоў сільна багата, а як будзе хмурна – эта будзе такое даждлівае лета. На Коляды, ета перад Новым годам, дзевачкі такія, як вы, хадзілі калядаваць. Цяпер ідуць, у хату заходзяць, а тады пад вакном пелі калядныя песні.

Тры куцці было. На первую куццю клалі жменьку сена (на кут кладуць), палаценца рассцілаюць на сена піражок паложаць – ета уже называлася куцця Ісуса Хріста. На первую куццю куццю варылі з грыбкамі боршчык, кашу з алейчыкам, з макам – эта называлась куцця бедна, но ніскаромна, ні сала ні елі, ні мяса ні елі.

А ўжэ другая куцця – эта ужэ называўся Новы год, чатырнаццатага. Другая ужэ куцця багата. Ужэ зноў жменьку сена падкладалі, і варылі уже багату куццю. Ужэ скаромну варылі з мясам, з малаком. Самае асноўное блюда – боршчык варылі, а другое – кашу там, там ужэ што: налісьнікі пяклі, і ета ужэ на эту куццю, на другую куццю хадзілі дзевачкі калядаваць, пелі святыя песні. Казу насілі, ета ў самы еты вечар – на другую куццю, ета уже называецца багата куцця. Хлопцы такія вот маладыя насілі яе, яшчэ не жанатыя. Такую казу рабілі, да пелі такія песні:

Ого-го каза, ого-го сера,
Дзе рогі дзела?
На соль праела.
Соль дарагая, соль залатая.
Як ты, козанька, ай да не леніся,
Дай не леніся, дай не леніся,
Дай затварыся.

Дак козанька та ужэ танцуе і з козанькай заходзілі ў хату. Ей ужо так запяюць песеньку, дак яна танцуе, па хаце танцуе. У казу хлопцы прыбіраліся, і казу насілі, і каня. Адны хадзілі (адна куча) з канём, а другая куча і з казой. Адзін заходзіць хлопец у хату і кажа: “Добры вечар, хазяін! Паздраўляем з Новым годам! Можа б нас пусцілі з канём патанцаваць?” Дак ужэ хто разрышыць, а хто не разрышыць. У каго еты год самы хто ўмер, той ужэ не пускае, калядавальнікаў не пускалі. А ў каго ужэ ніхто не ўмер, дак ужэ разрашаюць, дык яны ўжэ заходзяць у хату, і конь ужэ той танцуе, у ленты такія із бумагі прыбраны. Да каня таго прыбяруць, дак конь ужэ той танцуе, ну, не сапраўдны ж конь, а такі здзеланы, дак бумагі тыя падлятаюць, дак так красіва, а калядавальнікі пад вакном пелі, тожа пыталіся, ці можна паспяваць калядныя песні. Дак ужо разрашаў хазяін, дак яны ўжэ пелі песні. Як дзевачка ў хаце, дак дзевачцы, як хлопчык – дак хлопчыку. Як дзевачка, дак пелі:

Маладая Валечка ўстала ранечка,
Святы вечар!
Уставай раненька,
Умывайся беленька,
Святы вечар!
Прыедуць к табе каралевічы,
Святы вечар!
Каралевічы ўсе Паповічы,

Святы вечар!
Прывязуць сукна нямерана,
Святы вечар!
Прывязуць грошы нелічоныя,
Святы вечар!
Маладая Валечка хоць маленькая,
Святы вечар!
Хоць маленькая, разумненькая,
Святы вечар!
Узяла сукно, перамерала,
Святы вечар!
Узяла грошы, пералічыла,
Святы вечар!
Узяла злота, переважыла,
Святы вечар!
Каралевіча не зняважыла,
Святы вечар!
Паздраўляем з Новым годам,
Ісусам Хрыстом,
Святым Ражаством!

Вот ужэ хазяйка ўносіць ім цяпер грошы, а раней калісь грошай не давалі, колісь аладкі пяклі, калбасу-шчадроўку давалі, кусок сала.

А як сын дак пелі:

Ішоў Колечка з беразенькаю,
Святы вечар!
Сарваў кветачку і з ружынкаю,
Святы вечар!
То лі кветачка яго дзевачка,
Святы вечар!
Ён яе шукаў, танцаваць пайшоў,
Святы вечар!
Як патанцаваў, дак пацалаваў,
Святы вечар!
Мы цябе, Колечка, не зневажаем,
Святы вечар!
Да з Новым годам паздраўляем,
Святы вечар!
Да з Новым годам, Ісусам Хрыстом,
Святы вечар!

* * *

Святое Ражаство радасць прынясло,
Святы вечар!

Святое Васілля развесяліла,
Святы вечар!
А Іван Красціцель воду акрасціў,
Святы вечар!
Воду акрасціў, на ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
Паздраўляем з Новым годам,
Ісусам Хрыстом!

Тады ўжо зноў хазяйка ўносіць пачастункі.

А трэцяя – ета тая ўжэ бедная куцця, ета сама паследняя, трэцяя. Варылі гушчу, цяпер крупа пярлова, а колісь самі таўклі ў ступе. Сушаць ячмень у печы і сыплюць у ступу тую і таўклі ячмень. Натаўкуць тыя гушчы, дак яна смачнейшая, як цяпер, навараць чыгунчык, і ўжэ ўвечары нясуць тую гушчу на кут. Ужэ боршч вараць з грыбкамі посны. Увечары, часоў у дзевяць, запальваюць свечачку, моляцца Богу, тады ўжэ садзяцца вячэраць, сям'я свая ўся. Паядзяць боршч, дак шчэ не гукаюць мароза, а ўжэ як паставіць хазяйка гушчу тую, дак ужэ, мой колісь бацька дак ужэ ложкай крэсціка на гушчы зробіць тры разы, дак ужэ ложкаю мароз у раму стукае:

Мароз, мароз, хадзі гушчу есці,
Летам не бывай ды ячменю не марозь.
Бо мы жалезнаю пугаю вушы паабсякаем.

Так тры разы ў шыбачку пастукае, ну, тады ўжэ пачынаем. Прыгарачку зверху зніме і паложыць на стол – эта, кажуць, дзеду куцця, а тады ўжэ ядзяць тую гушчу. Ну, во ета так пра Коляды.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001г.)***

Бабы збіруцца – спраўлялі Каляды. Дзеці хадзілі па дамам. Што ў цябе ё, тое і даеш. Дзеці співаюць, паздраўляюць.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Белавус Тацяны Васільеўны, 1931 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Ходзяць дзеці, калядуюць, співаюць па хатах, да хто што дасць: ці грошай, ці канфет, ці чаго-небудзь.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Яўсеенка Ганны Рыгораўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Добры вечар гаспадыні!
Кажуць, на вашу хату
Сёння зорка ўпала,
Шчасця, здароўя вам нагадала.
Хай у вашым агародзе ўсё расцецца,
А ў хляву ўсё жывецца.
Там, дзе каза рогам,
Хай будуць свінні гурбою.
Там, дзе каза нагою,
Хай будзе сена стогам.

* * *

Шчадрую, шчадрую,
Каўбасу чую.
Дайце каўбасу,
Дадому панясу.
Дайце другую,
Яшчэ пашчадрую.
Дайце трэцюю,
Да хоць авечую.

* * *

Шчодрык, Петрык!
Шчодрык, Петрык,
Дайце варэнік,
Скрыначку масла,
Кількі, калбаскі,
Рэшата гароху,
Ды ўсяго патроху.

* * *

Каляда, Каляда!
Каляда, Каляда,
Ты падай пірага,
Або хлеба ламціну,
Або грошай палціну.
Паліваць будзеш
У зялёным саду?
Я твае чарнабрыўцы паліваць буду.
Ляцяць галачкі ў тры стадачкі,
А зязюля паперпаду,
А той зязюле, як маёй дачке,
Гора замужам.
Закідай, мамка, дрова

І бывай здарова.
Ты, свякруха, на трэскі,
Дажыдай нявесткі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

На Каляды пераварачвалі кажух і проста ходзяць па хатах.

Куццю варылі. Еслі бедная, варылі боршч. Варылі куццю з грушамі. Багатая ўжо была пажырней, выходзяць і кажуць: "Мароз, мароз. Ідзі куццю есць".

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.***
***(перасяленцы з в. Пагоннае),***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

На Новы стары год абходзяць з канём. Сярод іх было чалавек сколькі: цар, княгіня, конь, гусар, дзед Марк. Яны так заходзяць у хату і гавораць: "Разрашыце зайсці з канем. Наш канёк галодзен, не кормлен, не поен".

Гаварылі гэта так, каб чарачку далі. Выходзіць гусар: "Я гусар, пагусар, па гусарскім часцям, па ўсім вобласцям". Тады на етым пяюць песню:

Гусар на шаблю апіраўся,
Бо ў грознай возрасце стаяў.
І доўга з мілаю прашчаўся,
І не сказал: "Душа, прашчай!"

Патом уходзіць княгіня:

Я – княгіня Кацярына,
Па ўсім полю хадзіла,
Усе вайска пакарыла,
Аднаго свайго марцы не ўкарыла
Падымусь, падымусь на Сіняе мора,
На Марцава поле.
На Марцавым полі буду піць і гуляць
На злога Марца таску наганяць.

Далей гаворыць Марк:

А што вы, княгіня, з мяне жалаеце?

Княгіня:

А я нічога не жалаю.
Вы поле занялі, пуста прападае.
Дайма ваша ўсё поле

А ён:

Так не будзе, толькі так будзе!

Етыя атышлі. Значыць, выходзіць цар. Цар ета камандуець. Цар гаворыць:

Так правільна, так і збудзецца.
Вызываюць старыка. Старык кажа цару:

Ой, я сыроваткі навару,
Жару-пажару.
А што вы пазваляеце, што старыком мяне ўзываеце? Мае ногі баляць.

Цар:

Твае ногі палажыць на парогі,
Тапаром абрубіць і барыню ўрубіць.

Іграюць і танцуюць усе.

Ну, а патом ужэ стары еты выйшаў. Тагды ўжо канчаецца ўсё. Конь сказаў:

Благадарым, усе чэсна прынялі,
Но нам калбаску і бутылачку штоб далі.

І патом пеюць:

Ужо памёрла наша Надёжда,
Вся скончылася любоў.
Прылажыла ручкі к серцу,
Грудзь пакрыла палатном.
Умірала – прыказала,
Многа пеўчых наняла,
Многа пеўчыя запелі
На кладбішча паняслі.
Як прынеслі і к кладбішчу,
Растварылісь варата
Гроб у магілу ўпускаюць –
Зашаталась уся зямля.

Тагда людзі все вазналі,
Што ёсць мертвая душа.

Вот ужэ і з канем выходзяць. Гэта дзелалі ў нас усё хлопцы. На княгіню адзяюць вянок, кажушок, плацця такое длінное і сільна штоб была лічносць его красівая, падбіралі красівага парня, ілі няма парня, дзеўка можа. Вот эта ходзяць, да кожнага ў хату зазываюць, дары даюць харошыя: там жа і каўбаска, і сальца, і што хочаш. Усё было ярка, пёстранька, усё ў лентах.

Вадзілі казу на Каляды. Мы рабілі такую козку, штоб ляпала, дзераўляную рабілі. Надзенецца ўжо адзін, а за ім ідуць усе, як тыя цыгане. Пелі песню:

О-го-го, каза,
О-го-го, серая.
Дзе рогі дзела?
На соль праела.
Соль дарагая,
Мера скупая.
Не ідзі, козанька,
І к таму сяльцу,
Дзе людзі-стральцы
Там сабіраліся
Козку ўбіці.
На гарэ – каза,
А ў даліне – воўк.
Як прыбег ваўчок
І за козку цёг,
А ваўчаняткі –
За казяняткі,
Пабеглі ў лясок
Гусцюсенькі.
Пагубілі яны
Ўсе свае рожусенькі.

Хадзілі і са звяздой.

Перад Калядамі ўбіралі ўсё ў хаце, каля двара. Перад Калядамі была першая куцця. Усё поснае: гушчу рабілі, грушы там, кіселёк які, з грыбамі варылі штосьці, не скаромнае. А на пасладнюю куццю, калі заўтра ўжо Крашчэнне, дак ужо як пасядам за стол , бывала, наш дзед ложкі ўсе ў міску ету, ужо дзе гушча. Куццю толькі з пярловай кашы рабілі. Куццю ставілі на сена, на кут зараней, клалі пірок, хлеба. Клікалі Мароз:

Мароз, мароз, хадзі куццю есці,
Бо болей не прыйдзеш:
Будзем цябе длінnай пугай біць.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада*
*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

**Варожбы**

На первую куццю, як садзіліся вячэраць, тады ўсё поснае, дык што ясі – усё ў платочку насавую заўвязваеш і ні з кім не разгаварваеш, як села вячэраць. І лажыліся спаць, пад галаву палажыўшы, пад падушку і сасніцца той, за каго пойдзеш.

Пеклі аладкі, палажыўшы іх за пазуху, ішлі па вуліцы: і хто з мужыкоў стрэніцца і як будзе звацца, так і твой мужык будзе звацца.

Чарцілі на стале на бумазе такі круг і ставілі чысла і буквы ўсяго алфавіта, пасярэдзіне лажылі ўніз блюдца, і на тым блюдцы стрэлкі чыніла і вот вызывала каго-та мёртвага, вызывала духа. Дух вызывалі Максіма Горкага, Пушкіна. І вот ета блюдца круцілася і дажа можна было прачытаць, што яно прадказвае.

Катора хоча знаць, за каго пойдзе, то кажа: “Падарожнічак ты мой! Ты расцеш пры дарозе, ты бачыш крывога, малога і сляпога, пакажы мне маладога”. Падарожнік адрываюць і ложаць пад галаву.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)*
*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

**Калядная песня**

Эх, скарэй бы нам, нам Каляд даждаць,
Ай люлі, люлі, нам Каляд даждаць.
Мы пойдам, пойдам на гульні,
Ай, люлі, люлі, мы на гульні!
А мы з гульняў – на заручыны,
Ай, люлі, люлі, на заручыны!
А з заручын – на вяселліца,
Ай, люлі, люлі, на вяселліца!
Я пайду, пайду к свайму бацечку,
Ай, люлі, люлі, к свайму бацечку.
А дай мне, бацечка, добра каня,
Ай, люлі, люлі, добра каня.
За каня, дзіця, слова не маці,
Ай, люлі, люлі, слова не маці.
Едзь жа ты, дзіця на вяселліца,
Ты гуляй, дзіця, як сам думаеш.
Ай, люлі, люлі, як сам думаеш.
Не здзіўляй, дзіця, ты добрых людзей,
Ай, люлі, люлі, ты добрых людзей.

На Каляды хлопцы і деўкі збіраліся групамі, хадзілі па ўсёй дярэўне, заходзілі ў кожную хату. Там яны спявалі песні. Не ўходзілі з хаты, пакуль ім не дадуць поўную шапку падаркаў.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сацуры Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Фяськовай Т.***

Но як Каляды праходзілі! З казою мы проста заходзім, інагда без казы заходзім і спяваем калядныя песні. Ідуць у дзве групы, ідуць з казой і з гармошкай. Другія і звязду насілі. Очень інцерэсна было: песні, гулянка. Тады ж, як пакалядавалі, і сабіраемся ў адну хату. Пелі песні “Ой, мароз, мароз...”, “Каліна...”. Потым ідом на рэчку, гулялі. Спявалі “Рэчанька, рэчанька”, танцавалі: “Ой, рэчанька, рэчанька, куда завалілася, ці ўстрэціла мілага”, песню абавязкова цянуць надо, абавязкова. Потом вечарынкі, праходзілі ў адной хаце, было гэта зімою. Збіраемся ў адну хату, святла ж не было, у печы хлопцы паляць лучыну, і мы прадом. Потым хлопцы глядзяць, хто больш напраў: выцягваюць грэбень, патом ужэ хлопцы выходзяць і кажуць: “Вот на грэбні, што асталась – не спрадзена, то і дзеўка замуж не выйдзе”. Мы так баяліся, штоб хлопцы грэбень не ўзялі. Стараліся, каб грэбень гэты яны ўзялі, знялі, інакш мы застанемся ў дзеўках. Пойдзем на рэчку, паходзім па хатах, спяваем калядкі. Еслі я зайшла ў хату, я даўжна пакланіцца і што-небудзь узяць. Хазяйка выходзіць і гаворыць: “Ой, дзеткі,вы не памерзлі?” – “Не”. “Будзеце спяваць калядкі”. – “А што будзеце даваць?” Гавора: “Я дам кусок сала і каўбасу” І усё. А другая казала: “Булак не дам, вы, маладыя,вучыцесе самі”. І не дала. Пойдзем у другую хату, спяваем. “Ой, дзеткі, што вам даці?” – “Хлеба дай”. Вынесе яна хлеба, каржы. Мы назбіраем поўну торбу, заходзім у адну хату, раздзелім гэту торбу, усім адзінакава. Дзеўкі толькі спявалі, хлопцы не заходзілі, не хацелі, но і на іх дзялілі, да так: “Хлопцы, ідзіце, там ляжыць і вам”. За вечар абыходзілі нескалька хат, потым гулялі. Спіртнога не было, мы не пілі, так і гулялі.

Ой, на дварэ снег упаў,
Мой міленькі з каня упаў.
Упаў мілы ды лежыць,
Ніхто к ему не бежыць.
Да прыходзіць удова
Да й за ручоньку ўзяла,
Да й дадому завела.
– Ой, што гэта за ўдова,
Сем год без мужа жыла
Два сыночкі родзіла:
І Ванюшу, і Васіля,
У Дунай-рэчку бросіла.
У 18-ом году пашла ўдоўка по воду,
Стала ўдова воду браці,

Стаў карабель прыплываці.
Стала ўдоўка познаваці,
Ох, што гэта за ўдова дурная

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.***

Перад Калядамі ўсё ўбіралі ў хаце. На Каляды было тры куцці. Куццю рабілі з пярловай кашы, варылі боршч, кампот з яблак, грыбы рыхтавалі. Куццю стаўляюць на сена ў трохкутнік. Еслі куцця згатавалася, яе нясуць у сарай і кажуць: “Кох-кох-кох!” Так гаварылі, штоб куры несліся, квахталі і цыплят выводзілі. На стол ставяць кашу, кампот з сухіх яблык, боршч, а як ужо кашу не даядуць, нясуць курам, штоб куры несліся і квакталі добра. На куццю запрашалі мароза, казалі: “Мароз, ідзі куццю еш!”

Мароз запрашалі, каб ураджай добры быў, усё у селішчы добра было. Сена з-пад куцці ложаць там, дзе свінні стаяць, кашу даём там, дзе куры ядзяць і карове можна было ета сена даць, каб малака шмат давала.

На Каляды хадзілі калядоўшчыкі. У нас не было такога, каб абавязковыя нейкія людзі ўваходзілі ў іх склад. Мы збяромся ўсе, дружкі свае, з кім гуляем заўсёды. Адзяваліся па-featureрознаму. Хто кажуха выварачваў, маску адзявалі, хусткі завязвалі, надзявалі длінныя спадніцы, світкі і хадзілі. Прыйдам пад акно і пастукаем, спросім, ці можна пакалядаваць ці не. Вось мы і начыналі спяваць: “Ой, рана, рана...”, паздраўлялі хазяевоў, яны нас ужо адорвалі.

Варажылі на Каляды. Мая маці калісьці гаварыла мне, каб я пайшла на двор, узяла дровы ў ахапку, як чотна ўзяла, значыць, замуж выйдзеш у етым годзе, не – дык не.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Хадзіла на Каляды маладзёж. Просто так адзяваліся, панамазуюцца там, перадзенуцца, вывярнуць кажух ілі шчэ што і ходзяць па хатах так вот. Дзеці ходзяць тожа, калядуюць на Каляды. І вот даеш, што е. Дзецям, канешна, канхветы і дзеньгі.

Старыя у нас не хадзілі. Знаяцца, у то ўрэмя ў нас не было такой моды штоб хадзіць. Это шчыталася, што пазор, мол, ходзіш папрашайнічаеш.

Еслі бедная куцця, дак варылі боршч і з грыбамі ілі там і з рыбаю, і куццю варылі з ігруш, і з етаю юшкаю з ігруш елі ету куццю. На кут паставіш боршч, куццю. Пастаіць, тады ўжо садзімся вячэраць, вот.

Ну, а тады ўжо багатая куцця, ну дык на багатую ўжо болей чаго гатовілі і ўжэ пажырней. І ўходзіш на вуліцу і кажаш: “Мароз, Мароз, задзі куццю есці”. На бедную не, а на багатую завеш, вот. Так было і на трэццюю.

Ставілі салому на кут, а патом сад абвязвалі, штоб радзіў сад, етаю саломаю ілі сенам.

Гадалі! І драва насілі абірэмкамі ў хату: ці папарна возьмеш. А не, дык забора во так во абнімаеш: ці папарно прыдзецца абняць.

А то, знаіця, пад падушкі лажылі ўсякія кольца, хто-што прыдумаў, а то ў камін гукалі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Вы знаяця, як я бегала ў дзетстве, да, мы разныя песні спявалі, каму якую. Ды мы ужо так выглядалі. Вот. Пайшоў хлопец у армію, няма яго дома, мы ўжо стараліся спець яму песню, нам рубаль вынясуць. Эта ўжо адны вынясуць, а так капейку-дзве. Ужо еслі, хто п’яць ці дзесяць, то ета багата далі. А то так. Мы пачынаем пець пад акном хазяіна, налівае блін, у печы пячэцца (бачым пад акном). Кончылі пекць – яшчэ блін не спёкся, падажджыця мінутку. Бліна далі, ды і мы пайшлі.

Песні былі разныя. Дак, мы ўжо тады спявалі. Хлопец вот, дапусцім там, жэніцца, мы ўжо знали тожа, якую яму песню паспяваць. Хто не жэніцца – другую песню спявалі. У каго дзіцей не было – тожа другія песні спявалі.

Мы хадзілі, дак мы ўжо знали каждага чалавека навылет. Дык мы ўжо знали, каму якую спяваць песню. Еслі слаба плаціць, дык мы ўжо і слабейшу песню спявалі. А еслі ўжо там знаем, што там лучшай дадуць дак мы ўжо лучшай песеньку спявалі.

Вот, дапусцім, мы спявалі хлопцу такую песеньку, вялікі быў ужо хлопец.

Ходзіць Віцячка па сенях новых,
Саколю.
Саколю ясен, панічу красен,
Віцячка.
Па сенях ходзіць, тапачкі просіць
Саколю.
Саколю ясен, панічу красен,
Віцячка.
Татачка родны, дай мне тры рублі,
Саколю.
Саколю ясен, панічу красен,
Віцячка.
Я дам тым калядн ічкам, што мне спяваюць,

Саколю.
Саколю ясен, панічу красен,
Віцячка.
Што мне спяваюць, павелічаюць,
Саколю.
Саколю ясен, панічу красен,
Віцячка.

Як чуствуем, што дадуць мала, дак і не павелічаем яго. А як дадуць болей, мы шчэ і канчаем:

Мы цябе, Віцячка, не зневажаем,
Святы вечар.
Да з Новым годам паздраўляем,
Святы вечар.
І з Новым годам, Ісусам Хрыстом,
Святы вечар.
Святое Ражаство радасць прынясло,
Святы вечар.
Іван Красціцель воду акрасціў,
Святы вечар.
Воду акрасціў, на ўвесь свет пусціў
Святы вечар.
За гэтым словам жывіце з Богам, добры вечар,
Святы вечар.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Казу вадзілі. Кажуха выварачвалі. Усе хадзілі тожа калядавалі. Старыя асобна хадзілі, а дзеці асобна. Каза прыгае, прыгае, патом упадзе на пол, дак крычаць: “ Каза бальная, палячыць нада”. Дак ужо лечаць: гарэлку даюць, у торбу што-нібудзь даюць. Кагда садзяцца за стол, хазяін заклікае і кажа: “Эй, Мароз, Мароз хадзі куццю есці”.

Во так во бегалі да ўжо заборы бралі, да шчыталі, калі замуж пойдзеш. Хадзілі да шчыталі этыя палянічкі.

Бацінкі кідалі: куды носам паляціць бацінак, туды замуж пойдзеш.

Куццю сабіраеш, верх еты, ды нясеш, курам даеш. Із бочкі бралі абруч такі, нада сыпаць у той абруч ету куццю, штоб куры елі і штоб дома несліся, штоб нідзе не хадзілі па чужых дварах.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,***
***Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***
***Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.,***

*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

На Каляды варылася куцця. Варылася каша з ячменннае крупы. Раней крупу рабілі самі: таўклі ячмень у ступе, дзелалі крупу і варылі кашу. Было тры куцці: першая – посная, другая і трэцяя – багатыя. Першую куццю варылі без тлушчу, елі яе з салодкай вадою.

Калі зварылася куцця, то хазяйка абмотвае чыгунок палаценцам і нясе яго на кут, дзе стаяць іконы. Яна ставіць чыгунок на сена, а потым гэтае сена бяруць і ложаць у кубла к гусям, курам, каб добра выводзіліс цыпляты. Ставяць чыгун на сена, пакрытае палаценцам, а наверх ложаць піражок. Потым гэты піражок аддавалі скату. Калі маці нясе к сталу куццю, дзеці залазяць пад стол і запрашаюць дзеда Мароза есці куццю. Запрашаючы, крычаць: “Мароз, мароз, ідзі куццю есці”. Хто-небудзь з дарослых адказвае: “Іду, іду”. Потым дзеці яшчэ прыгаварываюць, каб добра куры няслісяі:

Няхай нашы куры добра нясуцца,
А ў саседзей вароты трасуцца,
Штоб было яечак многа.

Першую куццю яшчэ называлі “піскухаю”.

Пад Новы год была друга куцця – багатая. Гатовілі куццю жырную, скаромную. Яе, як і першую, ставілі на кут. Але цяпер людзі ходзяць калядаваць. Гавораць пажаданні хазяевам. Хазяева даюць калядуючым падарункі.

Пасля другой куцці, ранкам, людзі ходзяць са звяздой, спяваюць і танцуюць. У хату прыходзяць з пажаданнямі, каб у хаце ўсё вялося, каб скаціны было многа і засяваюць па хаце зерне. Засяваючы, прыгаварваюць:

З Новым годам паздраўляем,
Каб у вашай хаце і ў селішчы
Усё вялося і добра жылося,
І пілося, і елося, і яшчэ хацелася.

Хрышчэнне прыходзіць пасля Каляд. На гэта свята ў царквах адбываецца асвячэнне вады. Гэту ваду пасля нясуць дадому і даюць усім выпіць, а астатнюю хаваюць, бо, па паданню, святая вада можа стаяць гадамі. Хрышчэнскую ваду давалі піць хворым, хатняй жывёле, а таксама апырсківалі поле перад сяўбою.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Гусак Вольгі Мікалаеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шамятковай Л.***

Каза прыходзіла ў хату, падала на дол, качалася і пела:

Дайце казе сала,
Штоб каза устала,
Дайце казе грэчкі на варэнічкі,
Дайце свянцонай вады,
Каб пабачыць казінай хады.
Сьвяты вечар! Добры вечар!

Яшчэ такая:

Шчодры вечар, добры вечар!
Ішоў Сашка беразінаю,
Шчодры вечар!
Найшоў дзевачку пад разінаю,
Сьвяты вечар!
Ён яе найшоў, танцаваць пайшоў,
Сьвяты вечар!
А ў полі, полі, што та за дымы,
Сьвяты вечар!
Ой, то не дымы, а стада коней,
Сьвяты вечар!
Паміж тае стады Сашачка ходзіць,
Коніка ловіць,
Сьвяты вечар!
А цешча кажа: “То мой зяць едзе”,
Сьвяты вечар!
А дачка кажа: “То мой муж едзе”,
Сьвяты вечар!
Сьвяты вечар! Усім людзям добры вечар!

Перад Новым годам есць такі празнік “Андрэева вастаяніе”. Бяруць канаплю, ідуць на растанцы, дзе дарогі перакрэшчваюцца, сыплюць канаплю і завуць суджанага. Калі чулі нейкія водгукі, то, значыць, скора прыйдзе, а калі спакойна было, то не.

Яшчэ так гадалі: лажылі пад краваць дошчачкі, каб прысніць суджанага. Яшчэ казалі такое, што калі прысняцца ваўкі, то, значыць, скора даўжны прыйці ў сваты.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Раманчык Ірыны Андрэеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю.(2003 г.)***

**Навагодняя варажба**

Кідаюць сапог праз вароты ці хату. У якую старану ён наском упадзе – у тую старану дзяўчына пойдзе замуж.

Бяруць столькі кускоў хлеба, колькі чалавек у сям’і, прычым адзначаюць, які кусок якому члену сям’і прызначаны. Патом іх выносяць у

сенцы, ставяць на паліцу, а раніцай глядзяць: калі якога-небудзь куска хлеба няма, значыць, той чалавек памрэ на працягу года.

З лыжкай ежы ідуць за вароты і прыгаворваюць: "Сужаны-ражаны, прыходзь кісель есці". Калі хто-небудзь сустрэнецца на вуліцы, то трэба спытаць яго імя. Калі гэта будзе мужчына, то жаніха будуць зваць так сама, як яго, а калі жанчына, то так будуць зваць свякроў.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Варылі куццю з ячменнай крупы: мялі ў ступе, таўклі гушчу, і з яе варылі. Лажылі сена ў кут і да заходу сонца. Куццю ставілі да гэтага сена. Калі вынімалі з печы, накрывалі хлебам і неслі ў кут. Спявалі: "Кох-кох, нясу гушчу на куток". На куццю запрашалі: "Мароз, мароз, хадзі куццю есці, каб дарыць людзям багацства". Галодная куцця перад 7 января. Далжно стаяць 12 страў, таму што было 12 апосталаў. Гатовілі толькі поснае: кісель, боршч, капусту, агурцы – бедная куцця. Перад 14 января – багатая куцця. На ўтро вяршок даюць курачкам, каб добра няслісь. Сена лажылі пад куцью, штоб быў харошы ўраджай, а патом яго пряталі. Как начынает квахтаць, лажылі пад квактушку, каб няслась.

Пераапраналіся. Перад Раждзеством хадзілі са звездой. Рабілі яе з сіта, туды ўстаўлялі 5 свечак. Хадзілі і гаварылі: "Святое Васілле развесяліла".

Калядная песня пра дзевачак:

Ой, за варацьма крутая гара,
Святы вечар!
Ой, на той гарэ шаўкова трава,
Святы вечар!
А па той траве пава хадзіла,
Пер'е згубіла,
Святы вечар!
Маладая (імя) услед хадзіла,
Святы вечар!
Услед хадзіла, пер'е збірала,
Святы вечар!
Пер'е збірала, у рукаве склала,
Святы вечар!
З рукаўца брала, вяночак віла,
Святы вечар!
Вяночак віла, у таночак пашла,
Святы вечар!
Ой, пашла ж яна лужком-беражком,
Святы вечар!
Лужком-беражком, жоўценькім пяском,

Святы вечар!
Ой, зашла ж яна да й у цэркаўку,
Святы вечар!
Яе паны не зналі, шапкі снімалі,
Святы вечар!
Шапкі снімалі, у яе пыталі,
Святы вечар!
Ці ты папоўна, ці каралеўна,
Святы вечар!
Я ж не папоўна, не каралеўна,
Святы вечар!
Я (імя па бацьку) дачка-красна панначка,
Святы вечар!
Мы ж цябе (імя) не зневажаем,
Святы вечар!
Да з Новым годам паздраўляем,
Святы вечар!
Ісусам Хрыстом, святым Раждзеством,
Святы вечар!
Святое Раждзество радасць прынясло,
Святы вечар!
Святое Васілле развесяліла,
Святы вечар!
Іван Храсціцель воду схрасціў,
Святы вечар!
Воду схрасціў, на ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
За нашы прыпеўкі – кварта гарэлкі,
Святы вечар!
За наш галасок – сала кусок,
Святы вечар!

Для мальчыкаў:

Ой, рана-рана куры папелі,
Святы вечар!
Ой, раней таго як (імя) устаў,
Святы вечар!
Як (імя) устаў, тры свечы сукаў,
Святы вечар!
Перву запаліў – па двару пахадзіў,
Святы вечар!
Другу запаліў – брацьяў пабудзіў,
Святы вечар!
Вставайце, братцы, коней сядлаці,

Святы вечар!
Коней сядлаці, у дарогу ўезжаці,
Святы вечар!
У дарогу ўезжаці, братцаў встречаці,
Святы вечар!
Мы ж цябе (імя) не зневажаем,
Святы вечар!
Да з Новым годам паздраўляем,
Святы вечар!
Ісусам Хрыстом, святым Раждзеством,
Святы вечар!
Святое Раждзество радасць прынясло,
Святы вечар!
Святое Васілле развесяліла,
Святы вечар!
Іван Хрысціцель воду схрысціў,
Святы вечар!
Воду схрысціў, на ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!
За нашы прыпеўкі кварта гарэлкі,
Святы вечар!
За наш галасок сала кусок,
Святы вечар!

Былі песні для ўдавы, удаўца і развадца.

Заходзяць і просяць: "Гаспадар ці гаспадарыня, дазвольце пакалядаваць".

Казу вадзілі на другі дзень Каляд, 14 января. Брасаюць кажух на чалавека. Бяруць плётачку і вядуць. Рогі, бораду дзелаюць. У асноўным хлопцы вадзілі. Заходзяць у хату, каза пачынае хадзіць туды-сюды.

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера!
Дзе рогі дзела?
На соль праела.
Соль дарагая,
Шэрсць залатая.
Ударылі казу в лева вуха,
Пацекла з казы крывава юха,
Дай казе сала, штоб каза ўстала,
Дай казе жыта, штоб была сыта.

Даюць сала, воду, гарэлку, каб здароўе было ў хаце.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***

***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на), студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А., Казека А., Кажамяка М. (2005 г.)***

**Ражство Хрыстова**

Ражство Хрыстова!
Анёл прыляцеў.
Ён ляцеў па небу,
Людзям песні пеў.
Пастухі ў пешчэру раньшэ ўсех прышлі,
У яслях на саломцы Госпада нашлі.
Стаялі, рыдалі, Хрыста праслаўлялі,
Шчэй мацерь его.
А Ірад мяцежны а Хрысце ўзнаў,
Он убіць воінаў паслаў.
Дзецей усех убілі, мечы прытупілі,
А Хрыстос у Егіпце быў.
Все мы саграшылі, Спасіцель, пред табой.
Все мы людзі грэшны, ты святой.
Прасці саграшэнія, дай нам абнаўленія,
Ва мне Хрыстова Ражство.

**Святы вечар**

Ой, ясна-красна каліна ў лузе,
А ясней-красней Галіна ў матулі.
Па двару хадзіла ўвесь двор красіла,
А ў сені вайшла – сені засіялі.
Паны стаялі – шапкі снімалі.
Шапкі снімалі, яе пыталі:
– Чыя ты, Галя, чыя ты, дочанька,
Ці ты папова, ілі каралёва?
– Я не папова, не каралёва,
Маміна дочанька як ягадка
Баціна як вішанька.

**Калядная**

Шапяту-пяту, кашэлік пляту,
Святы вечар!
А ў той кашэлік – кладу варэнік,
Святы вечар!
Лыжку кашы – наверх каўбаскі,
Святы вечар!
...Паздраўляем хазяеў з празнікам.
Жадаем дабра й багатага хазяйства.
Здароўя!

На Каляды неслі ўнучата сваім бабушкам у каробках булкі. Унучка – сем булак, унук – дзвевяць булак. А бабушка па адной астаўляла ў каробке.

*Запісана ў в. Храпкава*
*ад Анікеенка Кацярыны Мікалаеўны, 1943 г.н.,*
*студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.*

6 январа – посная куцця. Варылі боршч бураковы з грыбамі, пшоную кашу, кісель. У кут на канапу клалі сена і на яго ставілі гаршок з куццёй. А потым гэтым сенам абвязвалі яблыні, каб зайцы не елі.

7 январа пачынаюцца Каляды. Людзі разгаўляюцца. На первы дзень Каляд елі калбасу, мяса. Другая – багатая куцця (13 январа). Варылі кашу ячневую, калбасу, сала, пеклі бліны. Дзеўкі тут жа гадалі. Хваталі бліны ахапкай, а потым глядзелі: як схваціць да пары, значыць, пойдзе замуж. Калі не, то гэты год будзе шчэ ў дзеўках хадзіць.

Яшчэ пойдуць набяруць ахапак дроў. Прынясуць у хату. Кінуць на дол і шчытаюць: калі адна дравіна застанецца, значыць на гэты год і дзяўчына адна застанецца.

На шчадраванні нараджаліся па-ўсякаму. Кто смялейшы, таго нараджалі казой і хадзілі ў шчодры. Звязду таксама насілі і стукалі пад вокнамі.

Шчадроўшчыкі заходзілі ў самую хату і прасілі ў хазяіна дазволу паспяваць: “Пазвольце песню спяваць”. Хазяін дазваляў ім і казаў: “Пойце дочке”. Тады хлопцы і дзяўчаты пелі песню дзевачке:

Маладая … (хто быў) Наташэнька
Пшанічку жала,
Снапы вязала,
Песеньку спявала.
Прыйшоў да яе
Татачка яе…

Шчадроўшчыкі пелі такую песню:

Шчадрую, шчадрую
Каўбасу чую.
Уносьце дару,
Бо хату абуру.

Хазяева ўносілі каўбасу, бутылку. После гуляюць у хаце шчадруху. Спявалі, танцавалі польку, страданне, карапет, вальс. Утрам на Новы год сам хазяін хадзіў вакруг свайго селішча і засяваў зернем: “Сею, сею на всякую долю”. Перад Крышчэннем – трэцяя галодная куцця. Варылі всё поснае. Тожэ яе ставілі на кут.

19 январа – Крышчэнне. Ішлі ў цэркву. Бралі ваду і аблівалі па вуглах у хаце, у сарае. На Крышчэнне сільны мароз – будзе жаркае лета. Звёзднае неба –

год ураджайны. 20 января – Красціцель. 21 января – Раздзвіны дзень Каляд. Каляды канчаюцца.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

## МАСЛЕНІЦА

Масленічная нядзеля (восьмая нядзеля перад Пасхай) з панядзелка да нядзелі праводзілася весела. Шчыталі, што не весяліцца на Масленіцу – значыць, жыць у бядзе і закончыць жызнь пагана. Вечары ў Масленіцу звалі “святымі”. Вечарам запрашчалася работаць, толькі хадзіць адзін к аднаму ў госці можна.

Усю нядзелю мяса не елі, толькі адно малочнае. Абязацельна на Масленіцу пеклі бліны з жыта. Шчыталася лакамствам, калі бліны былі пшанічныя ці грачаныя з маслам. Абязацельна на Масленіцу маладыя і старыя рабілі чучала з саломы, адзявалі на яго адзежу, абувалі, насілі па сялу, спявалі песні, неслі чучала за сяло , ставілі яго.

Маладзёж каталася на санках з гары. Было павер е, што ў таго вырасце лён даўжэйшы, хто далей за ўсіх з едзе з гары. У другую палавіну нядзелі да дзяцей прысаедзіняліся і старэйшыя людзі. Маладыя жэншчыны хадзілі па дзярэўні і вешалі хлопцам-пераросткам дзеравянныя калодкі за тое, што яны не хацелі жаніцца. А хлопцы ад іх адкупляліся блінамі ці другімі прысмакамі.

Асобае ўніманіе ўдзялялася маладым парам, што пажаніліся ў етым годзе. Яны далжны былі пры людзях цалавацца, красіва адзявацца і ўчаствавацца ва ўсіх гульнях. У першы дзень празніка дзеці хадзілі па хатах, паздраўлялі з празнікам і прасілі бліноў. У нядзелю ўстрайвалі провады Масленіцы. Да цемнаты чучала Масленіцы насілі ці вазілі па дзярэўні з песнямі. На прыгатоўленым кастры позна вечарам чучала спальвалі. Попел з кастра рассыпалі па полю, каб разбудзіць зямлю і вярнуць ёй новую жызнь. Каля кастра збіралася многа народу. Было весела, танцавалі, гулялі ў гульні.

У нядзелю, паследні дзень Масленіцы, за стол садзіліся сем разоў, па калічэству нядзель у Вялікі пост. Вечарам паследні раз перад пастом садзіліся за стол і елі мясную пішчу. Пасля вячэры стол не прыбіралі, а накрывалі скацеркай. Усе гэта рабілі, штоб у сям’е не было сварак. У масленічную нядзелю хадзілі на могілкі, астаўлялі на магілах бліны і кланяліся праху родных. У еты дзень старались не піць гарэлкі. Шчыталась, хто ў еты дзень паследні п’е гарэлку, той першы памрэ.

Пасля празніка мыліся ў бані, каб встрэціць вясну з чыстай совесцю. Легці спаць трэба было да дзвянаццаці часоў ночы, каб лягчэй прасыпацца ўранні.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка Вольгі Астапаўны, 1914 г.н.,***
***Малянок А.А.***

На Масленіцу дзелалі арэлі – гэта значыло, што еслі катацца на арэлі, то ачышчаеш светлае паветра, што калі катаешся на арэлі, то на той год лён будзе расці доўгім і моцным. На Масленіцу людзі вельмі весяліліся, многа елі і пілі, давалі волю любоўным пачуццям – гэтым яны хацелі выклікаць шчаслівае жыццё.

Масленічныя абрады і гульні суправаджаліся адпаведна песнямі, жартамі, прыказкамі і прымаўкамі. Песня:

А сёння ў нас Масленка, Масленка,
Ой, лялю, рана, Масленка, Масленка.
А з-пад куста ластаўка, ластаўка,
Ой, лялю, рана, ластаўка, ластаўка.
Сядзіць яна высака, высока,
Ой, лялю, рана, высака, высока.
Бачыць яна далёка, далёка,
Ой, лялю, рана, далёка, далёка.
Што ў вёсцы дзеецца, дзеецца,
Ой, лялю, рана, дзеецца, дзеецца.
Дзевяць хлопцаў жэняцца, жэняцца,
Ой, лялю, рана, жэняцца, жэняцца.
Дзевяць дзевак вянчаюць, вянчаюць,
Ой, лялю, рана, вянчаюць, вянчаюць.

Прыказкі і прымаўкі, якія гаварыліся ў вечар масленіцы:

- Зямля – маці, а праца – бацька.
- Зямелька – матка наша, і корміць, і поіць, і адзявае нас.
- Зямелька нас корміць, а сама есці просіць.
- Сонца ўстае, так і дзень настае.
- Будзе дождж ісці – будзе хлеб расці.
- Жураўлі ляцяць высока – зіма яшчэ далёка. Жураўлі ляцяць нізка – зіма ўжо блізка.
- Калі хочаш хлеб мець, то трэба зямелькі глядзець.
- Хочаш есці калачы, так не сядзі на пячы.
- Хто працуе, той і святкуе
- Працаваць не любіш – чалавекам не будзеш.

На Масленіцу жартавалі і гулялі ў розныя гульні. Вось адна – “валачыць калоду”. У панядзелак масленага тыдня бабы збіраюцца “валачыць калоду” – невялікая палка з прывязанай да яе чырвонай папругай. Яе са смехам і жартамі прывязываюць да нагі сустрэчнага халастога хлопца, яны як бы яго караюць за тое, што ён яшчэ не ажаніўся. А хлопец павінен адкупіцца. Такое прадзелвалі і з дзеўкамі.

Галоўным угашчэннем былі бліны, якія былі здзеланы із мёда, ікры, яіц і сыра. Кожны дзень тыдня быў назван сваім іменем.

Панядзелак – “встреча” (первые бліны, кожны угашчаў сваімі блінамі).

Аўторак – “заігрышы” (каталіся на санках).

Серада – “лакамка” (прыглашалі зяцей у госці к цешчы).

Чацверг – “шырокі чацверг” (кулачныя баі і інш. гульні, жарты).

Пятніца – “цёшчыны вячоркі”.

Субота – “заловніны пасідзелкі”.

Нядзеля – “праводзіны”, праводзілі Масленіцу, палілі чучала, прасілі прашчэнне друг у друга, дарылі падаркі друг другу.

На Масленіцу рабілі чучала, якое звязывала людзей з набліжэннем цяпла і вясны. Яны хадзілі на узгорак з запаленым полам, што азначала “разгаранне сонца”. А чучала тожа палілі, каб быстрэй прышла вясна.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Гатаваліся ў кожнай хаце і наведваліся адзін да аднаго, аж па шэсць хат за ноч. А бедныя жанчыны хадзілі з торбамі, каб нехта даў яды. На Масленіцу пяклі бліны.

Дзеці ж каталіся на санках, гушкаліся на арэлях. Ведаю масленічныя песні:

* * *

Благаславі, Божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну заклікаці.
Зімою ў вазочку, вясною ў чаўночку.
А ў цёплым леце – як у карэце.
Благаславі, Божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну заклікаці.

* * *

У нас сёння Масленіца,
Прыляцела ластавіца.
Села, упала на жэрдачку,
Добрую прынесла вестачку.
Ластавіца песню спела,
Зноў у вырай паляцела.
Пасядлайце, хлопцы, коні,
Даганяйце яе ў полі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

Гатовілі ў кожнай хаце, пяклі бліны, аладкі, потым сазывалі адзін аднаго ў госці. Бывала аж да шасці хат збіраліся. Бедныя жанчыны хадзілі з шанькамі, каб хто накідаў чаго-небудзь з яды.

Старыя любыя песні пелі. Хадзілі такія дзеўкі па 17 гадоў. Прыдуць ка ўзросламу хлопцу і пяюць да ранку.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Харошка В.***

Гатовілі ў каждай хаці, пеклі бліны, аладкі. Тады сазывалі адзін аднаго ў госці. Бывала аж да сямі хат збіралася. Бедныя жэншчыны хадзілі з шанькамі, каб хто-небудзь накідаў чаго з яды. Старыя любыя песьні пелі. Хадзілі такія дзеўкі па17 гадоў. Прыдуць, іх узросламу хлопцу пяюць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

Маслены тыдзень, як кажуць, мясапустны, г. зн. мяса есці ўжо нельга (сыр, масла, яйкі – пакуль яшчэ можна). Апошняя ж нядзеля перад Масленіцай насіла назву “мясной нядзелі”. У час “мясной нядзелі” цесць ехаў зваць зяця “даесьці мяса”. Пад час масленічнага тыдня рабіліся розныя гульні: катанне з ледзяных горак, на канях, вулічныя гулянні з песнямі, карагоды, пляскі.

Провады Масленіцы і развітанне з ёй суправаджаліся рознымі абрадамі. Саламяную ляльку – “Масленіцу” – спальвалі, а попел ад пудзіла рассейвалі па полю, каб быў добры ўраджай. Развітанне з роднымі і знаёмымі адбывалася ўвечары і завяршалася пацалункам. Людзі ў гэты дзень прасілі друг у друга прабачэнне, хадзілі на могілкі, каб пакласці на магілу бліна.

У апошнюю нядзелю Масленіцы дазвалялася ў апошні раз піць спіртныя напоі. Таксама вядомы звычай “калодкі”. Замужнія жанчыны ішлі ў хату, з гаспадарамі якой былі ў сяброўстве, і прывязвалі дарослым, але незамужнім дзецям на ноч “калодкі” – невялікія палкі ў дакор за тое, што яны не ўступілі ў брак напярэдадні паста, а тыя павінны былі “адкупіцца” святочнымі ласункамі.

Кожны дзень на масленым тыдні мае сваю назву:

Панядзелак – Сустрэча. У гэты дзень рабіліся агульныя гульні, ладзілі сталы з салодкімі стравамі. Дзеці ладзілі раніцай саломенную ляльку – Масленіцу. Аўторак – Зайгрышчы.

Раніцай дзяўчаты і хлопцы запрашаліся пакатацца з горак, паесці бліноў. Там жа выглядалі нявест і жаніхоў.

Серада – Ласуха. Цёшчы запрашалі сваіх зяцяў на бліны, запрашалі ўсіх родных. Чацвер – Шырокі чацвер, разгул, пералом

У гэты дзень каталіся па вуліцах. Вазілі на санях мужыка з віном і калачамі. Пелі песні, пілі піва. Пятніца – Цёшчыны вячоркі. Зяць частаваў цёшчу блінамі. Зяць павінен быў звечара асабіста запрасіць цешчу на бліны.

Субота – нявесткіны вячоркі. Маладая нявестка запрашала родных да сябе. Нядзеля – Провады Масленіцы, прабачэнне, пацалунак.

Людзі ў гэты дзень прасілі друг у друга прабачэнне.

На Масленіцу спявалі наступныя песні:

У сераду да й на Масленіцу
Парасёнак да яечка ізнёс,
А бязрукі да яечка ўкраў,
А бязвухаму за пазуху паклаў,
А бязногі ў паход пабяжаў,
А сляпы да й падглядуе,
А глухі да й падслухуе.
А нямы – “Каравул!” – закрычаў.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Масленька ў нас паследняя нядзеля масленая перад пастом Вялікім. Усю нядзелю гасцюююць бабы, гуляюць. Людзі гаварылі:

А ў сераду да й на Масленіцу
Парасёнак да яечка знёс.
А бязрукі яечка ўкраў,
А бязногі ў паход пабяжаў,
А нямуй: “Караул!” – закрычаў,
Галамшывага за кудры паймаў,
Ад парасёнка яечка адабраў.

Звычаю “цягаць калодку” у нас не было.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

На Масленіцу елі малочнае. Пяклі бліны з маслам. Зяць ехаў да цёшчы: “Еду к цёшчы на бліны”.

Хлопцы хадзілі па дзярэўне і рабілі ўсялякае для смеху. Выкопвалі лавачку возле адной хаты. Пераносілі яе да другой і там закопвалі. Дровы раскідвалі ці пераносілі іх у другое месца. Заборы перастаўлялі ці зусім разбіралі. Дзверы прывязвалі, што з хаты не выйдзеш.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

Быў такі звычай – кожны год празнаваць Масленіцу. І рабілася гэта ў якім-небудзь адным месцы. На Масленіцу заўсёды пяклі бліны, куды абавязкова дадавалі масла.

На тым месцы, дзе было гулянне, устраіваліся розныя гульні. Ставілі вельмі высокі гладкі стоўб, на канец якога вешалі карзіну з пеўнем.

Мужчыны спрабавалі залезці на гэты стоўб, і каму гэта ўдавалася, той забіраў карзіну з пеўнем сабе.

Яшчэ на Масленіцу ўстраівалі прадстаўленне. Дзеючымі асобамі былі скамарохі, дзед Мароз, Зіма, Вясна. Скамарохі зазывалі людзей на свята. Потым з'яўляўся дзед Мароз з Зімою. Яны развіталіся з людзьмі да наступнага года, а потым Зіма перадавала свае правы Вясне. Вясна вітала людзей, абяцала ім добрае надвор'е, якое будзе спрыяць гаспадарчым работам у полі, каб потым быў добры ўраджай. Потым усіх людзей частавалі блінамі, спяваліся розныя песні, якія былі прысвечаныя святу Масленіца.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

# ВЕСНАВЫ ЦЫКЛ ЗЕМЛЯРОБЧАГА КАЛЕНДАРА

## Гуканне вясны

З надыходам вясны людзі ішлі ў поле і спявалі песні вясны. Яны наражалі маладую дзяўчыну, рабілі ей вянок, прывязывалі ленты к вянку і вялі гэткую “вясну” ў поле; звалі вясну, звалі птушак, як лічылі раней, птушкі нясуць на сваіх крылах цяпло. Палілі кастры і прыгалі чэраз вогнішча. Выпякалі “птушак”, і калі звалі птушак, то махалі гэтымі птушкамі. Песня:

Ой, вясна, вясна, вясняначка,
Дзе твая дачка Ульяначка?
Ой, вясна, вясна, вясёлачка,
Развясяліла ўсё горачка.
Ой, вясна, вясна, людзі ткуць кросны.
Я, маладая, не напрала,
Пад плот кужаля пабрасала.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Як толькі прыходзіла вясна, то дзеўкі па ўзгоркахпачыналі гукаць яе. Спявалі песні. Выпякалі жаўрукоў, а як падкінеш іх уверх, так і гукалі вясну.

Вясна, вясна, вясняначка,
Дзе ж твая дачка Мар’яначка?
На печы ў куточку,
Шые хлопчыку сарочку.

* * *

Ляцелі гусі, гяргечучы,
Ляцелі сваты, гаворачы:
Парай, браце, каторую браці?
Ці тую, браце, багатую,
Ці тую, браце, убогую?
А багатая ўжэ зачула
І па воду ішла – плакала:
Скацерці мае шаўковыя,
Падарачкі мае шаўковыя.
Не буду шоўкам ушываці,
Бо людзі не хочуць мяне браці.

* * *

Шуміць-гудзе, вясна ідзе,
Шчасце і радасць людзям нясе.

У небе песня зазвінела,
Палі, яры абудзіла.
Пралесачкі зацвіцелі,
І птушачкі прыляцелі.
Вол бушуе, вясну чуе,
Дзеўка плача, замуж хоча.
Досыць, волік, бушаваці,
Шчэ ў полі наарэшся.
Досыць, дзевачка, плакаці.
Пойдзеш замуж – наплачашся.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

**Веснавая песня**

Зіма з летам сустракаецца,
Зіма з лета сустракаецца,
Пра здаровейка пытаецца:
– Ой, чалом, чалом, да цёплае лецейка,
– Ой, здарова была, да халоднае зімачка,
Што цябе, лецейка, узвелічаюць,
Мяне, зімачку, праклінаюць?
– Бо ты зімачка, халодная,
Лугі, балоты памарозіла,
Ой, я, лецечка, да вясёлае,
Лугі, горы ізмачыла,
Лугі, горы ізмачыла,
Ой, там хлопчыкі сабіраюцца,
Да на мёд, віно складаюцца,
Ой, ты, Іваначка кладзі больш за ўсіх,
Твая Ганачка лепш за ўсіх.

– Першую песню вясною пелі:

Вясновы вецер павявае,
Нас цар на вайну адпраўляе,
А ў каго дочкі на помачкі
А ў каго сыны на войначкі,
Ой, зажурылася ўдовачка,
Бедна яе галовачка,
Што німа ў яе сына,
А толькі донька Маруся.
І тая ў войска запісалася.
Мамка Маруську праважала,
Праважала і навучала:

– Донька Марусечка, наперад не ўрывайся
І ззадзі не заставайся,
А дзяржыся сяродзінкі,
Казачанькі маладога
Маруська мамку не слухала.
Паперад войска паехала.
Цара забіла, поле ўкрывавіла
І войска развесяліла.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Пеклі “жаўрукоў”, насажвалі на палкі, хадзілі па сялу. А тады за сялом на ўзгорку спраўлялі агонь, пелі песні-вяснянкі.

І песня
Вясна, вясна вясняначка,
Дзе мая дачка Мар’яначка?
На печы ў куточку
Шые хлопчыку сарочку.

ІІ песня
Вясна, вясна,
Ткуць людзі кросны,
А я, маладзенькая, не напрала.
Пад лёд кудзелю папускала.
Кудзелькі мае – талакенца,
Прынясіце палаценца.

ІІІ песня
У гародзі, на халодзі,
Поўны вады калодзецы.
Ой, там каліна патапала,
К сабе явара прыгукала.
Ой, явар, явар, яварочку,
Падай мне хоць голечку.
Ой, няхай табе клянок дае,
Бо ён з табой шуміць-гудзе.

ІV песня
Ляцелі гусі, гяргечучы,
Ляцелі сваты, гаворачы.
Хапай, браце, каторую:
Ці тую, браце, багатую,
Ці тую, браце, убогую.

А багатая ўжо зачула,
І па воду ішла, плакала:
– Скацеркі мае тальковыя,
Падарачкі мае шаўковыя.
Не буду шоўкам умываці,
Бо людзі не хочуць мяне браці.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

У кожнай мясцовасці гэты абрад адбываўся ў розны час. У гэты дзень маладзёж сабіралася за сялом і спявалі песні. Песні у аснаўным пелі дзеўкі, таму што падобна вясна на дзеўку. Прынімалі ўдзел і жанчыны, і дзеці. На кастры спальвалі рэчы. З цеста выпякалі розныя фігуркі птушак. Кідалі іх уверх, каб быстрэй прыляцелі птушкі. Пры гэтым пелі розныя песні.

Благаславі, маці,
Вясну атмукаці,
Зіму замукаці.
Зіма на вазочку,
Лета ў садочку.

* * *

А святое Благавешчанне
Дай, Божа, красну вясну.
Дай, Божа, лета цёплае.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

Пяклі пончыкі такія, у форме птушак, падымалі іх на палках і гукалі вясну. У нас спявалі такія песні.

Весняны вецер павявае,
Кароль на войну заклікае.
Зажурылася ўдовушка:
– Бедная мая галовушка.
Няма сына-пчаляніна,
Адна вясна Ганулечка.

Ці проста гукалі вясну: “Вясна, вясна, прыходзь да нас!”

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драка Марыі Дзмітраўны 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.)***

У лесе сабіраюцца дзяўчата, спяваюць там, гукаюць вясну.

Вясна-вясна, вясняначка,
Вясна, што ж ты нам прынясла?
Вясёлае, харошае...

Такое вот прыказвалі. Каталіся на качэлях, дзелаюць качэлю, катаюцца, гуляюць там, смяюцца, весяляцца. На Соракі пяклі сорак булачак. Рэзалі такімі маленькімі кавалчкамі і елі. Людзі, значыць, картошку варылі, мялі, мясілі з мукой і вот рэзалі такія кавалачкі, станавілі ў печ, вынімалі, потым постным маслам палівалі і елі гэтыя булачкі.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Пяклі сорак булачак, но булачкі пеклі скаромныя. Назвалі “Соракі”, патаму што это былі какіе-то сорак мучеників. Елі булачкі. Карагодаў у нас не вадзілі.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

Гулялі, качаліся на качэлях. Гулялі ў палкі (сучасны “гарадкі”) і пеклі сорак булак.

Бабам сорак булак з’есці,
Дзеўкам сорак дошчак ізламіць,
А хлопцам сорак раллёў разбіць.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Аляксандры Яўхімаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Вясну гукалі на русальнай нядзеле. Тады ўжо выхадзілі на высокае месца ля вады і палілі вогнішча. Запалім, а тады ўжо гуляем, песні пяём, на арэлях катаемся. А шчэ пяклі пячэнікі ў выглядзе птушачак. Тады ужо адных з’ядалі, а другіх крышылі ды ў паветра падкідвалі. Гэта значыць, каб птушачкі скарэй прыляцелі ды вясну з сабою прынеслі.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Чаго вясна ад нас пайшла за крутыя горы, 2р.
Чаго дзеўка замуж пайшла за чорныя бровы, 2р.

Мае бровы сакаловы, прапала я з вамі. 2р.
Вой, як выйду за вароты, то ўсе за варатамі. 2р.
Як палягуць ворагі спаць, то пайшлі гуляці. 2р.

* * *

Вецер вее, дай, вецер все, павявае,
Маці да дому дочку гукае, 2р.
Да й на вячоркі не пускае.
Пусці мяне, маці, 2р.
Да й ў сад пагуляці, 2р.
Да ў сад у садочак 2р.
Распусціць галасочак.
Да й няхай жа той пачуе, 2р.
Хто са мной начуе,
Хай той, той зазнае, 2р.
Хто са мною гуляе. 2р.

* * *

І сюды гара, і туды гара,
Паміж тымі крутымі гарамі
Схадзіла зара.
То ж не за гарамі дзяўчына мая
Бедная была, у пана служыла,
Замуж не пайшла.
Дзяўчына мая, чаго ты адна?
Расцвіла, расцвіла красная каліна,
На пожні цвіла.
Дзяўчына мая, садзісь на каня,
Сядам мы, сядам,
Сядам да паедам да майго двара,
Сядам мы, сядам,
Сядам да праедам да майго двара.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Марыі Яўхімаўны, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Рукoвіч В.***

У нас у пачатку марта страчалі вясну. У кождай хаце пеклі птушачкі з цеста. Гэтыя птушачкі былі ўсегда румяныя, пышныя. Іх атдавалі дзецям. А дзеці ўжо ў самую раніцу былі па ўсёй дзярэўне і звалі вясну, пелі песні. Патом яны сабіраліся дзе-небудзь на полі і елі сваіх птушак. А галаву неслі дадому і маці сваім яе атдавалі. Тады пелі так:

Благаславі, маці,
Вясну зваці
На цёплае лета,

На добрае жыта.

Звычайна ў поўдзень моладзь збіралася гуртам і ішла за ваколіцу, на ўзвышак, спяваць. Высокае месца выбіралася таму, што яно першае вызвалялася з-пад снегу, падсыхала, адсюль было далёка відаць, а песні-гуканні разносіліся аж да суседніх вёсак.

Ой, выйдзем на горку
Ды паклічам Бога.
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу.

Хлопцы ў гэты час збіралі ўсякую старыну з усякае вёскі: лапці-істопкі, мяллё, паламаныя калёсы, гнілыя бароны, дзеркачы – зносілі іх у адно месца, распальвалі вогнішча. Хлопцы ачышчалі зямлю, а дзяўчаты поўнілі яе песнямі-гуканнямі.

Зіма з летам сустракаецца,
Пра здаровейка пытаецца:
– Ой, чалом, чалом, да цёплае лецечка,
Ой, здарова была, да халодная зімачка
Што цябе, лецейка, узвенчаюць,
Мяне, зімачку, праклінаюць,
Бо ты, зімачка, халодная,
Лугі, балоты памарозіла.
Ой, я, лецечка, да вясёлае
Лугі, горы ізмачыла,
Лугі, горы ўзвесяліла.
Ой, там хлопчыкі збіраюцца
Ды на мёд, віно складаюцца.
Ой, ты, Іваначка, кладзі больш за ўсіх,
Твая Томачка лепей за ўсіх.

Адмыканне вясны і замыканне зімы можна было пачынаць з дазволу старэйшых, найбольш паважаных людзей вёскі.

Благаславіце, старыя людзі,
Ай, вясну-красну загукаць,
Замыкаць жа лютую зіму ж,
Замыкаць, замыкаці
Да вясну-красну – на вулачку, на вулачку ж.
Лютую зіму – у каморачку,
Благаславіце, старыя дзяды,
Ой, вясну-красну пагукаці,
Пагукаці,

Цёплага лета дажыдаці,
Дажыдаці.
Цёплае лета на вуліцы,
На вуліцы.
Халодная зіма ў каморачцы,
У каморачцы.
А зірну, гляжу на вуліцы,
На вуліцы.
Ці ўсе вулачкі падмецены,
Падмецены.
Ці ўсе дзевачкі павенчаны,
Павенчаны.
Адна й вулачка не мецена,
Не мецена.
Адна дзевачка не венчана,
Не венчана.
Благаславі, маці,
Вясну гукаці.
Цёпла лета дажыдаці,
Цёплае лета ў хатачку,
Халодная зіма ў палазочку,

У нас пелі розныя песні, да Бога звярталіся, а як жа.

Благаславі, Божа,
Прачыстая маці
Вясну загукаці,
Зіму замыкаці,
Лета ў карыце,
Зіма ў вазочку.
. . . . . . . . . . . .
Благаславі, Божа,
Вясну гукаць,
Зіму праважаць,
Лета дажываць,
Выляці, сізая птушка,
Вынь залатыя ключы,
Замкні халодную зіманьку,
Адамкні цёплае лецечка.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Анікейчык Надзеі Аляксандраўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч К., Жаранковай В.***

Гукалі вясну адразу пасля Пасхі. Дзяўчаты і хлопцы па вечарах збіраліся на ўзгорках і песнямі заклікалі вясну. Потым выбіраюць гуртам з

дзяўчат Вясну. Ёю становіцца дзяўчына, якая ўмее спяваць веснавыя песні і самая прыгожая. Дзяўчыну ўпрыгожвалі вянком з кветак і зёлак.

Некаторыя дзяўчаты ўжо ў другой палове дня пачыналі гукаць вясну. Яны выходзілі да гумнаў, узбіраліся на дахі або сядзелі ў сябе на прызбе і спявалі песні:

Ой, вясна-красна,
Што нам прынесла?
Дзевачкам – красу,
А хлопцам – каросту,
Штоб яны не гулялі,
Да па росту бралі.
Ні вяліку, ні малу,
Як дубову кару.
Ой, вясна-красна,
Што нам прынесла?
Маладзіцам – кросны ткаць,
А дзевачкам – палотны бяліць.
Старым да маладым –
На прызбе сядзець,
А дужым мужчынам –
Поле араць.

* * *

Ой, вясна, вясна, вясняначка,
Дзе твая дачка Мар'яначка?
Мая дачка Мар'яначка
Сядзіць у садочку, шые сарочку,
Шые сарочку ільняную
Свайму міламу каханаму.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Маладзёж раней у дзень вясны яе гукала. Танцавалі, спявалі, гульні былі такія.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пілiпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

У пачатку марта ў нас страчалі вясну. У кожнай хаце пеклі птушачкі з цеста. Гэтыя птушачкі былі ўсегда пышныя, румяныя, красівыя. Іх атдавалі дзецям. А дзеці ўжо ў самую раніцу бегалі па ўсей дзярэўне, усіх будзілі, вясну звалі, песні пелі. Патом усе дзеці сабіраліс дзе-небудзь на полі, на

халму і елі свае птушачкі. Елі іх толькі да галавы. А галаву прыносілі сваім маткам дадому. І пелі яны так:

Блаславі, маці,
Вясну зваці.
На цёплае лета,
На добрае жыта.

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Сацуры Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткай Фяськовай Т.*

**Соракі**

На Сорaкі нада было сорак аладачак з'есці, раньшэ гулялі ў круглякі, гэта ўсегда было, нада было збіць сорак круглякоў, сорак чарак гарэлкі выпіць, сорак бліноў з'есці і сорак досак ізламаць дзеўкам, штоб замуж пайсці скора.

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),*
*Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,*
*Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)*

На Соракі гулялі ў скокалку. Кідалі сорак палачак чэраз крышу ці кідалі камушкаў. Ета, кажуць, будзеш браць яйца, вот, перапялічкі ці якой пцічкі.

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н.,*
*Новак В.С., Касцюковай М.*

На Соракі казалі: "Бабе сорак пампушак з'есці, а мне кашалёў сплесці ілі сорак чарак выпіць".

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,*
*Краўчанка Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.*
*(перасяленцы з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*Новак В.С., Касцюковай М.*

**Вербная нядзеля**

Гэты абрад адбываецца за нядзелю да Вялікадня. У нядзелю людзі ідуць у царкву свяціць вярбу. З вярбы робяць букет, упрыгожваюць яго каляровымі лентамі, кветкамі і ідуць свяціць. Пасля свячэння вярбу нясуць дахаты. Гэтымі галінкамі асвечанай у царкве вярбы дакраналіся да родных, знаёмых. Дзецям адрасаваўся такі "вербахлёст":

Не я б'ю, вярба б'е,

Будзьце здаровы, як вярба,
А багаты, як зямля,
І чыстыя, як вада.

Асвечанай вярбой хлясталі жывёлу, каб яна была здаровай. Асвечаную вярбу ложаць таксама за партрэты памёршых блізкіх.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Гусак Вольгі Мікалаеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шамятковай Л.***

Вербу свяцілі. Вербнае васкресенье считалось святом, нічога не рабілі. Што свяцілася, насілі ў сарай, каб жывёла вадзілася.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***ураджэнкі в. Чэхі***

**Вялікдзень**

Фарбавалі яйкі розных цвятоў, але самае галоўнае было пафарбаваць цыбуляй, каб яна радзіла і была такой жа круглай, як яйкі.

На втары дзень хадзілі хрыстасавалі родныя і зусім незнаёмыя людзі (іх звалі валачобнікамі). У гэты ж дзень гулялі ў біткі. Хрыстасаваліся са словамі:

– Хрыстос васкрэс.

– Ва ісціну васкрэс.

Песен у гэты дзень не пелі.

***Запісана ў в. Забалоцце (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Ну, як гулялі, паску абязацельна пеклі, красілі яйкі, у хаце ўжэ добра прыбіралі. Назаўтра ўжэ гулялі. Хадзілі групкамі адзін да аднаго, паздраўлялі, цалаваліся ўжэ з усімі. Гулялі ўжэ з етымі яйкамі на ўбіткі. Той, чыё яйка пабілася, аддае яго другому. У еты дзень усе хадзілі на могілкі, яечка неслі з сабой туды.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васісьевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Бялілі хаты, убіралі всё вездзе.

В чісты чацьвер все мыліся да ўсходу, штоб былі чістые, красівые, не балелі. Воду ў цабэрке вынасілі на двор. Вылівалі не ў агарод, а ў тое месца, дзе не хадзілі.

А ў самую красную суботу палілі кастры, усё смецце палілі, каб з мусарам усё дрэннае пайшло. Булкі мясілі, яйкі красілі.

Пол быў вымыты, чысценькі. Кідалі хвойныя ветачкі, што б пахла вкусно. А утрам раненько на целегах ехалі, шлі і гаварілі: “Хрістос васкрес”. Всеночная была. Брат пріезжал із церкві, мама лажіла красные яйца в воду, і нужно было всем умыцца.

Бегалі дзеці, сядзелі мужыкі і ў біткі гулялі. У госці все хадзілі.

На втарой дзень хросная пріносіла канфеты, яйцы, частавала дзяцей.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

На гэта свята нясуць пасху, яйкі, сала, хто што, ідуць свяціць у царкву. Яйкі красілі розных цвятоў. Не красілі іх толькі тады, калі ў гэтым годзе нехта памёр у сям'і. Зраніцы разгаўляліся. І калі ўжо паснедаем, ідзём на могілкі, ідзём хрыстосавацца з памерлымі, а ўжо ўвечары родныя прыходзяць ці з раніцы прыходзяць цёшча з зяцем. На другі дзень гуляюць у біткі. Валачобнікі – гэта ўсе, хто прыходзяць хрыстосавацца, яны не пяюць, але іх адорвалі, а баба, якая пры хрышчэнні бабіла, ужо сама несла гэта валачобнае.

***Запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Краўчанка Ксеніі Паўлаўны, 1936 г.н.***
***(нарадзілася на Украіне),***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Перад Вялікднём, у красную суботу, красяцца яйкі. Звычайна красілі ў чырвоны колер. Перад гэтым гаспадыня брала шалуху з цыбулі і настайвала, а тады ў тым настоі красіла яйкі. Можна яйкі красіць і ў зялёны колер.

Пасху выпякалі таксама ў “красную суботу”. Перад гэтым гаспадыня замешвала дражджавое цеста. Зверху на Пасху з цеста клалі крыжык. На наступны дзень пасху і вялікоднае яйка везлі ў цэркву. Там іх свяцілі і разам са свяцонай вадой прывозілі дадому. Свяцоную ваду налівалі ў глыбокую тарэлку, туды клалі яйка, і ўсе члены сям'і павінны былі ўмыцца ў гэтай вадзе, каб быць здаровымі, дужымі і прыгожымі.

Гулялі з яйкамі ў біткі. Той, хто перамагаў, забіраў сабе яйка.

Шалуху з яек сыпалі на агарод, каб быў добры ўраджай. На Вялікдзень, на другі і трэці дзень, хадзілі валачобнікі. У іх склад уваходзілі хросны бацька і хросная маці.

Яны разносілі сваім хрэснікам цукеркі і пасхальныя яйкі. Калі заходзілі ў хату, то казалі: “Хрыстос уваскрэс”, а гаспадары адказвалі: “Ва ісціну ўваскрэс”. Раней так здароваліся да Радуніцы, а зараз не.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцэвіч В.***

На гэты празнік Пасху хадзілі ў царкву, на ўсю ноч, а назаўтра ўжо разгаўляліся. Гаварылі друг другу: “Хрыстос Васкрэс”, “Ваісціну Васкрэс”, – і цалаваліся.

К гэтаму празніку гатовіліся. Пяклі пасхі (булкі). Еслі ў сям’і было чатыры душы, то кажды выбіраў сабе пасху. Калі іх замесілі і ставілі, а пасха апала – значыць, той, чыя пасха апала, забалея.

Яйкі фарбавалі ў красны цвет. Бралі цыбульную шалуху, залівалі вадой, а потым, як вада закіпіць, кідалі яйкі. Калі ішлі ў цэркву, бралі з сабой свяціць пасху і яйкі, соль. Потым на следуюшчы дзень, калі разгаўлялісь, елі пасху свяшчону, яйца і соль. Таксама лічылі, што гэтыя свяшчоныя прадукты маглі вылечыць або прыдаць сілу хвораму. Яйка давалі яшчэ і курам, хлеб скаціне і т.д., гэта лічылася, што балець не будзе худоба дамашняя.

Хадзілі на могілкі, насілі пасхі кусочак, яйка. Яйка каталі на магіле. У нядзелю гулялі ў біткі яйкамі. Хто наб’е, той забірае сабе яйка. Забірае той, у каго яйцо цэлае. У нядзелю прыходзілі дзеці хрыстасаваць, гаварылі: “Хрыстос васкрэс”, ответ: “Ва ісціну Васкрэс”, а песні не спявалі.

Дарослыя хадзілі мала, прыходзілі ўвечары. Таксама, як і дзеці, прыветствувалі хазяевоў. Потым хазяйка дома садзіла гасцей за стол, угашчала. Ставілі на стол пасху, яйкі, мяса і г.д. За сталом гаварылі пра сяўбу, бо вясна была парой сеянай, гаварылі пра ўражай. Канешна, спявалі і песні:

Ідуць, гудуць валачобнікі,
Віном, віном зялёным!
Спяваючы, гукаючы,
Слаўнага сяла пытаюцца,
Вялікага двара Гаўрылава.
Ці ў даму-даму, пане гаспадару?
Хоць і ў даму – не акажацца,
Сядзіць на куце – абуваецца,
Надзяе боты казловыя,
Кладзе шапку бабровую,
Надзяе шубу мядзвежую,
Сядлае каня варанога,
Едзе ў поле жыта глядзець.
Спатыкае яго Юр’я ды Мікола:
– Не едзь, пане гаспадару,
Тваё жыта агледжана,
Пры дарозе ўдалося,
За гарою ў трубы павілося,
А ў даліне жнейкі жалі.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

На Вялікдзень у першы дзень усе сядзелі дома, а назаўтра ўжо гатовілі ўсе мы, а маладыя гулялі, гушкаліся на арэлях. У панядзелак хадзілі на могілкі да сваіх памершых. Здароваліся з імі і расказвалі ім аб сваім жыцці.

Казалі, што жыды злавалі Ісуса Хрыста і шыбалі ў яго каменнем і ад яго краснае яйцо адбівалася назад, таму і красілі ў красны колер яйкі. Было і такое. У чысты чацвер Маці Божая палажыла рыбку на талерку з адным вочкам. І як рыбка страпянецца, то Хрыстос ачнецца. Варана рыбка страпянулася – Хрыстос ачнуўся.

На Вялікдзень маладыя гулялі з яйкамі ў біткі, ды ёй старыя таксама. А як на могілкі ішлі, яйкі сваім родным клалі на могілкі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

**На Пасху**

Ідзем, пойдзем ў слаўны дом,
Хрыстос-сын Божы, Хрыстос ўваскрос!
Спяваем песню сяму-таму,
Пану-гаспадару, слаўнаму мужу,
І з жаною маладою.
Пане гаспадару, ўстань рана, мыйся бела,
Сядзь пад вакном на ўсход сонца,
Глянь на двор, што дзеецца, лялеецца.
Ды на дварэ шацёр стаіць навюсенькі,
А ў тым шатры прыстол стаіць,
Ля прыстолу крэсла стаіць,
А ў тым крэслі сам Бог сядзіць.
Каля Бога ўсе святыя рухаюцца,
Катораму святому ўпярод ступіць,
Ясен-красен ўпярод пайшоў,
Пасля таго святы Каземір
Дровы сякець і ў клад кладзець,
Святое Благавешчанне жытца рушыць,
Хоць пад сняжком, з божым душком.
Святая Вербніца – вярбу ломюць,
У касцёл нясуць, пасвянцаюць,
Чысты чацвер – ачышчаюць,
Святы Вялікдзень – разгуляюцца,
З чырвоным яйкам, з белым сырам, з малым сынам.
Святая праводня, дай жа Божа, мае дзеткі,
Гэта свята праваджаці і другога дачакаці!
Святая Радаўніца-садоўніца.
Сады садзюць, паліваюць,
Святы Юры-ключнік божы,
Асядлаў каня варанога, а сядзельца залатое,

І ўзяў ключы залатыя, паехаў у поле,
Адамкнуў зямлю, пусціў расу мядовую,
Расу мядовую, а травіцу шаўковую.
Святы Мікола – з сяўбой ў поле,
Светы Барыс – збожжа павыш,
Святы Шосцік – колас точыць, выплываць хочыць,
Святая Тройца – у лес ідуць,
Май ламаюць, май ўстаўляюць,
Святы дзевятнік – на лепшых ходзіць,
Зелень ірвець веткі віць,
Светы дзесятнік – у жыце пятка,
Светы Іван – і вам, і нам,
Светы Пятро – у жыце ядро,
Светы Ілля – стара жняя,
Што раз махнець, снапок нажнець,
Што снапочак, то бабачка, што бабачка, то копачка.
Света Прачыста – у полі ўрачыста,
Светы Змітры – за ўсіх хітры,
Піва варыць, пана паіць,
Сыноў жэніць, дачок выдаваць, пасаг даваць.
А сынку – па конечку, а дачушцы – па кароўцы.
Святы Пакроў – з поля дамоў,
Зямлю лёдам пакрывае,
Пчолку – мёдам, дзеўку – вянком,
Бабу – чапцом,
Пане гаспадару, масці кладку, заві ў хатку.
Гэты госці не часта ходзяць.
Мала просюць – раз ў гадок.
Пачынальніку – чорны злоты, ды Божы.
А маім браткам – хоць па дзесятку.
Хрыстос, сыне Божы, Хрыстос ўваскрос!

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

На Вялікдзень пяклі пасху. Яе ўчынялі на дражжах, а як падойдзе – мясілі. А як ставілі ў печ – дык пасху благаслаўлялі. Дзверы ўсе зачынялі, вокны, каб пасха не збегла. Хазяйка выганяла з хаты ўсіх, каб шуму не было, бо тады пасха ападзе. Калі пасха спячэцца добра, падымецца, то будзе ў сям’і ўсё добра, а калі пасха не падымаецца ці скарынка патрэскаецца, то што-небудзь здарыцца дрэннае. З пасхай хадзілі па суседзях, частаваліся.

Адзін другому казалі: “Хрыстос васкрэс!” Адказвалі: “Сапраўды васкрэс!”

Валачобныя – людзі добрыя,

Валачыліся, памачыліся.
Хрыстос васкрэс, сам Гасподзь!
Пачынальніку – чырвоны залаты.
Механошу – хоць тры грошы,
А пяўцам – канец пірага.

Усе жадалі шчасця, здароўя, хлеба і ўсяго самага найлепшага кожнай хаце.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Новікавай І., Навуменка Н., Смірновай А. (2003 г.)***

Ета ўжэ Паска называецца. Валачобнікі хадзілі хрыставаць. На первы дзень не хадзілі, а на другі дзень. Ета ўжэ Хрыста на Паску ўбілі. Людзі збіраліся з усіх сёл у цэркву, паску пяклі ў чэсць радасці Ісуса Хрыста, што ён уваскрэс. Свяціў бацюшка ету паску, і ўжэ прыходзілі з цэрквы дадому і раненька снедалі. Ужэ нічога не елі, толькі ету свечану паску, сала свечана, яечкі красілі і етае снедалі свечанае. Ну і ўжэ ў цэркву зранння не йшлі, толькі на вячэрнюю ў чатыры гадзіны.

А ўжэ назаўтра, на другі дзень, ужэ дзеткі і малыя, і большанькія заходзілі – ета ўжэ называлася хрыставаць. Ужэ войдуць у хату і кажуць: “Хрыстос васкрэс!” І так тры разы. Дак ужэ хазяйка ім дае яечкі. Песень ужэ не пелі, толькі “Хрыстос васкрэс!” казалі. І ўжэ падарыць ета хазяйка. У кожну хату заходзілі к сваім родзічам, дзеткі тыя ішлі к сваёй хроснай маці і к хроснаму бацьку, к бабе, к цётцы сваёй. Хазяйка гаварыла: “Спасіба, дзеткі, што прыйшлі к нам, пахрыставалі, слава Богу, што Хрыстос васкрэс.” Хрыставаць узрослыя не хадзілі – не паложана ўзрослым.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышчы),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001г.)***

**Вялікдзень**

Раньшэ не елі скаромнага, пасціліся. Рыба, алей. А ўжо к Пасцы гатовілі і парасёнка, і булкі, яічак, і ўсяго-ўсяго было. Тады ўжо ідуць у цэркаў, пасвецяць, і благаслаўляецца ўся сям’я.

Усе ігралі ў біткі. Хто ў сіні, хто ў красны, хто ў розавенькі красіў яйкі. Весела було, гуляліся, храстасаваліся. Пелі песні:

Над сярэбранай ракой,
Над жоўтым пясочкам,
Там младзенец маладой,
Ён іскаў слядочак.
Нету следу нікакога,
Следу не заметна,
Толькі слышна ўдалі

Да вянца нясецца:
– Здраствуй, здравствуй, мілы зяць,
Пажалуста, да хаты.
Ён атвячае:
– А я ў хату не пайду,
Пайду ў святліцу,
Разбужу я крэпкі сон
Мілай ўдавіцы.
Правай ручкай абняла,
Да й пацалавала.

*Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на*
*ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н.*
*(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),*
*студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,*
*Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)*

**Вялікдзень**

Атмячалі, ну, як абычно. Это ўжо самы – самы таржэственны такі празнік. Стараліся вечарам паліць печку і красілі яічка ў любы цвет, но в аснавном красныя былі. Красяць яічка, пячоцца пасха. Ідуць маладыя ў цэркаў вечарам на ўсенашную. А ў 12 часоў ужэ бацюшка аб'яўляе: "Хрыстос васкрэс!", і ўсе радасна атвячаюць: "Ва існіну васкрэс!" Тады блізкія цалуюцца, паздраўляюць друг друга. А ў пост скаромнага не елі, а прыйдуць у цэркаў, разгаўляюцца. Тады ўжо асобенна мужчыны, да і жанчыны, гуляюць у біткі. У каго крэпкае яічка – панабіваюць сабе яек. А прыйдуць дадому, ужэ смяюцца, радуюцца і некаторыя мужчыны панімалі дажэ стук яічак. Іншы вубірает гэта яічка і только ў біткі гуляе. Песні спявалі царкоўныя:

Яко ісчезае дым от огня,
Тако ісчезнуць грэшнікі от ліца божьего.

Пелі і народныя песні:

На крылечку я стаяла,
Дождж ык брызгаў на меня,
Я ўсім падружкам гаварыла,
Не влюбляйцесь так, как я.
Я ўсім падружкам гаварыла:
– Не влюбляйцесь так, как я.
Парней красівых не любіце,
Ані ізменшчыкі всегда.
Парней красівых не любіце,
Ані ізменшчыкі всегда.
Парень палюбіць, патом бросіць,

А ты астанешся адна.
Куда мне, дзевачкі, дзявацца?
Куда мне скрыць свае глаза?
К чужым страмлюся паказацца,
Радныя гоняць са двара.
Пайду я ў лес і заблужуся,
Пускай разышчут там меня.
Пайду я в море ўтаплюся,
Пускай знясёт меня вална.
Прыхаджу я к сінему мору,
Скалыхнулася вална,
Платочкам беленькім махнула,
На дно марское жыць пайшла.
Прашчайце, кусцікі-бярозкі,
Прашчай, атцоўскі дом радной,
Прашчайце, дзевушкі-падружкі,
І ты, ізменшчык мілы мой.
Я знаю, ты другую любіш,
Таку нясчасную, як я.
Я знаю, ты яе пагубіш,
Як пагубіў, дурак, меня.

Спявалі яшчэ проста такія песні, як «Галя»:

Ішоў хлопец дарогаю,
Сустрэў дзеўку, звацць Галяй.
– Пастой дзеўка, пастой, Галя,
Што ж я табе сказаць магу,
Штось я табе сказаць маю?
Сем загадак загадаю,
Адгадаеш – мая будзеш,
Не адгадаеш – дура будзеш.
Што расце без кораня?
А што бяжыць без повада?
А што гарыць без полымя?
А што в'ецца кругом дрэўца?
І што гарыць каля сэрца?
І што белы - не бялёны?
І што чорны - не чарнёны?
Дзеўка стала, падумала,
Усе загадкі адгадала:
– Камень расце без кораня,
Вада бяжыць без повада,
Сонца гарыць без полымя,
А хмель в'ецца кругом дрэўца,

Любоў гарыць каля сэрца,
Лебедзь белы – не бялёны,
Воран чорны – не чарнёны.
Дзяўчынка, люблю цябе,
Не еш хлеба, вазьму цябе,
Не еш хлеба, не пі вады,
Вазьму цябе ў 3 гады.
Галя стала, падумала,
І да хлопца адказала:
– Эх, ты парэнь, парэнёчку,
Дурной у цябе разумочку,
Еслі хочаш мяне браці,
Няхай ня есць твая маці,
Разбі камень галавою,
Тады буду жыць з табою.

***Запісана ў в.Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драко Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,***
***Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

Пасха, ну дык правілі так Пасху: я ж кажу, сабіраліся ўсе: брат, кум, сват, саседзі. Выходзілі на ўліцу. Яечкі варылі – біткі біць. Значыць, маё пабіла вашае, дык я бяру. Дык тожа смяяліся, адзін выйграе п'яць, а другі праіграе. У цвет красілі разны, у каго які быў. Хто красіў цыбулей, скарлупою. А хто красіў краскаю разнаю – красненькаю, галубенькаю. І ўсё.

На могілкі хадзілі ў гэты дзень. Яйкі бралі, кавалак пасхі бралі, віно бралі ці бутылку вады. Там адні ці разам з суседзямі снедалі, памінալі. Хто маліўся, хто проста так глядзеў. О, так і було. Калі хто ў гэты год у сям'і памер, то тады на Пасху яйкі не красілі, а проста так варылі.

На кладзьбішчы пакідалі пакойніку свячонае яйцо, хто м'яса, хто што. А шкарлупку таксама там пакідалі, расцярушвалі па магілцы.

На Пасху па дамах хадзілі дзеці, спявалі. Іх частавалі. Абавязкова было даць яйка пасвяшчонае, ну і хто што даваў, што-небудзь сладкае: канфеты, пячэнне. Але хадзілі кучкаю, у асноўным блізкія, радня, суседзі, два-тры. А як няма, дык і адзін прыходзіў.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Да Пасхі то ўвесь пост быў. Гэта быў самы доўгі пост. А тады ўжо набяром каўбас, пасхі, што самі пяклі, яек чырвоных – усяго-ўсяго – ды едзем свяціць у цэркву на паўсюночную. Тады ўжо тры дні гулялі. Замест "здрасце" казалі: "Хрыстос уваскрэс", – а той, каму гаварылі, адказваў: "Ва ісціну ўваскрэс". І гэтак казалі і адказвалі тройчы.

У біткі гулялі яйкамі. На могілкі не хадзілі, толькі на Радаўніцу. А ўжэ тады на Радаўніцу тожэ яек, пасхі, мяса набяром ды ідом.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Падрыхтоўка да Вялікадня адбывалася на працягу перадвялікоднага тыдня і заканчвалася ў вялікую суботу прыгатаваннем святочнай ежы, якую неслі ў царкву, дзе гэтая ежа ў час службы асвячалася. Пасля чаго кожны гаспадар імкнуўся хутчэй з ёй дадому. Існавала павер'е, што хто першы прыбяжыць з пасхаю дадому, у таго будзе лепшы ўраджай. Або такое павер'е, што хлеб будзе расці так хутка, як бяжыць гаспадар.

Свянцонай у царкве ежы надавалася незвычайная ўласцівасць. Скарынкі пасхі ніколі не выкідалі, а сушылі, таўклі і клалі ў гарэлку, каб засцерагала ад удзеяння ведзьмакоў. Косці ад мясных святочных страў давалі сабакам, каб засцярэгчы іх ад шаленства.

Яйкі фарбавалі ў чырвоны колер. Вельмі распаўсюджана біццё вялікодных яек. Пераможцам лічыцца той, у каго аказваецца больш моцнае яйка (“мацак”). Пераможца робіцца ўладальнікам большай колькасці выбітых яек.

Ва ўсе дні гэтага свята людзі вітаюць друг друга брацкімі пацалункамі са словамі “Хрыстос Уваскрос!” І адказвалі словамі: “Сапраўды Уваскрос!” Хрыстосуюцца і абменьваюцца фарбаванымі яйкамі.

На Пасху вадзілі карагоды, спяваючы:

Ой, выйду я ды на вулачку
Да й выберу сабе дзевачку.
Эй, малодзенькі хлопчычак
Карагод праўёў.

Пры гэтым хлопец бярэ з карагода дзяўчыну, праводзіць яе, зноў вяртае ў карагод, кланяецца, потым выбірае другую і ідзе з ёй, а пасля паўтараецца.

Яшчэ адна цікавая традыцыя, звязаная з Вялікаднём – “валачобніцтва”. Гэта не тыя гурты, што хадзілі ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты і спявалі валачобныя песні. Валачобнікамі таксама называюць тых бацькоў, у якіх ёсць “хрышчаняты”. Вось гэтыя маладыя бацькі разам з дзецьмі, а часам і без іх на другі дзень Вялікадня ідуць да хроснай маці, якая дае ім падарунак для “хрышчанят” – “валачобнае” (звычайнае яйка).

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

К Пасцы, от як Чысты чацвер, да ставілі колісь дзяжу, да мулісь. Ставілі яе на столбік на сонца, каб вада грэлась.

Булкі пеклі, мяса пеклі, усяго було. На ўсеночную ў цэркву ішлі. Тады ўжы свяцілі там яду, а ўранні пасвечаным снедалі. Яйца красілі лушчайкамі з цыбулі. Назаўтра дзеці малыя ў панядзелак ужэ ідуць шчадраваць. Яечкі ім давалі, грошы хто даваў, канхветы. А цяпер жа не ходзяць. Мужчыны ў біткі садзіліся да гулялі з яечкамі.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

У крашчоную суботу красілі яйца, булкі пяком. У васкрасенне ў цэркву ходзім.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.***
***(перасяленцы з в. Пагоннае),***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Прудніканай І.***

Перад Пасхай Вялікі пост. Пост працягваўся сем тыдняў. Пасцяць людзі, якія абракаюцца, пасцяць усе сем тыдняў. Некаторыя пасцяць два дні ў тыдзень: серада і пятніца. У сераду пасцяць таму, што Юра прадаў Хрыста, у пятніцу пасцяць таму, што Хрыстоса ў Чысты чацвер увечары забралі на муку.

Апошнюю нядзелю паста некаторыя старыкі чацвяргуюць, ета значыць чацвер, пятніцу і суботу не ядзяць да нядзелі, толькі п’юць ваду. Ета старыкі, якія абракаюцца за сваіх дзяцей.

У суботу красяць яйкі, таму што Хрыстос уваскрэс. Пякуць булкі, мяса, калбасу і паску, каб пасвяціць яе. Вечарам у суботу ідуць у царкву на ўсю ноч і ету ежу там свецяць. Пасля гадзіны ночы бацюшка аб’яўляе: “Хрыстос уваскрэс!” і пачынае службу аб Хрысце і потым свеціць паску.

У нядзелю раніцай ужо прыходзяць з царквы і пачынаюць есці: спачатку з свяцонага што-небудзь з’ядзяць, а потым усё астатнее. На першы дзень Пасхі хадзілі абязацельна на могілкі: нясуць свечаную паску, Богу маліліся.

Прыходзяць з цэрквы, наліваюць вады ў вядро, кідаюць туды яечка і ўжо потым дзед казаў: “Наце, муйцеся”. Усіх паднімаем, муемся. На Вялікдзень ходзяць валачобнікі, ходзяць хрыстуюць, даюць ім яечкі, піраг там. Якую паску свяцілі, дык яе абавязкова ўпрыгожвалі храстом.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Яйка красяць, булкі пякуць ета ў суботу. Мы гатовімся назаўтра да Пасхі. Усё прыгатаўляем, штоб назаўтра, на Пасху, нічога не рабіць, патаму што эта грэх вялікі. Нават бульбу не чысцілі, нельзя было. А трэба было

нарэзаць пасху ўжо ўвечары, накрыць рушніком, каб ужо ўсё стаяла. На ўсю ноч свет павінен гарэць у доме. Назаўтра ўстаём, хто ў цэркву паедзе, а хто не паедзе, але ўсё роўна ў кожнага на стале былі пасвяцоныя яйкі і булка. Яйцом красным нада ўмывацца. У місачку нальём вады і паложым туды яйка. Яйца красілі цыбуляю, шалупіннем. Назаўтра ўсе ўстаюць і ўмываюцца.

После абеда абязацельна гулялі ў біткі. Дзе чыё яйцо разаб'ецца, значыць ты прайграла, маё цэлае, значыць, яно маё і тую бітку аддаём табе. Краснае яйка лічыцца сімвалам пралітай крові Ісуса, і пагэтаму ў красны цвет красілі яйкі. Булка – сімвал сонца і цяпла, а мяска, як гаворaць, свінінка на стале, гэта каб зарадзіла ніўка, уражай быў харошы. Шкарлупенне з свяцонага яйка нідзе не дзявалі. Яго ў землю ў градах закопвалі, штоб харошы быў уражай і не пабіла яго градам.

Хадзілі валачобнікі. Назаўтра абязацельна хрэснікі нашы ходзяць і хрыстуюцца. Прыходзяць і гавораць: "Хрыстос васкрэс". А мы ўжо атвячаем: "Ва ісціну васкрэс". І абязацельна цалуюцца і хрэснікам даюць яйкі. Кажуць, валачобнае даюць.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

У Красную суботу ўчынялі цеста на булкі. Пака падыходзіла цеста, гатавалі розныя стравы, красілі яйцы ў красную фарбу. Вечарам ішлі ў царкву. Бралі з сабою яйца, соль, хлеб, хрэн, булкі. У царкве ўсё гэта свяцілі.

Была такая прыкмета, што калі чалавек прыходзіў дадому і ў яго не пагасла свечка, з якой ён хадзіў крэсны ход, то трэба было гэтай свечкай выпаліць крыжы над усімі дзвярамі ў хаце. Тады будзе ў гэтай хаце ўсё добра і зло выйдзе з яе.

На другі дзень раніцай грэлі ваду, лажылі туды яйкі свячоныя і ўмываліся гэтай вадой. У гэты дзень нельга было нічога варыць, таму елі ўсё тое, што прыгатавалі напярэдадні. Уперад трэба было з'есці свяцонага ўсяго патрошкі. На стале абавязкова павінны былі быць сыр, малако і смятана. Хадзілі к родным у госці. Калі заходзілі ў хату, трэба было тры разы сказаць: "Хрыстос васкрос!" А гаспадары павінны былі адказаць: "Ва ісціну васкрос!" Потым гаспадары запрашалі гасцей за стол, частавалі, гулялі ў біткі. Пасля абеду хадзілі на могілкі, насілі свяцоныя яйкі, хлеб, соль.

На трэці дзень хадзілі хрыставаць. Насілі падарункі, сярод іх абавязкова павінны былі быць свяцоныя яйкі.

***Запісана ў в. Стралічава Хойніцкага р-на***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

У Красную суботу красілі яйца, булкі пяком, а ўжо ў васкрысенье ў цэркву ходзім, свецім, а патом ужо сабіраемся ўсей сям'ёю і садзімся за стол і атпраўляем ужэ Паску з родственнікамі.

Насілі валачобнае, насілі абязацельна. Мы куплялі канхвет і валачобную булку там, яіц паложым і занясем хрэсьніку. Такога ета не бывае, што самі хадзілі дзеці, проста самі. Ета як мая абязанасць, я даўжна занесці і даць дзіцяці свайму. Это называлась валачобным.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.***
***(перасяленцы з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***Новак В.С., Касцюковай М.***

Я то не знаю, но я то ўжо чула тут: на Паску яічкі свяцілі, астаўлялі яйцо і ў первую баразну лажылі ета свечанае краснае яічка. На ўраджай ілі ад чаго.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С., Касцюковай М.***

Чысты чацвер

Гэта адзін дзень з перадвелікоднага тыдня. Ён звязаны са звычаем ачышчэння, амывання перад "вялікімі дзеламі".

Чысты чацвер яшчэ называецца страсная ноч. У гэтую ноч распіналі Ісуса Хрыста. Вучні яго палілі кастры і шукалі яго.

У царкве ідзе служба. Усю ноч паляць свечкі. Становяцца на калені дванаццаць разоў. Потым свечкі не тушаць, а калі яны не дагарэлі, то стараюцца данесці іх да хаты. Дымам абкурвалі дзверы, вокны. Кожны вугал крыжом абкурвалі для таго, каб засцярэгчы хату ад нячыстай сілы. Пасля гэтага сядаюць вячэраць. Гэтая вячэра называецца тайнай.

У пятніцу і суботу нельга нічога есці, арамя вады. Яе п'юць тры разы ў дзень па аднаму глытку. У нядзелю раніцай, калі пасвецяць паску, снедаюць спачатку, потым днём пасвечаным, а потым ядзяць усё, што ёсць.

Пасля снедання людзі хуценька бягуць на вуліцу. Ёсць вераванне, што хто раней выбяжыць пасля снедання на вуліцу, той хутчэй завершыць усялякія работы.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Гусак Вольгі Мікалаеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шамятковай Л. (1993 г.)***

Фарбавалі яйкі толькі ў чырвоны колер шалухой лука, каб яно аднацветнае было, крэпкае, сільнае.

Выпекалі паску. Рабілі на ёй крэст або пісалі "Хрыстос Васкрэс". Гулялі ў біткі. Снедаюць, а назаўтра ідуць хрыставаць, ішлі мужыкі. Качалі яйкі. Хрыставаць хадзілі к хросным, родственнікам, якія давалі яйца,

канфеты. Хросная маць далжна абязацельна перадаць хрэсніку яйка, булачку, канфеты.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А., Казека А., Кажамяка М. (2005 г.)***

На Пасху да вайны абавязкова свяцілі парасёнка. Калі не было ў хазяйстве, пакупалі, но абавязкова свяцілі жыры, каб у доме было шчасце, дзеткі здаровы.

***Запісана ў в. Храпкава***
***ад Анікеенка Кацярыны Мікалаеўны, 1943 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.***

Пасля Вербнай нядзелі пачынаецца Вялікдзень. У Чысты чацвер да сонца трэба было павымятаць у хаце, каб было чыста. Хаты бялілі, прыбіралі. Увечары тапілі бані і мыліся самі.

У пятніцу ў цэркві служба правілася, паднімалі плашчаніцу. У суботу пачыналі правіць пасхі. Пасху свяцілі толькі ноччу. Яйкі красілі шалухой цыбулі. У каго было парася, абязацельна павінен быў забіць і пасвяціць яго, каб было ўсяго на стале. У біткі гулялі мужыкі.

Дзеці бегалі ў шчодры к хроснай маці, хрыстосаваліся. І хросная давала красныя яйкі. Дзеці каталі яйкі па латках. Латкі дзелалі з кары ў відзе жэлаба. Каталі яйкі з гары. Еслі чыё яйцо ўдаралася яшчэ аб адно, то той, чыё яйцо, забіраў і яго. Калі прамазаў, то чакаеш сваёй очарадзі. На другі дзень хросныя неслі валачобнае: сладасці, яйкі, пасху. Хадзілі ў госці друг да друга.

Пасха длілась ад васкрасення да чацвярга. Наўскі Вялікдзень – канец Пасхі.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

**Радуніца**

На Радуніцу на кладбішча ходзяць, памінаюць памерлых. Бяруць яечкі крашаныя з сабой, гарэлку, булкі бяруць. Яечкі шалупінням з цыбулі красілі. Прыдуць на кладбішча, бацюшка памоліцца, пройдзя, каб магілкі пасвеціць, дай садзяцца людзі абедаць ля магілак сваіх.

І на Пасху на кладбішча хадзілі, яечкі на магілкі насілі.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Каральчук Любові Іосіфауны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

Гэты абрад на Радуніцу адзначаецца ў аўторак паслявелікоднага тыдня. Гэта абрад памінання памёрлых. Да гэтага дня рыхтуюцца загадзя. Перш чым

ідці на могілкі, яны прыбіралі могілкі, прыводзілі ў парадак. Звычайна на могілкі ішлі да поўдня, святочна апранутыя. Там рассджваліся каля разасланага абруса, на якім ставіліся стравы. Стравы былі розныя: пафарбаваныя яйкі, мяса, белы хлеб, гарэлка. На кажную магілу родзічаў клалі яйкі, лілі гарэлку, тым самым частавалі памёрлых.

У гэты дзень забаранялася сеяць, садзіць.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Гусак Вольгі Мікалаеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Шамятковай Л.***

**Юр'е**

Перад выганам жывёлы чыталі малітву:

А ну, кароўка, у чэраду,
Сам Гасподзь папераду,
Первая спыняе, паследняя падганяе,
Цябе да чарады прылучае.
Ад чарады не адлучайся,
К чарадзе прылучайся.
Мо ўстрэцім змяю з вялікімі вачыма –
Рожкамі пакалі, ножкамі патапчы,
Хвосцікам замяці,
Зверскага духа не дапусці.
Месячкам падперажыся,
А зорачкай замкніся,
Змейскага духу не дапусціся,
Штоб па тваёй шкуры не сядала
І малака, і крыві не півала. Амінь.

Бяруць свяцоную вярбу, якой выганяюць жывёлу на пашу, і хлеб з соллю. У той жа дзень угашчалі пастухоў.

***Запісана ў в. Забалацце (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Першы раз, калі карова ішла ў поле, мая мама ручнічок брала, у ручнічок хлеб заматывала, карову праважала. Хадзілі час, два, пака карова прыпасецца. Малітву чыталі. Мы хадзілі ў саседнюю веску Рудакоў, там Юр'е быў прастольны празднік. У вёсцы Высокае Ушэсце было прастольны празнік. А у нас, у Чахах Пакрова быў прастольным празднікам.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

Само свята і звязаныя з ім абрады адбываюцца ў полі каля статка. Пастухоў у полі ў гэты час заўсёды частавалі. Атрыманыя ад сялян дары (хлеб, сыр, масла, яйкі) пастухі складваюць разам і рыхтуюць на раскладзеным вогнішчы яечню. Затым старэйшы з пастухоў, “стаднік”, абкручвае гаршчок з яечняй і ставіць сабе на галаву. Меншы з пастухоў бярэ палаючую галаўню ў рукі, а другі пастушок – у правую руку соль. Калі статак ляжа, то пастухі тройчы яго абыходзяць. Пасля абходу статка кідаюць соль, галоўню ў поле, прыгаворваючы: “Соль жну ў вочы, галаўню жну ў зубы”.

Потым пастухі садзіліся абедаць. У гэты дзень абавязкова елі яечню. А калі пастухі прыганялі жывёлу ў вёску, то на вуліцах пачыналі танчыць. У гэты дзень аглядалі, як растуць азімыя. Святога Юр’я лічылі не толькі заступнікам хатніх і дзікіх жывёл і звяроў, але і ахоўцам палёў. Перад тым, як выгнаць жывёлу з хлява, гаспадар закапваў некалькі яек пад парог хлява. Рабілася гэта для таго, каб жывёла была гладкай, круглай і поўнай. Таксама гаспадар на падвор’і пад брамай замыкаў замок, каб засцярэгчы жывёлу ад нападу ваўкоў, замкнуць ім пашчу.

На Юр’я клалі агонь, хадзілі вакол яго і спявалі:

Свята Юрай агню наклаў
Да ўсіх дзевачак к агню сазваў.
Ай, выйду, выйду на вуліцу
Да й гляну, гляну ў чыста поле,
А ў чыстым полі агонь гарыць.
Не стой, Юр’я, над вадою,
Не круці, Юр’я, барадою,
Горка вада, да пад табою.
Ой, тае вады ні піць, ні варыць,
Толькі варагоў атравіць.
Дзевяць варагоў атравіла,
А дзясятага напаіла.

* * *

Ой, выйдзі, Грыцу, на вуліцу,
Вымі скрыпачку з-пад палою,
Вымі скрыпачку з-пад палою,
Зайграй дзевачкам пад вярбою,
Зайграй дзевачкам пад вярбою,
А малодачкам пад другою,
А малодачкам пад другою,
А парабочкам пад дубочкам.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Маладзёж на Юр'е ўсю ноч паліць агонь Адыходзілі куды-небудзь далёка ў поле, і там ужэ гуляюць, кастры паляць. Пастухі на Юр'е па расе кароў ганялі туды – адтуль, туды – адтуль. Засцілалі рушніка.

Калі ўганялі карову ў поле, білі яе вярбой. Ета ўсё рабілі для таго, каб карова давала малака болей.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

На Вербнае васкрасенье свецяць вярбу і яе ўжо храняць да Юр'я. Ёй выганяюць кароўку, бяруць яшчэ з сабою пасху свяцоную ці яшчэ што-небудзь свяцонае. Калі ўжо выгналі кароўку, то ўгашчалі пастухоў, давалі ім што ў торбу. Вярбічку гэту ставілі ў хлеў, а пасху вечарам клалі ў пойла кароўке.

***Запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Краўчанка Ксеніі Паўлаўны, 1936 г.н.***
***(нарадзілася на Украіне),***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Юр'я адзначаецца шостага мая. Лічылася, што Юраўская раса мае магічнае значэнне. Раніцай на той расе качаліся, каб быць прыгожымі і здаровымі. У гэты дзень першы раз выганялі кароў на поле. Сяляне давалі дарункі пастухам, якія на полі раскладвалі вогнішча і гатавалі яечню, з якой тройчы абыходзілі статак. Потым яечню елі.

Яшчэ да ўсходу сонца гаспадар адзяваў святочнае адзенне, звычайна тое, якое адзявалі на вяселле, і з пірагом у руках ішоў у поле. Там ён апускаў пірог у жыта. Калі яно было вышэй за пірог – будзе добры ўраджай, а калі жыта ніжэй за пірог – дрэнны.

Хлопцы і дзяўчаты рабілі плыты з дошчачак і пускалі іх на ваду. На тых плытах запальвалі салому. Плот плыў, а салома гарэла. Хлопцы і дзяўчаты ў гэты час спявалі песні, вадзілі карагоды, жартавалі: "Юр'ю, Юр'ю, я табе бараду вырву".

Юр'я, уставай рана,
Умыйся бела,
Да кладзі боты,
Надзявай сукны,
Ды сядлай каня,
Ды бяры ключы,
Ды едзь у поле,
Адкрывай зямлю,
Выпускай расу

На лён, на пшаніцу,
На ўсякую пашніцу.

* * *

Юр'е, добры вечар,
Юр'е, падай ключы,
Ключы зямлёвыя
Зямлю адмыкаці,
Расу выпушчаці.
Раса для каровак,
Трава для конікаў,
Лаза для козачак,
Дзягель для свіначак,
Мурог для авечак.

* * *

Юр'ева маці ля рэчкі хадзіла,
Каля рэчкі хадзіла, ключыкі насіла.
Ключыкі насіла, зямельку адмыкала.
Зямельку адмыкала, травіцу выпускала.
А вы, жонкі, уставайце раненька.
Уставайце раненька, ганіце каровак.
Ганіце каровак да на Юр'еву расу,
Ды на Юр'еву расу, ды на Божую красу.

У гэты дзень гаспадыні закопвалі пад парог дома і хлева яйкі, якія былі сімвалам здароўя скаціны.

Калі на Юр'я пойдзе снег, то лета будзе мокрае.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Валочка Лідзіі Рыгораўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Дзенісенка С. (1993 г.)***

Раней гулялі два Юрыя – 6 мая і 9 дзекабря.

Георгий был пакравіцель дамашняга ската. Пагэтаму на еты празнік пяклі печэнне ў відзе каня, каровы, авечак і г.д. Гэтых жывотных ён доўжан аберагці.

Раней на Юр'е бралі свянцовыя галінкі вярбы і ішлі ў поле. Яны (людзі) абыходзілі сваё поле, а дубчыкам праганялі злых духаў. Гэтым жа дубчыкам выганялі ў першы раз кароў на пашу. Пелі песню:

Ой, гаю, мой гаю,
Зялёненькі гаю, не любі чужых жонак,
Бо сваю маеш.
Бо чужая жонка, як асіначка горка,
А свая, хоць маленькая,

Як мёд салодзенькая.
Са сваёй пагаворыш – ума набярэшся,
А с чужой пагаворыш –
І тое забудзеш.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

На Юр’я клалі агонь, хадзілі вакол яго і спявалі:

Святы Юрай
Агню наклаў
Ды ўсіх дзевачак
К агню сазваў.
Ай, выйду, выйду на вуліцу,
Да й гляну, гляну ў чыста поле,
А ў чыстым полі агонь гарыць.

Яшчэ на Юр’я на вадзе рабілі плыты з дошчак, клалі на ніх салому і запальвалі яе. Плыт плыў а салома гарэла. У гэты час спявалі песню:

Юр’ю, Юр’ю,
Я табе бараду вырву.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Лук’яненка Серафімы Адамаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан Т. (1996 г.)***

Юр’я аб’язджаў зямлю, абуджаў яе, бо ён заступнік жывёл і звярэй. На гэты празнік нада, каб у кожнага чалавека была свячоная вярба. Яна адганяла нячыстую сілу, берагла ад хвароб. У гэты дзень хадзілі на поле паглядзець, як што расце. Потым у канцы сяла збіраліся людзі і пілі, елі, спявалі песні.

Юр’я, Юр’я па полі ходзіць
Да Бога просіць.
Урадзі нам жыта-пшаніцу,
Выпусці цёплую расу
І на жыта, і на пшаніцу.

Сустракалі пастухоў, частавалі іх. Астаткі яды кідалі ў неба, каб іх скаціна ўгору прыгала.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

**Карагодная песня**

Ідзе, ідзе карагод
Ідзе, ідзе карагод, карагод,
Усе дзевачкі напярод, напярод,
А хлопчыкі за намі,
Маргаючы вачамі.
Ото ж карагод,
Ото ж карагод,
Быў сын-ваявода,
Дзе карагод ходзіць,
Там жыта родзіць,
А дзе карагод не бывае,
Там жыта вылягае.
У нашага карагода,
Быў сын-ваявода.
Ідзе, ідзе карагод, карагод,
Усе дзевачкі напярод, напярод,
А хлопчыкі за намі,
Маргаючы вачамі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

На Юр'я худобу выганялі з двароў ды й білі яе вербай, пасвечанай у царкве. Перад тым, як выгнаць кароў на пашу, абходзілі поле. Бралі закуску, чацвярцінку, каробку і абходзяць цэлы дзень, аж да вечара. Ды й правяралі, ці ёсць завіткі на худобу.

Пад парог хлява яйкі клалі ды ніты, каб карова была здаровай і прыходзіла дадому. Спявалі песні:

Юр'я наша ў полі,
Ой, а на гарэ карыта,
Поўна вады наліта.
Ой, там голуб ваду піў,
А барын з дзеўкай гаварыў.
Не ідзі, дзеўка, за ўдаўца.
Бо ты ўдаўцу, дзеўка, не ўгодзіш.
А я ўдаўцу ўгаджу,
Пасцель белу пасцялю,
Ды і мяканька пасцялю.
А шупшынку пад спінку,
Каменьчыкаў у галаваньку.
А крапіўку пад ножкі.
А каменьчык муліцца,
А шупшынка колецца,

А крапіўка жарыцца,
А ўдавец дзеўцы жаліцца.

* * *

Юр'ева маці ўпроч пайшла,
Залатыя ключы панясла.
Юр'ева маці, вярніся,
Залатыя ключы знайшліся.
Адымкні зямліцу,
Выпусці расіцу
На зялёную травіцу,
На здаровую вадзіцу.

***Запісана ў в. Вялікі Бор
ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,
студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

**На Юр'я**

Юр'я, Юр'я,
Божа мой
Падай ключы
Зямлю адмыкаць,
Бычка напасаць.
На Юр'еву расу
Бычка папасу
– Бычок, трацячок,
Ці повен бычок?
– Яшчэ не повен
З левым не ровен.

***Запісана ў в. Вялікі Бор
ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,
студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Уставала я ранесенька, умывалася бялесенька, выганяла я кароўку ў зялёную дуброўку. На Юр'еўскую роску, на траўку, на скацерку-атаўку, у чыстае поле. У чыстым поле стаіць прэстол. На прэстоле сядзіць Святая Матка, Прэчыстая Багародзіца. Дзержыць у прыполі Ісуса Хрыста і накрывае чорнаю рызаю. Як Ісусу Хрысту з чорнай рызы не ўставаць, так блудніку-самаблудніку каля маёй кароўкі не бываць, з маёй кароўкі малачка не браць. Мая кароўка будзе ўросная, праросная і будзе добра малосная. Будзе па чысту полю пахаджваць і капытам траўку збіваць, і роску злізваці, і сваёй хазяйцы малачко збіраць. З дзевяці жылачак у чатыры цыцачкі. Смятана жоўценька, тлусценька, а тваражок гусценькі. Кароўка на пажытак, а малачко на прыбытак.

***Запісана ад перасяленак з в. Рудакоў Хойніцкага р-на
Дзенісенка Надзеі Якімаўны, 1913 г.н.,***

*Гацко Маланні Рыгораўны, 1909 г.н.,*
*студэнткай Дзенісенка С. (1993 г.)*

Пад варотніцу яйкі клалі і ніткі, каб карова прыходзіла дадому. Калісь абходзілі поле з кароўкаю цэлы дзень да вечара. Бралі закуску і чацвяртушку і абедаюць на поле з саседзямі. Правяралі поле, ці ёсць завіткі на жыце, былі завіткі на худобу. Звалі старца, і ён рваў завіткі і штось казаў, паўрывае і спаліць.

На Юр'я дзеўкі вадзілі карагоды, пелі песні:

Юр'я наша ў полі,
Ой, на гарэ карэта
Поўна вады наліта.
Ой, там голуб воду піў,
А барын з дзеўкай гаварыў.
Не ідзі, дзеўка, за ўдаўца,
Бо ты удаўцу не угодзіш,
А я ўдаўцу ўгаджу,
Пасцель белу пасцелю,
Ды і мякенька пасцелю,
А шупшынку пуд спінку,
Каменчыкаў у галоўку,
А крапіўку пуд ножку.
А каменьчык муліцца,
А шупшынка коліцца,
А крапіўка жарыцца,
А ўдавец дзеўцы жаліцца.

*Запісана ў в. Вялікі Бор*
*ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Харошка В.*

Ідуць к вадзе да запальваюць салому, да стаяць над вадою, да спяваюць:

Не стой Юр'я над вадою,
Да з чырвонаю барадою...

На Юр'я гоняць кароў на росу, каб дала малака.

Кароў раненька, да сонца шчэ, дак пераганялі цераз увесь пасеў, штоб не паўлягала.

*Запісана ў в. Глінішча*
*ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,*
*студэнткай Мажэйнікавай В.*

Было два Юр'я: адзін халодны – зімовы (9 снежня), другі галодны – веснавы (6 мая). Юрай Пабеданосец – быў такі чалавек, знатны па гісторыі. У

гонар яго і свята гэта. На Юрай скот выганялі зараней на расу, раненька на Юр'еву расу, каб скот быў упітаны, прадукцiўны. Казалі, што Юр'ева раса палезна для ската. Агурцы каторыя стараліся сеяць у гэты дзень.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драка Марыі Дзмітрыўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.)***

На Юр'е агурцы добра садзіць. Як выганялі карову, дык гналі вярбой пасвячонай, з Вербнай нядзелі катора. Свечку стрэчанскую ставілі за вароты (Стрэчанне 15 феўраля), каб карова не баялася ўроку.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Судзенка Ганны Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Ну, выганялі на Юр'е жывёлу эту. Праважалі са святым чым-небудзь ужэ, што на Пасху свецім. Усё эта бралі і карову выганялі з вярбою святою, з усім. Праганялі і з яйцамі, з усім этым праважалі.

***Запісана ў в. Малішаў (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Тагай Марыі Аляксандраўны, 1932 г.н.,***
***Літвінка Алы Уладзіміраўны, 1942 г.н.,***
***Літвінка Марыі Міхайлаўны, 1942 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

На Юр'я выганяюць скаціну. Як першы раз выганяюць, дык б'юць вярбою пасвячонай ды прагаворваюць:

Не я б'ю – вярба б'е.
Будзь здарова , як вада,
Будзь багата, як зямля.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Аляксандры Яўхімаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Есць два Юр'і. Адзін зімні, адзін па вясне. Казалі, адзін халодны, адзін галодны.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Юр'я – 6 мая. "Як на Стрэчанне ў аглоблі ўмяце, так да Юр'я ў траву ўганяюць". На Вербную нядзелю свецяць вербу, а потым голечкі ўтыкаюць у сарай. Калі трэба было першы раз выганяць карову ў поле, то гналі гэтай

голечкай, каб карова не баялася ўрокаў, не балела, добра давала малака, ішла да сваёй хаты.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

На Юр'е то хвасты падразалі каровам. Карову ў першы дзень выгану вербою б'еш. Бярэш яйцо, сала, хлеб – называецца займанка – і давалі пастуху ў сумку.

На Юр'е не работалі нікагда.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.***
***(перасяленцы з в. Пагоннае),***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

На Юр'я на веснавога дак мы збіраем галля на балотах, а хлопцы бяруць усі картоплінкі па карманам і дома прыгатаўляюць дубчыкі ў іх, такія маленькія дубчыкі. Патом крадуць у маці кудзелю, наматаюць на етыя дубчыкі, а мы спяём, зтаго гарыць добра гэта кудзеля, дык яны разматаюць, агнём падпаляць і ўверх кідаюць. Яна ўпадзе ў воду, зашыпіць, а мы спяём.

Ой, Купалле, Купалечка,
Цёмная ночка.
Ня вуспалася наша дзевачка,
Яна ня спала, шнуры шукала.

На Юр'я кладуць кастры на балоце хлопцы і дзевчата і к ім прысаедзіняюцца і старыя. Дзевчаты дражняць рабят, яны пяюць:

Не стой, Юр'я, над вадою,
Не трусі, Юрай, барадою.
Горкае вады пад табою,
Горкае вады не піць, не варыць
Толькі варагоў атравіць,
Дзевяць варагоў атравіла,
А дзесятага напаіла.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Калі выганяюць першы раз кароў, то іх абсыпаюць макам-відуком, штоб на карову не нападала ні ведзьма, ні ніякая нячыстая сіла. А то бывае і вымя набракне, дык абсыпалі макам-відуком. Калі карову праганялі, і палаценца бралі, і хлеб-соль, і відуком на дварэ абсыпалі кругом кароў. Перад

тым, як адправіць карову на пашу, карове давалі тры разы абыкнавенна кусок хлеба і свечаную соль.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Выганялі як ужо на Юр'я, хто хвасты каровам падразаў, хто, як знаю, так і рабіў.

Выганеш первы дзень і вярбою б'еш яе. Бярэш, там акраец хлеба, сала, яйцо. І ета шчыталася займанка пастуху, да. Прагоніш карову і аддаеш пастуху па первы дзень.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанка Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Як выганяеш карову, то трэба штоб я праводзіла з хлебам, і пастуху, на Пасху, напрымер, я даўжна яйца красныя даць, булку, м'ясо – это закон.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Ядчанка Марыі Фёдараўны, 1948 г.н.,***
***Ядчанкі Івана Фёдаравіча, 1945 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Я помню, я шчэ раньшай была малая, шчэ ў школу хадзіла, дак на Юр'я бралі хлеб, абгортвалі рушніком і ішлі, абходзілі ўвесь ураджай, правяралі так.

Абойдуць, усё праверяць і ўжо той хлеб прыносяць назад, там скату аддавалі і самі елі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Вярбу свяцілі. Да як первы ўжо раз выганяюць карову з хлява ў поле, дык етай вярбічкай ужэ б'юць карову да гоняць на пасбішча з этай лозачкай. Да прыносяць назад дадому і становяць у сараі, штоб кароўка дадому шла, штоб не блудзілася.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,***
***Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***

***Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Як первы дзень карову выганяюць, бяруць палаценца, кусок хлеба, солі і этым палаценцам абкручваюць і праважаюць. Ета і вярба, вот Вербна нядзеля, на каторай свецяць вярбу, бяруць ету лозачку і праганяюць тады карову да пашы.

Бяруць і пару яіц, і этыя яічкі аддавалі пастуху, і соль, і хлеб, і палаценца.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Першы раз выганялі скаціну на Юр'я. Перад гэтым абыходзілі кругом скаціны, абсявалі яе макам, абсявалі хлеў, каб аградзіць жывёліну ад злых духаў. Прасілі зашчыціць жывёліну ад розных хвароб, каб быў добры прыплод. Пастуху, які вёў скаціну на пашу, у торбу лажылі розныя пачастункі, хто што мог, каб пастух добра яе даглядаў. Так праходзіла гэта свята.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Абыходзілі поле са святою вадою і хлебам, акраплялі. Чыталі "Отчэ наш". Загаварвалі, каб кароўка шла дамоў. Выганялі кароўку са свячонай вярбою і кусочкам хлеба, намочанага свячонай вадою. Давалі яго кароўкам і выганялі ў поле. Песні не пяюць.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А., Казека А., Кажамяка М. (2005 г.)***

**Сёмушныя дзяды**

Сёмышныя дзяды былі перад Троіцай. Некаторыя ходзяць на кладзьбішча. Гатовяць сем страў, усе посныя. Боршч варань, кашу варань, кіселёк, хлеб, рыбку якую жараць, сыту дзелаюць, кашу. Ложкі ложаць. Богу моляцца. А каліcь эта самі з'ядзяць і дзеці паядзяць салодкага.

Ставяць на падаконнікі сала, аладачкі. Сабіраемся ўжэ пажылыя жанчыны і паміналі ўмершых, прыносілі фатаграфіі, чыталі малітву, маліліся і ставілі свечкі, арганізоўвалі стол. На Дзяды ідуць духі ўсе.

Калісь на Дзяды, казаў дзед мой, памерла ў яго сяттра. А матка сільненька зашлась да галосіць. Дак на яе бацька сказаў: "Як хочаш, пабачыш, пастаў варонку на печ і сядзь на яе. Толькі маўчы, нічога не гавары, не крыкні! Выдзержыш?" – "Выдзержу". А мы пайшлі, палягалі сабе спаць.

Ён кажа: “Знаю, што не выдзержыць”. Вот яна бачыць, ідуць, дык яна: “Ох, донька мая!” Усё, і нідзе нічога няма. Дык ён кажа: “А што, выдзержала?” А трэба ж было маўчаць, яны б дадому пайшлі, ты б бачыла іх”.

Ета быў дух цень чалавека. А яна крыкнула і нічога не пабачыла, а каб не крыкнула, дык пабачыла б.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

От Тройца ідзе, дык перад Тройцай Дзяды ўсягда бываюць. Тут вараць ужо постную яду. Дзядам ставяць на стол усё, што было прыгатавана ў гэты дзень. І мы ажыдаем, штоб дзяды прыйшлі к нам ноччу. Каб яны прыйшлі, адкрываем дзверы, вокны, каб душы родных уляцелі. І перад Калядамі быў пост, дык таксама астаўляюць ежу.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Перад Тройцай, у суботу, праводзіліся вясеннія Дзяды. Усе добра рыхтаваліся. Вымяталі двор, прыбіралі ў хаце. Уся сям’я мылася ў бане, адзявалася ва ўсё чыстае. Вечарам тапілі ў пячы і гатавалі розныя стравы (сем ці дзевяць). Абавязкова павінны былі быць бліны, яешня, ячневая каша. На Дзяды гатавалі канон з мёду, маку, хлеба і вады. Канон елі павочарадзі, па тры ложкі кожны чалавек. Па ложцы кожнай стравы адлівалі ці адкладвалі ў спецыяльна прыгатаваную міску.

Памінанне продкаў рабілася для таго, каб яны дапамагалі ў паўсядзённых справах, бераглі ад няшчасцяў.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Гардзейчык Марыі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Катлабай Г. (1997 г.)***

## Радуніцкія дзяды

Радуніцкія дзяды адзначаюць у аўторак на Фаміным тыдні. Пасля паўдня кожная сям’я ідзе памінаць памершых сваякоў. За тыдзень да Радуніцы жанчыны прыбіраюць могілкі. Людзі пераапранаюцца ў святочнае адзенне і ідуць на могілкі. На насыпі рассцілаюць белы вышываны абрус і сядаюць вакол яго. На абрус кладуць стравы, пафарбаваныя яйкі, куццю, хлеб, гарэлку. Абавязкова пяклі бліны з пшанічнай мукі і на маслі. Усе стравы адкладваюцца для нябожчыкаў.

Калі ўсе паабедалі, рэшткі страў аддавалі бедным, а адложаныя стравы кладуць на магілу. Калі нябожчык любіў гарэлку, яе лілі на магілу, калі любіў курыць, сыпалі табак ці запальвалі яго побач.

Прыйшоўшы з кладбішча, людзі збіраліся разам. Яны спявалі песні, жартавалі. У гэты дзень забаранялася працаваць.

*Запісана ў в. Веляцін*
*ад Валочка Лідзіі Рыгораўны, 1926 г.н.,*
*студэнткай Дзенісенка С. (1993 г.)*

**Тройца**

Бліжэй к абеду на Тройцу дзяўчаты з песнямі ішлі ў лес. Яны спявалі:

Тройца, Тройца, Святая Багародзіца,
Пасею я жыта, ды няхай родзіць.
Тройца, Тройца, Святая Багародзіца,
Пасею лянку, ды няхай зародзіцца.
Пасею я жыта, пасею пшанцу.
Зарадзі, Божа, усякую пашніцу.

У беразняку яны завівалі вянкі з кветак зеляніны. Дзяўчаты аплятали верхнія галіны дзвюх бяроз, палучаліся як бы вароты, праз якія ўсе праходзілі з песнямі. Завітую бярозку ўкрашалі цвятнымі лентамі, шнуркамі, вянкамі з другіх бяроз. Раскладвалі прынесеную з сабой яду – яйкі, сала.

Паеўшы, прымаліся за варажбу. З кветак таксама пплялі вянкі і кідалі на ваду. Калі вянок верціцца або плыве к берагу – застанецца дзеўка ў сваім сяле ці не выйдзе замуж, а калі вянок утоне – дзеўка ўмрэ, а калі паплыве – дзяўчына выйдзе замуж. Завітыя вянкі праз нядзелю трэба было развіваць. Незасохлыя вянкі азначаюць добрае жыццё, засохлыя – хуткую смерць.

Дзяўчата, якія прайшлі праз вароты, сpляцёныя з бярозавых галін, лічыліся кумамі, падружкамі на ўсё жыццё.

Завіванне і кумленне рабіліся не для забавы, а каб сілу зямных дрэў перадаць засеяным палям, паспрыяць будучаму добраму ўраджаю. Бярозавыя галінкі кідалі ў жыта, пшаніцу, каб яны ўрадзілі.

Каб не было засухі – моладзь аблівала адзін аднаго вадой. Ідучы дамоў, спявалі:

Тройца, Тройца, Святая Багародзіца,
А ў нашым Веляціне харашо праводзіцца.
А ў нашым Веляціне харашо ходзяць.
А ў нашым Веляціне харашо куста водзяць.

У гэты дзень дзеравенскія дзяўчаты выбіралі самую прыгожую сяброўку, абвязвалі яе бярозавымі і ліпавымі галінкамі і з песнямі вадзілі па вуліцах і дварах.

Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш ты нашаму кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявалачкам даці,

Нам, маладзенькім, па ганачку пагуляці.
Прошча нам вынесці барыла гарэлкі.
Мы прывялі куста, ды ты харошы к дзеўкі.
Не шкадуй нашаму кусту грошы,
У нашым двары пані хароша.
Проша, пані, наш куст падарыці,
А свой дом звесяліці.

* * *

Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою,
Святочная дружына каля твайго дому.
Упрыгожым куста з самага верху,
Выкінь, пане, хоць па залатому.
Упрыгожым куста з самага бэзу,
Выкінь, пане, хоць на адзежу.

Прыводзяць куста ва двор, прыгаворваючы гэтыя словы. Чакаюць, калі гаспадары нешта вынесуць.

Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою,
Ды вынесь, вынесь тры рублі з сабою.
Ды выкаць, выкаць тры бутылі з сабою.
Прывялі куста веляцінскія дзяўчаты,
А хлопчыкі ды ўсё дзівавалі,
Што дзяўчаты хораша куст убралі.
Да на нас вянкі ўсё кляновыя,
А сукенкі ўсе шаўковыя.

* * *

Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш ты нашай дружыне стаці,
Добрае слова сказаці, добра пажадаці.
Дзе куста водзім, там пшаніца родзіць.
А хто лісточак з куста сарве,
Той у гэтым годзе замуж пойдзе.
Вынесь нам, гаспадынька, белы сыр, белы сыр,
Будзе ў цябе, гаспадынька, у хаце мір, у хаце мір.
А калі дасі яйка, будзе ў хаце чарка.
Мы здароўя вам жадаем, на Святу Тройцу запрашаем.

Гаспадыня частуе святочную дружыну. Выходзячы, яны спяваюць песні. Абыходзяць амаль усе хаты з песнямі, збіраюць падарункі і пачастункі.

Правялі куста па кожнаму двару,
Здабылі рознага дабру!

У нашага куста ножанькі невялічкі,
Так далі нам на чаравічкі.
Адна гаспадыня была дужа хароша,
Не пашкадавала нават грошай.
Пашлі, Божа, многа збожжа!
Нарадзі хлеба кожнаму полю і пры дарозе,
Каб усім было гожа.
І не пуста на кожным возе.
А ў нас сёння Тройца, Тройца,
Прасвятая Багародзіца.
У нашым сяле хораша праводзіцца.
У нас ідзе карагод, карагод,
Усе дзевачкі напярод, напярод,
А хлопчыкі за намі,
Міргаючы вачамі.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Гардзейчык Марыі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Катлабай Г. (1997 г.)***

**Тройца**

Калісь было такое, што Тройцу гулялі. Сёмая нядзеля пасля Пасхі. А цяпер адышло. А то і ў лес хадзілі, і арэлю на дубок вешалі, і песні спявалі.

Прыбіралі пабудовы зелянінай, маем. Так, бралі галінкі бярозы. Ды й убіралі свае жылішчы, калодзеж абвівалі, ля іконы вешалі. Спявалі песні траецкія:

Па багату сястру каня пашлю,
А ўбогая сястра, сама прыйдзе.
Багатая сястра за сталамі,
А ўбогая сястра за дзвярамі.
Ці я табе не радзіна,
Што мне няма места і за дзвярыма?
Калі б ты, сястра, была ў жупане,
То сядела бы ўпоравень з намі.
Ой, чаму ж ты, сястра, не багацееш?
Ой, як жа мне, братка, багацеці,
Раблю табе дзела і робяць мае дзеці.
Прадай, сястра, дзеці, дык будзеш багацеці.
Штоб табе, братка, важка канаці,
Як мне важка сваіх дзяцей прадаваці.

* * *

Па небе хваля хмару гоніць,
А маці па няволі сына жэніць.
Ажаніла маці сына не па любові,

Узяла яму жонку не ў палюбові.
Не ўмее а ні шыць, а ні варыці,
Ні з маім сынам гаварыці.
Прыйшоў Васіль ды к мацеры ў хату,
– Ой, маці, маці, параіцца трэба.
Парадзь раду, што з жонкай рабіці?
– Ідзі, сынок, бяры нагайку драцяну
Ды бі жонку-негадзяйку.
– Васіль-голуб, не бі маю буйную галоўку
І не крываў белую пасцельку,
І не сіраці маіх дробных дзетак.
Прыйшоў Васіль да мацеры ў хату.
– Ой, маці-маці, парадніца ў хаце,
Парадзь раду, дзе жонку схаваці.
– Ідзі, сынок, у нову святліцу
І схавай жонку пад масніцу.
Як стаў Васіль жонку хаваці,
Стала птаства на акошка злятаці.
Васіль-голуб, не па праўдзе жонку хаваеш.
Папоў, дзякаў не сабіраеш.
Марусечку трэба харашэнька схаваць,
Яго маці на месцы страляць,
Яго, сволач, на Сібір саслаць,
Яго дзеці ў прыют забраць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

Перад Тройцай трэба было навесці ў хаце парадак, каб усё было чыста, акуратна. Бралі веткі ліпы, насілі ў царкву, свяцілі гэтыя веткі. Потым, калі прыходзілі дамоў, то білі гэтымі веткамі ўсіх родных па плячах, жадаючы ім здароўя, поспеху, шчасця.

Закраплялі ліпавыя веткі на абразах, над уваходнымі дзвярамі, каб выгнаць злых духаў з хаты, ачысціць паветра ад зла. Таксама галінкі пакідаліся і ў хлявах.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.***

Увечары трэба пайсці наламаць клёну. Затыкалі яго ў хату: у вокны, у вароты, пад крышу. Тройца пападае ў нядзелю, а ў суботу нада прыбраць у двары, у хаце, нада ўжэ етага клёну наламаць, хату ім абвесіць. А гульні ніякой не было.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Тацьцяны Іванаўны, 1930 г.н.***
***Рашанка Віктара Васісьевіча, 1930 г.н.***

***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.***

Тройца – гэта прыстольны празнік. У гэты дзень хадзілі ў госці, у лес. Перад гэтым у хаце прыбіралі, украшалі ліпаю, клёнам, на пол клалі плюшнік. У цэркве таксама ўсцілаюць пол плюшнікам і кожны спрабаваў узяць хоць нямножка яго, каб высушыць ды патом пакласці ў гроб ,у падушку.

У лесе спляталі бярозкі і папарна (хлопец і дзеўка) праходзілі праз іх, збіралі цвяты, пелі песні, танцавалі, дурэлі.

***Запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Краўчанка Ксеніі Паўлаўны, 1936 г.н.***
***(нарадзілася на Украіне),***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

На Тройцу мялі двары – вымяталі ўсю цёмную сілу. Ішлі рвалі ліпу, потым затыкалі гэтыя галінкі і ў хлеў, каб скаціна не хварэла, і ў куратнік, клалі і на вароці, і на кут у хаце. Гаварылі так, што, еслі есць дубчык ля кута, гром будзе біць міма вашага селішча. Пелі песню:

Ці ты бывала, Тройца, ці бывала?
Ой, яй, маладая, не ўгадала,
Яй, маладая, не ўгадала…
Яй, маладая, на вуліцы не бывала,
Да й на вуліцы яй не бывала.
Эх, мяне мая мамачка не пушчала,
Мяне мая мамачка, ой, запірала,
Да й у каморку, эх, запірала.
А ў каморцы акенечка,
А там мне, маладой, бядненечка,
А там мне, маладой, бядненечка.
А на вуліцы дымок, ох, да ідзе,
А на вуліцы дымок ідзе.
А там мой міленькі танок вядзе,
А там мой міленькі танок вядзе,
А ў левай руцэ ён вянок нясе.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Тройца – сёмая нядзеля пасля Пасхі. Хадзілі ў лес, арэлю вешала маладзёж на дубах. Убіралі сваё жылішча. На калодзежы, варотах і кане вешалі тры галінкі з трох розных дрэў. Спявалі песні.

Па багату сястру каня пашлю,
А ўбогая сястра сама прыдзе.
Багатая сястра – за сталамі,
А убогая сястра – за дзвярамі.
– Ці я цябе не радзіла,
Што мне няма места і за дзвярыма?
– Калі б ты, сястра, была у жупане,
То сядзела б упоравень з намі.
Ой, чаму ж ты, сястра, не багацееш?
– Як жа мне, брат, багацеці:
Раблю табе дзела і робяць мае дзеці.
– Прадай, сястра, дзеці, дык будзеш багацеці.
– Штоб табе, братка, важка канаці,
Як мне важка сваіх дзяцей прадаваці.

**Песня**

Па небу хваля хмару гоніць,
А маці сына па няволі жэніць.
Ажаніла маці сына па няволі,
Узяла жонку не па любові,
Што не ўмее мыць, варыці,
А не з маім сынам гаварыці.
Прыйшоў Васіль да мацеры ў хату:
Ой, маці, маці-парадніца ў хаце,
Парадзь разу, што з жонкай рабіці.
Ідзі, бяры, сынок, нагайку-дранку
Да й бі жонку негадзяйку
Васіль-голуб, не бі маю галоўку,
І не крываў белую пасцельку,
І не сіраці маіх дробных дзетак.
Прыйшоў Васіль да мацеры ў хату:
Ой, маці, маці-парадніца ў хаце,
Парадзь раду, дзе жонку схаваці.
Ідзі, сынок, у нову святлічку,
І падпілі, сынок, сярэднюю масціцу,
І схавай жонку пад масніцу.
Як стаў Васіль жонку хаваці,
Стала птаства пад акошка злятаці:
Васіль-голуб, не папраўдзе жонку хаваеш,
Папоў, дзякаў не збіраеш.
Марусечку трэба харашэнька схаваць,
Яго маці на месце страляць,
Яго, сволач, у Сібір саслаць,
Яго дзяцей у прыют забраць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***

*ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Харошка В.*

Хаты ўпрыгожвалі. Веткі ліпы клалі пад страху, штоб было ў хаце спакойна, ціха, каб ачысціць у хаце паветра. Веткі сухія неслі ў сарай, брасалі ў навоз, бо веткі сілу святую неслі. Русалку ў нас не вадзілі, дзяцей страшылі русалкай, каб у жыта яны не хадзілі, не таптали яго.

*Запісана ў г. Гомель*
*ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.*
*(ураджэнка в. Чэхі)*

Ета празнік Троіца – Божа Мацер Троіца, і яна ў трох ліцах, таго яна і называецца “Троіца”. Колісь былі такія прастольныя празнікі на дзераўнях. Вот у вашым сяле Троіца, а ў вашым – Мікола. У нас, у Дворышчах, была Первая Прачыста – ета Троіца, Успенне Божай Мацеры – ета празднік вялікі. Ну, пра Троіцу: збіраюцца з усіх сёл людзі ў адно сяло, які празнік прыкрыплены к той дзярэўні. У тую ўжэ дзярэўню і збіраюцца, і празнуюць па ўсіх хатах, гуляюць, гасцюють, сабіраюцца, прыгатаўляюць усё. І тады ўжэ сабіраюцца, а тады ўжэ на другі празнік ужэ ў тыя сёла едуць. У Троіцу ў лес да бярозак хадзілі, квас бралі, гулялі. Хлопцы палезуць, дзеўкі не лазілі. Хлопцы палезуць на самы вільчык бярозы да сарвуць нам галлё з бярозы. Дак мы венікі вязалі, да тады з тымі венікамі ў баню хадзілі, да баняліся тымі бярозавымі венікамі.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.*
*(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),*
*студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч К.*

Тройцу ў нас не празнувалі. От у суседняй дзярэўні, у Прыстольшчыне, дак добра празнувалі. Як толькі Тройца надыходзіць, яны клён ламаюць да ўтыкаюць у плот. Двор так украшалі. Гулялі на Тройцу, радня прыязджала гасцяваць. А як пройдзе Тройца, дак тыя лісцікі кляновыя здымалі да клалі куды ў цёмная места. А тады ўжэ іх к нарывам прылажувалі. Кажуць, памагае дабрэнна і зажываюць раны быстра.

*Запісана ў в. Казялужжа*
*ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,*
*студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.*

На Тройцу ў платы мы ўсягда ўтыркалі клён, ліпу вешалі ў хаце, зелень розную. Плюшнік на парозе кідалі. Абязацельна на плоце і на дзвярах перад уваходам у хату рысавалі красты. Я ўсягда ўранні на еты празнік уставала раненька і малілася тры разы, штоб усё добра было і ў здароўі, і для скаціны, якую гадую.

*Запісана ў в. Клівы*
*ад Жыгера Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,*

*студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.)*

Тройца – эта прэстольны празнік. Усе родственнікі ходзяць у госці. Мы сабіраемся і гасцюем, спяваем, гуляем, частуем.

Абавязкова ў хатах утыквалі ветачкі ліпы, клёну. Потым я іх занесла ў сарай ды й заткнула. Нельга ж іх выкідваць. Усё ж Троіца – важны празнік, вялікі. Ой, а свадзеб сколькі було на Троіцу! Да і вечарынак сколькі було! Танцавалі, спявалі прама на вуліцы. Сталы выносілі, гасцяваліся.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

На Тройцу гушкаліся на арэлях, што на ліпе былі зроблены. Хадзілі ў лес бярозкі завіваць. Бегалі ў аернік, да паналамаем яго багата-багата. А тады ўжо прынясом дадому ды ў хаце панакідаем, каб пах. Упрыгожвалі саму хату веткамі ліпы, клёну, бярозкі. А ў дзвярах бярозкі ў рад ставілі па абедзве стараны. Калі ж завяне, то знімаем ды спальваем гэта ўсё ці ў сарай пазатыкаем, каб скацінку абярагала.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

На Сёмуху “завівалі вянкі”. Дзяўчаты ішлі ў лес, дзе выбіралі дзве невялікія бярозкі. Потым звязвалі верхавінкі бярозак у выглядзе вянка, праз якія праходзілі і куміліся – цалаваліся, станавіліся сяброўкамі. Праз тыдзень дзяўчаты зноў прыходзілі ў лес і “развівалі вянкі”.

На Сёмуху людзі ўпрыгожвалі хаты зелянінай, падлогу ўсцілалі аерам, за іконы клалі пасвечаную вярбу, вешалі над дзвярамі галінкі ліпы. Спяваюць наступныя песні:

Пойдзем, дзяўчаткі, у луг гуляць,
Зялёных вянкоў завіваць.
Заўём вянкі на ўсе святкі,
На ўсе святкі, на ўсе празнічкі.
Ну-ка, кумка, пакумімся,
Ну-ка, кумка, пагалубімся.
Ты – кума мне, а я – табе.
З кумою-кумкай пакумімся,
Душа з душой злюбімся.

***Запісана ў з в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М.***

Да самай Тройцы ад Пасхі – 40 дней. На Тройцу ўжо гулялі свадзьбу, вянчаліся ў цэркві і хрысцілі дзяцей.

Перад Тройцай былі Сёмушныя дзяды. А на Тройцу ліпу ламалі і затыкалі над дзвярыма, па вокнах.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

На Тройцу зеленню ўбіраюць, музыку наймаюць, дзе ўжэ абычай, дык там ужэ гуляюць.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

На Тройцу рвуць ліпу і затыкаюць яе галінкамі ў хаце ўсюду, у сараі. Маглі браць крапіву, штоб ведзьма не пралезла нікуда. І гэтыя лісцікі ад ліпы, калі іх пазнімаеш і будзе рана на назе, на руке, абязацельна нада іх намачыць і прылажыць на бальное месца, сразу зажывае.

Ведзьм мы не бачым, але ж людзі кажуць. У нас у вёсцы быў адзін выпадак. На еты празнік у нас адна бабка прыйшла пазычаць салі. А, кажуць, солі не трэба пазычаць, ды яшчэ ўвечары, ні грошай, ні солі ўвечары не пазычаюць. Не даюць, пазычаць-та можна, але не даюць, не трэба даваць. Яна прыйшла солі прасіць, а ёй адказалі. Калі пайшоў гаспадар у сарай, то ўбачыў, што вялікая жаба сядзела возле вымя каровы і малако піла. Гаспадар за ёй увагнаўся. А ў суседняй хаце таксама жыла бабка. Яна пераўтваралася ў свінню і прыходзіла ў сарай. Гаспадар прыйшоў і вілкамі прапароў бок. Назаўтра кажуць: “Гдзе-та Соня?” А Соня ляжыць. Яна знала, яна была такая, што вельмі многа чаго знала, знахарка была такая, магла ператварыцца. Калі людзі спыталі, што ў яе з вокам, яна адказала, што ўпала. Ужо потым яе нявестка сказала, што яе бок прабіты вілкамі.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Клён і ліпы вешалі на дзвярах, як у хату заходзіць. У хаце вешалі, на сараях людзі. Дык вешаюць етыя голечкі ўсе, а патом іх паснімаюць ды ў каго стажкі сена стаяць, дык ложаць туды, штоб мышы не елі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

**Троіца**

Это була традзіцыя. Бярозу прывозілі да стаўлялі на ўваход к дому. Патом клён: уносілі веткі ў дом і возле двара ў тыя заборы ўсаджвалі клён. І тожа эта буў у нас прастольны празнік.

Сабіралі гасцей, гулялі. Вот такі празнік. Вадзілі карагоды, нанімалі музыку, булі свае гарманісты. Траечных песень не було. Пелі народныя песні, маліліся Богу. А ад песень нашых трашчала вуліца.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драко Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Бародкінай А., Кавалёвай К. (2005 г.)***

Завівалі бярозкі. 2 бярозкі звязвалі. Прыбіралі дом бярозкай, клёнам, ліпай, высцілалі палы плюшнікам (аірам). Свяцілі аір і мяту. Мяту лажылі ў падушачкі, як памiралі.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А.,***
***Казека А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)***

На Троіцу станавілі ў хаце бярозкі, прыбівалі іх на вароты, дзе ўшулы. Усё перад гэтым прыбіралі, вымывалі. За іконы ставілі ліпу ці клён, а на пол лажылі явар ці плюшнік.

***Запісана ў г в. Забалацце (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

## АБРАД “ВАДЖЭННЕ РУСАЛКІ”

Наша вёска вельмі багата на традыцыі і абрады. Мы раскажам аб асноўным абрадзе вёскі Вялікі Бор. Гэта абрад “Ваджэнне Русалкі”. Русалка – гэта вялікае свята для вёскі. Адзначаецца яно ў чэрвені месяцы, у святую нядзельку па назве “русальная”. Гэта свята звязана з тым, каб пасля сяўбы пайшлі дажджы і быў добры ўраджай. Дзяўчаты збіраюцца на паляне, прыносяць з сабой шмат кветак, а хлопцы носяць галлё для вогнішча. Затым выбіраюць адну з дзяўчат з доўгімі валасамі – русалку. Яе наражаюць у ўбранне з галінак бярозы, хмелю, крапівы. Галоўная гераіня і яе ахоўнікі – дзяўчаты і хлопцы, людзі больш сталага ўзросту і старыя з песняй, музыкай, жартамі праходзяць праз усю вёску. За сялом раскладваюць вогнішча. На ім асвячаюць сплеценыя дзяўчатамі вянкі, перапрыгваюць праз вогнішча, водзяць карагоды, спяваюць песні.

Як паведаміла Праскоўя Данілаўна Харошка, 1915 года нараджэння, жыхарка вёскі, “выбіралі на русалку самую красівую дзеўку з сяла, вілі вянок з асіны ці бярозы ды й надзявалі ёй на галаву, а замест плацця віселі веткі. Вялі да жыта, там скакалі цераз агонь, пелі песні, тады разрывалі на ёй тое ўсё ды і ў жыта яе штурхалі”.

Мясцовай песеннай з’явай русальнай традыцыі з’яўляецца песня: “Па ўсіх старонках даждзі ідуць”:

Па ўсіх старонaчках даждзі ідуць,
А ў Вялікім Боры не бываюць,
Толькі хмарачкі наганяюць.
Найдзіце, хмаркі цёмненькія,
Пайдзіце, даждзі цёпленькія
На маю руту зялёную,
На маю ружу чырвоную,
Каб мая ружачка была прыгожая,
Чырвоным цветам зацвіла,
Шырокім лісцем ападала.

Выконвалі ў в. Вялікі Бор і песню як ілюстрацыю абраду праводзін русалкі, з якой у дадзеным выпадку былі звязаны ўяўленні аб ёй як шкоднай істоце:

Правяду русалачку, правяду
Ды й асінкаю заламаю,
Каб тая русалка па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё ж жыцейка дробнае,
Ды й у каласку буйнае.
Правяду русалку, правяду,
Ды й асінкаю заламлю.

З успамінаў жыхаркі вёскі Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1932 года нараджэння, за русалку бралі дзеўку. Колісь казалі, дзіця памрэ – ідзе ў русалку. Дзіця было нехрышчонае, таму хутчэй хрысцілі дзіцятка. Для провадаў русалкі вілі вянкі з асіны, рагожы, з бярозы – на галаву. Веткі былі ўместа плацця. Вялі русалку за сяло ў канец. Праводзілі ўсе, гулялі ў гульні, вялі русалку ў жыта і шукалі там. Праводзілі русалку і пелі песні:

Ляцелі гусі, гагечучы.
Ехалі сваты, гаворачы:
– Ой, нараві, браце, катору браці,
Ці тую браці, багатую,
Ці другую ўбогую,
– Ой, браце, убогую,
Бо ўбогая ж тая ды й разумная,
А багатая ды й бязумная.
А багатая ўжо й завыла,
Па воду ідучы, ды й заплакала:
-Скацеркі мае талаковыя
Буду воўка ўмываць,

Не хочуць мяне людзі браць.

Жыхарка вёскі Апанасюк Соф'я Уладзіміраўна, 1939 года нараджэння, расказала пра русальнае свята наступнае:

Раньшэ маглі нарадзіць русалкай як дзеўчыну, так і хлопца. Ета толькі цяпер русалкай выбіраюць дзеўчыну.

Русалку ў нас праводзяць так. Сабіраецца некалькі жэншчын і плятуць русалцы вянок, чапляюць на яе веткі. Такжэ плятуць па два бальшых вянкі і нясуць з канца дзярэўні на сярэдзіну, куды сабіраюцца ўсе жэншчыны. У нас дзярэўня бальшая, паэтаму ўсе дзеляцца на два канцы.

Ідуць і спяваюць русальныя песні, такжэ разам ідзе гармошка. Уперадзе ідзе русалка, за ёй гармошка, а ззаду – усе жэншчыны. Ідуць па ўсяму сялу, танцуюць, прычухкаюць. Дзетвара сабіраецца і ўсе жэншчыны, многа ідзе людзей. Ідуць з вянкамі, песнямі, музыкай у канец сяла. Тамака ўжэ распалены агонь у калясе. Русалка танцуе вакруг агня, жэншчыны таксама танцуюць, але спяваюць песні ўжо не русальныя, а хто якія ўмее. Танцуюць тамака, пераскакваюць агонь, а тады ўжэ русалка танцавала, танцавала – і пабегла ў жыта, а за ёй бягуць дзеці, штоб там парваць на ёй усе веткі. І тады плятуць з гэтых ветак ужо малыя вяночкі і кладуць на капусту, штоб харашо расла. А некаторыя вяночкі нясуць жэншчыны да агню, праводзяць імі тры разы над дымам, каб усё паганае адышло.

Потым зноў танцуюць, песні спяваюць, гуляюць да позняга вечара.

У ядраным жыце русалкі жылі,
Ой, рана ды рана, там русалкі жылі.
Правяду русалачку я ў жыта,
А сама вярнуся да свайго двара.
Правяду русалачку я за горку,
А сама вярнуся да сябе дадомку.
Ой, рана ды рана, дадомку.
Правяду русалачку я ў капусту,
А сама вярнуся ў хатку пусту.
Ой, рана ды рана, у хатку пусту.
Правяду русалачку я за грушкі,
А сама вярнуся ў падушкі.
Ой, рана ды рана, у падушкі.
Правяду русалачку я да бору,
А сама вярнуся я дадому.
Ой, рана ды рана, я дадому.
Давяду русалачку я да броду,
Пагляжуся ў чысту воду.
Калі мой вяночак патануў,
Значыць, мяне мілы абмануў.
А калі мой вяночак падняў,
То з сабою мяне пазваў.

Правяду русалачку ў цёмны лес,
А сама вярнуся к мамцы ў клець.
Правяду русалачку я да ямкі,
А сама вярнуся я да мамкі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***супрацоўнікамі аддзела культуры Хойніцкага райвыканкама***

**Праводзіны русалкі**

Эта проста такая легенда. Мне да вайны дзед расказваў, што ў Каранёўцы жыў Андрэйчык. Ён быў вельмі пачотным чалавекам у Каранёўцы. Етыя каранёўцы дажгаліся Тройцы (пасля Тройцы русалку праводзяць). Етыя бабы, дуракаватыя і якія хочаш, гаворать: "Давайця правядом русалку". А там які-то быў папок (яго дражнілі ці звалі, я не ведаю). Яго зрабілі папом: адзелі яму як там нада, ну, і давай гуляць – праводзіць етую русалку. Самі тожа паадзяваліся, музыка была, песні пелі. Выйшаў еты Андрэйчык ды і кажа: "Што вы русалку крыцікуеце, дражніце?" А яны ўсё роўна згулялі ў етую русалку. Ужо пілі, песні пелі, танцавалі. Найшоў сумерак, і як даў град! У етых усіх пазбіваў агарод – Андрэйчыкаў жа агарод як хто схаваў.

Яшчэ колісь было, што дзяцей пужалі: "Ідзі, ідзі, там цябе русалка з'есць!"

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

Яшчэ такое гавораць, што на русальнай нядзелі, хто еслі куру пасадзіць цыпляняткі прападаюць, еслі чалавек родзіцца – ён прападае. А я во радзілася на русальную нядзелю і во жыву. Мне ўжэ 73 гады.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Тацяны Іванаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

У панядзелак, пасля Тройцы, быў русальны дзень. Казалі ў народзе, што русалкі – гэта душы ўтопельніц або навароджаных. А ў гэты дзень яны выходзяць з вады, каб заманіць да сябе людзей або напужаць.

Дзеўкі выбіралі між сабой самую смелую дзеўку, якая была русалкай. Адзета русалка была ў адну толькі сарочку, косы былі расплеценыя і качарга паміж ног, як конь. З сяла русалку праводзілі ў жытняе поле, толькі спярша абыходзілі 3 разы ўсё сяло.

Русалка ехала на качарзе, а за ёй ішлі дзеўкі ў вянках, бабы і білі ў заслон. Малыя бегалі каля русалкі, хваталі яе за рукі, за сарочку, за качаргу і крычалі: "Русалка, русалка, пашлакаці мяне!"

Калі прыходзілі ў жыта, пачыналі гульню з русалкай. Яна лавіла каго-небудзь і пачынала шлакаціць, а ўсе бегалі ад яе. Як яна ўжо каго зловіць ды

шлакоча, так усе ўжо ідуць памагаць яму і ловяць саму русалку. Як русалка вызваліцца, то бяжыць хавацца ў жыта, а ўсе крычаць: “Мы русалку правялі! Зараз усюды смела ідзі!” Потым усе расходзіліся дадому, а русалка адсіджвалася ў жыце, пакуль усе не пайдуць, і сама бегла па-за хатамі дадому.

Увесь вечар усе гулялі, пелі песні, танцавалі. Дзеўкі свае вянкі заносілі на капусту, каб качаны тугія былі.

***Запісана ў в. Аравічы Хойніцкага р-на***
***ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шаўцовай А.***

Надзявалі дзеўку па-асобаму, вянок ей плялі. Трэба каб ета дзеўка быстра бегала. Вялі яе ў калхознае жыта, і там яна за намі ганялася. Казалі бабы, што русалка жыве ў жыце і як паймае каго, то цыцку дае, і ета пагано. Ну, дак мы яе праводзілі ў жыта і бегалі там. А пасля праводзін адзежу яе вешалі на бярозу. Так нам старэйшыя казалі.

Русалка – гэта кажуць, хто багата знае, да скідаецца, да варажыць умее.

***Запісана ў в. Баец Калінкавіцкага р-на***
***ад Коўгар Сафіі Іванаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Буда Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Хмяльніцкай І. (2000 г.)***

Збіраліся дзяўчаты, гатовіліся. За русалку выбіралі хлопца гадоў пятнаццаці. З аера шылі плацце, на галаву адзявалі капюшон. Дзеўкі вялі русалку ў жыта і спявалі песні. А хлопцы падкаравульвалі, потым нападалі на русалку і зрывалі адзенне. А потым гулялі.

**Гульня “Корань”**

Дзяўчына садзілася к хлопцу на калені, той абдымаў яе і крэпка дзяржаў. Яна выцягвала рукі ўперад. Другі хлопец браў яе за рукі і стараўся адарваць ад кораня. Калі вырваў, сам садзіўся за кораня.

Бабкі страшылі дзяцей, каб у жыта не хадзілі, бо русалка заслакоча. Тыя баяліся рваць каласы. Рабілася гэта, каб захаваць пасад.

***Запісана ў в.Старая Дуброва Акцябрскага р-на***
***ад Краўчанкі Васіля Марцінавіча, 1918 г.н.***
***(нарадзіўся ў в. Веляцін Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Гаўрыловіч В. (2000 г.)***

Ролю русалкі выконвала маладая дзяўчына. Русалку ачаплялі лепяхамі, рабілі ёй вянок на галаву, рабілі юбку з лістоў лепяха. Русалку вялі да жыта і спявалі такую песню:

Правяду русалку да бору,
А сама вярнуся ў камору,
Штоб русалка ні хадзіла,
Буйнага жыта ні ламіла.

Правяду русалачку да печы,
А сама сажуся на печы.

Русалку даводзілі да жыта і білі яе крапівай, каб яна ні пужала ні дзяцей, ні дарослых, нікаго, хто хадзіў на рэчку і на агароды. Людзі раней лічылі, што русалкі жывуць на агародах, у жыце і на рэчцы і там пужае ўсіх дзяцей. Вось і прыдумалі такое гулянне, як "Праводзіны русалкі".

Русалка – гэта маладая дзяўчына, якая жыла ў жыце і хапала маладых дзевак і хлопцаў. Русалка – гэта голая дзяўчына. А некаторыя лічылі, што русалка жыве на рэчцы, і калі купаліся, то яна хапае за ногі і топіць людзей. Гулянне гэта праводзілася летам.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Русалка – прэстольны празнік. Отмечаюць яго в іюне месяцэ, у святую нядзелю, у якую праводзяць русалку, штоб ішлі дажджы і быў добры ўраджай. Выбіраюць маладую дзяўчыну, дочку русалкі. Плятуць вянкі. Бяруць гэту дзяўчыну пад рукі і вядуць у канец сяла. Па дарозе спяваюць русалачныя песні. За сялом раскладываюць вогнішча і перапрыгіваюць чэраз яго. Вянкі, якія плялі, забіраюць і ложаць на капусту, каб быў добры ўраджай.

Правяду, правяду русалачку
Да цёмнага бару,
А сама, маладая,
Вярнусь у камору.
Ой, не зналі татка, мамка,
Што я маладая
Усю ноч гуляла,
З маладымі казакамі
Усю ноч каратала.
Татка Марусечку
У войска праводзіў,
Марусечцы наказ даваў:
"Уперад войска не ўрывайся
І ўзад войска не аставайся.
Марусенька татку не паслухала,
Уперад войска паехала,
Уперад войска паехала,
Самога цара з каня збіла.
Самога цара збіла,
Сама войска ўзвесяліла,
Добру награду палучыла".

***Запісана ў в. Вялікі Бор***

***ад Атаман Марыі Купрэеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Харошка С. (1999 г.)***

Русалку ў нас адзначаюць на другую нядзелю ад Тройцы.

Ой, калісьці гэта було вельмі вялікае свята. У гэты дзень нічога не рабілі. Усе ждалі вечара. А цяпер… Дзесьці часоў у пяць-шэсць вечара дзеці і больш старэйшыя ідуць у лес ці там на паляну, дзе расце багата разных цвятоў і травы. Гуляюць там і плятуць вянкі, прыбіраюць русалку. Русалкай выбіраюць звычайную вясковую дзяўчыну. Украшаюць яе рознай травой , папарацццю. Робяць такі красівы нарад. Русалка абычна ідзе ўперадзі ўсіх, яна далжна быць самай красівай. Абізацельна ў тых вянках, якія плятуць, далжны быць разныя травы. Папарараць шукалі, калакольчыкі, гусіную слепату, яшчэ там розавенькія такія. І ў апошнія гады абізацельна клалі крапіву і дзяды, для смеху, калі будуць рваць вянкі, каб рукі апякці і пакалоць. Ну, сплетуць, тыя вянкі і седзяць ждуць. Пасля, як бы пасылаюць ганца ў сяло, каб узнаў, ці прышлі каровы. Як толькі каровы прышлі, значыць, усе свабодныя і можна весьці русалку. Абычна ідуць за сялом, каб ніхто не бачыў. Русалку ў нас вядуць у два канцы ад старога магазіна. Усе людзі седзяць на сваіх лавачках і ждуць. Як толькі падыходзяць тыя, што несуць вянкі, усе падымаюцца з лавачак і хто хватаецца за вянок, а хто ідзе ззаду, але ўсе спяваюць песню:

Правядзем русалачку ад сяла да сяла,
Правядзем русалачку ад сяла да сяла…

І так да канца сяла людзей набіраецца вельмі багата. Усе ідуць, спяваюць, гавораць між сабою. А на канцэ сяла кладуць агонь. Як да канца сяла дойдуць, пачынаюць вянкі рваць, а русалка ў жыта бяжыць хавацца. За ёй дзеўкі, хлопцы маладыя, бягуць і рвуць з яе тое, чым яе ўкрашалі. Патом з таго, што нарвалі, плятуць свае маленькія вянкі. Абізацельна іх над агнём дзержаць, ета для таго, каб патом добры ўражай быў капусты. Но, паследнія гады мы ўжо слабыя сталі, дак мы самі вяночкі пляцём. Украшаем цвятамі разнымі, пасля толькі над агнём дзержым, ета абізацельна і кладзём на капусту, а хто і на гуркі, і на памідоры, каб капуста такая ж круглая і вялікая была, як тыя вянкі. А патом начынаюцца разныя гульні каля агня. Спяваюць песні, а хто танцуе. Но было так весела. Но было яшчэ адно абізацельнае ўсловіе: усе тыя, хто перапрыгне цераз агонь, будзе здаровы ўвесь год. От, ужэ тут начынаецца… Патом усе паціху разыходзяцца, нясуць вянкі на градкі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Соф'і Ціханаўны, 1936 г.н.,***
***студэнткай Сачанка Я. (2010 г.)***

А нашы хлопцы-рыбалоўцы,
Спаймалі жабу на балоце,
На балоце

Разбілі яе на калодзе,
Шчэ не разбілі, а ўжо падзялілі,
Сяму-таму па клешанцы,
А Віцю – цэлая жаба,
Каб любіла старая жаба.

***

Ой, ночка, ночка Пятровачка,
Не вуспалася малодачка,
Усю ночку не спала,
Горы капала,
Горы камяністыя ставіла.

***

Маладая Волечка пшанічку жала,
Ды не вязала.
Прыйшло да яе тры валошыны,
Усе харошыя.
Маладая Волечка, мы возьмем цябе ў чыстым полі.
Не бярыце мяне ў чыстым полі,
Бярыце мяне ў таткавым доме.
Татка за сталом дык піша пяром.
Мамка на куту хусткі качае,
У скрыню хавае.
Юрачка на дварэ каня запрагае,
Сястру за стол упраўляе.
Словам, жывіце з Богам,
Ісусам Хрыстом, святым Ражаством.
Святое Ражство радасць прынясло.
Іван Красціцель ваду асвяціў,
Ваду ён асвяціў, на ўвесь свет апусціў.

* * *

Ой, за варацьмі крутая гара,
А на ёй шаўковая трава,
А па той траве коні хадзілі,
А між тых коней адзін вараны,
Адзін вараны, ды й не спутаны.
Хлопцы лавалі, ды не злавілі.
Малады Сашачка к коніку прыпаў,
Коніка ўзяў і сеў, паехаў.
К новаму двару, к цесцейку свайму.
Цесцейка кажа: “То ясен сокал”
А дзевачка кажа: “То Сашка мой”
Дайце коніку сена ў аброку,

Маладому Сашку мёду і віна.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

За русалку бралі дзеўку. Калісь казалі, дзіця памрэ – ідзе ў русалку. Дзіця было нехрышчанае, таму хутчэй хрысцілі дзяцей. Для праводзін русалкі вілі вянкі з асіны, ржы, бярозы на галаву, веткі былі замест плацця. Вялі за сяло ў канец. Удзельнічалі ўсе сяляне. Гульні наладжвалі і вялі ў жыта, шукалі там. Праводзілі русалку на восьмай нядзелі ад Пасхі. Срок выйшаў, і яе праводзілі. Пасля народзін дзеці ўміралі нехрышчоныя і ператвараліся ў расалку. Праводзілі русалку і пелі песні.

**Песня**

Па ўсіх старонках дажджы ідуць,
У Вялікім Боры не бываюць,
Толькі хмарачкі наганяюць.
Пайдзіце, дажджы драбненькія,
На маю ружу зялёную,
На маю ружу чырвоную,
Штоб мая ружа была прыгожая,
Чырвоным цветам зацвітала,
Шырокім лісцем ападала.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Харошка В.***

Раньшэ маглі нарадзіць русалкай як дзеўчыну, так і хлопца. Ета толькі цяпер русалкай выбіраюць дзеўчыну.

Русалку ў нас праводзяць так. Сабіраецца некалькі жэншчын і плятуць русалцы вянок, чапляюць на яе веткі. Такжэ плятуць па два бальшых вянкі і нясуць з канца дзярэўні на сярэдзіну, куды сабіраюцца ўсе жэншчыны. У нас дзярэўня бальшая, паэтаму ўсе дзеляцца на два канцы.

Ідуць і спяваюць русальныя песні, такжэ разам ідзе гармошка. Уперадзе ідзе русалка, за ёй гармошка, а ззаду – усе жэншчыны. Ідуць па ўсяму сялу, танцуюць, прычухкаюць. Дзетвара сабіраецца і ўсе жэншчыны, многа ідзе людзей. Ідуць з вянкамі, песнямі, музыкай у канец сяла. Тамака ўжэ распалены агонь у калясе. Русалка танцуе вакруг агня, жэншчыны таксама танцуюць, але спяваюць песні ўжо не русальныя, а хто якія ўмее. Танцуюць тамака, пераскакваюць агонь, а тады ўжэ русалка танцавала, танцавала – і пабегла ў жыта, а за ёй бягуць дзеці, штоб там парваць на ёй усе веткі. І тады плятуць з гэтых ветак ужо малыя вяночкі і кладуць на капусту, штоб харашо расла. А некаторыя вяночкі нясуць жэншчыны да агню, праводзяць імі тры разы над домам, каб усё паганае адышло.

Потым зноў танцуюць, песні спяваюць, гуляюць да позняга вечара.

Проведу, проведу русалочку до бару,
А сама пойду ў камору.
Проведу русалочку до грушкі,
А сама, молодая, вернуся до падушкі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Апанасюк Сафіі Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Новік В., Клочка А., Руковіч В. (2003 г.)***

Маладыя хлопцы і дзеўкі ідуць у лес, ломяць голля, краскі, плятуць вянка. Выбіраюць русалку, наражаюць. Калі збіраюцца і ідуць у лес, спяваюць:

Хадзіце, дзевачкі, у бор
Краскі сабіраці,
Песенькі пяяці,
Песенькі пяяці,
Вяночкі віці.

Пасля вядуць русалку. Вядуць ад магазіна (сярэдзіна вёскі) у край да жыта. Ідучы, пяюць песні:

Русалачку правядом
Да бору, да бору,
Сама пайду ў камору.
Сама пайду ў камору,
Русалачку ў цёмны лес,
Няхай яе воўк і з’есць.
Правяду русалачку, правяду
Із бору да бору
У зялёну дуброву,
У зялёну дуброву,
Да й вярнусь дадому.

Выводзяць русалку за сяло ды гоняць яе ў жыта. А самі пяюць песні, водзяць карагод, дзеўкі з хлопцамі прыгаюць праз агонь. Дзяўчаты тыя вянкі, што былі адзеты на галаве, прыносяць дадому і кладуць на градзе з капустай. Кажуць, гэты вянок прадказвае добры ўраджай, і капуста тады расце добрая.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Бяспалай Ганны Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Плялі вянкі, убіралі русалку голлямі з розных кустоў, вялі яе ад сяла да лесу і спявалі песні:

Завяду русалачку ў цёмны лес,
А сама вярнуся к татку ў клець.

Патом яна гналася за намі: каго дагоніць, то зашчакоча да паўсмерці.

А етыя вянкі клалі ў градах на капусту, штоб качаны завязваліcь. Дзецям бацькі казалі, каб тыя не хадзілі ў гарод, бо там русалка жалезнаю цыцкаю накорміць.

Усё ета рабілася вечарам на закаце сонца.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Па павер'ях, русалкі – ета душы памершых дзетак. Яны былі нехрышчонымі. Русалкай была адна з дзяўчат, больш рухавая. Ёй распускалі косы, знімалі адзежу, прыкрыўшы толькі чым-небудзь плечы, і сяброўкі плялі з васількоў, зорачак красівы вянок. Абвівалі етым вянком усё цела, вадзілі вакруг яе карагоды, спявалі песні:

Правяду русалку
Із бору да бору,
Із бору да бору
У зялёну дуброву,
У зялёну дуброву,
У ядранае жыта.
У ядраным жыці
Там русалцы жыці.

Дзяўчаты ўстраівалі над русалкай розыгрыш: адводзілі яе ў жыта, за скрыжаванне дарог, на вясковыя могілкі і, аставіўшы яе там, уцякалі назад у вёску. Выводзілі русалку "плятнём": дзве пярэднія дзеўкі стануць і паднімуць рукі, а самая задняя ідзе, ідзе ім пад рукі і вядзе за сабой усіх прочых. Тады еты пярэднія паднімуць рукі, а ідуць ужэ тыя, што стаялі, – во й пляцень.

Ета праходзіла шумна: спявалі песні, барабанілі, палалі агні. У жыта русалку ўпіхвалі сілай, зрывалі з яе вянок, адзежу і ўцякалі. А яна, голаю, гналася за імі да самай вёскі. Ролю русалкі выконвала ўдава або сірата. Гэтую дзяўчыну апраналі ў белае адзенне, распляталі косы і надзявалі вянок. Русалку з песнямі вялі з вёскі ў жыта.

Лічылася, што яна павінна ў знікненні людзей. Русалкамі пужалі маленькіх дзяцей. Але яна, па народных павер'ях, павінна была садзейнічаць добраму ўраджаю, пагэтаму яе заманьвалі ў жыта.

Увечары, ужо пасля заходу сонца, русалку шукалі там, дзе расце густое жыта, а потым уся моладзь ішла туды, дзе русалку прыбіралі, днём (у лес).

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кавалёвай Яўгеніі Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Смальцар А.***

У нас была русальчына нядзеля. В начале іюня. Всю нядзелю работалі, как раньша, картошку там акучвалі ці што. Ну, вот мы з мамкай так картошку акучваем, а жыта трасецца, ды мы малые былі, баяліся, што русалка там уцяне нас. І мамка гаворыць, калі што леніліся: “Будзеце неслухамі, дык аддам вас русалкам, зацянуць яны вас у балота”.

Ну, вот, а ўжэ в суботу бабкі ідуць за травкамі в лес, яшчо малых з сабою бралі, а жэншчыны і дзеўкі не шлі. Дзеўкі самі ішлі ў поле за цвятамі для вянку, патом штоб гадаць на іх, хто і кагда замуж пайдзёт. А старые шлі рана, кагда раса яшчэ. Так гаварылі, што яны цалебныя, божая раса на іх. Разные цветы і травкі сабіралі, я не помню какія. Зімой чай варылі, кагда забалее хто, а весною і хлев, і гумны, і жывотных сваіх акурывалі.

Ну, а вечарам, как папораюцца ўсе (управяцца), маладыя шлі ўжо кастры паліць. Всякій хлам сабіралі, калёсы, боты, трапкі і запальвалі, гэта бальшое как шалаш, спецыальна палкі длінныя прынасілі. Палілі возле речкі ілі леса.

Ну, весяліліся, песні пелі, через агонь прыгалі, хто без пары, дык адзін прыгаў, а кагда ў паре, дык за рукі браліся. Как рукі не рашчэпят, так вмесце будут, а разарвут, дык другая пара ў іх будзе.

Парні так в сажу вымазваліся і дзевак пугалі, чэрці значыць

Некаторыя, што смелыя, в лес хадзілі шукаць кветку-папараць. Гаворать, хто яе знойдзець, то будзець шчаслівы і скарб найдзець, нікакога гора не будзець яму.

Яшчэ заборы знімалі, лавачкі і няслі куда далёка. Дровы раскідывалі і вылажывалі дарожкай. Яшчэ “бульбачку прывязвалі” – картошку на палку і за нітку. А нітку ўжо к акну. Самі едуць на другім канцэ, дзе іх не відна. Дзёрг за нітачку, а картошка стук па акну. Хазяін думае, што стучаць, адкрывае – нету нікога, і апяць спаць, а яны тады апяць за нітку дзёргаюць. А адзін раз мужык баню строіў, ну, зруб паставіў ужо. Так хлопцы якія-та зруб разабралі і перанеслі в другі канец дзярэўні. Ну, ані на таго дзядзьку злыя былі.

Ну, вот, а в васкрэсенье русалку вадзілі. Выбіралі дзеўку харошую, красівую. Адзявалі ей вянок з васількоў, ана в рубахе была, інагда ветачкі на неё цаплялі. Харавод возле неё вадзілі, а ана хацела как-бы ўбяжаць з круга, а яе не пускалі. Так вялі ад сяла за жыта ілі леса, пелі:

Русалка, русалка,
Мы цябе вядзем
Песні пяем,
В дзярэўню не хадзі,
Шкоды не рабі,
Нашых дзетак у рэчкі не тапі.

Ну, а патом в жыта яе брасалі, а вянок знімалі. Ну, што з нім дзелалі, не помню. Толька вот купацца нельзя было, русалка ўцяне, утапіцца можна. І

кароў рядом з ракой не паслі і з балотам тожа, как бы іх не ўцянула. Ну, вот такая ў нас была русалка.

***Запісана ад Андрэйчык Любові Захараўны, 1953 г.н. (перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на), студэнткай Чумаковай Г.***

Русалку я праводзіла. Ты ў свае мамы, а я ў свае мамы, кожна мама дае сваей дачке яечкі, смятану, малако, і мы ўжэ зносілі ў адну хату. І ўжэ ў катору хату зносілі, мая ўжэ хазяйка нам гатуе, а мы ўжэ пойдам у жыта, нарвом, расла такая валошка, панавіваем вянкоў, вубярам катору дзевачку за русалку, катору мы ўсе гуртам прызнаем. Ну, ужэ панавіваем тых вянкоў, убяром яе ў вянкі, тут на пояс надзенам, тут на шыю надзенам, на галаву, дак ужэ яна ўся ў вянку, і ўжэ яна нас вядзе, вядзе ўперадзе ў поле, у жыта. Яна нас вядзе ў адну палоску, у другую, а мы ўжэ ідом за ею і пяем:

Правядом русалку за бора,
Сама вярнуся ў камору.
Правяду русалку ў цёмны лес,
Сама вярнуся к мамцы ў клець.
Штоб русалачка не хадзіла
Ды майго жыцяйка не маніла,
Маё жыцяйка пустое
Ля каласка таўстое.

А тады ўжэ:

Наша русалачка красіва,
Да красівейшая за ўсіх дзевак.

Тады ўжэ пабягом па жыту, а яна, русалка, ужэ нас даганяе да лавае, да ўжэ катору злавае, дак ужэ шчакоча, шчакоча, а мы ўжэ рагочам да ўцякаем. Тады ўжэ прыдам з тае "русалкі" і вянкі кідаем у капусту. Дзе капуста расце, штоб не было вусені. Нас русалка і з жыта вядзе дадому, мы ўжэ тожа ўслед за ёю. Прыдам ужэ ў тую хату, дзе нам гатовілі абед, тады ўжэ стаўляем сталоў і ўжэ тая хазяйка нам падносіла, а мы ўжэ сядзелі да гасцявалі і хлопцы з намі булі, а хлопцы тады музыканта прывядуць, ета русальна нядзеля. Во ету нядзелю – Троіца, а во ету – русалка.

Русалку праводзілі ў жыта ды ўжэ самі потым дадому. Ета і для гульні нада было, вабшчэ ета з прадвеку так заведзяно русалку праводзіць.

***Запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н. (перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на), студэнткамі Салаўёвай Т. Вайтовіч К.***

Гэта ўжо када прайшла Троіца, клалі агонь да казалі русалкам у жыце сядзець. Патом русалка даганяе, калышацца тамака на арэлях. Выбіралі дзяўчыну, надзявалі бела плацце. Косы доўгі расплятaлі. Вялі ў жыто, каб яна каво спаймала. Удзельнічалі маладыя дзеўкі, хлопцы. І пелі, спявалі, танцавалі:

Я ў калхозе раблю,
Буракі драблю,
А як прыйдзе вечар,
Васіля чакаю.
Вот ідзе Васілю
Да і да маей хаты.
В сераму касцюме,
Не магу пазнаці.
– Чаго, Галя, смутна,
Чаго зажурылась,
Ці ў калхозе была,
Ці то ўтамілась?
– Я ў калхозе не была,
Я не ўтамілась.
Дак ідзі служы-ка,
Дак я зажурылась.
– Не журыся, Галя,
Не журыся мною.
Я буду служыці,
Ты будзь маёю.
Я буду служыці,
Летуном лятаці
Ды ляцець да Галі,
Вестачку пісаці.

Русалка паскоквала. Як ужэ спаймае ды паскочыць, так чалавек і памрэ.

***Запісана ў в. Загалле***
***ад Бараш Алены Навумаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л. (2003 г.)***

Шчас русалкі німа. Русалка паяўляецца, як паспея жыта, а шчас жыта зялёнае. Праводзілі русалку ў жыта. Прыбіралі дзеўку ў русалку і вялі яе да жыта. Я ж сама русалкаю була. Калісь валошка цвіла, дак з яе вянкі плялі да надзявалі ўжэ той дзеўцы, што русалкай будзя. На рукі надзявалі, на ногі, на голаву. Тады сабіраюцца дзеўкі і вядуць русалку, спяваюць:

А ты, русалка, не ляніся,
Да за мною ганіся.

Як паймая якую дзеўку, дак ужэ слакоча яе да рагоча – балуюцца так. А тады ўжэ прыходзяць дадому, ставяць бутылку, сабіраюцца гуляць. Вупіваюць дай танцуюць. Хлопцаў з сабой не бралі.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Барысаўшчына Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

Вот эта Русальная нядзеля запомнілася мне добра. На свята выбіралі такую красівую маладую дзевачку, нарадзілі яе. То бусінкаў напрышываюць, то ўкрашэнняў навешваюць, а яна ж русалкаю была.

Абычна ў дзевак такія косы былі бальшыя, красівыя. Дак ужэ і вядзе яна ўсіх за сабой. Ой, ну помню такая красівая ў нас дзевачка была. І кагда праводзілі русалку, то казалі:

Давяду русалку да броду,
Уходзяць людзі ўсе дадому.

Пускалі вяночкі:

Калі вянок патануў,
Значыць, мілы абмануў,
А калі падняў,
То з сабой забраў.

Хлопцы праводзілі дзевачак-русалак дадому, а іх вяночак кідалі ў сваім агародзе, эта рабілі, каб ураджай быў добры.

***Запісана ў в. Каранёўка***
***ад Вяргейчык-Паўленка Анастасіі Трафімаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Навуменка Н. (2003 г.)***

Пра русалку я ведаю не очань многа, але ж некаторыя абрады булі і ў мае годы. У канцы лета, калі ўжэ падходзіла пара жыта жаць (калі яно было ўжэ спелае), маладыя дзяўчаткі плялі вянкі з калосся і лазы. Гэтымі вянкамі прыбіралі адну з дзяўчын, рабілі з яе русалку. Таксама яе ўпрыгожвалі голькамі з розных дрэў. І вот такую яе, нараджаную, вялі ад сяла да лесу і спявалі песні:

Завяду русалачку ў цёмны лес,
А сама вярнуся к татку ў клець.
Завяду русалачку да бору,
А сама вярнуся дадому.

Патом мы начыналі біць яе розгамі, а самі кідаліся наўцёкі. Яна ж гналася за намі таксама з розгамі. Калі каго дагоніць, то такжа пасячэ розгамі, а яшчэ пакоціць і сашчыкае да паўсмерці. А етыя вянкі, што булі на ёй, мы клалі ў градах на капусту, штоб качаны добрыя завязваліся і булі очань тугія. Дзецям жа бацькі казалі, каб тыя не хадзілі ў гарод, бо там русалка жалезнаю цыцкаю накорміць. Усё ета рабілася вечарам, на закаце сонца. І дзяўчына, якая була русалкаю, абязацельна даўжна була быць з доўгімі касамі. Гэта таму, што лічылася, што тая русалка, якая жыве ў жыці, ніколі не дасць шчасця дзяўчыне-русалцы, калі тая не будзе пахожа на яе: з доўгімі касамі, з вянком на галаве і ў лісцях. Таму і абцэплівалі дзяўчыну голькамі. А сам еты абрад у нас калісьці называўся “Ваджэннем русалкі” або “Русалчын дзень”. Лічылася, што пасля гэтага жытняя русалка прынясе харошы ўраджай і дабрабыт людзям.

***Запісана ў в. Мархлеўск (раней Ліствінская Слабада)***
***ад Ігнаценка Праскоўі Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Півавар Л. (2001 г.)***

За русалку выбіралі жэншчыну, усякай зелянінай яе ўпрыгожвалі ды вядуць ужо ўсім сялом з музыкай і песнямі ў лес. Там у лесе ўжо запальваюць голле і песні спяваюць:

Завяду русалку ў цёмны лес,
Сама вярнуся к мамцы ў клець.

Ці яшчэ:

Сядзела русалка на белай бярозе,
Ой, Божа мілы, на белай бярозе.

Потым ужо русалку закасмачым, вымажам у сажу ды вядом у жыта. Там у жыце з яе ўсё пасрываем і хутчэй уцякаць ад яе.

Напрыканцы ўжо ідом зноў з музыкай па сялу дый гулялі, танцуем.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Новік В., Клочка А., Руковіч В. (2003 г.)***

Сабіраліся хлопцы, дзеўкі, кучкаю ў лес ішлі і там праводзілі русалку. З сваёй кучкі выбіралі русалку. Наражалі яе, вянок ёй плялі, хараводы вакруг яе вадзілі, потым выводзілі на поле і кідалі. А яна набярэ сажы ў рукі, ну, там вугольчыкаў, і бегае з імі за намі. Каго дагоніць, дык пачкае. О, як було. Разрывалі на ёй адзенне, той вянок неслі і ў агародчык к сабе.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***

*студэнткамі Новік В., Клочка А., Руковіч В. (2003 г.)*

**Русалка**

По расказам, русалка жыла ў жыце і людзі баяліся яе. Каб яе ўблажыць, людзі рабілі ёй провады. На другую нядзелю пасля Троіцы святочна апранутыя жанчыны збіраліся на краю сяла і палілі касцёр. Пераскаквалі праз яго, і хто лепш і далей скокне, той будзе больш здаровы. Вадзілі карагод і спявалі песню:

Благаславі, Божа,
Благаславі, Божа,
Песенку запеці.
На новае лета па гары ходжу
Ды ў сяло гляджу.
А на гары сасна – усяму міру ясна.
А на гары той жа
Мой не любы творац,
Мой не любы творац
Ды з Богам гаворыць.
І скінь яго, Божа,
Із сасны да долу,
Із сасны да долу
Ды аб пень галавою.

Затым выбіралі дзяўчыну-русалку. На галаву адзявалі вянок і праз гэта жыта вялі яе к дрэўцу. Па дарозе білі яе розгамі, каб не пужала людзей, спявалі песню:

Правяду русалку за гару,
А сама вярнуся дадому.
Правяду русалку ў шчыры бор,
А сама вярнуся ў таткаў двор.

Падводзілі русалку к дрэўцу, знімалі з галавы вянок, закідалі яго на дрэва. Затым пелі песні і гулялі.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драко Марыі Дзмітрыеўны, 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Мельнікавай Л.***

Па народных павер'ях, русалкамі лічыліся дзяўчаты, якія памерлі на русальным тыдні, або якіх матка пракляла, а таксама тапельніцы і маленькія нехрышчоныя дзяўчынкі.

Да людзей яны з'яўляюцца голыя, толькі з вянком на галаве. Русалкі-казыткі жывуць у жыце. Бог пасылае іх туды пільнаваць, каб ніхто не атрасаў

расы з калосся, бо інакш жыта не нальецца. Пагроза, што русалка можа заказытаць таго, хто палезе ў жыта, асабліва палохала дзяцей. Русалкамі насяляліся таксама вадзяныя глыбіні, якія найбольш былі небяспечныя для купання.

На ролю русалкі выбіралася прыгожая дзяўчына з самымі доўгімі валасамі. Спачатку дзяўчаты і маладыя жанчыны прыбіралі русалку: распускалі ёй валасы, вілі вянок з хмелю. Потым з песнямі вялі яе ў вёску, абыходзілі дамы, наладжвалі на вуліцы карагод, у час якога русалка павінна была выбраць сабе пару. Затым русалку з абраным хлопцам вялі на вёску, а самі вярталіся дамоў. Увечары, пасля заходу сонца, іх шукалі там, дзе расце самае густое жыта.

Русалку заўсёды праводзілі ў жыта, каб быў лепшы ўраджай. Менавіта ад русалкі залежыць плоднасць поля. Вянкі, якія вілі з хмелю, у гэты дзень клалі на капусту, каб качаны былі тугія і вялікія.

Спявалі песню:

Правяду русалку, правяду,
Да й асінкаю заламлю.
Няхай мая русалка не ходзіць,
Буйнага жыта не ломіць.
Маё жыцейка гусценька,
Пад каласочкам таўсценькім.
Правядзем русалак
З бору ў барок,
У дубраву зялёну,
За ніву хрышчону.
Русалкі ў дзевачак
Прасілі сарочак:
Дайце, ліхенькі,
Да штоб хоць бяленькі,
Да штоб хоць бяленькі.
За жоўты пясок,
Штоб не пужалі,
Не слакаталі
Нашых дзевак,
Нашых дзевак.
Прывяду русалак
У зялёнае жыта,
Там мой каласочак,
Як бы яварочак.
Завяду русалку да бору,
А сама схаваюся ў камору.

На русальчыным тыдні нельга было купацца, а калі выходзілі з вёскі, бралі з сабою палын, якога русалкі палохаюцца.

На провады русалкі рабіліся розныя гульні. Жанчыны для гэтага рабілі з саломы два пудзіла ў выглядзе жанчын. Увечары жанчыны і дзяўчаты выходзілі на вуліцу, падзяляліся на дзве палавіны і ціхімі карагодамі даходзілі да канца вуліцы. Там спявалі па чарзе карагодныя песні.

Пасля спявання ўдзельнікі гульні збліжаліся. Потым пачыналася "вайна". Пудзіла з саломы дзяўчаты трымалі ў сваіх руках для абароны, а жанчыны, стоячы вакол іх, нападалі на другі карагод, абараняліся пяском, абліваліся вадой. Бойка пераходзіла на поле, дзе пудзіла раздзіралі і раскідвалі салому па полю. У гэты час дзяўчаты прычыталі пахавальныя галашэнні, распускалі косы, прыпадалі да зямлі, нібы да магіл.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.***

Русалку я праводзіла. Ты ў свае мамы, а я ў свае мамы. Кожна мама дае сваей дачке яечкі, смятану, малако, і мы ўжэ зносілі ў адну хату. І там ужэ, у катору хату зносілі, мая ўжэ хазяйка нам гатуе, а мы ўжэ пойдам у жыта, нарвом (расла такая валошка), панавіваем вянкоў, вубярам катору дзевачку за русалку, катору мы ўсе гуртам прызнаем. Ну, ужэ панавіваем тых вянкоў, убяром яе ў вянкі, тут на пояс надзенам, тут на шыю надзенам, на галаву, дак ужэ яна ўся ў вянку, і ўжэ яна нас вядзе, вядзе ўперадзе ў поле ў жыта. Яна нас вядзе ў адну палоску, у другую, а мы жэ ідом за ею і пяем:

Правядом русалку да бора,
Сама вярнуся ў камору.
Правяду русалку ў цёмны лес,
Сама вярнуся к мамцы ў клець,
Штоб русалачка не хадзіла
Ды майго жыцяйка не ламіла.
Маё жыцяйка густоя,
Ля каласка таўстоя.

А тады ўжэ:

Наша русалачка красіва,
Да красівейшая за ўсіх дзевак.

Тады ўжэ пабягом па жыту, а яна ўжэ нас даганяе да лавае. Ужэ катору злавае, дак ужэ шчакоча, шчакоча, а мы ўжэ рагочам да ўцякаем. Тады ўжэ прыдам, з тае "русалкі" вянкі кідаем ў капусту, дзе капуста расце, штоб не было вусені. Нас русалка і з жыта вядзе дадому, мы ўжэ тожа ўслед за ею. Прыдам ужэ ў тую хату, дзе нам гатовілі абед, тады ўжэ стаўляем сталоў і ўжэ тая хазяйка нам падносіла, а му ўжэ сядзелі да гасцявалі. І хлопцы з намі булі, а хлопцы тады музыканта прывядуць. Ета русальна нядзеля. Во ету нядзелю Троіцу святкуем, а во ету – русалка. Русалку праводзілі ў жыта ды

ўжэ самі шлі дадому. Ета і для гульні нада было, вабшчэ ета з прэдкаў века так завядзяно было русалку праводзіць.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т. Вайтовіч К.***

З цвяточкаў дзелаем вяночка такога, пачэпім. Патом такую рагазу чапляем і вянок еты тожа начэпім. Здзелаем русалку самі, і ўжэ тады ўсе ўмесце вядом да кладбішча ды і спявалі тады так:

Правяду русалку ў цёмны лес,
А сама вярнуся к мамцы ў клець.

Вось такую адну песню ўсе спявалі. Даводзім етую ўжо русалку да кладбішча, здымаем з яе вянок, кідаем яго на бярозку (на галінку) і ўжэ бяжым, уцякаем адно ад аднаго, как будта русалка там якая е. Ета проста гульня такая была, а мы ж яе не бачым.

Русалкі не было точна, ета проста на цябе надзяваюць вянка, цябе наражаюць. І ета ты ўжэ ёсць тая русалка.

Падаем і качаемся, штоб спіна не балела, ногі не балелі, дык мы качаемся і вянкі надзяваем. Патом вянкі знімаем, потым на капусту, штоб качаны раслі бальшыя, як вянкі на галаве ў нас былі.

***Запісана ў в. Малішаў (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Тагай Марыі Аляксандраўны, 1932 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Русальная нядзеля – нядзеля, якая пачыналася з панядзелка, калі былі розыгры. Калісьці надзяём дзеўку, вянкоў панавешваем, спрытную такую дзеўку, каб добра бегала, абкруцім яе ў вянкі і ўсё вядом яе па вуліцы, па ўсім сялу з музыкай, народу за намі ідзе! І ўжо там жыта ў канцы дзярэўні і вядом да самага жыта. Вядом, вядом да ўжо і пеем:

Правяду русалачку, правяду.
Да й асінкаю заламлю,
Штоб русалачка не хадзіла,
Буйнога жыта не ламіла.
Маё жыцейка гусцёнка,
Пад каласочкам таўсцёнка.
Правяду русалку да бору,
Сама вярнуся ў камору.

Баяліся ў русальную нядзелю купацца. Мой пакойны дзед казаў: “Ета нядзеля ня намі занята”.

А ў нас адна жэншчына на русальную нядзелю прыйшла замуж з Агароднік. Бацька падарыў ёй цяліцу цельнаю і сказаў, каб яна прышла тады, калі ацеліцца. Вот яна з мужыком і паехала з маленькім дзіцяткам на руках было. Едуць адтуль позна, мужык напіўся і заснуў, яна ў адной рукі дзіцёнка трымае, а другой паганяе каня. Толькі вот Пікуліха і Пінішчы, дзе перасечана дарога, ходзіць там дзіця гадкоў 5, коскі распушчаныя і пераходзіць дарогу. Конь дыбака, і ўжо так спужалася і давай Богу маліцца, васкрэсную малітву чытаць. Яна як шла, так і пайшла ў жыта, а жэншчына дзёрнула каня, і даехала дадому.

Еслі дзіця родзіцца да нехрышчона ўмрэ – ета і ёсць русалка. Вот то яно і нешчаснае яно і блутаецца, яно мо і нікому нічога, но ўсё-такі праціўна ўстрэціць такое, боязна.

***Запісана ў в. Слабажанка***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Калі цвіла валошка ў жыце, была русальная нядзеля. Выбіралі дзяўчынку, каб была вясёлая, і не вельмі маленькую. Для русалкі з васількоў плялі вянкі. Украшалі яе кветкамі і ветачкамі. Потым пратали яе ў жыце ці яна сама праталась. Затым бегалі дзяўчаты і шукалі русалку ў жыце.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

Ідом вось, ідом праз жыта. “Ты ж не ідзі, там жа русалка выйдзе з жыта, выйдзе з жыта”, – маці так гаварыла. Да вочы і не бачылі. Гавораць, як выскача што-небудзь з жыта, то русалка пабегла.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л. (2003 г.)***

Зранку з самага мы ідзём у поле, рвём палявыя кветкі, із бярозы веткі, галінкі бальшыя і спадніцу робім русалачкі. Русалачкай заўсёды была маладая дзяўчына з доўгімі косамі, і былі маленькія русалачкі. Яны плялі вяночкі з палявых цвяточкаў. З галінак бярозы русалачкі рабілі спадніцу, вяночак плялі з рамашкі, з васількоў, надзявалі і ішлі ў жыта, і спявалі:

Павяду русалку ў цёмны бор,
А сама вярнуся к мамцы ў двор.
Павяду русалку ў цёмны лес,
А сама вярнуся к мамцы ў клець.

Прыйшлі мы ў жыта, а да гэтага адразу ішлі да вады. У вадзе мы русалку абмывалі, каб уся нячыстая сіла асталася ў вадзе. Самі ўмываліся ўсе, хто ішоў. Потым ішлі ў жыта. У жыце маладыя русалачкі і маладыя

дзеўкі стараліся дагнаць русалачку, яна ўцякае, яе даганялі і стараліся раздзець яе, вырваць кветкі з зялёнай спадніцы. Вяночак яна срывае, кідае ў жыта. Жанчыны, якія там хадзілі, маладыя дзеўкі, стараліся рваць этыя галінкі, вяночкі і ўсё занесці дадому, на агарод. Лажылі на градкі, вяночкі лажылі на капусту, каб завязвалася капуста і былі вялікія качаны. А галінкі раскідалі па ўсім агародзе, па градах, каб ніякая нячыстая сіла не памяшала добраму ўраджаю.

Русалкі – гэта пакойніцы, каторыя патанулі ў вадзе, маладыя дзяўчаты. Таму ў русалку і ўбіралі маладую дзеўку, яна далжна быць з длінnымі валасамі.

Яшчэ калі-та рабілі так. Нападобіі, як сажа, абмазывалі русалку. Дык як ідзе назад, дак яна хоча каго-та ўкусіць. Дак уцякалі дзеці. Людзі перапінали на вуліцы вяроўкамі такімі. Як хто-та ўпадзе, значыць, русалка дагоніць. Стараліся, штоб русалку не ўшкодзіць, штоб яна не нарабіла бяды ніякой.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Лісце, тое лісце во так кругом клалі і на галавы, і на ўсё. У лісця ў етае адзенамся і тады за рукі пабяромся, і ў жыта бягом, і спяваем. Баяліся хадзіць у жыта, што старыя кажуць: “Ідзіця, ідзіця, тамака выбяжыць русалка, за вас ды і пацяне”. Кажа, што возьме, пацяне цябе ды і задушыць. Дак баяліся.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на***
***ад Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Дзеўкі збіраюцца, плятуць вянкі. Убіраюць ужэ, ну, хлопца і дзевачку, ета русалкаву, пару. Надзяюць ужо етыя вянкі і вядуць ужо дзе-та па дарогі, і ідуць да жыта. Тутака: “Гэ, – закрычалі, – русалка!” І хто куды. Як пабеглі, хто куды разбегліся.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Салапана Аляксандра Іосіфавіча, 1931 г.н.***
***(раней пражываў ў в.Казялужжа Хойніцкага р-на),***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

На русальную нядзелю вянкі плялі да па полю хадзілі. Ой, адзенуць мяне ў русалку і я пайду, буду, напрымер, хадзіць да гуляць па полю і песні спяваць. Што ўжо адзену, так і пайшла, у том і пайшла. І вянок, які вяжуць, адзенуць яго.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

А ў нас ужо вот ета русалка ў васкрасенне ж была ўсягда. Ну, калісьці ж вадзілі русалку, як былі малыя. Ужо з утра ідуць на базар нашыя радзіцелі, там маглі быць і другія, саседзі. А што нам там куплялі – сіроп. У куўшыне прынясуць, нальюць сіропу.

Мы там збіраемся ўжо: па тарэлкі мукі, па сколькі яіц, хто там картошкі – у адну хату зносілі ўсё. Запалююць ужэ жэншчыны ў печы. Ну, другая саседка прыдзя і паможа. У печы запалюя, нам ужо гатовя есці: кісяля нам наварыць, картошкі ўжо етай, там нам яічніцу, коржыкаў напякуць.

А мы ў ета ўрэмя ідом, нарвом цвітоў (на балоце ў нас былі такія жоўтыя (лотась высокая)), ілі васількоў у жыце. Выбіраем ужэ адну дзяўчынку русалкаю. Плятом ёй касцюм, усё плятом ужо: і рукава, вянок плятом. І вядом яе ў жыта, русалку, і спяваем. Тады па жыту па етым бегаем. Яна ўжо дагоніць каго – стараецца пашлакатаць ужо. Ну, пакрычыць. Тады мы касцюм на ёй еты разрываем, еты ўжо, што мы ёй сплялі. Этыя цвяты, што ўжо разарвалі, дадому прыносім і кідаем у агарод, у капусту. Абязацельна, абязацельна ў капусту. А тады ўжо самі ідом і гуляем. Ужо нам етага купяць сіропу, есці нам нагатовяць, і мы ўжо тады о-то пагулялі. Во так мы русалку праводзілі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Русалка – страшная, врэдная, жыве ў жыці. На роль русалкі бралі таго, хто сагласіцца. З двара вялі па дзярэўне ў жыта, і там яе пакідалі. З плюшніка рабілі рукавы, юбкі.

Завяду русалку да бору,
Сама вярнуся ў камору.
Завяду русалку да жыта,
Сама вярнуся дабіта.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А.,***
***Казека А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)***

# ЛЕТНІЯ І ВОСЕНЬСКІЯ СВЯТЫ, ЗВЫЧАІ І ПЕСНІ

## Купалле

Да вайны мы яшчэ малыя былі. Ну, што помню, дык ета тое, што ўжэ ўсю ноч гуляла маладзёж. Ужэ сабіраюцца ўмесці, кастры етые паляць. Танцуюць, пяюць дзеўкі.

Папараць-кветка, гавораць, што е. Яна расцвітае апоўначы, і, хто яе найдзе, той дужа шчаслівы чалавек будзе. Ну, пака яе ніхто не находзіў.

Ну што яшчэ помню, пускалі на ваду вянкі етыя. Гадалі як-то, а як, ужэ і ня помню. Ета мая матка ўсё знала, а я ўжэ не знаю. Кастры лажылі высокія, і тады ўжэ парамі скакалі чэраз яго. Хадзілі купацца ўмесці. А вот трохі пазней было такое, што хадзілі і вот шкоду рабілі якую-небудзь: лаўку там выдзярэм ці яшчэ што зробім. Вот такое було.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Гэты празнік называлі Іван Купала. У ім гулялі ўсе – і дарослыя, і дзеці. З утра ішлі купацца на рэчку. На Купалле моладзь хадзіла ў лес, каб збіраць “зёлкі” – лекавыя травы. А яшчэ дзеўкі, якія былі ні замужам, рабілі вянкі і кідалі ў рэчку. Чый вянок падплаве к берагу, той будзе адзін, а ў каго вянок паплыве па рэчцы, той у гэты год выйдзе замуж.

Увечары зажыгалі кастры, прыгалі праз вогнішча, каб ачысціць сябе ад цёмнай сілы, нагавораў і г. д.

Купальская ноч счыталася “ноччу нячыстых духаў”, у гэту ноч вядзьмаркі маглі нарабліваць людзям. І людзі рабілі пудзіла ведзьмы. А потым ішлі за дзярэўню і палілі гэта пудзіла. Так яны выганялі з вёскі ведзьм і нячыстыя сілы.

Моладзь гуляла ўсю ноч. Яны палілі агні, вадзілі карагоды, а потым устракалі ўсход сонца. Пелі песню:

Ой, на Купаллі агонь гарыць,
А ў нашых хлопцаў жывот баліць.
Ніхай гарыць, хоць патухне,
Ніхай баліць, хоць апухне.
Ой, хто не выйдзе ўвечары,
Боль штоб балела ў баку ў печані.
Хто не выйдзе на Купалле,
Штоб яго матка прыкапала.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***

***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

На Купала дзеўкі яшчэ зрання былі ў полі, на лугу збіралі зёлкі, рвалі кветкі на вянкі, а хлопцы нашы ж раскладалі агонь. Тады ж увечары маладыя хлопцы і дзеўкі скакалі цераз агонь, вадзілі карагоды ды спявалі купальскія песні:

– Ты, Купаленка, рана-раненька,
Ды й дзе ты была рана-раненька?
Ды й што ты рабіла рана-раненька?
Ды я ў бары была рана-раненька,
Я краскі збірала рана-раненька.
– На што красачкі рана-раненька?
– Ды й вянкі віць рана-раненька.
– А на што вяночкі рана-раненька?
– Дзеўцы на галовачку.

На Купалу варажылі. Кідалі ў ваду вянкі. Калі вянок плыў, то гэтая дзеўка хутка замуж ішла.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

На Купала дзяўчаты збіраліся і ішлі на поле збіраць кветкі. Стараліся збіраць да іншай вёскі, каб сваты прыязджалі.

А хлопцы збіралі дровы, рыхтавалі месца для купальскага вогнішча. Праз той касцёр потым пераскоквалі дзеўкі і хлопцы. Скакалі для таго, каб ачысціцца ад злых духаў, дрэнных спраў.

Уначы хадзілі ў лес шукаць папарань-кветку. Лічылі, што, хто знойдзе – будзе шчаслівы.

А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.
Там мальчыкі хадзілі,
Рэшатам ваду насілі.
А ў рэшаце вады нет,
А ў мальчыкаў праўды нет.
А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.
Там дзевачкі хадзілі,
Кубачкам ваду насілі.
А ў кубачке вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.

Ой, маладая маладзіца,
Ой, выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Ой, развядзі нам купальніцу,
Ой, развядзі нам купальніцу.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***студэнткамі Новікавай І., Навуменка Н., Смірновай А. (2003 г.)***

**На Івана**

Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
Проці Івана ночка мала.
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Дзе, Купала, начавала?
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Начавала ў чыстым полі.
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
У чыстым полі сярод жыта.
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Чым, Купала, вячэрала?
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Варэнічкі вячэрала.
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Чым, Купала, запівала?
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.
– Гарэлачкай запівала.
Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

**На Купалу**

А на Купалу
Рана сонца іграла,
Рана сонца іграла,
На добрыя гады,
На добрыя гады,

На цёплыя росы,
На цёплыя росы,
На хлебы ўраджаі,
На хлебы ўраджаі.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

На Купалле кастры палілі. Дзеўкі з хлопцамі цераз агонь прыгалі. Дзяўчаты вянкі плялі ды на ваду іх апускалі. Як прыб’е да берага, то дзеўка прыб’ецца да хлопца і замуж пойдзе ў гэты ж самы год. А як не прыб’е да берага, то пасядзіць яшчэ дзеўкай. Магчыма, гэта працягнецца цэлы год, да новага свята.

У поўнач ішлі ў лес шукаць папараць-кветку. А некаторыя, каб спужаць у лесе людзей, вымалёўваліся, пераадзяваліся ды пугалі, хваталі за ногі, рукі. Весяліліся на славу. Шчыталі, што той, хто знойдзе папараць-кветку, будзе заўсёды здаровы, багаты і шчаслівы.

Калі хлопцы не знаходзілі вянкоў, то пелі:

Мая міла бегла, шыла,
На суседа вешала.
У васямнаццаць палюбіла,
А мяне пацешыла.

***Запісана ў в. Каранёўка***
***ад Вяргейчыка Уладзіміра Антонавіча, 1927 г.н.,***
***студэнткай Навуменка Н. (2003 г.)***

Усе хлопцы прывозілі многа дроў на ту сторану ракі. Ложаць агромны-агромны касцёр, потым касцёр гэты зажыгаюць. І тут ўжо пачынаюць пець частушкі, хто што, самі складалі таксама, а па рацэ плывуць лодка, а там сядзяць русалкі – дзевушкі і вадзяны – тожа пераадзёваныя.

Потым пачынаюць вадзіць карагоды (і русалкі, і вадзяны). Потым пачынаюць прыгаць праз агонь. Ну, і пяюць гэтую самую песенку:

Купала, на Івана,
Купала, на Івана.
– Ой, Купала, дзе ж ты начавала?
Купала, на Івана,
Купала, на Івана.
– Начавала ў чыстым полі.
Купала, на Івана,
Купала, на Івана.

У нашыя часы гулялі весела. Не знаю, як цяпер. Гэта якраз былі пасляваенныя гады.

*Запісана ў в. Каранёўка*
*ад Літвінкі Віктара Мікалаевіча, 1921 г.н.,*
*студэнткай Навуменка Н. (2003 г.)*

Свята Купалле называлася свята “Івана Купалы”. На Купала запальвалі кастры каля возера. Дзяўчаты пераапраналіся ў русалак, ведзьм. Хлопцы – у вадзянікоў, лешакоў. Рабілі калясо, якое круцілася, запальвалі яго, вадзілі карагоды, пелі песні.

Ой, рана на Івана,
Ой, рана на Івана,
Проці Івана ночка мала,
Ой, рана на Івана.

Усе дзяўчаты былі ў вянках. Яны прыходзілі на возера, кідалі вянкі на ваду, спявалі песні:

Пойдзем, пойдзем лугам,
Лугам зяляненькім.
А ў лузе цвятуць цвяточкі,
Там дзяўчаты водзяць таночкі.

Многа песень спета
Пра шчодрае лета,
Толькі Ганначка не спявае,
У буйных травах вяночкі звівае.

Калі кідалі вянкі на ваду, то глядзелі, чый вянок прыплыве к берагу, тая дзеўка выйдзе ў гэтым годзе замуж. Скакалі ў парах дзяўчаты з хлопцамі чэраз агонь, хадзілі шукаць папараць-кветку. Лічылася, што хто знойдзе ў гэты дзень зацвёўшую папараць-кветку, той увесь год будзе шчаслівы.

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.*

Пачыналі гуляць з 6 ліпеня. Дзяўчаты збіраліся і ішлі на поле збіраць кветкі: васількі, рамонкі. Стараліся збіраць на тых палях, якія прынадляжалі суседнім вёскам. Гэта каб к ім прыязджалі сваты адтуль.

Збіралі дровы і рыхтавалі месца для купальскага вогнішча. Шукалі холм, а на ім выстройвалі такую сістэму: ставілі шэст, на яго вешалі старое калясо і ад кола па шасту абвівалі прамасленую вяроўку, а на зямлю лажылі галінкі, якімі на Тройцу ўпрыгожвалі хату і двор. Па заходу сонца мы падпальвалі гэтыя галінкі, і ад іх загаралася вяроўка, а далей тое калясо. Гарашчае калясо абазначала сонейка. Акрамя гэтага, раскідвалі касцёр, цераз якія потым пераскоквалі дзеўкі і хлопцы. Скакалі ад таго, каб ачысціцца ад

злых духаў, дрэнных спраў. Уначы хадзілі шукаць папараць-кветку. Счыталі, хто яе знойдзе – будзе шчаслівы.

А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.
Там мальчыкі хадзілі,
Рэшатам воду насілі.
А ў рэшаце вады нет,
А ў мальчыкаў праўды нет.
А на гарэ калясо,
Гарыць яно харашо.
Там дзевачкі хадзілі,
Кубачкам воду насілі.
А ў кубачке вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
Ой, маладая маладзіца,
Ой, выйдзі, выйдзі на вуліцу,
Ой, развядзі нам купальніцу.

Шчэ быў у нас такі выпадак, калі дзеўкі хадзілі шукаць папараць–кветку пасля 12 гадзін, мы, хлопцы, перадзяваліся ў ведзьмаў, разрысоўваліся і беглі пужаць іх. У Вялікім Боры, як вы знаеце, адзін лес, хвойнік, а там страшна–страшна блукаць. Адным словам, гулялі мы весела. А пад утра збіраліся разам, ішлі на ўзгоркі, глядзелі, як сонейка ўстае. У гэты дзень усход здаваўся нам больш прыгожым, чым у другія дні.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка Марыі Пятроўны, 1935 г.н.,***
***Сачанкі Пятра Міхайлавіча, 1933 г.н.,***
***студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.)***

Вот эта нашая дзярэўня называлася Каранёўка, якую мой дваюрадны браток, Іван Мележ, апісаў у творы “Людзі на балоце”. Но там он назваў яе Курані. У дзярэўні ў нас гулялася красіва. Ужэ вот сёмага будзе Іван Купала. Язычаскае свята. Праваслаўныя эты празнік не прымаюць па веры, але гуляюць многія. Яго прысвяцілі сонцу. І я чула, што раньшэ славяне звязвалі празнік з агнём і вадой. Ну, эта каждаму панятна – з агнём, патаму што спальвалі там чучалу, я ўсё раскажу шчас, а з вадой – таму што пасля дванаццаці часоў лезлі купацца ў рэчку, дзевачкі вяночкі пускалі ў ваду.

У нас очань гатовіліся да празніка. Копанка была такая самадзельная. Дзевачкі вяночкі спляталі, хто болей дарослы, жанчыны хадзілі збіраць розныя расценія, ну шаптухі рабілі з этых расценняў лячэбныя травы.

Шчыталася, што ў эты дзень расценне набірае ў сябе валшэбную сілу. Дзелалі, помню, чучала з сена, такое смешнае, сухенькае і сразу пелі песні:

У Валодзі ў агародзе

Расцвітае белы мак.
Усе хлопцы пажаніліcь,
А Валодзя ходзіць так.
Ты жаніcь, Валодзенька,
Бо я яшчэ малодзенька...

Жэншчыны гатовілі кашу з пярлоўкі. Яду выбіраць тады не прыходзілася, бо пасляваенны час быў.

Патом чучала тое падпальвалі і вадзілі хараводы каля кастру. Мы ж былі маладыя, усё інцярэсна была. І мы ўсё пелі:

А Купала-а над вадою-у,
А мы ўсе чарадою-у.
А мы ўсе чарадою-у,
Ой, і рана на Купала.

І спявалі, і прыплясывалі, і прыказывалі. У маладосьці яно ўсё запамінаецца, а цяпер я многа чаго ўжо і не помню. Помню, пасля хараводаў ішла маладзёж да вады, ну, а дзевачкі плялі вяночкі і пускалі па вадзе. Ага, вот эта я запомніла. Хлопцы прыгалі ў ваду і вылаўлівалі іх. Абліваліся вадою, купаліся. Шчыталася ў нас у дзярэўні, што кагда пасля дванаццаці пакупаешся ў вадзе, то значыцца, злечышся ад усіх хваробаў.

Пелі такую песеньку:

Дзеўкі венкі плелі,
Ой, да выплётвалі.

Адна дзеўка не змаўчала,
Громкім голасам скрычала.
Вянок патануў.

Ну, а кветачку-папараць не знайшлі. Мне кажыцца, эта міф такой. Ведзь ніхто яе не находзіў нікагда. Мне думаецца, проста эта так гаварылі, што папараць можа цвісці, але ніхто яе цвіточак і не відзеў.

***Запісана ў в. Каранёўка***
***ад Вяргейчык-Паўленка Анастасіі Трафімаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Навуменка Н. (2003 г.)***

На Купалле сабіралі травы ўсякія, ягады, бо лічылі, што яны будуць лячэбнымі. Ад усялякіх нячысцікаў вешалі на заборы крапіву. Дзеўкі маладыя вілі вянкі з красак усялякіх, на галовы іх адзявалі, у воду кідалі ці яшчэ ў грады на капусту, у цыбулю пакідаюць, каб добра расла. Вечарам палілі касцёр, прыгалі праз яго, хадзілі шукаць папараць-кветку або так рвалі папаратнік.

***Запісана ў в. Навасёлкі***

*ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,*
*студэнткамі Клочка А., Руковіч В.*

Яшчэ зраніцы дзяўчаты і жанчыны з песнямі накіроўваліся ў лес збіраць зёлкі. Потым прыбіралі ў хатах. Збіралі непатрэбныя рэчы (пабіты і пашчэрблены посуд, стары абутак і адзёжу). Гэтыя рэчы потым спальвалі на вогнішчы. Каля купальскага агню пяклі яечню.

Пасярод вогнішча ставілі жэрдку, наверх якой замацоўвалі кола. На кола клалі салому і прывязвалі рознакаляровыя ленты. На Купалле дзяўчаты варожылі, пускаючы вянкі па вадзе. Калі вянок паплыве ад берага, то дзяўчына ў гэтым годзе выйдзе замуж. Калі ж вянок патоне, то гэта азначала хуткае гора.

Ноччу юнакі і дзяўчаты хадзілі ў лес шукаць кветку папараць, якая ў гэту ноч свеціць, нібы агеньчык.

Кветкі і зёлкі, сабраныя ў гэты дзень, лічыліся больш цалебнымі. Калі акурываюць хворых, кідаюць іх у запаленую печ у час навальніцы, каб уберагчы хату ад удара маланкі.

Калі збіраюць травы, кажуць: "Зямля-маці, благаславі мяне зёлкі браці, і зёлкі мае маці!"

У Іванаву ноч збіраюць багаценку, якую ўтыкваюць у сцяну на імя кожнага з сям'і, чыя кветка хутчэй засохне, той або памрэ ў гэты год, або захварэе. Дзяўчаты збіралі 12 зёлак і клалі пад падушку, кажучы: "Сужаны-ражаны, прыходзь у мой сад гуляць!"

На Купалле спявалі наступныя песні:

А на Купалле агонь гарыць,
А нашым хлопцам жывот баліць.
А няхай баліць, перамучыць,
Дзеўкам Купала не надакучыць.
Сягоння Купала, цёмная ночка,
Павыкалваеш ведзьмавы вочкі,
Штоб не хадзілі ў цёмныя ночы,
Каровак нашых не папужалі,
Малодак нашых не пабуджалі.
Малодачкі нашы самі ўстануць,
Каровак у поле павыганяюць…

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Там, дзе мы жылі, ды факцічаскі не святкавалі. А як прыехалі сюды, дык пачалі. Маладзёж збіраецца, паляць агонь. Чэраз агонь прыгаюць, робяць жэншчыну са снапоў, потым паляць. У возеры купаюцца. Папараць-кветку шукаюць на Купалу. Як хто найдзе, будзе шчаслівым. Мала хто бачыць, як яна цвіце.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Грышчанка Надзеі Пініпаўны, 1938 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

На Купалле людзям шкодзілі ведзьмы. Людзі расказвалі, як яны адбіралі малако ў другіх кароў. Адзін мальчык-пастушок пагнал пасці кароў на то поле, якое аддзяляе адну дзярэўню ад другой, хоць яму старыя людзі гаварылі, што на тым месцы сабіраліся ведзьмы і прэврашчаліся ў жаб. Падпалзе к карове і адніме ў яе малако. Вось еты хлопец замеціў, што между каровамі ползает бальшая жаба. Он поняў, што ета жаба – ведзьма. Тады ён ўзяў палку і сказаў: "Ахці, ведзьма, ты прыйшла к маім каровам за малаком, шчас я табе". Стукнуў па ёй так, што папаў па лапе і жаба папаўзла без яе. Пасля яму сказалі, што яго хроснай адсеклі руку. Тады хлопец пайшоў да хроснай, якая на парозе стукнула яго качаргой: "А ты, неслух, ты прыйшоў глуміцца нада мной, за цябе іду на той свет." А гісторыю гэту ўспамінаюць і зараз.

На Купалле шукалі папараць-кветку. Калісьці аднаму чалавеку ўдалося авалодаць етым цвятком. У етага чалавека перад святам заблудзілі валы. Ён пайшоў шукаць іх і сам заблудзіўся, потым сам сеў перадыхнуць. У ету ноч зацвеў папаратнік, які цвіце іменна тады. На шырокіх лістах папаратніка з'явілася ночка, а ў дванаццаць гадзін ночка трэснула і з'явіўся яркі цвяток, на яго было нельга глядзець. Еты цвяток папаў чалавеку ў лапаць. Калі ён прачнуўся, стаў другі: ён разумеў прыроду, чуў усё тое, што было ў хаце, калі яго самаго там не было, убачыў тое месца, дзе знаходзіліся валы. Калі ён пагнаў валоў дамой, то адчуў, што нешта пячэ яму ў ногу. Ён скінуў лапці і згубіў папараць, якая там знаходзілася, і стаў чалавекам звычайным. Каб знайсці папараць, трэба ісці ў такую глуш леса, каб там не было чутна крыка пеўня, бо яго баіцца сатана, і застацца там на ўсю ноч. У гэты час трэба чытаць малітву і трымаць грамнічную свечку запаленай, таму што сатана будзе пугаць чалавека: кідацца на яго ў выглядзе змей, звярэй. Чалавеку будзе здавацца, што на яго будзе падаць дрэва. Рабіў ён так таму, што не змог сам завалодаць гэтай кветкай і не хацеў, каб гэта зрабіў чалавек. Каб засцерагчыся ад сатаны, чалавек павінен стаяць ў крузе, напісаным пасвяцоным мелам. Сатана не пераступя еты круг.

У гэты дзень ведзьмы маглі спорціць кароў. На луг, дзе пасуцца каровы, яны прыходзяць рана, бяруць рушнік і цягнуць яго па расе, кажуць пры гэтым і паказваюць на тую карову, у якой хочуць адняць малако: "Як раса ўбывае з-пад рушніка, так і няхай убудзе малако ў етай каровы", або "Як раса ўпіваецца ў мой рушнік, так няхай малако пераходзіць ад етай каровы ў вымя маёй каровы". Потым ведзьма выкручвае рушнік. Шчэ баіцца чалавек, каб ведзьма не забралася к каровам у хлеў, пагэтаму на варотах кладуць крапіву, каб яна спяклася, а шчэ забіваюць касу, каб яна адрэзала сабе хвост. А шчэ ведзьмы баяцца грамнічных свечак, хоць са злосці грызуць, але перагрызці не могуць.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)*

*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

Купала ў нас быў вельмі бальшы празнік. Усе яго ждалі, а асобенна маладыя хлопцы і дзеўкі. На Купалу ў нашай дярэўне жглі вялікія кастры на ўзвышынах, каб добры быў ураджай. Ураніцу сабіралася ўся дзярэўня і ішлі сонца глядзець. Дзеўкі браліся за рукі і хадзілі па кругу. А пасля гэтага ўсе ўмываліся чыстай купальскай расой, каб увесь год быць здаровым, каб добра рабіць. А яшчэ хлопцы і дзеўкі збіраліся ўвечары і купаліся ў возеры. Потым дзеўкі плялі вянкі з разных траў і пускалі вянкі на ваду. Куды вяночак паплыў, туды і дзеўка замуж пойдзе. Так гадалі ў нас. Дзеўкамі былі, так гадалі і на розных травах, цветах. Траўкі зрывалі і загадывалі жаланне якое-небудзь. Калі чэраз час гэты цвет распушыцца ўвесь, то жаданне збудзецца.

Дзеўкі і жонкі ўжо ўвечары збіралі траўкі для лячэння. У царкве свяцілі гэтыя траўкі, а потым лячылі імі хворых. Гаварылі, што ў купальскую ноч усю ноч лётала нячыстая сіла: нячысцікі, якія шкоду людзям рабілі. Усе іх баяліся.

Мама рвала ўдзень крапіву да лажыла яе каля дзвярэй у нашай хаце, на вокны. На Купалу ў нас у хаце заўсёды быў накрыты вялікі стол. Увечары прыходзілі ўсе нашыя родзічы. Было многа яды. І у гэты празнік на стале трэба было, каб стаялі бліны і яешня. Бліны пеклі тоўстыя, учыненыя. Мужыкі пілі гарэлку.

Дзеўкі і хлопцы маладыя верылі ў нас, што на Купалу ў двянаццаць часоў ночы расьцвітае папаратнік. І цвет папаратніка, калі яго сарваць, зробіць чалавека шчаслівым. Но цвет гэты нада насіць толькі пад кожай правай рукі. А бабы старыя расказвалі, што ў гэту купальскую ноч ходзіць стары купальскі дзед з бальшым кошам і сабірае цвет папаратніка.

Хлопцы маладыя рабілі ў гэтую ноч, што хацелі. У адных калітку знясуць, у другіх падапруць дзверы калодай, трэціх напужаюць. На Купалу ў нас спявалі песні. Мы дзеўкамі любілі спявать песню пра Купалінку.

Купалінка, Купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
Дзе ж твая дочка?

Мая дочка ў садочку
Ружу, ружу поліць,
Ружу, ружу поліць,
Белы ручкі коліць.

Кветачкі рвець,
Кветачкі рвець,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,

Слёзкі пралівае.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сацуры Аляксандры Усцінаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Фяськовай Т.***

На Купалле дзеўкі і жанчыны ішлі на луг, каб назбіраць кветак і зёлак. І яны спявалі:

Ой, на Купала, на Яна
Дзевачкі зелле збіралі.
Яны збіралі, не зналі
І старога дзеда пыталі:
– Што гэта, дзядулька, за зелле?
Чорны галоўкі, насенне?
– Нашто вы яго збіралі,
Калі вы яго не зналі?
Ваша дзявоцкая красата,
Вашаму сэрцу сухата.

Потым палілі вогнішча, пачыналі весяліцца, вадзіць карагоды, спявалі песні.

Ноч Купала – ночка мала,
Ой, рана на Івана.
– Дзе, Купала, начавала?
Ой, рана на Івана.
Чым, Купала, вечарала?
Ой, рана на Івана.
– Вечарала белым сырам,
Ой, рана на Івана.
– Чым, Купала, запівала?
Ой, рана на Івана.
– Запівала гарэліцай,
Ой, рана на Івана.

Скакалі праз вагонь. Дзяўчаты скакалі ў пары з хлопцамі. Калі не адпусцяць рукі – значыць пажэняцца.

На Купала варажылі. Варажылі на вянках. Клалі две палачкі, накрыж прымацаваныя да вянка, ставілі туды свечку і пускалі на ваду, і казалі: “Плыві, мой вянок, то ўверх, то ўгару к свякровінаму двару”. І па тым, як паводзіў сябе вянок, меркавалі аб сваім лёсе. Калі вянок круціцца – будзеш старай дзевай, калі паплыве – выйдзе дзеўка замуж.

А яшчэ мне маці расказвала, што дзеўкі каталіся па роснай пшаніцы, затым хуценька апраналіся, беглі дадому не аглядуючыся, загадаўшы на суженага. Напачатку каля вогнішча дзяўчыны дзелаюць яечню, вячэраюць,

потым высока на жардзіне запальваюць старое кола, пляшуць ля яго, узяўшыся за рукі, спяваюць. Затым скачуць праз вагонь. Лічылася, што полымя купальскага вогнішча бароніць ад злых духаў.

Хлопцы ноччу ішлі ў лес шукаць папараць-кветку. Каму пашчасціць і хто знойдзе гэтую кветку, то будзе разумець мову жывёл і птушак. Але ж ніхто тую кветку не знайшоў.

Была дзяўчына Купала, якая выбірала сабе да пары хлопца, купаліся на зары ў рэчцы, пускалі вянкі, спявалі:

Ды сёння Купала, а заўтра Ян,
Ды плялі дзевачкі вяночкі
Святому Яну, Купалу,
Маладым дзевачкам із руты.

Яшчэ адна:

Ішла Купалка сялом, сялом,
Закрыўшы вочы пяром, пяром,
На Івана Купалу.
Закрыўшы вочы пяром, пяром,
Пытала хлопца чалом, чалом,
Свяціла ночы агнём, агнём,
Свяціла Купалка цяплом і дабром.

Так адзначалася свята Купала ў нашай вёсцы.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н. (2003 г.)***

Дзевачкі рвалі во етыя цьвяты ўсе, плялі вянкі, кідалі іх на ваду. Ета то, што варажыліся так. І кідалі яго на ваду, і інцерасаваліся, глядзелі, чый там ужэ. І ўжэ еты бралі вянок, і ўжо ета быў суджаны яе. А патом палілі агонь ілі касцёр, і ўжэ дзевачкі і хлопцы перапрыгівалі еты агонь.

Шчэ хадзілі ў лес і шукалі кветку папараці. Кветку знаходзілі. Яна толькі, папараць ета, зацьвіце, і, хто яе знойдзя, той сільна шчаслівы чалавек у жызні.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Салапана Аляксандра Іосіфавіча, 1931 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Вот будзе Купала сядзьмога, усягда ў дзярэўні гавораць не Купала, а Іван Пятроўскі. І вот усягда шастога, усягда, у сараі, у хату ўсюды крапіву рвалі і вешалі: у сараі пад дзвярамі і вот над хатай, над каліткай – жычку крапіву. І лажылі стрэчанскую свечку. Свечку, каторую, вот на празнік

Стрэчання, у цэркве асвяшчалі. Яе хранілі ўсягда ў доме і яе ў сараі лажылі ўсягда над дзвярамі, ету свечку. Яна тады не пускала, гаворац, етых ведзьмаў.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

У ноч на Івана Купалу варылі ячневую ілі грэчневую кашу, каб уміласцівіць прыроду для атрымання добрага ўраджаю зерня.

На Купалу варажылі. У поўнач трэба было назбіраць кветак і пакласці пад падушку. А зраніцы праверыць, ці не набралася дванаццаць траў. Калі набралася – у гэтым годзе пойдзеш замуж.

Пад галаву нанач клалі падарожнік (трыпутнік). Казалі словы: “Трыпутнік-папутнік, жывёш пры дароге, бачыш малога і старога, пакажы майго сужанага!” На Купалу прыгалі праз касцёр, таму што агонь ачышчае ад ўсякай скверны і злых духаў. А каб касцёр лепей гарэў, казалі тры разы замоўныя словы:

Гары-гары ясно,
Штобы не пагасла.

Праз касцёр прыгалі паасобку, парамі. Самае галоўнае – прыгаць трэба было вельмі высока, тады ў гэтым годзе цябе чакае спакойнае і шчаслівае жыццё. У ноч на Івана Купалу дзяўчынкі кідалі вяночкі ў ваду і назіралі за імі. Вянкі паказвалі, адкуль чакаць сужанага.

Але перш чым пусціць вянкі па вадзе, іх рыхтавалі: прывязвалі палачкі і замацоўвалі на іх свячу.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***студэнткай Катлабай Г. (2000 г.)***

Шукалі папараць-кветку. Гадаліся. На поле трэба нарваць 12 цвяточкаў разных. Дамой неслі і лажылі пад падушачку. Перакрасціцца і ні з кем не разгаварываць. Сказаць: “Суджаны-ражаны, прыхадзі ў мой сад гуляць”. Чартапалох і папаратнік абязацельна былі. Назіралі за луной і сонцам.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А.,***
***Казека А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)***

**Жніво**

Калі дажынаюць, дык ужэ бараду зробяць із жыта, гэта паследні дзень жніва. Етую бараду набяруць із жыта, звяжуць ды нясуць ужо ў цэркву,

пасвяцяць яе там. І ўжо патом засявалі. А тады ўжэ збіраліся, гулялі. Ета так ужо ўродзі атмячалі.

Калі засявалі, дык першае зерне бралі з етай барады. Тады яго ўжо кідалі, і ўжэ можна і засяваць. Ета ўжэ шчыталася, што будзе добры, багаты ўраджай.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Тацяны Іванаўны, 1930 г.н.***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.***

Як пачынаюць жыта жаць, дык пачынаюць рабіць бараду. Бараду рабілі так: бралі снапок зерна і абвязывалі краснай лентаю. Потым, на празнік Макавея, гэты снапок свяцілі. Калі ішлі зноў сеяць жыта, то пачыналі сеяць з "барады". Летам хадзілі на поле , глядзелі як расце жыта. Сяляне прасілі ў Бога , каб добры даў уражай.

Еслі на полі і астанецца трохі крошак, то хазяйка пасевала крошкі па полю, гаварыла:

Мошачкі, мошачкі,
Паешце мае крошачкі.
Як не паясце,
Дык Богу аддайце!
Для таго, штоб Бог даў харошае зерно.

Пакінутае зерне – калосье – на полі называюць "барадой", яе завязывалі краснай лентай. І гэта "барада" стаяла ажно пака не зжыналі ўсё жыта. А пасля гулялі дажынкі. Спявалі песні, паздраўлялі адзін аднаго.

Жняю, якая адставала ад другіх, называлі "лянцяйкай! Песні спявалі розныя:

Ці я ў полі не жнеечка,
Ці за мной не жменечка?
Ой, дайце ж мне павознага:
Не старога, не малага-
Харошага, маладога.
Ён за мною снапкі звяжа,
Ён жа мне ўсю праўду скажа.
Снапкі звяжа – ды й падыме,
Спаці ляжа – ды й абыме.
Снапкі звяжа, памацуе,
Спаці ляжа – пацалуе.

* * *

Добра жаць – шырокая ніўка,

Вялікая постаць.
Добры вечар, сцюдзёная хатка,
Нябродная матка.
Не пытаецца, ці змарылася, што спазнілася.
Ды пытаецца, ці доўга пражала,
Ці многа нажала.
Добра жаць – шырокая ніўка,
Вялікая постаць.
Добры вечар, цёплая хатка,
Родная матка!
Не пытаецца, ці зляпілася,
Ці многа нажала.
Ды пытаецца, ці змарылася,
Што спазнілася.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

А дажыналі тожа гулялі. Ужэ дажынаюць, так і зробяць і бараду. Да ету бараду на Спаса, як ідуць у цэркаў, так нясуць гэту бараду ў цэркаў, дак бацюшка асвеціць тамака. А етыя зёрнышкі выкаласяць, да як засяюць, жыто засяюць, так ета свечанае па пераду пасеюць, а патом сеюць ужэ другое да ў Бога просяць: “Зарадзі, Божа, на ўсякага ў доме!”

Апошнія калоссі ставілі за іконы?

Стаўлялі, каторыя раней у кожнага на паласе былі, так бародку зробяць, дак на стале паставяць, а ідуць ужэ ў цэркаў, дак нясуць да пасвяцяць.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткай Мажэйнікавай В.***

А пойдуць утрох зажынаць, тут бабы на полі, да зажнуць, вянок саўюць ужэ да прынясуць. Да ўжэ старшыне надзенуць то вянок, старшына ўжэ паздравіць, да й гуляюць, бувала.

Это ж абязацельно звярталіся да Бога, а як жа. Трэба падыйці да Бога папрасіць, штоб памог, дай і здароўячка даў, штоб калі зжалі, не ўвабралі, да іспользовалі. Як ідуць жаць, папрыходзяць бабы, пастануць жаць палосы, а баб нескалька падходзяць да й Бога папросяць.

Ой, я ж жала, дай не ляжала.
Да вечара сноп нажала.
А, мой муж Пракопаньку,
Прыдзі ка мне на копаньку.
Да не бяры з гумна рубля,
А вазьмі мяне з поля лежне.

* * *

Да ўжэ ж сонца закацілася,
Да мне замуж захацелася.
Пайду замуж, атведаю,
Добра будзе – жыць буду,
А пагана – дак назад вярнусь.

Жніце, жанцы, жніце,
Да самі сябе на казніце...

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткай Мажэйнікавай В.***

Жалі жыта, а калі не паспевалі днём, то і ўночы жалі. І бараду рабілі і ў цэркаў насілі, свяцілі і трусілі гэтае жыта, засявалі на полі.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

**Зажынкі**

Як паспее жыта, дак ідзе хазяін зажынаць. Нажне дзве жменькі і ложыць крэсцікам на полі, на том месці, дзе выжаў. Ета абычай быў такі.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

На пачатку жніва гаспадыня дома выходзіць у поле адна ці з іншымі жанчынамі, бярэ з сабой хлеб, соль і гарэлку і, нажаўшы першы сноп жыта, сядаюць на яго і спяваюць працяжна песню:

Дзякуй Богу за ласку святую,
Што я новага хлеба даждала
І снапок жыта нажала.
Буду жаці, не ляжаці,
Каб капу жыта нажаці.
Пажаўшы, змалаці,
Кашы наварыці
І дзяцей накарміці.

Закончыўшы песню, выпіваюць, закусваюць і працягваюць работу.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Мы, бывала, ідзем па поле, зажынаем, свечанай вады пырсканём на крэст з жыта і дзядка паставім. Дзесяць снапоў рабілі: дзевяць у кучу, а дзесятага разложым і накрываем шапкай такой.

Зажыналі бораду: бралі колькі каласкоў і звявалі краснай нітачкай і свецяць. А патом етаю барадой, пака як сеяць, уціраюць і пачынаюць засяваць. Асаблівых песен на жніво не спявалі. У нас у вёскі рабілі заломы ў жыце такія калдуны, то завіткі дзелалі.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Перад тым як выйсці на поле жаць, дык выходзілі бабкі, зажыналі сноп першы. Прыносілі гэты сноп, убіралі цвятамі. І гэты сноп стаяў год. А патом выхадзілі на поле бабы з сярпамі і жалі.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Ну, заканчывалі жаці, дак ета ўжо тады бараду рабілі. Ета абычна, напрымер, у саўхозе етага не рабілі ці там у калхозе. Ета ўжо як на сваіх палях, то дак на сваіх палях, бараду то астаўляюць. Нашто яны ўжо: ці на другі год на ўраджай, ці на што – я ўжо вам не скажу. Не знаю. Каласы звязвалі самі з сабою.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Бораду дзелалі. Вот аставяць там калосся сколькі і завяжуць вузлікам. І прыказуюць: “Дай, Божа, даждаці на той год”, штоб ураджай быў, прыказуе.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ідуць у поле. Завязваюць жняк (зжатыя каласы) і заходзяць так: адна жэншчына папераду, і серпам, перахрысціцца, і зажне, вот так нізенька зажынае і ложа і па адну сторану, і па другую. А тады ўжо ідуць усе жнейкі і жнуць.

А напрыканцы жніва нічога не рабілі. Пажнуць жыта і ў снапы ставяць. А адзін снопік усяго растоўкаеш, а тады наверх яшчэ сноп, штоб было дзевяць снапоў пад каждай. Дзевяць снапоў, а дзесяты наверсе.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Назаранка (Бурхавецкай) Зінаіды Канстанцінаўны, 1940 г.н.,***
***Назаранкі Івана Станіслававіча, 1933 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Руднае Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

З малітваю хадзілі па полю. Бралі кусок хлеба, свяцонай вады, штоб харошы ўраджай быў. Першае зерне кідаюць святое. Калі ішлі засыпаць, павінны памыцца, адзець чыстую рубашку, пярэднік, белы платочак.

Бараду дзелаюць. Пасля дажынак качаюцца, каб добры ўраджай быў.

***Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А.,***
***Казека А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)***

Да дзякуйма Богу
Да за яго выгоду:
Да за ціхае лета,
Да за буйнае жыта.
Да мы ўсё лета жалі,
Да не ляжалі,
Да не ляжалі,
Усе каласкі збіралі.
Да мы поле рачком сышлі
Да прыняслі на галоўцы,
Палажылі на тарэлцы.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

**Жніво**

Штоб град не біў, хадзілі з іконай або з крастом і вешалі палаценца.

Було і такое, што ў полі рабілі бараду. Трэба штоб було тры каласы з аднаго кораню. Звязваюць іх краснаю нітачкаю. Ложыш хлеб і соль. Каласы стаяць, пака пцічкі не паядзяць.

Заходзіць сонца яснае
За цёмненькі лясок,
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Ка мне хоць на часок.
Пагаворым мы з табой

Пра нашаю любоў.
Любіліся, дружыліся,
Штоб Бог нам даў, здружыліся.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,***
***Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

Як паспея жыта, дак ішлі ўжэ жаць. Бараду астаўлялі. Сажынаеш, астаўляеш невялікую жменьку і тады робяць сноп. Свяцілі ў цэркві бараду етую. Тады лажылі яе ў каморку. Яна і ляжала там да Спаса. На Спас прыбіралі яе цвятамі да й зноў у цэркву неслі яе свяціць. Тады зноў, як сеялі ўвосень жыта, бараду етую раскідалі па полю. Ета шоб ураджай буў.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

Адзявалі белую кохту і спадніцу чорную. Адзін рог падтыкалі за пояс. І тады платка белага падвязвалі, каб спіна не балела. Прыходзілі на поле і гаварылі: “Госпадзі, Божа, пamажы ды й спор пакажы. Тады штоб ужо добра зажаць ды вялікі ўраджай узяць”. На полі яны так гаварылі. Тады ўжо кожная баба жала сабе сама, кожная сама сабе, у каго сколькі было, ці 10 сотак, ці сколькі. Тады ўжо, як дажыналі, рвалі бораду, рабілі бораду. Харошае жыта завязвалі краснай лентай і неслі брыгадзіру, вянка сплятуць з харошых красак і вешалі брыгадзіру на шыю. Тады ўжо ён узнагароджваў за працу.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Судзенка Ганны Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Жыта жалі, вязалі, у копы лажылі. Калі дажыналі жыта, абязацельна кідалі кусцік на полі жыта і зразалі яе, не колас, а вот сцебель каб застаўся. Нескалькі каласкоў былі разам. З гэтага жыта абвязвалі нітачкай ілі лентачкай краснай. І гэта была барада. І гэта 19 аўгуста, на Спас. Неслі свяціць ту саму бараду, а патом з гэтых каласкоў бралі гэтае жыта і тожа сеялі. Эта быў такі абычай “барада”.

Заломы рабілі чалавеку, каб яму дрэнна було. Но гэта нехарошая рэч, я яе ніколі не рабіла і не абрашчала ўніманія на гэта. Ось калі, дапусцім, з саседам нядобра жывёш, ён на цябе нагаворвае, ты на яго, то тады і робяць гэтыя заломы, помсцяць – залом робяць.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Калісь мой бацька, калі заворвае ўжо, бярэ хрэшчыка, якога на Хрэсцы спяклі, дугу закруціць, бярэ ў шаньку хлеб, саху і ўкругавую паарэ поле. Гэта ён рабіў, каб ураджай быў добры. Або яшчэ на Ушэсце прыводзілі бацюшку. Ён нясе паперадзе плашчаніцу, а ўсе астатнія людзі за ім ідуць. Ось ідом усе, і ён гэтыя ўсе-ўсе паля свеціць, каб ураджай быў. Калі жыта ўжо жалі, то абязацельна і дажынкі рабілі. Праводзілі іх на полі, гатовілі ежу, арцістаў прыводзілі ды й ужо гулялі. На полі з жытам ці пшаніцай рабілі бораду. Потым гэту бораду збіралі і хадзілі ў цэркву свяціць. А тады з етай барады ўціралі калосся да сыпалі ўжо ў тое зярно, якое трэба будзе сеяць.

Заломы ў жыце рабілі так: зажынаюць жыта і робяць тры крэсціка, пераламваючы жыта, і дажынаюць яго. На месцы жыта астаўлялі хлеб і жменьку зерня.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Закончыўшы жніво, жнеі плятуць вянок з жытных каласоў, упрыгожваюць кветкамі, нясуць у дом гаспадара, які сустракае іх з хлебам-соллю.

Вяртаючыся з поля, жнеі пяюць песні, а наблізіўшыся да дома – такую:

Засцілайце сталы, лавы,
Будзе госць к вам небывалы.
Ён нямнога пабывае –
Зноў у поле ад’язджае.

Прынесены вянок кладуць на хлеб і віншуюць гаспадара з заканчэннем жніва. Узрадаваны гаспадар частуе работніц, якія, падсілкаваўшыся, пяюць розныя песні і весяляцца:

У нас сёння дажыначкі,
Дасць пан нам гарэлачкі
З новае барэлачкі.
Наш пане каролiку,
Пускай нас дадоменьку!
Не пускаеш нас дадоменьку,
То гатуй нам вячэраньку
Ды сцялі нам пасцеленьку,
Вячэраньку смачную,
Пасцеленьку мякенькую.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

**Рабінавая ноч**

Рабінавая ноч летам бывая. Яе яшчэ называюць Рубінавая ноч ці Вераб'іная ноч. Етой ноччу неба цёмная і пакрыта чорнымі хмарамі. Цямрэча страшная, хоць вока выкалі. Грыміць раз за разам. Гром ні на мінуту не сціхае. Молнія, як ліхаманка, страляе зразу з некалькіх месцаў. Стрэлы молніі не тоненькія, а шырокія і тоўстыя. І гром не ціхі, а гучны такі, шо аж шыбкі трасуцца. Вецяр сільны дуя. Ад ветру етага дзярэўя на зямлю лажацца. Вецер налятае то з аднаго боку, то з другога. Ідзе праліўны дождж.

Такая ноч бывая толькі раз за лета, у паследнім месяцы – аўгусці, калі завязаліся і пакраснелі ягады рабіны. Молнія ў рабінавую ноч нікога не ўбівая. Паетаму людзі не баяліся рабінавай ночы, а ждалі яе, выходзілі на вуліцу, каб папасці пад цёплы дождж. Кажуць, шо ў етую ноч з пекла на свет выходзяць усе злыя сілы, якія спраўляюць сваё галоўнае свята.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

## 14 кастрычніка – ПАКРОВА, ТРЭЦЯЯ ПРАЧЫСТАЯ

У народзе празнік Пакровы атрымаў сваё тлумачэнне: снег, які выпаў у гэты дзень, называлі снежным пакрывалам зямлі, таму да гэтага дня патрэбна было закончыць усе сельскахазяйственныя работы. Гаварылі: “Прыйшла Пакрова, пытае, ці да зімы гатова”. Пасля Пакровы зямлю “чапаць” нельга. Лічылі, што на Пакроў зіма закрывае лета, а Бог пячатае зямлю, і пасля гэтага дня да вясны ніхто не можа яе чапаць. Многа розных прыкмет звязана з Пакровай: у гэты дзень абавязкова пяклі бліны. Шчыталася, тады сям'я ўдачна перазімуе. Да гэтага дня патрэбна было ўцяпліць дом да зімоўкі. Замазваючы рамы вокан, прыгаворвалі: “Бацюшка Пакроў , пакрый нашу хату цяплом, а хазяіна дабром”.

Колісь і ў нас Пакрову атмячалі добра, а зараз ужо нікак. У той дзень хадзілі ў царкву, а вечарам сабіралісь госці з Аўрамаўскай, Вялікага Бору. Жылі мы небагата, але на стол ставілі ўсё, што было ў хаце. Вельмі многа на стале было страў з гародніны, якую да Пакровы стараліся ўбраць з гароду. Блізкія і родныя прывозілі гасцінцы: каўбасу, цукеркі (ледзянцы-лампассе). Мы, малыя, вельмі любілі ледзянцы.

Застолле было да ночы. Песні спявалісь, расказывалі родныя пра сваё жыццё.

Пакрова - прэстольнае свята, на якое встрочалісь усе блізкія.

***Запісана ў в. Восаў***
***ад Вяргейчык Ганны Адамаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткай Фомчанка А.***

## Пакрова

Ох, весяла раней жылося, хоць бедна, а ўсё ж весялей. Ждалі тыя празднікі, каб пагуляць, павесяліцца, смашна паесці. На кажды празнік сабіраліся на вечарынкі, пелі, елі, пілі, толькі ж не так, як шчас. Як на Пакрова, дак усёй вуліцаю збіраліся, ішлі спачатку ў канец вуліцы,

выстраіваліся на ўсю шырыну і ішлі, а ўперадзе ішоў усягда мужчына з іконаю ў рушніку, усё як трэба. Так ішлі мы за ім па ўсёй вуліцы. І выходзілі ўсе госці, прыезжыя, і ішлі аж да самае царквы. Патом, як бацюшка акрэпіць свянцонай вадой, тагды ўжэ вазрашчаліся ўсе разам і гулялі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

*Валянціна НОВАК, Алена КАСТРЫЦА*

# ТРАДЫЦЫІ СЯМЕЙНАЙ АБРАДНАСЦІ ХОЙНІКШЧЫНЫ

Сямейна-абрадавы комплекс Хойнікшчыны захоўвае агульнаэтнічную аснову і вылучаецца багаццем рэгіянальна-лакальных асаблівасцей. Традыцыйна падзяляецца на тры часткі: радзінна-хрэсьбінную, вясельную і пахавальную, якія суправаджалі жыццё чалавека ад нараджэння да яго апошніх дзён. Засяродзім увагу на мясцовым характары радзінна-хрэсьбінных абрадаў і звычаяў.

Фальклорныя матэрыялы, зафіксаваныя на тэрыторыі Хойніцкага раёна падчас шматлікіх палявых экспедыцый, даюць падставы сцвярджаць аб добрай захаванасці і надзвычайнай папулярнасці сярод насельніцтва звестак па радзінна-хрэсьбінных абрадах і песнях.

Радзінна-хрэсьбінны комплекс, як сведчаць фактычныя матэрыялы, складаецца з трох цыклаў: дародавага, родавага і пасляродавага, пры гэтым у склад першых двух з іх уваходзяць вераванні, абрадавыя дзеянні, прыкметы і павер'і, скіраваныя на захаванне цяжарнасці і забеспячэнне "лёгкіх" родаў, а таксама звязаныя з выкананнем цяжарнай жанчынай тых правілаў і прадпісанняў, што складаюць аснову этнапедагогікі.

Звернемся да асобных структурных кампанентаў радзінна-хрэсьбіннай абраднасці. Як вядома, у сістэме народных вераванняў важнае месца належыць традыцыйным забаронам, засцярогам і прадпісанням для цяжарных. Так, напрыклад, цяжарным забаранялася працаваць у святы, "стрыгчыся, красіцца", быць сквапнымі ("І бярэменная нічога жалець не даўжна була, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе" (в. Казялужжа)), нельга было станавіцца на вяроўку ("Дзеўке, якая носіць дзіця няльзя было станавіцца на вяроўку, бо дзіця можа задушыцца пупавінай" (в. Стралічава)), хадзіць на пахаванні і глядзець на пакойнікаў ("Бярэменнай нельзя было глядець на пакойніка ці на памерлую скаціну, а також хараніць, быць на пахаранах" (в. Стралічава)), дакранацца да твару рукамі пры пажары і да т.п. ("Калі бярэменная абпекалася, то ей нельзя трогаць рукамі галаву ці шэю, покуль не пройде шок, бо діця може нарадзіцца с краснай плямай на тым месце" (в. Стралічава)), калыхаць пустую калыску ("Нельзя калыхаць каляску ці краватку, калі там няма дзіця. Гаварылі, што дзіця памрэ" (в. Стралічава)), даваць гадаваламу дзіцяці люстэрка і шыць яму вопратку з новага матэрыялу ("Да аднаго года няльзя даваць дзіцю зеркала, няльзя шыць яму адзежу з новага матэрыялу" (в. Стралічава)) і інш.

Цяжарная жанчына імкнулася прытрымлівалацца шэрагу прадпісанняў, звязаных з засцярогай дзіцяці ад "сурокаў". Напрыклад, "…калі цяжарная ішла на похараны, яна прывязвала да пояса чырвоную лентачку ці адзявала чырвоную хустку, каб не прычынілася ліхога. Цяжарная павінна насіць увесь час хвартух, тады дзіця не будзе баяцца благога вока. Каб людзі не ўраклі, цяжарная, як ідзе ў людзі, павінна апранаць усё да пары: пару сарочак, пару спадніц і г.д. Тады ніхто не ўрачэ. Калі цяжарная спужаецца каго-небудзь, то

павінна заткнуць за пояс вялікі палец левай рукі” (в. Аравічы)). Нараджэнне дзіцяці і забеспячэнне яго шчаслівага лёсу з’яўляліся прыярытэтнымі для любой сям’і.

Мясцовыя жыхары шчыра верылі ў прыкметы і павер’і (прычым іх прытрымлівалася не толькі жанчына-парадзіха, але і яе муж, бабка-павітуха і інш.), зыходзячы з якіх можна было забяспечыць лёгкія роды: “Трэба расплесці косы ёй, развязаць усе вузлы, адкрыць усе замкі” (в. Вялікі Бор); “Шоб лёгка радзіла, дак маліліся” (в. Казялужжа) і да т.п.

Пасляродавы цыкл уключаў абрады і звычаі, звязаныя з прыняццем нованароджанага ў грамадска-сямейны калектыў. У гэтых адносінах вылучаўся абрад наведвання парадзіхі і нованароджанага сваякамі і знаёмымі Адзначым, што ў вёсках Хойніцкага раёна наведваць парадзіху (“прыходзіць у адведкі”) маглі праз некалькі дзён, прычым толькі родныя і знаёмыя з шэрагу замужніх жанчын і абавязкова з якімі-небудзь стравамі: “Хто родзіць дзіця, дык сабіраюцца тады бабы і ідуць даведацца. Бралі міску мукі, крупу, ілі сухароў напякуць, ілі якога малака возьмуць, ну што было. Прыходзяць сюды, етая рожаніца саджае за стол. Там іх сабярэцца чалавек пяць-шэсць, а можа і болей. Вуп’юць, тады закусяць, трохі пагуляюць і пайшлі дадому. Ета былі так называемыя вотведы” (в. Алексічы).

Асабліва важным і надзвычай урачыстым лічыўся абрад хрышчэння. Заўважым, што ў рытуальных дзеяннях, выкананне якіх было звязана з галоўнымі персанажамі (кум, кума, бабка-павітуха) радзінна-хрэсьбіннай цырымоніі, не было нічога выпадковага і раптоўнага: загадзя выбіралі хросных бацькоў (“Хлеб вязуць куме і куму. З хлебам бацькі ішлі да кумоў, каб пагадзіліся” (в. Клівы)), бабку-павітуху (“За бабу бралі тожа тую, што была пры родах” (в. Вялікі Бор)), прызначалі дзень хрышчэння.

Кожны з персанажаў выконваў свае строга акрэсленыя абавязкі: бабка-павітуха рыхтавала дзіця да паездкі ў царкву (“На хрэсьбіны дзіця ў царкву сабірае баба: мые, пелянае ў свае пялёнкі, адзявае ў сваю адзежу” (в. Стралічава)), хросныя павінны былі аднесці нованароджанага ў царкву, прытрымліваючыся пэўных патрабаванняў, таксама строга рэгламентаваных, святар праводзіў царкоўны абрад хрышчэння дзіцяці (“У дзень нараджэння ці назаўтра дзіця вязуць у царкву хрысціць. Кум з кумою садзяцца на лаве, а хазяйка перад тым закрывае печ засланкаю, каб у дарозе добра паводзілася. Кумы бяруць у дарогу хлеб і соль, каб дзіця багатае было. У цэркві кумы хрысцілі дзіця, а як бацюшка састрыжэ ў дзіцяці валосікі, то кум капае на іх воскам і кідае ў купель. Калі валасы адразу патонуць, то дзіця скора памрэ, а як будуць наверсе плаваць, то дзіця будзе шчасліваe” (в. Аравічы); “У цэркву едуць толькі кум, кума і дзіця. Радзіцелей не бяруць. За бабу бралі тожа тую, што была пры родах. У цэркві кума адзяе дзіця ва ўсё сваё. Як родзіцца дзевачка, тады насілі яе да варот, а калі хлопчык, то за вароты” (в. Вялікі Бор)). Усе названыя абрадавыя дзеянні мелі важнае значэнне і былі скіраваны на захаванне дзіцяці ад усяго дрэннага і на забяспячэнне доўгага і шчаслівага жыцця.

Безумоўна, ганаровымі гасцямі на гэтым застоллі былі кум, кума, бабка-павітуха, якіх садзілі на лепшыя месцы і адорвалі падарункамі: “Пасля царквы ўсе садзяцца за стол. Куму, куме і бабе радзіцелі дарылі падаркі” (в. Стралічава); “Калі кумы з дзіцём вяртаюцца з цэрквы і ўсе госці збіраюцца ў хаце, парадзіха падносіць бабе падарак, кланяецца ў ногі і кажа: “Прасціце мяне, бабусечка. Дзякуй вам за вашу працу, што не пагрэбавалі мною” (в. Аравічы).

Кульмінацыяй хрэсьбіннага застолля з’яўлялася рытуальнае біццё “бабінай кашы”, якой надавалі магічнае значэнне. Знешняя гульнёвасць і гумарыстычнасць гэтых абрадавых дзеянняў мела на мэце пэўныя сімвалічныя функцыі: закладванне асноў будучага дабрабыту дзіцяці, а таксама пажаданне бацькам далейшага працягу роду. Паводле народных уяўленняў, чарапкі з кашы павінны былі садзейнічаць нараджэнню дзяцей: “А чарапкі з етага разбітага гаршка потым адзявалі на галаву. Ета ўжо счыталася, што будзе дзяцей багата. Ета каша абычна называлася “кумава каша” ілі “бабіна каша” (в. Алексічы)).

Радзінна-хрэсьбінныя абрады суправаджаліся песнямі-ілюстрацыямі, сярод якіх вылучаюцца велічальныя (для маці і бабкі-павітухі), гумарыстычныя (для бабкі, кума, кумы), застольна-бяседныя (часта не звязаныя з радзіннай абраднасцю). Як бачна, радзінна-хрэсьбінны комплекс жыхароў Хойнікшчыны адрозніваецца багаццем лакальных асаблівасцей, характэрных для розных структурных кампанентаў, семантычнай разнастайнасцю абрадавых дзеянняў, шырокім спектрам міфалагічных уяўленняў.

У сістэме сямейнай абраднасці значнае месца займае вяселле. Гэта своеасаблівае тэатралізаванае прадстаўленне, якое складаецца з трох частак: давясельнай, уласна вясельнай і паслявясельнай. У структуры хойніцкага вяселля вылучаюцца наступныя абрадавыя моманты: сватанне, заручыны, зборная субота (“вянкі”), пасад, каравай, першы дзень вяселля, другі дзень вяселля, паслявясельная частка (“гуляць зайца”, “пярэзвы”, “хадзіць у цыганы”, “куры”, “пеўні”, “крошкі”).

У сватанні і звязаных з ім песнях яскрава раскрываецца старадаўняя форма шлюбу – купля-продаж нявесты. Аб гэтым сведчаць прадстаўленыя ў розных мясцовых варыянтах вяселля рытуальныя дыялогі, якія адбываліся падчас сватання паміж бацькамі маладых (“Прыходзяць і бацька кажа: “Мы прышлі купіць у вас цёлку”. А бацька дзяўчыны кажа: “Ну, пабачым, калі панравіцца. А калі не панравіцца, так далей пашукаеце. А калі панравіцца, так пакупайце”. Ну тады ўжо так пагаварылі, заходзяць у хату, і калі дзеўка гэты хлеб, што прыняслі, разрэзала, то, значыць, яна сагласна. Тады ўжо на стол накрываюць, за стол сватоў садзяць, а яны ўжо на стол кажуць: “Значыць, купілі мы цялушку” (г. Хойнікі (в. Валокі)).

Звычайна на заручынах (змовінах) дамаўляліся аб тэрмінах вяселля, пры гэтым, напрыклад, у в. Дворышча адбываліся на гэтым этапе рытуалы “звядзення” свечак маладых і “перапівання” гарэлкі сватоў (“Патом як на парозе ўваходзіць матка, не матка, а цётка, і, етае, нясе свечкі. Іх тры разы

паляць і тры разы тушаць на парозе. Свечкі – ета закон: свечка маладое і свечка маладога. Свечкі вялікую роль іграюць, ну а ўжэ патом, як гэтыя свечкі звязалі, іх перапіваюць – за іх гарэлку просяць” (г. Хойнікі (в. Дворышча)).

Зборная субота як структурны кампанент у сістэме вясельнай абраднасці Хойнікшчыны быў вядомы пад назвамі “дзявочы вечар”, “ёлка”, “вянок”. Збіраліся сяброўкі маладой: “…яны пелі песні, вілі для маладых вяночкі з руты. Калі свадзьба была зімой, то руту гатовілі з лета” (в. Аравічы).

Перад вянчаннем асобна ў хаце жаніха і нявесты адбываўся такі абрадавы момант, як пасад (саджэнне жаніха і нявесты на дзяжу, пакрытую кажухом), які сімвалізаваў своеасаблівае благаславенне маладых на шлюб (“Перад тым, як ехаць жаніцца, нявесту садзілі на пасад. Яе брат або проста хлопчык расплятаў ёй косы, расчэсваў, а тыя, што выпалі, кідаў у печ. Калі валасы ўпадуць у печ, то замуж другі раз яна не пойдзе. Як не даляцелі, то хутка яна памрэ, а калі паляцелі ўбок, то памрэ жаніх. Потым брат вядзе нявесту да бацькоў, каб благаславілі яе. Бацькі даюць благаслаўленне, а хлопчык вядзе нявесту на пасад. Ставіцца дзяжа, наверх кладзецца вывернуты кажух. На дзяжу садзіцца нявеста, калі яна яшчэ дзеўка, а калі не дзеўка і сядзе, то абразіць каравай і ёй у жыцці не будзе ні ў чым шчасця” (в. Аравічы)).

Адметнасцю беларускай вясельнай абраднасці на тэрыторыі Гомельшчыны, у тым ліку і Хойнікшчыны, з’яўляецца каравайны абрад. Што датычыць каравайных песень, то ў іх змесце найбольш глыбока адлюстраваліся традыцыі народнай “смехавай культуры”. Жартамі, смехам, здзекамі, кпінамі і весялосцю імкнуліся засцерагчы сам працэс падрыхтоўкі каравая ад уздзеяння звышнатуральных сіл. Каравайныя песні можна ўспрымаць і як своеасаблівае папярэджанне не здзяйсняць тых дзеянняў, якія супярэчаць народнай маралі, шкодзяць лёсу маладых, а таксама і як пажаданні ім быць дбайнымі гаспадарамі. Праз мастацкія прыёмы персаніфікацыі і гіпербалізацыі каравая, печы і іншых прадметных атрыбутаў дасягаецца стварэнне камічнасці сітуацый у вясельнай абраднасці і паэзіі. Жыццядайная сіла смеху ў дадзеным выпадку, верылі, магла непасрэдна паўплываць на якасць падрыхтоўкі і выпечкі каравая. Паэзія каравайнай абраднасці – выдатны ўзор амбівалентнасці народнага смеху, калі, з аднаго боку, гучаў непасрэдна матыў услаўлення працы каравайніц, а з другога боку меў месца здзеклівы, выкрывальны смех у дачыненні да сур’ёзнага і важнага каравайнага працэсу, з вынікам якога – караваем (абрадавым хлебам) быў звязаны рытуал благаславення маладых з боку ўсяго роду, пажаданне ім шчаслівага і заможнага жыцця.

Залатары-купцы едуць,
Залаты абруч вязуць,
Нам на чэсць, на славу
Нашаму караваю.

Губатая ўчыняла,
А рылатая мясіла,
А красная ды харошая
У печ садзіла (в. Кажушкі).

Каравайныя пажаданні, якія мелі месца ў структуры хойніцкага вясельнага абраду, з’яўляюцца яскравым сведчаннем глыбокай народнай мудрасці нашых продкаў, філасофскага характару іх этнапедагагічнай скіраванасці. У лаканічных, іншы раз рыфмаваных радках гучалі спаконвечныя народныя ўстаноўкі, якія датычаць шчаслівага сямейнага жыцця. Невыпадкова заклікалі ў пажаданнях шанаваць бацькоў, паважаць адзін аднаго, клапаціцца аб прадаўжэнні роду: “Дарую курку квактуху, штоб любіла свякруху!”; “А я сваім маладым жылаю шчасце-долю і век доўгі, і мяшок грэчкі, штоб маладая маладому насіла яечкі”; “Сколькі ў лесе пянькоў, штоб у маладых було столькі сынкоў!”; “Дарую каробку гліны, штоб пазвалі на хрысціны!”; “Дарую шчасце і любоў і каробку буракоў, штоб не любіла чужых мужыкоў!” (в. Вялікі Бор).

Другі дзень вяселля на Хойнікшчыне адметны тым, што “завіваюць” маладую: “Каравай падзяліўшы, пачыналі завіваць маладую. Для гэтага бралі жонак, якія добра жылі ў пары. Яны знімалі вянок і пачыналі намазваць галаву маслам, каб жытка була па масец. Запляталі касу, каб жонка мужа баялася, ды на другіх не заляцалася. Надзявалі хустку, і яна ўжо була маладзіцай” (в. Вялікі Бор).

Мясцовыя жыхары верылі ў шматлікія прыкметы і павер’і, скіраваныя на забеспячэнне трывалага шлюбу і сямейнага дабрабыту: “А маладыя даўжны быць у пары, і даўжон малады ўвесь вечар вадзіць маладую, і штоб іх не раз’едзенілі, і тады яны будуць жыць мірна і гласна. І калі мрака такая, ідзе дождж, ета будуць яны багатыя” ( г. Хойнікі (в. Дворышча). Калі ехалі да вянца, то асцерагаліся, каб не “распрэгліся” коні: “Если невеста доехала до поворота в конце деревни и у неё распрягалась повозка, а лошади убежали в разные стороны, то молодые долго жить не будут. А если без происшествий пройдёт дорога, то молодые будут жить долго и счастливо” (в. Храпкава), а таксама, каб засцерагчы маладую ад звышнатуральнага ўздзеяння нячыстай сілы, “пры выездзе да шлюбу, абвязвалі яе зялёнай ніткаю, а на нітку тую прывязвалі анучку з крошкай хлеба, драбком солі і часначынкай” (в. Аравічы). Асабліва значнай прысутнасцю прыкмет і павер’яў вызначаўся каравайны абрад. Лічылася ў народзе, што “калі дзень хмурны, то каб жыццё маладых не было цяжкае, рашчыну на каравай не пачынаюць, пакуль сонца хоць на хвіліну не выгляне з-за тучы”. З мэтай прагназавання поўнай сям’і павінна была “лепшая нявесціна дружка прыносіць тройчы ваду, тройчы сыпле муку ў замес, цеста замешваюць тры жанчыны, дзяжу накрываюць трыма кажухамі. Усё робяць тройчы, каб была тройка – мужык, жонка і дзеці”. Каб маладым дасягнуць гармоніі ў сямейным жыцці, то забаранялася “цеста на каравай мясіць кулакамі, бо мужык будзе жонку біць”. Імкнуліся адказна і дакладна выконваць усе рытуалы, звязаныя з падрыхтоўкай каравая,

каб не пашкодзіць яго і каб ён атрымаўся ўдалым, таму што “яшчэ раз пекці нельга”; а “калі на спечаным караваі будзе трэшчына, то гэта дурная прыкмета: хто-небудзь памрэ” (в. Аравічы).

Паслявясельны перыяд, як адзначалася вышэй, у вёсках Хойніцкага раёна меў розныя назвы: “пярэзвы”, “хадзіць у цыганы”, “куры”, “пеўні”, “крошкі”, “гуляць зайца”. Напрыклад, у в. Алексічы “гулялі зайца” ў хаце маладога. Выкананне песень пра зайца на вяселлі нярэдка было звязана з абрадам шлюбнай ночы і вызначэннем цнатлівасці нявесты. Прадуцыравальная і дзетанараджальная сімволіка зайца знаходзіць пацвярджэнне ў сатырычных абрадавых дзеяннях мясцовай гульні: “Адзяюцца некалькі чалавек ва ўсё рванае, смешнае, чудзяць. Гэта цыгане. Бегаюць у розныя хаты, хватаюць хто што: яечкі, хлеб, кур. Адзін чалавек перадзяваецца ў кажух – гэта заяц. Цыгане круцяць ляльку. Бегаюць па двары, абліваюцца гарэлкай. Заяц уцякае, хто-небудзь страляе ў зайца, ён падае. Зайца кладуць на стол. Абліваюць гарэлкай, мо жывы? Потым лупяць, ён ляжыць. Скідаюць кажух, шапку (аблупліваюць). Заяц ускоквае і танцуе на столку. Госці ідуць у хату “есці зайчаціну”. У гасцей твары сажай вымазаны. З гасцей выбіраюць маладога і маладую, дзеляць каравай. Садзяць маладых на кут, вешаюць вянок цыбулі на маладую. Калі ў сям’і было апошняе дзіцё, то за маладых садзяць бацькоў. “Зайца” гуляюць і ў хаце маладой. Маладыя гуляюць самі па сабе”.

Сярод асноўных кампанентаў пахавальнай абраднасці Хойніцкага раёна вылучаюцца вераванні, прыкметы і павер’і, абрадавыя дзеянні, галашэнні, што адпавядае структуры агульнаэтнічнай пахавальнай традыцыі. Як і ў радзінна-хрэсьбіннай, і ў вясельнай абраднасці, у сістэме пахавальнага абрадавага комплексу, складаным і шматпланавым, значнае месца адводзілася народным вераванням. Было прынята ў мясцовай традыцыі “закрываць усе зеркала”, спыняць гадзіннікі (в. Слабажанка), калі паміраў чалавек.

Магічнае значэнне надавалі вадзе, якой абмывалі цела нябожчыка. Лічылася, што ў такім выпадку вада набывае шкодныя якасці, таму і пазбаўляліся яе. Дадзенае павер’е атрымала іншае значэнне ў мясцовай традыцыі в. Стралічава: гэту ваду “выліваюць дзе-небудзь у куточак ілі на перакростак, штоб па ёй не хадзілі, каб нябожчыку не было важка на тым свеце”.

Міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з верай у тое, што птушкі ўвасабляюць душы памерлых, адлюстраваны ў мясцовым звычаі карміць гэтых птушак рэшткамі ежы, якую пакідалі для памерлага ў сподачку на падаконніку: “Калі падаюць на стол, то на стале ставілі свечу і блюдцэ для пакойнага. І ў гэта блюдца лажылі німнога пакойнаму. А после абеда, гэтую ежу (пакойнага) аддавалі птушкам. Людзі лічылі, што птушкі, гэта былі пакойныя людзі” (в. Віць).

Прытрымліваліся жыхары Хойнікшчыны і прынцыпаў народнай практыкі, звязанай з адзеннем памерлага: “Адзенне, якое было ў смяротны час на нябожчыку, коўдру, прасціну, на якой ён паміраў, закопвалі каля магілкі. Памыўшы, нябожчыка прычэсвалі і пачыналі адпяваць” (г. Хойнікі).

Зыходзілі з правіл зямнога этыкету і жыхары Хойнікшчыны,збіраючы нябожчыка ў апошнюю дарогу: клалі ў труну рэчы, якімі той карыстаўся пры жыцці, кідалі ў магілу грошы і жменьку зямлі (“На могілках у магілу да нябожчыка кідаюць жменю свянцонай зямлі і грошы” (г. Хойнікі)). Шанаванне памяці памерлых і ашчадныя адносіны да магілак, выкананне памінальных абрадаў (“На Радаўніцу людзі ездзяць на могілікі, памінаюць памёршых. У гэты дзень на могілкі кладуць фарбаваныя свянцоныя яйкі і кавалкі пасхальнай булкі. На “Дзяды” заўсёды гатуюць вячэру, якую пакідаюць на ўсю ноч на стале. А перад тым, як ісці спаць, людзі запрашаюць памёрлых на вячэру. У гэты дзень абавязкова гатавалі рытуальную страву “канон”. Яе гатавалі з маленькіх кусочкаў булкі, мёда і вады”(г. Хойнікі) – устойлівая традыцыя на Хойнікшчыне.

## СЯМЕЙНАЯ АБРАДАВАЯ ПАЭЗІЯ

### РАДЗІННА-ХРЭСЬБІННАЯ АБРАДНАСЦЬ

Ета ж зараз доўга не хрысцяць, а тады – сёння родзіцца, а назаўтра і хрысцяць. Прыбіраюць дзіцятка харашэнька, вязуць у цэркву. Бацюшка ўжэ малітвы такія чытае над тым дзіцяткам, ложаць яго, на руках дзержаць кум і кума. Спярва падзержыць кума, а потым бацюшка кажа: "Перадайце куму дзіцятка". Бацюшка мірам такім мазаў вот тут ладонькі крэсцікам, па адной, па другой, па ножках, ну і свечанаю вадою яго пасвеціць, і такая цёпла вадзічка стаяла ў такім чайніку, апускалі тое дзіця ў тую ваду, ета называецца – хрысцілі.

Тады ўжо бацюшка вымае тое дзіцятка з вадзічкі, яго ўжэ пялёначкаю абатрэ сухенькаю і зноў у пялёначку чысценьку ўкруціць яго, зноў дзержыць, бацюшка зноў малітвы чытае. Ну, во ета так хрысцілі дзіця. Як прывозяць дзіцятка з цэрквы, дак вот ужэ нагатаўляецца загадзейша. Узаўтры павязуць, дак уже прыгатаўляюць, усё-ўсё гатуюць.

Прывозяць ужо дзіцятка з цэрквы і ўжэ завуць людзей багата, ета ўжэ называецца – хрысціны. Садзіліся ўжэ ўсе людзі за стол. Кума і кум далжны ісці на хрысціны, далжны варыць сваю кашу. Колісь варылі пшаняну кашу ў чыгунчыку, і кума нясе, і кум сваю нясе. Кумава жонка нясе кумаву кашу, а кума нясе сваю кашу. Ужэ пагасцюють-пагасцюють, тады падносяць кашу на стол. Уперад бабіну кашу, яшчэ і баба варыла кашу.

Колісь звалі бабку старэньку, каб радзіць дзіця. Бабка тая дзіцятка абмуе, усё зробіць. Ну і там каша, потым ложаць грошы. Хто ўжэ самае более паложыць грошай, вот, напрымер, я палажу пяць рублей, а ты паложыш дзесяць, ета ужэ твая каша. Хто болей пакладзе грошай, ета называецца той ужо і купіў кашу. Усе клалі грошы. Хто купіў кашу, той ету кашу б'е на стале. Тады ўжэ тую кашу бралі з чарапочкам і елі ўжэ, а тады ўжэ станавілі куміную кашу, як ўжэ тую бабіну паядзяць, трохі яшчэ можа і не даядзяць. Куміную кашу ўсё раўно становяць. Тады ўжэ зноў куміную кашу купляюць, кладуць ужэ хто сколькі. А хто самае более паложыць, той, называецца, куміную кашу купіў. Ужэ хто купіў, тожа б'е тую кашу. Ужэ паб'е таго гаршочка, куміную паядзяць кашу, тады ўжо кумаву купляюць. Тожа, хто пакладзе меней, хто болей, і, хто ўжэ самае более пакладзе, той ужэ купіў кашу, той ужэ б'е кашу. Тады ўжэ кумаву ядзяць кашу. Падаркі дарылі. Бабе давалі колісь палатняну сарочку, хто пашые, і на спадніцу, на кохты. Ёй даюць, куме даюць падаркі тожа, куме сарочкі не даюць, куме ета ўжэ хустку, палаценца, крапу на спадніцу ці на кохту. А куму тожа давалі падаркі: рубашку, палаценца, і за етыя падаркі ўжэ і баба кладзе грошы, і кума кладзе грошы, і кум кладзе ета грошы тожа.

Рожаніца колісь як родзіць дома, дак запіналі такую посцілку, называлася полагам. За полагом рожаніца, і к ёй ішлі жэншчыны, хто ўжэ хацеў, той ішоў к рожаніцы, нёс ёй такое, што есці: канхветы там, пячэнне, хто булку спячэ, хто што. Неслі за полаг – ета называлася к рожаніцы хадзілі. Яе, ражаніцу, глядзелі, сцераглі яе, адну не пускалі нікуды, за ёю ці мужык

хадзіў, ці большае дзіця, ці сястра якая. Няльзя было воласы абразаць, ета няльзя. Хто якія ўмеў, такія песні на хрысцінах і пелі.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.*
*(перасяленка з в. Дворышча),*
*студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001 г.)*

Калі цяжарная ішла на пахараны, яна прывязвала да пояса чырвоную лентачку ці адзявала чырвоную хустку, каб не прычынілася ліхога. Цяжарная павінна насіць увесь час хвартух, тады дзіця не будзе баяцца благога вока. Каб людзі не ўраклі, цяжарная, як ідзе ў людзі, павінна апранаць усё да пары: пару сарочак, пару спадніц і г.д. Тады ніхто не ўрачэ. Калі цяжарная спужаецца каго-небудзь, то павінна заткнуць за пояс вялікі палец левай рукі.

У дзень нараджэння ці назаўтра дзіця вязуць у царкву хрысціць. Кум з кумою садзяцца на лаве, а хазяйка перад тым закрывае печ засланкаю, каб у дарозе добра паводзілася. Кумы бяруць у дарогу хлеб і соль, каб дзіця багатае было. У цэркві кумы хрысцілі дзіця, а як бацюшка састрыжэ ў дзіцяці валосікі, то кум капае на іх воскам і кідае ў купель. Калі валасы адразу патонуць, то дзіця скора памрэ, а як будуць наверсе плаваць, то дзіця будзе шчаслівае.

Калі кумы з дзіцём вяртаюцца з цэрквы і ўсе госці збіраюцца ў хаце, парадзіха падносіць бабе падарак, кланяецца ў ногі і кажа: “Прасціце мяне, бабусечка. Дзякуй вам за вашу працу, што не пагрэбавалі мною”. Бабка набірае ў рот гарэлкі і пырскае на яе, каб не бралі сурокі. Потым пачынаецца застолле. Госці гуляюць, пяюць песні парадзісе, бабцы, кумам, дзіцяці і проста песні. Дзіця адорвалі тады, як была каша (лажылі на кашу ці грошы, ці адзёжкі). Парадзісе госці дарылі грошы, як прыходзілі ў хату. А бабку адорвала толькі парадзіха, яна дарыла ёй намётку. Госці жадалі дзіцю, каб здаровае расло, каб дужае было.

Песні, прысвечаныя бабцы-павітусе, куму, куме:

А па сенцам,
А па новым
Вецер дымам вее.
А там Іванка
Маладзюсенькі
Гарэлачку гоніць.
Падсыпле мядку,
Падкіне жарку,
Каб была саладзенька.
Упоіць бабульку,
Упоіць галубку,
Каб была п’яненька.

* * *

Не кукуй, зязюлечка, рана,
Не кажы, што ночачка мала.
Аленка ўсю ночку не спала,
Яна к сабе госцікаў звала,
Любых госцікаў ды бабулю.
Столікі абрусом засцілала,
Талеркі сухароў накладала,
Кубачкі ды віном налівала,
Яна сваю бабулю частавала.

* * *

Бабулечка на куце сядзела,
Бабулечка песню запела.
А первую ды раджоную,
А другую ды саджоную,
А трэцюю хрэсьбінскую.

* * *

Півушка, півушка ты піўное,
Дзівушка, дзівушка ты дзіўное.
Да не будзем, міленькі, упівацца,
А будзем на госцікаў спадзявацца.
А любыя госцікі: кум з кумою,
Яшчэ найлюбейшыя брат з сястрою,
Яшчэ наймілейшыя татка з мамкай,
А найдаражэй за ўсіх бабка наша.

* * *

– Чаго ты, кумок,
Чаго, галубок,
Увесь кут заняў?
– Я за гэты кут
Я за гэты кут,
Чырвонец аддаў.
– Чаго ж ты, кумка,
Чаго ж ты, любка,
Увесь кут заняла?
– Я за гэты кут
Я за гэты кут,
Прынесла адзежы скрут.
– Чаго ж ты, бабулька,
Чаго ж ты, рыбулька,
Увесь кут заняла?
– Я за гэты кут,
Я за гэты кут

Адрэзала ўнучцы пуп.

* * *

А ты, кумка, сорам май,
Сорам май, сорам май,
А на мыла рубля дай,
Рубля дай, рубля дай,
Хоць не рубаль – чырванец,
Чырванец, чырванец.
Наша ўнучка маленька,
Маленька, маленька,
Хоча мыцца бяленька,
Бяленька, бяленька.

* * *

Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў сад.
Пасадзіў куму
Ў садзе на сук.
– Сядзі, кумачка,
Ты галубачка,
Покуль я прыду,
Мёду прынясу.
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі:
– Ні кума майго,
Ні мёду яго!

* * *

Ой, учора, мае кумочкі,
У нас радзінкі былі,
А сягоння, мае кумочкі,
Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.
Не шкадуйце, мае кумочкі,
Па рубельчыку даць,
То мы будзем да аўторка гуляць!
Не шкадуйце, мае кумочкі,
Па каровачцы даць,
То мы будзем усю нядзельку гуляць!

Завяршае хрэсьбіны бабіна каша. У нас яе так і называлі, або проста казалі “каша”. Бабка варыць густую пшонную ці грэцкую кашу. Гэты гаршчок яна перадае куму. Ён быццам знарок кідае гаршчок на стол так моцна, што ён б’ецца, і кажа: “Разбіся, гаршчок, штоб дзіцёнку доўга жылося”. Бабка збірае чарапкі і ложыць нежанатым на галаву, каб хутчэй

ажаніліся, а каша так і стаіць і не рассыпаецца. Гэта добры знак, значыць дзіцятка будзе жыць доўга і багата. Потым бабка раздае ўсім гасцям па ложцы кашы, а яны адорваюць дзіця грашыма ці адзёжкамі. Песень зараз не пелі, проста елі кашу і дарылі падаркі. Як бабка ўсіх абойдзе, то нясе парадзіхе ўсё тое, што назбірала. Потым кума несла сваю кашу, давала ўсім па ложцы, але грошай не збірала. Пасля кашы госці збіраліся і пелі песні, а потым ішлі куды-небудзь танцаваць.

Кланялася кума куму
Нізенька ў грудцы:
– Дзякуй табе, мой кумочак,
Што звазіў у людцы.
Кланялася кума куму
Нізенька ў ножкі:
– Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз з дарожкі.
Кланялася кума куму
Нізенька ў пяткі:
– Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз да хаткі.

* * *

Запрагайце, запрагайце
Ды дванаццаць валоў.
А павязём, а павязём
Ды бабусю дамоў.
Наша бабуся, наша галубуся
Нам гарэлкі купіць.
Запрагайце, запрагайце
Ды дванаццаць сабак.
А павязём, а павязём
Ды кумочка ў кабак.
Наш кумочак, наш галубочак
Нам гарэлкі купіць.
Запрагайце, запрагайце
Ды дванаццаць канёў.
А павязём, а павязём
Нашу кумку дамоў.
Наша кумуся, наша галубуся,
Яна паязды любіць,
Наша кумуся, наша галубуся
Нам гарэлкі купіць.

* * *

Тут, тут, тут дай хрэсьбінкі былі,

Тут, тут, тут дай гарэлачку пілі.
Запала дай дарожанька сняжком,
Не зойдзе наша кумачка пяшком.
Запражыце клячу вараную,
Завязіце куму маладую.
Запражыце каня варанога,
Завязіце кума маладога.

* * *

– Мой кумочак, мой кумочак,
Не на тое прыйшла,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатой я пайшла.
– Залажыце, запражыце
Клячу вараную,
Завязіце, адвязіце
Куму маладую.
– Мой кумочак, мой кумочак,
Не на тое прыйшоў,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатой я пайшоў.
– Залажыце, запражыце
Ды дванаццаць сабак,
Завязіце, адвязіце
Майго кума ў кабак.
– Мой унучак, мой унучак,
Не на тое прыйшла,
Каб ад цябе, каб ад цябе
Пехатой я пайшла.
– Залажыце, запражыце
Ды рабую свінню,
Завязіце, адвязіце
Усю бабіну сям'ю.

* * *

На вуліцы пятух пяе,
А вы, госці, чуйце,
А вы, госці, чуйце,
Багатыя, едзьце дамоў,
Бедные, начуйце,
Бедные, начуйце.

* * *

Стаіць шацёр над вадою,
Веццейкі да долу,

Веццейкі да долу.
А ты ж сабе, мая кумачка,
Едзь сабе дадому,
Едзь сабе дадому.
Ды я ж цябе, мая кумачка,
Люблю і кахаю,
Люблю і кахаю.
Ды я ж цябе, мая кумачка,
Я ж цябе не трымаю.

* * *

Выбачай, бабка,
Выбачай, любка,
Можа, я не ўгадзіла.
Кроіла падарак пры луначцы,
Можа, я ўкараціла.

***Запісана ў в. Аравічы***
***ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткай Шаўцовай А.***

Калі гулялі хрэсьбіны, то прыглашаліс жанатыя мужчыны і жанкі. Усе, хто прыходзіў, паздраўлялі малое і маці з бацькам. Жадалі здароўя і г.д., дарылі падаркі, садзіліс за стол, святкавалі. Потым пачыналі дзяліць кашы. Першая каша – бабіна. Каша была зварана із круп, салодкая. Калі неслі "бабіну кашу", то неслі спярва абман. Бралі гаршок з тыквай або што іншае, неслі. Баба гаварыла, што гэта не яе, а, калі прыносілі, яна даўжна выкупіць. А пасля і ўсе кідаюць за "кашу" грошы або падарак. Так дзялілі і кумавую, і кумы кашы. За сталом спявалі песні:

Ой, кумачкі, галубачкі,
Падружкі мае,
Любіцеся, кахайцеся,
Любіце і мяне.
Як пойдзеце ў садочак,
Завіце і мяне.
Як будзеце цвяточкі рваць,
Нарвіце і мне.
Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне.
Як будзеце ў Дунай кідаць,
Кідайце і майго.
Усе вянкі наверх плывуць,
А мой на дно ўпаў,
Усе муж'я з войска прыйшлі,
А мой там прапаў.

Калі пачыналі расходзіцца, то бабу адвозілі на санках (калі зіма) або на калясцы дадому. Там іх баба частавала.

Прашчальная песня была такая (як ішлі з хаты, дзе былі хрэсьбіны):

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
Ужо ж мы паедзем
Да сваёй хаты.

У зялёнай дуброве
Мы начаваць будзем,
А вашай ласкі
Павек не забудзем.

Каб жыта ў полі
Трубою вілося,
Каб сала ў хаце
Кублямі вялося.

Штодзень у капусце
Каб плавала скварка,
А к сварцы часінай
Знайшлася б і чарка.

Яшчэ вам жадаем
Прыбутку ў хаце
Не мала, не многа –
Штогод па дзіцяці.

Бывайце здаровы,
Жывіце багата,
А мы ад’яжджаем
Дадому, дахаты.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Помню, как кресцілі самага младшега брата. Былі хросный і хросная. Запрэглі самых лучшіх конікаў, павезлі ў Астрагляды. Пріехалі з цэркві дамой. Стол был накрыт, госці прыехалі. Была сначала падманная каша, і баба песню пела. У канцэ выносілі гаршок бальшой з настаяшчай кашай на рушніке красівам. А з гаршка свісалі цветочкі. Разбівалі гаршок, усім давалі

па кусочку кашы, на падаркі дарілі на палаценцах ільняных. Грошы давалі за кашу. Каша пшонная вкусная была.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.,***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

Бярэменнай нянльзя многа чаго рабіць: стрыгціся, красіцца, нязьзя ёй адказываць, а то ў селішчы завядуцца мышы. Варожаць, каб узнаць, хто будзе: кажуць, каб бярэменная паказала рукі. Калі яна пакажа ладонямі, будзе дзевачка, калі другім бокам – хлопчык. Колісь бабка-павітуха прымала роды. Павітуха даўжна быць чыстая і не павязана са злымі духамі. Каб роды былі лёгкімі, то трэба расплесці косы ёй, развязаць усе вузлы, адкрыць усе замкі. Як радзілася дзіця, то бабка-павітуха яго купае ў начоўках, тады пелянае ў льняныя пялёнкі. Тады ідуць радзіны. Прыходзілі на іх толькі жэншчыны і неслі хто што. Раньшэ не було як купіць, то неслі сахар, коржыкі, сыр.

Пасля радзін ішлі хрысціны. Хрысцілі да года. За куму бралі ад бацькі, а ад маці – за кума. А зараз бяруць лучых друзей. Калі первая дзевачка, тады кума была замужам, а то казалі, што дзевачка забярэ судзьбу кумы. Калі бралі за куму, то насілі хлеб і соль. Еслі мне прынеслі хлеб і соль і я адказала, то я аддаю назад. А калі саглашаюся, то забіраю сабе. У цэркву едуць толькі кум, кума і дзіця. Радзіцелей не бяруць. За бабу бралі тожа тую, што была пры родах. У цэркві кума адзяе дзіця ва ўсё сваё. Як родзіцца дзевачка, тады насілі яе да варот, а калі хлопчык, то за вароты. Аднажды дзевачку звалі Саша, то перапуталі і панеслі за вароты, патом вярнулі назад.

Глаўнымі гасцямі былі кум, кума і бабка. Было і тры кашы. Кум, кума і бабка гатовілі з проса. Баба яшчэ прыносіла боршч з мясам і грыбамі і звар з груш, яблык, чарніц. Сначала давалі бабін боршч, кашу, але над ёй шуткавалі да трох раз. У гаршчок лажылі буракі, сыр, картошку, а на трэці раз – бабіну кашу і цанілі яе. Самая дарагая бабіна каша, тады кума і кумы. Усе кідалі грошы, но кум доўжан быў палажыць болей грошай, тады ён і біў кашу. Зразу знімалі вяршок з кашы на аддзельны сподак. Як разбілі кашу, чарапкі кідалі ў парог, штоб было дужэйшае дзіця. Хто схваціць чарапок і надзене каму-небудзь на галаву, то яго возьмуць за куму, кума ілі бабу. Кашу дзялілі на ўсіх абязацельна. Потым падавалі звар запіць. На бабіну кашу лажылі грошы, матэрыю, хусткі. Унучка давала падаркі і абязацельна бабе давала хвартух, каб калі баба памрэ, то на том свеце была не прывязана. Тады ўсе госці разыходзіліся. Другі дзень называўся пахмелле. Баба несла патраўку з грыбамі і мясам. А тады бабу везлі на баране, ішлі да яе ў госці. Раньшэ, мая матка казала, баба хадзіла цэлу нядзелю ў госці да дзіцяці і насіла гасцінцы, то напячэ чаго, то з адзежды, што е.

Спявалі песні для кумы, кума, бабы. Усе падрад, якія зналі. На хрысцінах кумоў і бабу падымалі, бо гэта буў гонар і раньшэ кумаўе садзілася ў пачоце.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.,***

*студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н. (2003 г.)*

**На хрэсьбіны**

Парадзіха на палозе ляжыць,
А захацела яна віннага соку,
А пазавіце майго мілага з току:
Ці не дастанець мне
Віннага соку?

А ён пытаецца:
Каго мама радзіла?
Калі сына, я мёду дабуду,
Калі дачку, я і так абыдуся,
Калі сына, я і горад пастаўлю,
Калі дачку, з кажухамі адпраўлю.

***
Ішоў кум па сялу –
Кума на гародзе.
Наш кум папялу –
Кума скавароду.
Кум дроў нясе –
Кума бліны пячэ.
Кум бліноў не хоча,
Каля кумы рагоча.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Ну вот да кругом стала водзяць, штоб лягчэй было нарадзіць.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1905 г.н.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Прудніквай І.***

Чараватая жанчына ўвесь час знаходзілася дома, ля хаты. Пры гэтым выконвала самую абыдзенную работу: сеяла, палола, лён церла і трапала – аж да самых родаў. Калі пачыналіся роды, свякроўка ішла да бабкі-павітухі, якой павінна було ужо буць за 50 год. Яе прасілі, і яна ішла і прымала роды.

Калі з’яўлялася дзіця, яна яго брала, укладала ў начоўкі і абмывала. Тады садзіліся за стол.

Калі дзіця везлі хрысціць, бабка-павітуха мула дзіця і давала на рукі куме. Кум і кума ехалі ў Юравічы хрысціць яго. Калі вярталіся з царквы, ізноў бабка-павітуха брала дзіця з рук кумы і несла ў хату. Затым збіраліся госці і адзначалі хрэсьбіны.

Да стала ў абавязковым парадку падносілі тры “кашы” (звараная пшаняная каша ў гаршку). Спачатку бабіную, потым куміную, а затым кумаву. Гэтыя “кашы” выкупліваліся гасцямі. На сподачак клалі грошы, падарункі для немаўляці, хто болей дасць, таго і “каша”. Затым зверху каша здымалася і давалася рожаніцы, а астатняя раздавалася гасцям. Гаршок білі, хваталі чарапкі і прыгаворвалі: “Давайце хватаць чарапкі, штоб малы хутчэй хватаўся ісці”. Разбітыя чарапкі клалі на галовы жанчынам і мужчынам, каб у іх нараджаліся дзеці. За сталом спявалі песні, весяліліся. На гэтым хрэсьбіны і заканчываліся.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Касцючэнка Ганны Яўхімаўны, 1936 г.н.***

Дзіцятка везлі ў цэркаў. Баба первая ідзе, дзіцятка тое купае. Як дзевачку купалі, бралі цвяток такі, што сабіраюць краскі такія, наготкі называюцца, а хлопчыка так проста да перахрысцяць. А тады ўжо пабудзе дзіцятка, да ўжэ назаўтра збіралі баб. Збіраюць сваіх баб, а тады як ужэ хрысціць, то на хрысціны завуць ужо сваіх родных. Хлеб вязуць куме і куму, з хлебам бацькі ішлі да кумоў, каб пагадзіліся. Баба пакупае дзіцятка і выносіць сама хросным бацькам. У цэркву вязлі канём, а як хрысцілі, то дзяржалі дзіцятка то кума, то кум падзержыць. Увечары ўжо прыязджалі гуляць, як пахрысцяць. Вадой палівалі дзіцятка ў царкве. Кашу варыла баба, перакупвалі кашу, хто болей грошай дасць. Абычна кум перакупліваў, а тады ўжо кашу разбівалі і дзялілі на ўсіх, а чарапкі адзявалі незамужнім дзяўчатам, каб хутчэй замуж выйшлі. Была таксама падманная каша, маглі ката пасадзіць у гаршок ці ў каструлю, для смеху. Песні на хрысцінах спяваюць, якія хочаш, як нап’юца, дык спяваюць.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.)***

Хто родзіць дзіця, дык сабіраюцца тады бабы і ідуць даведацца. Бралі міску мукі, крупу ілі сухароў напякуць, якога малака возьмуць, ну што было. Прыходзяць сюды, етая рожаніца саджае за стол. Там іх сабярэцца чалавек пяць-шэсць, а можа і болей. Вып’юць, тады закусяць, трохі пагуляюць і пайшлі дадому. Ета былі так называемыя вотведы. А патом ужэ дзелалі хрэсьбіны. Дзіця вязуць ужо ў цэркаў. Сабіраюцца кум, кума і баба. Баба ўкручвае етае дзіця і тады ўжэ адпраўляе яго ў цэркаў. Калі з цэрквы прыязджаюць, садзяцца за стол. Хрэсьбіны ўжэ, значыць, гуляюць. Бабе етай дорацъ падаркі. Варылі кашу. У нас абычна варылі кум, кума і баба. А патом етую кашу выкупалі людзі, што сядзелі за сталом. Хто даваў болей грошай, той і кашу забірае. Но тады ўсё раўно етую кашу ўсе ядзяць. Но такі закон: што хто-та доўжан яе выкупіць. Абязацельна доўжэн кум купіць сваю кашу, ну ці кума, ета няма разніцы. Яны самі паміж сабой. Ежэлі багата кума, яна б’ецца з кумам: “Я кінула пяць рублей!”А ён кажа: “А я кінуў шэсць рублей. Ужэ лішай я”. Ну а тады даходзіць да таго, што ўжо ніхто не кідае. Тады кум

забірае кашу, тры разы падымае ўверх еты гаршчок і аб стол яго разбівае. Гаршкі етыя былі гліняныя спецыяльна, каб лёгка разбіць кашу. А чарапкі з етага разбітага гаршка потым адзявалі на галаву. Ета ўжо счыталася, што будзе дзяцей багата. Ета каша абычна называлася “кумава каша” ілі “бабіна каша”. За сталом спявалі песні. Спецыяльных такіх уродзі і не было, пелі песні, як каму заманецца. Тады бабу вязуць на санках ці на калясцы дадому. Кашу выкупалі і разбівалі ў канцы застолля, калі ўжэ пасядзелі, паелі. І ўжо казалі: “Пасля кашы няма пашы”. Раз кашу разбілі, то ўжо і дадому можна ісці.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Маклішчы Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

На хрэсьбінах прысутнічалі ўсе, хто зайдзе, хто хоча. Але абавязкова кум, кума і баба. Шчас гэта акушорка, а раньша была баба. Баба сядзела за сталом да хлеб дзяржала, нітачкай завязвала пупок. Бабе даюць падарак. Гаспадыня, маці дае. Бяру два пірагі ці два батончыкі, абвертываю падаркам – палаценцам і даю ей ужо. Таксама куму і куме даю хлеб і даю падарак. А астальная пляска і песні обшчая.

Раньша дак не было паложана дарыць падаркі бабе і куме, а зараз, калі есць, дык, канешне, нясуць, што-небудзь дараць. Раньша дык я далжна даць бабе, куму і куме, а яны мне – неабязацельна. Кума толькі магла младзенцу гэтаму спелянуць што прынесці.

Кашу варыла баба. А неслі кашу і кум, і кума. І гэту кашу неслі ў гаршку, а потым цанілі ўжо.

– Колькі гэта каша стоіць?
Я рубель даю.
– Вы даеце два – ваша каша.
А дзяўчына тры – яе каша.

А ўжо хто больш дае – ужо няма цаны. Бах, кашу разбілі. Кум кашу разбівае. А потым вы бярыце, дзеці там гуляюць, і ім – кашу, усім. Гэта ж бабіна каша. Кашу такую баба варыць, каб яна стаяла. Потым, калі разаб’юць гаршчок аб стол, чарапкі ўбяруць, то ўжо каша і стаіць. От і каша.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

На хрэсьбінах абязацельна далжны былі быць баба, кум і кума. Яны з сабою прыносілі кашу, кожны – сваю. На хрэсьбінах дарылі добрыя падаркі. Калі сядзелі за сталом, то пачыналі купляць бабіну кашу. Спачатку адзін паложыць грошы, другі ўжо большэ, трэці – шчэ больш. І вось хто сама больш паложыць грошай, таго і каша. Тады ўжо кум бярэ гаршчок з кашаю і

цаляе ў сцэну. Гаршчок разаб'е, і тады кашу паміж гасцямі дзеляць. Бабіна каша была толькі пшаняка. І калі куплялі кашу, то спачатку бабіну, потым ужо – кума і затым – кумы. Баба – самы пачэсны госць на хрэсьбінах.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

Пасля шчаслівых родаў мужык, запрошаны быць кумам, прыходзіць у хату парадзіхі з загорнутым у белую хустку хлебам і кладзе на стол. Кума прыносіць парадзісе пляшку гарэлкі, прыпраўленую мёдам і перцам. Бабка-павітуха благаслаўляе дзіця і перадае яго кумам, якія едуць да святара на абрад хрышчэння. Кумы разам з дзіцём прыносяць святару хлеб. Пасля хрышчэння кума прыносіць дзіця ў хату і перадае бабцы-павітусе, а тая – мацеры. Пасля падаюць вячэру, а потым падносяць падарункі кумам і бабцы-павітусі. Звычайна гэта хлеб і кусок палатна.

Адным з галоўных момантаў на хрэсьбінах з'яўляецца падача на стол "бабінай кашы". Кашу пеклі з прасяных круп і дабаўлялі мёд або цукар, масла, малако. Каша павінна быць жоўценькай і абавязкова смачнай. Перад тым, як падаць "бабіну кашу", на стале засцілалі ручнік. Потым кашу павінны былі выкупіць, а кум – пабіць кашу. Чарапкамі пакрывалі галовы маладзіцам, у якіх доўгі час не нараджаліся дзеці, або дзяўчатам, якія доўгі час не выходзілі замуж.

Бабка рэзала кашу на кавалкі і раздавала ўсім прысутным. Калі госці атрымлівалі "бабіну кашу", то клалі грошы на выкуп кашы.

У наступны дзень кумы наведваюць парадзіху, прыносячы ёй грэчневую кашу і аржаныя пірагі. Частуючы кашай, кум гаворыць: "Няхай Бог нашага хросніка (імя) гадуе ды долю яму гатуе" – і праз бабку-павітуху перадае парадзіхе кашу і грошы. Тое ж робіць і кума. Бабка-павітуха ставіць на стол міску і просіць ва ўсіх гасцей грошы на мыла. Усе, хто ў хаце, кідаюць у міску грошы. Потым падаюць абед, а пасля абеду збіраюць грошы на гарэлку, выпіваюць і разыходзяцца па хатах.

Маці імкнулася закрываць немаўлятка "ад чужога вока". Калі хто-небудзь убачыў яго, ён тут жа тройчы сплёўваў назад праз левае плячо і прыгаворваў: "Дай Бог, каб здаровенькім расло!"

У момант хрэсьбін госці спявалі:

Паздраў, Божа, каваля,
Што скаваў нам дзіця.
А ні ў ручкі не хукаў,
А ні малатком не стукаў,
А ў мяккіх падушках,
А пад цёплай дзяружкай,
Без молата, без кавадла,
А паглядзім: дзіця ладна.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***

***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Раней цяжарную жэншчыну ў бальніцу не вазілі, ражалі дома. Ражаць дапамагала бабка. Яна прыходзіць, пупа адразае, і ўжэ радзіны правяць. Шоб лёгка радзіла, дак маліліся. Як трэ ісці раджаць, дак косы распускалі, шоб лягчэй радзіць. Бярэменнай усё нада было даваць, што яна папросіць, ей ўсё пазычалі. І бярэменная нічога жалець не даўжна була, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе.

Як хрысцілі, то ў цэркву матак не бралі. Ішлі толькі хросны, хросная, бацька. Дажа еслі родзіць ужэ рожаніца, дак у цэркву дванаццаць дней не хадзіла. Хрысцяць дзіця, у ваду апускаюць. Закрываюць яму вочы, вушы і ў ваду апускаюць. Тады ўжэ крэсціка вешаюць, перахрысціць бацюшка і дадому едуць. Дома хрысціны правілі. Гатовілі ўсё як на свадзьбу. Падаркі дарылі малому. Абавязкова варылі кашу, варылі яе з пшана. Таксама была і падманная каша, куру паднасілі ў гаршку. Казалі: “Бач, якую баба кашу прынесла” – да смяяліся. Курыцу ці ката ў гаршок пасадзяць, накрыюць. Шуцяць, а тады ўжэ нясуць кашу нармальную. Радзіцелі давалі падаркі хросным, а хросныя – малому. В обшчам, мяняліся падаркамі.

Называлі дзяцей, як хацелі. От захацела я дачку Тамарай назваць – назвала Тамарай, захацела Ленай – дак Ленай назвала. У чэсць празніка называлі. Як на Ганны радзілася дзіця, да дзевачка, дык Ганнай называлі, на Іллю – дак Іллёй.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

На хрэсьбіны вараць кашу. Была падманная каша. Як кашу падносяць, ката садзяць у каструлю. Выкупляюць людзі гэтую кашу, яны ж не знаюць, што там кот. А як набяруць грошай, адкрыюць каструлю, а кот выйшаў і пайшоў.

Бывала, што і кроліка садзілі.

Як разаб’юць кашу, людзі забіраюць чарапкі сабе дадому. Чарапкі колісь бабы бралі дадому, пракалывалі гарбузікі, тады яны будуць расці і, кажуць, будзе столькі гарбузікаў.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Ужо як ражалі, нада было, штоб нічога не было на целі, штоб свабодна. Як родзіш, баба пупа завязвае, у нас яна называецца парадзіха. Тады ўжо садзяцца і красну замачваюць. Мужыкоў штоб не было, адны толькі жэншчыны. Эта п’юць красну, яна ў нас так называлася. Усе садзяцца за стол, а жэншчыну, якая радзіла, за стол не пускаюць, так няльзя, патаму што ў цябе яшчэ ідуць роды, ты не далжна за сталом сядзець, ты не далжна абшчацца, вось так.

Хрэсьбіны святкуюцца так. Едуць у цэркаў кума, кум, прыходзіць баба, яна павінна свайго ўнучыка ўпелянаць ва ўсё сваё, што прыносіць на хрэсьбіны. У цэркву забіралі дзіцёнка ў сем дней, із бальніцы – сразу ў цэркаў. Патом перахрысцяць і прыязджаюць. Жанчыну, якая радзіла, у цэркву не пускалі, еслі мене забіралі з бальніцы з рожанікам. Патом прыязджалі дадому, усе сабіраюцца і п'юць красну. Пелі:

Наша бабка падпіла,
Пад прыпечкам прылегла,
А там мышы зашалелі,
Хвосцік бабкі пераелі.
Стала бабка плакаці:
Нечым хвартух латаці.
Заплакала, загласіла
Да й зашыла ласкутком.

Куме, кума, смачна гарэлка,
Вып'ем мы, куме, шчэ з панядзелка.
Прадай мне, куме, шчэ валоў сорак,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў аўторак.
Прадай мне, куме, гусей у сярэду,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў сярэду.
Прадай мне, куме, міскі да ложкі,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў чацвер трошкі.
Прадай, куме, белу цяліцу,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў п'ятніцу.
Закончым, куме, усяку работу,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў суботу.
Зложым мы, куме, сарочку-белку,
Вып'ем мы, куме, шчэ ў нядзельку.
Ад панядзелака да панядзелака,
Ой, куме, куме, смачна гарэлка.

Вып'ем, кумка, чарачку,
Каб мы былі ў парачку.
Вып'ем, кумка, вып'ем дзве,
Каб нам былі рады ўсе.
Вып'ем, кумка, вып'ем тут:
На тым свеце не дадуць.
Вып'ем, кумка, вып'ем тры,
Каб нас людзі любілі.
Вып'ем, кумка, чатыры,
Каб нас людзі хвалілі.
Вып'ем, кумка, вып'ем тут:
На тым свеце не дадуць.

Вып’ем, кумка, вып’ем пяць,
Хай нас людзі не стыдзяць.
Вып’ем, кумка, вып’ем шэсць,
Хай нам будзе слава й чэсць.
Вып’ем, кумка, вып’ем тут:
На тым свеце не дадуць.
Вып’ем, кумка, вып’ем сем,
Каб была нам слава ўсем.
Вып’ем, кумка, вып’ем восем,
Каб нам добра скрозь жылося.
Вып’ем, кумка, вып’ем тут:
На тым свеце не дадуць.
Вып’ем, кумка, вып’ем дзевяць,
Вып’ем, людзі, нас не дзесяць,
Няхай людзі нас пепеляць.
Вып’ем, кумка, вып’ем тут:
На тым свеце не дадуць.

Пахрысцілі, паспявалі, патом ужо кашу дзеляць. Нясуць кумаву кашу, там канфеты нясуць, што кум прыгатовіць. Там ужо грошы ложуць, як раздаюць ужо, весяляцца. Патом кума прыносіць кашу. Потым ужо ідзе бабіна каша. Баба кашу ўжо наварыць з пшана і рыса ў гаршку. І баба боршч нясе. Бабін боршч еты ўсягда ставяць на стол і весяляцца. Бывае падманная каша. Бывае, могуць пеўня пасадзіць у гаршчок ілі курачку пасадзяць. Дзе садзяць, ужо етыя госці вешаюць кружок, і нада, штоб кум папаў туды гаршчком, штоб гаршчок разбіўся там. А чарапкі садзяць на кума, куму, маладых, каб яны скарэй жаніліся ці замуж выхадзілі. А патом пасля гулянкі трэба ж бабу дадому завезці. І бабу, калі зімою, дык садзяць на санкі, еслі летам – на барана. І ўсе запраўляюцца і вязуць бабу дадому. Баба там стол накрывае і апяць усіх угашчае. Як разбілі бабіну кашу, бабу садзілі на стул, качалі і гаварылі: “Што будзе? Што будзе?” Яна гаворыць: “Што дасце? Што дасце?” Потым бабу падымаюць, і яна кажа, што паедуць усе да яе. Калі ж не паедуць, то яна ставя тут. Так у нас праходзілі хрэсьбіны.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Ражалі самі, бабкі-павітухі памагалі. І прыкметы ў той час былі: берэменна жанчынка далжна весці сябе так, чтоб нікаго не аскарбіць, не саўраць. Тады ражалі, дзе прыдзецца: у хаце, у полі.

Святкавалі хрэсьціны. Сабіраюцца отвяды, прыносяць бліноў, угашчаюцца і ўгашчаюць нарадзільню.

Прыносілі малому хрэсцікі, жарабьёнка прыносілі. Была кума і кум. Баба кашу варыла з пшана. Цяпер ету кашу білі або бувала так, што яе куплялі: хто болей грошай дасць, тае і каша, но кум должэн пабядзіць. Нада було, штоб кум пабіў кашу. Чарапкі ад гаршка надзявалі на галаву дзеўкі. Счыталі, што дзеўка, якая надзене чарапок, то радзіць пойдзе. Вось так було.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,***
***Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

Сабіраліся к хрэсту, пасядзяць за сталом і едуць хрысціць дзіця. Прыедуць з храста, зноў прымаюць іх, садзяць за стол. Паабедалі і разайшліся. А тады гуляюць хрэсьбіны, ілі той жа дзень, як хрысцяць, і гуляюць хрэсьбіны, спраўляюць. Рабілі падаркі. Давалі хросным, а малому дык ета ж абязацельна. Як ідзеш хрысціць, так і нясеш падарак. Хросныя пеклі кашу. Хто ж яе варыў – хросная, і хроснага, і куміна каша. Была і падманная каша, дажа і ката садзілі ў каструлю, закрыюць да нясуць.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Я кумой была, таму ведаю. Дзіця спачатку маці апранула, дзіця адзетае, а баба гэта скідае, надзяе сваё. Паселі за стол, кум гарэлкі не п'е, і я не п'ю, бо трэба ехаць у цэркаў, пасядзім, што-небудзь укусім. Ну, селі паехалі к бацюшку, бацюшка хрэсціў дзіцяці. Дзіця ўкуталі ў пялёначку, надзівалі ўжо ў маё, бабіна адлажылі, маё надзелі. Паехалі дадому, кум дзверы адчыніў, я з воза на парог перадаю дзіця. Кума мне дала на плацце, на хустку дала. Мы сядзім з кумам за сталом, і я гэта ля сябе, на лаўцы паклала. Падлезлі пад стол і ўкралі майго падарка. Тады нас з кумам пасадзілі на слуп і падымаюць угору, пытаюць: сколькі дадзім, я маўчу, кум кажа, што сто грам. Усе крычаць: “Мала, мала”, паставілі дадолу і зноў падымаюць угору. Пытаюць, колькі дадзім. Кум кажа, што две чаркі; і зноў: “Мала, мала”. Зноў падымаюць і кажуць: “Маўчы, кум, хай кума скажа". Я гавару: “Паўлітры”. Усе згаджаюцца і ставяць нас дадолу.

Первую прадавала баба кашу, вакруг гаршка клала капейкі, “запрагала калёса”, а на кашу ўжо лажыла грошы. Бальшанство ў нас калі баба з дзедам, то дзед купляе бабіну кашу. Тады той гаршчок кідаюць і б'юць, кашу ножыкам абкруцяць і трохі на тарэлкі разложаць, а чарапкі астаўляюць. Тожа дзед шыбануў іх, а дзеўкі іх адна адной на галаву ложаць, штоб хлопцы радзіліся. Тады ўжо кумава каша, яе хто хоча, той купляе. А кашу кумы доўжон кум купіць, еслі не купіць – яму ж пазор. Хоць, бывала, даходзіць да васьмідзесяці рублеў, а кум усе роўна купіць

Назаўтра, уранні, мы прыходзім, чуць пасядзелі за сталом, перавярнулі барану, пасадзілі бабу і пацягнулі. Потым бяруць каляску на два калясы, ложаць кажуха, садзяць куму і цягнуць.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г.н.***
***(перасяленка з в. Руднае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Страхой К. (2005 г.)***

Калі нараджалася дзіця, то, каб абараніць яго ад дурнога глаза, яго ўмывалі свянцонай вадой. Раніцай збіраліся ў цэркву. Бацькі навароджанага ў цэркву не ездзілі, ехалі толькі хросныя бацька і маці. Пасля хрышчэння вярталіся ўсе і садзіліся за стол. Спявалі адпаведныя песні:

Сягоння ў нас імяніны,
Сягоння ў нас імяніны
Добрай жаны-гаспадыні,
Добрай жаны-гаспадыні.
Сягоння ў нас госці будуць,
Сягоння ў нас госці будуць.
Госці будуць траякія,
Госці будуць траякія.
Першыя госці – дзед і баба,
Першыя госці – дзед і баба.
Другія госці – кум з кумою,
Другія госці – кум з кумою.
Трэці госці – брат з сястрою,
Трэці госці – брат з сястрою.
Брат з сястрою – размаўляці,
Брат з сястрою – размаўляці,
Кум з кумою – пагуляці,
Кум з кумою – пагуляці,
Дзед і баба – уся парада,
Дзед і баба – уся парада.

Таксама спявалі песні, прысвечаныя куму і куме:

Сядзіць кумка на куце,
Сядзіць кумка на куце,
Як лябёдка ў гняздзе,
Як лябёдка ў гняздзе.
– А не рушце мяне,
А не рушце мяне,
Не чапайце мяне,
Не чапайце мяне.
Я й за гэты куток,

Я й за гэты куток
Палажыла ласкуток,
Палажыла ласкуток.

Песні, прысвечаныя бабцы-павітусе:

Бабулька мая гордая,
Парадзіха твая лёгкая.
Вот табе, бабулечка,
Гарнец мёду.
Каб было, бабулечка,
Харашо пры роду.
Вот табе, бабулечка,
Горнец гарэлкі.
Зрабі мне, бабулечка,
Каб было неспадзеўкі.
Вот табе, бабулечка,
Гарнец маку.
Зрабі мне, бабулечка,
Каб не было і знаку.

Кашу пекла баба. Яна пячэцца ў гаршку. Кашу б'е кум. І была прыкмета: на колькі чарапкоў разаб'ецца гаршок, столькі будзе дзяцей. За кашу давалі падаркі і грошы. У канцы хрэсьбін кум з кумою садзяць бацькоў немаўляці за стол. Перад імі ставяць сваю гарэлку і свае пачастункі. На гэтым хрэсьбіны заканчваюцца. Прычым, у канцы спявалі песні:

Дадому, любыя госці, дадому,
Вы нам ужо, госцейкі, надаелі,
Дзве печы пшоннага хлеба з'елі,
Тры купы гарэлачкі выпілі.

Час дадому, час,
Час, да ўжо даўно.
Будзе мяне мілы біці,
Няма каму бараніці.
Час дадому, час.

За лес, за лес сонца каціцца,
Уся бяседачка расходзіцца.
Мамка мая дамоў строіцца,
Я ж, малада, пайду правадзіць
Праз два полі, праз два чыстыя,
Праз тры рэчкі беражыстыя.
– Ты, свякроўка, мая матачка,

Калышы маё дзіцятачка.
– А чорт яго накалышыцца,
Трое, двое ў калысачцы.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Санцэвіч В.***

Да, хрэсьбіны – абрад вядомы. Хрэсьбіны, ці, інакш кажучы, хрысціны.

У цэркву ездзілі абавязкова. Пры хрышчэнні дзіцяці перш за ўсё чыталі малітву, якая называлася малебен. Затым дзіця акуналі ў чан са свечанай вадой.

Хросных выбіралі абавязкова. Бацькі самі выбіралі іх і ішлі з хлебам да кумы і кума. Калі кумаўя згаджаліся хрысціць дзіця, тады хлеб забіралі. Калі згоды не было, то хлеб не бралі.

Застолле было пасля царквы. Гатавалі кашу, якая была галоўным атрыбутам хрэсьбін. Кашу гатавалі кума, кум і бабка-павітуха. Затым гэтую кашу выкуплялі. Хто болей даваў грошай, той разбіваў гаршок з кашай. Затым кашу разлажвалі па талеркам. Хросным дарылі падарункі. Песні спявалі. Песні былі прысвечаны кумаўям, дзіцяці і бабке-павітухе.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лагвіненка Марыі Васільеўны, 1960 г.н.,***
***студэнткай Лагвіненка В. (2005 г.)***

Ражалі ў хаце пры бабках. Назначалі бабу, яна завязвала пупавіну. Гэту бабу бралі і на хрэсьбіны.

Па-першае, быў “бабін боршч”, разлівалі яго ўначале. Калі нагуляюцца, крычалі: “Давай бабіну кашу!” Кашу насілі па сталах, і ўсе давалі дары. Але кум павінен быў купіць кашу ў бабы. Калі прасілі бабіну кашу, то ў мяшок клалі петуха ці ката, каб пажартаваць. Тады кашу разбівалі, калі асколкі распадаліся, а каша заставалася стаяць, то ўсе крычалі і хвалілі “бабіну кашу”: “Харошая каша” – і ставілі бабе бутылку. Асколкі ад гаршка кідалі ў малодшых, каб ім тожа прыплод быў. Вяршок кашы павінен зрэзаць кум і аддаць хрэсніку ці хрэсніцэ. Маленькае дзіця баяліся паказваць, каб не зглазілі. Клалі спаць дзіця і казалі: “Куры на седале спяць, так і ты спі”.

***Запісана ў в. Рудыя***
***ад Рудчанка Алены Рыгораўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Мацюшэнка А.***

Ну, прыходзяць у сваты, так. Прыходзяць з хлебам-соллю, з гарэлкай. Два горлышкі бутылак завязваюць умесці краснаю толькі лентаю, а хлеб – на палаценцы. Ложаць хлеб-соль: “Добры вечар, добры вечар!” Просяцца ў хату пераначаваць: “Пусціце нас у хату!” Калі дзеўка саглашалася, іх пускалі ў хату, а калі ўпіралася, значыць, не саглашаліся пусціць у хату.

Калі дзеўка сагласна, то яна падходзіць да сватоў, кажа: “Добры вечар! Добры вечар!” В обшчым, паклоніцца, пацалуе хлеб – той, што яны неслі. І еты хлеб разразае папалам маладая, катору сватаюць. Як разрэзала хлеб, значыць,

усё, яна садзіцца, сваты цалуюцца, паздраўляюць адзін аднога. Хросны дзяўчыны і хлопца цалуюцца, патом сабіраюцца за стол і гарэлку п’юць.

У сваты ехалі ў суботу ўвечары, каб ніхто не бачыў, бо, калі дзяўчына адказвалася, ім жа стыдна было. Ну, сватанне ўсё, калі ўсе сагласіліся, то ўсё, распіваюць ету гарэлку.

Ужэ далей так праз тыдзень завуць ужо больш бліжніх сваіх родственнікаў: братоў, сясцёр. Тыя ад тае стараны завуць, і ўжэ так гуляюць, ета, так называецца, “змовіны”, ну і дагаварваюцца, кагда будзе ўжэ свадзьба. Старшы еты сват, каторы сватаў, ён кіруе свадзьбаю. У нас не гулялі свадзьбу толькі ўвосень, а гулялі летам, пасля жніва. Казалі, калі ўвосень свадзьба будзе, дак нешчаслівая сям’я будзе. Ну, перад пачаткам свадзьбы праязджаюць ужо сваты. Выходзяць сват, каторы сватаў (хросны маладога), і каторы сват выбіраецца з маладое стараны. Ужэ выходзяць (заходзяць у хату): “Ой, добры вечар, добры вечар! Ох, мы патаміліся, ой, сваток, сваток, пусці ў хату. У тваёй хатачцы е тавар (як яе звaці), а ў нас – купец!” Патом як на парозе ўваходзіць матка, не матка, а цётка, і, етае, нясе свечкі. Іх тры разы паляць і тры разы тушаць на парозе. Свечкі – ета закон: свечка маладое і свечка маладога. Свечкі вялікую роль іграюць, ну а ўжэ патом, як гэтыя свечкі звязалі, іх перапіваюць – за іх гарэлку просяць. Перапівае сватаўе, і гарэлку за парог льюць, на парозе перапіваюць гарэлку, а трошкі выліваюць за парог, а патом іх толькі пускаюць у хату. Сваток кажа: “Ну, людцы добрыя, заходзьце ў хату!” Сват, каторы сватаў, садзіцца першы, за ім усе астальныя. Да іх падыходзяць матка і бацька маладое і гавораць: “Добры вечар!” Выпіваюць пяцьдзесят грам і гавораць: “Ну, вы піце, гуляйце!” Малады сядзіць за сталом адзельна ад маладое. Ну, потым гуляюць, гуляюць, дак нада ж пасадзіць маладых, свечкі звялі ж, дык нада ж іх звесці. Дак ужэ бралі кажуха ды прыводзілі старую бабу, прыбіралі да садзілі. Дак малады казаць павінен: “Ета не мая!” Дык тады прыводзілі маладую ў вянку. Ужэ маладая ідзе ў вянку к маладому. Маладую садзілі на кут на вывернуты кажух, каб багата жылі і шчаслівa. Тады залазяць дружкі (дзевачкі), а перад тым, як пасадзіць маладую, яе да маладога брат вядзе, сястрычку прадае, а малады яму грошы дае, плоціць яму грошы за тое, што ён ужэ купляе яе, ну і садзіць разам з маладым, ну а тады залазяць дружкі. Дружкі залазяць, пяюць песні, а дружкі стаяць з папругамі над тымі маладымі дзевачкамі, яны ж іх б’юць, бо хочуць забраць маладую дарам. Да. Тады пяюць дружкі песні ды хочуць з дружкоў выцягнуць пабольш грошай. Дружкі ж хочуць зарабіць. Ну ды цягнуць з дружкоў грошы. А тыя рубля якога паложаць, ну і пытаюць: “Хваціць?” А дружкі адказваюць:

За етыя грашы да купі сабе мыла,
Купі сабе мыла, абмый сваё рыла!

Дак тыя зноў папругі дадуць. Ну а потым саглашаюцца ўжэ дружкі, плоцяць, даюць водку дзевачкам. Так ужо хораша з імі абходзяцца. Ну, п’юць, гуляюць. А тады ўжо зноў заходзяць завіваць маладую бабы старыя.

Матка (свякруха) дае платок, і ўжэ завіваюць: над галавою ўжо машуць платком і пяюць:

Ой, мы ж цябе, Танечка, завіваем,
Шчасцем, долею надзяляем!
Будзь багата, як зямля,
Будзь здарова, як вада.

Ета пяецца тры разы. Тады ёй накідаюць платочак. Вяночак здымаюць, вешаюць на гвоздзік у той кут, дзе маладая сядзіць, патом ужо пастукаюць галоўка аб галоўку маладога, і дружкі стукаюцца. Ну а тады свадзьбу гуляюць. А маладыя даўжны быць у пары, і даўжон малады ўвесь вечар вадзіць маладую, і штоб іх не раз'едзенілі, і тады яны будуць жыць мірна і гласна. І калі мрака такая, ідзе дождж, ета будуць яны багатыя. От так. Ну ўжо пап'юць, пагуляюць і ў 12 часоў ночы дзеляць каравай. Даюць чарку гарэлкі і кусок каравая, а за каравай патрабуюць падарак. От жа і пякуць каравай: даюць муку, даюць ужэ, етае, усе прадукты і дзеляць на тры часткі. Падперазаюцца пярэднікамі. Без пярэдніка ты не імееш права, незаконна ідзеш, пярэднік, дзе ты ні будзеш, ты вяздзе пройдзеш. Па божаму закону, ты даўжна і ўстрэціць карову з пярэднікам, і прагнаць карову з пярэднікам. Калі будзеш без пярэдніка, то не палучыцца каравай. Цібе нідзе не папросяць без пярэдніка. Яшчэ каравай павінны замешваць жэншчыны, якія ўсю сваю жызнь пражылі з адным мужам, каб і маладыя ўсю жызнь пражылі разам. Учынілі каравай, замясілі і паставілі, а пад каравай ставяць маленькага хлопчыка і ўкрашаюць шышычкамі красівымі. Неслі каравай на дзяжы, дзе хлеб пякуць, дык на той крышцы. Неслі і пелі:

Каравай, каравай,
Уставай, уставай,
Маладых прывітай.

І на той крышцы нясе – і на стол. Калі ён спячэцца, дак усе гуртам нясом, нясом, і хлопчык той нясе. Прыняслі, у каморку паставілі. Ну і стаіць каравай, пака не просяць падаць. Ну а тады ўжо дружок нясе, а потым дружкі бяруць (і са стараны нявесты, і са стараны хлопца) ды і падругі матчыныя – усе гуртом нясуць. Ну а галоўны сват ужо патом і кажа: "Отец і мать, просім каравай падаць!" Ну, яны ўжо забіраюць у дружак каравай і падаюць на стол. А патом кажуць свату: "А цяпер просім каравай дзяліць". Адзін раз кажа, втарой раз, трэці раз. І даюць каравай маладым, а потом і вызываюць сразу бацьку з маткай, родных, а патом – хросных. Ну а потым і жалалі: "Каробку жаб, штоб не любіў чужых баб! Каробку гліны, штоб пазвалі на хрысціны!"

Ну, во ета во. Тады бралі каравай у платочак, бо голымі рукамі няльзя, ета ж святое. Ну, да выпівалі чарку гарэлкі, а за еты каравай давалі маладым грошы і падаркі. Грошы забірала маладая. А ўжэ матка яе хросная, не, не

хросная, а родна матка, стаіць і падаркі дае самым блізкім родзічам, ну, што давалі: мацер'ял, хусткі, рушнікі.

Ну вот, каравай падзялілі, і пашлі танцы, ну, па сто грам ім далі, і танцуюць. А яшчэ ж: "Чобаты, чобаты, нарабілі клопату". Ето зяць танцуе з цёшчаю і пяюць такую песню:

Чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату,
Ой вы мне.

Ужо зяць садзіць цешчу, тады муе ёй ногі гарэлкаю і абувае чобаты ёй. І зноў яны танцуюць. Ну а потым гуляюць і зноў п'юць гарэлку, а маладая з маладым ідуць к маладому, да канца свадзьбы яны не астаюцца. Ну а госці гуляюць ды і расходзяцца. Так во гулялі ў нас свадзьбу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001 г.)***

Калі сваталіся, то прыходзілі з гарэлкай і хлебам. Сядалі сваты за стол. Павязалі ім бальшыя рушнікі. Дамаўляліся пра свадзьбу. Эта былі і змовіны, і сваты. Через месяц была сама свадзьба. Ехалі на канях, тройка блакітная з дугамі, колокольчікі повесілі. Молодую посаділі у вуглу, пад образамі, завівалі маладую. Маладая развешывала сваё прыданае: рушнікі, абавязкова посцілкі. Нявесту ў нас выкрадалі. Каравай дзялілі. Гаварылі пажаданні: "Дарую рубля, каб купілі карабля". А патом уже снімалі фату. Дарылі маладым жыўнасць: хто парася, хто цыплёнка, хто гуся. Пасля вяселля былі "цыгане". Гэта госці наведвалі маладую.

***Запісана ў г. Гомель***
***ад Мельнікавай (Дрончанка) Лідзіі Іванаўны, 1947 г.н.***
***(ураджэнка в. Чэхі)***

У сваты ідуць хросны бацька маладога (галоўны сват), два чалавекі з радні, чацвёрты – жаніх. З сабой бяруць пірагі, бутэльку гарэлкі (па яе завязваюць чырвоную лентачку банцікам). Гэта бутэлька ходзіць ўсё вяселле. Яшчэ бяруць з сабой пашываны саматканы рушнік. Пірагі нясуць сваты. Дамаўляюцца аб дні вяселля бацькі з бацькамі, малады з маладой. Калі ідуць у сваты, то спяваюць:

Сват-сваточку,
Пусці ў хату.
Мы шкоды не зробім,
Лаўкі не зломім.

А ў нашага свата

З вярбы-лазы хата,
Печ яго пабялёная,
А чэсць яго пахвалёная.

На вяселле запрашалі гасцей як маладыя, так і іх бацькі. Вяселле пачыналася заўсёды ў суботу вечарам у хаце маладой. Прысутнічаюць у гэты дзень толькі дружкі і радня маладых. Гуляюць, гасцююць. У гэты вечар сваты шукаюць маладую. Выводзяць трох дзяўчат (адна з іх маладая), накрытых посцілкай. Малады павінен быў знайсці яе. Але гэта было як гульні.

Вянчаюцца маладыя ў нядзелю. У хаце маладой.

Пачынаецца торг за маладую. Да сватоў выводзяць тры дзеўкі, адна з іх маладая. Іх накрываюць посцілкай і кажуць: "Дайце нам маладую". Ім адказваюць: "Найдзі яе". Гэта датычыцца жаніха. Потым бяруць пугу і кажуць: "Дзесь наша цялічка забегла ў стада, яе нужна знайсці". Маладому казалі: "Шукай яе". Ён бярэ пугу, пасвістуе па баках і кажа: "Дзе мая цялушка?" Потым зрывае посцілку, і адна з дружак вядзе маладую на пасад к маладому. Як вядзе на пасад, кажа: "Ацец і маці, блаславіце маладую за стол завесці". Бацькі ў адказ: "Бог благаславіць". Так тры разы. Родны брат садзіцца паміж маладым і маладой і прадае маладому. Дружкі спяваюць:

Брат з сястрою сядзіць
Да за ручаньку дзяржыць.
Да не хоча папусціці
Да чужой чужаніцы
Свае роднае сястрыцы.

– Не гніся, дружок, не гніся,
Кладзі залаты, садзіся,
Кладзі залатой, шчэ й другі, -
Вялеў (імя маладога) малады.

Чаго, дружок, надзьмуўся?
Мо дома грошы забуўся?
Пастаў коніка на мяжы,
А сам па грошы пабяжы.

Пудкі, дружок, пудкі,
Загналі чэрці ў суткі (малы куток).
Хто йдзе, той пытае,
Чыя чупрына матае.

За етыя грошы
Да сват нехарошы.
Вазьмі свае грошы
Да ідзі на рынак,

Да купі сабе мыла,
Да памый свае рыла,
Штоб жонка любіла,
Да дзеткі пазналі,
Да бацькам назвалі.

Пасля гэтага сват ложыць два разы грошы. Дважды дружкі адмаўляюцца. На трэйці раз больш грошай ложыць. Дружкі згаджаюцца. Брат бярэ грошы і вылазіць з-за стала. Вылазячы, брат лёганька пастукае маладых галавамі. Цяпер маладыя сядзяць разам. Дружкі спяваюць:

Татарам, брат, татарам,
Прадаў сястрычку задарам.
За розавую кветачку
Прадаў сястрыцу-дзевачку.

Пасад кончыўся. Раней дружкі былі за асобным сталом. Цяпер, калі кончыўся пасад, дружкі ідуць за агульны стол. Ідучы, спяваюць:

На лаўку, дружкі, на лаўку.
Памые лаўку мамка яе
Сваімі ручкамі белымі,
Сваімі слёзкамі дробнымі.
Ой, дай, мамка, іголку,
Шчэ й нітачку шолку.
Да прышыце кветачку
З зялёнага бярвеначку
Маладому (імя маладога).

Прышываюць кветачкі. Кожная дружка - свайму дружку. Далей у сватоў трэбуюць "плату" за свой труд. Галоўны сват кладзе грошы на талерку і налівае стопку гарэлкі. Грошай ложыць мала, дружкі не згаджаюцца і пяюць песні, каб дабаўляў плату:

Нашага дружка карыслівая ручка.
Яе з кішэні не выймае,
Нас, дружак, не вітае.

Сват наш лысы-лысы,
Пабіў гаршкі-місы.
А сваха глухая
На пагоршкі спявае.

Дружкі,
Дайце свасе качала,

Штоб песеньку зачала.
Да ўжо сваха не два з’ела,
Каб яна анямела.

Свахі – на дружак:

Першая дружка-старушка,
Другая – каробачка,
Трэцяя – па часах ходзіць
Да вечара сына родзіць.

Дружкі – свахам:

Свахначкі-мамачкі,
Мы з вамі не сварэмцеся,
Мы з вамі памірэмцеся.
Адну возьмем да за бабаньку,
А другую – да за куманьку,
А трэцюю – целёначкі мыці,
А чацвёртую – воду піці.

Свахі – дружкам:

У нашай рэчачцы ўсе карасі,
Нашы дружачкі ўсе харашы.

Дружкі злазяць з лаўкі і бяруць грошы. Сват бярэ пугу і ганяе дружак. Яны ўцякаюць у розныя бакі. Потым дружкі садзяцца за стол, пачынаюць завіваць маладую.

На лаўку лезуць тры бабы (родная сястра, крышчоная маці, дзяна – жонка роднага брата). Жанчыны кажуць: “Ацец, маці, благаславіце маладую”. Так тры разы. Жанчыны спяваюць:

Ой, дай, мамка, масла
(Я ж да карованьку пасла
Ад расы да расы)
Да памазаці косы.

Маці падносіць у ложцы масла. Потым трохі расчэсваюць косы, мажуць маслам, знімаюць вянок, завязваюць хустку. Потым спяваюць:

Ой, што мы хацелі, тое і зрабілі:
З цеста – пеляніцу (длiннаваты бохан хлеба),
З дзеўкі – маладзіцу.
З добрага цеста – добра пеляніца,

З добрае дзеўкі – добрая маладзіца.

Жанчыны дражняць маладых:

Наш малады як пень руды.
Наша маладая як чырвоная ружа,
Маладому прыгожа.

А мы самі да пяшком ішлі,
Маладога ў мяшку няслі.
Ногі тырчалі, да сабакі гірчалі,
Латуны парвалі.
А мы ночку не спалі,
Латуны зашывалі.

Пачынаецца дзяльба каравая. Каравай пякуць у суботу. Прыходзяць каравайніцы, месяць цеста і спяваюць песні. Саджаюць каравай у печ, таксама спяваючы:

У нашае печы
Шырокія плечы.
Можна чатыром сесці,
Каравай сцярэчы.

Калі каравай спячэцца, яго выймаюць, кладуць на вечка (дзеравянная крышка), ставяць на комінак. Потым выносяць у камору. Калі пачынаюць дзяліць каравай, яго выносяць з каморы і нясуць на стол.

Галоўныя сваты (крышчоныя) казалі: “З дзежачкі – на вечка”. Клалі рушнік, а на яго лажылі каравай. Спявалі: “Ацец, маці, благаславіце каравай падзяліці”.

Ім у адказ: “Бог благаславіць”. І так тры разы. Клікаюць радню (бацька, маці, сёстры, браты). Яны ідуць к караваю. Госці-баяра спяваюць песні:

Да сядзець баяра да шатром за сталом,
Да слухаць баяра, што мне татко даруе:
Даруе 17 кароў, 17 авец.
Ой, калі б, Госпадзі, таму праўды была,
То б я малада да багата была.

Пасля бацькоў дораць падарункі ўсе астатнія госці.

Вяселле ў хаце маладой кончылась, ідуць у хату к маладому. Калі ідуць да хаты маладога, людзі перакрываюць дарогу, патрабуюць выкуп. Адкупляліся гарэлкай.

Жаніх з нявестай ідуць уперадзе. Сваха выварачвае кажух, адзявае яго, завязваецца рушніком, надзяе мужчынскую шапку. Покуль ідуць маладыя і

госці, яна абсыпае іх жытам. Каля хаты маладога стаіць стол ля ўвахода ў двор. Сваха танцуе, абсыпае жытам. Адна сваха і другая са свечкамі. Спяваюць:

Мір і з мірам міраваліся,
Сваха з свахаю цалаваліся
На лютым марозе,
На сянечным парозе.
Падыйдзі, сваха, да мяне,
У цябе свяча і ў мяне,
У цябе дзіця і ў мяне.
Да звядом свечкі да ручкі,
І звядом дзеткі да паркі.

Тры разы пяюць гэту песню, тры разы зводзяць свечкі і тройчы цалуюцца. Тады вядуць у хату.

Першая старана:

Прыляцелі сарокі, прыляцелі вароны
Да з чужой стараны.
Усе ў сінім да ў зялёным,
Да ўсе ў пазычаным.

Другая старана:

Прыляцелі сарокі, прыляцелі вароны
Да з чужой стараны.
Усе ў сінім да ў зялёным,
Да ўсе ў шаўковым.

Уперадзі ішлі галоўныя сваты з хлебам і бутэлькай гарэлкі, якая засталася са сватання, потым ідуць маладыя. Малады нясе іконку маладой: калі маладая ідзе са сваёй хаты, знімаюць іконку; перакрысціўшыся, цалуе яе; малады бярэ іконку і нясе ў сваю хату, яе вешаюць на ўваходзе. Затым ідуць госці. Сваты нясуць пасон маладой; родная сястра (можна і няродная) вешае хвіранкі, рушнікі, скацерці, скацеркі. Вяселле працягваецца ў хаце маладога.

У панядзелак вечарам гуляюць "зайца" ў хаце маладога. Госці без дружак. Адзяюцца некалькі чалавек ва ўсё рванае, смешнае, чудзяць. Гэта цыгане. Бегаюць у розныя хаты, хватаюць хто што: яечкі, хлеб, кур. Адзін чалавек перадзяваецца ў кажух – гэта заяц. Цыгане круцяць ляльку. Бегаюць па двары, абліваюцца гарэлкай. Заяц уцякае, хто-небудзь страляе ў зайца, ён падае. Зайца кладуць на стол. Абліваюць гарэлкай, мо жывы? Потым лупяць, ён ляжыць. Скідаюць кажух, шапку (аблупліваюць). Заяц ускоквае і танцуе на столку. Госці ідуць у хату "есці зайчаціну". У гасцей твары сажай вымазаны. З гасцей выбіраюць маладога і маладую, дзеляць каравай. Садзяць маладых

на кут, вешаюць вянок цыбулі на маладую. Калі ў сям'і было апошняе дзіцё, то за маладых садзяць бацькоў. “Зайца” гуляюць і ў хаце маладой. Маладыя гуляюць самі па сабе.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Бандарчук Алены Яраславаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Смусянок Н.***

## Сваты

Свадзьбы гулялі звычайна пасля Каляд да масленічнага паста і пасля дажынак.

Сватаць дзеўку прыходзілі сват, сваццяя, хлопец і яго бацькі. Звычайна прыходзілі ў аўторак і чацвер. Як сваты першы раз ішлі да дзеўкі, то яны, як увайдуць у хату, сутрымоўваюцца каля печы і кажуць ціхенька: “Печ, печ, дапамажы”. Потым ужо кажуць: “Добры дзень”, – ідуць да стала і садзяцца на лаву.

Сват як ішоў да дзеўкі, абматваў пояс скручанай саломай, каб Бог дапамог “спутаць” маладых.

Сваты ніколі проста не кажуць, чаго прыйшлі, а ўсё дамаўляюцца байкамі (тавар, князь, баяра), каб падмануць нечысць і зрабіць лад, пакуль яна расшалопае, што тут робіцца.

Як першы раз прыйдуць сваты, то нельга згаджацца выдаваць дзеўку, бо маладыя будуць вельмі нешчаслівыя і людзі насмяюцца, што “дзеўку аддаюць хоць за вала, абы дома не была”. А трэба сказаць, што дзеўка яшчэ маладая, каб сваты дагадаліся і прыйшлі яшчэ другі раз.

Сват заўсёды ехаў у сваты з пляшкай гарэлкі. Калі бацькі дзеўкі не хацелі яе аддаваць, то яны не пілі сватавай гарэлкі. Сват за тое мог разбіць пляшку аб вароты, каб дзеўка тая зусім старой дзевай асталася.

Ой, як жа вячора даждаці?
Пойдуць людзі дзеўку сватаці,
Пойдуць людзі дзеўку сватаці,
А я пайду пад вокны слухаці,
А я пайду пад вокны слухаці,
Ды што будзе дзеўка казаці.
Дзеўка ходзіць ды ўсё пахаджае,
Белы ручкі да сэрца складае.
– Маці, маці, парадніца ў хаце.
Парадзь, маці, што свату казаці,
Парадзь, маці, што свату казаці.
Ці ісці замуж, ці з год пагуляці?
– Ой, раджу я табе, не параджу,
Яшчэ з год на цябе пагляджу,
Але ж, донька, галоўку ты маеш,
Сама бачыш, каго выбіраеш.

Прыехалі заручнікі
Без скрыпкі, без дудачкі.
Што яны іграць будуць?
Каго яны заручаць будуць?
Каго яны заручаць будуць?
Няма Кацярынкі дома,
Пагнала валы пасці,
Пагнала валы ў бары,
Пасучы – пагубляла,
Ішчучы – заблудзіла,
Прыблудзіла к сецi,
К свякраткавай клеці.
Тут мае бычкі равуць,
Тут мне дзевачкі пяюць,
Тут мне жыці, быці,
Галоўку палажыці.

***

– Іванко, наш брацейка,
Заварочвай да назад коні.
Тут жа нас да не злюбляно,
Проці нас да не выязджано.
– Сватачкі, мае сястрыцы,
Як жа мне да завярнуці?
Людзі скажуць, што я ўпіўся,
З дарожанькі збіўся.

**Вянок маладой**

Перад свадзьбай у суботу збіраліся нявесціны дружкі (дзявочы вечар, зборная субота). Яны пелі песні, вілі для маладых вяночкі з руты. Калі свадзьба была зімой, то руту гатовілі з лета.

Ужо на свадзьбе дружкі пільнавалі і сама нявеста асцерагалася, каб з вянка не адшчыкнуў хто-небудзь лісточка руты, бо ў такім разе яна не зберажэ сваіх дзетак.

Зборная субота настае,
Маладая Настачка вянкі ўе.
А ўе, уе вянкі і ўздыхае.
– Чаго, Настачка, цяжка ўздыхаеш?
На каго, Настачка, жаль маеш?
– А маю жаль я на ўсіх,
На радную мамку больш за ўсіх,
Што аддае замуж маладу,
Як белы камень у ваду.
Як белы камень утоне,

Тады мяне мамачка ўспомне.
Зборная суботачка настала,
Настачка ўсіх дзевачак сабрала.
А сабраўшы, за столік саджала,
А седзячы, работачку давала.
– Садзіцеся, мае дзевачкі, у радочак,
Звіце мне з руты-мяты вяночак.
Сабе звілі з руты-мяты, з ліліеі,
А мне, маладой, з калючага яленцу.
Яленец коле, галоўку клоне да зямлі.
– А пакланіся, Настачка, усёй радні,
А пакланіся татку з мамкай ніжэй,
Яны ў цябе за ўсю радзімачку даражэй.
А дай, мамка, іголку,
А дай, мамка, іголку
І нітачку шоўку.
Прыйшлі дзеўкі вянок віць,
Прыйшлі дзеўкі вянок віць,
Досыць мне дзеўкай хадзіць,
Прышпіляць сучочак,
Прышпіляць сучочак
Паследні разочак
Да буйнай галоўкі,
Да буйнай галоўкі,
Да гарачай слёзкі.

**Песні для нявесты-сіраты**

*Маладая Танечка ў квеце,*
Няма яе мамачкі на свеце.
Няма каму на пасад пасадзіць,
Няма каму радачкі парадзіць.
Брацейка на пасад пасадзіць,
Ойчанька радачку парадзіць.

А дзевачка маладая,
Рана ж ты да за стол села,
Рана ж ты да за стол села,
Ды цяжанька ўздыхнула,
Ды мамачку ўспамянула,
Што ў цябе мамачкі няма,
Што ў цябе родненькай няма.
Ёсць каму да піці і есці,
Няма каму да ладу весці.
Ёсць каму весяліцца,
Няма каму зажурыцца.

***

А хто ў лесе памалюсеньку гукае?
Там Настачка сваю мамачку шукае.
– Прыдзі, прыдзі, мая мамачка, дадому,
Выправі мяне, маладзюсеньку, да шлюбу.
– Не прыду я, маё дзіцятка, дадому,
Збудавалі мне хатачку, новы дом
Без акон, без дзвярушачак, без сонца,
Да не прамоўлю да цябе ні слоўца.

***

Сышло сонца ў яснае ваконца, ужо відно.
– Чаму, Галечка, твайго ойчанькі не відно?
Пайдзі, Галечка, па новых сенях пахадзі,
На белым ложы свайго ойчаньку пабудзі.
– Ой, нідзе, нідзе свайго ойчанькі не знайшла,
Ой, схадзіла новыя сені слядкамі,
Ой, зліла, зліла белу пасцель слязамі.
Пайшла Галечка з горкі на горку ў даліначку,
Знайшла Галечка свайго ойча магілачку.
– Устань, ойчанька, устань, родны, не ляжы,
Прыдзі ж ты мне параданьку памажы.
– Рад бы я, дачушка, устаць, параданьку даць,
Ды прыбіты ножкі да сасновай дошкі, не ўстану,
Засыпае вочкі жоўтым пясочкам, не ўзгляну.

**Вясельны каравай**

Каравай пякуць і ў маладой, і ў маладога.

Калі дзень хмурны, то, каб жыццё маладых не было цяжкае, рашчыну на каравай не пачынаюць, пакуль сонца хоць на хвіліну не выгляне з-за тучы.

Пяклі каравай так. Лепшая нявесціна дружка прыносіць тройчы ваду, тройчы сыпле муку ў замес, цеста замешваюць тры жанчыны, дзяжу накрываюць трыма кажухамі. Усё робяць тройчы, каб была тройка – мужык, жонка і дзеці.

Цеста на каравай нельга мясіць кулакамі, бо мужык будзе жонку біць.

Трэба старацца, каб каравай адразу атрымаўся, бо яшчэ раз пекці нельга.

Калі на спечаным караваі будзе трэшчына, то гэта дурная прыкмета: хто-небудзь памрэ.

Наверсе каравай упрыгожвалі цвяточкамі з цеста.

Стаяла бяроза сорак лет.
Сячыце ж бярозу пад загнет,
Кідайце бярозу ў жарку печ,

Штоб наш каравай ясен быў,
Штоб наш каравай красен быў.
Ясен каравай пышкамі,
Красен малады свашкамі.

***

Караваю, мой раю,
Караваю, мой раю,
Я каля цябе граю,
Я цябе прыбіраю.
Навакол сыр і масла,
Навакол сыр і масла,
Пасярод доля, шчасце.

На чыё гэта ніве
Жыта ў трубы павілося,
Жыта ў трубы павілося,
На каравай удалося?
На Петрухнавай ніве
Жыта ў трубы павілося,
Жыта ў трубы павілося,
На каравай удалося.
А ў чыё гэта хаце
Каравай у дзяжы іграе,
Каравай у дзяжы іграе,
Века ўверх падымае?
У Петрухнавай хаце
Каравай у дзяжы іграе,
Каравай у дзяжы іграе,
Века ўверх падымае.

Перад тым, як ехаць жаніцца, нявесту **садзілі на пасад.** Яе брат або проста хлопчык расплятаў ёй косы, расчэсваў, а тыя, што выпалі, кідаў у печ. Калі валасы ўпадуць у печ, то замуж другі раз яна не пойдзе. Як не даляцелі, то хутка яна памрэ, а калі паляцелі ўбок, то памрэ жаніх.

Потым брат вядзе нявесту да бацькоў, каб благаславілі яе. Бацькі даюць благаслаўленне, а хлопчык вядзе нявесту на пасад.

Ставіцца дзяжа, наверх кладзецца вывернуты кажух. На дзяжу садзіцца нявеста, калі яна яшчэ дзеўка, а калі не дзеўка і сядзе, то абразіць каравай і ёй у жыцці не будзе ні ў чым шчасця.

На працягу ўсяго абрада нявеста з дружкамі пяюць песні:

Лятуць, лятуць лебядзі чэраз сад,
Вядуць, вядуць Настачку на пасад.
Яна свайго пасадзіку не знае,

Яна ў сваёй мамачкі пытае.
– Скажы, мая мамачка, адкуль пасад?
– А не ад мяне, мая дачушка, ад Бога,
Прасі Бога, каб не ведала другога.

***

Брат сястру на пасад вядзе,
Сястра брату да слаўцо кладзе.
– Мой брацечка, мой родненькі,
А што ж ты мне на пасад дасі?
– Сто рублёў танюсенькіх,
Брычку маляваную
І сястрыцу гадавану.
Пастаньце, баяры, усе ў рад,
Будзе ісці Насцечка на пасад,
Чорную сцежачку топчучы,
Белыя ручкі ломячы.

***

Ой, ляцелі гусачкі чэраз сад,
Крыкнулі, гукнулі на ўвесь сад:
– Час табе, Марылька, на пасад!
– Што вам, гусачкі, да таго?
Ёсць у мяне мамачка для таго,
Яна мне і радачку парадзе,
Яна мяне на пасад пасадзе.
Пяройдзе сцежачку, я пайду,
Паставіць дзежачку, я сяду.

Пелі песні, калі малады едзе да нявесты і калі ўжо ў нявесты:

Кляновы лісток на падвор’ечку разаслаўся,
Малады малойчык у дарогу сабраўся.
Сеў за сталом, мёду з віном напіўся,
У дарожаньку спазніўся.
Пачувайцеся, вараныя коні, пад намі,
Будзем ехаць чатыры мілі барамі,
А пятую жалезнымі мастамі,
А шостую да цесця на двор сватамі,
Каб мы дзевачку на пасадзе засталі,
Каб з сабой да шлюбу забралі.

***

Лугам, берагам гусі лятуць,
Шырокай дарогай сваты едуць.

Выйдзі, Насцечка, пераймі сватоў,
Вазьмі коніка за абротку,
Вядзі коніка на стаянку,
А дай коніку аўса, пойла,
Вазьмі Ванечку за ручачку,
Вядзі Ванечку за столічак,
А дай Ванечку віна, мёду.

***

Ляцеў сакалок чэраз тры бары,
А ў чацвёртым бару сеў на дубу.
– Што табе, саколік, спадабалася,
А ці бор, ці явар, ці каліначка?
– І не бор, ні явар, ні каліначка,
Спадабалася мне шэра вутачка.
Ехаў малойчык чэраз тры сялы,
А ў чацвёртым стаў у цесця на двары.
– Што ж табе, хлопчык, спадабалася,
А ці мёд, ці піва, ці гарэлачка?
– І ні мёд, ні піва, ні гарэлачка,
Спадабалася мне мая дзевачка.

***

З гары, з гары, з даліны
Бегла конікі чатыры.
На коніках малады Іванка,
Прывязаў конікаў да бярозкі,
Адламіў ад бярозкі тры розкі,
Сцёбнуў конікаў пад ножкі.
– Бяжыце, конікі, шырока,
Яшчэ мая дзевачка далёка.
Бяжыце, конікі, вузенька,
Ужо ж мая дзевачка блізенька.
Бяжыце, конікі, ступою,
Ужо мая дзевачка са мною.
А ўжо пад акном,
Ужо мая дзевачка за сталом.

Як ужо малады выкупіць нявесту, то **збіраюцца ехаць у сельсавет** жаніцца. Каб з маладымі ў дарозе ўсё добра было, то яшчэ як яны выязджаюць з двара, то ў варотах кладуць салому, запальваюць яе і пераязджаюць праз той агонь. Маладая па дарозе адпускае тасёмкі ад спадніц, каб лёгка было раджаць.

Пасля рэгістрацыі маладыя ехалі ў хату маладой, дзе ладзілася гулянка. Матка сустракала маладых хлебам-соллю, гарэлкай. Маладыя частаваліся, уваходзілі ў хату і пачыналася гулянка. Усе пілі, елі, пелі, танцавалі.

Ой, ель, ель да зялёная,
Паднімай галлё ўгору,
Да прапускай у дарогу,
Бо дзевачка к вянцу едзе,
Яе доля сустракае,
Ды на возіку сядае.
Выбіраецца Насцечка да вянца,
Пытаецца ў роднай мамачкі грабянца:
– Падай, падай, мая мамачка, грабянец,
Расчасаці русу косачку пад вянец.
– Ой, не раз і не два каморачку перайшла,
Нідзе табе, маё дзіцятка, грабянца не знайшла.
Прыляцела шэра зязюля з ялаўца,
Прыехала наша Настачка з-пад вянца.
Стала ў яе мамачка пытацца:
– А ці ўмела, мая дачушка, вянчацца?
– Не пытайся, мая мамачка, у мяне,
А пытайся ў большай дружкі мае.
Яна ж бачыла, з кім я пярсцёнкі мяняла,
Яна ж бачыла, з кім я ручачкі звязала.
Расцвіла каліна ды на захад сонца,
Плакала дзяўчына, гледзячы ў аконца.
Добра табе, каліна, цвісці, расцвітаці,
Як жа мне нядобра з дому выязджаці.
– Добра табе, каліна, у лесе красавацца,
Як жа мне нядобра з мамкай расставацца.
Добра табе, каліна, ягадкі спяліці,
Як жа мне нядобра дзевяроў дарыці.
– А куды ж ты, наша Настачка, ад’язджаеш?
А пры кім ты сваю мамачку кідаеш?
Яна ж пойдзе, старэнькая, па ваду,
А прымерзнуць старыя ножкі да ляду.
А як стане старыя ножкі адрываць,
Яна ж будзе сваю дачушку ўспамінаць.
– Як у мяне мая дачушка бывала,
Я ж тады гэтай работкі не знала.

**Жартоўныя песні**
Сядзіць сваток на зэдлі,
Спусціў нос аж да зямлі.
Каб яшчэ трошкі прытачыў,

То па зямлі б валачыў.
Казалі, наш сват харош,
Аж у яго доўгі нос.
Каб насыпаў канапель,
Кляваў бы, як варабей.

Не сядзі, сватка, ля сцяны,
Нашы дзеўкі жартаўлівыя
У сцяне дзіркі круцілі,
У тваёй кішэні, сватка,
Піражок дастаць наравілі.
Пад прыпечкам мышка піснула,
Сваццця пірог сціснула.

Паджанішнік высок,
Як у чорта насок,
А зубы рэдкі,
Як у чорта клеткі,
А язык у роце,
Як чорт у балоце.

Наш дружка бялявы
Наліў капусты ў халявы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Стаў капусту разліваць.

**Велічальныя песні**
Дзе мы былі, да дзе бывалі,
Такога дзіва не відалі.
Як у нашага свата
Тут святліца, не хата.
Печ яго кафляная,
Чэсць яго каханая.
Дзверы яго пахадзячыя,
Хазяюшкі пабягачыя.

Казалі нам людзі,
Хоць едзьце, не едзьце,
Ваш сват не багат.
А ў нашага свата
Да з явару хата,
Сеначкі з паперачкі,
Лавачкі з кітаечкі,
Столікі цясовыя,
Абрусы шаўковыя,

Кубкі залатыя,
Віном налітыя.

Наша сваццял маладая,
На ёй сукенка дарагая.
Не тут яна набірана,
Не тут яна вышывана.
Набіралі на Івенцы,
Вышывалі краўцы-немцы.

Прыгожая дружачка,
Цябе хлопцы спадабалі,
Па садочку праважалі,
Пад калодай агонь клалі,
Кашку з маслам варылі,
Нашу дружачку карміліі.

Другі шафер харошы,
Другі шафер сонца мае.
У яго сонца на галоўцы,
Ясен месяц на грудзях,
Залатыя звёзды на рукавах.

Наша маладая, як ластаўка,
А ваш малады, як засланка.
Наша маладая, як сыр белы,
А ваш малады, як пень гарэлы.

Стараніцеся, людзі,
Едзе наша багатырачка.
Сем воз дабра вязе,
А на восьмым ды сама едзе,
За сабою ды тавару гоне.
Тавару ды рагатага
Ад татачкі багатага.

А наш малады харошы,
Ён багаты на грошы.
У яго кожнай кішэнцы
Ляжаць грошы-чырвонцы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Сталі грошы бразгатаць.

**Жалобныя песні**

Аддай мяне, маці,

Дзе хораша ў хаце,
Дзе залвіцы, як сястрыцы,
А свякроў, як маці,
А дзевары маладыя
Любяць жартаваці.
Адзін кіўне, другі міргне,
Трэці зажартуе,
А мой мілы, чарнабровы,
Усё гэты чуе.
Да на маё бела цела
Нагайку гатуе.
Нагаечка драцяная
Высока лятае,
Кашулечка палатняна
У цела ўліпае,
А фартучок каля боку
Ад слёз не ўсыхае.

***

Баравое сонейка
Па залесейку ходзе,
Хмаркаю апусціўшыся,
Дождэыкам абліўшыся.
Маладая Марылька
Кругом століка ходзе,
Коскамі апусціўшыся,
Слёзкамі абліўшыся.

***

Сядзела Ганначка за сталом,
Пацяклі слёзанькі ручаём.
Сядзела Ганначка вышэй усіх,
Пацяклі слёзанькі драбней усіх.
Да яе мамачка хаджала,
Да яе слёзанькі ўнімала.

***

Ты зара, мая заранчка,
Чаго рана спатухаці стала?
Ой, дзяўчына, ты, дзяўчыначка,
Чаго рана сумаваці стала?
– Засталіся мае гулі недагуляныя,
Засталіся мае ігры недаіграныя,
Засталіся мае песні недаспяваныя.

Як аддаеш на каравай падаркі, то абсыпалі маладых зернам: хто пшаніцай, хто аўсом, а хто і гарохам, каб маладыя багата жылі і каб быў добры ўраджай.

Каб зберагчы маладую ад чараў пры выездзе да шлюбу, абвязвалі яе зялёнай ніткаю, а на нітку тую прывязвалі анучку з крошкай хлеба, драбком солі і часначынкай.

Яшчэ, каб не сурочылі, маладая, як выходзіла ў людзі, насіла каля голых грудзей пялёнку ад байстручка.

**Дзяльба каравая**

Пачці ў канцы гулянкі пачыналі дзяліць каравай. Браліся за гэта хросныя бацькі маладых. Вярхушку яны адразалі маладым, а потым адразалі кожнаму па кусочку, налівалі чарку і падносілі кожнаму госцю. А госці дарылі маладым за каравай падаркі або грошы.

Калі на дзяльбе каравая не хапала, то гэта быў знак бяды для маладых. Таму стараліся дзяліць так, каб хапіла ўсім.

Казала Агатка, што радні многа,
Казала Агатка, што радні многа.
Як прыйшлося дарыць – няма нікога,
Як прыйшлося дарыць – няма нічога.
Дзе твая радзінка падзявалася?
Дзе твая радзінка падзявалася?
Па цёмных куточках пахавалася,
Па цёмных куточках пахавалася.

***

Не гніся, татачка, не гніся,
Кладзі не талер, а чырванца,
А не чырванца, а тысянца.
Не гніся, мамачка, не гніся,
Кладзі талера на місе.
А не талера, а чырванца,
А не чырванца, а тысянца.

***

Сваце, сваце, дай пірага,
Вазьму вала за рага,
Сівую кабылку за грыўку,
А свата за чупрынку.

Заканчвалася вяселле пярэзвамі. Усе госці ехалі ў госці да каго-небудзь у другую хату.

***Запісана ў в. Аравічы***
***ад Васіленка Ганны Лявонаўны, 1919 г.н.,***

***студэнткай Шаўцовай А.***

Як хлопец з дзеўкай дружаць і хочуць жаніцца, то ён прыходзіць дадому і кажа: “Папа, я хачу жаніцца”. Бацька тады збірае сватоў. Ідуць кросны бацька, матка маладога, сам хлопец. Бяруць з сабою хлеб-соль, гарэлку. Прыходзяць і бацька кажа: “Мы прышлі купіць у вас цёлку”. А бацька дзяўчыны кажа: “Ну, пабачым, калі панравіцца. А калі не панравіцца, так далей пашукаеце. А калі панравіцца, так пакупайце”. Ну тады ўжо так пагаварылі, заходзяць у хату, і калі дзеўка гэты хлеб, што прыняслі, разрэзала, то, значыць, яна сагласна. Тады ўжо на стол накрываюць, за стол сватоў садзяць, а яны ўжо на стол кажуць: “Значыць, купілі мы цялушку”. А тады ўжо змовіны адразу. Дзеўка бяжыць па сваіх хросных, заве родных. Тут на змовінах ужо дагаварываюцца, калі будзе свадзьба. Прыходзіць врэмя, і маладая заве падружак, яны яе прыбяраюць, песні пяюць красівыя. Малады прыязджае па маладую, і яны едуць на роспісь. Яны распісаліся, і ён вязе яе дадому з роспісі, а сам едзе да сябе. Там госці сабіраюцца, пасядзяць ужо трошкі ў яго і едуць к маладой. А там ужо робяць так, што няма яе: і замкі схаваюць, і ў кладовую яе. “Найдзі, – кажуць, – няма яе, дзе ты яе дзеў?” Выкуп здзяруць яшчэ. Ён папаходзіць, пашукае ды пойдзе і сядзе адзін на кут, тады ўжо падводзяць яму бабу якую, прыбраную ў нявесту і кажуць: “Твая”. Могуць чалавек пяць падвесці, і тады ён ужо ўгадвае. Як узнае сваю, брат маладой бярэ за руку яе платочкам і вядзе за стол. Як прывядзе, кажа: “Дай мне грошы за то, что прывёў маладую”. Потым ужо садзіць іх разам і стукае лбамі. І начынаецца свадзьба ўжэ.

Ужо вечарам малады прывязе маладую дадому, і на другі дзень завіваюць маладую. Дружкі здымаюць з яе вянок. Кажуць, каб матка дала масла і грабушка. Матка, свякруха тады ўжо нясе на талерачцы расчоску ілі грабушка, масла трошачкі паложыць, каб грабушок памачыць. Знімуць ужо фату, паложаць яе за образы, а тады ўжо прычэшуць і робяць з дзеўкі маладзіцу – адзяваюць платок. Зробяць гэта, і трэба ўжо іці, а дружкі бяруць рамні і б’юць імі дзяўчат, а яны ўцякаюць.

Каравай дзелалі перад свадзьбай парныя бабы. Калі ўжо гулялі ў маладой і не вядуць яшчэ яе да маладога, то яе родныя дзеляць каравай. Каравай падзялілі, сабралі ўжо тое прыданае маладой, а тады ўжо прыязджаюць да маладога. Там дзеляць каравай тады, калі ўжо заўюць маладую, пагуляюць, вып’юць. Тады ўжо сталы нагатовяць, просяць: “Людзі, вы не расходзьцесь, будзем каравай маладога дзяліць”. Абычна, калі дзеляць каравай, маладыя стаяць і благадараць за падаркі. Каравай дзеляць хросныя: хросны маладой і маладога. Іх перавязваюць, ставяць талерку, на яе дзве чаркі. Першымі падыходзяць бацькі маладога ці маладой (залежыць ад таго, у каго гуляюць), кажуць: “Добры вечар, дзеткі! Мы вам, дзетачкі, даруем шчасце і долю, і хлеба ўволю, і век доўгі, штоб добра жылі і нас не забывалі, штоб ласкавымі былі”. Потым бяруць чаркі, не вып’юць, так прыгубяць, а маладыя ўжо кажуць: “Спасіба”. Сваты кажуць: “У нашага маладога (маладой) е хросныя бацька і матка, штоб ласкавы былі і к нам на каравай

прыбылі”. Яны ўжо падходзяць і тожа што дараць. Потым сваты завуць бабу з дзедам, цётак і дзядзяк і ўсіх астатніх.

А еслі разам гуляюць свадзьбу, то ўсё роўна пякуць два караваі. Выходзяць два хлопчыкі, нежанатыя, падростачкі, яны нясуць каравай на галаве на падносе, ставяць ужо той каравай, і ім даюць гасцінца на дарогу. А сваты ўжо кажуць: “Ацец і маць, благаславіце каравай (падаць) начаць”. “Бог благаслівіць”. І так тры разы. А патом дзеляць каравай. Маладыя сядзелі на куту на свадзьбе на кажуху, бо ім трэба размнажацца.

На другі дзень зяць прыязджае па цёшчу. А цёшча далжна яешню нажарыць з дзесяці яец. Потым едуць да яго і зноў гуляюць. На трэці дзень бабы ўсе прыбіраюцца ў цыганак і ходзяць па радне, дзе куру схопяць, дзе яйкі. Кажуць: “Ой, дай я табе пагадаю”. Папрыходзяць, пакруцяць тыя куры, навараць з крупнай картопляй булён і зноў гуляюць. Гэта называлася хадзіць у цыганы.

***Запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Краўчанка Ксеніі Паўлаўны, 1936 г.н.***
***(нарадзілася на Украіне),***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Перш за ўсё ў дом да нявесты прыязджалі сваты з гарэлкай і дамаўляліся з бацькамі нявесты аб шлюбе.

Увайшоўшы ў дом, сваты і хлопец кажуць гаспадарам “Вечар добры” і падаюць рукі. Затым сват дастае з-пад пахі хлеб, расцілае на стале хустку, ставіць бутэльку гарэлкі, кладзе хлеб, кажа: “Я сват прысланы, каб стол быў засланы!” І еслі бацькі дзяўчыны згодны на гэты шлюб, то яны запрашалі сватоў да стала і ўгашчалі іх. А калі бацькі былі не згодны, то адразу адмаўлялі сватам, і таму яны доўга не засіджваліся ў хаце.

Вяселле заўжды было ў суботу. Вянок маладой быў такі: высокі, полукругі, украшаны кветкамі, завязывалі ленты. Калі гэта было гатова, тады прыдзелывалі фату. Гэта была фата із марлі. Калі дзяўчаты-сяброўкі рабілі вянок, то яны спявалі:

Ці не жаль табе, дзевачка,
На дзявоцкае пагулянне,
На дзявоцкае на гулянне,
На дзявоцкае жартаванне?
Дзевачкі пойдуць на вуліцу гуляць,
А ты, малодзенька, у клеткі спаць.
Дзевачкі пойдуць па ягадкі,
А ты, маладзенька, да работкі.
Дзевачкі будут вянкі віць,
А ты, маладзенька, пялёнкі мыць.
Дзевачкі будуць гулі-гулі,
А ты, маладзенька, люлі-люлі.

Калі дзяўчына–сірата, спявалі шчэ:

Ды хто, ды хто цёмнай ноччу не даспаў,
Да магілачкі чорную сцежку пратаптаў?
Маладая (імя) цёмнай ночкай шла,
Да магілы чорную сцежку таптала.
Да магілы чорную сцежку таптала,
Сваю мамачку на вяселле прасіла:
– Устань, устань, мая мамачка, да мяне,
Хаце скажы хоць адно слаўцо для мяне.
– Я не ўстану, маё дзіцятка, да цябе,
Бо маю я вялікі жаль да цябе,
Што напрасіла такіх важных сталяроў,
Што збудавалі мне хатачку без вакон,
Што не высеклі ніводнага аконца,
Што не свеціць ні месячык, ні сонца,
Што не асвеціць дарожачку да цябе.

На вяселле пяклі каравай. Прыходзіла хросная матка, прыносіла з сабой дзяжу і гаварыла: “На шчаслівую долю”. Пасля чаго расчыняла каравай. Дзяжу ставілі на печ, каб падышло цеста. Потым жанкі, якія былі ў пары, мясілі каравай і спявалі:

А дзе тут есць,
А дзе тут есць
Ганачкі маладой мама,
Ганачкі маладой мама?
Ды няхай прыходзіць, ды няхай стане
К гэтаму караваю,
К гэтаму караваю.
Ды няхай прося, ды няхай моля
Свайму дзіцяці долю,
Свайму дзіцяці долю.
І хлебавую, і салявую,
Дай, Божа, усялякую.

Каравай упрыгожывалі па-рознаму. У адных – поверху адны шышачкі, а другія – гусі, ружы, а на сярэдзіне – нявеста і жаніх. Як дзялілі каравай, гэтыя гусі і ружы давалі дзяцям, а “нявесту і жаніха” давалі маладым.

На пасад вядзе маладую малодшы брат або сястра. Брат уваходзіць у хату, дзе сядзяць дружкі з маладою, бярэ маладую за руку і вядзе на пасад. Дзяўчаты пяюць:

Брат сястру на пасад вядзець,
Шоўкам зямельку мяцець,

Сытой палiваець,
З сястрой размаўляець:
– Сястрыца родная,
Ды не будзь гордая,
Ды не жалей галоўкі, ды кланяйся
Матцы ў ножкі, няхай мамка знаець,
Аб долю ўгадаець.
– Знаю, дзіцятка, знаю,
Ды аб долю не ўгадаю.
Дасць бог долю, дасць добрую,
Хвала табе, Божа!
А калі якую праклятую,
Ах, моцны мой Божа!..

Брат стаіць на парозе, гаворыць: "Ёсць тут Бог, матка, бацька, хрышчоныя (і г.д.)! Благаславіце маладую на пасад пасадзіць". Усе гавораць яму ў атвет: "Бог благаславіць". Гэта просьба гаварыцца 3 разы. Потым маладая нізка кланяецца і просіць яе благаславіць.

Маладая садзіцца, і ждуць сватоў. Тут уваходзяць сваты і хочуць забраць нявесту. Але дзяўчаты трэбываюць выкуп за "залатую" маладую.

Калі жаніх едзе да нявесты, то пяюць песні. Калі пад'язджалі да двара, тожа спявалі:

На небе зорачка світае,
Іванька коніка сядлае.
У яго мамухна пытае:
– На што коніка сядлаеш,
Куды ты, сыночак, паедзеш?
– Паеду, мамачка, паеду
У тую дарогу частую,
Па тую дзяўчыну красную.

Ой, ехалі барамі,
Цёмнымі лясамі,
Пілі ваду з крынічанькі.
– Стой, пастой, мой канічэнька.
Не мая дружыначка,
Не мая вярненькая.
Прыехаў Андрэйка к варатам,
Яго конічак пад золатам.
Павінае пяро на каню лягло,
Па яго галовачкі, па раненай збруячкі.

Калі маладыя ішлі да вянца, то іх благаслаўлялі родныя. Яны бралі хлеб, соль і ішлі. Па дарозе спявалі песні. Калі ўжо ішлі назад, то ім ужо

можна было перапыняць дарогу. Тыя, хто сустракаў, ставілі на дарогу стул, лажылі маленькі платок, а на платок лажылі хлеб-соль. Яны паздраўлялі маладых, а за гэта ім налівалі па чаркі гарэлкі.

У час вясельнага застолля многа спявалі песняў. Гэтыя песні былі прысвечаны і нявесце, і жаніху і г.д.

Ой вы, сваты, ой вы, галубочкі,
Просім вас.
Не смуціцеся, весяліцеся,
Ваша ў нас.
А ёсць жа ў нас бачачка піва –
Усё для вас.
Піва не стане, мёду дастанем –
Усё для вас.

Дзялілі каравай хросны бацька і два сваты. Хросны бацька браў нож і гаварыў: "Маці і бацька, благаславіце каравай дзяліць". А ім гаварылі: "Бог благаславі". І гэтак 3 разы.

Потым падыходзілі да маладых, паздраўлялі, дарылі падаркі. За гэта гасцям давалі па чаркі і крапку каравая. На 3-ці дзень гулялі "цыгане зайца". Госці перадзяваліся ў цыган, на заборы рабілі чучала і вешалі (зайца). Цыгане ішлі ў дом маладой па яе маці. Па дарозе яны (цыгане) угашчалі ўсіх, хто сядзеў на лаўцы. А дзеці ад цыган уцякалі, бо іх цыгане мазалі сажаю. А калі вялі нявесціну матку, то спявалі самыя розныя песні:

Наехала гасцей
Поўны двор (2 разы).
Выбірай, (імя),
Каторы твой (2 разы).
– Да што ў сінім,
На каню сівым,
То сват мой.
А што ў атласе,
У жоўтым паясе,
То дзевер мой.
Пышна ўбраны,
А конь буланы,
То свёкар мой.
Конь вараненькі,
Сам маладзенькі,
То мілы мой.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Ганна Н.: Гэта быў пяцьдзесят восьмы год. Я ішла замуж.

Аляксандр А.: Пазнакоміліся мы са сваёю Аннаю Нікалаеўнаю, а праз год, у пяцьдзесят восьмым ета, на Стары Новы год – у сваты. Тры сваты було – брат Міша, Віктар і я. Калі прыехалі мы на кані да маладой, бачым: сустракае цётка мая на пароге, Бяспалая Еўдакія Пятроўна (пакойная цяпер ужо, памерла ў 1974 г.). З сабой мы ўзялі пірог хлеба, літру гарэлкі і сладасцей трохі. Вот прыйшлі мы ў суботу к маладой. Зайшлі ў хату. Маладая сядзела, як цяпер помню, на пячы. У хаце стаім на парозе, а хазяін, бацька яе, спрашуе ў нас:

– А чаго ж вы прыйшлі сюды, хлопцы нашы дарагія?

А мы адказуем, што прыйшлі забраць галубку вашу:

– Дык дзе ж яна?

– А-а-а, ну дык вы, наверна, не сюды папалі.

Первы сват ставіць бутэльку на стол з самагонам, булку хлеба ложыць у палаценцы завёрнутым, ну і пачалі таргавацца. Вот сват гаворыць:

– У вас, навернае, ёсць харошая дзяўчына? А у нас вот ёсць моладзец красівы. Можа б вы аддалі нам вашу “галубку” за гэтага “маладца-ўдальца”?

А ацец гаворыць:

– Пасмотрым яшчэ на моладца, што ён з сябе прадстаўляе. Калі вып’еце са мною па чарке гарэлкі, значыць, будзе разгавор.

За выкуп нявесты малодшаму свату даюць дзеньгі ад жаніха “і з маладога рукі даюць грошы за маладую”. Тады свату налівалі, кідалі медзякі ў чарку, а ён доўжан быў выпіць усё. Гэта значыла, што яны купілі маладую ў харошых людзей.

А.А.: Я даў абяцанне яе бацьку, што буду абараняць дзяўчыну, як сокал ясны, берагчы, як апошні кусок хлеба. Бацька даў згоду:

– Ну, давай! – гаворыць сват на гаспадара маладой. – Дзе ваша красавіца?

– Вот, - гаворыць, - матка, ідзі, выводзь дочку нашу.

Матка заве дачку. Яе вывелі дзве дружкі. Выходзіць Анюта, прыбраная, красівая, как паложэно, золата! Глаза паблісквваюць, шчочкі румянцам гараць, жар’ю пыхцяць. Ох, маладзец!

Ну, тут гаспадар хаты, стоя, прыгатаўлюе. Яму памагаюць жонка і дачка. На стале, канешні, не було тады, як цяпер: жылі бедна, пасляваенны час. Што вырошчвалі, то і елі. Ну, галоўнае, була капуста квашаная, гуркі, хлеб, бульба і гарэлка, свежыны трохі. Яны знали, што мы збіраліся да іх прыйці, і таму яшчэ раней прыгатавалі. За сталом тосты гаварылі: “Штоб жылі доўга і дзяцей було многа!”, “Жадаем мужа Сашку і дзяцей у размашку”. Пасля стала, пасля выпіўкі былі ў нас харошыя танцы. Пазвалі мы гарманіста, паказацельны быў хлопец. Ён і шчас жыве, дай Бог яму шчасця, здароўя. Жыве ён на замосці, недалёка тут. Валодзя Шылёў завуць. Он нам “Барыню” граў:

Барыня, барыня,
Сударыня-баба…

І пашло, і пашло, і паехала. Яшчэ помню:

Ай, ясна-красна каліна ў лузе, каліна ў лузе,
А ясней-красней Ганначка ў таткі.
Па дварэ хадзіла – увесь двор красіла,
У сені ўвайшла – усе ўсталі,
Шапкі паздымалі.

Г.Н.: З маладою рукі давалі падаркі. Сватам давалі рушнікі, а свякрові давалі на плацце на тое, каб платок завязаць. Свадзьба была цераз месяц. Брала я шэсць дружак. Гэта былі Харошкавы, Іванюценка Вольга, Марыя Цімафееўна і другія. Сабіраліся і гулялі вячоркі. І к нам хлопцы потым, канешне, прыходзілі. Гэта цяпер у маладых “дзявішнікамі” завуць. І танцы былі, і ўсё было. Гатоўку памагалі Камаравы рыхтаваць. З гэтай сям’ёй я з дзецтва дружу, раслі разам. Зараз яны вельмі адукаваныя, журналісты, малайцы. Ага, пра што ета я? Тады ўжо прызначалі дзень свадзьбы гуляць.

Каравай на першы дзень гуляння:

Г.Н.: Каравай трэба каб пекла старэйшая жанчына – гэта была мая мама, Бяспалая Ева Пятроўна, а там мо суседка памагала. Учынялі яны, размешвалі ды пелі песні. Верылі, што добры настрой паможыць і павліяе на каравай. Калі яго рабілі, то выганялі мужчын з хаты, цеста ўчынялі ў дзежцы дзервяной. Мяне не падпускалі да такой работы. На стол сцягно пеклі ў печы, жарылі м’яса ў чыгунах, варылі халоднае, гуркі былі. А наконт каравая: хто дзелае яго, замешвае, тот і садзе ў печ і выймае тожа, а потым мая мамаша ставіла яго ў кут. Наверх потым проста дзелалі із цеста такія ўкрашэнні нападобе цвятоў, хлебныя цвяты ўкрашалі гэты каравай. На етыя цвяты налажывалі вішанькі, ягадкі і другія ягады, каб смачней і красівей каравай быў. І выглядаў каравай на дзіва, самы лепшы. Розы палучаліся на ім алыя. Разукрашаны каравай стаяў на левым углу на ўсходу сонца. Перад свадзьбай мы даўжны, як кажуць, прачысціцца чыстай вадой. Цэрква далёка ад нас, но ў дзярэўні быў свой святы бацька. Ён чытаў малітвы, ета загаворваў чыстую ваду з калодцу і абліваў нас уранні на галодны жалудак. Вада адчышчала ад цёмнага і нядобрага.

А. А.: Першы дзень дзялілі каравай у нявесты, а на другі – у жаніха. З майго боку пеклі каравай мая мама і старэйшы брат, Міша Сачанка. Ага, гэта тыя, вядомыя ўсім Сачанкі. Яны былі на маёй свадзьбе. Ну а старэйшы брат, у смысле, старэй за мяне (на жаль, яго зараз няма ў жывых ужо як два гады). Наш каравай дзяліў старшы брат – сват.

Г.Н.: Ну і гулялі свадзьбу тры дні. Мусіць, две хаты поўныя булі. Сталоў восем накрылі. Калі выносілі каравай, то прыгаворвалі:

Каравай, каравай,

Каго хочаш, выбірай,
Каго любіш, выбірай!

А калі разразалі, то казалі:
Ацец і маці, благаславіце каравай,
На стол падайце,
З первым разам…
Другім разам…
Трэцім разам!

І пачыналі дзяліць. Пілі і елі з аднаго посуду, патаму што мы крэпка любілі адзін аднаго і гэта значыла, што мы згодны дзяліць жыццё ўсё на дваіх. Усё. Многа жалалі за сталом: “Дарую курку квактуху, штоб любіла свякруху!”, “А я сваім маладым жылаю шчасце-долю і век доўгі, і мяшок грэчкі, штоб маладая маладому насіла яечкі” (Першы сват), “Сколькі ў лесе пянькоў, штоб у маладых було столькі сынкоў!”, “Дарую каробку гліны, штоб пазвалі на хрысціны!”, “Дарую шчасце і любоў і каробку буракоў, штоб не любіла чужых мужыкоў!”

А.А: А калі ўжо гаварыць, дык скажу: хоць тады і бедна жылі, ета пяцьдзесят гадоў назад, у нас свадзьбу дагулівалі яшчэ пяць дзён, шчас такога нету.

Г.Н.: А рашчэсвалі і памагалі прыбіраць мяне мае дружкі. Вяночак, помню, быў такі бедненькі, самаробны з палявых цвятоў. На пасад маладога і к свадзьбе вёў малодшы брат нявесты. У тое ўрэмя, калі мы жаніліся, мы проста пайшлі ў сельскі савет і распісаліся. Падаркі на свадзьбу лажылі на стол. Быў такі смешны случай.

А.Н.: Прыбралі мне недзе старушку шчарбатую ў плаце прыгожае. Кажацца, гадоў семдзесят було ёй. Мне казалі, што гэта нявеста Анюта. Але я адмаўляўся і казаў, каб вялі маю маладую дзяўчыну. Яе прывялі з другой комнаты, мы ўзяліся за рукі і пайшлі ў танцы. Гулялі, прыгалі, танцавалі, пелі, плакалі, смяяліся і пад вечар пайшлі ўжо спаць з маладой. Выспаліcь. На другі дзень дружкі здымаюць вянок з маладой і завязваюць платок. За яго нявеста павінна была плаціць. Анюта аддала тры рублі. І мы зноў гулялі, толькі ў доме жаніха. Дзярэўня ўся падскакула. На трэці дзень гулялі па інцярэснаму абычаю. Ніхто так не гуляе, як вёска Вялікі Бор:

Трэці дзень гуляюць,
На кур ззываюць.

Ідуць у цыгане. Усе пераадзяваліся ў цыганскую адзежу: плацці, хусткі шырокія, бусы, цыганскія рубахі. Бралі ружжо і хадзілі па хатам тых, хто быў на свадзьбе. У адным доме давалі гарэлку, другія – м’яса, трэція – гуся, кура. Мы на тое і бралі ружжо, каб застрэліць куру. Ну, хто на які падарак згодзен. Гэта було ўжо ў панядзелак. Усё неслі да хаты маладой. Пачыналася прыгатаўленне. Кожны штосьці рабіў на кухні. Хто абчышчваў курэй, хто

раздзяляў м’яса, хто жарыў. Усі былі заняты дзелам. У сем вечара ўсе павінны булі сабрацца за сталом. І зноў пілі, елі і плясалі.

А.Н.: На чацверты дзень працягвалі гуляць. Калі заходзіла сонца, нам вытаплівалі печку ў бані. Давалі толькі адно палаценца. На 4 дзень нам ужо можна було псраадзець другую адзежу. І пасля пачыналася ўжо сямейнае жыццё. Сталі займацца цяжкай працай, пачалося змаганне за хлеб.

У нас добрыя дзеткі атрымаліся. Старэйшы – Аляксандр, потым дачка Ніна і сынок малодшы Азан. Цяпер і ўнукі ёсць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н.,***
***Навуменкі Аляксандра Аляксандравіча, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.)***

Свадзьбы не гулялі ў поста, у Піліпаўку ваўкі жэняцца. Гулялі ў мясаедства. Змовіны былі первыя. Раньше, напрымер, матка дзеўкі не знала, што ідуць у сваты. Булі негатовыя. Тады неслі, што ў каго е. Сваты неслі тры бутылкі гарэлкі і буханку хлеба. Ішлі інагда ноччу, каб людзі не бачылі адказу. Хадзілі сватаць жаніх, сваты ў парах. У асноўным саглашаліся.

Да вяселля готовіліся хутка, надоўга не адлажывалі, гатовілі маладую дружкі. Дружак была няпарная калічаства. Первая дружка купляла ўсім кветачкі і вянок маладой. Вянок буў з цвяточкаў, і прышывалі марлю, крухмалілі. Калі маладой часалі косы, то спявалі:

Звіняць, звіняць званочкі блізенька,
Сядай, сядай, дзеванька, нізенька.
А хто ж табе косаньку рашчэша?
А хто ж табе сэрцэйка пацеша?
Ой, рашчэшуць косаньку дзеванькі,
А пацеша сэрцэйка міленькі.
Матуля галаваньку прыбярэ,
Бо ўжо стаяць конейкі на дварэ.
Ой, не асыпайся, вішнёвы сад.
Час табе, Ганулечка, на пасад.

Для сіраты пелі другія песні. Каравай пеклі замужнія жэншчыны, пелі весела песні. Першы дзень вяселля быў у маладой. Тады дзялілі першы каравай да 12 часоў. Дзялілі сваты.

Сват: “Отец і мaць, дазвольце каравай падаць?”

Радзіцелі: “Бог благаславіць” (3 разы).

Верх каравая давалі маладым – самы смак. Ставілі тры чаркі. Спачатку – бацькам, тады – хросныя, а затым астальной радне давалі каравай.

Сват: “У нашай маладой іе бацька і маці. Просім хлеб і соль прыняць, маладым чэсць аддаць”.

Тады выпівалі за каравай і елі. На другі дзень вяселля каравай дзялілі ў маладога. Маладой знімалі вянок, завівалі яе, мазалі маслам галаву і завязвалі

хустку. Свякруха даўжна даць маладой хустку. Тады на міску ставілі тры чаркі і трэбавалі выкуп за вянок у сватоў. Яны даўжны былі кідаць на чаркі медзь. Бабы пелі:

Падай, мамка, масла (2 разы),
Ці ж я тваіх каровак не пасла
Ад росы да росы, ад росы да росы,
Памазаці косы.

Калі ў свата няма грошай, спявалі:

Наш сват напіўся (2 разы),
Пра грошы забыўся.
Пастаў коніка ў вады
Ды сам па грошыкі пабяжы.

Знімалі вянок і вешалі на ікону, а затым пелі:

Усё, што мы хацелі,
Тое мы зрабілі.
З цеста – паляніцу,
З дзеўкі – маладзіцу.

Як знімаюць у нявесты вянок, сваты зразу выганяюць дружак. Выпіваюць. На втары дзень всегда кідаюць медзь, каб дзеці былі як мядзведзі. Грошы лажылі маладой за пазуху. Малады абуваў цёшчу і танцаваў з ей. Маладая давала ўсім падаркі, дажа траюрадным.

На трэці дзень булі “куры”. Перадзяваліся і на каню ездзілі к тым, хто буў на вяселлі, збіралі курэй. Тады ў маладой етых кур варылі і прадаўжалі гулянне. На “курах” выбіралі камічных жаніха і нявесту.

Пасля “курэй” маладой давалі скрыню з прыданым, падушкі, пярыну, коўдру, і яна жыла ў маладога, а чэраз нядзелю ішла абязацельна ў госці да маткі.

Колісь булі “перазовы”, у нас казалі “пярэзвы”. Калі я була на вяселлі, то даўжна була перазваць маладых, матку, бацьку ў госці.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М.А., Харошка Н.В.***

Як раней було. Сваталі бацькі. Кажуць: “Пойдзеш”. І ідзеш. Мой бацька быў ня з бедных. І будучы мой также ня з бедных. Вось, сказалі: «Пойдзеш». Бацька яго сказаў майму, што ў суботу на Пакроў будуць сваты, бо там Піліпаўка – няможно. Ну й сталі чакаць: свінча закалолі, у лесе гарэлкі нагналі. У суботу прыходзіць ён з бацькам, з сваты. Сваталі, бралі з бліжняй рукі. Заходзячы ў хату, пыталі:

– Кажуць, у вас цялічка ёсць?

Бацькі кажуць:
– Ёсць.
– А ў нас бычок ладненькі. Ці не пагадзіць нам іх?
Бацькі кажуць:
– Праходзьце, праходзьце. Сядзьмо за стол і пагамонім.
Яны са сваім хлебам, соллю, бутэлькай.
Ну так ужо і садзяць маладых разам, і сваты – у рад. Сватам маці хросна павязвае ручнікі. Тут жа пяюць песні:

Каб я ведала, маладзенька,
Сваю горкую долю-у-у-у,
Як ж бы паслала сваего тацечку-у-у-у
У даліну на красну арабіну-у-у-у.
Каб я ведала, маладзенька,
Сваю доленьку, сваю гораньку,
Вецер павееў, арабінка сазрэла,
Замуж захацела.

Спяваюць старэйшыя. Пачынаюць частавацца ды нахвальваюць яду: "Паспрабуйце, Парасачка прыгатовіла". З яе рукі хваляць дзеўку, а сваты, наадварот, его хваляць ды могуць насмяяцца з маладой. Кажуць: "Чулі, што ваша маладая спіць доўга ды рана лажыцца, свіней ды качак баіцца".
Увесь вечар стаіць гамонка, п'юць гарэлку, ядзяць усё, бабы пяюць:

А у нас сёння сваты,
Бог нам даў.
Гатавалі сталы ды на ўсе лады.
А наша Парасачка
Ды замуж просіцца-а-а-а.
А дзе ж ты, дзевачка, голаў прытуліш?
Да не ў сваёй мацейкі-і-і-і,
А ў свайго мужанька-а-а-а.

Падабала плакаць. Хрышчона маці ўстае з-за стала, бярэ дзеўчыну за руку, абводзіць стол, і пачынаюць раздаваць падарункі (каму – ручнік, хусцінку).
Што було ў той час... Пасаг гатавалі загадзя. У гэты дзень назначаўся дзень свадзьбы. Стараліся пасля Піліпаўкі, бо ў яе толькі ваўкі ажаняюцца. Пасля Ражаства було й вяселле. На вяселле рыхтаваліся толькі багацейшыя, а бедныя так сыходзіліся, абы сваты. На маё вяселле бацькі з братамі нагналі гарэлкі, мяса забілі і пачалі ладзіць сталы. Маладу адзявалі так: на галаву вянок, спадніца була даматкана, хвартух, ну й сарочка з вышыўкай. Прыязджалі на пудводах. Перш маладую выкуплялі. Сыпалі жыта гарнец, грошай тады не було. Якія капейкі, дый годзе. Дзеўкі казалі, не дасіце выкуп,

то й нявесту не дамо. Пасылалі замест нявесты другу дзеўку, а то лепей й мужыка, апраналі ў жаноча.

Калі нявесту выкупляць, маці выводзіць да маладога. Нявеста плача і кланяецца ў пояс бацькам, а яны кажуць: “Бог цябе благаславіць на доўгі век, на добры хлеб”.

А потым едуць у царкву. Песень не пяюць, а толькі грае гармонік. Пудводы ўпрыгожваюць. Маладыя ў царкву на розных пудводах едуць, там іх бацюшка вянчае. Назад едуць ужо разам, недаўярона справа. Калі пуд’яджаюць да двара, іх сустракае маці маладога. Маладых ставяць на ручнік, хлеб пудносяць з соллю. Затым садзяць за стол. Пяюць:

Села сабе Параска за стол,
За поўнаю гараю, за він ом.
– Даражэнька маменька ды й баценька,
Даруйце мне, што пакідаю я.
– Даруем, дачанька, даруем, красачка.
Не сядзелась, доненька,
Не пралась кудзеленька,
Замуж захацелася.

Пасля пачыналіся скокі. Маладых садзілі на вывернуты кажух, каб жыццё було добра. Падыходзіў час дзялення каравая. Яго пачыналі дзяліць сваты. Дзелячы, гаварылі: “Дазвольце, бацька, маці, каравай дзяліці пачаці”. Яны адказваюць: “Бог благаславіць”. І так гаварылі тры разы. Старыя жонкі спяваюць:

Звіўся хмель з тычынкаю,
Палюбіўся Валодзька з Парасачкаю.
Сваты караваем надзяляюць,
Усі добра маладым жадаюць.
Ой, жаль нам цябе, Парасачка,
Адсылаем ад цябе нас.

Маладая плача.

За сталы садзілі так, калі вяселле: маладых дзяўчат і хлопцаў каля маладых. Казалі: маладыя – гэта працяг жыцця. Каравай падзяліўшы, пачыналі завіваць маладую. Для гэтага бралі жонак, якія добра жылі ў пары. Яны знімалі вянок і пачыналі намазваць галаву маслам, каб жытка була па масец. Заплятылі касу, каб жонка мужа баялася ды на другіх не заляцалася. Надзявалі хустку, і яна ўжо була маладзіцай. Спявалі:

Чы харош новы дом?
Чы хороша, Параска, пад хусткаю-у-у-у?
Ай, харош новы й дом,
Ай, хароша, Параска, пад хусткаю-у-у-у.

Як лічыйка памаслена,
Галоўка пакруглена.

Пасля малада адорвае родных з свае рукі. Збіраюцца ў хату свякрухі. Трэ свая пасцель, новыя занавескі. Пасцель налажваюць для маладых. Клалі пуд пярынку колас жытні. Казалі: на прадаўжэнне роду і народ дзяцей. Маці хросна пудводзіла да ложка маладу. Маладыя заставаліся адны, а тыя шчэ гулялі, пелі:

На гулянні пры кумпанні
Барын дзеўку цалаваў.
Той дзеўцы стала стыдна,
Стала, плакаць і рыдаць.

А парнішку жалка стала,
Стаў дзевачку ўгавараць:
– Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Вазьму замуж за сябе.

– Ой, не будзе таму праўды,
Штоб я была за табой:
У цябе двары й заборы,
А ў мяне хатачка й адна.

У цябе браты й сёстры,
А я бедна сірата,
Цябе й айцец і маці
Не дазволяць мяне браці.

Будзе маці наракаці,
Што ўбогую жонку ўзяў.
– Хоць убога, то здарова,
Й на лічанька хараша.

Яна мне, маладому,
Па нраву пудыйшла.

А ўжо, дзевачкі, вясна прыйшла,
Катора дурна, замуж пайшла,
А катора разумна, засталася.
З тае дурной смяялася,
З тае дурное смяялася:
Чаго, дурная, хапалася,
У добрыя рукі папалася.

Хадзіла Паванька
Па высокай гарэ,
Губляла пер’ечка
Па шалковай траве.
Хадзіла Алеська,
Пер’ечка збірала,
Пер’ечка збірала
І падушачкі кмяла.

Падушачкі пуховы,
Хто на іх спаць будзе?
Пане і з паненкаю,
Месяц з зоркаю,
Йванька з Аленкаю.

– А міленька мая
Я ўжо не твая!
Я ж таго пана, з кім я павянчана.
На вяночку стаяла,
Богу прысягала.
Персценька меняла,
За руку дзяржала.

Цешча зяця ждала,
Сукнамі двор слала.
А калі б яе змога,
Наслала многа б,
А калі б яе сіла,
Увесь бы двор украсіла.

Выйдзі, свякроўка гарбата,
Прыехала нявеста багата.
Выйдзі, свякроўка санліва,
Прыехала нявеста шчаслiва.

Ой, сваточкі-галубочкі, просім вас,
Каб не стала наша дачушка ў абідзе,
Каб була ёй паветачка за хатку,
Каб не було ёй суседачка за матку,
Каб яна бяды-гора не знала,
Каб яна доўгіх летаў даждала,
Каб яна дзецям торбы не шыла,
Каб свякроў бы яе не сушыла,
Ой, сваточкі-галубочкі, просім вас
Ды адведаць хлеба-солі ў нас.

Жыта ў полі, жыта ў полі
Людзі засявалі.
Ну а маці з сваім сынам
Ціха размаўлялі.

– Жыта, маці, жыта, маці,
Жыта не палова.
Як ту дзеўку не любіці,
Яна чарнаброва.

– Жыта, сынку, жыта, сынку,
Жыта не пшаніца.
Як ту дзеўку не любіці,
Яна чарнаброва.

– Жыта, маці, жыта, маці,
Жыта каласочкі,
Як ту дзеўку не любіці,
У яе чорны вочы.

– Жыта, сынку, жыта, сынку,
Жыта пара жаці,
Калі дзеўку верна любіш,
Яе трэба браці.

Жыта ў полі, жыта ў полі,
Жыта ўсё пажалі,
А ў нашым ў сяле,
Трэці дзень гулялі.

– Запрагай, бацька, лашадку шэрую,
Да шэрую, лахматую.
Ой, паеду я да на той хутар,
Дзеўчонку засватаю.

– Ой, ты, шэрая мая лашадачка,
Чаго ж ты рыссю не бяжыш?
Чарнабровая мая дзеўчонка,
Што засмучоная сядзіш?
– Што і ўчора я, да і звярочак я
Да і ў зялёненькім саду
Пацерала я свае калечачка,
Да і цяпер я не найду.

На вуліцы грымота, 3 р.
Грымота. 3 р.
Жонка мужа прапіла, 2 р.
Прапіла. 3 р.
Тры капеечкі ўзяла, 2 р.
Узяла. 3 р.
Дай купіла тры кані, 2 р.
Тры кані. 3 р.
Ды сарвала ўсіх людзей, 2 р.
Усіх людзей. 3 р.
Людзі чарку выпілі, 2 р.
Выпілі. 3 р.
Гаспадыню набілі, 2 р.
Набілі. 3 р.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.***

Сваты ў хату прыходзілі ўсегда з песняй. Пачыналі таргавацца. Пасля таргоў выпівалі. Пасля сватання маладая ўмесце са сваёй падружкай ішлі ў агледзіны да маладога. Гэта значыць, аглядалі яго гаспадарку. Пасля агледзін пачыналіся заручыны. На гэты раз ішлі да маладой. Жаніх, сват, яго бацькі, кросная мама. Тут казалі, калі павінна адбыцца свадзьба. Пасля маладая са сваёй падружкай хадзілі запрашаць гасцей.

На вяселлі пелі розныя песні. У суботу было вяселле. Шмат смеху. На вяселлі бацькі маладой называлі пасаг. А пасля свадзьбы ўжо пачыналася паслявясельная частка. Маладыя пачыналі працаваць і рабілі ўсё, што патрэбна.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

Селі, пагаварылі, дагаварыліся, кагда свадьба.

Ну, на замовінах сядзелі, выпівалі, а я патом аддавала падаркі, не я лічна, а мае сёстры.

Свякрухе давала я рубашку вышытую, ну і на плацця і хустку, а свёкру – рубашку, братам тожа рубашкі, а сватам – рушнікі. А яны должны прывазіць сваю водку, ставілі на стол. А назаўтра – заручыны. Прыходзяць дзеўкі, адзяюць маладую, і жаніх выкупляе.

Сваты выкупляюць. А то адзяюць і за грубу паставілі, простынь накінулі на галаву і другую выводзілі, насмяялісь. Плаціў грошы, і за стол пашлі. У суботу пагулялі-паехалі, назаўтра прыехалі, зноў паселі за стол, падзялілі каравай. На другі дзень, як прыехалі к жаніху, ставілі дзяжу і на дзяжу злазіла.

Адкрылі варота да запалілі агонь, там небальшы аганёк. Я перайшла да злезла з воза на дзяжу. Селі за стол, і тут мяне ўжэ завівалі. Знімалі вянок, платок надзевалі і пелі: "Як я сваю кароўку пасла, не баялась росы, каб паказаць маладой косы".

– А хто з жанчын гэта рабіў?

– Ну, вот мая сястра, можа, ці харошая падруга, штоб яна была адзін раз замужам; удава, маскоўка – яны ўжо не маглі. А ў панядзельнік – худа бяда. Там ужо зделаюць маладых, старыя пасядуць за маладых да ходзяць каравай дзелюць, да такое ўжэ дараць, хто што можа. Эты дзень "крошкамі" называюць.

– Хто і як пёк каравай?

– Маладыя жанчыны, тры-пяць чалавек. Бралісь усе за адну ложку да разам замешвалі, разам ставілі ў печ. Хто – шышачкі, хто – паўмесяц, да ставяць да пякуць. Выймаюць, рушніка расцілаюць да ставяць свечку. Калі нясуць каравай, так хлопчык должан ісці пад караваям. Няма свайго хлопчыка-падлетка, так пойдуць на вуліцу ды найдуць якога.

– А куды дзявалі шышачкі?

– Маладому ў лоб білі, калі каравай дзялілі.

*Запісана ў в. Глінішча*
*ад Кудрыцкай Ксеніі Емяльянаўны, 1927 г.н.,*
*студэнткай Мажэйнікавай В.*

Раньшэ ж так не было, што вот ехалі распісвацца да ўжэ і свадзьбу гулялі. Раньшэ так не было. Раньшэ вот прыйдзя хлопец, просіць там у радні, што я пашлю сватоў. У нас так у дзярэўні было. Дагаварацца там на які дзень, на якую суботу.

Вот ужо прыходзяць там яго родныя: еслі ацец есць, так ацец с мацяр'ю там, брат еслі страшы есць жанаты ілі сястра замужам, дык яны ўжо бяруць старшых, хросныя там ілі друг яго жанаты, раньшэ жаніўся.

### Сваты

Вот ідуць ужо ў сваты, там дагаварацца. Назавуць, ці тут прадаюцца ў вас... Ну, яны ўжо знаюць, атвячаюць ужо, што ў нас, у нас. Яны ўжо спрашуюць, ці сюда папалі, ці не заблудзілі, што нам вот сказалі, што ў вас вот карова ілі цёлка прадаецца, ілі так ужо як-небудзь назавуць. Ну, а тады ўжо гавораць, што ў нас е такі бычок, што мы хочам іх умесце звесці. Вот так вот, такія вот разныя прыбаўткі былі.

Ані прыносяць бутылку, абвязаную краснай лентай. Ілі лентаў тады ж не было, дзе тыя ленты былі, – краснай ніткай. Ну, вот ужо маладая даўжна развязаць эту ленту. Еслі яна ўжо развязала, значыць, яна сагласна ісці замуж. А калі яна не развязала, значыць, не сагласна, пайдуць сваты назад тады. Ужэ нічога...

Ну вот яны ўжэ пабылі. Яны прыносяць хлеб, у сваты ж ідуць абвёрнуты рушніком. Ужо пап'юць, маладая сагласна іці. Яны пашлі. Дагаварыліся там ужэ, свадзьбу на які ўжэ назначылі дзень там. Маладая бярэ

свой хлеб, бярэ свой рушнік і нясе маладому хлеб, што яна ўжо, мол, сагласна, яго хлеб прыняла, ужэ свадзьба будзе.

Ну а тады ўжо свадзьбу гуляюць. Як могуць, свадзьбу гуляюць. А распісацца яны ідуць ужо з маладой. Яны дагаваруюцца ў любы дзень. Біруць там дзевак і хлопцаў. Еслі ў яе мала было падружак, то яна брала тры-чатыры, а еслі там сісцёр дваюрадных там многа да падруг многа, раньша ж у гуртах вот сабіраліся многа, так было і шэсць, і сем дружак. Вот, як дагаворацць, ну вот ужэ, ну, падружку, ідуць, распішуцца.

Ён сразу вядзе яе к сабе. Там паабедаюць ужэ, тады ён вядзе яе дадому, вядзе дадому, і яны ўжо ажыдаюць свадзьбы, калі ўжо свадзьба.

І вот ужо прыгатовілі к свадзьбе ўсё. У маладога сабе сабіраюцца, каравай пякуць жэншчыны. Месяць цеста ўжо, месяць, тады ўжо замесяць яго, ну ў печы вытапілі, тады ўжо садзяць еты каравай на лапату. Яны ўжо зналі, етыя людзі ўдоў не бралі каравай пекць, разводак не бралі каравай пекці, толькі штоб былі парныя людзі, парныя, каторыя ўжо красіва жывуць, етыя жэншчыны. Це, каторыя ў парах. Вот, ужо пякуць. У печ садзяць на лапатах каравай, былі такія спецыяльныя такія лапаты, на каторых хлеб садзілі.

Вот яны ўжо пякуць, у печ саджаюць, на ету лапату саджаюць еты каравай. І ўжо стараюцца так пасадзіць яго, вот толькі ў печ унеслі, штоб яго сразу, за первым разам скінуць, сразу яго і пасадзіць.

А еслі хто хацеў наўрадзіць, то ўжэ былі і такія, што там што-та хацелі наўрадзіць маладому ці маладой, аны еты каравай так садзілі: аны яго па печы так туды-сюды лапатай пасоваюць, ета штоб маладыя нядружна жылі. Стараліся, абычна звалі больш сваіх, штоб садзіць каравай. Ну, эты каравай прыгатовяць.

Маладыя дзевачкі, там, мы вот, шукалі і з вішні, асобенна з вішні, больш на вішню, на тры ражкі, велец называўся, велец. Веленца панясла. Прыбіралі яго ў цвяты. Якія цвяты? З бумагі, з чаго ж маглі здзелаць. Там, накрасім чым-небудзь: чарнілам, белым, з якой саломы чаго і нясом, етая ўжэ. Ну, к маладому нясуць свае, а к маладой – свае. Прынясуць эты ўжэ і яго становяць на кут, становяць і ўжо ажыдаюць, што маладыя скора прыедуць.

Вот, прыязджаюць ужэ сваты, ажыдаюць, выглядаюць. Едуць. Канешне, ім сразу стануць на вароцях, перагарадзяць дарогу, возьмуць выкуп. Ён усягда, ета, цягнецца.

Ну, ужо вот прыглосяць у хату. Аны ўжэ спяваюць. Свахі ўжо спяваюць, да, штоб іх у хату прыгласілі, аны спяваюць там песні свадзебныя. Свахі спяваюць такую:

Ой, свату-свату,
Пусці нас у хату!
Мы табе шкоды не зробім,
Лаўкі не зломім.

Тады ўжэ спявалі:

А ў нашага свата
Вясёлая хата.
Чэсць яго ўхвалёная,
Печ яго пабялёная.

Ну, там ужо прыглосяць у хату. Пасадзяць ужэ етых, ну ўжо ўсіх: гасцей, маладога – усіх пасадзяць за стол. Нявесты няма. Нявеста дзе-та ўжэ з дружкамі там сабе аддзельна ўжэ. Надзенуць яе, і яна ажыдае. Вот яны пасядзяць, тады свякруха ўжэ трэбуе: “Падайце!”

Спяваюць ужэ жэншчыны. Свякруха сама ўжо і не, ну і свахі ўжо:

Падайце нам наша,
Падайце нам наша,
Няхай перад намі пляша.

То ўжэ маладую падайце. Аны так дзелаюць: могуць падвесці і п’яць, могуць падвесці і сем. Так вот. Накінуць каму простыню ілі што накінуць, надзенуць і падводзяць. Ну, яны ўжо знаюць, што ета не маладая. Крычаць: “Ета не наша!”

А выкуп нада даць, ужо там што-нібудзь ім, там канхвет якіх, еслі ўжэ былі, паявіліся тыя канхветы, а то ў асноўным водкі там сколькі. Дадуць ёй там чарку, яна ж, канешне, не п’е. То як мужчына, дык мужчына вып’е. А жэншчына, яна так прыгубіць ды і пайшла. І так ужо падвядуць сколькі, ну, ужо нескалька падвядуць, і дайдзя ўжо вочарадзь да маладой. Ну, яны ўжэ знаюць і бачаць, што маладыя іхня. Вот крычаць: “Ета наша, ета наша!” Ужо раскрываюць ёй якую ўжо фату, яе ж тожа накрыюць.

Яна ўжо ў фаце, у вянку. Вянкі дзелалі, фату, ленты цінуліся, уся спіна і наперадзе ленты. Дружкі, усё дзелалі дружкі. А перад етым загатаўлівалі вянок, усё-ўсё. Ілі плялі, ілі дзе. Паследняя ўжо ўрэмя, як я помню, дык ужо вяночкі прадаваліся. То самі дзелалі вяночкі. Называлі па-рознаму, ленты цягнуліся па зямле разныя-разныя (разнага цвета ўжо ленты паявіліся такія). Вянок красівы, фата.

Вот ужэ садзяць. Ужэ свахі етыя нямножка пасядзелі, патрэбавалі. Свякруха прыносіць падаркі маладой. Свякруха падае. Яна прывозіць, раньша ж сумак не было, а ў карзіне. І цяпер, во семкі бярэ, набірае плацця. Цяпер ужо сталі, як мацяр’ял паявіўся, такія дастаткі сталі, дак ужэ малады сабе набіраў плацця маладой к свадзьбе. А раньша так: малады набярэ сабе к свадзьбе плацця і свякруха вязе еты падарак. Семкі вязе проста як гасцінец маладой. А маладая ў эта ўрэмя свае падаркі аддавала свякрухі. Яна ўжо на ўсю сям’ю давала падаркі. А тожа ў карзіну ложыць ужо эта ўсё і свякрухе падае падаркі. Ну, абмяняліся яны ўжо там, пацалаваліся, усё.

Этыя ўжо сваты, госці ідуць там, пагуляюць яшчэ, танцуюць усё. Ну і старэйшыя ўязджаюць дадому. Астаюцца адны сваты. Там іх і шэсць, і восем,

і дзесяць, і дваццаць можа астацца маладых такіх, сватоў. Астаюцца – гэта нада забраць маладую, прывезці.

Тады ўжо садзяць маладое людзей і заводзяць маладых за стол. Была, маладых заводзіла за стол сястра брата ілі свяцілка. Бралі свяцілку, каторая дзяржала свечкі. Эта была свяцілка.

Вот яны заводзілі ўжо за стол маладых, ну, спрашвалі разрашэння: “Ацец і маць, благаславіця маладых за стол завесці”. Яны ўжо гаворац: “Бог благаславіць”. І так тры разы, і павялі. Пасадзілі яны.

Пасадзілі маладых, между імі сеў брат. Ну, няма брата, там хто-та. Мо ўжо ў хроснай там хто е, ну, ужэ шчытаўся брат. Вот ён сядзіць з імі.

Дружкі, мо хлопцы, дружкі сядзяць па яго сторану, а маладой – па ету сторану сядзяць маладой. Прышываюць усім кветкі. Перва дружка прышывае абязацельна маладому, астальныя ўжо прышываюць. Ён жа дружкоў бярэ: скольні дружак, столькі і дружкоў: п’яць дружак, значыць, п’яць дружкоў, п’яць хлопцаў бірэ. Яны ўжо дагаваруюцца. Усім кветкі, патаму што кветкі ж нада было ж, штобы сагласаваць. Папрышываюць кветкі. Пасадзяць.

І вот ужо дзяўчата спяваюць маладой песні, розныя. Паспявалі ўжо маладой, там ужо ўсё, тады свахі садзяцца ім напроціў. Свахі спяваюць ім песні. Яны на дружак – абы-што, хто што спявае. Дружкі ў атвет даюць і свахам тожа так, хто якія.

Ну вот яны пасядзелі, дружкі паспявалі. Пасядзяць, пагасцявалі ўжо етыя людзі, нагуляліся. Ну, нада ўжо завіваць маладую. Завіваюць. Маладую завіваць тожа бралі людзей, каторыя былі парныя, каторыя парныя былі, жылі харашо.

Яшчэ да етага нада ж пасадзіць маладых разам, выгнаць брата. Тожа паспявалі песню брату, паспявалі. Ён, брат, ужэ выходзіць. Там яму ўжо далі закуп, усё на свеце, ну, закуп далі. Патаргуецца, усё. Ён жа прадаў. Ну, прадаў, яму паспявалі там жа розныя песні тожа.

Ну, выйшаў брат. Вот іх умесце пасадзілі ўжо. Нада завіць маладую. Маладую нада завіць абязацельна, штоб свякруха дала платок. У свякрушын платок завівалі, вянок ужэ скідалі. Тожа, у ета ўрэмя выйшлі і маладой людзі. Спявалі, ну, ужо ўсе – і дружкі, і свахі. Там ужо ўсе спявалі песні. Вот заўюць яе ўжэ, зав’яжуць свякрусін платок. Яна ўжо сядзіць з ім, маладым. Вянок снімалі, касу расплятали. Спецыяльныя жэншчыны былі, парныя толькі жэншчыны былі. Парныя, штоб ні ўдава, ні разводка, каторыя жылі ў пары, вот, каторыя харошыя, етыя дзелалі.

Як дзе было прынята. У каторай дзярэўні, вот, еты вянок накідалі там дзевачке каторай на галаву, штоб замуж пайшла быстрэй. А ў нас у дзярэўні, лічна ў нас, еты вянок нікаму не надзявалі. Яго вешалі на кут. На куту іконы ў нас і вісела фіранка, і яны яго во так во на куту вешалі. І ўжэ вісеў ён, пака і кончыцца свадзьба. А тады яна сама ўжо аддавала там падруге сваёй там якой. Прыдзе тады ўжэ, устрэціцца з імі, ужэ снімя і каторай ўжэ накіня на галаву. Вот, быстрэй ідзі за мной замуж.

**Дзяльба каравая**

Ну, цяпер нада каравай падзяліць. Ужэ прыносяць еты каравай, ужэ разрашэння просяць на стол пастанавіць. Каравай абязацельна нёс мальчык і дзевачка, малыя ў смыслі, не такія ўжо саўсім маленькія. Не маглі яны несці, ну там старшы хто-та ішоў, паддзержываў, памагаў. Паставілі. Вот дзеляць еты каравай. Ну, тут тожа так, як і цяпер, на караваі, так і раньша. На караваі тожа разныя песні спявалі, разныя былі песні. После нада ўжэ замачыць.

Сватоў сразу абвязвалі, як толькі за стол садзілі, як садзілі маладых, і садзілі ўжэ сватоў. Свахі зав’язвалі, зав’язвалі маладой ужо там ілі цётка, ілі хросная, ілі там хто-та, сястра мо ўжо тая, каторая замужам, ілі брат там жанаты, так ужо жана яго, абвязвалі сватоў палаценцам.

Ну вот ужэ каравай еты замачылі, пагулялі, пасядзелі, ну ета не так ужо яно ўсё, пасцяпенна.

Верх снялі маладым, верх на тарэлку палажылі і туда лажылі дзеньгі былі, мо хто рубаль.

Сваты бралі: адзін рэжа каравай, другі на тарэлкі дзяржыць. Як нальюць там тры ілі чатыры стопкі, вот пальюць водкай, і кажды, хто падходзіць, ужо там што-та памагае, яму даюць эту водку – выпі. Ну, канешна, мужчына можа выпіць і поўную, жэншчына ж не вып’е поўную. Это сягоння так, а тады ж не: прыгубіць і паставіць. І давалі кусок каравая, ета ўжэ яно абязацельна ўходзіла.

Еты каравай елі назаўтра ўтрам. От ужэ падзялілі каравай еты, пагулялі. Еслі дзевачкі, дзевачкам паложана было, ілі там хлопцу маладому, крычалі: “Быстрэй еж!” Штоб жанілісь, а ўжо старыя елі назаўтра утрам. Ну вот так, такая вот, было.

Ну, ужо пагулялі, нада ж маладую забраць. Там спявалі ўжо, ну вот ужо знаем, што сабіраецца, там ужо розныя песні, што, як ужо не жалее матка маладую, не жалее дачку, да ўжэ аддае яе ў чужую сям’ю. Ды ўсё такія песні спявалі. І свякрусе, што прыгатоўся ўжо: шчас табе вязуць нявестку. Разныя былі старынныя песні.

Ну, сабіраюць ужо маладую. Маладая яшчэ сядзіць за сталом, а ёй ужэ там звязваюць пасцель, прыданае. Шкафоў жа раньша не было, а былі скрыні. Да, дзелалі раньша самі бальшыя скрыні. Вынасілі на воз ету скрыню, станавілі на воз яе. Ну і павёз там адзін ці ўдваём, ці ўтраём, штоб знесці там было каму, як к маладому.

А яе тожа садзілі на воз. Пасцель забіралі сваты, звязвалі. Раньша ж не было пакрывалаў етых, а свае, тканыя былі. У ету посцілку, як мы яе звалі, звяжуць яе пасцель усю, звяжуць ёй на вокны вешаць у свякрухі гардзіны якія, ці ўжо што там дзелалі, палаценцы вышытыя абязацельна: там на кут рушнікі ўжэ на рамкі, на сцены на етыя вешалі абязацельна палаценцы. Скацеркі вышывалі. Як прыедуць к маладой, усё вывесяць, так ужо вісіць там жэрдачка, як мы гаварылі, дзе вісіць у каго. Во сюда ўжо ўсё напаказ: скацеркі – прыехала маладая, што багатая яна, штоб усе бачылі, глядзелі, што якая маладая прыехала, прывезлі яе сюды к свякрусе.

Ну, тут у свякрухі зноў ужо садзіліся, гулялі ноч. Яна ўжо праходзіць, ноч. Еслі ўспявалі, то ўжо ноччу, пад утра, дзялілі і ў яго каравай. У аснаўном, да, у ету ноч і ў маладога. Ета ўжо мала назаўтра дзялілі.

Жадалі: "Дару маладой карзіну буракоў, штоб не любіла чужых мужыкоў. Дару куўшын медзі, штоб дзеці былі як мядзведзі. Дару калыску і кручок, штоб было сем сыноў і пяць дачок. Дару зялёную рошчу, штоб зяць пацалаваў цёшчу. Дарую куру-квактуху, штоб нявестка пацалавала свякруху".

Там ужо чарку ёй дадуць.
За ету чарачку –
Яшчэ разоў парачку.
Дадуць каравая кусочак,
За еты кусочак – яшчэ разочак.

Іх садзяць на кажух тады ж, сразу і маладога, і маладую.

Кідалі некаторыя ў румку нявесты і маладога грошы і гаварылі: "Хто скарэй дастане, той будзе хазяінам у доме".

Пагулялі, ложаць спаць маладых. Свахі сцеляць маладым пасцель, ложаць спаць.

## Другі дзень свадзьбы

Ну, што ўжэ. Назаўтра тожа сабіраліся ўжэ к маладому, сабіралі людзей. Вот сабралі. Малады бярэ сваіх людзей, там што-то прыдумляюць. Надзяюць мужчыну ў жэнскае. Куклаў жэ не было, а дзелалі ляльку такую бальшую з чаго, там посцілку, скацерку, абвяжуць, абвяжуць. Даюць яму. Ён ужо на рукі, ідзе, трусіць. Папамажуць, абмажуць яго сажаю, што эта, мол, такія сінякі, што так пабіў, а жэншчыну дзелаюць мужчынам.

Ідуць пешкі, на ўсё сяло і ўсю дарогу ўжо твораць што-та. Ідуць к маладой, у двор ломяцца. Матка ўжо замкнецца, не пускае, а ён: "Вой, мамачка, пабач! За ноч ужо і дзіця е. Паглядзі, што ён з мяне здзелаў, чорны, пабоі, я не буду!"

Ну, шумяць. Яна ўжо ета знае ўсё, не пускае ў хату ўжэ эту маладую, эта ж мужчына: "Ідзі, эта не мая дачка. Я такую не давала". Яна ўжо і на таго зяця нападае, што мужчынай здзеланы: "Што ты з яе здзелаў? Я ж табе такую давала? Я ж табе давала маладую, красівую, а ты што ка мне прывёў? Зрабі такую, як была, тады прыму".

Ну, ужо пашуцяць, пусцяць у хату. Еты мужчына, каторы з лялькай, маладая, бяжыць на печ: "Я ўжо буду тут жыць, туда не пайду".

Ну, пашуцяць, пашуцяць так, ну, прыдумляюць ужо што, тады ўжо іх угосцяць. Яны забіраюць маладую ў людзей і вядуць ужо к маладому.

І цыгане называліся. Ета і ёсць цыгане.

Бегалі па хатах, па саседзях. Вот ужо к маладому прыдуць, пасядзяць, пагуляюць, папераапранаюцца ў цыганей і пабеглі па хатах. То курэй зловяць, то хто ўжэ што такое дасць: то яечак, то хто сам ужо куру дасць. Яны ўжо прыгатаўляюць, штоб назаўтра ўжо вечар гуляць. Хто нічога не дае, яны

прыглядзяцца, дзе што вісіць, пад руку і панёс. Хазяін бачыць. Тады ўжо даганяе: "Наце, наце, толькі аддайце там маю кофту ці што". Бо іх жа сільна тагда не было. Як адна купіць дзеўка кофту ды вісіць, яны ж і тую забяруць. Ну, а забяруць, аддасць ужэ еты выкуп.

Назбіраюць тады ўжэ. Ета называецца цыгане. Ходзяць цыгане па хатах. І так ужэ гулялі.

Жэняць маладых, а як маладых, бацькоў жэняць. Пасадзяць ужэ там бацьку, матку і вянок надзенуць, там кветкі папрышываюць, пацапляюць якія-небудзь, пасадзяць. Тожа так шуцяць. А тады ўжо і маладыя падыходзяць на іхні каравай. Вот, толькі ж іх патапілі, іхняя свадзьба. Яны ўжо падходзяць, і ім дараць што-та такое вот, разнае ўсё. Во ета такі каравай, на трэцці дзень такое было.

Еслі саўмесна сабяруцца, то садяць радзіцелей і тых, і тых. А еслі ўжо на трэцці дзень дзе-та гуляюць, дык у маладой свае гуляюць і етае дзелаюць, а ў маладога свае етае дзелаюць.

Можа ў каго там бацькі няма, дык садзяць там другога, пасадзяці там каго ўжо за бацьку ці там за матку.

Эта назаўтрае гуляюць. Ну, а тады што? Нада ж абсудзіць цёшчу. Зяць купляе што-та, тапкі якія ці што-небудзь, што-та ж куплялі.

Дак вот шуцяць. Возьмуць ужо туфлі якія ці найдуць аднаго сапага во такога, размер сорак пяты, а другую ногу абуюць у постала (лапця). Абкруцяць парцянкі тут етыя, аборкі, усё абуюць як паложана: "Ну, хадзі, зяць, паглядзі!" Яе водзяць, пасадзяць тамака, яна сядзіць. "Зяць, паглядзі ў што ты абуў цёшчу!" Каторы панімае, дык ён гаворыць: "Дык нічога. Я буду жыць, дык я ёй другія тагда куплю ці пашыю, ці што". А каторы шутак не панімае, сердзіцца: "Я купіў, я, мол, другія, давайця мае".

Другое што-небудзь прыдумаюць. Найдуць бахілы з рызіны, абуюць ды падвяжуць, штоб не спадалі. Ну, тады ўжо ён гаворыць: "Я купіў".

Наліваюць ваду ў які чыгун ці ў якое карытца. Нальюць вады, а вымажуць ногі цёшчы, вымажуць ёй. Ну і зяць ўжо доўжан памыць ёй етыя ногі ўжэ.

Вот як маладая ўжо сабіраецца замуж, засватаюцца, усё. Яна ўжо дружак намеціць, давала дружкам работу: сарочку свякрусе нада было вышыць, фартук вышыць, можа ў яе палаценца там былі шчэ не дашытае, там мала было, значыць, дружке давала яна вышываць палаценцы, вязалі кароначкі ілі там у простыні дзе-та не было кароначкі – вязалі. В обшчым, яе ўжо гатовілі, падытожвалі, штоб, як замуж ішла, усё было гатова.

Ну, а цешчу абулі, цяпер свякруху нада адзець. Ужэ свякруху надзявала маладая. Ну, яна ўжо свякрусе пааддавала падаркі. Свякруха знае, яна ўжо ідзе, прыносіць. І вот бяруць жэншчыны, надзяюць што папала, рванае якое, гразнае найдуць, панадзяюць. Тожа ёй некрасіва, ну шуткі, панімалі ўжо шуткі.

Свякруха ўжэ: "Я прынімаю, я прынімаю сваю нявестку, і я прынімаю, што яна мне дала, усе падаркі. После мы ўсе разжывомся, мы сёння бедныя, патраціліс на свадзьбу".

Ну, канешна, ужо дайдуць, надзенуць тое, што дала. Ну, як надзенуць? Давалі ж толькі мацяр’ял. Платок абязацельна ў нас давалі. Сарочку надзенуць, сарочка ж з палатна, вышыта, красіва здзелана, размірэжана. На сарочку многа работы было, ета ўсягда дзелала перва дружка.

Вот, ужо надзенуць ёй эту сарочку, зав’яжуць платок, падв’яжуць хвартух, мацяр’ял, які там далі, перав’яжуць. Ну, ужо ж і бацьку там рубашку давалі якую. Ну, тады ўжо сваты іграюць, ну, танцуюць. Іграюць ужо “Чобаты”:

Чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мне.
Павешу чобаты на кручку,
Няхай робяць дзелячка за дачку.

І свекрусе разныя песні спявалі, папашуцяць, папатанцуюць. Тут ужо і сваты і цалуюцца. Ужо яны і з дзецьмі, і танцуюць ужо з усімі. Садзяцца за стол і гуляюць ізноў.

У другой няма бацькі ці маткі, так тожа ж спявалі песні такія вот жалобныя, і плакалі і ўсё. А другія ўжо ўсе радзіцелі, дак другія спявалі:

– Ой, - казала Манечка, -
Замуж не пайду!
Насеяла чарнабрыўцаў
Цэлую граду.
– Ой, расціце, чарнабрыўцы,
Не буяйце.
Не ідзіце дзеўкі замуж,
Да гуляйце!
Раслі, раслі чарнабрыўцы,
Пабуялі.
Павыходзілі дзеўкі замуж,
Не гулялі.

Сіраце спявалі:
– Стаіць сірата
Пасярод двара,
Ды і некаму прывітаці:
Ні маткі з раю,
Ні таткі з краю,
Ні радзіначкі з Украіначкі.
Пашлю салаўя
На Украіначку
Па сваю радзіначку.

Шчэ і зязюленька не далятала,

А ўжэ ж мамка прамаўляла:
– Чаго, зязюлька, чаго, шэрая,
Так рана прыляцела?
– Паслала мяне дзіцятка тваё
На вяселейка зваць.
– На вяселле не пайду,
На вяселле не пайду,
Бо я коней не маю,
Коней не маю, коней не маю,
Дарожкі не знаю.

Дружкі спявалі:
– Ні харашэ, Манячка,
Ні харашэ.
Ой, скінь вянец да пад сталец,
А вяночак на галовачку.

Ёй жа, нявесці, заўюць платок, дак яны спяваюць:

– Ой, ці табе, да Манячка,
Не жаль будзе,
Што дзевачкі дарогаю
Іці будуць?
Будуць к табе пад акенца
Падбягаці,
Будуць цябе, маладзеньку,
З сабой зваці:
– Хадзем, хадзем, да Манячка,
Хадзем з намі.
Мы саўём табе вяночак
І з перламі.
Мы саўём табе вяночак
І з перламі.
Да надзенам на галоўку,
Гуляй з намі.

Падружкі спяваюць, як прашчаюцца з маладой. А з-за стала падружак выганялі рэмнем. Мужчыны білі, не жалелі. Так білі, другая, еслі запутаецца ці прыдзержацца, дак саб'юць дзействіцельна, да. Ну станавіліся жэншчыны ўсягда. Ён развязвае, прыгатоўлівае рэмня. Вот дружкі станусь, як спяваюць, прашчаюцца з ёю, пажалаюць ёй усяго. Заўюць ім галавы, саўюць уместа.

Мужчыны, сваты прыгатаўляюць рамні, яны ж напроціў сядзелі, дружкі і сваты, напроціў стала адно аднаго. Тыя становяцца, прашчаюцца ўжо з маладой. Яны прыгатовяць рэмні і б'юць іх. Жэншчыны стаяць, хватаюць іх.

Еслі не ўспеюць схваціць рэмня, дык разоў тры пекане са ўсяе сілы, добра, не глядзіць нічога. Білі добра. А дружка стараецца схваціць стопку водкі і заліць вочы, штоб не бачыў, дзе біць. Білі, крэпка білі. Дружак білі.

А дзялілі каравай, такую песню спявалі:

Ой, чый та конь,
Ой, чый та конь
З-пад гары ўезжае?
З-пад гары ўезжае,
З-пад гары ўезжае,
Свечы зажыгае.
Чыя свеча, чыя свеча
Так яна гарэла?
Манячкіна, Манячкіна
Ясненька гарэла.
А Іванава, а Іванава
Узяла да і патухла.

А платок снімалі, дак так вот спявалі свахі:

Ой, дай, мамка,
На галоўку масла,
Я ж твае каровачкі пасла.
Пасла, заганяла,
Пасла, заганяла,
Масла сабірала.
Ад росы і да росы,
Ад росы і да росы,
Дай памазаці косы.

Як строяцца завіваць маладую, як вянок знімаць да платок завязваць, дак яны вянок знімуць, а ў свахі ўсягда быў платок ужо на тарэлачкі, лён быў, закручвалі ёй у волас лёнам, завязвалі платок. І рашчоскай. Рашчосак жа раньша не было, а грабушкі, грабушок вот быў.

Яны таргуюцца. Свахі зайдуць, стануць: “Сваты, купіця маладой грабушка”. Раскасмачуць яе як папала, во так во той волас растрапаюць: “Паглядзіце якая яна, яе ж нада чым-та зачасаць”. Ну, і каждай свахі стопка, ён доўжан накрыць етыя стопкі. Крычаць: “Мала, мала, мала!” Возьмуць каторыя, накідаюць капеек у етую стопку: “Дастань!” Ну, каторая ж і вып’е, ну не ўсе ж. Там, ліне, а капейкі етыя дастане. Грошы, вот каторыя яны ў сватоў выманьвалі, яны маладой лажылі ўзапазуху ўсягда. Усе етыя грошы. Так вот гавораць, штоб дзеньгі вяліся ў маладой. Ета ўсягда ўзапазуху лажыліся дзеньгі.

Тады ўжо свах етых з-за стала выганялі. Яны паспяваюць. Яны сватам етым спявалі, шапку надзене сваха і спявае:

Паглядзі, старшы сват, на мяне:
Ці не лучшы казак за цябе,
Ці не лучшы я казак за цябе,
Ці не лучшае лічанька, як у цябе?

Як толькі зав’язвалі сватом палаценцы, абязацельна нада іх умыць водкай. І ўсягда мылі водкай. Яны чуць-чуць на руку.

У сваты звалі, як у каго радня. Як багата дзядзек, дык бралі іх, а як у каго няма, то звалі суседзей, друзей. Каго возьме, а каго не возьме за свата, абіжаліся.

Сярод сватоў выбіраўся старшы, первы. Калі ў маладога не хватае сваіх сватоў, дабавіць, свайго каго пасадзіць.

Як ад’язджалі з дому маладой, дак спявалі матцы:

Не плач, мамачка,
Не плач.
Пойдзеш на рэчку
Плацця праць.
Папрэш плацця
Беленька.
Да памерзнуць ручкі
Шчыранька.

Закідай, маці, дрова,
Закідай, маці, дрова,
Дай бывай здарова.
Ты, свякруха, трэскі,
Ты, свякруха, трэскі,
Дажыдайся нявесткі.

Да свякрухі прыедуць, сядзіць маладая за сталом, свацці могуць ужо падражніць маладую, спяваюць:

Паглядзі, свякруха,
За свой стол.
Сядзіць нявестка,
Як пастол.
Паглядзі, свякруха,
На паліцу,
Сядзіць нявестка
З рукавіцу.

Ну, як хочуць ужэ выручыць свае свахі ад маладой, дак ужэ спяваюць:

Паглядзі, свякруха губата,
Прыехала нявестка багата.

І так уся свадзьба, адно аднаму. А ўжэ як кончылі каравай дзяліць у маладой, вот яна ўжэ сабіраецца, такую песню спявалі:

Сядзьма, мамка, павячэрайма,
Сядзьма, мамка, павячэрайма,
Па вячэры падзялімась.
Па вячэры падзялімася,
Харашэнька разайдзімась.
Табе, мамка, сені і камора,
Табе, мамка, сені і камора,
А мне, мамка, рабая карова.
Табе, мамка, ніт і бярдзейка,
Табе, мамка, ніт і бярдзейка,
А мне, мамка, палаценейка.

Малады ўжо едзе к маладой на свадзьбу, дык там ужэ дзевачкі спяваюць:

Стукнула, грукнула на дварэ.
– Паглядзі, мая мамка, ці не па мяне?
– Па цябе, дачушка, па цябе.
– Збірай, мамачка, кубрык мне.
– Едзь, мая дачушка, без кубра,
Ты ж маіх мычачак (гусей, курэй) не скубла.
– Скубла, мамачка, заганяла,
Сабе кубрычак сабірала.

Дружкі спяваюць сіраціне:

– Можа ў цябе, да Манячка,
Да і маткі няма,
Што на тваём пасадачку
Парадку няма?
– Была б у мяне родна матка,
Быў бы лад,
Быў бы ў мяне пасадачак,
Як сад – вінаград.

Свахі ілі дружкі свату спяваюць, затым жа іх б’юць, што яны спяваюць:

А ў нашага свата
Нямытае рыла!

Вазьмі кусок мыла,
Памый сваё рыла,
Штоб дзеці пазналі
Дай бацькам назвалі.

Спявалі свахі дружкам:

Немы дружкі, немы,
Муку грэцку елі.
Грэцка мука сопка,
Пазалепляла глоткі.
Першая дружка скача,
За ёй байструк плача.
Байструк, байстручаньку,
На хлеба ў ручаньку,
Шчэ і солі драбочак,
Заткні свой раточак.

Як брату заводзіць, дак спяваюць:

Брат ля сястры сядзіць,
Да і за ручаньку дзяржыць.
Не хоча падпусціці
Чужой-чужаніцы
Да сваёй роднае сястрыцы.

Ён жа выкуп дзелае. Ён жа заказвае выкуп. Таргуюцца за каждую капейку. Ён: "Мала, мала, мала". Тады яму спяваюць такую песню:

Татарын, братка, татарын,
Прадаў сястрыцу задарам.
За руб, за два, за тры, за чатыры,
Да і за тыя, залатыя.

Як ужэ маладую заўюць, надзенуць платок ёй, тады ўжо свахі ўходзілі, дык яны ўжо ім падпальвалі валасы. Возьмуць у таго чуць-чуць і ўжо саб'юць ім голаў, штоб ужо добра жылі.
Як маладую завілі, платок завязалі, ужо, в обшчым, спяваюць свахі:

Што мы захацелі,
Тое мы зрабілі:
З цеста - паляніцу,
З дзеўкі - маладзіцу.

А дружкі ўслед атвячают:

- Калі б мы хацелі,
Дык мы б развярцелі,
Павялі б у садочак
Да надзелі вяночак.
Надзелі вяночак з перламі,
Гуляй, дзевачка, з намі.

Як збіраюць маладую, адпраўляюць, дак спяваюць свахі:

Ці я ў цябе, мая мамка,
Не гарую,
Што аддаеш мяне замуж
Маладую?
Ці я ў цябе, мая мамка,
Не дзіцятка,
Што ты гоніш мяне ўпрочкі
Проці ночкі?
Да не даеш праваднічка
А ні сколькі?
Дай жа, мамка, праваднічка
Хоць малога,
Хоць таго ж салавейку
Лугавога.
Салавейка будзе рана
Шчабятаці,
Будзе мяне, маладзеньку,
Пабуджаці.
Бо свякерка, чужы татка
Не пабудзіць,
Ой, ён выйдзя за вароты
Да і асудзіць:
Санлівае, драмлівае
Чужое дзіця.
Яно белы кужаль прала,
Усё драмала.
Яно белы кужаль прала,
Усё драмала,
Яна мяне, старэнькага,
Зневажала.

Як маладая сабіралася, так падружкі на двары спявалі:

Плыла ўтаўка вадою,
Вяла дзетачак з сабою.

Вада мая, радзімая,
Ой, як мне жалка
Растацца з табою.
Ішла дзевачка к камару,
Вяла мамачка радзімая,
Як жалка мне
Растацца з сабою.

Так вот і татку, і сястры, і брату, што вот яна ўжо прашчалася.
Едуць па маладую ілі вязуць, дак свахі спявалі ўжо дарогаю:

Ох, едзем мы, едзем,
Ох, едзем мы, едзем,
Ні дарогі, ні следу.
Сняжком-пацярухаю,
Сняжком-пацярухаю,
Да сваёю чарнабрухаю.

Штоб свякруха чула, што яны ўжо блізка пад’язджаюць пад сяло, дак такую вот песню спявалі:

Пад’язджаючы пад сяло,
Іграйце, дудачкі, весяло.
Іграйце, дудачкі-медзянкі,
Прыехалі сватачкі-мадзяркі.

Сразу, як маладую з дому адпраўлялі, радзіцелі ёй давалі хлеб. З хлебам яна ішла. Ну, вот дзве булкі хлеба давалі ілі спецыяльна такія піражкі пяклі. Пара етых піражкоў. Абвёртывалі рушніком. І яна, як прыходзіла, дак у шыйку, во дзе печ ета, дак у шыйку лажыла еты хлеб. Гавораць, штоб яна ўжо добра жыла.

Каравай як хто разделае. Хто можа, дак там нямножка дзе якія вот уродзі цвіточкі здзелае, хто шышачкі такія вот кругом каравая, лісцікі падзелае. У караваі нічога ў нас не запякалі, нічога.

Гаворацъ, вот дождж ідзе – маладыя багатыя будуць, снег там – маладыя багатыя будуць.

Ілі там вот дождж ідзе, а вот яна сірата, спяваюць вот такія песні сіроцкія, дак гавораць: “Во, мол, і Бог жалее маладую, плача ўмесці з ней”.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча),***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2005 г.)***

У сваты хадзілі ўсе родственікі. Сам жаніх, і яго бацька, і матка, калі бацькі не было, то хадзіў родны ці дваюрадны брат. Бралі з сабой хлеб, соль, гарэлку, на бутылку завязвалі красны бант. Матка маладога несла падарак маладой. Калі маладая не адказвае, то ўсё астаўляе ў сябе. Гарэлка, якую прыняслі сваты, не п’ецца, а захоўваецца. Маладая пры зговары не прысутнічала.

После сватаўства былі заручыны. Прыглашалі ўсю радню, дзе і знакоміліся. Дагаварываліся пра свадзьбу.

Каравай садзяць, як маладых адпраўляюць пісацца. Каравай спёкся - і маладыя прыязджаюць. Еслі гуляюць саўмесна, то пякуць адзін каравай, а калі і ў жаніха, і ў нявесты, то каравай пякуць і там, і там. Каравай пякуць парныя, каторыя первый раз замужам. Каравай дзяліў бацька хросны (першы сват) і яшчэ два сваты (выбіраюць, каго хочуць) у канцы свадзьбы. Сначала вызываюць родных (бацьку, маці):

– Просім на каравай прыбыць,  
Долг аддаць, каравай прыняць.

Усе: «Просім».

Калі ў нявесты, то прыглашаюць яе бацькоў, а калі ў жаніха – яго бацькоў, калі ж гуляюць разам, то і тых, і тых.

Калі каравай падзеляць, жаніх забірае нявесту дадому да сябе. З сабою нявеста брала ўсё, што матка ўдзеліць.

Маладых з загса встрэчаюць бацька і матка з хлебам-соллю, гарэлкай і іконай (якую потым маладая забірае да маладога). Калі малады забірае маладую да сябе, то матка маладой з імі не едзе.

Толькі на другі дзень бачыцца зяць з маткай маладой. І зноў гулялі.

Нявесту завівалі дома, але еслі свякруха жалае бачыць нявестку з вянком на галаве, то завівалі ў маладога. Яна бярэ на тарэлку ложыць хлеб, платок і падае дружкам, каторые завіваюць. Дружкі знімаюць вянок і пяюць са словамі:

Дай, мамка, масла,  
Бо я тваю кароўку пасла...

Знімаюць яго, завязваюць платок пад бараду і спяваюць:

Што хацелі, мы зрабілі:  
З цеста – паленіцу, а з дзеўкі – маладзіцу.

І потым дружкі трэбуюць за гэта маладых, а дружкі за тое, што яны яго просяць, бяруць рэмня і б’юць іх.

На трэці дзень ходзяць цыгане. Панадзяваюцца ў цыганскую адзёжу, панапінаюцца платкамі ці скацеркамі і ходзяць па хатах. Хто дасць сала, гарэлкі. Калі не давалі нічога, то кралі ўсё, што пападала пад рукі (нават у хаце маглі паздымаць карціны са сцен). А потым, набраўшы ўсякага, ішлі зноў гуляць дадому.

Чэраз нядзелю маладая ехала да маткі. Дадому няльзя было ехаць раней, каб у свякрухі не вывелася худоба. Матка гатовіць стол, і гуляюць зноў. Збіраліся тыя, хто хацеў.

***Запісана ў в. Забалацце (цяпер г. Хойнікі) ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н., студэнткай Жмачынскай Н.***

У нашай вёске вяселле пачыналася ў васкрасенне і гулялі да аўторка. Жаніхова радня гуляла сабе, а маладой – сабе. У хаце нявесты маладая павінна была сядзець на пароге за сталом са сваімі падружкамі. Дзяўчыны і жанчыны пяюць пасад. Пасад – гэта такая вясельная песня, якую пяюць нявесце.

Потым прыязджала радня жаніха і выкупалі нявесту. Сваты прэдлагалі бутылачку, а радня нявесты прасіла ўсё больш і больш. На парозе каля нявесты стаяў хлопчык з палкай. І, калі хацелі ўзяць нявесту без выкупа, ён біў па рукам і па спіне. А потым, калі нявесту выкупілі, перакідвалі чэраз галаву і вялі з хаты на благаславенне бацькам. І пасля вялі нявесту к жаніху.

Маладзёж на свадзьбе не гуляла. Пасля благаславення бацькоў усе сяброўкі ішлі дамоў і болей не атмячалі. Потым у пярэдняй хаце садзілі радню жаніха, а саміх маладых садзілі ў пярэднюю хату на кут. А ўжо пасля садзілі радню нявесты. А яшчэ жаніха з нявестай садзілі на шубу, каб багатыя былі. Потым ужо гуляюць, танцуюць. Пад вечар нявесту выводзілі з хаты з іконай і яе прыданым і вязлі да жаніха.

Калі заканчваўся першы дзень, пасля благаславення бацькоў нявесце расплятaлі касу і надзявалі хустку.

На другі дзень уся радня жаніха і нявесты гулялі ў хаце нявесты, а потым зноў ішлі к жаніху. У жаніха дома быў каравай. І калі радню частавалі караваем, яны дарылі падаркі, хто што мог: срэбра дарыў нявесцін род, дарылі па рублю. У мяне на свадзьбе самы дарагі падарак – гэта была простыня, якую мне падарыла мая бабуля. Дарылі кускі матэрыяла, хто што мог, то і дарылі.

Быў у нявесты дзявішнік, называлася вечарынка. Сяброўкі нявесты плялі з бумагі кветачкі. Прыходзіў жаніх са сваімі сябрамі. Пелі песні, смяяліся.

Ніякіх калечак не было. Проста песні, танцы, гармонь, шуткі – да і ўсё. Другі дзень заканчваўся – і нявеста ішла к мужу.

У багатых людзей трэці дзень быў і не апошні. Яны маглі нядзелю хадзіць і частаваць усю вёску. А ў нас на трэці дзень гулялі толькі блізкія. Шлі на возера, палілі касцёр, дзе смалілі курыцу, якую радня жаніха прынесла да нявесты на вялізнай палке. А пасля варылі з гэтай курыцы суп і елі ўсе гэты суп.

***Запісана ў г. Хойнікі ад Лагвіненка Марыі Васільеўны, 1960 г.н., студэнткай Лагвіненка В. (2005 г.)***

Сватанне – раньше шлі не больш чатырох чалавек: родны бацька, маці, хросны. Ідуць з бутылкай, пірагом, соль, палаценца. Спрашываюць у маладой, ці сагласна. Калі сагласна, то накрывалі на стол, калі не, то давалі гарбузу. Раней жа пыталіся, калі ішлі ў сваты.

Заручыны – збіраліся зноў родныя, намячалі, калі свадзьба будзе точна.

Каравай – калісь пеклі каравай. Маці ззывала жанчын. Некаторыя неслі муку. Песня такая була:

Іванкава мамка па суседзях ходзіць,
Па суседзях ходзіць, суседачак просіць:
– Вы хадзіце ка мне,
Не ка мне, а к дзіцяці
Караваю ўчыняці.

Каравайніцы пякуць каравай, астатнія сабіраюцца, за сталом сядзяць. А каравайніцы пяюць к караваю:

Вусокі наш бор, вусок,
Над усімі барамі.
Багаты наш пан
Над усімі панамі...

Багат Іванка, татко той,
Высокі стагі ў гумне,
Вушны каравайка на стале.
Залатары-купцы едуць,
Залаты абруч вязуць,
Нам на чэсць, на славу
Нашаму караваю.
Губатая ўчыняла,
А рылатая мясіла,
А красная ды харошая
У печ садзіла.

Ой, стану я каля печы
Караваю сцярэчы,
Штоб яго не спаліці,
Штоб яго не асмаліці,
Каб яму ўгадзіці,
Увесь род абдзяліці.

Другія ў гэты час пяюць нявесце песні за сталом. Прыбіралі яе, прышывалі фату. Пелі песні нявесце дзявочыя, пакуль жаніх прыйдзе:

Ляцяць галачкі ў тры сталачкі,

Зязюля – наперадзе.
Галкі на коллях селі,
Зязюля – на каліне.
Ішлі дзевачкі ў тры радочкі,
Анечка – наперадy.
Усе дзевачкі на лаўцы селі,
Анечка – на пасадзе.
Усе дзевачкі песні запелі,
Анечка заплакала.
– Ой, чаго плачаш,
Каго жалуеш, маладая Анечка?
Ой, ці жаль татку старога,
Ці падвор'ейка яго?
– А толькі мне жаль
Русае касы, дзявочае красы.

Ажыдаюць маладога. Прыязджае вечарам на тройках прыбраных. На парог выходзілі бацькі маладой. Сустракаліся са сватамі на парозе. Свечкі каліcь жа палілі і спявалі:

Прыступі, свахо, да мяне.
У цябе свяча і ў мяне.
У цябе свяча і ў мяне,
І ў цябе дзіця і ў мяне.
Ізлепім свечкі да купкі,
Ізвядом дзетак да хаткі.

Малады нёс ельца. Цяпер дружкі ўрываюцца ў хату. А дзеўкі прыпяваюць:

Дружок на парог лезе,
Абручамі галава збіта,
Саломаю барада сшыта,
Вочы – у клоччы, нос – у варэнні,
Лычком падпяразаўся,
Баярынам убраўся.
Старыя – дзеўкам:
– Узлятайце, сарокі,
прылятайце, вароны,
Прылятайце, вароны,
З чужой староны.

Тады дружкі, княжы даюць выкуп. Грошы давалі. Дзеўкі дабіваліся, каб добра заплацілі. Спявалі:

Мы думалі, што багатыя,
Ажно яны скупаватыя.
Па шляху хадзілі,
Нішчых абіралі,
Дружак надзялялі.

Тады дзевак выганялі са стала. Бувалі такія случаі, што нават і білі, калі не хацелі ісці. Такі абычай буў. Ужэ дзеўкі пайшлі, малады сеў к маладой, паставілі на стол яец. Ідзе вяселле. Сталі дзяліць каравай. Вызывалі бацькоў спачатку, а потым усіх астатніх. Даравалі, што маглі. Потым завіванне. Завівалі маладую. Станавіліся чатыры маладыя жанчыны (трэба было, каб не ўдовы): дзве ад маладой рукі, дзве ад рукі маладога. Станавіліся на скамейкі, бралі платок і калыхалі яго над галавой. А яшчэ да гэтага пелі:

Пайшла мая маці
У кублішчэ на днішчэ.
У кублішчэ на днішчэ
Па шаўкове гапчышчэ.

Мы ж цябе, Анечка, завіваем,
Шчасцем, здароўем надзяляем.
Ой, будзь здарова, як вада,
А будзь багата, як зямля,
А будзь прыгожа, як рожа.
Ой, будзь здарова, як вада,
А будзь багата, як зямля,
А будзь прыгожа, як рожа.

А тагды завіванніцы знімалі фату, завязвалі хустку. І тады яны скачуць.

Завіванніцы скачуць,
Дак чаго яны хочуць?
Хочаць яны паўзалатога
Ад князя маладога.

Ён кідае ў стопку капейкі, трэба было выпіць да дна. Калі пераганялі завіванніцы ад маладога, то малады будзе хазяінам. І наадварот. Так гаварылі ў народзе.

Тады було гулянне обшчае. Малады збірае пасцель і вядзе жонку дадому. Цешчы даваў чобаты:

А дзе ж тыя чобаты, дзе зяць даў?
А за тыя чобаты дачку ўзяў.
Павешу я чобаты на ....
Хай робяць дзелачко за дачку.

Уязджаюць.

Закідай мае дровы
Дай будзь здаровы,
А свякроўка трэскі,
Дажыдайся нявесткі.
Не год я ажыдала,
Пакуль нявестку даждала.

Анечка на адыходзе
Пасадзіла арэх у гародзе.
Расці, расці, арэшаньку,
Майму тату на пацешаньку!

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Драка Марыі Дзмітрыеўны 1915 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.)***

Калісь бацькі саглашаліся. Як не саглашаліся, дык проста гаварылі: “Вось, хлопцы, не пойдзе яна замуж”. І ўсё, гарбузой ніякіх не выносілі. У сваты ішлі хросныя жаніха і бацькі, а тады, еслі яны саглашаюцца, змовіны гуляюць у еты дзень. Свадзьбу няможна было святкаваць у пост, на Пятро. А так усё ўрэмя харошае, тады ўжэ і свадзьбу гуляюць. Калі ішлі ў сваты, бралі гарэлку, хлеб абгортвалі палаценцам, а на бутылку завязвалі лентачку красненькую. Прыходзілі і казалі: “Ці ў вас цёлачка е?” Стаялі і таргаваліся, а потым бацькі нявесты запрашалі да стала і ўгашчалі. Нявесту прыбіралі дружкі і падводзілі ўжэ к хлопцам, дзе яго дружкі, дык падводзілі туды, а тыя ўжо выкуплівалі. Прыводзілі і падманную нявесту, смяяліся, шуцілі. Тады ж ужэ едуць, хто вянчацца, хто на роспіс. У цэркві вянчаліся, а тады на роспісі кольцамі абменьваліся. Вянец над галавой дзяржаў хлопец, а над нявестай – свяцілка. Калісь хораша гулялі. Калі ехалі з цэрквы, іх сустракалі бацькі, каля хаты дарожку ўсцілалі тканную. Едуць уперад туды, дзе памятнік стаіць, прагуляюцца, а тады едуць к маладому. Ля хаты ўстрачалі маці і хросныя. На вуліцу выносяць стол, водку і тут ужэ выпіваюць на дварэ хоць і зімою, хоць і ўлетку, усё роўна на вуліцы. Тады ўжэ і дарожку ўсцілаюць і ішлі па дарожцы ў хату етую. Яны ўжо, маладыя, ідуць за руку, адно другога вядуць. За імі ідзе іх свяцілка. Перад тым як ехаць у цэркву, абходзілі тры разы маці з бацькам. А не – дык храшчоныя маці і бацька, абходзілі коней. На свадзьбу ўкрашалі ёлачку. Дзеўкі прыносілі і ўкрашалі лентачкамі. Ставілі яе на стол у хлеб. Ёлачка стаяла пака не кончыцца свадзьба. Ёлку ўкрашалі з бумагі. Патом дзявай куды хочаш. Каравай калісьці пекла жэншчына, каб не ўдава была, каб добра з мужам жыла. Каравай учынялі ў дзяжы з вады і мукі, не салілі. На лапату клалі дубовае лісце і каравай садзілі. Хто рабіў булбушачкі, цыцачкі такія, дзелалі такія круглыя і даюць патом дзецям. Абычна хлопчыкі і

дзевачкі сабіраюцца, дык даюць ім. Ета яшчэ як не ехалі вянчацца. Каравай вынімаў хлопчык, і калі ішлі яго дзяліць, то выносілі яго над галавой хлопчыка. Караваі было два. Дзялілі ўперад нявесты каравай, а тады - жаніха. Каравай дзялілі хрышчоныя і ад яго рукі, і ад яе. А як не было хрышчонага, дык дзяліў дзядзька, каб не свае родныя такія, ці матка, ці бацька. Пасля таго як дзялілі каравай, расплятаі касу ў дзяўчыны і адзявалі платок, а платок давала свякруха. Расплятаі нявесту дружкі, свякруха падносіла на талерцы масла і спявалі:

Аддай, мамка, масла,
Аддай, мамка, масла,
Ад расы да расы,
Дай памазаць косы.

Гэта масла на талерцы бяруць яе падружкі, мажуць ёй косы, тады знімае вянок. Ды тады зніме, хустачку завяжуць, а хвату за ікону вешаюць. Пака свадзьба не кончыцца, яна вісіць за іконай.

Трэці дзень называюць “на крошкі”. Гатовілі, гулялі, даядалі, што засталося. Колісь гульня была па нядзелі. А тады ж не хадзілі па сялу, заходзілі к сваім, дак свае ў хату звалі. Да падзелуюцца цыганкамі, паабмурзваюцца, пазнаць няможна. Усё крадуць, дзе мыла якое, дзе што, ета насмешка была, а то і куры кралі. Цераз нядзелю, як ужэ маладую забіраюць, дак тады цераз нядзелю яна, яго бацька, яго матка, браты, родныя едуць да яе бацькоў у госці. І яе матка сабірае сваіх родзічаў. Ну то і гуляюць. Калі маладая ад’язджала да жаніха, матка пела так:

Ой, не плач, мамка, ты не плач,
Пойдзеш ты на рэчку плацце праць.

Ета як яе везлі к маладому, дык матка ж плача. Яшчэ пелі так:

Насеяла чарнабрыўцаў я цэлую граду.
Пайду ад цябе, мамка, я пайду.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

**Сваты**

Ідуць у сваты, засватаюцца, а патом сабіраюцца маладога радня і ідуць к маладой.

Бяруць сватом роднага бацьку, хрышчонага і яшчэ тры чалавекі бяруць, тады ўжэ ідуць сватаць. Могуць узяць і дружка. Вот, напрымер, з кім дружыць малады, ён і бярэ сваіх падруг за дружак.

Дагаварваліся загадзей, ужо ўсё было точна. Але і бувало, калі, напрымер, прыйшоў я ў сваты, высватаў яе, а тады яна закруціла, не хоча ісці.

Яны бяруць ету бутылку маю, што я прыносіў, хлеб мой, ручнік прыносяць. І прыносяць, гаворацць: “Мы ад вас адказваемся. Вот ета ваш хлеб, ваша соль”. Ета так дзелалі, калі адмаўляліся.

Ну а калі я прыйшоў у сваты, дагаварыўся ўжэ ўсё, то тады абычна дзеўка становіцца ля печы і ўжэ тады становяць на стол. Кажуць: “У вас цялічка прадаецца, і мы прыйшлі к вам етую цялічку купляць”.

Тады ўжэ па первай чарцы выпілі і дадому пайшлі. Ну а патом, як свадзьбу гулялі, бралі етую бутылку і прыходзілі. Як у нас гавораць, “баярэ” ўжэ ідуць к маладому. Там спраўляюць вечар, гуляюць свадзьбу, песні пяюць, танцуюць і ўсё такое.

Назаўтрае прыходзяць апяць жа, садзяцца за стол, как будта дзяліць каравай. Дружкі спяюць і ўжэ садзяць маладую за стол.

А яшчэ што забылася: нявесці дзелалі вянок. Ой, красівы рабілі вянок, не такі, як цяпер. Вянок еты рабілі жэншчыны. Як вянок рабілі, дык пры етым у нас ніхто нічога не співаў. А пелі тады, калі сажалі ў печ каравай.

**Каравай**

Каравай збіраліся пекці бабы, толькі штоб не ўдава. Форма абычная, хто якую захоча. На ім ўжэ ставілі зайчыкаў, крэсцікаў. Етыя зайчыкі і крэсцікі абазначалі, што каравай уродзі храшчоны.

Быў у маладой перад свадзьбай пасад, а ў маладога ўродзі не было. Калі маладую садзілі на пасад, то тады завівалі. Пелі пры етым так:

Дай жа, мамка, масла.
Ой, я да твае кароўкі пасла
Ад росы да росы,
Дай памазаць косы.

Тады матка дае масла ў ложку. Косы ўродзі чуць памажуць і завязваюць платок. Платок завязвала хросная.

Тады ўжо дружок каравай кроіць, дык ужэ співаюць:

Ой, наш дружок каравай кроіць,
А за ім да жана стаіць
Да семера да дзяцей дзяржыць.
Трэба сорам знаці, як дзіця гадаваці.

А вось калі скончылася свадзьба, прыводзяць ужэ маладую к маладому. А як ідуць ад маладога па маладую, каб яе прывесці к яму, то становяцца на парозі, бяруць свечкі. І тады імі водзяць, тры разы памяняюцца, а патом іх уместа.

На жаніха ці на нявесту песень не было, а вось на дружак былі:

Перва дружка – стружка,
А другая – да каробачка,

А трэццяя па часу ходзіць,
Да вячэра сына родзіць.

Пацыкаліся дружкі з свахамі. Тады хто куда: хто – у вакно, хто кудой скакаў. Яны ж грошы трэбуюць.

А тады што було… Дружка набярэ добра гарэлкі ў рот ды бяжыць да етаму дружку як плюхне ў вочы. А то ўжэ дружкі спяюць. Як ужо свахі маўчаць, дык яны гавораць: "Наша сваха нема – грэцку муку ела. Грэцка мука асобка – пазатыкала глотка".

Яны ўжэ, етыя свахі, тады хочаш-не хочаш – заспяюць.

Калі маладыя прыязджалі ад вянца, іх сустракалі бацька і матка з хлебам-соллю. Выносілі тады стол. Становяць бутылку, хлеб, соль. Там ужо па чарцы выпілі і засцілалі рушніком дарогу ім, як уродзі ўжэ да стала. Як ужо ўходзіць маладая, дык засыпалі жытам, пшаніцай. Так рабілі, штоб маладыя былі багатымі. Пры етым песні не спяваліся.

Каравай дзяліў той, хто хадзіў у сваты. Дзялілі абычна на другі дзень свадзьбы.

Пасля свадзьбы ўжо ў панядзельнік гулялі ў цыганей. Свадзьбу маглі гуляць і не толькі два дні, а дажа цэлую нядзелю. Абычна свадзьбы гулялі ўвосень, но і летам і зімой тожа можна, толькі ў пост не гулялі.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рышанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рышанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(перасяленцы з в. Маклішчы Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

Не гуляем вяселле на пасты. Да Пасхі тры нядзелі не гуляюць, на Піліпаўскі пост перад Калядамі не гуляюць, а ўжо на Троіцу, на Пасху, на самі Каляды - дык ось тады. Такое було, што гулялі па нядзелі, па тры дні.

У сваты ідуць хросны бацька, родны бацька, матка. Бяруць пірагі, абматваюць палаценцам, бяруць з сабою бутылку водкі і ідуць у сваты. Прыйшлі ў сваты, становяць на стол, ложаць етыя пірагі, становяць бутылку – і от сватанне. "Пойдзеш ты за майго сына, ці за майго пляменніка, ці хрэсніка?" І ўсё. І дагаворваюцца ўжо, на якое ўрэмя ўжо будзе гулянне.

Калі дзеўка не хацела ісці замуж за гэтага хлопца, то вярталі пірагі, бутылку. Кажа: "Не пайду за цябе!"

На заручыны сабіраліся, водку пілі ды гулялі родзічы, суседзі.

Кальцо адзявае бацюшка ў царкве. Маё кальцо адзявае яму – жаніху, а яго – ужо мне. А потым жа разменьваюцца. Маё ж кальцо яму не падыходзіць.

Перад тым як ужо сабіралі маладую к свадзьбе, дык гатовіліся ўжо. Сабіраліся. Хлопцы-друзья сабіраюцца ў маладога. К дзеўке ідуць ужо яе родственнікі. А потым ужо сабіраюцца ў кучу і гуляюць.

Гаспадыня напярэдадні свадзьбы сабірае маладых жэншчын і ўчыняе каравай. Жэншчыны спяваюць, свечкі паляць і пякуць каравай. І спяваюць

вясельныя песні. Пячэ, саджае абавязкова хросная маці. Яшчэ, калі прыходзіць у хату мужчына, то жэншчыны стараюцца яго злавіць да і памыць. Памыюць яго, потым палаценцам выціраюць дай прыбіраюць ужо.

Калі каравай спякуць, то выносяць у кладоўку, здымаюць века з хлебнай дзежкі, а потым ложаць туды палаценца, а наверх – каравай.

А калі ўжо нясуць каравай да стала маладым, то каравай ужо гэты так падымаюць высока:

Высока каравай нясе,
А ён чубам трасе.
А трасі-не трасі –
Нам караваю дасі.

Потым ужо каравай гэты рэжуць кусочкамі. Дружок рэжа каравай ці хто з радзімы. Рэжа каравай па кусочкам, гукаем:

У нашых маладых
Есць айцец і маць,
Штоб ласкавыя былі
Ды на каравай прыбылі.

От ужо айцец і маць ідуць на каравай. Бяруць па чаркі, паспытаюць у іх: “Ну што вы дарыце? Вала, ці карову, ці гуся, ці парася?” Дараць што е, грошы ложаць. А потым гукаюць другога чалавека, родственнікаў, трэцяга, потым друзей, дзевачак і хлопцаў.

Было два каравая – маладой і маладога. Дзялілі з абодзвюх старон. Каравай маладой рэжуць у хаце маладой, а каравай маладога – у хаце маладога. Разам не дзеляць. Спачатку гукаюць хросных, потым дзядзьку з цёткай, потым дзевачкі, падругі, хлопцы.

На лаўку сцелюць кажух і садзяць маладых.

Перад тым як прыедзе малады, маладую прыбяруць і вядуць у другую хату падругі яе. А ўжо дружкі з маладым шукаюць нявесты і выкупаюць яе за грошы. А бывае, што і так наравяць, без грошай, лезуць з усіх старон, але ж выкупу не аддаюць.

Пасля ўжо свадзебнай ночы вянок снімаюць і адзяваюць хустку. Гэта значыць, што ўжо не дзяўчына, дзеўка, а жанчына. А вянок вешаюць на кут, дзе ікона. А платок адзяваюць тыя, хто завіваюць, хросная, замужнія жанчыны. Завіваюць толькі парныя жанчыны, у якіх мужык ёсць. Такія жанчыны, ім лет па сорак. Заўюць, а ўперадзе дзеўкі-падружкі. А як ужо завіваюць маладую, так хлопцы бяруць папругу ды і б’юць гэтых дзевак. Потым малады са сваім дружкай просяць грабышка. Ужо купляюць грабышка і расчэсваюць яе. Кідаюць мелкія дзеньгі у стакан з гарэлкай, п’юць, а потым дастаюць, штобы грабышка купіць.

У царкве рукі маладога і маладой звязваюць платком і абводзяць вакруг стала з іконай тры разы. Пад ногі сцелюць палаценца. Кольцамі мяняюцца, і рукі развязваюцца.

Як маладая пакідала свой дом, дык абавязкова кідала пірог праз сябе: прашчалася з родным домам.

На наступнай нядзеле ўжо маладыя з бацькамі прыязжаюць к свату ў госці, гасцююць.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

У сваты хадзілі бацька і маці жаніха. Ішлі яны з пірагом ды гарэлкаю. Высватуюць, а тады ўжо гатуюць на вяселле ды гатуюцца к вянцу, вянчаюцца. Пасля сватання былі заручыны. На заручынах ужо пярсцёнкі адзявалі. Перад свадзьбаю маладая сабіралася са сваімі дзеўкамі і падаркі адна адной давалі. Дзеўкі песні спявалі, але ўжо жалабныя. Абязацельна на вяселле пяклі каравай. Пеклі яго хросныя маці з бацькам. Увесь час песні спявалі. Бацьку хроснаму завязвалі палаценца, калі ён нёс ставіць каравай у печ. Калі паставіць каравай у печ, то ўжэ другія бабы стараюцца яго ўмыць вадзічкаю. Потым ужо каравай вымаюць і ставяць у клець. У час вяселля яго дзялілі паміж гасцямі, а яны ўзамен давалі маладым гасцінцы ці грошы. Калі малады з сваёю дружынаю прыязджаў да маладой, то дзеўкі маладыя іх не пускалі. Закрывалі вароты – жэрдку на дзверы ставілі – і не пускаюць, пака ім маладые не дадуць. Калі ўжо маладыя сабіраліся да вянца ехаць, то іх павозкі абсыпалі жытам. Калі з вянчання прыедуць, то іх з хлебам-соллю сустракалі і палаценцэ прасцілалі ад парога да дзвярэй. Калі ўжо маладыя заходзілі туды, дзе вяселле будуць спраўляць, іх абводзілі тры разы вакол стала і песні спявалі. Услед за маладымі шлі астатнія госці з платочкамі, а пасля ўжо садзіліся за стол. Жаніх і нявеста сядзелі на пасадзе – вывернуты кажух. У час вяселля бабы ды дзеўкі ўсе завівалі маладую. Спачатку песні спяваюць, а потым паўскакваюць ды ідуць да маладой. Вось падыдуць ды вянок знімаюць, расчэсваюць валасы, гарэлкай на галаву трошкі пальюць і хустку завязваюць. А вянок той як зніме, то за ікону кладзе. Калі ўжо ў маладой пагуляюць, то едуць да маладога. Калі ўжо маладая з бацькоўскага дома ідзе, то вельмі плача, а астатнія песні вельмі жаласныя пяюць. Калі да маладога прыязджалі, то вяселле працягвалася далей. Пасля вяселля ўжо на другую нядзелю ездзяць адзін да аднаго ў госці. Гэта называлася перазовы.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

У час вялелля спяваюць наступныя песні.
На заручынах:

Заручаеш, мой татачка, заручаеш,

А чаму ж ты не пытаеш,
А ці добры свёкарка, шчэ і свякруха,
А ці добры дзеверка, шчэ і залвіца,
Да ці пусцяць пагуляць на вуліцу?

Як да вянца едуць:

Ой, горы, горы, даліны,
Беглі конікі чатыры,
Везлі карэту сінюю
Да вянчалі дзевачку сілаю.
Не так сілаю – за грошы,
Вельмі хлопчычак харошы.

Калі едуць па маладую:

Да хлопчыкава маці
Па двару пахаджае.
Па двару пахаджае
Да на зоры паглядае.
Да на зоры паглядае:
Да ці ясная зара,
Да ці добрая пара.
Да маяму дзіцяці
Да ў дарогу ўязджаці.
Да ў дарогу ясну,
Да па дзевачку красну.

Як сустракаюць каля цесцева двара:

Каля цесцева двара
Да каменная гара.
Да каменная гара,
Да шырокая даліна.
Да шырокая даліна,
Цёмненькая хмара.
Ох, я ж тую гору
Да конем пераскочу,
Да шырокую даліну
Стрэлкаю перакіну,
Цёмненькую хмару
Хусткаю размахаю,
Я сваю дзевачку
Між дружак пазнаю.
А ў мае дзевачкі

Па плечкі косачкі,
Па плечкі косачкі,
Пад вачамі слёзачкі.

Калі забіраюць маладую:

Да чаго ты, дзевачка, без кубла
Ды кудзелькі не скубла?
Ці табе мамка не давала,
Ці самой ахвота не брала?
Хоць плач, мамка, хоць не плач,
Да пойдзеш на рэчку плацце праць.
Да памерзнуць ручкі, як driучкі,
Да пазнаеш, мамка, як без дачкі.
Памерзнуць ручкі сіненька,
Ды вымыеш сарочку бяленька.

У маладога:

У новым да калодзежы
Там дзевачка ваду брала.
Там дзевачка ваду брала
Да ў свой край паглядала.
Заглядзела два галубчыка:
– Ох, вы мае два галубчыкі,
Да й ляціце ў маю старану,
Накажыця майму бацюхну:
Ой, калі я запрададзена,
Няхай ідуць адкупляць.
А калі так аддадзена,
То я буду прывыкаць,
То я буду прывыкаць
І свёкарка таткай зваць.

У хаце:

Ай, свацц累–сватачка,
Да пусці ў хатачку.
Мы лаўкі не паламілі,
Сядзем на прыпячку,
Забярэм тваю дочку.

Калі свечкі зводзяць:

Прыступі, сваха, да мяне,

І ў цябе свяча, і ў мяне.
У цябе дзіця і ў мяне.
Да звядом свечкі да ручкі,
Да звядом дзеткі да паркі.
Сваха з свахай цалаваліся
На сенечным парозе
Да на лютым марозе.

Як дарылі ельца:

Адчыняй, мамка, дзверцы,
Панясуць дзеўкі ельца.
Адчыняй жа другія,
Паедуць маладыя.
Вілі вілейка на сяле
Да паставілі на стале.

Як месяць каравай:

Караваю, мой раю,
Караваю, мой раю,
Я ля цябе іграю.
Ручкамі да бяленькімі,
Ручкамі да бяленькімі,
Перснямі залаценькімі.

Як каравай садзяць у печ:

Печ наша рагоча,
Караваю хоча.
А прыпячак стогне,
Караваю не ўздохне.

Калі каравай нясуць у хату, спачатку на вечка кладуць палатно, на яго ўжо каравай і нясуць на стол. Паставілі і кажуць:
– Ацец-маці, благаславіце караваю начаці.

Гавораць так тры разы, і тры разы яны ў адказ:
– Бог благаславіць!

Тады ўжо дзеляць каравай і жадаюць маладым:
– Дарую табе шчасце і долю, і век доўгі, і тую цяліну, што скача з печы на паліну.
– Дарую заладу бочку, каб былі сыны і дочкі.
– Дарую белую гусь, каб славілісь на ўсю Беларусь.

Як каравай дзеляць:

Слухайце, бяры, што мне татка даруе.
Да даруе татка двенаццаць кароў.
Да двянаццаць кароў, да пятнаццаць авец.
Да калі б жа таму да праўда була,
То б я, маладая, багата була.
А калі даруе, дак няхай Бог пасе,
А як не даруе, няхай воўк нясе.

«Дзевяць-вечар»:
Ці я ў цябе, мая мамка, не дзіціна,
Ці я ў цябе дзелейка не рабіла,
Што мяне проці ночкі гоніш прочкі
Да й не даеш праваднічка ніякага.
А дай жа мне праваднічка хоць малога,
Хоць таго салавейку лугавога.
Пасаджу я салавейку ў каравацi,
Салавейка будзе рана шчабятаці,
Будзе мяне, маладую, пабуджацi.

Завівальная:
Чаго мы жадалі, то мы зрабілі:
З цеста – паляніцу, з дзеўкі – маладзіцу.

Ой, казала наша Ганначка:
– Замуж не пайду!
Пасеяла чарнабрыўцы на цэлую граду.
Расціце, чарнабрыўцы, не буяньце,
Не выходзьце, дзеўкі, замуж ды гуляйце.
Пабуялі чарнабрыўцы, не выраслі.
Павыходзілі дзеўкі замуж, не гулялі.

Ой, у полі ёсць калодзеж, сцюдзёна вада,
Там дзяўчына ваду брала,
Красіва, малада.
Ты дзяўчына, ты рабіна,
Ты няверная душа:
Гаварыла, любіць буду,
А сама замуж пайшла.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны 1930 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюкова М. (2003 г.)***

## Вяселле

Тады вілі такую хвою, вырубывалі яе, прыбіралі яе, і ета называліся ўёльца, да. Сасну цвятамі ўбіралі, вот.

Збіраліся людзі, гуляюць, спяваюць, танцуюць. А тады ўжо пагуляюць трохі, хвату ету снімаюць, зав'яжуць платком. Эта называлася ў нас завіванне. Знімуць вянка з хватою, тады ўжо дасць матка масла, дак памажуць косы етым маслам. Расплятуць, расчэшуць і закручуюць ужо чуб. І ўжо етае называлася маладзіца.

Пеклі два караваі: ад маладога і ад маладэ. Ад маладэ дзеляць маладэ радні, а маладога – маладога радні дзеляць каравай. На каравай ужо лажылі падаркі.

У нас называлось это пеўні, ужэ на трэці дзень свадзьбы, вот. Ну, там адзяваліся ўжо цыганкі: кажух пераварачувалі, мужчыны адзявалі, а жэншчыны адзявалі шырокія спадніцы, кохты там, платкі бальшыя. І бяруць курыцу ілі пеўня, цапляюць за ногу і ходзяць па сялу, па гэтых хатах. Ну, ето хто ў свадзьбі ўчаствуе і ходзяць, і збіраюць этых курэй. Кажды дае курыцу. А тады прынясуць на свадзебны двор і гуляюць.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

## Сватанне

У нашай вёсцы бралі сватоў любога ўзросту, выбіралі дружак, якіх перавязвалі белымі палаценцамі. Калі заходзілі ў хату, першымі ішлі дружкі і пачыналі размову з бацькамі:

– Чулі мы, што карова тут прадаецца.

– Прадаецца.

– А ці старая, ці маладая?

– Маладзенькая.

Потым садзіліся за стол, жаніх каля нявесты.

## Вёльца (“Віццё вельца”)

Вёльцы вілі ў першы дзень вяселля. Маладыя хлопцы прыносілі ёлку, якую і называлі “вёльца”. Яе ўпрыгожвалі, а зверху ўтыкалі свечку. Вёльца неслі дружкі і ішлі ў дом да маладой. Дома вёльца абрывалі і ўкладвалі, утыкалі ў хлеб.

Потым пачынаўся выкуп маладой, а яна пратаецца. Дружкі спяваюць:

Ох, хвоя зелена
У бару стаяла, шумела, шумела,
Скора ўпала – завяла,
На стале стаяла – заззяла.

Потым маладую “завіваюць”. З жанчын выбіраюць трох найбольш шчаслівых, а таксама бяруць трох хлопцаў. Жанчыны і хлопцы ідуць да кута за рукі па парам. Свякруха дае маладой платок і пяюць:

Ці ў цябе, мамка, карова не паела,
Што ты мне пажалела на галаву масла.
Пасла кароўкі, пасла цыплятко ад зары да зары.
Што хацелі, то зрабілі:
З цеста – паляніцу, з дзеўкі – маладзіцу.

Маладых накрываюць платком і стукаюць галавамі. У нявесты знімаюць вянок і вешаюць на куту, а яе пачынаюць расчэсваць, а тыя тры жанчыны з хлопцамі ў гэты час стаялі ля кута, потым бягуць на лаўкі і хто быстрэй з іх саскоча: жанчыны ці хлопцы. Калі жанчыны, то галоўнай ў сям’і будзе жонка. Калі хлопцы – мужык.

Потым садзяцца за стол і ядуць. У час вяселля дзяўчына павінна заплакаць, каб потым не плакаць у жыцці з мужам.

***Запісана ў в. Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на***
***ад Зенчанка Лідзіі Парфёнаўны, 1932 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Іванчык Т.***

Сначала ў сваты ішлі. Тры сваты ішлі: жаніх, бацька яго родны і хросны бацька. Гарэлку бралі з сабой дай ішлі. Як дзеўка не хацела замуж ісці, дак вып’юць са сватамі дай разойдуцца. Хто ж сілай браць будзя.

Як дагаварыліся, дак тады ўжэ гатуюцца к свадзьбе. Дзявішнік перад свадзьбай рабіла. Сабірала падружак сваіх і гулялі. Нявеста свякрухі падарак дзелала, а жаніх нявесці ўжэ плацця купляў, тухлі. Вянкі з бумагі цвятной дзелалі і з васкавымі свечкамі.

Матка маладой прыданае гатовіла. Шкаф, падушкі, пасцель – усё матка даўжна даць маладой. Пасля свадзьбы ета ўсё к жаніху перавозілі. Уціраннікі матка сабірала, скацеркі, посцілкі, ну і ўсё, што было.

Два караваі пяклі на свадзьбу: у маладой адзін, а другі ў маладога. Пеклі каравай жэншчыны харошыя, што адзін раз замуж толькі выходзілі і добра жывуць.

Як з цэрквы прыязджаюць маладыя, дак засцілалі дарогу ім ручніком.

Устрачаюць маладых матка і бацька з хлебам і соллю ля ганка, цалуюць іх. Жыта на іх сыплюць, каб багатыя былі.

Як завіваюць маладую на другі дзень, дак косы толькі расчэсуюць, падразаць няльзя. Завязуюць хустку ёй, а вянок здымаюць. Просяць у маткі: “Мамка, дай масла, свае кароўкі пасла”. Ужэ матка падае грабушка, хустку. Паставяць хросную ці цётку родную. Ну, от такіх з радні бяруць. І тыя ўжэ расчэсваюць, спяваюць песні. Завязуюць хустку і ўжэ ўсё – маладзіцу зрабілі:

Брат сястрыцу расплятаў,
Да дзе тыя ўплёты падзяваў,
Да меншай сястрыцы падараваў.
На ж табе, сястрыца, сястрын знак,
Да судзі табе Божа, сястрыца так.

От етую нядзелю гуляюць ужэ свадзьбу ў маладой і маладога. А ў тую ўжэ суботу заве матка нявесты да сябе маладых, бацьку і матку маладога. А ўсю нядзелю послі свадзьбы дачка к матцы ў госці не ходзіць. А як матка ўжэ пазаве чараз нядзелю, дак тады ідзе.

Гасцей на свадзьбу звалі сталоў на два, на тры, як хто сумея.

У панядзелак пасля свадзьбы ходзяць цыганя, надзяюцца ў цыганскае і ходзяць па хатах. Хто што дасць, дзе ў каго куру ўкрадуць. Гатовяцца, а ўвечары зноў гуляюць. Ета ў панядзелак на куры ходзяць. І так аж да суботы гулялі, нядзелю ўсю. Танцавалі, спявалі, весяліліся.

Як снег ці дождж будзе ісці, дак багатыя маладыя будуць.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Каральчук Любові Іосіфаўны, 1937 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

Ужэ назаўтра ў жаніха гуляюць. Сабралі ружжы з палак, вайну ўстроілі. Шуткамі вайна. Адгулялі свадзьбу. Ужэ канец свадьбы, нада хвату зняць. І з хлопцавай рукі, і з жаночай – жэншчыны, якія адзін раз былі замужам. Чатыры з адной стараны, чатыры – з другой стараны. І хто хутчэй пойдзе замужам.

Знімае свякроў вянок і свой павязвае платочак. А вянок вешаюць у куту на ікону. А сваты, што з перавязанымі палаценцамі, каравай дзеляць. І з той, і з той стараны. На блюдзечках разносяць караваі па залу. Ужэ свадзьба ідзе, гуляюць. Усе прыглашоныя падаркі маладым на каравай кладуць.

Маладая цэлых шэсць дней не ідзе к сваёй маме. Не паложана. Чэраз нядзелю прыходзяць к маці на пірагі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Я раскажу, як наша свацьба была. Сітцава плацце было ў мяне. Фата была зялёна. Сасну ўбіралі цвятамі, называлася в’ёльца. Госці збіраліся, фату здымалі і платок адзяваюць. Дасць матка масла, памажуць косы, расчэшуць і закруцяць косы і ў чуб і называюць ужо маладзіца. Два караваі – ад маладога і маладой. Пярагароджвалі дарогу паленам, каб далі магарыч. На трэці дзень – на пеўні. Адзяваліся па-цыганскі, бяруць курыц ці пеўня і ходзяць збіраць курэй ў мяшок. Прынясуць у свой двор і патушаць іх, і гуляюць.

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,*
*Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.*
*(перасяленцы з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Прудніkавай І.*

У сваты хадзілі сватавы радзіцелі, дружкі дзеўкі. У сваты не хадзілі хросныя, яны толькі на каравай і ўчаствавалі ў свадзьбе.

На сватанне, ой, хораша было, пелі песні:

Я з'ела качана, качана,
Штоб сваха песеньку зачала.
Сваха качана з'ела,
Песню не дапела, штоб яна не мела.

Каравай як пякуць, дак ужэ тут участвуюць хросныя.

Як ідзеш у сваты, бярэш пірог, бутылку гарэлкі, завязвалі краснай лентай, булка хлеба і ўсё.

Калі дзеўка ўжэ перадумала ісці замуж, то яе матка казала: "Галянішчы папяклі (спяклі)".

Абавязкова было вянчацца ў царкве, мала было тых, хто не вянчаўся.

Пасля сватання былі заручаны. Прымерна засватаюцца змовінамі, ета і называецца заручынамі. У час заручын персняמі не абменьваліся, толькі як пад вянцэм бацюшка. А ўжэ як бацюшка вянчае, тады ложыць на тарэлачку етыя две кальцэ. Калі канчае венчаць бацюшка, тады ён бярэ, надзявае кальцо, а я – яму (хлопцу).

Пасада нявесты на дзяжу не было.

Абавязковых страў на вяселля не было: што было ў каго. Што тады было? Маглі нагатовіць халоднае, мяса пяклі, піражкі розныя, сырнічкі, катлеціні...

Да вянца едуць, з вянца едуць, дружкі пяюць. Калі ехалі з вянца, перапіналі дарогу, дажа ні ў адным месцы. І там перапыняць, і там перапыняць:

Ой, не пераходзьце, варагі, дарогі,
Няхай пярэйдзе Гасподзь Бог
І родны бацька на парог.

Не дай Бог сустрэць на дарозе пахаванне, таму што нехта з маладых хутка памрэ.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)*
*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

У сваты прыходзяць бацька з маткаю, хросны, малады, дружка бярэ з сабою, і ўжо яны прыходзяць і сватаюцца. Прыносяць хлеб-соль і спрашаюць: “Каго вы тут замуж аддаеце?” Ну, маці і гаворыць: “Так, так, дачку”. Садзяцца, піруюць, угашчаюцца. Каб дзяўчына адмовіла хлопцу, калі прыйшлі сваты, такога не было ў нас у старасці. Еслі мы па сагласію жэнімся, то нікагда жанчына не адмаўляла свайму сужанаму. Нікагда, ета всегда было па закону. Калі праходзіла сватанне, не спявалі, спявалі, як праходзіла свадзьба, ужо як маладую завівалі, вяночак знімалі і патом ужо маладую адпраўлялі да свякрові.

Ужо свадзьба праходзіць, гулянне праходзіць, патом маладую ўжо завівалі, вяночак знімаюць з галавы, і маладая гаворыць ужо так:

Давай, мамка, павячэрайма,
Павячэрайма да й падзелайма.
Табе, мамка, не ты бедзечка,
А мне, мамка, палаценечка.
Табе, мамка, пасталыя боры,
А мне, мамка, усе прыборы.

Ужо тады пелі розныя песні:

Я цябе, мая мамка, не дзіцятка,
Што адпраўляеш мяне ўночкі проці ночкі.
Я цябе, мая мамка, не гарую,
Што адпраўляеш мяне замуж маладую.
Ой, дай жа мне праўседнічка маладога,
Да таго жа салавейку лугавога.
Салавейка будзе рана шчабятаці
І будзе мяне, маладую, пабудзіці.

Канешне, былі абавязковыя стравы. Там торт такі красівы пеклі. Гасцей угашчалі ў доме і людзям нават вынасілі, каторыя не ўчаствавалі ў свадзьбе.

Заўсёды пеклі каравай. Каравай пеклі, штоб жэншчына была не разведзена, а штоб жыла толькі са сваім мужыком. Каравай пеклі не хросныя, а пастароннія, тыя, хто добра жыў у браку. Саджалі каравай на лапату ў печ рускую. Каравай дзяліў хросны з адной рукі і з другой рукі: ад маладой і ад маладога, і давалі два дружкі, там дзядзькі можа якія. Яны дзялілі каравай і ўсім раздавалі. І далжны яны быць толькі ўпяцёх, непарныя штоб былі. І патом етат каравай ужо дзялілі, прыглашалі, угашчалі і чаркаю, і хлебам, і соллю, і чым было. Патом, еслі каравай аставаўся, каравай і палаценца з-пад караваю аддавалі музыканту, бо былі музыканты і з бубенчыкамі, барабаны булі, і патом ета палаценца аддавалі гарманісту, каторы іграў свадзьбу.

Калі прыходзілі ў сваты, то іх, сватоў, перавязвалі накрэст. І ўжо як каравай дзяліць, тожа перавязвалі.

Быў пасад маладых. Садзяць маладую і маладога не на дзяжу, а на кажуха. Кажух падсцілалі, і там малады з маладою сядзелі, пака ім ужо каравай не падзеляць, яны ўсягда сядзелі на кажуху. На пасад маладых вялі хросныя. Ужо после таго як свадзьба праісходзіла, тады зяць цёшчу должэн абуць у свае сапагі ілі туфлі, ілі што, і патом свае нарады адзяе зяць цёшчы, і цёшча ўжо патом усіх угашчае і спяваюць песні:

Ой, чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мне.
А за ета чобаты зяць мне даў,
А за етыя чобаты дачку ўзяў.

На пасад маладых вялі за платочак. Ніякіх дзеянняў над маладымі не здзяйснялі. Толькі на каравае ставілі і запальвалі свечкі. Тады спявалі:

– Ой, мамачка, дай мне масла,
Я ж твае каровачкі пасла.

А тады маці казала:

– Сват, дык дайце мне на грабяшок
Грошы, трэба ж маладую расчасаць.

І хустку ўжо тады знімаюць да расчэсваюць, а сваты ўжо даюць грошы.

Калі прыязджае малады, шукаюць маладую, дзе яна. А етыя дзевачкі, каторыя ў яе дружкі, хаваюць яе, а малады потым выкуплёвывае яе. Пры гэтым ён нясе магарыч, там грошы, ета іхняе дзела было. І маладую ўжо патом малады вязе ў цэркву. Перад гэтым да маладога маглі падвесці дзяўчыну, пераапранутую ў маладую, і сказаць:

– Ета твая?

Тады ўжо сваты крычаць:

– Ета не мая, ета не наша маладая, ета саўсім другая, дзе вы яе ўзялі?

Патом ужо і трэці раз падводзяць і зноў сваты гавораць:

– Ета тожэ не наша, не наша! Давайце нашу, што перад намі пляша.

Потым падводзяць нашу, і ўжо ўсе ў ладкі плешчуць і кажуць: “Ужо наша, наша, наша”. І вот ета нявестка нясе свякрусе падарак. І цераз стол яна ўжо далжна пацалаваць свякруху. У гэты час маладым даюць стопачкі, і штоб яны назваліся па сваім іменам, і сказалі адзін аднаму: “Будзі здароў! Гэта рабілася, штоб яны ўсю жызнь называліся іменем, а то бывае, што мужык жонку не можа назваць па імені. А тады, еслі ты не назавеш імя жаны ілі мужа, табе не разрашаць. І патом етай маладой даюць нож, штоб яна разрэзала хлеб, каторы стаяў на стале, дзе запальвалі свечкі, штоб еты хлеб раздаўся ўсім па сталу.

Да вянца маладых праважалі іконай і абсыпалі відукам-макам, каб на іх не нападала ніякае гора. Пасля вянца іх ужо сустракалі мама, бацьба, хросныя

на парозе, паслалі палаценцы ілі дарожкі, і маладых праважалі ў хату, і заводзілі іх за стол, і на кажух садзілі.

Калі ехалі маладыя з вянца, ім перапіналі дарогу, і сталы ставілі, і стулья ставілі, і людзі ўсягда встрачаюць маладых з хлебам-соллю. Спявалі такія песні:

Ой, людзі, варагі, не пераходзьце дарогі,
Не пераходзьце дарогі,
Бо стаўчэм мы вас пад ногі.

Гэта ўжо пелі, як маладую везлі да маладога. Маладая тады ўжо брала хлеб, завертаны ручніком, бо калі маладая заходзіць у хату да маладога, то кідае еты ручнік з хлебам у шыйку ў печы. А дзядзька, хросныя, бацькі нясуць падарак, якія падарылі на свадзьбе, на караваі.

У час вяселля плакала маладая, плакалі і бацькі яе. Чаго плакалі? Да аддаюць дачку ў чужую сям'ю. Пелі:

Аддавалі маладу да ў вялікую сям'ю,
А вяліка сям'я ўся вячэраць пасела.
А вяліка сям'я ўся вячэраць пасела.
А мяне, маладу, адпраўляюць па ваду.
Як па ваду пайшла, да крыніцы не дайшла,
Пакуль крыніцу знайшла, дак слязамі залілася:
Ой, пайду я дамой, ды паслухаю я,
Дай паслухаю я, што гаворыць сям'я.
А вяліка сям'я навучае мужыка:
– Чаму жонку не б'еш, чаму волю ёй даеш?
– А за што ж яе біць, як яна ўмее ўсё рабіць:
І чытаць, і пісаць, і па садзіку гуляць.
І чытаць, і пісаць, і па садзіку гуляць.
І варыць, і паліць, і са мною гаварыць.

У час вянчання беражылі, каб не свечка, не кальцо не ўпалі. Гэта была дрэнная прыкмета.

Калі маладыя садзіліся на дзяжу і малады ведаў, што яго жонка ўжо была з ім, то ён мог забуксоліць гэту дзяжу, злазіў з яе першы.

У маладых быў вечар пасля сватання, перад вяселлем. Тады ўжо збіраліся дзяўчыны і гулялі самі сабе, гэта іх былі справы.

Булі пярэзвы. Чэраз дзесяць дней пасля свадзьбы нас перазывалі. Нас ужо матка з бацькам перазываюць зяця з дачкою. І мы ўжо там гулялі. Ета былі пярэзвы. Пасле свадзьбы дачка не далжна к бацькам хадзіць, пака бацька з мацераю не перазавуць. Тады ўжо пелі:

За гарою, за крутою
Цёмна хмарка стала.

Васілёва родна маці
Каня напавала.
Васілёва родна маці
Каня напавала.

Матрасёна на раке,
Аленькія губкі,
Вазьмі мене з сабой,
Хоць у вадной юбкі.
Вазьмі мене з сабой,
Хоць у вадной юбкі.

Паля, вы паля,
Вы харошыя паля.
Ой, чаго на вас, паля,
Ураджаю няма?
Ой, чаго на вас, паля,
Ураджаю няма?
Толька вырасла адна
Кучаравая верба,
А пад той пад вярбой
Салдат ранены ляжыць,
А ў его галавы вараной
Конь стаіць.
Ой, ты конь, ты мой конь,
Ты не стой перада мной.
Ой, леці ты ж, мой конь,
В Беларусію радную
Да й скажы ты, мой конь,
Што я ранены ляжу.
Да й скажы ты, мой конь,
Што жанаты хажу.
Абвянчала меня
Пуля быстрая.
Ажаніла меня
Шабля война.
А за маці была
Маць-сырая зямля.
А за жонку была
Кучаравая вярба.

Цячэ рэчанька невялічанька,
Скочу, пераскочу.
Ой, аддай мене, мая мамачка,
За каго я хочу.

Ой, аддай мене, мая мамачка,
За каго я хочу.
Я кагда вяла, прыказывала
Госцем не бываці.
Ой, як там табе, мая донечка,
Воды насіць у хаты.
Ой, як прыйдзеш ты,
Мая донечка,
То я выганю з хаты.
Прыляцела ў сад,
Сад зелёненькі,
Стала кукаваці.
Стала кукаваць,
Ды прыказываць
Як жыць на чужбіне.
Стала кукаваць,
Жалю надаваць,
Як жыць на чужбіне.
Мая мамачка
Стаіць у варот,
Ручнік вышывае.
А малодшы брат
Стаіць у варот
Руж’ё запраўляе.
А малодшы ж брат
Стаіць у варот
Руж’ё запраўляе.
Дазволь, мамачка,
Дазволь, родная,
Ту зязюльку ўбіці,
Бо яна куе,
Жалю дадае,
Не магу я жыці,
Бо яна кукуе,
Жалю дадае,
Не магу я жыці.
Не пазволю я,
Роднае дзіця,
Ту зязюльку ўбіці,
Бо яна кукуе,
Як маёй дачцэ
Гора на чужбіне,
Бо тое зязюле,
Як маёй дачцэ,
Гора на чужбіне.

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),*
*Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,*
*Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)*

Каб я сустрэлася з яго маткай, не, бегла агародам, я нікагда не встрэчусь, калі яго матка ідзе – хавайся. Сцясняліся. Но, а ён так гляне, што цешча, як з-пад ілба.

Но свадзьба. Прыходзіць малады, я сваёй маме сціснялася гаварыць. Я кажу яму: "Сам кажы". Я выйшла, а ён ужо сам гавора: "Я хачу на вашай дочцы жаніцца".

**Сваты**

Сваты потым прыходзяць, дагаварыліся, на якую суботу, гатовімся.

Ён можа ўзяць у сваты брата, бацьку, матку, хросны. Прыходзяць, кажуць усе, калі харошы такі сват, то гавора многа, а калі не, так гавора мала. Гавораць: "Можна забраць вашу козку? А так дзе яна, можна паглядзець?" А я на печы, я ж не паказваюся. А матка кажа: «Як панравіцца, так берыце». І ён узяў, а я маладзенькая была, стаю і плачу. Я выходжу, а яго бацька кажа: "Нашы дзеньгі стояць заплаціць за яе". Гэта ўсё ў сенцах было, а потым заходзяць у хату за стол. Потым ужо гавораць, дзе, калі свадзьба, мы не ўмешваемся.

**Вяселле**

Ну, пасваталіся, сватам падаркі, абавязкова падаркі. Усім даем, што е. А на свадзьбе яны даюць, зяць цешчу абувае, купляе ёй боты новыя, абувае. Бывае такое, што не дагаворацца, а боты не лезуць, і нікуды іх. А тады ўжо пагулялі, і я ўжо іду да яго. А пакуль у яе гуляюць і ў яго – у дзве хаты.

Гуляюць, колькі пазваляе, могуць і нядзелю. А тады прыходзім к яму, паглядаеш на свякруху, паглядаеш на стол, што яго ўбраць. Я ж маладая была, я свякруху мамай не называла, вот не назвала. Я гавару: "Вы не абіжайцеся, мне давайце любую работу, толькі не гаварыць "мама".

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Адаменка К. (2003 г.)*

Да таго як пайсці ў сваты, бацькі маладога збіраліся дома і абмяркоўвалі, якую нявесту яму браць. Выбіралі заўсёды працавітую дзяўчыну, якая магла прасць, ткаць, вышываць. Казалі, калі маці – добрая гаспадыня, то і дачка будзе такая, але ж і на прыданнае адводзілі не менее ўвагі, каб з добрай была сям'і.

Бацькі маладой аб тым, што да іх прыдуць сваты, не ведалі, але ж нявеста была заўсёды гатовая да прыходу сватоў, бо яны маглі прыйсці ў любы час.

**Сваты**

У сваты хадзілі чатыры-пяць чалавек: бацькі маладога, хросныя яго і сам малады. Апраналіся па-святочнаму, бралі з сабой два боханы хлеба, якія заварачвалі ў рушнік. Заходзячы ў хату, пыталіся: “Мы чулі, што ў вас е цялічка?” А ім адказвалі: “Ёсць”. Тады яны казалі: “А ў нас ёсць бычок”.

Сваты клалі на стол хлеб, адзін бохан, а маці клікала дачку, якая знаходзілася ў суседнім пакоі. Яна выходзіла і калі ёй падабаўся жаніх, то ў знак згоды яна разразала хлеб. Другі бохан хлеба клалі на кут, дзе вісела ікона, і знаходзіўся ён там да вяселля. Калі нявеста згодная, то паднімалі першую чарку. Вып’юць і дагаворваюцца, калі будуць гуляць вяселле.

Нявеста абавязкова павінна была адарыць сватоў падаркамі, часцей гэта была рубашка, хустка, рушнік, які яна сама вышывала для свякрухі. Хто быў багацейшы, той пасля сватання гуляў яшчэ і замовіны. Але ж часцей пасля сватання гулялі вяселле.

**Пеклі каравай**

Вялікую ролю ў прыгатаванні да вяселля адводзілі выпяканню каравая. Бацькі маладой запрашалі для гэтага рэтуалу толькі замужніх жанчын, якія добра жылі ў шлюбе.

Пры рашчыне цеста для каравая жанчыны прыгаварвалі: “Каравай родзіць у полі, а сям’я – у долі”.

Цеста мясілі, не сціскаючы кулак, каб маладыя добра жылі, не сварыліся. Жанчыны, якія акружалі каравайніцу, казалі ёй, каб яна благаславіла каравай, каб ён добра выпякся. А яна ў адказ ім гаварыла: “Бог благаславіць”.

Лічыцца, што калі каравай ападзе ці расколіцца, то гэта прадвяшчала нешта нядобрае ў сям’і маладых: ці хто-небудзь памрэ з іх, ці разойдуцца.

**Вяселле**

Гулялі вяселле ў двух баках: у жаніха і ў нявесты. Адзенне для маладой купляў жаніх. Апраналі маладую маладыя дзяўчаты, яе сяброўкі. Апранаючы, спявалі песні аб дзявочай долі.

Пачыналі гуляць вяселле кожны ў сябе, спявалі вясельныя песні, танцавалі, весяліліся. Потым, ужо калі прыязджалі сваты за маладой, то яшчэ да самога вечара яны танцавалі і гулялі. А калі ўжо прыехалі сваты на вяселле да маладой, то яны спявалі песню:

Ой, сваты, сваточкі,
Пусці нас у хаточку.
Мы шкоды не зробім:
Вып’ем па кубачкам,

Возьмем галубачку.

А калі сватоў доўга не звалі ў хату, то спявалі:

А ў нашага свата
З вярбы, з лазы хата.
А сені з бярозы,
Усех свах цвярозы.

Калі ж ужо пачастуюць іх, яны спяваюць:

А ў нашага свата
З вярбы, з лазы хата.
Печ яго пабелена,
А чэсць яго ўхвалена.

Потым у жаніха прасілі выкуп за нявесту і, калі выкуп не дае, тады і нявесту яму не аддаюць. Калі малады выкупаў сваю нявесту, то яму яе прыводзілі меншыя брат ці сястра маладой і дружкі. А пасля ўслед абсыпалі іх зернем, каб усё ўрадзіла і былі багатымі маладыя.

**Завіванне маладой**

Перад тым як дзяліць каравай у маладой, жанчыны, якія завіваюць маладую (выбіралі абавязкова тых, якія жылі ў пары вельмі добра), станавіліся на лаву за маладымі, здымалі з маладой вянок, вешалі яго на кут і спявалі.

Пасля прасілі грошай у дружкоў на грабяшок, каб расчасаць маладую, так ім патрэбна завіць маладую. Калі завівалі маладую, то прасілі, каб бацькі благаславілі маладых, а маладых у гэты час стукалі галава аб галаву і казалі: “Ацец і маць, благаславіце вянок сняць”. Ім адказвалі: “Бог благаславіць”. Гэта гаварылі тры разы.

Пасля косы расчэсвалі і завязвалі хустку, якую даравала свякруха, што азначала, што дзяўчына ўжо станавілася жанчынай маладога. Нявеста адорвала свякруху і свекра падарункамі і ўсю радню маладога.

**Дзяльба каравая**

Дзеляць каравай сваты. У першую чаргу пачынаюць з бацькоў: “Ацец, маць, разрашыце каравай дзяліць пачаць”. Бацькі адказвалі: “Бог благаславіць”. Гаварылі тры разы. Ставілі дзве чаркі і звалі ўсіх сваіх, а потым і астатніх. Каравай, які давалі кожнаму, пасля таго патрэбна абавязкова з’есці. Кожны, хто браў каравай, абавязкова нешта прыказваў, віншаваў маладых і адорваў іх падарункамі.

Бралі каравай абавязкова платочкам, а не голымі рукамі. Калі той, хто браў яго, адразу не хацеў яго з’ядаць, ён нёс яго дадому і там даваў яго дзецям.

Пасля гэтага выпівалі чарку гарэлкі і сабіраліся забіраць ужо маладую і ехаць да маладога. Маладая забірала ўсё багацце, якое прыдбала сама з дапамогай бацькоў, звязвала ў вузел і ішла. Выходзячы з хаты, спявала:

Ці я ў цябе, мамка, не дзіцятка,
Што ты мяне проці ночкі
Адпраўляеш ўпрочкі.

Маладая развітвалася са слязамі з бацькамі, і яны едуць да маладога. Дарогаю спяваюць песні і прыгаворваюць:

Раступіцеся, ворагі,
Не пераходзьце дарогі,
Бо патопчам вам ногі.
Штоб нашы падкоўкі трышчалі,
Штоб нашы ворагі маўчалі.

Казалі, што калі едуць маладыя, то ні ў якім разе не трэба пераходзіць дарогі, каб маладыя добра жылі.

**Сустрэча маладых**

Калі маладая прыязджала з маладым да яго хаты, то бацькі яго сустракалі з караваем і соллю, гарэлкай. Перад тым як маладая яшчэ збіралася з дому да маладога, яе маці навучала, каб яна першая пераступіла парог, што азначала быць заўсёды першай ў сям'і, яе заўсёды будзе слухаць малады. Яшчэ перад тым як зайсці ў хату, маці жаніха выносіла дзяжу, каб даведацца, ці дзяўчына не здрадзіла свайму мужу, калі дзяўчына была чыстай у сваіх адносінах з жаніхом, то яна садзілася з двума нагамі ў дзяжу, а калі здрадзіла, то адной. Калі маладыя заходзілі ў хату, то для іх ужо была прыгатавана лава, якая была засцелена кажухом, што азначала, што жыццё ў іх было доўгае, багатае, каб былі адзетыя і абутыя. Яшчэ казалі, што калі маладыя не пасядзяць на кажушыне, то першае народжанае дзіцё будзе без валасоў. Затым садзяцца ўсе госці за стол і вяселле працягваецца.

У маладога каравай дзеляць на другі дзень. Гулялі вяселле тры дні.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Закалоднай Соф'і Васільеўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Шавялёвай Н. (2003 г.)***

Засватаюцца, а патом свадзьба, дак спраўляюць, гуляюць. Дзеўкі на свадзьбу вот такія маладыя вейца вілі. Сасны паломяць, ёлачак прыбяруць і нясуць ужо на свадзьбу маладым. Іх там ўгашчаюць на той свадзьбе, ну...

Ета пярэзва, еслі перазываюць. Напрымер, вот свадзьба да пярэзва, дак я гатоўлюся, а тады перазываю к сабе етых людзей. Да ўжо тожа ўгашчаю. Гуляюць. Вот такое вот.

На куры хадзілі, хадзілі. Курэй кралі. І дзе ў каго бачуць што, дак пакрадуць. Тыя, што свадзьбу гуляюць, к тым і хадзілі. Дзе ў каго і краля паймаюць у клеткі якой, дык і ўкрадуць, дзе куру якую, дзе што.

Каравай пяклі круглы. Настаўляюць шчэ такіх цыцачак на яго, вот такіх накруцяць. Настаўляюць такіх шарычкаў, тады іх раздаюць дзецям. Кросныя дзелалі каравай, да.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Пярэзвы, дык ета ж, еслі вот свадзьба, да забіраюць маладую. Вот тады ўжо етай маладой матка сазывае ўсіх саседзей, усіх падруг сваіх харошых. Ета значыць пярэзвы.

А госці, ета чэраз нядзелю. Ужэ жаніх ідзе к цёшчы ў госці.

Як вымаюць каравай, дак бяруць малое такое дзіцятка пад еты каравай і кругом ходзяць.

Такія ж не пякуць, вот, удава ці разводнікі, а выбіралі такіх, каторыя добра жывуць, парных, харошых людзей.

Каравай пеклі, на стол станавілі. І етыя сваты, вешалі рушнікі ім, яны рэзалі і вызывалі етых, радню яе ўсю, маладой. А ў жаніха дзялілі, дак жаніхову радню вызывалі. Два караваі было.

Вёлца на свадзьбе калісь мы насілі. Дык бяром там сасну ілі што, убіраем і разнымі тожа лентамі. Занясём, спявалі, і нам давалі ўжо канфеты да ці што. Гэта дзеці прыносілі да маладой.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Без каравая свадзьбы не бывае.

Каравай пеклі па дастатку. То ўжэ спецыяльных такіх жэншчын бяруць, штоб яны раз замуж выходзілі, штоб харашэ жылі.

Ну і тада ўжэ дзеляць каравай, ета, мужчыны. Ужэ перавязуюць рушнікі мужчынам чараз плечы. Да, мужчыны дзеляць каравай.

Два было караваі.

Як дзеляць каравай, дак верх знімаюць еты з каравая.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,***
***Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***
***Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

**Вяселле**

Хадзілі “на пеўня”. Бралі куры, качкі, м’яса бралі, хто што даваў, гарэлку бралі. А назаўтра ўжо жанілі, то, напрымер, мяне жэняць і з другім,

старым, ужо свадзьбу нам спраўляюць. Апяць кідалі грошы на каравай, і гуляем, апяць прадаўжаем. І свадзьба была два-тры дні.

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Ядчанка Марыі Фёдараўны, 1948 г.н.*
*(перасяленка з в. Дронькі Хойніцкага р-на),*
*Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)*

**Сваты**

Договорились молодые. Невеста сказала родителям. Вечером в субботу ждут сватов. Приходят мать, отец, жених, 2 свата.

– Кажуць, у вас раба цялічка жыве ды прадаецца. Дык, можа, прададзіце?

Бацька маладой:

– Як падабаецца, дык купляйце, але дзёшава не прадам!

Сват:

– Дык мы купім за вялікую цэну, толькі прадайце.

Бацька:

– Ну дык давайце прап’ём!

Усе садзяцца за стол. Вся радня договаривается на день свадьбы. Через неделю.

**Столы на сваты**

Засоленные огурцы, если было мясо, но обычно сало, так как мясо на свадьбу берегли, обязательно чеснок и лук, компот и коржи, холодное. Всем гостям по 50 г водки, больше нельзя, в рюмочке на ножке, модно было.

**Свадьба**

На свадьбу звали только родню и подружек. Сначала ехали расписаться, а потом обязательно в церковь венчаться.

Молодые не жили вместе после росписи, ждали день венчания. Венчались в д. Загалье, в церкви. Невеста ехала на тройке лошадей впереди с роднёй, а жених – на своей сзади с роднёй. Провожали свадьбу до перекрёстка музыканты «Саньки» (Борисовца + Храповца), гармонь, дудка, барабан, скрипка (Храпков), кларнет, труба, тарелка (Борисовщина).

**Примета**

Если невеста доехала до поворота в конце деревни и у неё распрягалась повозка, а лошади убежали в разные стороны, то молодые долго жить не будут. А если без происшествий пройдёт дорога, то молодые будут жить долго и счастливо.

**Венчание**

В д. Загалье в церкви венчали долго и много пар. Молодые во время венчания стоят на расшитом белом потоленце. А в конце венчания молодые

пары обходят стол венчальный, на котором лежит Библия. Левой ногой невеста тянет обязательно полотенце, на котором стояла, три круга. Затем полотенце отдаёт подруге, та быстро выйдет замуж.

**Встреча молодых после церкви**

Молодые едут домой. Их встречает музыкой свадьба в конце деревни. Все с музыкой идут гулять свадьбу. В это время девушки-подружки дома на свадебном столе делают «вельце» – большой букет. Когда свадьба приезжает из церкви, «вельце» ставят на кут, за спины молодожёнов. Вельце стоит до конца свадьбы, 3 дня. Затем выбрасывают.

На столах скудно, спиртное пили по 3 человека, 3 рюмки, затем передавали следующим 3-м человекам.

За всю свадьбу пили не больше 3-4 рюмок, пьяных не было. Но свадьба была весёлой и шумной.

Наряжались в цыганей и ходили по улице. Воровали кур. Пели песни.

***Запісана ў в. Храпкава***
***ад Сіраж Соф'і Нікіфараўны, 1912 г.н.,***
***студэнткай Сарасека Л. (2003 г.)***

Абычна ў нас гулялі вяселле вясной пасля паста і восенню пасля паста. Зараз таксама выконваюцца асноўныя этапы вяселля.

У сваты да дзяўчыны ходзяць бацькі жаніха і хросныя. Калі бацькі былі згодныя на шлюб, то маладая разразае хлеб, які прынеслі сваты. Бацькі маладой вешалі рушнікі сватам і дарылі падаркі.

Раней вянок быў зроблены з цвятоў бумажных, а ззадзі віселі длінныя ленты.

Каравай быў круглай формы, на ім былі розныя кветкі і ўзоры.

У момант ад'езду маладых да вянца іх благаслаўляе маці нявесты. Пры гэтым спявалі песні:

Калі бярэш зяць дочку,
То ўмей яе шанаваці,
Ды не давай збыткаваці
Ні старому, ні малому,
І самому маладому.
Ды не бі ты яе дубцом,
А карай яе слаўцом.
Дубцом паб'еш – балець будзе,
А слоўцом – разумець будзе.
Не карай яе ў хаце,
Каб чулі бацькі і маці,
Пакарай яе ў каморы,
Ды пры ціхай размове.

Пры вяртанні маладых з сельсавета іх сустракалі бацькі нявесты і жаніха. Маладых абсыпалі капейкамі, каб жыццё было ў дастатку. Мазалі губы мёдам, каб жыццё было салодкае. Таксама ім даюць выпіць віна, а кроплі выліць цераз левае плячо.

Свякроў абсыпае маладых жытам, арэхамі.

Перад маладымі засцілалі кажух. Маладыя адной нагой стаяць на кажусе, другой - на парозе. Кажух быў сімвалам багацця і шчасця. Таму, калі пачыналась застолле, маладых садзілі на лаўку, якая была засцелена кажухом. Калі садзіліся за стол, то спявалі песні, якія былі адрасаваны нявесце:

Развяжыце, пакажыце,
Ці харошая графіня,
А ці будзе гаспадыня?
Развязалі, паказалі,
Да і харошая графіня,
Будзе з яе гаспадыня,
Курыная пасыпальніца,
Свіная памяшальніца.

Вялікім патрабаваннем да нявесты была яе працавітасць.

Шмат песень за сталом прысвячалі сватам, дружцы.

Ой, свахначка, галубачка,
А мы сваху доўга ждалі,
Масцілі мост калінаю,
Гасцілі гаць слязінаю,
Каб свахначка не ўтанула,
Піражка не замачыла.
Дай нам, сваха, пірага,
Возьмем вала за рага,
Сіву кабылу да за грыву,
Маладую сваху да за чубрыну.
Выведзем сваху на места,
Прамяняем сваху на цеста.
Дзякуй, сваха, за пірог,
Што ты яго гатавала,
Толькі солі шкадавала.
Сважон, бялён ды маленек,
На далоні мясіла,
На языку саліла.

Наша сваці маладая,
На ёй сукенка дарагая.
Не тут яна набірана,
Не тут яна вышывана.

Набіралі на Івенцы,
Набіралі краўцы-немцы.

Дружцы:

А наш дружко харошы,
Ён багаты на грошы.
У яго кожнай кішэньцы
Ляжалі грошы-чырвонцы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Сталі грошы выпадаць.
Другі дружко бялявы,
Наліў капусты ў халявы.
Як пайшоў ён танцаваць,
Стаў капусту разліваць.

Для нявесты-сіраты таксама спявалі адпаведныя песні:

Маладая Танечка ў квеце,
Няма яе мамачкі на свеце.
Няма каму на пасад пасадзіць,
Няма каму радачкі парадзіць.
Брацейка на пасад пасадзіць,
Ойчанька радачку парадзіць.

Каравай дзялілі хросныя, а бывала, што і сваты.

Вяселле абычна канчалася цыганамі. Госці перадзяваліся цыганамі, ішлі да маці маладой і ўсё кралі, што пападалася пад рукі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Санцэвіч В. (2003 г.)***

Сваты былі з боку жаніха. У сваты ўваходзілі бацька, маці і хросны бацька жаніха, і хто-небудзь з родзічаў, якія добра жылі ў сям'і.

На заручынах сваты прыходзілі з хлебам і з бутэлькай гарэлкі. Гаварылі з бацькамі нявесты. Бацькі нявесты гатавалі смачную вячэру. У сваты звычайна хадзілі вечарам.

Купля-продаж была. Прыходзілі жаніх, яго дружкі і сваты ў хату да нявесты. А дзяўчаты ў гэты час патрабавалі выкуп за нявесту. Яны маглі прадставіць замест нявесты другую, нават старую жанчыну. І вось жаніх павінен быў выбраць ці пазнаць сваю нявесту. Калі ён быў згодны з выбарам, то ад яго патрабавалі выкуп.

Каравай заўсёды пяклі жанчыны, якія самі былі шчаслівыя ў сям'і. Каравай пяклі ў хаце нявесты. Перад тым як рэзаць каравай, нявеста павінна

даць падарункі самым блізкім родзічам жаніха: бацькам, хросным, сёстрам, братам. Спявалі песні.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Лагвіненка Марыі Васільеўны, 1960 г.н.,*
*студэнткай Лагвіненка В. (2005 г.)*

**Вяселле**

**Сваты**

Очэнь богато песень. Сваталіся как обычно. Прыходзяць у сваты оцец і дзядзькі, чалавека тры сваты ідзе. Ну, і можа цапляюць палаценцы, дагаворваюцца, калі змовіны на вечар.

**Змовіны**

На змовінах дагаворваюцца, калі свадзьба. Було і такое: еслі прыйдуць у сваты, а дзеўка не сагласна, то адпраўляюць сватоў назад з пірагом.

Отдзельно прыгатаўлівалі яду і ў дзеўкі, і ў хлопца.

Начынаецца свадзьба. Тады ўжэ ў маладой падружкі сабіраюць дзеўку, надзяюць вянок і вядуць за стол.

Пяецца такая песня:

Ляцяць галачкі ў тры радочкі,
Зязюля – нападу.
Усе галачкі на колья селі,
Зязюля – на каліне.
Усе галачкі зашчабяталі,
Зязюля закавала.
– Ох, чаго куеш, чаго жалуеш,
Сівая зязюленька?
Ой, ці жаль табе цёмнага лугу,
Ці горкае каліны?
– А жаль мне ўлятанейка,
Летняга каваннейка.
Ідуць дзеванькі ў тры радочкі,
Анечка – нападу.
Усе дзеўкі на лаўках селі,
Анечка – на пасадзі.
Усе дзеванькі песню запелі,
Анечка заплакала.
– Ох, чаго плачаш,
Каго жалуеш, маладая Анечка?
Ой, ці жаль табе татку старога
Ці падвор'ейка?
– Ох, не жаль та мне татку старога,
Не падвор'ейку яго,

А жаль мне русае касы
І дзявочае красы.

А патом ужэ дзеўкі пяюць за сталом свадзебныя песні. Во:

Няпраўдзівая каліна казала:
– Цвісці не буду,
Угору голейка не пушчу.
Няпраўдзівая Анечка казала:
– Замуж не пайду,
Не любіла Іванка,
Не люблю.

Тады ўжэ малады і з сваею раднёю і вельцэм едуць к маладой, пад'язджаюць пад варота, пяецца песня:

Пусці, свацця, у хату!
Тут нас небагато,
Чэтверо да пьяцеро,
Усіх дзевьяцеро.
Му табе шкоды не зробім
І лаўкі не зломім.

А ўжэ на парозе встречае сваха. Тады ж маладым свечкі шукалі, у руках свяцільніца дзяржала. Казалі тады ж: "Прыступі, свахо, да мяне. І ў цябе свята, і ў мяне, і ў цябе дзіця, і ў мяне. І злепім свечкі да кучкі, прывядом дзетак да хаткі". І свахі ўжэ цалуюцца і ідуць у хату, а дзеўкі етыя, што сядзяць за сталом у маладой, пеюць:

Дружок кішэню верне,
Найшоў макава зерне,
Паклаў на талерцы,
Не так на гарэлцы,
Як на красівай дзеўцы.

Шуцілі. Казалі:

Дружок на пары лезе,
Абручамі галава звіта,
Саломаю барада змыта,
Вочы ў кloч'і,
Рот у варэны,
Лычкам падперазаўся,
На баязке прыбраўся.

А ўжэ тыя ад маладога госці пяюць:

Улятайце, сарокі,
Прыляцелі вароны
Із чужое староны.

А дзеўкі ўсё роўна сядзяць і прыпяваюць:

А яму прок такі,
Што першая дружка – стужка,
Другая – чараватая,
Трэцяя – чуць ходзіць,
Заўтра сына родзіць.

Патом усе садзяцца за стол і ставяць ялец. Убіралі яго краснымі цветамі. Тыя ўжэ ад маладога госці пеюць:

У саду, у саду салавейко гнездо в'е,
Ці ўсім баярам место йе?
А каму няма – ішчыце,
А ўсіх харашэнько садзіце.
А ў нашага свата сцянулася хата,
І сцянуліся сені, як баяр'і паселі.

Пасля таго, як угосцяцца, маладая давала падаркі радным маладога.

Да казалі не ткаха,
Аж яна напрала,
Аж яна наткала,
Бяленько бяліла,
Увесь род абдзяліла.

Патом завівалі маладую, бралі ўжэ платок і з маладою 2 жэншчыны і маладога. Становьяцца на лаўку, дзе сядзяць, і бяруць за рагі платка.
Пелі:

Му цябе, Анечка, завіваем,
Шчасцем, здароўем надзяляем.
Будзь здарова, як вада,
Будзь багата, як зямля,
Будзь прыгожая, як рожа.

Тады ўжэ платка завьязваюць маладога і пеюць песню:

*Завівальніцы скачуць,*

Да чаго яны хочуць?
Хочуць паўзалатога
Ад князя маладога.

Тады дружок заплаціць і ўходзяць. Прыпяют тожэ:

Што мы хацелі, то і зрабілі:
З цеста паляніцу,
З дзеўкі маладзіцу.

А шчэ была такая традзіцыя: малады доўжэн цешчы чобаты купіць. Ну дак ужэ ад маладога жэншчыны прыпяваюць:

А дзе ж тыя чобаты,
Што зяць даў?
А за еты чобаты
Дачку ўзяў.
Чобаты, чобаты вы мае,
Нарабілі клопату вы мяне.
Ой, павешу чобаты на кручку,
Няхай робяць дзелячку за дачку.

А потым сабіраліся маладу весці к маладому і прыпявалі:

Запалі, мамка, свечку,
Пахадзі па-за печку.
Да ці ўсе ўглы ў хаце
Без твайго дзіцяці?
Закідвай, мамка, дровы,
Да бывай, мо, здарова.
А свякруха – трэскі,
Даждайся нявесткі.
А во яшчэ спявалі:
Ужэ Анечка надаходзі,
Пасадзіла арэха ў гародзі.
Расці, расці ты, арэшаньку,
Майму татку на пацешаньку.

А потым вядуць маладую да маладога і пяюць:

Дайце дзеўцы помачы
Горкае цыбулі пад вочы,
Няхай плачыць сколькі хоча
Па сваёй маладосці.

Малада на ета адказвала:

Ой, плачу я, плачу,
Пака таткаў двор бачу,
Таткаў двор мінаючы,
Да паедам, іграючы.

Во і ўсё. Во так мы спраўлялі вяселле. Малада пакідала свій дом і ўязжала да маладога.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н. (перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на), студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І., Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

## Вяселле
### Сватанне

Вот сказалі сваты, што прыйдуць у сваты – хлопец к дзеўцы, ужо ладзіцца, яны пякуць пірагі (сваты пякуць), а етыя толькі прыгатаўліваюць стол. Тады ўжо прыходзіць бацька хросны, ці бацька і матка і ўжо свая радня, ну як е брат, то брат, а як німа брата ў маладого, тады ён бярэ другога хлопца – дружка. Ну прыходзяць у хату, паздароваюцца, а тады ўжо пытаюцца: ”Ну як, вы сагласныя ці несагласныя?” А дзеўку схавалі. Яны кажуць: ”Няма нашай дзеўкі, пайшла, дзесьці сыйшла”. Вот вывялі маладзейшу, яны кажуць: “О, ета не наша, ета не наша, ета саўсім шчэ, наша ж на нас паходзіць і вялікая і такая, як еты наш малады, вот наш малады, давайце нам маладую”. Тады ўжо шукаюць, прывядуць маладую, маладая ўжо паздароваецца, ну ўжо пасядуць за стол, пасядзяць, тады ўжо маладая сватоў вешае рушнікі, бацьку хроснаму і там яшчэ сватам перавязвае, а ўжо жэншчынам – каму хустку, каму скацерку, а сваёй ўжо свякрусе дае посцілку. Ну тут ужо пасваталі, пагаварылі і намецілі, на які ўжо цераз колькі месяцаў свадзьба, і тады ўжо ладзіцца.

### Заручыны

Увечары заручыны маладой. Прыязжаюць і ўжо ноч гуляюць, цэлу ноч.

### Вяселле

Назаўтра яны ўжо сабраліся, паехалі к цэркві, павянчаліся, прыехалі, ужо паехалі к маладому, патаму што свякруха даўжна ўстрэціць нявестку і пасадзіць маладзёж. Вот паехалі, ужо ў маладога пабылі, пасядзелі за сталом, выйшла матка, ну ўжо пацалаваліся, хлеба ўкусілі, ну завяла ўжо ў хату, пасядзелі, тады малады вязе яе дадому (маладую), маладая дома. А тады ўжо едуць усе туда, но ўжэ там доўга не бываюць, ужо трохі пасядзяць за сталом, падзеляць каравай, тады ўжо ўсе сабіраюцца: і іхныя, і етыя – і едуць к маладаму. Маладую садзяць за стол, і падыходзіць ўжо саседка к маладой

(маладая сідзіць за сталом), запальвае спічку: ”Я што, бачу, якая ты ў мяне нявестка, там-то я бачыла, ты была хароша, а тут мо ты сляпая, а мо ты крывая”. Нявеста ўстае і тушыць тую спічку. Патушыць раз, патушыць два, тры разы яна тушыць: “Не, брат, ета не наша”. Тады ўжо свякруха: ”Ну што, ты не пазнала, як ета мы прывязлі чужую, мы сваю прывязлі”. Тады ўжо свякруха дастала спічку, нявеста ўстала. Тады яшчэ трошкі пасядзелі, маладога каравай падзялілі.

Песні пелі, але я так зараз не ўзгадаю. Ну вот як дружкі заходзілі за стол, дык іх білі. Ужэ пасядзяць, тады ўжэ дружкі прыйшлі і напявалі:

Як пасеялі кавуны,
Кавуны ні ўзышлі – пасохлі,
А к нам хлопцы ні прышлі,
Штоб яны падохлі.

Тады ўжо дзеўкі маладую і маладога пацалуюць, а сваты гарэлку наліваюць. Наллюць у чарку первай дружке, а яна гаворыць: ”Што голую ету чарку, гэта што мы аддалі вам сваю дружку, дык яна будзе голай, дык хоць пакрыйце чым- нібудзь”. Тады ўжо кіне капейку, дык яна кажа: “Я не дастаю, я бяру то, што наверсе, а там у чарцы ліжыць, хай ліжыць”. Пакрыюць ёй, дадуць пяцёрку, ці траячку, хто як.

Другая падходзіць, ёй даюць тую ж чарку, а там капейка на дне, ёй даліваюць, а яна: “Да што вы мне?” А яны кажуць: “Там на дне”. А яна кажа: “На дне хай ляжыць”. А гэтая паследняя будзе даставаць, і етую накрыюць. Яна адыйшла, стала. Падыйшла трэцяя, трэцяй ўжо не накрываюць, яна таргуецца, таргуецца – не накрываюць. Кінуць яшчэ капейку, ёй трэба ж усю чарку выпіць, яна трошкі каўтане, тады рот поўненькі набірэ, тады капейкі ў руку забірэ, а тады на тых сватоў гарэлкай пырскае ў вочы.

Тады ўжо капейкі кіне маладой, тады ўжо папырскала, а сваты за рамні і б’юць іх. А некаторыя і плацці рвуць, тады яны даўжны бегці ўкругавую.А ўжо хросныя заходзяць, даліваюць, дык тожа спяюць песні, зайдуць утраех, закручваюць маладой лён у косы і спяваюць:

Што мы захацелі, тое зрабілі:
З цеста паляніцу, а з дзеўкі маладзіцу.

Етых ужо не білі, ім грошы плацяць, а яны па чарке выпіваюць.

***Запісана ў в. Бялёў Жыткавіцкага р-на***
***ад Назаранка Надзеі Мінаўны, 1927 г. н.***
***(перасяленка з в. Руднае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Страхой К. (2005 г.)***

## Пахавальная абраднасць

### Пахаванне

Раней старыя людзі верылі, што памёршы чалавек адпраўляецца “на той свет” і там ён працягвае жыць, а іх душы пераносяцца ў жызнь жывотных або птушак.

Калі памірала матуля або бацька, то плакалі і галасілі прымерны так:

– На каго ж ты нас аставіла, як мы будзем без цябе жыць. Як на гэтым свеце мы астанемся адны, хто нас будзе любіць і глядзець?

Калі памірала жанчына, то звалі старых баб і яны мылі цела пакойніцы, а калі гэта быў мужчына, то мылі яго мужчыны.

Галашэнні былі ў хаце і на могілках. Людзі аплаківалі мёртвага, бо ведалі, што яны бачаць яго ў паследні дзень, час, міг. Што болей яны яго не убачаць. Калі после пахарон прыходзіла 9 дней, то рабілі абед.

На гэты абед ішлі толькі родныя. Яны ехалі ў цэркаў, там маліліс, а потым ехалі на кладбішча і там поляцца, а потым звалі пакайнага на абед.

Пасля – 40 дней. Таксама ехалі ў цэркаў, маліліс, а потым ехалі на могілкі, там маліліс, выпівалі па чарцы і прасілі пакойнага, штоб прышоў абедаць. Ужо на 40 дней ішлі людзі, якія мылі пакойнага. Капалі яму і саседзі.

Калі ставілі на стол, то ішлі на парог і звалі с хлебам і соллю пакойнага абедаць. Калі падаюць на стол, то на стале ставілі свечу і блюдцэ для пакойнага. І ў гэта блюдца лажылі німнога пакойнаму. А после абеда гэтую ежу (пакойнага) аддавалі птушкам. Людзі лічылі, што птушкі гэта былі пакойныя людзі.

А пасля наступаў адзін год. І яго называлі – гадаўшчынай. Абрад гадаўшчыны быў такі, як і на сорак дней.

Зараз на Радаўніцу плачуць родныя людзі. Бо яны па-ранейшаму любяць сваіх умершых радных.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецку),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Пахароны называлісь так, як і цяпер. Пець ні пелі на пахаранах, галасілі сільна, прычытваў, хто як умеў. Сабіраліся і бабы, і мужчыны на пахароны, сабіралісь так як і цяпер, галасілі хто як умее, у каго там дзевачка астаецца, так галасілі: “Мамка мая родная, а як я буду без цябе?”

Первае дзела, пакойнік як умер, дак завуць бабак такіх старых, трэба яе абмыць. Налізаюць у міску воду, льюць туда трошкі свечанае вады, і мулі ёй і голаву, трапачкаю ўсяго мулі, і ногі, і рукі. І ўсе памылі, ну і прыбяруць яе, прыбяруць, надзенуць і тады ўжо сцелюць на лаўкі пасцель такую чыстую і ложаць яе ужэ туда, і там яны ўжэ, катора ўжэ начуе, катора не начуе, так як і цяпер, каторы пакойнік, ужэ галосяць там, начуюць, не сп’яць, тады тую ноч ля яе, пелі святыя песні такія пахароныя.

От скора настане мой празднік –
Паследні і первы мой пір.
Душа мая радасна ўзляце

На здешні пакінуўшы мір.
Ой, гора мне будзе ў то ўрэмя:
Расстанецца з целам душа,
І многа я ў небе грашыла,
Увіжу тогда все дзела.
Дзела мае добрыя, злыя
Прадстануць жа мне ў тот жа час,
Сказаць нечэво не прыдзёцца,
Хаця я і ўвіжу ўсех вас.
Я дземанаў тот час увіжу,
І будзе душа трапятаць,
І буду я с мірам прашчацца,
На помашч святых прызываць.
І скажуць тагда ўсе радныя:
"Салдата ня позна прызваць?
Таго, што законаў не чціла
І міра зусім не хацела ты знаць.
Таго, што законаў не чціла
І Бога зусім не хацела ты знаць".

Чужыя трэба штоб абмувалі, і свой яму не капае пакойніку. Напрымер, мая донька, і я буду ёй яму капаць – эта не паложана так. Палажылі яе папагаласілі, ужо прышло ўрэмя: трэба забіраць на могілкі. Харанілі после абеда, да 12 не хароняць – не паложана па-божаму. А ўжэ часоў у час, у два вядуць на могілкі, ужэ чужыя мужчыны бяруць з лаўкі і ўносяць, і ставяць на воз. На дароге цвяты кідалі ўперадзі на пакойніку, за канём ішлі да галасілі. Уперад пакойніка нельзя іці, штоб не ўмер упярод, у вокны глядзець нельзя. І прыносяць ужэ на кладбішча. І становяць на тую землю, дзе накідалі дугой. Там колісь на могілкі бацюшка хадзіў, а цяпер толькі ў хаце. Я ўмею, дак мяне бяруць на могілкі, я малюся там.

Пакой, Божа, душу ўсопшую,
Марыю тваю.

Грошы кідаюць у ямку – ета называецца пакойніку купіць сваю зямлю, штоб з яго там не бралі грошы. Вот толькі як пакойніка возьмуць з лаўкі, дак тады ўжэ хто такі самы раднейшы жывы астанецца, дак садзяць яго на тое месца, штоб ён трошкі пасядзеў, вот тады ён трошкі скарэй забудзецца. Зеркала закрывалі, што зеркала не свяціла, у зеркале – ета называецца злыя глядзяць.

Патом пакідаюць тыя грошы, ужэ папрашчаюцца ўсе, а тады ўжэ крышкаю накрываюць, забіваюць гваздямі і тады ўжэ апускаюць вяроўкамі, палаценцамі, хто іх кідае ў яму, а хто выцягвае і раздаюць, і даюць хлопцам, што капалі яму, а хто кідае туды, туды нельзя кідаць, патаму што як будзе ўставаць пакойнік на страшны суд, дак будзе блытацца з тымі палаценцамі.

На другі дзень нясуць снедаць, завуць бабку, я там зноў малюся на магілцы. На 3 дзень не хадзілі на могілкі. А на 9 дзень без бацюшкі хароняць, так бяруць із магілкі зямельку і нясуць яе ў цэркву, запісваюць етага пакойніка первага, а тады ўжэ хто астальные і нясуць бацюшку. Бацюшка забірае яе, туды дзе ён моліцца, правіцца служба і чытае етыя запіскі – называецца пакойнікаў падымае, тады тую зямельку, бацюшка яе благаславіў, малітву такую прачытаў, крэсцікам пакрэсціць (3 р.), і тады ету зямельку забіраюць дадому, у хату не нясуць, нясуць на могілкі. Сыпалі крэсцікам – ета называецца бацюшка ўжэ запячатаў. А тады ўжэ да 40 дней, ад 9 да 40 дней. На 40 д. зноў запісваюць запіску, пакойніка ўперад, а тады астальных і зноў ідуць у цэркву ўжэ зямлі не нясуць, а тады ўжэ служба правіцца, і бацюшка тады ўжэ ідзе на паграбенны стол (так называецца), тады ўжэ нясуць хлеб, канхветы, сала на той стол паграбенны – гарачы стол. Ну тады ўжэ бацюшка служыць паніхіду на етым стале. Ну, тады ўжэ тожа едуць на могілкі, там ужэ можа пакойніку паставяць на тое, на магілку: салодку вадзічку і туды люлікаў накрышаць – белага хлеба, каторыя гарэлку чаркі льюць, пакойніку не паложана гарэлку.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасокк Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т. Вайтовіч К.***

Калі ў хаце памiраў хто-небудзь з членаў сям’і, то адразу ж спынялі гадзіннікі і завешвалі палатном люстэркі. На акно ставяць стакан з зернем і свячой.

Абавязкова глядзелі, каб у памёрлага былі самкнуты вусны і закрыты вочы. Абмывалі і апраналі нябожчыка блізкія і сябры або суседзі (два-тры чалавекі). Ваду пасля абмывання памёрлага з хаты выносілі і вылівалі там, дзе менш за ўсё хадзілі людзі і жывёлы. Адзенне, якое было ў смяротны час на нябожчыку, коўдру, прасціну, на якой ён паміраў, закопвалі каля магілкі. Памыўшы, нябожчыка прычэсвалі і пачыналі адпяваць.

Амаль усюды старыя людзі яшчэ пры жыцці рыхтавалі для сябе адзенне на смерць, якое павінна было быць чыстым і новым. Маладых жа нябожчыкаў – хлопца або дзяўчыну – апраналі так, як пад вянец. Памёрлага ніколі не пакідаюць ноччу аднаго.

У першы ж дзень пахавання прасілі зрабіць труну і крыж. Зробленую труну хуценька неслі ў хату да памёрлага, а крыж ставілі каля брамы на вуліцы або на двары з боку кутнага акна. На крыжу абавязкова павінен быць звязаны рушнік.

Над нябожчыкам бабулькі чыталі “Псалтыр” і маліліся Богу.

Перад тым, як выносіць труну з нябожчыкам, родныя і знаёмыя падыходзілі да труны моўчкі або з галашэннямі, развіталіся з ім. Труну з нябожчыкам выносяць нагамі ўперад.

На могілках у магілу да нябожчыка кідаюць жменю свянцонай зямлі і грошы.

Нябожчыка, калі везлі на могілкі, абавязкова павінны былі правезці праз скрыжаванне шляхоў, каб душа не магла знайсці дарогу назад дадому.

Адразу ж пасля вынасу нябожчыка мыюць усю хату, стол і лавы. Пачынаюць гатаваць абед, на якім першая страва абавязкова посная – кісель з з грыбамі і кашай. На стале абавязкова ставяць стакан з зернем і свячой, а таксама талерку з ежай і чаркай для нябожчыка.

На трэці, дзявяты і саракавы дзень пасля пахавання ладзілі памінальны абед. У гэтыя дні заўсёды ездзілі на могілкі.

На Радаўніцу людзі ездзяць на могілікі, памінаюць памёршых. У гэты дзень на могілкі кладуць фарбаваныя свянцоныя яйкі і кавалкі пасхальнай булкі.

На “Дзяды” заўсёды гатуюць вячэру, якую пакідаюць на ўсю ноч на стале. А перад тым, як ісці спаць, людзі запрашаюць памёрлых на вячэру. У гэты дзень абавязкова гатавалі рытуальную страву “кану”. Яе гатавалі з маленькіх кусочкаў булкі, мёда і вады.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Як памрэ чалавек, то закрываюць усе зеркала. Усе ў чорным, цёмным. Часы не спынялі. На пакойніка адзявалі абязацельна хрэсцік.

Пакойніка мылі. Як памуюць пакойніка, тую воду на трэці дзень толькі ўносяць дзе-нібудзь у вугал, так штоб мала хадзілі. А ету, што ў стакан наліваюць, дзе свечкі гараць, стакан вады да сарака дней стаіць, не, яго не трогаюць. Ваду мяняці няльзя, даліваюць трошкі. Патом яе, сорак дней паабедаюць, у вугал яе на дварэ выліваюць, дзе іконы стаяць.

Яму пакойніку капалі не свае, галасілі па ім родныя да тыя бабулі, якія чыталі малітвы.

Чалавек, каторы займаецца калдаўством, дык вот як ён умірае, ён ніяк не ўмрэ, мучаецца. Каб яго душа выйшла, пракручваюць дырку ў стале. Такія людзі, якія звязаны з сатаной, отдалі яму душу і Бог ад іх адвярнуўся.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Як памірае чалавек, трэба адразу закрыць усе зеркала, гэта ў первую очарадзь. У руку даюць стрэчанскую свечку, у левую даюць, так як правай моляцца. Калі вочы ў нябожчыка адкрыты, то на іх кладуць капейкі, рукі звязваюць, ногі, каб ляжалі прама. Мыць нябожчыка і капаць магілу павінны не родныя людзі, чужыя. Капаюць яму мужчыны, каб ім было ўжо сорак гадоў. Ваду, якой мылі нябожчыка, выліваюць дзе-небудзь у куточак ілі на перакростак, штоб па ёй не хадзілі, каб нябожчыку не было важка на тым свеце. Атмячаюць дзевяць дней, у кругу сваёй сям’і, потым сорак дней. Тут ужо сабіраюцца: хто яму капаў, хто мыў, свае родственнікі – і ўсё і падаркі

даюць, і хто абед варыў. Нябожчыка на Радуніцы, на гадаўшчыну ўспамінаюць.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

*Уладзімір КОВАЛЬ*

## АРХАІЧНЫЯ ЭЛЕМЕНТЫ ВЯСЕЛЛЯ НА ХОЙНІКШЧЫНЕ

У традыцыйнай народнай культуры вясельная абраднасць займае асаблівае месца, бо менавіта ў ёй захаваліся шматлікія архаічныя ўяўленні, што адлюстроўваюць старажытныя язычніцкія вераванні. Выказанае меркаванне выразна ілюструюць шматлікія матэрыялы, сабраныя ў розныя часы на тэрыторыі Хойнікшчыны і апублікаваныя ў гэтым зборніку. Многія звесткі, што адлюстроўваюць мясцовую вясельную абраднасць, ацэньваюцца зараз як несучасныя, хоць яны не толькі вядомыя ў іншых рэгіёнах Усходняга Палесся і ў Беларусі ў цэлым, але і сустракаюцца ў гарадскім асяроддзі. Разам з тым, сярод гэтых матэрыялаў нямала рэгіянальных, мясцовых, а таксама такіх, якія ўспрымаюцца як малазразумелыя ці ўвогуле – незразумелыя, пазбаўленыя якога-небудзь сэнсу. Між тым у сферы народнай духоўнай культуры тыя або іншыя “алагічныя” рытуалы асэнсоўваюцца як мэтазгодныя і цалкам матываваныя. Спынімся на характарыстыцы некаторых з іх.

Як вядома, вяселле складаецца з паслядоўных рытуальных дзеянняў, якія аб’ядноўваюцца ў асобныя абрады. Важнейшай падзеяй вясельнай абраднасці, своеасаблівай “кропкай адліку”, магічным пачаткам складанага іерархічна пабудаванага ланцуга абрадаў з’яўляецца сватанне. Як правіла, паўсюдна на Хойнікшчыне ў сваты ехалі ў суботу. Выбар суботы пры гэтым не быў выпадковым у сувязі з тым, што кожны дзень тыдня надзяляўся нашымі продкамі пэўнымі ўласцівасцямі з пункту погляду прыналежнасці да апазіцый “цотны – няцотны”, “мужчынскі – жаночы”, “спрыяльны – неспрыяльны”. Менавіта таму, як адзначаў у свой час выдатны беларускі фалькларыст і этнограф, наш зямляк Еўдакім Раманаў, сватаць нявест накіроўваліся выключна ў “мужчынскія”, “лёгкія”, “спрыяльныя” дні – аўторак, чацвер або суботу [9, с. 212].

Адметныя асаблівасці меў сам абрад сватання, які перш за ўсё характарызуецца алегарычнасцю, вобразнасцю, добра ўсведамляемай сімволікай. У сваты ў вёсках Хойніцкага раёна і ў Хойніках звычайна ішлі, акрамя хлопца-жаніха, яго бацькі і хросны бацька. Госці абавязкова прыносілі бохан хлеба або пірог і перавязаную чырвонай стужкай бутэльку гарэлкі. У тым выпадку, калі нявеста давала згоду, яна развязвала чырвоную стужку на бутэльцы (вв. Судкова, Слабажанка), разразала прынесены хлеб (в. Стралічава), накрывала на стол (в. Кажушкі), а ў Хойніках, акрамя таго, бацькі дзяўчыны вешалі рушнікі сватам. Калі ж дзяўчына не згаджалася са шлюбнай прапановай, то яна не развязвала стужку (в. Судкова), вяртала сватам пірагі і гарэлку (в. Навасёлкі). У вёсцы Слабажанка, як занатавалі збіральнікі, ужываўся спецыяльны выраз, які абазначае адмову нявесты: “калі дзеўка ўжэ перадумала ісці замуж, то яе матка казала: *галянішчы папяклі”*. Відавочна, прыведзенае словазлучэнне адлюстроўвае іранічнае стаўленне да сватоў, якія былі вымушаны вельмі хутка адыходзіць дадому, амаль бегчы (адсюль – гіпербалічны вобраз “спечаных” галянішчаў), каб не быць

высмеянымі аднавяскоўцамі-суседзямі. Невыпадкова ў вёсцы Дворышча падкрэслівалі: “У сваты ехалі ў суботу ўвечары, каб ніхто не бачыў, бо, калі дзяўчына адказвалася, ім жа стыдна было”.

Асаблівую цікавасць уяўляе захаванне ў в. Кажушкі звычаю ў знак адмовы сватам даваць ім гарбуза: “Спрашываюць у маладой, ці сагласна. Калі сагласна, то накрывалі на стол, а калі не, то давалі гарбузу”. Найбольшае пашырэнне гэты рытуал мае на Украіне, аб чым сведчыць актыўнае ўжыване ва ўкраінскай мове устойлівага спалучэння *дати (підсунути, піднести) гарбуза* , які мае не толькі ўласна “абрадавае”, але і больш шырокае значэнне – ‘адмовіць каму-небудзь у чым-небудзь’. Разам з тым, звароты *даваць (даць) гарбуз* ‘адмаўляць сватам’ і *атрымліваць гарбуз* ‘атрымліваць нязгоду нявесты ў час сватання’ вядомыя і беларускай мове. У некаторых палескіх вёсках у такой непрыемнай для сватоў сітуацыі жаніху давалі звараны (спечаны) гарбуз: “Калі дзяўчына не хацела ісці замуж, клалі ў вазок звараны гарбуз” [7, с.22]. Адпаведная традыцыя вядомая і на Брэшчыне, дзе дыялектны зварот *гарбуза спыкты* ўжываецца ў перносным сэнсе, як вобразнае спалучэнне: “А як ны хочэ дівка, як откажэ, то вжэ кажуть, што *гарбуза спыкла*. А того гарбуза ніхто ні пык” [4, с.267]. Вядомы фалькларыст А.К. Сержпутоўскі больш ста гадоў назад запісаў на паўднёвай Случчыне выраз *даць малайцу гарбуза*, растлумачыўшы яго “даўнім звычаем”, у адпаведнасці з якім пры нязгодзе на шлюб жаніху выносілі гарбуза [1, с. 47]. Этнограф і пісьменнік сярэдзіны 19 стагоддзя П. Шпілеўскі ўключыў у рукапісны “Словарь белорусского наречия” зварот *гарбуза ўзяць*, які ён звязваў са “звычаем беларусаў кідаць у вазок сватам разбіты гарбуз пры нязгодзе нявесты на шлюбную прапанову” [2, с.19]. Спалучэнні *даць гарбуза, надаваць гарбузоў* ужываюцца ў творах І. Мележа, В. Караткевіча, І. Капыловіча, М. Клімковіча і іншых беларускіх пісьменнікаў [6, с. 303].

Асабліва важнае значэнне ў вясельным абрадзе надавалася караваю – галоўнаму вясельнаму печыву, якое гатуюць толькі для невесты-дзяўчыны і ніколі – для ўступаючай у шлюб удавы. Паўсюдна на Хойнікшчыне, як і ў Беларусі ў цэлым, замешваць каравайнае цеста і ўпрыгожваць каравай запрашалі толькі замужніх жанчын, якія ўжо нарадзілі дзяцей. Лічылася, што іх шчаслівы лёс абавязкова паўплывае на лёс маладых: “Каравай павінны замешваць жэншчыны, якія ўсю сваю жызнь пражылі з адным мужам, каб і маладыя ўсю жызнь пражылі разам” (в. Дворышча); “Пеклі каравай жэншчыны харошыя, што адзін раз замуж толькі выходзілі і добра жывуць” (в. Казялужжа); “Удоў не бралі каравай пекці і разводак не бралі, толькі штоб былі парныя былі бабы, каторыя ўжо красіва жывуць (в. Судкова); “Каравай дзелалі перад свадзьбай парныя бабы” (в. Валокі); “Пякуць каравай парныя бабы, каторыя первы раз замужам” (в. Забалацце); “Жанкі, якія былі ў пары, мясілі каравай і спявалі. Верылі, што добры настрой паможа і паўліяе на каравай” (в. Вялікі Бор). Істотна было таксама, каб прыгатаваннем караваю займаліся добразычлівыя жанчыны (звычайна родзічы), не схільныя да сурокаў, да негатыўнага ўздзеяння на маладых праз каравай: “Былі і такія, што хацелі што-та наўрадзіць маладому ці маладой, дак яны еты каравай па

печы туды-сюды лапатай пасоваюць: ета штоб маладыя не дружна жылі. Таму стараліся зваць больш сваіх, штоб садзілі каравай” (в. Судкова).

Да ліку рэгіянальных і даволі архаічных рытуалаў каравайнага абраду адносяцца дзеянні, якія так ці інакш падкрэсліваюць наяўнасць у караваі жаночай і мужчынскай сімволікі. Даследчыкі славянскіх старажытнасцей не без падстаў лічаць, што ў самой назве *каравай*, якая паходзіць ад старажытнай формы **korvajь*, спалучаюцца ўяўленні аб нявесце і жаніху: корань гэтага слова генетычна суадносіцца са словам *карова* (←**korva*), а суфікс *-ajь* дазваляе бачыць у слове каравай увасабленне мужчынскага пачатку [13, с. 115]. Тут варта нагадаць, што сваты звычайна пачынаюць сватанне з формулы “У вас ёсць цялушка, а ў нас – бычок” або “Наш бык да вашай цялушкі прывык”. Напрыклад, інфарматары з в. Судкова паведамляюць: “Сваты ўжо спрашуюць, ці сюда папалі, ці не заблудзілі, што нам вот сказалі, што ў вас вот карова ілі цёлка прадаецца. Ну, а тады ўжо гаворац, што ў нас е такі бычок, што мы хочам іх разам звесці”. Менавіта таму падчас прыгатавання караваю яго мужчынская і жаночая сімволіка нязменна падкрэсліваюцца. Цікавы ў гэтых адносінах наступны зафіксаваны ў в. Дворышча звычай: “Учынілі каравай, замясілі і паставілі, а пад каравай ставяць маленькага хлопчыка і ўкрашаюць шышычкамі красівымі. Неслі каравай на дзяжы, дзе хлеб пякуць, дык на той крышцы”. У прыведзеным апісанні этнакультурна значнымі з’яўляюцца наступныя дэталі: далучэнне да караваю маленькага хлопчыка (пажаданне маладым дзетанараджэння), упрыгожанне караваю шышкамі (яны маюць выразную дзетанараджальную “мужчынскую” сімволіку) і сувязь караваю з дзяжой, якая, згодна з традыцыйнымі ўяўленнямі, ўвасабляе жаночы, нараджаючы пачатак. У в. Алексічы каравай упрыгожвалі “зайчыкамі і крэсцікамі” з наступным тлумачэннем: “Етыя зайчыкі і крэсцікі абазначалі, што каравай уродзі храшчоны”. Зразумела, што наяўнасць крыжа на караваі паказвае яго дачыненне да іншых хрысціянскіх атрыбутаў і да царквы ўвогуле, але выявы “зайчыкаў” у народнай духоўнай культуры незменна асэнсоўваюцца як выражэнне актыўнага мужчынскага пачатку.

У в. Вялікі Бор у час прыгатавання караваю жанчыны “выганялі мужчын з хаты”, падкрэсліваючы гэтым, відавочна, “інтымнасць”, выразную жаноцкасць гэтага дзеяння, якое атаясамлівалася з нараджэннем дзіцяці. Цікава, што ў в. Навасёлкі, наадварот, да мужчыны, які выпадкова трапляў у хату, дзе гатаваўся каравай, ставіліся не толькі прыязна, але і вельмі паважліва, каб падкрэсліць несумненнае дачыненне мужчыны да каравайнай абраднасці і да вяселля ў цэлым: “Калі прыходзіць у хату мужчына, то жэншчыны стараюцца яго злавіць да і памыць. Памыюць яго, потым палаценцам выціраюць да й прыбіраюць ужо”. А.В. Гура, падкрэсліваючы наяўнасць мужчынскай сімволікі караваю, у этналінгвістычным слоўніку “Славянские древности” прыводзіць для ілюстрацыі менавіта беларускі матэрыял: радкі з вясельнай песні (*Печ рагоча, да карваю хоча*), а таксама звычай саджаць нявесту на каравай непасрэдна перад шлюбнай ноччу [11, с. 462].

Патрабуе каментарыю яшчэ адзін даволі рэдкі і, несумненна, архаічны рытуал, які характэрны для вясельнай традыцыі Хойнікшчыны. Маецца на ўвазе звычай рытуальнага біцця дзяўчат (дружак нявесты), калі яны пасля завівання маладой развітваюцца з ёю. У апісаннях гэтага звычаю падкрэсліваецца, што біццё дзяўчат было сапраўдным, нежартоўным: “Падружкі спяваюць, як прашчаюцца з маладой. А з-за стала падружак выганялі рэмнем. Мужчыны іх білі, не жалелі. Так білі, што другая, еслі запутаецца ці яе прыдзержаць, дак саб’юць дзействіцельна”; “Мужчыны, сваты прыгатовяць рэмні і б’юць дружак. Жэншчыны стаяць, хватаюць іх. Еслі не ўспеюць схваціць рэмня, дык разоў тры пекане са ўсяе сілы, добра, не глядзіць нічога. Білі добра. Білі, крэпка білі. Дружак білі (в. Судкова); “Заўюць маладую, а ўперадзе дзеўкі-падружкі. А як ужо завіваюць маладую, так хлопцы бяруць папругу ды і б’юць гэтых дзевак” (в. Навасёлкі). Ацэньваючы гэты знешне жорсткі звычай, трэба мець на ўвазе, што ў традыцыйнай народнай культуры ў цэлым біццё асэнсоўвалася беларусамі і іншымі славянамі як рытуальнае магічнае дзеянне прадуцыруючай накіраванасці. Напрыклад, у сербскай традыцыі свёкар тройчы б’е нявесту пугаю на вяселлі і вечарам перад шлюбнай ноччу. Калі маладыя ўдзельнічаюць у вясельным карагодзе, то вядучы можа пабіць іх поясам, пасля чаго жаніх і нявеста павінны адразу бегчы да шлюбнага ложка. Біццё маладым сваёй нявесты вядома балгарам і ўкраінцам: балгарскі жаніх тройчы біў саім поясам нявесту, а ўкраіснкі малады перад тым, як прывесці нявесту дадому, біў яе палкай па спіне [10 с. 177]. У сувязі са сказаным ёсць падставы дапусціць, што і ў хойніцкім звычаі рытуальнага біцця дружак нявесты першапачаткова бачылася нейкае добрае пажаданне. У першую чаргу гэтую сітуацыю можна “дэшыфраваць” як своеасаблівую “стымуляцыю” дружак – сяброваак нявесты, каб яны гэтак жа хутка выходзілі замуж, як хутка разбягаюцца дзяўчаты з-за боязні біцця. Такім чынам, чыста знешне біццё маладых дзяўчат на вяселлі выглядае як недарэчная падзея, незаслужанае пакаранне сяброваак нявесты, а “ўнутрана”, г.зн., “у этнакультурнай прасторы” яно не магло разумецца інакш як чакаемы і нават жаданы (хоць і непрымны) для “патэнцыяльных нявест” фрагмент вясельнай абраднасці.

Вельмі дзіўна выглядае таксама сваха, якая суправаджае жаніха і нявесту, ў апісанні з в. Алексічы: “Жаніх з нявестай ідуць уперадзе. Сваха выварачвае кажух, адзявае яго, завязваецца рушніком, надзяе мужчынскую шапку”. Калі надзеты рушнік з’яўляецца звычайным атрыбутам сватоў на вяселлі, то вывернуты кажух і асабліва надзетая на галаву жанчыны мужчынская шапка не можа не выклікаць здзіўлення “на паўсядзённым”, побытавым узроўні. Але ў “вясельнай прасторы” ўсе гэтыя дэталі з’яўляюцца цалкам лагічнымі і вытлумачальнымі. Вывернуты кажух праз знешнюю сувязь махнатасці з хатняй жывёлай асэнсоўваўся як выразнае пажаданне маладым матэрыяльнага дабрабыту, багацця, заможнага жыцця, як сімвал пладароддзя і дзетанараджэння. Па гэтай жа прычыне жаніх і нявеста на вяселлі сядзелі на лаўцы, засланай кажухом: “Маладыя сядзелі на куту на

свадзьбе на кажуху, бо ім трэба размнажацца” (в. Валокі); “Маладых садзілі на вывернуты кажух, каб жыццё було добра, каб багатыя булі” (в. Вялікі Бор).

Што датычыць надзетай на галаву свахі мужчынскай шапкі, то яна таксама ўспрымалася ў такім выпадку як магічны прадмет, што ўплывае на прадуцыруючыя здольнасці чалавека. У сферы традыцыйнай духоўнай культуры славянскіх народаў шапка знаходзіла разнастайнае прымяненне. Напрыклад, яна выкарыстоўвалася ў лекавай магіі для ўмацавання здароўя слабых (неданошаных) дзяцей, што бачна з выразнай ілюстрацыі да рускага дыялектнага слова *недопарыш* ‘неданошанае дзіця’: *Дедушка Терентий недопарыш был, шесть недель лежал в шапке на печи* [12, с. 196]. На Палессі ў шапку клалі яйкі, якія потым падкладвалі пад квактуху: лічылася, што з такіх яек выведуцца добрыя кураняты [8, с.36]. Польскія гаспадыні на перадвелікодным тыдні садзіліся на шапку, “каб лепш несліся куры” [3, с.211]. У Беларусі дзяўчаты-падлеткі націралі мужчынскай шапкай грудзі, каб яны хутчэй раслі [5, с.52–53]. У Польшчы шапку клалі пад шлюбны ложак маладых, каб у іх нарадзіўся сын. З той жа мэтаю (каб нараджаліся хлопчыкі) на шапку садзіліся баснійскія нявесты [10, с. 258].

Шмат неспадзяванага і (зноў-такі толькі знешне) алагічнага можна заўважыць і ў паслявясельнай абраднасці на Хойнікшчыне. Дастаткова вядомае у гэтым рэгіёне, як і на Палессі ў цэлым, так званае парадыйнае вяселле, для якога існуюць назвы *разгрэбіны, куры, цыгане* і інш.: на трэці дзень вяселля ўдзельнікі абраду (без удзелу маладых), пераапрануўшыся ў “цыганей”, ловяць па вёсцы курэй, смажаць іх або вараць з іх суп. Параўн.: “На трэці дзень бабы ўсе прыбіраюцца ў цыганак і ходзяць па радне, дзе куру схопяць, дзе яйкі. Папрыходзяць, пакруцяць тыя куры, наварацць з крупнай картоплі бульён і зноў гуляюць. Гэта называлася хадзіць у цыганы” (в. Валокі). Пры гэты выкраданне хатняй птушкі асэнсоўвалася ўсімі як агульнавядомы рытуал і таму не асуджалася: “На трэці дзень ходзяць цыгане. Панадзяваюцца ў цыганскую адзёжу, панапінаюцца платкамі ці скацеркамі і ходзяць па хатах. Хто дасць сала, гарэлкі. Калі не давалі нічога, то кралі ўсё, што пападала пад рукі. А потым, набраўшы ўсякага, ішлі зноў гуляць дадому (г. Хойнікі).

Вядомы на Хойнікшчыне і рэгіянальны варыянт апісанага звычаю, які называецца *гуляць у зайца*. Напрыклад, у в. Алексічы ролю вясельнага “зайца” выконваў апрануты ў кажух хлопец, рытуальнае “аблупліванне” і “з’ядзенне” якога павінна было стымуляваць дзетанараджальныя здольнасці маладых, зрабіць іх жыццё заможным і шчаслівым: “У панядзелак вечарам “гуляюць у зайца” ў хаце маладога. Госці без дружак. Адзяюцца некалькі чалавек ва ўсё рванае, смешнае, чудзяць. Гэта цыгане. Бегаюць у розныя хаты, хватаюць хто што: яечкі, хлеб, кур. Адзін чалавек перадзяваецца ў кажух – гэта заяц. Цыгане круцяць ляльку. Бегаюць па двары, абліваюцца гарэлкай. Заяц уцякае, хто-небудзь страляе ў зайца, ён падае. Зайца кладуць на стол. Абліваюць гарэлкай, мо жывы? Потым лупяць, ён ляжыць. Скідаюць кажух, шапку (аблупліваюць). Заяц ускоквае і танцуе на столку. Госці ідуць у хату “есці зайчаціну”. У гасцей твары сажай вымазаны. З гасцей выбіраюць

маладога і маладую, дзеляць каравай. Садзяць маладых на кут, вешаюць вянок цыбулі на маладую. Калі ў сям'і было апошняе дзіцё, то за маладых садзяць бацькоў. "Зайца" гуляюць і ў хаце маладой. Маладыя гуляюць самі па сабе».

Відавочна, што ў прыведзеным апісанні вобраз "зайца" зусім не выпадковы. Вядомы даследчык славянскай міфалогіі А.В. Гура, даследуючы архічную сімволіку гэтай жывёліны, адзначае прымеркаванасць уяўленняў пра зайца, які ўвасабляе плоднасць і звязаную с гэтым эротыку, менавіта да вясельнай абраднасці. Аб гэтым сведчаць палескія "сарамлівыя" песні "пра зайца", якія удзельнікі вяселля выконваюць у той момант, калі маладыя накіроўваюцца да шлюбнай ночы. У прыпеўцы, запісанай на Гомельшчыне, старой бабе раюць: "Ой ты, баба старая, / Чаму не ідзеш замуж за зая?". У беларускай казцы пан, каб засеяць поле, купляе ў мужыка "сеўчыка, якім аказваецца заяц. Які выскачыў з мяшка. Сон пра злоўленага зайца прадвяшчае ў народных сонніках змовіны і замужжа для дзяўчыны і цяжарнасць – для жанчыны (СД 2, с. 285-286).

Прыведзены матэрыял, такім чынам, сведчыць аб захаванні на тэрторыі сучаснага Хойніцкага раёна шматлікіх архаічных і напоўненых багатым сімвалічным сэнсам рытуалаў і абрадаў, звязаных з вяселлем.

**Літаратура**


1. Высл. – Выслоўі / [Склад., сістэм тэкстаў, уступ. арт. і камент. М.Я. Грынблата. Рэд. тома А.С. Фядосік]. – Мінск: Навука і тэхніка, 1979. – 520 с.

2. Гуліцкі, М.Ф. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX – пачатак XX ст.). / М.Ф. гуліцкі. – Мн.: Вышэйш. школа, 1978. – 120 с.

3. Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы, конец XIX – начало XX в.: Весенние праздники /[И.Н. Дроздова, С.А. Токарев, Н.А. Красновская и др.; Ред. коллегия: С.А. Токарев (отв. ред.) и др.; АН СССР, Ин-т этнографии им. Н.Н. Миклухо-Маклая]. – М.: Наука, 1977. – 357 с.

4. Климчук, Ф.Д. Традиционная свадьба полесского села Симоновичи. Венки / Ф.Д. Клімчук // Полесский этнолингвистический сборник: Материалы и исследования. – М.: Наука, 1983. – С. 262–279.

5. Кухаронак, Т.І. Радзінныя звычаі і абрады беларусаў: Канец XIX – пач. XX ст.ст. / Т.І. кухаронак. – Мінск: Навука і тэхніка, 1993. – 126 с.

6. Лепешаў І.Я. Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы. У 2 т. – Мінск: БелЭн. – Т. 1: А–Л. – 1993. – 590 с.

7. Палесскае вяселле /Уклад. и рэд. В.А. Захаравай. – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 303 с.

8. Программа полесского этнолингвистического атласа. Сост. А.В. Гура, О.А. Терновская, С.М. Толстая // Полесский этнолинг-вистический сборник: Исследования и материалы. – М.: Наука, 1983. – С. 21–46.

9. Романов, Е.Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии. Вып. I. / Е.Р. Романов. – Вильна, 1911. – 239 с.

10. СД – Славянские древности: Этнолингвистический словарь в 5-ти томах / Под ред. Н.И. Толстого. Т. 1. – М.: Междунар. отн., 1995. – 584 с.

11. СД – Славянские древности: Этнолингвистический словарь в 5-ти томах /Под ред. Н.И. Толстого. Т. 2. – М.: Междунар. отн., 1995. – 584 с.

12. СРГСУ – Словарь русских говоров Среднего Урала. Т. 2: К–Н / Урал. гос. ун-т. – Свердловск, 1971. – 214 с.

13. Этимологический словарь славянских языков: Праславянский лексический фонд / Под ред. О.Н. трубачева. – вып. 11. – М.: Наука, 1984. – С. 115.)

*Ала ПАРТНОВА*

# ЛЕКСІКА-СІНТАКСІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЯСЕЛЬНАЙ ЛІРЫКІ ХОЙНІКШЧЫНЫ

Творчасць – гэта дзейнасць, у выніку якой з'яўляецца нешта новае, тое, чаго раней ніколі не было. Творчасць – найвышэйшая форма чалавечай жыццядзейнасці. Творчасць звязана са здольнасцю чалавека нестандартна мысліць. Зараз большасць людзей лічыць, што творчасць – гэта дар выбраных. Менавіта таму большасць з нас не піша, а слухае музыку, не ставіць спектаклі, а ходзіць у тэатры, не стварае палотны, а наведвае вернісажы. Значыць, мы не ствараем, а ўспрымаем. Ці мала гэта? Не, таму што патрэба спасцігаць навакольны свет праз прызму творчасці – гэта таксама творчасць, здольнасцю да якой надзелены кожны чалавек, паколькі яна дае магчымасць рэалізацыі непаўторнасці чалавечай асобы. Зусім іншае пытанне: ці кожны сучасны чалавек унутрана матываваны да творчасці? «Жыццё – тэатр, а людзі ў ім – акцёры», – казаў вялікі Шэкспір. Так, мы гуляем у жыцці, але саромеемся гэтага, бо баімся здацца «анамальнымі». І дарма: галоўны вораг творчасці – страх адхіліцца ад агульнапрынятых норм. Дастаткова ўспомніць, што адным з найбольш эфектыўных метадаў выхавання творчых здольнасцей чалавека з'яўляецца сінектыка – launchesператварэнне знаёмага ў дзіўнае: чалавек імкнецца ўбачыць добра знаёмае з іншага боку. Ці не давадзілася вам пры наведванні незнаёмых мясцін адчуваць, што вы калісьці ўжо тут былі? Напэўна. Але мы мала каму прызнаемся ў гэтым: не зразумеюць. Адкуль у чалавека такая здольнасць? Ці не гэта «памяць продкаў», праявы міфалагічнага абстрактна (мінулае)-канкрэтна (сучаснае)-абстрактнага (будучае) мыслення, якое вызначае лёс чалавека і яскрава праяўляецца ў вуснай народнай творчасці?

Гомельшчына багата на народных песняроў і простых людзей-носьбітаў багатай духоўнай спадчыны. Не з'яўляецца выключэннем і Хойнікшчына, народная творчасць якой была прадметам вывучэння навукоўцаў яшчэ ў XVIII стагоддзі (узгадаем працы Ч. Пяткевіча). На сучасным этапе фальклорнага развіцця назіраецца яскрава выражаная тэндэнцыя "згасання" казачнай традыцыі, нешматлікімі з'яўляюцца і ўзоры наратыўнага няказкавага фальклору, асабліва легенды і паданні. Ці выпадкова гэта? Як гэты факт уплывае на выбар сучасным чалавекам спосабаў пабудовы свайго жыццёвага шляху?

Як вядома, у сусветнай педагогіцы і псіхалогіі існуе два падыходы да тлумачэння працэсу структуравання жыццёвага шляху [2]. Айчынныя аўтары (напрыклад, С.Л. Рубінштэйн, Б.Р. Ананьеў) падкрэслівалі, што асоба свядома вызначае свае адносіны да жыцця і свядома рэгулюе працэс жыцця. Другі падыход (А. Адлер, К. Роджэрс і інш.) пабудаваны на ўпэўненасці ва неўсвядомленым выбары жыццёвага сцэнарыя, які «пішацца» на ранніх стадыях развіцця дзіцяці. На наш погляд, паміж гэтымі падыходамі няма супрацьстаяння, паколькі замежныя псіхолагі імкнуліся пранікнуць у

“перадгісторыю чалавека”, падкрэсліваючы, як і айчынныя спецыялісты, вялікую ролю бацькоў у фарміраванні жыццёвых ўяўленняў дзіцяці. Як ні дзіўна, але ўсё яшчэ даволі добра ўтрымліваюцца ў памяці інфарматараў звесткі па каляндарна-абрадавай і сямейна-абрадавай паэзіі. Ці выпадкова гэта? Думаецца, што не. Жыццёвы сцэнарый, які фарміруецца на падставе ранніх жыццёвых уяўленняў і суадносіцца са сцэнарыем, знаёмым дзіцяці з казкі, апавядання, легенды, “запускаецца” ў дзіцячым узросце. Таму вельмі важна, каб сцэнарый быў “шчаслівым”. Мысленню чалавека ўласціва міфалагічнасць, і гэта ў некаторай ступені тлумачыць той факт, што зараз казкі, паданні, легенды з жанраў вуснай народнай творчасці перабраліся ў сферу пісьмовай літаратуры і трывала замацаваліся там (аб чым сведчыць вялікая колькасць падобных твораў у розных галінах мастацтва). Магчыма, на сучасным этапе развіцця фальклору “яўная міфалагема” казачнай традыцыі саступіла месца “скрытай міфалагеме” сямейнай і каляндарнай абраднасці, у якой сцвярджаюцца міфалагічныя па сваёй сутнасці маральныя правілы, што вызначаюць напрамак жыццёвага шляху чалавека.

Лёс чалавека - гэта шлях з мінулага праз сучаснасць у будучыню. Паразважаем: ці шмат у чалавечым жыцці рэальнага, какрэтнага? Мінулае і будучае – гэта тое, чаго ці ўжо, ці яшчэ няма. Значыць, гэта сфера абстрактнага. Канкрэтнай уяўляецца толькі сучаснасць, якую можна структурыраваць у адпаведнасці з пажаданым напрамкам. А калі сучаснасць звязана не толькі з табой, а яшчэ і з блізкімі людзьмі, дзецьмі… А ты ведаеш, што лёс чалавека вызначаецца задоўга да яго з’яўлення на свет і абумоўлены лёсам і паводзінамі яго бацькоў… Ці не адсюль факт устойлівага захавання ў народнай памяці і цікавасць вучоных да тэарэтычнага асэнсавання звестак па сямейна-абрадавай паэзіі?

Не толькі літаратары, але і лінгвісты могуць знайсці шмат цікавага для даследавання ў фальклорным матэрыяле. Як лёс чалавека ўяўляе сабой перапляценне яго абстрактных уяўленняў і канкрэтных дзеянняў, так і моўная структура тэкстаў сямейна-абрадавай паэзіі вызначаецца заканамернасцямі функцыяніравання ў іх дзвюх семантычных груп лексікі: слоў з абстрактным значэннем і слоў з канкрэтным значэннем. Паспрабуем прааналізаваць гэтыя заканамернасці ў тэкстах вясельнай абраднасці Хойніцкага раёна.

Як вядома, назвы пораў года – гэта абстрактныя назоўнікі, якія ў пэўным кантэксце могуць пераходзіць ў разрад прыслоўяў. Традыцыйна канец шчодрай на ўраджай восені і пачатак зімы лічыліся тым часам, на які прыпадала найбольшая колькасць вяселляў: «свадзьбы не гулялі ў пасты, у Піліпаўку ваўкі жэняцца. Гулялі ў мясаедства» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н., студэнткамі Беспалай М.А., Харошка Н.В.); «пасля Ражаства було й вяселле» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н., студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В.); «свадзьбу няможна было святкаваць у пост, на Пятро. А так усё ўрэмя харошае, тады ўжэ і свадзьбу гуляюць» (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н., студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.); «абычна свадзьбы гулялі ўвосень, но і летам і зімой тожа можна,

толькі ў пост не гулялі» (запісана ў в. Алексічы ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н., і Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н., перасяленцаў з в. Маклішчы, студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.); «не гуляем вяселле на пасты. Да Пасхі тры нядзелі не гуляюць, на Піліпаўскі пост перад Калядамі не гуляюць, а ўжо на Троіцу, па Пасху, па самі Каляды - дык ось тады» (запісана ў в. Навасёлкі ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н., студэнткамі Клочка А., Руковіч В.).

Зусім іншыя асацыяцыі выклікае гэты перыяд пры семантычным аналізе наступнага выказвання: "У нас не гулялі свадзьбу толькі ўвосень, а гулялі летам, пасля жніва. Казалі, калі ўвосень свадзьба будзе, дак нешчаслівая сям'я будзе" (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., (перасяленка з в. Дворышчы) студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001 г.). Магчыма, тут восень звязваецца ў думках людзей з паступовым заміраннем прыроды перад зімовым "вечным" сном.

Заўважым, што сэнсаваўтваральнымі ў тэкстах усіх інфарматараў з'яўляюцца словы з абстрактным значэннем: *вяселле (свадзьба), увосень, пост, Піліпаўка, мясаедства, Ражаство, Пятро, урэмя, летам, зімой, жніво, нешчаслівая, сям'я*. Агульнапрынята лічыць, што працэс "бытавога" мыслення чалавека, не звязанага з інтэлектуальнай працай, не прадугледжвае шмат абагульненняў, развažанняў і імкнецца да канкрэтыкі. Значыць, у маўленні сэнсаваўтваральнай павінна быць канкрэтная лексіка. Варта дапусціць, што пры апісанні абрадаў за знешняй прастатой хаваецца глыбокі філасофскі і магічны сэнс, які ў нейкай ступені "выходзіць на паверхню" пры з'яўленні ў абраднасці хрысціянскай сімволікі, заснаванай на абстрактнай лексіцы: "Перад *свадзьбай* мы даўжны, як кажуць, прачысціцца чыстай *вадой*. Цэрква далёка ад нас, но ў дзярэўні быў свой святы бацька. Ён чытаў *малітвы*, ета загаворваў чыстую *ваду* з калодцу і абліваў нас *уранні* на *галодны жалудак*. *Вада* ачышчала ад *цёмнага* і *нядобрага*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н., Навуменкі Аляксандра Аляксандравіча, 1940 г.н., студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.).

У матэрыялах інфарматараў па вясельнай абраднасці выразна прасочваецца хрысціянская сімволіка лічбаў, якія дзеляцца на тры (сімвал адвечнасці жыцця): «тры сваты було…», «брала я шэсць дружак», «гулялі свадзьбу тры дні» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н., Навуменкі Аляксандра Аляксандравіча, 1940 г.н., студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.); «вяселле заўжды было ў суботу» [шосты дзень тыдня], «на трэці дзень гулялі "цыгане зайца"» (запісана ў в. Віць ад Судзенка Вольгі Васіл'еўны, 1952 г.н., (нарадзілася ў г. Данецку) студэнткай Судзенка Нінай Міхайлаўнай (2002 г.); «перад тым як ехаць у цэркву, абходзілі тры разы маці з бацькам» (запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н., студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.); «у царкве маладых… абводзяць вакруг стала з іконай тры разы» (запісана ў в. Навасёлкі ад Чэкан Васіліны Андрэеўны, 1916 г.н., студэнткамі Клочка А., Руковіч В.); у сваты «ідуць кросны бацька, матка

маладога, сам хлопец», бацькі благаслаўляюць дзяльбу каравая «тры разы», «на трэці дзень бабы ўсе прыбіраюцца ў цыганак…» (запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі) ад Краўчанка Ксені Паўлаўны, 1936 г.н., (нарадзілася на Украіне, з 1947 г. жыве ў в. Валокі) студэнткай Жмачынскай Н.); «у сваты ідуць хросны бацька маладога, два чалавекі з радні, чацвёрты – жаніх», у першы вечар вяселля, калі шукаюць маладую, «выводзяць трох дзяўчат…», бацькі благаслаўлялі маладых «тры разы» па просьбе (якая вымаўлялася «тры разы») трох баб («роднай сястры, крышчонай маці, дзяны – жонкі роднага брата»), пры «прадажы» маладой «сват ложыць два разы грошы. Дважды дружкі адмаўляюцца. На трэйці раз больш грошай ложыць. Дружкі згаджаюцца», «галоўныя сваты…спявалі: “Ацец, маці, благаславіце каравай падзяліці”. Ім у адказ: “Бог благаславіць”. І так тры разы», свахі «тры разы пяюць песню, тры разы зводзяць свечкі і тройчы цалуюцца» (запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.); пры сватанні «свечкі тры разы паляць і тры разы тушаць на парозе», песня пры завіванні маладой «пяецца тры разы», «у дванаццаць часоў ночы дзеляць каравай… на тры часткі», «просім каравай дзяліць…адзін раз кажа, фтарой раз, трэці раз» (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., (перасяленка з в. Дворышчы) студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001 г.).

У вясельных тэкстах значна радзей сустракаюцца лічбы, якія дзеляцца на два (прычым, яны з’яўляюцца сімвалам парнасці): «як маладую з дому адпраўлялі, радзіцелі ёй…дзве булкі хлеба давалі ілі спецыяльна такія піражкі пяклі. Пара етых піражкоў» (запісана ў в. Судкова ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінішны, перасяленкі з в. Дворышча, 1940 г.н., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.); толькі парныя жанчыны (тыя, якія шчасліва жылі з адным мужам) мелі права пячы каравай, завіваць маладую; «пякуць два караваі», якія нясуць «два хлопчыкі, нежанатыя, падростачкі»; «цёшча далжна яешню нажарыць з дзесяці яец» (запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі) ад Краўчанка Ксені Паўлаўны, 1936 г.н., (нарадзілася на Украіне, з 1947 г. жыве ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)) студэнткай Жмачынскай Н.). Адметна, што лічбы, кратныя тром (як сімвал жыцця) і двум (як сімвал пераходу ў іншы стан, свет), з’яўляюцца аднолькава сэнсаўтваральнымі ў пахавальнай абраднасці: *тры*, *дзевяць* (час, калі душа памерлага знаходзіцца на зямлі) і *сорак* (момант, пасля якога душа чалавека пераходзіць у іншы свет).

На пачатковых этапах сямейнай абраднасці, калі жыццёвы сцэнарый быў яшчэ зусім невядомы, “закрытасць” інфармацыі падтрымліваецца і на граматычным узроўні фразы: славесная формула мела папераджальны сэнс з умоўнай сінтаксічнай будовай, куды ўваходзілі дзеясловы, якія абазначалі нерэальнае дзеянне (абвеснага ладу ў форме прошлага множнага ліку і будучага часу адзіночнага ліку): *калі (не)…, то(дык*). Пазней, у працэсе сватання, калі па-ранейшаму нерэальны жыццёвы план становіцца пажаданым, у тэкстах пачынаюць ужывацца “канкрэтна-абстрактныя” пары назоўнікаў і дзеясловаў (дэперсаніфікаваная форма абвеснага ладу

цяперашняга (будучага) часу множнага ліку – персаніфікаваная форма загаднага ладу адзіночнага ліку):

Ой, мы ж цябе, Танечка, *завіваем*,
Шчасцем, долею *надзяляем*!
*Будзь* багата, як зямля,
*Будзь* здарова, як вада.

(Запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., (перасяленка з в. Дворышчы) студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К. (2001 г.).

Сват-сваточку,
*Пусці* ў хату.
Мы шкоды не *зробім*,
Лаўкі не *зломім*.

А ў нашага свата
З вярбы-лазы хата,
Печ яго пабялёная,
А чэсць яго пахвалёная.

(Запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.).

"Пілі і елі з аднаго посуду, патаму што мы крэпка любілі адзін аднаго і гэта значыла, што мы згодны дзяліць жыццё ўсё на дваіх. Усё. Многа жалалі за сталом: "А я сваім маладым жылаю шчасце-долю і век доўгі і мяшок грэчкі, штоб маладая маладому насіла яечкі" (першы сват), "Дарую каробку гліны, штоб пазвалі на хрысціны!", "Дарую шчасце і любоў і каробку буракоў, штоб не любіла чужых мужыкоў!"

(Запісана ў в. Вялікі Бор ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н., Навуменкі Аляксандра Аляксандравіча, 1940 г.н., студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.).

Лексічны склад тэкстаў па-ранейшаму вызначаецца багаццем абстрактнай і паўабстрактнай лексікі (*шчасце, доля, (будзь) багата, зямля, (будзь) здарова, вада, шкода, чэсць, век, хрысціны*), сэнс якой мяняецца з адмоўна-папераджальнага на станоўча-пажадальны.

Наступны этап рэалізацыі канкрэтнага і абстрактнага ў працэсе мыслення чалавека адлюстроўвае структура славеснай формулы, якая суправаджае абрад выпякання і дзяльбы каравая:

Каравай, каравай,
Уставай, уставай,
Маладых прывітай.

(Запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н., (перасяленка з в. Дворышчы) студэнткамі Салаўёвай Т., Вайновіч К.(2001 г.).

Ой, стану я каля печы
Караваю сцярэчы,…
Каб яму ўгадзіці…

(Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на ад Драка Марыі Дзмітрыеўны 1915 г.н., (перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на) студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.).

Печ наша рагоча,
Караваю хоча.
А прыпячак стогне,
Караваю не ўздохне.

(Запісана ў г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны 1930 г.н., перасяленкі з в. Настолле (цяпер г. Хойнікі) Хойніцкага р-на, Новак В.С.).

У сінтаксічнай будове тэкстаў сустракаюцца як абстрактныя (часткова персаніфікаваныя) формы загаднага ладу адзіночнага ліку і інфінітыву, так і канкрэтызаваныя (персаніфікаваныя) асабовыя формы дзеяслова. Можна дапусціць, што першапачаткова неўсвядомлены жыццёвы сцэнарый будучай сям'і паступова канкрэтызуецца ва ўяўленнях людзей.

У славесных формулах вясельнай абраднасці многія неадушаўлёныя канкрэтныя назоўнікі набываюць сімвалічнае, абстрактнае значэнне: напрыклад, *каравай* («на вяселле пяклі каравай. Прыходзіла хросная матка, прыносіла з сабой дяжу і гаварыла: "На шчаслівую долю" (запісана ў в. Віць ад Судзенкі Вольгі Васіл'еўны, 1952 г.н., (нарадзілася ў г. Данецку) студэнткай Судзенка Нінай Міхайлаўнай (2002 г.); "пры рашчыне цеста для каравая жанчыны прыгаварвалі: "Каравай родзіць у полі, а сям'я - у долі" (запісана ў в. Стралічава ад Закалоднай Соф'і Васільеўны, 1922 г.н., студэнткай Шавялёвай Н. (2003 г.); *каса, чобаты, гарбуз* ("толькі мне жаль русае касы, дзявочае красы"; "А дзе ж тыя чобаты, дзе зяць даў? А за тыя чобаты дачку ўзяў…"; "Калі не сагласна (дзеўка замуж), то…давалі гарбузу"; запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на ад Драка Марыі Дзмітрыеўны 1915 г.н., (перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на) студэнткай Кірпічэнка В. (2000 г.); *кальцо, ёлачка* ("на роспісі кольцамі абменьваліся"; "на свадзьбу ўкрашалі ёлачку. Ставілі яе на стол у хлеб"; запісана ў в. Клівы ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н., студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.); *кажух*, на якім "маладыя сядзелі на куту…, бо ім трэба размнажацца" (запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі) ад Краўчанка Ксені Паўлаўны, 1936 г.н., (нарадзілася на Украіне, з 1947 г. жыве ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі)) студэнткай Жмачынскай Н.), у які пераапранаецца сваха («вяселле ў хаце маладой кончылась, ідуць у хату к маладому…Сваха выварачвае кажух, адзявае яго, завязваецца рушніком, надзяе мужчынскую шапку»; запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.), "кажух быў сімвалам багацця і шчасця" (запісана ў г. Хойнікі ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г.н., студэнткай Санцэвіч В. (2003 г.). Адушаўлёныя канкрэтныя назоўнікі набываюць ў тэкстах сімвалічнае, абстрактнае значэнне праз прыём падмены і пераапранання, ужыванне якога рэалізуе галоўную для сямейнай абраднасці функцыю абярэгу: напрыклад, *цыгане* ("на трэці дзень бабы ўсе прыбіраюцца ў цыганак і ходзяць па радне, дзе куру схопяць, дзе яйкі. Кажуць: "Ой, дай я табе...пагадаю". Папрыходзяць, пакруцяць тыя куры, наварaць з крупнай

картопляй бульллён і зноў гуляюць. Гэта называлася хадзіць у цыганы”; запісана ў в. Валокі (цяпер г. Хойнікі) ад Краўчанка Ксені Паўлаўны, 1936 г.н., (нарадзілася на Украіне, з 1947 г. жыве ў в. Валокі (цяпер г. хойнікі)) студэнткай Жмачынскай Н.).

У вясельнай абраднасці цудоўным чынам спалучаецца нябеснае і зямное, духоўнае і цялеснае, абстрактнае і канкрэтнае. Напрыклад, у тэксце, які пасля благаславення маладых бацькамі спяваюць пры “прадажы” маладой дружкі, зусім няма «ўзвышанай» абстрактнай лексікі, што быццам бы не адпавядае ўсхваляванасці моманту:

Брат з сястрою сядзіць
Да за ручаньку дзяржыць.
Да не хоча папусціці
Да чужой чужаніцы
Свае роднае сястрыцы.

- Не гніся, дружок, не гніся,
Кладзі залаты, садзіся.
Кладзі залатой, шчэ й другі, -
Вялеў (імя маладога) малады.

Чаго, дружок, падзьмуўся?
Мо, дома грошы забуўся?
Пастаў коніка на мяжы,
А сам па грошы пабяжы.

Пудкі, дружок, пудкі,
Загналі чэрці ў суткі (малы куток).
Хто йдзе, той пытае,
Чыя чупрына матае.

За етыя грошы,
Да сват нехарошы,
Вазьмі свае грошы,
Да іййдзі на рынак,
Да купі сабе мыла,
Да памый свае рыла,
Штоб жонка любіла,
Да дзеткі пазналі,
Да бацькам назвалі.

(Запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.).

За кошт шырокага ўжывання канкрэтнай лексікі змест набывае зніжана-грубаваты, іранічны (што падтрымліваецца на марфемным узроўні: наяўнасць значнай колькасці слоў з памяншальнымі суфіксамі) сэнс, які яскрава дэманструе прадметнасць і самаіронію як прынцыпы адносін

простага чалавека да рэчаіснасці. Калі жыццёвы план маладых акрэсліваецца, то абстрактнае вераванне змяняецца крытычна-прагматычным поглядам на свет, які прымаў існаванне веры ў разумна-абмежаванай меры: «на чацверты дзень працягвалі гуляць. Калі заходзіла сонца, нам вытаплівалі печку ў бані. Давалі толькі адно палаценца. На чацверты дзень нам ужо можна було пераадзець другую адзежу. І пасля пачыналася ўжо сямейнае жыццё. Сталі займацца цяжкай працай, пачалося змаганне за хлеб» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Навуменка Ганны Мікалаеўны, 1937 г.н., Навуменкі Аляксандра Аляксандравіча, 1940 г.н., студэнткамі Навуменка Н., Новікавай І., Смірновай Н. (2003 г.); «а пасля свадзьбы ўжо пачыналася паслявясельная частка. Маладыя пачыналі працаваць і рабілі ўсё, што патрэбна» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н., студэнткай Сачанка А.).

Найвышэйшай формай праграміравання жыццёвага шляху чалавека з'яўляецца арганізацыя дзейнасці праз гульню. «Каралева дзяцінства», гульня з'явілася як рэалізацыя патрэбы чалавека ўздзейнічаць на свет. Гульня для дарослых – гэта спосаб пранікнення ў сферу дзяцінства і творчасці, калі праз магію дзеяння і слова спасцігалася сутнасць жыцця. Нездарма гульня – гэта аснова абраднасці (у тым ліку і сямейнай). Абрадавыя гульні адрозніваліся ад сучасных дзіцячых або дарослых гульняў перш за ўсё сваім сінкрэтызмам: яны былі групавыя, сюжэтныя, ралявыя з абавязковымі правіламі. Магічная моц гульні ў складзе абраду заключалася ў сумеснасці, традыцыйнасці і паўтаральнасці дзеянняў: «На вяселле запрашалі гасцей як маладыя, так і іх бацькі. Вяселле пачыналася заўсёды ў суботу вечарам у хаце маладой. Прысутнічаюць у гэты дзень толькі дружкі і радня маладых. Гуляюць, гасцююць. У гэты вечар сваты шукаюць маладую. Выводзяць трох дзяўчат (адна з іх маладая), накрытых посцілкай. Малады павінен быў знайсці яе. Але гэта было як гульні. Вянчаюцца маладыя ў нядзелю. У хаце маладой. У панядзелак вечарам гуляюць "зайца" ў хаце маладога» (запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.).

Сюжэт перш за ўсё вызначаўся прагматычнай накіраванасцю, якая магла запраграміраваць жыццёвы шлях маладых «на дабро» праз сцвярджэнне спрадвечных маральных устояў. Так, гулянне «зайца» або «курэй» выконвала аберагальную функцыю праз прыём падмены маладых і, тым самым, падман злых духаў: «Госці ідуць у хату "есці зайчаціну". У гасцей твары сажай вымазаны. З гасцей выбіраюць маладога і маладую. Садзяць маладых на кут, вешаюць вянок цыбулі на маладую» (запісана ў в. Алексічы ад Бандарчук Алены Станіславаўны, 1928 г.н., студэнткай Смусянок Н.); «на трэці дзень булі "куры". Перадзяваліся і на каню ездзілі к тым, хто буў на вяселлі, збіралі курэй. Тады ў маладой етых кур варылі і прадаўжалі гулянне. На "курах" выбіралі камічных жаніха і нявесту» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н., студэнткамі Беспалай М.А., Харошка Н.В.). А "пярэзвы" сцвярджалі неўміручасць спрадвечных законаў гасціннасці ў адносінах паміж людзьмі: "ета пярэзва, еслі перазываюць. Напрымер, вот свадзьба да пярэзва, дак я гатоўлюся, а тады перазываю к сабе етых людзей. Да ўжо тожа ўгашчаю.

Гуляюць. Вот такое вот” (запісана ў в. Судкова ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.); «колісь булі “перазовы”, у нас казалі “пярэзвы”. Калі я була на вяселлі, то даўжна була перазваць маладых, матку, бацьку ў госці» (запісана ў в. Вялікі Бор ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н., студэнткамі Беспалай М.А., Харошка Н.В.); «пасля вяселля ўжо на другую нядзелю ездзяць адзін да аднаго ў госці. Гэта называлася перазовы» (запісана ў в. Навасёлкі ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н., студэнткамі Клочка А., Руковіч В.).

Людзі жэняцца, каб працягнуць род чалавечы. Таму вяселле бацькоў – гэта першы этап, пачатак жыцця будучага чалавека. Вясельныя традыцыі прадвызначаюць жыццёвы сцэнарый, які карэкціруецца кожным чалавекам на працягу ўсяго жыцця ў адпаведнасці з абставінамі і тымі маральнымі нормамі, якія былі выхаваны ў сям’і. Сям’я адыгрывае значную ролю ў працэсе дасягнення чалавекам акмеалагічных вяршынь, бо на працягу жыцця рэалізуецца праграма, закладзеная ў дзяцінстве. Гэта добра разумелі нашы продкі. Таму працэс «праграміравання на поспех» пачынаўся задоўга да з’яўлення чалавека на свет. Гульня, заснаваная на магіі дакладна падабранага слова, - вось аснова сямейнай абраднасці.

**Літаратура**


1. Богоявленская, Т. Б. Психология творческих способностей. – М.: Академия, 2002. – 305 с.
2. Деркач, А. А. Акмеология: Пути достижения вершин профессионализма/ А.А. Деркач, Н.Я. Кузьмина. – М., 1993. – 201 с.
3. Лексіка Палесся ў прасторы і часе/ Рэд. В.У. Мартынаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1971. – 216 с.
4. Словарь символов и знаков/ Авт.-сост. Н. Н. Рогалевич. – Минск.: Харвест, 2004. – 512 с.
5. Выкарыстаны матэрыялы з фальклорнага архіва кафедры беларускай культуры і фалькларыстыкі Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.

*Святлана ВЯРГЕЕНКА*

# ЗАМОВЫ ХОЙНІЦКАГА КРАЮ

Ва ўяўленні сучасніка замовы асацыіруюцца з нечым застыглым, акамянелым, пра што сведчаць устойлівасць кампазіцыі і мастацка-вобразных сродкаў, стэрэатыпнасць традыцыйнасць тэматычнага складу. Аднак гэтыя ўяўленні справядлівы толькі часткова. На працягу тысячагоддзяў, з першых крокаў чалавека на шляху цывілізацыі і да новага часу творцы замоў не выходзілі за межы строга рэгламентаванага кола тэм і вобразаў. Знаёмства з творамі замоўнага жанру розных рэгіёнаў дазваляе ўбачыць адны і тыя ж паэтычныя прыёмы, падобныя матывы і вобразы-сімвалы, што дае падставы сцвярджаць факт самабытнасці гэтага віду мастацтва.

З моманту свайго ўзнікнення замоўныя словы прамаўляліся ўсімі членамі чалавечай грамады, якая, напрыклад, збіралася на паляванне. З цягам часу захавальнікамі і актыўнымі замаўляльнікамі становяцца асобныя людзі – прафесіяналы (“пасвячоныя”), а яшчэ пазней – тыя “бабкі-шаптухі”, “чарадзейкі”, “калдуны”, якія ведалі на памяць дзесяткі замоў розных тэматычных груп (гаспадарчыя, сямейна-бытавыя (асабліва любоўныя – прысушкі і адсушкі), сацыяльныя, але найбольш – лекавыя), што перадаваліся ў спадчыну. Адзначым, што творы замоўнага жанру характарызаваліся пэўным наборам традыцыйных сродкаў і прыёмаў, якія ад аднаго пакалення творцаў пераходзілі да наступнага: гэта разнастайныя <u>формулы-паўторы,</u> якія выкарыстоўваліся для апісання падобных сітуацый або тых, што дакладна паўтараліся (“…ссылаю (***скулу – С.В.***) на ніцыя лозы, на белыя бярозы, на цёмныя ляса, на крутыя берага, на жолтыя пяска” – в. Веляцін; “…нясіце (***ляк – С.В.***) на мхі, на балоты, на крутыя горы, дзе вецер не вее і людзі не ходзяць…” – в. Вялікі Бор; “… я цябе (***гора – С.В.***) адсылаю на ніцыя лозы, на белыя бярозы, на сіняе мора” – в. Казялужжа; або “… прыстрэк угавараці падуманы, пагаданы, прымоўлены, прыгавораны, ветраны, мужчынскі, жаночы, дзявочы, хлапочы” – в. Судкова; “зляк … гусіны, курыны, парабочы, жаночы, жыдоўскі, цыганскі” – в. Веляцін; “… урокі, прыстрэкі падуманыя, з ветру надуваныя, хлапоцкія, жаноцкія, дзявоцкія” – в. Віць), <u>пастаянныя эпітэты</u> (сіняе мора, залатое крэсла, чыстае поле, белая бяроза, бел-гаруч камень, слова крэпкае, жоўтыя пяскі, ніцыя лозы, топкія балоты і г.д.), <u>рыфма і рытм</u> (“Першым разам, божым (добрым) часам, ранняю зарою, добраю парою…”; “Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся…”; “Пчолы раяцца, пчолы пладзяцца, пчолы смірацца” і г.д.). Названыя сродкі мастацкай выразнасці з’яўляюцца найбольш характэрнымі для сакральных замоўных тэкстаў.

У сучасных запісах замоў пераважаюць мікратэксты (у хойніцкай калекцыі больш за 72 %), але і сярод іх мы назіраем пэўныя структурныя адрозненні: прысутнічаюць творы з адкрытай сінтаксічнай структурай і замоўныя формулы, утвораныя на аснове параўнання ці супрацьпастаўлення.

Першыя – найбольш элементарныя. Гэта часта адзін сказ, які змяшчае матывы просьбы, пагрозы ці адсылкі хваробы (“Грыжа-грыжа, я цябе грызу. У цябе адзін зуб, а ў мяне сем, я цябе з’ем”; “Вятла-вятла, забяры сваю глоць, а калі не возьмеш, мы яе заглодзім з каранямі. Амінь. Амінь. Амінь” – в. Храпкава; “… йокалка-йокалка, выйдзі за вароты, каго ўстрэціш – таму ў рот” – г. Хойнікі; “… на мядзведзю еду, вужом паганяю, усім сваім врагам зубы замыкаю. Святы Давід за мной весь” – в. Вялікі Бор). Можна з пэўнай доляй упэўненасці сцвярджаць, што менавіта такія творы самыя старажытныя: яны нескладаныя па структуры, лёгка запамінаюцца і выказваюць самую сутнасць.

Сучасны стан бытавання замоў у Хойніцкім раёне у агульных рысах мала чым адрозніваецца ад іншых раёнаў Гомельшчыны. Сярод запісаных намі тэкстаў падчас экспедыцый (калектыўных і індывідуальных) 71,05 % лекавых, 10,52 % гаспадарчых, 9,64 % сацыяльна-бытавых і па 4,38 % ахоўных і любоўных.

У тэматычнай групе лекавых замоў пераважаюць наступныя: “Ад крывацёку” (“Кроў замаўляць”), “Ад прыстрэку” (“Супраць уроку”, “Ад уроку”, “З урокаў”, “Нарадка-порча”), “Ад удару” (“Удар”, “Ад звіху, удару”, “Звіх, удар”), “Ад зубнога болю” (“Ад зубоў”, “Зубы лячыць”) і “Ад залатніка” (“Ад грыжы”, “Ад грыжы-кілы”, “Залатнік”, “Ад жывата”), “Ад спуду” (Ад ляку”, “Ад зляку”), “Ад рожы” (“Ад ядрасці або рожу спальваць”), “Ад скулы” (“Ад залатухі”), “Ад ліхаманкі” (“От лихорадки”). У хойніцкай калекцыі замоў сустракаюцца тэксты “На добрыя роды”, “На захаванне плода”, “Ад всех чар”, “Ад валасня”, “Вогнік”, “От пьянства”, “Для зренія”, “Ад пераходу”, “Желудок, печень, почкі”, “Бронхі, лёгкіе”, Головная боль”, “Ад радзімца”, “Ад царапіны”, “Ад шпораў”.

Гаспадарчая тэматыка ў асноўным прадстаўлена магічнымі формуламі, скіраванымі на захаванне хатняй жывёлы, у прыватнасці каровы. У межах гэтай тэматычнай групы зафіксаваны тэксты, закліканыя абараніць жывёлу ад суроку (“Ад уроку жывёлы”, “Каб абараніць сваю карову”, “От поддзелок корове”); павялічыць надой малака (“Каб было больш малака”, “Як карова не дае малака”, “Як прападзе малако ў каровы”), забяспечыць якасны выпас (“Пры выгане жывёлы на пасбішча”, “Пры выгане скаціны”). Гаспадары не абыходзілі ўвагай свіней (“Свіней закармліваць”) і пчол (“Для пчол”). Клапаціліся на Хойнікшчыне і пра ўдалае паляванне (“Паляўнічая”).

Сацыяльна-бытавая група прадстаўлена замовамі, якія павінны былі забяспечыць поспех у судзе (“Ідці на суд”, “Ад суда”, “На поспех у судзе”), абараніць хлопца, які ідзе ў войска (Як хлопец ідзе ў армію”, “Салдацкая”). Чыталіся замовы, калі ідзеш у дом жаніха (“Как вхадзіць у дом жаніха”), калі ідзеш гуляць (“Еслі ідзешь на гульню”), перад дарогай (“У дарогу”), каб усё было добра.

Ад Мятліцкай Васілісы Васільеўны, 1939 г.н. быў запісаны цыкл замоў, які складаецца з 16 магічных тэкстаў, у асноўным лекавых. Толькі адна замова з гэтага цыкла адносіцца да сацыяльна-бытавых – “Ад врагоў”. Як паведаміла інфарматар, гэтыя замовы трэба было гаварыць у пэўным

парадку. Пачынаецца цыкл з малітвы “Отча наш...”. Першыя сем тэкстаў (“Отча наш...”, “Нарадка-порча”, “След-нарадка”, “Ад ворагаў (на соль)”, “З урокаў”, “Зляк-іспуг”, “Удар”) прагаворваюцца па тры разы. “Калі абнаружыла не тое ў якой-небудзь з етых первых замоў, тады яе (у якой адчула) яшчэ тры разы гаворыш, і так покуль не будзе чыста ў ёй”. Астатнія замовы (“Малітва-яд (лячыць на кроў)”, “Малітва-вужаў яд (лячыць печань, жэлудак, почкі)”, “Вецер-праступа (лячыць бронхі, лёгкія)”, “Залатнік”, “Галаўная боль”, “Грызь, параліч, звіх”, “Скула-залатуха”, “Скула-рожа”, “Дзецкая балезнь”) прагаворваюцца па аднаму разу. Інфарматар упэўнена, што ўсё гэта неабходна рабіць для таго, каб паглядзець (адчуць), якую харобу лячыць: “Калі ж найшла балезнь з етых замоў, тады гаворыш (на якой найшла) яе яшчэ тры разы і так, пакуль не вылечыш. Інагда прыходзіць такі бальны чалавек, што без сіл устаеш, усю энергію траціш”. Час, у які прамаўлялася большасць замоў, не адыгрываў вялікай ролі: “Прамаўляліся яны, калі трэба было людзям, вось тады і прамаўляліся. Няважна ў які час. Вось толькі венерычаскія балезні лячылі на маладзік”. А месца і роля прадметаў-апатрапеяў былі дакладна вызначаны: “Лячыць людзей нада перад іконай з запалінай свечкай. Таксама нужна даць іконку чалавеку, які лечыцца, каб ён прасіў Бога прасціць яго за свае грахі”. Абавязкова трэба было хрысціцца. Замовы названага цыкла ахопліваюць розныя захворванні. Нават, каб вылечыць звіх і удар прапануюцца розныя тэксты. Замова, скіраваная на пазбаўленне ад звіху, таксама выкарыстоўваецца пры лячэнні грыжы і паралічу. У замовах, што гучаць у пачатку, выгаворваюцца захворванні, паходжанне якіх невядомае: “нарядку-подделку подуманную, подтешную, подстреленую, следную, встрешную, подкладную, знающую и незнающую”, “пристречное, подзлячное, подмешное” і г.д.

Асноўным дзеяннем у лекавых замовах з’яўляецца **знішчэнне** захворвання. Яно адбываецца праз адсыланне на непрывабныя мясціны: “долы, даліны”, “на сметніцу, на талкавішча, з талкавішча на кладбішча”, “на чарота-балота”, “на ніцыя лозы”, “за сіняе мора, за жоўтыя пяскі”, “в чістые поля, в сініе моря”, “на цёмны лес, на колас, на крутую гару”, “в темные леса, где люди не ходят и кони не бродят, и птицы не летают; на быструю воду, по которой люди не ездят; на буйные ветры, что по дальности ходят; к лихому человеку, который на (имя) лихо думает, … который добра не сделает”, “... у гразі тапучай, у балоце зыбучым”, “на лясы, на балоты, на горныя воды”, “на дубішча”, “сярод цёмных лясоў, крутых берагоў, сыпучых пяскоў, дзе людзі не ходзяць, пціцы не лятаюць”, “дзе сабакі не брахалі, пеўні не спявалі, дзе сонца не свяціла, луна ніколі”; адсыланне з частак цела: “жылаў, мозжыл, касці, суставаў, пазванкоў”, “з жыл, з паджыл, з кагцей, з чуткіх вушэй, з чырвонай крыві, з жоўтай касці, з буйнай галавы, з румянага твару, з русага валаска, з шчырага сэрца, з белага цельца”, “з жыл і пальцаў, і пажыл, з усякіх сустаўцаў”, “з касцей, з машчэй, з гарачай крові, з буйнай галавы, з белай грудзі, з рук, з ног, з усіх жыл і суставаў і ўсяго цела яе (яго)”, “з касцей, машчэй і жыл, потым з румянага ліца, шчырага сэрца”. Дапамогу ў знішчэнні аказваюць боскія сілы: божая Маці, Гасподзь Бог, святой “Нікалай

угоднік", Пётр, Павел, Ілля, святой "Логвін сотнік", апостал; языччніцкія дзеючыя персанажы: "тры дзявіцы (божыя памашніцы Арына, Марына, Кацярына)", "вада-царыца"; расліны: "вішню адсякаем, ... боль адхінаем", "роза прынялася, кроў сунялася"; птушкі: "арлы дзюбамі ісклевалі, лапамі зграбалі, крыламі змахалі, панеслі за сіняе мора, за цёмныя лясы, на зялёныя балоты, палажылі на купіну, лапамі разграбалі, крыламі размахалі, дзюбамі расклявалі...". Захворванне, як сведчаць тэксты, можна таксама знішчыць праз зашыванне ("раны зашывае"), разліванне ("ваду разліла, кроў суняла"), разбурэнне ("разруш гора, калдаўство, чарадзейства, завісць, нянавісць, здзелкі, зглаз"), змазванне ("памазаці раны параскіданыя..."), змяншэнне ("прыступі і памажы, і на макава зёрнышко раскаці"), праз пагрозу ("а калі не пойдзеце, я к вам прыду з косамі, з тапарамі, з добрымі малайцамі. І я вас пакашу, парублю і ў груд складу, і спалю, і попел разадзьму"), словам ("ядрасць угаваралі", "гавару, выгаваруую...", "выгаваруую, вымаўляю..."), з дапамогай прадмета, які рэжа, коле ("бери меч и отруби им всем головы, чтобы они не вредили рабу божьему (имя)"), крыжом ("крест от всякіх сабак, от всякіх волков, от всякіх злых людзей"). Каб пазбавіцца ад некаторых захворванняў (напрыклад, ад залатніка, звіху, удару) неабходна ***ўзнавіць парушаную цэласнасць*** ("косць на косць настаўляй"), ***паставіць на месца*** ("стань на сваім месцячку, на залатым крэслечку", "цябе мамка парадзіла і на залатое крэслечка пасадзіла, зарою падпеalready, табе местачка ўказала"). Каб пазбегнуць шкоднага ўздзеяння захворвання, ***ствараюць ахову*** ("малітваю пакрываюся, звёздамі асыпаюся, ... крестом баранюся..."), ***даюць работу*** ("начніцы-сестрыцы, даю вам работу: проса товчіце, мак счітайце... Даю вам 12 верацён. Позавчора пралі, а вчера моталі, а цеперь тчіце, прімыкайце..."), ***пазбягаюць сяброўскіх адносінаў*** ("як гэтым старыкам умесці не сходзіцца, за цесовымі сталамі не садзіцца, з сярэбраных кубачкаў віна не піць, з залатых тарэлак не есці..."). Некаторыя сюжэтныя тэмы пабудаваны на ***немагчымасці дзеяння*** ("у жываце не хадзіць і гора не тварыць", "тут табе не стаяці, косці не ламаці, в лайно не падаці, бакоў не закладаці, в спіну не ўварачаці...", "тут табе не стаяці, бакоў не распіраці, пад сэрца не падлягаці, па жывату не хадзіць, варот не закрываць, пад грудзі не падпіраць, крыві не бушаваць", "тут не бываць, белай касці не ламаць, краснай крыві не сушыць, сіняй жылы не пароць...", "цебе тут не быць, цебе тут не жыць, касцей не ламаць, суставов не гнаць", "стань, кроў, уранні, как вада ў Іардане..."), ***немагчымасці прарастання*** ("... кроў замаўлялі, вішанькай засыпалі. Вішанька не ўзашла, кроў не пайшла", "пясок не ўзойдзець – кроў не пойдзець"), на ***неадчуванні болю*** ("у іх зубы не балят...", "не баляць у мяне зубы, не шчыпле шчокі, не ломіць касці").

Замовы Хойніцкага раёна характарызуюцца разнастайнасцю замоўных матываў. Адзначым, што пад замоўным матывам варта разумець змястоўную, семантычна завершаную адзінку тэксту, элемент, які выконвае сюжэта- (утварае комплекс узаемазвязаных і ўзаемаабумоўленых матываў, пад гэтым комплексам матываў разумеецца сюжэт) і структураўтваральную (утварае пэўныя кампазіцыйныя часткі твора) функцыі. Як адносна самастойны

фрагмент твора матыў мае пэўную структуру (суб’ект, яго дзеянне, аб’ект, на які накіравана дзеянне суб’екта і іншыя акалічнасці), кампаненты якой выяўляюць здольнасць да дэталізацыі, чым і абумоўлена ступень канкрэтызацыі матыву на ўзроўнях субматыву (канкрэтнай рэалізацыі матыву на суб’ектным, прэдыкатным, аб’ектным або акалічнасным сэнсавых узроўнях) і мікраматыву (вышэйшай ступені канкрэтызацыі субматыву на тых жа або іншых сэнсавых узроўнях). Да апавядальных элементаў Ул. Кляус адносіць персанаж, яго дзеянні, месца дзеяння і аб’ект дзеяння. Разам з тым, разглядаючы персанажы замоўных тэкстаў, ён умоўна падзяляе іх на 7 груп: хрысціянскія і язычніцкія персанажы, хваробы, персанажы расліннага і жывёльнага свету, свяцілы (нябесныя целы), стыхіі і з’явы прыроды, персанажы-прадметы і персанажы “рэальнага свету” [1, с. 79]. Але, на нашу думку, персанажы жывёльнага (воран, змяя, куры, арол і г.д.), расліннага свету (дуб, бяроза, асіна, лекавыя травы і проста трава і г.д.), з’явы прыроды і стыхіі, свяцілы (месяц, зоры, сонца, вецер, маланка і г.д.), побытавыя прадметы (верацяно, качарга, печ, кніга і г.д.), антрапаморфныя вобразы (рукі, ногі, галава і г.д.), а таксама вобразы людзей (тры калекі, дзевіцы, “жэншчыны” і г.д.) носяць яскрава выражаны амбівалентны характар, адлюстроўваюць як язычніцкі, так і хрысціянскі светапогляд, з’яўляюцца вобразамі рэальнага свету. У разглядаемай калекцыі мы сустрэліся з рэдкім выпадкам амбівалентнасці вобраза Хрыста, якому надаюцца ўласцівасці знахара-шаптуна: “Ішоў Ісус Хрыстос чэраз яры мост, нёс на плячэ мячэ і парубаў сабе плячэ. Начаў шаптаць-гаварыць, каб кроў не ішлі і рана зажыла” (в. Судкова). У замове “Крыксы” (в. Судкова), знахар (рэальны персанаж) звяртаецца да зор-зараніц, родных сястрыц (яскравы сімбіёз яэычніцкіх і рэальных вобразаў. Тут яшчэ на рэальнага чалавека – знахара – накладваецца міфічны вобраз) з просьбай забраць “крыксы, плаксы” (персаніфікаваныя хваробы). “Куры крычаць, вяляць спаць і маўчаць” – рэальным птушкам надаюцца міфічныя ўласцівасці. У замове “Замаўляць кроў” (в. Клівы) “баба ішла гарою, несла глёк з вадою, спатыкнулася, упала, глёк разбіла, ваду разліла” – падаецца жыццёва верагодная карціна, аднак на гэтыя рэальныя вобразы накладваюцца звышнатуральныя ўласцівасці: разліўшы ваду, “баба” суняла кроў. У замове “Ад залатніка” (в. Пагоннае) залатнік (у язычніцкім уяўленні персаніфікаваная хвароба) называецца “божым чалавечкам” (хрысціянскі эквівалент наймення). Варта адзначыць, што большасць такіх замоў пачынаецца малітоўным зачынам: “... Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры пакланюся”. Такіх прыкладаў можна прывесці шмат, таму часам немагчыма катэгарычна аднесці пэўны вобраз да той ці іншай групы. Зыходзячы з гэтага, мы прапануем тры найбольш выразна акрэсленыя групы: хрысціянскія, язычніцкія і рэальныя персанажы.

Найбольш распаўсюджаным персанажам у замовах Хойніцкага раёна з’яўляецца замаўляльнік. Перад тым як пачаць працэс лекавання, гэты персанаж выконвае найбольш папулярнае дзеянне: ён моліцца Госпаду Богу і кланяецца божай Маці. Гэтыя дзеянні складаюць аснову самага папулярнага зачыну: “Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся, святой

Прачыстай Мацеры пакланюся”. Акрамя гэтага, ён устае “да ўсходу сонца, благаслаўляецца і, перахрысціўшыся, выходзіць “з дзвярэй, з варот у вароты, пад усходнюю сторану, у чыста поле”. Нельга не пагадзіцца з меркаваннем Ул. Кляуса аб тым, што гэтыя дзеянні сведчаць аб прыналежнасці таго, хто замаўляе, да чалавечага свету [1, с. 85]. Аднак далей замаўляльнік накіроўваецца да “акіян-мора, на свет божы востраў”, на якім ляжыць “Алтар-камень, а на камяні стаіць Мацяр Прачыстая Багародзіца…”. Тым самым ён далучаеццца да свету міфічных істот. У тым выпадку, калі замаўляльнік не можа справіцца сам, ён звяртаецца за дапамогай да іншых персанажаў: “Сама я прыступаю, Госпада Бога і Прачыстую Маці на помач прызываю…”. Гэта, перш за ўсё зварот з просьбай да <u>божай Маці</u> (“святая Прачыстая Маць божая, прыступі, дапамажы”, “Прашу і малю, Прачыстая божая Мацяр, шчыра сваімі горкімі слязьмі…”), <u>Госпада Бога</u> (“Прыступі, Госпадзі, памажы”), <u>да святых</u> (“Святой Нікалай угоднік, …разруш гора, калдаўство, чарадзейства, завісць…”, “Святой Логвин сотник, яви скорую помощь твою, исцели от тяжкого недугу…”), <u>да ангелаў-храніцелей</u> (“Ангелы-храніцелі, беражыцелі, беражыце маю душэчку с вечера да поўначі, с поўначі до свету”), <u>да дзявіц</u> (“Вы, дзявіцы, божыя памашніцы, памагаяце вы Богу Ісусу Хрысту, памажыце мне прыстрэк угавараці…”), <u>да зор</u> (<u>зары</u>) (“Зоры-зараніцы, родныя сястрыцы, вазьміце (імя) крыксы, плаксы, па далах панясіце, у калыску сну прынясіце…”, “Вялікая зара-заранічка, хвораму памочнічка, стань на помач, на ратунак…”), <u>да месяца</u> (“Месяц, месяц малады, у цябе рог залаты, ты ўвесь свет абайдзі, мне пару найдзі…”), <u>да хваробы</u> (“Залатнік, залатнічку, добры чалавечку, ідзі на сваё местачка, на залатое крэслечка… Я цябе ўпрашаю, угаВараю, на чарота-балота пасылаю…”, “Волас ты, волас, я цябе ўпрашаю, я цябе ўгаварую, на цёмны лес пасылаю”). У некаторых выпадках просьба гучыць як загад: “Исак, бери меч и отруби им всем головы, чтобы они не вредили рабу божьему (имя)”, “Залатнік, залатнік, стань на места, на залатом крэсле”, “Грыжа, грыжа, не грызі косці ўнутры раднога жывата і не вазврашчайся нікагда”, “Булат, прэч, адстань, а ты, кроў, цячы перастань”, “Стань, кроў, уранні, як вада ў Іардане…”, “Удар, удар, выйдзі з касці малой ды вялікай, з суставаў і з ліца”, “Хмель и вино… выходите на быструю воду, … пойдите на буйные ветры, привяжитесь к лихому человеку…”). Апатрапеямі для замаўляльніка з’яўляюцца малітва, крыж, зоры: “… Малітваю пакрываюся, звёздамі асыпаюся, … крестом баранюся…”.

Здольнасці замаўляльніка “<u>даваць работу</u>” захворванню (начніцы-сястрыцы, даю вам работу: проса таўчіце, мак считайце... Даю вам 12 верацён. Позаўчора пралі, а вчера моталі, а цеперь тчіце, прімыкайце, мойго дзіцяткі не чапайце..."), <u>сунімаць боль</u> (“звіх угавараю, калючыя, балючыя болі сунімаю”), у тым ліку і з дапамогай раслін (“вішню адсякаем, к сырой зямлі пакідаем, ад косці боль адхінаем...") даюць магчымасць аднесці гэту асобу да свету язычніцкіх персанажаў.

Сярод “чалавечых” вобразаў у тэкстах сустракаюцца “тры дзявіцы”, “дзевіца”, “тры сястрычкі”, “тры пані”, “бабы”, “тры калекі” і інш., дзеянні

якіх разнастайныя. Матыў “Персанаж зашывае раны” ўтварае сюжэтную сітуацыю ў замовах “Ад крывацёку” (пад сюжэтнай сітуацыяй разумеецца прысутнасць у тэксце персанажа, яго дзеяння, месца дзеяння, аб’екта дзеяння [1, с. 12]. У большасці такіх тэкстаў – гэта жаночы персанаж: “тры дзявіцы”, “красна дзевіца (швяя-масцярыца)”. Раны зашывае таксама і воран. Названыя персанажы звычайна выкарыстоўваюць шаўковую нітку і булатную (або залатую) іголку. Мора з’яўляецца асноўным месцам дзеяння гэтых персанажаў і праз яго ляціць воран, а жаночыя персанажы сядзяць або на камні Алатыры, або на дамавіне, што знаходзяцца “на моры, на акіяне, на востраве на Буяне”. На гэтым жа месцы знаходзіцца “дзевіца”, якая “прыдувае залатуху”. У замовах, напрыклад, “Ад прыстрэку” і “Ад зляку” “на сінім моры стаяць каморы, у якіх тры пані. Адна з іх сталы засцілае, другая – кубкі налівае, а трэцяя – “прыстрэкі і ўрокі”, “зляк” (адпаведна) угаварае”.

Месцам дзеяння жаночых персанажаў у некаторых замоўных тэкстах з’яўляецца поле, на якім знаходзяцца дрэвы, пад якімі “на прэстоле” тры дзявіцы дапамагаюць замаўляльніку пазбавіць хворага ад прыстрэку.

У адрозненне ад вышэйпрыведзеных прыкладаў, дзе жаночы персанаж прымае непасрэдны ўдзел у пазбаўленні чалавека ад хваробы, у замове “Ад валасня”, запісанай у в. Судкова “дзеўкі” чакаюць хваробу на крутой гары, куды яе адпраўляе замаўляльнік: “Пасылаю я цябе, волас, на крутую гару, там дзеўкі гуляюць, сталы засцілаюць, віном чары наліваюць, цябе ў госці дажыдаюць”. У замоўным тэксце “Вогнік загаварываць”, запісаным ад гэтага ж інфарматара, галоўным дзеючым персанажам, які дапамагае пазбавіцца ад захворвання, з’яўляецца дзед. Захворванне “вогнік” найбольш блізкае па семантыцы да слова “агонь”. Лічылася, што “на агонь нельга пляваць – на губах будзе вогнік”. Таму і ў замовах гэтай тэматычнай падгрупы агонь з’яўляецца як непасрэдна, так і праз вынік свайго ўздзеяння. У нашым выпадку гэты вобраз мае апасродкаваны выгляд: “Ішоў дзед гарэлы гарэлым мостам да гарэлай бабы папрасіці масла памазаці раны...”.

Адметнымі з’яўляюцца замовы “Ад крывацёку”, запісаныя ад Белаш Еўдакіі Сяргееўны, 1918 г.н. з в. Дворышча Хойніцкага р-на. У адным з тэкстаў тры дзевіцы “секлі, рубалі, кроў замаўлялі”. Гэтыя дзеянні больш уласцівы для мужчынскіх персанажаў. Сустракаюцца і “тры калекі”, якія выконваюць падобныя дзеянні ў замовах, запісаных у вв. Судкова, Слабажанка.

Вобраз “жэншчыны” (нягледзячы на яго амбівалентнасць), які сустрэўся ў замове “От лихорадки” (г. Хойнікі), мэтазгодна аднесці да язычніцкіх персанажаў. Як лічыць Т. Шчапанская, “ліхаманкі – звычайна старухі, страшэнныя, абарваныя – увасабленне акрэатыўнасці” [6, с. 170]. У замове ліхаманка мае выгляд басаногай, касаглазай, касматай жанчыны (іх у тэкстах – 71), яны (ліхаманкі) жывуць “за высокімі гарамі, за дзікімі лозамі, за сінім морам”. У тэксце, запісаным у г. Хойнікі ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н., ліхаманка адганяецца, магчыма, на сваё месца жыхарства: “за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае пустое царства”.

Т. Шчапанская сцвярджае, што, па павер’ях, павышаная небяспечнасць “урокаў” і “прызораў” ідзе ад прадстаўнікоў некаторых полаўзроставых груп (старыя, сівыя, дзеўкі-доўгавалоскі, векавухі, чарнічкі, чарнаўкі, мужыкі-чарняцы), “усё гэта катэгорыі, выключаныя з сферы чалавечага ўзнаўлення – акрэатыўныя катэгорыі” [6, с. 166-167]. Як вынікае з тэксту замовы “Ад спуду”, запісанай ад таго ж інфарматара, усе “хіткі, прыткі, хваробы, шупеціцы, спуды, перапалохі” ўзнікаюць “ад бабкі-самакруткі, ад дзеўкі-пуставалоскі”. Аднак, каб пазбавіць дзіця ад іх шкоднага ўздзеяння, гэтыя захворванні адпраўляюцца “чорнаму, рудому, чырвонаму. Чырвонаму ў адно вока солі, у другое – пяску”. Людзі, антрапалагічныя асаблівасці якіх адрозніваліся ад мясцовай нормы, адносіліся да найбольш шкаданоснай катэгорыі [6, с. 167].

Антрапаморфныя вобразы захворванняў займаюць адно з асноўных месцаў у мясцовай замоўнай традыцыі. Да жаночых вобразаў адносяцца таксама і “начніцы”, звычайна гэта сёстры, якім даручана работа: спачатку трэба лічыць мак, а потым яшчэ прасці “дванаццаццю верацёнамі” (г. Хойнікі).

Амаль усе захворванні характарызуюцца вялікай колькасцю эпітэтаў, пры дапамозе якіх выражаецца спосаб насылання хваробы (“урочныя, прыгаворныя (прыгаворчывыя, прымаўляныя, намоўныя), нагаданыя, прыдумчывыя, прыстрэшныя, прысмешныя, падзіўныя, паглядныя, ветраныя (з ветра), вадзяныя (з вады), земляныя, з агня, спужаныя, зляканыя, аручыя, пяручыя”); час (“утранія (ранішнія), паўутранія, дзённыя, полудзённыя, паўпаўдняныя, вячэрнія, павячэрнія, начныя, паўпаўночныя, полуночныя”); месца, дзе хвароба лакалізуецца (“бакавыя, гарлавыя, цемянныя, імянныя, нутраныя”); а таксама ўказваюцца суб’екты, ад якіх гэта хвароба, магчыма, магла прыйсці (“мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, хлапочыя, парабочыя, курыныя, гусяныя, качыныя, кацячыя, сабачыя, конскія, жарабячыя, варанячыя, свіныя, авечыя, вераб’іныя”). Пры апісанні скулы, выкарыстоўваюцца здвоеныя назоўнікі: “скула-падбойніца, скула-ветраніца, скула-прыстрэтніца, скула-падумніца, скула-залатуха, скула-саладуха”, “скула-скулавіца, мурава-муравіца, касцяна-касцяніца, рожа-ражавіца, сіня-сінявіца, норма-нармавіца, красна-красавіца, бела-белявіца”.

З хрысціянскіх персанажаў у замоўных тэкстах Хойніцкага раёна дзейнічаюць Ісус Хрыстос, Божая Маці, анёлы, апосталы, Пётр, Павел, Ілья, “убогі Лазар”. Разнастайныя дзеянні выконвае Гасподзь Бог. Каб наблізіцца да простых людзей, ён “сходзіць з неба”, ідзе праз мост, праз “явароў двор” (“кіяком” папіраецца і назад не азіраецца), праз “Ярцаль”, па лузе (дзе знаходзіць тры ружы), едзе ракой. Усе гэтыя месцы можна лічыць мяжой, за якой пачынаецца “іншы свет”. (Напрыклад, “рака ... асэнсоўваецца як дарога ў іншы свет, які знаходзіцца на другім беразе або на востраве сярод мора” [5, с. 333]). З сабой Гасподзь Бог вядзе трох апосталаў, трох святых, якія ўзыходзяць на Сіянскую гару і просяць у яго дапамогі. Як асоба, якая надзелена звышнатуральнай сілай, ён адкрывае “прастол”, на якім стаіць, забірае боль і пасылае яго на “ніцыя лозы”; “угаварае” звіх, удар; састаўляе на месца “сустаўчыкі”. У замове “Спаць лажыцца” (г. Хойнікі) Ісус Хрыстос

стаіць у дзвярах, а Божая Маці – у галавах. Яна ідзе за Госпадам Богам, просіць і моліць яго, ходзіць па сінему мору, стаіць на камні Алатыры, нясе залатыя ключы, каб адчыніць і зачыніць царскія вароты. Божая Маці здольна выгаворваць захворванні, “гасіць ятрась”, тушыць пажар. У замове “Ад ядрасці (або рожу спальваць)”, запісанай у в. Тунеўшчына, выразна прасочваецца амбівалентнасць вобраза Божай Маці: “Святая Прачыстая па полю хадзіла, зелле збірала, к ране прыкладала, расой пасыпала, струп намаляла, на рожу ўсылала”. Анёлы займаюць звычайнае для іх месца – каля акна, дзе яны з найбольшай карысцю здзяйсняюць сваю ахоўную функцыю. Каля акна звонку стаіць нячыстая сіла, якую адганяюць падчас прамаўлення замовы: “Атайдзіце, дзьявал, ад дома раба божага (імя), ад дзвярэй і акон, і ад усіх чатырох старон” (в. Дворышча). У замове “Ад звіху, удару” (в. Дворышча) анёлы прылятталі да царквы, якая стаяла на сінім моры, там яны чыталі кнігу і звіх-удар угаворвалі. Як бачым, вышэйпералічаныя хрысціянскія вобразы таксама амбівалентныя.

Персанажамі ў лекавых замовах Хойнікшчыны з’яўляюцца і з’явы прыроды, і нябесныя свяцілы, якія ўспрымаюцца як персаніфікаваныя. Як слушна адзначаў А. Аксамітаў, “персаніфікацыя прыроды і прыродных сіл – вынік псіхалагічнай адаптацыі старажытнага чалавека да навакольнага свету, маральна-псіхалагічнае і духоўнае прыстасаванне свету да сябе. Асацыятыўнае збліжэнне знешняга свету са светам унутраным спрыялі фарміраванню спецыфічнага мастацкага прыёму – тлумачэнне бытавой сферы чалавека праз тлумачэнне прыроды і космасу” [7, с. 154]. Зварот да месяца абумоўлены верай старажытнага чалавека ў яго здольнасць абыйсці ўвесь свет. У замове “На сон” (в. Дворышча) ён асацыіруецца з асобай, якая выконвае ролю свата, таму да яго і звяртаюцца з просьбай, знайсці суджанага (ую) і паказаць яго (яе) у прарочым сне: “Месяц, месяц малады, у цябе рог залаты, ты ўвесь свет абыйдзі, мне пару знайдзі, з кім мне век векаваць, каб ва сне павідаць...”. Звычайна месяц з’яўляецца ў замовах ад зубнога болю. У гэтых тэкстах ён выступае як вобраз, звязаны з іншасветам: “Маладзік маладой, у цябе рог залатой. Ты па небу ходзіш, мёртвых бачыш...”.

Вобраз ветру асацыіруецца з вобразам сейбіта. Зыходзячы з народных уяўленняў, па ветру можна наслаць захворванне. У замове “Ад крывацёку” (в. Дворышча) немагчымасць “прарастання пяску”, які пасеяны ветрам, суадносіцца са спыненнем крывацёку: “Пясок не ўзойдзець, кроў не пойдзець”.

### Спіс выкарыстаных крыніц:


1. Кляус, В.Л. Сюжетика заговорных текстов славян в сравнительном изучении. К постановке проблемы / В.Л. Кляус. – М. : ИМЛИ РАН, “Наследие”, 2000. – 192 с.

2. Словарь литературоведческих терминов / ред.-сост.: Л.И. Тимофеев, С.В. Тураев. – М. : “Просвещение”, 1974. – 509 с.

3. Советский энциклопедический словарь / гл. ред. А.М. Прохоров. – 3-е изд. – М. : Сов. Энциклопедия, 1985. – 1600 с., ил.

4. Таямніцы замоўнага слова. – Гомель : Беларускае Агенцтва навукова-тэхнічнай і дзелавой інфармацыі, 1997. – 320 с.

5. Славянская мифология. Энциклопедический словарь – М. : Эллис Лак, 1995.

6. Щепанская, Т.Б. Культура дороги в русской мифоритуальной традиции XIX-XX вв. / Т.Б. Щепанская. – М. : "Индрик", 2003. – 528 с.; ил.

7. Аксамітаў, А.С. Беларуская фразеалогія ў граматычным, семантычным і функцыянальным аспектах / А.С. Аксамітаў // Слова беларускае. З гісторыі лексікаграфіі. – Мінск, 1994.

## ЗАМОВЫ

### Пры выгане скаціны ў поле

Господу Богу помолюся, Святой Прачистай покланюся. Святая Прачистая, стань да помоги. Зори-зарницы, божие помошницы, становитесь да помощи ведьмов злых умовлять, уговорять и придуманых, и пригаданых. На ницые лозы, посылайте, где ветер не вее, сонца не грее, певни не спевают, никакие голоса туда не забегают.

На золотом кресле, на синем море, на синем море стоит камора, а в той каморе красна девка гуляе, спевае, дики камень разбивае. Як того камня не собрать, так от моей (имя коровы) коровы спору не забрать.

У 12 часов ночи усих ведьмов у хату призываю, усих ведьмов и злых, и лихих – всих перемогаю.

Цадилку звару, крапиваю жижкаю спеку. На Ашанское море посылаю, там ведьмов оставляю. На море дуб стоит какатистый, на 12 какатов и 12 дуплов. Туда всех ведьмов загоняю и стальными замками замыкаю.

*Читать 3, 6, 9 раз.*

### Пералогі

Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся. На Сляшскай гарэ стаіць дуб, на тым дубе 70 сукоў, на тых суках 70 сарок. Сарокі вы белабокі, ляціце, нясіце пералогі халодныя, гарачыя, масці белай, чорнай, краснай, дзе людзі не ходзяць, пеўні не спяваюць, там пералогі прападаюць.

### Паляўнічая

*Узять з сабою на ахоту кусок мяса или хлеба, на каторы тры разы нагаворана:*

– В чистом поли, в тёмном леси, в тумани привеликом е птица-полетуша, е серыя гуси, сизыя утки, у их крылья надламилися, сами бы опустилися, перо абарвалася и сели б на бугор высоки, чтоб мя, раба божия (имя), не видали и стральбы б до их дробь, як вольнае перо.

### Для пчол

Пчолы раяцца, пчолы пладяцца, пчолы смирацца. Стану я на васток, против дальней стараны, и слышу шум и гул пчол. Беру я пчолу роя, скора я сажу в улей. Не я тябе сажаю, сажающь тябе белыя звёзды, роганоги месяц, краснае сонца, сажающь тябе и укарачвающь. Ты, пчола, ройся, на округ садись. Замыкаю тябе, матка, все пути-дароги, ключом-замком и кидаю ключы в акеан-мора, пад зялёны куст, а в том кусте сядить матка, всем маткам старшая, сядить и держить 77 жал, а жалиць непакорных пчол. А будете вы, пчолы, маим славам непакорацца, сашлю я вас в акеан-мора, пад зялёны куст, где сядить матка, всем маткам старшая и буде за ваша непакорства жалиць вас в 77 жал. Слова маё крепкае.

### Ад нячыстай

Ад Духа Святога, прычасніка Хрыстова. Спасава рука, Багародзіцын замок. Ангел мой, ідзі проч ад мяне. Е ў мяне тры лісты, напісана ўсе Марк да Нікіта – велікамучанік, за грахі душу мучыць, за мяне Бога моліць.

*Чытаць 3 разы на святую ваду, якой свецяць памяшчэнне.*

**Ад скулы**

Скула-скуліца, муравая муравіца, баравая баравіца, прыстрэчная, пасмешная, ідзі ты, скула, на дзевяць зямель, на дзевятае царства. Там стаіць дуб, каля дуба стаіць столік. Столік засланы, кубкі налітыя. Піцьё, едзенье, сладкае кушанье, там вам гуляць, шчармаваць. Пака я не ведала, не ўгаварала. Цяпер ведаю, угавараю і ссылаю на ніцыя лозы, на белыя бярозы, на цёмныя ляса, на крутыя берага, на жолтыя пяска. Дзе вецер не вее, дзе сонца не грэе, дзе сонца не ўсходзіць, пеўня голас не заходзіць. Не сама шаптала, Божья Маці дапамагала.

*Чытаць 3, 6, 9 разоў.*

**Ад удару**

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся. Святая Прачыстая Божая Маць, прыступіце, памажыце рабе божай (імя). Кіеўскія, пячорскія, божыя памошнікі з неба ўпалі – не пралі, не ткалі. Ангела прызывалі, звіх, удар угаваралі з жолтай касці, з чырвонай краві, з чырвонай, з жолтай касці. Амінь.

*Чытаць 3, 6, 9 разоў.*

**Ад прыстрэку**

Госпаду Богу малалюся, Святой Прочистай поклонюся. Святой спаситель, спаси, сахрани, помилуй. На море, на белом просторе стоял ракитовый корч. Под ракитовым корчом белый камень лежал. На белом камне пристол стоял, за пристолом Иисус Христос Евангелю читал, злому, лихому зубы замыкал, як белого каменя не взять, так рабе божей (имя) пристреку не бывать. На веки веков. Аминь.

*Читать 9 раз.*

**Ад жывата**

Залатник, залатничок, божий человечик, стань на золотом крилечку, на своим местечку, где тебя мать народила, а бабка перебабила, а кума закумила, на сваё местечко посадила. Перстником катись, золотом садись, как ты не бушевал, не восовал, жолтой кости не ломал, под сердце не поддал, румяного лица не терял, голове шуму не довал. Аминь.

*Читать 9 раз.*

**Зляк**

Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь (*3 раза*).

Господу Богу помалюся, Святой Прачистай поклонюся. Святой спаситель, царица небесная. Приступите первым разом, лепшим часом,

вечернею зарёю, доброю порою. Прибудь, Господи, на помощь рабе божай (имя) зляк уговарать.

Ехал зляк железным мостом, упирал железным шостом, мост увагнулся, мост проломался, зляк отракнулся гусины, курины, порабочи, жаночы, жидовски, цыгански. Пакуль мы не знали, Господа Бога не прасили. От рук, от ног, с пальчиков, с суставчиков, от лица, с чырвонай крывы, с больной головы. Щука белява хвастом виляла, хрищёной (имя) всё горо отнимала, на ницые лозы ссылала. Де ветер не вее, де сонце не грее, де сонейко не всходить, де певней голос не заходить. Я не сама шаптала, Божая Мамка помагала. Я – словам, а Бог – помощью. Аминь.

*Читать 9 раз.*

**Ад зубнога болю**

– Месяц маладзенькі, маладзік залаценькі, ты на том свеце быў?

– Быў.

– Мёртвых бачыў?

– Бачыў.

– У іх зубы не балелі?

– Не.

– Няхай не баляць і ў мяне.

**Ад крывацёку**

Ехаў яшчэ Хрыстос чэраз мост, вёз кляновую тросць. Мост праваліўся, конь праваліўся, кроў, астанавісь.

*Чытаць 3 разы.*

**Ад прыстрэку**

Здесь – не здесь, на девять земель, на десятом царстве стоял дуб. На тым дубе сидели две девицы-красавицы, травы зрывали, расу спивали (имя), уроки знимали, кто (имя) врагу, таму кровью вочи завалаче. Это тебе умовлено, угаворано. Трох ангелов прызываю, ат спасителя помощи желаю.

**Ад звіху**

У чистом поле стоит игруша, под тою игрушою корова стояла, телёнка лизала. Покинь, корова, теленка лизать, иди звиху угаваривать. Бери за ногу, руку, кость на кость, сустав на сустав. Господи, всё на места поставь. Усе святые, на помощь.

*Читать 3 раза.*

**Ад благога чалавека**

Стану я, раб божы (імя), благаславлюсь і перакрашчусь, пайду па мацеры сырой зямле, небам пакроюсь, зарой падпаяшусь, звёздамі абтычусь. Злой і ліхой чалавек не можа неба пакрыці і зары патушыць, і звёзды сашчытаць, і на мяне, раба божага (імя), ні зла падумаць, ні ліха памысліць. Злой, ліхой чалавек, зло падумай, паварацісь к яму на карань, палажы паміж

язык і шчокі жалезна спіца, каторае слова забыта назадзі, будзь наперадзі ў лепшым месцы, каторае слова прыбаўлена, то бы к ім прыстала. І будзьце, маі слова, вастрэе вострага нажа, вастрээ булатнага капья, век па векі. Амінь, амінь, амінь.

**На добрае жыццё**

О, Пресвятая Богородица, небесная царица, спаси и помилуй нас, грешных рабов Твоих (имя), от напрасной клеветы, от всякой беды, напасти и внезапной смерти, помилуй в дневные часы, утренние и вечерние и во всё время сохрани нас стоящих, сидящих, на всяком пути ходящих, снабди, заступи и покрой, и заступи, и покрой, и защити.

Владыка Богородица, от всех врагов видимых и невидимых, от всего злого обестояния, на всяком месце и во всякое время будь нам, Мати Преблагая, необратимая стена и крепкое заступление всегда и ныне, и присно, и во веки веков. Аминь! Огради мя, Господи, силою честного и животворящего Твоего креста и сохрани мя от всего зла.

**Любоўная**

Во имя Отца и Сына и Святога Духа. Аминь! В печи огонь горит, палит и пышет, тлит дрова. Так бы тело горело, сердце горело у рабы божьей (имя) по рабу божьему (имя) во весь день, по всяк час, всегда, ныне и присно и во веки веков. Аминь!

**Ад суда**

Сама я на суд іду, Бога Айца на плячах нясу, Мацер Божа, сустракай, саваёй чэснай пеляной мяне пакрывай, сваім чэсным крэстом усіх врагоў пабівай.

Як цяжка мёртваму ў гробе ўставаць і руку падымаць, штоб так цяжка было врагам маім слова сказаць. Ішоў Ілья пракор з неба, нёс огнены лог, разрубаў карову, як карова сваім цялёнкам жадна, штоб нада мной былі врагі жадны.

Як карова сваім цялёнкам не ўладзее, штоб нада мной суд і врагі не ўладзелі.

*Запісана ў в. Веляцін*
*ад Максіменка Евы Аляксандраўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Санцэвіч В.*

**Ад злога духа**

На сінім моры – камень, на тым камні – дуб, на тым дубе – трыдзевяць какатоў, на тых какатах – трыдзевяць гняздоў, на тых гнёздах – трыдзевяць сарок, трыдзевяць урок: ад дзявочага, ад хлапочага, ад мужчынскага, русы волас, чорны волас, рыжы волас, белы волас. Святыя святочкі, хадзіце ка мне на помач. Я – з славамі, Бог – з духам. Як стала, так перастала.

**Ад нячыстай сілы**

Выганяю я з раба божага (імя) бясоў-д’яблаў, нячыстых духаў, выганяю з такога-та раба, з такога-та воласа, з ярых ног, з сэрца, з зубоў, з целясоў, з рота, з носа, з віскоў, з мазгоў, з шыі яго, з плеч, з хрыбетнай касці, з робер, з сярэдзіны, з рук, з ног, з суставаў, з нутра, з утробы, з жыл, з няжыл, з крыві, з целяса, з дыхання, з узгляду. І ссылаю вас, бесы-д’яблы, нячыстая сіла, на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, паганыя воды, дзе Садом і Гамора. Заклінаю я вас, бесы-д’яблы, нячыстая сіла, ветраных і выхадных, і вадзяных, і жывотных, і насякомых. Заклінаю ўсемагушчым Богам з вышніх воблак чатырмя авангелістамі: Іванам і Маркам, Лукам і Мацвеем. Адступайце, злыя духі, ад раба божага (імя)...

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Гардзейчык Марыі Пятроўны, 1926 г.н.,***
***студэнткай Катлабай Г. (1997 г.)***

* * *

Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Божай Мацеры памалюся. Святая Прачыста Божа Мацер, прыступі і памагі прыстрэку ўгавараці (імя). Прыстрэк, прыстрэк! Я цябе ўмалаю, я цябе ўпрашаю, на сіня мора гуляць адпраўляю. Там табе пакрасаваць, пагуляць, усех нас угаварaць. І ўгавараю з касцэй, з машчэй, з ручак, з ножак, з пальчыкаў, з сустаўчыкаў, з мезіннага пальца, шумнай галавы. Я славамі гаманю, прашу Прачысту Божу Маць дапамагці (імя), штоб (імя) спала, сон прыбываў, Бог на помашч даваў. Зара-зарніца, божая памочніца, памагаеш людзям, памагі і нам. Амінь.

**Ад крыві**

Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Божай Мацеры памалюся. Шлі калекі чэраз тры рэкі, секлі, рубалі і (імя) кроў замаўлялі. Стой, кроў, у ране, як вада на Ардане.

**Ад розных нядуг**

Загаварваю ў раба (імя) нядугі розныя маім моцным загаворам. І запаведую вам, нядугі, хадзіць па міру ад усхода да захада, ад озера да балота, ад гораў да долаў, ад мора да мора, ад хат да церама, ад леса да ўзлеску, ад стара да малога чалавека, ад звяроў да гадаў, ад горадаў да прыгарадаў, ад сяла да сяла, ад зорак да месяца. А к усходу да захаду не даходзіць, а ў возеры з балотам утануць, а ў дом праз гору не залезці, ад мора да мора не перабрысці і ў лесе з пералескам застацца, а ў лесе з пералескам зацапіцца, а ад старца да малога быць пабітым і ад звера да гада быць з’етымі, ад горада да прыгарада быць выгнанымі, ад сяла да стана быць за канавай, ад зоркі да месяца не дасягнуць. Мае словы вялікія, мой загавор моцны. Хто ж нарушыць мае словы, і хто задумае развярнуць мае загаворы, таму не бываць, а быць усё па-майму.

### Ад грыжы

Стану я, раб Ілля, благаславясь, пайду, перахрысціўшыся, із дзвярэй у дзверы, із варотаў у вароты, у чыста поле, да мора-акіяна. У моры-акіяне ляжыць камень святы, на тым камні стаіць дом. Папрашу я, раб Ілля, здароўя ад (такой-та) хваробы, ад грызот, ад балёты, ад ламоты. Бяжыць рака вогненная, праз вогненную раку – калінавы масток, па таму масту ідзе стары, нясе ў руках залатую талерку, срэбранае пер'ейка, паможа раба божага Іллю пазбавіць ад хвароб.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Лук'яненка Кацярыны Савельеўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай Н. (2003 г.)***

### Ад скулы

Госпаду Богу памалюся, Святой Мацеры пакланюся скулу (імя) угавараці. Скула-скулуха, красная краснуха, жоўтая жаўтуха, сіняя сінюха, чорная чарнуха, скула-завушыца, скула-залатуха. Я цябе знаю, я цябе зсылаю, я цябе ўгаварваю. Не я цябе зсылаю, не я цябе ўгаварваю, а зсылае цябе, угаварвае Божая Мацер. Амінь.

### Ад порчы

*Калі ідзеш набіраць ваду, нада гаварыць так:*

– Здраствуй, паважаная вада Таццяна, паважаная зямля Ульяна, а ключ Іван. Дайце мне вады ад усялякай бяды. Амінь.

### Ад зглазу

Ва імя Айца і Сына і Святага Духа. Амінь. Чыстая кроў і нябесная. Спасі, сахрані раба божага (імя) ад усякага зглазу, ад худога часу, ад жаночага, ад мужчынскага, ад дзіцячага, ад радаснага, ад ненавіснага, ад нагаворнага, ад перагаворнага. Не я выгаварываю, а Прасвятая Багародзіца.

### Ад зубоў на маладзік

Маладзік малады, у цябе рог залаты. Ты на моры катаўся, з мёртвымі ўстрачаўся. У мёртвых зубы не баляць. Няхай у мяне (імя) таксама зубы не баляць. Амінь.

### Ад спуду

Госпадзі Божа, блаславі (імя), ізбаў её ад іспугаў, влёков, нервов і ўсех нядобрых балезняў. Маць Прачыстая, благаславі (імя) і памагі збавіць ад усякіх іспугаў, влёков, нервов і ўсех нядобрых балезняў. І я, раба божая, выгаварываю ад рабы божай (імя) усе іспугі, влёкі, нервы і другіе нядобрыя балезні калючыя, балючыя, ламучыя, знабучыя, ветравыя, віхравыя, рабячыя, дзявочыя, жаночыя, мужскія не сам сабою выгаварываю, а Госпадам Богам і Мацер'ю Гасподнею. Сама Маць Прачыстая ад (імя) все іспугі, влёкі, нервы і другіе нядобрыя балезні выгаварывала із касцей, із машчэй, із гарачай крыві, із буйнай галавы, із белай грудзі, усіх жыл і суставаў, і ад усяго цела её.

Прашу ў Госпада Бога Ісуса Хрыста і Мацеры Гасподней для (імя) харошага здароўя на векі вечныя. Амінь.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Лук'яненка Серафімы Адамаўны, 1927 г.н.,***
***студэнткай Чэкан Т. (1996 г.)***

* * *

*Трэба чытаць па вясне, калі начынаюць пчолы роіцца. Мёду будзя ўсягда багата:*

– В церкви небесной стоит стол хрустальный, на столе брачная чаша стоит. В этой чаше мед налит. Кто бы его ни пил, до дна не выпивает, мед в чаше не убывает, а больше ещё прибывает. Так бы и в мои улья мед пчелы таскали, соты наполняли, чаши наливали. Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

* * *

*Гэта трэба гаварыць, калі ідзеш на паляванне. Гаварыць патрэбна тры разы і хрысціцца:*

– Бяжыць беленькі зайка, роўна белы лёд. Возле бока стаіць Ілья-прарок з двянаццацю слугамі: "Слугі вы, слугі, вярны мне! Палажу на вас службу няцяжолую: і што возьмеце вы па пруту жалезнаму, і зганяйце вы с Камы і Волгі, с чыстага поля, с шырокага раздолля, із-за сопак і горак в (імя ахотніка) лавушку, паставушку".

* * *

*В канцы Рождества Иоана Предтечи (11 октября) зажгице дома свечу, чтоб никто не видел ваших дел, и, обходя углы дома, говорите:*

– Повязываю руки, ноги, лишаю мышц и сил, лишаю разума и зрения, лишаю воровского везения. Голова без мыслей, тело без костей, насылаю 13 страстей. Сюда пришел, а назад не ушел. Во имя Отца и Сына и Святога Духа. Аминь.

* * *

*Трэба ўзяць каласок з жытам, даць дзіцяці і сказаць:*

– Як я даю чыстаму дзіцяці жыта каласок, так і штоб у полі чыстае было, як узяў дзіця без шкодніка, так і я забраў с поля чыстае.

* * *

*Читать во вторник.*

*Читают весной, утром в чужом огороде, вечером в своем, на молодой месяц:*

– Вам – трава-мурава, нам – полные короба. Отнимаю, отнимаю, отбираю, отбираю. Мне – в прыбыль, вам – в убыль.

* * *

*Читать стоя перед иконой Божей Матери:*

– Я, раб божий (имя), хожу кругом своего царства, меряю ступнями ограду и Владычицу, Матерь Бога нашего, Неапалимую Купину, прошу, спаси рабов божих (называть имена) от огня, врага и меча и от всякого супостата. Аминь. Слово мое крепкое. Подуй, ветер, потяни шупель и полымя не на чьи хоромы, ни на лес, ни на пашни, ни на скатину дворину, а на полевую былину. Слово мое крепко. Аминь.

* * *

*Когда грымит гроза, нада гаварыть:*

– Создай, Господи, тихую воду, теплую росу!

*В любой четверг, кроме праздничных, оставшись одна дома, встань посреди комнаты, 3 разы перекрестись, 3 разы поклонись и прочти челобитную на домового:*

– Домовой, домовой, головам головик, бережень дома, домовой балки, пола и подпола, людей домашних, скота и домашних птиц, заступник обманутых девиц, помоги мне, подсоби мне, выкликни, замани мне в мужья венчаные раба божьего (имя), чтоб тянуло его в мой дом, на мою дорогу, к моему порогу, к моей двери, мне, рабе божьей (имя), помоги, в сужены, ряжены раба божьего (имя) дай. К моему порогу его сватов направляй. Аминь.

*Если у вас есть подпол, бросьте туда сахару или конфету.*

* * *

*Читают на Рождество, стоя на пороге, лицом к дому:*

– Отведи, Господи, нечисть от меня, отводы, петли, огня, суда, ножа, вора, от наговора, от посягателя на тело и кров и порчи на кров. Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

* * *

Упрашаю хадзяіна дамавога, палявога, выгоннага, межавога і самага старшага – Дзяменьцція Дзяменьцевіча і цябе, Кляменцій Кляменьцевіч, і цябе, Хвёдар Хвёдаравіч, і цябе, Аграсім Аграсімавіч! Прашу я вас, не астаўця нас, любуйця раба божага маіх коней і мілуйця, і прыглядайце, як самі знаеця. Прашу вас, не астаўця нас.

* * *

Іду ў лес, бяру хлеб і соль і нясу лясному хазяіну, Кляпеке і Астраке, і падзі ад мяне, няшчасны, на мхі, на балота, на гнілую калоду. Там табе пасцель паслана, ізгалоўе высокае, пярына пуховая. Там табе спаць, а майго (імя) не відаць. Не я цябе ганю, а гоніць ця Хрыстос і святы Лука, гоніць цябе огнём, пламенем, жалезным прутам.

* * *

Вадзяніца, лесавіца, шальная дзявіца! Атвяжысь, аткацісь, у маём двары не лажысь, табе тут ня век жыць, а нядзелю быць. Ступай у рэку глубокую, на асіну высокую. Асіна, трасісь, вадзяніца, уймісь. Я закон прынімаў, залатой хрёст цалаваў, мне з табой не вадзіцца, не куміцца. Ступай у бор, у чашчу, к лясному хазяіну, ён цябе ждаў, на мху пасцелюшку слаў, муравой усцілаў, у ізгалоўіца калоду клаў. З ім табе спаць, а мяне, храшчонага, табе ня відаць. Амінь.

* * *

*Читая этот наговор по весенним четвергам, будет всегда молоко:*

– Чёрная масть (или другая) на зелёную пашню, на весенние воды, на молочные берега, по крутой сыр, по густу сметану, по жирну маслу. Рогами от врагов отколись, хвостом отмохнись, дойною приди и мне всю выгоду принеси. Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

* * *

*Возьмите чашку с соленой водой. Обходите трижды вокруг порченого животного и говорите, брызгая на него:*

– Режу и солю, и не даю. Не дам портить ни своему, ни чужому, ни глупому. Ни по глупости, ни по жадности, ни из зависти, ни из корысти, ни по злости. Моя нога вперед встает, рука опрокинет, и порча сгинет. Аминь.

* * *

*Калі выганяюць першы раз у поле карову, то даюць ёй сена з кута (багатая куцця):*

– Еш, кароўка, сена з кута і дзяржыся свайго кута.

* * *

*Взять нож, в поле или в лесу начертить круг и, тыча ножом в круг, читать:*

– Прошу вас, Юрий, Егорий, прошу вас как Бога, уймите вы своих хортов полевых, лесовых и боровых, зажмите им зубы и губы. Чтоб они своими очами не видели, ушами своими не слышали мою скатину (кличка) в поле, в лесу и во всяком месте. И поставь ты ее, Господи, на таком месте, чтоб моя скотина (кличка) показалась твоим хортам сухим пнем, гнилой колодой.

* * *

*Нужно взять цедилку, положить в горшок, залить освещённой водой, поставить горшок в печ и варить, помешивая "святой" вербой. Когда вода в горшке закипит, ведьма прибежит просить прощенье, т. к. ей будет сильно жечь огонь в грудях, а молоко у коровы вернётся.*

* * *

*Десять раз прочесть молитву «Отче наш», а потом следующее:*

– На море, на окиане, на острове на Буяне стоит дуб, под тем дубом – ракитовый куст, под тем кустом лежит бел камень, на том камне лежит рунцо, под тем рунцом лежит змея-скорпея. Есть у ней сестры Марья, Марина и Катерина. И мы вам помолимся, на все на четыре стороны поклонимся. Утишися свою лихость от раба божия (имя).

*Наговорить на воде или на соли и брызгать в лицо или морду животного.*

* * *

*Нужно 6 июля добыть клок шерсти с собаки, принести домой, прочитать на неё и хорошо запрятать дома. Всех, кто живет в этом доме, не укусит собака:*

– Бежала собака. Встретила сатану, тот дал ей наказ не лаять, не рычать, не грызть, не кусать, но молчать. Отныне и довеки лежи, шерсть, в углу. Бойся меня, собака, и всю мою семью. Аминь.

* * *

*Берут три охапки сена с трех копен со словами:*

– Фрол и Лавр, приходите зимой мой скот кормить.

*А в день Покрова Богородицы нужно дать этот припрятанный до срока корм овцам, коровам, лошадям – всем животным, которые у вас есть. Скот будет крепок и живуч.*

* * *

*Насыпать в красный мешок мелкай крупы, трясти над головой ребенка, читать:*

– Сыпь-сыпота, детская маята, скатись, свались с раба божьего (имя). Аминь.

## Замовы супраць хвароб

*Заговор проговаривают три, шесть или девять раз. Перекрестить того, кого заговариваешь, переговорить заговор, а потом дунуть через левое плечо (и плюнуть) и это сделать три раза. Рану сжать. Можно сильно обвязать:*

– Господу Божечке помолюсь, Пресвятой Матери Марии поклонюсь. На синем море, на тихом океане стоит дуб, под тем дубом Пресвятая Матерь Мария умывается, шелковым платочком утирается. С этого дуба веточки ломила, у рабы божей (имя) кровь заговорила.

* * *

*Водить по больному месту рукой. Читать:*

– Ехал Михаил-архангел по горам, по лесам, по морям, по всем дорогам. Заехал на мост, конь споткнулся, сустав свихнулся. Конь встал, сустав на место встал. У раба божьего (имя) все косточки, все жилочки, все полужилочки, на место встаньте у раба божьего (имя). Аминь.

*Читать 12 вечеров.*

* * *

Боль ушла, кровь стоит, мясо цело, чтоб ничего не болело. Аминь.

*Ушибленный локоть долго болит. И, бывает, после этого начинает сохнуть рука. Смотрите на локоть и говорите:*

– Кость, кровяной, жиляной, подзакожный. Он ударил, а мастер все исправил. Аминь.

*Шептали и от болей в спине и пояснице.*

* * *

*Три корешка земляники опускают в воду и говорят три раза:*

– Как земляника эта засыхает и завядает, так же чтобы и у раба божьего зубы замирали и занемели по сей день, по сей час.

*Положить корешки на зуб, а воду выпить.*

* * *

Скула-скулица, добрая девица, по полю ходила, цветы собирала, скулу уговаривала водяную, земляную, подуманную. Скула-скулица, синя-синявица, бела-белавица. Угавариваю, угавариваю, белым полотном накрываю. Садися, скула, на сухи лес, на сухия лозы. Я – словом, а Бог – помощью.

*Читают над больным человеком в субботу.*

* * *

*Читают в том же доме, где лежит больной, закрыв рожистое место красной тряпкой. Читать 3 раза после заката:*

– Шел старец, нес ларец, запнулся и упал, что уронил – все подобрал. Забрал с рабы (имя) рожу, положил в ларец, а ларец – в рогожу. Аминь.

* * *

Встану я, раба божья (имя), перекрестясь, и, помалясь, отправлюсь искать Опостольскую церковь, найдя в ней Богородицу, подойду к ней с поклоном, со своей просьбой. Матушка, Пресвятая Богородица, сними с меня, с рабы, все болезни, уроки кареглазы, синеглазы, черноглазы, чтобы не болела я, не скорбела. Щука – из моря, стрела – из бела тела, болезни – с рабы божией (имя). Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

*Наговаривать на воду и дать умыться.*

* * *

Угаманяю, угавараю з касцей, з машчэй, з чорных печалей, з жыл і з пажыл, і з рук, і з ног, з русых валос, з галубых вачэй, на бярозу адсылаю. Табе, бяроза, на красавіцца, дліны не красіць і корня не мець, і вотпрыскаў не пускаць, і галлём не матаць, і лістам не шумець – табе нароблена хвароба.

* * *

Господи, Иисусе Христе, Сыне Божий, помилуй мя, раба божия (имя) *(сорок раз)*.

Избавь, Господи, от двенадцати кумох, от Иродивых дочерей, худых, босых, нагих *(тринадцать раз)*.

* * *

На Сиянской горе стаить верба. На той вербе сядить змея. Нихто той змеи не здыме, тольки Исус Христос изниме, ето все зныме. Уроки, пристреки, подуманые, з ветру надуваны, хлапоцкия, жаноцкия, дявоцкие, из буйная галавы, ясных вочак, чорных бровак, з белай костки, з рыжага мясу. Я – словам, а Бог – помощью".

* * *

*Читают на воду, которую дают больному пить, а остатком умывают:*

– Вечерняя заря Маримьяна, прошу тебя от денницы, от полуденницы, от полуночницы, от часницы, от получасницы, от минутницы, от секундницы бессонницы-неугомонницы. Вечерняя заря Маримьяна, прошу тебя – накати сон и угомони раба божьего (имя) и во веки веков. Аминь.

* * *

*Всем известно, что бумагу делают из древесины. И поэтому, по всей вероятности, она при сгорании выделяет вещество, похожее на деготь. Значит, надо брать бумагу (или газету), делать из неё кулёк, обрезать его нижнюю часть, чтобы его было хорошо поставить на тарелку, зажигать конус, и пока бумага горит, на тарелку оседает мазь. Этой мазью смазывали лишай, и он быстро очень проходил.*

* * *

*Как бы рубить ножом воздух у больного места и говорить:*

– Силы небесные, чаша брачная, исцели, Пантелеймон, своим даром раба божьего (имя). Аминь.

* * *

*Читать и водить безымянным пальцем вокруг больного места и перекрестить три раза:*

– Грызу грыжу, згрызаю грыжу в губе под матицей, под сырой землей, чтобы не была грыжа у раба божьего (имя), грыжи век по веку, отныне и довеку. Аминь, аминь, аминь.

* * *

Залатник, залатничку, добрый человечку, стань сабе на местечко, як Иисус Христос сядить на залатом креслечку, так золотника поставь на золотом местечку. Чтоб по животу не гулял, под сердце не подлегал, по боках

на закладал, ворот не заслонял и румяной крови не сунимал. Я – словом, а Бог – помощью.

* * *

*На воду говорят, на 12 глоточков:*

– Господи, где твои ученики, Господи, или ты сам помоги. На живот ложусь, перекрещусь. Прошу тебя, Боже, по второму разу, по милосердному наказу. – Бок (живот) не болит? – Не болит. – Огнем не горит? – Не горит. – Господи, ты мой Бог, заговори мне больной живот. Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

* * *

Кавтун-кавтуночку, добрый человечку, гавару-пригавариваю, чтоб боли не знали, ярости не принимал, горачих слов не понимав, костей не ломав, гарачай крови не бунтовав. Табе жить у поле, прасветлость, там шить, а тут табе на сядеть. Аминь.

*Читать над кавтуном.*

* * *

*Перед произнесением заговора надо взять кусок хлеба, положить на ячмень, а затем дать собаке, приговаривая:*

– Собака, собака, возьми свою титьку, а мне дай здоровый глаз.

*После, показывая собаке кукиш, надо произнести: "Возьми кукиш", – и плюнуть через левое плечо.*

* * *

На сінім моры ляжыць белы камень, на тым камені стаіць дуб на дванаццаць какатоў, на тых какатах сядзіць дванаццаць ангалаў, дзержаць яны па дванаццаць прутоў сталяных, адсякаюць, адбіваюць ад рабы божыя ўсіх наглых урагоў і злыя падвея, буры злыя.

* * *

Господу Богу помолюся, Святой Марии поклонюся. Святая Мария Божья Мать, приди, помоги мне раба божьего (имя) от зляка зговорять, з головы, з печани, з сердца, з падсердца, з костей. Я – словом, а Бог – помощью.

* * *

*Наливают в миску немного воды, растапливают воск и льют его в воду, держа миску над головой больного, при этом шепчут:*

– Господи, помоги мне поворожить, переполох вылить (имя) крещеному, нарожденому, испытанному, надуманному и нагадонному от всякой зверины.

**Замовы, звязаныя з сямейным і грамадскім бытам**

*Читается на подаваемое питье:*

– Лягу я, раб божий, помолясь, встану я, благославясь, умоюсь я росою, утрусь престольною пеленою, пойду я из дверей в двери, из ворот в ворота, выйду в чисто поле, во зеленое поморье. Стану я на сырую землю, погляжу я на восточную сторонушку, как красное солнышко воссияло, припекает мхи-болота, черные грязи. Так бы припекала, присыхала раба божья (имя) о мне, рабе божьем (имя). Очи в очи, сердце в сердце, мысли в мысли, спать бы она не засыпала, гулять бы она не гуляла. Аминь тому слову.

* * *

*Наговаривается на пищу или питье, которые дают парню, или на его след:*

– Стану я, раба божья (имя), благославясь, и пойду, перекрестясь, из двери в дверь, из ворот в вороты, в чистое поле, под утреннюю зарю, под красное солнце. Под частыми ярыми звездами стоит гора белокаменна, из этой горы белокаменной бегут три ключа горючие и кипучие, у этих ключей горючих и кипучих стоит истинный Христос со ангилями и с архангилями, со всей силой небесною. Всяк их убоится, устрашится. Я, раба божья (имя), не убоюсь, не устрашусь. Попрошу у них с трех ключей горючих, с трех ключей кипучих воды для того, чтоб у раба божья (имя) зажечь легкую печень и горячую кровь, и ретивое сердце – кипело бы, горело об рабе божией (имя) век по веки, отныне и до веку.

* * *

*Наговор на рыбу. И кормить мужа или жену:*

– Спрашивает Павел Петра: “Где ты слышал голос осетра? Рыба не говорит, не кусается, не кричит, не взъедается”. Отвечает святой Петр: “Рыба не кричит, рыба, Павел, молчит”. Так бы в семье раба (имя) в гневе не кричали, а любили и мирились на каждый год и на каждый час, и на полчаса, и на минуту, и во веки веков. Аминь.

* * *

*Чтобы наладить мир в семье, для этого нужно на утреннюю воду говорить, этой водой умытья и подливать мужу:*

– С добрым утром, вода Ульяна, земля Татьяна, дайте мне, божьей рабе (имя), воды от семейной беды. Вода чистая, жизнь милая. Рабу божьему (имя мужа) быть со мной, с божьей рабой (имя жены). Аминь, аминь, аминь.

* * *

*Читать на закрытую сумку, а затем на открытую сумку три раза:*

– Веди, звезда, вора мимо моего двора, чтобы вор меня не увидел и денег моих не увидел. Только когда медный замок станет золотым, тогда мой наговор станет пустым. Аминь. Аминь. Аминь.

* * *

*Иной человек не может за себя постоять – и все шишки на него. Если такой человек под старый Новый год постарается раньше других прийти на службу и три раза прочитать этот наговор, то он исправит свое положение:*

– Как у мертвых зубы не кусаются, языки не ругаются, как они в гневе не бросаются, руками на живых не машут, ногами не стучат, как они на меня не кричат, так чтобы ни один человек во веки веков и вовеки – ни старший по чину, ни младший, ни тот, кто считает, ни тот, кто в кресле сидит – пусть строго на мой лик не глядит, меня боронит. Вот, как я прочитал (а), как я все сказал (а), так и должно быть, и наговор мой не переломить. Аминь, аминь, аминь.

* * *

*Читаю оберег. Читает мать или мать крещеная:*

– Святой Страстотерпец Христов, Георгий-Победоносец, как ты попирал неверных, не дай меня, раба божьего (имя), моим злым супостатам. Огради меня, раба божьего (имя), горою каменной. Аминь.

* * *

*Читают три разы:*

– Святой Николай, ты разрушаешь горы, разрушаешь камни. Разрушишь горе, колдовство, чародейство, зависть, ненависть, сделки, сглаз от плохой минуты рабу божьему (имя) не на час, не на два, а навсегда. Аминь.

* * *

*Читать три раза на сосуд с водой, перед сосудом ставится горящая свеча. После прочтения дуть на воду крестообразно. Перед судом умыться этой водой:*

– Царские двери растворяются, судья царский к рабу божьему (имя) приклоняется. Матушка воску ярового свеча и Богоявленская вода, уталите у раба божия (имя судьи) гнев и ярость и сохраните раба божья (имя судьи) гнев и ярость, и сохраните раба божьего (имя подсудимого) от всякого злодейского супостата и от лихого человека. Семьдесят семь имен от всего мира провославного христианского, отныне и до века. Аминь.

* * *

*Читают во вторник. Читают в зале суда 3 раза:*

– Как косяки немые, стены глухие, так и судьи, будьте немые и глухие. Как топну ногой, судьи все под столом. Аминь.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

* * *

Першым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюся. Матка Божая Святая, стань жа мне на помач, рабу божаму младзенцу крыжы ўгаварыць. Зоры-зараніцы, красныя дзявіцы, вазьміце вы крыжы-начніцы і бацькавы, і матчыны, і дзявочыя, і парабоцкія, і жаласныя, і карысныя, і ўцешныя, і пасмешныя, і светавыя, і заравыя. Вам, зорачкі, на стаянне, а рабу божаму младзенцу (імя дзіцяці) – на здароўе. Вам, зорачкі, пасвяці, а рабу бБожаму младзенцу паспаці.

**Замова ад шалу**

Устану я рана-раненька, умыюся бела-беленька, узыйду на крутую гару, зірну на ясную зару. Там стаіць дзядзька-лябедзька, унімае свайго сабаку-кусаку, круцяку і вярцяку: укусіу ён раба божага (імя). Вынімай жа з касьцей, з машчэй, з чорных печаней, з сініх жыл, з гаручай крыві і буйнай галавы, каб у раба божага косьці не ламіла, гаручае крыві не марыла, ясных вачэй не круціла.

**Прысуха**

У таго ў белага каменя стаіць сухое дрэва, у таго сухога дрэва стаіць сухі муж, сячэ сухое дрэва і кладзе яго на агонь. Калі скора і крута разгарыцца, сэрца раба божага (імя) да рабы божай (імя) прысушыцца.

**Замова ад ляку**

Госпаду Богу памалюся і ўсім святым прападобным кіеўскім, пячэрскім Антонію і Хвядосію, станьце ўсе на помач ляк шаптаць. І вышаптаю яго і шчосваю і жаночы, і мужчынскі, і дзявоцкі, і парабацкі, і ветравы, і земляны, і вадзяны, і конскі, і каравячы, і свінячы, і авечы, і гусіны, і курыны, і сабачы, і кашачы. І ссылаю цябе, ляк. Забярыце ляк бабы ў чапцы, мужчыны ў шапкі, дзеўкі ў косы, хлопцы ў магеркі. Вятровы – на вецер ляці, земляны – на землю ўпадзі, вадзяны – на вадзе плыві, каню ў ногі, карове ў рогі, свінне ў жывот, авечцы ў капыты, кошцы ў пячонкі, сабацы ў галоўку, гусю ў дзюбку, курыцы ў лапкі. І нясіце на мхі, на балоты, на крутыя горы, дзе вецяр не вея і людзі не ходзяць, не пяюць, ваўкі не выюць. Там чорны вол на гарэ ходзіць, расу абівае, там увесь ляк прападае.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Сачанка М.І., 1918 г.н., Пасюты М.Н.,***
***студэнткамі Шаціла Н., Куляшовай В. (2004 г.)***

**Ад напасцяў**

На вужу еду, гадзюкай паганяю, злым, праклятым врагам губы, зубы замаўляю, на патыліцу вочы заварачываю.

**Як карова не дае малака**

З пысы – у вочы, з вачэй – у вушы, з вушэй – у грыву, з грывы – у спіну, із спіны – у хвост, з хваста – у мост (*3 раза*).

**Ад напасці**

Табе – тваё, а мне – моё. Табе, Госпадзі, скок, а мне, Госпадўі, скок. А ты не перапрыгнула, не кажы скок.

**Ад ворагаў**

На медведю еду, ужом паганяю, всем своим врагам зубы замыкаю. Святы Давид, за мной весь.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Харошка В.***

**Ад спугу**

Первым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Прачысцi пакланюся. Шла Прачыста за тым мастом, на залаты кiёк абапiраясь, з Госпадам Богам встрачаясь. – Куды iдзеш, Прачыста? – Я iду iз (iмя) iспуг выбiрацъ. Я iз (iмя) iспуг выбiраю, на сiне мора пускаю, на сiнем моры камень. Каменю не ўсплываць, так (iмя) iспугу не вiдаць. Я – са славамi, а Бог – з помашчу. (*3 р.*)

*Чэраз плячо левае плюнуць і дуць 3 разы, і сказаць "Амінь".*

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад ДземідзенкаМарыі Сяргееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

**Ад болю зубоў**

Ішоў Хрыстос цераз раку Іардань. Сказаў рацэ Іардань – стань! А ты, зуб, балець перастань.

**Ад урокаў**

Зоры-зараніцы, господні памошніцы, памагалі Богу, памажыце і мне. Ляталі і прыгаворы атнімалі і хлапоцкія, і дзявоцкія, надуманыя і падзіваныя.

Вадзіца-царыца! Ішла ты лугамі і крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі, шоўкавую траву падымала і руку абмывала. Там Прачыстая Божая Мацер рукі мыла, а я ваду браў і рабу божаму помач даваў.

Госпаду Богу памалюся, Маці Працыстай пакланюся. Святая Маць Прачыстая, ліцо чыстае, стань на помач і ад уроку, і ад прыгавору. На раба божага (імя) дунуў, на невучонага, на праклятага плюнуў (*дунуць на хворага і плюнуць на левы бок*). Сам жа Гасподзь станя на помач і дасць час добры, гадзіну добрую.

**Ад звіху, выбою, удару**

Шоў Гасподзь па шырокай дарозе, па вялікіх лясах, па зялёных лугах, костачкі-сустаўкі сабіраў, рабу ад звіху помачы даваў.

На моры, на лукамор'і, там хадзілі тры дзявіцы і рвалі тры травіцы. Первая – зямля жоўтая, другая – зямля красная, трэцяя зямлю састаўляла і звіх замаўляла.

**Ад хваробы вачэй**

Маладзік малады, у цябе рог залаты, табе – на сіянне, а мне – на здароўе, табе – цёмныя ночы, а мне – светлыя вочы.

**Ад рожы**

Ішоў Хрыстос па полю, нёс тры розы. Адна акамянела, другая адзеравянела, трэцяя згінела. Згінь і ты, боль, нячыстая рожа.

**На забеспячэнне здароўя**

Іду я к мору з вялікага гора, а ты, рыбка, страпяніся, ад гора адбіся. За тваю дабрату хлеб-соль кладу. Хлеб-соль прынімайце і здароўе (імя) надзяляйце.

**Любоўная прысушка**

Я святою вадою ўмываюся, золатам уціраюся, а сонейкам адзяваюся, а месяцам падпяражуся, зоркамі зашпілюся. Я нікога не баюся. Як сонца і месяц на весь свет свецяць, так і я каб была на ўвесь свет міла і люба.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Праскоўі Данілаўны, 1915 г.н.,***
***студэнткай Тальчук Н. (1999 г.)***

**Ад змяінага ўкусу**

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Мацеры Божай прыкланюся. Гадзіна вадзяная, земляная, слепні і вужы, змеі і вужакі, ярыца, перыярыца! Аддайце і вазьміце сваю жаласць і ярасць ад кароўкі. Калі не аддасьце сваёй жаласці і ярасці, то не будзе вам збудзішча ні пад кустом, ні пад лістком, ні пад карэннямі, сонца і яркі месяц не будуць вам свяціці і не будуць прынімаць вас, не будзе прынімаць вас сыра маць-зямля.

Другім разам, лепшым часам.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***студэнткай Лагвінец Н. (1984 г.)***

**На ўдар**

Удар-ударышча, звіх-звішышча, як на пне не стаяць гэтым дубчыкам, галля не ламаць, так гэтаму ўдару па касцям не хадзіць, опухаль не пускаць, піць і есць не заступаць. Астаньцесь косці на косці, мошчы на мошчы, кроў на крыві, мяса на мясе, шкура на шкуры. Серада – не пятніца, поле – не ятрыца. Камар укусіў – згінь!

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, Ісусу Хрысту пакланюся. Удар, удар, добры гаспадар, я цябе даўно знала і знаць буду. Ссылаю цябе на сіня мора, на белы камень. Там сядзіць Божа Маць. Яна ніколі нічога не рабіла: не прала, не ткала, толькі ад удару памагала.

*Паўтараецца дзевяць разоў.*

## На кроў

Першым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, Ісусу Хрысту пакланюся. Ішоў Рыгор з крутых гор, нёс сякеру і тапор. Сякера ўпала – рабу божаму Рыгору пальцы парубала. Пасеяла рожу – рожа не ўзыйшла, рабу божаму Рыгору кроў не пайшла.

* * *

Першым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, Ісусу Хрысту пакланюся. Ішоў Ісус Хрыстос праз калінавы масточак. Масток абламіўся, Ісус астанавіўся. Стой, кроў, у ране, як вада на Ардане.

*Паўтараецца дзевяць разоў.*

***Запісана ў в. Кажушкі***
***ад Бараш Кацярыны Мікалаеўны, 1924 г.н.,***
***студэнткай Янковай К. (1997 г.)***

## Ад жывата (залатнік)

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачысце пакланюся. Прачыста Святая, Матка Божая, прыступіце, памажыце (імя) залатнічка паднімаці. Добры дзень, залатнічок, чаго ты зшумаваўся, чаго ты збушаваўся? А тут табе не стаяць, (імя) касці не ламіць, крыві не муціць, у галаву не ўдараць, пад сэрца не падлягаць. Я – са словам, а Бог – з помашчу. Госпадзі, памажы.

*Трэба загаварваць тры разы.*

## Ад прыстрэка

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачысце пакланюсь, Прачыста Святая, Мацер Божая, прыступіце, памажыце (імя) гаварыць парабоцкія, хлапочыя, мужчынскія, ветраныя, насланыя, прыгаворныя, падумленыя, тут вам не буваць, не стаяць, касьці (імя) не ламаць, крыві не муціць, галаву не ўдараць, пад сэрца не падлягаць. Я – са словам, а Бог – з помашчу. Госпадзі, памажы. Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амінь.

*Чытаць тры разы.*

## Ад рожы

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачысце пакланюся. Рожа-ражаніца, красная дзявіца, чаго ты зшумавалась, чаго збушавалась? Тут табе, рожа, не бываць, не стаяць, касьці не ламаць, крыві не муціць, у голаву не ўдараць, пад сэрца не падлягаць. Я – са словам, а Бог – з помашчу. Госпадзі, памажы.

*Паўтараць тры разы.*

## Ад скулы

Добры вечар, скула-скуліца, красная дзявіца, красная красуха, сіняя сінюха, белая белуха. Ідзі, скула, на сіняя мора, на калавора, там цябе ждуць, дажыдаюцца, столікі засцілаюць, кубачкі наліваюць. Як я цябе, скула, не знала, то я цябе не ўгаварала. А як я цябе знаю, дак я цябе ўгавараю. На

канаплянае семя разбіваю, з канаплянага – на льнянае, з льняногa – на макавае, з макавага – на ніякае. Госпаду Богу памалюся.

*Загаварваць трэба тры разы.*

**Ад удара**

Матка Божая, прыступіце, памажыце (імя) звіх, удар угавараці. На полі, на мяжы стаяла груша калючая, балючая, в’ючая. Пад тою грушаю стаяць тры дзявіцы, яны не ткахі, не прахі, яны толькі па людзях ходзяць, звіх і ўдар угавараюць. Я – са словам, а Бог – з помашчу. Госпадзі, памажы.

*Загаварваюць тры разы.*

**Малітва**

Там, на Кіеўскай гарэ, на крэсцьянскай гарэ там Бож’я Маць хадзіла, Ісуса Хрыста, сына, шукала. Пашла на неба, з неба на нешпар, з нешпара на ўтрені, з утрені на службу, з службы на мора. На моры камень ляжыць, на камяні сам Ісус Хрыстос сядзіць, склаў ручкі, схіліў галоўку, прасвятую кроў праліў. Прыйшлі да яго Пятро і Павел. – Ці не бачылі мукі? Вазьміце крэст у рукі, ідзіце па ўсяму свету, закажыце ўсяму міру, маломy, храмому, багам багатым, хто ету малітву будзе чытаць, той не будзе ў агне пагараць, у вадзе патанаць, наглаю смерцю паміраць. Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амінь.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Каральчук Соф’і Васільеўны, 1926 г.н.,***
***студэнткамі Кундас С., Судзенка І. (2001 г.)***

**Ад зуба**

*Замоўка зубкам:*

– Маладзік малады, у цябе рог залаты, ты на том свеце буў?
– Буў.
– Мёртвых бачыў?
– Бачыў.
– Баляць у іх зубы?
– Не.
– Хай не баляць і мне.

*Загавор на маладзіку, як пабачыце першы раз маладзічок, так і загаварвайце зубкі.*

**Загавор на кроў**

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся. Святая Прачыста Матка Божая, прыступіце, памажыце і кроў астанавіце. Ганне, Мане, Рамане, Куліне, Марыне – усім.

*Загаварваць тры разы.*

**Начніцы**

Начніцы-сястрыцы, даю вам работу: проса таўчыце, мак шчытайце, а маей (імя) не чапайце. Даю вам работу, дванаццаць верацён. Пазаўчора пралі, учора маталі, а цяпер тчыце, тчыце, тчыце, прытыкайце, маей дзеціцы не чапайце, няхай спіць, прысыпаецца, няхай цельца набіраецца.

**Зуб теменный**

Зори-зарницы, божие помощницы, приступите. Поможите, Антон, Федос, Саков, Яков и все божие угодники. Прочистой Мати поклонюся. Як сук упал, так зуб теменный у (имя) пропал.

**От горя**

Скула ламуча, балюча, чарнюча, прибувши, отбувши, ты же тогда стояла, кость ломала, по суставам ходила, кровь сжигала, теперь я тебя отсылаю на ниције лозы, на белые березы, на синие моря. А на том синем море сухий без, як тому безу не развиться, так век горечку не возвратиться.

Прочистой Матки покланюся, Прочиста Мати будет помогати, во веки веков. Аминь.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Аніскавец Ганны Адамаўны, 1939 г.н.,***
***студэнткамі Кундас С., Судзенка І. (2001 г.)***

**Каб абараніць кароўку**

Госпаду Богу памалюся, крастом крашчуся, Прачыстай Святой пакланюся. За святыя рызы бяруся, ворагаў не баюся. Ведзьмам-чараўніцам стаўляю ногі стаўбамі, рукі граблямі, каб яны свае пальцы кусалі, проці сэрца кроў смакталі, каб маёй сівой кароўкі ўладзенне не малі. Кароўка-ўдарнічка, не будзь ты ўрочна, а будзь ты малочна. Чужога спору не забіраем, свайго не выпускаем. Дзе ты будзеш, кароўка, расу збіваць, траву з’ядаць, там будзе спор прыбуваць. Ехаў Юрай на сваім кані, дзяржаў жалезны меч, засякаў злым ведзьмам языкі і рэч. Каб ведзьма не хадзіла і да маёй кароўкі ўладання не мела. Ідом да цябе, кароўка, з хлебам і з паскаю, а ты да нас – з спорам і з сваёю ласкаю. Зара-зарнічка, божая памочнічка, памагаеш людзям, пamажы і нам. Амінь.

*І тры разы перахрысціцца трэба.*

***Запісана ў в. Мархлеўск***
***ад Ігнаценка Праскоўі Іванаўны, 1935 г.н.,***
***студэнткай Піваvar Л. (2001 г.)***

*Чытаць перад усімі замовамі:*

– Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Маці пакланюся.

**На захаванне плода**

Святая Прачыстая Маці, памажы (імя) плод захаваць. Ішоў сам Гасподзь Ісус Хрыстос, вёў за сабою трох святых і трох апосталаў.

Узыходзяць яны на Сіянскую гару, просяць яны Госпада Бога помачы рабе божай (імя). Закаціся ж ты, закаціся, Сіянская гара, яшчэ ж табе, раба божая (імя), ражаць не пара. Да ці рыбачка, ці вакунец выдзяржыш ты, пака выйдзя твой раганец. Без майго ведама, без майго чысла. А ты, (дзень, у які ражаць)-мамачка, ты свет снавала, жываточкі сунімала, а ты, Прачыстая Маці Багародзіца, сама ты ражала і нам помашчы давала, царскія вароты адчыняла і зачыняла. На моры, на акіяне расло дрэва-купарос, і з камля, і з верха галлём апусціўся. На сінім моры ляжыць з сіняй медзі камень. Як гэтаму каменю наверх не ўсплываці, так і рабе божай (імя) младзенца не звяргаці. Я гавару, выгаваруваю, на помашч Госпада Бога прызываю. Прыступі, Госпадзі, памажы. Амінь.

*Чытаць 3 разы.*

## На добрыя роды

Ішоў Гасподзь Бог Ісус Хрыстос з нябёс, і за ім Прачыстая Маці ішла, у правай руцэ залатыя ключы нясла. Сустракае Гасподзь Бог Ісус Хрыстос і з нябёс. – Куда ты, Маці Прачыстая, ідзеш? – Іду я парадзіху (імя) адведаці і младзенца з жывата выпускаці. Ці ж ты младзенец, ці младзенка, пара табе з жывата выхадзіці, парадзіцы кроў разліці. Прашу я цябе, Маць Прачыстая, к сабе на помашч сваёй правай рукой. Залатыя ключыкі, адамкніцеся, вы, царскія вароты, атварыцеся. А ты, ангел, не ляжы, ножкамі папіхайся, даверху дабірайся.

*Парадзіха сама сабе:*

– Божая Маці, прыдзі мяне ратаваці, маё цела распрастаці, мае жылкі выпраўляці.

## Крыксы

Зоры-зараніцы, родныя сястрыцы, вазьміце (імя) крыксы, плаксы, па далах, па далінах панясіце, у калыску сну прынясіце, штоб спала, гуляла, у сне прыбывала, штоб прыспаць яго, прыгуляць, пры здароўі стаць. А тыя, каторыя паслалі, штоб яны крычалі, вішчалі, а маё дзіця штоб прыспалі. Выгаварываю крыксы, плаксы, начніцы дзённыя, палудзённыя, начныя, палуночныя, урочныя, прыгаворныя, нагаданыя, мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, парабочыя. Куры крычаць, куры крычаць, а табе, рабе божай (імя), вяляць спаць і маўчаць. Бога прашу, на помач прыступі, памажы.

## Ад всех чар

Святой Нікалай-угоднік, ты разрушаеш горы, разрушаеш камні, разруш гора, калдаўство, чарадзейства, завісць, нянавісць, здзелкі, зглаз ад плахой мінуты рабу божаму (імя). І не на час, і не на два, а наўсягда.

## Ад грыжы

Ранняя зараніца, божая памашніца, выгаварываю рабе божай (імя) грыжу. Как этаму суку на корні не стаяць, так у жываце рабы божай (імя)

грыжы не бываць. Угаварываю ўрочныя, малочныя, жэнскую, мужчынскую, дзявочую. Этай грыжы па касці не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не знабіць. Грыжа, выхадзі з жывата на сметніцу, на талкавішча, з талкавішча на кладбішча. Там мая мамка ўмерла, замерла. Как мне з маёй мамкай не гаварыць, так табе, грыжа, у жываце не хадзіць і гора не тварыць. Грыжа, грыжа, не грызі косці ўнутры раднога жывата і не вазврашчайся нікагда.

**Ад зубоў**

Першым разам, добрым часам, ранняю зарою, добраю парою. Зоры-зараніцы, божыя памашніцы. Сама я прыступаю, Госпада Бога і Прачыстую Маці на помач прызываю. Зубы, зубы, з чаго вы заняліся, з вады, з яды? Прыдумчывыя, прыгаворчывыя, прыстрэшныя, прысмешныя. – Маладзік малады, у цябе рог залаты, ты ў моры купаўся, усім нам паказаўся. Ці быў ты на тым свеце? – Быў. – Мёртвых бачыў? – Бачыў. – У іх зубы не баляць? – Не баляць. – Няхай у (імя) не баляць. Было ў свеце тры цары. Першы цар – ясны месяц. Другі цар – у моры. Трэці цар – у дубе чарвяк. Як гэтым старыкам умесці не схадзіцца, за цясовымі сталамі не садзіцца, з сярэбраных кубачкаў віна не піць, з залатых тарэлак не есці, так маім зубкам не балець ні маладзіком, ні поўняй, ні сходняй – ніколі.

**Ад залатніка**

Залатнік-залатнічку, добры чалавечку, ідзі на сваё месточка, на залатое крэслечка. Цябе мамка нарадзіла і на залатое крэслечка пасадзіла. Тут табе не стаяці, бакоў не распіраці, пад сэрца не падлягаці, па жывату не хадзіці, варот не закрываць, пад грудзі не падпіраць, крыві не бушаваць. Я цябе ўпрашаю, угавараю, на чарота-балота пасылаю. Там табе піці, гуляці, красавацца, болю ў жываце не даваць. Я – з рукамі, Бог – з помашчу. Госпадзі, прыступі, памажы, зрабі мой дух лягенькі.

**Ад звіху, удару**

На сінім моры камень ляжыць, на тым камені цэркаўка стаіць. У той цэркаўке – прастол, на тым прастоле Ісус Хрыстос стаіць. Ён прастол адкрывае і разам звіх, удар угаварае, усе сустаўчыкі на места ўстанаўляе, рэзкія болі, калючкі, гарачку забірае, на ніцыя лозы пасылае. Жыў-быў звіх, было ў яго тры браты. Адзін брат – шаг, укол, другі – пракол, і прыказаў трэці, штоб у рабы божай (імя) костачка ў костачку, сустаў у сустаў, штоб на места стаў. Яе мамка ражала, у залатое крэсла саджала, шаўковай ніткай крэпка звязала, так штоб рабе божай (імя) ад гэтых пор ад мяне лягонька стала. На сінім моры стаяла цэрква, у цэркве – прастол, на тым прастоле кнігі ляжалі. Ангелы прыляталі, кнігі чыталі, звіх-удар угаваралі.

**Ад прыстрэку**

У чыстым полі стаіць явар. Пад тым яварам – тры дзявіцы. Адна – Арына, другая – Марына, трэцяя – Кацярына. Вы, дзявіцы, божыя памашніцы, памагаеце вы Богу Ісусу Хрысту, памажыце мне прыстрэк

угавараці падуманы, пагаданы, прымаўляны, прыгавораны, ветраны, мужчынскі, жаночы, дзявочы, хлапочы. Вы, дзявіцы, божыя памашніцы, забярыце ад мяне маяго ізбытніка, злога непрыязніка. Забярыце, скруціце, зморшчыце з мезеннага пальца, занясіце за сіняе мора, за жоўтыя пяскі. Адтуль прынясіце адзенне, пітанне і жыційнае прыбыванне.

**Ад валасня**

Памажыце рабе божай (імя) волас выгаварываць дзённы, палудзённы, начны, палуночны, ранішні, вячэрні, надуманы, нагаданы, названы, прымаўляны, прыгавораны, прыстрэшны, прысмешны, вадзяны, земляны, гусіны, курыны, свіны, авечы, сабачы, каціны, вераб'іны, конскі, жараб'ячы. Волас ты, волас, я цябе ўпрашаю, я цябе ўгавараю, на цёмны лес пасылаю. Тут табе не бываць, тут табе не гуляць, у раба божага (імя) косці не ламаць, гарачай крыві не разліваць, сэрца не знабіць, касцей не ламіць, па целу не хадзіць, белага цела не сушыць, не аттаргаць, не калоць, не балець і на век занямець. Волас, волас, выдзь на колас (*п'яць каласкоў мачаць у ваду*). Тут табе, волас, не бываць, не гуляць. Пасылаю я цябе, волас, на крутую гару, там дзеўкі гуляюць, сталы засцілаюць, вінам чары наліваюць, цябе ў госці дажыдаюць. Ідзі ты, волас, туда, там табе будзе гулянне, піценне, лёгкае пражыванне.

**Вогнік загавараваць**

Прачыстая Маці, прыступі, дапамажы (імя) вогнік угавараці. Ішоў дзед гарэлы гарэлым мостам да гарэлай бабы папрасіці масла, памазаці раны параскіданыя, парассыпаныя, штоб яны не раскідаліся, не рассыпаліся ні маладзіком, ні пад поўню, ні сходнімі днямі.

**Кроў замаўляць**

Госпадзі, благаславі кроў загаварыць ад нажа вострага, ад нажа булатнага. На моры, на акіяне, на востраве Буяне стаіць там дамавіна, на той дамавіне сядзіць красная дзевіца, трымае ў руках шаўковыя ніткі, зашывае крывавыя раны. Воран мне брат, а ты, кроў, не кап. Ехалі тры калечкі чэраз быстрыя рэчкі. Секлі, рубалі, кроў замаўлялі, вішанькай засыпалі. Вішанька не ўзашла, кроў не пайшла. Ішоў Ісус Хрыстос чэраз яры мост, нёс на плячэ мячэ і парубаў сабе плячэ. Начаў шаптаць-гаварыць, каб кроў не ішла, і рана зажыла.

**Ад гадзюкі**

На Вялікі дзень да полудня апусціўся Гасподзь з неба, на буланым коніку па полі гуляе, да не проста гуляе, а яду сабе шукае. Пад'язджае да сіняга мора. Ля сіняга мора ляжыць белы камень, на тым белым камені сядзіць кала-каліца, яна не ўмее ні чытаць, ні пісаць, толькі ўмее ўсім гадам жалы замаўляць, усім тром, дзівяцём. Ні камар укусіў, ні муха не зазвінела. Уцякайце, гады, заносьце з сабою яды ў глыбокія норы і ў сінія моры, каб хто ні хадзіў, ад вас крыўды не меў. Тады і вам жыцца будзе. Калі ж парушыце

слова, то прыйдзе вас караць Гасподзь з высокага неба, з калючым мячом, з сякераю, і тады нікога ён не пашкадуе, нікому жыцця не дасць. Амінь.

**Ад пажару**

Аганёк, аганёк ад Госпада Бога. Да не даў табе Бог раскошы не гарэці, не ўгарацца, вадой разлівацца. І даў табе Бог гарэці, як гасподняй свячы. Табе, харомiна, дагараць, а ты, аганёк, лажысь спаць. Прыкрыў аганёк Мікіта, Лука, трэцяя – Хрыстосава рука. Ходзіць Алёна па полю, каменне збірае, колле забівае, дамоў пажару не пускае.

**Ад суда**

На гадзюкі еду, вужам паганяю, людзям мову замаўляю. На праўдзі стаю, праўду гавару. Мая хата і мая печ, замаўляю суддзям рэч. На змяі еду, вужам паганяю, усім суддзям рэч, губы, зубы і рот залатымі замкамі замыкаю. Як важка мне эта рабіць, так важка суддзям і засядацелям на мяне злобу імець. Як у полі зялёнаму дубу мёду-гарэлкі не піці, так усім суддзям, засядацелям на мене важка не гаварыці.

**У дарогу**

Выхажу я, раба божая (імя), у дарогу. Не адна я накіроўваюся, са мною тры ангелы-архангелы. Адзін ангел-архангел у далёкі шлях праважае, другі ангел-архангел у шляху сустракае і сілы мне дабаўляе, трэці ангел-архангел шляхам маім кіруе. Усе яны на мяне глядзяць і мяне благаслаўляюць, заўсёды чакаюць, ніколі не атварачываюцца, не забываюць. Каб ногі мае не стамляліся і не спыняліся, выхажу я, раба божая, у дарогу, не адна накіроўваюся, са мною тры ангелы-архангелы.

**Жывая малітва-спасіцельніца**

Сонцам мяне асвяці, месяцам аградзі, святым духам асвяці. Я веру Ісусу Хрысту-хрысціцелю, вялікаму пабядзіцелю. Пабядзі, Госпадзі, усю маю балезнь. Госпадзі ўперэдзі, а я пазадзі. Прасці мне, Госпадзі, і дай здароўя. Спасі мяне, Госпадзі, і ў полі, і ў дарозе, і ў доме, і на рабоце, і на чужой старане. Спасі мяне, Госпадзі, ад вялікай бяды, ад усякага гора.

**Як хлопец ідзе ў армію**

Сонцам асвячуся, месяцам абгаражуся, залатымі ключамі замкнуся, зорамі асыплюся і нікого не баюся. Гасподзь меня ўстрэціць у бальшой дарозе.

**Штоб усё было добра**

Прасвятая гаспажа Уладычыца, нябесная Царыца, спасі грэшную рабу тваю (імя) ад усякай бяды, напасці і ўнязапнай смерці. Саблюдзі, зашчыці і спасі мяне ад усякіх бед, відзячых і нявідзячых, ад балезней, ва ўсякае ўрэмя, будзь мне мацяр'ю. Пуць-дарогу асвяці, Прасвятая Багародзіца, стань на ўсіх

дарогах і пуцях, усе дарогі і пуці мне асвяці і сахрані мне жызнь. Дай мне немнога здароўя. Амінь, амінь, амінь.

## На сон

Месяц, месяц малады, у цябе рог залаты, ты ўвесь свет абыйдзі, мне пару найдзі, з кім мне век векаваць, каб ва сне павідаць. Лажусь пад панядзелак, прыснiся зялёны ельнік, а ў зялёным ельніку я і любоў мая.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.***
***(перасяленка з в.Дворышча Хойніцкага р-на),***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

## Аб зубнога болю

Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Матцы пакланюся, сённешняму дзянёчку памалюся. Малады маладзік, твой рог залаты. Табе век на зямлі не бываць. Каб у (імя) зубы не баляць.

Першым разам, господнім часам (імя) раджонай, хрышчонай. У мёртвых век зубы не баляць. Няхай і ў мяне (імя) ніколі зубы не баляць. Я – з вамі, Бог – з помаччу. Амінь.

*Чытаць тры разы.*

* * *

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Матцы пакланюся, святым апосталам памалюся, гадавым празнічкам памалюся. Стаіць на моры-акіяне дуб, а за тым морам – камень. Як тым дваім разам не сыходзіцца, так у раба божага (імя) зубам не балець. Як той камень акамянеў і анямеў, так зубам занямеці і век не балеці.

## Ад спугу

Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Матцы пакланюся, святым апосталам памалюся, гадавым празнічкам памалюся. Святая Прачыстая, стань на помачы, памажы мне ў (імя) спуг выгаварыці жаночы, мужчынскі, кашачы, свінячы, курыны, гусіны, каціны, конскі, кароўскі, авечы, чалавечы з буйнай галавы, з ясненькіх вачэй, з касцей, з машчэй, з суставаў. Ідзі, спуг, на балота, на высокія горы, на сухія лозы. Там качайся, валяйся, а да (імя) не чапляйся. Я – з словам, Бог – з помачу, я – з словам, Бог – з помачу, я – з словам, Бог – з помачу,

Другім разам, божым часам (*паўтор*).

Трэцім разам, божым часам (*паўтор*).

## Ад усіх хвароб

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Матцы пакланюся, святым апосталам памалюся, гадавым празнічкам памалюся. Свята Прачыстая, стань на помачы. У чыстым полі стаяла царква. А ў той царкве – маладзіцы, што

лячылі начніцы начныя, паўночныя. Перакаціцеся, начнічкі, макавым зернем і дайце (імя) сну.

*Тры разы пераказаць.*

**Ад удару**

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Матцы пакланюся, святым апосталам памалюся, гадавым празнічкам памалюся. Свята Прачыстая, стань на помачы. Едзе Прачыста на половух валах, на злых казлах, сустракае Ісус Хрыстос. – Прачыста, куды едзеш? – Еду да кароўкі Марты ўдару лячыць. Удар палячу, агонь патушу, опухаль аблажу. Не мае словы, Господнія, не мой дух, Гасподні.

* * *

Як у марах-азёрах вадзічка-царычка напаўняе крутыя берагі, так і ты, Госпадзі, напоўні маю скаціну чорна-рабую сырам, маслам. Як з неба зорам не сыйсці, так і з маей скацінкі-чорнарабкі, сыра, масла не сыйсці.

*Да сябе зачарпнуць тры разы вады.*

***Запісана ў в. Радзін***
***ад Кулакоўскай Ганны Антонаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Кавалёвай Н. (2003 г.)***

**Каб дзеці спалі**

Прошлым разам, лепшым часам, Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Мацеры пакланюся. Куры-курыцы, вазьміце ад Надзюшы крысы-начніцы, нясіце на быстрыя воды, на ніцыя лозы. Там вам будзе піценне-ядзенне, а маёй Надзюшы спанне-гулянне, цела прыбыванне.

*Паўтараць сем разоў.*

**Ад зглазу**

На сінім моры стаяць каморы, у тых каморах паны гуляюць, прыстрэкі, злякі ўгавараюць, на сіне мора зсылаюць.

**Ад удару**

Бег атрок цераз дубовы масток. Мост праламіся, а ты, удар, уйміся. І да мяне не вазвраціся.

*Паўтараць некалькі разоў.*

**Ад хваробы**

Скула-скуліца, прыстрэчніца. Выйдзі млосць з касці, з белага мозгу, з чырвонай крыві (*Тры разы падуць, плюнуць*). Слюна ўпала – і ўся хвароба прапала.

**У дарогу**

Я ў пуці, Гасподзь Бог уперадзі, ангелы па бакам, у Божай Мацеры ў руках, святы Мікалай на парозе, сцеражы нас у дарозе. Амінь.

Ангел мой святы, прылежна малю цябе, ты і ёсць святая на пуць спасенія навядзі. Амінь.

**Ад спугу**

Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Маці пакланюся, Антону, Фядосу, усім святым. Усіх святых прызываю к сабе на помач, увагавараю рабе божай (імя) іспуг з касцей, з машчэй, з жыл, з паджыл, з буйнае галовачкі, бацькін, маткін па касцям не хадзіць, касцей не ламаць, душы, цела не знабіць. Я – з словам, а Бог – з помашчу. Амінь.

***Запісана ў в. Кажушкі***
***ад Ярохавай Людмілы Васільеўны***
***(перасяленка з в. Паселішчы),***
***студэнткай Якушэнка А. (1993 г.)***

**Паляўнічыя**

*Гэтую замову нагаварваюць на ваду, якою потым прамываюць ружжо пад абразамі, у пярэднім вуглу, гаворачы:*

– Вадзіца-царыца, усяму свету памашніца, як ты змываеш сырое карэнне, шэрае і белае каменне, так змый і маю ружыну-ружніцу і булат-зялеза. Як страляець з неба Міхаіл-архангел громам і маланкай, і вострай стралой, і як ніхто не можэць уняць ні грома, ні маланкі, ні вострыя стралы, так ніхто не можаць уняць і мяне, раба божага стральца, і маю ружыну-ружыніцу і булат-зялеза. А над маёй ружынай-ружаніцай і булат-зялезам нету спаругання ва векі вякоў.

**Ад залома**

*Вазьмі вобраз Міколы-чудатворца, ступай у рож рана, да сонца, а как сонца взойдзець, ты к закату стань да на вобраз глядзі і загавар гавары, а калі сонца не іграець, не гавары, калі туман пойдзець, как дым, ты не гавары, а другім днём скажы, как сонца іграць будзе:*

– Мікалай-чудатворац і Святы Божа. І памілуй нас ад худога, ад ліхога, ад злога. Мікалай святы па межам ходзіць да рож росціць па цёплым начам, па цёплым начам, па ветранім зорам, а ліх чалавек па межам хадзіў да залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам. А пашлі яму, Божа, на смерць, на балесць, а на куту ляжаць. Яму хлеба не з’есць, вады не піць, а ў магіле быць, а рабе божай (імя) здаровай быць, не хварэць Мікалаю святому малебен служыць. Амінь.

**На жыта супраць шкоднікаў**

Чэр нападае, хор пад’ядае, чэр кіпучая, чэр магучая, ідзі з нашага поля на мхі, на балоты, на гнілыя калоды. А калі не пойдзеш, святэй Міхайла-архангел сашлець пціц з нябес з жалезным носам. Будуць драць, клюваць, вашу жысць рашаць. Ва векі амінь.

**На ўраджай**

Жыта часць, сеяць цябе час. Не сам сабою, Гасподзь Бог мой са мною. Амінь.

**Ад пажара**

Цар зямны, цар нябесны, цар вадзяны, цар агняны, цар лесавы, цар дамавы, прашу я вас, малю я вас, уцішыця, уніміця.

*І тры разы пакланіцца агню.*

**Ад гразы**

Сцеражы, Божа, тучу гразавую. Зберажы, Божа, ніву трудавую. Дай, Божа, у добры час.

**Ад дамавіка**

*Калі дамавы пачне шаліць у двары, трэба ў чыстую анучку завярнуць хлеб, папрыскаць двор вадою, а хлеб на ноч пакінуць, каб дамавы ведаў, што ты яму не жалееш, і пойдзець у цябе ўсё ладна:*

– Цар хазяюшка дваравой! Царыца хазяюшку дваравіца! І дарую я цябе і хлебам, і соллю, і нізкім паклонам. А што сам ем, п’ю, цем цябе дару. А ты, хазяюшка-бацюшка і хазяюшка-матушка, мяне берагі і скацінку блюдзі. Амінь.

**Ад нячыстай сілы**

На моры, на Сіяне, на рацэ на Іардане сідзяць тры дзявіцы-Лукамерыцы. Яны сідзяць і Богу моляцца, Бога просяць і моляць, і вадзіцу сабіраюць, і чалавеку на помач аддаваюць. І просім мы хазяіна лесавога і палявога, і дамавога. І памажы рабу божаму ад прыткі раннія і палудзенныя, і вячэрнія, і паўночныя, і з буйнай касці, і з жыл, і ад суставаў, ад чорнага печаня, ад белага леганя.

**Ад хлеўніка**

Як у нас Юр’я коні пасёць, статак сцеражэць, нячыстую сілу проч адганяець. Хлеўніка і цмока вожахам порыць, прыгаварваець: “Хіра – у лес”.

**Ад лесуна**

*Замову выконваюць тройчы як сонца зойдзець, папярэдне занёсшы ў лес хлеб у чыстай анучы, які кладуць на сухую калоду. Потым кажуць:*

– Іду ў лес, бяру хлеб і соль і нясу лясному хазяіну. І падзі ад мяне, нячысты, на мхі, на балоты, на гнілую калоду. Там табе пасцель паслана, ізгалоўе высокае, пярына пуховая. Там табе спаць, а майго не відаць. Не я цябе ганю, гоніць ця Хрыстос і святы Лука, гоніць цябе агнём, пламенем, жалезным прутом.

**Супраць русалкі**

Вадзяніца, лясавіца, шалёная дзявіца! Атвяжысь, адкацісь, у маім двары не кажысь. Табе тут не век жыць, а нядзелю быць. Ступай у рэку

глыбокую, на асіну высокую. Асіна, трасісь, вадзяніца, уймісь. Я закон прынімаў, златой крэст цалаваў. Мне з табой не вадзіцца, не куміцца. Ступай у бор, у чашчу, к лясному хазяіну. Ён цябе ждаў, на мху пасцелюшку слаў, муравой усцілаў, у ізгалоўца калоду клаў. З ім табе спаць, а мяне хрышчонага табе не відаць. Амінь.

**Калі карова не дае малака**

На моры, на акіяне, на востраве Буяне ляжыць белы камень, а на тым белым камні Прэсвятая Багародзіца сядзіць і ў ваду глядзіць. Яна цару Уладзіміру пуці казала, жыць павелевала. Як ты, царыца-вадзіца, сільна і няўрэдна, каб так і мая скацінка была сільна, неўрадзіма ад усякага зла і ад злаключэння людзей.

**Ад урока**

Уганяю я сваю кароўку на шырокую вуліцу, на шаўковую травіцу, у глыбокую крыніцу на светлую вадзіцу. Шаўковай травіцы наядайся, у глыбокай крыніцы напівайся, карысці набірайся, урокаў не пужайся, ведзьме не паддавайся.

**Пры выгане скаціны першы раз**

*Запаліш свечку грамніцу, памолішся ўсёй сям’ёй Богу, паклоны атаб’еш, вобраз абы-які возьмеш і хлеб, і соль, і запаленую свечку, і тры разы на двары абойдзеш кружка скаціны па сонцу, кажучы:*

– Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся. Ідзі, мая кароўка, на Юр’еву расу, на шаўковую траўку. Ножкамі патапчы, вушкамі патрусі.

**Ад змяі**

*Гаварыць тройчы днём да заходу сонца, а ноччу да ўсходу:*

– Госпадзі Божа, благаславі, Госпадзі Божа, памажы. Госпаду Богу памалюся і Прачыстай Матцы пакланюся. Прачыстая Маць прыступае і ад гадаў помачы давае. Прашу вас, змеі, прашу вас, гады, і цябе, вуж-добры муж, вуж Сакадык, і змяю саму Саламу, і змяю Саўру, і змяю Салапею, і змяю Шкарупею. І слуг, сваіх падруг сунімай і жалы замаўляй, і ў раба божага вопуху не пускай, і жыл не трудзі, і крыві не гнаі, і сэрца не тамі. І прашу ж я вас. Калі ж вы маёй просьбы не паслухаеце, пашлець Гасподзь на вас грамавую тучу, камянны бой. Ён вас нідзе не аставя: ні ў яме, ні ў пячорах, ні ў дрэві, ні пад дрэвам, ні ў камяні, ні пад камянем. Ён вас камянем паб’ецъ на грэцкія крупы, драбней чорнага маку.

**Ад бешанай сабакі**

*Перахрысціцца і казаць:*

– Госпадзі Божа, благаславі, Прэсвятая Маць Багародзіца, помачы дай. У чыстым полі на Сіяньскай гары стаіць дуб. Пад тым дубам сядзіць старушка старанькая, кладзець аганёк сіненькі, пякець сала і пускаець духі на ўсе сухія цёмныя лясы. Унімай, бабка, сваіх ярых шалёных сабак ад ярага

зуба, жаркага агня, дай помачы рабе божай (імя). Не дасі помачы, то я пайду к Міхайлу-суддзе праведнаму, то будзець цябе судзіць, зялезным пруццем мяса тваё рубіць. Ета ж не я гавару – гаварыць сам Гасподзь Бог, Ісус Хрыстос і Прэсвятая Маць Багародзіца, а я раб-чалавек прашу помачы.

### Ад хвароб жывёлы

*Перараказваюць тры разы па апоўначы:*

– Было ў цара льва дванаццаць жон. Было ў каня варанога дванаццаць пералог. Трынаццатая патніца. А з дванаццаці на адзінаццаць, а з адзінаццаці на дзесяць, а з дзесяцёх на дзевяць, а з дзевяцёх на восем, з васьмёх на сем, з сямёх на шэсць, з шасцёх на пяць, з пяцёх на чатыры, з чатырох на тры, з трох на два, з двох на адну, з аднаго на нягодную. Як жа еты жоны раз'язджаюцца, так чэмер, патніцы рассыхаюцца ў вараным кані і ў касцях, і ў машчах, і ў чорнай шарсці.

### Ад жабы (хвароба жывёлы)

*Рабіць тры разы: раннюю, вячэрнюю і зноў раннюю.*

*Здзелаць на бяросці крэст у кружку і падвязаць пад бараду, кажучы*:

– Падвязую, божую раба, тваю жабу.

*І дуць у рот. Калі засне, так паляпшае:*

– Янгалі-сахраніцелі, ка мне на помач.

Жаба-жабішча, родная сястрыца. Вас дванаццаць сясцёр: Лісавета, Кацярына, Грыпіна, Мар'я, Мархва, Прося, Юстына, Зяноўя, Хадора, Алена, Праскоў'я, Аўгіна. Гавару і выгаварваю вас, здымаю духамі, лёгкімі вятрамі. Дай, Божа, на помач.

### Ад крывацячэння

*Пераказаць тры разы:*

– Ішоў дзед праз калінавы мост. Мост пахіліўся, дзед паваліўся. Кроў запяклася, рана зажылася.

### Ад вывіха-ўдара

*Гаварыць тройчы на балючае месца, у канцы падуць тры разы. Спачатку перахрысціцца:*

– Першым разам, божым часам, Госпада Бога ўмаляючы. Святыя ўгоднікі божыя. Прыходзьце кіеўскія, пячэрскія прыпадобнікі божыя. Прыходзьце мне на помач, рабе божай (імя), удары-звіхі на мхі, на балоты, на ніцыя лозы адпраўляць.

### Ад зубнога болю

*На маладзік загаварваецца:*

– Месяц ты, месяц. Сярэбраныя твае рожкі, залатыя твае ножкі. Зайдзі ты, месяц, знімі маю зубную боль, занясі пад аблокі. Мая боль не малая, не цяжкая, а твая сіла магучая. Мне болі не перанясці. Вось зуб, вось два, вось тры – усе твае. Вазьмі маю боль.

### Ад скулы

Скула-скуляніца, ты мая сястрыца. Тут табе не сядзець, касцей не ламаць. Сядзела дзеўка на камені, белы кужаль прала, ятрасці адмаўляла. Калючыя, балючыя, ветраныя, прыстрэчныя, угаданыя – усякія.

### Ад рожы

Ты рожа, рожа. Ты вазрасла і да цела грэшнага прыйшла. Хутчэй жа расці да расцвітай. Звяўшы, з твару прападай.

*У канцы падуць на твар тройчы.*

### Ад урокаў

*Паперадзе пачытаць малітву "Вотча наш", а потым прамовіць такія словы:*

– Вадзіца-царыца, ішла ж ты лугамі і крутымі берагамі, жоўтымі пяскамі. Шоўкавую траву падымала і руду абмывала. Там Прачыстая Божа Мацер рукі мыла. Я ваду брала і рабу божаму помач давала.

### Ад ліхарадкі

*У трасцы, як захочацца чаго-небудзь хвораму, то трэба даць, не шкадуючы, няхай есць, пакуль не зрыгае, а затым тымі рыгамі пляснуць хвораму ў вочы і сказаць:*

– Якая госць, такая чэсць.

### Ад начніц

*Пад галоўку пакласць ножыка, і так казаць тры разы. Перад кожным разам перахрысціцца:*

– Госпаду Богу памалюся, Святой Матухне Прачыстай пакланюся. Прачыста Маці, да помачы стаці. У раба божага (імя) крыксаў, плаксаў шаптаці. Ідзі ты, крыксівіца, ідзі ты, плаксівіца, ідзі ты, недрамота. Печ-матухно, калышы маё дзіцятухно. А стол-бацько, дазірай маё дзіцятко. За гарою крамяною бегла рэчка траскуча, піскуча, ляскуча. Туды яна кліча, туды яна шчэ несакоту, недармоту, а маяму (імя) наспаціся, нагуляціся, ніякім ачыцам не паддаваціся: не падманным, не пудгаворным, не спешным, не пацешным, не падуманым, не пагаданым, не ветраным, не насланым. Як жа маці радзіла, на белы свет пусціла, красатою надзяліла, ніякіх ачыц не дапусціла: ні падуманых, ні пагаданых, ні ветраных, ні насланых, ні падманных, ні падгаворных, ні спешных, ні пацешных.

### Ад грыжы

*Узяць драч, пажадана, каб ён быў без ніякіх лісцеў або які-небудзь сук і гаварыць:*

– Як етаму дрэву ніколі на пне не стаяць, каранёў на тым пне ніколі не пускаць, лісцеў на ім ніколі не распускаць, так каб у етага раба божага (імя) грыжы ніколі не буваць ні цялесныя, ні галаўныя, ні ўнутраныя, ні пупавыя,

ні наружныя, ні ядравыя – ніякія. Каб гэтая грыжа па касці не хадзіла, касцей не ламіла, галоўкі не паліла. Адкаціся, адыміся ты, грыжа мая, памаленечку, паціхенечку, рассыпіся ты дробненька, памалюсеньку, на макавыя зярняткі, і каб ніколі не бываць табе ні пад поўняй, ні пад маладзіком, ні пад сходком, па ету порачку, на раннюю ці на (вячэрнюю) зорачку.

*Пажадана чытаць увечары.*

**Ад валасня**

*Узяць тры жытных пустых каласкі, палажыць на балючае месца, дзе валасяніца, паліваць цёплай вадою і казаць тройчы:*

– Ліхія валасы, выходзьце на каласы.

*Потым, памянуўшы пра каласы, то будзе на іх так, як валоссе, што выйдзе з той балячкі. Трэба так зрабіць тройчы перад усходам сонца, на захадзе сонца і назаўтра зноў, пакуль зноў не ўзыйдзе сонца. І гэта абавязкова рабіць тройчы.*

**Ад каўтуна**

*Трэба дзевяць разоў пераказаць:*

– Каўтун здымаюць і на ваду кідаюць. Пасабі, Божа, памажы, Прачыстая Маці, каўтуна (імя) рабу божаму выгавараці. Каўтун-каўтунішча, дурнішча, ад чаго ты ўзяўся? Ці ты з падзіўку, ці ты з пасілку, ці ты з цяжолага падымання, ці ты з цяжкага падыхання. Я цябе ўмаляю. Я цябе зсылаю на сінія моры, на буйныя ветры. Там табе столікі пазасціланы, кубачкі паналіваны, там табе піценне і ядзенне, там табе піць і гуляць. Да (імя) патрэбы не маць, спакой яму даваць.

**Ад шалёнства**

*Гаварыць тры разы над малачаем, сок таго малачая даецца потым хвораму:*

– Ацец наш Аўрам усё поле ўзараў. Жана яго Сара па полю хадзіла, цвяты еты садзіла. А хто іх капаў, таму Бог памагаў.

**Ад хваробы глаз**

*Дзевяць разоў шаптаць: тройчы вечарам, тройчы ўтрам, тройчы зноў вечарам. Дуеш тры разы на глаза і пальцам кіўнёш. За кожным разам трэба перахрысціцца:*

– Першым разам, добрым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся. І прашу я твае вялікай міласці, Матка Прачыстая, ачысці рабу божаму быстры вочкі, штоб яно ў вачах не калола, не парола, не смаліла, не паліла, не шумела, не гуло і галавы не ламіла. Другім разам, добрым часам папрашу я вялікага Юр'я. Ехаў святы Юры на сівым кані і вёў за сабою трох хартаў. Першы харт белы, другі харт чорны, трэці харт руды. І прашу я твае вялікія міласці, святы Юры, вялікі Ягор'я, завялі сваім хартам ад раба божага бяльмо злізаць і сагнаць і руду, і луну, і туман з яго быстрых вачэй. Первы руды як лізнуў – руду злізнуў. Другі чорны як лізнуў – і луну, і

туман злізнуў, трэці белы як лізнуў – бяльмо злізаў, сагнаў і сцёр. З яго быстрага вочка на ніжнюю вейку слязою сыйшло і скацілася.

## Ад спуга

*Тройчы пераказаць на вадзе і тройчы дзьмухнуць і плюнуць. І той вадой памачыць усе суставы, а малых дзетак купаць. Перахрысціцца:*

– Госпаду Богу памалюся, усім святым пакланюся. Гавару, выгаварваю рабу божаму (імя) купкі-перакупкі, перакупкі, перапалкі і жэньскія, і мужчыньскія, кашачыя, свінячыя, цялячыя, курачыя, парасячыя, кацiныя, мышыныя, вуціныя і коньскія, кароўськія, авечыя, чалавечыя. І з буйныя галавы, з белага цела, з ліца румянага, і з сустаў, і з палусустаў выдымаю і высылаю на сіняе мора. На сінім моры прыстол стаіць. На тым прыстоле сядзяць тры дзявіцы. І чытаюць, і выпісуюць, і па сінім моры рассыпаюць. Мора скалыхаецца – пужання мінаецца. Няхай мора буяя, няхай раб божы (імя) гуляя.

## На харошыя роды

*Гэта шапталі жанчыны ў час родаў некалькі разоў:*

– Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Маці пакланюся. Прачыста Божа Маці з прастола ўставала, рабе божай (імя парадзіхі) дзіцятка адмаўляла, сустаўчыкі адмукала. Божа Маці да цэркаўкі ішла, залатыя ключы нясла, срэбныя замочкі адмыкала, царскія вароты адчыняла. Вы, замочкі, адмыкайцеся, царскія вароты, адчыняйцеся, рабе божай (імя) сустаўчыкі адчыняйце. Гара, разайдзіся, камень, раскаціся, жалеза, растапіся, шкло, разбіся, вада, разліся, дубок, развейся, маладзенец маладзенькі на гэты свет з’явіся. Як хлопец – то на коніку. Як дзевачка – то на рыбінцы.

## Прысушка

*Узяўшы ў руку яблык ці ігрушу, ці якую іншую садавіну, трэба выйсці да сонейка раніцай ці адвячоркам у маладзікову сераду. Трэба, гледзячы на садавіну, казаць:*

– На востраве, на Сакалоні стаіць дуб. А на тым дубу – дванаццаць кокатаў, а пад тым дубам – дванаццаць галубоў. Прашу я вас і ўпрашваю. На сінім моры ляжыць камень. Пад тым камнем ляжыць дашка, а пад той дашкой ляжыць мая таска. Вазьміця той камень, падніміця тую дашку і выньця адтуль маю таску і аддайця яе Варутунькі.

*Нагаворануе такім парадкам садавіну трэба перадаць хлопцу.*

## Как свадзьбу расстроіць

*Шукаюць гарохавы стручок з дзевяццю гарошынамі і кладуць тайна ў воз, дзе будзець сядзець маладая, пад салому і прыказваюць:*

– Дзевяць гарошын, а дзясятая нявеста, не строньце, коні, воза.

*Пасля гэтых слоў коні з места не сойдуць і парвуць збрую, і калёсы замараюць, аглоблі і з двара не выедуць, пакуль не знойдуць гарошыну.*

**На захаванне любові**

*Калі мужык ходзіць па другіх, узяць рубашку, ці там штаны, ці што, падраць на касічкі, змераць ад галавы да ног і тады ў сваю пасцель палажыць і загаварыць:*

– Ехаў Бог праз чыста поле на сівым коніку. Конік прыстаў, а муж (імя) любіць стаў. Стань, Бог, на помач.

**На ўдачу ў судзе**

*Узяць шматок саломы, палкі ці трэскі з гарэлай ці патушанай хаты і казаць:*

– Госпадзі, цябе ж адстаялі ад пажара, а ты ж адстой мяне ад суда. Як салома (ці палкі) гэтыя немы, так штоб суддзі панямелі.

*Да суда гэтыя рэчы пакласці на парозе і пакінуць на час суда. Акрамя таго, недалёка ад парога ў столь трэба ўтыркнуць нож, пакуль ты будзеш там сядзець. Прыйдзеш ад суда, тады нож вытыркнеш.*

***Запісана ў в. Слабажанка***
***ад Корбіт Валянціны Міхайлаўны, 1934 г.н.,***
***студэнткай Шваб І. (1993 г.)***

**Ад звіху**

Ехаў цар Давыд на белай кабыліцы з Богам ваяваць. А ты, звіх, не будзь ліх, касцей не ламі, сэрца не тужы, жывата не сушы.

**Каб у каровы было малако**

Нагаворваюць на ваду, на крапіву. Гэтай вадой падойнік параць. І на стары камень:

– Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Амінь! Ёсць слаўнае акіян-мора. І на тым слаўным акіян-моры ёсць бел востраў. На тым на белым востраве ёсць белы камень. На тым белам камне сядзіць Прачыстая Багародзіца, Маці Божая на прэстолі сваім. І як ты, Прасвятая Багародзіца, іспусціла мора і рэкі, і азёры з аднаго месца, з-пад белага камня, так ты, Прасвятая Багародзіца, іспусці малако із маея мілыя жывоціны, із каровы (*назваць па колеры шэрсці*), із розных шарсцей, із яе вымя. Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. І ныне і прысно і ва век вякоў. Амінь.

* * *

*Калі карова згубіла малако, схадзі на сем рэк, вазьмі ваду ў адну бутылку. Прыдзі дамоў, запалі свячу і абыйдзі карову тройчы. Потым гэтай вадой абмый вымя і кажы:*

– Есть царь лесной, есть царь земной, есть царь водяной и небесный царь, всем царям царь. Благослови, Господи, меня, раба божия (имя), и крестьянский мой живот. Взята сия вода не ради хитрости, не ради мудрости, а ради божией милости. Был бы милый мой живот крестьянский здрав и цел и доила бы по-прежнему и больше прежнего во сто раз, и бежало бы молочко

по титечкам утром и вечером, всегда и ныне и присно и во веки веков. Аминь.

### Ад барадавак

*Палажыць на прышчы скуру дравеснай лягушкі. Здымаюць яе праз некалькі часоў, кажучы:*

– Еслі ты, нячысты, не можаш знайсці кожы, то счэзні з маёй рукі (*ці з таго масца, дзе ёсць барадаўкі*).

### Перад сустрэчай з чалавекам, якога баішся

*Сказаць тры разы свайму анёлу-ахоўніку, які знаходзіцца за правым плячом:*

– Ангел-храніцель, самкні ўста, асляпі глаза.

### Ад хвароб

*Чытаць трэба на маладзік тры разы, праз кожны раз сплёўваць праз левае плячо:*

– Месяц, месяц малады, у цябе рог залаты. У моры ты купаешся, і не іспужаешся. Адам і Ева – першыя жыхары на зямлі, у вас што балела? – Нет, нічога ў нас не балела, і ў мяне, раба божага (назваць імя), таксама каб нічога не балела. Амінь.

### Каб прысніўся вешчы сон

*У ноч з пятніцы на суботу кладуць ля галавы хлеб-соль і, задумывая жаданне, кажуць:*

– Нядзеля з панядзелкам, аўторак з сарадою, чацвер з пятніцай, а табе, субота, дружкі няма. Вось табе хлеб-соль, а мне дай ясны сон.

### Ад укуса змяі

Як я сяду зарою, ды пад сонцам ясным, яны ўкажуць мне дуб, а ў дубе гняздо, а ў тым гняздзе змяя Шкарубея. Выні свой яд і падкрапіўны, і падплечны, і часовы, і мінутны, і паўмінутны. Вынь свой яд. А не вынеш, то будзе Міхаіл-архангел наказываць кнутом драцяным. Амінь.

### Ад крыві

*Спачатку чытаецца малітва “Ойча наш”, потым калі прачытаеш малітву, сама замова:*

– На моры, на акіяне, на востраве Буяне там хатка стаяла, у той хатцы тры сястры жылі. Яны раны замалівалі, кроў астанаўлівалі. Ох, рана, зажывіся, кроў супыніся. Амінь.

*Чытаць патрэбна да тых пор, пакуль не спыніцца кроў.*

### Ад ушыбу

*Загаварваюць тры разы:*

– Госпаду Богу памалюся, Прачыстай пакланюся. Зоры-зарніцы, божыя памочніцы, прыступіце, ад удару загаварыць дапамажыце. Удар, удар, выйдзі з косці з малой і бальшой. Здзесь удару не бываць, косці белай не ламаць, краснай крыві не сушыць, ад болю аслабаніць, раба божага (імя) здароўем нядзяліць.

## Ад спугу ў сне

*Загаварваюць на нач тры разы:*

– На сінім моры – вышка, на той вышцы – дуб, на тым дубе – дванаццаць вяровак, на тых вяроўках – дванаццаць анёлаў. Яны пяюць, васпяваюць, злога духа з раба божага (імя) выганяюць, з галавы, рук, ног, касцей цела. Згінь у ноч, як і ў дзень. Госпадзі, мне на помач. Амінь.

## Ад скулы

*Загаварваюць на ваду тры разы і даюць выпіць:*

– Першым разам, лучшым часам памажы, Госпадзі, у раба божага (імя) скулу выгаварыць. Пятнаццаць скул знаю, усе выгаварываю. Скулу-рожу, скулу ліца, скулу падбітую, падстрэленую, вогненную, вадзяную, сібірскую, волчую, калючую, залатушную, падрыўную, падліўную, прастудную, каўтунную. Сыдзіце вы ў раба божага (імя) з галавы, з ліца, з рук, з ног, з плеч, з грудзі, з вушэй, з вачэй, з усяго цела і ісці вам за сіне мора. Там тры анёлы ходзяць. Адзін воду носіць, другі кроў угаманяе, трэці ліцо амывае, у раба божага (імя) скулу выгаварывае. Амінь.

## Ад зглазу

*Загаварваюць тры разы:*

– Першым разам, лучшым часам памажы, Госпадзі. Стань ты, Госпадзі, мне на помач, на радасць. Зара-зарніца, красная дзявіца, усему свету памочніца, памажы мне, угаварываць урок, прыгавор прыдуманы, пацешны, паспешны, пасланы, насланы, мужчынскі, жаночы, хлапочы, старочы. На гары стаяла груша, на той грушы Маць Прачыста ад аднога канца, ад аднога айца, ад адной мацеры, нічым не заведала, толькі рабу божаму (імя) урок выгаварвала і ссылала на крутыя горы, на ніцыя лозы. Рабу божаму (імя) дзень работаць, ноч спаць і ўрока-прыгавора не ведаць. Яшчэ ўгаварваю з касцей, з машчэй, з жыл, з пажыл, з буйнай галавы, з яркіх вачэй, з чорных брывей, з краснай крыві, з белай касці, каб па касці не хадзіла, касцей не ламіла, сэрца не знабіла, крыві не сушыла. Стань на сваё месца, як Прачыстая Маць у залатым крэсле, рабу божаму (імя) на помашч і на радасць. Амінь.

## Ад звіху

*Нужна нітка з сукна. Чытаць замову дванаццаць раз. У канцы ніткай з дванаццацню вузламі перавязаць хворы сустаў. Калі чытаюць замову, сустаў гладзяць і крэсцяць:*

– Ва імя Айца і Сына і Святога Духа.

*Потым чытаецца малітва “Отча наш”, а потым ужо і весь загавар:*

– Ішоў святы Пётр, спатыкнуўся, сустаў на сустаў натыкнуўся, кроў на кроў нашла, жылу на жылу навяла. (*У гэты час над хворым месцам завязваецца вузялок*). Святы ісцэліцель, памагі рабу божаму (імя) у лячэнні (*называецца хворае месца: рука, нага і г.д.*).

**Ад рожы**

*Загаварваюць тры дні па дзевяць разоў:*

– Госпадзі, Ісусе Хрысце, Святая Багародзіца, я прашу вас, дапамажыце. Рожа калючая, рожа свярбучая, выйдзі з рабы божай (імя) з касці, з машчы, ідзі на балота. Там ты калі, там ты гары і краснату, і ламату давай. Угаварваю, ідзі вон, а здзесь, у раба божага, не калі, не ламі, не гары. Амінь.

**Ад грыжы**

*Загаварваюць дзевяць разоў на ўсход сонца:*

– Грыжа, грыжа, не грызі косці ўнутры раднога жывата і не вазврашчайся нікагда.

*Калі гаварыш гэтыя словы, трэба пагрызці зубамі тое месца і папляваць на палена дзевяць разоў.*

**У дарогу**

Мацер Божая, благаславі мяне ў пуць, а сама са мною будзь. Я ў пуці, спасіцель уперадзі, Мацер са мной, святыя анёлы за мной. Ангел насустрач, Гасподзь на пуці, а наш айцец Мікалай-чудатворац са мной будзе заўсёды ўперадзі. Я ў пуць пайшла, Госпада Бога з сабой узяла. Ангелы-храніцелі ўперад забягаюць, мне пуць расчышчаюць. Спасі, Госпадзі, і памілуй рабу божую (імя) ва векі вякоў. Амінь.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***ад Торахавай Лукер'і Дзмітрыеўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Катлабай Г. (2000 г.)***

**Ад зубнога болю.**

– Маладзік малады, твой рог залаты. Ты хадзіў па ўсім свеце, а ці быў ты на тым свеце?

– Быў.

– А ці бачыў маю бабу?

– Бачыў.

– А ці баляць у яе роце косці?

– Не.

– Так няхай і ў раба божага (імя) таксама навек зубы занямеюць і ніколі не баляць.

**Ад удару**

Першым разам, добрым часам прашу Бога і духа святога. Ішоў Хрыстос праз калінавы мост. Ішоў з двума апосталамі. Мост зламаўся, рабе божай

(імя) удар балець суняўся. Ты, удар, перастань балець, па касцях не хадзі, косці не ламі, сініх жыл не сушы, рыжага мяса не крышы. Костачка да костачкі, сустаў на сустаў, штоб балець перастаў. Я – словам, а Гасподзь Бог – з помашчу. Амінь.

### Ад рожы

Рожа-ражыца, красная дзявіца. Па полю хадзіла, краскі збірала, к рожы прыкладала. Згінь, прападзі. У імя Айца і Сына і Святага Духа. Амінь.

### Ад залатніка

Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Мацеры паклanюся. Ты, Прачыста Божа Мацер, прыступі залатніка ўгаварыць. Залатнік ты мой, залатнічку, ты божы мой чалавечку, з чаго ж ты ўсхадзіўся, з чаго ж ты разыграўся? Бабка пуп завязала, залатніка на месца ўстаўляла. Стань на месцечку, на залатым крэслечку. Там залатнікі п’юць і цябе, залатніка, з нецярпеннем ждуць.

### Прысушкі

Лягу я, раба божая, памалюся, устану я, благаслаўлюся, памыюся я расою, вытруся я прастольнаю пеляною, пайду я з дзвярэй у дзверы, з варот у вароты, выйду я ў чыстае поле, стану я на сырую зямлю, пагляжу я на ўсходнюю старану. Як краснае сонейка ззяе, прыпякае мхі і балоты, чорныя гразі, так і ты прыбягай ка мне, прысыхай, раб божы, ка мне, рабе божай. Вочы ў вочы, сэрца ў сэрца, мыслі ў мыслі. Спаць бы ён не засыпаў, гуляць бы ён не гуляў, а ўсё б ка мне прыбягаў. Амінь.

***Запісана ў в. Слабажанка***
***ад Кірусенка Марыі Сцяпанаўны, 1921 г.н.,***
***студэнткай Мельнік Л. (1993 г.)***

### От разлучницы

По утру встает солнце красное, а как ночь придет – луна нежная, безмятежная, и никогда они не встречаются. Оба разом не появляются. Так и суженый мой (имя) пусть не встречается, никогда с ней не слюбляется. Так сказала я, так и сбудется.

### От сглаза дитя

С улицы водица, с дитя лиховица. От кого взялось, тому передалось. Кто со злобою колючею, тому слезою горючею.

*Говорить заговор и мыть лицо ребенка, брать воду, желательно освященную и лить ее на пол.*

### На здоровье

Водица-царица, она мне очень пригодится. И от кори, от болезни, от злых людзей, от напрасных речей. С гуся вода, а с меня, раба божьего (имя) худоба.

**Каб дзеці спалі**

Першым разам, лепшым часам Госпаду Богу памалюся, прачыстай Божай Маці пакланюся.

***Запісана ў в. Хвойнае***
***ад Асадчай Соф'і Пятроўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Барыш Н.***

**Ад зглазу дзіцяці**

Па галовачке светлай, па спінке прамой, па жывоціку беламу, па ножкам рэзвым яечка катаецца, зглаз ды хвароба на яго матаецца, збярэцца ўся немач да крупіцы, хто паслаў яе – к таму вернецца, хто заставіў дзіця мучыцца, той ад порчы злой жгутам скруціцца.

*Гаварыць, качаючы па цельцу дзіцяці курынае яйка. Потым кінуць яго ў агонь і спаліць.*

**Перад дарогай**

*Чытаюць 3 разы пасля выхаду з хаты:*

– Стану я, благаславясь, стану я, перакрэсцясь. У чыстым поле сонца ўзыходзіць, сам Гасподзь Бог Ісус Хрыстос выходзіць, крэст на галаве выносіць і благаслаўляе ўсё-ўсё паветра. Благаславі, Гасподзь, ад пулі, ад штыка, ад гарачага ружья ў дарогу, у дарожачку! Амінь.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Анікейчык Надзеі Аляксандраўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Фяськовай Т.***

**А зубной болі**

– Маладзік, ясеню, дзе ты быў?
– На небі.
– Што ты бачыў?
– Мёртвых.
– Што яны робяць?
– Панямелі і ляжаць.
– Няхай мае зубы панямеюць і не баляць.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**На вогнік**

*Дзевяць вугалькоў раскладваюць на тры кучкі, замаўляюць уранку, калі толькі запаляць дровы ў печы. Бяруць па чарзе вугалёк з кожнай кучкі, абводзяць ім каля рота, дзе звычайна ўсхватваецца вогнік, і кідаюць вугалёк. Першы раз кідаюць у печ за дровы, другі – праз плячо на хату, трэці – у кружку з вадой. Пры гэтым прыказваюць:*

– Вагнішча, вагнішча, ідзі на старое папялішча.

*Ваду выліваюць там, дзе зачыняюцца дзверы.*

***Запісана ў в. Рабец***
***ад Жыгадла Анастасіі Мікалаеўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Мележ Н. (1994 г.)***

**Ад ікоты**

*Гаварыць тры разы:*

–Йокалко, йокалко, выйдi за вароты, каго ўстрэцішь – таму ў рот.

**Ад страху**

*Пакрэсціць окны і дверы са славамі:*

– Схадзіў Гасподзь с небес, нёс з сабою крэст ад усіх сабак, ад злых валкоў, ад усіх злых людзей. Амінь.

**Ад бяды**

*Палажыць у агонь часнок і сказаць:*

– Хай уберажэ ад зглазу, прагоніць мучэння, преступлення, несправядлівасць, беззаконія. Спасі і сахрані, Гасподзь. Амінь.

**Ад ворагаў**

*Плюнуць 3 разы праз левае плячо:*

– Праз парог пераступлю, гадзюкаю выпалзу, усім врагам рот затыкну. Я не іду, а еду чорным волам, каб у ўсіх маіх урагоў язык быў колам. Амінь.

**Ад апёкаў**

*Гаварыць над абпечаным месцам тры разы і перакрэшчваць гэта месца:*

– Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Свет да ўтра, а ат утра да свету, а абпечанае да слоў. У векі вякоў. Амінь.

**Ад барадавак**

*Гаварыць на маладзік. Выйці на ўліцу ці выцягнуць руку ў акно, і, паказываючы маладому месяцу барадаўкі, сказаць:*

– Дзе твае цацкі?

– А вот маі цацкі.

*Пасля каждага раза сплёвываць чэраз левае плячо.*

**Перад дарогай**

*Кагда праводзяць дзіця з дому, пра сябе кажуць тры разы:*

– Маці дачку праважала, месяцам перапаясала, а звяздою прышпуліла, а судзьбою абгарнула. Устрэнь жа, Божа, ты маё дзіця на высокім пароге, на вялікай дароге.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Шут Соф'і Кузьмінічны, 1923 г.н.,***

***студэнткай Фяськовай Т.***

*Замовы ў нас называлі шэпты, а хто іх ізнаў, называлі бабкамі-шаптухамі. Прамаўляліся яны, калі трэба было людзям, вось тады і прамаўляліся. Няважна ў які час. Вось толькі венерычаскія балезні лячылі на маладзік. І калі гаворыш замову, абязацельна нада хрысціцца. Лячыць людзей нада перад іконай з запаленай свечкай. Таксама нужна браць іконку чалавеку, які лечыцца, каб ён прасіў Бога прасціць яго за свае грахі. Нарадкі шкодзілі людзям, а ўсе астальныя памагалі замовы.*

*Каб лячыць людзей, нужна гаварыць замовы па парадку – ад "Отча наш" да "Дзетскай балезні". Первыя сем замоў гавораць па тры разы ("Отча наш", "Нарадка-порча", "След-нарадка", "Ад ворагаў (на соль)", "З урокаў", "Зляк-спуг" і "Удар"). Калі обнаружыла не тое ў якой-небудзь з етых первых замоў, тады яе (у якой адчула) яшчэ тры разы гаворыш, і так покуль не будзе чыста ў ёй. Прашаптала етыя замовы, а астальныя гаворыш па аднаму разу ("Малітва-яд (лячыць на кроў)", "Малітва-вужаў яд (лячьщь печань, жэлудак, почкі)", "Вецер-праступа (лячыць бронхі, лёгкія)", "Залатнік", "Галаўная боль", "Грызь, параліч, звіх", "Скула-залатуха", "Скула-рожа", "Дзетская балезнь"), каб паглядзець, што нужна лячыць. Калі ж найшла балезнь з етых замоў, тады гаворыш (на якой найшла) яе яшчэ тры разы, і так пакуль не вылечыш. Інагда прыходзіць такі бальны чалавек, што без сіл устаеш, усю энергію траціш. Но людзям жа памагаю, таму ўсіх лячу.*

**Отче наш (пачынальная)**

Отче наш, иже еси на небеси, да светится имя твое, да придет царствие твое, да будет воля твоя как на небеси, так и на земле. Хлеб наш насущный дай же нам днесь, да прости нам грехи наши, как и прощаем мы должникам нашим, не введи нас во искушение, да избави нас от лукавого. Встречай нас, Господи, навучай нас, Господи, и возрадуй нас, Господи, зашли нам счастья и здоровья, и радость на долгие годы нашей жизни. Яко есть твое царство и сила, и слава и во веки веков. Аминь.

**Нарадка-порча (трі раза)**

Господу Богу помалюся, святой Прачістой Мацері божай покланюся і зорам-зораніцам, всем божым помочніцам. Помогіце выговаріваці нарядку-поддзелку ў (імя). На ціхом море, на акіяне, на острове Буяне стоіт вяз, под тым вязом лежыт белы камень, на том камне сідзіт Баба Яга. Она не ўмеет ні піць, ні есць, ні ткаць, ні прасць, ні вышываць, только ў рабы божэй (імя) поддзелку выговаріваць. На ціхом море, на акіяне, на острове Буяне стоіт церков-собор, дробным маком обсеена, жэлезнымі шыпамі обгорожэна. Прілетал к етай церкві змей-лютар і змея-лютаріха, хочуць жэлезные шыпы поломаць, золотой крест із церкві зняць, прескурай понюхаці і людзінье поку-

шаць. Сіла апостолов не дапускала золотой крест сняць і рабу божую (імя) укусіць. Маць Прачістая по сінему морю ходзіла, по чістому полю бродзіла, рабе божай (імя) здоровье носіла. І я Господа Бога прошу: прідзіце, пріступіце к рабе божэй (імя) выговаріваць нарядку-поддзелку, подуманную, подцешную, подстрелёную, следную, встрешную, подкладную, знаюшчую і незнаюшчую. Все святые празднікі, все святые апостолы, святой Міколай, станьце к рабе божай (імя) на помошч выговаріваць нарядку-поддзелку. Ціхонько, лёгонько, прілюбі мой дух скоренько. Амінь, амінь, амінь.

**След-нарадка (трі раза)**

Господу Богу помалюся, святой Прачістой Мацері покланюся. Пріступіце, помогіце к (імя) след уговараць. Ранняя зара-заранiца, всему свету помочніца, помогіце мне, Господзі, лечіць у (імя) след. Бегла речка з востока на восток, над той речкой стоіт дуб на трінаццать галюк. Змея-чаравніца, на етом дубе цебе ні галюк, ні коренья не перешчітаць і лісцья не оборваць, так у (імя) следа не взяць, в сінем море не вскідаць, под мертвеца не подклодаць і ветром не распыляць. Цебе, змея-колдовніца, у лесе всей дзічі не перешчітаць, на сучке шэрсці не перечісціць, так у (імя) следа не браць, под мертвеца не подкладываць. На свіначцы, на корове, на коне, на овечке, на козачцы шэрсці не перасчітаць, так цебе, змяя-чаравніца, на небо не взлетаць, ясных звёздов не знімаць, у трох царствах, у трох государствах цебе не взлетаць, із трох морей цебе воды не сліваці, і сінего дна цебе не відаці, так цебе, змея-колдовніца, так цебе, змея-чаравніца, следа ў (імя) не браць, на Сіянскую гору не взлетаць. На Сіянской горе стоіт собор-церква, на собор-церкву не ходзіць, суманастыя трубы не браць. Толькі сам Міхаіл-ангел возьмёт суманастую трубу і затрубіт, тогда ўсе жывые і мёртвые пойдут на страшны суд, так і (імя) следа не браць і под мертвеца не подклодаць. Я вынімаю след із-под мертвеца, із-под кірпіча ветром. Я вынімаю золотым пером із (імя) головы, із серца. Я вынімаю із жоўтой косці, із красной крові, із жыл, із поджыл, гореночная, віловая, ветраная, водзяная, семечная, сесчаная. Вынімаю золотым пером. І ныне Отца і Сына і Святого Духа. Амінь, амінь, амінь.

**Ад врагоў (трі раза)**
**(на соль)**

Господзі Ісусе Хрісце, Сыне Божы, отградзі (імя) светлым і твоімі ангеламі і молітвой Прачістай Мацері, сілою честного і жывотворяшчего твоего креста святого Архістраціга, божьего Міхаіла і всех апостолов. Свеціцель-отче Міколай, велікій чудотворец, светлымі твоімі молітвамі сохрані (імя) от злых людей, от нападзеній. Преподобный отче Серафім і светлые праведные Ісаак і Анна, і все святые на небе, ізбавьце рабу божаю (імя) от всякіх вражых налетов, от всякого зла, колдовства, чередзейства, і от лукавых людзей. Да не возмогуць оні прічініць рабе божай (імя) нікакого зла. Господзі, святом твоею сняція, сохрані рабу божаю (імя) на ўтро, на дзень, на вечер, на сон грядушчі, сілою твоею благодаці отвраці і ўдалі всякіе злые

нечесці. І кто думал і дзелал по наўченію дьявола, верні ім іх зло обратно во преісподнюю. Яко твое есць царство і сіла Отца і Сына і Святого Духа. Амінь, амінь, амінь.

### З урокаў (трі раза)

Первым разом, гасподнім часом Господу Богу помалюся, Господа Бога папрашу. Встань, Господзі, да помошчі. Умоўляю, угавараю, подуманна, пагаданна, прістречное, подзлячное, подсмешное, с косцей, с можжей, с очей, з белого цела, з румяного ліца, з жоўтой косці, з горячей крові, з (імя) головы, з жывота. Ехаў Іісус Хрістос через каліновы мост, каліну ломаў, (імя) прістрек уговараў. Прістрек-прістреча, божы человеча, по косці не ходзі, косці не ломі, ідзі на сіне море, там цебе пітаніе, еданіе і лучшыя спачуванія, а тут цебе не стояць, жоўтой косці не ломаць, горячей крові не разліваць.

### Зляк-спуг (трі раза)

Господу Богу помалюся, Святой Прачістай Мацері покланюся. Пріступіце, помогіце к (імя) зляк угаварацьНа сінем море престол стоіт, на престоле кніжкі лежат, за кніжкамі свечі горят, за свечамі Ісус Хрістос і сам Господ стоіт. Прішла к ему Прачіста божа Мацер і ангелочкі. Ангелочкі, ідзіце к (імя) рождзённой, малітвенны зляк уговораць, огонь потушыць. Трі злякі, трі огні ўговораю, зляк уклінаю. Жоўтой косці, чірвоной крові, румяного цела, зляку не стояць, косці не ломаць, кріві не разліваць, з божай (імя) не вкушчаць. Ідзіце вы, зляк, на ніцые болота, на густыя. Я – з словам, Господ – з помошчью, святый дзень (дзень недзелі), стань прі помошчі. Пріступіце, помогіце все божые ўгоднікі мне на славу, а (імя) на помошчь. Амінь, амінь, амінь.

### Удар (трі раза)

Господу Богу помалюся, святой Прачістай Дзеве покланюся. Пріступіце, помогіце к (імя) удар уговараць. Просвяці, Оцец Мікола-чудотворец небесный, як людзям помогаў, так і нам поможы. Пресвятая Марія, Мацер Божа, ехала на асляняці с тріма свечамі, с тріма проскурамі. З асляняці оседлала і раны оглядала, водамі промывала, свечамі засыпала і ядресць унімала, і ўдар говоріла: – Як комар укусіў, так і ўдар зажыў. Я – з словам, Господ – з помошчью. Пріступіце, помогіце все божые ўгоднікі мне на славу, а (імя) на помошч. Амінь, амінь, амінь.

### Малітва-яд
### (лячыць кроў)

Первым разам, добрым часам Господу Богу помалюся, божай Мацері покланюся, всем святым на белом свеце. Зорі-зорніцы, божые помочніцы, пріступіце, помогіце к (імя) яд угаварапі. На море лежыт камень, на том камні стоіт дуб, на том дубе 12 кокотов. Между цех кокотов гнездзечко, у том гнездзечку лежыт гадзюк половіца. Даволі цебе лежаць – пора веставаць, своіх поплечніц ушчуваць. Не будзеце ўшчуваць, буду я вас громом-бліскавіцею корміць. Уговараць і ўмоўляць, домовую, гноевую, корову, карявую, болот-

няную, водзяную, борцевую, подцінную, лесовую, пешчаную, боревую. У чістом поле стоіт явар, на том яваре седзіт бегла, под тую беглу под'езжает Архангел Міхаіл на зорном коне.

**Малітва-вужаў яд (1 раз)**
**(лячыць жалудак, печень, почкі)**

На сінем море, на акіяне стоіт дуб, под тым дубам кроваць стоіт, на той кроваці перыны лежаць, на тых перынах трі гада лежат. Первы – вуж Даніла, другая гадзюка – Маріна, треці – слівень-гад. Ты, гад Даніла, вынімай свае жало із (імя), а ты, гадзюка Маріна, вынімай свой зуб із (імя), а ты, слівень-гад, вынімай свой яд із (імя), а не будзеце вынімаць, будет на вас святой Міхаіл жалобу подаваць, будзет вас осіновымі однолеткамі на мелкіе кускі рубіць і ў огонь бросаць. Амінь, амінь, амінь.

**Вецер-праступа (1 раз)**
**(лячыць бронхі, лёгкія)**

От 12 свят: первое – Рождзество Хрістово, другое – Новый год, трецье – Кресченье, четвёртое – Встреченье, пятое – Благовешченье, шестое – Пасха, седзьмое – Мікола, восьмое – Троица, дзевятое – Петро, дзесятое – Спас, одзіннаццатое – Прачіста Ўспеніе, двенаццатое – Прачіста чесный крест. Выговаріваю вецер-віхрян, бурян. Ціхі вецер выговаріваю із рук, із ног, із всех суставоў, із белага цела, штоб голова не болела. Выговаріваю із рук, із ног, із всех суставоў, із мізінного пальца.

**Залатнік (1 раз)**

Господу Богу помалюся, Прачістай Мацері і Богу покланюся. Прачіста Мацерь божа, прідзі на помошч ко мне, поможы мне (імя) ратаваці, залатнік на место восстонавліваці. А ты, залатнік, не ходзі до косці і жывота не ломі, ідзі на сінее море, там цебе место, там ты разгуляешся і (імя) не ўславляйся. Я – словам, Господ – помошчью. Пріступіце, помогіце (*трі раза).*

**Головная боль (1 раз)**

Святый пророк, господні Кресцітель Іоанна, велік ты перед Богом і многое можэш попросіць у него, поэтому, пріподая, молю цебя, Кресцітель Хрістов, услыш страждушчую голоўную боль у (імя), облегчі і ўцішы недуг, і ўтолі скорбь у (імя), освобождая от болі, і ісцелі её. Да прославіл цебя і Бога во векі веков. Амінь, амінь, амінь.

**Грызь, параліч, звіх (1 раз)**

Господу Богу помалюся, святой Прачістой Божай Мацері покланюся і зорам-заранiцам, всем божым помошчніцам. Пріступіце, поможыце і к рабе божай (імя) грызь, параліч, ізвіх уговаріце. Ехав Ісус Хрістос на Сіянскую гору на вороном коне, на золотом седле, на шолковом шнуре. Как тому вороному коню шэлковой травы не с'едаць, сільной росы не співаць, так у рабы божай (імя) грызі, паралічу і звіху не бываць, сустаў на сустаў наставляць, на

жылы кровь наліваць, сонцем не пекці, лістом не трепетаць, угору не стояць і опухалі не гнаць. Амінь, амінь, амінь.

### Скула-залатуха (1 раз)

Господу Богу помалюся, Святой Прачістай Мацері покланюся. Пріступіце, помогіце к (імя) скулу ўговараці. Добры дзень (еслі дзень і т.д.) цебе, скула-скуліца, красная пані-дзевіца, праворна малышка, калючая, балючая, прістречная, переходная, із сырой землі, із воды, із буйного ветра, із губ, із зуб, із языка, із очей, із головы, із румяного цела я цебя ўговараю, умоўляю, на сінее море отправляю. Скула-скуліца, красная пані-дзевіца, белу-беляву, чорну-черняву, скулу-брушніцу, скулу-чарніцу, скулу-памяніцу, скулу муравую, скулу ніцу, скулу сыпучу, скулу нарівану, скулу пузыркавану, скулу разсыпану, скулу-залатуху. Всех я вас отсылаю на ніцые лозы, на белыя берёзы, на зелёные кусты. Там зерняткам зрабіцеся, на дробны мак разсыпіцеся. Прачіста Маці будзет помогаці і (імя) помошч даваці. Пріступіце, поможыце, усе божыя святыя ўгоднікі. Я – словам, Господ – с помошчью. Амінь, амінь, амінь.

### Скула-рожы (1 раз)

Господу Богу помалюся, святой Мацері покланюся, усе святые на белом свеце, пріступіце, поможыце к (імя) рожу ўговараці. Рожа прігожа, годзі цебе тут стояці, жывотом косці ломаці, по крові ходзіці. Я цебя ўговораю, умовляю. Ідзі ты, скула-скуліца, по всему свету кресчёному. Я цебя ўговораю, скула-скуліца, красная пані-дзевіца. Ідзі ж ты с косцей, з можчей, із жыл, із поджыл, ідзі ты на сінее море, да не возврашчайся. Там цебе кубкі наліваные, стулкі подставленные. Пейце, гуляйце і (імя) помошч давайце, і (імя) покідайце. Прачістай Божай Мацері покланюся, Прачіста Божа Мацерь будзет помогаці і (імя) помошч даваці. Амінь, амінь, амінь.

### Дзецкая болезнь (1 раз)
### (заключная ў лячэбным сеансе)

Господу Богу помалюся, Святой Прачістай Мацері божай покланюся. Все зоры-зарніцы, все божыя памочніцы, прыступіце, помогіце мне дзецкую балезнь у (імя) уговараці. Скула-скуліца, ламуча, балюча, чарнюча, прыбыўшы, отбыўшы, ты же тогда стояла, косць ломала, по суставам ходзіла, кровь зажыгала. Цепер я цебя отсылаю на сухіе лозы, на белые берёзы, на зелёныя кусты, на сінее море, а на том сінем море сухі бэз, як жа бэзу не развівацца, так і горечку ў (імя) не пояўляцца. Прачістай Мацері ўракнюся, Прачіста Мацерь будзет помогаці і (імя) помошч даваці. Во векі веков. Амінь, амінь, амінь.

### Начніцы (дзіцячая замова)

Начніцы-сестрыцы, даю вам работу: проса тоўчыце, мак счытайце, мак счытайце, а моего дзіцяці не чапайце (два *раза).* Даю вам 12 верацён. Позаўчора пралі, а вчера мотали, а цеперь тчыце, прімыкайце, мойго дзіцяткі не чапайце, нехай яно спіць, прісыпает, пусць цело набірает.

**От ліхорадкі**

Господу Богу помалюся, Прачістой Мацері Божэй покланюся і всем святым на белом свеце. Пріступіце, помогіце к (імя) ліхорадку ўговараці. Шло 70 жэншчін – босые, косые, косматые. – Отче Ораме, пошлі сына Ісака і дух мой святой. Ісак, бері меч і отрубі ім всем головы, штобы оні не вредзілі рабу божьему (імя). – Святой Ісак, не рубі нас. Мы не будзем вредзіць рабу божьему (імя). Мы пойдзём за высокіе горы, за дзікіе лозы, за сінее море. Там будзем жыць і рабу божьему (імя) не будзем вредзіць. Амінь.

**Кровь замоўляць**

Лецел ворон через сінее море с золотой іглой і шолковой ніткой. Золотой іглой раны зашывал, вопуху не пускал, кровь замоўлял.

**Зубы лечіць**

Месяц в небе, покойнік в зямле, камень у моры на дне. Як станут етыя тры асобы мёд-віно піць, тады начнут у (імя) зубы балець. Молодзік молодой, у цебя рог золотой, ты по небу ходзіш, мёртвых бачіш. У іх зубы не болят, штобы і ў меня, рабы божай (імя), зубы не болелі.

*Тры раза.*

**Молитва от пьянства**

Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь. Хмель и вино, отступитесь от раба божьего (имя) в тёмные леса, где люди не ходят и кони не бродят, и птицы не летают. Во имя Отца и Сына и Святого Духа *(2 раза).* Хмель и вино, выходите на быструю воду, по которой люди не ездят, от раба божьего (имя) отступитесь. Хмель и вино, пойдите на буйные ветры, что по дальности ходят. Во имя Отца и Сына и Святого Духа *(2 раза).* Привяжитесь к лихому человеку, который на (имя) лихо думает, к тому привяжитесь, который добра не сделает, а от раба божьего (имя) навеки отвяжитесь. Во имя Отца и Сына и Святого Духа. Аминь.

***Запісана ў в. Клімаўка Гомельскага р-на***
***ад Мятліцкай Васілісы Васільеўны, 1939 г.н.***
***(раней пражывала ў г. Хойнікі),***
***студэнткай Рубан К. (2003 г.)***
***(з сшытка)***

* * *

Устань, каса, на камень – кроў не каря, устань на сякеру – я ў цябе веру.

*Гэтая замова, каб спынілася кроў. Тры разы праказаць над ранаю, тры разы дунуць.*

* * *

На моры-акіяне ляжыць камень, на тым камене сядзіць дзявіца – шыць масцярыца. Яна дзержа іглу булатную, удзявае нітку шаўковую, зашывае

раны раба божага (імя). Тутака табе не буваці, на косці не хадзіці, касцей не ламіці, галавы не кружыці і раба божага (імя) не ўмарыці.

*Замова гэтая ад любой крыві, вялікай ці малой. Трэба перaказаць тры разы, красціць хворае месца.*

**Супраць рожы**

*На працягу трох дзён раніцай і ўвечары казаць:*

– Рожа ты, рожа, раждзественска рожа. Я цябе, рожа, замарожу, я цябе, рожа, агнём спалю, я цябе, рожа, варам залью, мелам засыплю, анучай затру.

*Краснай анучкай памашыце вакол рожы тры разы, пасыпце рожу таўчоным мелам. Прачытайце тры разы, пасля кожнага сплюньце праз левае плячо.*

**Замова супраць кражы з хаты**

*Трэба казаць тры разы, сыходзячы з хаты:*

– Выходжу з дзвярэй раба божага (імя), станаўлюся ўпоперак двара. Са мной разам Мікола-ўгоднік стаіць. Запруся, затваруся …замком. На абедзьвух дзверах два ангелы сядзяць. Хто едзе – праедзе, хто ідзе – абыдзе, драпежнік у хату зайдзе – не дайдзе: ногі адзервянеюць, рукі акамянеюць, вочы пацямнеюць. Вакол майго двара быстра рака, крута гара, цёмны лес. Амінь. Амінь. Амінь.

*Драпежнікі абавязкова абыдуць гэтае замоўленае месца.*

**Замова ад масціту**

*Добра дапамагае ў пачатку хваробы. Яе можна казаць сабе ці каму-небудзь іншаму:*

– Маці, Святая Багародзіца, усякаму роду памошніца. Ты мне (ёй) памажы, рабе божай (імя). Ты мне (ёй) пасабі ва ўсіх маіх (яе) грудзях, ва ўсіх маіх (яе) пратоках. Амінь.

*У час замовы красціце хворыя грудзі зверху ўніз ды справа налева. Словы замовы паўтараць тры разы, пасля кожнага разу плюнуць тры разы на хворыя грудзі і тры разы цераз левае плячо. Замаўляць трэба праз два-тры часы. Боль сціхне і ўсё пройдзе.*

**Замова ад грыжы ў дзіцяці**

*Раніцай, перад тым як снедаць, маці павінна як бы прыкусіць край грыжы і наказаць:*

– Грыжа, грыжа, я цябе грызу. У цябе адзіны зуб, а ў мяне сем, я цябе з’ем.

*Тры разы прыкусіць, тры разы пашаптаць і кожны раз трэба плюнуць цераз левае плячо.*

**Замова ад кашлю**

*Трэба казаць яе па тры разы раніцай, вечарам і раніцай наступнага дня. Пасля кожнага яе казання хворы павінен праглынуць сліну, а калі лечаць дзіця, трэба праглынуць за яго:*

– Вятла, вятла, забяры сваю глоць, калі ты яе не возьмеш, мы яе заглоцім з каранямі. Амінь. Амінь. Амінь.

***Запісана ў в. Храпкава***
***ад Цярэшчанка Евы Мікалаеўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Маркавец С., Маркавец Г. (1994 г.)***

*Аляксей НЕНАДАВЕЦ*

## З УЛАСНЫХ ПАЛЯВЫХ ЗАПІСАЎ ЗАМОЎНАЙ ТВОРЧАСЦІ

Мне даводзілася бываць на гэтых палескіх землях мноства разоў. І не толькі па навуковых ці службовых справах. Часта завітваў да сяброў і знаёмых, якіх на Хойнікшчыне ў мяне таксама засталося надзвычай многа. Іншая справа, што нехта ўжо выехаў у чыстыя ад радыяцыі раёны Беларусі, некага ўжо ўвогуле няма сярод жывых, але самыя адданыя роднай зямлі так і засталіся на сваіх падворках, у сваіх паселішчах.

Яшчэ памятаю, што з першай сваёй вандроўкі – яшчэ студэнцкай – пачаў звяртаць увагу на замовы ад бяссонніцы ці ад "бяссоння", як іх называлі самі інфарматары. Таму, калі ўзяўся перакладваць свае сшыткі і паасобныя карткі, пажаўцелыя ад часу, і паспрабаваў вылучыць найбольш характэрныя і важныя замовы, то набралася ў мяне такіх вуснапаэтычных твораў недзе каля сотні! З аднаго толькі раёна, па адной толькі тэме!

У сялянскай справе важна было адпачыць. Не выспішся як след, не адыйдзе цела пасля напружанай дзённай працы, не расслабіцца яно, то яшчэ ў такім стане нейкі дзень-два выцягнеш, але потым ужо давядзецца звяртацца даваражбіта-знахара ці зашэптваць бяссонніцу самому сабе. Найчасцей шапталі самі, але часта сустракаліся і такія сведчанні, што хадзілі да знахароў і знахарых, каб яны дапамаглі, каб яны выручылі. Праўда, з такой вось канкрэтнай назвай "Ад бяссонніцы" зафіксавана намі ўсяго адна замова. "Спаць кладуся, з крыжам пасцялюся. Крыж нада мною. Крыж пада мною. Бог са мною. Амінь" (в. Віць).

Затое вельмі многа замоў прысвечана таму стану, калі чалавек толькі збіраўся легчы спаць, ці ўжо клаўся і шаптаў магічныя словы пра сябе. "Лажуся спаць, кладу пячаць. Хрыстом храшчуся, Хрыстом малюся. Хрыстом урага адольваю, Хрыстом накрываюся і прыказываю: "Храніцель мой, пакравіцель, храні мяне на краваці з вечара да паўночы, а з паўночы да белага света. А Ісус Хрыстос, храні мяне да канца века. Амінь" ("Перад сном", в. Клівы); "Спацькі кладуся, на Бога здаюся. Крыж пада мной. Бог нада мной. Анёлы мае, станьце пры мне – што вам будзе. то няхай тое будзе і мне. Ва імя Айца, Сына і Святога Духа. Амінь" ("На сон", в. Буркі); "Добрай ночы вам, куркі, рабыя рабушкі, чорныя чарнушкі, белыя бялушкі, красныя краснушкі, сівыя сівушкі, жоўтыя жаўтушкі. Я к вам не гуляць прыйшла, а крыксы-плаксы раба божага (імя) прынясла. Вам з імі шчабятаць, а рабу божаму (імя) крэпка спаць. Амінь" ("Замова на сон", в. Руднае); "Зара-зараніца, красная дзявіца. Першая зара – вячэрняя, другая – палуночная, трэцяя – ранішняя. Дасі, Госпадзі, сон (імя). Спасі яго, Госпадзі, ад ліха і ад ліхога часу" ("Загавор на сон", в. Мікулічы); "Хаджу па гары Сінай. Сам Гасподзь са мной. Прашу Божай Маці, штоб дапамагла на сон закласці. Калі ў жывых, дак знайшоў, а ў мёртвых – пацяраў. Я – з словамі, Гасподзь Бог – з помаччу. Хто ўзяў, дык зараз аддай!" ("Замова на сон", в. Губарэвічы); "Лажуся спаць на Сіянскіх гарах. Тры ангела па баках стаяць. Адзін – прысні, другі – прысні, трэці – усю праўду скажы. (Загадаць жаданне). Лажусь спаць

на гары соннай. Гасподзь са мной. Што я задумала, загадала, каб усё гэта ва сне ўвідала. Калі да – саснісь вада. Калі нет – то саснісь хлеб” (“Замова на сон”, в. Дворышча); “Спаць кладуся – крыж пада мной. Сам Гасподзь Бог нада мной. Анёльчыкі мае, станьце каля мяне. Што Гасподзь даў вам, тое ж самае дайце і мне. Прачыстая Маці, дай салодкага сну паспаць і здаровай устаць” (“Замова на салодкі сон”, в. Руднае); “Я іду к пакою, Божа, вочы мне закрый і любоўю будзь са мною – я віноўны перад табою. Дай грахам маім спасення, целу – сон, а душы – спакой. Амінь. (Паўтарыць тры разы)” (“Замова для добрага сна”, в. Поташня).

Не сакрэт, што многія замовы вельмі нагадваюць па сваім змесце звычайныя малітвы. Нават інфарматары гэтага ні ў якім разе не хавалі, а, наадварот, называлі свае творы “Малітвамі”, каб такім чынам лішні раз падкрэсліць іхнюю магутнасць і чараўнічасць. “Крэстом крышчуся, на крысту спаць кладуся. Ангелы стаяць па баках, Божая Маці – у галавах. Беражэ-ахоўвае душу маю. Амінь, амінь, амінь” (“Малітва на сон”, в. Бабчын); “Кладзёмся спаць – агонь пагас. Крыж пада мной, Бог нада мной. Ангелы па баках, храніцелі ў галавах. Ангелы-храніцелі, спасіце душу грэшную. Крыжом крашчуся – злога духа не баюся. Амінь” (“Малітва на добры сон”, в. Мокіш); “Да ўваскрасіць Бог, разыйдуцца ўрагі яго, да бяжаць ад ліца яго ненавідзяшчага, як гіне дым. Да знікае так, як воск, ад ліца яго, ды пагібнуць бесы ад ліца любяшчага Бога і знаменуючыся крэсным знаменіем і да возвеселяцца, прапаведуючы, каб радаваліся, беса сілаю господняю праганяючы. Бога прызываю і яго ж заклікаю на прагнанне ўсялякага супастата. Усім людзям светлым і чыстым, працавітым і сумленным кожны дзень радасці давай, каб яны спалі, каб адпачывалі, а бяссонніцы ніколі і нідзе не зналі. Не выспяцца, не адпачнуць, то і працы не займуць. Амінь, амінь, амінь” (“Малітва перад сном”, в. Глінішча); “У руцэ тваёй, Госпадзі, Ісусе Хрысце – Сыне Божый, предаю дух мой. Ты же мя благослові, ты же мя помілуй і жывот вечный, і сон добрый даруй мне. Амінь” (“Малітва на ясны сон”, в. Клівы); “Спаць лажуся, крыстом сцялюся, плашчаніцай накрываюся, на Госпада Бога спадзяваюся. Прачыстая Маці ў галавах, двое ангелаў па баках. Сцеражыце маю душку з вечара да паўночы, з паўночы – да свету. Ад свету – да веку” (“Малітва на крэпкі сон”, в. Рудакоў); “Спаць кладуся, на Бога здаюся. Бог над намі, а крыж пад намі, ангелы каля нас, сцеражыце нас. Амінь. (Паўтарыць тры разы і тры разы перахрысціцца)” (“Малітва ка сну”, в. Віць); “Лажуся я спаць – свяча дагарэла, галовачка ацяжалела, кудры лезуць на глаза. Вы, глазкі-бедняжкі, вы хочаце ўснуць. Ёсць ворат у рубашкі, прэждзе надабна яго рассцягнуць. Стань тут, перад іконаю, я буду пасцель слаць. Не спяшы біць паклоны і Багародзіцу чытаць. Прыляцела божая сіла, падушку перакрысціла і сама перакрысцілася. Ахраніся, ангел божы, ахраніся ад сатаны. Ангел устане і заплача із-за левай стараны” (“Малітва на тое, каб сон удаўся”, в. Пажаркі); “Лажусь на божую печаль. Дай, Божа, ноч пераначаваць у радасці, у радасці і светлага белага дня даждаць. Амінь” (“Малітва да сну, каб нішто спаць не перашкодзіла”, в. Буркі).

Зрэдку думалі, асабліва маладыя, у якіх кіпела-віравала кроў і не давалі спаць пачуцці, пра тое, як і ў сне сустрэцца-спаткацца з мілаю ці, наадварот, з мілым: "Месяц малады, у цябе рог залаты. Ты ўвесь свет абыйдзі і мне пару знайдзі. З кім мне век векаваць, з кім мне жыць і гора не знаць, і каб яго ў сне павідаць" ("Замова на сон, каб любага ў ім убачыць", в. Глінішча); "Лажусь пад панядзельнік – прыснісь зялёны ельнік. У зялёным ельніку я і любоў мая" ("Замова на сон, каб з мілым спаткацца", в. Буркі); "Святы Іван Прадцеча сядзіць на залатым троне. Ён сядзіць і чужыя сны разбірае, паганыя ў добрыя пераварочвае. Перавярні, святы Іван Прадцеча, і мой: каб таго, каго хацелася і жадалася, у сне сёння ўбачылася" ("Каб прысніўся сон з мілым", в. Мокіш).

Здаралася, што хацелі ўбачыць сон прадказальны, відушчы, паводле якога потым можна было меркаваць, разважаць аб сваім будучым, аб уласным лёсе, нейкіх надзвычай важных падзеях. "Нядзеля з панядзелкам, аўторак з серадою, чацвер з пятніцаю. А табе, субота, дружкі няма. Во табе хлеб-соль, а мне дай вешчы сон (чытаць на хлеб і соль, якія потым на ўсю ноч пакласці ў галаву, пад падушку)" ("Замова на вешчы сон", в. Бабчын); "Субота з нядзеляю, нядзеля з панядзелкам, панядзелак з аўторкам, аўторак з серадою, серада з чацвяргом. А пятніца мая. Калі я ў сне нешта не прадам, а яно страціцца, змарнуецца, то і жаданне маё ніколі не збудзецца. Калі ж знайду, вярну ці куплю, то ўсё чыста добра збудзецца. (Гэтыя словы паўтараюцца сем разоў, перад тым, як засынаеш)" ("Замова на прадбачлівы сон", в. Поташня).

Асабліва часта ў замовах жанчыны прасілі сну дзецям, якія і самі не маглі заснуць, і іншым адпачываць не давалі. Усе ведалі, што гэта дзіцячыя справы і малых не прымусіш сябе весці па-іншаму, але ўсё ж паўплываць неяк спрабавалі. Такія творы маглі быць просценькімі па зместу і па сваёй форме і, тым не меней, ім надавалася ўсёроўна магічная значнасць. "Прашу я, Госпадзі Божэ, усіх святых і ангелаў малых, наце вам хлеб-соль, а вы дайце маёй (дачцэ ці сыну) сну даволі. (Чытаецца тры разы на кавалачак хлеба, а потым той хлеб выкідваецца на вуліцу курам)" ("Дзіцячая замова на сон", в. Мікулічы); "Серада ў серадзе, Божая Матухна ў Марылі наперадзе. Божа Матухна на камень ступіла, камень той праваліўся, а Ісус Хрыстос нарадзіўся. На тым месцы Марыля спаць лажыцца і нікога не баіцца. Амінь" ("Замова дзецям на добры сон", в. Веліцын); "Перахрысціць дзіця і пры гэтым гаварыць наступныя словы: "У краватку кладуся, на бачок павярнуся і нікога не баюся. Маці Божая пры мне, што Мацеры Божай, тое і мне. Амінь". (У канцы зноў трэба перахрысціць дзіця. Яно пасля гэтага засне спакойна. Сон будзе роўным і глыбокім)" ("Замова на ноч дзіцяці", в. Губарэвічы); "Па чыстаму полю Маці Прачыстая Марыя хадзіла, сынка свайго будзіла. – Сынку мой, сынку, ці не можаш ты ўстаці, гэтаму дзіцяці (імя) сон-спакой даці. Той пагадзіўся, хуценька ўстаў і рабу божаму (імя) сон крэпкі і моцны даў" ("Замова на дзіцячы сон", в. Пажаркі); "У ложачак свой кладуся, на бачок павярнуся, нікога ў свеце не баюся. Мацер Божая пры мне, тое, што Мацеры Божай, тое дай і рабу божаму (імя). (Перахрысціцца ў пачатку замовы і ў яе канцы)" ("Дзецям на сон добры і крэпкі", в. Віць).

Замовы маглі называцца і па-іншаму. Гэта, мабыць, залежыла яшчэ і ад таго, як дзіцячая бяссонніца ўспрымалася ягонымі бацькамі. Матуляй – у першую чаргу. Яно і зразумела. Бо ж не спалі малыя, у асноўным, начамі і гэтаму ўдзялялася найбольшая ўвага. На тое, што дзеці не засыпалі днём, ніякай увагі не звярталі. Не паспала днём, дык дабярэ сваё ноччу. Затое, калі ноччу крычала-выпрамлялася, не давала спакою, то ў адзін голас сцвярджалі, што на яго напала хвароба і ад яе неабходна як мага хутчэй пазбаўляцца. Замовы таксама называлі гэтым характэрным словам – "крыксы" ці "плаксы". Іх і лічылі найбольш эфектыўнымі ў барацьбе з дзіцячай бяссонніцай. "Першым разам, добрым часам прашу Госпада Бога, божай памашчніцы зары-зараніцы. Гасподняя памашчніца, памагаеш ты Госпаду Богу, памажы і мне. А вы, крыксы-плаксы, ідзіце на быстрыя воды, на нізкія лозы, дайце спакой дзіцяці (паўтарыць тры разы). А потым яшчэ паўтараецца дзевяць разоў і па другому заходу: "Другім разам, добрым часам прашу Госпада Бога, божай памашчніцы зары-зараніцы і г.д…" ("Калі не спіць дзіця (ад крыксаў-плаксаў)", в. Рудакоў); "Добры вечар, сястрыцы-сварыцы! Гэта я к вам прыйшла (імя), крыксы-плаксы свае прынесла. Вам тут ніколі не хадзіць і не гуляць, у (імя) не бываць. (Загаварваецца перад кожным вуглом у хаце)" ("Загавор дзіцяці ад крыксаў-плаксаў", в. Глінішча).

У традыцыйным значэнні замовы для дзяцей нічым не адрозніваліся ад гэткіх жа самых твораў, адрасаваных толькі дарослым "пацыентам". "Ножкі дзіцяці складваюць і на падэшвах абгарэлай запалкай вычэрчваюць крыжык і пры гэтым прамаўляюць: "Арыды і макарыды, арыды і макарыды, уйміцеся самі і ўгаварыце ў раба божага (імя) начніцу і палуночніцу, каб яна век не была і не шчупала. Век па веку, адныне давеку будуць мае словы крэпкія і загаворыстыя, і ім ад мяне і боскіх сілаў – ключ і замок. Амінь" ("Замова малым дзецям ад бяссонніцы", в. Буркі); "Добры вечар, куркі! Мы не гуляць прыйшлі, а сваю бяссонніцу прынеслі. Вам, куркі бялушкі, чарнушкі, рабушкі, жаўтушкі, весялушкі сакатаць-сакатаць, а маленькім дзеткам у калысачцы спаць. Амінь" ("Ад бяссонніцы маленькім дзецям", в. Дворышча); "Дзіця на досвітку носяць па вуліцы і звяртаюцца да зары, гаворачы тры разы запар: "Куры белыя, куры серыя, куры рабыя, вазьміце ад (імя) крык і неспакой, а дайце яму ўгамон"" ("Ад бяссонніцы дзіцятку", в. Губарэвічы).

Удалося запісаць і варыянт даволі рэдкай замовы гэтага накірунку. Яна так і называецца "Дзіцячая (ад начной мачы)": "Святая нядзелька, прыступіце, памажыце. Ішоў Гасподзь дарогай шырокай. – Куды, Госпадзі Божа, ідзеш? – Іду шырокай дарогай к румянаму целу (імя). – Прыступіце, памажыце, Божа. Столікі пазасціланыя, госцейкі пазадзяваныя, прыступіце, памажыце і к сіняму мору занясіце. Амінь" (в. Руднае).

Вядома ж, на працягу свайго жыцця чалавеку даводзілася хварэць на многія хваробы, залежыць ад іх і таму, адпаведна, таксама ратавацца, выкручвацца, а, найпрасцей, – адмольвацца ці адшэптвацца. І зноў жа, пры дапамозе замоў, на якія патрыярхальны селянін ускладваў асаблівую надзею-спадзяванні. На Хойнікшчыне намі зафіксаваны вуснапаэтычныя творы з даволі рэдкімі, нават па адных ужо назвах, хваробамі. Напрыклад, наступная

– “Ад сібіркі”: “Ішла сібірка з Сібіры. Ішла да нас – на Белу Русь. Я цябе, сібірка, угаварываю, угаманіваю, каб ты тут не радзілася і не расхадзілася. (Прамовіўшы, трэба ў абавязковым парадку тройчы плюнуць цераз левае плячо)” (в. Поташня). Або вось гэтая – “Ад чумкі”: “О, святы Іосіф! Ты, маючы сабаку, тую, якая спасла цябе пры сне ат халдзеяў. Ты, хто дабіўся святога сану і святога вянца, спасі ад смерці і пагібелі і майго сабаку-пса. Адна сляза і ўваскрасіць яго. Амінь” (в. Бабчын).

Праўда, спрактыкаваныя людзі і тут знаходзілі своеасаблівае выйсце: папрыдумвалі агульныя замовы, якія дапамагалі ад усіх чыста хвароб і ў даследчыкаў нават атрымалі назву універсальных за такую сваю характэрную ўласцівасць. Дастаткова было прашаптаць таемна-магічныя словы – і любы нядуг вымушаны быў адступаць на задні план. “Маладзік малады, ў цябе рог залаты. Табе – на добрае стаянне, а мне – на добрае здароўе. (Дзьмуць на ваду тры разы, абмыць руку, якой бярэш ваду. Пасля гэтага ваду выліваюць у нейкую пасудзіну і нясуць на скрыжаванне дарог, каб выліць там. Пры гэтым яшчэ прамаўляюць абавязкова: “Хто мне хваробу даў, той яе сабе і ўзяў”)” (в. Глінішча); “Ішоў Пётр мяжою, а Павел – другою. Пётр астанавіўся, Павел азірнуўся, і ў (імя) боль на сваё месца ўстанавіўся. Святы Спас, спасі нас у любы час, ва ўсякую мінуту. Я – словам, Бог– з помашчу, вазлюбі мой дух. Амінь” (“Ад усіх хвароб”, в. Мікулічы); “Мацер Божая, Царыца нябесная, устань на помач (імя) ад усякага скучання, ад улякання, ад пужання, ад удару, ад усялякай балезні. Вазлюбі мой дух. Амінь” (“Ад усіх чыста хвароб, каб чалавеку ніколі не балелася”, в. Губарэвічы); “Добрай раніцы, царыца-вадзіца, божая памачніца! Цякла ты з істока і з палустока і прамывала ніцыя лозы, белыя камні, сырыя карані. Ах вы, ручаёчкі-браточкі, прамывалі вы ніцыя лозы, белыя камні, сырыя карані, прамыйце ў (імя) сто касцей, сто жыл, сто паджылкаў, белае цела, красную кроў. А не возьмеце, не прамыеце, то на вас пойдзе сам Ісус Хрыстос, Маці Прачыстая – дзева чыстая, з агнявым мячом, з вострым кап’ём. Яна пабядзіць усіх ведзьмакоў і чараўнікоў, злыя вочы і злых языкоў. Не сама я сабою, Прачыстай святою прашу. Не сваімі словамі, а Гасподнімі думамі. Гасподзь Бог дапаможа. Амінь” (“На ўсе хваробы і на ўсе выпадкі жыцця”, в. Клівы).

Падчас нашых вандровак па раёне даводзілася запісваць не толькі замовы ад бяссонніцы, ад усемагчымых хвароб, але і ад розных адмоўных сацыяльных праяў жыцця вяскоўцаў таксама. Здавён павялося, што чалавеку працы вельмі давалася ў знакі п’янства. І не так яшчэ селяніну, як сялянцы, жанчыне, гаспадыні, жонцы. Менавіта слабой палове даводзілася потым і аплочваць прапітае ці ўкрадзенае, і на сваіх плячах і целе адчуць фізічнае ўздзеянне падвыпіўшага гаспадара. Агаворымся яшчэ – тады мы мэтанакіравана адшуквалі замовы такой тэматыкі. Калі пачалі займацца гэтым, то аказалася, што яны вельмі рэдка сустракаемыя. Мала гэтага, далёка не кожны інфарматар, які ведаў такі твор, пагаджаўся нам яго пераказаць пад запіс, тлумачачы гэта тым, што замова, перададзеная выпадковаму чалавеку, адразу ж страціць сваю магутна-чараўнічую сілу. Падаем найбольш характэрныя прыклады. “Як адлучыўся Іюда ад Хрыста, так няхай адлучыцца

раб божы (імя) ад віна. Амінь. Амінь. Амінь" ("Ад выпіўкі", в. Поташня); "Свяшчэнніку ў школе не чытаці, жыду ў царкве не працаваці, рабу божаму Івану гарэлкі не знаці. Дзевяць царквей, дзесятая памашчніца, Божая Маці начальніца. Амінь" ("Ад мужа-выпівохі", в. Мокіш); "Неба бяскрайняе, звёзды міргаючыя, усмірыце ад віна, злога зелля і запоя. Усемагутны месяц, адваражы (імя) ад запоя, віна і зелля. Сонца ўсёмагутнае, спалі запойную страсць у (імя), усміры і ўкраці смагу і жаднасць у (імя) да запою, віна і зелля. Вецер ціхі, вецер буйны, уймі запойную страсць у (імя). Хоць моцны і крэпкі чортаў напой, сатанінская замова, але мая замова, мае словы мацнейшыя і лепшыя. Амінь" ("Ад моцнага выпівання", в. Віць); "У імя Атца, Сына і Святога Духа, амінь. Запой і віно зялёнае, адступіцеся ад раба божага (імя) у цёмныя лясы, дзе людзі не ходзяць і коні не бродзяць, і птушкі-салавейкі не спяваюць. Амінь" ("Замова ад частага выпівання", в. Бабчын); "Свят-свяціцель, душэўны мучыцель, атраві водкай мужа, каб ён не піў, на водку не глядзеў, за віно не браўся, нячыстай сілы не баяўся, а ваду піў, сямейку сваю весяліў, да печы падыходзіў і пячаль-смутак адводзіў. Хлеб будзе есці, а смутак да сябе не будзе несці. Амінь. (Тры разы прагаварыць на бутэльку са спіртным, калі раніцай аддаваць яе мужу піць, то перад гэтым яшчэ тройчы пабоўтаць)" ("Забабон ад алкагалізму", в. Руднае); "Зайсці ў свінушнік і ў тым месцы, дзе стаяла свіння, сабраць салому ці што ёсць іншае ў гурбу, потым прынесці на гэтае месца бутэльку гарэлкі (можна віна альбо піва ці самагону) і прагаварыць тры разы: "Свіння і тая водкі не выпівае, а памыі паядае. Так і ты, раб божы (імя), водкі не пей і праз яе ніколі не хварэй". З той бутэлькі даць выпівоху выпіць і ў яго адразу ж ахвота спадзе" ("Ад алкагалізму", в. Клівы); "Калі мужык, які пакутуе запоем, заснуў і каб пасля гэтага назаўсёды перастаў выпіваць, то зрабіце наступнае: падрыхтуйце кусок воску і, калі ён пачне зноў піць і закусваць, умудрыцеся прылаўчыцца і зрабіць так, каб мужык гэты воск укусіў, а яшчэ лепей, каб праглынуў. Калі чалавек зноў засне, то над ім прагаварыце наступныя словы: "Зара-заранiца, красная дзявіца, сама маці і царыца. Светлы месяц, ясныя звёзды, вазьміце ў мяне бяссонніцу, бездрамотніцу, паўночніцу. Сярод ночы прыйдзі да мяне, хоць краснаю дзявіцаю, хоць маці-царыцаю, забяры з мяне і звядзі з мяне акаянную сілу. І дай мне спасаву руку, Багародзіцын замок. Ангел мой, архангел мой, сахрані душу маю, скрапі сэрца маё. Вораг сатана, адыйдзі назаўсёды ад мяне. Крастом крашчуся, крастом аграджуся, крастом ангела прыклікаю, крастом атганяю лукавага. Ва імя Айца, Сына і Святога Духа. Амінь". (Пасля яшчэ трэба зашыць кавалачак замоўленага воску выпівоху ў вопратку і ніколі нікому не гаварыць пра гэта, каб яно назаўсёды заставалася таямніцай)" ("Замова ад алкагалізму", в. Мікулічы).

Ёсць катэгорыя замоў, якая павінна была адмаўляць выпівох не проста ад частага выпівання, але выводзіць іх з хранічнага запою. Такія замовы лічыліся найбольш моцнымі, хоць па нейкіх сваіх мастацкіх асаблівасцях, вобразнасці не вылучаліся сярод іншых. Нашы інфарматары аднагалосна сцвярджалі, што такія вуснапаэтычныя творы прамаўляліся над няшчаснымі людзьмі толькі спрактыкаванымі, вопытнымі знахарамі. "Сам Гасподзь на

небе, а цар – на зямлі, а мядзведзь – у лесе, а мярцвец – у зямлі. Мёртвыя ляжаць, ляжаць яны – не выпіваюць, не ядзяць. Няхай мядзведзь гарэлку выпівае, а Васілёк – і ў рот не бярэ" ("Замова ад запою", в. Губарэвічы); "Чабрэц-траву сабраць на Іванаў дзень, кінуць у спіртное і прагаварыць: "Багародская трава, Багародзіцы галава, уразумі раба божага (імя), каб хмяльное ніколі не піў, стаканы не хапаў, брагі-водкі не глытаў. Як слова – так і справа. Амінь" ("Замова ад запою", в. Глінішча); "Ва імя Айца і Сына і Святога Духа. Зямля – ты мая маці, прыкажы мне рабу божаму (імя), ад сяго ўгоддзя ўзяць добрую траву зарахіль. Табе, маці зямля, на стаянне, а мне для рабоў і рабынь, для лішэння іх ад выпівання. Каб гэты раб божы (імя), пра віно не думаў, вачыма на яго не глядзеў, вуснамі не чуў і адбягаў ад віна. Як тошна паміраць, так бы ташнілася рабу божаму (імя). Адныне і да веку. Амінь" ("Замова ад запою", в. Рудакоў).

Неяк зусім выпадкова ўдалося разгаварыць старэнькую жанчыну з невялічкай вёсачкі Руднае, і яна пачала прыгадваць, як некалі яе клікалі да жанчын-парадзіх, і яна была бабкай-павітухай, самай спрактыкаванай і вопытнай ва ўсім чыста наваколлі. З гонарам прамаўляла яна, што калі б усіх дзяцей, якіх ёй давялося прыняць за сваё жыццё, сабраць у адно месца, дык была б вялізная вёска. Паціху-паціху бабулька і нагаварыла мне пару замоў са свайго надзвычай важнага і такога неабходнага занятку. "Багародзіца Дзева, радуйся! Багатая Марыя, Гасподзь з табой. Слаўна ты ў жонах і благаславён плод чрэва Твайго, яко Спаса, нарадзіла ўсіх душ нашых. Маці Прачыстая Багародзіца, Дзева Цудоўная Марыя, прашу я цябе, раба твая (імя). Як ты Сына свайго нарадзіла, Ісуса Хрыста, так нарадзі мяне, рабу Госпада (імя). Аднаві маю кроў і жылы, і суставы, і косці мае. Каб як у маладога дзіцяці, храсткі адрадзіліся, так і лек у рабы божай (імя) аднавіўся і вазрадзіўся з нараджэннем маім. Амінь" ("Замова на здароўе маці пасля цяжкіх родаў", в. Руднае); "Каб удала зацяжарыць, то трэба дастаць курынае яйка з двума жаўткамі, зварыць яго і спажыць у ежу. Пры паяўленні крывацёку ў цяжарных найперш звяртаюцца да знахароў і шаптуноў, якія ці непасрэдна загаворваюць кроў, ці папярэдне нашэптваюць на хлеб, які і даюць есці цяжарнай. Хворую, акрамя таго, абводзяць тры разы вакол стала" ("Парады, якія даюць цяжарным маладым жанчынам, каб яны лягчэй цяжарылі і ведалі, да каго звяртацца за першай дапамогай пры пільнай патрэбе", в. Руднае).

Прыгадваецца і тое, як выявілася для мяне наступнае: найбольш часта сустракаемыя замовы, як думалася раней, – ад замаўлення хворых зубоў. На самой справе, цяжка знайсці чалавека, у якога б яны не балелі. Але аказалася крыху па-іншаму – на Хойнікшчыне запісаў ці не сама болей замоў ад грыжы. Ніяк не мог даўмецца спачатку – чаму ж гэта так? Потым, калі пасталеў сам, калі пачаў разважаць у многім па-іншаму, то прыйшоў да простай высновы: яно і на самой справе так, бо ж людзі займаліся пастаянна цяжкай, знясільваючай фізічнай працай, дзе не заўсёды ўдавалася адпачыць, пабыць у спакойным стане дзень-другі. Калі і выпадаў такі перыяд, то гэта калядныя святы, глыбокай зімою. А ўвесь астатні гадавы цыкл быў

надзвычай напружаным, дзе ўсё было прадумана і запланавана заранеей, а потым яшчэ і нечаканыя, непрадбачаныя карэктывы, унесеныя ці сацыяльным жыццём, ці прыроднымі катаклізмамі, ці, як мы ўжо згадвалі, шматлікімі хваробамі саміх працаўнікоў. Выжыльваліся, надрываліся і як заканамерны вынік – пакутавалі грыжай, якая вельмі часта даводзіла да заўчаснай смерці, да перарванага жыццёвага шляху. Продкі па-наіўнаму спадзяваліся, што і ад гэтай хваробы, як і ад усяго іншага, таксама можна, няхай сабе і з пэўнымі цяжкасцямі, выратавацца: вымаліць сабе ранейшае моцнае здароўе, ці зрабіць так, каб хоць ніколі і нічога не балела. “Дуб на моры, месяц на небе, а ў месяца два браты ўмесце не сыходзяцца. Каб гэта грыжа разышлась, размялась па бабіне, па гарошыне, па калатніне, каб яе ветрам здула, каб у гэтага чалавека (імя) грыжы болей не было. Амінь” (“Замова ад грыжы”, в. Віць); ”На Сіяньскай гары стаіць сасна, пад той сасной – Маці Марыя гуляла, ад грыжы замаўляла і загрызала, і на дванаццаць сукоў заклювала, і Ісуса Хрыста на дапамогу заклікала. Ісус Хрыстос і (імя) памагаць стаў. Амінь” (“Замова ад грыжы”, в. Бабчын); “Ідзе грыжа скорбная, успыльчывая, шчокі медныя, зубы жалезныя, нос валавяны, вочы булатныя, меддзю падпаясалася. Ідзе грыжа, лясы з карнямі рве і рабу божую (імя) сушыць. Ідзі ты, грыжа, у чыстае поле, там ты разыграйся, там ты разгуляйся, не сушы болей рабу божую (імя). Няхай мае словы будуць крэпкія, як замкі. Амінь. Амінь. Амінь” (“Замова ад грыжы”, в. Мікулічы); “Грызь Марына па межах хадзіла, травы сабірала, грызь замаўляла (пагаворную, падзіўную). Як гэтаму суку не адрастаць, так у (імя) грызі не аджываць (урочнай, насланай і г.д.). Не мой дух – Гасподні. Госпадзі, палюбі мой дух. Амінь, амінь, амінь” (“Замова ад грыжы”, в. Дворышча); “Не сама я сабою, а господняю душою. Загаварваю (імя) грызіцу, буркацішчу падзіўную, падумную, паглядную, прыгаворную. Не сама сабою, Маці Прачыстаю зарою, сам Бог прыступіць, мой дух прылюбіць (тры разы прачытаць замову, трымаючы хворага чалавека за правую руку). Амінь. Амінь. Амінь” (“Ад грыжы”, в. Мокіш); “Сама маці дзіця радзіла, сама мукі прынімала, не сама грыжу загрызала. Загрызала бабулька з меднымі губамі, з стальнымі зубамі, каб век грыжы не было. Векі павекі і ты не давекі. Амінь, Амінь, Амінь. (Паўтарыць замову тры разы, раз за разам, не перапыняючыся)” (“Замова супраць грыжы”, в. Клівы); ”Грыжа, грыжа, ты адкуль прыйшла? Грыжа, грыжа, ты з лесу прыйшла. Грыжа, грыжа, ты навошта мучаеш рабу божую (імя)? Грыжа, грыжа, ты ў лес ідзі, грыжа, грыжа, грызі там асіну і дубовую кару. Амінь” (“Замова ад грыжы”, в. Губарэвічы); “Першым разом, добрым часом помогі мне, Божэ, рабе божай (імя) грыжу ўгаварыць. Грыза-згрызішча, ідзі ты на сучышча. Гэтаму суку карней не пускаць, і ў рабы божай (імя) грыжы ні ў якім разе не бываць. Амінь” (”Замова ад грыжы”, в. Рудакоў); “Грызь-грызяўка, паганая казяўка (імя), тут табе ў (імя) жываце не бываць, па жывату не хадзіць, касці не ламіць, сэрца не таміць. Урочная, падзіўная, ідзі на шырокія бары, на жоўтыя пяскі. Там пабывай, пагуляй, у (імя) жываце не бывай. Амінь” (“Замова ад грызі”, в. Віць); “Ад дзіцячай грыжы. І спавівая бабушка, прыгаворвае бабушка, у Прасвятой Багародзіцы

просіць грыжу ўмаўляці ў (імя). Заядаці меднымі шчакамі, жалезнымі зубамі. Так умаўляю ў рабы божай (імя) грыжу. Амінь" ("Ад дзіцячай грыжы", в. Мокіш); "Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай Маці пакланюся. Стань, Госпадзі, на помач рабе божай (імя). Высылаю, выгаворваю грызь намоўную, прыгаворную і высылаю, выгаворваю цябе, грызь, у чыстае поле. У чыстым полі – белы камень на сорак сажанёў шырыні і на сорак даўжыні. На том камені Ісус Хрыстос дубовай тросцю падпёрты: хто ж Ісуса Хрыста з белага каменя скіне? Ты, змей чарадзей? Ты, змяя-чарадзейніца? На мяжы гара стаіць, абломлены залаты какаток і сярэбраны. На тых какатах залатое яблычка і сярэбранае. Як тым яблычкам без пары не абкаціцца, так у (імя) грызі не бываць і пад нутро ёй не падначвацца. Больш болі не сдаваць, пасланыя, прыгаворныя. Млад месяц на небе перакрыў айцец Фядосій. Ісус Хрыстос жыватварашчым крастом усё чыста засцерагае, а Маць Прачыстая ворага ніякага не падпускае. Амінь" ("Замова ад насыльнай грыжы", в. Клівы).

Сустракаліся і больш арыгінальныя замовы, з багатым наборам вобразна-выяўленчых сродкаў. "Кіла-кіліца, красная дзявіца, тут табе не садзіцца, тут табе не ляпіцца. Садзіцца табе, ляпіцца табе сярод цёмных лясоў, крутых берагоў, сыпучых пяскоў, гдзе людзі не ходзяць, пціцы не лятаюць. Там табе садзіцца, там табе ляпіцца, а з раба божага (імя) удаліцца. У імя Атца, Сына і Святога Духа. Амінь. Амінь. Амінь" ("Ад грыжы", в. Паташня); "Суку, мой суку, прэкрасный мой суку. Як табе, суку, не адрастаць, так мёртвым людзям з магілы не ўставаць. Так у раба божага (імя) не бываць ні ўрочнай, ні малошнай, ні падзіўнай, ні падзімай, ні вадзяной, ні касцяной, ні галоднай, ні ўнутранай, ні ўстрэчнай, ні папярэчнай. Амінь" ("Ад грыжы", в. Рудакоў); "Грызь-грызінка, твая матка – сірацінка ў чыстым полі дзіця нарадзіла, тонкім лыкам адрэзала. Грызь, не грызі жывот (імя), ідзі на мхі, на балоты, а ў (імя) не мучай жывот. Амінь" ("Ад грыжы", в. Мікулічы); "Ранняя зорачка, божая памашчніца. Угаворваю рабу божаму грыжу. Як гэтаму суку на карэнні не стаяць, так і ў жывату раба божага грыжы не бываць. Угаворваю малочную, жаночую, мужчынскую. Па касцях не хадзіць, косці не ламаць. Грыжа, выходзь з нутра на сметніцу! Выходзь на талкавішча! З талкавішча – на могілкі. Там мая мамка памерла. Як мне з мамкай не гаварыць, так і табе, грыжа, у жываце не хадзіць і болі ніколі і ніякай не тварыць. Амінь" ("Ад грыжы", в. Глінішча); "Гаварыць трэба дзевяць разоў раніцою на ўсходзе сонца: "Грыжа, грыжа, не грызі косці ўнутры роднага жывата і не прыходзь болей ніколі". Гаварыць гэтыя словы і адначасова пагрызці зубамі тое месца і папляваць дзевяць разоў на сучок (дрэва ці нешта драўлянае)" ("Замова ад грыжы", в. Буркі); "Спачатку прашаптаць малітву "Отча наш". Потым узяць крэм і над ім прашаптаць тры разы, кожны раз сплёўваючы цераз левае плячо. Словы павінны быць наступныя: кіла-кіліца, красная дзявіца, тут табе не садзіцца, тут табе не ляпіцца. Садзіцца табе, ляпіцца табе сярод цёмных лясоў, крутых берагоў, сыпучых пяскоў, гдзе людзі не ходзяць, гдзе пціцы не лятаюць. Там табе ляпіцца, а з рабы божай (імя) грыжы ўдаліцца. У імя Айца і Сына і Святога

Духа. Амінь. (Грыжу мазаць крэмам безымянным пальцам на ноч, і да раніцы не ўставаць з ложка)" ("Замова ад грыжы", в. Віць); "Як таму дрэўцу ў суставах не бываць і мясу на нём не нарастаць, так у младзенца (імя) грыжы не бываць, цела не ламаць, косці не ламаць. Я грыжу вымаўляю з жоўтых касцей, із чорнае крыві, з віскоў, з валаскоў у младзенца (імя). Ты – мышка, я – кошка, я грыжу выгрызаю і вон выкідаю" ("Замова ад грыжы", в. Клівы); "На чорным моры стаяў дуб зялёный, а ў тым дубе – дупло, а ў тым дупле – гняздо, а ў тым гняздзе – яйцо, а ў тым яйцэ – зай, што тую грызь выгрызай! Амінь" ("Ад грыжы", в. Бабчын).

Не здзіўляе і той факт, што па аналогіі са шматлікімі дзеяннямі, умовамі і акалічнасцямі, людзі імкнуліся любым чынам пазбавіцца ад грыжы, выгрызаючы яе. Лічылі, што раз яна ўгрызаецца ў любое, у самае здаровае і чыстае цела, не баючыся нікога і нічога, то і ад яе можна пазбавіцца менавіта такім шляхам. Хвароба, якая рэзала, калола, мучыла чалавека, таксама была асуджана на гэткія ж пакуты. Яе і запалохвалі, і лякалі, і забівалі, але найчасцей – адсылалі ў нейкія глухія мясціны, якія ў продкаў цвёрда асацыіраваліся з нежыццёвай прасторай, дзе заўсёды валадарылі гэткія ж самыя чорныя і непажаданыя сілы. Адпаведна, туды сумленнаму вяскоўцу шлях быў замоўлены і забаронены. Там мог пабываць ці пабірацца толькі чорны, зласлівы знахар, які меў на думцы ўчыніць нешта благое астатнім. Гэта ведалі з даўніх часоў, так засталося і ў адвечнай традыцыі. Сустракаліся выпадкі, калі, чытаючы ці прамаўляючы такія вуснапаэтычныя творы, інфарматары паварочваліся да далёкага лесу або балота спіною. А то і наадварот – тварам. "Першым разам, божым часам Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся, ранняй зары папрашу: "Зоры-заранiцы, божыя памачніцы, прыдзіце, памажыце рабе божай Таццяне грызь угаварыце. Грызь-грызішча, ідзі на дубовае пнішча, ідзі на дубовы сук, а не на Таццянін пуп. Я – з словам, а Гасподзь – з помаччу. Амінь" ("Ад грыжы", в. Глінішча); "Ты – грызь, ты – грызь, ты – грызь, а я – каза (тры разы). Я цябе поедам паем. Так ты сук-яловік, як табе ад грызі, так, каб у цябе грызі ніколі не было. (Замову прамаўляць тройчы плюнуўшы на яловы, а калі яго не было паблізу, то на любы, сук)" ("Ад грызі", в. Пажаркі); "Ты – грызь, ты – грызь, а я – каза. Я цябе адразу паем (тры разы паўтарыць). Так ты, сук-ялоўнік, як цябе атныне нету, так каб у цябе грыжы атныне не было. (Гаварыць замову тройчы плюнуўшы на сук у сцяне)" ("Замова ад грызі", в. Руднае); "Як на тым суку отрасці не бываць, так у етага младзенца (імя) грызі не бываць ірвотныя, паспешныя, малочныя, падзіўныя, прыгаворныя, намоўныя, жаночыя, хлапечыя, мужчынскія, дзявоцкія. Грызь грызача і кусача, я ж у цябе, у младзенца (імя) выкалываю і выгрызаю, каб у етага младзенца грызі не бываць, дзе загырчаю, там табе і прападаць. Ні я выгаварываю, выгаварывае Ісус Хрыстос сваім духам і святам (дзень). Амінь" ("Ад грызі", в. Віць); "Рыжа-грыжа, добрая ты маладзіца, не грызі майго цела. Як у полі каменне, а ў лесе – паленне. Амінь" ("Замова ад грыжы", в. Рудакоў).

І ўсё ж асноўную ўвагу нашы продкі заўсёды звярталі не на жывёл і вядзенне гаспадарчых спраў, хоць ніколі не забываліся і пра гэта, а на самога

чалавека. Найперш – на жанчыну. На жанчыну-маці, жонку, сястру. Ведалі сапраўдную іхнюю ролю ў жыцці. Канешне, у многім яна была па традыцыі заніжана, звужана, але гэта з-за таго, што не жадалі мужчыны прызнаваць верх “слабой” палавіны ў многіх гаспадарчых і хатніх справах. А калі гаворка заводзілася пра дзяцей, то тут прыціхалі ўсе чыста, нават самыя ярасныя прыхільнікі таго, што менавіта мужчыны цягнуць на сабе ўвесь жыццёвы воз, на іхніх плячах ён трымаецца, а калі толькі пахіснуцца ці адвярнуцца, дык усё адразу і абрынецца, не ўстаіць. Затое рэальнасць жыцця сведчыла пра адваротнае. Вопытныя, умудроныя жыццём бабкі-павітухі ніколі не забываліся, што жанчына перад родамі ці пад час іх вельмі слабая, і яе ў гэты час, як ні ў які іншы, неабходна падтрымліваць, даваць спакой, надзею на добрыя адносіны, многае даравацы, не паднімаючы крыку-гвалту, лішні раз не чапляючыся і не спрабуючы ў абавязковым парадку разбіраць нейкія спрэчныя сітуацыі.

Таму перад родамі жанчыны і самі сабе шапталі замовы, і прасілі ў спагадлівых знахароў, каб тыя рабілі гэта для іх, перасцерагаліся розных хвароб, баяліся завідушчых вачэй, нават павеву халоднага сівернага ветру, які таксама мог прынесці вяскоўкам вялікую шкоду. “Госпадзі Божа, благаславі, Мацер Божая, таксама дапамажы. Ісус Хрыстос, ангелы-храніцелі, спасіцелі, памажыце рабе божай (імя). Царскія вароты, растварыцеся, замкі, разамкніцеся, косці, расшырцеся, пускайце дзіця на белы свет гуляці і здароваму і шчасліваму пражываці. Госпадзі, памілуй. Госпадзі, памілуй. Госпадзі, памілуй. (Як пачнуцца схваткі, то прачытаць тры разы запар)” (“Малітва жанчынам перад родамі”, в. Глінішча); “Госпадзі, айцец наш. Мацер Божая, Ісус-храніцель, і ўсе ангелы. Памагіце мне, рабе божай Вользе. Нябесныя вароты, расчыніцеся, замкі, разамкніцеся, косці, расшырцеся, дзіця маё прапусціце. Хай народзіцца з румяным ліцом, рыжым валаском, шчырым сэрцам, белым цельцам. Госпадзі, памілуй, Госпадзі, памілуй, Госпадзі памілуй. Амінь. Амінь. Амінь. (Як пачнуцца схваткі, то неабходна над парадзіхай прачытаць тры разы)” (“Перад радзінамі”, в. Глінішча); “Ішоў Ісус Хрыстос цераз Іарданскій мост. Насустрач Божая Маці Марыя. Божая Маці Марыя, бяры залатыя ключы, замкі адмыкай, ад рабы божай (імя) плод прынімай. Амінь. Амінь. Амінь” (“Перад родамі”, в. Рудакоў); “Святая Маці Марыя, хадзі да рабы божай (імя) найхутчэй. Святая Маці ішла, тры свячы нясла, тры нажы таксама. Свячамі распісала, нажамі разразала, царскія вароты адкрывала, да рабы божай (імя) ход давала і дзіця яе вынімала. Амінь. Амінь. Амінь” (“Замова на роды”, в. Глінішча); “Прасвятая Багародзіца, на прастоле стаяла, Госпада Бога прасіла, усіх святых памінала. Усе святыя, божжыя ўгоднічкі, скорыя памочнічкі, дапамажыце ў скорам разрашэніі зоры-зараніцы, вас на небе тры сястрыцы: адна – вячэрняя, другая – паўночная, трэцяя – ранішняя. Будзьце вы мне шчырымі памочнічкамі. Амінь” (“Для родаў”, в. Віць).

Былі замовы, якія выкарыстоўваліся для аблягчэння родаў, для таго, каб парадзіха магла ўстаць і хадзіць ужо на наступны дзень, бо рэальнасць жыцця патрабавала іменна гэтага – разлежвацца, адпачываць не было

асабліва калі. Справа і праца не чакалі. Не рэдкім выключэннем было і тое, што немаўля маладая матуля вымушана была браць з сабою і на поле, і на луг, дзе вешала калыску ў цянёчак, а сама, нароўні з іншымі, вымушана была шчыраваць, каб не закінуць гаспадарчую справу, каб не плесціся ў канцы, за астатнімі. Таму і шапталі парадзіхі замовы на лёгкія роды, на тое, каб не здарылася ніякіх ускладненняў. “На гары стаіць цэрква. У этай цэркові сорак папоў і сорак дзякоў, і сам Гасподзь стаіць, кнігу ”Евангелле “ чытае і хрысціць сваім храстом, царскія дзверы адчыняець і к рабе божай (імя) прыступаець, і сваёй святой рукой яе храсткі расхінаець, з чрэва яе младзенца асвабаждаець. Сам Гасподзь явіўся на помашч, і з яе чрэва младзенец асвабадзіўся. Ва векі вякоў. Амінь. Амінь. Амінь” (“К лёгкім радзінам”, в. Мокіш).

Былі і больш канкрэтныя вуснапаэтычныя творы, якія адрасаваліся, напрыклад, на захаванне сына, калі ён і нарадзіўся ў гаспадароў. “Ангелы, прыступіце да яго сахранення. Крыламі сваімі моцнымі адганіце ўрагоў, ліхадзееў. Агнём, мячом пагубіце, маё дзіцяня сахраніце. Амінь. Амінь. Амінь” (“Замова на аберажэнне малога сына”, в. Глінішча). Стараліся перасцерагчы і засцерагчы парадзіху ад усемагчымых узрушэнняў і нават – ад выпадковага падзення. Хоць, вядома ж, гэта было зрабіць надзвычай цяжка. “Прашу Госпада Бога. Ішоў Адам цераз мост, цераз чыстае поле, цераз жоўтыя пяскі. Прышоў Адам закрываць варота, варота закрываць, залатым штыком падпіраць. Што завялося, дык стань на тым месцы, як цар Давід на крэсле да свайго часу. Гасподзь – з помаччу і я – са сваім духам. Амінь” (“Ад удара цяжарных”, в. Рудакоў). Сустракаліся замовы, якія мелі агульныя назвы і, безумоўна, агульнае прызначэнне – для таго, каб увогуле засцерагчы здароўе жанчын. “Госпадзі, як на моры, на акіяне стаіць царква, а ў той царкве Божая Маці абедню служыць. Як Божая Маці царскія вароты закрывае, закрый плод і рабе божай (імя) да пары, да ўрэмені, да паслушнага часу. Амінь” (“Для жанчын”, в. Мікулічы).

Спрадвеку сцвярджалі і тое, што роды для любой жанчыны, нават самай здаровай і вынослівай, не праходзілі бяследна. Яна ўсё роўна вымушана была потым пакутаваць ад усялякіх хвароб. Каб такога не здарылася, дык стараліся зараней чытаць усе магчымыя папераджальныя замовы, дзе хваробы і запалохваліся, і спальваліся, і адсылаліся ў балоты ды цяжкадаступныя мясціны. “Залатнік, залатнічок, залаценечкі ражок! Сядзь на сваім месцы, як пан у крэсле!” (“Ад жаночых захворванняў”, в. Дворышча); “У лазні вадзіць рукой па голаму жывату, амываць цёплай вадой і пры гэтым абавязкова прамаўляць: “Арына, Марына ў каліну хадзіла, каліну ламала, у рабы божай (імя) хваробу выбівала. Усё здымі, вадой спалашчы: бабкіны, дзедкіны, цёткіны, дзядзькіны, бацькіны, маткіны злобныя шэпоткі, злыя размовы, ведзьміны загаворы. Амінь. Амінь. Амінь” (“Ад жаночай хворні”, в. Рудакоў).

Продкі, навучаныя суровым жыццём, усё магчымымі здарэннямі, рыхтаваліся заўсёды сустракаць любую бяду, каб быць напагатове, каб яна не заспела іх знянацку. Наіўнае меркаванне, але, тым не меней, яны стараліся

абавязкова прытрымліваецца такога пункту гледжання на ўсялякія праблемы. Кожнаму думалася, што раз я папярэджваю хваробу ці нейкае непажаданае здарэнне, то яно ўжо толькі ад гэтага страціць найбольш страшныя свае ўласцівасці, не будзе так даймаць у будзённым жыцці. Не паважалі, баяліся ворагаў, то і іх заклiналі страшнымі магічнымі словамі. ”Андрэй-хрэсціцель, краста насіцель. Крастом красціўся, крастом наградзіўся. Каб у майго ворага зубы анямелі, вочы асталбянелі, усе жылы спыніліся. Бацюшка-ваявода, бяры ключ, замкні лютага врага на замок” (“Замова ад усялякіх врагоў”, в. Губарэвічы); “Гэта гаворыцца перад тым, як выходзіш з хаты ў дарогу, няхай сабе і самую блізкую. Прагаворваецца тры разы: “Прасвятая Багародзіца з варот выйшла, у прыполе сваім пясок жоўты нясла. Яна тым жоўтым пяском мне сцежачку ўсыпала, злыя сілы, злых людзей, ворагаў маіх ад мяне адганяла. Мне затое здароўе і добрую славу прыхінала. Амінь”” (“На добрае ўсё і на шчаслівую дарогу”, в. Поташня ); “На моры, лукаморы стаіць дуб зялёны. На том дубе сядзіць чоран воран, дзюбкай выбірае, кіпцямі выдзірае, на сіняе мора хваробы пускае, рабу божаму (імя) ад галавы, ад рук, ад спіны помашчы давае. Амінь” (“На ўсё самае вязучае і добрае”, в. Бабчын); “Ішоў сам Бог гарою, Маць Прачыста – другою. Сышліся на сінюю гару, кнігі там чыталі, рабы божай (імя) ад галавы, ад ног, ад рук, ад спіны помашчы давалі. Амінь” (“Ад розных хвароб і напасцей”, в. Мокіш); “На моры, на лукаморы ляжыць камень. На тым камні ляжыць мядзведзь. Ляжыць-паляжае, нарадку божую выбірае, чорным языком убірае, чорным хвастом умятае, на мхі, на гнілыя дзярэўя высылае. Там вам быць, гнілыя дзярэўя палажыць, у раба божага (імя) не быць, па касці не хадзіць, крыві не піць, сэрца не таміць, пакуль бабка праступала і помачы давала, і нарадку ўгаварывала калючую, балючую, надзіўную прыгаворную. Тут табе не быць. Амінь! (Чытаць тры разы ад усяго)” (“Замова ад усяго, калі нават сум на душы і сэрцы”, в. Клівы); “Як звёзды ад буйнага ветру памеркнуць, так бы ў майго супастата сэрца і вусны б у яго памерклі, і як мёртвы анямеў і не змог бы проціў мяне глаголяці, і як мёртвы на свет не глядзіць, так бы й той супастат не змог на мяне глядзець раба божага (імя). Амінь” (“Загавор на кожны дзень”, в. Пажаркі); “Загаварываю, загаварываю, раба божага (імя). З пупочка, з жываточка, з касцей, з машчэй, выйдзі на гнілыя балоты-калоды ды на цёмныя лясы. Ідзі на моры, там табе сталы засланыя, там кубкі наліваныя, там табе жыць і гуляць, і балезні не відаць. Амінь” (“Ад усяго і ад хвароб”, в. Мікулічы).

Некаторыя з замоў нават немагчыма канкрэтна класіфікаваць, бо самі інфарматары называлі такую хваробу, якой у рэальным жыцці нам сустракаць (нават чуць пра яе!) не даводзілася. Тым не меней, такія творы таксама маюць права на паўнавартаснае існаванне. “Ляцеў чоран-воран. У таго чорана-ворана трыдзевяць дзюбак, трыдзевяць крыльяў, трыдзевяць кіпцяў (рабы божай) здымаць урокі. Несудзімыя прыстрэкі, браты ўрочныя, прыстрэшныя, прысмешныя, прыгаворныя, прыдуманыя, прыгаданыя, дзявоцкія, хлапецкія, парабоцкія, жаноцкія. Дзюбкамі раздзяўбаць, крылцамі размахаць, кіпцямі разграбаць, а крыльям ляцець на мхі, на балоты, на ціхія

лозы. Амінь. Амінь. Амінь" ("Замова ад прыстрэку", в. Губарэвічы); "Ішоў Ісус Хрыстос цераз калінавы мост. Трасціна паламалася, угаль і ятрань перастала на гарэ гарэць. Сёння нядзеля, ні пятніца. Няхай скула не ятрыцца! (Замову паўтарыць тры разы і абавязкова хрысціцца пасля кожнага разу)" ("Замова ад ятрані", в. Мокіш); "Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Мацеры пакланюся, усяму свяшчонаму, усяму хрышчонаму, каб ліхачышчэ гаварыці. Ішоў чалавек чорнаю дарогаю, з чорным целам, з чорнай шкураю, з чорнымі косамі, з чорнымі вачыма, з чорнымі вейкамі, з чорнымі бровамі, з чорным ілбом, з чорным носам, з чорнымі ноздрамі, з чорным ротам, з чорнаю барадою, з чорнымі губамі, з чорнымі зубамі, з чорнымі дзяснамі, з чорным языком, з чорнымі шчокамі, з чорнымі нагамі, з чорнымі пальцамі, з чорным жыватом, з чорным пупам, з чорнымі грудзямі, з чорнаю шапкаю, з чорнаю світкаю, з чорнаю сарочкаю, з чорнымі штанамі, з чорнымі пугавіцамі. Ішоў чорнага дуба рубаці. Чорны дуб рубаў, чорныя трэскі адляталі, ад свяшчонага, крышчонага (імя) ліхачышчэ адганялі. Амінь" ("Шэпт супраць ліхачышчы, чорнай балезні", в. Глінішча); "Гаварыць тры разы да заходу сонца і дуць пры гэтым на хворага: "Госпаду. Первым разам! Госпаду, познім часам! Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры пакланюся, усім святым апосталам – таксама. Стань, Госпадзі, на помач, Прачыстая – на паратунак. Шла Мацер Прачыстая па полю чыстаму. Несла Ісуса Хрыста ў прыполе, благавешчанскай шоўкавай рызай пакрывала. З благавешчанскай шоўкавай рызы каплінка ўпала, з раба божага (імя) чорную балезнь сцірала, змывала, у сіняе мора сплаўляла. Ляг жа ты, чорная балезнь, у мора на дно, а ў раба божага (імя) не бываць, крыві не гадзіць, касцей не ламіць. Сходам меняйся мой дух на Гасподній. Амінь" ("Замова ад балезней", в. Мікулічы); "Стаіць дуб, на тым дубе – сук. На суку сядзіць чоран-воран, залатым клювам дзяўбець у буйную галаву, у шчырае сэрца, у рукі, у ногі. Ідзі, бес пракляты, на мхі, на балоты! Там табе гнілую калоду паядаць, у рабе божай (імя) не бываць. Амінь" ("Замова ад усяго", в. Паташня); "Первым разам, добрым часам, Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся. Вячэрняй зары папрашу: – Зоры-заранічкі, божыя памашчнічкі, прыдзіце, памажыце рабе божай Вользе прыстрэк гаварыце. На моры, на лукаморы стаіць дуб на 12 какатоў, на 12 варатоў, на іх сядзіць 12 ангелаў. Станьце вы да помачы, прыступіце, рабе божай прыстрэк гаварыце прыстрэчны, прыгаворны, ветраны, калючы, балючы. Тут табе не хадзіць, касцей не ламіць, галоўкі не крушыць. Я – з словам, Гасподзь – з помаччу. Палюбі мой дух (тры разы). Амінь" ("Замова ад прыстрэку", в. Губарэвічы); "Прасвятая Багародзіца з варот ішла, у прыполе пясок несла. Яна той пясок пасявала. Як таму пяску не расці, не буяць, так і ў мяне (называеш сваё імя) зговару не бываць, падзіву не гасцяваць ні панскага, ні цыганскага, ні папоўскага, ні бясоўскага. Мне баба (імя той, ад каго пачуў) казала і мне (сваё імя) помач давала. Як ёй здаровай быць, так і ў мяне (сваё імя) зговару, падзіву не бываць. (Прагаворваецца тры разы)" ("Замова ад падзіву", в. Глінішча); "Цёмная ночка начніц нарадзіла, малому дзіцяці мукі нарабіла. Яснае сонейка дзень пачынаець, начніц праганяець, дзянніц насылаець, боль

сунімаець. Шух у печ! Шух у печ! Шух у печ!” (“Замова ад усіх дзіцячых хвароб”, в. Руднае); “Ехаў Ягорый на буланым кані, асвабадзіў царыцу ад уроку, асвабадзі раба божага ад усякай болі” (“Ад болі”, в. Віць); “Бацькаў пладавічок, маткін залатнічок, станьце на месцечка ў залатое крэслечка з макава зернетка. Замочкамі залатымі, шоўковымі платочкамі падвязвалі: ніжэй пупа не хадзіць, касцей не ламіць рабе божай (імя), залатнік вастанавіць. Амінь” (“Ад усялякай хваробы”, в. Клівы); “Свацечка, галубачка, прашу ж вас, каб не было майму дзіцяці журбы ў вас. Каб не стаялі цёмны ночкі пад акном, каб не ўціpала дробныя слёзачкі рукаўком. Ой, каб не была ды паветачка хатачкай, ой, каб не была ды суседачка матачкай. Дай добры лёс, пазбаў ад хвароб. Амінь. Амінь. Амінь” (“Замова, каб не балелі дзеці і дарослыя, каб усё добра было”, в. Рудакоў).

На Хойнікшчыне намі запісаны і традыцыйныя замовы. Мы маем на ўвазе замовы ад агульнавядомых хвароб, якія нам даводзілася найбольш часта фіксаваць і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Напрыклад, ад ліхаманкі. “Асінка, асінка, вазьмі маю трасінку, а аддай маё здароўе! Амінь” (“Замова ад ліхаманкі”, в. Рудакоў); “Найперш – вяснянка, а другая – лядзянка, а трэцяя – лістападніца, а чацьвёртая – касцяніца, а пятая – квахтуха, а шостая – начніца, а сёмая – смутніца! Адкаціся, адваліся ад грудзей і ад бела цела, ад буйнай галавы! Ты, дзеўка, не шляйся, на мяне не зазірайся. Я ў хаце ляжу, на вугаль гляджу. Як вуглю згарэць, так табе ў катле кіпець. Бяжы, не азірайся, назад не вяртайся, ступай у пні, у калоды, у гнілыя балоты. Там табе жыць, са мхоў ваду піць. Амінь” (“Замова ад ліхаманкі”, в. Віць).

Апошні аспект, на якім хацелася б засяродзіць нашу ўвагу – гэта тое, што жыхары Хойнікшчыны ўмелі замаўляць таксама і сваіх свіней. Нам удалося зафіксаваць некалькі рэдкіх замоў, якія да гэтага не трапляліся ў іншых мясцінах рэспублікі. “Ішоў Ісус Хрыстос праз Ерусалім, сустрэўся з Яўхімам і пытаецца, што за навіна ў яго? – Хварэюць свінні мае. Ой, чалавеча, вазьмі тры жмені ячменю на імя маё, будуць здаровы і плодны свінні твае. Амінь” (“Замова ад хваробы свіней”, в. Віць); “У чыстым полі стаіць дуб. Пад дубам – карыта. Там (мянушка свінні) добра наліта. Там бабка-варажэйка. Яна сядзіць, на (мянушка свінні) глядзіць. Вам, кабанчыкі, паядаць і як цяляці ля карыта не ляжаць, як у моры вада прыбывае, так (мянушка свінні) салам залівае. Амінь” (“Замова, каб зберагчы свіней”, в. Клівы); “Іду на базар з хлебам і паскай. Раскрыйце той мех, дзе добрыя парасяткі. У мяне пяць капеек медзі, раскрыйце той мех, дзе парсючкі, як мядзведзі. У чыстым полі стаіць дуб. Пад тым дубам – карыта, дзе табе, кабанчык, усялякае дабро наліта. Вось табе, кабанчык, пяць капеек медзі, каб ты ляжаў і лапу сасаў, як мядзведзі. У моры вада падымаецца, а ў мяне кабанчык сальцам наліваецца. Амінь” (“Каб купіць добрых парасятак”, в. Поташня).

Падводзячы вынікі, можна канстатаваць наступнае – за тыя шматлікія разы, калі нам даводзілася бываць на Хойнікшчыне ў фальклорных экспедыцыях, стала зразумела, што гэты палескі край – своеасаблівая

скарбонка вуснапаэтычнай творчасці, старадаўнія жанры якой жывуць тут і да нашых дзён.

СПІС ІНФАРМАТАРАЎ, АД ЯКІХ БЫЛІ ЗАПІСАНЫ ЗАМОВЫ

1. Гуляй Аляксей Сцяпанавіч, 1888 г.н., неадукаваны;
2. Гуляй Любоў Пятроўна, 1890 г.н., неадукаваная;
3. Кукрак Арсеня Цітаўна, 1897 г.н., неадукаваная;
4. Ляшчук Антаніна Рыгораўна, 1897 г.н., неадукаваная;
5. Малюга Пятро Ігнатавіч, 1906 г.н., неадукаваны;
6. Малюга Сцепаніда Іванаўна, 1904 г.н., 3 класы адукацыі;
7. Міхаленка Аляксей Мікалаевіч, 1892 г.н., неадукаваны;
8. Мурашка Аўдоцця Сцяпанаўна, 1901 г.н., неадукаваная;
9. Мурашка Лізавета Сцяпанаўна, 1899 г.н., неадукаваная;
10. Новік Аграфена Сямёнаўна, 1896 г.н., неадукаваная;
11. Новік Лявон Пятровіч, 1900 г.н., неадукаваны;
12. Новік Любоў Іванаўна, 1902 г.н., 4 класы адукацыі;
13. Пацяруха Надзея Дамінікаўна, 1899 г.н., неадукаваная;
14. Пацяруха Пятро Ігнатавіч, 1900 г.н., неадукаваны;
15. Хваянок Домна Іванаўна, 1895 г.н., неадукаваная;
16. Хваянок Любоў Пятроўна, 1903 г.н., 3 класы адукацыі;
17. Хваянок Надзея Сцяпанаўна, 1902 г.н., неадукаваная.

*Алена КАСТРЫЦА*

# ПРЫКМЕТЫ І ПАВЕР'І ХОЙНІКШЧЫНЫ

Вельмі часта, нават самі таго не заўважаючы, мы, людзі XXI стагоддзя, звяртаемся да традыцыйных народных ведаў, да зярнятак мудрасці чалавечай, якія, правераныя стагоддзямі, перадаюцца з пакалення ў пакаленне, ашчадна зберагаюцца і надзяляюцца ўласцівасцямі казачнай цудадзейнасці і адначасова якасцямі побытавай прагматычнасці. Менавіта рэальныя ўмовы існавання чалавека – вытокі ўзнікнення народных вераванняў, вытокі ўзнікнення прыкмет і павер'яў, пра міфалагічную аснову якіх можна гаварыць і як пра пэўны тып успрымання навакольнага свету, і як пра спосаб адлюстравання жыцця, і як пра своеасаблівы шлях замацавання і перадачы ведаў і вопыту.

Няма, напэўна, такой сферы жыцця і дзейнасці чалавека (гаспадарчыя справы і побытавыя клопаты, будучае жыццё і асабісты лёс, з'явы навакольнай рэчаіснасці і змены ў надвор'і), якая б не суправаджалася прыкметамі і павер'ямі, тэматычны дыяпазон якіх на Хойнікшчыне вельмі разнастайны. Значная частка тэкстаў знаходзіцца ў межах каляндарнай і сямейней абраднасці. Сярод каляндарных найбольш папулярны калядныя, благавешчанскія, юраўскія, троіцкія, купальскія. Калі гаварыць аб іх функцыянальнай скіраванасці, то варта вызначыць наступныя групы:

- прыкметы і павер'і аб жыцці і здароўі людзей ("Свянцоную пасхальную ваду налівалі ў глыбокую тарэлку, туды клалі яйка, і ўсе члены сям'і павінны былі ўмыцца ў гэтай вадзе, *каб быць здаровымі, дужымі і прыгожымі*" (запісана ў в. Веляцін ад Пугач М.С., 1929 г.н.));
- прыкметы і павер'і, што датычаць забеспячэння дабрабыту ў гаспадарцы ("Да Благавешчання не адкрываюць і акна, да Благавешчання не выносяць на вуліцу і качанае. *На Благавешчанне, калі пасадзіш куру* на яйкі, то ў яе *вывядуцца* ўсе *калекі, а то* і ваабшчэ *загінуць*" (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.); " Сена з-пад каляднай куцці звязвалі і вясной садзілі куру, *каб выводзіліся кураняты*", "Пад варотніцу на Юр'я клалі яйкі, *каб карова прыходіла дадому*" (запісана ў в. Вялікі Бор ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.); "Гушчу з багатай куцці гаспадыня аддавала курам. Клала гушчу ў абруч бочкі. Калі дамашнія куры. Качкі, гусі з'ядзяць гушчу з гэтага абруча, то *будуць яйкі несці добра і толькі ў сваім двары*" (запісана ў в. Веляцін ад Пугач М.С., 1929 г.н. );
- прыкметы і павер'і аб забеспячэнні і захаванні добрага ўраджаю ("Картошку засыпаюць на семена на храненне, на зіму, ад мышэй у той дзень, кагда была галодная куцця: гэта 18 чысла, перад Крашчэннем, а Крашчэнне – 19-га. Тады ўсё *харашо ад мышэй храніцца*" (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.); "Калі ў галодную куццю вісіць на лесе іняй, то пад восень будзе *багата грыбоў*"; "Яркае і зорнае неба на Куццю абяцала, што *ў лесе* будзе *многа грыбоў, на полі добры ўраджай.* А *ў хляве* добры *прыплод жывёлы"* (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжэнка Любові

Аляксандраўны, 1930 г.н.); "Шалуху з яек (пасхальных) сыпалі на агарод, *каб быў добры ўраджай*"(запісана ў в. Веляцін ад Пугач М.С., 1929 г.н.));

- павер'і аб спосабах абароны ад неспрыяльнага ўздзеяння навакольнага асяроддзя, у тым ліку чараўнікоў, ведзьмакоў і да т.п. ("Першы раз выганялі скаціну на Юр'я. Перад гэтым абходзілі вакруг скаціны, абсявалі яе макам, абсявалі хлеў, каб агарадзіць жывёлу *ад злых духаў*", "Рвалі веткі ліпы, ішлі ў царкву, свяцілі гэтыя веткі. Закраплялі ліпавыя веткі на абразах, над уваходнымі дзвярамі, *каб выгнаць злых духаў* з хаты, ачысціць паветра *ад зла*" (запісана ў в. Стралічава ад Бордака М.К, 1938 г.н.));

- прыкметы аб надвор'і ("*Якая* пагода *на Пакровы*, *такая* і *зіма*" (запісана ў г. Хойнікі ад Еўжэнка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.)). Большасць хойніцкіх метэаралагічных прыкмет не была прымеркавана да пэўных каляндарных свят. Часам надвор'е прадказвалі па паводзінах прадстаўнікоў жывёльнага свету ("Калі зімой сабакі качаюцца на снезе, то *будзе завіруха*. Вараб'і чырыкаюць – *к цяплу*. Калі ў зімовы час паукі бегаюць узад-уперад; вешаюцца на новых ніцях, то праз 9-10 дней наступіць холад, а калі павукі схаваюцца, то будзе *адліга*" (запісана ў в. Веляцін ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.); "Варона ж каркае *на дождж*. Еслі ўдод крычыць, то будзе *холадна*" (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.); "Колісь казалі, калі гусь стаіць на адной назе, то ета к вялікаму *холаду*. Калі нізка над зямлёю лётаюць ластаўкі, то ета *к даждж*у" (запісана ў г. Хойнікі ад Раманчык Ірыны Андрэеўны, 1935 г.н.)).

Не меншай папулярнасцю сярод жыхароў Хойніцкага раёна карыстаюцца прыкметы і павер'і сямейнай абраднасці – радзінна-хрэсьбінныя, вясельныя, пахавальныя. Шмат тэкстаў, зафіксаваных падчас экспедыцый, адлюстравалі рэгламенцыю паводзін цяжарнай жанчыны, якой, каб забяспечыць добрае здароўе і шчаслівае жыццё будучаму дзіцяці, забаранялася *дакранацца да цела падчас пажару* ("Як бярэменная, нельзя брацца ні за што, калі пажар, бо дзіцёнак будзе весь у красных пятнах" ((запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.)), *пераступаць* праз вяроўку, "аглоблю" і да т.п. ("Як бярэменная, нельзя пераступываць і вяроўку, і аглоблю ў вазу, забор пералазіць, а то дзіцёнак будзе абматаны пупавінай" ((запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.)), *пазычаць* ("Жанчыне бярэменнай трэба быць спакойнай, нікуды не нада хадзіць, што-та аддалжаць. А то пойдзеш аддалжаць, а людзі могуць і адказаць. І каб мышы нічога ў іх не паелі, яны могуць кінуць за бярэменнай што-ліба. Харашо, як хлеб кінуць, так дзіцёнак будзе хлеб есці, а як вугаль, мел, пясок, зямлю, тады дзеці, як растуць, так яны гэта ядуць сільна. Было такое, што дзеці дажа сцены абгрызвалі" (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.); *валасы абразаць* ("Нельзя рожаніцы валасы абразаць" (запісана г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.)), *на парозе стаяць* ("Нельзя ў парозе бярэменнай стаяць: як ішла, так і пайшла, штоб дзіцятка добра радзілася" (запісана г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.)) і інш.

Вясельныя павер'і, накіраваныя на забеспячэнне шчаслівага лёсу маладых, не адрозніваліся ад агульнабеларускіх (“Каравай павінны былі замешваць жэншчыны, якія ўсю сваю жызнь пражылі з адным мужам. Каб і маладым усю жызнь пражыць разам” (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.).

У пахавальных павер'ях адлюстраваны і павага да памерлага, імкненне зрабіць усё магчымае, каб пасля смерці яму было добра (“Калі дзеўка памірала, то яе абязацельна на палаценцах спускалі, то не разразалі палаценца і не дарылі, бо яна не пайшла замуж і падаркаў не давала. Рабілі так, каб на тым свеце пайшла замуж” (запісана ў г. Хойнікі ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.)), і адначасова страх перад ім, дакладней перад “тым светам ”(светам памерлых), неспазнаным, таемным і таму такім небяспечным для нас, жывых (“Таксама закрываюць зеркала, калі ў хаце пакойнік, каб не захавалася атражэнне мёртвага. А еслі хто ўбачыць пакойніка ў зеркале, таму самаму плоха стане” (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.)); таму, напэўна, існавала шмат магічных дзеянняў, накіраваных на папярэджанне шкодных уздзеянняў з боку “пакойніка” і ўсяго неспрыяльнага, што з ім звязана (“Як пакойніка выносяць, стараюцца ўсё зрабіць і зварыць, і печ закрыць, каб у хаце добра ўсё было” (запісана ў г. Хойнікі ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.)).

Як сведчаць прыклады, спецыфічнай рысай прыкмет і павер'яў з'яўляецца факт устойлівасці іх бытавання: нават пасля таго, як прычыны, што выклікалі іх узнікненне, перасталі функцыянаваць, яны засталіся ў народнай памяці, ператварыўшыся ў адметны утылітарна-практычны кодэкс, які, як ні дзіўна, дзейнічае і ў наш час, пэўным чынам мадэлюючы і рэгламентуючы паводзіны чалавека.

## ПРЫКМЕТЫ І ПАВЕР'І

Зіма снежная – лета даждлівае.

Калі зімой суха і холадна – летам суха і жарка.

Калі зімой цёпла – летам холадна

Зіма марозная – лета жаркае.

Калі зімой іней – летам раса.

Калі зіма гнілая – то ячмень урадзіцца.

Снежная зіма прадказвае харошы рост травы.

Калі вокны пачынаюць пацець пры двайных рама- – да сільнага мароза.

Калі зімой сабакі качаюцца на снезе – то будзе завіруха.

Вараб'і чырыкаюць – к цяплу.

Калі ў зімовы час павукі бегаюць у зад, уперад; вешаюцца на новых ніцях, то праз 9-10 дней наступіць холад, а калі павукі схаваюцца – то будзе адліга.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцэвіч В.***

Як молнія, дак нада грабяшча з галавы знімаць, шоб молнію не прыцягваў.

***Запісана ў в. Казялужжа***
***ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.***

Напрымер, прыйшлі маладую сватаць, а яна не сагласна, адказываецца. Эта мая бабка ішчэ гаварыла, дык тады бяруць і гарбузу нясуць, дык ён бірэ і ўцякае з хаты. Знае, што ўжо ўсё, яна не згодна іці.

У цыганей ідуць. Дык ужо ў маладой дома ўкрадуць што ўжэ там. Ды могуць і цяля ўзяць і парася, што хочаш, і кур. Да нясуць тады к маладому, да ўжо зноў гулянка, што там прынеслі.

***Запісана ў в. Карчовае***
***ад Ефіменка Сафіі Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***Шпарун Евы Васільеўны, 1933 г.н.,***
***Камеш Алены Іосіфаўны, 1970 г.н.,***
***Арловай Алены Іванаўны, 1942 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ад грому бралі лапату, на якой пяклі хлеб з дзяжы і выкідалі яе на вуліцу.

Калі кура заквокча, пад куранят клалі сена пасля куцці.

Калі быў пустацвет у агурцах, бралі, рвалі гэтыя цвяты і перад каровай перасыпалі імі вуліцу.

Крэст з абодвух бакоў вёсцы паставілі тады, як у вёсцы часта гарэлі хаты, палілі хлявы. Тады людзі паехалі ў цэркву, прывезлі папа, ён маліўся, а патом зраблі красты драўляныя без адзінага гвазда і паставілі ў пачатку і ў канцы вёскі. Крэст прадахраняў ад грому.

Яшчэ ад маланкі абворвалі вёску кругом.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

**Каляндарныя прыкметы і павер'і**

Еслі пад вечар багата зорак, то ноч будзе марознай. А сонца еслі заходзіць не за хмары, то будзе цёпла. Па сонцу ўзнавалі, і кагда абед. Стаіць забор, ад яго цень, еслі ад забора да канца цені шаг, то абед, час дня.

Варона ж каркае на дождж.

Еслі ўдод крычыць, то будзе холадна.

Картошку засыпаюць на семена на храненне на зіму ад мышэй у той дзень, кагда была галодная куцця. Гэта 18 чысла, перад Крашчэннем, а Крашчэнне – 19-га. Тады ўсё харашо ад мышэй храніцца. Мамка как-та маркоўку ў эты дзень палажыла, а буракі не, так крысы ўсе буракі паелі, а маркоўку не.

На Благавешчанне дзеўка не пляце касу, нее расчосвае валасы, таму што пцічка нават не пляце гнязда ў гэты дзень. Валасы ж падстрыгаюць, калі маладзік абойдзецца каб раслі больш.

Да Благавешчання не адкрываюць і акна, да Благавешчання не выносяць на вуліцу і качанае. Калісь ткалі палатнянае і яго жлукцілі, залівалі залою. А патом сырым качалі. На двор да Благавешчання яго ўжо не выносілі, а сушылі ў хаце. На Благавешчанне, калі пасадзіш куру на яйкі, то ў яе вывядуцца ўсе калекі, а то і ваабіэ загінуць.

Калісь я жыла, так свякруха гаварыла, што ў панядзелак жанчыне нікагда не трэба перадзявацца і мыцца. Не купалі дзень дзіця ў той дзень, калі ён радзіўся, да года. Каб здаровы быў. У пятніцу не ткалі, мая свякруха ў пятніцу толькі пер'е драла.

**Прыкметы і павер'і ў радзінным абрадзе**

Як бярэменная, нельзя брацца ні за што, калі пажар, бо дзецёнак будзе весь у красных пятнах. Ведаю такі случай. Быў пажар, жанчына схвацілася леваю рукой за галаву, так дзіця радзілася з фіалетавай ўсёй левай стараной і рукою, і два разы большаю. А яшчэ ў нас жанчына жыве, так яезавуць цвяток таму што ліцо ў яе цвятное. Відна матка, як ёй хадзіла, то схвацілася за што-та.

Як бярэменная, нельзя праступываць і вяроўку, і аглоблю ў вазу, забор пералазіць, а то дзіцёнак будзе абматаны пупавінай. Эта такія случаі былі.

Жанчыне бярэменнай трэба быць спакойнай, нікуды не нада хадзіць, што-та аддалжаць. А то пойдзеш аддалжаць, а людзі могуць і адказаць.У каб мышы нічога ў іх не паелі, яны могуць кінуцьза бярэменнай што-ліба.

Харашо, як хлеб кінуць, так дзіцёнак будзе хлеб есці, а як вугаль, мел, пясок, зямлю, тады дзеці, як растуць, так яны гэта ядуць сільна. Было такое, што дзеці дажа сцены абгрызвалі.

Быў случай такі, што дзед, калі работаў, еў семячкі. А ў іх была бярэменная жанчына. Яна папрасіла ў яго семячак, а ён не даў, да адвеціў, што "я не гарбуза". І вот ён ёй не даў, а ў нас усю семянную картошкуператачылі мышы, і па кварціры тожэ мышы пайшлі. Кагда я спрасіла, што з картошкаю случылася, ён кажа: "У гэтым я вінаваты, у мяне Манька папрасіла семак, а я не даў". Ён пайшоў на работу і сказаў ёй пра гэта. Кагда ён толькі высказаў гэта, так у нас мышы суняліся.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Раз такая прымета была, што запомніла яе на ўсю жызнь. Гэта перад вайной было, я тады малая была яшчэ. Пашлі мы ў лес па ягады, былі з намі і дзеці, і старыя, і жанчыны. Чалавек нас мо пятнаццаць было. Ідом мы па лесу, тут навстрэчу, от так у глаза далася, і прытом усім, выходзіць гроб на чатырох нагах, ідзе, качаецца, а ў гэтым гробе поўна краві, аж выліваецца. Мы як папужаліся. А адна старая бабка нам і гаворыць: "Нешта страшнае, дзеткі, будзе, ці не вайна, ды яшчэ і чатыры гады." Патом кудысь усё і дзелася, і не стала. Во як было!

А прыметы тожа былі такія, што вот нельзя было здаровацца, не пераступіўшы парог, аддаваць чэраз парог. Яшчэ, бабка мая казала, што як пераступіў парог, калі выходзіш, нельза абарачвацца, бо можа штосьь дрэннае з табой прыключыцца.

Пасля жніва абавязкова пучкі неслі ў царкву асвяціць, каб засцерагчыся ад агню і дажджу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

**Прыкметы**

Колісь казалі, калі гусь стаіць на аднойназе, то ета к вялікаму холаду.

Там, дзе пакачаўся конь, нельга было хадзіць, бо будзе лішай.

Калі нізка над зямлёю лётаюць ластаўкі, то ета к дажджу.

Яшчэ казалі такое: калі сабака вые ўгору галавой, то ета на пажар, калі ўніз, то на смерць.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Раманчык Ірыны Андрэеўны, 1935 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г, Сухой Ю. (2003 г.)***

Пад варотніцу яйкі клалі і ніткі, каб карова прыходзіла дадому.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,***

*студэнткай Харошка В. М.*

Першы раз выганялі скаціну на Юр'я. Перад гэтым абыходзілі кругом скаціны, абсявалі яе макам, абсявалі хлеў, каб аградзіць жывёлу ад злых духаў.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Харошка В. М***

Рвалі веткі ліпы, ішлі ў царкву, свяцілі гэтыя веткі. Закраплялі ліпавыя веткі па абразах, над уваходнымі дзвярамі, каб выгнаць злых духаў з хаты, ачысціць паветра ад зла.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Бордак Матроны Канстанцінаўны, 1938 г.н.,***
***студэнткай Герасіменка В.***

Святая вада ад усяго памагае. Калі лажышся спаць, вазьмі святую ваду, трапі ў пасуду і папырскай етай вадой сваю краваць, як бы перакрысці.

Мёртавая вада – несвячоная вада, вада, што мыеш пакойніка. Ваду не надо ліць на двор. Нельзя, каб іголку, што шыюць падушку пакойніку, укралі, кажуць, што калі украдзеш, дак можна хлопца прываражыць.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Вайтовіч К., Салаўёвай Т., Івашчанка О.***

**Прыкметы і павер'і ў пахавальным абрадзе**

Калі нехта памрэ, так у хаце за пакойнікам вымятаюць, каб вымясці яго сляды, каб ён не вярнуўся. Таксама закрываюць зеркала, калі ў хаце пакойнік, каб не захавалася атражэнне мёртвага. А еслі хто ўбачыць пакойніка ў зеркале, таму самаму плоха стане. Партрэты мёртвага таксама закрываюць ці пераварочваюць. Там, дзе он ляжаў, калі яго снімуць, садзяць самага блізкага яму чалавека, ці матку, ці жонку, ці дзяцей, -- каб яго быстрэй забыць.

На кладбішчах, калі хароняць,то старыя людзі сыпяць таксама пясок за пазуху (за карак) самаму блізкаму чалавеку, каб таксама забыць яго быстрэй, каб ён не сніўся. Мне тоже сыпалі так, калі дзед памёр.

Калі выносяць з хаты гроб з пакойнікам, то сыпяць зярно. У стакан набіралі жыта ці ячмень, тое што расце, ставілі туды свечку, запалівалі і патом, кагда свечка згарэла, яе знімаюць. А эцім жытам сыпяць за пакойнікам. А эта для таго, каб радзіў хлеб пасля смерці блізкага. Жыта сыпалі са славамі: "Жыў, быў і няма". І так паўтараюць тры разы.

У хаце, дзе мяртвец, нельзя, каб сабакі і каты бегалі. Кот ваабшчэ ў хаце, дзе пакойнік, прыкмета плахая.

Як пакойніка выносяць, стараюцца ўсё зрабіць і зварыць, і печ закрыць, каб у хаце добра ўсё было. Закрываюць печ і тады, калі нехта ў дарозе, каб у яго ўсё добра ды складна было.

А ў Крычаве кідаюць лапкі яловыя, калі вязуць пакойніка. Я раз спытала, чаму гэта робяць, дык мне адказалі, што гэта для таго, каб пакойнік не прыходзіў дадому, бо ён будзе ісці і паколецць ногі. А ў нас так не робяць. Праўда ў нас, калі маладых хароняць, так усцілаюць дарогу цвятамі на той свет у паследнюю свадзебную дарогу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Уперад пакойніка нельзя ісці, штоб не ўмер упярод, у вокны глядзець нельзя.

Грошы кідаюць у ямку. Ета называецца пакойніку купіць сваю зямлю, штоб з яго там не бралі грошы.

Вот толькі як пакойніка возьмуць з лаўкі, дак тады ўжэ, хто такі самы раднейшы жывы астанецца, дак садзяць яго на тое месца, штоб ён трошкі пасядзеў, вот тады ён трошкі скарэй забудзецца.

У яму кідаць вяроўкі і палаценцы нельзя, патаму што як будзе ўставаць пакойнік на страшны суд, дак будзе блытацца з тымі палаценцамі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г. н.***
***(перасяленка з в. Дворышча Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч К.***

Калі чалавек памірае, апускаюць гроб на палаценцах, як памёр, абразаюць палаценца і аддаюць тым, хто капаў. Калі дзеўка памірала, то яе абязацельна на палаценцах спускалі, то не разразалі палаценца і не дарылі, бо яна не пайшла змуж, і падаркаў не давала, і каб на тым свеце пайшла замуж.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1919 г. н.,***
***студэнткамі Вайтовіч К., Салаўёвай Т.***

Першую Куццю варылі з ячменю. Што астанецца з куцці, дык яе ўранні акружаць аборай і пасыплюць, каб куры з’елі, былі гуртам і нікуды не разыходзіліся. Калі адкрываюць куццю, глядзяць, ці іе раса. Калі іе, то будзе багаты год, так прыкмячалі людзі.

Сена з-пад каляднай куцці звязвалі і вясной садзілі куру, каб выводзіліся кураняты.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Кацярыны Іванаўны, 1929 г.н.,***
***студэнткай Харошка В.М***

Як сільна багата на Коляды звёзд – эта будзе грыбоў сільна багата, а як будзе хмурна – будзе такое даждлівае лета.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***

***(перасяленка з в. Дворышчы Хойніцкага раёна),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч К.***

Гушчу з багатай куцці гаспадыня аддавала курам. Клала гушчу ў абруч з бочкі. Была такая прыкмета. Калі дамашнія куры, качкі, гусі з'ядзяць гушчу з гэтага абруча, то будуць яйкі несці добра і толькі ў сваім дварэ.

***Запісана ў в. Велянін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцэвіч В.***

Сена, на якое ставілі куццю, звязвалі і хавалі да вясны. Вясной, як начыналі куры квахтаць, дык іх садзілі на стог сена, каб буў добры вывадак, каб ваділіся кураняты.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Марыі Сяргееўны, 1932 г. н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

Свянцоную воду налівалі ў глыбокую тарэлку, туды клалі яйка, і ўсе члены сям'і павінны былі ўмыцца ў гэтай вадзе, каб быць здаровымі, дужымі і прыгожымі.

Шалуху з яек сыпалі на агарод, каб быў добры ўраджай.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г. н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Галаўчук Н.***

**Зімовыя прыкметы і павер'і**

Колькі на асенняга Юр'я снегу, столькі на вясенняга – травы.

Калі ў галодную куццю вісіць на лесе іняй, то пад восень будзе багата грыбоў.

Маладзік з задранымі ўгару рагамі абяцаў тыдзень моцных маразоў.

Якая пагода на Пакровы, такая і зіма.

Яркае і зорнае неба "на куццю" абяцала, што ў лесе будзе многа грыбоў, на полі добры ўраджай. А ў хляве добры прыплод жывёлы.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***Студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

Каб у доме было добра і ціха дом будавалі з жывога высушанага дрэва. Нельга браць мёртвае, рыпучае (бо ў ім душа нябожчыка – грэшніка заключана) дрэва на будоўлю і тое, у якое трапіла маланка.

Каб засцярагчыся ад нячыстай сілы раней каля парога стаўлялі сякеру, а карову пры першым выгане на пашу застаўлялі пераступіць праз яе. Старыя

косы ці сярпы запіхвалі пад страху хлява, каб адвесці ад жывёлы дрэнны позірк.

Каб не было дрэннага ў хаце, у сям'і парог заўсёды павінен быць чыстым. Цераз парог нельга вітацца за руку і нешта даваць. А пасля заходу сонца наогул нельга выносіць мусор з хаты, аддаваць даўгі ці даваць у доўг – бо не будзе грошай. Цераз парог нельга вымятаць з хаты мусар. Насупраць увахода ў хату, парога нельга вешаць люстэрка, бо як прыйшло дабро у хату, так і пойдзе. Люстэрка б'ецца да няшчасця. Люстэркі ў хаце трэба таксама трымаць у чыстаце, каб наш адбітак у ім не атрымаў брудную негатыўную энэргію.

Калі бусел звіў гняздо у двары, гэта к згодзе, дабру і міру ў хаце. Нельга бурыць гняздо буслоў.

А калі стая варон злятаецца ў двор – гэта нядобра.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)***

*Венік, смецце*

Нельга венік пераступаць, а то ўмочышся ноччу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г. н.,***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч Н.***

Як маладая ідзе замуж, дак яна далжна сама выткаць рушнік, бо гэта яе абяшчанне перад мужам быць з ім ўсё жыццё.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г. н.,***
***студэнткамі Вайтовіч К., Салаўёвай Т.***

Ад засухі колісь казалі, што кідалі гладышку ў калодзец. Гладышку ўдава далжна была ўкрасці ў яўрэя. Далжна ўдава злавіць жабу і ў калодзец кінуць. У вёскі заўсёды ставілі красты з дзвюх старон, і каб удава за адзін дзень далжна была выткаць, напрасці і павесіць на гэтыя красты рушнік.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г. н.,***
***студэнткамі Вайтовіч К., Салаўёвай Т.***

Нельзя было ткаць у забаронены дзень, патаму шта ета ж нельзя. Там быў такі дзень, калі можна ткаць, а ў кожны святы нельзя прасці, нельзя ткаць. Кажуць у нас: у пятніцу не прадуць, а ў суботу я нарадзілася. А чаго нельзя прасць, таго што ты прадзеш, тчэш із яго, а яно па-Божаму што-та е, вот і нельзя прасці у Коляды, у нядзелю. От раскажу вам. У первы дзень Каляд аж да Новага году нельга нічога рабіць. Ні рубаць, ні вязаць. А мы былі маладыя, неразумныя, нам ніхто нічога не казаў. А раней жа не было нічаго

не абуць, не адзець, дык мы бралі ды такія чуні плялі, а ў нас была свінка-паросна. І што ж думаеце, было пяць парасят (прывяла) дык у іх усе ножкі пазакручваныя - эта ж е штосьці на свеце.

Нельзя ад Каляд да Новага года печку бяліць. Асобенна еслі есць жэншчына бярэменная, ці скот бярэменны, то родзіць, - прасціце мяне, - замажаш ёй праход, дзіця памірае.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Рудабельскай Эміліі Людзвігаўны, 1913 г.н.***
***(перасяленка з в. Рудакоў),***
***студэнткамі Салаўёвай Т., Вайтовіч К., Івашчанка О.***

## *НАДВОР'Е*

Зіма снежная – лета даждлівае.

Калі зімой суха і холадна – летам суха і жарка.

Калі зімой цёпла – летам халодна.

Зіма марозная – лета жаркае.

Калі зімой іней – летам раса.

Калі вокны пачынаюць пры двайных рамах – да сільнага мароза.

Калі зімой лес шуміць – чакай адлігі.

Калі зімой сабакі качаюцца на снезе – то будзе завіруха.

Вераб'і чырыкаюць – к цяплу.

Калі ў зімовы час павукі бегаюць узад, уперад, вешаюцца на новых ніцях, то праз 9-10 дней наступіць холад, а калі павукі схаваюцца – то будзе адліга.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(перасяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцэвіч В.***

Калі зіма гнілая – то ячмень урадзіцца.

Снежная трава прадказвае харошы рост травы.

***Запісана ў в. Веляцін***
***ад Пугач Марыі Сцяпанаўны, 1929 г.н.***
***(персяленка з в. Калыбань Брагінскага р-на),***
***студэнткай Санцовіч В.***

Калі на Пятра і Паўла дождж, то жыта уродзіцца.

Каля дождж на Пятроў дзень, то сенакос будзе мокры.

На святога Пятра дождж – ураджай дрэнны, два дажджы – добры, тры – багаты.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Гардзейчык Надзеі Ульянаўны, 1929 г. н.,***
***студэнткай Санцовіч В.***

Прыказкі і прымаўкі, дзе згадваюцца Пятро і Павел:

Пятроўка – галадоўка.
Кукушка да Пятра кукуе.
У Пятроўку гразь – ураджай добры дасць.
Калі Пятро з Паўлам плачуць, дык людзі праз тыдзень сонца ўбачаць.

***Запісана ў в. Настолле (цяпер г. Хойнікі)***
***ад Еўжанка Любові Аляксандраўны, 1930 г.н.,***
***Новак В.С., студэнткай Касцюковай М. (2003 г.)***

*Алена АЛФЁРАВА*

## ЗАГАДКІ

Загадка – малы фальклорны жанр (парэмія), у якім пры дапамозе метафарычнага апісання зашыфроўваецца аб’ект навакольнай рэчаіснасці. Паколькі загадкі з’яўляюцца адным з найбольш старажытных жанраў фальклору, яны адлюстроўваюць асаблівасці міфалагічнага мыслення, якое ў далейшым садзейнічала ўзнікненню запамінальных паэтычных вобразаў, непасрэдна звязаных з асаблівасцямі навакольнага ландшафту, мясцовай фауны. Але першапачаткова чалавек спецыяльна не ствараў падобныя метафары, ён жыў і мысліў імі.

Загадка складаецца з метафарычнай часткі і адгадкі. З аднаго боку, асаблівасці жанру вымагаюць выбіраць для загадвання (за рэдкім выключэннем) канкрэтны аб’ект рэчаіснасці, які лёгка апісаць па адметных знешніх характарыстыках (колер, рух, тактыльныя адчуванні). Як слушна заўважыў А.І. Гурскі, “філасофія, мараль, этыка – гэтыя праблемы не для загадак. Прэрагатыва загадак – творчая і плённая прастора жыцця, дзе ўсё рухаецца, змяняецца, працуе, будуе, расце, цвіце і дае плён чалавеку” [1, с. 216]. Пры стварэнні метафарычнага вобраза адгадка прымушае ўключаць у яго апісанне тыя прыметы, якія аб’ядноўваюць загаданы аб’ект і яго іншасказальны вобраз, што часам стварае неверагодныя, маляўнічыя сітуацыі, не адпаведныя наяўнай рэальнасці. У той жа час працэс разгадвання заключаўся не ў падборы патрэбнага (да гэтага невядомага) адказу. На думку Н.Б. Мячкоўскай, “адгадкі зусім не былі “рацыянальным” або інтуітыўным рашэннем задачы, сапраўды адгадваннем. Адгадкі існавалі як данасць, у якасці часткі сакральных ведаў пра свет” [3, с. 107 – 108]. Так адбывалася своеасаблівая праверка чалавека на яго прыналежнасць да канкрэтнага соцыуму, спасціжэння ім таемных ведаў і характарыстык, зашыфраваных у пэўнай сацыяльнай групе. Такім чынам, загадванне загадак толькі з аднаго боку падобна да нявіннай гульні. Але калі прыняць гульню за асноватворны пачатак развіцця грамадства, падтрымання сусветнага парадку, перадумову узнікнення культуры ўвогуле, як гэта робіць Й. Хёйзінга [4, с. 29], то такая гульня выступае даволі сур’ёзным выпрабаваннем, стаўка ў якім – жыццё [4, с. 115].

Водгалас такіх выпрабаванняў адчуваецца ў тым, што загадкі загадваліся ў калядныя вечары – памежны, пераходны час, калі, як лічылі нашы продкі, знікае стары свет і ствараецца новы. Такім чынам, разгадванне-загадванне загадак нібы ўвасабляе працэс уладкавання і гарманізацыі новага светапарадку. Падобныя выпрабаванні праходзілі і маладыя на вяселлі: пры дапамозе загадак адбывалася своеасаблівая праверка на вартасць маладых адзін аднаго, а таксама сваіх радоў.

Феномен жанру загадкі заключаецца ў тым, што яна перайшла са сферы дарослых у сферу дзяцей і па-ранейшаму застаецца папулярнай, захаваўшы і асноўную сваю функцыю – эстэтычную, побач з гульнёвай, выхаваўчай і развіццёвай. Менавіта пры дапамозе загадкі, нават не

ўсведамляючы гэтага, дзеці ўпершыню знаёмяцца з метафарай, метаніміяй, эпітэтам, з тым непаўторным паэтычным, фантастычным светам, які ствараецца пры дапамозе толькі адной трапнай рыфмаванай фразы. Загадкі, запісаныя ў Хойніцкім раёне, таксама сведчаць пра багацце вобразаў, разнастайнасць метафарычных сітуацый, суладдзе і гармонію з наваколлем.

Разнастайнасць падобных апісанняў выяўляецца ў тым, што загаданы аб'ект (незалежна ад таго, адушаўлёны ён ці не) можа выступаць праз апісанне найбольш характэрных для яго прымет або дзеянняў, а таксама праз вобразы:

1) жывёлы ці птушкі;
2) чалавека (імя, пасаду, званне);
3) расліны;
4) аб'екта матэрыяльнай культуры (будынак, прадмет побыту, адзенне).

Пры гэтым абавязкова так ці інакш у гэтым фальклорным жанры адлюстраваны адносіны чалавека да загаданага аб'екта, адчуваецца лагодны гумар і трапныя характарыстыкі.

Напрыклад, сонца падаецца праз апісанне рэакцыі чалавека і яго стаўлення да прыроднага аб'екта: *"Глянеш – заплачаш, а ўсе яму рады"* (Зап. Н.М. Судзенка ад В.В. Судзенка, 1952 г.н., в. Віць), а неабходная ў мінулым гаспадарчая прылада серп выступае праз формы прыметнікаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі: *"Маленька, гарбаценька ўсё поле абяжыць і дадому прыбяжыць"* [2, № 1679]. Зайчык таксама выступае праз падобныя эпітэты: *"Зімой беленькі, а летам шэранькі"* (Зап. Н.М. Судзенка ад В.В. Судзенка, 1952 г.н., в. Віць).

Часцей за ўсё ў загадках, дзе на першы план выходзіць толькі апісанне загаданага аб'екта, відавочна парадаксальнасць сітуацыі: дзеянні выконваюцца без неабходных для гэтага атрыбутаў: *"Без рук, без ног, а маляваць умее. (Мароз)"*; *"Не цяпло, але паліцца. (Крапіва)"* (Зап. Н.М. Судзенка ад В.В. Судзенка, 1952 г.н., в. Віць); *"Без рук, без ног, а сарочку (рубашку) просіць. (Падушка)"* [2, № 2412]. Такія загадкі, у якіх прадмет выступае не праз канкрэтны метафарычны вобраз, а праз яго характарыстыкі, апісанне знешняга выгляду, загадваюцца дзецям аднымі з першых, лёгка запамінаюцца і ўзнаўляюцца. Большасць з іх вядома не толькі ў Хойніцкім раёне і нават не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў суседніх славянскіх народаў, што гаворыць на карысць старажытнасці іх паходжання: *"Зімой і летам адным цветам. (Елка, хвоя)"* [2, № 407]; *"Два канцы, два кальцы, а пасярэдзіне цвік (гвоздзік) вісіць. (Нажніцы)"* [2, № 1843].

Маляўніча падаюцца ў загадках вобразы прыроднага навакольнага свету. Яны адлюстроўваюць адметныя асаблівасці непаўторнай беларускай прыроды, звяроў і птушак. Гэтая непаўторнасць прасочваецца і ў адпаведных загадках, калі неадушаўлёныя прадметы выступаюць у вобразах хатніх і дзікіх жывёл. Ствараецца цудоўная казачная карціна, у якой бачны ўдалы падбор адпаведнага замяшчальніка. Так, у запісанай у Хойніцкім раёне загадцы нерэальнасць апісанай сітуацыі прымушае шукаць адгадку ў свеце

неадушаўлёных прадметаў: *“Поўная хата вераб’ёў, ды не можна паганяць. (Сукі)”* [2, № 420]. У іншым варыянце язык метафарычна прыгожа супастаўляецца з цецеруком: *“За сцяной касцяной цецярук балбоча”* [2, № 858]. Такое параўнанне зусім не адвольнае, як можа здасца на першы погляд. Цецярук – птушка, якая ў пэўны сезон пачынае выводзіць гучныя трэлі (такаваць), не заўважаючы нічога навокал.

А вось у іншай загадцы зубы ўжо выступаюць праз вобраз авечак: *“Стаіць хлявец поўны авец”* [2, № 900]. Дзіўная жывёліна вымалёўваецца ў наступным варыянце: *“Бегла свінка, шэранька спінка, а хвосцік ільняны (Іголка з ніткай)”* [2, № 1870]. Яшчэ ў адной загадцы хатняя жывёліна выступае праз сваю супрацьлегласць – драпежнага дзікага звера: *“За гарой, за крутой ваўкі шкуру мнуць. (Свіння з парасятамі)”* [2, № 1081]. Пачатак загадкі ў пэўнай ступені нагадвае зачын казкі або замовы.

Адметная загадка, у якой сонца выступае праз арнітаморфны вобраз. У ёй адбіліся старажытныя міфалагічныя ўяўленні, згодна з якімі прыродныя аб’екты атаясамліваліся са звярамі і птушкамі. Акрамя таго, у загадцы месцазнаходжанне цудоўнай птушкі – дрэва (у міфалагічнай свядомасці – Сусветнае дрэва, цэнтр свету): *“Стаіць верадуб, на тым дубе-верадубе сядзіць пціца-вертаціца, ніхто не дастане: ні цар, ні царыца, ні пракрасная дзявіца”* [2, № 19]. У загадцы пры апісанні цудоўнай птушкі ўжыта паказальная характарыстыка – “вертаціца” (ад дзеяслова “вярцець”, што ўдала і трапна характарызуе рух сонца па небе).

Не менш цікавыя і тыя загадкі, у якіх прыхаваны прадмет або з’ява выступае праз вобраз чалавека. Пры гэтым аднолькавыя аб’екты (напрыклад, пальцы рукі або колы) суадносяцца з аднатыпнымі персанажамі або сваякамі (братамі): *“Пяць мальчыкаў, пяць гулянчыкаў, кожны мальчык у свой гулянчык. (Пальчатка)”* [2, № 2755]; *“Два брацікі ўперадзе, два брацікі ззаду, друг друга даганяюць. (Колы)”* [2, № 2801]. У адным з варыянтаў у метафарычнай частцы сумяшчаецца рэальная сітуацыя і непасрэдна загадка, уключаная ў канву гэтай сітуацыі: *“Ехаў пан-капітан, у дзевачкі папытаў: “Што за косці ляжаць, што сабакі не ядзяць?” (Церніца і кастрыца)”* [2, № 1782]. Адметнасць дадзенай структуры заключаецца ў тым, што адгадвальніку патрэбна аддзяліць рэальную частку ад метафарычнага апісання.

У некаторых загадках, запісаных на тэрыторыі Хойніцкага раёна, неадушаўлёныя аб’екты загадваюцца праз імёны, пры гэтым кожнае імя мае вызначальную характарыстыку, якая супадае з уласцівасцямі загаданага аб’екта: *“Румяны Пiлiп да палкі прыліп. (Яблык)”* [2, № 800]; *“Сухі Трахім далёка б’е. (Стрэльба)”* [2, № 1744]. А вось у загадцы пра камара ўжыванне імені дапамагае стварыць камічную сітуацыю, паколькі адным са сродкаў яе стварэння выступае гіпербала: *“Стаіць Ціт у траве па калена ў крыве”* [2, № 1482].

Сярод прадметаў побыту у загадках, запісаных у Хойніцкім раёне, часцей сустракаецца бочка як сасуд, напоўнены якім-небудзь начыннем. Адпаведна і загадваюцца праз яго аб’екты, якія маюць неаднародную

структуру (умяшчаюць у сябе некалькі частак або насенне). Пры гэтым зачын такіх загадак аднолькавы, змяняецца, у адпаведнасці з загаданым аб'ектам, само напаўненне: *"Поўна бочачка (бочка) круп, а наверсе струп. (Макаўка, мак)"* [2, № 760]; *"Поўна бочачка віна да й замочка няма. (Яйцо)"* [2, № 1206].

Такі аб'ект, як могілкі, уяўляецца ў выглядзе цэлага паселішча, але без адпаведных для яго атрыбутаў, што і дапамагае супрацьпаставіць свет жывых і іншасвет: *"Сяло Мікулічы – ні двара, ні вуліцы, хто туды едзе, той не прыедзе"* [2, № 3016].

Зафіксавана параўнальна невялікая, але даволі цікавая група загадак, дзе прадмет падаецца праз незразумелыя на першы погляд гукавыя спалучэнні, якія дапамагаюць намаляваць фантастычную карціну і разам з тым выклікаюць здзіўленне і ўсмешку. Напрыклад, у адной з загадак, якая шырока бытуе на ўсёй тэрыторыі Беларусі, а таксама зафіксавана ва ўсходніх і заходніх славян, яблык і свіння падаюцца праз назоўнікі, утвораныя ад іх асноўных дзеянняў – вісець і хадзіць: *"Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпадзе, хода схопіць"* [2, № 806]. У загадцы пра язык незразумелы назоўнік падае гукапіс размовы: *"За белым бярэзнічкам талалайка брэша. (Язык)"* [2, № 866]. Яшчэ ў адным варыянце, запісаным на тэрыторыі Хойніцкага раёна, хатняя птушка таксама пераўтвараецца ў прадмет, корань якога трэба шукаць у яе "мове": *"Пад печчу кракажы, а хто знае – не кажы. (Куры)"* [2, № 1178].

Асобную групу складаюць загадкі, якія першапачаткова загадваліся на вяселлі. Такія загадкі маюць фрывольную метафарычную частку, але абсалютна нявінную адгадку, што і выклікае смех пры іх разгадванні. Так, у адным з варыянтаў, запісаным на тэрыторыі Хойніцкага раёна, вочап і калодзеж падаюцца наступным чынам: *"У дзеда вісіць, а ў бабы ззяе, хто ідзе, той чапляе"* (Зап. В. Шамонінай, Н. Валодзькінай, Н. Тукуновай ад В.І. Корбіт, 1914 г.н., в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)).

З цягам часу з'яўляюцца новыя рэаліі, не напоўненыя міфалагізаваным сэнсам. Тым не менш пры іх загадванні выкарыстоўваюцца назапашаныя шматвекавой народнай духоўнай традыцыяй вобразы: *"Жалезны конь, у жываце агонь, сам арэ і косіць і есці не просіць. (Трактар)"* [2, № 3473]; *"Кругленька, маленька, яго б'юць, яно не плача, а толькі скача. (Мячык)"* [2, № 3233]; *"Пяцьма валамі ды адной сахой пашуць. (Аловак)"* [2, № 3056].

Такім чынам, загадкі і сёння маюць вялікі выхаваўчы патэнцыял, папулярныя ў дзіцячым асяродку, а таксама асяродку моладзі. Адным са сродкаў у тым ліку і эстэтычнага выхавання з'яўляецца выкарыстанне загадак у вучэбна-выхаваўчым працэсе, паколькі менавіта дзякуючы гэтаму жанру фальклору дзеці вучацца фантазіраваць, пранікаюць у чароўны мір паэзіі і народнай культуры, спрычыняюцца да набыткаў свайго народу, сваёй мясцовасці.

**Літаратура**

1. Гурскі, А.І. Загадкі / А.І. Гурскі // Малыя жанры. Дзіцячы фальклор / Беларускі фальклор: жанры, віды, паэтыка; Т.В. Валодзіна [і інш.]; навук. рэд. А.С. Фядосік. – Мінск, 2004. – С. 167 – 250.
2. Загадкі / НАН Беларусі, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы; склад. М.Я. Грынблат, А.І. Гурскі. – 2-е выд., выпр. і дапрац. – Мінск: Беларуская навука, 2004. – 363 с.
3. Мечковская, Н.Б. Язык и религия: лекции по филологии и истории религий. Пособие для студентов гуманитарных вузов / Н.Б. Мечковская. – М.: Агентство “ФАИР”, 1998. – 352 с.
4. Хёйзинга, Й. Homo ludens. Человек играющий. Статьи по истории культуры / Й Хёйзинга. – 2-е изд., испр. – М.: Айрис-пресс, 2003. – 496 с.

*Алеся КУЧАРАВА*

# ДЗІЦЯ Ў ТРАДЫЦЫЙНАЙ КУЛЬТУРЫ ХОЙНІКШЧЫНЫ

Спрадвеку было прынята на Хойнікшчыне мець многа дзяцей.Аб гэтым проста, маляўніча і па-майстэрску распавядае нам Барыс Сачанка ў сваім творы "Вечны кругазварот."

Дзіця было сэнсам жыцця, той кропкай, дзеля якой рухаецца наперад само жыццё: "Дзед мой расказваў. Раз ішоў позна вечарам, а тут раньша было балота, дак ідзе ён міма балота. Як прыцапіліся да яго якіясь, хто ета быў – невядома. Яны былі ў длінных адзежах ды давай плясаць… Той прасіўся пусціць дадому: "Пусціце, мяне дзеці там ждуць"" (Казьмярчук Галіна Аляксееўна, 1950 г.н., в. Вялікі Бор).

Новае жыццё, як сведчаць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, яшчэ ў матчыным чэраве аберагалася, шанавалася. У першую чаргу гэта адлюстравана ў шматлікіх забаронах і перасцярогах для цяжарнай жанчыны, якія захаваліся і па сённяшні дзень: "Гэта, што людзі ткалі ў празнікі, лічылася вялікім грэхам. Асабліва нельга было нічога рабіць бярэменным жанчынам. Магло радзіцца дзіця без пальцаў або з якім-небудзь іншым дыфектам. Нельга ткаць у празнікі і зараз, таму што Бог можа вельмі моцна пакараць. Празнік ёсць празнік, усе павінны адпачываць" (Кушнер Любоў Іванаўна, 1922 г.н., в. Вялікі Бор). "Шоб лёгка радзіла, дак маліліся. Як трэ ісці раджаць, дак косы распускалі, шоб лягчэй радзіць. Бярэменнай усё нада было даваць, што яна папросіць, усё ёй пазычалі. І бярэменная нічога жалець не даўжна была, а то дзіця родзіцца жадным, гліну есці будзе" (Каральчук Любоў Іосіфаўна, 1937 г.н., в. Кзялужжа, перасяленка з в. Небытаў). "Як бярэменная, нельзя брацца ні за што, калі пажар, бо дзіцёнак будзе весь у красных пятнах. Ведаю такі случай.. Як бярэменная, нельзя пераступываць і вяроўку, і аглоблю ў вазу, забор пералазіць, а то дзіцёнак будзе абматаны пупавінай. Эта такія случаі былі. Жанчыне бярэменнай трэба быць спакойнай, нікуды не нада хадзіць, што-та аддалжаць. А то пойдзеш аддалжаць, а людзі могуць і адказаць. І каб мышы нічога ў іх не паелі, яны могуць кінуць да бярэмменнай што-ліба. Харашо, як хлеб кінуць, так дзіцёнак будзе хлеб есць, а як вугаль, мел, пясок, зямлю, тады дзеці, як растуць, так яны гэта ядуць сільна. Было такое, што дзеці дажа сцены абгрызвалі" (Прышчэп Ніна Мікалаеўна, 1933г.н., г. Хойнікі.)

Традыцыйным светапоглядам палешукоў былі абумоўлены і паводзіны жанчыны ў асаблівы для яе час, калі павінна было нарадзіцца дзіця: "Я за сваё жыццё шэсць дзяцей радзіла і ўсе дома, сама, без ніякай помашчы, без доктара. Дык як вот мне трудна было, ніякога ўрача не вызывала. Дзіця большанькае бывала, дык мне так трудна бывала, дык я як нагнулася нешта рабіць, а мне як пугай нехта лясь па спіне. Я думаю, штось будзе. І я пад вечар радзіла дзіця. І лёгка радзіла. Дык гэта мне так дамавы прэдупрэдзіў, а

хто ж яшчэ. А таксама я яго не бачыла. Але вось памагае” (Судзенка Ганна Іванаўна, 1928 г.н., в. Клівы).

Хрысціць дзіця на Хойнікшчыне было прынята адразу пасля нараджэння: “Чэраз шэсць дней пасля раджэння дзіця выбіралі яму хросных бацькоў, якія аберагалі дзіця ўсё жыццё” (Сацура Аляксандра Усцінаўна, 1924 г.н., в. Стралічава). Цікава, што “калі нараджалася дзіця, каб абараніць яго ад дурнога глаза, яго ўмывалі свянцонай вадой. Раніцай збіраліся ў цэркву” (Гардзейчык Ніна Ульянаўна, 1929 г.н., г. Хойнікі), “Ета ж зараз доўга не хрысцяць, а тады – сёння родзіцца, а назаўтра і хрысцяць” (Хадасок Марыя Адамаўна, 1914 г.н., г. Хойнікі). Такое хуткае імкненне пахрысціць дзіця, на наш погляд, абумоўліваецца жывой моцнай праваслаўнай традыцыяй, з аднаго боку, а з другога – міфалагічным светапоглядам, магічнай свядомасцю: “Маленькае дзіця баяліся паказваць, каб не зглазілі. Клалі спаць дзіця і казалі: “Куры на седале спяць, і ты спі”” (Рудчанка Алена Рыгораўна, 1930 г. н., в. Рудыя).

Перш за ўсё дзіця – памочнік альбо памочніца бацькам па гаспадарцы: “Некалі калі нарадджалася дзіця, то яго надта не глядзелі. Нарадзіўся ў адной гаспадыні сыночак. Назвалі яго Амелькам. Вось прыйшоў час жніва, і пайшлі яны на сваю ніву. Жалі да палудня, пакуль Амелька не падаў голасу. Паелі, палажылі спаць Амельку зноў і пайшлі жаць далей… ” (Запісана ў краязнаўчым музеі г. Хойнікі).

Дзеці рана далучаліся да працы, а разам з тым натуральна спасцігалі сусвет сваіх бацькоў, сваіх продкаў: “ А хаты ж былі маленькія, да вот у лесе. А ў каго сем’і вялікія, і на палу ж спалі дзеці. Дак вот, дзіцей паложаць спаць, праснуцца, а между імі вуж ляжыць. Не забівалі вужэй, наабарот, вот каторыя дажа малаком іх паілі,налівалі ім малако. Аж тады, гавораць, што нічога не рабілі ім, не трогалі” (Лагвінец Аляксандра Кузьмінічна, 1940 г.н., в. Судкова )

Цікава, што ў народнай традыцыі іншасвет таксама будаваўся па мадэлі сямейных адносінаў: “Гэта дочкі вадзяногa” (русалкі) (Пальцава Аксана Мікалаеўна, 1956 г.н., г. Хойнікі), “Русалкі шчэ некія былі. Балота ў нас колісь было, дык яны там жылі. Гэта тыя жанчыны, якія ўтапіліся самі і сваіх дзяцей утапілі. Іх калісь мужыкі бачылі, што сена касілі. Казалі, учулі дзіцячы крык,. Яны да яго, а яно далей. Шукалі ў траве, а дзіця ўжо каля ракі. Падкраліся, а там на паваленым дрэве дзеўка сядзіць і дзіця дзержыць на нагах, а сама косы чэша” (Харошка Яўгенія Адамаўна, 1928 г.н., в. Вялікі Бор).

Сустракаюцца на Хойнікшчыне і міфалагічныя звесткі, запісаныя ад дарослых інфарматараў, якія апавядаюць аб сваём дзяцінстве: “Дамавік жыве ў хаце. Чую што стукае. Я толькі бачыла, як была дзіцём. Хлопец памёр. Што я ўбачыла – на фортачке высокі мужчына ў белым, падаходжу ды паздаровалася – ён маўчыць. Я ўзяла, ды пабегла” (Краўчанка Вольга Яўціхаўна, 1941 г.н., в. Судкова, перасяленка з в. Пагоннае, выселенай вёскі).

Адзначым таксама, што дзіця на Хойнікшчыне ўспрымалася выключна чыстым, аб чым сведчыць тэкст замовы ад кашлю: “Трэба казаць яе па тры

разы, раніцай, вечарам і раніцай наступнага дню. Пасля кожнага яе казання хворы павінен праглынуць сліну, а калі лечаць дзіцяці, трэба праглынуць за яго…" (Цярэшчанка Ева Мікалаеўна, 1925 г.н., в. Храпкава). Менавіта такі стан выключнай чысціні, сакральнасці малога дзіцяці ("Ангел – гэта свяціцель. Гэта дзецкі, як кажуць, забаўляе дзіцяці" (Марчанка Юлія Панцелееўна, 1939г.н., в. Кірава Жлобінскага р-на, перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на)) дае падставу ўдзельнічаць яму ў самых важных момантах вясельнага абраду.

Лакальнай асаблівасцю мясцовага вяселля з'яўляецца тое, што каравай маладым выносіць хлопчык альбо дзяўчынка з хлопчыкам: "А еслі разам гуляюць свадзьбу, то ўсё роўна пякуць два караваі. Выходзяць два хлопчыкі, нежанатыя, падростачкі, яны нясуць каравай на галаве на падносе, ставяць ужо той каравай, і ім даюць гасцінца на дарогу" (Краўчанка Ксенія Паўлаўна, 1936 г.н., в. Валокі, цяпер г. Хойнікі). "Каравай абязацельна нес мальчык і дзевачка, малыя ў смыслі, не такія ўжо саўсім маленькія. Не маглі яны несці, ну, там старшы хто-та ішоў, паддзержываў, памагаў" (Лагвінец Аляксандра Кузьмінічна, 1940 г.н., в. Судкова, перасяленка з в. Дворышча), "Каравай учынялі ў дзяжы з вады і мукі, не салілі. На лапату клалі дубовае лісце і каравай садзілі. Хто рабіў балбушачкі, цыцачкі такія, дзелалі круглыя і даюць дзецям. Абычна хлопчыкі і дзевачкі сабіраюцца, дык даюць ім. Ета яшчэ як не ехалі вянчацца. Каравай вынімаў хлопчык, і калі ішлі яго дзяліць, то выносілі яго над галавой хлопчыка…" (Гардзіенка Марыя Пятроўна, 1919г.н., в. Клівы).

Матывамі дзетанараджэння, прадаўжэння роду прасякнуты ўсе абрадавыя этапы вяселля: "За сталом тосты гаварылі: "Дару калыску і кручок, штоб было сем сыноў і пяць дачок" (Лагвінец Аляксандра Кузьмінічна, 1940 г.н., в. Судкова, перасяленка з в. Дворышча), "Сколькі ў лесе пянькоў, штоб у маладых було столькі сынкоў!", "Дарую каробку гліны, штоб пазвалі на хрысціны!" (Навуменка Ганна Мікалаеўна, 1937г.н., в. Вялікі Бор). "На втары дзень всегда кідаюць медзь, каб дзеці булі як мядзведзі. Грошы лажылі маладой за пазуху" (Харошка Галіна Аляксееўна, 1951 г.н., в. Вялікі Бор).

Дзеці прысутнічалі разам з дарослымі таксама і ў самыя трагічныя, цяжкія моманты жыцця (напрыклад, падчас пахавання): "Партрэты мёртвага таксама закрываюць ці пераварочваюць. Там, дзе он ляжаў, калі яго снімуць, садзяць самага блізкага яму чалавека, ці матку, ці жонку, ці дзяцей, - каб яго быстрэй забыць" (Прышчэп Ніна Мікалаеўна, 1933 г.н., г. Хойнікі).

На Хойнікшчыне існуе шмат уяўленняў, якія звязаны з русалкай, і якія датычаць непасрэдна дзяцей. Некаторыя звесткі дазваляюць нам зразумець, чаму так хутка хрысцілі дзяцей: "…Калісь казалі, дзіця памрэ – ідзе ў русалку. Дзіця было нехрышчонае, таму хутчэй хрысцілі дзяцей" (Дземідзенка Кацярына Іванаўна, в. Вялікі Бор); "Па павер'ях, русалкі – ета душы памершых дзетак. Яны булі нехрышчонымі" (Кавалёва Яўгенія Іванаўна, 1929 г.н., в. Глінішча); "Па народных павер'ях, русалкамі лічыліся дзяўчаты, якія памерлі на русальным тыдні або якіх матка пракляла, а

таксама тапельніцы і маленькія нехрышчоныя дзяўчынкі.Пагроза, што русалка можа заказытаць таго, хто палезе ў жыта, асабліва палохала дзяцей" (Еўжанка Любоў Аляксандраўна, 1950 г.н., г. Хойнікі).

Русалкай таксама пужалі: "Ідзі, ідзі, там цябе русалка з'есць!" (Івасюк Ганна Іванаўна, 1925 г.н., в. Алексічы); "Ну вот, мы з мамкай картошку акучваем, а жыта трасецца, ды мы малыя былі, баяліся, што русалка там, уцяне нас. І мамка гаворыць, калі што леніліся: "Будзеце неслухамі, дык аддам вас русалкам, зацянуць яны вас у балота"" (Андрэйчык Любоў Захараўна, 1953 г.н., в. Дворышча), "Бабкі страшылі дзяцей, каб у жыта не хадзілі, бо русалка заслакоча. Тыя баяліся рваць каласы. Рабілася гэта, каб захаваць пасад" (Краўчанка Васіль Марцінавіч, 1918 г.н., в. Старая Дуброва Акцябрскага р-на, нарадзіўся ў в. Веляцін Хойніцкага р-на), "Дзецям бацькі казалі, каб тыя не хадзілі ў гарод, бо там русалка жалезнаю цыцкаю накорміць" (Лашкевіч Надзея Адамаўна, 1925 г.н., в. Вялікі Бор), "Толькі вот Пікуліха і Пінішчы, дзе перасечана дарога, ходзіць там дзіця гадкоў пяці, коскі распушчаныя, і пераходзіць дарогу. Конь дыбака, і ўжо так спужаліся, і давай Богу маліцца, васкрэсную малітву чытаць. Яна як шла, так і пайшла ў жыта, а жэншчына дзёрнула каня, пайшоў, і даіхала дадому. Еслі дзіця родзіцца да нехрышчона ўмрэ – ета і ёсць русалка. Вот то яно няшчаснае і блукаецца, яно мо і нікому нічога, но ўсё-такі праціўна ўстрэціць такое, бояска" (Корбіт Вольга Адамаўна, 1914 г.н., в. Слабажанка).

У той жа час дзеці ўдзельнічалі ў абрадзе ваджэння русалкі: "Яшчэ калі-та рабілі так. Нападобіі, як сажа, абмазывалі русалку. Дык як ідзе наперад, дак яна хоча каго-та ўкусіць. Дак уцякалі дзеці.." (Касюга Галіна Іванаўна, 1949 г.н., в. Стралічава), "Ну вот, а уже в суботу бабкі ідуць за травкамі ў лес, яшчэ малых з сабою бралі, а женшчіны і дзеўкі не шлі" (Андрэйчык Любоў Захараўна, 1953 г.н., в. Дворышча), "Малыя бегалі каля русалкі, хваталі яе за рукі, за сарочку, за качаргу і крычалі: "Русалка, русалка, пашлакаці мяне!"" (Васіленка Ганна Лявонаўна, 1919 г.н., в. Аравічы )

Відавочна, без дзяцей рэдка калі адбывалася якое-небудзь вялікае свята, напрыклад: "Гэты празнік называлі – Іван Купала. У ім гулялі ўсе – і дарослыя, і дзеці" (Судзенка Вольга Васільеўна, 1952 г.н., в.Віць, нарадзілася ў г. Данецку).

Удзел дзяцей у вяселлі, пахаванні, іншых разнастайных сямейных і каляндарных абрадах, якія арганізуюць, цэментуюць жыццёвы лад мясцовых жыхароў, сведчыць аб нязмушанасці, звычайнасці, і важнасці далучэння малодшых да традыцый, якія бытуюць спаконвеку.

* Выкарыстаны матэрыялы з фальклорнага архіва кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф.Скарыны.

## ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР

Калі я была маленькая, то мне мая мама спявала такую калыханку:

Баю-баюшкі-баю,
Не лажыся на краю,
Прыдзя серанькі ваўчок,
Кусіць Нінку за бачок.

Цяпер такую песню я спяваю свайму дзіцяці, а яшчэ чытаю яму розныя казкі.

Калі мы ідзём па вуліцы гуляць, то я гавару такі шапаток на дзіця, штоб ні куды ні збег і нічога з ім не случылась: "Иди, дитя гуляй, себя не потеряй; Господь тебя сбережёт, назад ко мне вернёт. Аминь".

Гульні майго дзяцінства былі такія, як, напрыклад, "Жмуркі". Мы сабіраліся на вуліцы. Потым па лічылкі выбіралі, хто будзе жмурыцца. Адзін жмурыцца, а астатнія хаваюцца. Той, хто жмурыцца, гаворыць: "Адзін, два, тры, чатыры, пяць, я іду шукаць".

А мы за гэта врэмя павіны захавацца. Той, хто жмурыцца, пачынае нас шукаць. Каго знойдзе первым, той жмурыцца.

Лічылка: "На залатым крыльцэ сядзелі царь, царэвіч, кароль, каралевіч, дварэцкі, партной, хто ты будзеш такой? Ку-ку-ку, выбірай сваю руку". У таго ў каго астанецца рука, той і жмурыўся.

Гулялі таксама і ў мячык, і ў даганялкі, і ў маці-дочкі.

А яшчэ калі ўвечары ждалі кароў с пашы, мы, малыя, сядзелі побач з нашымі матулямі і спявалі ім песні. Рабілі канцэрт. Гэта былі самые розные песні.

Дражнілкі таксама былі розныя. Напрыклад, такія:

Жадзіна-гавядзіна,
Салёны агурэц,
Па палу качаецца,
Ніхто яго не з'есць.

Андрэй – верабей,
На каню катаўся.
Рукі-ногі паламаў,
Без трусоў астаўся.

Рова – карова.
Наташа – каша.

**Загадкі**

1.Глянеш – заплачаш, а ўсе яму рады. (Сонца)

2. Без рук, без ног, а маляваць умее. (Мароз)
3. Не цяпло, але паліцца. (Крапіва)
4. Зімой беленькі, а летам шэранькі. (Заяц)

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Чорная купіна, красная залупіна
(каша ў гаршку).

У дзеда вісіць, а ў бабы ззяе,
Хто ідзе той чапляе. (Вочап і калодзеж).

***Запісана ў в. Слабажанка (ранней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Бусел, бусел клекатун,
Цягні бабу за нагу,
А дзеда за косы,
Каб не бегаў босы.

Дожджык, дожджык,
Перастань, я паеду на Кубань.

Кую-кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Трэба ножку падкаваць
Каб далека начаваць

Дзюк-дзюк, дзаначкі,
Села Надзя на саначкі.
Села на цялежкі,
Паехала бежкі.

Тосі, тосі, свінні ў гаросе.
Не ўсе, не ўсе: палавіна ў аўсе.

Люлі, люлю,
Усе дзеці паснулі.
Не спіць толькі Каця
Ходзіць па балоце

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Галіны Аляксееўны, 1951 г.н.,***
***студэнткамі Бяспалай М., Харошка Н.***

З дзецтва помню толькі адну песенку-дражнілку:

Буська, буська, клекатун
Ухапіў бабу за каўтун,
А дзеда – у балота,
Каб закутаў плота.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сацуры Кацярыны Яўменаўны, 1944 г.н.,***
***студэнткамі Клочка А., Руковіч В.***

**Калыханка**

Пайшоў коцік ў лясок,
Найшоў коцік паясок,
Штобы люльку падчапіць,
Каб Ваньку ў люльку палажыць.
Ванька будзе крэпка спаць,
Коцік будзе калыхаць.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

*Наталля ПАНКОВА*

# ПРЫКАЗКАВАЕ БАГАЦЦЕ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА

Час бяжыць хутка. Жыццё віруе і часам здзіўляе нас сваімі нечаканымі паваротамі. Мы нават не паспяваем заўважаць, як хутка ўдасканальваюцца тэхнічныя сродкі, нікога не здзівіш зараз і наяўнасцю ў доме камп’ютэра і інтэрнета. Змяняюцца і жыццёвыя каштоўнасці. І ўсё ж, на нашу думку, ёсць нешта вечнае, што з’ядноўвае людзей розных эпох і пакаленняў. Гэта тая мудрасць, якая назапашана дзядамі і прадзедамі, і якую мы, асабліва ў маладосці, неасабліва і ўспрымаем, але, пасталеўшы, нечакана для сябе сутыкаемся з жыццёвымі сітуацыямі, якіх можна было б пазбегнуць, прыслухайся мы, напрыклад, да народных выразаў: Замуж ісці – нада знаць: позна легчы, рана ўстаць; Закінь наперад – ззаду знойдзеш; Лішняга і свінні не ядуць і інш.

Што ж гэта за такія мудрыя выразы? Называюць іх па-рознаму: прыказкі, прымаўкі, або проста – прыказкавыя выразы. У навуковай літаратуры існуюць розныя азначэнні гэтых паняццяў. Некаторыя навукоўцы лічаць, што прыказка – гэта “шырока ўжываемы ў гутарковай мове ўстойлівы народны выраз-афарызм, які ў завершанай, сціслай, найчасцей вобразна-паэтычнай форме і пераважна ў пераносным сэнсе, абагульняючы шматвяковы вопыт народа, выказвае катэгарычнае меркаванне пра тыя або іншыя гаспадарчыя, сацыяльна-гістарычныя і бытавыя з’явы, характарызуе і ацэньвае іх, павучае і дае практычныя парады” (1, 8). У той жа час, азначальнымі прыметамі прымаўкі называюць звычайна тое, што яна выказвае думку няпоўна, не служыць абагульненнем з’явы, а толькі вобразна характарызуе яе, падкрэслівае які-небудзь характэрны яе штрых. Між іншым, размежаванне гэтых паняццяў, відаць, у большай ступені важна самім навукоўцам, чым людзям, якія іх штодзённа ўжываюць у сваім маўленні.

Намі былі прааналізаваны прыказкі і прымаўкі, запісаныя студэнтамі і выкладчыкамі ўстановы адукацыі “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны” падчас фальклорнай практыкі ў гэтым рэгіёне (матэрыялы падаюцца ніжэй). Пра што ж прыказваюць у Хойніцкім раёне? Калі сказаць зусім каратка – пра жыццё. Пры гэтым большасць пыказкавых выразаў носіць павучальны характар, бо вельмі важна было навучыць моладзь разумна жыць, а гэта значыць, на думку нашых продкаў, рабіць дабро (“Закінь наперад, ззадзі знойдзеш”), не ўмешвацца ў справы іншых людзей (“Не суй носа ў чужое проса, бо куры адклюють”), добра працаваць (“Грэе не шуба, а праца”), быць асцярожным у словах (“Еш боршч з грыбамі, а язык дзяржы за зубамі”), разборліва ставіцца да выбару мужа (жонкі) (“Краса да вянца, а дурань да канца”), не браць чужога (“На чужы каравай рот не разяўляй”) і інш.

Як адзначаюць многія даследчыкі малых фальклорных жанраў (а прыказкі і прымаўкі адносяца менавіта да іх), гэтыя выразы адрозніваюцца звышінфарматыўнасцю, што пацвярджаюць і прааналізаваныя намі выслоўі. Калі больш канкрэтна, то найбольш шырока прадстаўлены сярод запісаных

выразаў прыказкі і прымаўкі пра ўнутрысямейныя адносіны. Паводле народных ўяўленняў, стварэнне сям'і – справа сур'ёзная і неабходная: "Замуж не ісці – людзям на пагаворку", але часта пры гэтым маладых людзей папярэджвалі: "Не спяшы замуж: калі плоха – нагаруешся, а калі добра – нажывешся". Ну а калі пажаніліся…. Тут ужо як пашчасціць: "Не патрэбны і клад, калі ў сям'і лад", "Няма лучшага прыяцеля, як жонка" або "Муж не вуж, а кроў высмакча", "Паганая жонка – мужу чорная заслонка", "Жонка не рукаво – не адпораш". Выхаванню дзяцей у сям'і таксама адводзілася значнае месца, бо, як слушна заўважалі людзі, "Сумеў дзяцей нарадзіць, дык сумей і навучыць", а "Таму, хто ў дзяцінстве не шанаваў бацьку і маці, не давядзецца пазнаць пачоту ад свайго дзіцяці".

Акрамя таго, у прыказках і прымаўках Хойніцкага рэгіёна выяўляюцца погляды народа на рэчаіснасць: "Добра ўсё умець, ды не ўсё рабіць", "Куды іголачка, туды і нітачка". Далучаюцца да гэтай групы выразы, у якіх прасочваецца прадвызначанасць лёсу нейкай звышнатуральнай сілай: "Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе", "Сваю долю канём не аб'едзеш" і інш.

Даволі вялікі пласт сярод запісаных складаюць прыказкі і прымаўкі, у якіх ухваляецца працавітасць ("Дзе пасееш густа, там ніколі не будзе пуста", Пад ляжачы камень вада не цячэ"), гасціннасць ("Госцю гадзі да й сябе глядзі"), розум ("Разумнай галаве дастатачна два слоўцы"), здароўе ("У здаровым жываце і долата прападзе") і іншыя станоўчыя якасці чалавека.

Ну а што тычыцца заган, то народ высмейвае п'янства ("П'янаму і мора па калена"), гультайства ( "У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі"), дурасць ("Вырас да неба, а дурны, як трэба") , сквапнасць ("Жадны за капейку задавіцца") , ілжывасць ("Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць"), карацей кажучы, усё тое, што перашкаджае нармальна жыць і працаваць.

Ну і ў асобную групу вылучаюцца розныя назіранні за прыродай, што з'яўляюцца свайго роду метэаралагічнымі і агранамічнымі ведамі, набытымі многімі пакаленнямі: "Сей на Пахом, возьмеш усяго мяхом", "Прыйшоў Пятрок, адарваў першы лісток", "З бальшой хмары дажджу не бывае".

Варта адзначыць таксама, што некаторыя выразы, на нашу думку, страцілі ўжо сваю актуальнасць, напрыклад такія, як "Бабе дарога ад печы да парога", "На ўраджай не ўпавай, а жыта сей" (на Беларусі быў звычай, калі арандатар пакідаў месца, то павінен быў усё роўна засеяць жыта), "Да Юр'я сена павінна быць і ў дурня" і некаторыя іншыя. І ўсё ж не варта пакідаць іх па-за ўвагай, бо гэтыя выслоўі захоўваюць памяць аб мінуўшчыне і даюць нам уяўленне пра жыццё і побыт продкаў.

Як бачым, прыказкі і прымаўкі, запісаныя ў Хойніцкім раёне, нясуць інфармацыю пра штодзённае жыццё, працоўную дзейнасць, быт і светапогляд народа, яны вучаць маладое пакаленне мудрасці. Акрамя таго, яны пацвярджаюць філасофскую скіраванасць народнага мыслення, высокую ступень паэтычнага асэнсавання навакольнага свету і вызначэння свайго месца ў ім.

1. Грынблат, М. Прыказкі і прымаўкі / Прыказкі і прымаўкі ў дзвюх кнігах, кн. 1./ Рэд. А.С. Фядосік. – Мінск: Навука і тэхніка, 1976. – 560 с.

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Лішняга і свінні не ядуць.
П'янаму і мора па калена.
Добра ўсе ўмець, ды не ўсё рабіць.
Чужы дурань – смех, а свой дурань – грэх.
Каму пашанцуе, той і ў лапцях танцуе.
Куды іголачка, туды і нітачка.
Пакуль жаніцца, дык загаіцца.
Яблыка ад яблыні далёка не падае.
Ведае кошка, чыё сала з'ела.
Ці пнём па галаве, ці галавой аб пень.
Жонка не рукаво – не адпораш.
Была б шыя – хамут знойдзецца.
Ты яго маслам маж, а ён дзёгцем смярдзіць.
Свет настаў, што ні палажы, ні пастаў.
Раней бацькі ў пекла не лезь.
На чужы каравай рот не разяўляй.
З ваўкамі жыць – па-воўчы выць.
Хто каго любіць, той таго і губіць.
Дзе чорт не зможа, туды бабу пашле.
Якія самі – такія і сані.
Пад ляжачы камень вада не цячэ.
Госцю гадзі, да й сябе глядзі.
Хто позна ходзіць, той сам сабе шкодзіць.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Мельнікавай Марыі Ягораўны, 1925 г.н.***

Замуж ісці – нада знаць: позна легчы, рана ўстаць.
Закінь наперад – ззаду знойдзеш.
Не суй носа ў чужое проса, бо куры адклююць.
Краса да вянца, а дурань да канца.
Замуж не ісці – людзям на пагаворку.
Не спяшы замуж: калі плоха – нагаруешся, а калі добра – нажывешся.
Грэе не шуба, а праца.
Не патрэбны і клад, калі ў сям'і лад.
Няма лучшага прыяцеля, як жонка.
Муж не вуж, а кроў высмакча.
Паганая жонка – мужу чорная заслонка.
Жонка не рукаво – не адпораш.
У здаровым жываце і долата прападзе.
У няўмечкі не баляць ні ручкі, ні плечкі.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***

***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

Вырас да неба, а дурны, як трэба.
Жадны за капейку задавіцца.
Сей на Пахом, возьмеш усяго мяхом.
Прыйшоў Пятрок, адарваў першы лісток.
З бальшой хмары дажджу не бывае.
Бабе дарога ад печы да парога.
На ўраджай не ўпавай, а жыта сей.
Да Юр'я сена павінна быць і ў дурня.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая слабада) ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н., студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Ад дабра дабра не ішчуць (шукаюць).
Ад сумы ды ад турмы не заракайся.
Абяцанка-цацанка, а дурню радасць.
Ад работы коні дохнуць.
Адзін у полі не воін.
Адна галава добра, а дзве – лепш.
Апетыт прыходзіць у час яды.
Бачыць вока, ды зуб не іме.
Беражонага Бог беражэ, а не беражонага сцеражэ.
Біць б'юць, а плакаць не даюць.
Бачылі вочы, што бралі, а цяпер няхай хоць павылазяць.
Блізка відаць ды далёка дыбаць.
Бясплатны сыр толькі ў мышалоўцы.
Бачыць – яшчэ не мець.
Без труда не выцягнеш і рыбку із пруда.
Бог даў, Бог узяў.
Бог рогі накіне і іх насіць будзеш.
Будзе дзень і будзе пішча.
Балючую душу гарэлкай не сагрэеш.
Багатаму чорт дзяцей калыша.
Воран ворану вока не выклюе.
Вось табе бабуля і "Юр'еў дзень".
Век жыві, век вучыся, а дурнем памрэш.
Воўк не авечка, у хлеў не загоніш.
Воўка ногі кормяць.
Вырас пад неба, а дурань як трэба.
Гарэлка не вада, многа не вып'еш.
Гавары, да пары гавары.
Гора таму, хто б'е ў хамут.
Гора таму, хто п'е наяву.
Гусь свінне не таварыш.

Гадка з’есці, жалка кінуць.
Гарэлку піць – людзей смяшыць.
Добрыя вочы трапілі і ўночы.
Добрае бачыцца здаля.
Дурнога салаўя – дурная песні.
Дурны прыклад заразлівы.
Добра гаварыць, калі не баліць.
Добрая мысля прыходзіць апасля.
Знаў бы прыкуп – жыў бы ў Сочы.
З’еш і вала дык адна хвала.
З міра па нітцы – голаму сарочка.
Запас бяды не чыніць.
За дурною галавою няма нагам спакою.
За морам і цялушка палушка.
Здолеў жаніцца, здолей і перахрысціцца.
За двума зайцамі пагонішся ніводнага не зловіш.
Залез у нерат: ні ў зад, ні ў перад.
Збылася мара ідыёта.
Згубіўшы галаву па валасах не плачуць.
Калі топішся за саломінку схопішся.
Кожны сам шукае сабе сялёдачную галоўку.
Клін клінам выбіваюць (вышыбаюць).
Куды ні кінь – усюды клін.
Касі, каса, пакуль раса. Раса спадзе – каса ўпадзе.
Колькі воўка не кармі ён усяроўна ў лес паглядае.
Кожнаму овашчу свой фрукт.
Колькі вяровачцы не віцца, канец заўсёды будзе.
Курыца не салавей, высока не ўзляціць.
Курыца не пціца, а Польша не заграніца.
Кожная курыца пад сябе грабе.
Куды ноч туды і сон.
Колькі ні гавары, а ты ўсё дагары.
Капейка рубль беражэ.
Кажух ляжыць, а дурань дрыжыць.
Кожны кулік сваё балота хваліць.
Куды ні кінь – усюды клін.
Любіць як душу, а трасе як грушу.
Муж і жана адна сатана.
Мялі, Ямеля – твая нядзеля.
Мякка сцелеш ды мулка спаць.
Мая хата з краю, нічога не знаю.
Не падмажаш – не паедзеш.
Не знаеш броду – не лезь у воду.
Не лезь наперад бацькі ў пекла.
Не дай Бог свінне рогі, а мужыку панства.

Не ў свае сані не садзісь.
Не ўсё кату Масленіца, наступіць і Пост.
Не грыб, не лезь у каробку.
Не кажы “Гоп!” пакуль не пераскочыш.
Няма ума лічы калека.
Няма таго, што раньш було.
Не ўсё тое золата, што блішчыць.
На халяву і трэска смашная.
Нязваны госць хужэй татарына.
Ну, і нос! Тром рос, а аднаму дастаўся.
Няхай адсохне тая рука, якая сабе дабра не жадае.
На чужы раток не накінеш платок.
На чужы каравай рот не разявай.
Не бяры чужога і не бойся нікога.
Не было б шчасця ды няшчасце памагло.
На чужым няшчасці свайго не пабудуеш.
Няма мазгоў – свае не ўставіш.
Натуральная сляза, што Божая раса.
Ні Богу свечка, ні чорту качарга.
На вкус і цвет таварыша нет.
Не пакідай на заўтра тое, што можна зрабіць сёння.
Па вусах цякло, а ў роце не было.
Пасля дракі кулакамі не машуць.
П’яніца праспіцца, а дурань не здзівіцца.
Пакуль гром не гране, мужык не перахрэсціцца.
Пакуль сонца ўзыдзе, раса вочы выесць.
Прыйшла бяда – адчыняй варата.
Прымачы – хлеб сабачы.
Пісаў пісака, не прачытае чытака.
Падлецу ўсё к ліцу.
Рэшатам вады не наносіш.
Раней сядзеш, раней выйдзеш.
Рыхтуй сані летам, а калёсы зімой.
Рука руку мые.
Работа не воўк – у лес не ўцячэ.
Растаўляй карман шырэй.
Рыба гніе з галавы.
Смашная, жоначкі, каўбаса, а калі на дурніцу ды і зусім.
Скупы плоціць двойчы.
Сядзіш, як сарока на суку.
Сядзіш, як мыш пад венікам.
Сядзіш, як грыб пры дарозе.
Суня мяне Божа, куды мне не трэба.
Семера аднаго не ждуць.
Сем з ложкай, адзін з сошкай.

Сем бед – адзін атвет.
Свой бiся, ругайся, а чужы не мяшайся.
Сем раз адмерай, адзін атрэж.
Свой сваяка бачыць здаляка.
Стары ды малы розум аднолькавы маюць.
Слова не верабей, выпусціў не зловіш.
Стыд не дым, вочы не выесць.
Спераду кінеш, ззаду знойдзеш.
Свая сарочка да цела бліжэй.
Сонца свеціць ды не грэе.
Свая ноша не цяжкая.
Табе, мамка, навука: калыхала мяне, калыша і ўнука.
Табе гора, а дурню радасць.
Твая турбота, што мёртваму прыпарка.
Уваляўся ў вялікую славу, як свіння ў гразь.
У чужым воку і сарынку бачыш, а ў сваім і бервяно не відно.
У кожнай бочцы затычка.
У чужым супе і рак рыба.
У закрыты рот камар не заляціць.
У няўмелага рукі не баляць.
У сямі нянек дзіця безносае.
Хто ў полі не воін, той дома не гаспадар.
Хочаш жыць – умей вярцецца.
Хто рана ўстае, таму Бог дае.
Хто болей спіць, той меней з’есць.
Хто першы ўстаў, таго і тапачкі.
Хутка вароны лятаюць ды ніколі дома не бываюць.
Чалавек шукае, дзе лепей, а рыба – дзе глыбей.
Чакай Пятра – сыру з’ясі.
Чыя б кароўка мычала, а твая б маўчала.
Чула звон, ды не знаеш, дзе ён.
Чым дабру прападаць, няхай бруха лопне.
Чорт сто лапцей сарваў, пакуль да пары сабраў.
Чакай пакуль рак свісне.
Што рускаму добра, то немцу смерць.
Што малы зносіць, а п’яны з’есць – тол адзін.
Што пасееш, тое і пажнеш.
Што ў цвярозага на ўме, тое ў п’янага на языку.
Як сіраце жаніцца, дык і ноч кароткая.
Яблычка ад яблані далёка не коціцца.
Якая дошка такі і клін, які бацька, такі і сын.
Як зяць за парог, дык цёшча за яйца.
Язык, што тое памяло: і пабрэша, аббрые.
Язык мой – вораг мой.
Я не людзі, але ж і ты не чалавек.

Яшчэ і марац адмарозіць палец.

***Запісана ад Генаш В.С., 1946 г.н.,***
***ураджэнкі в. Алексічы Хойніцкага р-на***

*Валянціна НОВАК*

## НАРОДНАЯ МІФАЛОГІЯ

Міфалагічныя ўяўленні жыхароў Хойнікшчыны – важная частка духоўнай культуры. Галоўнай крыніцай гэтых звестак з’яўляюцца вусныя аповеды жыхароў, з якіх можна дазнацца як пра іх шчырыя вераванні, звязаныя з персанажамі ніжэйшай міфалогіі, так і з рэчыўным, жывёльным і раслінным светам. Засяродзім увагу на дэманалагічных уяўленнях, якія адрозніваюцца ўстойлівым характарам бытавання.

Захавалася і сёння сярод мясцовых жыхароў вера ў ваўкалака, вобраз якога яны адносілі да антрапаморфных: “Ваўкалак – чалавек, ператвораны ў ваўка”. У в. Людзвін верылі, што толькі пры ўмове скокаў праз якія-небудзь зачараваныя рэчы можна чалавеку ператварыцца ў ваўка: “Ваўкалакі – гэта людзі, каторыя могуць станавіцца ваўкамі пры дапамозе скокаў праз зачараваныя рэчы” (запісана ад Лобан Юліаны Антонаўны, 1930 г.н.).

Ведзьма паводле народных уяўленняў, спалучае ў сабе рысы і рэальнай жанчыны, і дэмана. Жыхары Хойнікшчыны адзначалі такія шкодныя ўласцівасці гэтага персанажа, як здольнасць адбіраць у кароў малако, рабіць заломы. Невыпадкова на Купалле, калі асабліва высокай была актыўнасць ведзьмаў, “хлявы абтыкалі крапіваю”, “абсякалі” хлеў пасвечаным макам-відуком (в. Судкова). Паводле сведчанняў мясцовых жыхароў, ведзьма магла ператварацца ў жабу, свінню, ката.

# НАРОДНАЯ МІФАЛОГІЯ

## Вадзянік

Чула, што вадзяны ёсць такі, жыве ў вадзе. Нашы баба з дзедам страшылі: “Калі будзіце купацца – вадзяны ўтопіць”. А ці праўда гэта, ці не?

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пілінаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Было штосьці на возеры. Вот гукае: “Бум, бум, бум”. І гаворым: “Што ж такое?” І людзі сталі гаварыць, што гэта вадзяная пціца. Пахадзіла, гукае. Што яна гукае? І патом ісчэзла. Пціцу называлі бугай. Мы казалі: “Што-та ёсць пад вадой”. Асобенно утрам, толькі на рассвеце.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Каля вады во так стаіш во, кажацца, што хтосьці паказаўся дзяўчатам. Паселі, глядзім, пазналі. А ён боўтае ў той вадзе, боўтае. Вот, кажацца, нібыта як цень. Пасядзелі, пасядзелі, і нічога не знайшлі.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.***

Вадянік – дух, які жыве ў рэчцы ці возеры. Яго любімыя месцы – гэта віры. Чалавека, які пападае ў вір, вадзянік уцягвае на дно і топіць. Жыве вадзянік на глыбокіх ці зарослых камышом месцах.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)***

## Бог

Бог ё, Бог рукавадзіць намі ўсімі. Хто заслужвае, той пападзе ў рай, а хто не – той у пекла. Душа ідзе ўгору. Той, хто не ўкраў, не пазавідаваў, і то не ведамо, ці пойдзе ў рай, а ці не? Мо і мая душа будзе кіпець у смале?

Бог дае розум, шчасце, рашае, кім радзіцца чалавек. Адзіны Бог рукавадзіт гэтым зялёным шарам.

## Рай і пекла

Багач жыў ва ўсіх удовольствіях, а бедны Лазар ляжаў бальной, і багач не даў кусок хлеба яму. Лазар папаў у рай, а багач – у пекла.

Глаўное – любіць бліжняга. Адзін спрашуе ў Хрыста: “А хто ў мяне бліжні?” Хрыстос даў прымер: ішоў чалавек, і на яго напалі бандзіты, і ізбілі

яго, і кінулі. Патом ехаў чалавек, паглядзеў, кінуў і паехаў. І другі так, а трэці чалавек быў із Самары. Ён паглядзеў да за яго і на свайго асла пасадзіў, да абмыў, завёз яго, заплаціў, штоб прадзяржаўся. Вот это той самы бліжні.

**Адамаў яблык**

Адам з Евай саграшылі. Гэта первыя чалавекі. Іх Гасподзь паставіў у саду, усё разрашыў у садзе, акрамя аднаго запрэта. А падашла змяя і кажа: "Паслухай, калі з'ясі гэты яблык, будзеш багіня". А Ева не паслухала Бога і саграшыла, дала Адаму яго ўкусіць і паэтаму так называецца "Адамаў яблык".

**Нячыстая сіла**

Маразюкі – два браты, абодва зналі і паспорылі на што-та. А тады ската многа дзяржалі на падвор'і, і скот у аднаго выдах. Ён, другі брат, паехаў ужэ і к бальшому знахару да і расказвае. А знахар гаворыць: "Ето зрабіў табе твой брат". Да і спрашуе яго: "Што яму рабіць?" А брат атвячае: "Тое зрабі, што ён мне зрабіў". Аж назаўтра ў таго скот падох.

**Чарнакніжнік**

Адзін чалавек узяў кнігу. Там пішацца, што нада ўзяць чорнага ката, зварыць у кіпячоным малаке і выбраць там такую костачку, якая там была і якая ўжэ паможа етым знахарствам занімацца. Ён усё зрабіў, лёг спаць. Праснуўся і кругом яго ляжаць і каты, і сабакі, і вужы, і яшчарацы. Ён спужаўся і кінуў сваё знахарства.

***Запісана ў в. Шыічы Калінкавіцкага р-на***
***ад Бараш Марыі Іосіфаўны, 1920 г.н.***
***(перасяленка з в. Кажушкі Хойніцкага р-на),***
***студэнтамі Кандратовіч А., Шаўсцюк І.,***
***Кавалёвай К., Бародкінай А., Костачка І. (2005 г.)***

**Ваўкалак**

Ваўкалак – чалавек, ператвораны ў ваўка. Ведзьмары маглі быць. Другі раз іншых ператваралі, словы нейкія казалі і станавіліся імі. Для гэтага трэба буў пэўны час. Уночы звычайна пераўтвараліся, але не наўсягда. Хто толькі ўночы, другія – па некалькі гадоў. Цяпер пра такое не чутна, а раней, дык часта казалі. Як вядзьмар, дык ваўком рабіўся, шкоду якуюсь рабіў. А як другіх пераўтвараў, дык тыя не шкодзілі, а наадварот. Больш на сабак пахожыя яны. А як тыя словы забываўся, ну, замову, дык так і аставаўся той чалавек ваўком.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Апанасюк Соф'і Уладзіміраўны, 1939 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ваўкалакі – гэта людзі, каторыя могуць станавіцца ваўкамі пры дапамозе скокаў праз зачараваныя рэчы. Тое, што ведзьмы і калдуны скачуць праз нажы, усе ведаюць.

У нас быў адзін такі вядзьмак, які часта рабіўся ваўкалакам. А чаму рабіўся? Гэта яго так сквапнасць ператварала. Ён заўсёды і ўсім зайздросціў. Таму па начах бегаў і душыў скот сваіх суседзяў, а аднойчы і аднаго чалавека загрыз, бо той стаў багацейшым за яго. Гэтага ўжо людзі сцярпець не змаглі. Аднойчы падгледзелі яны тое месца, на якім ён ператвараўся, а калі той пабег, то адзін нож вытыркнулі з зямлі і закінулі яго ў возера. А самі пачалі чакаць, калі ж з'явіцца той калдун. І вось з'явіўся той перавярэцень, скокнуў тры разы. І тут здарылася для яго нечаканае: усё цела было чалавечае, акрамя ног. Вядзьмар стаяў і ўсё глядзеў на свае лапы, не могучы зразумець, што такое здарылася. А мужыкі, што чакалі яго прыходу, выйшлі з-за кустоў і забілі тую пачвару.

***Запісана ў в. Людзвін***
***ад Лобан Юліяны Антонаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Шаўко І.***

**Ведзьма**

Ведзьма – ета толькі звярок такі ў лесе, дык і гавораць "ведзьма" і болей нічога.

Ведзьмай яшчэ называюць знахарку. Вот што я вам раскажу.

Вот мая карова малака не дае, што-та з ёй плоха. А Анюту я знаю, што яна там такая – знае што-та ліхое. Вот проста тады ўжэ і кажам: "Вот ведзьма. Карову маю з'ела!"

Я знаю, як дзядзечка жыў тут, а Юля Дыбава (мы з ёй у школу ўмесці хадзілі ды і дружылі) гавора мне: "Давай пасядзім на Івана".

Ну сядзелі, гулялі, тады бачым: той дзядзечка, голенькі-галюсенькі, у той бок і пабег. Во як было!

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Ведзьма – ета жэншчына, якая у святы ператваралася ў каго-небудзь і рабіла розную шкоду людзям. Напрыклад, на свята Купальскага Івана ўсе хлявы абтыкалі крапіваю і замыкалі, каб ведзьма не дабралася да ската, а папекла крапіваю рукі, бо як дабярэцца яна ў хлеў да каровы, то тая пераставала даваць малако, і ўвогуле скаціна балела. У ведзьмы нават у звычайныя дні вочы адрозніваюцца ад іншых людзей. Яны неяк свецяцца злыдным агнём.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н.,***

***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Дзед тожа расказваў, што былі яны раз у полі. Сядзяць ля кастра і тут з'яўляецца жаба, такая здаровая рапуха. Да ўсё к агню прыг бліжэй, прыг – яшчэ бліжэй, дык дзед мой хацеў прыбіць яе, да як стукнуў, да толькі лапу адну адсек. А патом была ў нас адна вядзьмарка, дак у яе, ну якраз после таго, рукі не стала. Дак ужэ і казалі ўсе, што яна вядзьмарка.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ад людзей чула, як бяруць пясок із следа чалавека, на каторага ані былі злы. Што яны дзелаюць з тым пяском? Брасаюць у магільную яму незаметна, кагда каго харонят. Это вродзе бы ўскаряют смерць свайго врага так званого. Но эта так с людзьмі поступают.

Чула когда-то было. Нравіцца дзевушке парень, а он её не любіт. Вот она ў знахаркі (эта ж та самая ведзьма) узнаёт средства, каторымі можно прывлеч этого парня к себе: ілі накарміць, ілі напаіць заговорёным чем такім. Ну вот, парень жэніцца на этой дзевушке, і не любіт её, і бросіць не может. Это когда-то было в селе, чула я такое в молодосці.

Ведзьмы ешчо вродзе бы какім-то образом у чужых коров молоко отнімают, к своей прібавляют.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Гаварылі, ведзьмы былі. Калісь дажа гэтыя ведзьмы рабілі ўрэд. Людзей скусвалі, людзі балелі. Кароў скусвалі, каб людзям малака не давалі, балелі.

У дзярэўні было. Адзін біў ката, толькі ўзналі на ўтро, што то жэншчына была. Дзядзька пабіў. Гэта было ў калішняе ўрэмя. Цяпер-то і няма іх.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пиліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

На Купалу, асобенна 7 іюня, саседка жалілась, што малака карова не дае, і на ведзьму абіжалася.

І вот ані на сёмае селі ў сарае дзяжурыць. Прыходзіць жэншчына і стала даіць карову. Саседка. І ён яе так ізбіў. Ана прэвраціліся ў свінню і прасілася ў хазяіна: "Не бі мяне". І ён жа ўзнаў яе. Нескалька дней яна не выхадзіла на вуліцу і прасілася: "Не расказвай нікому". Баяліся з ёй ругацца.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***

***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Залом, а ў нас ета называлі завітка, дзелаць завітку.

Ну, і здзелалі пакойнай бабушке маей завітку. Яна ішла на гарод, а ў яе жыта было, і паразорылі па міжэ: зав'язана і зав'язана. Яна прыйшла ў хату, а дзеда звалі Фёдар. Яна кажа: "Фёдар, такое і такое дзела". Ён адказвае: "А, Марта, авось, ты не бяры ў галаву".

Яна пайшла, етыя завіткі павырывала. Не знаю, ці яна іх спаліла, ці што. І хто рабіў етыя завіткі, у раду парабіліся ўсе нямыя, паўміралі. Хто астаўся жывы, парабіліся нямыя. Во што етыя завіткі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Салапана Аляксандра Іосіфавіча, 1931 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Заломы рабілі. Дажа знаю, мы жылі, і ў нас жыла саседка. Чэраз адну хату яд нас жыла ета саседка. Яна дзелала заломы ў жыце, дзелала. І вот дажа вечарам, асобенная вот, то з гульні ўхадзілі, то гдзе-небудзь хто адкуль ішоў, вот устрачалі яе. Што яна – дайшло да прэдседацеля. У нас прэдседацель быў іўрэй, после вайны эта было сразу. Вот дайшло да яго, і ён, я не знаю, верыў етаму, не верыў, но ён рашыў быў праверыць. Ну і што? Ён пайшоў у поля ноччы. Ён бачыў, што яна.

І вот, прэдсядацель яе гнаў да самага сяла. Адагнаў толькі да хаты, і вот калітка толькі стукнула, і не знае, дзе дзелася. Тады ён сказаў усім: "Цяпер я знаю, хто ў нас дзелае ў жыце (асноўнае ў жыце) заломы.

Тады ўжо бабы хадзілі, сярпамі жалі. Прыходзяць, дак у каторай вот ужэ ж папалі этыя заломы, сільна бедавалі, да абыходзілі, да не трогалі. Некаторыя послі етага сільна балелі, крэпка балелі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ведзьмы ў самым дзеле былі.

Я помню, у мяне калісь бычок быў. Ну і яму стала плоха. Я ўжо сюда, я і туда. Прывяла ўрача, паглядзелі і нічога не прызнаюць, вот я прыходжу ўжо ўранні, а ён стаў папраўляцца. Я бачу, што ета прыстрэк у яго быў. І толькі я стала глядзець, эта жэншчына прыходзіць. Дык я кажу: "Што, шчэ не закончыла? Да прыйшла паглядзець?" Праўда, яна моўчкі, моўчкі пайшла. Канечна, быў прыстрэк, добры прыстрэк.

Мак сеялі вакруг сарая. На Макаўя свецяць мак, дак сільна апасаліся ведзьмаў, дак абсявалі хлеў відуком этым. І хату абсяваюць, штоб не прыйшоў ураг.

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,*
*Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,*
*Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.,*
*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

Я толькі бачыла, як я была дзеўкаю. У нас адзін хлопец уміраў, а я ішла з гульні. І ў іх на дзвярах, во так, на хвортачкі, стаяў высокі-высокі мужчына, ва ўсім белым быў. І вы знаеце, як шчэ дайшла, дык і: "Здрастуйця", а яно маўчыць. Косы сталі расці ўверх, дык я тады шырай, шырай, шырай шаг – ды бягом тады пабегла.

Мая маць балела, балела крэпко. Мяне мо гадоў дзесяць было, мяне ацец пасылал ў дзярэўню Масаны к дзеду Адаму: "Ідзі, сынок, схадзі к дзеду Адаму, ніхай дзед Адам палечыць".

Я пайшла. Той дзед Адам палячыў, ну і даў мне ў бутылку вады. Прыносіць і кажа: "Унучка, ты толькі прыдзеш дадому, як ты прыдзеш, той, хто зрабіў тваёй матцы, та жэншчына, прыйдзе ў хату". Я прыходжу дадому – і ета саседка к нам прыйшла ў хату. І ён і сказаў: "Вазьміця, разрэжця падушку. У падушкі будзя во такі кусок, ну, жмат. Так во выкіньце мо, толькі не паліця, а выкіньця, бо спаліця, дык, кажа, матка твая ўмрэ. А не нада паліць".

І вот знаеце, і точна палучылась. Я прыйшла, і етая саседка прыйшла. Мяне было дзесяць лет. Вот такі быў случай і з мамаю роднаю.

*Запісана ў в. Судкова*
*ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,*
*Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.,*
*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

Эта былі людзі, каторыя сільна зналі што-та, вот. Яны былі з чорнай магіяй связаны. Вот ані маглі ў ваўка, перадзелацца, там у вужа ілі змяю, вот такое вот што-та, у птіцу. У жабу, у свінню, о ета маглі – дык людзі, якія звязаны з чорнай магіяй.

Хто знаў, хто быў тожа звязаны з чорнай магіяй, яны стараліся яму здзелаць што-та.

Я ўжэ бальшая была, па-моему, я хадзіла ў дзесяты клас. А ў мяне дзядзя ў Хойніках жыў. Ну, у яго былі малыя дзеці. А я ў Хойніках хадзіла ў школу, канчала ўжо дзесяцілетку. Сем мог ў сваёй дзярэўні, а ўжо хадзілі дальша ў Хойнікі. Ну, дык дзядзя быў бацькаў брат. У яго дзеці былі малыя. Дык я ўсягда глядзела етых дзіцей.

І вот как раз на Навагоднюю ноч бал-маскарад у нас у школе быў. Ну, перад самым Новым годам дзе-то, можа, было. Ну, я пабыла на етым бале-маскарадзе. І мне послі этага бал-маскарада ноччы нада было іці з Хойнік, ну сюда вон. А радам з дзядзем жыў хлопец, сасед. Ён хадзіў тожа са мною ў

дзесяты клас, но толькі ў паралельны. Мы былі ў “Г”, а ён, па-моему, быў у дзесятым “Б”. Ну, дык дзядзя мне і сказаў, што, мол, я сказаў Пелюху, эта мо фамілія была, і з бал-маскарада будзіця ўмесці ісці. Ён цябе забярэ і прыдзіця дадому. Ну, куда ж я пайду з етым Пелюхам? Не пайду. А яны мяне ўсё дражнілі ім, што вот мы цябе сюда забяром замуж. Дак маладая была, не панімала. Дак мае аднакласнікі мяне правялі. А тады чэраз поле, там новая вуліца строілася, і па етай уліцы так дарогі шчэ не было. Так, па полю я пайшла сцяжынкай, да і етай вуліцай ішла.

І вы думаеце, я вот ішла. Белы кот. Луна свеціць, мароз сільны быў, снег рыпіць пад нагамі. І вот белы кот ідзе за мной: “Мяў, мяў”. Я іду, з ім разгаварываю: “Коцік мой, хто ж цябе выгнаў на еты мароз? Да тут жа яшчэ ніхто не жыве, вуліца ўся строіцца. Няма ні аднаго жылога дома”. Хто ж цябе выгнаў? Хадзі, коцік, я цябе вазьму, у цябе ж лапкі памерзлі”. Я проста іду і з ім разгаварываю. Як я толькі к яму, ён ашчацініцца – і ад мяне. І ён давёў мяне ў канец етай вуліцы, новай. А там мне недалёка ўжо было: так, малое балотца і сцяжынка.

Дома мяне ўжо ажыдалі. Ну, замкнуліся ўжо, ета ж ноч, пасляваенная ўрэмя, страшна шчэ было. Я ўжо пастукала, адкрылі мне. Ужо: “Еж быстранька, еж”. Тут усё: “А дзе Пелюх? Мы ж сказалі, штоб цябе да хаты прывёў”. Я ж не прызнаюся, што я яму не сказала, што я са сваімі пайшла аднакласнікамі. Малчу, гавару: “Я не знаю. Ён астаўся яшчэ там, у школе на бал-маскарадзе”. – “А ты з кім ішла?” – “Я адна”. – “Да і ты не баялася? Як эта ты ідзеш? Ты знаеш (ета ўжо дзядзева жана расказуе), ты знаеш, што тут пужае што-та. Тут, хто не ідзе ноччу, усе гавораць, што пужае”. Дыя я гавару: “Дзядна (мы так яе звалі), а са мною коцік ішоў”. Во так ёй і расказваю, так і так. Яна: “Божа мой, добра хаця, што ты ў рукі не ўзяла. Тут жа хто не ідзе, усе расказваюць, што тут пужае сільна хто-то!”

Ну, і, дзійствіцельна. Вот, еслі я сягодня вот, так ужо сягодня я панімаю, да ўсё разабралася, да я ўсё ў вачах ета бачу, і, дзійствіцельна, быў не кот. Ён быў не кот. Ён быў большы. Ета як я сягоння панімаю, да. Ён быў большы.

Дык вот, мне сама дзядна і расказвае послі, гаворыць послі: “Ладна, лажыся спаць, а заўтра, пака нам ехаць на свадзьбу (у яе брат жаніўся), я табе раскажу, і ты так ідзі ціхенька, перахрасціся і ціхенька ідзі”.

І яна назаўтра эта ўжо расказвала, што тожа маладая была, у Хойніках работала, а жыла ў другой дзярэўні. І яны ўсю дарогу полем ішлі, а там пасадкі былі, дзірэўя етыя, усё. І дай жа, яна гаворыць, адзін раз так напужалася, што кот на дрэве высака сядзеў, но ні кот. Дык яна мне прыказавала, што будзеш хадзіць, не дай бог хаця не бяры нічога ў рукі і не ідзі сюдою. “Мы табе спецыяльна, – гаворыць, – не хацелі гаварыць, штоб ты не ішла сюдою, а штоб ты с Пелюхам ішла нашай вуліцай”.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

У нас па саседству жыла старая жэншчына. Вот утрам на Юр’я, па-моему, яшчэ маленькія азімыя былі, малыя, я выйшла ў чатыры часы на двор, а яна (ведзьма) сабірала расу да павесіла куўшын. Цягала ету расу і ў куўшын, да. Эта ведзьма эта дзелала, да. А цадзілкі кіпяцілі, ну етыя ж ведзьмы карову з’ядалі: карова балела, малака не давала, білася, не дапускала хазяйкі, нічога. Вымя там распірала ў яе, ні можна было падаіць. Дак тожа кіпяцілі і цадзілі, і малако цадзілі і чараз нож, і чараз іголку, штоб етае ўжэ. І кіпяцілі цадзілкі, да.

Муравейнік бралі да перасыпалі дарогу. Эта ад ведзьмы. Эта вот прыходзіць, асобенна вот будзе эта, купальная ноч, асобенна ў этую ноч. Людзі, каторыя вот знаюць, запусцілі, вот ён хоча ўзнаць, хто ведзьма, яны ідуць, бяруць муравейнік і перасыпаюць дарогу. Яны ўтрачкам перасыпаюць, што ніхто не бача. А тады, як карову выганяюць, яны ўжэ стаяць і наблюдаюць. Таго чалавека, каторы што-то знае, што-то каму-то дзелаў, карова не пойдзе чэраз еты муравейнік. І яны ўжо знаюць, хто ведзьма, хто бегаў у эту ноч, хто што-то дзелаў.

Карове маёй што-то тожа былі здзелалі, і было плоха. Я не знаю, што ўжо дзелаць мне, адна старая жэншчына да і саветуе: “Вазьмі дзеркача, еслі карова мочыцца, веніка падстаў, і етым венікам ей тады па вачах. Ну, ні бі, а памахай проста. А тады вынясь гэтага веніка і вот дзе ў каляіну, дзе машыны ездзяць, палажы. Пабачыш, хто ўжо вот тронуў тваю карову, больш ён ужо трогаць не будзе”.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Знахаркі былі такія. Так, ці карову там, ці што-небудзь, усё. Прышлося мне аднажды. Сільная была знахарка. А я работаў на свінаферме. Ну, я іду на работу, а чорненькі коцік бяжыць. Ну, а мяне авось, як ішоў, так узяў гэтага коціка і аб забор і па лапе гэтай цапнуў. Коцік узяў ды ўпаў. Ну, а я пайшоў. Ну, прайшло ўжо такое дзела, а ж ні знаў, што маладзіца ў ката скідаецца чорнага. А бацька мой узяў целачку, і захварэла яна. А там, на кладбішчы, па-за ім, знахарка жыла. Пайшоў за ёй. “Іван, я не пайду”. – “Чаго?” – “Ты плахой”. А ў яе рука перавязана – як я тады кацёначка стукнуў. Але я першы раз не звярнуў вніманія. Яна прыйшла, паглядзела, вылячыла цёлачку. А яна потым саседцы кажа: “Іван – плахі хлопец”. Я без вніманія. А потым думаю: “Што ж такое зрабіў?” Патом дадумаўся толькі. Яна яшчэ месяца чатыры гіпс насіла, як я ёй рубануў па руцэ. Так вось было.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Назаранка (Бурхавецкай) Зінаіды Канстанцінаўны, 1940 г.н.,***
***Назаранкі Івана Станіслававіча, 1933 г.н.***
***(перасяленцы з в. Руднае Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

Ведзьма – жанчына-знахарка. Ведае чорную магію. Сэнсам для яе з'яўляецца зло. Вельмі завіслівая і наклікае бяду на людзей калдаўствам. Ператварыўшыся ў прыгажуню, спакусіць і ўвядзе добрага мужыка ад жонкі, а потым яго ж і згубіць, смеючыся і здекуючыся над ім. Ад сваёй злосці і зайздрасці становіцца страшная і чорная. Кажуць, можа лётаць на мятле. Чорны кот – яе падручны. Каб засцерагчыся ад ведьзмы ці калдуна, злога чалавека, венік, якім мяцеш у хаце, трэба ставіць мятлом уверх, а яшчэ парог пасля прыхода ненадзейнага чалавека пасыпалі соллю і ўслед яму сыпалі.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,*
*студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)*

Быў у нас тут такі калдун-не калдун, а нечым такім занімаўся. Раз забег у жыта і давай вузлік круціць, мы і спрашуям: "Ты нашто гэта робіш?"А ён кажа: "То ж людзям я раблю, каб ніякая жывёла не папорціла."

Так раз мой брат старшы доўжан быў з ім кароў пасці. Ну, неяк боязка было. Прыходзіць ён увечары да і гаворыць: "Міколка, хаця ж нічога не еж." Назаўтра, як выводзіць кароў, становіцца ён на калені перад стадам, памаліўся Богу. Патом, ужо як завялі кароў у лес, дзесь каля 12 часоў, селі яны возле пня, развярнулі сала. Ну, давай наразаць, ды рэжа такімі заровымі кускамі. Мікола думаў ужэ, што шчас есці будуцца. А той і кажа: "Не, браток, гэта мы зверу аддадзім, каб нашыя кароўкі спакойна пасліся. Бачыў калі ваўка? " Міколка: "Ну, бачыў, толькі далёка." "Ну дак во, зараз паглядзіш." Пайшоў ён, палажыў сала на пень. Сядзяць, самі здалёк ды паглядаюць. А праўда, прыйшоў воўк, здаравенны, з'еў сала і пайшоў. "Ну цяпер, – кажа, – можна спакойна пасвіць кароў. А як дзе якая прападзе, дак ты мне сразу гавары, я тады разбяруся."

Дзед тожа расказываў, што засталіся раз мужыкі ў полі, разлажылі агонь, сядзяць каля яго да разгаварваюць. Тут глядзяць, жаба-рапуха, здаровая такая, неабычная нейкая, прыг да іх! Патом зноў, прыг бліжэй да агню. Дзед схваціў, што пад руку папала, да і стукнуў па ёй. Аказалася, толькі лапу перабіў ёй. Ну і знікла яна. Назаўтра глядзім (а ў нас тут такая жэншчына падазрыцельная жыла, казалі, што ведзьма нейкая), а ў яе палавіны адной рукі няма. Дак так і понялі, што то яна ноччу была ля кастра.

Цётка яшчэ адна расказвала, што неяк после вайны, а тады голад вельмі быў, прыйшла к ёй адна маладзіца да і кажа: "Цётка, дай, можа, хлеба скарынку, я памагу табе што зрабіць." Дак цётка тая і кажа: "Я б дала што, да бачыш жа, поўная хата дзяцей, мужык з вайны не прыйшоў, дак сама кручуся, каб дзяцей пракарміць. Ідзі з Богам, мо хто другі дасць шо." Ну і закрыла дзверы. Патом глядзіць у вакно, а тая маладзіца ўзяла жабу ў рукі і шэпча штось, а патом як кіне яе ў сторану хаты. Назаўтрае папрачыналіся ўсе, а ў хаце поўна жаб. І ў пограбе, і па столі прыгаюць, і ўсе квакочуць. Яны іх і вымяталі, і давілі. Нічога. Намучыліся яны з тымі жабамі. А патом нехта падсказаў ім узяць тую жабу і перакінуць цераз усю хату над камінам. Яны так і зрабілі, і ўсе жабы кудысь дзеліся.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

**Дамавік**

Дамавы е, толькі мы яго мала бачым. Дамавыя, ета што? Карова ў сараі можа пацець мокра. Ён яе шлакоча, а яна пацее тады. А каню можа грыву заплятаць. Ён выглядзіць як чорны коцічак, но яго мала хто бачыць.

Дамавы не злы, не добры, ён сматра што злюбіць. Каторую лошадзь злюбіць, дык ён ёй грыву запляце, а каторую не, дык яе ноч усю мучыць. Етая лошадзь тады сільна стогнець.

Во я, як ехала ў Літву, к Івану, дык мама мне кажа: "...наліце стопку і хлеба на чарку пакладзіце". Я так і зрабіла: наліла, паставіла, скацерку заслала. Прыехала – хоць бы дзе была капля.

А! Яшчэ, калі ўязджала, дык я яго папрасіла: "Дамавой! Я уязджаю. Ты тут ужо глядзі, каб ка мне ў хату ніхто не ўлез. Я цябе астаўляю за хазяіна. Будзь добры!"

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Ото было, цяпер такога не чутна. У кожнай хаце жыў дамавік. Ён усякі быў, у кожнага свой. Жыў ён у дымаходзе. Ён за парадкам глядзеў. Калі людзі клаліся спаць, дамавік абходзіў хату і глядзеў, усё лі добра, уся лі маёмасць на месцы.

Людзі стараліся ўгадзіць дамавіку, бо яму як што не панравіцца, то ён тады шкодзіў, порціў маёмасць, а мог і саўсім перайці жыць к другому хазяіну. А як дамавік сыдзе, дык усё не ладзіцца ў доме, дык людзі ўсё стараліся яму ўладзіць.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Соф'і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Домовік е ў каждом хлеве і ў каждом доме. Потому што, дзе скаціну злюбіць, дзе яна стаіць, дзе там домовік жыве, там і худобіна вядзецца. І ў хаце так тожа. Еслі домовік не злюбіць чалавека, то чалавек балее. Увочы я яго не бачыла, але ж гаварат, што ён е. А чаму я веру? У майго бацькі колісь была лошадзь. Бацька кажа на сына, што калі будзеш ісці з гульні, то зойдзеш у хлеў і дасі ёй сена. Ён зайшоў і ўбачыў, што хто-та ходзіць ля лошадзі. Ён стаў спрашываць, ці ета буў тата, ці не. У хляве маўчаць. Штось пасунулася туда, у старану, дзе сена ляжала. Паетаму знаем, што ў скаціны ў хляве ёсць домовік. Ён такі мужчына абыкнавенны, як і ўсе людзі.

Купіла я карову, прывяла дадому, і дамавік яе не ўзлюбіў. Ляжала мая кароўка і толькі “му-у”, без канца, “му-у”. І ўсё раўно я яе прадала, яна і малака не дала мне, і абарціравалась. Вось так у мяне було, ета значыць, што не ўзлюбіў яе домовік. Еслі худобіну ўзлюбіў домовік, яна ціхонька ляжыць, жвачку жуе. У хляве вядзецца толькі адна масць каровы. Напрыклад, калі ў хляве чорная карова жыве, дак што, ты можаш к краснай вярнуцца, сабе завесці, яна пойдзе ў дзела? Не!

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Жыгера Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Дамавік бывае злы, бывае добры. Але ж у каждай хаце е. Я сама яго ніколі не бачыла, я знаю, што ён е. Ён на выгляд як абычны чалавек.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Трэба, каб у хаце было ўсё ў парадку. Не нада мець два венікі, бо будзе два дамавіка. Дамавік жыве заўжды пад венікам, еслі будзе два дамавікі, то яны не ладзяць. Кажуць, каб у хаце быў парадак, тады ён прыжывецца і дапамагае. Я веру, што е дамавік. Я за сваё жыццё шэсць дзяцей радзіла, і ўсех дома, сама, без ніякай помашчы, без доктара. Дык як вот мне трудна было, ніякога ўрача не вызывала. Дзіця большанькае бывала, дык мне так трудна бывала, дык я як нагнулася нешта рабіць, а мне як пугай нехта лясь па спіне. Я думаю, штось будзе. І я пад вечар радзіла дзіця. І лёгка радзіла. Дык гэта мне так дамавы прэдупрэдзіў, а хто ж яшчэ. А так сама я яго не бачыла. Але вось памагае.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Судзенка Ганны Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Дамавіка я ніколі не бачыла, но чуць усё ж давялося. У Хойніках, у бальніцы ў мяне ляжаў муж. Буў ён дужа бальны. Я часта ездзіла к яму. Вот аднажды вярнулась я дадому, зайшла ў хату – і тут пачуўся такі трэск, нібы хата падала. Еты трэск прадаўжаўся нядоўга. Дзесь мінут дзесяць. У мяне аж сэрца нібы астанавілася, і ў гэты час я паняла, што майго мужа больш няма. І ето падтвердзілася. Мой муж памёр у бальніцы. А пазней, калі я ето расказала сваёй саседке, яна сказала, што ето мяне прэдупрадзіў няйначай як сам дамавік. Пасля етага случая я паняла, што ў маёй хаце жыве дамавік, які жадае нам усяго добрага.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Салянка Аляксандры Аляксандраўны, 1949 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Не бачыла я дамавіка ў доме сваім, но чувствовала. Лягу спаць, а па нагах нібы кот ходзіць, хаця ката ў хаце няма. Пашчалкванне, то там шчолкне, то там патрэскванне. А днём, як ужо адна да цішыня, то на чардаке стучыць так, як дзяцел. Так і зімой, так і летам.

Расказвалі, што адзін чалавек лёг спаць у гасцях. У яго што-та па твары поўзаць стала. Ён яго ў пальцы злавіў. Хацеў паглядзець яго, шукаў уключацель, хацеў уключыць святло. І чуў, як тое нешта паміж пальцаў выпаўзла з далоняў. Уключыў свет складзенымі далонямі, а там нічога няма ўжо. Ён стаў размаўляць з гаспадыняй. Яна сказала, што ў яе жыве дамавічок. У яе кватэры. Любіць спаць на крэсле. І не любіў, каб яна клала рэчы на крэсла. Калі яна пакладзе, ён паскідае.

Гаспадыня была ласкавая са сваім дамавічком. Выходзячы з дому, яна паручала яму сцерагчы кватэру.

Дамавічок не любіў ката. Аднойчы назірала, як кот на нейкую нябачную істоту лапамі кідаўся.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Вот сплю. Захацела пашэвяліць нагамі – не магу. Быццам кот, нібы штосьці ляжыць. Рукамі трогаю – нічога няма, а нагамі не магу пашэвяліць. Мамка гаворыць: "Свяцонай вадой пасвяці". Папырскала – і ўсё прайшло.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцялееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Былі ў хатах дамавікі, гаварылі. Я не бачыла.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Дамавік жыве ў хаце. Чую, што стукае. Я толькі бачыла, калі была дзіцем. Хлопец памер. Шла я і ўбачыла: на фортачке высокі мужчына ў белым, падыходжу ды паздаровалася – ён маўчыць. Я ўзяла, ды пабегла.

***Запісана ў в.Судкова***
***ад Краўчанка Вольгі Яўціхаўны, 1947 г.н.,***
***Краўчанкі Мікалая Іванавіча, 1937 г.н.***
***(перасяленцы з в. Пагоннае),***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

Жыве дамавік пад печчу. У адной жэншчыны дамавік жыве ў целявізары. Калі яна лажыцца спаць, то такі трэск у целявізары чуе, вось

толькі стук і стук. Яна пойдзе, прынясе яму канфет і гаварыць: “Дамавой, я табе нясу снедаці, а ты мне не рабі гадасці”. Усё спакаіваецца.

Калісь мне мой дзед расказваў: “Сядзіць у гумне, дзе жыта ставяць. І чуе стук, но ён не баяўся. І бачыць у красных панчохах істоту, якая махае нагамі і кажа:

– Парфіль, ты тут? І я тут.

Дзед нічога не сказаў. Перахрысціўся. Дык ён сказаў:

– Парфіль, ты тут? І я тут.

І тры разы так абазваўся. Дзед не баяўся. Тады тры разы вароты рыпнулі – і ўсё супакоілася.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

А яны і сёння есць, дамавікі. Яны так: жывеш, жывеш, вось жывеш, калі што-небудзь затрашчыць, то гэта дамавік. Калі ён шкодзіць, то пойдзеш к бабкі і скажаш: вось нешта стукае, дзвярамі стукае. Бабка цябе палечыць, і свечаную ваду можна зліць у сараі, зліць у доме. І ён знікае. Даже мне самой прыходзілася такое. Дзверы адкрыліся, і, кажацца, нехта ідзе. Я і да бабкі.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Сідарок Браніславы Адамаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткамі Адаменка К., Шавялёвай Н., Сарасека Л.***

У каждым доме жыве дамавік. Яго шкудзіць не трэба. На парог не трэба станавіцца, бо дамавік жыве ў парозе. І ў веніку дамавік тожа жыве. Ён не любіць, каб мятла стаяла ўверсе. Самі мы дамавіка не бачылі, а кажуць, што дамавік – маленькі такі дамавічок, яго не трэба вельмі шкудзіць, бо як ушкудзіш, дык ён можа вельмі гора багата прынесці. Калі яго не ўшкудзіць, то ў сям’е будзе ўсё добра. Калі пачне дамавік хадзіць ды стукаць па хаце, дык яму паложаць што-небудзь і кажуць: “Да не хадзі ты ўжо, да не стукай, вон садзіся да вон паеш, а не, дык бяры, што бачыш”. Дамавік, ета ізвесна. Вот ляжыш ноччу, і хто-та табе вот звоніць – нельзя адкрываць. Вот хто-та звоніць у тры часы ночы, прачнулася я, устала: няма нікога. А эта дамавік прыходзіць да нас. Вот ты што-небудзь будзеш рабіць, а ён будзе па руках цябе біць – ета дамавік з табой гуляе. Але на яго нічога не кажы, бо як абідзецца, будзе гора ў хаце.

***Запісана ў в. Стралічава***
***ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з п. Леніна Хойніцкага р-на),***
***Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,***
***Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

Вы знаеіця, што я ў маладосці бачыла дажа на сваі глаза дамавіка.

Гуляла я. Ноч была лунная-лунная. І мы паставілі сабе хату. Я без бацькі была, матка паставіла. Яшчэ поўнасцю не накрыта, толькі так, палавіна. І вот такая лунная была ноч, што я зайшла ў хату, а ў нас стаяла во так во скрыня такая бальшая-бальшая. Вот еты дамавік: ногі во так ляжалі на адном рагу, галава – на другом. Мужык. Бальшы-бальшы, вісокі. І я падумала, што ета ў мяне быў дзядзька з другой дзярэўні, дак я думала, ета ён прыйшоў да і лёг там.

А патом я гавару: "Мама, мама, што ета ў нас дзядзька спіць без пасцелі, а на скрыні?" Яна: "Які табе дзядзька? Лажысь!" Я і легла. Патом я назаўтра ёй расказую: "Мамка, ляжаў дзядзька вялікі-вялікі, з аднаго рога ногі, а з другога – галава". Толькі шчэ бачыла, што валасы чорныя-чорныя. І больш яго не бачыла, толькі баялася на парог заходзіць.

Дамавікі ж у каждай хаце даўжны быць.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Балахонкінай Ніны Адамаўны, 1934 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ну, ета такі маленькі чалавечык. Жыве ён, дзе яму нравіцца. Усякімі відамі ён паказваецца: і старым, і маладым, і крэкча, і пішчыць.

Дак вот ён, дамавы гэты, нічога дурнога ні робіць, калі яго не раззліць. Ён нічога плахога рабіць не будзе. Ён выходзіць, калі ў хаце якая радасць будзе ці гора. От можа пабіць, калі гора, зеркала ці пасуду.

На стол трэба паставіць трошкі хлеба, папіросы (ён любіць папіросы), і чарачку гарэлкі наліць, ён салодкае любіць, мо якога сахарку драбочак трэба палажыць. От тады ён арудаваць перастане, а то што ж – спасу не будзе.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Рудабельскай Эміліі Людвігаўны, 1913 г.н.,***
***студэнткай Кацуба У. (2006 г.)***

У кожнай хаце ёсць свой дух – гаспадар селішча. Завуць яго дамавік, ці дамавы. Былі такія выпадкі, кажуць, што ў кватэры нейкія рэчы рухаліся. Пакладзеш ў адным месцы – знойдзеш у другім. Ці часцяком падае нешта. Есць такая прыкмета, што калі не вядуцца каты ў гаспадара, значыць, дамавік злы і не прымае новых гаспадароў хаты.

Каб пазбегнуць ліха, гэтага дамавіка трэба ўблажаць. Напрыклад, пры наваселлі госць, які першы раз зайшоў у дом, павінен пакінуць дробныя грошы ў закутках. З дамавіком лепш пасябраваць, тады ён будзе дапамагаць гаспадарам. Калі дамавік злы, то хату трэба асвяціць ці загаворваць. Кажуць, што дамавік жыве ў мятле, і калі мяняеш старую, то новую трэба паставіць побач, каб перасяліўся дамавік.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)***

## Калдун

Был у нас адзін калдун. Не калдун, ну так, рабіў штось такое. Ну, старыя людзі нешта такое зналі. Як выводзім пасвіць карову ў лес, дык яшчэ мой старшы брат хадзіў з гэтым чалавекам. Прыйшоў ён вечарам да і гаворыць – нічога не есць, пакуда не скажа. Ну вот, утрам ужэ сагналі ўсіх кароў. Сам стаў на калені, памаліўся Богу. А каровы як укопаныя стаяць. Патом устаў, і пайшла жывёла роўненька за ім. В лесу ўжэ после 12 часоў ён сеў ля пня ды і рэжа сала такімі здаровымі ламцямі. Ну, Мікола думаў, то яму, а ён і кажа: “То ж, каб спакойна жывёла паслася, нада звера аднаго пакарміць – воўка”. Ну, Мікола казаў, бачыў толькі здалека. Гэты пастух палажыў сала на пень, а патом прыходзяць – няма сала. Ну, ён і гаворыць: “Сейчас можна спакойна пасвіць, ужо не з’есць кароўку”.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Соф’і Іванаўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Калдуны – це самые ведзьмы. Ведзьмы і калдуны, мне кажэцца, блізкае значеніе.

Часта ў кіно і сказках паказваюць. Усё хоча зрабіць плоха людзям. Стараюцца вселіць ненавісць у серца, пассорыць людзей. Калдун нікагда нічога харошага для людзей не хоча дзелаць, толькі для сваёй карысці.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Калдун што-та ж, значыць, прыкладывае чалавеку, ці на харошае, ці на плахое робіць. А ведзьма, яна толькі плахое робіць. Ведзьма ж можа пératварыцца і ў свінню, і ў жабу, можа прыпаўзці і гадзюкай.

Быў такі случай. Гуляў хлопец з дзеўкаю, так хлопец кінуў яе і другую найшоў. Адзін раз мая саседка баба Аня і яшчэ дзве жанчыны сядзелі ў маткі таго хлопца каля дома. Тут яны ўвідзелі, што да іх ідзе што-та чорнае, гэта шлопала нагамі бальшая страшная жаба. Яна падашла бліжэй, застыла і глядзіць, лупае на жанчын глазамі. Так матка гэтага хлопца сказала жанчынам, каб сядзелі і маўчалі, і жабу гэту не трогалі. А сама (яна, наверна, што-та знала такое) пайшла дахаты і прынясла адтуда вядро вугля. І накрыла ім гэту жабу. Жаба ж гэта як пачала вішчаць, што страх, пакуль і не згарэла, вішчала. І сразу ж прыбягае матка той дзяўчыны, з якой хлопец устрачаўся, і закрычала: “Што ж вы з маёй сястрой зрабілі!” І бліжэй да вечара сястра гэтай жанчыны памёрла. Значыць, ведзьмай яна была і хацела што-та хлопцу таму зрабіць, каб атамсціць за пляменніцу.

Відна, кагда эта баба спалівала жабу, то ведзьме этай сільна ўнутры гарэла, пакуль яна і не памёрла. Вось і бывае ж такое.

Чула ад старых, знаючых людзей, што ведзьмы лазілі на такія празнікі, як Іван Ушэсцкі, Іван Нікольскі і Іван Пятроўскі – на ўсіх Іванаў. І калі людзі

чувствавалі, што ім можа ведзьма што-та зрабіць, то яны, каб выратаваць гаспадарку ад скінутай у каго-небудзь ведзьмы, адрубвалі ў яе руку ці нагу. І тагда можна узнаць, хто то быў, бо ў ведзьмы не будзе рукі ці нагі, і яна нічога не зробіць.

Слышала я і яшчэ адну гісторыю. Расказвала баба Саша, што, кагда яна малая была, стала іх карова кроўю даіцца, так яе матка пашла папрасіць памагчы аднаго знаючага ў гэтых дзелах чалавека. Дык той чалавек паглядзеў кароўку і сказаў, што гэта падроблена і што там-та, там-та яны могуць найсці сырое мяса, якое ў іх закапалі. Дзе сказаў гэты чалавек, там яны і знайшлі тое мяса і спалілі яго, толькі тады і стала ўсё ў парадку. То, наверна, таксама ведзьма якая-та падрабіла.

Ведзьму ваабшчэ трэба асцярагацца. Каб яна нічога не нарабіла, трэба малітву чытаць. У мяне ёсць такая малітва: "На гарэ на сеянскай стаіт тры дерава. Первае праведная, втарое кіпорісное, третье – святой Сымон. Ішло двенадцаць дев: бескресныя, беспаясныя, валасы взбітыя. Святой Сымон спрасіл іх: "Куда вы, девы ідётя?" – "Во светую Русь. Колотіть, знобіть, кості ломіть". Святой Сымон взял 12 прутьев, стал іх хлыстать, кровавые раны наносіть. Оні ему взмолілісь: "Святой Сымон, не трожь нас." Кто эту молітву знает і тріжды чітает, к тому не прыдём во векі веков. Амінь". Повторіть трі раза.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

**Ласка**

Да, было такое, што карова ўся мокра робіцца. Казалі, што жыве якаясь падласіца, ці то такі звярок. Дачка мая кажа: "Што-та, мама, карова і малака меней дала, і ўся мокра". А я кажу: "Вазьмі свечачку, запалі, катора свеціцца ў цэркві, да абыдзі тры раза кругом карову". Яна так зрабіла і перамянілася, стала добра.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1903 г.н.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Пруднікавай І.***

У хляве жыве не хлеўнік, а ласка. Гэта такая маленькая шэранька, як мышка, трошкі большая за мыш. Яна як завядзецца ў хляве, дык ад яе нічога не зробіш. А што ж ты зробіш?

Як конь у каго е, дык ласіца за ноч так запляце яму грыву, усе роўна як дзеўка касу заплятае. А карову – што яна там ёй робіць? – Але ж карова назаўтра такая мокрая, змучаная. Ласіца ноч ганяе, мучае карову, пакою ёй не дае. А як з ласіцай справіцца, ніхто не ведае.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Судзенка Ганны Іванаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Штосьці я іх не бачыла тут, а ў Пагонным былі. Дома бегалі, па карове бегаюць, дык яна малако мяншае, ужэ няма малака.

Яна ўрэдна. Як вавёрка – сівенькая, беленькая, як рыбка тая, і з жоўтымі пятнамі ёсць. Калі па хлеве бегае, яе лошадзь баіцца. А ёсць, і курэй душаць.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцялееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Я яе бачыла жывую, на рабоце ў складзе. Яна мышэй лавіла, сабе жыла. У мяне карова была, но праблем з ласкай не была.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Белавус Тацяны Васільеўны, 1931 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Такая беленькая, а спінка рыжынькая. Яна скаціну ганяе. Дажа карова малака не дае, як яе паганяе. Яна ўрэдная такая.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пілiпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Бегала такая беленькая, небальшая, мышэй лавіла, шкоды ніякай не дзелала. Як коцікі маленькія.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Яўсеенка Ганны Рыгораўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Прыходзіць хазяін у сарай. Бык ілі карова мокрая. Не дае аддыхаць скаціне, ганяе, мучае. На карове ня так, а на лошадзі аж пена па крыжах. І лошадзь худая.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Белавус Тацяны Васільеўны, 1931 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Жыве ласка ў хляве. Можа заплесці каню грыву і заганяць яго. Дык конь мокры-мокры, кожны дзень мокры. Бацька пайшоў к дзеду, дык ён ужо прыйшоў ды Богу памаліўся, святой вадою акрапіў усюды ды палыню паўтыкаў. Ласка – ета беленькі звярочак, подлая такая. Яна жывёл ганяе, не дае спакою ўсю ноч. Карова мокрая, другі раз прыйдзеш, дык аж пар ідзе. Каб ізбавіцца ад яе, вярбу свечаную ўтыкалі. Калі ідзеш з свечанай паскай, не ідзі

ў хату, а абыйдзі кругом сваёй хаты, патом хлява, а тады ідзі ўжо ў хату, няхай нячыстай сілы ўжэ не будзе.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Такая ласіца е. Такая вот, як крыса. Яна рыжанькая такая, як белачка. Етая ласіца можа і карову перабіць. І карова будзе біцца. Можа і карову перабіць. І карова будзе біцца, і ўцякаць будзя, і эта да. У сараі як карова стаіць, і як ласіца е, яна ганяе ноч карову.

Сароку ўбівалі да вешалі па варотах, штоб яна ўжо не лезла. Сільна скаціну ганяе ета ласіца.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,***
***Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***
***Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ласіца – гэта такая істота, якая жыве ў доме. Калі яна любіць гаспадара, то дапамагае яму, а калі не – шкодзіць, напрыклад, можа заплесці конскі ці карові хвост у касічку так, што потым не распляцеш. Беленькая такая, меленькая. Або жоўценькі. Бывае жоўценькая. Беленькая такая, такая вот ратаваценькая, а пад шыйкаю ў яе жоўценькая-жоўценькая. Падобна на вавёрачку. Еслі ўночы к карове залезе, то па спіне будзе драць. І ўранні карова мокранькая-мокранькая, як у вадзі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Назаранка (Бурхавецкай) Зінаіды Канстанцінаўны, 1940 г.н.,***
***Назаранкі Івана Станіслававіча, 1933 г.н.***
***(перасяленцы з в. Руднае Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І. (2003 г.)***

Ну, прыходзіла ў хлеў, казалі, што эта дамавы яе прыводзіў. Дак то ж такая, што як панравіцца ёй жывёліна, конік ці кароўка, то яшчэ нічога. Коніку на грыве косы пляла, такія красівыя, ну. А то як не ўзлюбіць жывёлу, дак так зашчакоча, што мокрая будзе. Да, аж утрам, як выводзілі, дак кароўка ўся мокрая была. Яе сільна цяжка было вывесці. Дак бралі, убівалі варону і вешалі ў хляве. Яшчэ крапіву рвалі і развешвалі па вуглах, штоб атагнаць ласіцу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

**Лясун**

Жыў у нашым хутары ляснік. Адзін дзень пашоў грэбці сена. Сенакос быў недалёка ад леса. За дзень не ўспеў зрабіць усяго, утаміўся і рашыў начаваць на сенакосе. Толькі лёг, чуе: сабачка ў сяле брэша. Тут і ў лесе штось затрашчала. Глядзіць, аж бягуць ваўкі, цэлая стая, а іх гоніць нейкі дзядок. Падбеглі да краю леса і спыніліся: “Чуеце, як сабачаня брэша, дак еслі вы яго да года не загрызеце, дык ён вас перадушыць”.

Утрам прыбег той ляснік і стаў спрашваць, чый сабака гаўкаў. Пайшоў, выпрасіў у хазяіна сабаку, год з пограба не выпускаў. А тады ўзяў сабаку ў лес. Той душыў усю дзічыну. І з’явіўся перад лесніком лесавік і прадлажыў памяняць сабаку на багацці. Той згадзіўся і жыў увесь час добра.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Бяспалай Ганны Іванаўны, 1931 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Лясун – хазяін леса. Ён не любіць, калі шумяць у лесе. Тады ён можа збіць з дарогі, пахаваць грыбы і ягады ад збіральніка. А ў цэлым ён добры маленькі старычок.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Наталляй Уладзіміраўнай (2004 г.)***

**Нячысцікі**

Дзед мой пакойны расказваў, што раз ішоў ён позна вечарам дадому. А тут недалёка раньша балота была. Дак ён ідзе міма таго балота, тут як выскачыць перад ім няведама хто да давай крычаць, плясаць круга яго. Павялі ў балота, кажа, пасадзілі пасярэдзіне на пень (а дзе ж той пень у балоце, мабыць, на купіну) да і давай усе плясаць, песні пець. Ён кажа: “Хлопцы, пусціце мяне дамой!” А яны скачуць, усе скачуць да кажуць: “Пасядзі, пасядзі з намі яшчэ.” Толькі после дванаццаці часоў прыходзіць дзед дадому, па пояс мокры, запыханы, да і расказвае ўсё гэтае.

Яшчэ раз брат мой старшы расказваў. Так, сядзім мы раз вечарам у хаце, хто што робім, тут забягае ён, спужаны весь, дзверы не пазакрываў, забягае ў пярэднюю хату, сеў трохі, аддыхаўся да і расказвае. “Іду, - кажа, - нікога не чапаю, патом чую: нешта за ногі хапае, абярнуўся, а там вот такі клубок каціцца за мной. Я як пабягу. – “Вот штось жа ж было?” – Хто яго ведае?

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Жураўскай Т. (2004г.)***

**Русалка**

Русалкі шчэ некія былі. Балота ў нас калісь было, дык яны там жылі. Гэта тыя жанчыны, якія ўтапіліся самі і сваіх дзяцей утапілі. Іх калісь мужыкі бачылі, што сена касілі. Казалі, учулі дзіцячы крык. Яны да яго, а яно далей. Шукалі ў траве, а дзіця ўжо каля ракі. Падкраліся, а там на паваленым дрэве

дзеўка сядзіць і дзіця дзержыць на нагах, а сама косы чэша. Учула шэпты – ды бултых у ваду. І больш яе не бачылі.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Яўгеніі Адамаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

На воду не хадзілі, не муцілі яе: грэх быў. Бачылі каторыя ў лесе русалак: калыхаліся яны.

***Запісана ў в. Глінішча***
***ад Кудрыцкай Еўдакіі Яўхімаўны, 1903 г.н.,***
***студэнткамі Тамчук Т., Клімовіч А., Прудніквай І.***

От, выйдзе, кажуць, такія косы здаровыя, доўгія, я то сама не бачыла, а людзі-то расказвалі. Яна ў лузе была. Выйдзе, устрэне ці мужчыну, ці жэншчыну і рагоча, нічога не робіць, а толькі рагоча, нічога не кажа, а рагоча сама сабе. Яна розная бывае: і прыгожая, і не. Яна, можа, што і злое рабіла, як стрэне, не ведаю.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Гардзіенка Марыі Пятроўны, 1919 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Русалкі бываюць, калі жыта жнуць на русальную нядзелю, перад Пятром. Чула раней, што старыя казалі, што не трэба ісці ў жыта, бо там русалка. Мы ж раней малыя былі, так хадзілі ў жыта валошку рваць. Так з валошкі парылі ад крывацячэнняў у радзіўшых жанчын. Так старыя запрашчалі нам хадзіць на поле ў русальную нядзелю, каб русалкі з сабой нас не ўташчылі. А так і не знаю я, якія яны, бо не відзела сама да і не расказваў мне ніхто.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Русалкі – эта маладыя прыгожыя дзеўкі з дліннымі, да пятак, косамі. Жывуць яны ў балотах і рэках. Яны зусім як абычныя дзеўкі, толькі, як вам сказаць, голыя ды з хвастом. Гавораць, што час ад часу русалкі выходзяць з вады, спяваюць сумныя песні, водзяць па беразе карагоды. Яшчэ ад сваёй матулі я чула, што русалкі паявіліся ад таго, што бываець, вядома, жонка спіць ды прыспіць рабёнка – і робіцца новая русалка. Русалкі ж – эта вельмі прыгожыя дзеўкі, але няшчасны той хлопец, што ўбачыць іх. Яны так глядзелі на этага хлопца, што ён адразу скрыўляўся наўсягда. Адно толькі, як можна ад іх вызваліцца, скажу табе, – эта нешта са сталі ім паказаць, а больша яны нічога не баяцца.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Усікавай Анжэлы Анатольеўны, 1926 г.н.,***
***студэнтам Бугдусевічам А.***

Гэта дочкі вадзянога. Кажуць яшчэ, што русалкамі становяцца маладыя прыгожыя дзяўчыны, якія мучыліся з-за кахання і памерлі ці ўтапіліся, так і не зведаўшы шчасця і мужчынскай ласкі. Таму, стаўшы русалкамі, яны заўсёды вясёлыя і бестурботныя. Русалкі небяспечныя для мужчын, бо з лёгкасцю спакушаюць яго і топяць або зашлыкочваюць до смерці. Кажуць, што чалавек, які папаў у пастку русалак, памірае ад асалоды, бо, не зведаўшы самі шчасця, русалкі з умыслам ці без, ніхто не ведае точна, празмерна хочуць зрабіць шчаслівымі іншых. Русалкі вельмі любяць спяваць і ўпрыгожваць сябе вянкамі з кветак.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)***

**Чорт**

Чорта няма. Ета проста так гаворацъ, дзетак малых пужаюць, каб адны ў лес не хадзілі.

Напрымер, дзе-небудзь у лесе бура заходзіцца ажно карчы ломіць, дык ужо гавораць: “О! Чорт папер!”

А калі, напрымер, віхар у лесе гуляе, то тады кажуць: “Чэрці свадзьбу гуляюць!”

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Рашанок Таццяны Іванаўны, 1930 г.н.,***
***Рашанка Віктара Васільевіча, 1930 г.н.***
***(раней пражывалі ў в. Маклішча Хойніцкага р-на),***
***Васюк Ганны Іванаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

Чорт – гэта вельмі страшнае жывотнае. Ён можа ўладзець усім: і чалавекам, і жывёлай. Уяўляецца ён чорным з длінnымі лапамі і длінным хвастом. Ён імкнецца нашкодзіць чалавеку.

А у чалавека ўсё, што ёсць дрэннае, то гэта абязацельна ад чорта.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

Дзед мой расказываў. Раз ішоў позна вечарам, а тут вакруг раньша было балота, дак ідзе ён міма балота. Як прыцапіліся да яго якіясь, хто гэта быў – невядома. Яны былі ў длінных адзежах – да давай плясаць. Завялі яго ў балота, пасадзілі на пень (а дзе той пень у балоце? На купіну, наверна) да давай плясаць. Той прасіўся пусціць дадому: “Пусціце, мяне дзеці там ждуць”. А яны ўсё бегаюць вакол ды не пускаюць. Прыйшоў дзед ужо позна, мокры па пояс, да і расказаў усё гэта.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Казьмярчук Галіны Аляксееўны, 1950 г.н.,***

***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Чорт той, хто ведае, калі з’явіўся. Як быў Бог, то і ён быў. Але быў трохі не такі. Патом Бог, каб ён не быў да яго падобны, зрабіў рогі і хвост. Той увесь час хаваецца, пад зямлёй жыве. Там іх багата – смолу вараць. А як выходзяць на свет, то людзі іх бачаць як якую жывёліну. Яны, тыя чэрці, любяць шкодзіць, смяяцца з людзей, шуціць. То зробяць, то што схаваюць – ды і зноў пад зямлю.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Яўгеніі Адамаўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Чорт хацеў павесіцца, бо надаела хадзіць па свету. Падышоў к бярозе – бяроза заплакала, а падышоў к асіне – яна спугалася і затраслася. І ён пайшоў і павесіўся на вербалозіне. Таму етае дрэва роўна не расце і яно такое скручанае.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Лашкевіч Надзеі Адамаўны, 1925 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

Ой, ужасы. Вот, гаворат, а я дажа не могу проізнесці это слово, грех большой. Это такая враждуюшчая божэственным дзелам сіла, вот это я только скажу.

Не відзела ні разу. Его показывают с длінным хвостом, волосатого, рогатого, с четырьмя лапамі, характер дзерзкі, жывёт в болоце. Это це самые бесы. Вот цянут человека на дурное дзело, уцягівают в непріятносці, у злое дзело. Еслі человек слушаецца, будзет іці на поводку, он тожэ ўвязнет в этом болоце, можэт утапіцца.

Баіцца крэстнага знамення. Баяцца слова “Бог”, “Іісус Хрыстос”, іменем Хрыста адганяюць ад себя.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Часта ціха ў хаце, і слышна, што хто-та ходзіць.

Я жыла ў Гомелі, у бабкі, і там былі рагаліны. Там нячыстая сіла жыве, чэрці. Яна казала: “Ты сюды нікада не хадзі. Там нячысцікі жывуць”.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Любіць рабіць пакасці, шкодзіць людзям. Спакушае на боганяўгодныя справы, каб не папаў чалавек у рай, адлучыўся ад Бога і царквы і аддаў душу

д’яблу, а чорту гэта залічыцца. Таму, хто з чортам вядзе дружбу, будзе шанцаваць з грашыма, але гэтае багацце не прынясе шчасця. Нельга памінаць чорта ў гаворцы, каб не “назваць” яго на сябе. Кажуць: “Не чартыхайся!”

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Пальцавай Аксаны Мікалаеўны, 1956 г.н.,***
***студэнткай Шаціла Н. (2004 г.)***

## РЭЧЫЎНЫ СВЕТ

### Булаўка

Носяць булаўку суеверныя, каб ніхто не наўрочыў, не зглазіў, носяць суеверныя.

Каб урокаў не баяўся, хадзіць з булаўкай.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пііпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Валасы

Не выбрасываць валасы, каб пцічкі не вілі гняздо.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Венік

Венік нельзя брасаць, пераступаць. А чаго – не знаю. Можа, людзі будуць абгаворваць. Каб не выносіць соры із дому, тайныя разгаворы, нельга выносіць смецце пасля заходу сонца.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Грошы

Нельга адалжаць грошы пасля заходу сонца і ў празнік.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Грэбень

Не астаўляюць грэбень на ўслоне territory нанач.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Дзяжа

Выносяць дзяжу на вуліцу ці ў чысты чацвер, ці ў сухі чацвер, прыбіраюць і выносяць на вуліцу, каб яна стаяла.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***

***ад Грышчанка Надзеі Пілipaўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Ложка**

Ложкай, каторай мешаем страву, нельзя есці. Каб цябе ніхто нідзе не мяшаў. Эта так раньшэ старыя людзі дзелалі.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

**Люстэрка**

Калі людзі ўміраюць, завешваюць люстэрка. Гавораць, разаб'ецца зеркала – значыць, што-та нехарошае будзе ў сям'е.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

На пахараны зеркала закрываюць. Людзі гадалі перад зеркалам.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пілipaўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Ногці**

Чула: калі абразаеш ногці, не выбрасывай, бо пціцы будут іх сабіраць у гняздо – і будут балезні.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Нож, сякера**

Нажа нада асцерагацца ў празнікі. Асобенна ў такі празнік, як Галавасек. Эта бальшы празнік. Эта сын атрубіў бацьку галаву. У гэты дзень нельзя браць нажа ў рукі, каб абашло цябе всякае нехарошае. В этат дзень прышла аднойчы ка мне сястра. Я не магла ёй не сказаць пра празднік і не магла ад яе скрыць. А яна гаворыць: «Пайду рабіць засек». А я гавару: «Не ідзі, сягодня бальшой празнік – Галавасек». А яна не паслухала меня, пашла. Палезла яна ў пограб, адкрыла крышку, а тая крышка ўпала ёй на галаву. Яна паенчыла ад болі і апяць пачала дзелаць засек. Ударыла обухам тапара па бальшому пальцу. І шэсць месяцаў у яе не зажываў палец і расла дзіч (мяса ўпірала). Эта гаворыцца, што нельзя в этат празднік браць нічога металічаскага ў рукі: ні тапара, ні лапаты, ні нажа.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Нож на стале не должэн ляжаць. Его нужна на сваё месца класць, бо інакш будзе ссора.

Загнатага тапара ў дрэве не трэба астаўляць – гэта злосць.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Сякера і нож**

У празнікі бальшыя драва сеч тапаром не нада. 11 сенцябра – дзень адсечэнія галавы Іаана Прэдцечы. Гаварят в народзе – Галавасек. Нельзя нажом рэзаць круглых прадметаў.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Як бярэменная, нельзя нажом рэзаць. Жызнь у рэбёнка будзе ўкарачвацца.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Парог**

Чэраз парог смецце нельзя перамятаць і выбрасываць.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Кажуць, праз парог нельзя нічога даваць. Гарэлку на вяселлі разлівалі і стопкі білі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Печ**

Вот калі печ гарыць, выгарае, адкрыта засланка, а калі хто збіраецца ў дарогу, то і печку закрывае, засланку.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

Трэба ўсягда, калі сабіраемся ў дарогу, печ штоб была заслонена заслонкай, каб нячыстыя не ўлазілі ў хату, каб шчаслівы пуць быў.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

**Ростані**

На перакростках ставілі крэст, каб асвяшчаў дзярэўню, усе ўліцы.

Людзі, каб змыць хваробу, штосьці загаворвалі на перакростках. Калі, напрыклад, барадаўкі, дык завязвалі столькі ж вузлоў на сыравой нітке і закапвалі там.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

**Ручнік**

Як устрачаюць маладых, дык нада ручнік мець. І ў сваты ішлі, дык ручнік нада, хлеб і соль. І дзіця хрысціць, дык ручнік нада. Ручнік усюды нада.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

Перавязваюць ручніком сватоў. Калі маладых сустракаюць, на ручнік хлеб кладуць. Хлеб голымі рукамі не бяруць. Ікона ніколі не бывае без ручніка.

*Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на*
*ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.*
*(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),*
*студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)*

**Смецце**

Баба Нюра нікагда з хаты не выносіла мусара, яна ў печкі яго паліла. Сонца зашло, так нельга выносіць мусар з хаты. Праўда, я не знаю пачаму. Старыя людзі гаварылі, што і месці нельзя, як чалавек выходзіць з хаты, патаму што эта плахая прымета: вымятаеш сляды таго чалавека. Нельзя мясці і кагда хто-та ў бальшую дарогу адпраўляецца. Эта робяць тады, калі хацяць,

каб ён, той чалавек, не вярнуўся абратна. Мятуць толькі тады, калі пакойніка выносяць, так вымятаюць яго сляды, каб ён вярнуцца не змог.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,*
*студэнткай Жмачынскай Н.*

**Хлеб, бульба**

Верылі яшчэ, напрыклад, што калі са стала ўпаў хлеб, то прыйдзе нейкі мужчына. Калі ж упала на зямлю, калі рэжаш, картошка, то яе нельзя падымаць, патаму што сужаны будзе ўсё ўрэмя галодны.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,*
*студэнткай Жмачынскай Н.*

**Парог**

Калі я яшчэ маладая была, мая свякруха мяне вучыла ніколі не вымятаць смецця цераз парог, гаварыла, што не будзе грошай. Яшчэ чула, што калі дзеўка не замужам, не трэба выкідаць смецця цераз парог, бо замуж ніхто не возьме, так і будзеш у дзеўках сядзець.

**Хлеб**

Ой, мае дзеткі, калі тое було, цяпер такога няма. Каб калісьці, дак матка па руках бы біла, каб я хлеб коркай на стол палажыла. Няможна так було рабіць. Казалі глухі ў сям'е родзіцца.

**Венік**

А пра венік гаварылі, што ён у камешніку должан быць адзін, бо пад ім жыве дамавы, які ахраняе хату.

**Соль**

Ну, соль. Тут можна багата расказаць. Над намі багата хто смяяўся. Казалі, што велікаборцы багатыя людзі, у іх свая соль. Ты ж знаеш, унучка, вот тут за агародамі ў нас Клімава Гара, дак з нас смяяліся, што мы на ёй соль вырашчваем. А яшчэ як іці на Аўрамаўскую, дак там Барацін, там тожа соль расла. Калісьці той, хто быў з соллю, лічыўся багаты. Ну, а так, што, рассыпаць соль – паганая прыкмета, кажуць, сварка будзе. А яно так і іе. Дак што яшчэ рабілі, соль на галаву сыпалі.

**Люстэрка**

У нас люстэрка ніхто не кажа. У нас называюць зеркала. Абізацельна зеркала было ўдзета ў сцяну печы. Гатовіш есці і абізацельна глядзішся, каб у сажу не ўмазацца. Трэба ж красівай быць. Ой, цяпер тыя зеркалы ў кажнай хаце. Вунь і ў мяне вісяць… А што з імі рабілі? Дак закрывалі абізацельна, калі пакойнік у хаці.

## Валасы

Нічога такога пра валасы я не знаю. Толькі калі дзяцей падстрыгала, дак валасы ў грубцы паліла. Нельзя було іх выкідаць, казалі птушка забярэ, кубло саўе, дак у дзіцяці галава балець будзе. Ну й казалі, каўтун паявіцца. Ай, хай яно, мае дзеткі, на балота йдзе.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Дземідзенка Тамары Іванаўны 1936 г.н.,***
***студэнткай Сачанка Я. (2010 г.)***

## РАСЛІННЫ СВЕТ

### Зверабой

Яго заварваюць чаем, і пьюць тады ад усякіх балезней. Ён мне памагае. Ён ад жэлудка, ад паносу.

### Чабор

Ета такая трава, якую заварваюць і пьюць уместа чаю. Ета трава нелячэбная.

### Падарожнік

Расцець ён увосень. У мяне была баба з Мазыра, дык яе сын сільна забалеў нагамі. У яго дайжа адкрыліся на нагах сільныя раны. А ў мяне былі етыя галінкі, дык я яму дала іх. Ён палажыў іх у латочку, намачыў іх і прыкладаў тры разы ў дзень. Тады мне перадаваў прывет, сказаў: "Спасіба табе, баба".

### Каліна

Ягадкі каліны такія красненькія, яны кісленькія такія. Етыя ягадкі очэнь палезныя. Калі яна паспее, то з яе вараць варэнне, робяць настойку.

### Чыстацел

Чыстацел сушаць так, штоб не на сонцы. Ложаць на газэтку і сушаць, ім можна раны прыжыгаць. Калі сцебялёк надламаць, то бяжыць такі жоўценькі сок. Етым сокам калісь даўно, матка мая гаварыла, выводзілі барадаўкі. Па чатыры – па пяць разоў у дзень етым сокам нада іх мазаць.

### Ліпа

Ліпу сушаць на зіму. Яна памагае ад прастуды, ад кашля. Сабіраюць ліпу, калі яна цвіце. Сушаць, а потым зімой заварваюць як чай і пьюць.

### Рамашка

Рамашка памагае ад спугу. Калі маленькія дзеці спужаліся, то тады накіпяцяць вады і ету рамашку кінуць у ваду. Яна трохі там пабудзе, настоіцца, а тады можна і прынімаць.

### Розныя расліны

Лапух прыкладаюць к спіне, каб яна не балела. А к галаве прыкладаюць сухую бярозку. Кагда лісце етае адходзе, яго трэба наламаць. Ад прастуды малінавае, смародзіннае лісце, также лісце чарнікі, бруснічныя лісцікі ўжываюць.

***Запісана ў в. Алексічы***
***ад Баглей Веры Фамінічны, 1940 г.н.,***
***Міхаленка Еўдакіі Мітрафанаўны, 1918 г.н.,***
***студэнткамі Нямковіч А., Зайцавай А., Новікавай І.***

**Асіна**

Асіна – то праклятае дзерава. І ўжо Іуда пабачыў як мучаюць Хрыста, дык ён прыйшоў к етым, хто яго прадаў, да кажа:

– Наце вашы срэбранікі.

А яны кажуць:

– Не. Наша кроў не прэдана, ты прэдаў нас. Бяры свае срэбранікі. Забраў тыя срэбранікі, пайшоў, каўтаў тыя срэбранікі і вешаўся, патаму асіна праклятае дзерава.

Калі ў лесе цішыня, ні адзін лісцік не шалахнецца на дрэвах, а на асіне калоцяцца, таму што Іуда вешаўся і калаціўся. Вот і кажуць: "Калоціцца, як асінавы ліст".

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

**Бяроза**

Чула: калі што баліць, то да бярозы прыкланісь – уйдзе боль.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Бяроза і асіна**

Даўно тое было. У адной жонкі быў палюбоўнік, дык убачыў іх муж. Тады яны забілі яго. А Бог усё бачыў і прышоў да жонкі, увідзеў іх разам. І ператварыў яе ў бярозу, а яго ў асіну, якая ўсё врэмя дрыжыць ад страху. А бяроза каждую вясну плача над тым, што яна нарабіла.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Апанасюк Соф'і Аляксееўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М., (2005 г.)***

## ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ

### Варона

Як вароны каркаюць, лятаюць, хвалююцца ды крычаць – гэта к бядзе.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

### Бусел

Сабраў Бог гадаўё ўсё ў мяшок, устрэціў Івана дай гаворыць:

– Нясі да ў балота ўкінь!

Ну, Іван і панёс. Ішоў, ішоў дай думае:

– А што там, інцярэсна, ляжыць?

Пацягнуў за шворку і развязаў той мяшок, і ўсё тое гадаўё распаўзлося. Патом ужэ Бог узнаў, што ён не занёс, куды ён яму сказаў, да гаворыць:– Цяпер ідзі! Цяпер ён ходзіць і сабірае ўсё етае гадаўё!

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Жыгеры Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

Весела людзям была, кагда сяліліся буслы на крышэ. Вясной прылятаюць, аглашаюць вясну сваім клёкатам.

Калі бусел яйцо выбрасіт ілі буслёнка – к галоднаму году: не можа пракарміць і вот лішак выбрасывает.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Бусла ўбачыш хадзячага – цэлы год хадзіць будзеш, сідзячага – сідзець будзеш.

Як бусла ўбачыш, нада чым-небудзь красным памазаць (тут вот паказвае на твар).

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзея Піліпаўна, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Буслы – добрыя птушкі, але калі іх пакрыўдзіш, то яны мсціцельныя. Буслы мсцяць чалавеку. У нас была такая гісторыя. Адна жанчына раз раскідала буслінае гняздо, дак буслы ёй адпомсцілі. Яны раскідалі ёй усю крышу. Яна саламяная была. А калі не чапаеш іх, то яны толькі дабро прыносяць людзям. Бываюць жа і чорныя буслы, не толькі белыя, так эта, наверна, смутак нейкі прыносяць у хату, то ж чорны цвет нядобры. Самі-та

яны, наверна, і харошыя, але людзі іх такімі зрабілі. Чула я нешта, што гэта з-за людзей буслы пачарнелі, але што там было, зараз і не ўспомню.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

**Зязюля**

Хто першы раз чуе, як зязюля кукуе, шчытае колькі гадоў пражыве. Сколькі разоў пракукуе, столькі гадоў пражыве.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Як пачуеш зязюлю, дык спрашваеш, колькі гадоў пражывеш. Сколькі пракукуе, столькі, кажуць, гадоў пражывеш.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Сарока**

Як прылятае сарока к дому і стракоча, так якуюсь новасць прыносіт.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Воўк**

А воўк, то тожа сабакам быў, але нядобры ён вельмі, ён толькі шкодзіць людзям, то ён, наверна, створаны нячыстаю сілаю. Таму, калі сабаку выганіш з хаты, не будзеш карміць яе, то яна да нячыстага на службу пойдзе, воўкам стане.

А ваабшчэ, усё жывое ад Бога, таму не трэба ні жывёліну крыўдзіць, ні расліну таптаць, а да ўсяго беражліва адносіцца, любіць, даглядаць. Тагда і Бог нас любіць будзе і ніколі не пакіне.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Маці расказвала: “Што-та карова мая раве і раве, і малака меней. Яна кажа, штоб я прыйшла і адкрыла дзверы. Заходжу ў сарай, аж вуж сасе карову. Напіваецца поўнасцю малака, сколькі хоча. Патом бацька ўбіў яго і, кажа, кроў не кроў, а малако, як кроў лілася з яго”.

***Запісана ў в. Судкова***

*ад Ядчанка Марыі Фёдараўны, 1948 г.н.,*
*Ядчанкі Івана Фёдаравіча, 1945 г.н.,*
*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

Вужы любілі малочнае.

Ну і што, дзеткі сядзяць. Які ж не пол, а дыркі былі. Тады ж не пол быў, а гліна. І пажалуста, дзеці ядзяць, вужы ето ўлазяць, прыходзяць ужэ ў эту міску. Дык ён бярэ эту ложку ўжэ ў эту міску. Дык ён бярэ эту ложку ўжэ, дзіця, ды яго па галаве. Ён атойдзя. Ну, атойдзя, тады зноў есці.

А вот змяя ўрэдная. Шчэ ў нас тут былі невялікія, яе верацённіца называлі, во такога рыжаватага цвету.

Дык вот быў случай такі. У гэтых дзярэўнях жылі, людзі, і было ў іх тры дачкі, дзеці. І жыў у іхнім селішчы вуж. Сільна ў етых балотах было вужоў етых. І ўсё.

Яны едуць, дзіцей астаўляюць. Дзеці балуюцца з етым вужам. Яны ўехалі, патом прыязджаюць ужо з сенакоса. Што такое? А ён абычна, кагда ўжо дзе хазяін не бывае, так прыязджае, ужо возлі парога хазяіна чакае. Усё, прыехалі, каня распрэглі – няма вужа. Што такое, у чом дзела? І дзяцей няма.

Аказуецца, там быў такі пясок высыпаны, дзеці гулялі, і самая маленька дзевачка сядзела ў етым пясочку, балавалася. Неадкуль-неадсюль вуж еты к ей. Ён жа не можа сказаць, дык к етай дзевачке. Ён набірае пяска ў рот і сыпле на яе. Набірае і дуе. Ну, ета ж дзіця. А ў эта ўрэмя змяя паўзла. І што вы думаеця? Усё-такі ён пабачыў, што не даць рады етаму дзіця, яно не пойме – ён пайшоў у бітву з змяёй. А етыя большанькія дзевачкі палезлі па драбіне, па-нашаму, на чардак туды вот.

Прыязджаюць і ўсё. Етыя ўжо большанькія расказуюць: такое і такое дзела. Точка. Яны пайшлі туда, на еты пясок, вуж ляжыць мёртвы і змяя ляжыць мёртвая. Эта ён не дапусціў, штоб паўрадзіла, вот. Вуж – чалавеку прыяцель.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Салапана Аляксандра Іосіфавіча, 1931 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Ну, вот такое было, асобенна ў лесавых дзярэўнях. Раньша гадаўя етага было багата. Эта ж цяпер няма, а раньшай сільна было багата. А хаты ж былі маленькія, да вот у лесе. А ў каго сем’і вялікія, і на палу ж спалі дзеці. Дак вот, дзіцей паложаць спаць, праснуцца, а между імі вуж ляжыць. Не забівалі вужэй, наабарот, каторыя дажа малаком іх паілі, налівалі ім малако. Аж тады, гаворац, што нічога не рабілі ім, не трогалі.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

**Пчала**

Еслі позна прылятаюць у домік свой – значыць, быць дажджу.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Сабака**

А сабака – гэта ж самы даўнейшы друг чалавека. Казалі раней, што сабака таксама чалавекам быў, толькі што-та нядобрае зрабіў ці то наклевітаў і Божачка яго ў сабаку абірнуў, каб скупляў свой грэх і заўсёды пры чалавеку быў, дапамагаў яму.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

Сабака вое – к смерці, бядзе ці пажару ў сяле.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Сабака вые: як уніз – дык на смерць, а як угору – дык на пажар.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Ангелы**

Мы ўсягда, як спаць лажымся, дык просім у анёлаў: “Памажы, Госпадзі”.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1931 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Бог**

Усе мы Бога пачытаем, веруем, а бачыць – не бачылі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Белавус Тацяны Васільеўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Мы знаем, што Бог е. Як умеем, так веруем у Бога.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Піліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Дождж**

Бабушка адна мне гаварыла: была засуха, людзі пайшлі на рэчку Прыпяць, правялі на ёй царкоўную (малебную) службу. Кончылась служба, сталі ісці дамой. Пака дашлі, павымакалі: пайшоў дождж. Гэта мне расказвала пакойная бабушка, што так было ў іх сяле.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Бабы хадзілі, маліліся, прасілі Госпада Бога.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцялееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Калісь жабу ў калодзец кідалі. Жабу разрывалі.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Яўсеенка Ганны Рыгораўны, 1930 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Абліваемся цэлы дзень. Каля калодзежа сустракаемся. Заб’ём лягушку.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Гром, маланка**

Перакрасціцца трэба, асяніць сябе крэсным знаменіем. Вось так ратуюцца.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Як маланка бліскае ды грыміць, на стале штоб абязацельна быў хлеб і соль, абязацельна. І закрывалі каміны ў печы.

***Запісана ў в. Судкова Хойніцкага р-на***
***ад Ядчанка Марыі Фёдараўны, 1948 г.н.,***

***Ядчанкі Івана Фёдаравіча, 1945 г.н.***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

## Сны

Асабліва з чэтверга на пятніцу сны збываюцца. Гразь у доме – балезнь. Красныя розы – кроў.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Грышчанка Надзеі Пиліпаўны, 1938 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

## Граза

Як граза надыходзіць, ніколі не елі, пад дзерава не хаваліся, галава штоб была накрытая, таму што косы магніцяцца.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прыходзька Аляксандры Пятроўны, 1937 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

## Гром

Сказалі, як первы гром, дык, мол, падапры спіною печ. Ох, я была адзін год падперла, дак ні рада была. Я тады год страдала спіною. Ужо цяпер нікагда ні падпіраю, пусць первы гром, які не.

Ад грому нажа кідалі. Разоў два выкідала сама. Так на двор і кідаю. Дзе ўпадзе, там і ляжыць. Ну, яно скора і пераставала. А ці ат етага, ці не – не знаю. Вот, дзверы адкрываю, ды і кідаю.

Вот, кагда граза запаліць агонь, дак тады толькі сыровадкай тушылі. Так, гавораць, не патушаш – толькі сыровадкай.

А з іконаю (абычна эта жэнская ікона Божай Мацеры, і каторая з лесніцай, пажарная, гавораць, ікона), як толькі пажар, бяруць яе і кругом хаты тры разы абойдуць, і больш агонь нікуда не раскідаецца.

Еслі гром ілі молнія яго ўдарыла, то закапывалі ў землю чалавека. Ну ні саўсім жа закапывалі, як пакойніка, а ліцо ж астаўлялі. Ну там, зямлёй трошкі прысыплюць, і атходзіў чалавек, атходзіў.

Вот тут во саседка жыве. Яна жыве, а матка яе памерла. Яна (матка саседкі) пасадзіць гарбуз, і гарбузоў у яе – ну, морэ. А ў мяне няма. Павады паплятуцца, плятуцца, сплятуць усё на свеце, а гарбузоў няма. "Баба, навучы ты мяне, як гарбузы садзяць". – "Добра, я навучу". Нічога яна мяне не вучыла. Як няма, так няма. Ах, ёлкі ж палкі, ні хочаш ты мяне навучыць, абажджы. "Баба, вы ўжо гарбузы намачыла?" – "Намачыла". Ага, і я скоранька ўслед за ей намачыла. Ну, я ж на работу хадзіла, а яна ж (ужо была пажылая жэншчына), дома. Прыбягу з работы (я ўжо сцерагла), гляжу: баба гарбузы садзіць. Я за свае гарбузы – і на гарод. Насекаю ямкі, саджу гарбузы і кажу: "Што бабе, тое і мне. Што бабе, тое і мне".

Праўда, чэснае слова, знаеце, нарасло гарбузоў морэ, боляй як у тае бабы. Сталі ўжо етыя гарбузы мы зносіць, усё пазносілі. Дык яна на мяне і гаворыць: “Ну, ты ж прасіла, штоб я цябе навучыла, як гарбузы садзіць. Пабач, у цябе болей гарбузоў, як у мяне!”

А адтаго, ці не ад таго, не знаю.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Лагвінец Аляксандры Кузьмінічны, 1940 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

**Дзянніца**

Дзянніца – самы галоўны дзьявал неба. Сначала был ангелам Божым і служыл Богу. Патом вазгардзілся і рашыл: чаму я должэн служыць Богу, разве я не магу быць сам Богам і прэвышэ яго? Ну, і сабрал себе едзінамышленнікаў – ангелав, паабешчал, што еслі будзет прэвышэ Бога, то будут в славе і ані, эці ангелы. Палучылась, што ангелы на небе раздзеліліс на дзве групы. Ангелы святые, справядлівыя, і ангелы, враждзебныя Богу, гордыя.

За эту власць на небе разгарэлась вайна. Канешна, дзянніца, мо то называлі люцыфер яшчэ, і яго ангелы былі пабеждзены, зброшэны з неба в ад, в бездну, в цемнату. Вот ані і сядзят в цемнаце, но дзействуют. І наркаманаў многа, і алкаголікаў, убійц.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Месяц**

Месяц распаложаны между сонцэм і землёй. В апредзелённае время месяц становіцца невідзімым. Зямля занімает палажэніе, кагда месяц расцёт. Калі месяц убывае, у народзе называют сходнія дні.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Час смерці**

Хто ж там ведаў? Зналі б, нічога не рабілі.

Да аднаго мужыка прыйшла смерць, села ў яго ў галаве, а ён круціцца то так, та так. А яна кажа: “Як не круці, а памерці трэба”.

Быў расказ. Адзін чалавек рабіў забор з саломы. А ішоў Бог і спытаў, чаго ён такі забор робіць. А той адказаў: “На мой век хваціць, я тады і тады ўмру”. З таго часу людзі перасталі ведаць час сваёй смерці.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцялееўны, 1939 г.н.***

***(перасяленкі з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Ніхто не ведаў, калі памрэ. Як кажуць, пражыў адзін дзень, і скажы дзякуй Богу. Але былі такія людзі, якія прадказвалі судзьбу. Тады чалавек мог прыблізна ведаць, калі памрэ. Але дакладна ніхто не ведаў.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

Ці праўда, што душа самагубцы трапляе да чорта? Судзячы па жызненнаму опыту, то гэта праўда. Таму што чорт цешыцца, калі чалавек памірае. Можа, гэта і ён талкае яго на самаўбійства, і адразу забірае яго сабе. Калі чалавек памірае сваёй смерцю, то яго душа адыходзіць да Бога.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

**Месяц**

У Адама і Евы былі два сыны, Каін і Авель. Авеля вельмі любіў Бог, ён быў рождзены к Богу, а Каін – не. А падарка нясці Богу ў іх не за што было, нечага было. Дык яны налавалі галубкоў (чаму галубкі шчытаюцца божай пціцай), яны злавалі па пары галубкоў і панеслі. Бог Авелявых прыняў, а Каінавых не прыняў, бо ён знае, што той не з чэсцю творыць. Каін абазліўся на Авеля і стараецца, каб яго ўбраць. І пазваў яго на якуюсьць гору, у кустарнік, і ўбіў Каін Авеля. І ідзе, а Бог ідзе яму насустрач: “А дзе, Каін, твой брат, Авель?” Той: “А што, я за ім хажу?”. Бог кажа: “Ты ўбіў брата, і ты будзеш няшчасны ўсю жызнь. Ты зараз пойдзеш і пагібнеш, ты павесішся, ты не будзеш жыць. Но на месцы вы будзеце разам усю жызнь, як сушчаствуе зямля”.

Вось і зараз. Калі прыгледзецца на круглы месяц, адзін ляжыць, адзін над ім стаіць.

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

**Чаму месяц то расце, то памяншаецца?**

Месяц мае чатыры чэтверці: сходнік, маладнік, палналуніе. У маладнік месяц памяншаецца. А ў старык – павялічваецца. Навернае, создала так прырода, па-гэтаму і людзі так кажуць. Раней людзі жылі на гэтай планеце. А яшчэ гэта завісіць ад Бога.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

**Чаму нельга было ткаць у забароненыя дні?**

Гэта, што людзі ткалі ў празнікі, лічылася вялікім грэхам. Асабліва нельга было нічога рабіць бярэменным жанчынам. Магло дзіця радзіцца без пальцаў або з якім-небудзь іншым дзефектам. Нельга ткаць у празнікі і зараз, таму што Бог можа вельмі моцна пакараць. Празнік ёсць празнік, усе павінны адпачываць.

*Запісана ў в. Вялікі Бор*
*ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,*
*студэнткай Сачанка А.*

**Стварэнне сусвету**

Адам і Ева перва-наперва паявіліся. Адама Бог стварыў проста з зямлі. А Ева з'явілася ад Адамава рабра. І пасяліў іх Бог у раю і кругом райскі сад. І сказаў, усе хай ядзяць фрукты. Толькі, штоб не елі з етага дзерава, што пасярод раю. То было дзерава Знання. Змяя падпаўзла да Евы і чалавечым голасам сказала:

– Ева, атарві з етага дзерава.

Адам і Ева былі нагія, голыя, яны не сцясняліся.

Змей:

– Адарві, з'еш – і ты будзеш усё знаць.

Дык яна атарвала ды трошкі яго ўжо каўтнула, з'ела, дык ёй стала стыдна, што прыйдзе Адам, а яна нагая, дык яна стала збіраць лісцікі, нанізываць на дроцікі, штоб прыкрыць сваю нагату.

Прыйшоў Адам, яна і кажа яму:

– Адам, на й ты ўкусі, вот я ўжо цябе стыжусь.

Дык Адам толькі ўкусіў ды хацеў каўтнуць, а Бог з-за дзерава і кажа:

– Ну што, не падчыніліс*ь*?

Дык вось у мужчыны гэта яблычка не пракаўтнута. Гэта кадык.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)*
*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

Былі першыя Адам і Ева. Іх Гаспод узяў у рай. Былі пасаджаны ўсякія дзеравы. І вот было сказана: “З любых дзераў ешце яблыкі, а з етага дзерава – не”. Яны сказалі, што не будуць есці з етага дзерава. А падходзіць Ірад ілі дзьявал да Евы і гаварыць: “Не бойся, давай з'еш з гэтага дзерава яблычка”. Яна з'ела і Адама ўгасціла. Ну, і іх сагналі із рая, таму што яны не паслухаліся. Гэта і былі першыя людзі.

*Запісана ў в. Стралічава*
*ад Шаўчэнка Ніны Мікалаеўны, 1936 г.н.*
*(раней пражывала ў п. Леніна Хойніцкага р-на),*
*Курганкінай Алены Рыгораўны, 1961 г.н.,*
*Касюгі Галіны Іванаўны, 1949 г.н.,*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)*

Першы чалавек радзіўся ў хлеве. Матка яго заматала ў пялёнкі і палажыла ў яслі. Вось так і з’явіўся першы чалавек. Ад Бога ў чалавека больш, чым ад чорта. Але, каб атрымаць што-небудзь ад Бога, патрэбна заслужыць. Ва ўсім яму павінавацца, не крыўдзіць яго. Усё харошае ў чалавеку – гэта ад Бога, а ўсё дрэннае – ад чорта. Еслі задумае чорт смерць, то гэты чалавек абязацельна памрэ, чорт будзе хадзіць па яго слядах. Калі паміж людзьмі ўзнікаюць ссоры, то гэта таксама Бог цешыцца. Усе пляшуць пад яго дудку.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

**Як засцерагалі жывёлу ад ведзьмаў?**

Было некалькі спосабаў. Ведзьмы таксама былі розныя. Адна магла аберагаць жывёлу, а другая шкодзіць. Была такая атваротка, якую вешалі на рогі жывёле. Таксама шапталі. Яшчэ ставілі ў вугле пасвяцоную свечку або над дзверкай лажылі ветачку палыну.

***Запісана ў в. Вялікі Бор***
***ад Кушнер Любові Іванаўны, 1922 г.н.,***
***студэнткай Сачанка А.***

**Нябесныя свяцілы, сціхіі**

Першая нядзеля называлася маладзіком. Другая нядзеля – палналунне, яшчэ гаварылі “стары”. Трэцяя нядзеля – ідзе на сход, а чацвёртая нядзеля – сходнія дні, паследнія.

Казалі старыя людзі раней, што сын бацьку хацеў віламі скалоць у палналунія, дык яны і бачны на месяцы. Прыглядзіся, дык убачыш чалавека з віламі.

А навальніцу адводзіць вярба, якую свецяць у вербную нядзелю. Яе становяць за ікону. Абнаўляюць яе кожны год, а даўнюю вярбу спальваюць, а патом рассеіваюць гэты попел па ветры.

Жывая ж вада – гэта, дзе раднікі. Яна ад засухі памагала. Калі засуха была, то хадзілі свяціць эту ваду. Патом ёй мыліся, яе пілі, ёй аблівалі паля, агароды, каб Гасподзь даў нам дожджык.

Усё жывое расце, і камень тожа. Ён жа створаны Богам, каб рос. Ён і расце.

**Як на раду напісана**

Я яшчэ калі малая была, дык у нас на Забалацці бабка жыла, звалі Мальвінаю. Была эта бабка адораная Богам. Была яна акушэркаю на ўсю нашу дзярэўню. Жыла яна недалёка ад нас. Калі хадзіла яна да парадзіхі, то каждаму дзіцяці судзьбу знала. Эта былі калішнія людзі такія. Адной бабе ўгадала далейшае, так і спраўдзілася. Гаварыла, што яе першы сын будзе добра вучыцца і стане чалавекам. Бо, калі яна шла да яе, то ўвідзела, што той сядзеў за сталом. Увідзела яна гэта ў працілеглым акне, там дзе печка. Другі

яе сын катаўся на качэлі. "Памрэ ад нячыстай сілы. Павесіцца ён у цябе", – казала бабка, яно ж і спраўдзілася. Ну, а трэці сын яе купаўся, бабка сказала, што патоне ён у яе. Вось так было, значыць, эта ад нараджэнія дзіцяці на раду напісана, што з ім стане.

Чалавек раней знаў, калі ён памрэ. Мая баба сільна верыла ў Бога. А кагда яе смерць прыйшла, яна пазвала ўсіх, папрасіла ў дачкі абрэзаць ногці і сказала ёй, каб палажыла іх у трапачку і спаліла ў печкі, каб на гэтым свеце не валяліся. Папрасіла ўсіх, каб не плакалі, бо з таго спыяць не будзе. А патом яна кажа дачке: "Вымай падушку, бо я пайшла да дома." І памерла. Вось так раней людзі знаі, калі памруць, а цяпер не.

**Чаму жанчыны ўвесь час працуюць?**

А была раней гісторыя такая. Як шоў Гасподзь, а жанчына жала жыта. Гасподзь спрасіў у яе дарогу. Жанчына, не разгібаясь, паказала яму дарогу нагою. Так Гасподзь сказаў, што "ты ўсю жызнь будзеш так рабіць, не разгінаясь". А калі ўстрэціў Гасподзь мужчыну, то ён прыгласіў яго пасядзець, пакурыць, таму мужчыне Гасподзь даў так, што мужчына болей аддыхае, а жанчына рабою ў яго працуе.

А то была і яшчэ такая гісторыя. Бог жа стварыў зямлю нашу за шэсць дней. А сёмы аддыхаў. Казаў ён, каб і людзі таксама так жылі: шэсць дней рабілі, а на сёмы рабіць было нельга. Забараніў рабіць Бог і ў святы вялікія. А адзін чалавек не паслухаўся Бога. Была тагда Пасха святая, калі Гасподзь наш Ісус Хрыстос уваскрос, а чалавек той сказаў: "Што я такі вялікі дзень прапушчу?" І пайшоў у поле працаваць. Але Бог не прасціў яму гэтага. Упалі ў яго валы, і сам ён акамянеў. У мяне ікона такая яшчэ ёсць, ад бабкі маёй засталася.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Прышчэп Ніны Мікалаеўны, 1933 г.н.,***
***студэнткай Жмачынскай Н.***

**Чаму жанчына працуе больш, чым мужчына?**

Калісь Гасподзь хадзіў па зямлі. Ішоў ён полем, а жанчына жыта жала. "Здароў, жанчына, памажы Божа", – кажа Бог. А яна дак і не разагнулася. Дак Бог наказаў. Сказаў, што будзеш рабіць і не будзе вольнага часу.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1919 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча)***

**Уяўленне аб Зямлі**

Зямля сядзіць на трох кітах. Зоркі – якабы людзі. Упала зорачка – хтосьці памёр.

Існуе пасмяротнае жыццё. Гэта духоўная жызнь чалавека. Чалавек састаіць із трох часцей: Ацец, Сын і Дух Святы – галава, цела, ногі. Чалавек прападае, цела тленнае, а душа жыва. У душы чалавека рай і пекла знаходзіцца.

*Запісана ў в. Юравічы Калінкавіцкага р-на*
*ад Меланіч Марыі Антонаўны, 1927 г.н.*
*(перасяленка з в. Паселічы Хойніцкага р-на),*
*студэнтамі Рагачовай Т., Дашкевіч А.,*
*Казека А., Гурковай В., Кажамяка М. (2005 г.)*

**Як выклікалі дождж?**

Як дажджа доўга не було, дак дарогу пераворвалі, па гароду плугі ці барану цягалі. Гладышкі кралі да білі іх – у калодзеж кідалі. Жабу лавілі да раздзіралі. Маліліся, шоб Бог дождж паслаў.

*Запісана ў в. Казялужжа*
*ад Чэкан Еўдакіі Пятроўны, 1917 г.н.,*
*студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А.*

А дождж не ідзе, значыць, мы тады гужам у калодцы кідалі гаршка якога.

Сабіраліся жэншчыны. Так за дзень саткуць, папрадуць рушнікі. І на перакростку дарог на крэст, што стаялі, нада павесіць тыя палаценцы. Ды толькі так, штоб за дзень і наткалі, і папралі, і павесілі. Гэта абудзённік.

*Запісана ў в. Карчовае*
*ад Шпарун Евы Васільеўны, 1933 г.н.,*
*Камеш Алены Іосіфаўны, 1970 г.н.,*
*Арловай Алены Іванаўны, 1942 г.н.*
*Новак В.С.,*
*студэнткай Касцюковай М.*

**Як засцерагчыся ад засухі?**

Ад засухі, калісь казалі, што кідалі гладышку ў калодзец. Гладышку ўдава далжна была ўкрасці ў яўрэя. Далжна ўдава злавіць жабу і ў калодзец кінуць. У вескі заўседы ставілі красты з 2-х старон, і ўдава павінна была за 1 дзень выткаць, напрасці і павесіць на тыя красты.

*Запісана ў г. Хойнікі*
*ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.*
*(перасяленка з в. Дворышча)*

Калі ўжэ находзіць хмара цёмная, навальніца, дык што ўжэ зробіш, можа памаліцца: “Отча наш” або васкрэсную малітву. І штоб не град, свечаныя свечкі на Стрэчанне запальваем, гараць у хаце ці ў вірандзе.

У нас, як ня ідзе дождж, калі доўга засуха, збіраюцца людзі ды так моляцца спецыяльнымі малітвамі, што аднойча чуць да дому дабеглі, такі дождж лінуў.

*Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)*
*ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.*
*студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.*

Людзі калісьці збіраліся. Жэншчыны збіраюцца. Лён быў, яго церлі, трапалі. А тады ўсе збяруцца там, абудзённо напрадуць яго, аспуюць, паткуюць, штоб павесіць дзе палаценца на крэст. Дык цяпер іх няма, ета раньшай былі так вот у канцы дзярэўні стаялі, да.

Яны за дзень управяцца, канешна, як ужо напрадуць, да так штоб абудзённо было, дак ужо дапазна ткалі, штоб павесіць абудзёнік.

Абворвалі, абворвалі дзярэўню.

І вот хто да Благавешчання ставіць заборы, там сталбы закопвае, дак хадзілі абарачавалі іх, вырывалі, выкідалі, штоб дождж ішоў.

Кушыны ці што-то кідалі ў калодзеж тожа. Да, да што-то, штось, ну кідалі…

Ета, абліваліся. Збіраліся, абліваюцца вадою, штоб дождж ішоў.

Раздзіралі і лягушку, раздзіралі.

І дарогу так перапахавалі, а цяпер жа агвалот, дак не перапашам.

Ну, канешна, рабілі ж людзі дак што-то ж было.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Варанецкай Марыі Іванаўны, 1927 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

**Што абазначаюць плямы на месяцы?**

Кажуць, што брат брата на вілках дзержыць.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1914 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча)***

**Як з’явіліся першыя людзі?**

Свет паявіўся. Была цьма: ні сонца, ні месяца, а Гасподзь аснаваў свет, стала відна на зямле. У панядзелак свет снаваў – у панядзелак красен не снаваць, бо снаваў Бог. Гасподзь сатварыў з зямлі Адама. Адам стаў адзін і стаў сільна плакаць, Бог узяў часцічку з рабра Адама і сатварыў Еву.

**Што вы ведаеце пра нячыстую сілу?**

Было такое ўрэмя, што Гасподзь выводзіў душы з ада, Антыхрыст на цапу быў ды прасіўся, дык Гасподзь адказаў: “Будзе твая тысяча, дык будзе і ў цябе”, а зараз кажуць, што ў аду столькі грэшнікаў, што і не памяшчаюцца.

**Святая вада**

Святая вада. Яна ад усяго памагае. Каля лажышся спаць, вазьмі святую ваду, пералі ў пасуду і папырскай етай вадой сваю краваць, як бы перакрысці.

**Мёртвая вада**

Мертвая вада – нясвечаная вада, вада, што мыеш пакойніка. Ваду не нада ліць на двор. Нельзя, каб іголку, што шыюць падушку пакойніку, у крані мыць.

## Жывая вада

На святое Крашчэнне сабіраецца багата людзей. Бацюшка пачынае на вячэрнюю службу служыць. Наўтра так жа людзі сабіраюцца – літургія. Адслужыць бацюшка службу, а людзі паўз цэркву становяцца паўз адзін бок і другі станаўляюцца. Бацюшка ідзе паўз людзей. Ен прыказвае: “Прасвяціцеў сваей хаце і двор і хлеў”. Як свеціцца ў хаце, пяецца: “Спасі, Госпадзі, людзі твае. Пабеды праваслаўных хрысціянам на сапраціўнае даруеш. І твае сахраняеш крастом тваім жытельства”. А як на крашчэнне ў цэркві, то пяюць: “У Іардане крашчаюцца, цябе Госпадзі, тройчаскае явіся пакланенне. Радзіцелеў бы глас свідзецельствуючая цябе, вазлюбленная ця сына і дух відзя ізвестковніюся славесе ўцвярджэнне яўмейся Хрысця”. Божа і умер прасвеціш слава цябе. Як умрэ чалавек, трэба каб яна была, гроб пасвяціць, магілу, і бацюшка кажа каўтануць, хто болей, а хто меней. Калі будзеш піць яе, то добра будзіш жыць, яна ж так завецца жывая – жыццё.

***Запісана ў г. Хойнікі***
***ад Хадасок Марыі Адамаўны, 1919 г.н.***
***(перасяленка з в. Дворышча)***

## Пра лёс чалавека

Бог намячае, колькі каму пражыць і сколькі дзяцей у яго будзе. І колісь гаварылі, што ад сваёй судзьбы не ўцячэш. І ў даказацельства етаму я расскажу адну історыю. Ну вот, нараджаліся дзеці ў аднаго чалавека і сразу паміралі. Ну, ён думае, што ж рабіць? І тады яму насаветавалі так: як родзіцца ў цябе сын, ідзі на вуліцу, паглядзі, а можа, хто едзе, дак ты прыгласі ў дом свой, а назаўтра паедзеце ў цэркаўку і перакрысціце дзіця.

Добра, радзіўся ў яго сын, выходзіць ён на вуліцу, а колісь ганчары гаршкі па хатам прадавалі. Еты дзядзька і гаворыць, што дзіця ў яго радзілась:

– Хто там едзе? Заязжайце ка мне нанач!

– А чаго?

– Да ў мяне сын радзіўся!

А еты дзядзька, ганчар, знаў па звёздах. Ён еслі паглядзіць у якое ўрэм’я радзіўся рэб’ёнак, ён ужэ знае, якая яго ўчасць будзе. Ён знаў, будзе жыць дзіця ілі не, ілі павесіцца, ілі ўтопіцца, што з ім будзе.

Ганчар гаварыць:

– Ну, добра! А ў якое ўрэмя ён радзіўся?

Бацька дзіцяці сказаў яму. Тады еты ганчар паглядзеў па звёздах і гаворыць сабе, што еты сын вурасце, і будзе на сваёй свадзьбе гуляць, і ўтоне ў сваём калодзезе.

Перахрысцілі назаўтра дзіця. Ён гаворыць, еты дзядзька:

– Наця вам мой адрас, і як вырасце еты хлопец, вы прышліце мне пісьмо, штоб я прыехаў на свадзьбу. І ён думаў, што сваёй судзьбы і свайго шчасця ніхто не абойдзе, ніхто не зменіць, ніхто, хоць ты што хочаш! Добра, вот расце парэнь еты хутка, вот яму ўжэ дваццаць гадоў споўнілася, ужэ і

дзевушку нашлі сабе свадзьбу гуляць. Трэба ужэ, думаюць, і бацьку хроснага зваць сюды. Пазвалі яго сюды, прыязджае бацько, а ў іх калодзеж быў на двары, але ён сам не верыў, дай, думае, ці можна ад смерці адперці? Кажа на кума, каб забілі калодзезь наглуха гваздамі. А кум спрашвае:

– Зачэм? У нас ніколі ніякіх бедствій.

– Ну, я вам сказаў, забівайце, значыць, забівайце.

Вады нацягалі, забілі калодзезь і пашлі за стол. Толькі па адной чарцы абайшлі, яму пара паміраць, яго ўжо мучае, дык ён ходзіць і кажа:

– Ой, людзячкі, я пайду пагляджу гдзе–то.

Пайшоў, кругом свайго селішча абайшоў, падашоў да калодзежа, так на калені стаў, лёг на калодзеж і заснуў.

Вот відзіш, як Богом напісано, то таго ніяк не абойдзеш. Хай ты будзеш красавіцай, хай багатая, а свайго ўсё раўно не абойзеш. Вось як мне цыганка ў моладасці нагадала два разы замуж выходзіць, а ўсю жызнь адзінокай быць. Праўду сказала: аднаго майго мужа на вайне ўбілі, а другі так памёр. І вось восемдзесят гадоў пражыла і ўсю жызнь адзінокі.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Жыгеры Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

**Легенда пра свет**

Кажуць, што Адам і Ева паявіліся, а ад іх пайшлі дзеці.

Ангел – гэта сваціцель. Гэта дзецкі, як кажуць, забаўляе дзіцяці.

Каўчэг быў, усямірны патоп. Была цьма, када вада аташла, паявіўся свет. Як паявіліся людзі, так паявіўся свет.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцялееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Легенда про Бога**

Бог существовал раньше сотворения мира. Он рождён прежде всех век, существовал раньше всех, когда ещё ничего не было. Бога нихто не видел. Но голос его слышали светые люди.

Существует Бог в трёх лицах: Бог Отец, Бог Сын, Бог Дух Святы. Это пресвятая троица, нераздельная. Существование троицы – великая тайна. Разгадать её никому невозможно. Ещо много говорить можно про Бога. Он вездесущ.

Бог сотворил себе посланников, служителей. Ангелы – бестелесные существа. Надо послать какую-нибудь весть – он посылает их. Ангелы – это вестники.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Прус Юліі Фёдараўны, 1936 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

Усім прыяе. У каждага ў душы. Веруеш, не веруеш, а ў душы нада дзяржаць. Як што, дык: “Памажы, Божа”.

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцелееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Легенда пра маладзік**

Настаў, кажуць, маладзік. Пачынае сярпочак маленькі і расце. Прыродай создана так, што расце.

Зямля кругла, а калісь два было такіх, які даказвалі, што зямля кругла, а другі – квадратна.

Улетку пачці мы месяца не бачым, зімой та ночы бальшыя. Чаму расце? Зямля та кружыцца!

***Запісана ў в. Кірава Жлобінскага р-на***
***ад Марчанка Юліі Панцелееўны, 1939 г.н.***
***(перасяленка з в. Пагоннае Хойніцкага р-на),***
***студэнткай Емяльянавай В. (2005 г.)***

**Месяц і зоркі**

Выязджае кажды вечар і медленна па небу ў сваёй калясцы, запрэжанай чорнымі канямі, ноч. Яна пакрывае сваім чорным пакрывалам землю. А яе дзеці – звёзды, усё каля яе, багата іх. Разбегліся яны па ўсёй той посцілцы.

За ўсім глядзіць месяц, каб усё было добра. Возяць яго па небу крутарогія быкі. Месяц у длінным белым плацці аб’язжае неба і спускаецца на дзень дзесьці у гарах: чакае следуюшчы дзень.

Сонца паяўляецца ўтрам. Звёзды бегуць з неба, як бачаць сонца, і адна за другой хаваюцца пад начным пакрывалам. А сонца дае зямлі цяпло.

**Адам і Ева**

Жылі етыя Ева і Адам і было ў іх усё. І жылі яны шчасліва. Яны не баяліся стады і хадзілі голыя. І вось нейкая вядзьмарка паднесла ім яблык з запрашчонага дзерава. Ева з’ела яблыка, і адразу яна пазнала стыд і сумленне. А Адам, калі пачаў есці яблыка, то ён не змог яго праглынуць. І таксама пазнаў увесь стыд.

**Горы і балоты**

Бог рабіў зямлю. Любіў рабіць усё да ладу, таму зямлю гладкай, роўнай зрабіў. І чорт тады быў. І не нравілася гэта чорту. Таму дождаўся чорт, калі Бог пойдзе дадому, і пачаў зямлю драць. Пуду жменю кіне – там і гара стала. Дзе ад злосці плюне – там і балота. А сам пад зямлёю стаў жыць.

***Запісана в. Вялікі Бор***
***ад Харошка Аляксандры Васільеўны, 1930 г.н.,***
***студэнткай Іванюценка М. (2005 г.)***

**Быль**

Жыла дачка ў бацькі і нічога не рабіла. Ну, прыйшлі сваты к ёй. Бацька й гаворыць: “Я яе не аддам, бо яна нічога не робіць, толькі гутатаецца на арэлі”. Ну, а сват і гаворыць: “Што, мы і арэлю ёй павесім”. Ну, й павесілі арэлю ёй, і там гутаталась яна. Дадуць ёй кусочак хлеба, і гутаталася, што і не злезе з арэлі. Раскідала арэлю – дый давай брацца за работу. Як захацела есці, дык узялася за работу.

***Запісана ў в. Рабец***
***ад Жыгадлы Анастасіі Мікалаеўны, 1918 г.н.,***
***студэнткай Мележ Н. (1994г.)***

# ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

## Легенды аб паходжанні назваў вёсак

### Амелькаўшчына

Некалі, калі нараджалася дзіця, то яго надта не глядзелі. Нарадзіўся ў адной гаспадыні сыночак. Назвалі яго Амелькам. Вось прыйшоў час жніва, і пайшлі яны на сваю ніву. Жалі да палудня, пакуль Амелька не падаў голасу. Паелі, палажылі спаць Амельку зноў і пайшлі жаць далей. Жалі яны і пачулі крык. Убачылі ваўка, які падбег да таго месца, дзе ляжаў Амелька, схапіў Амельку і кінуўся ў лес. Бацька Амелькі бег за ім, але ўсё ж воўк уцёк. Толькі недзе праз месяц у нейкай балаціне знайшлі кашульку Амелькі. Тое месца ў народзе пачалі называць Амелькаўшчынай. Так і вёска стала.

***Запісана ў краязнаўчым музеі г. Хойнікі***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

### Ізбынь

Жыў у адной вёсцы вядзьмар. Звалі яго Іванам. Быў вельмі зайздрослівы. У аднаго селяніна карова не ўставала, а потым здохла. Да іх і завітаў вядзьмар і сказаў, што ім гэта зрабіў злы чалавек. Ноччу гаспадару сказаў, што не будзе заўтра каровы ў тых, што зладзілі яго карову. Назаўтра ў суседа здохла карова. Іван пайшоў да яго і прапанаваў свае паслугі, калі той яго накорміць і напоіць. Ну, гэты сусед згадзіўся. Ноччу, калі ўсе спалі, вядзьмар да першага суседа пайшоў у хлеў, і бачыў яго толькі сын другога суседа. Ён жа пайшоў і ўсё расказаў, што ў хляве злодзеі. Сусед разам з гэтым хлопчыкам пабеглі да хлява і ўбачылі, як Іван сядзіць вярхом на вале і душыць яго. Яны выцягнулі яго з хлява і пачалі біць. Іван хацеў сказаць як на нячыстую сілу: “Згінь!” Ды не атрымалася, бо зубы перашкаджалі распухламу языку варочацца, і выйшла “Ізбінь!” Адтуль і пайшла назва вёскі.

***Запісана ў краязнаўчым музеі г. Хойнікі***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю.***

### Казялужжа

Вёска Казялужжа ўзнікла вельмі даўно. Існуюць дзве легенды аб узнікненні назвы вёскі і самой вёскі. Старажылы расказваюць, што на месцы знаходжання вёскі, яшчэ ў далёкім мінулым, стаяла вялікае возера. Яно з усіх бакоў было заросшае лясамі і хмызнякамі. Але паблізу возера былі і чыстыя бязводныя мясціны. З цягам часу возера зарастала і высыхала. Пазней яно ўсё высахла і на яго месцы засталіся мелкія балотцы і лужыны. Аб возеры сведчаць застаўшыеся балоты: адно знаходзіцца каля вёскі, а астатнія – у Гарэлым крузе. У лясах, якія акружалі возера, жыло шмат вадаплаваючых птушак і розных звяроў. Таксама тут было шмат дзікіх коз. Яны часта прыходзілі піць к лужынам ваду. Ад гэтага і пайшла назва Козы лужы, а пазней пасяленцы пачалі называць яе Казялужжа.

Але ёсць яшчэ і другая легенда, што на гэтым месцы, яшчэ пры цару, сяліўся беглыя людзі, якія жылі плямёнамі і былі свабодныя.

У пасёлак пачалі паступова прыходзіць людзі. Гэта былі прыгонныя і некаторыя паўстанцы, якія збягалі ад паноў. Першыя хаты стаялі каля лесу. Хаткі былі маленькія, зробленыя з дрэва і пакрытыя лёнам і саломай. Потым людзі пачалі сяліцца на поўдні. Часта людзям прыходзілася бараніцца ад вогнішчаў, ад буйных звяроў, і таму, каб ад гэтага абараніцца, патрэбна была згуртаванасць. Людзі пачалі сяліцца ў адным месцы, так і ўтвараліся вуліцы.

Першымі пасяленцамі былі анісы. Недалёка ад нізіны жыў граф, ён меў рабоў-анісаў. Аднойчы граф прыгнаў сваіх рабоў з маёнтка. Тады ў нізіне і пасяліліся анісы. Таму першае прозвішча было – Аніскавец. У наш час вёска таксама пераважна складаецца з Аніскаўцоў.

***Запісана ў Хойніцкім краязнаўчым музеі***
***студэнткамі Краўчанка Н., Касцюковай М., Мішынай А. (2003 г.)***

## Клівы

Клівы называюцца так, таму што птушкі будавалі клёў або гняздо, кляўніцы. Птушкі скідалі кляўкі. Вось ад гэтага і пайшла назва вёскі.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Салянка Аляксандры Аляксандраўны, 1949 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

## Рудакоў

Жыў некалі Сцяпан – чалавек дасціпны ды разумны. Яго заўсёды клікалі на дапамогу, калі здаралася нейкая нявыкрутка. Ён ніколі не спяшаўся. Калі ў якога–небудзь гаспадара ляжа карова і доўгі час не ўстае, то ён з гаспадаром размаўляе нетаропліва, а потым скажа, каб той ішоў дамоў. І калі той прыходзіць дамоў, то бачыць, што карова ўжо ходзіць. Сцяпан атрымаў за гэта мянушку – Рудак. За тое, што ён рыжы быў. Аднойчы да яго прыйшло некалькі чалавек і папрасілі, каб ён схадзіў да пана ад імя ўсёй вёскі. Сцяпан згадзіўся. Прыйшоў да пана і сказаў яму, што няма ўжо палаца, бо ён згарэў напалову, і вінавата ў гэтым пані з кухарам. Пан ад такой навіны ляснуўся пасярод двара. Потым спытаў у Сцяпана: “Чый ты?” – “Рудакоў”.

Ад таго і пайшла назва вёскі – ад таго хітрога чалавека.

***Запісана ў краязнаўчым музеі г. Хойнікі***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

## Княжацкая Слабада

Некалі над гэтай зямлёй валадарыў багаты князь. Любіў ён раптоўна знікаць з палаца ў невядомым, нават для князёўны, накірунку. У полі ён вёў трэніровачныя баі. Над князем ніхто не смеў смяяцца. І вось аднойчы пасля такога боя рашыў князь ехаць на паляванне. Прыехалі яны на тое месца тады, калі пачало ўжо цямнець, і таму яны пачалі гатовіцца да сна, каб заўтра рана пайсці на паляванне. Раніцай усе ўсталі. Устаў і князь. Убачыў ён, якая

прыгожая тут мясціна, і прапанаваў заснаваць вёсачку. Так і зрабілі. А потым назвалі паселішча Княжацкая Слабада.

***Запісана ў краязнаўчым музеі г. Хойнікі***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

**Княжацкая Слабада**

Калісь княжаства нямецкае нападала на рускае і беларускае. І вот нямецкае напала на беларускае, дак рускі князь памог адагнаць немцаў. Ён тут пакасіў, дзе тры хаці было, сеў у канца дзе–та дзярэўні (арэшнік быў тут), дажа памаліўся Богу, абайшоў усё поле князь рускі з малітваю да кажа:

– Людзі, насяляйцеся. Няхай гэта дзярэўня завецца Княжацкая Слабада. Я, рускі князь, вас асвабадзіў. Вашу дзярэўню нікалі не будуць не ўбіваць, не ўсяляць, вас абіжаць не будуць. Пусць ана толькі завецца Княжацкая Слабада.

Вось так і было. Колькі войнаў не было, нас ніколі не трогалі, не ўсялялі, не ўбівалі. Калі прыйшла савецкая ўлада, нашу дзярэўню пачалі называць Слабажанкай.

***Запісана ў в. Слабажанка***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н. (2003 г.)***

**Судкова**

Тутака пан жыў кагда-та. Вот ён у Хойніках, а етака яго аддзяленне было. Эта стала пана прозвішча.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Прыходзька Любові Васільеўны, 1936 г.н.,***
***Аўдзеенка Алены Андрэеўны, 1931 г.н.,***
***Фядотавай Яўгеніі Сямёнаўны, 1938 г.н.***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

# КАЗКІ

Было ў адной мацеры адзінацаць сыновей. Дзесяць было харошых, а адзінаццаты быў разбойнік. Ён вырас і ўбіў матку і бацьку, і сорак чалавек чужых, і дзесяць братоў. Цяпер ён адзін астаўся. Ідзе, а колісь Бог хадзіў па зямлі. Бог спрашвае ў яго:

– Іван, куды ты ідзеш?

– Іду, кажа, сам не знаю куды. Я столькі награшыў, што ўжэ нішто мяне не возьме: ні зямля, ні вада, нічога.

– А што ты награшыў?

– Убіў, кажа, матку з бацькам, сорак чалавек чужых і дзесяць братоў.

Бог яму так кажа:

– Ідзі, Іван. Там і там расце грушка, ты выкапай яе, перасадзі і палівай.

Больш нічога яму не сказаў. Выкапаў Іван грушку, перасадзіў, грушка быстра прынялась і ўжэ і плоды сталі. І такія ўкусныя грушы! Паспутаў Іван і думае, што нада абкалаціць, бо грушы вельмі ўкусныя. Ён улез на грушу, струсануў, усе грушкі асыпаліся, а адна грушка дзержыцца.

– Ах, і тае шкода. Я вазьму якога дубца і залезу і абаб'ю тую грушку, шкада і тае, бо і тая ўкусная сільна. Біў па той грушы, біў, дзержыцца тая грушка.

– Хай дзержыцца, я злезу.

І злез, панасіў грушкі, захаваў і зноў ідзе. І зноў Бога ўстрачае. Бог пытаецца:

– Ну як, Іван, грушка прынялась твая?

– Ужэ плоду даждаўся, такія ўкусныя грушы. Але што ета такое? Усе грушкі, кажа, сунуліся, а адна грушка дзержыцца. Я, кажа, яе і галлёю біў, і трусіў, а яна дзержыцца ўсё раўно. Я так яе аставіў.

Той кажа:

– Вот так, сукін кот, за ўсё табе грахі будуць прошчаныя, а за матку не. Груша ета – ета твая матка, яна дзержыцца за цябе.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Жыгеры Ганны Нікіфараўны, 1922 г.н.,***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

## Казка пра дурнога хлопчыка

Быў дурны хлопчык. Бацька яго і дзед пайшлі ў гумно малаціць жыта, а баба наварыла снедаць да кажа: “Ідзі, мой унучак, пазаві іх снедаць”.

Ён прыйшоў ды кажа:

– Штоб вы малацілі тры дня і вымалацілі тры зерня.

Яны яго цэпам налупілі, прыйшоў і галосіць.

Баба:

– Дурань, ты б жа сказаў: “Штоб вы вазілі не вывазілі, насілі не вынасілі”.

Праходзіць урэмя, вязуць пакойніка. Ён заходзіць наперад:

– Штоб вы вазілі не вывазілі, насілі не вынасілі.

Дык яны яго зноў налупасілі. Прыйшоў, раве.

Баба:

– Дурань, ты б жа сказаў: “Вечная памяць, царства вам нябеснае”.

Праходзіць урэмя. Свадзьба, едуць, пяюць, катаюцца сялом. Ён заходзіць, сунімае:

– Царства вам нябеснае, вечная памяць.

Зноў набілі. Прыходзіць, галосіць:

Баба:

– Божа, мой Божа, якісь ты дурань. Ты б зайшоў на перахват і сказаў: “Дзякуй Богу, што даждаліся”.

Прайшло ўрэмя. Загарэлася хата, гарыць дом. Бягуць з вёдрамі. Ён сеў на плот:

– Дзякуй Богу, што даждаліся.

Етыя яго зноў налупасілі.

Баба:

– Дурань, ты ж жа за вядзерца вады ды на агонь да тушыў бы.

Прайшло ўрэмя. Тады ня было ніякіх паяльніц, дык кабана дзядзька смаліць, налажыў саломы. Ён пайшоў, набраў вады ды шурух туды.

Той за ім бяжыць.

Баба:

– Божачка мой. Бяры на гумне сухую салому, дурань ты набіты! Ты б скруціў саломку, памог смаліць, ён бы табе і шкурачку даў.

Праходзіць некалькі ўрэмя. А калісь проса сеялі, дык галаўняк. Дык ужо бярэ місачкай ці чым, ды дзяржыцца, ды дзяржыцца ў агонь, цераз гэта перапускае.

Ён бярэ, скруціў салому, пайшоў, запаліў ды яму (дзядзьку) ў коскі. А той бяжыць ды крычыць:

– Бандюга ты!

– Чаго ты на мяне крычыш? Мне ж шкурачку?

– Што з галавы?

***Запісана ў в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада)***
***ад Корбіт Вольгі Іванаўны, 1914 г.н.,***
***студэнткамі Шамонінай В., Валодзькінай Н., Тукуновай Н.***

Калі я была маленькай, то мне казкі расказывала мама. Казкі былі розныя: пра бабу-ягу, пра лясных звяроў і г. д.

А вось мая баба расказывала пра вайну, як немцы растралялі адну сям’ю ў іх на вачах. А яшчэ, як цыганскія сем’і, а іх было 2, пакідалі ў калодзяж і там жывых закапалі. Зараз, на Радаўніцу, на гэтую магілку прыязжаюць цыгане. Яны ўбіраюць яе, красяць.

Баба мне расказывала пра пана, які жыў у нашай вёсцы. Яго ніхто ні жалеў, бо ён быў вельмі злы. Калі пачалі праганяць паноў, то ён уцёк. І болей ніколі не прыходзіў. Гэтая сядзіба так і стаіць да гэтай пары. Яна ўжо не такая красівая, як раней, але засталася яе пабудова. “Памяць ад пані”, – гавораць старыя людзі.

Пра рэлігію мне таксама гаварыла мая баба. Яна мяне пазнаёміла з Бібліяй. Расказала ўсё, што толькі ведала сама.

***Запісана ў в. Віць***
***ад Судзенка Вольгі Васільеўны, 1952 г.н.***
***(нарадзілася ў г. Данецк),***
***студэнткай Судзенка Н. (2002 г.)***

## ПАЗААБРАДАВАЯ ПАЭЗІЯ

### Дожджык накрапае

Дожджык накрапае,
На камені слізка.
Добра таму жыці,
Што каханне блізка. 2 р.
Дай шчэ не далёка.
Цераз тры заборы,
Цераз сад зялёны.
Я сад парубаю,
Забор паламаю,
А сваё каханне
І здалёк пазнаю.
Едзе, казак, едзе,
Зялёная брычка.
Мяне хлопцы любяць,
Што я невялічка 2 р.
Дай шчэ небагата.
У мяне кавалераў
Паўнюсенька хата, 2 р.
Шчэ й поўныя сені.
Тыя ж кавалеры
Усе лаўкі заселі, 2 р.
Дай яшчэ ўслоны.
Люблю таго хлопца
За чорныя бровы.
Броўкі чорны маю,
Дый не ажанюся.
Дзяўчаты не любяць,
Пайду да ўтаплюся.
Не тапісь, казача,
Бо душу загубіш.
Пашлі павянчаемся,
Тады й ты палюбіш.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

### А на небе вялікая сіла

А на небе вялікая сіла
Жаніў бацька па няволі сына.
Не схацеў жа сынку па няволі жыці
Дый пайшоў ён у белы свет блудзіці.
Ходзіць Аляксею

Ні еўшы, ні піўшы.
Прыйшоў ён да мамкі,
Як зямля счарнеўшы.
Яго бацька, маці
Зусім не пазналі,
У сваім жа доме
За нішчага прынялі.
Усё, што найлепей,
Самі паядалі.
Усё, што найгоршай
Аляксею давалі.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Юліі Іванаўны, 1904 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Біла мяне маці**

Біла мяне маці бярозавым прутам,
Каб я не гуляла з маладым рэкрутам. 2 р.
А я ўсё гуляла пакуль пеўні пелі.
Пад дзверы ваду ліла, кабы не рыпелі. 2 р.
Мая маць не спала, усё гэта чула.
На мяне не сварыла, сама такою была. 2 р.

***Запісана ў в. Бабчын***
***ад Федчанкі Міхаіла Іванавіча, 1934 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Што за месяц, што за красны?**

Што за месяц, што за красны?
У ночы свеціць, а ўдзень – не?
Што за міленькі дружочак,
Калі прыйдзе, калі не?
Усе людзі, людзі кажуць,
Усе людзі гавараць:
– Сорам, дзеўка, сорам, красна,
Позна звечара гуляць.
Дзяўчыначцы кепска стала,
Стала плакаць ды ўздыхаць.
А хлопчыку шкада стала,
Стаў дзяўчыну суцяшаць:
– Не плач, дзяўчына, не плач, красна,
Прыйду ў госці да цябе,
Разгарыцца кроў гарача,
Вазьму замуж за сябе.

***Запісана ў в. Бабчын***
***ад Зелянкоўскай Веры Адамаўны, 1924 г.н.,***

*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Нядолечка да няшчасцейка**

Нядолечка да няшчасцейка
Ніхто праўды не скажа,
Не гаворыц і мая мамка,
З кім ручанькі звяжа.
– Не звяжы, мамка,
Не звяжы, родна,
Як сваю горку долю.
Як пападзецца за нялюбага,
Дык з масточка да ў воду.
Не тапіся, маё дзіцятка.
Бо ты душу загубіш,
Да скажы сама шчыра праўду,
Каго верна любіш?

*Запісана ў в. Ломыш*
*ад Акуленка Алены Якаўлеўны, 1909 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Сядзіць голуб на дубку**

Сядзіць голуб на дубку,
Галубка на вадзе.
– Скажу табе,. мой міленькі,
Любіціся годзе.
– А што ж табе, мая люба,
За прычына стала,
Што ты мяне, маладога,
Любіць перастала?
– Як не хочаш, міла,
Каханаю быці,
Дай мне таго зелля,
Каб скарэй забыці.

*Запісана ў в. Бабчын*
*ад Дрончанка Надзеі Леанідаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Усе хмарачкі ды па парачцы**

Усе хмарачкі ды па парачцы,
Адна хмарачка розна.
А не сварыся, мая мамка,
Што гуляю позна.
Хоць сварысь, ці не сварысь,
Ужо не навучыш.
Каго люблю верна я,

Ужо не разлучыш.
Дай волечку мне, маладой,
Век помніць буду.
Замуж выйду,
Хоць як жыць буду.
Цябе не забуду.

*Запісана ў в. Тульгавічы*
*ад Міхед Алены Пиліпаўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Чаму не прыйшоў?**

Чаму не прыйшоў,
Як месяц узыйшоў?
А я цябе ждала.
Ці каня не маў,
Ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала?
Я коніка маў,
І сцежачку знаў,
І маці пускала.
Малодша сястра,
Больша не зрасла,
Сядзельца схавала.
Большая сястра
Сядзельца знайшла,
Коніка сядлала,
Яна свайго родна братку
Да мілай збірала.
Цячэ рэчка невялічка,
Скочу, пераскочу,
Ой, аддай жа, родна мамка,
За каго я хочу.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Ніны Юстынаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Зайдзі, сонца, зайдзі, ясна**

Зайдзі, сонца, зайдзі ясна
За таткаву камору.
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Пагаворым з табою.
Што не хоча твой бацька
Мяне, бедну, браці.
Адпраўляем на Украіну
Багатай шукаці.

Не едзь, мілы, на Украіну
Зрабі лепей мне труну.
Як прыедзеш з Украіны,
То я ўжо памру.
Едзе мілы з Украіны,
А ўсе званы б’юць.
А то ж маю міленькую
На кладбішча вязуць.
Як прывезлі на кладбішча,
Лопнула труна.
Стаіць мой мілы над магілай,
Чорны, як зямля.
Расступіцесь людзі добры,
Дайце раз абняць,
Хоць мёртвую пацалую,
Бо будуць хаваць.
Стаіць бацька ў варацях,
Насміхаецца,
Па кім, па кім мой сыночак
Убіваецца.
Ты ў мяне цяпер не бацька,
Ты навек айчым.
Што ты мяне з міленькаю.
Навек разлучыў.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Ніны Юстынаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Закаціўся месяц за чорную хмару**

Закаціўся месяц за чорную хмару,
Выбірала мамка сваёй доні пару.
Ой, яна ўбірала багатага сына,
А яе любіла бедна сіраціна.
Ой, яны любіліс
Да й думалі жыці.
А яе любові памяшала маці.
Дазволь маці явара зрубаці,
Явара зрубаці, труну збудаваці.
Збудавалі труну на 24 гады.
Ой, яна стаяла, дай пачала гнісці,
З-пад тыя труны пачала гаварыці.
Ой, дайце мне пару,
Каня варанога,
Каня варанога.
Парня маладога.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Папроцкай Евы,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Даўно, даўно я ў мамкі была**

Даўно, даўно я ў мамкі была
Сцежка-дарожка дзярном зарасла.
Ой, дзярном, дзярном, шчэ й дзярнінаю
Ды й чырвонаю калінаю.
Ой, я той дзёран парву, падзяру,
А каліну ў прыпол паламлю.
І к сваёй мамцы ў госці палячу.
Ой, лячу, лячу, дай не далячу.
Сяду ці ўпаду
У мамчыным саду 2 р.
Пад вішанькаю.
Буду сядзеці, буду каваці,
Ці не ўчуе мамка свайго дзіцяці.
А мая мамка па саду ходзіць,
Па саду ходзіць, нявестак будзіць.
– Уставайце, нявесткі, чужыя дочкі,
Што ў нашым садзе за пташка пяе,
Ой, то не пташка, то твая дочка,
То твая дочка, дай бяздольнічка.
Без долі яна нарадзілася
У чужым краі пасялілася.
Нявернай сям’і знадабілася.
Няверна сям’я абедаць села,
А яе, маладу, шлюць па ваду.
Па ваду, па халодную,
У крынічаньку бяздонную.
Па ваду ішла, горка плакала,
Ваду нясла назад, уціралася.
У хату ўвайшла, засмяялася.
Няверна сям’я здагадалася.
Дзевяр кажа: “Вадзіцы падай”.
Завіца кажа: “Хусткі качай”,
Свёкар кажа: “Свінням падавай”,
А мілы кажа: “Сядзь, паабедай
Ды мамку атведай”.

*Запісана ў в. Навасёлкі*
*ад Сідарок Соф’і Савельеўны, 1934 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Ой, у лесе, лесе, дуб на дуб схіліўся**

Ой, у лесе, лесе,
Дуб на дуб схіліўся,
Ой, быў сынок добры,
Пакуль не ажаніўся.
А як ажаніўся
Да ўзяў сабе жонку.
Жыўшы ў адной хаце,
Стаў забываць маці.
Ішоў сын дарогай,
Маці жыта жала.
Сказаў ён ей: “Здраствуй”.
Яна не адказала.
– Ой, маці, маці,
Чаго горда стала?
Сказаў табе: “Здрастуй”,
Ты не адказала.
– Ой, сынку, мой сынку,
Я не горда стала,
За горкімі слязамі
Цябе не пазнала.
Ой, маці, маці,
Кідай жыта жаці,
Хадзем ка мне жыці,
Не будзеш рабіці.
Ой, як пайшла маці
Дай да сына жыці,
Нявестка сказала:
– Нечага рабіці.
Ідзі да сваёй дочкі:
Яна жыве багата,
І ў твае дочкі новенькая хата.
Сабралася маці,
Дай пайшла да дачкі.
Дочка мая люба,
Памый мне сарочку.
Ой, як будзеш маці,
Ты ў мяне жыці,
Прыйдзе муж з работы,
Будзе мяне біці.
Ой, Божа ж мой, Божа,
А што ж мне рабіці?
Ідзі ў дом прэстарэлых
І там будзеш жыці.
А ці ж мае дзеткі,
Я вас не глядзела.

Ноч не дасыпала
Да вас абмывала.
Ой, дарую сыну – хату на машыну,
Да каб зрабіў мне з дуба дамавіну.
А дачцэ дарую рабую цяліцу,
Каб век шчабятала, як перапяліца.
Нявестцы дарую каробачку боба,
Каб так галасіла да самага гроба.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Грышкавец Ганны Якаўлеўны, 1928 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Адпраўляла маці сына ў салдаты**

Адпраўляла маці сына ў салдаты,
Маладу нявестку ў поле лёну браці:
– Не дабярэш лёну, то не йдзі дадому.
Лёну не дабрала, дай заначавала,
А ў чыстым полі таполяю стала.
Прыехаў сын з дарогі.
Сынку, што за чуда стала:
На нашым полі вырасла таполя.
Бяры сын сякеру, дай ідзі ў поле і зрубай таполю.
Першы раз ударыў – трэскі паляцелі,
Другі раз ударыў – паказалась цела.
Трэці раз ударыў, то загаварыла:
– Не рубай, мілы, то я твая міла.
Ета твая маці ўсё нам нарабіла.

***Запісана ў в. Паселічы***
***ад Лук’янчык Н.П., 1910 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**У садочку пад голечкаю**

У садочку пад голечкаю
Сядзеў галубок з галубкаю.
Яны сядзелі мілаваліся,
Сізым крыллейкам накрываліся.
Адкуль узяўся ахотнік з бору,
Убіў, разлучыў галубкоў пару.
Галубка ўбіў, галубку палюбіў.
Узяў пад палу,
Прынёс дадому.
Насыпаў ёй есці
Жыта, пшаніцы.
А піць наліў
У кубак вадзіцы,

Пшаніцы не есць,
Вадзіцы не п’е.
Усё свайго мілага
Галубочка жджэ.

**Каліна-маліна, ягада мая**

Каліна-маліна, ягада мая,
Жыла я ў мамкі ад роду адна.
Аддала мамка замуж далёка.
Пайшла б я пяшочкам –
Знаю, не дайду.
Папрасіла б коней –
Знаю, не дадуць.
Пражыла гадочак,
Пражыла другі.
На трэці гадочак
Зажурылася
І к роднай мамцы ў госці,
Запрасілася.
Зраблюся я зязюляй,
Палячу я ў сад,
Сяду на каліну,
Буду кукаваць:
Ці не выйдзе мамка
Рана вады браць.
Ой, не выйшла мамка,
Выйшаў старшы брат,
Зарадзіў вінтоўку
І пачаў страляць.
Калі ты зязюля –
Ляці кукаваць.
Калі ты сястрыца –
Ідзі гасцяваць.
Калі ты зязюля,
То ляці ў сад.
Калі ж ты сястрыца,
То ляці да нас.
Калі ты зязюля,
То ляці на бор,
Калі ты сястрыца,
То ідзі за стол.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Ніны Юстынаўнаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1986 г.)***

**Ой, у лузе пры месяцы**

Ой, у чыстым полі
Ходзіць стада коней.
Сівы конь на волі.
Гуляй, гуляй, сівы конь,
Пакуль не спаймаю.
Бо спаймаю, зануздаю
Шаўковай нуздою.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Ніны Юстынаўнаўны, 1932 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1986 г.)***

**А калі той вечар**

А калі той вечар
Ды павечарэе.
Калі ж маё сэрца
Дай павесялее.
Калі мой міленькі,
Каго я не чакаю,
Да мяне ў госці,
Ціха завітае.
Ціха завітае,
Каб не чула маці,
Каб нам, закаханым,
Не магла мяшаці.
Пойдзе ён гарою,
Я пайду далінай,
Сыйдземся ў полі
Пад густой калінай.

***Запісана ў в. Бабчын***
***ад Дрончанка Марыі Паўлаўны, 1937 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Каліна-маліна ў садзе стаяла**

Каліна-маліна ў садзе стаяла,
Маці сваю дочку замуж аддавала.
Як аддавала, прыказвала:
“Госцем не бываці.
Да як гора жыць там будзе,
Не прыходзь да хаты”.
Жыла яна год,
Жыла яна два,
Трэці не сцярпела,
Ператварылася зязюляй шэрай,
К роду паляцела.

Прыляцела ў сад зялёны,
Села на каліне,
Стала кукаваці,
Шчэй прыказваці,
Як жа ёй, дзяўчыне,
Цяжка на чужыне.
Сядзіць мамка ўскрай акенца,
Ручнік вышывае,
А старэйшы родны брат
Ружжо заражае.
"Дазволь, маці, дазволь родна
Ту зязюлю ўбіці,
Бо яна куе,
Жалю задае,
Што ёй гора жыццё".
"Не дазволю сын,
Не дазволю я
Ту зязюлю ўбіці,
Бо той зязюлечцы,
Як маёй дачцы,
Гора на чужыне жыці".

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Ніны Юстынаўнаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Запрагу я валы крутарогі**

Запрагу я валы крутарогі
Да паеду араць край дарогі.
Узару я поле шырокае,
Да пасею хмелю высокага
Навару я піва салодкага,
Для свайго роду далёкага.
Па багату сястру – каня пашлю.
А беднай сястры – людзьмі накажу.
Багата сястра канём едзе,
А бедная – пехатой ідзе.
Багата сястра мёд ды піва п'е,
А бедна сястра горкі слёзы лье.
Да йдзе братка ў камору:
"Прапусці сястра мне дарогу".
"Ці я ў цябе, братка, не радзіна,
Што няма мне места й за дзвярыма?"
"Калі б ты сястра ў жупані,
То сядзела б з намі, як пані.
А то ты сястра ў серай свіці,

Няма пра што з табой гаварыці”.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Сіні туман пры даліне**

Сіні туман пры даліне
Шырокі ліст на каліне.
Шыршы, большы на дубочку,
Кліча хлопец дзяўчыначку.
Кліча сваю, не чужую:
“Хадзі, сэрца, пацалую”.
Нашто чужую цалаваць,
Сваю жаллю задаваць.
Не задавай сэрцу тугі,
Не возьмеш ты, возьме другі.
А не другі, возьме трэці,
А не трэці, то чацвёрты,
Не чацвёрты, возьме пяты,
Крашай цябе, дай багаты.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Буйневіч Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Вярба, вярба, дзе ты раста**

Вярба, вярба, дзе ты расла?
Твае лісце вада знясла.
Знясла вада на край сяла.
А я, малада, як ягада,
Пайшла замуж за пятага,
За п’яніцу праклятага.
Прапіў каня варанога,
Мяне пасылае па другога.
“Жана мая, выкуп мяне,
Не выкупіш – заб’ю цябе”.
Не раз, не два выкупляла,
Шаўковы платок расцілала, 2 р.
У зялёным саду начавала, 2 р.
Ранню пташачку праслухала.

*Запісана ў в. Храпкаў*
*ад Барысенка Лідзіі Мікалаеўны, 1929 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1986 г.)*

**Ой, вы дзевачкі, вы падружанькі мае**

Ой, вы, дзевачкі, вы падружанькі мае

Вы ж не знаеце,
Што за горачка ў мяне.
Рассярдзіўся мой міленькі
На мяне.
Дай бярэ ён срэбны ключык
Ад мяне.
Адмыкае рублену калоду
Дай бярэ ўсю салдацку зброю,
Дай выязджае мой мілы са двара.
А я застаюся ў хатачцы адна.
Ой, з кім я буду лета гараваць,
Ой, з кім я буду зіму зімаваць.
А на вуліцы мяцеліца мяце,
А па вуліцы мой мілы друг ідзе.
Ён мяне на ручаньках пранясе,
Ён жа мне і песеньку прапяе.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Учоры была зімушка**

Учоры была зімушка,
А сёння вясна.
Учора была я з міленькім,
А сёння адна.
Да чаго ж праклятая
Любоў давяла:
Цераз цябе міленькі,
У бальніцу злягла.
Ляжу я ў бальніцы,
І сніцца мне сон,
Што ўжэ мой міленькі
Жэніцца з другой.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Пасею гурочкі**

Пасею гурочкі
Блізка над вадою,
Буду паліваці
Дробнаю слязою.
Расціце, гурочкі,
У шырокі лісточкі.
Не бачыла міленькага

Чатыры гадочкі.
Толькі і пабачыла,
Як чараду гнала.
Не сказала: “Здрастуй”,
Бо маці стаяла.
А яму: “Здрастуй”,
А ён мне – ні слова,
Махнуў рукою:
Ну, бывай здарова.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Павень, павень, ветрык**

Павень, павень, ветрык,
Зялёнаму гаю.
Не задавай сэрцу жалю,
Што я ў чужом краю.
Ой, я ў чужом краю,
Марна прападаю.
Затым прападаю,
Што роду не маю.
А ў мяне радзіна
Далёка ад мяне.
Да чую цераз людзі,
Што цураецца мяне.
Не цурайся, радзіна,
Я цябе не забуду.
Прыязджайце ў госці –
Я вам рада буду.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Ніны Юстынаўнаўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Семнаццаць год марак усё плаваў**

Семнаццаць год марак усё плаваў,
Ён плаваў па чужых марах.
Марак па карце разглядзеўся,
Што ў радзімы край папаў.
А як узнаў сяло радное,
То кінуць якар прыказаў.
Сустрэў ён там сваю дзяўчыну,
З якою многа год гуляў.
– Здароў жа, мілая Маруся,
Ці не пазнала ты мяне?

Пазнаці, я цябе пазнала,
Але цяпер я не твая,
Мяне маці, маладзеньку,
За другога аддала.
Калі хочаш быць са мною,
Садзісь на якар паскарэй,
Мы паплывём з табой далёка
І будзеш ты навек маей.
Доўга дзевачка сядзела
На каленях у марака,
Доўга дзевачка глядзела
У яго карыя глаза.
Але яны былі абманчывы,
У іх свяцілась: "Быць бядзе".
Не ўспела дзевачка апомніцца,
Як апынулася ў вадзе.
І доўга дзевачка прасілася:
– Спасай, марак,
Бо йду да дна.
А ён сказаў:
– Спасаць не буду,
Бо ты ў мяне ўжо не адна.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907 г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Каля рэчкі, ля вады**

Каля рэчкі ля вады
Пасла дзеўка лебядзі.
Вой, доля ж мая.
Пасла дзеўка лебядзі,
Дай, пасучы, пагубіла. 2 р.
Шукаючы, заблудзіла. 2 р.
Прыблудзілася к вадзе,
Плывуць мае лебядзі.
Цяжка лебядзям,
Проці вады плывучы.
А мне, маладзенькай,
На чужыне жывучы, 2 р.
Чужэ дзела робячы.
А я свёкарку ўгаджу:
Каня напаіць зваджу. 2 р.
Дай татачкам назаву.
А я свякроўцы ўгаджу,
Бела плацце намяру, 2 р.

Дай мамкаю назаву.
А міламу спастыламу
Навек не ўгаджу.
З калодзезя дзеўка ваду брала,
Дай слязьмі дружка не пазнала.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Піляк Серафімы Макараўны, 1907г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Чарнаморцы, мамка…**

Чарнаморцы, мамка,
П'юць, гуляюць,
Дай мяне, маладзеньку,
Падмаўляюць.
Падыходзяць пад акенца,
Дай гукаюць.
Выгукаюць голую,
Дай пытаюць:
– Ой, ці будзе, дзеванька, зіма
Ці не будзе?
А хто ж мяне, чарнаморца,
Любіць будзе?
Палюбіла чарнаморца
Не за грошы.
Палюбіла я яго, што харошы.
Думалася мамка,
Панаваці.
Давялося ж, мая мамка,
Гараваці
Дай на чужых паляначках
Жыта жаці.
Ой, жала ж я жыта,
Пры дарозе.
Павесіла калысачку
На бярозе.
Вецер будзе калысачку
Калыхаці.
А я буду, маладзенька,
Жыта жаці.
Крычыць маё дзіцятачка,
А я не чую.
Пад зялёным яварочкам
Заначую.

***Запісана ў в. Мокіш***
***ад Грышкавец Ганны Якаўлеўны, 1928 г.н.,***

*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Пасеяла жыта над асакою**

Пасеяла жыта над асакою.
Не жыці мне, мамка,
Болей з табою.
Ой, жалка мне жалка,
Душа й сэрца вяне:
Хто ж маю галоўку
Пад старасць прыгляне.
Пакідаю мамку на старшога брата.
Будзе цяпер, мамка,
Смутна твая хата.
Успомні мяне, мамка,
Хоць раз у нядзельку.
А я цябе, мамка,
Сцелючы пасцельку.
Успомні мяне, мамка,
Хоць раз у аўторак,
А я цябе, мамка,
За дзень разоў сорак.
Ты думаеш, мамка,
Што я тут не плачу,
А я за слязамі
І свету не бачу.

*Запісана ў в. Мокіш*
*ад Піляк Ніны Юстынаўны, 1932г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1986 г.)*

**В путь дорожку дальнюю**

В путь дорожку дальнюю
Я тебя отправлю.
Упадёт на яблоню
Спелый цвет зари.
Подари мне, сокол,
На прощание саблю,
Вместе с острой саблей
Пику подари.
Я на кончик пики
Повяжу платочек
На твои на синие погляжу глаза.
Як взмахнёт платочек –
Я всплакну чуточек.
По дарёной сабле
Потечет слеза.

Ты ж лети, мой сокол,
Вверх быстрей далеко,
За Кубань, за Родину
Отличись в бою.
Пусть тебе, мой сокол,
На прощанье наше
Ветер уносит песенку мою.

***Запісана ў в. Паселічы***
***ад Полховской М.Я.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**Было ў караля да дзве дочкі родных**

Было ў караля да дзве дочкі родных
Не адной вышынёй,
Не адной красатой.
Меньшая красіва,
Як роза цвіце.
Большая – страшная,
Як цёмная ноч.
Меньшую, красівую,
Сваты сватаюць.
Большую, страшную
Ніхто не бярэ.
Большая меншую
Угаворвае:
– Хадзем, сястрыца,
На бераг гуляці.
Паглядзім, сястрыца,
Чым бераг прыбран.
А бераг прыбраны
Халоднай вадою,
Шаўковай травою.
Меньшая, красівая,
Нагнулась да цвятка,
Большая, страшная,
Спіхнула з беражка.
– Ратуй жа, сястрыца,
Ой, ратуй мяне.
Дарую калечка свайго жаніха.
Няхай табе калечка,
Няхай табе любоў,
А ты захлынайся халоднай вадой.

***Запісана ў в. Навасёлкі***
***ад Сідарок Соф'і Савельеўны, 1934г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

## Ой, у полі бяроза стаяла

Ой, у полі бяроза стаяла
Хто ідзе, той бярозу рубіць.
Мамка мая родна,
Мяне муж ня любіць.
Вечар гуляць ходзіць
І ўночы прыходзіць.
Ой, лажыцца спаці
Упоперак кравацi.
І ка мне плячыма,
На хату вачыма.
Ножкі працягае,
Цяжанька ўздыхае.
Ой, Божа мой мілы,
Хто ж мяне разуе,
Лічка пацалуе.
Абазвалась міла
У сенях за дзвярыма:
– Я цябе разую,
У лічка пацалую.
Адлезь ты, нялюба,
У мяне ёсць другая,
Міла, маладая.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Папроцкай Е. А.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

## Із-пад камушка серабрыстага

Із-пад камушка серабрыстага
Цячэ рэчанька, цячэ быстрая.
А ў той рацэ дзева мылася,
Яна мылася, умывалася,
Сабой, маладой, любавалася.
Малады купец вёў каня паіць,
А раўнівы муж вёў жану тапіць.
Яна плакала шчэ й прасілася:
– Не тапі мяне рана ўвечары,
Да ўтапі мяне позняй ночкаю.
Будуць людзі спаць,
Дай не будуць знаць.
Схарані мяне над быстрай рэчанькай,
Пад калінаю беленькай.

*Запісана ў в. Храпкава*
*ад Пабядзінскай Хімы Паўлаўны, 1907г.н.,*

*студэнткай Грышкавец Н. (1986 г.)*

**За гарою, за крутою**

За гарою, за крутою
Цёмна хмара ўстала.
Васілёва родна маці,
Каня напавала.
Конь вадзіцы піць не хоча:
Ён дарожку чуе.
Бо ён знае, бо ён чуе,
Дзе Васіль начуе.
Ой, Васілю, ты, Васілю,
Не хадзі да мяне.
Ты багаты, а я бедна –
Не возьмеш ты мяне.
Ой, пі, маці, тую ваду,
Што я нанасіла.
Любі, маці, таго зяця,
Што я палюбіла.
Я не буду піць вадзіцы,
Буду выліваці.
Не па душы будзе зяць,
Буду праклінаці.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Буйневіч Марыі Дзмітрыеўны, 1932 г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Кучаравая бяроза**

Кучаравая бяроза,
А я, цыганка, малада.
Цябе я доўга ажыдала,
Каб ты на карты пагадала.
Дай мне ручку,
Дай мне праву.
Я ў глаза табе ўзгляну.
Я, цыганка маладая,
Табе ўсю праўду раскажу.
У цябе на сэрцы камень:
У аднаго ты ўлюблена,
Ты хочаш быць яму жаною,
Но ты яму не суждзена.
Ён п’е гарэлку, йграе ў карты,
Другіх ласкае, усё адно.
Цябе красотка жджэ магіла,
Яго брадзягу жджэ цюрма.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Папроцкай Евы Аляксандраўны, 1907г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Вецер з поля, хваля з мора**

Вецер з поля, хмара з мора,
Давяла любоў да гора.
Свет, галовачка кружыцца,
На плячах арол садзіцца.
Ой, ты, арол сізакрылы,
Раскажы мне праўдачку,
Дзе мой мілы.
– Ой, твой мілы на рабоце.
Ён на сахарным заводзе.
Ён робіць, вырабляе,
Медныя трубачкі выліваe.
Наляцелі злыя людзі,
Паламалі медны трубы.
Пайшла пара па заводу,
Пайшла няслава па народу
На тую дзевачку,
Што без роду.
Я ж няславачкі не баюся,
На той дзевачцы ажанюся.

*Запісана ў в. Іванаўка*
*ад Буйневіч Марыі Дзмітрыеўны, 1932г.н.,*
*студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)*

**Шчучка-рыба ў моры**

Шчучка-рыба ў моры
Гуляе даволі.
Быў у маткі сын,
Дай той не мае долі.
Ты прадай, маці, каня,
Каня варанога.
Ды ажані свайго сына,
Сына маладога.
Не вялела маці
Каня прадаваці.
Піша чорным па беламу:
“Трэба ў войска ступаці”.
Ой, няхай жа пішуць.
А я не баюся.
Сам малад, конь вараны,
Яшчэ адслужуся.

Салдаціка ўбілі
Пры крутой дарозе.
Плача маці, разлівае,
Свае горкі слёзы.

***Запісана ў в. Бабчын***
***ад Дрончанка Марыі Паўлаўны, 1937г.н.,***
***студэнткай Грышкавец Н. (1984 г.)***

**ПРЫПЕЎКІ**

Ажаніўся мяшок:
Узяў торбачку.
Туды-сюды павярнуў –
Цмок у мордачку.

Мне Коля ізмяніў,
І сказаў: “Табе капут”.
А я нашла на метар вышэ,
Цяжалей на цэлы пуд.

***Запісана ў в. Клівы***
***ад Салянка Аляксандры Аляксандраўны, 1949 г.н.***
***(раней пражывала ў в. Небытаў Хойніцкага р-на),***
***студэнткамі Максімчык А., Дыба Г., Сухой Ю. (2003 г.)***

А к директору совхоза
В кабинет страшна зайти,
Вдруг плохое настроенье –
Двери можешь не найти.

В кабинет я раз зашла,
Чуть я не сомлела:
Грохнул так он по столу –
Забыла, что хотела.

Хто не ведае прыпевак,
А я ведаю семсот.
Калі сала з’ем шмандэлак,
То страчу, як пулемёт.

Штоб і танчыць і спяваць,
Трэба добра пад’ядаць.
Пры цяперашняй ядзе
У бакі аж павядзе.

Як палучку палучу,

Уй лічу, лічу, лічу.
Які тыдзень праляпіць
І няма чаго лічыць.

Майго міленькага маць
Любіць дзевак выбіраць,
Каб такую выбрала,
Штоб ёй вочы выдрала.

Ох, снег, сняжок,
Да белая мяцеліца.
Кажуць, цэны упадуць,
Да толькі мне не верыцца.
Эх, раз, яшчэ раз
Цэны вырастуць у нас.
Скора мы ад гэтых разаў
Будам дыхаць цераз раз.

Палюбіла я ево,
А он, девушки, косой.
Я іду прямой дорогой,
А он чешыт полосой.

Гаварыла баба дзеду:
У Санта-Барбару паеду
І чаго ж, ядрона вош,
На Сі-Сі ты не пахож.

Палюбіла палявода,
Палюбіла на бяду.
Як пасеяў кукурузу,
То сабралі лебяду.

***Запісана ў в. Судкова***
***ад Кобзік Наталлі Мікалаеўны, 1957 г.н.,***
***Новак В.С.,***
***студэнткай Касцюковай М.***

Я частушек много знаю
И хороших, и плохих.
Хорошо тому послушать,
Кто не знает никаких

До свиданья, до свиданья
Ну и до свиданьица,

Не было у меня
Такого расставаньица.

Ожа, Ира полюбила бригадира,
Брагидирова жена её отколотила

Колю, Колю застеколю,
В рюмочку заколочу,
Любовь обратно ворочу.

Полюбила Мишу-ту
За рубашку вышиту.
Рубашка бела вышита,
Хороший парень Миша-та.

Не хотела я плясать,
Бо его стеснялась,
А гармошка заиграла –
Я не удержалася.

Я в колхозе боевая,
Боевая, смелая.
Ловко я плясать умею
И в работе первая.

На зелёном сарафане
Ленты белые подряд.
Пойду завлеку
Белорусских всех ребят

Не ругай меня, мамаша,
Что я поздно прихожу,
Я последний день гуляю.
Завтра замуж выхожу.

Не ругай меня, мамаша,
Не ругай так грозно,
Ты сама такой была,
Приходила поздно.

Мы с подружкою вдвоём
Полюбили одного.
А теперь ходим боимся,
Чтобы не было чего.

Я коровицу доила –
Кольцо упало в молоко.
Кого верно любила,
Тот уехал далеко.

Я ж коровицу доила
Черную рогатую.
Меня милый изменил
Бедну на богатую.

Ой, подруженька моя,
У нас ухажер один.
Ты ревнуешь, я ревную –
Давай его продадим.

Ох, подружка моя,
Я уже продала.
Одна дура на базаре
Три рубля давала.

Меня милый бросил
На целую осень.
Я его, конечно,
Бросила навечно.

Мне милый изменил,
А я дура плакала.
Я другого полюбила,
Любовь одинакова.

Я частушек много знаю,
Начинаю первую,
Тебя милый проклинал
За любовь неверную.

Шла я вечером домой,
Вдруг скелет передо мной.
Боже мой, какой же страх,
Это ж милый мой в трусах.

Баба деда хоронила,
Всю дорогу плакала.
А у деда из кармана
Самогонка капала.

Баба чистила картошку,
Дед на дереве сидел.
Баба чудо показала –
Дед из дерева слетел.

Мой милёнок хороший,
Только ростом очень мал.
Проводил меня до дома,
Я чихнула – он упал.

Я у Коли в коридоре
Каблучками топала.
Хоть я Колю не любила,
Но конфеты слопала.

На горе стоит больница –
Я пойду туда лечиться.
Доктор спросит чем больна,
– Семерых люблю одна.

Две старушки на печи
Ждут омоложения.
Одной восемьдесят три,
Другая без движения.

Эх, ты, юбка моя,
Юбка беленькая,
Мне прохода не дают,
А я целенькая.

Мы частушки вам пропели,
Хорошо ли плохо ли.
А теперь мы вас попросим,
Чтобы нам похлопали.

Мыла юбку голубую –
Вода голубилася.
Я шутя его любила,
А подруга злилася.

Шаматят, шаматят.
Я думала – хлопцы.
Поглядела, поглядела:
Веробьи в коробцы.

*Мікалай ДАЙНЕКА*

# РАСТЕНИЯ ХОЙНИКЩИНЫ И НАРОДНАЯ МЕДИЦИНА

Хойникский район расположен на юго-востоке Гомельской области. Территория района размещена в пределах Гомельского Полесья. Поверхность равнинная, центральную часть района занимают Хойникско-Брагинские высоты. Почти вся поверхность лежит на высотах 110 – 140 м. Около н. п. Стреличево находится наивысший пункт района – 160 м.

В январе средняя температура воздуха минус 6,6 С°, в июле – плюс 18,6. За год выпадает 565 мм осадков. Продолжительность вегетативного периода 195 суток. Из рек, что протекают по территории района, наибольшая Припять с притоками Вить и Турье.

В соответствии с лесорастительным районированием территории Республики леса лесхоза находятся в Полеско-Приднепровском лесорастительном районе, подзоне широколиственно-сосновых лесов (грабовых дубрав) и является частью Гомельско-Приднепровского комплекса лесных массивов.

Возрастная структура лесов, в %: молодняки – 28,4; средневозрастные – 41,5; приспевающие – 20,6; спелые и перестойные – 9,5.

Преобладающими породами являются сосна – 39,4 %, берёза – 28,2 %, ольха чёрная – 10,3 %.

## *Лопух большой*

Наружные корни лопуха применяют для роста волос и борьбы с их выпадением.

В народной медицине отвар из корней применяется при подагре, ревматизме, сахарном диабете, желчно-каменной и мочекаменной болезнях, гастрите, язвенной болезни, кожных заболеваниях (экземах, угрях, лишаях, фурункулёзе).

Настой из листьев используется при язвенной болезни желудка, камнях в почках, печени. Сок из свежих молодых листьев, смешанный с измельчёнными листьями, прикладывают к ранам, язвам, ожогам, пролежням, опухолям.

Из листьев и соцветий готовят отвар в виде ванн – при подагре, ревматизме, в виде примочек прикладывают к больным суставам.

## *Осина*

Кору осины можно использовать для лечения аденомы предстательной железы.

Весной (10 – 25 апреля) необходимо заготовить осиновую кору. Именно в этот период, потому что кору заготавливают, когда ещё не распустились

почки и листочки. Самое удобное – снимать кору с молодых деревьев, диаметром около 7 см. Используется внутренняя белая часть коры.

Её нужно высушить и приготовить настойку (100 г осиновых кусочков залить 200 г водки).

(газета Магазин здоровья № 19(156). 2008г.

(Полная энциклопедия лекарственных растений).

### *Дуб черешчатый*

Ни одно дерево не пользовалось у народов Европы такой любовью и почётом, как дуб. Славяне поклонялись ему, приписывали чудодейственные свойства. Считалось, что дуб был дан богами людям как великий подарок. Славяне же посвятили дуб Перуну. Под священными дубами у славян проходили собрания, судилища, свадебные обряды.

В качестве лекарственного сырья используется в основном кора. Заготавливают её во время сокодвижения (что совпадает с распусканием почек).

Кора молодых ветвей, тонких стволов используется в качестве вяжущего для полосканий при стоматитах, воспалительных процессах зёва, глотки, гортани. Настой – при гастритах и этеритах, язве желудка, желудочных кровотечениях, колитах, дизентерии, холере. Примочки – при кожных заболеваниях, пролежнях.

В народной медицине наружно: при потливости, для обмывания кровоточащих и гнойных ран, полосканий горла и полости рта при воспалениях, для устранения неприятного запаха изо рта, для выведения мозолей; мазь – при ожогах и обморожениях. Кора дуба входит в состав сборов для ванн от золотухи и рахита.

Жёлуди. Жёлудевый кофе и сухой порошок – при колитах, золотухе. Настой и отвар – при рахите, анемии, нервных заболеваниях, сахарном диабете.

### *Чистотел большой*

Многолетнее травянистое растение семейства маковые (*Papaveraceae*). Чистотел известен человеку издавна. В его отваре купали детей, больных чесоткой и золотухой. Соком смазывали бородавки, лишаи, мозоли. Настой травы чистотела, его дозировку для приема внутрь и способ наружного применения, и продолжительность курса лечения определяет только врач. Дело в том, что даже при наружном применении водный настой чистотела может вызвать порой отрицательные реакции.

### *Калина*

В качестве лекарственного сырья используют кору, заготавливаемую в апреле, цветки – в мае-июне, плоды и корни – в октябре.

Очень полезным лекарственным сырьем считается кора калины. Настои коры калины уменьшают возбудимость центральной нервной системы. Из

ягод калины получаются вкусный мармелад, пастила, варенье, джем. Кисели, компоты оказывают сосудосуживающее, противосудорожное и успокаивающее действие. Его пьют беременные женщины при угрозе выкидыша.

Длительный приём препаратов коры калины снижает уровень холестерина в крови, что очень важно при таких заболеваниях, как гипертония, атеросклероз. Кора калины улучшает функции желудка и кишечника, тонизирует и повышает трудоспособность.

### *Подорожник большой*

Подорожник относится к числу самых древних лекарственных средств.

Препараты из листьев подорожника оказывают противовоспалительное, болеутоляющее действие, стимулируют секрецию желудка. Их назначают при заболеваниях органов дыхания как отхаркивающее средство, при некоторых заболеваниях органов пищеварения. Сок или свежие листья, настои из высушенных листьев успокаивают боль при укусах насекомых. Косметологи рекомендуют добавлять сок подорожника в витаминизированные крема, предназначенные для сухой кожи при появлении морщин.

### *Липа*

Липа прекрасный медонос и к тому же – лекарственное растение.

В цветках липы обнаружены эфирное масло, флавоноиды, витамин С, каротин, и ряд других веществ. Настои из соцветий оказывают потогонное, мягчительное, противовоспалительное и противомикробное действие; применяются внутрь, например, при бронхите, наружно для полосканий при ангине, воспалительных заболеваний полости рта и зева. В виде припарок и примочек настой используют при ожогах, боли в суставах.

В народной медицине порошок из листьев липы посыпают на раны, язвы для остановки кровотечения. Слизью из отваренной молодой коры (200 г коры на стакан воды) смазывают раны, язвы, ожоги, больные суставы при подагре, ревматизме. Дёгтем из древесины смазывают кожу при экземе.

Липа сердцевидная (мелколиственная) – Tilia cordata mill. Это крупное дерево высотой до 30 м и густой развесистой кроной. Листья сердцевидной формы, по краю зубчатые, с длинными черешками.

### *Зверобой продырявленный*

В качестве сырья используют траву, собранную во время цветения до появления незрелых плодов. В траве много биологически активных веществ, что объясняет многосторонние фармакологические свойства зверобоя. Недаром в народе называют его травой от 99 болезней.

Зверобой оказывает спазмолитическое действие при заболеваниях желудка, кишечника, желчных путей, обладает ярко выраженными вяжущими, противомикробными, кровоостанавливающими, противовоспалительными свойствами. Внутрь принимают в виде водного настоя и отвара при желудочно-кишечных заболеваниях (язвенная болезнь

желудка и двенадцатиперстной кишки, гастрит, понос), при заболеваниях печени, желчного пузыря, при цистите, недержании мочи у детей, ревматизме. Отвары и настои готовят из расчета 1 – 5 столовой ложки травы на стакан воды.

Как наружное средство используют настой травы, спиртовую настойку, масло. На кровоточащие и инфицированные раны накладывают примочки и компрессы из настоя. Масло хорошо помогает при ожогах, для заживления ран и пролежней. А спиртовой настойкой (30-40 капель на полстакана воды) полощут рот при стоматитах для устранения непонятного запаха, укрепления десен.

Трава зверобоя может вызывать неприятные ощущения в области печени и чувство горечи во рту, снижать аппетит, повышать артериальное давление.

### *Ромашка аптечная*

Ромашку аптечную ценили врачи Древней Греции и Рима, средневековья. Всё растение содержит эфирное масло, но физиологически активные вещества сосредоточены главным образом в цветах. Эфирное масло из них обладает легким противовоспалительным, успокаивающим, дезинфицирующим и обезболивающим действием.

Водные настои цветов назначают внутрь как средство, снижающее спазмы при заболеваниях органов пищеварения, хронических колитах, для стимуляции желчеотделения. Настой применяется также для полоскания рта и горла, при ангинах, ларингитах, зубной боли, для промывания глаз.

В косметике ромашку используют для ополаскивания волос после мытья – это придает им мягкость, эластичность, а светлым волосам золотистый оттенок и блеск.

### *Берёза*

Для нас нет роднее и любимее дерева, чем белоствольная берёза. О ней поют песни, складывают сказки, пишут стихи. Высокая, с белой гладкой корой и плакучей кроной, с листьями ромбической или треугольно-яйцевидной формы, с цветками, собранными в серёжки.

Берёза лечила и лечит от многих заболеваний. Медицина использует почки берёзы, листья и сок, из древесины получают активированный уголь и дёготь. В почках и листьях целый комплекс биологически активных веществ: эфирное масло, флавоноиды, дубильные вещества, витамин С, каротин, никотиновая кислота, микроэлементы.

Водные извлечения из берёзовых почек применяют как мочегонное, желчегонное и дезинфицирующее средство. Эффективны они при отёках сердечного происхождения. Однако применять (особенно длительно) настой почек следует с осторожностью, так как смолистые вещества могут раздражать почечную паренхиму. Листья березы, используемые как мочегонные, таким побочным действием не обладают. Настой из листьев и

почек применяют в комплексной терапии при лечении болезней печени, органов дыхания (ларингиты, бронхиты, трахеиты).

Листья берёзы хороши для приготовления ванн – они действуют на организм успокаивающе, благотворно влияют на кожу, помогают при дерматитах, экземах, ревматизме, подагре, стимулируют обмен веществ.

***Чабрец обыкновенный***

Чабрец (богородская трава, тимьян ползучий) относится к старинным лекарственным средствам, где ему приписывается способность противодействовать гниению, убивать вшей, помогать при головной боли и укусах шершней.

В листьях и цветках содержится значительное количество эфирного масла, что и делает растение ароматным. Препараты чабреца применяют как отхаркивающее и дезинфицирующее средство при сухом кашле, особенно при коклюше, при хроническом бронхите, бронхиальной астме, воспалении лёгких. Назначают их также страдающим гастритом, язвой двенадцатипёрстной кишки, при нарушении пищеварения, отсутствие аппетита. Комплексы – при болях в мышцах, суставах, костях; ванны – при экземе, радикулитах, ревматизме, подагре. Порошком сушённой травы присыпают раны и язвы.

Литература

Золотая книга народной медицины. Энциклопедия. – Сост. В.А. Миронов. – М.: «Звонница – МГ», «РИПОЛ КЛАССИК», 1999. – 736 с.

Лекарственные растения / Авторы – сост. И. Н. Пустырский, В.Н. Прохоров. – 2-е изд., стереотип. Мн.: Книжный дом, 2008. – 704 с. – (Большая книга советов).

Калинин, М. Ю. Водные ресурсы Гомельской области / М. Ю. Калинин, А.А. Волчек ; под общей ред. д.т.н. М. Ю. Калинина. – Мн. : Белсэпс, 2005. – 144 с.

Почвы Белорусской ССР / под общ. ред. Т. Н. Кулаковской. – Минск : Урожай, 1974. – 328 с.

Шкляр, А. Х. Климат Белоруссии и сельское хозяйство / А. Х. Шкляр. – Минск, 1962. – 408 с.

Юркевич, И. Д. Растительность Белоруссии, ее картографирование, охрана и использование / И. Д. Юркевич, Д. С. Голод, В. С. Адерихо. – Минск : Наука и техника, 1979. – 148 с.

*Міхаіл МІХАЙЛЕЦ*

# ФАЛЬКЛОРНАЯ КАЛЕКЦЫЯ ХОЙНІЦКАЙ ЭКСПЕДЫЦЫІ 1981 ГОДА

Значная калекцыя фальклорных матэрыялаў з тэрыторыі Хойніцкага раёна прадстаўлена ў фальклорнай калекцыі аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якая аб'яўлена Саветам Міністраў нацыянальным набыткам.

Першая экспедыцыя па тэрыторыі Хойніцкага раёна была здзейснена супрацоўнікам Інстытута В. Скіданам у 1964 годзе. Вынікам яе сталі запісы традыцыйных і сучасных песень розных жанраў, а таксама сучасных жартаў і анектотаў. Усе матэрыялы экспедыцыі захоўваюцца ў тэкставым выглядзе (ф.8, воп. 1, спр.98, сш. 1 і 4).

Нашмат больш матэрыялаў прынесла навуковая экспедыцыя супрацоўнікаў Інстытута ў Хойніцкі раён 1981 года. У фальклорнай калекцыі тэкставыя запісы членаў экспедыцыі (І.П. Кабашнікава, І.І. Крука, Г.А. Барташэвіч, Л.П. Барабанавай, Л.М. Салавей) скаладаюць пяць асобных спраў. Акрамя таго, у фондзе фоназапісаў захоўваюцца магнітафонныя стужкі з аудыёзапісамі фальклорных твораў, зробленых падчас гэтай экспедыцыі (усяго 24 стужкі з 81 вопісу 20 фонда).

Матэрыялы, сабраныя Г.А. Барташэвіч, паходзяць з вёскі Амелькаўшчына (ф.8, воп.81, спр. 182) і ўключаюць у сябе апісанне народнай драмы "Як у цары гулялі", этнаграфічныя звесткі пра лекавыя травы і спосабы іх выкарыстання, апісанне абрадаў на такія святы як Троіца, Юр'я, Провады русалкі, Гуканне вясны, Вербная нядзеля, Масленіца, Купалле, абрады Пахавання стралы, выклікання дажджу, а таксама апісанне пахавальнай абраднасці. Справа змяшчае таксама тэксты васьмі прыказак і прымавак, пяці замоў, песень (лірычных, вясельных, веснавых, шчадровак, партызанскіх і часоў Грамадзянскай вайны).

Значную цікавасць і навуковую вартасць маюць матэрыялы, сабраныя І.П.Кабашнікавым, Г.А. Барташэвіч і І.І. Круком у вёсках Барысаўшчына і Амелькаўшчына (ф.8., воп.81, спр.183). Яны ўключаюць у сябе апісанне святкавання Каляд з абрадамі "Конь" і ваджэння казы, народную драму "Цар Максімільян", тэксты казак "Пра Марку багатага", "Пра калдунняў", "Пра сіняга", "Як хлопец дзеўку любіў", "Пра курку рабку", "Пра чорта і бабу", "Пра веліканаˮ, "Пра кветку", "Пра Фядота-стралка", "Пра Копуля і пра Івана", "Пра Ямелю-дурачка", "Пра Іваньку-інцюрыста і Валодзьку-гімназіста", "Пра купца", "Пра гора", "Пра трох братоў".

Фальклорныя матэрыялы з вёсак Слабажанка, Глінічы і Віць прадстаўлены ў запісах І.П. Кабашнікава і І.І. Крука (ф.8, воп. 81, спр. 184). Сярод іх вялікая калекцыя песень: 68 вясельных, 30 лірычных, 15 калядных і шчадровак, 10 жніўных, 5 юр'еўскіх, 3 русальных, 3 ваенных, 2 вялікапосныя, 2 турэмныя, па адной бурлацкай, веснавой, жартоўнай, масленічнай песні. У справе змешчаны таксама тэксты васьмі вясельных

пажаданняў, шасці прыпевак, пяці замоў, трох прыказкак, апісанні святкавання Каляд, Провадаў русалкі, карагода.

Запісы Л.П. Барабанавай (ф.8, воп. 81, спр.185) зроблены ў вёсках Амелькаўшчына і Рашаў. У іх багата прадстаўлены песенны матэрыял: вясельныя (19), калядныя і шчадроўкі (11), лірычныя (9), балады (3), веснавыя (3), па адной сенакоснай, партызанскай, жартоўнай, купальскай і песня на Радуніцу. Сярод матэрыялаў даследчыцы таксама 15 прыпевак, 12 загадак, 7 апісанняў карагодаў, 4 апісання дзіцячых гульняў, адна казка. Традыцыйная абраднасць рэгіёна багата прадстаўленая апісаннямі святкавання Каляд, Гукання вясны, Пахавання стралы, Вялікадня, Юр'я, Троіцы, Провадаў русалкі, Троіцы, Купалля.

Разнастайныя фальклорныя творы, запісаныя ў вёсцы Амелькаўшчына, прадстаўлены ў запісах Л.М. Салавей (ф.8, воп.81, спр.186). Сярод іх калекцыя песень (23 лірычныя, 5 балад, адна чумацкая, адна казацкая, адна вясельная, адна шчадроўка і адна русальная), пяць прыпевак, этнаграфічныя звесткі пра чарадзеяў і ведзьмаў, тры народныя прыкметы, апісанні святкавання Каляд, Новага года, Масленіцы, Троіцы, Капалля, Пахавання стралы, а таксама паданне "Пра дачку і бярозу" і казкі "Чаму жанчына не мае часу", "Пра камара і аводня", "Чараўнік на вяселлі".

***М.А. Міхайлец, кандыдат гістарычных навук, загадчык сектара захавання фальклорнай спадчыны аддзела фалькларыстыкі і культуры славянскіх народаў ІМЭФ імя К.Крапівы НАН Беларусі***

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 183.
Зап. К.П. Кабашнікаў

**№ 1 Святкаванне Каляд "Конь"**

в. Барысаўшчына, Барысаўскі с/с,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматары:
1) Віннік Марыя Данілаўна, 1911 г.н.;
2) Талюк Лука Назаравіч, 1915 г.н.,
жыхар суседняй вёскі Віць;
3) Пракапенка Якаў Мартынавіч, 1908 г.н.

Зап. Канстанцін Паўлавіч Кабашнікаў у 1981 г.
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Каляды звязаны з нараджэннем Хрыста, у гэты час наладжваліся гульні. Такія гульні называліся шчадрухай. Шчадравалі ўсе – дарослыя і дзеці. Яны хадзілі па-пад вокнамі і па хатах, гуртам, са звяздой, канём і казой. Удзельнікі гульняў пелі рэлігійныя песні, звязаныя з нараджэннем Хрыста, а затым арганізоўвалі і выпіўкі. Больш за ўсё цанілася гульня з канём. Гэта ваенная гульня. У склад гэтай гульні ўваходзілі сам цар са сваёй світай, былі тут і рыцары з воінам, княгіня з доктарам, цыган, яўрэй і сам дзед-мароз.

У гульні з канём аднаго разу ўдалося ўдзельнічаць і мне [Талюк], гэта было ў 1927 годзе, у 12 год, роля мая была жэнская і называлася княгіняй, падобна нашай снягурачцы. Адзет я быў у жэнскае адзенне, у ботах, апрануты валянай суконнай хусткай. У сваё апраўданне гаварыў такія словы:

– Я, княгіня Кацярына, па ўсім полі хадзіла, усё поле схадзіла, падымуся пад самыя воблакі, апушчуся на сіняе мора, на марсавае [марцава] поле.

После мяне гаварылі другія:

– Богі мае, богі, што я бачу, што я чую…

[Далей Талюк слоў не ведаў].

Конь абыкнавенны, з галавы як жывы. Такі конь з бумагі слеплены, грыву, хваста чапляюць, а тады так дугу абгоняць, ужо абруч такі, ужо асінавы ці што, вось так апінаюць і на воіна вешаюць – казак носіць яго. Ну а жандармы ўжо ходзяць пад вокнамі, пытаюцца, ці можна з канём пагуляць. Ну, хазяін разрашыць, і тады ўжо ўсе ідуць, начальства ўсё, у хату, хто ў ём участуе, у етым кані. Усе гуртом заходзяць, і тады цар ужо:

– Здрастуйце, гаспада, здрастуйце. Чаго маўчыце, разве вам языкі папрысыхалі?

– Папрысыхалі, нада прамачыць, пастарайцеся!

– Адпушчу бочку-саракавушку, дам чорнага хлеба на закуску [гарбушку]. Давольна з вас будзе?

– Давольна.

– За ета "давольна" пакараю вас павольна турэшчынай, нямеччынай, трэйцяе месца, катора самі пажалаеця.

– Паслушайце, рабята: здзесь крутыя горы, нянасныя пагоды, буйныя вятры, жаркія агня, здзесь нам жыць нязьзя. Што я слыхаў за непрыятнасць, што какой-та цар Андрон ідзець на мяне вайною, хаціць мяне звайваць, войска мае забраць. Не знайшоўся б такі чалавек смелы, умелы, вумны, разумны, хто мог ба грозна і смела стаяць, непрыяцеля адбіць?

Ну, тады ўжо ўваходзіць воін ці казак [тут у інфарматараў не было адзінай думкі і ўпэўненасці] і гаворыць:

– Я магу грозна-смела стаяць, непрыяцеля адбіваць. Сіла не вазьмець, лошадзь паб'ець, кроў гарачую разаллёт.

Гуляў я ў чыстым полі, пацяшаў рускую волю, а хто мяне хоча ўбіць, пушчай мой меч ізмерыць.

Уваходзіць ужо воін:

– На горы стану – горы трашчаць,
На воды стану – воды кіпяць,
На караб стану – караб павярнецца,
На зямлю стану – зямля здрыганецца.

Я – воін Аніка, сем лет ваяваў, шашкі не ачышчаў, зваяваў руска-прускую граніцу, на руска-прускай граніцы пёк булкі-паляніцы, галушкі кат*а*ў – у Торань пападаў.

Усе рабята здзесь?

– Усе.

– Пращчайце, гаспада.

[Чые зараз пойдуць словы, інфарматары дакладна не вызначылі, меркавалі, што княгіні].

– Што ты за рыцар, што ты за марац, што ты ўсех князей прэпаручаеш? Ка мне ўсе князя-багатыры з'язджаюцца, славу-чэсць аддаюць, а ты мне хаціш падасці хітрасцю, сэрца маё разрубіць, кроў гарачу разліць.

– Да я не хачу падыйсці к табе хітрасцю, я хачу з табой біцца-рубіцца, на войструм мячы расхадзіцца.

[Кабашнікаў: – Гэта хто хоча біцца?

Інфарматар: – Рыцар із воінам. А тады ўваходзіць княгіня, пачынае гаварыць. Яшчэ ж Адолька, цараў сын.]

– Я, Адолька верны друг, умесце пілі, умесце елі, умесце к дзяўчатам на вячоркі хадзілі. А за што на мяне папаша рассярчаў, хаціт галаву зняць, но ні ён зніме, я зніму, свой меч падхвачу, ва гроб палажу. Ідзі ні пабядзі.

А тады ўжо княгіня:
– Я, княгіня Кацярына, па ўсём полю хадзіла, усе поле карыла, адно Марца непакорна. Падымусь-падымусь пад самыя аблака, апушчусь-апушчусь на сіняе мора, на марцава поле. Еслі злой Марац не явіцца, маяму мячу (маёй сіле) не пакарыцца, нашлю на яго тучы-молніі, патаплю войска яго.

Воінаў было штук 5, маленькі ролі ў іх.
Цар гаварыў больш за ўсіх. Яшчэ спявалі песні.

Што ж то за воін ваяваў,
Адзін ён у полі ваяваў||. – 2 разы
Конную пеш(ч) пешаваў.
Праходу мальчык не даваў. – 2 разы
Цяпер жа бярыця рубіць,
Не плачце горко аба мне. – 2 разы

Гэта ўжо спяваюць, як усе чыста з хаты выходзяць.
А гэтыя ролі пераігралі, затым – вызваць сюды доктара. А доктар вызваў дзеда і гаворыць:
– Чым, стары, жалішся?
– Да ногі баляць.
– Тваі ногі паставіць на парогі, кіпятком апарыць, малатком ударыць – будуць як прэжнія былі.

А кравец ужо, ета яўрэй, там прышые што-небудзь ды атарве.
– Я ня ўмею ні шыць, ні кроіць, толькі латачку прыстроіць.

Паследняму дзеду заіграла музыка, пайшлі яўрэй, дзед і цыган танцаваць. А цыган дурыў:
– Дай, бацю, конікам аўса, дай, бацю, гарэлкі, дай, бацю, хлеба.

А ўжо дзед, да ўжо цыган там у печ лазяць, цягнуць, што там па каморках і ўсюды. А тыя ж на "начальства" глядзяць, на цара, воіна.
Музыка была – гармошка, танцавалі "Гапака".

Доктар:
– Я лячу-праўлю, на ногі стаўлю. Ва ўторак чуць свет прыходзіла ка мне 77 чалавек. Я ўсі адправіў на той свет.

Як каня ўбіралі, гэта ўжо для прыкраскі, прама нахраст лентамі такімі, ну як ўсё роўна конь запрэжаны.

А яго дзелалі з такіх лазовых сухіх палачак пад фігуру каня, абцягвалі мацерыялам і клеям абклеівалі, тады бумагай разукрашвалі, і ён лёгкі, ну форменны конь. Уся аддзелка была, што паглядзіш на гэтага каня – гэта дзейсвіцельна конь. Усе ў шашках былі драўляных.

– Цяпер жа бярыце, рубіце,
Не плачце горка аба мне –
і тут ужо шашкі бразкацяць.

Спявалі і такія песні:

За Уралам за ракой
З казакамі драўся,
А казакі непрацякі,
Вольныя рабята.

І яшчэ:

Цар на шаблю апіраўся
[ ] стаяў,
Падоўгу з мілаю прашчаўся.
Ні сказаў: душа, прашчай.
Па лінеячке хранцузскай
Прадвадзіцель рускі цар.

У адказ на словы княгіні Марац гаварыў:

– А богі мае, богі, што я бачу, што я чую (што я віжу, што я слышу), што жэнска плоць-непрыятны голас па полю таскаецца, сама сабой выхваляеца, на мяне, Марца, наразаецца.

Адольку вялі, каб галаву рубіць:

– Цяпер жа бярыця, рубіця.
Не плачця горка аба мне. – 2 разы.

Цар меў пагоны, шапка без кіціц, тры красты, а ў астальных воінаў былі высокія шапкі з кіціцамі. А ў цара быў царіндр. Ну як вядро, а ў эціх – конусныя шапкі, як трубкі, што на канхветы круцяць.

Я круг здзелаў, перагаврыў і ў сторану, а потым другі выходзіў і таксама казаў сваё.

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 183.
Зап. Г.А. Барташэвіч

**№ 2 Народная драма "Цар Максімільян"**

в. Амелькаўшчына,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Саўчанка Ігнат Іванавіч, 92 гады.

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

– Дзядуся, дык вот вы мне раскажыце, колькі чалавек хадзіла з гэтымі царамі.

– Дванацаць чалавек.

– Ну і што, і ўсе яны былі аднолькавыя?

– Не, не аднолкавыя, разныя ж былі: скараход буў, бурмалей буў, была княгіня – разнае такое вот было.

– У кожнага была свая роля?

– Свая роля.

– А быў азін цар, а ўсё эта былі ўжо яго падчыненныя?

– Адолька, гэта ўжэ ўродзі наследнік.

– А як цара звалі?

– Ну, цар, цар да і ўсё.

– А Адолька, эта ўжо быў яго наследнік?

– Яго наследнік.

– Гэта значыць сын.

– А хто яшчэ там быў?

– Ну, княгіня была, эта жэншчына, ну бурмаліл (бурмаіл), патам скараход, ну доктар буў, жыд буў, дзед буў.

– І музыкант быў?

– Ну а як жа.

– Дзядуся, скажыце, а як гэта развучвалі, кожны павінен быў нешта сваё гаварыць?

– Не, буў спецыяльны ўстаў такі, ну вабшчэ састроены, кромі нас, а з естага уставу завучалі так вот, як і цяпер кніжкі вучаць, што нада, завучалі, значыць, і патом, называўся ўжэ цар, скараход; скараход гэта самую бальшую роль іграў.

– Ну што ён прыходзіў і што-небудзь гаварыў?

– Ну расказваў, прыходзіў; па хатах жа хадзілі, ета не то што там дзе-нібудзь у клубі, тады ж і клубаў ні було, па хатах хадзілі; вот піходзяць, просяцца: "Пусціце з царамі пагуляць". – "Ідзіце". Ну і піходзюць у хату,

значыць, прадстаўляюць сваё ета; кончылі ў етай хаці, піряходзяць у другую хату. Просяца ж, не то што так нахальна ідуць.

– Эта адны і тыя ж хадзілі кожны раз?

– Адны.

– А яны ўжу зарань вывучылі тое, што трэба гаварыць?

– Ну.

– А хто іх навучаў?

– Ну дык я ж вам гаварыў, што быў устаўчык такі напісаны.

– І хто-небудзь арганізоўваў гэта ці так ужо самі арганізоўваліся?

– Самі.

– Не то што каб хто з горада ці адкуль прыехаў?

– Не, з горада нікога не было.

– Ну і што яны там з шаблямі, ці як яны былі апранутыя?

– Ну падзеланыя шаблі былі дравяныя, ну пакрашаны краскаю, абарудаваны, а еты ўжу цары каждага адзёжа: у бармаліла свая адзёжа, у скарахода свая адзёжа, у Адолькі свая адзёжа, у цара свая адзёжа, і сколькі было там іх і ўсі ў сваёй адзёжы. Адзёжу шылі з бумагі самі, партны тут буў у нас адзін.

– Дзядуся, а што гэта галоўны цар гаварыў, не помніце?

– А што ён гаварыў? Ён сваю роль іграў і ўсё.

– А вы не помніце, якая была ў яго роль, што ён там прадстаўляў?

– Ну спрашываў, спрашываў у Адолькі: "Дзе ты буў раней, чаго не явіўся раньшы?"

– Ну а Адолька, што яму казаў?

– "[Па] Волгі-речкі катаўся і з разбойнічкам відаўся".

"А вас многа там было?"

"Дзвінаццацьчалавек".

"А еслі б я там буў?"

"І вам ба б галава з плеч".

Ну ён адвячаў: "Ці можна сыну царскаму Адольку прі Волгі-речкі катацца, з разбойнічкам відацца?"

– Ну і што ён атвячае?

– Ну атвячае, значыць, ну кажны за сваё дзела атвячаў.

– Ну а тады з Адолькаю рабілі што ці не?

– Не, не. Ну было так, гульня була такая, ігралі.

– Ну і доўга яна цягнулася гэта гульня?

– Ну, пака ўсе не выскажуць сказы свае.

– А што бармаліл высказваў?

– Ну што ён тожа катаўся, значыць, і тожа так ваяваў, значыць, і там наказваць нада за ета. Ну і яўрей жа буў, і дзед буў.

– А што яўрэй гаварыў?

– Яўрэй бальшую роль іграў.

– Ён пра што гаварыў?

– Ну гаварыў пра то, што паложана было яму. Пытаецца ўжу ў яго скараход: "Што ты відзеў там прі Волгі-речкі?" – Ён гаворыць: "Многа відзеў

чаго". – "Ну што там?" – "Разбойнікаў многа відзеў". – "А как ты?" – "А я, – гаворыць, – ня мяшаўся ў ета дзела".

І так яно адно за адно чаплялася і шло так.

– А цыган? Цыган прадстаўляўся проста, штукі разныя рабіў, ці тожа што гаварыў?

– Не, мала ён гаварыў.

– А пра што княгіня гаварыла?

– А княгіня гаварыла так вот, кагда бармаліл гаварыў, што нападае, значыць, дак ён гаварыў ужо, бармаліл, што "я перад сабою відзець віжу і слышаць слышу, што ты за княгіня, пракрасна дзявіца, тока па ўсіх палях таскаеце, на мяне, бармаліла, наразаеце. Я дзенна-ночна сплю, да войстры шашкі тачу, а табе на бок голаву звярну". Ну і так кажды расказвае такое.

– Ну а што княгіня яму атказвала?

– Ну дак яна же і атвячала ета, што "я па ўсіх палях таскаюся, на цябе... наразаюся".

– А што рабіў мужык?

– Мужык? Там жа мужыка ўжу не було.

– Ну там што – і танцавалі?

– Ну а як жа, музыка іграець і танцуюць.

– І песні якія пелі?

– І песні пелі.

– А якія песні? Салдацкія, мабыць?

– Не, такія, вабшчэ, так сказаць, як яно было па ўставу напісана, такія і пелі.

– А якія па ўставу былі напісаны?

– Напісаны, што, значыць, як вам сказаць, ну, чалавек той займаўся тым, а той тым.

– А дзе гэты ўстаў бралі?

– Дык яго ў раёне бралі. Спеціяльна разрашэнне было, так нільзя было, толькі разрашэнне.

– А хто разрашэнне даваў?

– Паліцыя.

– А як паліцыя не разрашае, дык і не вадзілі?

– Не, ну яна ўжу мала ўказанне на эта.

– Гэта яшчэ да рэвалюцыі ў цара гулялі?

– Ага.

– Ну і да каго ў хаты заходзілі, з каго пачыналі?

– У любой хаце, начыналі з канца і да канца. Хто гаварыў не нада, туды не заходзілі. Скараход ходзіць і пытаецца, ён адзін ідзе, а ўсе стаяць на дварэ, а як ён спрасіў, значыць, разрашаеце, тыя, на вуліцы, ідуць у кварціру і начынаюць прадстаўленне сваё.

Што ж, хадзілі, красіва було. Убор жа буў увесь, увабраны, значыць, у касцюмах, патом эці палеты былі рознага колеру, шапкі былі разныя.

– А пан у вас быў у вёсцы?

– Не.

– І пану не паказвалі?

– Не. Можа яно ў другіх, эта, знаеце, не ў каждым месце, не ў каждым раёне. У нас не была етага.

– Дзядуся, а вы, кажуць, ў рэвалюцыі ўдзельнічалі. Дзе вы тады былі?

– У арміі быў, патом партызаніў да етага таксама.

– На той на германскай вайне былі таксама?

– Да, буў. Ранены, два раза ранены. У мяне ж во тут пранізнула пуля, дак вот цяраюся, цяпер вот з галавой на старасць стала плоха, – расказваю што-небудзь і путаюся, забываюся.

(...)

– Дзядуся, яшчэ хачу запытацца пра тыя цары, вы самі ўдзельнічалі?

– Ну.

– А каго вы там прадстаўллі?

– Скрахода.

– Дык вы добра ведаеце, што скараход казаў, скажыце мне, што ён казаў.

– Ну прыходзіць скараход, просіцца: "Пусціце з царамі пагуляць". Разрашаюць. Ён уходзіць і гаворыць: "Вот звініце, гаспадар, што я прібыў к вам сюда, ізвініце аб том, што я ў адзеянні худом, у меня есць мундзір другой, светла-празднічный галубой, як я пайду яго надзяваць, дак будзіце ўремя долга ажыдаць. Звініце, – гаворыць, – пачценні гаспада, січас явіцца цар Максімільян к вам сюда". Ну ён пріходзіць, царь, у хату, там якая скамейка стаіць, ён гаворыць: "Для каго еты сільный трон саружон?" – "Для цара Максіміл'яна". – "Я, – гаворыць, – як сажуся на еты сільный трон, дак трасёцца зімля перада мной. Я суджу вінных, невінных, правільных, неправільных; еслі я, – гаворыць, – не па-правільнаму суджу, знясі мяне, божа, на сіняе мора, на жоўтыя пяска, дзе ц*а*ру Максіміляну жыць таска".

Тады вызываіш, штоб нам Скараход явіўся з паклонам к цару. Скараход яўляіцца: "Здраствуй, цар Максімілян, я прібыў к вам сюда". – "Я цібе вот загадаю дзела". – "А якое, цар, дзела?" – "Узяць ніпасредствінна вызваць сына Адольку ка мне".

Ну і я ўжу вызываю. Ну і ён пріходзіць, к яму падходзіць, астанаўліваецца і гаворыць: "Здрасце, папаша, какіе дзела павелічаеце, зачэм мяне вызываеце?" – "Дзе ты раньшы быў, пачаму не пріхадзіў?"

Ён ужу расказвае, што прі Волгі-речкі быў, катаўся, з разбойнічкамі відаўся, – і вот эта ўжо, сколькі вас было, спрашываець, і так і так расказываець.

"А еслі б я, – гаворыць, – там буў?" – "І вам ба б галава з плеч". Вот ён гаворыць: "Ці можна сыну царскаму Адольку прі олгі-речкі катацца, з разбойнічкам відацца?"

Вызывае мяне абратна: "Скараход, з паклонамі явіцца перада мной". Ну, я яўляюся: "Што, цар Максімільян, требуець?" – "Узяць майго сына Адольку, завезці ў цёмну цямніцу, адпусціць яму пол кружкі вады, сухар хлеба і давольна с няго".

Астльныя гаворац: "Казніць, казніць, за ета нільзя прасціць".

– Ну і што, і казнілі таго Адольку?

– Не.

– А што яго толькі вазьмуць і выведуць, ці тут ён астаецца?

– Не, астаецца ён у радах. Тады зноў вызываюць скарахода, патом яўрэя вызываюць.

– Цар вызывае яўрэя?

– Не, скараход, ета яго роль. І старіка ўжо вызываюць.

– Ну а што ім гаворыць цар?

– Ну, пашыць, значыць, сыну Адольку на смерць разнае плацце с халста, так ён ужу і прыкладае.

– Эта яўэю такі загад?

– Ну, яўрэю. Так ён атвячае, што "паш'ем, паш'ем с свінога хваста". – "Да какіе хвасты паганяеш, гавары правільна, а то галаву зніму," – я ўжэ так на яго гавару. Ну і ён яшчэ што-небудзь такое прыдумае, я ўжо і сам пазабываў.

– А што старыку ён гаворыць?

– А старыку ўжэ захараніць яго, как-будта яго ўжэ ўніштожылі, сказнілі, дак ужэ захараніць нада Адольку. Дык ён прыйдзе ўжэ к яму да пастаіць, да гаварыць: "Наследніка схаранілі, сам нездароў стаў". Тады ўжэ доктара вызываюць.

– А каго доктар лечыць?

– Дак ён спрашываецць, ён... лячэнне якое, хіба тады. "Што ты, старічок бальны". – "Бальны". – "Я віжу, які ты бальны, як альховы пень. Што цябе на сяле бабушкі лячылі?" – "Лячылі". – "Я, – гаворыць, – панімаю бабскія лекі: с хвартушка ды ў пялёнку да ўсё старіку ў галёнку". Да і гаворыць: "Дак чым жа ты, старічок, бальной?" Ну ён гаворыць брухам, там, вухам, гаворыць ён, прідстаўляе. "Я віджу, старічок, чым ты бальной, ты бальной, як альховы пень. Дак што ў цябе баліць?" Дак ён гаворыць: "Вуха". – "Дак вот тваё вуха, прістaвіць шчалабанскую муху, штоб ні было старіка чэраз тры мінуці духу", – і так далей. Яшчэ што – башку. "Вот тваю башку завязаць у мяшку, варам пріваріць, тры разы чакухай ударіць – будзіць здарава".

– А што гэта за чакуха?

– Даўбешка.

– Яшчэ што – ногі. "Вот тваі ногі пакласці на парогі, атрубіць, а казліныя прістaвіць, а нам, малайцам, драпака ўдаріць". І музыка зайграіць да і танцуюць, вот ета і ўсе, ужэ і канчаецца.

– А калі ж Бармаліла вызывае Скараход?

– Ну яно па ролі само.

– І Бармаліла, і княгіня выходзіць, так чапляецца адно за адно.

– Ну гэта, мабыць, яшчэ іх вызываюць, Бармаіла вызываюць да таго, як дзеда, як яўрэя, яшчэ да гэтага?

– Ну да.

– А Бармаіл хто такі?

– Ну воін такі.

– Пры цары?

– Ну.

– Дык гэта яму даецца прыказ пакараць сына Адольку?

– Ну.

– Бармаілу?

– Ну.

– А княгіня што павінна рабіць, выратоўваць Адольку?

– Ну а як жа, яна зашчышчала сама сябе.

– А Адольку не зашчышчала?

– Не. Яны каждая сваю роль іграла і ўсё. Чуднае было такое прадстаўленне, карціна.

– Дзядуся, а пасля рэвалюцыі вы не знаеце, не хадзілі з гэтымі царамі?

– Не, не хадзілі.

– А хто-небудзь з тых, хто хадзіў, яшчэ жывы ёсць тут?

– Не, няма, пазміралі ўсе, астаўся толькі я адзін.

– Ездзілі з гэтымі царамі па чужых дзярэўнях?

– Ездзілі, на Аўраамаўскай булі на станцыі, там жа памешчыкі ж булі, дак там у яго ўжу прадстаўлялі, госці булі. Інцірэсная гульня была. Цяпер няма такіх людзей і не здзелаюць, ужо пазабуваліся, хоць я і ўчаставаў, дак я ўжу палавіну пачці забыўся.

– Дзядуся, а княгіня гэтая эта была жанчына ці тожа хлопец пераадзяваўся?

– Не, хлопец пераадзяваўся. Адзяваў плацця, спадніцу ці юбка называлася.

– А вот як кончылася гэта прадстаўленне дык што, давалі якія-небудзь падарункі?

– Ну а як жа, ну. Грошы давалі і так давалі, дак коньмі ж ездзілі, вазамі, дак збіралі, што давалі. Сала давалі, хліб давалі.

– А тады ўжо збіраліся і гулялі?

– Ну тады ўжэ ў складчыну да хадзілі і гарэлку бралі, выпівалі.

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 182, сш. № 2
Зап. Г.А. Барташэвіч

**№ 77**
ф. 20, воп. 81, ст. 11, № 4

в. Рашаў,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Якіменка Сарафіма Цітаўны, 65 год.

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

(…) А жэншчыны хадзілі спявалі там, ну, усякія там, шчадравалі. Прыдуць к вакну, (у хату не хаділі, жэншчыны), прыдуць к вакну:

– Добры вечар!

– Ну, добры!

– Пазвольце нам што-небудзь вам спець.

– Ну, пейце.

Ужо яны пачынаюць песню якую-небудзь, так яны ўжэ шчадруюць. У каго пчолы есць, дак кажуць:

У нашага хазяіна
Харошы пчолы,
Ой, люлі, ой, люлі,
Харошы пчолы.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 3**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Шчадроўная гаспадару

Што ў нашага пана вумная жана,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Закупіла яна да й тры гарада,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Што первы горад да із панамі,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
А другі горад із казакамі,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
А трэці горад із мужыкамі,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Із мужыкамі – поле араці,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
А з казакамі жыта сеяці,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Жыта сеяці, солад дзелаці,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Солад дзелаці, піва варыці,
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!
Піва варыці, сына жаніці.
Бог яму даў вумную жану ў яго дом!

Віншаванне:
Паздараўляю вас із Новым годам, святым Васіллем!

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 104**
ф. 20, воп. 81, ст. 38

в. Амелькаўшчына,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Марыя Кірылаўна Царанок, 82 гады.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Шчадроўная гаспадару

А ў полі, полі

Пчолкі гулі.
Сьвяты вечар!

Пчолкі гулі
Царкву будавалі
Сьвяты вечар!

Цэркаў будавалі
З трыма вярхамі,
Сьвяты вечар!

З трыма вярхамі,
З трыма вакнамі,
Сьвяты вечар!

Ў першае вакно
Сонейка ўзышло,
Сьвяты вечар!

У другое вакно
Месячка ўзышло,
Сьвяты вечар!

Ў трэцяе вакно
Ангал уляцеў.
Сьвяты вечар!

Й ангал уляцеў,
На прыстоле сеў.
Сьвяты вечар!

На прыстоле сеў,
лёзачку ўраніў,
Сьвяты вечар!

З тае слёзачкі
Пацяклі рэчкі,
Сьвяты вечар!

У той рэчачцы
Сам Бог купаўся,
Сьвяты вечар!

Сам Бог купаўся
Із Сусам Хрыстом

Святы вечар!

Із Сусам Хрыстом
Святым Ражджаством,
Святы вечар!

Святое Раство
Радасць прінясло,
Святы вечар!

Свято Васілле
Развесяліла,
Святы вечар!

Іван Красціцель
Воду акрасціў,
Святы вечар!

Воду акрасціў
На ўвесь свет пусціў,
Святы вечар!

________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 1**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Шчадроўная хлопцу
(спявалі вечарам перад старым Новым годам)

Па-за лазамі дымы стаўпамі,
Святы вечар!

Ой, то не дымы, з коней пара йдзе,
Святы вечар!

З коней пара йдзе, хлопчычак едзе,
Святы вечар!

Хлопчычак едзе, сто коней вядзе,
Святы вечар!

Сто коней вядзе, сабе жонку вязе.
Святы вечар!

– На табе, татка, сто коней у двор,
Святы вечар!

На табе, мамка, нявехну за стол,
Святы вечар!

Да й вучы яе, як сама знаеш:
Святы вечар!

Штоб жонка прала да й не ўварвала,
Святы вечар!

Штоб шолкам шыла да й не лакшыла.
Святы вечар!

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 2**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Шчадроўная дзеўцы

Малада Манячка пшаніцу жала,
Святы вечар!

Пшаніцу жала, ў тры рады клала,
Святы вечар!

Да й прышло ж і к ёй сямёра сватоў,
Святы вечар!

– Малада Манячка, ці пойдзеш за нса?
Святы вечар!

– Не бярыце мяне да ў чыстым полі,
Святы вечар!

Бярыце мяне ў таткавым доме,
Святы вечар!

Ў таткавым доме да тры старажы,
Святы вечар!

Перва старожа – татка на куце,
Святы вечар!

Друга старожа – мамка ў парозе,
Святы вечар!

Трэцяя старожа – братка ў вароцех,
Святы вечар!

Татка на куце гарэлачку п'е,
Святы вечар!

Мамка ў парозе падаркі рэжа,
Святы вечар!

Братка ў вароцех каня сядлае,
Святы вечар!

Каня сядлае, сястру ўражае*,
Святы вечар!

– Едзь, мая сястра, да з майго двара
Святы вечар!

*ўражае – выраджае, збірае ў дарогу

________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 5**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Калядная, што спявалі хлопцы

А ў полі, у полі
Плуга ходзіць,
Валы водзіць.
А Прачыстая паганяе,
Няхай вам, дзядзюхна,
Бог засылае.
Жыта, пшаніцу,
Усяку пашніцу,
А нам, дзядзюхна,
Дай паляніцу.

_________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 6**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Веснавая песня

(як распускаюцца лісці на
дрэвах дзяўчаты ідуць на
бераг ракі і пяюць над вадой,
каб голас далёка йшоў).

Ой, ня стой, верба, над вадою,
Над вадою.
Не сцялі голле па Дунаю,
Па Дунаю.
Дунайская вада хітлівая,
Хітлівая,
Як дзень, так ночку прыбывае,
Прыбывае,
Вярбе карэнне падмывае.

(в.Асарэвічы знаходзіцца зусім недалёка Дняпра (…) Дзіўна, што ў песнях няма Дняпра, ёсць Дунай. (…) у Вялікі пост тут не спявалі, а веснавую песню, як надыходзіў час, спявалі незалежна быў пост, ці ўжо кончыўся.)

__________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 9**
ф. 20, воп. 81, ст. 36,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Жытнім жнівом
(балада)

Ой, няма краю да й зялёнаму гаю,
Ой, няма міру да ўдавінаму сыну.

Ой, няма міру да ўдавінаму сыну,
Іссушыў, ізнудзіў да чужую дзяціну.

Іссушыў, ізнудзіў да чужую дзяціну.
Што із вечара да камора звінела.

Што із вечара да камора звінела.
Пад апоўначы да нагайка шумела.

Пад апоўначы да нагайка шумела.
Пад дзень беленькі міла мілага прасіла.

Пад дзень беленькі міла мілага прасіла.
Ох, ты міленькі мой, сізакрыленькі горле,

Ох, ты міленькі, сізакрыленькі горле,
Да не бі ты мяне па галовачцы больна.

Да не бі ты мяне па галовачцы больна,
Не марай жа маёй ты пасцелечкі кроўю.

Не марай жа маёй ты пасцелечкі кроўю.
Як пайшла свякруха да й нявестку будзіці,

Як пайшла свякруха да й нявестку будзіці,
А нявестка ляжыць, як саржыначка сіня.

А нявестка ляжыць, як саржыначка сіня.
А сыночак стаіць, як сняжыначка белы.

А сыночак стаіць, як сняжыначка белы.
Ох, цяпер, мая мамка, я ўчыніў тваю волю.

Ох, цяпер, мая мамка, я ўчыніў тваю волю.
Забіў жонку сваю, сам пайду ў няволю.

Забіў жонку сваю, сам пайду ў няволю.
Запрагай жа, сынку, да сівую кабылку,

Запрагай жа, сынку, да сівую кабылку,
Да ўцякай жа, сынку, на чужую старонку.

Да ўцякай жа, сынку, на чужую старонку.
Да кладзі, сынку, там сваю ты галоўку.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 40**
ф. 20, воп. 81, ст. 37,
в. Асарэвічы,
Брагінскі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Паўліна Сяргееўна Падвербная, 1922 г.н.
Ніна Цімафееўна Канцавая, 1923 г.н.;
Кацярына Сцяпанаўна Падвербная, 1923 г.н.
Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Палявая
як жыта жнуць

Зажурылася маладая ўдава,
Маладая ўдава,
Што някошана зялёна доброва,
Зялёна доброва.
Найму касароў семдзесят чатыры,
Семдзесят чатыры,
Штоб пакасілі ўсе горы, ўсе даліны,
Усе даліны.
Касары косяць, а вецер павявае,
Вецер павявае,
Малада ўдава па лугу пахажае,
Па лугу пахажае,
Дробнымі слязамі пакосы палівае,
Пакосы палівае.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 186, сш. № 1.
Зап. Л.М. Салавей

**№ 106**
ф. 20, воп. 81, ст. 38,
в. Амелькаўшчына,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Царанок Марыя Кірылаўна, 82 гады;
Царанок Настасся Макараўна, 82 гады

Зап. Лія Мацвееўна Салавей,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

на русальным тыдні

Правяду русалачку да бору, да бору,
А сама вярнуся да дому, да дому,
Да сама вярнуся ў таткаў двор, таткаў двор,
А ты, русалка, ідзі ў бор, ідзі ў бор.

———

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 185, сш. № 2.
Зап.

**№ 75**
ф. 20, воп. 81, ст. 26, № 8
в. Амелькаўшчына,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:

Зап. Ларыса Пятроўна Барабанава,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Страла

Як пушчу стралу дай па ўсём сялу.
Ой, лялей вада каля горада*.
Ой, упала страла пасярод сяла
Да ўбіла страла ліхога змея**.
Ой, ляжыць цела ліхога змея,
Ніхто к целяйку не прыступіцца.
Прыступіліся тры паненачкі***,
Да й ўзялі цела да й на ручачкі,

Да й паняслі цела да й да цэркаўкі.

* Паўтараецца пасля кожнага радка;

** Так пела Аляксандра Фёдараўна, што з в. Койпаўшчына Брагінскага р. (10-15 км ад Амелькаўшчыны). А Паўліна Іосіпаўна гаварыла, што ў іх у Амелькаўшчыне пелі "добрага молайца". Дарэчы, "стралу" яны разам не прапелі, бо співаюць не зусім аднолькава – "у нас зацягваюць" казала Аляксандра Фёдараўна, тэкст песні даецца па яе пераказу.

*** Паўліна Іосіпаўна ўдакладніла – "Прыступілася стара баба, а тады тры паненачкі" – так у Амелькаўшчыне.

**№ 72**
ф. 20, воп. 81, ст. 9, № 7

в. Амелькаўшчына,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
1) Буднік Харціна Артамонава, 80 год;
2) Варвара, 82 гады.

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Як русалку праводзілі
этнаграфічнае апісанне

Калісь русалку праводзілі, эта яшчэ я дзеўкай была. Русалку розкамі ўсякімі, здзелаюць. І туды з гармошкаю. Мельніца была, за мельніцу. Калісь малола ветрам, як вецер, так малола, а як не – то не малола. Дак туды яны ўжо. І танцы былі, і песні.

На граной нядзелі
Русалкі сядзел(і),
Ой, рана-рана,
Русалкі сядзел(і).

Русалкі сядзелі,
Дзевак напужал(і)

Каментар: Больш забуваюсь. Усякага, усякага было.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 182, сш. № 2
Зап. Г.А. Барташэвіч

**№ 83**
ф. 20, воп. 81, ст. 11, № 10

в. Р*а*шаў,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Якіменка Сарафіма Цітаўна, 65 год;

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Як русалку праводзілі
этнаграфічнае апісанне

На русальну нядзелю плятом вянкі да ідом па дароге ў жыце. Да й пяём:

Правяду русалку да броду,
А сама ўцяку ў камору.

Тады кажуць:

Правяду русалку ў цёмны лес,
А сама пайду к татку ў клець.

[у сшытку пакінута месца радкі на тры перад наступнымі словамі, больш, чым звычайна адступаеца]

Правяду русалку да бору,
А сама ўцяку ў камору.

Правядуць русалку, а самі ідуць дадому, кідаюць вянкі на грады, на гуркі. Эта, кажуць, на ўражай. Эта па-калішняму, такая прымха была.

А вянкі плялі з лугавых крсак. Там сінянькіе е такіе па лугам бальшынство, жоўтыя, сінія. А каторыя плялі хмель. Не ўсе аднакавыя вянкі, вянкі разнаабразныя. А русалцы плялі з хмелю, назатыкаем толькі цвятоў, а хмель зялёую такую, пусцім о так, да папускаем, штоб яны бла пахожа на русалку, распусцім косы ей.

Не надто хто хацеў быць русалкай, але што её адходзіць. Эта ж ей ада была бала каго-небудзь лаваць у жыце, а ўжэ тыя бягуць. Мы ўжо от вядом, вядом, закончым песню, а яна ўжо сабіраецца да бяжыць каго-небудзь лаваць, штоб ізмяніцца. Каго словіць, той ужо русалкай будзець. Так тры разы змяняюцца і ўжэ ідуць дадому. Хадзілі і хлопцы. Тут жа дома збіраемся, хлопцы прыдуць гарэлку піць, музыку прывядуць.

Эта перад тройцаю, жыта як красуе.

___________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 184, сш. № 1
Зап. К.П. Кабашнікаў

**№ 75**
ф. 20, воп. 81, ст. 11, № 2

в. Р*а*шаў,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Якіменка Сарафіма Цітаўна, 65 год;

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Пра "стралу"
этнаграфічнае апісанне

Стралу вадзілі. Набяруцца багата каго, чалавек пятнаццаць, дзесяць, восем – сколькі там падойдзе кунпанія, і бяруцца, адзін сільны бярэцца ўперадзі, штоб махнуць, так штоб стрла завярнулася. Па вуліцы яны, ці па плошчадзі, дзе вот так. От станаўляцца ў рад, толькі не бяруцца за первага.А потымэты первы, самы сільнейшы, убіраецца. Там пяюць:

Як пушчустралу,
Да па ўсём сялу.
Ой, люлі, ой, люлі,
Да па ўсём сялу.

Ну, тды ўжо етыіх кружане ўсіх. Ён мож ўсіх не падалеў бы крутануць, ну а мы ўсе так заварачваем (а калі ён ужо бярэцца, нам чутна, што ён ужо ... канец, значыць і мы так заваракуем).

___________

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 182, сш. № 2
Зап. Г.А. Барташэвіч

**№ 84**
ф. 20, воп. 81, ст. 11, № 11

в. Р*а*шаў,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Якіменка Сарафіма Цітаўна, 65 год;

Зап. Галіна Аляксандраўна Барташэвіч,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Пра тройцу
этнаграфічнае апісанне

На тройцу толькі рубалі зялёнае: там клён, ліпу, убіралі дома – у доме і так от. Папазатыкаем. Эта калішняе. Песень не было.

Ваабшчэ не разрашалі сарыкі пець на тройцу. На тройцу не разрашалі стрыкі пець песень, нават святыя песні.

**№ 85**
ф. 20, воп. 81, ст. 11, № 12

в. Р*а*шаў,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Якіменка Сарафіма Цітаўна, 65 год;

Пра забароны пець

Не разрашалі на паску на первы дзень, на прачыстую первы дзень. На другі дзен хоць пуза разарві, пей, што хочаш, а тут песні не падбіраліся на прачстую, а якія пяеш, гражданскія, якія папала. А прачыстая ета 28 аўгста.

У пост, божа спасі, не пеліся песні.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 184, сш. № 1
Зап. К.П. Кабашнікаў

**№ 43**
Без магнітафона

в. Глінішчы, Алексіцкі с/с,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Сенька Марыя Васільеўна, 1911 г.н.;

Зап. Канстанцін Паўлавіч Кабашнікаў,
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

Як каня вадзілі

Памерла наша кнгіня,
Многа пеўчых нанялі.

Многа пеўчых запялі,
На кладбішча панязлі.
Як прынеслі на кладбішча,
Здрыганулася зямля.
Як пускалі гроб у магілу,
Пашатаася трава.
Тагда людзі ўсе ўвазналі,
Што нязмершая душа.

**№ 44**
Без магнітафона

в. Глінішчы, Алексіцкі с/с,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Сенька Марыя Васільеўна, 1911 г.н.;

Гэту песню спявалі на каляды, калі вадзілі "Каня". Княгіню калыхалі на руках мужчыны. У шапкі такія красівыя папрыбаюцца, і самі красіва папрыбіраны, з каснікамі такімі, кукардамі. Стаяць з тае стараны і з гэстыя, да за рукі пабяруцца, яна сама ляжа ўжэ і яе калышуць і спяваюцьгэту песню.

Там жа яшчэ былі цар, былі ў цара сыноў, дак гэта ўсё сыны яго былі. Гэта колішні-колішні цар. У яго было 10 сыноў, а ў іх была толькі адна сястра і яны яе звалі княгіняй.
Шаблямі біліся, танцавалі, музыка была з імі.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 184, сш. № 1
Зап. К.П. Кабашнікаў і І.І. Крук

**№ 58**
Ф. 20, воп. 81, ст. 48, № 6

в. Глінішчы, Алексіцкі с/с,
Хойніцкі р-н, Гомельская вобл.
Інфарматар:
Яраш Ева Кузьмінішна, 1911 г.н.;

Зап. Канстанцін Паўлавіч Кабашнікаў
і Іван Іванавіч Крук
ІМЭФ імя К. Крапівы НАН Беларусі

"На Паску карагод вадзілі"
Ой, выйду я да на ю(ву)лачачку,

Да й выбяру сабе дзевачку.
Эй, маладзенькі хлоп[чычак] карагоду праўёў.

Хлопец бярэ з карагоду дзяўку, правядзе яе, кланяецца, бярэ другую. Песня паўтараецца.

---

Брагінска-Хойніцкая экспедыцыя 1981 г.
Ф. 8, воп. 81, спр. 185, сш. № 1
Зап. Л.П. Барабанава

*Таццяна МАРОЗАВА*

# ФАЛЬКЛОРНАЯ ПРАКТЫКА Ў ХОЙНІЦКІМ РАЁНЕ: ПА СТАРОНКАХ РЭГІЯНАЛЬНАГА АРХІВУ ВУЧЭБНА-НАВУКОВАЙ ЛАБАРАТОРЫІ БДУ

Марозава Таццяна Анатольеўна, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Мінск, загадчык вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры, кандыдат філалагічных навук, дацэнт

Фальклорная практыка студэнтаў філалагічнага факультэта з 60-х гадоў XX ст. з’яўляецца неад’емнай часткай вучэбнага працэсу пры падрыхтоўцы спецыялістаў-філолагаў. Адбылося гэта дзякуючы намаганням выкладчыкаў філалагічнага факультэта БДУ Веры Анісімаўны Захаравай і Ніла Сымонавіча Гілевіча. Менавіта яны яшчэ ў той час прыйшлі да разумення неабходнасці фіксацыі і наступнага выдання твораў фальклору, як і распрацоўкі рэгіянальнага напрамку збіральніцка-выдавецкай дзейнасці.

Самыя першыя выязныя экспедыцыі студэнты і выкладчыкі філалагічнага факультэта БДУ здзейснілі ў 1965 годзе, і адбылося гэта на тэрыторыі Заходняга Палесся. У гэты час выкладчыкамі фальклору толькі наладжваліся сувязі з прадстаўнікамі ўлады ў пэўных раённых цэнтрах, распрацоўвалася методыка збіральніцкай работы і назапашваўся арганізацыйны вопыт. На месцах плануемых экспедыцый неабходна было дамовіцца аб размяшчэнні і сілкаванні студэнтаў, аб мясцовым транспарце. Калі камандзіровачныя выдаткі на суткі (“сутачныя”) для студэнтаў і выкладчыкаў аплочваў БДУ, то на мясцовыя ўлады клаўся клопат па прыманні экспедыцыі. Адпаведна той час можна назваць прапедэўтычным у адносінах выкрышлізоўвання методыкі арганізацыі выязных планавых экспедыцый. Не апошнюю ролю ў адборы тэрытарыяльна прыярытэтнага напрамку збіральніцкай дзейнасці адыгрывалі тыя абставіны, што выкладчыкі – арганізатары практыкі – былі родам з мясцін, у якіх планавалася экспедыцыя. Менавіта таму напачатку ўвага студэнтаў і выкладчыкаў БДУ была скіравана на Палессе. А ў пачатку 80-х гадоў XX ст. у планах збіральніцкай студэнцкай практыкі з’явіўся Хойніцкі раён Гомельскай вобласці.

Аналіз фальклорных матэрыялаў з фондаў рэгіянальнага архіву Гомельскай вобласці, якія цяпер захоўваюцца ў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору пры кафедры тэорыі літаратуры БДУ, паказаў наступнае. Па-першае, экспедыцыя ў Хойніцкі раён ладзілася адзін раз у 1982 г. сіламі студэнтаў, якія былі накіраваны загадам рэктара на праходжанне фальклорнай практыкі менавіта ў дадзены раён. Адпаведна гэта была выязная планавая экспедыцыя, якая, тым не менш, мусіла стаць абмежаванай па ахопу адміністрацыйных адзінак. Абумоўлена гэта было тым, што вёскі Тульгавічы, Глінішча і Ломачы, дзе працавалі студэнты,

аказаліся настолькі багатыя на фальклорную спадчыну, што часу праходжання практыкі ледзьве хапіла на тое, каб запісаць як мага больш твораў ад мясцовага насельніцтва. Па-другое, пасля 1982 г. запісы з Хойніцкага раёна ў архіў лабараторыі беларускага фальклору БДУ не траплялі, што было абумоўлена правядзеннем экспедыцый у іншых абласцях Беларусі, у тым ліку і ў іншых раёнах Гомельскай вобласці. Кардынальна сітуацыя выправілася напачатку новага стагоддзя, калі ў архіве з'явіліся фальклорныя запісы з Хойніцкага раёна, зробленыя ў 2000, 2003, 2005 і 2006 гг. Гэта ўжо былі не планавыя або выязныя экспедыцыі студэнтаў і не разавыя паездкі, ажыццёўленыя супрацоўнікамі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору БДУ [* 1], а фальклорныя практыкі студэнтаў філалагічнага факультэта па месцы жыхарства [* 2]. Дадзеная акалічнасць сведчыць на карысць таго, што такія студэнты добра ведалі носьбітаў фальклору і мелі магчымасць зафіксаваць самае "дарагое" для інфармантаў – творы, якія "чужым" не давяралі (замовы, галашэнні, плачы, духоўную паэзію.

Летапіс экспедыцый вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ сведчыць аб наступным.

I. Планавая выязная экспедыцыя на тэрыторыю Хойніцкага раёна, як мы ўжо сказалі вышэй, ладзілася адзін раз – у 1982 г. Гэта была вельмі плённая экспедыцыя па колькасці зафіксаваных песенных твораў фальклору, хаця абследаваны былі, як мы згадвалі, толькі тры вёскі – Тульгавічы, Глінішча і Ломачы. З запісаў бачна, што ўзрост інфармантаў на той час быў вельмі паважаны: у некаторых год нараджэння пазначаны 1905-м, 1906-м і 1907-м, што на год правядзення экспедыцыі складала 77 і больш гадоў. Калі прааналізаваць запісы, зробленыя ў Хойніцкім раёне ў 2000-я гг., можна ўбачыць, што тут узрост інфармантаў "узвышаецца" і ніжэйшай часавай планкай з'яўляюцца ўжо 1930-я – 1950-я гады нараджэння. Хаця назіраюцца і выключэнні. Так, у 2000 г. студэнтка Г. Л. Сакалоўская зрабіла запісы ад перасяленкі з вёскі Тульгавічы К. С. Туравец (1912 г. н.), якой на той момант было 88 гадоў! Супастаўленне новых запісаў з існуючымі паказала, што падчас экспедыцыі 1982 г. ад гэтага інфарманта творы не запісваліся. Такім чынам, названыя матэрыялы значна ўзбагацілі архіў лабараторыі, а не сталі паўтарэннем ужо запісанага, нягледзячы на тое, што запісаны яны былі ў вёсцы Бывалькі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці, куды сям'я інфарманта пераехала пасля Чарнобыльскай катастрофы. Гэтыя запісы каштоўныя ўдвая, улічваючы тое, што афіцыйна вёска не існуе з 1986 года [* 3].

II. Падчас планавай студэнцкай экспедыцыі былі зафіксаваны творы большасці жанравых разнавіднасцей сямейна-абрадавых вясельных песень, каляндарна-абрадавых і пазаабрадавых сацыяльных і бытавых, дзіцячага фальклору і малых жанраў – прыказак, прымавак, загадак. Значна менш запісана твораў казкавай і няказкавай прозы. І гэта не дзіўна. У нашым артыкуле, прысвечным фальклору Мазырска-Прыпяцкага Палесся, мы звярталі ўвагу на гэтую акалічнасць. Справа ў тым, што, па сведчанні

кіраўнікоў практык, якія разам са студэнтамі займаліся збіральніцкай дзейнасцю на месцах, інфарманты з лёгкасцю спявалі, больш ахвотна ўспаміналі менавіта песні, "сыпалі" прымаўкамі і прыказкамі, анекдотамі, апавядалі пра жыццёвыя здарэнні. Што датычыць казкавай прозы, успаміналі творы з неахвотай, выкарыстоўваючы ў якасці адмовы штампы тыпу "часу няма", "трэба сена грэбці", а то і зусім "не памятаю" ці "стамілася" і да т. п. [1, с. 234].

У 2000-я гг. вопіс Хойніцкага раёна, акрамя вышэйназваных жанраў, папоўніўся і новымі разнавіднасцямі песень. Так, збіральнікі звярнулі ўвагу на спадчыну перыяду Вялікай Айчыннай вайны (тылавыя песні, рэалістычную прозу – успаміны), творы гарадскога фальклору, у тым ліку гарадскіх субкультур (блатной, фанацкай), а таксама дыскурсіўную прозу (тлумачэнні сноў, прыкметы, адказы на пытанні праграмы-апытальніка). Адзначым, што фальклорная проза ва ўсёй яе разнастайнасці пачала запісвацца студэнтамі філалагічнага факультэта толькі з другой паловы 90-х гадоў, калі выкладчыкамі фальклору кафедры тэорыі літаратуры Рымай Мадэстаўнай Кавалёвай і Вольгай Віктараўнай Прыемка быў падрыхтаваны спецыяльны апытальнік "Метадычныя ўказанні і праграма-апытальнік да правядзення фальклорнай практыкі студэнтаў I курса філалагічнага факультэта" (Мінск, 1995). У дадзеным выданні было прапанавана пашырыць разуменне фальклорнай адзінкі да адказу інфарманта на адно пытанне з праграмы-апытальніка, у тым ліку і па этнаграфічных тэмах, звязаных з хатнім бытам, будаўніцтвам, звычаямі, перасцярогамі і інш. Увесь гэты масіў адказаў прапаноўвалася класіфікаваць у адпаведнасці з прызначэннем. Названыя заўвагі праз 11 гадоў былі дапрацаваны ў новым выданні "Фальклорная практыка: метадычныя рэкамендацыі і праграма-апытальнік" (аўтары-складальнікі Р. М. Кавалёва, В. В. Прыемка, Т. А. Марозава), якое выйшла ў свет у 2008 годзе [*4].

Такім чынам, параўнальны аналіз зафіксаваных на тэрыторыі Хойніцкага раёна і захоўваемых ў вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ фальклорных твораў паказаў, што жанрава-відавы склад адзінак фальклору характарызуецца яскравым дамінаваннем песенных твораў – каляндарна- і сямейна-абрадавых, пазаабрадавых бытавых, сацыяльных, рознатэматычных прыпевак. Дастаткова поўна прадстаўлены парэміялагічны фонд (прыказкі, прымаўкі, загадкі), сфера дзіцячага фальклору (калыханкі, пацешкі, дражнілкі, дзіцячыя гульні, лічылкі, страшылкі), часткова – замовы. Сустракаюцца творы перыяду Вялікай Айчыннай вайны, сярод якіх, акрамя песень, маюцца запісы няказкавай рэалістычнай прозы, у прыватнасці ўспаміны. Найменш зафіксавана празаічных жанраў казкавай і няказкавай фальклорнай прозы, а духоўных вершаў і псальмаў, твораў народнай драмы зусім не выяўлена. Прычым увага збіральнікаў да твораў дыскурсіўнай прозы (ці адказаў інфармантаў на пытанні аб мясцовых звычаях, забабонах, перасцярогах, персанажах вышэйшай і ніжэйшай міфалогіі, будаўніцтве, арганізацыі хатняга побыту і многім іншым) з'яўляецца ў тых справаздачах студэнтаў,

якія датуюцца 2000 гадамі. Дзякуючы гэтаму вопіс Хойніцкага раёна вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору БДУ папоўніліся запісамі некаторых відаў фальклорнай прозы, у большай ступені – каляндарна-святочнай і сямейна-абрадавай, у меншай – няказкавай, смехавай, магічнай. На жаль, зусім не сутракаюцца запісы міфалагічнай прозы (аб прадстаўніках вышэйшай і ніжэйшай міфалогіі). Акрамя таго, як паказваюць запісы, студэнты працягваюць актыўна запісваць фальклорныя творы ў вёсках, прычым дамінуюць у іх справаздачах усё роўна аўтэнтычныя песні розных жанраў, што сведчыць аб адзінстве развіцця і наследаванні фальклорнай традыцыі.

## ЗАЎВАГІ

* 1. Каб пазбегнуць блытаніны ў назвах лабараторыі беларускага фальклору БДУ, лічым мэтазгодным даць наступную даведку.

Да 1981 года ўсё фальклорныя запісы захоўваліся на кафедрах, якія ажыццяўлялі фальклорную практыку, – беларускай літаратуры і рускай савецкай літаратуры. Калі, дзякуючы пастанове Савета Міністраў БССР ад 1 студзеня 1981 г., БДУ былі вылучаны сродкі для правядзення даследаванняў па беларускім фальклоры і дыялекталогіі, у складзе Праблемнай НДЛ сацыялагічных даследаванняў (якая існавала як структурнае падраздзяленне Навукова-даследчай часткі БДУ) быў утвораны сектар “Даследаванне беларускага фальклору і дыялекталогіі”. Сектар афіцыйна функцыянаваў на філалагічным факультэце, і з часам у ім была сканцэнтравана ўся збіральніцкая фальклярыстычная дзейнасць: практыкі па фальклору і дыялекталогіі, рэгулярныя комплексныя экспедыцыі супрацоўнікаў. Адразу пасля адкрыцця сектара пачалі фарміравацца архівы з фальклорнымі і дыялекталагічнымі запісамі і фонаархіў, запісы з якіх класіфікаваліся і рыхтаваліся да выдання.

Загадам па БДУ ад 14 лістапада 1985 г. на базе сектара “Даследаванне беларускага фальклору і дыялекталогіі” была створана навукова-даследчая лабараторыя беларускага фальклору і дыялекталогіі пры кафедры беларускай літаратуры. Фінансаванне лабараторыі ажыццяўлялася на аснове навуковых праектаў.

1 красавіка 2003 г. вучоным саветам Навукова-даследчай часткі БДУ было прынята Палажэнне, у якім афіцыйна замацоўвалася новая назва лабараторыі як лабараторыя беларускага фальклору. Скасаванне ў назве “і дыялекталогіі” было абгрунтавана тым, што з 1996 г. навуковыя даследаванні этналінгвістычнага характару ў лабараторыі не распрацоўваліся, а матэрыялы дыялекталагічных практык пачалі канцэнтравацца ў архіве новастворанай на філалагічным факультэце кафедры гісторыі беларускай мовы, якая з 1997 г. пачала самастойна ажыццяўляць дыялекталагічную практыку.

1 красавіка 2005 г. загадам па БДУ НДЛ беларускага фальклору была рэарганізавана ў вучэбна-навуковую лабараторыю (ВНЛ) беларускага фальклору на бюджэтнай аснове фінансавання (упершыню ў гісторыі).

* 2. Фальклорная практыка студэнтаў БДУ з 1994 г. ажыццяўляецца выключна самастойна па месцы жыхарства з прадстаўленнем справаздачы аб выніках збіральніцкай дзейнасці. Планавыя палявыя экспедыцыі з таго часу здзяйснялі толькі супрацоўнікі навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору філалагічнага факультэта, на базе якой у красавіку 2005 г. была створана вучэбна-навуковая лабараторыя. Нагадаем, што, у адпаведнасці са Стандартам па фальклорнай практыцы, на сённяшні дзень у ВНУ Беларусі афіцыйна зацверджаны наступныя формы ажыццяўлення вучэбнай практыкі па фальклору:

1) выезд груп з навуковым кіраўніком у запланаванае месца экспедыцыі (на фінансавых умовах аплаты ўсіх выдаткаў вну);

2) пры адсутнасці фінансавання:

2.1. самастойнае праходжанне практыкі студэнтамі па месцы жыхарства з прадстаўленнем справаздачы аб выніках збіральніцкай дзейнасці; 2.2. праца ў архіўных фальклорных фондах пры кафедры, якая ажыццяўляе практыку ў вну; 2.3. праца па індывідуальных праграмах (замежныя студэнты).

* 3. Вёска Тульгавічы Хойніцкага раёна "ўвайшла" ў 30-кіламетровую "зону адсялення" і зараз не існуе на карце Беларусі.

* 4. Адзначым, што у 2009 г. у Выдавецка-рэдакцыйны цэнтр БДУ названымі аўтарамі быў прадстаўлены дапоўнены і дапрацаваны рукапіс дадзенага дапаможніка. У ім змешчаны асобным раздзелам карагодныя песні (карагоды), а таксама прадстаўлены патрабаванні да афармлення выніковай справаздачы студэнтаў у электронным варыянце і на аўдыё(відэа)носьбітах.

## ЛІТАРАТУРА

1. Марозава, Т. А. Фальклор Мазырска-Прыпяцкага Палесся: з вопыту палявых экспедыцый студэнтаў і выкладчыкаў БДУ // Палявая фальклярыстыка: даследаванне лакальных культур Беларусі: зб. артыкулаў / уклад. І. Ю. Смірновай; пад навук. рэд. В. А.Лабачэўскай. – Мінск: БДУКіМ, 2008. – С. 229–235.

*Рыма КАВАЛЁВА*

# ФАЛЬКЛОРНАЕ ЛЕТА 1982 ГОДА Ў ХОЙНІЦКІМ РАЁНЕ

Вёскі Тульгавічы, як, на жаль, і многіх іншых палескіх паселішчаў, ужо няма на карце сярод “жывых”, але ў нашай удзячнай памяці застаўся яе вобраз, просты і прывабны адначасова, – хаты, іх начынне, двары з калодзежамі, вуліцы, сады, сенажаці, рэчка Віць, усё, што так міла і люба воку беларуса, а ў сэрцы – яе людзі, тыя, каго навукоўцы называюць носьбітамі фальклорнай традыцыі. Чарнобыль – катастрофа не толькі экалагічная, яшчэ больш жудасныя яе наступствы для народнай культуры, непаўторнай у сваіх мясцовых варыянтах. Некалькі старонак, прысвечаных фальклору вёсак Тульгавічы, Глінішча, Ломаш і некаторых іншых, якія даследаваліся студэнтамі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1982 годзе, калі яшчэ нічога не прадвяшчала страшнай падзеі 1986 года, – вельмі малы ўнёсак у справу прэзентацыі і навуковага апісання духоўнай спадчыны жыхароў Хойніцкага раёна, па-свойму багатай, цікавай, разнастайнай.

Вёска Глінішча была абрана для даследавання свядома. Студэнты вельмі хацелі пабываць на радзіме Івана Мележа, аўтара славутай “Палескай хронікі”, каб адчуць тое культурнае асяроддзе, якое паўплывала на фарміраванне мастацкага мыслення пісьменніка, надало адметныя рысы стылю яго твораў. І Глінішча нас не падманула. Пра Мележа расказалі не кнігі, а людзі, з якімі ён рос, гуляў, купаўся ў Прыпяці, сябраваў. Таварыскі, прыязны, завадатар і ўдзельнік усіх забаў дзетвары, высокі, прыгожы, дужы юнак – аб такім Мележу расказаў яго родзіч, Канстанцін Іванавіч Мележ (1923 г.н.), якога Іван навучыў пераплываць Прыпяць. Пачуццё справядлівасці, бясстрашнасць, актыўная жыццёвая пазіцыя былі ўласцівы Івану Мележу з дзяцінства. Калі ў піянерскім лагеры, дзе ён быў разам з Касцікам, дзяцей пачалі дрэнна карміць з-за недагляду загадчыка гаспадаркі (а можа, і крадзяжу прадуктаў), Іван адгукнуўся на гэта выпускам сатырычнай сценгазеты. За падобную смеласць, сказаў Канстанцін Іванавіч, маглі ў тыя часы не толькі пакараць, але і турнуць з лагера, паведаміць у школу. Мер выкаранення самастойнасці і незалежнасці тады хапала. Праўда, на той раз усе абышлося.

Надзвычай цікавы быў расказ Аляксея Нікіфаравіча Бельскага, мясцовага медработніка (1930 г.н.), з сям’ёй якога Іван Мележ быў вельмі блізкі. Са старэйшым братам ён вучыўся ў адным класе, малодшага Алёшу заўсёды браў у лес, на рэчку, вучыў катацца на веласіпедзе, а ў хату да Бельскіх прыходзіў слухаць радыёпрыёмнік, якім (першым на вёсцы) быў узнагароджаны бацька Бельскіх, старшыня перадавога калгаса. Іван не проста слухаў радыё, а запісываў вершы і песні, якія яму падабаліся. Бацька Мележа вучыў сына бандарскай справе, расказваў яму казкі, якія потым Іван пераказваў малым. Калі ў Глінішчы прывезлі першы кінафільм – “Мы из Кронштадта”, то ніхто іншы, як Іван Мележ, гучна каменціраваў для астатніх гэты “нямы” фільм. Пасля вайны браты Бельскія не вельмі часта сустракаліся

з Іванам, прычым той неяк вінавата спасылаўся на няхватку часу: “Пішу, пішу…”. Калі паслухаем ўспаміны людзей пра Івана, становіцца бачна, як усе дэталі яго даваеннага жыцця, калі ніхто не мог прадракаць будучай славы пісьменніка Мележа, складваюцца ў нейкі лагічны ланцуг выспявання таленту.

На фальклорную практыку ў в. Тульгавічы я паехала з шасцігадовай дачкой Марынай, таму была некалькі абмежавана ў магчымасці запісваць фальклор, назіраць за яго бытаваннем у натуральных умовах. Тым не менш наша гаспадыня Марыя Міхайлаўна Зых (1916 г.н.) і яе суседзі амаль цалкам задаволілі маю цікавасць да мясцовага красамоўства, каляндарных свят, сямейных абрадаў.

У сваім маўленні Марыя Міхайлаўна даволі часта і заўсёды да месца ўжывала трапныя выразы. Для яе – “восень на рабым кані едзе”. Пагадзімся, што ў горадзе такога не пачуеш. А пра людзей, якія, маючы вялікую дзялянку зямлі пры сядзібе, яшчэ заводзяць лецішча, Марыя Міхайлаўна па-філасофску сказала: “Прэдзелу багаццю няма”. Характарызуючы аднаго мужыка, яна заўважыла: “Як п’ян – капітан, а праспіцца – свінні баіцца”.

Дарэчы, пра гэтую жывёлу. Карову Марыя Міхайлаўна ўжо не трымала, гадавала толькі кабанчыка. Увесь дзень ён неяк своеасабліва, на розны лад, з рознай інтанацыяй рохкаў у сваім хлеўчуку. Мы называлі яго гаварлівым. Здавалася, што кабанчык быццам размаўляе сам з сабою, часам спакойна, часам дапытліва-здзіўлена, а то і крыху трывожна, ну проста як чалавек.

Шэраг прыказак, прымавак, выслоўяў запісалі студэнты: “Куды ні датыкнешся – усюды Іван бедны”, “Куды ні кінуся – асадзі назад”, “Улезла, як жаба ў гразь”, “Улезла – ні ўзад, ні ўперад”, “Кладка такая, што хоць катком каціся”, “Пашлі дурнога, а за ім другога”, “З гразі ды адразу ў князі”, “За аднаго бітага дзесяць нябітых даюць, ды і тых не бяруць”, “Галодны з’есці і боршч халодны”, “Кожная хата горам напхата”, “Без камандзіра і войска гіне”, “Не пераскочыў, дык не кажы гоп”. Асабліва цікавымі нам падаліся выразы, дзе прысутнічае жаночы пункт погляду. З аднаго боку, сярод іх назіраюцца калі не песімістычныя, то ва ўсякім разе не натхняльныя: “Пой, як пяецца, а выйдзеш замуж, усё мінецца”, “Муж не бес, а жонку б’е”. З другога боку, прыказкі і выслоўі давалі жанчынам карты ў рукі, прычым казырныя, каб падкрэсліць уласную годнасць праз кпіны з мужчын: “Такога малайца (вар.: жаніха) я і з гліны зляплю”. Антытэза хлопцы-дзеўкі знаходзіць выражэнне і ў тапанімічна адзначаных гумарыстычных прыпеўках:

Тульгавічскае сяло,
Чым яно акружано?
**Вілкамі, лапатамі**
Да хлопцамі гарбатымі.

Тульгавічскае сяло,
Чым яно акружано?
**Соснамі, асінамі**
Ды дзеўкамі красівымі.

Будні і святы, сур’ёзнае і вясёлае, жарты і праца складалі ў Тульгавічах, як і ў іншых палескіх вёсках, тое гарманічнае адзінства, якое абумоўлівала

танальнасць каляндарна-абрадавай паэзіі. Праз увесь цыкл гадавых свят і абрадаў праходзіць клопат пра ўраджай, дабрабыт, будучае сям'і. Натуральным чынам у каляндарны фальклор уключаюцца прыказкі-парады, на якія, відаць, арыентавалася не адно пакаленне вяскоўцаў:

Сей авёс у гразь, будзеш князь.
А рож-барыня любіць у залу да ў пару.

На пытанне пра Каляды М.М. Зых сказала, што яны адзначаюцца паўсюдна, але ў розных вёсках з рознай ступенню пышнасці. Напрыклад, у Кажушках і Барысаўшчыне гэта адно з галоўных свят, а ў Тульгавічах, хоць і калядуюць, аддаюць перавагу Юр'ю. Тут прынята, каб мужчыны ахвяравалі на карысць царквы накалядаваныя грошы. “Цяпер усё звялося,” – заўважыла наша гаспадыня, але, здалося мне, перабольшыла. Калядныя песні мы запісвалі ад людзей рознага ўзросту, я, праўда, ад 75-гадовай суседкі – Надзеі Дзмітрыеўны Міхед (1907 г.н.). Яна праспявала шырока распаўсюджаную калядку пра трох госцікаў: “першы госцічак – дробен дождічак, другі госцічак – ясен месячык, трэці госцічак – ясна сонейка”. Да іх прыходу гаспадара заклікаюць належным чынам падрыхтавацца – устаць з пасцелі, адчыніць дзверы, замясці двары, станавіць сталы, сцяліць скацеркі. І нечакана для мяне Надзея Дзмітрыеўна заўважыла: “У каго дзяцей няма, адзінокія, без дзяцей, тым спяваюць”. Нідзе пра такую функцыю твора я не чула і не чытала. Такім чынам, дзякуючы тульгавіцкім матэрыялам высвятліўся дадатковы нюанс адрасацыі калядных спеваў. Наступная вельмі прыгожая калядка-псальма пра імянарачэнне сапраўды адрасавалася ўсёй сям'і. Яна складаецца з дзвюх частак. Першая – малюнак двара, агароджанага чырвонаю ружаю, на якім святы вараць рыбку Багародзіцы на радзіны, другая – уласна пошукі імя для немаўляці па кнізе, адмаўленне ад імя Пётр на карысць Ісус Хрыстос. Толькі праз сапраўднае імя Божая Маці дзіцятка “да й злюбіла, сынам назвала”. Падзеі ў песні апісваюцца так, быццам бы яны адбываюцца тут і цяпер, на гэтым двары, на вачах гаспадара і калядоўшчыкаў. Можа, таму Ражаство пад час калядавання перажывалася беларусамі неяк асабліва інтымна, сардэчна, чулліва.

Тэма сватання распрацоўваецца ў калядках у розных варыянтах і версіях, у тым ліку ў гераічнай. Вялікае войска вершнікаў рухаецца да горада, але не на вайну, а за краснай панначкай. Вобраз паходу ўражвае сваёй маштабнасцю – “то не дымы, с коней пара йдзе”, таму разумееш гараджан, якія імкнуцца адкупіцца ад малайца, выводзячы каня, даючы грошы, утаймоўвае яго толькі трэці дар – паненка. Прыгажосць маладой пары нясе адзнакі нябеснай. Пра хлопца кажуць – “месяц сышоў”, на дзяўчыне “шапачка як месяц свеціць”, “пярсцёнак – ручанька ззяе, русая каса след замятае”. “Таткаў двор заззяў”, як уз'ехалі на яго маладыя. Святло і ззянне – спадарожнікі дзяўчыны з песні “У лузе, лузе каліна красна”. Здаецца, сама зара спусцілася з неба: “Па двару хадзіла – увесь двор красіла, // Увайшла ў сені – сені заззялі”. Пра дзяўчыну, да якой сваты прыходзяць проста на поле,

дзе яна жне пшаніцу, калядка “А ў полі, полі да на раздолі”. Толькі дарма. Прыстойная паненка з годнасцю адказвае: “Сватайце мяне ў таткавым доме”.

Калядкі сведчаць пра багатае эстэтычнае асяроддзе *чалавека фальклорнага*. Адсюль становяцца зразумелымі асновы тонкага эстэтычнага густа тульгаўскіх жанчын, маральнага выхавання дзяцей і моладзі, у рэшце рэшт глыбей спасцігаеш вобразы мележаўскіх гераінь, добрых, сціплых, працавітых, прыгожых, вытанчаных. Яны не прыдуманы аўтарам, а нібы ўзяты з жыцця – цяжкага, але афарбаванага ў паэтычныя колеры святочных песень.

Далікатнасць нашых спявачак вельмі ярка праявілася ў тых выпадках, калі надыходзіла чарга зневажальных песень, дзе сустракаліся не вельмі прыстойныя, на іх погляд, словы, якія яны імкнуліся замяніць на іншыя. Як вядома, скупыя гаспадары, што не адорваюць калядоўшчыкаў, могуць пачуць: “А ў етай хаце // Нечага даці: // Салому таўкуць // Пірагі пякуць. // А сучку ўбілі, // Сала тапілі”. Па інерцыі жанчыны пачалі яшчэ адну: “А ў полі грушка, // А ў домі цвяток, // А в нашага хазяіна // Кіла як гаршчок...” І раптам: “Ой, не пішыце гэта, неяк нядобра”. Пытаюся: “А як?” Даюць варыянт: “Нос як гаршчок”.

Цікава, што ў кожнай жанчыны былі свае любімыя часткі каляндарнай абраднасці і песень. Калі для Н.Д. Міхед гэта калядкі, для Ганны Міхайлаўны Купрыенка, сястры нашай гаспадыні, – вяснянкі, то для яе самой – юраўскія, русальныя, жніўныя песні. Ад Вольгі Іванаўны Галай (1913 г.н.) запісалі шэраг жартоўных канцовак да калядак: “Калядзін, калядзін, // Я ў бацькі адзін”, “Каляда, каляда, // Падавай пірага” і інш. Анастасія Аляксандраўна Малачэнка (1915 г.н.) праспявала надзвычай добрую шчадроўку “Ой, дзе мы ходзім, пахаджаем” з такім вобразным ланцужком: у гаспадара Мікола за сталом – з яго слязы ручайкі пайшлі – з ручайкоў стала возера – у возеры сам бог купаўся – запрашаюць бога на вячэру – на цясовых сталах кубачкі ў тры радкі – віно зеляно то хазяіну, мядок саладок то хазяюшцы, шчасце ды доля для іх дзетачак. Зачароўваюць спалучэнне боскага і людскага, пераходы ад звычайнага да звышнатуральнага, гульня памерамі і прапорцыямі і апошні вобраз – кубак з шчасцем і доляю для малодшага пакалення. Чарнобыль пазбавіў тульгавіцкіх дзяцей не проста прытулку, а шчасця роднага кута, дзе спакон веку жылі іх продкі. Шчасце і доля ў песні мудра не канкрэтызуюцца, каб кожны зразумеў, што для яго найдаражэйшае і чаго не хапае.

Палескае калядаванне рэдка абходзіцца без ваджэння “казы”. Класічная песня “Го-го-го, каза” ў выкананні Любові Трафімаўны Рэвяка (1923 г.н.) з в. Глінішча ўяўляла сабой цікавы прыклад спалучэння частак з розных тэкстаў і фінальнай партрэтнай характарыстыкі казы: “А ў нашае козкі // Залатыя рожкі, // Чорная грыва, // Сама чарнабрыва”.

Існавала ў Хойніцкім раёне традыцыя гукання вясны. Сястра Марыі Міхайлаўны праспявала “Ой, весна, весняначка” і патлумачыла: “Ета калі дзецьмі былі, на вуліцы пелі. На вуліцы гоман! Там адзін табун гуляе, там другі, кожнае па сваёй роўні”. Далей яна без перадыху заспявала веснавую песню з вельмі цікавым рытма-меладычным малюнкам і трайным паўторам цотных радкоў, прычым у трэці раз гукі расцягваюцца:

А вжэ весна, а вжэ красна,
А з стрэх вада капле,
А з стрэх вада капле,
А з стрэ-э-х ва-да ка-а-пле-е...

Больш сур’ёзная Марыя Міхайлаўна заспявала баладную песню пра нядобрую свякроў, што закляла нялюбую нявестку ў таполю, “Ажаніла маці сына, сына паняволі // Да ўзяла нявестку да не да любові”. Як вядома, балады прымяркоўваліся да пастоў, складаючы разам з духоўнымі вершамі ядро паставога рэпертуару.

Нам не ўдалося запісаць велікодных песень, можа, таму, што спецыяльна не шукалі. Адно можна сказаць дакладна: у Хойніцкім раёне існавала традыцыя духоўных вершаспеваў. Пра гэта сведчыць сэнсава звязаны з Пасхай духоўны верш “Сон Прэсвятой Багародзіцы”, запісаны ў в. Глінішча ад Любові Рыгораўны Чарняк (1936 г.н.), мясцовай жыхаркі, кіраўніка фальклорна-этнаграфічнага гурта. Багародзіца распавядае сыну, што бачыла яго ў сне “кавaнага, рубанага, прабічаванага, к крэсту распіналі, шукшынай пераразалі, кроў гарачу пралівалі”. І сын гаворыць маці, што ўсё гэта “шчыра праўда”.

З вуснаў М.М. Зых мы пачулі традыцыйную беларускую прыказку пра Юр’я: “Два Юр’і да абодва дурні: адзін галодны, а другі халодны”. Пра веснавога, галоднага, Юр’я яна расказала наступнае: “Навек на Юр’я хвасты худобе падразалі. Кажуць, на Юр’я расу самы празднік худобе. Адна жонка казала, кароўка ў яе не ўставала. А выгнала на юр’еву расу, так і ўстала. Даўно казала, ламышанская жонка, не наша… Колісь царква была. Так на Вербніцу вербу свяцілі, так той вярбою і выганялі тавар”. Разам з сястрою Ганнай Марыя Міхайлаўна праспявала дзіўную юраўскую песню, якая, на наш погляд, патрабуе ўважлівага вывучэння і асэнсавання:

Не стой, Юр’е, над вадою,
Не трусі, Юр’е, барадою,
Барадою,
Бо горка вада пад табою.
Етай вады напіціся,
Дзевяць урагоў атравіці,
Дзесятага – цябе, Юр’я.

Што ў Тульгавічах арыгінальнае, дык гэта абрад провадаў русалкі. Па-першае, было некалькі груп і ў кожнай свая русалка. Русалку прыбіралі “ў карчах” (кустах) за канавай (так прасцей называюць рэчку Віць), дзе расло шмат папараці, з якой рабілі зялёнае ўпрыгожанне для русалкі, – вянок і “хвост”. Абавязкова распускалі валасы, таму і з’явілася выслоўе “Кашлатая, як русалка”. Па-другое, постаць русалкі сваім убраннем з папараці нагадвае Маю, звесткі пра ваджэнне якой захаваліся ў Лельчыцкім раёне. Толькі

русалку вялі не дваром, а сялом: хто сваю на могілкі, хто ў поле. Па-трэцяе, з купальскім абрадам супадае такі атрыбут, як вогнішча. Да поля неслі шост з саломай, там яе запальвалі, а потым скідалі на зямлю і скакалі праз агонь. Па-чацвёртае, дзеянні з убраннем русалкі нагадваюць дзеянні з убраннем Куста на Пінскім Палессі – яго расцягвалі. Лічылася, што гэтую папараць трэба кідаць ў гарод, на капусту, каб яна ўрадзілася добрай. Праводная песня “Правяду русалку да грушкі” ўяўляе сабой класічны тэкст, пазбаўлены якіх бы та ні была варыяцый. Тым не менш быў адзін цікавы момант пад час запісу русальнай песні. Жанчыны пачалі:

Правяду я русалку да бору,
Сама вярнуся да дому.

Раптам здзіўлена спыніліся: раней яны не звярталі ўвагі на тое, што песня вядзецца як вясельная. А потым дапелі да канца.

Здаецца, няма на Палессі вёскі, дзе б не спявалі жніўнай песні пра “бяду” жнейкі, у якой “свякруха з плоту ўпала ды крапіву паламала”. Іранічныя і гумарыстычныя творы былі эмацыянальна-псіхалагічнай падтрымкай працаўніцы, як і песні, дзе ідэалізавалася жніво, постаці жнеяк, прылада працы – сярпочкі залатыя. Аб суровай праўдзе гарачай пары жніўная песня, запісаная ад розных выканаўцаў:

Ой, жала я жыта пры дарозе,
Павесіла калыску на бярозе.
Ой, жала я жыта пры даліне,
Павесіла калыску на яліне.
Вісіць мая калысачка, а я бачу,
Плача мая дзяціначка, а я чую,
Ой, пайду дзіціначку падгадую.

Сігналам да палудня (10–11 гадзін) слугавала песня “А ўсе людзі палуднаюць”, заканчэння – “Дзякуй богу за палудзень”. Як і ўсюды, у Тульгавічах існаваў талочны звычай. Па заканчэнні жніва рабілі дажынкавы вянок і з песняй “У нашага пана дажыначкі, // Дась нам пан гарылачкі” накіроўваліся да гаспадарчага двара.

Вельмі добра распрацавана ў Тульгавічах вяселле. Пра яго нам расказалі Валянціна Пятроўна Цалко (55 гадоў), Алена Фёдараўна Галай (1913 г.н.), Ульяна Ільінічна Акуленка (1905 г.н.), Ганна Данілаўна Лапуста (1913 г.н.), якія адгулялі не адно вяселле, і іншыя жанчыны. Звычайна яны каменціравалі, за якім абрадавым момантам замацавана тая ці іншая песня: выбірай любую – усе яны сэнсава, змястоўна, эмацыянальна, вобразна арганізуюць абрадавы рух. Калі, напрыклад, жаніх едзе “па маладую”, гучыць песня “В леску, в леску на сучку // Да вісела калысачка на кручку”. У ёй малады Колечка просіць *баяраў* падкінуць яго так высока, каб здалёк убачыць сваю Галечку. Ля варот нявесты яму забараняюць: “Не вярні каня к

цесцю в двор”, але дарэмна – смелы юнак ужо ля парога. Пакуль не выйшла цешча, спяваюць: “Пышна цешча, пышна, // Проціў зяця не вышла”.

Абрад звядзення свечак адбываецца пад песню:

Прыступі, сваццял, прыступі,
У цябе свяча і ў мяне,
У цябе дзіця і ў мяне,
Да звядом свечкі ў пучкі,
Да звядом дзяцей да кучкі.
Мір з мірам міраваліся –
Два сваточкі цалаваліся.

А ў хаце – пра баяраў: “Драгануліся сені, // Як баяра селі”. Асобная песня ад імя жаніха, якой просяць маладую за стол. Спяваюць пра брата, які не хоча аддаваць “чужой чужаніцы сваёй роднай сястрыцы”, але ўрэшце мусіць гэта зрабіць. І тады чуе ад дружак папрок: “Татарын, братко, татарын, // Прадаў сястрыцу задарам”. Пасля “продажу” знакам пераходу нявесты ў новы род становіцца абрад завівання. “Здагадайся, Галечку, // Чаго маці ў клець пашла?” – выводзяць жанчыны. А маці выходзіць з *караваем* і ўласна *завіваннем*, сярод якога жаночы галаўны ўбор – “шалковае чапчышча”. “Вяночкі маі, квіточкі маі, // Гдзе мне вас подзіваці?” – смуткуе нявеста і працягвае: – Ці папаліці, ці пасмаліці, // Ці дзевачкам отдаці?” Усё аддавалася сяброўкам, а дачка прасіла ў маці масла “да намазаці косы”. Завіванне разумелася як акт магічнага надзялення маладой “шчасцем-долею”. На заканчэнне песні жадалі: “Ой, будзь багата, як зямля, // Ой, будзь здарова, як вада, // Ой будзь прігожа, як ружа”.

Наступны абрадавы момант – падман жаніха. Праўда, дружкі потым каюцца, што замест прыгожай нявесты пасадзілі каля яго старую бабу, і вядуць справу да ладу: “Ой, як бабачка суньсяя, // Калі Галечка прысуньсяя”.

Шэраг песень прымеркаваны да вельмі важнага абрадавага акта – выпякання, дзяльбы і выкупу вясельнага каравая. Аб калектыўным характары падрыхтоўкі каравая сведчыць запрашальная песня:

Нашая маці па суседачках ходзіць,
Па суседачках ходзіць да суседачак просіць:
– Суседачкі мае, да хадзіце ка мне
К маему дзіцяці каравая саджаці.

Згодна з песнямі, у яго сярэдзіне “доля-шчасце”. Пры дзяльбе каравая пазначаюцца і часткі пасага. Маці, напрыклад, дарує дачушцы дванаццаць кароў. На развітанне падводзяцца вынікі, што каму застаецца: маці – сенцы, камора, хата з вугламі, дачцэ – скрыня, карова, скрыня з кубламі. Прыехаўшыя за нявестай спяваюць:

Ой, сватку, сваточку,

Пусці ў хатачку.
Мы шкоды не зробім,
Мы лаўкі не зломім.
Мы сядзем за печку,
Да вып'ем па кубачку,
Да забяром тваю дочку.

Звычай "пярэзвы", калі бацькі праз тыдзень пасля вяселля наведваюць дачку, таксама знаходзіць мастацкае ўвасабленне ў песнях: "Да знакома та хата, // Куды Галечка ўзята". Толькі, гаворыцца, і сама маладзіца загадзя пасылала галубчыкаў запрасіць родных на гасціну і хвалявалася, "чаму ені ко мне не едуть, // Да свій род не ведуть".

Па словах Аўдоцці Чарняк з Глінішчаў, раней вяселле працягвалася тры-чатыры тыдні з перапынкамі, галоўным чынам, у суботу і нядзелю. Цікавыя моманты: перад дзявочым вечарам, у пятніцу, на бяседу збіраліся старэйшыя. Пасля таго, як яны расхадзіліся, пачынаўся дзявочнік. Ён працягваўся і ў суботу. Асобны момант – рытуальны плач нявесты на ганку да прыезду жаніха. Потым яе паднімалі з кален, маладых вялі ў хату і саджалі за рознымі сталамі. Перад гэтым дзяўчаты пад песні надзявалі нявесце вянок. Выкуп нявесты адбываўся наступным чынам: яна выпівала сваю чарку віна, накрывала яе хусткай, перадавала жаніху, той клаў на хустку грошы, і чарку з грашыма вярталі на стол да нявесты. Цэрэмонія паўтаралася з удзелам *дружкі* і *княжага*, якія давалі свой выкуп за нявесту.

Да вянчання за сталом толькі выпівалі. Пад час абеду рытуальнай стравай была *каша*, за якую змагаліся дружкі і ўсе госці.

У нядзелю трэцяга тыдня адбывалася парадыйнае вяселле з травесційным пераапрананнем, калі ролю жаніха выконвала старая, а нявесты – стары. Сапраўдныя маладыя на гэтым "вяселлі" звычайна не прысутнічалі. Да пярэзваў прымеркаваны звычай "страляць зайца". Па сутнасці, гэта міні-прадстаўленне з пераапрананнем, "стрэльбай", песнямі. Адну з жанчын апранаюць "зайцам". Перад "паляваннем" спяваюць:

На зайц*а*, свахі, на зайц*а*,
Вох, уб'ём, свахі, да зайц*а*
Маладому Колечку на шубку,
Маладому Колечку на шубку,
Маладой Галечцы на шапку.

Тут мае жанчынкі крыху паспрачаліся, каму на што "заяц", можа, маладому на шапачку, а маладой на варатнік, ці яшчэ як, а потым махнулі рукой – усё, маўляў, роўна.

Прысутныя ганяюцца за "зайцам", нарэшце, страляюць у яго і "забіваюць". "Заяц" канае, усе крычаць: "Доктара! Доктара!" Прыбягае "доктар", нешта робіць, і "заяц" пачынае зноў скакаць. Запальваюць куль саломы, "заяц", а за ім усе астатнія скачуць праз агонь. На момант запісу гэты

звычай быў вядомы ў жывым бытаванні. Заечая тэма можа спалучацца з лісінай, напрыклад: “Да казаў жа нам зайчык, // Што хлеба акрайчык. // Да казала нам ліска, // Што гарэлачкі міска”.

Застаецца дадаць, што сірочае вяселле адрозніваецца ад звычайнага песенным рэпертуарам і патрабуемым абрадам эмацыянальным настроем. Сіроцкія песні складаюць асобную групу вясельных. Яны вельмі шчымлівыя, прасякнутыя спачуваннем да нявесты, сімвалам якой выступае бярозка без парастка:

Маладая да бярозанька,
Чаго ў цябе да пянькоў многа?
Чаго ў цябе да пянькоў многа,
А парастачка да ніводнага?

Маладая да Аленушка,
Чаго ж да ў цябе бацькоў многа?
Чаго ж да ў цябе бацькоў многа,
А роднага да ніводнага?

У вёсцы Глінішча ёсць свае знаўцы вясельнага рэгламенту. Адна з іх Дар’я Нікіцічна Шарамела (1911 г.н.) – выдатны выканаўца вясельных песень. Сярод іх “Ужо, Марылечка, ты ў мамкі хадзіла”, “Выйдзі, Марылечка, на дарогу” (перад ад’ездам нявесты з роднага дома), “Выйдзі, свякроўка, паглядзі” (сустрэча нявесткі), “У саду салавейка гняздо ўе”, “А сват на парог лезе”, “У нашае печы ды шырокія плечы” (на вынас каравая), “Да што хацелі, тое зрабілі” (нявесту апранаюць маладзіцай), “Упіўся, дружко, упіўся” (выкуп нявесты), “У нашага свата”, “Ой, сваце, сваце” (велічанне свата), “Каля цесцевага двара да каменная гара”, “Ой, сваце, свацечку, пусці ў хацечку” (прыехалі за нявестай). Калі нявеста сірата, ёй спявалі: “Як пашла Маша да бога-цара // Мамку шукаць, на вяселле зваць”.

Вельмі падрабязна, яскрава, вобразна расказала пра вясельны абрад Любоў Рыгораўна Чарняк. Яна адзначыла такія назвы этапаў, як *змовіны*, *пірагі*, *баяры*, *перапіванне маладой*, *дзеляць каравай*, *маладую завіваюць*, *крошкі* (на трэці дзень), *гульня ў “зайца”*, перадала слоўныя і песенныя этыкетныя дыялогі, у тым ліку дыялогі-спрэчкі. Вось як, напрыклад, перакідваліся лаянкай *дружкі* са *свахамі*, пакуль баяры зноў, пасля вянчання, перапівалі маладую.

Свахі:
Перша дружка сучка,
А другая патаскушка,
А трэцяя па часах ходзіць,
Да вечара сына родзіць.
Дружкі ў адказ:
Мы вас, свахі, не цураемся,

Мы з вамі, свашкі, пакумаемся.
Адну возьмем да й за куманьку,
А другую да й за бабаньку,
А трэцюю – ля дзіцяці
Палотна паласкаці,
Тую воду хлябаці.

Свахі:
Бегла сучка паўз тын…
Дружкі:
Брашыце, свахі, брашыце,
А плот язык чашыце.

Усе гэтыя рытуальныя спрэчкі не больш, як прадстаўленне, патрабуемае абрадам, такая ж важная частка, як і велічанні. Пад час дзяльбы каравая пры адорванні маладых зноў завязваліся дыялогі з ініцыятывы сватоў. “А што падарыце? А можа, цёлачку? А можа, бычка?” – пытаюцца яны. Госці адказваюць традыцыйнымі зычэннямі-выслоўямі:

Дарую тую цяліцу, што скача з печы на паліцу (г.зн. котку).
Дарую курку к петуху, каб пацалавала нявестка свякруху.
Дарую каліну і дуба, штоб жылі люба.
Дарую поле за калгасным садам, каб не адвярнуліся ніколі задам.
Дарую мірнае неба і кахання колькі трэба.

Свій этыкет маюць у Глінішчах хрэсьбіны. Яны святкуюцца, калі дзіця прывозяць з царквы. Запрошаныя госці уваходзяць у хату са словамі: “Прыміце тавары загранічныя”. “Тавар” – хрэсьбінная каша, якую родныя павінны выкупіць. Часам, жартуючы, прыносяць у каструлі ката, труса або цукеркі. Рэцэптура кашы – пшано, мёд, манка. Першая каша бабіна. Баба ацэньвае сваю кашу і перадае яе па кругу – хто больш дасць. Нарэшце кашу выкупляюць. Настае чарга кумавай кашы, а потым кумы. На заканчэнне бабіна прамова, у якой яна зычыць усё добрае дзіцяці.

Высветлілася, што ў добрым стане знаходзяцца ў Тульгавічах і Глінішчах тэксты замоў. У Тульгавічах імі падзялілася з нашымі студэнткамі Алена Міхайлаўна Кандрусевіч. Адна замова – універсальная, “ад усякага зла нядобрага”, у якой звяртаюцца да Госпада, каб ён аградзіў Божай сілай і “гаварашчым крастом”. У другой – вельмі арганічна спалучаюцца хрысціянскія і старадаўнія язычніцкія элементы, называецца імя заклінальніка (Алена) і імя той, замаўляе (Каця). Замова мае складаную рытмаформулу і рыфмоўку. Прывядзем тэкст цалкам:

Госпаду богу памалюся,
Святой Прачысці пакланюся.
Прачыстая Божа маці,

Памажы Каці
Прыстрэты вырваці
З касцей,
З машчэй,
З румянага ліца,
З гарачачнай крыві,
З жоўтага мозга.
Не займай на макава зерне.
Не маімі губамі,
Гасподнімі славамі
І бязгучнымі слязамі.
І зары-заранічкі,
Божы завушнічкі,
Памажыце Аленцы.
Раскацісь, раскацісь, раскацісь
Па крутым берагам,
І па нізкім вадам,
І па жоўтым пяскам.
Амен.

Зусім простая замова на спыненне крыві: "Ішлі тры калечкі // Чараз тры рэчкі, // Секлі, рубалі, // Кроў замаўлялі". Заўвага Алены Міхайлаўны: "Дунуць, плюнуць цераз левае пляче тры разы". Тут цікавае слова "калечкі", відаць, семантычна звязанае з вандроўнымі спевакамі-багамольцамі, сярод якіх сапраўды былі сляпыя і знявечаныя. Яны ўвайшлі ў гісторыі пад назвай "калекі перахожыя" або "калікі перахожыя", апошняя сустракаецца ў рускіх былінах і духоўных вершах.

Як і паўсюдна на Беларусі, пазаабрадавыя песні складаюць у Хойніцкім раёне большую частку фальклорнага рэпертуара. Вось тут можна ўпэўніцца, што песня, а менавіта пазаабрадавая, сапраўды не ведае межаў. З вуснаў нашых інфармантаў гучалі традыцыйныя беларускія песні, добра вядомыя на абшарах нашай краіны, побач з імі тыя, якія характэрны для палескага рэгіёна, да іх далучаюцца творы, агульныя з Украінскім Палессем, і песні, запазычаныя з рускага фальклору, галоўным чынам, познетрадыцыйныя – песні і рамансы літаратурнага паходжання, "новыя" балады, "жорсткія" рамансы. Рускія творы амаль не паддаліся асіміляцыі, захоўваючы лексіка-семантычныя прыкметы свайго этнічнага паходжання.

У фальклnetwork стыцы ўсталявалася думка, што носьбітамі фальклорнай традыцыі з'яўляюцца пераважна жанчыны. А хто і калі спецыяльна даследаваў фальклорны рэпертуар палескіх мужчын? Жанчыны больш камунікабельныя, збіральнікам лягчэй кантактаваць з імі, чым з мужчынамі, таму і заставаліся тыя, за рэдкім выключэннем, па-за ўвагай нашых практыкантак. Так здарылася, што дзве студэнткі жылі ў сям'і пастуха (1936 г.н.). Мы не ведаем яго прозвішча, у дзённіку ён фігуруе як "наш гаспадар". Ад яго і суседа, Мікалая Аляксеевіча Мар'янскага (1930 г.н.), было

запісана колькі песень, склад якіх у пэўнай ступені характарызуе мясцовы рэпертуар у разрэзе. Тут і элегічная любоўная “Ой, сівы конь бяжыць” пра дзяўчыну, што так спадабалася хлопцу, і вельмі для нас каштоўная балада “Ішоў казак дарогаю” на тэму “сем загадак для дзяўчыны”, якая, зразумела, іх паспяхова адгадвае, і найпапулярнейшая заўзятая “Біла менэ маты берэзовым кнутом” (“кнутом” – мясцовы варыянт, звычайна спяваюць “прутом”), і жартоўная “Ой, да прадай, бабушка, бычка”, і тужлівая “Вецер вее, да вецер павявае, // Да маці ў дочкі да й пра жыццё пытае”, а ў той тры горачкі – “свякруха й лютая”, “дзяціна малая”, “мілы раўнівы”. Наступную песню варта працытаваць цалкам, каб убачыць, у якім новым атачэнні паўстае вандроўны радок “Толькі відна дуба зеляногa”:

Туман, туман па сінему мору,
Туман палягае, туман палягае.
За туманам жаркага сонца,
Сонейка не відна.

Толькі відна зяленага дуба,
Дуба верхавіна, дуба верхавіна.
Пад тым дубам красная дзеўка
З хлопцам гаварыла.

– Не жаніся, удалы малойчык,
Хоць адзін гадочак, хоць адзін гадочак.
Падрасту я, красная дзеўка,
Хоць н’адзін вяршочак.

Не паслухаў удалы малойчык
Узяў ды ажаніўся, узяў ды ажаніўся.
Не ўзяў жа ён красну дзеўку,
А ўзяў удавіцу.

Рознымі шляхамі траплялі ў Тульгавічы рускія песні пра “Кацю-Кацюшу, купецкую доч”, цыганачку (“Запрагай-ка, дзедзька, лошадзь серую, лахматую”), вязня (“Сонца ўсходзіць і заходзіць”), і ўсе яны знайшлі водгук у сэрцах выканаўцаў-мужчын.

Пры ўсёй важнасці мужчынскага ўкладу ў справу захавання фальклорнай спадчыны сапраўднай культурнай каштоўнасцю палескай вёскі з’яўляюцца жанчыны з іх універсальным рэпертуарам ад пяшчотнай калыскавай паэзіі да тужлівых хаўтурных галашэнняў. Што такое ў рэшце рэшт гісторыя? Адбываюцца і адыходзяць у нябыт вялікія і малыя падзеі, але зноў і зноў узнаўляецца Падзея культурная – той момант выканання фальклорнага твора, пад час якога пачынае сведчыць пра сябе сапраўдная гісторыя беларускага народа – духоўная, унутраная, багатая на безліч духоўных крыніц, – і падрабіць іх немагчыма. Так, толькі ад адной Любові

Рыгораўны Чарняк з Глінішчаў запісаны разнастайныя фальклорныя творы – казкі, жарты, анекдоты “Як мужык з жонкай паспрачаліся”, “Як зяць па цешчы галасіў”, “Як мужык на тым свеце празрэў”, “Як дзяжу спавядалі”, “Як поп цыгана наняў”, загадкі пра вулей з пчоламі, рукавіцу, яйка, калодзеж, вілы і граблі, язык у роце, месяц, лямпачку, колас, вецер, 16 прыказак, шэраг прыпевак, расказ пра вяселле на восем старонак з цікавымі этнаграфічнымі дэталямі і песнямі, 23 песні, галоўным чынам пазаабрадавыя. Сярод іх, як тут лічыцца, любімая песня Івана Мележа “У канцы грэблі шумяць вербы”, рэкруцкая “Ідуць хлопцы дарогаю, запылённыя глаза”, для кадрылі – “Ой, за гаем, гаем зеляненькім”. Кардынальна адрозніваюцца ад анекдотных стасункі цешчы і зяця ў вясельных песнях, 17 з іх праспявала Аўдоцця Чарняк:

Зяць у госці цешчу просіць,
Залатыя масты мосціць,
Ды і сцежачкі мяце,
Ды і цёшчу ўжо вядзе.

Ды і свекрыві “нявестка жадана”, яна ўспрымае маладых разам: “Калі месяц, то мой сынок, // А калі сонца, то мая нявестка”.

Багаты і разнастайны фальклорны рэпертуар Алены Мацвееўны Лук’яненка (1916 г.н.), Дар’і Мікіцічны Шарамела (1911 г.н.), Аўдоцці Яўхімаўны Кудрыцкай (1905 г.н.) і іншых жанчын старэйшага пакалення.

Цягнуцца за імі маладзейшыя Галіна Ліпніцкая (1964 г.н.), Тамара Рубан (1970 г.н.) ды інш.

Вядома, заўважаецца ўзроставая дыферэнцыяцыя фальклору; але бачна і другое – натуральная пераемнасць традыцый, адкрытасць дзяцей і падлеткаў да ўспрымання мясцовай культуры. Возьмем вёску Ломыш. Красамоўны факт: носьбітамі фальклору тут з’яўляюцца розныя пакаленні сям’і і роду. Запісы вяліся ад Лідзіі Фёдараўны Варсянка (1927 г.н.) і Марыі Варсянка (1972 г.н.), Аксінні Іванаўны Юхно (1930 г.н.), серафімы Андрэеўны Юхно (1949 г.н.) і Ганны Юхно (1970 г.н.), Марфы Васільеўны Барысенка (1908 г.н.), Галіны Міхайлаўны Барысенка (1929 г.н.) і Вадзіма Барысенкі (1970 г.н.), Марыі Антонаўны Суханос (1947 г.н.) і Святланы Суханос (1969 г.н.).

І ўжо не здзіўляе, што ад дванаццацігадовай Валі Валошынай можна запісаць не толькі дзіцячы фальклор, але таксама калядку, няхай сабе просценькую, і частку вясельнага абраду з такімі дэталямі, якіх не было ў аповедах дарослых інфармантаў: “Нявеста абвязвае сенам свёкра і свякруху вакол пояса. Усе выходзяць на вуліцу, бяруцца за рукі і бягуць па вёсцы. Страляюць са стрэльбы, чалавек падае – “зайца” забілі. На слон кладуць “зайца”, лечаць яго. Як устае, ён танцуе, прыгае цераз агонь. Тады ламаюць слон. На свадзьбе хто-нібудзь выварачывае кажух, адзявае, сыпе жыта на маладых, б’е папругай і ламае ложку”.

Багаты і невычэрпны фальклор Хойніцкага раёна. Дзе вы цяпер, нашы цудоўныя спявачкі і расказчыцы? Каго ўжо няма на гэтым свеце, хто

назаўсёды з’ехаў з роднай вёскі... Але застаюцца ў фальклорным архіве вучэбна-навуковай лабараторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта вашы песні, казанні, прыказкі, загадкі – часцінкі душы і сэрца. Шматкаляровай і аб’ёмнай будзе наша ўласная гісторыя, калі мы навучымся цаніць і зберагаць духоўную культуру кожнага куточка беларускай зямлі.

*Мікола МЯТЛІЦКІ*

## "СЭРЦУ МАЙМУ ТЫ ДА СКОНУ – РАДЗІМА!"

Мая вёска ў свой час мела 360 двароў, некалькі вуліц. Геаграфічна яна размяшчалася вакол вельмі прывабнай балаціны, зарослай аерам, па-нашаму, "плюшнікам". Адразу за Бабчынам пачынаюцца лясы, якія цягнуцца да Прыпяці, больш за 40 кіламетраў. Дарога якраз і вядзе да прыпяцкага ўзбярэжжа, з якога відны і каміны чарнобыльскай станцыі…

Вуліцы Бабчына мелі свае назвы. Мая называлася "Сяло". Гэта была асноўная вуліца вёскі, самая старая. Далей – "Хутар", вуліца, якая будавалася значна пазней. У ранейшыя, даваенныя, часы туды адсяляліся малазямельныя сыны, ім там наразаліся новыя надзелы. "Забалоцце" знаходзілася за балотам. А вось новая вуліца, якая кіравала абапал шашы, атрымала назву "Мазураўка".

Гэта назва мае сваю гісторыю. У 1961 годзе Кірыла Трафімавіч Мазураў прыязджаў у Бабчын. Як любая пасляваенная вёска, і наша мела патрэбу ў будаўніцтве жылля. А скупаваты старшыня гаспадаркі Канстанцін Пракопавіч, як расказваў мой дзед, любіў грошы трымаць "у банку", не вельмі імкнуўся займацца будаўніцтвам. Я хлапчуком-першакласнікам удзельнічаў у той сустрэчы з Мазуравым каля школы. Кірыла Трафімавіч зрабіў тады прылюдна ўнушэнне старшыні калгаса: "Не трэба капіць грошы, неабходна будаваць людзям хаты". З Хойнікаў прыехаў прараб Алейнік. Ён часта ў нас начаваў. Пазней ён стаў брыгадзірам той брыгады ( у яе, дарэчы, пайшоў і мой бацька). Так пачалі ўзводзіць цагляныя домікі. І літаральна за два гады гэта вёска з выбеленымі сценамі, шыкоўнымі домікамі ўстала каля макіскога перакрыжавання, дзе сёння шлагбаум.

Памятаю тыя наваселлі. Колькі было радасці, слёз, бо людзі перабіраліся ў светлыя хаты. Будаўніцтва працягвалася і далей, нават калі былі аб'яўлены неперспектыўнымі суседнія вёскі. Маладзейшыя, хто працаваў у калгасе, сталі самі будавацца на Мазураўцы. І гэты "бум" працягваўся аж да чарнобыльскай катастрофы… Цяпер у некалькіх з тых домікаў — навуковы цэнтр Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка.

Бабчын – вёска з даўнімі, трывалымі традыцыямі. Школа тут адкрылася ў 1905 годзе: дэпутатам Царскай Думы быў адзін з тутэйшых жыхароў поп Драздоўскі, ён прыклаў усе намаганні і дабіўся, каб адкрылі школу. Спачатку яна была царкоўна-прыхадская, усяго чатыры класы, знаходзілася там, дзе цяпер у Бабчыне музей. Мой дзед Яўхім хадзіў у тую школу. Вельмі хутка пабудавалі новую, з чырвонай цэглы, якую прывозілі з самой Італіі. Я вельмі любіў гэту школу з самага дзяцінства. Яна кампактная і прывабная. Нават у цяперашнім запусценні хараша выглядае, стойкая да дажджоў і вятроў.

Да вайны ў гэтай школе быў педтэхнікум. Яго скончыў Вячаслаў Пятровіч Палескі-Станкевіч, які кватараваў на маёй вуліцы ў Мікалая Гаўрылавіча Зелянкоўскага. Калі я заканчваў школу, ён быў старшынёй

Белтэлерадыёкамітэта. Пасля яго смерці супрацоўнікі шэфствавалі над нашай школай, прывезлі шмат кніг. На адной з такіх сустрэч было прынята рашэнне ўвекавечыць памяць В. П. Палескага-Станкевіча, прысвоіць яго імя нашай школе. Вырашылі будаваць і новую. На тэрыторыі сада, дзе была цудоўная кляновая алея, і распачалі будаўніцтва дабротнай трохпавярховай школы. У 1977-м тут быў першы выпуск, я ў той час заканчваў універсітэт.

Школьныя гады самыя памятныя. У гэты час вызначаецца чалавечы лёс. Прыйшло захапленне літаратурай. Я вельмі ўдзячны настаўнікам Эміліі Мечыславаўне Купрэйчык і Вікторыі Рыгораўне Кулакоўскай. Яны так выкладалі літаратуру ў нашай школе, што яе любілі ўсе. Кніга была святам. Сярод маіх аднакласнікаў не было нікога, хто б абмінаў бібліятэку. Марыя Мечыславаўна Купрэйчык, сястра нашай настаўніцы, настолькі адказна ставілася да сваёй работы, да кожнага з дзяцей знаходзіла свой падыход. І мы былі чытаючым народам. Дзякуючы гэтаму я стаў філолагам. І іншых сваіх настаўнікаў успамінаю з нязменнай удзячнасцю. Як можна было не захапляцца урокамі хіміі Ніны Дзянісаўны Дрончанка ці ўрокамі фізікі Соф'і Давыдаўны Дашук?! А колькі светлых успамінаў пра нашага завуча Уладзіміра Федаравіча Піляка!

Бабчын – Палессе майго маленства. Палессе, услаўленае ўвасобленае ў раманах Івана Паўлавіча Мележа. Адразу за нашай хатай пачыналася балота, якое называлася "Аколіца". Цэлыя залежы тарфянікаў! Зімой, калі балота замярзала, іх выкопвалі і вывозілі на палі. Таму гэту частку называлі "раскопы", "кар'еры". Затым торф ізноў нарастаў, і яго капалі.

Далей пачынаўся лес – дрымучы, трывалы, баравы. Гаі бярозавыя. І два ўрочышчы, пад самы лес, дзе выган бабчынскі – Вялікая і Малая Пель. А па левы бок – калгасны хвойнік. Уся сярэдзіна яго была бязбожна высечана: людзі там нарыхтоўвалі дровы. Новы ляснічы Уладзімір Сямёнавіч Гаўрыленка рабіў усё, каб той хвойнік зноў стаў дзяржаўным.

Так што калі мы стварылі школьнае лясніцтва, увесь красавік у дзевятым класе садзілі новы лес. Было створана 9 абходаў. Усё ўзлессе Бабчына і далей, на Майдане, – гэта нашы лясы. Выраслі яны агромністыя, засталіся ў зоне бяды…

Тры гады каля Малой Пелі сейсмолагі (мы іх называлі "сейсмікі") нафту шукалі. У іх быў свой палатачны гарадок, мехдвор, склады з узрыўчаткай. Яны вясной прыязджалі і жылі ўсё лета. Адметна, што сярод іх шмат было татараў. Некаторыя "сейсмікі" кватаравалі. Згадваецца, як да бабкі Раменнай (так яе звалі вяскоўцы) прыйшлі ўладкоўвацца на пастой двое хлопцаў. Яна пытаецца: "Дзеткі, як вас завуць?". Адзін адказвае: "Музамір!" Дык старая ў адказ па-свойску, палеску: "І му за мір, дзеткі! Хто ж той вайны хоча?" Смяяліся на ўвесь Бабчын.

Сярод буравікоў тых было шмат прадстаўнікоў і іншых нацыянальнасцей. Гэта быў якраз "хрушчоўскі перыяд", калі хлеба не хапала і ў нашых Хойніках давіліся ў чэргах. А ў сейсмолагаў – свая аўталаўка, якой дастаўлялі хлеб з Рэчыцы, фармавы, стандартныя кілаграмовыя боханы. Гандлявала ім татарачка Фая. Помніцца, гэта вельмі чулая жанчына. Яна

заўсёды дбала прывезці больш хлеба, каб па буханцы-дзве прадаць вясковым дзецям. Штодзень мы выстройваліся ў чэргі ля аўталаўкі.

Фая прывезла з сабой сыночка Флюра. Ён гаварыў "твая", "мая", мужчынскага роду для яго не існавала. Маці таму і ўзяла яго з сабой, каб ён авалодаў мовай. Я тады хадзіў у клас трэці ці чацвёрты, а Флюр гады на два быў меншы. Жылі яны з маці ў палатцы каля мехдвара. Неяк я ішоў за грыбамі і мне спаткаўся гэты цемнатвары хлопчык. З дазволу маці я ўзяў яго з сабой. Татарчук з вельмі жывымі вачыма стаў сябрам майго маленства. Грыбоў мы тады назбіралі процьму! Пазней Фая ўжо спакойна адпускала Флюра са мной і ён пасябраваў з усімі нашымі. Праз пару месяцаў ён так добра па-бабчынску гаварыў! Цікава, што і на наступны год калі прыехаў, то нічога не забыў. Усім сямействам разам з бацькам Ібрагімам яны заходзілі ў наш дом. Упершыню тады я ўбачыў і крупы рысавыя. Бог мой! Мама сядзела каля вакна і перасыпала іх на фоне сонечнага промня. І зярняткі гэтыя свяціліся, пераліваліся… Грэчку бачыў, проса бачыў, а вось рыс да гэтага ніколі… .

Мой дзед Яўхім Анісімавіч Мятліцкі адзін сезон вартаваў у "сейсмікаў" склады. Я вазіў яму абеды. З Васем Курапеем зрабілі спецыяльны плыт, каб па канаве дастаўляць старому харчы. Неяк надарыліся зацяжныя праліўныя дажджы, склады паплылі, і мы дапамагалі ратаваць скрыні з толам.

Дзед быў цікавы субяседнік, пісаў вершы, да вайны друкаваў іх у "Гомельскай праўдзе". Усе яго чатыры дзядзькі (родныя браты майго прадзеда Анісіма) ў 1907 годзе паехалі ў Сібір. Яны прымалі актыўны ўдзел у першай рэвалюцыі. Баяліся "последствий". А на гаспадарцы ў Бабчыне пакінулі Анісіма. У яго было таксама 7 дзяцей: чацвёра сыноў і тры дачкі. Дзед Грыша загінуў, напэўна, у грамадзянскую, а дзед Міша (дзед празаіка Барыса Сачанкі) жаніўся ў Бабчыне на Надзеі Малушкавай. Некалі я гаварыў Барысу Іванавічу: напішы раман, як дзед мой пад распіску жаніўся на тваёй бабулі. Справа ў тым, што за Надзю ў пасаг абяцалі зямлю. А пакуль дзед праводзіў з каханкай першую шлюбную ноч, хтось са сваякоў выкраў тую распіску. Дзед пажыў у шлюбе не вельмі доўга, праўда, нарадзіліся Пеця і Вера (гэта маці Барыса Іванавіча). Міхась кінуў сям'ю і паехаў да дзядзькоў у Сібір. Маці Сачанкі перапісвалася з ім і на пахаванне ў Сібір ездзіла.

На маёй бацькоўскай хаце – пяць зорачак чырвоных: дзед Дзям'ян з жонкай і трое іх дзяцей. Усю гэту сям'ю расстралялі ў Вялікую Айчынную ў сіласных ямах. Дарэчы, дзед Яўхім якраз знаходзіўся ў хаце, калі немцы прыйшлі распраўляцца з братам. Спыталі і ў яго прозвішча, назваўся Кірчанкам і пяцігадовую Палінку – дачку Дзям'яна – хацеў забраць з сабой, выратаваць. Дык яна вырвалася, кінулася назад, да бацькоў. Як не прасіў немцаў, не аддалі…

27 верасня ў Бабчыне прэстольнае свята – Узвіжанне, на яго збіраліся ўсе родзічы. Згадваецца, як прыязджаў і дзядзя Міша, Дзям'янаў сын з Хойнікаў, былы партызан атрада Каўпака. Чарку возьме – і поўныя вочы слёз: "Цераз мяне іх усіх расстралялі..." Бацька суцяшаў яго.

Тады ў маі 1943-га расстралялі ўсе партызанскія сем'і, у тым ліку і сям'ю нашага настаўніка Васіля Адамавіча Зелянкоўскага, гісторыка. Сем зорачак на яго хаце было, самы маленькі з ахвяраў – дзевяцігадовы брат Паўлік… Вяскоўцаў гналі, як статак, пад канвоем, з аўчаркамі. Бабчынцы самі капалі супрацьтанкавы роў, на краі якога іх і расстралялі. Потым перазахавалі якраз там, каля дарогі, што вядзе з Бабчына на Чарнобыль.

Да кожнага Дня Перамогі мы сплялі агромністую гірлянду і неслі ад школы да помніка, які стаіць у лесе за Бабчынам. І ніколі наш настаўнік сваё асабістае не кратаў, настолькі гэта нялёгка было для яго.

Праз кіламетры тры лесу за Бабчынам пачыналася балота Гала. Яно ёсць нават у энцыклапедыі. Доўжыцца яно з-пад Брагіна і пад Мазыр, кіламетраў 40, паласой. Чаму "Гала"? Мусіць, голае…

Памятаюцца першыя калгасныя сенакосы на астравах Гала. Вяскоўцы нясуць копы па шыю ў вадзе. Трэба было з дробных астраўкоў выносіць на вялікі востраў. Зімой, калі балота замярзала, можна было даехаць і забраць тое сена.

Я перайшоў у восьмы клас, калі Гала асушалі. Меліярацыя вялася толькі асушэннем, дрэнаж не клалі. Зрабілі канавы, калектары, стрэлкі, разбілі на клеткі, у лаўжах ляжала ссунутая лаза. Выгляд "вырванай" прыроды. На асушаных землях пабудавалі камбікормавы завод. А ў бабчынцаў знікла праблема з сенам. Прыйшоў новы старшыня, стрыечны брат Івана Паўлавіча Мележа – Анікант Дзмітрыевіч. Ён вельмі клапатліва адносіўся да людзей. Многім пажылым прывозілі сена бясплатна. Яны трымалі кароў і здавалі малако, за яго атрымлівалі грошы.

Менавіта пры Мележы скончылі і вясковы "даўгабуд" – Дом культуры. Ён узводзіўся гадоў восем! Кіно шыракафарматнае сталі дэманстраваць. Утульна, камфортна. Туды перабралася і праўленне калгаса. Анікант Дзмітрыевіч падабраў сабе харошую каманду. Намеснікам да яго прыйшоў макіскі брыгадзір Васіль Адамавіч Барысенка – бацька Валянціна Васільевіча Барысенкі (намесніка старшыні Гомельскага аблвыканкама – аўтар). З гэтым добразычлівым чалавекам вяскоўцы маглі вырашыць прама на вуліцы любое пытанне. Дарэчы, Валянцін у старэйшых класах вучыўся ў нашай Бабчынскай школе. Памятаю яго белабрысым хлапчуком. Прыемна, што і цяпер засталася ў нас харошая зямляцкая дружба. З макішанцаў са мной разам вучыліся дваюрадная сястра Барысенкі – Алена Чэкан, а таксама Мікола Буйневіч, Генадзь Грышкавец і іншыя.

Прафесар Алесь Іванавіч Бельскі адкапаў цікавыя звесткі пра Тодара Курбацкага. На маё здзіўленне, аказалася, што я жыў побач з яго жонкай-удавой Нюрай, не ведаючы, што менавіта яна і была жонкай настаўніка Івана Мележа. Тодар пісаў вершы, працаваў у Глінішчах, Хойніках, Бабчыне. Яны жылі праз дзве хаты ад нас. Цётка Нюра (ёй 87 гадоў) зараз жыве ў Бухары ў сваёй дачкі Клавы. Тая выйшла замуж за ўзбека Рэната, вельмі гарачага. Раней яна часта прыязджала з ім у Бабчын, і мы дзецьмі былі сведкамі такіх сцэн. Калі яны сварыліся, Рэнат гнаў Клаву голай да магазіна: так яна грахі адкупляла. Прыгожая дзеўка была! Разы тры я бачыў на свае вочы тое

пакаранне. Праўда, Рэнат той памёр, Клава выйшла за другога. А ў Санкт-Пецярбургу ёсць сын Тодара Курбацкага Павел, капітан дальняга плавання.

Вось такія згадкі пра землякоў… Пра многіх я напісаў у вершаванай форме ў кнізе "Бабчын". Шкада, што лёс многае перапісаў. Хто мог падумаць, што такая тэхнагенная катастрофа здарыцца ў нашай палескай глыбінцы? Калі б Бабчын быў жывы, ён стаў бы адным з першых аграгарадкоў. Нічога і прыдумваць не трэба. Усё было для жыцця. І адным днём перакрэслілася, зрушылася. Гаварыць пра гэта цяжка. Я магу вельмі жыва ўявіць, як бы сёння развіваўся Бабчын. І гэтага так не хапае ў рэальнасці! Няма куды прыехаць у сталыя гады, каб прыгарнуць душу, прайсці па сцежках маленства. Пабыць сярод аднавяскоўцаў разам з сябрамі, пагутарыць цяпер, калі ўжо нешта табой зроблена ў літаратуры. Ведаю, што на такую маю сустрэчу ў Бабчынскім Доме культуры ўсе вяскоўцы прыйшлі б…

У час мінулагодняга прыезду ў Бабчын мы рушылі ад маёй хаты праз сліўнік. Гэта джунглі сплёўшыхся дрэў, праз якія не прабіваецца сонца. А на вуліцы вязы, якія не абняць аберуч. Дзіка, што жывая істота – прырода – жыве і развіваецца тут ужо без прысутнасці чалавека. Але гэта настолькі дарагі для мяне лапік зямлі, што я да апошняга ўздыху буду несці яго вобраз ў сваім сэрцы.

*Мікола МЯТЛІЦКІ*

## СОНЦА НАД БАБЧЫНЫМ

«Памяць босых ног...» – радок паэта Рыгора Барадуліна шчымліва прайшоўся па маім сэрцы. Я адчуў, як забалела сэрцу ад прыпамінаў. І гэты светлы, сонечны прыпамін мясцін маленства гучаў папрокам: «Ну што, абвыкся ў мітуслівай гурме гараджан? А ты ж быў некалі падпарадкаваны не гэтай аднастайнасці дзён, умеў смакаваць іх душой – вясеннія і летнія, асеннія і зімовыя. А сёння забыўся, што там, на Палессі, вясна».

Гэта гукала радзіма. Душа поўнілася яе дзівосным святлом.

Радзіма не пакідала мяне. Глядзеў на вокны гарадскіх гмахаў, аслепленых ранішнім сонцам, а бачыў, як пабліскваюць яго чырвоныя промні на шыбах бацькавай хаты. Пачуў, як рыпнулі яе дзверы, і ўбачыў маму: вунь яна, падалася да студні. Слізгае ў яе руках вочап, ледзь чутна парыпвае замшэлы ад веку журавель, і вядро захлынаецца – булькае ў сцюдзёнай глыбіні. Вось яно імкліва ўзнеслася ўгору, плюхнула вадой у яе руках.

Мама бярэ вёдры. Ці думае яна ў гэты момант, што за іх дужкі трымаюцца нябачна і мае рукі?

– Мама, табе ж цяжка!.. – гукае праз далячыні вёрстаў мае сэрца. І каторы ўжо раз застаецца мне толькі адно: вось так, у думках, паднесці ёй вёдры...

Мая душа не выстыла, павер,
Не вее стылай чэзласцю пустыні.
Рыпіць над студняй раніцай асвер,
І рукі я цягну праз далячыні.

Не крыжаваць мне вокны забыццём
Твае пад пахай сонечнага гаю.
Каторы год віхрастым хлапчуком
У думках твой парог пераступаю.

Світае ранне... Мама па ваду
На двор сышла, прадзьмута скразнякамі.
Ці бачыш, мама? – побач я іду,
Трымаю дужкі дужымі рукамі.

У бессані блукаю давідна,
Мне сэрца хата вокнамі сагрэе.
Ды помню, мама, ты жывеш адна,
А побач толькі – белая завея.

Нам, дзецям, давялося заблукаць
Па раздарожжы веку так далёка.
Балюча мне: цяжэе ў руках

Тваё вядро, паўнюткае, як вока.

– Мама!..
І глуха вітанне
Сціснe магільны жвір.
Шэрае, ззяблае ранне,
Стылая неба шыр.
– Мама!..
Трымціць бяроза,
Б'ецца самотны звон.
Мама, зачаста, можа,
Вечны трывожу сон?
Тут, на зямлі паднебнай,
Вея снягоў дыхне.
Ніваю пахне хлебнай,
Бульбай у баразне.
Церпкім вільготным дымам
Цягне ад вечных хат.
Могілкі.
Далягляд:
Мама,
Жыццё,
Радзіма...
Мая душа не выстыла, павер,
Не вее стылай чэзласцю пустыні.
Рыпіць над студняй раніцай асвер,
І рукі я цягну праз далячыні.

Кожная вёска мае сваю ваенную памяць. Суровая, скрушная гэтая памяць у майго Бабчына. Горда ўзнімаецца чырваназорны абеліск над брацкай магілай пад хвоямі: тут расстралялі фашысты мірных жыхароў вёскі. Як сцвярджаюць сённяшнія яе старажылы, назва вёсцы дасталася з незапомнай вайны. Тады ў вёску не прыйшоў з грознай сечы ніводзін мужчына. І стала яна Бабчынам – паселішчам удоў. Не варта хадзіць далёка, каб паверыць, што гэтыя словы сказаны не без падстаў. І сёння ў Бабчыне, як і ў кожнай беларускай вёсцы, хаваюць на сподзе душы свой незагойны боль удовы апошняй вайны.

Я з вёскі той, што Бабчынам названа.
Яна на ўскрайку вогненных бароў.

Мне пашчасціла нарадзіцца пад мірным небам Бабчына, І я хачу, каб было яно высокім, сонечным і для тых, хто народзіцца тут. Доўга шукалі сваё хлебаробскае шчасце мае землякі. Здабытае крывёю народа, яно асвятляе і гэты кут, які я называю радзімай.

Хойнікшчына – імя маёй радзімы. Тут нарадзіўся і вырас той паляшук, якому наканавана было стаць песняром гэтага краю. І ён, Іван Паўлавіч Мележ з любоўю і талентам паказаў маю радзіму ўсяму свету. Тут прытуліліся і яго Курані... яго Глінішчы.

Сваімі творамі Мележ падараваў бяссмерце і старому Палессю. Пераўтворанае новай явaю, яно будзе прысутнічаць у кожным наступным дні. Будзе паланіць сэрцы нязбытнай любоўю Ганны, вялікім хараством паляшуцкай душы. Прыгледзьцеся пільна – і за ўсёй навізною вы ўбачыце, што не падуладнае часу засталося «Палессе душ». Палессе ёсць. Яно сваё, адметнае і адрознае. Са сваімі легендамі і паданнямі, са сваімі казкамі і прыказкамі, са сваёй песняй і моваю. Яго песня прыязджае штовесну ў раённы Дом культуры на агледзіны з тутэйшых вёсак, ліецца глыбока і шырока, як маці-Прыпяць. Спрачаецца з эстрадай. Пра што яна, песня маёй радзімы? Любоў Рыгораўна Чарняк, дырэктар Глінішчанскага Дома культуры, з любоўю расказвае пра тое, як любіў слухаць глінішчанскіх спевакоў Іван Паўлавіч Мележ. Зазіраючы на некалькі дзён да сваіх, пісьменнік заўсёды выбіраў часіну зайсці на рэпетыцыю хора – не нова пабываць на глінішчанскіх вячорках. Чым вабіла Мележа гэтая песня? Якая яна сёння? Ды ўсё тая ж – пра вербы ў канцы грэблі, хоць самой грэблі не памятае большасць сённяшніх выканаўцаў песні. Дык пра што ж тады гэтая песня, чаму не адыходзіць, як тая грэбля, пра якую спяваецца? Адказ адзін: пра радзіму.

– Іншая песня ці шчымела б гэтак у сэрцы, ці лілася б гэтак, – заключае Любоў Рыгораўна.

Не здзіўляйцеся, не заспеўшы палескіх балот. Здзіўляйцеся з сённяшняй явы мележаўскага краю – шырокага жытнёвага поля, светлага распагоджанага блакіту і самой долі, што як гэтае поле і гэты блакіт.

*Сяргей БЯСПАЛЫ*

## Захоўваць традыцыі і адпавядаць духу часу

**Такой стратэгіі трымаецца абласная газета “Гомельская праўда”**

***Сяргей Бяспалы нарадзіўся ў Хойніках. 25 гадоў яго жыцця звязаны з “Гомельскай праўдай”. Студэнтам журфака БДУ ён тройчы праходзіў у газеце практыку, пасля заканчэння універсітэта прыехаў сюды па размеркаванню. Апошнія дзевяць гадоў – галоўны рэдактар.***

***Член Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта. Старшыня абласной журналісцкай арганізацыі. Адзначаны Падзякай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і медалём Францыска Скарыны.***

**Рэдактар**

**– Сяргей Міхайлавіч, “Гомельская праўда” – газета больш чым з 90-гадовай гісторыяй. Што для Вас як галоўнага рэдактара больш важна: прытрымлівацца традыцый ці адпавядаць духу часу?**

– Не бачу тут ніякай супярэчнасці, бо можна і адпавядаць духу часу, і пры гэтым прытрымлівацца традыцый, захоўваючы якасць выдання. Менавіта такі баланс і імкнемся вытрымліваць. Узначальваць “Гомельскую праўду” для мяне вялікі гонар і вялікая адказнасць. Напэўна, не ўсе ведаюць, што ў нашай газеце пачынаў працоўную біяграфію Паўлюк Трус, дэбютаваў малады Іван Шамякін, друкаваўся Ілья Эрэнбург, у перадваенны год яе рэдагаваў будучы камандзір партызанскага злучэння Герой Савецкага Саюза Ілья Кожар. Гісторыя “Гомельскай праўды” вялікая і надзвычай цікавая, і мы не маем права паставіць у ёй кропку.

**– Добра ведаеце сваю чытацкую аўдыторыю?**

– Сустрэчы з чытачамі, рэдакцыйная пошта пацвярджаюць: “Гомельская праўда” цікавая для людзей усіх узростаў і розных сацыяльных груп. Наш тыраж – самы вялікі сярод абласных газет

краіны, пры тым што падпісны кошт – адзін з самых высокіх. Галасуючы за “ГП” рублём, чытач спадзяецца знайсці ў асобе нашай газеты разумнага субяседніка і добрага дарадчыка. Стараемся гэтыя спадзяванні апраўдваць. У нас шмат цікавых праектаў: “Любімая Гомельшчына”, “Маладзёжны пульс”, “Сувязь часоў”, “Дасье”... На старонках газеты друкуюцца сталыя і пачынаючыя паэты і празаікі Гомельшчыны – “Літаратурная гасцёўня” вось ужо колькі дзесяцігоддзяў збірае пад сваё крыло таленавітых людзей нашага краю. Імкнемся даць розуму чытача, як пісаў класік, як мага больш пажытку. Знаходзімся ў пастаянным творчым пошуку. Інакш нельга, канкурэнцыя падганяе, трымае ў тонусе.

**Калектыў**

**– Усе мы памятаем класічную фразу аб прызначэнні газеты, якая з цягам часу не страціла сваёй актуальнасці. А што лічыце галоўным у прафесіі журналіста?**

– Напэўна, бачыць тое, чаго ніхто не заўважае, а ў тым, што агульнавядома, знайсці нябачнае для ўсіх і расказаць аб гэтым чытачу свежа і цікава, “зачапіць” яго. Наша правіла такое: не гнацца за таннай сенсацыяй, не “страляць з гарматы па вераб”ях”, пазбягаць хуткаспелых вывадаў, каб не дапусціць у газеце недакладнай інфармацыі. У журналістыцы існуюць свае прафесійныя правілы, якіх неабходна прытрымлівацца.

**– Задаволены сваёй камандай?**

– У нас склаўся выдатны творчы калектыў. Мы ўсе аднадумцы і патрыёты “Гомельскай праўды” і роднай Гомельшчыны. Сучасныя веды і крэатыў маладых, моцны прафесіяналізм і жыццёвы вопыт сталых журналістаў арганічна спалучаюцца і прыносяць добрыя стасункі. Традыцыйна шмат увагі ўдзяляем праблемным публікацыям, і не толькі на рэгіянальныя тэмы. Матэрыялы нашай газеты разглядаюцца ў парламенце, міністэрствах і ведамствах. Кожны

журналіст не менш чым раз у год рыхтуе расследаванне – на жаль, сёння рэдкі жанр у сродках масавай інфармацыі. А наконт каманды... Упэўнены: не можа быць моцным кіраўнік, у якога слабая каманда, і наадварот, у моцнага калектыву не можа быць слабага лідэра.

**Творчасць**

**– Якія якасці неабходны, каб зрабіць паспяховую кар'еру ў газеце?**

– Аб кар"еры я не думаў, усё склалася неяк само сабой. Традыцыйна ў "ГП" працаваў моцны журналісцкі калектыў, маладым было з каго браць прыклад. А наогул я перакананы: мужчына павінен рабіць кар"еру, павінен больш працаваць, больш зарабляць, несці большую адказнасць, калі ён сапраўдны мужчына.

**– Памятаеце сваю першую публікацыю ў "ГП"?**

– Гэта была невялікая заметка ў 50 радкоў, якая распавядала аб праблеме навасёлаў. Мяне, тады студэнта, пахвалілі старэйшыя калегі. Гэта было даражэйшым за самы высокі ганарар.

**– У Вас ёсць любімыя рубрыкі ў "Гомельскай праўдзе"?**

– Заўсёды з задавальненнем чытаю матэрыялы калег пад рубрыкай "Журналісцкае расследаванне". Узнімаецца настрой, калі бачу фірменны эксклюзіў – "Толькі ў "ГП". Падабаецца "У цэнтры ўвагі "ГП" – сваёй вастрынёй, сацыяльнай накіраванасцю. Люблю "Азбуку жыцця", дарэчы, яе вядучыя першымі ў нашым калектыве сталі лаўрэатамі прэміі "Залатое пяро". На мой погляд, нам удаюцца матэрыялы фальклорна-этнаграфічнай тэматыкі, аповяды пра таленты з народных глыбінь, пра тых неравнадушных людзей, якія беражліва захоўваюць і перадаюць нашчадкам нашу самабытную культуру. Імкнемся, каб чытач праз "ГП" даведаўся пра непаўторныя абрады, якія захаваліся на Гомельшчыне дзякуючы сапраўдным энтузіястам сваёй справы. Перакананы: народная творчасць, абрады, песні, паданні, казкі – гэта сапраўдныя дыяменты, каштоўнасць якіх з

цягам часу будзе толькі ўзрастаць. Вось чаму стараемся не прапускаць выхаду зборнікаў аб духоўнай спадчыне раёнаў Гомельшчыны, самі іх з задавальненнем чытаем і абавязкова рэцэнзуем такія выданні ў сваёй газеце.

**Улада**

**– Як складваюцца адносіны з заснавальнікамі газеты?**

– Мы партнёры з абласной вертыкаллю ўлады. А добры партнёр можа смела сказаць аб недахопах, зазначыць праблемы, крытычна паглядзець на сітуацыю. Кіраўнік вобласці Аляксандр Серафімавіч Якабсон уважліва чытае “Гомельскую праўду”, асаблівую ўвагу звяртае на крытычныя публікацыі. Часта менавіта па матэрыялах нашай газеты губернатар дае даручэнні. Такая ўвага дарагога каштуе.

**Эканоміка**

**– У апошні час ва ўсіх на слыху эканамічная тэма. Шмат размоў аб крызісе, аб выжываемасці прадпрыемстваў...**

– Мы жывем, а не выжываем! Зараз аб”ём выпуску “ГП” большы, чым у савецкі час, калі газета выходзіла пяць разоў на тыдзень. Думаем над далейшым павелічэннем аб”ёму. У нас з”явіўся новы будынак у цэнтры горада, куды рэдакцыя пераехала ў канцы 2009 года. Усё гэта не можа не радаваць.

**– Галоўны рэдактар – гэта менеджэр і творчая асоба адначасова. Кім сябе больш адчуваеце: кіраўніком ці журналістам?**

– Сумяшчэнне творчасці з гаспадарчай дзейнасцю не такая простая справа. Аднак калі ад кіруючай работы ў выхадныя дні адпачываеш, то ад журналістыкі – ніколі. Блакнот і ручка ў мяне заўсёды з сабой. Тэма нейкая закранула, навіну цікавую пачуў, нечаканая ідэя прыйшла ў галаву – патрэбна абавязкова запісаць, абдумаць, а потым і рэалізаваць. У нашай прафесіі важная любая дробязь. Таму і дэвіз “Гомельскай праўды” – “Для нас нет мелочей. Важно всё!”.

**Гісторыя**

**– Да нядаўняга часу днём заснавання “Гомельскай праўды” лічылася 12 лістапада 1917 года, аднак сёлета газета адзначыла свой 93-ці год нараджэння ў сакавіку. З чым гэта звязана?**

– Яшчэ ў час падрыхтоўкі да святкавання 90-годдзя газеты мы вырашылі грунтоўна заняцца яе гісторыяй. Вялі перапіску з архівамі і бібліятэкамі Масквы, Санкт-Пецярбурга, мелі зносіны з супрацоўнікамі абласнога архіва. Знайшлі шмат цікавых дакументаў, даведаліся прозвішчы практычна ўсіх ранейшых рэдактараў газеты: як высветлілася, іх было не 30, а ўдвая больш. Тады ж адкрылася, што сапраўдны дзень нараджэння нашай газеты не 12 лістапада, а 22 сакавіка 1917 года, і гэтаму ёсць дакументальнае пацвярджэнне. Менавіта ў гэты дзень па новаму стылю выйшаў першы нумар “Известий Гомельского Совета рабочих и солдатских депутатов”, пераемніцай якіх і стала “ГП”. Атрымліваецца, што “Гомельская праўда” – старэйшая газета ў Беларусі.

Не магу не сказаць і яшчэ аб адным прыемным моманце. Кіраўніцтвам Гомеля прынята рашэнне назваць у гонар нашай газеты пешаходны бульвар у Цэнтральным раёне горада. А дзве гомельскія вуліцы ўжо даўно носяць імёны двух былых рэдактараў “ГП” – Мікалая Білецкага і Ільі Кожара.

І яшчэ. У савецкія часы ў нашай рэдакцыі існавала прэмія імя рэдактара “Гомельскай праўды” Івана Матыля. Мы адрадзілі яе, і цяпер штогод лепшы журналіст газеты адзначаецца такой прэміяй. Так што традыцыі для нас – не пусты гук. Спадзяемся, што новыя пакаленні журналістаў будуць гэтыя традыцыі памнажаць, каб аддаваць чытачам, гаворачы словамі нашага выдатнага земляка Івана Мележа, часцінку свайго сэрца. І сапраўды, душа Палесся – спеўная. Наш край заўжды славіўся таленавітымі спевакамі, казачнікамі, знаўцамі замоў. “Гомельская праўда” будзе і надалей знаёміць чытачоў з народным календаром і сямейнымі абрадамі продкаў,

прыкметамі і павер’ямі, прыказкамі і прымаўкамі, песнямі, якія зберагла народная памяць да дня сённяшняга.

**Гутарку вяла Ніна Злыдзенка**

**Фота Алега Белавусава**

* У калектыве “Гомельскай праўды” працуюць 5 выдатнікаў друку Беларусі, 4 журналісты адзначаны прафесійнай прэміяй БСЖ “Залатое пяро”. У 2002 годзе газеце аб”яўлена Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, у 2006 годзе яна была прызнана лепшай абласной газетай краіны і адзначана статуэткай “Залатая літара”. У тым жа годзе ўзнагароджана Ганаровай граматай Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі.

*Вера ГЕНАШ*

# ЖЫВУ І ПАМЯТАЮ
# ЦІ Ў ПАМЯЦІ ЗАСТАЎСЯ НАЗАЎСЁДЫ

"Кожны пісьменнік – сын свайго народа, і значэнне яго ў рэшце рэшт вызначаецца тым, як ён паказвае свой народ свету, што ён кажа свету ад імя свайго народа" (Іван Мележ).

Яго нарадзіла зямля Беларусі, зямля нашай роднай Гомельшчыны, на якой здаўна жылі людзі, якія ведалі шмат песень і таямнічых гісторый пра чалавечыя лёсы, якія любілі свой край і сваю Бацькаўшчыну, ганарыліся, што яны палешукі.

Тут, сярод балотных прасцягаў беларускага Палесся, 8 лютага 1921 года, у беднай сялянскай сям'і вёскі Гомельшчыны нарадзіўся Іван Паўлавіч – сціплы чалавек, добры дарадчык, разумны і таленавіты майстра, выдатны творца, класік нацыянальнай літаратуры, народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі і іншых высокіх дзяржаўных узнагарод хутка адчуў, што сказаць пра сваіх землякоў – яго абавязак. Абавязак сына і брата, абавязак ягонага сэрца.

Некалі Іван Паўлавіч сказаў: "Ёсць у кожнага свой, мілы сэрцу куток..." Такім мілым і дарагім для пісьменніка быў куток яго маленства – родныя Глінішчы. Тут ён вучыўся ў пачатковай школе, адсюль ён выпраўляўся спачатку ў суседнюю вёску Алексічы, дзе вучыўся ў школе-сямігодцы, а затым – у раённае мястэчка Хойнікі, дзе закончыў сярэднюю школу з залатым медалём. Адсюль Іван Паўлавіч пайшоў у жыццё, у вялікую літаратуру. Ён – удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, цяжка паранены, вяртаўся сюды, на "малую радзіму", каб адпачыць душой і сэрцам, каб набрацца сіл, надыхацца свежым паветрам.

Закончыўшы Беларускі дзяржаўны універсітэт імя У.І. Леніна, аспірантуру пры ім, працуючы на розных пасадах у Саюзе пісьменнікаў БССР, Іван Паўлавіч ніколі не губляў сувязяў з родным Палессем, са сваімі роднымі і блізкімі яму людзьмі і мясцінамі.

Першы свой верш Іван Мележ напісаў у 1931 годзе, а першае апавяданне "Сустрэча ў шпіталі" было апублікавана ў 1944 годзе. Затым у друку пачалі з'яўляцца кнігі "малой" прозы: "У завіруху", "Гарачы жнівень", "Што ён за чалавек", раман "Мінскі напрамак", дзённікі "Першая кніга", зборнік публіцыстыкі "Ж ыцёцвыя клопаты", а таксама раманы "Людзі на балоце", "Подых навальніцы", "Завеі, снежань", якія атрымалі назву "Палеская хроніка". За два першыя раманы з гэтага цыклу пісьменніку была прысуджана Ленінская прэмія.

З усяго ім напісанага – "Палеская хроніка" – твор самы блізкі, самы дарагі яго сэрцу. Усё, што перажылі яго героі ў трылогіі, гэта і перажытае бацькам і маці, роднай зямлёй. Не выпадкова Мележ прысвяціў свой раман "Бацьку, маці, роднай зямлі".

У рамане-хроніцы аўтар паказаў жыццё роднага народа на пераломным этапе нашай гістроыі, народа, прататыпы якога хадзілі і сёння яшчэ ходзяць па вуліцах Глінішчаў, Алексіч, Каранёўкі (у рамане – Кураці). Яго Ганны і Васілі, Міканоры і Апейкі, Хоні і Хадоські, Яўхімы і Зайчыкі гэта не проста індывідуальнасці, але і агульначалавечыя тыпы, якія сталі блізкімі мільёнам чытачоў не толькі ў нашай краіне, але і далека за яе межамі Сваіх герояў, як і сваіх землякоў, Іван Паўлавіч вельмі любіў, шчымліва да іх адносіўся.

Мне сёння прыемна ўзгадваць, што многіх з герояў рамана Івана Мележа я ведала асабіста, часта з імі сустракалася, размаўляла, хадзіла па адных вуліцах. Да і з Іванам Паўлавічам даводзілася разам успамінаць пра іх, асабліва тады, калі я, студэнтка БДУ імя У.І. Леніна, наведвалася ці да яго на кватэру ў Мінску, ці на дачу ў Ждановічах. Я расказвала аб вяртанні з роднай вёскі Алексічы, пра Нікіфара Ануфрыевіча Бельскага – старшыню Глінішчанскага калгаса, чалавека, які адыграў не апошнюю ролю ў стварэнні вобраза рамана Апейкі, пра школьнага сябра Івана Паўлавіча – Міканора Якаўлевіча Яроша, дарэчы, майго настаўніка геаграфіі, правобраза Міканора Дамеціка ў рамане. І трэба было бачыць, якой радасцю свяціліся вочы Івана Мележа, як зіхацела лёгкая ўсмешка на яго заўсёды засяроджаным твары, як ён радаваўся, як малое дзіця цацкам, усяму пачутаму, быццам сам вярнуўся з родных Глінішчаў і сам зноў і зноў сустрэўся з дарагімі яму людзьмі.

Сустракаў мяне Іван Паўлавіч заўсёды ветліва, нібы прадчуваючы, што размова абавязкова пойдзе пра Глінішчы і глінішчукоў, пра ўсё тое, што парадуе душу і сэрца, дабавіць сілы ў нялёгкім для яго жыцці: пісьменнік быў цяжка хворы ад часоў вайны. Гэты чалавек не з'еў ніколі кавалак чорнага хлеба і не выпіў шклянкі гарэлкі, а тое, што ён жыў і працаваў, у многім залежала ад яго сям'і, людзей, якія зрабілі шмат для гэтага.

З асаблівай увагай і акуратнасцю, замілаваннем і шчырасцю згадваў сам пісьменнік Паўла Чарняка (настаўніка маёй школы) і брата Саўчыка – майго бацьку, які, як і ён, быў паранены на вайне і доўга залечваў раны, трымаўшы (як і Іван Мележ), пасведчанне аб інваліднасці. Можа гэтае супадзенне так зблізжала братоў.

Я ўспамінаю час, калі вучылася ў Глінішчанскай сярэдняй школе (якая, дарэчы, сёння носіць імя свайго славутага земляка), заўсёды радавалася паведамленню бацькі, што прыехаў Іван. У Мінск ён вярнуўся з Глінішчай па дарозе, якая вяла праз нашу вёску – Алексічы (дзе жылі мае бацькі), каб наведаць сям'ю брата. Асабліва ўзгадваецца адзін з такіх прыездаў, надзвычай, здаецца, важны для разумения адносін Мележа да сваіх родзічаў і землякоў. Ён ніколі не абмінаў увагай родных і блізкіх людзей, не зазнаваўся сваёй вядомасцю і папулярнасцю.

Усплывае ў памяці, як каля нашай хаты спынілася машына, здаецца, бела-шэрая "Волга", і адтуль выйшаў проста апрануты, спакойны, высокі і вельмі прыемны з выгляду чалавек. Гэта быў Іван Паўлавіч. Шчыра павітаўшыся з бацькам і маці, суседзямі, якія са здзіўленнем, цікавасцю і павагай глядзелі на жывога пісьменніка. А ён працягнуў руку і мне, дзяўчынцы-сямікласніцы. Мне ж уяўлялася тады, што пісьменнік павінен

быць і больш шыкоўна апрануты, і больш ганаровы. А ён, відаць заўважыўшы маё замяшанне, засмяяўся і спытаў: ці добра вучуся, ці чытаю кніжкі беларускіх пісьменнікаў? Іван Паўлавіч зайшоў у хату, пагутарыў з маці і бацькам, пахадзіў па агародзе і пачаў збірацца ад'язджаць у Мінск. Бацькі з паляшуцкай сардэчнасцю сталі збіраць няхітрыя сялянскія пачастункі ў дарогу, але Іван Паўлавіч з усіх прапанаваных згадзіўся ўзяць толькі кошык яблыкаў. Сказаў, што будзе па адным у дзень есці і ўспамінаць зямельку, якая іх нарадзіла.

Узгадваю, як шчыра і непадробна хваляваўся пасля ад'езду госця мой бацька, што не здагадаўся сабраць яблыкаў не ў кошык, а ў вялізны мех, ды ўсё гаварыў: "Во ёлупень стары. Ён жа не на плячах бы яго нёс, а машына б давезла".

Пасля таго выпадку Івана Паўлавіча я ўбачыла толькі праз пяць гадоў, ужо студэнткай другога курса філалагічнага факультэта БДУ імя Леніна. Як цяпер памятаю той дзень, калі я, разам з малодшай сястрой Івана Паўлавіча Любай (хаця яна мне і даводзіцца цёткай, але і да гэтага часу я яе называю Любай) вырашылі з'ездзіць на дачу ў Ждановічы. Люба запэўніла, што я "заб'ю двух зайцаў": не толькі сустрэнуся з сям'ёй дзядзькі, але ўбачу яшчэ і дачу Івана Пятровіча Шамякіна – народнага пісьменніка беларусі, свайго земляка, бо пісьменнікі былі суседзямі, сябрамі, ды і мяжуюць адзін з другім.

Калі мы прыехалі, Іван Паўлавіч працаваў на другім паверсе, але хутка спусціўся ўніз. Паслухаць навіны з "малой радзімы" абавязкова падыходзілі мілыя жанчыны сям'і пісьменніка: дачка Людміла, жонка Лідзія Якаўлеўна, маці жонкі Івана Паўлавіча – Клаўдзія Іванаўна. Дарэчы, ім ён быў шмат чым абавязаны, бо яны, жонка і маці яе, ахвяравалі многім, каб стварыць неабходныя ўмовы для працы, лячэння, адпачынку, акружалі яго цеплынёй і клопатам, падтрымлівалі маральна і духоўна.

Іван Паўлавіч сам расказваў, як разам з Пятром Міронавічам Машэравым пабываў у родных Глінішчах, як на школьным двары каля верталёта сабраліся не толькі вучні і настаўнікі, але і жыхары з суседніх вёсак, як міла і цёпла іх сустракалі землякі. І нельга было не заўважыць яго хвалявання, калі нешта не ўспаміналася адразу, каб данесці да нас, яго слухачоў свае ўражанні, і выказаць сваю любоў да мілых і дарагіх яму людзей, краявідаў, родных і блізкіх, тых, з кім некалі жыў побач, хадзіў у школу, сваіх сяброў-аднагодкаў. Ён заўсёды імкнуўся аддзячыць "зямлі, на якой рос, якая дала сілу і напаіла сваімі сокамі творы мае і творчасць. Людзям тым, з якімі рос і якія запоўнілі мае творы, без якіх не было б твораў і творчасці".

Затым Іван Паўлавіч, нібы схапіўшыся, пацікавіўся ў мяне, як прайшлі студэнцкія канікулы. Я тады толькі што вярнулася з Уральскай вобласці, дзе ў складзе студэнцкага будаўнічага атрада працавала ўсё лета. Расказала я пра тое, што нам пашчасціла там наладзіць сустрэчу з Міхаілам Шолахавым, які, прыехаўшы да нас са сваёй шматлікай "світай", некалькі гадзін распавядаў аб творчых планах, расказваў аб уражаннях ад паездкі ў Італію, адказваў на пытанні студэнтаў-будучых філолагаў і журналістаў.

Іван Паўлавіч зазначыў, што па радыё ён чуў аб гэтай сустрэчы, але слухаў з цікавасцю, перапытваў, нешта ўдакладняў, ці, дакладней, расшыфраваў мне тое, што я не змагла правільна зразумець: на мае пытанне Шолахаву, "як ён ацэньвае творчасць В. Быкава?" адказ мне здаўся не зусім поўным, а, нават, і не аб'ектыўным. Мележ, як кажуць, расставіў усе кропкі над і, пры гэтым падкрэсліў, што Шолахаў – яго любімы пісьменнік.

За размовай мы не заўважылі, як на двары стала шарэць. І калі Лідзія Якаўлеўна і Люда прынеслі пачастункі з градак, Іван Паўлавіч прымусіў мяне ўзяць з сабой у інтэрнат кошык яблыкаў з яго саду. Ён нагадаў мне, як сам у вёсцы ніколі не адмаўляўся ад такога падарунку, бо яблыкі – дар зямлі, а зямля – гэта святое.

Колькі гадоў прайшло з той пары, а мне здаецца, што гэта было зусім нядаўна: мы сядзелі разам з ім за сталом, пілі каву, частаваліся дарункамі з уласнага агароду Івана Паўлавіча і гаварылі пра тое, што так хвалявала пісьменніка – пра яго Палессе, пра працавітых яго жыхароў. Ды і як забыць тое, што трымае, кліча, што нагадвае не толькі пра Івана Паўлавіча і яго творы, але, перш за ўсё – пра чалавека, чалавека шчырага, неабыякавага да праблем жыцця, клапатлівага, адкрытага душою і сэрцам.

І мы, яго родзічы і землякі, павінны шанаваць традыцыі бацькоў, памятаць пра той кут, дзе нарадзіліся, адчулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца.

Сёння ў Глінішчах працуе мемарыяльны музей, побач з якім устаноўлены бюст пісьменніка. Сюды арганізоўваюцца літаратурныя экскурсіі не толькі студэнтаў-філолагаў Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Францыска Скарыны, але і вучняў сярэдніх школ горада Гомеля і вобласці, сюды прыязджаюць з іншых мясцін нашай Беларусі і суседніх краін, каб зноў і зноў дакрануцца да даўняй гісторыі, прайсці па зямлі, па якой хадзіў слынны майстар мастацкага слова, наведаць школу, якая носіць яго імя, могілкі, дзе пахавана сястра Юля і бацькі пісьменніка, праехаць па грэблі, якую будавалі героі яго "Палескай хронікі", пастаяць каля грушы-дзічкі, пад якой некалі сустракаліся Васіль і Ганна, паглядзець на цагельню, за зямлю якой біліся Яўхім з Васілём, пачуць ад землякоў словы шчырай падзякі за тое, што праславіў іх край, а саміх узняў на недасягальную вышыню – літаратурны Парнас, а галоўнае – заўсёды памятаў пра іх.

Памятаем і мы пра свайго знакамітага земляка. Нездарма ж у народа бытуе думка, што чалавек жыве да таго часу, пакуль аб ім памятаюць:

Не, не стоміцца памяць людская,
Светлы вобраз яго зберагаць.
Па зямлі нашай з краю да краю
Будзе Мележа голас гучаць.

*Тамара КРУЧЭНКА*

## ДА МЕЛЕЖАЎСКІХ ЛЮДЗЕЙ-ЧАЛАВЕКАЎ

### *"Былое поўніцца абліччамі…"*

У студэнцкія гады пачалося наша сяброўства. Прайшло яно выпрабаванне часам, адлегласцямі ад сталіцы да Гомеля, але не змянілася сваёй душэўнай сутнасцю. Мікола Мятліцкі – вядомы беларускі паэт, да яго паўнапраўна можна аднесці характарыстыку "зорка першай велічыні на небасхіле айчыннай паэзіі", аднак "зоркавай хваробай" ён не пакутуе. Аўтар 14 кніг, лаурэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса "Полымя"… І ўсё ж пры ўсіх гэтых рэгаліях ён застаецца нязменна карэктным і чалавечным у адносінах з усімі, хто спатыкаўся ў яго лёсе.

Колькі светлага гумару, розных гісторый вытварылі мы сумесна, багіні-філалагіні і нашы аднакурснікі, жывучы ў інтэрнаце БДУ на Паркавай магістралі! У нас з Міколам былі нават свае, прыдуманыя адзін аднаму імёны: я – Муза, ён – Муз. Калі дакладней, сапраўднай Музай яго творчасці была і застаецца жонка Ірына, з якой у студэнцтве мы жылі ў адным інтэрнацкім пакоі, шчыра сябруем і сёння. Маім жа Музам-мужам стаў прадстаўнік юрыдычнага паверха інтэрната. Хаця Мікола неаднойчы папярэджваў, цытуючы класіка: "Як унадзіцца юрыста, душу вымяце дачыста!.."

Мы часта жартуем з Міколам, што абмяняліся радзімамі: я выйшла замуж і аказалася ў Гомелі, а ён застаўся ў сталіцы, адкуль усяго 150 кіламетраў да майго Мядзела і зусім блізка дача Аркадзя Куляшова на нарачанскім беразе – яго летняя літаратурная сядзіба. У красавіку 1986-га, неўзабаве пасля трагедыі на ЧАЭС, былая кватэра Мятліцкіх на вуліцы імя К. Маркса ў сталіцы стала своеасаблівым вакзалам для нас, сяброў, сарваных бядой, неразбярыхай. Па дарозе да бацькоў спынялася і я разам з шасцігадовай дачкой у сваіх аднакурснікаў. Усіх нас трывожыла, што будзе з родным Міколавым Бабчынам. Памятаю, як сястра паэта Наталля, трымаючы немаўлятка на руках, расказвала: "Салдаты бягуць па вёсцы з процівагазамі, а нашы людзі на градах шчыруюць." Пазней як перасяленка яна пэўны час будзе жыць у вёсцы Лук'янавічы Мядзельскага раёна, адкуль карэнні майго бацькі, дзе пахаваны мае дзядуля Канстанцін і бабуля Надзея.

У чэрвені 1996-га я прыеду ў Мазыр, каб далучыцца да пісьменніцкай брыгады і праехаць па 30-кіламетровай зоне адчужэння праз яго Бабчын, па чумацкаму шляху, да Прыпяці, каб зрабіць рэпартаж для "Гомельскай праўды". Паэтычныя ўражанні будуць пазней змешчаны ў зборніку "Прайсці праз зону", які рыхтуе Мікола. Але гэта не першая вандроўка: у сакавіку гэтага ж года мы з калегам Сцяпанам Балоткіным пастаялі каля хаты паэта, калі рыхтавалі матэрыялы да 10-годдзя трагедыі. А дзесьці праз год, у ліпені,

адпачываючы ў нарачанскіх "Соснах", Мікола завітаў у мой родны дом на вуліцы Міра, 23…

Пэўна, разоў пяць пасля трагедыі на ЧАЭС нашы шляхі-пуцявіны перасякаліся ў Хойніках, Бабчыне. Там здымаліся дакументальныя фільмы пра паэта, які страціў радзіму…

Красавік… Халадэча неймаверная, з неба лье свінцова-ледзяны дождж. Сялюся ў хойніцкай гасцініцы, у нумары на першым паверсе. Мне выдалі чатыры коўдры. Толькі ўгрэлася, чую праз сцяну, што грукнулі дзверы, і з парога – голас знаёмага класіка: "Ці пасялялася тут журналістка…" Выскокваю на калідор, укруціўшыся, як цыбуліна, тымі коўдрамі: "Вечар добры!". А ён голасам начальніцкім: "Зямлячкі, чаму вы замарозілі маю Музу?". Рагочам усе: і кінематаграфісты, і Валерый Захаравіч Протчанка, тагачасны прэс-сакратар Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Праз колькі хвілін, разведаўшы тэмпературу і ў іншых нумарах, Мятліцкі загадвае: "Ідзем на начлег да маіх цёткі і дзядзькі!" Мы ж пераглядваемся: цэлая брыгада людзей! "Там усім месца хопіць, не хвалюйцеся", – супакоіў паэт. Пратупалі мы ад гасцініцы праз цэнтр Хойнікаў у новы раён фінскіх домікаў. Па-палеску гасцінным, цёплым аказаўся той дом, хлебасольным – застолле, якое ладзілі разам і рэжысёр, і аператар, і журналіст разам з Міколавай цёткай Зояй. А назаўтра нас чакаў Бабчын, апусцелая вуліца, шарэча хат-прывідаў. Паэт, які на той час ужо напісаў "мацнейшую кнігу ў нацыянальнай паэзіі пра чарнобыльскую бяду"(ацэнка І. П. Шамякіна), здавалася, хацеў зрокава ахапіць увесь прасцяг роднай планеты Бабчын, змясціць яе ў сэрцы і вынесці адсюль, з папялішча тэхнагеннай катастрофы:

Я крок зрабіў – і ўсё ступіла ўслед:
Асфальтам чорным грукалі-ішлі,
Хаціны ў хустках пашарэлых стрэх,
Рыпучыя, як старасць, жураўлі,
І топаль з-за гароду – жвавы дзед –
Карэннем шоргаў па сырой зямлі.
Я чуў іх рух магутны за спіной,
Яны ішлі ўпэўнена за мной.
Я дыхаў ледзь, баяўся азірнуцца,
Усцешыцца ад іхняе хады,
Бо знаў адно: прыпынішся, тады
Застыгнуць ім і болей не скрануцца –
Павек застацца зонаю бяды…

Каля сельскага дома культуры Мікола паспрабаваў прысесці на лаўку, а яна рухнула. "Бач, не вытрымлівае майго таленту!" – падвесяліў усіх удзельнікаў тых здымак паэт.

Мінулым летам, у жніўні, мы зноўку былі ў Бабчыне. Дзякуй Валянціну Васільевічу Барысенку, які падтрымлівае зямляцкую роднасць сваіх аднакласнікаў, спрыяе іх сустрэчам. Раз у пяць гадоў яны злятаюцца у

двор Бабчынскай сярэдняй школы з розных куточкаў Беларусі, Расіі, Украіны. Як важна для іх пачуць і слова свайго школьнага паэта! Мікола разумее, што і для мяне гэта чарговая магчымасць прыгарнуцца сэрцам да яго радзімы, пазначыць нешта ў блакнот, каб Бабчын не зарос быльнягом чалавечага забыцця. Гэта наша духоўная традыцыя прайсці праз зону.

Я ў водпуску, у апусцелай бацькоўскай хаце. З братам рыхтуемся сустракаць госця-паэта. "Пеця, павер, ён ведае толк у юшцы, з берага Прыпяці, лічы. Мы павінны не падкачаць!" – натхняю брата, хаця ён прызнаны спецыяліст па гэтай нарачанскай страве. Сама ж кірую ў "Сосны" забраць Міколу. Пакуль шпацыруем з ім пад шатамі соснаў да легкавіка, ён падпітвае мяне сваімі новымі творамі – эпіграмамі на розных адпачываючых побач мужчын. Смяюся ад душы, бо дужа ёмкія, трапныя характарыстыкі. Як кажуць, не ў брыво, а ў вока! Нікога не мінуў, усё прыкмеціў: і міністра, і дырэктара фабрыкі. "Глядзі, заловяць цябе дзе ў лесе і паб'юць!" – кажу з перасцярогай.

– Не хвалюйся, Муза, я ім ужо пачытаў, – рагоча Муз. – Як бачыш, да класікаў яны нармальна адносяцца.

Едзем на юшку. А яна такая духмяная, з парога пах на ўсю ваколіцу. А рыбка адборная з нашага Мястра — вангор, шчучкі.

– Ну, Пятро, дзякуй, юшка твая – смаката! – увесь вечар рэфрэнам гучала Міколава ацэнка…

У сёлетнім сакавіку заўчасна памёр мой брат. Крывавіць, баліць гэта рана. Вяртаючыся з саракавін, маючы ў запасе чатыры гадзіны часу да цягніка на Гомель, еду да Мятліцкіх. Згадваем тую юшку, і неяк цяплей на сэрцы, што ёсць гэта памяць пра брата. У каторы раз бяру ў Міколы інтэрв'ю пра Бабчын. Успаміны нанізваюцца, як тыя грыбы, сабраныя паэтам у хвойніку за роднай вёскай. Дыктафон піша, гадзіннік цікае. І раптам як маланкай пранізвае адкрыццё: не той час на будзільніку, а да цягніка ўсяго 20 хвілін, а яшчэ ж да метро "Усход" дабегчы. Спрабую паспець, але ж узіраюся толькі ўслед свайму цягніку. А па мабільнаму Мікола цікавіцца: "Паспела?"

– Ды гарт ужо другі, дружа-паэце! – адказваю. – Бабуля ж я ўжо, самой не верыцца! І шчыра смяюся на паэтава рэзюме: "З добрым чалавекам і пагаварыць няблага!"

### *Вандроўка ў вёску Алексічы*

Непрыкметныя кроплінкі на картах, вы прыцягваеце да сябе неспазнанасцю каранёў нашых. Бо ўрэшце большасць нас родам з вёскі — скарбніцы бацькоўскай мовы, дасціпнага гумару, адметных традыцый. А колькі з гэтых жамчужынак на карце носяць ёмкія назвы, у якіх перадаецца каларыт, прыцягальнасць Палесся і яго людзей.

Тры гады – з пятага па сёмы клас – мераў сюды, у Алексічы, дарогу ад Глінішча Іван Мележ, будучы класік беларускай літаратуры. "Мераў кожны дзень – у студзеньскі сівер, і ў красавіцкае разводдзе, калі, дабраўшыся да

ганка школы, чуў, як вада хлюпае ў лапцях, абцінае горача анучы. Цяпер сам здзіўляюся той – ад бацькоў і дзядоў, пэўне, – цярплівасці, з якой тады браў усе нягоды: не толькі не наракаў калі-небудзь, але нібы і не заўважаў іх. Маці потым, помню, дзівілася, са спачуваннем і задавальненнем: кожны дзень, ва ўсякае надвор'е, мокры, скалелы, у школу, са школы!" – згадвае пісьменнік у аўтабіяграфіі.

Сёння Алексічы вельмі ціхія. Ступаеш вуліцаю, і анідзе не чутно дзіцячага голасу. Быццам заснула вёсачка, прытуліўшыся да платоў. Хаты жывыя па пальцах пералічыш. Штось каля двух дзесяткаў... Гэта след ад наступстваў чарнобыльскай бяды. Міжволі згадваецца, што гэта агромністая беларуская вёска была дашчэнту спалена гітлераўцамі ў жніўні 1942 года. Вось як піша пра гэта Іван Мележ: "Глінішча немцы спалілі як бы гуляючы, а к Алексічам і Каранеўцы прыкацілі – годам раней – з вялікаю сілаю, з гарматамі і кулямётамі, з падраздзяленнямі аўтаматчыкаў-людаедаў, – помсцячы за дружбу людзей з партызанамі, акружылі вёскі, пратупацелі шаленай гаинею з агнем, з выбухамі гранат, з аўтаматнымі чэргамі па дварах, па хатах, па полі – не абмінулі ні старых, ні груднога дзіцяці. Доўга-доўга звозілі людзі з навакольных вёсак трупы, збіралі абгаркі касцей у попеле пажарышчаў..."

...Заўважыўшы дробненькую бабульку, што соўкалася па падворку ў пошуках нейкай дамашняй рэчы, спрабую загутарыць з ёй. А яна, пакланіўшыся ў пояс, адрапартавала: "Не, мамко, нічого не ведаю, нічого не скажу. Састарэла я. Да Марыі йдзі, яна раскажа. Яна грамотна, вунь жыве..." Так што накіравалася я ў двор да Марыі Фёдараўны Бондар. Настукала ў брамку, потым у шыбку. І вось чую на свой запыт: "Заходзьце, шчыра рада!"

Полымя ў печцы імгненна зачароўвае сваёй стыхіяй. Углядаючыся на яго, думаю пра "драўляны рэактар", колькі ён выпраменьвае той "рацыі"? Цётка Марыя звыкла папраўляе галавешкі і згадвае пражытае.

– Да вайны наша веска була адна з самых вялікіх у вобласці. Калгас тут буў багацюшчы. Хата на хаце стаяла, на адзін двор па тры гаспадары. Сільна старшыня тут буў харошы, прозвішча – Бінецкі. Сад рос, розныя ягады булі... Кірмаш грымеў ад людзей і коней!

Бацько мой, Фёдар Аляксеевіч, тут увесь час буў брыгадзірам. Перад вайной шмат дзе вучыўся. Маці Алена Яўлампіеўна даяркай шчыравала. Як пачалася вайна, бацько на фронт забралі. Ён трапіў у палон каля Канатопа і ў студзені 1942-га дадому прыйшоў...

А ў жніўні немцы палілі вёску нашу. Наляцелі караселі ў суботу. Людзі жалі жыто якраз і звозілі яго. Бацька на кані з большым маім братам накіраваліся па снапы. Брат, як прадчуваў, на зваротнай дарозе казаў: "Не едзь, бацько, у сяло..." А той: "Едзем, там жа маці..."

Я падлогу мыла, субота ж. Плаццечко на мне не надто, парванае дзенідзе. Вуйшла ў двор, а фрыцы ў машыне імчаць, пальцамі на мяне ўказваюць і рагочуць. Насупраць нашага дома тады сельсавет буў. Дык гляджу: яны дзяцей туды піхаюць і піхаюць. Бацько сказаў нам, што з сабою

дабра аніякага браць непатрэбно, маўляў, будзе тое, што ў лозках... А дзе тыя лозкі?

Як му беглі, сельсавет ужэ гарэў. Страшно, страшно, страшно...

Мы ляжалі ў карчах гуськом усе – і бацько, і матко (у яе на руках сястра мая маленькая), і брат меншы. Доўга ляжалі. Бацько прадбачыў такі свой канец, бо сказаў:"Ву ляжыце, а я крышку ад вас адпаўзу..." Падышлі два фрыцы: адзін з аўтаматам, а другі з наганам. Сказалі нам паскідаць хусткі. Стрэлілі два разы ў бацьку разрыўною куляю... Твар яго разарвала, і мяне ўсю заліло яго крывёю і мазгамі. Я цяпер бачу, як у бацьку страляюць... Засігналіла машына, фрыцы як ні ў чым не бывала паехалі. Звяр'ё!

Мама тады засталася бацьку пільнаваць, бо вельмі свінні нападалі. А нас, дзяцей, забралі людзі з суседняй вёскі Дуброва. Як мы ішлі з імі, то вакол былі трупы, трупы, трупы...

У жанчыны адной чацвёра дзяцей спалілі. Яна стала якаясь не такая... Праўда, як мужык з фронта вярнуўся, крыху адышла...

Праз некаторы час немцы як бы разгледзеліся, што нас памылкова спалілі. Выдзелілі нашай сям'і лазню, то мы з яе сабе хату зрабілі. Не, не гэту (тая згарэла таксама ў вайну, курэнь ладзілі), цяперашнюю з мужам мы будавалі. Дарэчы, і на месцы гэтай сядзібы, помню, фрыцы шэсць чалавек забілі. Ці ж спакойна можна жыць з такім грузам памяці?

...Лічы, перад самым адступленнем нас ізноў немцы танкамі абкружылі, паставілі з усіх бакоў кулямёты. Аказваецца, партызаны падклалі міну на дарозе. Адзін з вяскоўцаў не вытрымаў, прадчуваючы нядобрае, пабег. Яго злавілі, не расстралялі, а загадалі ісці да партызан і папярэдзіць, каб не мініравалі шляхі, бо нас паб'юць... Ну, му тады перажылі! Перакладчык іхні сказаў: "Сёння яшчэ мы вас не расстреляем..." Дык мы ўсе ў лазняк, у карчы хавацца.

Пасля вызвалення раёна старэйшы брат на вайну падаўся. Васемнаццаць толькі гадкоў меў... Вярнуўся паранены і кажа маме: "Не крыўдуй, ты тут як сама з малымі, а я паеду ў горад-герой Ленінград". Там ажаніўся, распіўся. Пераехаў у Іванаўскую вобласць і памер.

Што казаць, гаравалі з маці. Я пасля вайны сем класаў у Глінішчы заканчвала. А далей рухацца не было як, трэ було маці дапа-магаць... Меншую Галю вувучы-лі, яна вучыцельніцай работала, цяпер у Гомелі на пенсіі.

Замуж вушла я за мясцоваго хлопца. У яго бацькоў сям'я вялі-кая! Таму му адразу самастойна рашылі жыць. Хату пабудавалі, хлявоў здаравенных, Бараш. Разжыліся. Усё було, толькі жыві. Мой Аляксей Андрэевіч сільно на пачоце буў. Рабіў у меліярацыі. І я з калгаса туды перайшла. За-мярала ваду ў трубах, называлі мяне "наблюдацелем".

Мужык мой памер ад радыяцыі ў 1990-м... Дваіх дзетак перажыла. Дзяўчынка памерла ў паўтара гады і сынок у Сожы ўтапіўся дарослы, электразвар-шчыкам на "Сельмашы" працаваў...

Дзеці, яшчэ трое, такія дабрэн-ныя! Кожны дзень тэлефануюць, хочуць забраць да сябе. Валодзя начальнікам нейкім на "Сельмашы", Галя —

намеснік дырэкта-ра мэблевай базы,а Мікола ін-жынер-электрык у Смалявічах. Нядаўна ён прыязджаў да мяне, звазіў дадоктара...

Няма ўжо калі мне і жыць, але ж так шкода з'язджаць, кідаць свае Алексічы. Хаця суседзяў ужо побач няма ні з аднаго боку. Кладуся спаць – тэлефон пад-соўваю да ложка бліжэй. Ногі хапаюць, прыступы такія бываюць... Так шкода з'язджаць са сваёй хаты!

Цётка Марыя, выціраючы слёзы, глядзіць на мяне, быццам чакаючы нейкай звесткі. Чым жа цябе абрадаваць, даражэнькая?..

### *Пакуль працую – жыву*

*Зімовы дзень, здавалася, патанаў, раствараўся ў шэрані сялянскіх хат, але я беспамылкова вызначыла яе вокны. Яны вабілі да сябе яркім святлом. Падумалася: мо, гэта водбліск працоўнай Зоркі Алены Яўхімаўны Вяргейчык?*

Шчырая, абаяльная, адкрытая. Праз колькі хвілін размовы здаецца, што мы знаёмы ўжо не адзін год. Згадваючы свае чатыры дзесяцігоддзі працы саўгасе "Судкова", яна расказвае:

– Ох, і пашчыравала ж над тымі цяляткамі! То і недарэмна, яны ж у мяне, як шарыкі, кругленькія былі... Бурачкоў і морквачкі на мельнічку накруціш, падкорміш, глядзіш, якія жвавыя, рухавыя яны становяцца! Цялятам карацін патрэбны, морква ў іх рацыёне важней за любыя прысмакі.

Гляджу на яе вялікія вузлаватыя далоні. Колькі імі выскубана сена і саломы на подсціл жывёле, колькі тых жа буракоў і морквы з прамерзлых буртоў нарыхтавана! Са сваёй дварышчанскай зямлі, па якой адтопала ў асноўным у гумовіках, Алена Яфімаўна ў 1971-м ступіла ў няз-выклых чаравічках на абцасах на дываны ў прасторных холах Вярхоўнага Савета БССР. Яе, руплівіцу-паляшучку, тады абралі дэпутатам і членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі. Праз год яна атрымала ордэн Леніна, а ў 1973-м – чарговая ступенька – званне Героя Сацыялістычнай Працы.

– У свеце гэтай зорачкі, паверце, і уклад маёй свякроўкі ёсць, Паліны Сцяпанаўны, – змахваючы слязу, згадвае Алена Яфімаўна. – Я ж з шасці гадзін раніцы на ферме. 24 гады адпрацавала брыгадзірам. А яна і траіх дзетак у школу адправіць, і мужа майго (ён трактарыстам рабіў). Гаспадарка дамашняя на ёй трымалася. Палавічкі ў хаце блішчэлі!

І я, завітаўшы да Алены Яўхімаўны, найперш уразілася чысціні і ўтульнасці сялянскай хаты. Мы гарталі альбом са шматлікімі фота, на якіх з дакументальнай дакладнасцю зафіксавана цырымонія ўручэння Зоркі Героя Сацыяліс-тычнай Працы П. М. Машэравым.

– Тады ў Доме ўрада за святочным сталом Пятро Міронавіч сказаў, падымаючы келіх, што каньяк у працоўны час распіваць нельга, але з такой нагоды, як наша, можна крышачку прыгубіць... Шмат зямляцкіх успамінаў у мяне пра Івана Паўлавіча Мележа. Мы сустракаліся па дэпутацкіх справах. Заўсёды ён цікавіўся, як там глінішчанцы, каранёўцы. Дарэчы, муж

стрыечнай сястры Івана Паўлавіча, Настассі Трафімаўны – стрыечны брат майго гаспадара...

Ужо 13 гадоў мінула, як Алена Яфімаўна аўдавела. Але па-ранейшаму з сялянскай прагнасцю засявае зямельку, даглядае свіней, курэй.

– Ужо б, пэўна, можна і лягчэй жыць. Пенсія ў мяне харошая – 900 тысяч рублёў. Дзеці, дзякаваць Богу, у парадку. Маю сем унукаў, дзвюх праўнучак. Пра іх цяпер дбаю. Пакуль працую, жыву...

***Наталля КАНОПЛІЧ (дзявочае прозвішча Піляк),***
***загадчыца аддзела пісем дзяржаўнай установы “Газета “Жыццё Палесся”, член Саюза журналістаў Рэспублікі Беларусь.***

*Пагляджу на глобус – бачу горы, рэкі,*
*Акіяны, стэпы – усё, як дзіўны сон,*
*А пасярэдзіне – у самым, самым цэнтры –*
*Кропачку радзімую – Хойніцкі раён*

## МАТЧЫНА ПЕСНЯ

Першае, зусім неасэнсаваная сустрэча з ёю адбылася ў далёкім маленстве. Маці спявала яе для мяне схіліўшы галаву над калыскай. Потым з узростам песня роднага краю ўрэзвалася ў памяць ўсё больш і больш з малаком маці. А як жа інакш? Яе чуваць было паўсюдна: яна гучала, калі вярталіся дамоў пасля напружанага працоўнага дня касары ці даяркі, заварожвала яна наваколле і падымалася ўверх да нябёсаў нібы жаўрук, калі жанчыны на полі бралі лён… Без яе не абыходзіліся народзіны, хрэсьбіны альбо вяселле. Безліч іх ведалі бабуля Юлія Іванаўна Піляк і маці Ніна Юстынаўна, суседкі Валянціна Аўдзеенка і Марыя Міранцова, Аляксандра Чэркас, Святлана Піляк і іншыя. А сёстры Вольга і Марыя Сіраж нават маглі даваць цэлыя сольныя канцэрты. Былі ў маёй роднай вёсцы Мокіш і свае гарманісты, якія маглі падтрымаць песню тактоўным акампанементам і прыдаць ёй аранжыроўку чароўным падстукваннем барабана. У такой справе не было роўных Івану Чэркасу і Уладзіміру Мятліцкаму. А жонка апошняга, Марыя, была не толькі лепшай цялятніцай у калгасе “Кастрычнік”, але і ў спяванні прыпевак. Мае землякі праслаўлялі сваю родную старонку не толькі дасягненнямі ў працы, але і у творчасці. Акрамя святочных мерапрыемстваў, якія ўздымалі псіхалогію працоўнага чалавека на пэўную ступень, самадзейныя артысты пад кіраўніцтвам загадчыкаў мясцовага клуба спачатку Міхася Іванавіча Піляка, а потым Марыі Ануфрыеўны Барысенка выязджалі са шматлікімі канцэртамі па вёсках раёна, удзельнічалі ў шматлікіх конкурсах мастацкай самадзейнасці. Выступалі ў полі ў час жніва і на зернатаку, на ферме і на мехдвары. Зараз відавочна, што з самога дзяцінства да песні роднага краю, як і да яе выканаўцаў, у мяне з,явілася неардынарнае стаўленне. Потым, калі стала студэнткай Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, то з вялікім задавальненнем для сваёй дыпломнай працы абрала тэму: “Пазаабрадавая паэзія Хойніцкага раёна”. Таму што з дзяцінства марыла зазірнуць у таямніцы стварэння народнай песні, яе радаслоўную і глыбей даведацца пра што спяваюць мае землякі. Я аб,ехала шматлікія вёскі свайго раёна, каб сабраць непаўторны скарб: прыказкі, прымаўкі, песні, балады, прыпеўкі, замовы. А потым з дапамогай свайго навуковага кіраўніка Валянціны Новак, а таксама кніг вядомых даследчыкаў Ніла Гілевіча, Антона Гурскага, Арсена Ліса, Канстанціна Кабашнікава, Галіны Барташэвіч і іншых навукоўцаў я знайшла адказы на

ўсе пастаўленыя перад сабою пытанні. Думаю, што ў мяне гэта атрымалася неблага: экзаменацыйная камісія дыпломную работу ацаніла высокай адзнакай. Дарэчы, у час падрыхтоўкі сваёй дыпломнай я ўбачыла непаўторнае багацце і разнапланавасць пазаабрадавай паэзіі сваёй мясцовасці з іншага боку, дагэтуль мне невядомага. А шмат што і сапаставіла. Напрыклад тое, што вядомы навуковец Часлаў Пяткевіч, які быў родам з Бабчына, вывучаў народную творчасць Хойнікшчыны яшчэ ў XVIII стагоддзі. На жаль яго навуковыя працы былі выдадзены толькі амаль праз 70 год, ды і то ў Польшчы. Але ж і праз дзесяцігоддзі яны пацвердзілі сваё рэальнае паходжанне, уразілі сваёй змястоўнасцю, фактаграфічнасцю, насычсанасцю і з,яўляюцца надзвычай каштоўнымі дакументамі з летапісу гэтага цікавейшага кутка беларускай зямлі. Дарэчы, Пяткевіч быў першы, хто ажывіў кнігу ўзорамі вуснай народнай творчасці, народнымі прыкметамі і назіраннямі, якія тычыліся гадавога земляробчага календара. Падказаў Пяткевіч і розныя народныя спосабы лячэння хвароб: замовы ад крыві, зубоў, звіху, якія перадаваліся з пакаленняў ў пакаленне. Гэтыя факты я пацвердзіла потым сваімі даследаваннямі ў 80-х гадах XIX стагоддзя. Такія ж самыя тэксты мне пашчасціла запісаць ў вёсцы Мокіш ад Васюк Марылі, Піляк Юліі, Барысенка Марфы і іншых жыхарак. Напрыклад, паводле ўспамінаў Юліі Іванаўны Піляк (1904 г.н.), сваёй бабулі, якія знайшлі месца ў маёй дыпломнай працы, гаварылася пра замовы, пры дапамозе якіх селянін хацеў абараніць сваю карову, гаспадарку. Акрамя Марылі Васюк ніхто больш не умеў загаворваць скулу-залатуху. Своеасаблівы жанравы склад я адзначыла і ў рэпертуары каляндна-абрадавай паэзіі гэтай мясцовасці. Так, у цэнтры зімовага цыклу былі наступныя калядныя песні, якія дажылі да нашых дзён:

Го-го-го, каза,
Го-го-го, сера,
А дзе рогі дзела?
На соль праела,
Соль дарагая,
Шэрсць залатая,
На печы авёс
Вялікі парос…

А зараз, больш як праз 20 год пасля заканчэння ўніверсітэта, можна сказаць, што мая дыпломная работа стала сапраўдным скарбам. Чарнобыльская бяда паменшыла спіс вёсак на карце раёна, а саміх жыхароў зрабіла выгнаннікамі з роднай зямлі, дзе жылі вякамі іх дзяды і прадзеды. Няпрошаны “госць” імя якому “Чарнобыль” адабраў у маіх землякоў шчасце. Ці спяваюць сёння яны песні роднай зямлі ў новых месцах, дзе паднявольна сталі навасёламі?.. Ці змаглі яны перанесці і кінуць у новую раллю зярняты, пакінутыя ў наследдзе іх продкамі? Супакойвае толькі адно: пра Хойнікі, пра палескую вёсачку Бабчын, як і пра яе суседак, дзякуючы галоўнаму

рэдактару часопіса “Полымя” Міколе Мятліцкаму, сёння ведаюць ва ўсім свеце.

Калі на душы становіцца сумна, калі знясільваюць штодзённыя клопаты, я згадваю сваіх землякоў, свае родныя мясціны, найпрыгажэйшыя ў свеце родныя вёскі, дзе прайшло дзяцінства, юнацкія і школьныя гады, аднакласнікаў і настаўнікаў, жыву ўспамінамі ад сустрэчы да сустрэчы, якія сталі ўжо традыцыйнымі на гэтай зямлі і нібы легендарны герой Антэй чэрпаю свае сілы ад родных вытокаў. А потым з сэрца цераз край, нібы аазіс сярод пустыні, выліваюцца вершаваныя радкі:

Нізкі паклон табе, родны мой краю,
Тваёй прыгажосці ўраз не ахопіш,
Люблю я цябе, і цябе абдымаю,
Родная, мілая, вёсачка Мокіш.

*Валянцін БАРАНАЎ, Алена ПАЛУЯН*

# СЛОВА ПРА НАРОДНЫ АНСАМБЛЬ "СПАДЧЫНА" ХОЙНІЦКАГА РАЁННАГА ДОМА КУЛЬТУРЫ

Ансамбль народнай песні "Спадчына" быў створаны пры раённым Доме культуры ў 1987 годзе. Яго арганізатарам стаў А.А. Навуменка, які на той час займаў пасаду загадчыка аддзела культуры Хойніцкага райвыканкама. Мэтай удзельнікаў гэтага творчага калектыва стала збіранне і захаванне народных песень – старажытных аўтэнтычных, абрадавых, тых песень, якія пакінулі нам у спадчыну продкі. Мы павінны зберагчы гэты скарб, захаваць яго для будучых пакаленняў. Таму ансамбль і атрымаў такую назву – "Спадчына".

Вялікі аматар самадзейнай мастацкай творчасці, выхаваны на песнях сваіх бацькоў і сваякоў, А.Навуменка прыклаў вялікія намаганні, каб стварыць гэты цудоўны калектыў. За вялікі ўклад у справу захавання песеннай спадчыны, папулярызацыю народнай песні, выканаўчае майстэрства ансамбль атрымаў званне "народны", стаў лаўрэатам Усесаюзнага агляду-конкурсу мастацкай самадзейнасці. Выступленні ўдзельнікаў калектыву былі запісаны на Рэспубліканскім тэлебачанні і радыё. У рэпертуары спадчынцаў – беларускія народныя песні без музычнага суправаджэння: "Сад, ты мой сад", "Сады мае зялёныя", "Восень мая доўгая", "Кацілася зорачка з неба", "У агародзе вярба расла". Ой, у лузе, пры лужочку" і многія іншыя, а таксама песні ў суправаджэнні баяна або гармоніка з шумавымі інструментамі: "Цераз сад-вінаград", "Ой, там, каля лесу", "Ой, там, на гары", "Мой мужанька-рабацёшанька", "Расцвіла каліна" і іншыя.

Сапраўднай захавальніцай народнай песеннай спадчыны з'яўляецца адна з самых актыўных удзельніц ансамбля і яго салістка – С.А.Іванюценка.

Неардынарным тэмбрам голасу валодае А.А.Сацуры, якая з асаблівай асалодай выконвае старажытныя народныя песні: "Жураўка", "Дробны дождж ідзе", "Далінушка". Прыпеўкамі радуе слухачоў Г.К. Пырко. Моцным першым голасам у калектыве спяваюць І.А. Раманчык, Н.М. Петруненка, Г.А. Бурак, па-майстэрску "басуюць" Л.А. Бачына, Н.П.Гуз, Я.П. Сергіенка, Я.М. Краўчанка.

На жаль, няма ўжо сярод жывых многіх былых удзельнікаў ансамбля, пайшоў з жыцця і яго стваральнік. Але тыя, хто застаўся ў калектыве, і сёння прадаўжаюць высакародную справу захавання беларускай песеннай спадчыны. І хаця ўзрост спевакоў ужо вельмі "паважаны" – ад 67 да 82 гадоў – яны па-ранейшаму з асалодай і жаданнем выступаюць перад сваімі гледачамі. Удзельнікі народнага ансамбля "Спадчына" Хойніцкага раённага Дома культуры прымаюць актыўны ўдзел у тэатралізаваных святах "Калядкі", "Гуканне вясны", "Масленіца", у правядзенні сельскагаспадарчых кірмашоў, у канцэртах. З асаблівым творчым запалам выступаюць перад сталымі жыхарамі раёна, выязджаюць у маланаселеныя пункты

Хойнікшчыны. Яны жаданыя госці хлебаробаў у полі ў час гарачай пары жніва. Спадчынцы прымаюць самы актыўны ўдзел і ў творчых акцыях для інвалідаў, састарэлых людзей.

Удзельнікі ансамбля не толькі выдатныя выканаўцы народных песень, яны яшчэ і ўмелыя танцоры. Вельмі любяць "Падыспань", "Карапет". "Нарэчаньку", польку. Іх настрою, бадзёрасці могуць пазайздросціць і больш маладыя выканаўцы.

Зараз з калектывам працуюць Л.У. Краўчанка і Р.М. Лушч.

*Павел ЛЕШЧАНОК, Алена ПАЛУЯН*

# ХОЙНІЦКАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ШКОЛА МАСТАЦТВАЎ

Пачыналася ўсё у 1964 годзе, калі ў Хойніках па вуліцы К. Маркса была адкрыта музычная школа. Ва ўстанове працавалі толькі тры выкладчыкі, якія вучылі дзяцей ігры на баяне і фартэпіяна, – Г.І.Цішкевіч, І.Л.Канарскі і З.М.Абушэнка. Першым дырэктарам быў Д.П.Аўтушкоў. З 1968 года пачаў работу клас духавых інструментаў, дзе навучалі ігры на трубе. А праз год можна было паступіць і ў клас домры.

У снежні 1970 года школа перамясцілася ў іншы будынак, па вуліцы Савецкай, д. 30. Да ранейшых класаў дадаліся новыя: у 1971 г. – клас акардэона, 1972 – цымбал. У 1982 годзе пачаўся набор на мастацкае аддзяленне і ў клас скрыпкі, а праз год адкрыта харэаграфічнае аддзяленне. У 80-я гады ў школе працавалі 22 выкладчыкі, яна мела філіялы ў Храпкаве, Глінішчах, мікрараёне ”Юбілейны”. Але пасля 1986 года, у сувязі з чарнобыльскай катастрофай, зменшылася колькасць навучэнцаў і выкладчыкаў, былі закрыты ўсе філіялы.

З цягам часу колькасць навучэнцаў павялічвалася. У студзені 1992 года школа займела новы будынак па вуліцы Савецкай, дом 91.

У 2004 годзе рашэннем Хойніцкага райвыканкама дзіцячая музычная школа была перайменавана ў дзіцячую школу мастацтваў. Зноў былі адкрыты філіялы школы ў н.п. Судкова (2004), Стралічава (2005), Глінішча і Вялікі Бор (2006, клас харэаграфіі у мікрараёне “Юбілейны”, адкрыўся клас эстрадных спеваў (2008).

За 45 год работы школа выпусціла 628 вучняў, з іх 104 працягнулі навучанне па спецыяльнасці ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах культуры і мастацтваў.

Зараз у школе 268 навучэнцаў (у г. Хойнікі – 198, у філіялах – 70), з якімі працуюць 22 выкладчыкі, 14 з іх з’яўляюцца выпускнікамі школы. Праводзяцца заняткі ў інструментальных класах (фартэпіяна, акардэон, скрыпка, цымбалы), класах харэаграфіі, а таксама ў класе эстрадных спеваў. Паступленне ў школу конкурснае. Галоўнымі крытэрамі з’яўляюцца прыродныя дадзеныя: пачуццё рытму, музычны слых, памяць. Узрост паступаючых ад 7 да 11 гадоў.

Школа ганарыцца сваімі выпускнікамі і іх дасягненнямі. Былы выпускнік школы, а сёння яе дырэктар П.У.Лешчанок закончыў Мазырскае музычнае вучылішча і Беларускую акадэмію музыкі. Атрымаў званне магістра мастацтваў, з’яўляецца лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах імя І.Жыновіча, стыпендыятам Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Выпускнік школы Павел Чарнякоў – прызёр міжнароднага конкурсу “Музыка надзеі”, лаўрэат рэгіянальнага конкурсу “Магілёў-2001”, двойчы стыпендыят Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, цяпер – аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Асаблівы гонар калектыву – людзі, якія аддалі выкладанню музыкі не адзін дзесятак гадоў: Л.А.Цішкевіч выкладчык класа цымбалаў, Г.М.Прыходзька – выкладчык сальфеджыо і музычна-тэарэтычных дысцыплін, У.М.Чарнякоў і У.І.Мінін – выкладчыкі па класу баяна, Н.М.Варабей – выкладчык па класу акардэона.

Не адастаюць ад вопытных выкладчыкаў і маладыя спецыялісты, нашы выпускнікі, якія зусім нядаўна, у 2006-2009 гадах, прыйшлі працаваць ў школу пасля заканчэння Мазырскага дзяржаўнага музычнага каледжа – Чарнякоў Алег, Чэкан Руслан, Ільічова Анастасія і Шамела Аляксандр.

Навучэнцы авалодваюць навыкамі ігры на музычных інструментах пад кіраўніцтвам Ю.А.Півавара – выкладчыка класа скрыпкі, А.А.Малашкінай – выкладчыка харавога класа, І.М.Чатырка – выкладчыка класа баяна, А.А.Назаранка – выкладчыка класа акардэона.

Сальфеджыо і тэорыю музыкі выкладае Т.А.Рудзянок, вакальныя і музычныя здольнасці вучняў развівае педагог класа эстрадных спеваў А.Р.Сушко.

На харэаграфічным аддзяленні вучаць дзяцей перадаваць каларыт фальклору і непаўторнасць беларускай культуры выкладчыкі класа харэаграфіі А.Р.Гушча, В.Г.Ледзянёва, Т.М.Поляк.

Н.Г.Камарэнка і А.Г.Бухалава адчыняюць свет музыкі для вясковых дзяцей. Душой калектыва з’яўляецца намеснік дырэктара школы Л.В.Беразоўская, якую калегі цэняць не толькі за прафесіяналізм, але і за чуласць і сумленнасць.

Актыўны ўдзел у жыцці школы прымаюць творчыя калектывы навучэнцаў і выкладчыкаў: жаночы вакальны ансамбль, дзіцячыя ансамблі скрыпачоў, акардэаністаў, танцавальныя і вакальныя ансамблі. Два ансамблі народнай музыкі – дзіцячы ўзорны ансамбль “Верасок”, якім кіруе сямейны дуэт Уладзіміра і Людмілы Чарняковых, і ансамбль народнай песні “Крыніца” з ліку выкладчыкаў ДМШ пад кіраўніцтвам Уладзіміра Мініна, з’яўляюцца заўсёднымі ўдзельнікамі шматлікіх мерапрыемстваў, як школьных так і раённых. Неаднаразова ўдзельнічалі ў розных міжнародных фестывалях у Германіі, Італіі, Украіне. Ансамбль “Крыніца” ў студзені 2010 года абараніў званне “народны”.

Хойніцкая дзіцячая школа мастацтваў супрацоўнічае з Гомельскай абласной філармоніяй, арганізуе ў сваёй зале канцэрты для вучняў школы і ўсіх аматараў мастацтва. Выкладчыкі школы аказваюць дапамогу ў падрыхтоўцы калектываў мастацкай самадзейнасці горада.

Школа актыўна ўдзельнічае ў канцэртным абслугоўванні насельніцтва раёна. Так, у 2009 годзе было арганізавана 12 канцэртаў для вясковых жыхароў і 8 лекцый-канцэртаў для вучняў малодшых класаў агульнаадукацыйных школ. Навучэнцы і выкладчыкі дзіцячай школы мастацтваў ўдзельнічаюць у мерапрыемствах, якія праводзяцца сярэднімі спецыяльнымі вучэбнымі ўстановамі Гомельскай вобласці (конкурсы, канцэрты, семінары, канферэнцыі), раённым аддзелам культуры.

*Зоя БУРАЎЦАВА*

# ХОЙНИКСКИЙ РАЙОННЫЙ ДОМ РЕМЕСЕЛ

Хойникский районный Дом ремесел был основан в сентябре 2000 года. Такие Дома и Центры ремесел начали открывать по указу Президента Республики Беларусь с целью возрождения и развития народных промыслов и ремесел. С момента своего основания нашей главной задачей стал сбор информации по народным промыслам нашего района, который некогда славился своими ремесленниками. За время работы нашими мастерами было изготовлено около тысячи экспозиционных работ, которые дают возможность гостям и жителям нашего города познакомиться с такими видами народных ремесел, как вышивание крестиком, соломоплетение, аппликация соломкой, ручное ткачество гобеленов, бисероплетение, художественная лепка, вязание кружев , а также с работами из папье-маше.

В Доме ремесел занимаются творчеством три человека. Это директор-Буравцева Зоя Степановна, а также два мастера-методиста – Шляхтенко Ольга Даниловна и Котлярчук Юлия Анатольевна. Это люди самозабвенно любящие свое дело, ведь каждое изделие – это плод кропотливого и нелегкого труда . В каждой работе есть частичка души, которую вложил в нее мастер, зато как приятно слышать оценку нашим изделиям от посетителей выставочного зала.

За эти годы наш коллектив стал участником многих районных, областных и республиканских выставок, о чем свидетельствуют дипломы и грамоты, которыми награждены работники Дома ремесел. Нашим работам дало высокую оценку Управление культуры и уже второй год подряд мы представляем свои работы на выставке в Юго-Западном округе г. Москвы для участия в выставке « Москва встречает друзей.»

Мы ведем работу по пополнению, уточнению и сбору картотеки мастеров нашего района, а также поддерживаем связь с мастерами и мастерицами нашего города. Ведется работа с детьми. В настоящий момент у нас действует 6 кружков, 4 кружка непосредственно в Доме ремесел и 2 кружка открыты на базе Судковского СДК , для того чтобы и сельские дети могли обучиться любому ремеслу, которыми владеют наши мастера. Коллектив Дома ремесел принимает активное участие во всех городских и районных мероприятиях, ведет работу над выпуском альбомов по вышиванию, ткачеству и соломоплетению, чтобы любой желающий имел возможность узнать побольше о любом из этих видов народных ремесел. В этом году нами создан Клуб по интересам. Этот клуб примет желающего любого возраста, который захочет обучиться одному или нескольким видам народных промыслов.

В 2008 году Дом ремесел удостоен звания «Лучшее учреждение отдела культуры». Это звание обязывает нас работать еще с большей самоотдачей и стремиться к новым достижениям в области народных ремесел и промыслов.

*Аляксандр РОГАЛЕЎ*

## ПРА НАЗВУ ГОРАДА ХОЙНІКІ

Самы паўднёва-ўсходні куток Гомельскай вобласці ўразаецца клінам паміж рэкамі Прыпяццю і Дняпром ля іх сутокаў. Між тым, калі сумежныя з рэкамі бакі гэтай тэрыторыі нізінныя, пясчаныя, пакрытыя балотамі, азёрамі і затокамі і параслі сасновым лесам, то сярэдняя яе частка ўяўляе сабой мясцовасць больш узвышаную, даўно і даволі густа населеную і апрацаваную.

Гэтая града цягнецца ад паўднёвага ўсходу на паўночны захад і жывіцца рэчкай Брагінкай. На двух канцах грады стаяць два старадаўнія гарадкі – Брагін і Хойнікі.

Мясцовасць, якая апісваецца, з’яўляецца быццам бы востравам сярод палескіх балот і была заселена яшчэ ў тыя аддаленыя часы, аб якіх, з прычыны адсутнасці пісьмовых крыніц, мы можам меркаваць толькі па матэрыяльных помніках даўніны ды з дапамогай геаграфічных назваў.

На дадзенай прасторы вядома нямала гарадзішчаў. Адно з іх размешчана за два кіламетры на поўнач ад чыгуначнай станцыі Хойнікі. На жаль, раскопкі тут не праводзіліся.

Не выключана, што апошнімі з тых, хто жыў на гарадзішчы, былі дрыгавічы, старажытныя славянскія насельнікі ўсяго гэтага краю.

Многія гарадзішчы Хойніцкага раёна датуюцца раннім жалезным векам (VI стагоддзем да новай эры – IV стагоддзем новай эры) і з’яўляюцца так званымі гарадзішчамі-сховішчамі.

Менавіта такі археалагічны аб’ект адкрыты даследчыкамі ў наваколлях вёскі Веляцін, размешчанай на паўднёвы ўсход ад Хойнікаў.

Назва *Веляцін* уяўляе сабой старажытнарускі прыналежны прыметнік са значэннем “пасяленне Веляты”. Такое імя насіў верагодны правадыр мясцовай дрыгавіцкай абшчыны, магчыма, нават князь, бо імя *Велята*, утворанае ў выніку спрашчэння, скарачэння больш поўнай двухасноўнай антрапанімічнай формы *Велямір*, адносіцца да тыпу княжацкіх імёнаў.

Самі Хойнікі, якія з 1967 года з’яўляюцца горадам, упершыню згадваюцца ў 1512 годзе як вёска Брагінскага графства ў Вялікім княстве Літоўскім.

Дакладны час заснавання пасялення не вядомы. Лічыцца, што першаснай формай назвы населенага пункта была форма *Хвойнічак*.

Пазней, відаць, пасля 1569 года, калі пасяленне стала ўласнасцю князёў Вішнявецкіх, з’явілася паланізаваная форма *Хойнікі* з мяркуемай папярэдняй уласна беларускай формы *Хвойнікі*.

Слова *хвоя* ў беларускай мове і беларускіх гаворках мае значэнне “сасна”. Такім чынам, *хвойнічак* – гэта “невялікі сасоннік”.

Слова *хвойнік* тыпалагічна падобнае на словы *дубнік*, *вязнік*, *клённік* (*кляннік*), *каліннік*, *ліпнік*, *алешнік*, *ляшчыннік*, *ельнік*, якія ўяўляюць сабой

неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду са значэннем “від лесу, сукупнасць адной пароды дрэў, кустоў, раслін”.

Можна думаць, што вёска Хвойнічак, з якой пачыналіся сучасныя Хойнікі, узнікла побач з невялікім сасновым лесам ці непасрэдна ў гэтым лесе, а сам хвойнічак (хвойнік) з’яўляўся выразнай прыкметай усёй навакольнай мясцовасці, бо інакш яго абазначэнне не было б пакладзена ў аснову геаграфічнай назвы.

Пад уплывам польскай мовы слова *хвойнік* стала вымаўляцца як *хойнік*. З’яўленне ж множнага ліку назвы пасялення – *Хойнікі* – стала магчымым, на наш погляд, у выніку яе (назвы) пераасэнсавання.

Калі вёска была малой, найменне *Хвойнічак* для яе было цалкам прыдатным. Па меры росту пасялення, асабліва тады, калі ў ім быў узведзены замак (першая палова XVII стагоддзя), узнікла патрэба змяніць папярэднюю назву, якая мела выразна адчувальнае памяншальнае адценне значэння.

Простая замена назвы *Хвойнічак* на *Хвойнік* была немагчымай, бо непажаданая аманімія геаграфічнага наймення і агульнага слова, ад якой аб’ектыўна трэба было пазбавіцца, станавілася яшчэ больш выразнай.

Таму назву сталі ўжываць у множным ліку, што пераводзіла яе ў разрад слоў, якія абазначаюць асоб паводле іх месцазнаходжання, пражывання: *хойнікі* – “людзі, якія жывуць у пасяленні і ў замку, размешчаных побач з хваёвым лесам”. Менавіта так мы “чытаем” гэту знешне, здавалася б, не вельмі складаную геаграфічную назву.

Адзначым таксама яшчэ адзін мясцовы тапанімічны факт: жыхары Хойнікаў дагэтуль называюць *Замкам* месца былога абарончага збудавання часоў Рэчы Паспалітай.

*Наталля БАГАМОЛЬНІКАВА*

## ПРА ШТО ГАВОРАЦЬ НАМ ТАПОНІМЫ

Тапонімамі называюць уласныя назвы розных геаграфічных аб’ектаў: мораў, рэк, азёр, балот, ручаёў, каналаў, гарадоў, сёл, вёсак, пасёлкаў, вуліц, плошчаў, завулкаў, астравоў і г.д. (ад грэч. topos ‘месца’ і onyma ‘імя’). Тапонімы займаюць асобнае месца ў лексічнай сістэме любой мовы. З’яўляючыся індывідуальнымі найменнямі, яны выконваюць не толькі сваю адрасную функцыю. Гэта словы, якія абазначалі раней пэўнае паняцце. Даследчыкі тапаніміі прыйшлі да агульнай думкі, што ні адна назва не з’яўляецца выпадковай, што кожны геаграфічны аб’ект атрымлівае найменне па той адметнай прымеце, якая яго адрознівае ад іншых. Тапонімы, такім чынам, своеасаблівыя знакі, якія ўтрымліваюць звесткі пра духоўную і моўную культуру людзей, захоўваюць памяць пра далёкае мінулае, часта не зафіксаванае ў пісьмовых помніках, знаёмяць з культурай і гаспадаркай народаў. “Міналі стагоддзі, колькасць тапонімаў на зямным шары няўхільна расла, і зараз ужо ніхто не ў стане іх падлічыць” [5, с. 3]. Адзначанае стала прычынай паўтаральнасці найменняў. Аднолькавыя назвы сустракаюцца не толькі на абсягах розных славянскіх і неславянскіх тэрыторый, але нават і ў адміністрацыйных межах вобласці, раёна, аднаго сельскага савета. У якасці прыкладаў прывядзём онімы Брэст (гарады ў Беларусі і Францыі), Парыж (французскі горад і вёска на Віцебшчыне), Магілёў (Беларусь) і Магілёў Падольскі (Украіна), Бушаўка (в. у Марозавіцкім с/с, п. у Чабатовіцкім с/с Буда-Кашалёўскага раёна, в. у Дуброўскім с/с Рэчыцкага раёна), Волга (рака ў Расіі і п. у Свірыдавіцкім с/с Рэчыцкага раёна).

Сярод тапонімаў ёсць старажытныя і тыя, што ўзніклі пазней, яны існуюць і сёння і ўяўляюць сабой сталую нацыянальную каштоўнасць на тэрыторыі ўсходніх славян. Некаторыя запазычаны з іншых моў, але ўтвораны па законах беларускай мовы, яны сведчаць пра кантакты тагачаснага насельніцтва з іншымі этнасамі. У іх можа захавацца агульнае вядомае нам слова і слова, якое даўно выйшла з ужытку разам са знікненнем прадметаў і паняццяў або заменай іх іншымі словамі. Такія словы адносяць да рэліктавых тапонімаў, што захоўваюць старажытны пласт лексікі, таму нам сёння незразумелыя. Аналіз тапонімаў дае цікавыя звесткі пра жыццё нашых продкаў: як і калі яны засяліліся, якія былі ў іх тыпы паселішчаў, чым займаліся, як асвойвалі землі, што на іх вырошчвалі, якая была навакольная прырода . Напрыклад, на Гомельшчыне ў Светлагорскім раёне існавалі вёска і хутар Маргі. У аснове назваў знаходзілася старажытная лексема морг у значэнні ‘мера зямельных плошчаў у Вялікім княстве Літоўскім, адпаведная 0,75 га’. Мясцовае найменне вёскі Звесніца (афіц. Дзвесніца), што ў Акцябрскім раёне, захоўвае архаічнае слова весь ‘сяло, вёска’. Шматлікія ўтварэнні тыпу Восаў (варыянт Осаў) матываваныя архаізмам оса ‘асіна’. Недасведчанасць у вобласці тапанімікі (навукі, якая вывучае шляхі ўзнікнення тапонімаў, заканамернасці і асаблівасці іх функцыянавання)

прыводзіць да аматарскага тлумачэння паходжання тапонімаў, менавіта таму Восаў і падобныя інш. звязваюць з прадстаўніком фауны восамі.

Вельмі трапна ахарактарызаваў тапонімы М.І. Надзеждзін: “Назвы – мова Зямлі, а Зямля ёсць кніга, дзе гісторыя чалавецтва запісана ў геаграфічнай наменклатуры”. Зразумець значэнне ўласных назваў – нялёгкая задача. Для “расшыфроўкі” тапонімаў патрэбны спецыяльныя веды, так як тапаніміка знаходзіцца на стыку розных дысцыплін, найперш, гісторыі, археалогіі, геаграфіі, дыялекталогіі, этнаграфіі, фальклору. Так, сучасная афіцыйная назва г. Хойнікі для нас сёння мала зразумелая, аднак яе мясцовыя варыянты Хвойнікі, Хвайнікі, Хвойнічак [7, с.310] гаворыць аб тым, што пасяленне ўзнікла ў мясцовасці, дзе пераважна раслі хвоі. Гістарычныя дадзеныя сведчаць аб этнічным кантакце, уплыве польскай мовы, калі тэрыторыя ў свой час знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай.

“…анімічныя адзінкі – у гісторыі, а гісторыя – у анімічных адзінках “, – сцвярджае даследчыца Г.М. Мезенка [6, с.14]. “Таму збор анамастычнага матэрыялу, яго вывучэнне і лексікаграфічнае апісанне па-ранейшаму застаецца для мовазнаўства, у тым ліку і беларускага, адной з актуальных і навукова важных задач” [4, с.4]. Актуальнасць збору і захавання матэрыялу дыктуецца і ўмовамі нашага рэгіёна, у якім за постчарнобыльскі перыяд быў адселены 271 населены пункт, з іх – 21 быў у мяжы Хойніцкага раёна.

Тапонімы ў залежнасці ад выдзеленых імі аб’ектаў падзяляюцца на віды: айконімы (назвы населеных пунктаў), гідронімы (назвы водных аб’ектаў), урбанонімы (назвы ўнутрыгарадскіх аб’ектаў), мікратапонімы (назвы дробных геаграфічных аб’ектаў). Паміж гэтымі відамі ёсць шмат агульнага: спосабы намінацыі і ўтварэння, структура, яны актыўна ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, пераходзячы без змен ці са зменамі з аднаго віда ў другі.

У межах дадзенага артыкула прааналізуем мадэлі намінацыі айконімаў Хойніцкага раёна.

**Лексіка-семантычны аналіз айконімаў Хойніцкага раёна**

Для нашчадкаў мы павінны захаваць спадчыну продкаў, таму будзем разглядаць назвы існуючых населеных пунктаў, зніклых і адселеных, якія знаходзяцца пад крылом цішыні (апошнія ў тэксце пазначаюцца зорачкамі).

Многія айконімы Хойніцкага раёна ўтвораны ад агульных геаграфічных слоў-тэрмінаў, што характарызуюць асаблівасці тапаграфіі і навакольнага ланшафту.

На арэалы расліннага свету ўказваюць назвы п. Баравіца ў былым Аравіцкім с/с (зараз не існуе), Вялікі Бор ( ад бор’густы сасновы лес, расце на высокім месцы), в. Берасцечка (памянш.-ласк. ад бяроста ‘бярозавая кара’), в. Восаў (Осаў) (ад оса ‘асіна’), п. Дуброва, в. Дубровіца (сукупнасць дубоў; аснова прадуктыўна ўжываецца ў тапаніміі як характэрная асаблівасць мясцовасці), в. Звяняцкае (мясц. Звіняцкае) (ад расліны звяняткі), в. Зялёны Гай (ад гай ‘невялікі лісцёвы лес’, спаленая ў час Вялікай Айчыннай вайны), в. Карчовае (Карчоў) (ад корч), в. Лісцвін, вар. Ліствін (ад лісце), *в. Лясок

(узнікла каля або сярод невялікага лесу), в. *Хвашчоўка (патранімічная ад назвы травяністай расліны хвошч), вв. Хвойнае, Хвойная Паляна (ад хвоя, узніклі ў хваёвым лесе). Утваральныя асновы гэтай групы – у асноўным найменні агульных лясных масіваў, радзей – парод дрэў і іх частак, раслін. Адзінкавы онім Грачыхіна суадносіцца з назвай сельскагаспадарчай культуры грэчкай (раней Багуславец). Назвы фауны матывуе апелятыў каза (в. Казялужжа, вар. Казялужа).

Айконімы Хойніцкага раёна прадстаўлены матывавальнымі асновамі, што адлюстроўваюць найбольш характэрныя асаблівасці рэльефу мясцовасці: в. Высокае (уверсе, вышэй адносна якіх-н. іншых аб’ектаў), в. Глінішча (характарызуе грунт мясцовасці, глiністая), п. *Града (ад града, значэнні розныя, але найбольш распаўсюджаны ‘цвёрдая паласа зямлі сярод забалочанай мясцовасці’, ‘узвышаная паласа сярод раўніны’), в. Забалацце (цяпер у мяжы г. Хойнікі), в. Загалле (узніклі за балотам, галам), вв. Маклішча, Мокіш (цяпер не існуе) (вакол пераўвільготненыя, забалочаныя месцы), в. Перавессе (заснавалася ў месцы паміж паніжэннямі, але ёсць і іншая версія, згодна з якой назва сведчыць аб старажытным спосабе лоўлі птушак пры дапамозе перавесаў ‘вялікіх сетак’ [5, с. 280]; спаленая ў час Вялікай Айчыннай вайны ), п. Плоскае (цяпер не існуе, пабудавалі на плоскім месцы, раўніне), в. Рабец ( адлюстроўвае знешні выгляд паселішча або ландшафту: ‘пярэстае, з плямамі іншага колеру’).

У даследаванай мясцовасці асобныя айконімы звязаны з жыццём і дзейнасцю чалавека. У назве в. Буда (цяпер не існуе) знаходзіўся аднайменны агульны назоўнік, які абазначаў ‘невялікае жыллё для часовага пражывання, лясная старожка’. У такіх будах жылі ў лесе буднікі. Яны займаліся вытворчасцю паташу, дзёгцю, смалы, драўлянага вуглю. На Гомельшчыне гэтая лексема прадуктыўна азначаецца адноснымі прыметнікамі, што ўказваюць на блізкае размяшчэнне аб’ектаў каля іншых населеных пунктаў (Буда Галоўчыцкая, Буда Казіміраўская, Буда Красноўская, Буда Лельчыцкая, Буда Люшаўская, Буда Петрыцкая). Аб вытворчасці паташу сведчыць айконім Паташня. У аснове назвы в. *Варацец нам бачыцца анімізацыя апелятыва ворат ‘прылада для карчавання лесу, перавозкі бярвёнаў’. З рускай лексемай изба ‘хата’ суадносіцца найменне в. Ізбынь (мясц. Ізбунь). Адзінкі вымярэння занатаваны ў назвах *Пагоннае (ад гоні ‘вузкая і доўгая паласа раллі’) і Валокі (уст. валока ‘участак зямлі 24 га, каля 20-і дзесяцін, цяпер у мяжы г. Хойнікі). Тыпы паселішчаў захоўваюць айконімы *Гнездзенка (ад гняздо ‘ адзіная хата, пачатак засялення’), *Засценак (засценак ‘пасёлак ці хутар дробнай шляхты’, ёсць і іншыя значэнні [8, с.76-77]), в.*Краснаселле (‘вялікае прыгожае сяло’), в. Навасёлкі (‘новае сяло, новае месца пасялення’), в. Паселічы (‘месца, прыгоднае для пасялення). Даволі прадуктыўныя ва ўтварэнні айконімаў на Гомельшчыне апелятыў слабада і яго вытворныя слабодка, слабажанка. У Хойніцкім раёне маюцца падобнага тыпу два найменні: *в. Слабада (вар. Кажушкаўская Слабада, Слабодка), в. Слабажанка (раней Княжыца, Княжацкая Слабада). Насельніцтва слабод карысталася льготамі і было вызвалена ад павіннасці. На месца, дзе раней

быў двор, указваюць онімы п. Двор (цяпер не існуе) і в. Дворышча (раней там стаяў двор). Адзначаная лексема ўжывалася ў розных значэннях: ‘адміністрацыйны цэнтр пэўнай мясцовасці ў дзяржаўных маёнтках’, ‘дом, хата’, ‘месца пад жылым домам і гаспадарчымі пабудовамі’, ‘панская сядзіба, фальварак’, ‘месца, дзе стаялі пабудовы’ [8, с.58]. Паселішчы ўзнікалі каля месцаў залежы руды і яе апрацоўкі. Гэтым тлумачыцца матывацыя назваў вв. Рудзенька (цяпер не існуе), Руднае. На рамёслы (выраб верхняга адзення з аўчыны) арыентуе онім Кажушкі.

Утваральныя асновы адзінкавых айконімаў Хойніцкага раёна звязаны з духоўнай культурай насельніцтва: в.*Новапакроўск (ад праваслаўнага свята Пакровы, побач, непадалёку з населеным пунктам Пакроўск), узроставай характарыстыкай людзей: в.*Бабчын (ад баба), часам узнікнення: в. Старч (цяпер не існуе).

Розныя віды онімаў існуюць у онімнай прасторы не ізалявана, а ўзаемадзейнічаюць паміж сабою, утвараючы сістэму. Паміж імі ўстанаўліваюцца разнастайныя адносіны, якія дазваляюць пры ўтварэнні тапонімаў задзейнічаць амаль усе класы ўласнай лексікі. Матэрыял паказвае, што ў гэтай групе вядучае месца займаюць адыменныя тапонімы, у прыватнасці, ад імёнаў, прозвішчаў, мянушак (ці антрапонімаў) шматлікіх лексіка-тэматычных асноў. Антрапонімнае паходжанне ў іх выяўляюць спецыфічныя суфіксы прыналежнасці -ын- (-ін-), -ына (-іна), -аў- (-оў-),-еў-, -ава (-ова), -ева, патранімічныя -ічы- (-ічы), -авічы (-овічы), - евічы (сяліліся родам), спадчыннасці -шчына, -аўшчына (-оўшчына), -аўка (-оўка), -еўка і інш.: вв. Алексічы (мясц. Алешнікі, ад вольха), Амелькаўшчына,*Аравічы, Аўрамаўская (цяпер Хвойная Паляна),*Баршчоўка, Барысаўшчына, Бераснёўка (цяпер не існуе), Веляцін, Гарошкаў, Губарэвічы,.*Дронькі, Езапоў, Іванаўка, Каралін, Каранёўка, Карпілаўка, Клівы, Ламачы (цяпер не існуе), Людзвін, Малішаў (мясц. Малешаў, Малішава), *Малочкі, п. Міхалёва (цяпер Нарыманаў), *Масаны, Небытаў (ад дахрысціянскага асабовага імя Небыш), Пікуліха (транстапанімізацыя мянушкі), Пудакоў, Пятраш, *Радзін, Рашаў, Рудакоў, Рудыя (у аснове мянушка сям’і першапасяленцаў рудыя, рыжыя; цяпер не існуе). п. Смірноў, вв. Стралічава (вар. Стралічаў), Тульгавічы, Тунеўшчына, *Уласы, Храпкава (Храпкаў), *Чамкоў. Прадуктыўнасць у дадзеным выпадку адантрапонімнага ўтварэння тлумачыцца старой сістэмай сельскай гаспадаркі і такой яе прыкметай, як раздробленае землеўладанне. Найменні пасяленняў увекавечылі прозвішчы, імёны, мянушкі ўладальнікаў зямель і іх састаўных частак, двароў, дворышч, імёны галавы родаў або сем’яў [4, с.73].

Асобныя онімы матываваны гідронімамі, этнонімамі (назвамі народаў), самімі айконімамі.Так , назва р. Віць, л. пр. Прыпяці (ад віць ‘сырое месца, дрыгва’) перадаецца в. Віць (раней Гноеў), в. *Чахі (ад чэхі), вв. Загальская Слабада (побач в. Загалле), Кажушкаўская Слабада (каля в. *Кажушкі), в. Лісцвінская Слабада (вар. Ліствінская Слабада, ад в. Лісцвін, вар. Ліствін, цяпер Мархлеўск), *Навакухнаўшчына (ад в. Кухнаўшчына, назва страчана).

Не ўсе айконімы тэрыторыі раёна выяўляюць празрыстую матывацыю, сустракаюцца і са скрытай, гіпатэтычнай. Напрыклад, назва в. *Сінцы магла ўтварыцца ад прозвішча, мянушкі, ад лексемы сінь, сінец у значэнні ‘выхады вокіслу жалеза ў забалочанай мясцовасці як другаснай прыкметы нафтаноснасці’ ці ад назвы расліны сінюхі, якая ўтварыла на мясцовасці зараснік. Няясна матывацыя і найменне Куравое. Мяркуем, што словаўтваральная аснова магла характарызаваць сам населены пункт (абкурвацца дымам, пылам) або яго жыхары займаліся выкурваннем смалы. У мяжы г. Хойнікі знаходзіцца в. Чырвоная Ніва, якая мела першапачатковую назву Ліхтэрна. Ёсць звесткі , што ў вёсцы раней жылі продкі немцаў-арандатараў, якія, відаць, наладзілі вытворчасць ліхтэрняў – ліхтароў (ад ням. Licht ‘святло, асвятленне’). Па іншай версіі, асновай магло быць галандскае слова lichter ‘невялікае судна, прызначанае для пагрузкі, разгрузкі, перавозкі грузаў па рэках’[5, с.227].

У Хойніцкім раёне выяўляецца група айконімаў новага часу, што ўзніклі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, падчас масавых перайменаванняў або ссялення хутароў, узбуйнення вёсак. Яны складаюць дзве семантычныя мадэлі.

Дамінуе група, якая характарызуецца выкарыстаннем нетрадыцыйнай для айканіміі дарэвалюцыйнага перыяду лексікі. У асноўным гэта словы з ідэалагічнай нагрузкай, ці словы-сімвалы, словы-ідэалы ( іх яшчэ пазначаюць мемарыяльнымі): п. Акцябр (раней Папоўшчына, цяпер не існуе), в. Будаўнік (.раней хутары Паўлаўскае і Юраўскае, цяпер не існуе), п. Новы Шлях (цяпер не існуе), п. Пальміра, в. Партызанская (раней Аўрамаўская), п. Першамайск (цяпер у мяжы г. Хойнікі), п. Сокал (цяпер не існуе). Сярод іх вылучаецца падгрупа састаўных, радзей складаных айконімаў з азначальным кампанентам чырвоны: пп. Чырвонае Возера (вар. Краснае Озера, раней Кліндупаўка, паходзіла ад мянушкі; цяпер не існуе), вв. Чырвоная Зара, Чырвоная Ніва (раней Ліхтэрна, мясц. Красная Ніва, цяпер у мяжы г. Хойнікі), пп. Чырвоны Араты (раней Двор, мясц. Красны Араты, цяпер не існуе), Чырвоны Рог (раней Данілаў Рог, мясц. Красны Рог), Чырвонамайск (спалены ў час Вялікай Айчыннай вайны). Такія распаўсюджаныя на Гомельшчыне найменні маюць варыянты з лексемай красны.

Па другой мадэлі ўзніклі наступныя айконімы: пп. Калініна (у гонар М.І. Калініна; цяпер у мяжы г. Хойнікі), Леніна (у гонар У.І. Леніна; у Стралічаўскім с/с раней Смолаў, цяпер не існуе; у былым Рудакоўскім с/с зліўся з в. Мокіш), в. Мархлеўск (у гонар Ю.Ю. Мархлеўскага, дзеяча польскага і міжнароднага рабочага руху, публіцыста; раней Лісцвінская Слабада), п. Нарыманаў (у гонар Н.К. Нарыманава, савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, пісьменніка, публіцыста; раней Міхалёва).

Прааналізаваныя айконімы Хойніцкага раёна ў лексіка-семантычным аспекце выяўляюць тыпы матывацыі, характэрныя не толькі для Усходняга Палесся, але і ўвогуле для тапанімічнай прасторы Славіі.

Спіс населеных пунктаў Хойніцкага раёна, адселеных у выніку аварыі на ЧАЭС

в. Аравічы, в. Бабчын, в. Баршчоўка, в. Варацец, в. Гнездзенка, п. Града, в. Дронькі, в. Кажушкі, в. Краснаселле, в. Лясок, в. Малочкі, в. Масаны, в. Навакухнаўшчына, в. Новапакроўск, в. Пагоннае, в. Радзін, в. Сінцы, в. Слабада (Кажушкаўская Слабада, Слабодка), в. Уласы, в. Хвашчоўка, в. Чамкоў (усяго 21 пункт) [2, с. 196, 198] .

**Спіс умоўных скарачэнняў**

Афіц. – афіцыйная, в. – вёска, г. – горад, грэч. – грэчаскі, л. пр. – левы прыток, мясц. – мясцовы, п. – пасёлак, памянш.-ласк. – памяншальна-ласкальнае, р. – рака, с/с – сельскі савет.

**Літаратура:**


1 Багамольнікава, Н.А. Айканімія Гомельшчыны: Слоўнік / Н.А.Багамольнікава, А.А. Станкевіч; навук. рэд. В.П.Лемцюгова. – Гомель: УА "ГДУ імя Ф.Скарыны", 2003. – 392 с.

2 Багамольнікава, Н.А. Тапанімія Гомельшчыны: структурна-семантычная характарыстыка : манаграфія / Н.А. Багамольнікава; навук. рэд. А.А. Станкевіч; М-ва адукацыі РБ, Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф. Скарыны. – Гомель: "ГДУ імя Ф. Скарыны", 2008. – 242 с.

3 Жучкевич, В.А. Топонимика Белоруссии [Текст ] / В.А. Жучкевич. – Мн.: Наука и техника, 1968. – 184 с.

4 Лемцюгова, В.П. Беларуская айканімія. Лінгвістычны аналіз назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці [Тэкст ] / В.П. Лемцюгова. – Мн.: Навука і тэхніка, 1970. – 155 с.

5 Лемцюгова, В.П. Тапонімы распавядаюць: навукова-папулярныя эцюды / В.П. Лемцюгова. – Мінск: Литература и Искусство, 2008. – 416 с.

6 Мезенка Г.М. Беларуская анамастыка / Г.М. Мезенка. – Мн.: Вышэйшая школа, 1997. – 119 с.

7 Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гомел. вобл.: нармат. давед. / Н.А.Багамольнікава [і інш.]; пад агул. рэд. В.П.Лемцюговай. – Мн.: Тэхналогія, 2006. – 382 с.

8 Яшкін, І.Я. Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія / І.Я. Яшкін; рэд. д. філ.н.М.В. Бірыла.– Мн.: Навука і тэхніка, 1971. – 256 с.

*Аляксандра СТАНКЕВІЧ*

# ЛЕКСІКА НАРОДНАГА ЖЫЛЛЯ І БУДАЎНІЦТВА Ў ГАВОРКАХ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА

Традыцыйная народная культура ўсходніх славян рупліва стваралася на працягу доўгага часу, беражліва захоўвалася і ашчадна перадавалася з пакалення ў пакаленне. Важны абавязак нашага грамадства перад будучымі пакаленнямі – зберагчы і развіваць разнастайныя формы традыцыйнай культуры, якія адлюстроўваюць нашу самабытнасць і непаўторнасць, выражаюць нацыянальную свядомасць і менталітэт.

Усходняе Палессе, на тэрыторыі якога мы пражываем, – асаблівы рэгіён з адметнай гісторыяй, этнічнымі, культурнымі і моўнымі асаблівасцямі, які адыграў важную ролю ў фарміраванні славянскага этнасу.

Вялікую трывогу і заклапочанасць вучоных выклікае стан сучаснага ўсходнепалесскага рэгіёна як цэнтра ўсходнеўрапейскай прасторы. Неабходнасць неадкладнага і ўсебаковага даследавання яго, вызначаецца тым, што, па-першае, самабытная матэрыяльная і духоўная культура гэтага агульнага для трох славян рэгіёна яшчэ не вывучана ў поўным аб'ёме, па-другое, многія этнакультурныя элементы – помнікі гісторыі і архітэктуры, традыцыйныя народныя рамёствы і дэкаратыўна-прыкладное мастацтва, фальклорны і дыялектны фонды, абрадавая культура – паступова знікаюць у сувязі з адсяленнем значнай колькасці жыхароў з Чарнобыльскай зоны Беларусі.

Знікненне на карце Гомельскай вобласці многіх вёсак пасля аварыі на ЧАЭС, міграцыя карэннага насельніцтва прывялі да рэзкага скарачэння колькасці носьбітаў традыцыйнай матэрыяльнай і духоўнай культуры. Працэс гэты працягваецца і можа ў хуткім часе стаць незваротным. У эпіцэнтры забруджанай радыёнуклідамі тэрыторыі знаходзіцца і Хойніцкі раён. Таму неабходна прымаць меры для максімальна поўнага вывучэння гэтай тэрыторыі з мэтай збору і даследавання этнаграфічнага, краязнаўчага, фальклорнага і дыялектнага матэрыялу.

Важным элементам духоўнай культуры народа з'яўляецца яго мова. Лексіка-семантычная сістэма народна-дыялектнай мовы ўключае разнастайныя паводле значэння, тэматычнай прыналежнасці, часу ўзнікнення, паходжання і тэрыторыі распаўсюджання словы. “Ядро” лексічнай сістэмы складаюць народнагаспадарчыя назвы, якія абазначаюць шматлікія рэаліі разнастайных народных рамёстваў і промыслаў, адлюстроўваюць асноўны занятак карэнных жыхароў Усходняга (Гомельскага) Палесся. Самую значную ў колькасных адносінах групу народнагаспадарчай лексікі складаюць назвы жылля і будаўніцтва. І гэта невыпадкова, таму што важнейшым кампанентам матэрыяльнай культуры славян было народнае дойлідства. Усходнепалескае дойлідства, арганічна звязанае з узроўнем вытворчых сіл і гаспадарча-бытавым укладам рэгіёна, мае багатую гісторыю і сталыя традыцыі. Менталітэт беларусаў быў, як

вядома, выключна крэатыўны. Дзе б ні пасяліўся беларус, ён адразу пачынаў будавацца і апрацоўваць зямлю.

У гаворках Хойніцкага раёна ўжываюцца шматлікія назвы народнага жылля і будаўніцтва. Самую значную групу сярод іх складаюць назвы хаты, яе частак і інтэр’еру.

Агульнымі назвамі жылля чалавека ў даследуемым рэгіёне з’яўляюцца лексемы хата, дом: На жыллё чалавека казалі хата (г. Хойнікі). Хата з печчу без коміна, якія калісьці былі на Палессі, называлася покурнай хатай (в. Храпкаў), курыльнай хатай (в. Стралічаў).

Сукупнасць усіх жылых пабудоў называлася селішча, сяло, дзярэўня: У нас на сяле шмат людзей (в. Стралічаў).

Для палескай тэрыторыі, як вядома, характэрны ў асноўным два тыпы двара: вянковы (круглы) тып размяшчэння сялянскай сядзібы, які лічыцца больш старажытным, і пагонны (з забудовамі ў адзін, два, тры рады), больш позні [1, с. 74]. На вянковым двары, пашыраным на Усходнім Палессі, гаспадарчыя будынкі размяшчаліся вакол хаты ў форме літары П, утвараючы сядзібу замкнутай забудовы. Пагонныя двары – аднарадныя, двухрадныя і трохрадныя – былі больш характэрны для Заходняга Палесся [2, с. 169].

Планіроўка вёскі была ў вуліцу: Хаты стаялі ў вуліцу, Яны і цяпер так стаяць, бачыце? (в. Пудакоў).

Унутраная прастора хаты, яе структура ў даследуемым рэгіёне была тыповай. Унутры хаты вызначалася некалькі частак: пярэдняя хата ‘частка хаты, дзе размяшчалася зала, спальня’, яе называюць большай хатай, і задняя або меншая хата, дзе была кухня і кладоўка з прадуктамі. Пакоі ў хаце аддзяляліся дзвярамі. Былі як звычайныя, так і засцекляныя дзверы (у якія ўстаўлялася шкло), і філенчатыя ‘зробленыя з філёнак – пласцінак, устаўленых у рамку’. Адзін пакой ад другога маглі адгароджваць як глухой сцяной, так і шырмай ‘куском тканіны’ (Малішаў). Вугал хаты, дзе віселі абразы, называўся золоты кут (г.Хойнікі).

Дзве жэрдкі пад столлю ўздоўж сцен, дзе сушылі кудзелю, лучыну, нітку і пад., называліся вешалка: Вешалка, ета такая жэртка (Стралічаў) . У каго дак добрыя вешалкі віселі, круглыя. На іх зімою латкі дасушвалі (Храпкаў).

Праём у сцяне меў назву окно (г. Хойнікі).

Падлога ў хаце імянуецца мост (Малішаў), пол, подлога (Паселічы): Сёння далжны госці прыехаць, дак я ўжо мост памула. Глінабітная падлога называлася гліняны пол (Паселічы); Подлога ў нас так і называлася подлога, а была з достак (г.Хойнікі). Прастора пад падлогаю мае некалькі назваў: падмост (Паселічы), падпол (Віць), падполле, пограм (Стралічаў). З’ёмныя дошкі, якімі закрываюць падполле, называюцца масніцы (Пудакоў, Віць).

Верхняе ўнутранае пакрыццё памяшкання мае назву столь, (В.Бор), столя (Аравічы), потолок (г.Хойнікі): Столь стала абсыпацца, трэба пабяліць. Памяшканне паміж столлю і дахам называецца гара (Стралічаў, Малішаў, Віць, Паселічы), вышкі (Віць), чардак (Езапоў) пясошнік (В. Бор): У нас усё ўрэмя на пясошніку грушы сушылі.

Кампазіцыйным цэнтрам хаты была печ. Яна з’яўлялася поліфункцыянальнай. Ёю абагравалі хату, на ёй гатавалі ежу, выпякалі хлеб, сушылі мокрае адзенне, выграваліся і спалі.

Даволі значная колькасць лексем называе розныя структурныя элементы зруба хаты. Бервяно, з якога рабілі зруб, называюць таксама калодкай (Паселічы). Абчэсанае бервяно мае назву брусы (Стралічаў). Каб бярвенні не падалі, іх змацоўваюць калкамі. Першы вянок зруба, які накладваецца на фундамент, імянуецца падваліна. (Стралічаў). Брусы, на якія кладуць падлогу, маюць назву лагі, падмоснікі, драўляныя слупкі, што падкладваюцца для ўмацавання лаг, называюцца штандары: Лагі ў хаці пагнілі, то й мост асеў (В. Бор); Пад падмоснікамі раней стаялі штандары з дзерава, а цяпер з кірпіча (Судкоў).

Кароткае бервяно, якое кладзецца ў прасценак паміж вокнамі, мае назву прасценак (Стралічаў), сумак: Сумак – ета палена, каторае кладзецца паміж вокнамі (Паселічы), навес над дзвярамі – глоўня: Глоўня – ета калі два вушнякі саедзіняюцца паміж сабою (Малішаў), жэрдкі, якія трымаюць гэты навес – вушняк: Бруссся абразаюцца, з іх робіцца вушняк (В.Бор).

Апошняе бервяно зруба, на якое ставіцца аснова для даха і на якім трымаецца столь, называецца балка (Стралічаў Хойн.), балька, белька. (Храпкаў Хойн.): Цяперака балькі ўсе абразныя, а пасля вайны былі цесаныя. В.Бор Хойн. Аснова, на якой будуецца дах, мае назву лежакі (Малішаў Хойн.), апорай для страхі служаць жэрдкі – кроквы (Паселічы, Віць, Пудакоў, Стралічаў, Хойн.): Стрэхі былі на крокве (Хойнікі), страпіла (Малішаў Хойн.): Абычна кроквы робяць з сасны, а могуць і з другіх мацер’ялаў. В.Бор Хойн.

Верхняя частка фасада дома імянуецца франтон (Храпкаў, Стралічаў, Пудакоў): Я ў гэтым годзе памяняла ў сябе франтон, бо пачаў гнісці (В.Бор). Абодва бакі даху – шчыты (Пудакоў). Страха з франтонам зверху называецца прычолка: Страха з франтонам у некаторых называецца прычолка, але ў нас так не робяць, іе ў некаторых (В.Бор).

Страху накрывалі раней саломай, чаротам (Храпкаў, Паселічы, Малішаў), а таксама дранкам, дранкай – вузкімі дошчачкамі, якія прыбівалі цвікамі: У нас пасля вайны сплашное крылі толькі дранкай (В.Бор). Пазней стрэхі сталі накрываць чарапіцай (Храпкаў). Жэрдкі, якія клалі паверх саломы на страсе, мелі назву паплеціны (Стралічаў); лаза, якой умацоўвалі салому, каб яна не разляталася, – пераплёціна (Паселічы). Дзве дошкі, што накрывалі страху, абазначаліся словам канёк (Храпкаў, Стралічаў, Паселічы, Малішаў): Канёк – ета калі на крышы зверху дзве доскі, якія збіваюцца паміж сабой (В.Бор), ветранік (Стралічаў).

Хата мае знадворныя прыбудовы. Прыбудова перад уваходнымі дзвярамі называецца ганак, ганок (Стралічаў, Храпкаў), ганкі (Паселічы, Пудакоў): У нас ета проста ганкі завуць, а толькі мая свякруха звала ганак (В.Бор), крыльцо (Віць), лёгкая адкрытая або замкнутая прыбудова ўздоўж сцяны – сенцы, веранда (Паселічы, Віць, Стралічаў). Уваход у хату з вуліцы звычайна называецца парадны ход, з двара – чорны ход (Малішаў).

Вакол хаты пры трох сценах ставілася прызба – земляны невысокі насып уздоўж знадворных сцен хаты. У некаторых выпадках прызбу будавалі з бярвенняў або калочкаў. Прызба не толькі засцерагала ад холаду, але і была месцам для адпачынку ў цёплую пару года.

У якасці будаўнічага матэрыялу для хаты выкарыстоўвалі найчасцей хвою (сасну), дуб, асіну (Малішаў, Паселічы). Як адзначаюць даследчыкі, асноўнай пародай для будаўніцтва была хвоя, з дубу звычайна рабілі аснову фундамента і ніжні вянок зруба, парогі, вушакі, падаконнікі. Нядобрым паводле магічных уяўленняў для будаўніцтва дрэвам лічылася асіна.

Для ўцяплення хаты выкарыстоўвалі мох (Паселічы, Пудакоў), дранку ‘сумесь гліны з пяском’ (Малішаў). Хату абшывалі таксама вузкімі дошкамі – шалёўкай: Шалёўка – тонкія доскі для абшыўкі, іх абразалі і чысцілі на пілараме (Паселічы).

Даволі разнастайнай была тэхніка пабудовы хаты, якая мела адпаведныя назвы. Спосабы замацавання вянкоў хаты называлі чысты вугал ’вугал без выступаў бярвенняў’, просты вугал ‘з выступамі канцоў бярвенняў за сцены зруба’ (Малішаў).

Працэс абшыўкі хаты дошкамі мае назву шаляванне, абшаляванне (Стралічаў): Тонкімі дошкамі абшывалі хату, ета і ёсць шаляванне (Малішаў, Паселічы). Узоры абшыўкі былі розныя: ёлкамі (у ёлачку) (Паселічы, Малішаў), удоль, папярок (Паселічы). Самы распаўсюджаны спосаб насцілання дошак столі – у прытык (Хойнікі, Стралічаў). Працэс уцяплення хаты глінай называецца тынкаванне: Тынкаванне – ета і е штукатурка. Гліну месяць і ўбіваюць яе ў сцену, тым самым сцену тынкуюць (Пудакоў).

У працэсе будаўніцтва выкарыстоўваюць розныя прылады, якія называюць тапор, сакера: Сакера ў мяне гойстрая, той добра дровы рубаць (В.Бор), свердзел, цэнтр, свярло ‘інструмент для свідравання дзірак’ (Стралічаў, Храпкаў, Паселічы), стругі ‘інструмент, пры дапамозе якога стругаюць дошкі’ (Паселічы), інструмент для габлявання дошак называецца фуганак (Паселічы, Храпкаў), гэблік (Стралічаў), для пілавання выкарыстоўваецца нажоўка (Храпкаў), шчотка, якою клалі дранку, называецца грабелка (Паселічы), шчотка (г.Хойнікі).

Паколькі цэнтрам сядзібных забудоў з’яўлялася жыллё, гаспадарчыя пабудовы размяшчаліся вакол яго з улікам іх функцыянальнага прызначэння, утвараючы пэўны кампазіцыйна-архітэктурны комплекс.

Большая частка гаспадарчых пабудоў прызначалася для захавання прадуктаў сельскагаспадарчай працы, сабранага ўраджаю, інвентару, утрымання жывёлы і г.д. Пабудовы з такім функцыянальным прызначэннем называліся ў гаворках Хойніцкага раёна гумно, пуня, хлеў, сарай, клець і інш.:

Гумно ‘вялікая халодная будыніна для складвання і абмалоту зжатага збожжа, а таксама пляцоўка перад гэтай будынінай’: Тамака ў нас у агародзі гумно стаяла (Паселічы); У гумне молоцілі цэпам (г.Хойнікі). Гумно звычайна будавалі ў канцы сядзібнага ўчастка і нават выносілі яго за межы для проціпажарнай бяспекі. Знешняй формай і характарам пабудовы гумно

адрознівалася ад іншых гаспадарчых будынкаў. Яно мела форму мнагагранніка, квадрата або падоўжанага прамавугольніка шырынёй 5,5 – 18,5 м, даўжынёй 7–23 м. Нізкія сцены і апушчаная амаль да зямлі страха надавалі яму прысадзісты выгляд [3, с. 162].

Пасярэдзіне гумна размяшчалася пляцоўка (звычайна гліняная) для малацьбы – ток: На току зярно малолі, дзеці малыя з намі бегалі (Малішаў). Сушылі зерне ў павеці : Для сушкі зярна ў гумне рабілі павець (Стралічаў).

Адгароджанае месца ў гумне для складвання збожжа называлася засек: Пасля сушкі зерне ўжо зграбалі і засыпалі засекі (г.Хойнікі). Зерне таксама захоўвалі ў клеці: У клець зярно засыпалі і там хранілі (Стралічаў).

У гуменны комплекс уваходзіла таксама асобная пабудова, дзе захоўвалі сена. У даследуемым рэгіёне яна мела назву пуня:Сена мы ў пуні складвалі (Паселічы). Месца ў хляве, дзе захоўвалася сена, называлі сенавал, палаці, вышкі, вішкі: На сенавале добра спаць (г.Хойнікі); Палаці ўжэ трэба адрамантаваць, бо сена тырчыць з куткоў (Малішаў); Сенавалам называлі і навес для сена: Сена мы злажваем у сенавал (Малішаў); Сена складвалі на вышкі над каровамі (Малішаў); На вішках захоўвалі сена (г.Хойнікі).

Неад’емным элементам сядзібнага комплексу былі гаспадарчыя пабудовы для захавання ўраджаю, сельскагаспадарчых прылад, розных рэчаў, якія мелі назвы свірань, клуня, кладовая : Бульбу, моркву, качаны – усё зносілі ў свірань (Паселічы); У кладовай захоўвалі ўсё (г.Хойнікі); У клунях і бочкі стоялі з зерном, накрывалі, штоб мышы не елі (г.Хойнікі).

Гародніну, садавіну, малочныя і іншыя прадукты ў даследуемым рэгіёне захоўвалі таксама ў паграбах: Пограб – ета выкапаная яма, абкладзеная дошкамі або цэглай, у якой захоўвалі прадукты (Малішаў); Ну, а зімой, як захочаш яблыкаў мачоных, дык спусцішся ў пограб, набярэш, да так смачна (Паселічы).

Месца, дзе ўтрымлівалі хатнюю жывёлу, называлася хлеў, сарай: У хляве ў нас і свінні, і каровы (Стралічаў); Бывала, напрацуешся, прыбяжыш пасля тае работы і не знаеш, за што ўзяцца ў сараі: свінні крычаць, карова мукае (Паселічы).

Былі і спецыялізаваныя назвы памяшканняў для ўтрымання хатняй жывёлы і птушак: свінарнік, свінюшнік ‘месца, дзе ўтрымліваюцца свінні’ : У свінарніку ў мяне дзве свінні (Стралічаў); Яна панесла вёдры ў свінушнік (г.Хойнікі); кароўнік ‘хлеў для каровы’: Каля свінушніка ў нас стаіць кароўнік (Стралічаў); куратнік ‘месца для ўтрымання свойскіх птушак ’: Куратнік маленькі, але курам добра (Стралічаў); конюшня ‘месца, дзе ўтрымліваюцца коні’: Конюшня была прасторная (г.Хойнікі). Месца ў хляве, дзе клалі корм жывёле, называлася кармушка: Сена карове ў кармушку палажы (Малішаў).

У сядзібным комплексе знаходзіліся таксама пабудовы для захавання дроў: дрывотнік, дрывотня ‘пабудова або павець для захавання дроў’: Спачатку дровы хавалі ў сараі, а патом ужэ рашылі пастроіць дрывотню (г.Хойнікі); Дрывотнік за сараем знаходзіцца (Стралічаў).

У многіх дварах была і баня: Па суботам мы мыліся ў бані (Малішаў); У нашай бані ў парылцы быў палок, на ім і лежалі (Малішаў).

Такім чынам, назвы жылля і будаўніцтва яскрава адлюстроўваюць гісторыю, этнічныя асаблівасці і гаспадарча-бытавы ўклад жыхароў Хойніцкага раёна і з’яўляюцца цікавым матэрыялам для даследавання.

**Літаратура:**


1 Молчанова, Л.А. Материальная культура белорусов / Л.А. Молчанова – Мн., 1969.

2 Лексіка Палесся ў прасторы і часе / Рэд. В.У.Мартынаў. – Мн.: Навука і тэхніка, 1971. – 216 с.

3 Этнаграфія Беларусі : Энцыклапедыя – (Беларус. сав. Энцыкл.) / Рэдкал.: І.П. Шамякін (гал. рэд.) [і інш.] – Мн.: БелСЭ, 1989. – 575 с.

*Алена ВОІНАВА*

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЧАЯ ЛЕКСІКА Ў ГАВОРКАХ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА

Адной з самых актуальных і цікавых праблем беларускага мовазнаўства з'яўляецца аналіз дыялектнай лексікі, рознабаковае даследаванне разнастайных лексіка-семантычных груп. Усходняе Палессе, куды ўваходзіць і Хойніцкі раён, як вядома, – унікальная тэрыторыя з адметнай гісторыяй, культурнымі і моўнымі асаблівасцямі, якая адыграла істотную ролю ў фарміраванні беларускага этнасу, яго матэрыяльнай і духоўнай культуры. Менавіта гэтым фактарам тлумачыцца наяўнасць многіх старажытных з'яў на тэрыторыі Усходняга Палесся ў галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры.

"Вывучэнне мовы, лексікі праз гісторыю культуры, матэрыяльнай і духоўнай, уяўляецца вельмі перспектыўным. Безумоўна, узбагачэнне тут мае ўзаемазалежны характар. Веданне этымалогіі слова, яго структуры дапамагае глыбей пранікнуць у гісторыю названай рэаліі, зразумець яе быццам знутры" [1, 20].

Як вядома, з даўніх часоў асновай гаспадарчай дзейнасці беларусаў з'яўлялася земляробства, якое было цесна звязана з жывёлагадоўляй – адным з важнейшых заняткаў беларусаў, таму аб'ектам нашага даследавання з'явіліся найменні, якія ўжываюцца для абазначэння жывёлагадоўчай дзейнасці, што выкарыстоўваюцца ў гаворках Хойніцкага раёна. Менавіта жывёлагадоўля забяспечвала гаспадарку прадуктамі харчавання, сыравінай для промыслаў, давала арганічныя ўгнаенні, без якіх немагчыма прадуктыўнае земляробства. З старажытных часоў у насельніцтва Беларусі асноўнае месца займала буйная рагатая скаціна, а таксама авечкі, козы, свінні, хатняя птушка, такі ж пералік можна зрабіць і па сучасным Хойніцкім раёне. Лексіка-семантычная класіфікацыя жывёлагадоўчайчай лексікі можа быць прадстаўлена наступным чынам:

І. Агульныя назвы жывёлы: ата'ра 'вялікі гурт авечак' Вялікі Бор; ста'да 'статак кароў': Цяпер стада саўсім малое. Веляцін; гурт 'статак буйной рагатай жывёлы, авечак': Гурт кароў ідзе, трэба дамоў ісці. Судкоў;

1. Назвы буйной жывёлы: бык' самец каровы': І быка гадавалі колісь. Паселічы; буга'й 'тое, што бык': Як бык карову пакрываў, то бугай называўся. Вялікі Бор; вол 'кастрыраваны бык, якога скарыстоўваюць на сельскагаспадарчых работах': Раней на валах пахалі, цяпер конь Бібікі Маз.; жарабя' 'конь да пэўнага ўзросту, якога яшчэ не выкарыстоўвалі ў сельскагаспадарчых работах. Жарабя – маленькі конік. Стралічаў; лашаня' [лаша'дка] 'жарабя': Лашаня заўсёды за кабылай бегае. Судкоў; конь 'буйная свойская жывёла, якая выкарыстоўваецца для перавозкі грузаў і людзей': Каня запрагалі і ездзілі. Пудакоў; каро'ва свойская малочная жывёліна': Карову ўжо цяжка дзяржаць: і сена нада ёй, і даіць нада. Казялужжа;

2. Назвы дробнай хатняй жывёлы: аве’чка ‘свойская жвачная жывёла, якая дае воўну, мяса; самка барана’: Многа каго дзяржалі: кароў, коз, коней, у каго і авечкі былі. Судкоў; каза’ ’свойская жывёла, якую трымаюць дзеля малака і шэрсці’: Каза малако лячэбнае дае. Паселіча; казлі’ца ’маленькая каза: Казліца, калі шчэ маленькая, а як вырасце – так каза. Вялікі Бор; казля’няты ‘казляняты’: Калі маленькія, то казляняты.Веляцін; ко’зка ’казлёнак’: Козак паіла. Езапоў;

3. Назвы хатніх птушак: індзю’шка ‘вялікая свойская птушка сямейства фазанавых, якую разводзяць для атрымання мяса’: Індзюшак у нас мала хто дзяржаў. Кязялужжа; гу’ска ‘самка гуся’: Гуска з гусянятамі недзе сышла. Езапоў; гу’сі ’свойская вадаплаўная птушка з доўгай шыяй’: Гусей раней больш дзяржалі. Казялужжа; гусяня’тка ’птушаня гусі’: Гусяняткі з гускай выпасваюцца. Пудакоў; качаня’ты ’птушаняты качкі’: Качаняты меньшыя ростам, ну і не такія паваротлівыя, як гусі. Стралічаў; ка’чка ‘свойская вадаплаўная птушка’: Качкам вода нада. Паселічы; квакту’ха ‘курыца, якая выседжвае або выводзіць куранят’: Квактуха з вывадкам па двары всегда ходзіць. Езапоў; ку’ра ’дамашняя птушка, якую разводзяць для атрымання яек і мяса’: Куры грады ўсе паграблі. Казялужжа;

4. Назвы частак тулава жывёлы: падчаровак, падпу’ззя ’жывот у свойскай жывёлы’: Ну, падчаровак ў свіней, кароў шчэ е. Вялікі Бор; З падпуззя абы-якое сала. Веляцін; лыч ’выцягнутая пярэдняя частка галавы ў свінні’: А ў свінні гэта лыч называўся. Паселічы; лапа’тка ‘плоская шырокая косць трохвугольнай формы ў верхняй частцы спіны’: Во свінню біла – лапатку сабе аставіла. Стралічаў; сцёгны ‘частка нагі жывёлы ад тазасцегнавога да каленнага сустава’: У сцёгнах сама болей мяса. Пудакоў; палендрыца ‘частка свіной тушы каля хрыбта’: Самае лепшае мяса – каля хрыбта – паляндрыца. Вялікі Бор; шарфік ‘частка тулава ад галавы да лапатак’: Ад шыі да тулава – то шарфік’. Судкаў.

II. Назвы жывёлы па дыферэнцыруючых прыкметах:

1. Па ўзросту: падсві’нак ‘шасцімесячны парсючок’: Падсвінкаў добрых дзяржала. Судкоў; апо'як ‘маладое цяля да двухмесячнага ўзросту’: Пака двух месяцаў нет, то то апояк. Стралічаў; не’цель ‘карова, якая яшчэ ніводнага разу не цялілася’: У нас карову, якая шчэ не цялілася, называюць нецель. Вялікі Бор; пярвя’чка ‘маладая карова, якая яшчэ не цялілася’: Мая карова шчэ пярвячка, першы раз цяліцца будзе. Веляцін; трэця’чка ‘трохгадовая карова’: У мяне дома тожа трэчяцка – то карова, якой тры гады. Дубровіца;

2. Па масці: вараны' прым. ‘чорны (пра масць каня)’: Каня варанога цяжко было ўбачыць – мала іх было. Казялужжа; гне’ды прым. ‘карычневая масць жывёлы’: Коні гнедыя буваюць. Паселічы; красна-рабы прым. ‘масць – сукупнасць чырвонага і белага колераў’: Коні шчэ бываюць у яблыках, рабыя, чорна-рабыя, красна-рабыя. Пудакоў; ра’бы [рабы’] ‘масць, якая ўяўляе сабой наяўнасць плямаў球 рознага колеру на скуры жывёлы’: Коні шчэ бываюць у яблыках, рабыя, чорна-рабыя, красна-рабыя. Езапоў.

Ш. Назвы захворванняў жывёл: бе'шанство ‘інфекцыйная хвароба, якая паражае цэнтральную нервовую сістэму, вадабоязь: У лесе жывотныя бегалі, так бешанством заражаліся ў лесе ад жывотных лясных. Паселічы; парэ’з ‘пасляродавая траўма, пры якой карова перастае есці, даваць малако’: У каровы пасля ацёла парэз бывае вялікі. Езапоў; ро’жа ‘інфекцыйная хвароба жывёлы, якая характарызуецца запаленнем скуры’: А пры рожы выбіваюцца на целе свіней красныя плямы. Казялужжа; я’шчэр ‘вострая заразная хвароба свойскай жывёлы’: Балела, як жа. Яшчэр быў, клешчом маглі заразіцца. Веляцін.

IV. Назвы месца выпасу хатняй жывёлы: балацяʼнка ʼбалоцістае месца для выпасу жывёлы’: На балацянку кароў гналі, ну это места, дзе было балота многа. Судкоў; вы'ган ‘месца, куды выганяюць пасвіцца свойскую жывёлу’: Кароў на выган гоняць. Паселічы; вы'пас ‘тое, што выган’: Скаціну гоняць на выпас. Вялікі Бор; дубня’нка ‘месца ў лесе для выпасу жывёлы’: Ну куды кароў гналі, ведама, у лес. Лес з дубам то это дубнянка. Туды кароў гналі пастухі. Партызанская; каша’ры ‘месца для выпасу жывёлы, абмежаванае агароджай’: Калі агарожана месца, то называецца кашары. Ламачы; па’збішча [па’стбішча] ‘месца для выпасу жывёлы па-за межамі вёскі; магло знаходзіцца ў лесе або рове’: Луга няма, поля тожа няма, балаты кругом былі, у нас па лесе, па равах паслі, ета і пазбішчэ было. Карчавое.

V. Назвы пабудоў і іх частак для ўтрымання хатняй жывёлы: хлеў ‘памяшканне для жывелы і хатніх птушак’: Хлеў – такі бальшы сарай. Іванаўка; сенні’к, сяльні’к ‘месца ў хляву, дзе захоўваецца сена’: Сяльнік – ето пад крышай места, де сена ляжыць. Тульгавічы; кату’х ʼадгароджанае ў хляву месца, куды кладуць корм для жывёлы’: Катух – маленькі вугал, атмежаваем достачкамі. Дубровіца; Катух радам з вакном, там свіней дзержым. Партызанская; карму’шка ‘аддзелены вугал у памяшканні свойскай жывёлы, дзе ляжыць невялікая колькасць корму’: У кармушку карове сена лажылі на вечар, на раз. Хвойнае; кура’тнік ʼпамяшканне для курэй’: У куратніку курэй дзяржым. Дубровіца; клу’ня ‘гаспадарчая пабудова для свойскай жывёлы’: В клуні каровы жылі, там шчэ кармушка іе. Тульгавічы; свіню’шнік, свіна’рнік ‘памяшканне для ўтрымання свіней’: Калі свінні ёсць, то ў свінюшніку дзержым’ Вялікі Бор.

VI. Назвы кармоў: фура’ж ‘корм для свойскай жывёлы і птушак’: У сарай і фураж складалі. Партызанская; лупа’йкі ‘бульбяныя ачысткі, якімі кармілі жывёлу’: Картошку рэзалі і етымі лупайкамі скаціну кормілі. Казялужжа; мякі’на ‘корм для жывёлы, прыгатаваны з адыходаў, якія застаюцца пасля абмалоту і ачысткі зерневых, бабовых культур і лёну’: А свінней мякінай кармілі, то грачанай, то шчэ якой. Іванаўка; по’йла ‘рэдкі корм для каровы – сумесь мукі, вады і вотрубей’: А пойла з мукі дзелаецца і карове даём. Ламачы; рэ’зка ʼрэзаная салома, якая ішла на корм жывёле’: А як у калхозе, рэзку нарэжуць. Карчавое; свіня’чае ‘корм для свіней’: Не лі туды. то свінячае. Вялікі Бор.

Жывёлагадоўля заўсёды з’яўлялася адным з асноўных заняткаў беларусаў, які адыгрываў вялікую ролю ў паўсядзённым жыцці, таму

жывёлагадоўчая тэрміналогія ў генетычных адносінах амаль уся належыць да агульнаславянскага лексічнага фонду, запазычаныя лексемы складаюць зусім невялікую колькасць [3].

Увасобіўшы ў сабе старажытныя светаўяўленні, народныя веды і калектыўны вытворчы вопыт, жывёлагадоўчая дзейнасць арганічна ўваходзіла ў аграрны каляндар беларусаў. Будучы неад'емнай часткай беларускай традыцыйнай культуры, народныя звычаі, абрады, звязаныя з жывёлагадоўляй, выконвалі важныя функцыі фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, працоўнага і маральнага выхавання маладога пакалення, перадачы яму жыццёвага вопыту і добрых традыцый сваіх продкаў. Такім чынам, жывёлагадоўчыя найменні, зафіксаваныя на тэрыторыі Хойніцкага раёна, прадстаўляюць сабой разнастайную ў лексіка-семантычных адносінах групу і з'яўляюцца часткай матэрыяльнай культуры беларусаў.

**Літаратура:**

1. Сендровиц Е.М. О месте экстралингвистических факторов в изучении заимствований // Вестник Московского ун-та. Сер. 9. Филология. – 1989. № 4. – С. 16-22.

2. Цітоў В.С. Народная спадчына: Матэрыяльная культура ў лакальна-тыпалагічнай разнастайнасці. Мн., 1994.

3. А.А. Станкевіч. Лексіка іншамоўнага паходжання ў беларускіх народных гаворках. Гомель, 1996.

*Алена ДАШКЕВІЧ, Уладзімір БОБРЫК*

# ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА ПРОЗВІШЧАЎ ХОЙНІЦКАГА РАЁНА

Каго з нас не цікавіць, адкуль пайшло яго прозвішча! Знайсці правільны адказ на такое пытанне не зусім проста, хоць цікавасць не праходзіць, не страчваецца на працягу ўсяго жыцця.

Ці не праўда: пачуўшы якое-небудзь прозвішча, вы адразу ж уяўляеце сабе чалавека, які яго носіць. Здараецца і так: прозвішча вядома, а яго носьбіта вы не ведаеце ці не памятаеце, але адразу ж разумееце: назвалі не імя, не проста “слова”, а прозвішча.

Прозвішчы на Беларусі з’явіліся на аснове ўласных імёнаў і мянушак. Пасля ўвядзення абраду хрышчэння і надання царквой імён дзецям па царкоўным календары, старыя славянскія імёны існавалі нейкі час побач з незразумелымі, чужымі, нязручнымі ва ўжыванні афіцыйнымі імёнамі. У гэты перыяд старыя славянскія імёны працягвалі выконваць функцыю ўласнага імені, а таму былі шырокаўжывальнымі. У канцы XV – XVII стст. хрысціянскія імёны набылі рысы той мовы, у асяроддзі якой яны існавалі. Старыя ж славянскія імёны адапелятыўнага паходжання не знікалі, а сталі ўжывацца побач з хрэсным імем і выконвалі функцыю дадатковай дыферэнцыяцыі асобы. У XVI – XVII стст. імёны-мянушкі аддаляюцца ад імені і набываюць іншую функцыю – набліжаюцца да прозвішчаў, праходзячы пры гэтым два этапы: на першым этапе – гэта бытавое імя асобы ці ўласна мянушка, на другім – імя-мянушка адной асобы, але асобай выступала галава роду, і таму такія мянушкі распаўсюджваюцца на ўсіх членаў сям’і. Тут мянушка выконвае функцыю, блізкую да функцыі прозвішча. Аднак для першых двух пакаленняў сям’і гэтае прозвішча яшчэ не ўстойлівае па форме. Новыя пакаленні маглі атрымліваць і новыя назвы.

Лексічны склад беларускіх прозвішчаў даволі разнастайны.

Прозвішчы якога тыпу больш за ўсё распаўсюджаны? Безумоўна, утвораныя ад асабовых імён.

На тэрыторыі Хойніцкага раёна бытуюць прозвішчы, утвораныя ад разнастайных форм імя *Аляксандр* (ад грэч. *alexo* ‘абараняць’ і *aner* ‘муж, мужчына’ [4, с. 44]): *Лясько* – утворана ад размоўнай формы *Лясько*, *Санец, Санцэвіч* – ад лакальнай формы *Санец*, а Санчукоўскі – ад формы гэтага ж імя *Санчук* [1, с. 24]. Прозвішча *Акуліч* утворана ад размоўнай формы *Акула* імя Акіла, што з лац. *aquila* ‘арол’ [4, с. 43].

Шмат прозвішчаў Хойніцкага раёна ўтворана ад распаўсюджанага як у мінулым, так і ў сучасным імя *Андрэй* (грэч. *andreios* ‘мужны, храбры’ [4, с. 49]) і *Аляксей* (ад грэч. *alexo* ‘абараняць’ [4, с. 45]). Прозвішчы *Аляксееў* і *Алексяевіч* утвораны ад унармаванай формы *Аляксей*, *Алексіч* – ад *Алекса*, *Алешка* – ад лакальнай формы *Алешка*. *Андруковіч*, прозвішчы *Андрусаў*, *Андрусовіч* паходзяць ад размоўнай формы *Андрус*; *Андрухавец*, *Андруховіч* – ад формы *Андруха*; *Андрэйкавец* – ад памяншальнай формы *Андрэйка*; *Андрэйчук* – ад *Андрэй*.

Прозвішча *Анікееў* паходзіць ад імя *Іанікій* (звязана з грэч. словам *nike* ‘перамога’ [11, с. 17]. Ад імя *Антоній* (рымск. радавое імя *Antonius* [4, с. 52]) утворана прозвішча *Антонаў*. Прозвішча *Баль* утворана ад формы *Балъ* імя каталіцкага календара *Балтазар* [1, с. 34]. Ад імя *Архіп*, што з грэч. *archi-* ‘прыстаўка са значэннем галоўны, старэйшы’ і *hippos* ‘коннік’ [4, с. 59]), утворана прозвішча *Архіпаў*. Прозвішча *Аніська* суадносіцца з эмацыянальна-ацэначнай формай *Аніська* імя *Анісій*, што з грэч. *onesis* ‘карысць’ [4, с. 170]. Ад імя *Аўдзей* (ад ст.-яўр. *obadiah* ‘служка бога Яхве’ [4, с. 34]) утворана прозвішча *Аўдзейчык*. Прозвішча *Астапенка* паходзіць ад украінскай размоўнай формы *Астап* імя *Яўстафій* (грэч. *eustathes* ‘устойлівы’ [4, с. 105].

Прозвішчы *Богдан* і *Багдановіч* утвораны ад запазычанага са ст.-сл. мовы імя *Багдан*, дзе з’явілася як калька з грэч. імя *Theodotos* ад *teodotos* ‘дадзены багамі’ [4, с. 64]. Ад імя *Барыс*, якое ўзнікла як памяншальная форма старажытнага славянскага імя *Барыслаў* (ад *бор-* (параўн. руск. *борьба*, *бороться*) і *слав-* (параўн. руск. *слава*) [4, с. 65] утворана прозвішча *Барысенка*. Імя *Барыс* звязваюць таксама з імем старажытнага балгарскага правадыра *Барыса*, якое выводзяць з мангольскага *bogori* ‘маленькі’ [1, с. 35).

Імя *Васілій* (ад грэч. *basileus* ‘цар’ [4, с. 70]) парадзіла мноства памяншальных форм, аб якіх нам нагадваюць прозвішчы *Васіленка*, *Васілеўскі*, *Васільеў*, *Васькоўскі*, *Васюта*. Прозвішча *Веркіенка* магчыма ўзнікла ад імя *Верк* ці ад імя *Аверкій* [1, с. 43]. Ад размоўнай формы *Віцюк* імя *Віктар* (лац. *viktor* ‘пераможца’ [4, с. 75]) утварылася адпаведна прозвішча *Віцюк*. Старажытнаславянскае імя *Уладзімір* (ад уладарыць мірам [4, с. 79]) парадзіла прозвішча *Валодчанка*. Ад уласнага асабовага імя *Улас* узніклі прозвішчы *Уласаў*, *Уласевіч*, *Уласенка*.

Ад разнастайных форм *Гаўрук*, *Гаўрык*, *Гаўрыла*, *Гаўрылюк* праваслаўнага імя *Гаўрыіл* (ст.-яўр. імя *Gabri’el* ‘мая моц – бог’ [4, с. 81]) утварыліся прозвішчы *Гаўрук*, *Гаўрык*, *Гаўрылавец*, *Гаўрыленка*, *Гаўрылюк*. Праваслаўнае імя *Георгій*, *Юрый* (ад грэч. *georgos* ‘земляроб’ [4, с. 66]) і яго варыянтныя формы (*Ягор*, *Юрчак*, *Юрка*) утварылі прозвішчы *Юркавец*, *Юркевіч*, *Юрчак*, *Юрчанка*, *Ягораў*. Прозвішча *Грыгор'еў* утворана ад імя *Грыгорый* (ад грэч. *gregoreo* ‘быць бадзёрым’ [4, с. 90]), а прозвішчы *Грынцевіч*, *Грыцкевіч* утвораны ад форм *Грынко*, *Грыцко* гэтага ж імя. Магчыма, ад эмацыянальна-ацэначнай формы *Гурын* імя *Гурый* (магчыма, ад ст.-яўр. *gur* ‘ільвяня, малады леў’ [4, с. 91]) утвораны прозвішчы *Гурын*, *Гурыновіч*.

Ад уласнага асабовага імя *Давыд*, якое паходзіць ад ст.-яўр. імя *Dauid* ‘любімы’ [4, с. 91], утворана даволі распаўсюджанае ў Хойніцкім раёне прозвішча *Давыдзенка*. Ад старажытнаяўрэйскага імя *Данііл* (ст.-яўр. імя *Dani’el* ‘мой суддзя – бог’ [4, с. 92]), якое прыжылося на Беларусі, паходзяць прозвішчы *Данілаў*, *Даніленка*.

Імя *Дзіанісій* (грэч. асабовае імя *Dionysios* ад *Dionys* ‘бог жыццёвай моцы прыроды, бог віна’ [4, с. 94]) і яго размоўныя формы *Дзяніс*, *Дзенісюк* утварылі прозвішчы *Дзенісавец*, *Дзенісенка*, *Дзенісеня*, *Дзенісюк*.

Ад размоўнай формы *Дораш* і памяншальнай формы *Дарошка* імя *Дарафей* (ад грэч. *doron* ‘дар’ і *theos* ‘бог’ [4, с. 99]) утварылася прозвішча *Дарашэнка*. Прозвішча *Дзям’янчык* утварылася ад уласнага асабовага імя *Дзям’ян* (магчыма ад грэч. *damazo* ‘пакараць, заваёўваць’ [4, с. 94]), якое паходзіць ад старажытнага *Даміан*. Ад праваслаўнага імя *Захарыя*, сучаснае – *Захар*, утварылася прозвішча *Захаранка*.

Ад размоўнай формы *Ігнат* імя *Ігнацій* (магчыма лац. *ignatus* ‘які не нарадзіўся’ [4, с. 118]) пайшло прозвішча *Ігнаценка*.

Жадаючы маленькаму сыну багацця і шчасця, бацькі давалі яму імя *Кароль* [11, с. 106]), а прозвішчы *Каралёк*, *Каральчук*, магчыма, паходзяць ад імя *Кароль* ці ад назвы птушкі каралёк [11, с. 106]. Прозвішча *Касьян* утворана ад імя *Касіан* (ад лац. *cassus* ‘пусты’ [4, с. 130]. Ад імя *Кір* утворана прозвішча *Кір’янкоў*. Ад форм *Клім*, *Клімчук* імя *Клімент* (магчыма ад лац. *clemens* ‘літасцівы’ ці ад грэч. *klematinos* ‘вінаградная лаза’ [4, с. 134]) утварыліся прозвішчы *Кліменка*, *Клімаў*, *Клімянок*. На тэрыторыі Хойніцкага раёна бытуе прозвішча *Кузьменка*, утворанае ад распаўсюджанага ў мінулым імя *Кузьма*, якое паходзіць ад грэч. *kosmos* ‘мір’, ‘упрыгожванне’ [4, с. 137]. Ад праваслаўнага імя *Канстанцін*, што ў перакладзе з лацінскай мовы абазначае ‘стойкі, нязменны’, узніклі прозвішчы: *Касцючэнка*, *Касцюкевіч* – ад формы *Касцюк*.

Ад імя *Лук’ян*, што з лацінскай мовы *lux* ‘святло’ [4, с. 144], утворана прозвішча *Лук’яненка*. Ад праваслаўнага імя *Лука* (ад лац. *lux* ‘святло’ [4, с. 144]) пайшло прозвішча *Лукашэнка*.

Ад біблейскага імя *Маісей* (ст.-яўр. асабовае імя *Mose* (яўрэйскі заканадавец) [4, с. 161]) утворана прозвішча *Майсеенка*. Вядомае прозвішча *Макаранка* ўтворана ад імя *Макарый*, што з грэч. *makarios* ‘шчаслівы’ [4, с. 147]. Імя *Міхаіл* (ст.-яўр. імя *Mika’el* ‘роўны богу Яхве’ [4, с. 160]) утварыла мноства памяншальных форм, аб якіх нам напамінаюць прозвішчы: *Міхаленка*, *Міхалоўскі*, *Міхайлоўскі*, *Міхневіч*.

Не меншая колькасць прозвішчаў утварылася ад імя *Пётр* (ад грэч. *petra* ‘скала’, ‘каменная глыба’ [4, с. 178]): *Пятровіч*, *Пятроўскі*, *Петручэнка*, *Пятрэнка*. Вялікая колькасць прозвішчаў утворана ад імя *Павел* (лац. *paulus* ‘маленькі’ [4, с. 172]) і яго народных і лакальных форм: *Паўленка*, *Паўловіч*, *Паўлоўскі*, *Паўлючэнка*, *Паўлюшчанка*, *Паўлянок*, *Пашко*, *Пашынскі*. Такая даволі вялікая колькасць прозвішчаў сведчыць пра тое, што дадзеныя імёны ў розных формах шырока бытавалі на тэрыторыі Беларусі на працягу ўсёй гісторыі фарміравання антрапанімічнай лексікі.

Ад імя *Навум* (ст.-яўр. імя *Nahum* ‘суцяшальнік’ [4, с. 164]) пайшло прозвішча *Навумаў*. Імя *Назарый* (ст.-яўр. *nazar* ‘ён аддаў сябе богу’ [4, с. 162]) суадносіцца з прозвішчамі *Назаранка*, *Назарэнка*. Даволі распаўсюджанае ў сучасным імя *Нікалай* (ад *nike* ‘перамога’ і *laos* ‘народ’ [4, с. 166]) утварыла прозвішча *Нікалаеў*.

Ад імя *Паліен* (ад грэч. *poly* ‘шмат’ і *aine* ‘хвала, слава’ [4, с. 180]) пайшло прозвішча *Палуян*. Імя *Патап* утварыла прозвішча *Патапчук*. Імя *Пракопій* (магчыма ад грэч. *prokopos* ‘выняты з ножан’, ‘той, хто схапіў меч

за ручку' [4, с. 183]) парадзіла прозвішчы *Пракапенка*, *Пракаповіч*, *Пракапчук*. Ад імя *Прохар* (ад грэч. *prochoreo* 'скакаць наперадзе, весці' [4, с. 185]) утварылася прозвішча *Прахарэнка*.

Імя *Раман* (лац. *Romanus* 'рымскі', 'рымлянін' [4, с. 190]), якое прынята праваслаўнай і каталіцкай царквамі, утварыліся прозвішчы *Раманенка*, *Раманоўскі*, *Раманчык*, *Раманюк*. Ад імя *Сергій* (рымск. радавое імя *Sergius* [4, с. 199]) пайшло прозвішча *Сергіенка*. Прозвішча *Сілаў у*тварылася ад уласнага асабовага імя *Сіла*, а ад яго народнай формы *Сілко* ўтварылася прозвішча *Сілкоў*. Ад біблейскага імя *Сімяон* (ад ст.-яўр. *sama* 'слухаць' [4, с. 198]) утварыліся прозвішчы *Семянец*, *Семянчук*, *Сіманенка*. Ад даволі рэдкага імя *Стахій* (грэч. *stachys* 'колас' [4, с. 205]) утворана прозвішча *Стахонаў*, *Стаханоўскі*. Ад размоўных форм *Сцяпан*, *Сцёпа* праваслаўнага імя *Стэфан* (грэч. *stephanos* 'вянок' [4, с. 205]) утвораны прозвішчы *Сцепаненка*, *Сцепанец*.

Прозвішчы *Тарасаў*, *Тарасевіч*, *Тарасенка* ўтварыліся ад імя *Тарасій* (ад грэч. *tarasso* 'турбаваць' [4, с. 206]).

Ад праваслаўнага імя *Фама* (ад ст.-яўр. *te'om* 'блізнюк' [4, с. 226]) паходзіць прозвішча *Фамін*, а ад каталіцкай формы гэтага імя *Томаш* утворана прозвішча *Тамашэўскі*. Ад формы *Фёдар* праваслаўнага імя *Феадор* (ад грэч. *theos* 'бог' і *doron* 'дар' [4, с. 215]) утвораны прозвішчы *Фёдараў*, *Федарэнка*. Прозвішча *Федасенка*, *Фядосенка* ўтварылася ад імя *Феадосій* (ад грэч. *theos* 'бог' і *dosis* 'дар' [4, с. 218]). Прозвішчы *Піліпенка*, *Піліпчук* утвораны ад народнай формы *Піліп* праваслаўнага імя *Філіп*, а ад самога імя ўтварыліся прозвішчы *Філіпаў*, *Філіпенка*, *Філіпцоў*, *Філіпчанка*, *Філіпчук*.

Ад імя *Цярэнцій* [12, с. 16] паходзяць прозвішчы *Цярашкавец*, *Цярэшчанка*.

Ад імя *Яўфімій* (ад грэч. *euphemos* 'свяшчэнны' [4, с. 113]) і яго разнастайных форм утворана прозвішча *Яфіменка*.

Асноўная частка прозвішчаў Хойніцкага раёна ўтворана ад мужчынскіх імён. Але прозвішчы ўтвараліся і ад жаночых уласных асабовых імён. Іх не вельмі багата, але яны ўяўляюць значную цікавасць, так як у вядомай ступені адлюстроўваюць становішча жанчыны ў далёкія ад нас часы. Калі зараз пры перапісе насельніцтва пытаюцца, хто галава сям'і, то раней такое пытанне не ўзнікала. Калі ў доме быў мужчына, ён бясспрэчна лічыўся гаспадаром, астатнія члены сям'і насілі яго прозвішча. Жанчына лічылася гаспадыняй дома. Толькі калі мужа забіралі ў салдаты або ён доўгі час адсутнічаў, калі ён паміраў, гінуў на вайне, вяртаўся інвалідам, жанчына брала на сябе ўсю гаспадарку і пачынала кіраваць домам і сям'ёю. На тэрыторыі Хойніцкага раёна сустракаюцца толькі адзінкавыя прозвішчы, утвораныя ад жаночых імён: ад жаночага імя *Зінаіда* (ад грэч. *Zeus* 'Зеўс' [4, с. 116]) утвораны прозвішчы *Зінкевіч* і *Зінчанка*.

У старажытнасці чалавека нярэдка называлі і па роду яго заняткаў. Аб гэтым сведчаць дзесяткі сучасных беларускіх прозвішчаў. Для гісторыка яны асабліва цікавы, так як з іх дапамогай можна дапоўніць уяўленні пра заняткі і

прафесіі далёкіх продкаў, а менавіта атрымаць уяўленні пра прафесіі зараз забытыя і невядомыя.

Захаваліся ў прозвішчах найменні рамеснікаў, якія выраблялі посуд і іншыя гаспадарчыя прадметы: *Бондар* (‘майстар па вырабу драўлянага посуду’ [6, с. 91]; ‘рамеснік, які робіць бочкі’ [11, с. 37]), *Ганчароў* (*ганчар* ‘той, хто вырабляе гліняны посуд’ [1, с. 101]).

Тыя, хто рабіў колы для павозак, называліся калеснікамі, адсюль – *Каладзей* (ст.-бел. *колодей* ‘калеснік’ [1, с. 170]), *Калеснік*, *Калесны*.

Тыя, хто займаўся шыццём адзення і абутку, называліся: *Краўчанка* (укр. прозвішча ад *кравец* ‘закройшчык’ [12, с. 26]), *Кушнер* (‘майстар, які вырабляе шкуры пушных жывёл на футра’ [6, с. 310]), *Шапавалаў* (*шапавал* ‘майстар, які вырабляе валеннем шэрсці капелюшы і інш. рэчы’ [6, с. 754]), *Кажамякін* (параўн. *кажэмяка* ‘той, хто апрацоўвае скуру, гарбар’ [11, с. 101]).

Гаспадара млына называлі *Мельнікам*. Чалавек, які працаваў на панскай кухні, атрымаў прозвішча *Кухарскі*, півавар – *Півавараў*, цырульнік – *Цырульнік*.

Самымі распаўсюджанымі прозвішчамі з’яўляюцца тыя, што ўтвораны ад слова каваль: *Кавалевіч*, *Каваленка*, *Кавалёў*, *Кавальчук* (ад *каваль* [1, с. 166]), *Коваль* (‘каваль’ [11, с. 101]) і прозвішча рускага паходжання *Кузняцоў*.

Назвы службовых і ваенных асоб адлюстраваны ў прозвішчах: *Атаманчук*, *Дваракоўскі*, *Старавойт*,

Шырока прадстаўлены ў прозвішчах Хойніцкага раёна фізічныя характарыстыкі чалавека, у якіх адлюстраваліся знешнія асаблівасці асобы, яго прыкметная рыса. *Суханаў* (*сухан* ‘худы чалавек’ [12, с. 23]), *Сушчык* (рэг. ‘хударлявы чалавек’ [9, с. 120]).

Вялікая колькасць прозвішчаў указвае нам на адметную асаблівасць, звязаную з валасамі чалавека. Напрыклад, чалавек са светлымі ці русымі валасамі атрымліваў прозвішчы *Белы*. Чалавека з кучаравымі валасамі называлі *Кудра* (параўн. рэг. *Кудраты* ‘кучаравы’ [8, с. 247]),

Фізічныя недахопы людзей асабліва кідаліся і кідаюцца ў вочы. Пра гэта сведчаць прозвішчы *Гарбуноў*, *Гарбатоўскі* (‘гарбаты, гарбун’ [1, с. 102]), *Бяспалы (бяспалы* ‘той, у каго няма аднаго ці больш пальцаў’ [11, с. 33]). Чалавек з дэфектамі мовы атрымліваў мянушку *Шэўка* (ад рэг. дзеясл. *шэўкаць* ‘шамкаць’ [9, с. 356], *шамкаць* ‘гаварыць невыразна, шапялявячы’ [6, с. 754]).

Аднак маглі празваць чалавека і непасрэдна па назве найбольш характэрнай часткі яго знешнасці. Людзей з вялікім ілбом назвалі *Лобан*, з вялікай нагой – *Даўгапят*, з гучным голасам – *Грамыка* (ад *гром*, *грымець* [10, с. 122]).

Як бачна, сэнс большасці прозвішчаў – адмоўны. Гэта тлумачыцца тым, што ў прозвішчы дадзенай групы ў асноўным пераходзілі мянушкі, якія надаваліся чалавеку жартам, у насмешку.

Прозвішчы, якія ўказваюць на разумовыя характарыстыкі чалавека, асаблівасці характару, яго схільнасці і прывычкі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі Хойніцкага раёна.

Бурклівыя людзі, гаваруны, плеткары, скандалісты атрымалі прозвішчы *Дзяйкун* (параўн. *дзейкацъ* ‘пускаць плёткі, абгаворваць’ [1, с. 129]), *Підманаў* (ад укр. *пидманутъ* ‘схлусіць’).

Нашчадкі скнарага чалавека атрымалі найменне *Крукоўскі* (ад рэг. *крук* ‘надта скупы чалавек’ [5, с. 82]), хітруна, насмешніка і махляра – *Жыляк*, *Жылякоў* (параўн. руск. *жилак* ‘той, хто жыліць, махлюе ў гульні’ [1, с. 151]), *Козыр* (слова *козыр* вядома нам па картачнай гульні, адсюль і пераноснае яго значэнне ‘смелы, бойкі чалавек’ [11, с. 101]). Маўклівы чалавек атрымліваў прозвішча *Сычоў* (ад *сыч* ‘маўклівы,ануры чалавек’ [6, с. 646]).

Вялікая колькасць прозвішчаў Хойніцкага раёна ўтрымлівае ў сваіх асновах назвы прадметаў быту. Гэта натуральна, бо тое, што было вакол чалавека ў паўсядзённым жыцці, нярэдка метафарызавалася і станавілася антрапонімам. Па прозвішчах дадзенай групы можна дапоўніць уяўленне пра стравы, адзенне, прылады працы, хатнія рэчы нашых продкаў.

Словы, якія абазначаюць хатнія рэчы, сустракаюцца ў прозвішчах: Каліта (‘мяшок з грашыма’ [11, с. 92]), *Кашэльнікаў*, *Махоткін* (*махотка* ‘маленькі гліняны гаршчок’ [2, с. 195]), *Чэчка* (ад руск. *чечя* ‘дзіцячая цацка’ [1, с. 458]).

Сустракаюцца прозвішчы, якія абазначаюць розныя віды адзення і матэрыял, з якога яго шыюць: *Брыль* (ад рэг. *брыль* ‘капялюш’ [7, с. 85]), *Казмерчук, Казмярчук* (магчыма ад рэг. *казмяроўка* ‘хустка з кашаміру’ [5, с. 72]).

Сярод слоў, якія абазначаюць ежу, стравы, найбольш распаўсюджанымі з’яўляюцца прозвішчы: *Белашыцкі* (укр. *білаш* ‘белы хлеб’ [1, с. 51]), *Кулеш* (‘густая мучная або крупяная каша з салам’ [6, с. 306]), *Юшчанка* (ад юшка ‘сок ад чаго-н. варанага, вадкая частка стравы, навар з мяса ці рыбы, суп з бульбай, рыбны суп’ [1, с. 497]).

Не засталіся не заўважанымі і прылады працы чалавека, прадметы бытавога ўжытку: *Кульба, Кульбіцкі* (ад руск. рэг. *кульбака* ‘сядло’ [3, с. 59]), *Хамутоўскі* (ад *хамут* ‘частка вупражы ў выглядзе драўлянага каркаса (клешчаў), абкладзенага з унутранага боку мяккім лянцам (хамуцінай), якая надзяваецца каню на шыю’ [6, с. 718]), *Шыдлоўскі* (ад польск. *szydlo* ‘шыла’ [1, с. 490]).

Сучасныя прозвішчы захоўваюць у сабе сотні назваў жывёл (як хатніх, так і дзікіх), птушак, рыб, насякомых, раслін. Наўрад ці сярод вашых знаёмых не знойдзецца людзей з прозвішчамі, у якіх адлюстраваліся назвы дрэў і іх частак, кустоў, пладоў: *Гаркуша, Гаркушэнка* (рэг. ‘яблыня, на якой растуць горкія яблыкі’ [1, с. 103]), *Дубінскі*, *Дубікоўскі*, *Дубовік*, *Каліноўскі*, *Кустаў, Ліпскі*, *Ляшчынскі* (ад *ляшчыннік* ‘зараснік, кусты ляшчыны; арэшнік’ [6, с. 326]), *Маліноўскі, Прышчэп, Прышчэпаў, Прышчэпенка* (‘прышчэпленая расліна, пераважна дрэва’ [6, с. 522]), *Сасновіч*, *Сасноўскі*, *Шышкін*, *Яворскі* (ад *явар* ‘дрэва сямейства кляновых; белы клён’ [6, с. 779]).

Назвы грыбоў сустракаюцца ў прозвішчах *Баравік, Грыбаў.* Прозвішча *Качаноўскі* адлюстроўвае назву расліны, якую вырошчвае

чалавек на ўласным агародзе. Ад назваў зернавых культур і іх частак паходзяць прозвішчы *Колас, Ярац* (ад укр. *яреціь* 'ячмень' [1, с. 500]).

Цікавасць выклікае прозвішча *Вінаградаў***,** так як вінаград з'явіўся на тэрыторыі Беларусі і Расіі даволі позна. Затое назва дадзенай расліны ўзгадваецца ў Бібліі і іншых старажытных перакладных кнігах. Як адзначае Ю.А. Федасюк, гэта прозвішча "асабліва часта давалася будучым свяшчэнннікам" [12, с. 40].

Прозвішчы, якія ўтварыліся ад назваў жывёл і птушак, заслугоўваюць пільнай увагі. З іх дапамогай можна атрымаць уяўленні пра старажытную фауну нашай краіны, пра распаўсюджанасць і папулярнасць сярод насельніцтва той ці іншай жывёлы.

Сярод дадзеных прозвішчаў можна вылучыць: 1) назвы свойскіх жывёл: *Баранаў, Бараноўскі, Кабылка, Казлоў, Казлоўскі, Козел, Кот, Котаў;* 2) назвы дзікіх звяроў і грызуноў: *Барсук, Бобрык, Кунцэвіч* (ад руск. *куна* 'куніца' [1, с. 230]), *Лісеенка*, *Лісоўскі*, *Лосік*, *Мядзведзеў, Туравец* (ад *тур* 'вымерлы дзікі бык, продак буйной рагатай жывёлы' [6, с. 668]); 3) назвы насякомых: *Жук, Жукаў, Жукоўскі, Мурашка;* 4) назвы земнаводных: *Курбацкі* (кірг. 'жаба' [1, с. 233]); 5) назвы свойскіх птушак: *Гусак, Петух;* 6) назвы дзікіх птушак: *Варабей, Вараб'ёў, Драздзецкі, Жураўлёў, Жураўскі, Лебядзенка, Сакалоў, Сакалоўскі, Салаўёў, Філін;* 7) назвы рыб: *Карась, Карпаў, Карпенка* (ад *карп* [1, с. 187]).

Назвы хвароб, траўм, паталагічных адхіленняў можна сустрэць у наступных прозвішчах: *Мазалеўскі* (ад *мазоль* 'патаўшчэнне скуры ад працяглага трэння' [6, с. 328]), *Рубан*.

Словы, якія абазначаюць назвы частак цела і покрыва цела чалавека і жывёлін, сустракаюцца ў прозвішчах: *Брухавецкі* (ад рэг. *бруха* 'вялікі жывот'), *Шульгач* (ад руск. 'левая рука' [1, с. 482]; ад *шульга* 'левая рука, ляўша' [3, с. 176]).

Сустракаюцца прозвішчы, у асновах якіх словы, што абазначаюць: 1) музычныя інструменты: *Дудкоўскі* (ад *дудка* [1, с. 139]), *Дударэнка*, *Дудоўскі*, *Смыкоўскі*, *Смычкоўскі*; 2) элементы зямной паверхні, апрацаваныя ўчасткі: *Астравік* (руск. *остров* 'невялікі лес' [12, с. 33]), *Дуброўскі***,** *Заблоцкі*, *Загальскі*, *Чэкан* (*чэк* 'участак поля з пасевамі рысу, абгароджаны землянымі валікамі для затрымкі вады' [6, с. 725]); 4) з'явы прыроды: *Мароз (Марозам* называлі дзіця, якое нарадзілася зімой [12, с. 20])***;*** 5) з'явы жыцця грамадства: *Бойка, Голад*.

Заўважная колькасць прозвішчаў утвараецца ад назваў прышлых людзей, выхадцаў з іншай мясцовасці. Натуральна, што любы прышлы чалавек першы час разглядаўся перш за ўсё як "чужы", "не свой", і гэтая якасць засланяла ўсё астатняе. Вельмі зразумелы ў гэтым святле прозвішчы *Навіцкі* (ад рэг. *навік, новік* 'новы чалавек у сяле', 'новы член сям'і' [1, с. 294]), *Навакоўскі* (ад *новік* 'новы жыхар, які аднекуль прыйшоў' [3, с. 82]).

Аднак не ўсім прышлым давалі настолькі агульныя прозвішчы. Часцей за ўсё прозвішчы захоўвалі назвы месцаў, адкуль прыехаў чалавек, яго родны край ці нацыянальнасць. Выхадзец з Літвы называўся *Літвін, Літвінаў,*

*Літвінка, Лоеўскі*, з Палесся – *Паляшчук* (‘жыхар Палесся’ [1, с. 312]), з Польшчы – *Поляк,* з Германіі – *Шваб* (*швабамі* на Беларусі і ў Польшчы некалі называлі выхадцаў з Германіі, спачатку з былога герцагства Швабія [13, с. 38]) і інш.

Прозвішчы, у аснове якіх знаходзяцца назвы асоб па сваяцтву, складаюць невялікую групу: *Блізнец, Блізнічэнка* (ад *блізкі* [1, с. 55]). Людзі, якіх напаткала гора (згарэла хата), атрымалі прозвішчы *Гарэлік, Гарэлікаў* (ад гарэлы [1, с. 105]; гарэлымі называлі людзей-пагарэльцаў [11, с. 60]).

Такім чынам, усім нам трэба вельмі ўважліва і асцярожна адносіцца не толькі да прозвішчаў, але перш за ўсё да іх носьбітаў – нашых знаёмых. Скажэннем, няправільным асэнсаваннем, высмейваннем прозвішчаў мы наносім крыўду сваім блізкім. Кожны з нас перш за ўсё павінен быць культурным і выхаваным чалавекам, які памятае, што любое прозвішча можа служыць прадметам вывучэння, але ніяк не падставай для здзеку.

## Літаратура


1. Бірыла, М.В. Беларуская антрапанімія. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі / М.В. Бірыла. – Мн.: Навука і тэхніка, 1969. – 508 с.
2. Веселовский, С.Б. Ономастикон. Древнерусские имена, прозвища и фамилии / С.Б. Веселовский. – М.: Наука, 1974. – 382 с.
3. Никонов, В.А. Словарь русских фамилий / В.А. Никонов. Сост. Е.Л. Крушельницкий. – М.: Школа-Пресс, 1993. – 224 с.
4. Петровский, Н.А. Словарь русских личных имен: Ок. 2600 имен / Н.А. Петровский; спец. науч. ред. О.Д. Митрофанова. – 3-е изд., стреотип. – М.: Русский язык, 1984. – 384 с.
5. Сцяцко, П.У. Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвешчыны / П.У. Сцяцко. – Мн.: Выд. БДУ імя У.І. Леніна, 1970. – 184 с.
6. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратунай мовы: Больш за 65000 слоў / Пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – 3-е выд. – Мн.: БелЭн, 2002. – 784 с.
7. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад. А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін [і інш.]. – Мн.: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – 1 т. – 255 с.
8. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад. А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін[і інш.]. – Мн.: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – 2 т. – 271 с.
9. Тураўскі слоўнік: у 5 т. / склад. А.А. Крывіцкі, Г.А. Цыхун, І.Я. Яшкін[і інш.]. – Мн.: Навука і тэхніка, 1982 – 1987. – 5 т. – 423 с.
10. Усціновіч, Г.К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны (XIV – XVIII стст.) / Г.К. Усціновіч. – Мн: Навука і тэхніка, 1975. – 175 с.
11. Федосюк, Ю.А. Русские фамилии: Популярный этимологический словарь / Ю.А. Федосюк. – М.: Детская литература, 1980. – 239 с.
12. Федосюк, Ю.А. Что означает ваша фамилия? / Ю.А. Федосюк. – 3-е изд. – М.: Флинта: Наука, 2008. – 88 с.
13. Шур, В.В. З гісторыі ўласных імёнаў / В.В Шур. – Мн.: Вышэйшая школа, 1993. – 156 с.

*Алена ПАЛУЯН*

# ЗЯМЛЯ, НА ТАЛЕНТЫ БАГАТАЯ…

***Хойніцкая зямля выгадавала нямала дзеячоў навукі і культуры, тых, хто дасягнуў пэўных вышынь у навуковай і мастацкай творчасці: вучоных, мастакоў, пісьменнікаў і артыстаў. Усе яны, хто ў большай, хто ў меншай ступені, праславілі сваёй дзейнасцю гэты куток палескай зямлі.***

Звязаны лёсам з Хойнікшчынай вядомы вучоны ў галіне лесазнаўства і лясной таксацыі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, доктар сельскагаспадарчых навук, прафесар ***Уладзімір Феліксавіч Багінскі***.

У.Ф. Багінскі нарадзіўся 2 лютага 1938 года ў Маскве. Яго бацькі – буйныя партыйныя работнікі, падпольшчыкі. Маці Уладзіміра ўваходзіла ў вышэйшае кіраўніцтва Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, у 30-я гады працавала намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце Маскоўскага інстытута замежных моў. Бацька служыў у арміі ў званні палкавога камісара, затым займаў пасаду намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце маскоўскага педагагічнага інстытута імя Пацёмкіна. Праз год пасля нараджэння сына бацькі былі рэпрэсаваны і маленькі Валодзя апынуўся ў беларускім гарадку Хойнікі, у сям'і дзядулі, Мечыслава Францавіча Багінскага. Дзед быў аўтарытэтным у горадзе чалавекам, валодаў чатырма замежнымі мовамі, добра разбіраўся ў садаводстве і агародніцтве, быў брыгадзірам калгаснай садова-агароднай брыгады, у час вайны – партызан-падпольшчык, камандзір разведгрупы.

Уладзімір Феліксавіч заканчыў Хойнікскую сярэднюю школу № 2 з сярэбраным медалём і мог без экзаменаў паступіць у любую вышэйшую навучальную ўстанову. Ён выбраў фізіка-тэхнічны факультэт МДУ. Але цётка Вікторыя. Настаўніца па прафесіі, напомніла юнаку пра лёс бацькоў. І хлопец вырашыў прадоўжыць справу свайго прадзеда-лесніка – звязаць жыццё з лесам. Першым крокам на гэтым шляху было паступленне ў Беларускі лесатэхнічны інстытут. Тут студэнт Багінскі сустрэўся з выдатнымі педагогамі і буйнымі навукоўцамі, сярод якіх акадэмікі П.П. рагавы, І.Д. Юркевіч, прафесары В.К. Захараў, Б.Д. Жылкін, К.Ф. Мірон і інш.

Пасля заканчэння ў 1960 годзе інстытута У.Ф. Багінскі 8 гадоў працаваў ляснічым і галоўным ляснічым у лягсасах Гомельшчыны. Назапасіўшы дастаткова вялікі практычны вопыт, ён зразумеў, што вытворчасць не можа паспяхова развівацца без навукі і паступіў у аспірантуру БелНДІЛГ (цяпер Інстытут лесу). Пад кіраўніцтвам аднаго з буйнейшых вучоных СССР у галіне лясной таксацыі, заслужанага дзеяча навукі БССР, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара Фёдара Патапавіча Маісеенкі была падрыхтавана і папяхова абаронена кандыдацкая дысертацыя на тэму “Будова і рост сасновых маладнякоў штучнага паходжання ў БССР”.

У.Ф. Багінскі працягнуў справу свайго настаўніка і з 1975 года кіраваў даследаваннямі па лясной таксацыі і лесаўладкаванні, а з 1990 года і па лесазнаўстве, лесаводстве, эканоміцы і арганізацыі лясной гаспадаркі. Уладзімір Феліксавіч правёў фундаментальныя даследаванні па пытаннях удасканалення таксацыі дрэвастояў, павышэння прадукцыйнасці лясоў і лесакарыстання. Пры выкананні буйных фундаментальных даследаванняў выяўлены заканамернасці дынамікі, будовы, прадукцыйнасці і таварнасці дрэвастояў асноўных лесаўтваральных парод Беларусі, ажыццёўлена лесатаксацыйнае раянаванне лясоў Беларусі, распрацаваны новы метад прывядзення дрэвастояў да адзінаў паўнаты, абгрунтавана тыпізацыя будовы антрапагенных дрэвастояў, зроблена тыпізацыя прасторавай структуры змешаных дрэвастояў, даследаваны заканамернасці натуральнага прарэджвання насаджэнняў. Вялікае значэнне ў развіцці навукі пра лес маюць выяўленыя У.Ф. Багінскім заканамернасці сумеснага росту сасны і елкі і мадэлі бягучага прыросту і агульнай прадукцыйнасці чыстых і змешаных сасновых і яловых дрэвастояў, абгрунтаваныя ім новыя падыходы да вызначэння ўзросту спеласці і высякання лесу, арыгінальныя рашэнні па комплекснай ацэнцы лясных рэсурсаў і карыснасцей лесу, фарміраванні высокапрадукцыйных, устойлівых змешаных лясных насаджэнняў і многае іншае.

У 1986 годзе Уладзімір Феліксавіч Багінскі паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю на тэму “Заканамернасці будовы і росту дрэвастояў у зоне антрапагеннага ўздзеяння (на прыкладзе Беларускай ССР”. Прысуджаная ў 1986 годзе навуковая ступень доктара сельскагаспадарчых навук з’явілася лагічным пацверджаннем значымасці для лясной гаспадаркі не толькі нашай краіны, але і іншых пятнаццацігадовых даследаванняў заканамернасцей будовы і росту дрэвастояў пад уздзеянняў антрапагенных фактараў.

У.Ф. Багінскі – аўтар 6 вынаходніцтваў і больш за 300 навуковых прац, у тым ліку 13 манаграфій і кніг, у якіх адлюстраваны шырокія навуковыя інтарэсы, смелы пошук і глыбокае веданне лесагаспадарчай навукі і практыкі. Шмат гадоў быў адказным рэдактарам зборнікаў навуковых прац Інстытута лесу.

Уладзімір Феліксавіч браў удзел у распрацоўцы асноўных нарматыўных дакументаў па лясной гаспадарцы: “Канцэпцыя ўстойлівага развіцця лясной гаспадаркі да 2015 года”, “Лясны кодэкс Рэспублікі Беларусь”, “Нацыянальная стратэгія ўстойлівага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2020 года”. За манаграфію “Лесакарыстанне ў Беларусі”, напісаную ў сааўтарстве з Л.Д. Есімчыкам, прысуджана прэстыжная прэмія НАН Беларусі за 1997 год. Напісаны У.Ф. Багінскім падручнік па сістэмным аналізе для лесазнаўцаў выдадзены ў 1997 годзе ў Расіі і выкарыстоўваецца многімі ВНУ ляснога профілю. Адна з лепшых прац, матэрыял для якой збіраўся больш за 30 гадоў калектывам з 14 аўтараў, манаграфія “Комплексная прадукцыйнасць зямель ляснога фонда” выдадзена ў ГДУ імя Ф. Скарыны. У ёй паказана, што можа даць любы ўчастак лесу з аднаго гектара плошчы: драўніна, грыбы,

ягады, лекавая сыравіна, жывёлы і г.д. такой комплекснай ацэнкі, сабранай пад адной вокладкай, няма ні ў адной краіне свету.

За заслугі перад лясной гаспадаркай і лясной навукай У.Ф. Багінскі ўзнагароджаны Ганаровым дыпломам Дзяржлясгаса СССР, Ганаровай граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, Ганаровымі граматамі НАН Беларусі, ганаровай граматай аблвыканкама. Лаўрэат “Скарынаўскіх чытанняў-2009”.

У 2004 годзе абраны членам-карэспандэнтам НАН Беларусі, а ў 2005 годзе прысвоена званне прафесара па спецыяльнасці “Лесаводства”. Пад кіраўніцтвам Уладзіміра Феліксавіча Багінскага падрыхтваны і паспяхова абаронены чатыры кандыдацкія дысертацыі.

Пры непасрэднай падтрымцы У.Ф. Багінскага ў 2004 годзе ва УА “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны” была адкрыта спецыяльнасць “Лясная гаспадарка” і створана кафедра лесатэхнічных дысцыплін, якую ён узначальваў на працягу двух гадоў. Зараз У.Ф. Багінскі – прафесар кафедры, перадае свае веды і багаты практычны вопыт будучым інжынерам.

Уладзімір Феліксавіч Багінскі – строгі і патрабавальны выкладчык, клапатлівы муж, бацька траіх дзяцей і дзядуля шасці унукаў, сапраўдны сябар, гатовы дапамагчы парадай і справай. Дзеці Уладзіміра Феліксавіча атрымалі ў спадчыну схільнасць да навукі. Старэйшы сын спыніў свой выбар на фізіцы, малодшы – на медыцыне, а дачка атрымала эканамічную адукацыю, абараніла кандыдацкую, зараз працуе дацэнтам ГДТУ імя П.О. сухога і адначасова выкладае на кафедры лесатэхнічных дысцыплін ГДУ. Акрамя захаплення навукай. У.Ф. Багінскі мае і іншыя хобі – гісторыя, літаратура, тэатральнае мастацтва. Паляванне. Па ўласным прызнанні, прафесар напісаў кнігу аб’ёмам 500 старонак пра гісторыю роду Багінскіх, якую ён ведае з XVI стагоддзя.

Спецыяліст ў галіне метадаў функцыянавання інфармацыйных сістэм, доктар тэхнічных навук, прафесар, прарэктар па навуковай рабоце ўстановы адукацыі “Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Францыска Скарыны” ***Алег Міхайлавіч Дземідзенка*** нарадзіўся ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна.

Бацька Алега Міхайлавіча, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, настаўнічаў на Палессі. У пасляваенны час ён атрымаў адукацыю геолага і пераехаў з сям’ёй на Далёкі Усход, а затым на Чукотку. І толькі ў 1975 годзе Дземідзенкі вярнуліся на Беларусь. У 1977 годзе Алег закончыў сярэднюю школу № 40 г. Гомеля і стаў студэнтам эканамічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта па спецыяльнасці “Арганізацыя механізаванай апрацоўкі эканамічнай інфармацыі”.

Алег Дземідзенка не толькі добра вучыўся, але і знаходзіў час для навуковай і грамадскай дзейнасці як на факультэце, так і ва універсітэце: працаваў гукаапаратарам студэнцкага клуба мастацкай самадзейнасці, быў членам зборнай каманды факультэта па палявой стральбе, летам пастаянна выязджаў у будаўнічыя атрады, у прыватнасці, у 1980 годзе працаваў на меліярацыі Беларускага Палесся ў Ельскім раёне.

Выдатна разбіраючыся ў радыёэлектроніцы, студэнт А. Дземідзенка распрацаваў схему і стварыў прыбор для аўтаматычнай падачы званкоў у вучэбным корпусе універсітэта. Пазней пры яго ўдзеле былі створаны такія ж прыборы і для іншых вучэбных карпусоў.

Пасля заканчэння універсітэта Алег Міхайлавіч працаваў на пасадзе асістэнта кафедры тэхнічных сродкаў апрацоўкі інфармацыі эканамічнага факультэта. Сюды ж ён вярнуўся ў 1984 годзе пасля вайсковай службы. У 1986 – 1987 гг. у якасці намесніка, а потым і сакратара камсамольскай арганізацыі універсітэта А.М. Дземідзенка прымаў актыўны ўдзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Не раз выязджаў у зону радыеактыўнага забруджання па пытаннях работы студэнцкіх атрадаў, удзельнічаў у эвакуацыі насельніцтва. Акрамя таго, займаўся арганізацыяй турыстычных падарожжаў па гістарычных мясцінах, быў членам зборнай Рэспублікі Беларусь па турызму.

Тэхнічны склад розуму, жаданне канструяваць, цікавасць да ЭВМ прывялі Алега Міхайлавіча ў аспірантуры пры маскоўскім інстытуце інжынераў грамадзянскай авіяцыі па спецыяльнасці “Вылічальныя машыны, комплексы, сістэмы і сеткі”. Акрамя падрыхтоўкі кандыдацкай дысертацыі, актыўна ўключыўся ў распрацоўку шэрагу навукова-даследчых праектаў, удзельнічаў у стварэнні ўсесаюзнай аўтаматызаванай сістэмы па продажы авіябілетаў “Сірэна”.

У 1991 годзе А.М. Дземідзенка паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму “Распрацоўка метадаў і сродкаў аналізу працэсаў функцыянавання інфармацыйна-вылічальных сетак на базе лакальных вылічальных сетак” і вярнуўся ў Гомельскі дзяржаўны універсітэт, дзе працягнуў работу на кафедры аўтаматызаваных сістэм апрацоўкі інфармацыі фізічнага факультэта спачатку на пасадзе асістэнта, затым старшага выкладчыка, дацэнта. У 1993 годзе А.М. Дземідзенка абраны загадчыкам кафедры аўтаматызаваных сістэм апрацоўкі інфармацыі. Пад яго кіраўніцтвам была ўмацавана вучэбна-матэрыяльная база спецыяльнасці АСАІ, створаны два вылічальныя цэнтры кафедры АСАІ і лакальная вылічальная сетка, дзве навукова-даследчыя лабараторыі – “Прыкладны праграміст” і “Сеткі ЭВМ”, некалькі навуковых кружкоў для студэнтаў, распрацаваны вучэбныя планы і праграмы больш чым па трыццаці вучэбных курсах, праводзіліся штогадовыя студэнцкія навуковыя канферэнцыі, пераможцыя якіх удзельнічалі ў рэспубліканскіх алімпіядах і канферэнцыях.

А.М. Дземідзенка – аўтар некалькіх вучэбных дапаможнікаў з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, навуковы кіраўнік шэрагу навукова-даследчых работ па заданнях Міністэрства адукацыі, прымаў удзел у выкананні работ па комплекснай Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай праграме “ІНТЭЛЕКТ”, кіраваў работамі па выканані Дзяржаўных праграм фундаментальных даследаванняў. Вынікі яго распрацовак укаранёны ў 12 арганізацыях Гомельскай вобласці і ў вучэбны працэс кафедр ГДУ імя Францыска Скарыны. Пад кіраўніцтвам А.М. Дземідзенка былі падрыхтаваны і паспяхова абаронены 4 кандыдацкія дысертацыі.

У 2003 годзе Алег Міхайлавіч паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю “Распрацоўка метадаў і сродкаў аналізу працэсу функцыянавання інфармацыйна-вылічальных сетак” і стаў лаўрэатам Скарынаўскіх чытанняў за цыкл работ “Метады і сродкі даследавання і адаптацыі вылічальнага працэсу пад рабочую нагрузку на лакальную вылічальную сетку”. У 2004 годзе ВАК Беларусі прысвоіў А.М. Дземідзенку вучонае зване прафесара.

Алег Міхайлавіч Дземідзенка прымае ўдзел у выкананні шэрагу міжнародных праектаў, з’яўляўся тэхнічным кіраўніком праекта па стварэнні оптавалаконнай камп’ютэрнай сеткі універсітэта, у межах праграмы TEMPUS / TASIS, працаваў над праблемай па ўдасканаленні камунікацый паміж краінамі Усходняй і Заходняй Еўропы. Сумесна з Упраўленнем па развіцці і супрацоўніцтве Швецыі ўдзельнічаў у выканані работ па ўдасканаленні і мадэрнізацыі камп’ютэрнай сеткі ў в. Ігаўка Добрушскага раёна.

Алег Міхайлавіч не толькі таленавіты выкладчык, вядомы вучоны, здольны арганізатар, ён яшчэ і цікавы чалавек, які сярод сяброў мае псеўданім “прафесар”. Вельмі любіць падарожнічаць, наведаў практычна ўсе краіны Еўропы, поўдня Афрыкі і Блізкага Усходу, а таксама былога СССР. Калі выдаецца вольная часіна, адпраўляецца на рыбалку. І не раз адзначаў, што сваімі жыццёвымі і прафесійнымі поспехамі ў многім абавязаны жонцы Таццяне, а таксама сыну і дачцэ.

